БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»



# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

## ТОМ 3

## ДАДАТАК

# А–Я





МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»
2010

УДК 94(476)«12/17»(031)
ББК 63.3(4Беи)я2
В 99

Выданне выходзіць з 2005 года

Складальнік В.С.Пазднякоў

Мастак З.Э. Герасімовіч

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі
В.В. Грынявецкага, З.Э. Герасімовіча, А.П. Дрыбаса, В.С. Пазднякова, Дз.М. Раманюка, Т. Самойліка

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**Вялікае княства Літоўскае** : энцыклапедыя. Т. 3. Дадатак. А — Я / рэдкал.:
В 99 Т.У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.] ; маст. З.Э. Герасімовіч. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2010. — 696 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0487-7.

Прыхільныя водгукі, атрыманыя на два тамы энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае», дазволілі ажыццявіць яе паўторнае выданне і прыступіць да складання трэцяга, дадатковага тома, які зараз прапануецца чытачам. Энцыклапедыя мае на мэце азнаёміць шырокае кола чытачоў у Беларусі і за яе межамі з гісторыяй і культурай буйнейшага шматнацыяльнага дзяржаўнага ўтварэння ва Усходняй Еўропе эпохі феадалізму. Змест энцыклапедыі пашыраны артыкуламі, прысвечанымі дзяржаўным, рэлігійным, культурным дзеячам ВКЛ, вялікім княгіням літоўскім, важным гістарычным падзеям, прававым помнікам, найбольш значным аб'ектам культурнай спадчыны і інш. Аўтарамі энцыклапедычных артыкулаў з'яўляюцца вядучыя вучоныя Рэспублікі Беларусь. Непадпісаныя артыкулы ў большасці напісаны складальнікам.

УДК 94(476)«12/17»(031)
ББК 63.3(4Беи)я2

ISBN 978-985-11-0487-7 (т. 3)
ISBN 985-11-0315-2




## асноўныя скарачэнні

адм. – адміністрацыйны
арт. – артыкул
археагр. – археаграфічны
археал. – археалагічны
асн. – асноўны
б. – былы
бел. – беларускі
б-ка – бібліятэка
в. – вёска (пры назве)
ваяв. – ваяводства (пры назве)
вер. – верасень
ВКЛ – Вялікае княства Літоўскае
вобл. – вобласць (пры назве)
воз. – возера (пры назве)
вол. – воласць (пры назве)
вял. – вялікі
г. – горад (пры назве)
гал. – галоўны
гар. – гарадскі
гіст. – гістарычны
гл. – глядзі
дзярж. – дзяржаўны
д-р – доктар
ж. – жыхар
жн. – жнівень
З – захад
заг. – загадчык
зах. – заходні
ін-т – інстытут
канд. – кандыдат
кастр. – кастрычнік
кн. – князь (пры імю)
крас. – красавік
культ. – культурны
ліп. – ліпень
ліст. – лістапад
літ. – літоўскі, літаратурны
л-ра – літаратура
мяст. – мястэчка (пры назве)
н. – нарадзіўся
навук. – навуковы
найб. – найбольш, найбольшы
нар. – народны
нац. – нацыянальны
пав. – павет (пры назве)
пал. – палова
паліт. – палітычны
паўд. – паўднёвы
паўн. – паўночны
пач. – пачатак
Пд – поўдзень
ПдЗ – паўднёвы захад
ПдУ – паўднёвы ўсход
пл. – плошча
Пн – поўнач
ПнЗ – паўночны захад
ПнУ – паўночны ўсход
правасл. – праваслаўны
праф. – прафесар
р. – рака (пры назве)
рас. – расійскі
р-н – раён (пры назве)
рус. – рускі
рэліг. – рэлігійны
с. – сяло (пры назве)
с.-г. – сельскагаспадарчы
сав. – савецкі
сак. – сакавік
сац. – сацыяльны
слав. – славянскі
снеж. – снежань
спец. – спецыяльны
ст. – стагоддзе
стараж. – старажытны
студз. – студзень
суд. – судовы
сял. – сялянскі
т.зв. – так званы
тыс. – тысяча
тэр. – тэрыторыя, тэрытарыяльны
У – усход
укр. – украінскі
ун-т – універсітэт
усх. – усходні
феад. – феадальны
царк. – царкоўны
цэнтр. – цэнтральны
чал. – чалавек
чл. – член
чл.-кар. – член-карэспандэнт
чэрв. – чэрвень
эканам. – эканамічны
юрыд. – юрыдычны



**Абаленскі** (Целяпнёў Аўчына; Оболенский Телепнёв Овчина) Іван Фёдаравіч (?—крас. 1538), расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. Князь, з 1532 баярын. Служыў ваяводам у Туле (1511), Старадубе (1512, 1517, 1519), Тарусе (1520, 1522), Рослаўлі (1527, 1529), Каломне (1529, 1534), намеснікам у Калузе (1527), удзельнічаў у войнах супраць крымскіх і казанскіх татар. Прымаў удзел у ваенных дзеяннях супраць ВКЛ у 1515, 1518 (пасланы пад Магілёў), 1519 (дзейнічаў са Старадуба). Жыгімонт I Стары прысылаў яму запрашэнне перайсці на яго бок. Гэта стала вядома маскоўскім уладам і было прадметам следства, аднак справа скончылася станоўча для А. Узвысіўся пасля смерці вял. кн. маскоўскага Васіля III Іванавіча (1533). С.Герберштэйн паведамляе, што А. стаў фаварытам правіцельніцы Маскоўскай дзяржавы Алены Глінскай. З 1534 канюшы, галава Баярскай думы. Дамогся зняволення М.*Глінскага* (жн. 1534, неўзабаве памёр ад голаду) і захапіў першынства ва ўрадзе. Працягваў вайну з ВКЛ 1534—37. На чале войск у кастр. 1535 хадзіў да Вільні, у 1536 — пад Мсціслаў. Пасля вёў перагаворы аб перамір'і з пасламі ВКЛ. Захавалася перапіска А. 1535—36 з яго стрыечным братам Ф.В.*Абаленскім*, які трапіў у літ. палон, і гетманам ВКЛ Ю.М.*Радзівілам*. Пасля смерці Глінскай (3.4.1538) быў зняволены баярамі і памёр у вязніцы.

*Літ.*: Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки: Первая половина XVI в. / Сост. М.М.Кром. М.; Варшава, 2002.

**Абаленскі** (Целяпнёў Аўчына; Оболенский Телепнёв Овчина) Фёдар Васілевіч (?—пасля 1549), расійскі ваенны дзеяч. Князь. Удзельнічаў у паходах на Казанскае ханства і супраць крымскіх татар. У 1500 пад камандаваннем кн. Д.*Шчэні* ўдзельнічаў у паходзе на ВКЛ, бітве на Вядрошы, у 1502 — у паходзе кн. Дзмітрыя Іванавіча, сына вял. князя маскоўскага, пад Смаленск і ў захопе Оршы. У 1503, 1507, 1508, 1519 зноў хадзіў на чале атрадаў у ВКЛ, у 1518 удзельнічаў у паходзе кн. В.Шуйскага на Полацк. Служыў ваяводам у Вял. Луках (1515, 1517), Тарусе (1520—21), Кашыры (1527), Ноўгарадзе-Северскім (1532), Старадубе (з 1534). У 1534 адбіваў ад Старадуба напад войск ВКЛ на чале з кіеўскім ваяводам Андрэем Неміровічам, пасля ўварваўся ў ВКЛ, спусташаў яго землі да Навагародка, вярнуўся ў Старадуб з вял. здабычай. У 1535 быў абложаны ў Старадубе войскамі ВКЛ пад камандаваннем гетмана Ю.М.*Радзівіла*, у жн. 1535 трапіў у палон. Пільнаваць яго было даручана Радзівілу. У жн. 1536 А. намагаўся збегчы з Вільні ў Лівонію. Яго план быў раскрыты, князь быў пераведзены ў Мельнік і закаваны ў кайданы. У 1549 маскоўскі бок імкнуўся выкупіць А. Далейшы яго лёс невядомы. Захавалася перапіска А. 1535—36 з яго стрыечным братам І.Ф.*Абаленскім*.

*Літ.*: К р о м М.М. Стародубская война (1534—1537 гг.) // Очерки феодальной России. М., 1999. Вып. 3; Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки: первая половина XVI в. / Сост. М.М.Кром. М.; Варшава, 2002.

**Абаленскі** (Целяпнёў Лапата; Оболенский Телепнёв Лопата) Фёдар Васілевіч (?—1530), расійскі ваенны дзеяч. Князь, з 1519 баярын і дварэцкі. У 1492 пасланы з вял. атрадам войска ў ВКЛ, спаліў гарады Мцэнск і Любуцк, захапіў у палон іх намеснікаў і шмат жыхароў. Удзельнічаў у паходах на ВКЛ у 1500, 1503 (1-ы ваявода перадавога палка), 1508. У 1517 пасланы з Вял. Лук супраць войск гетмана кн. К.Астрожскага, які ўзяў у аблогу Апочку. Падыходзячы да горада, А. падзяліў сваё войска на 3 часткі, удала атакаваў і выйграў бітву. Астрожскі згубіў абоз і артылерыю, яшчэ 2 разы быў разбіты інш. маскоўскімі ваяводамі і адышоў ад Апочкі. У 1519 хадзіў на ВКЛ разам з кн. В.Шуйскім. У 1520 ваявода ў Старадубе, у 1521 — у Кашыры. У 1521 трапіў у крымскі палон, каля Разані выкуплены мясцовым ваяводам Хабарам Сімскім. У 1527 ваявода ў Кашыне, у 1529 — у Каломне і Рослаўлі. Ваяваў у Фінляндыі, удзельнічаў у паходах на Казанскае ханства і супраць крымскіх татар. Загінуў у час паходу на Казань.

**Аблачынскі** Лаўрын (свецкае Юзаф; 1724—1763), дзеяч каталіцкай царквы, гл. Л.*Аўлачымскі*.

**Абрагам бен Ёшыягу** (1636, г. Трокі—1687), караімскі рэлігійны дзеяч, паэт, лекар. Яго бацька Ёшыяху-га-Шофет быў лекарам і старастам караімскай абшчыны ў Троках. А.б.Ё. грунтоўна ведаў усходнія і лацінскую мовы, цікавіўся натуральнымі навукамі. Аўтар кніг «Бейт Абрагам» (па містыцы), «Бейт Оцар», «Сефер га Рэфна» (абедзве па медыцыне), 3 літургічных паэтычных твораў (з іх адзін апублікаваны ў Вільні ў караімскім малітоўніку). Ад караля Польшчы і вял. кн. ВКЛ Яна III Сабескага атрымаў тытул прыдворнага лекара.

**Абрамовіч** (Abramowicz) Людвік Кароль (5.7.1879, Масква—19.3.1939), грамадскі дзеяч, гісторык культуры. Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве. З 1905 у Вільні. З 1906 супрацоўнік газет «Gazeta Wileńska» («Віленская газета»), «Kurier Litewski» («Літоўскі кур'ер»). У 1912—14 і 1921—38 выдавец і рэдактар газеты «Przegląd Wileński» («Віленскі агляд»). Быў адным з ідэолагаў краёўцаў (прыхільнікаў ідэі «Літвін па паходжанні, паляк па нацыянальнасці», прытрымліваўся дэмакратычных поглядаў. У 1925—39 старшыня камітэта садзейнічання Б-цы Урублеўскіх (цяпер Цэнтр. б-ка АН Літвы). Падараваў гэтай б-цы рэдкія выданні 16—18 ст., карты, гравюры, карціны, фотаздымкі. Аўтар прац па гісторыі і бібліяграфіі Літвы, манаграфіі па гісторыі кнігадрукавання ў Вільні.

*Тв.*: Litwa podczas wojny: Zbiór dokumentów, uchwał itp. Warszawa, 1918; Cztery wieki drukarstwa w Wilnie: zarys historyczny (1525—1925). Wilno, 1925.

*Літ.*: P u k s z t o A. Ludwiko Abramowicziaus «Lenkija ir Lietuva» // Lietuvos istorijos metraštis, 2002 m. Vilnius, 2004. T. 2; N e k a n d a - T r e p k a M. Ludwik Abramowicz-Niepokójczycki — redaktor «Przeglądu Wileńskiego» // Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego. Lublin, 2005.

**Абрамовіч** (Abramowicz, Abramavičius) Уладзіслаў [9.5.1909, в. Новы Двор (Наўядварыс), Троцкі р-н, Літва—16.11.1965], гісторык культуры, бібліёграф. Скончыў Вышэйшую журналісцкую школу ў Варшаве (1934), Вільнюскі ун-т (1951), дзе пазней выкладаў. У 1933—39 працаваў у віленскай друкарні «Зніч» і газеце «Kurier Wileński» («Віленскі кур'ер»), з перапынкам у 1936—37, калі жыў у Лідзе і рэдагаваў часопіс «Ziemia Lidzka» («Лідская зямля»), у 1939—40 рэдактар віленскай газеты «Gazeta Codzienna» («Штодзённая газета»), у 1940—41 рэдактар-перакладчык у вільнюскім аддзяленні агенцтва «Элтас», у 1941—45 бібліятэкар у Ін-це гісторыі АН Літвы, у 1945—65 заг. аддзела рукапісаў Цэнтр. б-кі АН Літвы. Аўтар краязнаўчага нарыса Навагрудчыны (1938), біяграфій Т. і В. Урублеўскіх. Склаў «Апісанне інвентароў феадальных уладанняў у Літве» (Вільнюс, 1963), апісанне збору рукапісаў Цэнтр. б-кі АН Літвы (1963).

*Тв.*: Валерий Врублевский. М., 1968 (з У.А.Дзякавым); Strony nowogródzkie: szkice krajoznawcze. Lida, 1938; Valerijonas Vrublevskis. Vilnius, 1958; Piśmiennictwo i książka na Litwie. Wilnius, 1957; Tadas Vrublevskis. Vilnius, 1960; Rankraščiu rinkiniai: Lietuvos TSR Mokslu Akademijos Centrines bibliotekos 11—20 amžiu rankraščiu fondu trumpa apžualga / Sudarė V.Abramavičius. Vilnius, 1963; Tarasas Ševčenka ir Vilnius. Vilnius, 1964.

**абрусныя**, службоўцы пры двары вялікага князя літоўскага і вялікай княгіні ў 16—17 ст., якія выконвалі дробныя гаспадарчыя даручэнні. За службу атрымлівалі зямельны надзел. Некаторым А. за добрую службу надавалася шляхецтва.

*Літ.*: Д о ў н а р А.В. Сяляне-слугі другой паловы XVI—сярэдзіны XVIII ст. Мінск, 2007. С. 63—66.

**Агейсон** (Ageison, Ageyson) Гаргоній (1604, г. Капенгаген—9.1.1665), дзеяч каталіцкай царквы. Скончыў Папскую семінарыю ў Браневе. У 1622 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1634 ксёндз. Выкладаў маральную тэалогію ў Пултуску (1638—39), філасофію ў Вільні (1640—43), схаластычную філасофію ў Браневе (1643—49) і Вільні (1649—51), кананічнае права ў Вільні (1651—55). Займаў пасады рэктара (1658—61) і прэфекта студый у Бранеўскім калегіуме. Аўтар прац па філасофіі «Філасофскі ўбор» («Mundus philosophicus», Вільня, 1643) і кананічным праве «Кананічныя высновы аб царкоўных законах» («Conclusiones canonicae de constitutionibus ecclesiasticis», Вільня, 1652).

*Літ.*: D a r o w s k i R. Gorgoniusz Ageison SJ (1604—1665), profesor w Akademii Wileńskiej // Prawo Kanoniczne. 1979. № 3—4; Gorgonius Ageison SJ (1604—1665), Professor an der Wilnaer Akademie // Zeitschrift für Ostforschung. 1979. H. 2.

**Агілевіч** Пахомій (12.6.1624, г. Менск—да 1690), дзеяч грэка-каталіцкай царквы. Паходзіў з заможнай мяшчанскай сям'і. У маладосці ўступіў у базыльянскі ордэн. Два гады вучыўся ў навіцыяце ў Быценскім манастыры, пасля ў Навагародку, Холме. У 1654 пасланы ў Рым, дзе набыў філасофска-багаслоўскую адукацыю ў Грэчаскім калегіуме св. Афанасія; там у 1652 абараніў доктарскую дысертацыю. Пасля вяртання на радзіму выкладаў у новаадчыненай духоўнай семінарыі ў Менску, у Навагародку, быў прапаведнікам у Троіцкім манастыры ў Вільні, жыў у Супраслі і Быцені, стаў намеснікам Жыровіцкага манастыра. Карыстаўся павагай сярод базыльян, атрымаў прыхільнасць мітрапаліта А.Сялявы. На капітуле 1656 абраны генеральным канзультарам. Капітул 1659 даручыў яму ажыццявіць паездку ў Рым для абароны інтарэсаў уніяцкай царквы і базыльянскага ордэна, інтарэсам якіх пагражалі маскоўскія і казацкія напады, адмоўнае стаўленне полацкага архіепіскапа Г.Календы да базыльян. На капітуле 1661 А. абраны генеральным вікарыем ордэна ў дапамогу протаархімандрыту Я.Сушы. У 1662—64 жыў у Рыме. На капітуле 1665 зноў абраны генеральным вікарыем ордэна пры новаабраным протаархімандрыце Г.Календзе (паўнамоцтвы А. прадоўжаны на капітулах 1667 і 1671). На капітуле 1675 абраны протаархімандрытам базыльянскага ордэна. Займаў гэту пасаду да 1679, пасля чаго заставаўся да смерці протаканзультарам ордэна. Памёр у Жыровічах. Вызначаўся вял. багаслоўскай эрудыцыяй. На капітуле 1667 яму і епіскапу Сушы даручана выпраўленне служэбніка і трэбніка. На капітуле 1671 А. даручана цэнзура ў Святатроіцкай друкарні ў Вільні. Удзельнічаў у Люблінскім калоквіуме 1680. У 1683 прызначаны ў камісію па скла-



данні служэбніка, трэбніка і часаслова. У 1671 выдаў кнігу «Екфанемата літургіі грэчаскай», якая складаецца з 2 трактатаў: у 1-м змешчаны транскрыбаваныя лацінкай часткі літургіі Іаана Златавуста з паралельным польскім перакладам; у 2-м («Гармонія») разглядаюцца розныя пытанні літургіі ўсх. царквы і яе адрозненні ад лацінскай службы. Другое выданне кнігі выйшла ў 1685 у Кракаве. Аўтар кніг пра царк. унію і Жыровіцкі абраз Маці Божай (не выдадзены).

*Літ.*: В а в р и к М. До історії служебника в Укр. Катол. Церкві в 2-ій половині 17-го ст. // Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Рим, 1979. Т. 16; W o j n a r M. De Protoarchimandrita Basilianorum. Romae, 1958.

**Агінскі** Ігнацы (1698—сак. 1775), дзяржаўны дзеяч. З роду *Агінскіх*. Сын віцебскага ваяводы Марціна Агінскага і Тэрэзы з Бжастоўскіх. Абозны ВКЛ у 1729—44, надворны маршалак ВКЛ у 1744—50, вял. маршалак ВКЛ у 1750—68, віленскі кашталян з 1768. Упершыню быў паслом на сойм у 1726. На ім быў вызначаны для перагавораў з аўстрыйскім паслом. Разам з інш. Агінскімі прымаў актыўны ўдзел як саюзнік Сапегаў у барацьбе за «*Нойбургскія маёнткі*». Дапамагаў пад час рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ 1731 правесці абранне трыбунальскім маршалкам сапегаўскага прыхільніка А.Эперыяша. Разам з інш. прадстаўнікамі роду Агінскіх імкнуўся ўвайсці ў лік дэпутатаў на Трыбунал ВКЛ 1732. Па дамове з Сапегамі быў абраны дэпутатам на віленскім сойміку. Агінскія і Сапегі планавалі, што трыбунальскім маршалкам будзе абраны бацька А. Маршалкам, аднак, пры дапамозе войск стаў саюзнік Радзівілаў канцлер ВКЛ і генеральны рэгіментар ВКЛ М.Вішнявецкі. Агінскія і Сапегі аспрэчылі яго права быць маршалкам, бо ў адсутнасць гетманаў ён кіраваў войскамі. У выніку дамовіліся скончыць справу «Нойбургскіх маёнткаў» перагаворамі, а маршалкам Трыбунала ВКЛ 1732 нечакана стаў А. Быў пасломна соймы 1729, 1730 і 1733, на якіх паказаў сябе адным з найактыўнейшых дзеячаў антыкаралеўскай апазіцыі і таму быў сярод паслоў, якія зрывалі гэтыя соймы. У час бескаралеўя 1733—36 разам з бацькам і братамі выказаўся ў падтрымку Станіслава Ляшчынскага. Прызнаў каралём Аўгуста III у 1736. У 1739—40 і 1743—44 пасол у Пецярбургу. З канца 1740-х г. звязаны з Радзівіламі. Дапамагаў ім на віцебскім, аршанскім, полацкім, мсціслаўскім сойміках. З пач. 1750-х г. супрацоўнічаў А. з новым кіраўніком пракаралеўскай групоўкі ў Рэчы Паспалітай надворным каронным маршалкам Е.Мнішкам. Актыўна дапамагаў яму ў канфлікце з Чартарыйскімі ў 1752—54. Перамога А. і яго прыхільнікаў на сойміках дала магчымасць К.С.Радзівілу стаць маршалкам Трыбунала ВКЛ 1755. Мнішак, незадаволены Радзівіламі, у 1755—56 разглядаў А. як аднаго з кіраўнікоў новай прыдворнай партыі ў ВКЛ. У час выбараў у наступны Трыбунал ВКЛ А. займаў найб. радыкальную пазіцыю сярод прыхільнікаў караля і Радзівілаў і прытрымліваўся думкі, што лепш няхай Трыбунал ВКЛ не адбудзецца, чым прыхільнік «фаміліі» падскарбі ВКЛ Е.Флемінг будзе абраны трыбунальскім маршалкам. У 1757 А. парваў з Радзівіламі і пачаў супрацоўнічаць з «фаміліяй». Амаль да канца панавання Аўгуста III быў саюзнікам «фаміліі». У час бескаралеўя 1763—64 актыўна выступаў на баку «фаміліі» і яе кандыдата на трон Станіслава Панятоўскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) адышоў ад паліт. дзейнасці. Валодаў Бобрам, Бялынічамі, Іўем, Барысаўскім староствам і інш.

*Літ.*: М а ц у к А.У. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага ў 20—пач. 30-х гадоў XVIII ст. // Вестник ПГУ. Сер. А. Гуманит. науки. 2005. № 1; K o n o p c z y ń s k i W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; S k i b i ń s k i M. Europa a Polska w dobie wojny o sukscesje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Z i e l i ń s k a Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; C z e p p e M. Działalność agenta hetmańskiego w Drezniе w latach 1752— 1756 w świetle raportów Andrzeja Protasowicza do Michała Kazimierza Radziwiłła // Studia historyczne. 1995. Z. 4; Я е ж. Kamaryla pana z Dukli: Kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha, 1750—1763. Warszawa, 1998.

***Андрэй Мацук.***

**Агінскі** Казімір Дамінік (?—10.10. 1733), дзяржаўны дзеяч. З роду *Агінскіх*. Сын Яна Агінскага і Іааны Тэадоры з Нарушэвічаў. Троцкі ваявода ў 1710—30, віленскі ваявода з 1730. Упершыню быў паслом на сойм у 1688. У канцы 17—пач. 18 ст. выступаў у шэрагах «рэспубліканцаў» супраць Сапегаў. У час Паўн. вайны 1700—21 актыўна супрацоўнічаў з Расіяй, быў удзельнікам *Сандамірскай канфедэрацыі*. У 1702 адзін з паслоў да шведскага караля Карла XII, выступаў за заключэнне міру са Швецыяй шляхам саступак Рэчы Паспалітай. У 1712—15 выступаў па баку вял. гетмана ВКЛ Л.Пацея пад час канфлікту таго з Аўгустам II. У крас. 1714 быў адным з паслоў Пацея да Пятра I з просьбай аб падтрымцы антыкаралеўскай канфедэрацыі. Потым стаў каралеўскім прыхільнікам. У 1726 маршалак Трыбунала ВКЛ. Разам з інш. Агінскімі прымаў актыўны ўдзел як саюзнік Сапегаў у барацьбе за «*Нойбургскія маёнткі*». Дзякуючы яго дапамозе пад час рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ 1731 удалося правесці абранне трыбунальскім маршалкам сапегаўскага прыхільніка А.Эперыяша. Дапамагаў Сапегам і пад час рэасумпцыі наступнага Трыбунала ВКЛ 1732. Пасля смерці ў 1733 Аўгуста II выношваў планы атрымаць карону Рэчы Паспалітай. Пазней падтрымаў Станіслава Ляшчынскага.

*Літ.*: М а ц у к А.У. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага ў 20—пач. 30-х гадоў XVIII ст. // Вестник ПГУ. Сер. А. Гуманит. науки. 2005. № 1; S l i e s o r i ū n a s F. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė 1733—1736 metų tarpuvaldžiu // Lietuvos Valstybė XII— XVIII a. Vilnius, 1997.

***Андрэй Мацук.***

**Агінскі** Марцыян Міхал (1672—29.10.1750), дзяржаўны дзеяч. З роду *Агінскіх*. Сын Шымана Караля Агінскага і Тэадоры з Корсакаў. Мечнік ВКЛ у 1695—1703, віцебскі кашталян у 1703, віцебскі ваявода з 1730. У 1693 першы раз быў паслом на сойм. У канцы 17—пач. 18 ст. выступаў у шэрагах «рэспубліканцаў» супраць Сапегаў, быў палкоўнікам Віцебскага ваяв. У час Паўн. вайны 1700—21 актыўна супрацоўнічаў з Расіяй, быў удзельнікам *Сандамірскай канфедэрацыі*. Шчыльна супрацоўнічаў з канцлерам ВКЛ К.С. Радзівілам. У 1712, 1718 і 1723 быў



маршалкам Трыбунала ВКЛ. Разам з інш. Агінскімі прымаў актыўны ўдзел як саюзнік Сапегаў у барацьбе за *«Нойбургскія маёнткі»*. Дапамагаў пад час рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ 1731 выбраць трыбунальскім маршалкам сапегаўскага прыхільніка А.Эперыяша. На наступны год з пратэстамі быў абраны трыбунальскім дэпутатам у Віцебску і імкнуўся стаць маршалкам Трыбунала. Маршалкам, аднак, пры дапамозе войск стаў саюзнік Радзівілаў канцлер ВКЛ і генеральны рэгіментар ВКЛ М.Вішнявецкі. Агінскія і Сапегі аспрэчылі яго права быць маршалкам, бо ў адсутнасць гетманаў ён кіраваў войскамі. У выніку дамовіліся скончыць справу *«Нойбургскіх маёнткаў»* шляхам перагавораў, а Вішнявецкі і Марцін Агінскі адмовіліся ад прэтэнзій на трыбунальскае маршалкоўства. У канцы 1720-х — пач. 1730-х г. А. быў адным з лідэраў антыкаралеўскай апазіцыі. Адначасова супрацоўнічаў з французскім і рас. пасламі. Антыкаралеўская апазіцыя і вял. гетман ВКЛ Л.Пацей бачылі А. будучым гетманам ВКЛ. Пад час бескаралеўя 1733—36 падтрымаў Станіслава Ляшчынскага, 5.4.1734 абраны маршалкам Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ у яго абарону. У канцы 1730-х — пач. 1740-х г. супрацоўнічаў з Радзівіламі. Нягледзячы на гэта, у маі 1740 кансэнсусам скончыў судовую справу з Сапегамі наконт выплаты грошай за дапамогу Агінскіх у барацьбе за «Нойбургскія маёнткі». Пагадзіўся замест 150 тыс. на 20 тыс. злотых, якія Сапегі павінны былі адразу і выплаціць. У 1741—43 у радзівілаўска-сапегаўскім супрацьстаянні стараўся прытрымлівацца нейтралітэту. Больш прыхільна ставіўся да Радзівілаў і ў 1742 не дазволіў сыну Станіславу намагацца стаць дэпутатам і трыбунальскім маршалкам. Потым праяўляў малую актыўнасць ва ўнутрыпаліт. жыцці ВКЛ. Жанаты пачаргова быў на Тэрэзе з Бжастоўскіх, Тэрэзе з Тызенгаўзаў, Крысціне з Абрамовічаў, Тэклі Ганне з Лярскіх. Ад першага шлюбу меў сыноў Ігната, Казіміра, Станіслава, Тадэвуша, Францішка Ксаверыя Алаізія і дачок Барбару, Марцыяну і Бенедыкту, ад другога шлюбу — дачок Станіславу Тэрэзу і Юзэфу.

*Літ.*: М а ц у к А.У. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага ў 20—пачатку 30-х гадоў XVIII ст. // Вестник ПГУ. Сер. А. Гуманит. науки. 2005. № 1; S k i b i ń s k i M. Europa a Polska w dobie wojny o suksecje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Z i e l i ń s k a Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743— 1752. Warszawa, 1983; S l i e s o r i ū n a s F. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė 1733—1736 metų tarpuvaldžiu // Lietuvos Valstybė XII—XVIII a. Vilnius, 1997; Я г о ж. Georgo von Lieweno misija Lietuvoje 1733 m. pavasarį: Rusijos bandymas iškelti jai priimtino «Piasto» kandidatūrą į Lenkijos ir Lietuvos valdovo sostą priešpaskutinio tarpuvaldžio metu // Istorijos Akiračiai. Vilnius, 2004.

***Андрэй Мацук.***

**Агінскі** Рыгор Антоні (?—17.10. 1709), дзяржаўны і ваенны дзеяч. З роду *Агінскіх*. Сын Яна Яцака Агінскага і Ганны з Сямашкаў. Чашнік ВКЛ з 1684, вял. харужы з 1687, жамойцкі староста з 1698, польны гетман ВКЛ з 1703. У 1696—98 тытулаваўся генеральным рэгіментаром, у 1707—09 — гетманам войск ВКЛ. Маршалак Трыбунала ВКЛ 1706, пасол на соймы 1690, 1695, 1696, удзельнік элекцый (выбараў караля Польшчы і вял. князя ВКЛ) 1674 і 1697. Удзельнік войнаў Рэчы Паспалітай з туркамі, татарамі і казакамі ў 1670—90-х г. Пасля смерці ў 1690 свайго патрона, канцлера ВКЛ М.А.Агінскага (арыентаваўся на Пацаў, потым на Сапегаў), перайшоў у лагер прыхільнікаў караля Яна III Сабескага і ў апазіцыю да Сапегаў, што было вынікам маёмасных спрэчак за спадчыну Глябовічаў. Пад час бескаралеўя 1696—97 падтрымаў кандыдатуру на трон Польшчы і ВКЛ Якуба Сабескага, потым Фрыдрыха Аўгуста. Як генеральны рэгіментар 17.10.1696 стаў на чале арганізаванай у Шарашове пры падтрымцы каралевы Марыі Казіміры канфедэрацыі часткі войска ВКЛ, скіраванай супраць Сапегаў. Абложаны ў Берасці вернымі вял. гетману К.Я.Сапегу войскамі, капітуляваў 27.11.1697. На элекцыйным сойме 1697 адстойваў праект ураўнавання правоў (каэквацыі) шляхты ВКЛ і Польшчы. Актам каэквацыі 25.6.1697 улада вял. гетмана ВКЛ была абмежавана, А. пастаўлены на чале камісіі па размяшчэнні войска на кватэры. Быў адным з лідэраў радыкальнага крыла апазіцыйнай Сапегам групоўкі «рэспубліканцаў». На скліканым «рэспубліканцамі» 26.11.1697 з'ездзе паспалітага рушэння ў Расейнах разам з жамойцкім харужым К.Заранкам разбіў атрад стольніка ВКЛ Ю.С.Сапегі. Паў-торна абвясціў сябе генеральным рэгіментаром войск ВКЛ і аспрэчыў уладу вял. гетмана над войскам. Дзейнічаў у Жамойці і суседніх паветах. Стаў на чале ўтворанай у Шкудах 22. 2.1698 канфедэрацыі войска і шляхты ВКЛ. Распачатае А. у сак. 1698 наступленне на Вільню было спынена пад Коўнам Ю.С.Сапегам. Пад час паўторнай спробы наступлення 30.4.1698 пад Жыжморамі яго войска капітулявала, не ўступаючы ў бітву, і перайшло на бок Сапегаў. 22.7.1698 пад Юрбаркам адноўленае пры дапамозе павятовых выправаў войска А. было разбіта Ю.С.Сапегам. У ліст.—снеж. 1698 удзельнічаў у паспалітым рушэнні супраць Сапегаў на чале невял. выправы з Жамойці, падпісаў *Пузевіцкую пастанову 1698*. У пач. 1700 узначалены К.Я.Сапегам Скарбовы Трыбунал ВКЛ выявіў фінансавыя злоўжыванні А., але спробы прыцягнуць яго да адказнасці скончыліся безвынікова. А. ўдзельнічаў у *Алькеніцкай бітве 1700* на чале жамойцкай шляхты і садзейнічаў перамозе «рэспубліканцаў», атакаваўшы войска Сапегаў з тылу. Падпісаў Алькеніцкую пастанову 24.12.1700. У лют. 1701 удзельнічаў у сустрэчы Аўгуста II з Пятром I у Біржах, пасля якой пачаў арыентавацца на Расію. Рэгулярна атрымліваў ад цара жалаванне, чым паклаў пачатак існаванню ў ВКЛ прарас. групоўкі. У канцы 1701 ваяваў у Жамойці супраць шведаў, якія падтрымалі Сапегаў у *феадальнай вайне 1696—1702*, атакаваў 15.12.1701 Карла XII у Трышках. Быў адным з ініцыятараў падпісання «рэспубліканцамі» ў 1702—03 трох саюзных дагавораў з Расіяй, якія аформілі ўступленне ВКЛ у *Паўночную вайну 1700—21*. У 1702 пад яго камандаванне ў Друю прыбыў рас. корпус генерал-маёра Б.Корсака, пры дапамозе якога А. аблажыў і прымусіў капітуляваць Біржы. У 1703—07 знаходзіўся ў вострым канфлікце з вял. гетманам М.С.Вішнявецкім. 29.6.1704 менскі староста К.Завіша разбіў вой-



ска А. пад Друяй. У бітве пад Крыжбаркам 5.8.1704 войска М.С.Вішнявецкага, Б.Корсака і А. пацярпела паражэнне ад К.Я.Сапегі і А.Л.Лёвенгаўпта. Абраны маршалкам утворанай 9.2.1705 на грамнічным сойміку ў Расейнах канфедэрацыі, падпісаў яе акт, адпаведна якому Жамойцкае княства далучалася да *Сандамірскай канфедэрацыі*. Удзельнічаў у вальных радах сандамірскіх канфедэратаў у Гародні, Львове і Любліне. Пасля пераходу М.С.Вішнявецкага на бок Станіслава I Ляшчынскага ў 1707 узначаліў з дазволу Пятра I войска ВКЛ. Удзельнічаў у *Быхава аблозе 1707*. Практычна без супраціўлення адступіў у 1708 перад арміяй Карла XII на ПдУ ВКЛ, пазней дзейнічаў на Валыні супраць войск Станіслава I Ляшчынскага, аб'яднаўшыся ў пач. 1709 з рас. корпусам ген.-фельдмаршала Г.Гольца. 12.4.1709 вял. гетман Я.К.Сапега разбіў войскі А. і рас. ген.-маёра М.Інфланта пад Ляхаўцамі. Пасля вяртання на трон 20.11.1709 Аўгуст II выдаў А. прывілей на пасаду вял. гетмана ВКЛ, якой, аднак, той не атрымаў, бо за 3 дні да гэтага памёр у Любліне.

*Літ.*: Королюк В.Д. Свидание в Биржах и первые переговоры о польско-русском союзе // Вопросы истории. 1948. № 4; Яго ж. Избрание Августа II на польский престол и русская дипломатия // Уч. зап. Ин-та славяноведения. М., 1951. Т. 3; Яго ж. Вступление Речи Посполитой в Северную войну // Там жа. 1954. Т. 10; Narbutt J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskigo i Augusta II, królow panujących w Polsce. T. 1—2. Wilno, 1842; Jarochowski K. Dzieje panowania Augusta II od śmierci Jana III do chwili ustąpenia Karola XII na ziemię polską. Poznań, 1856; Яго ж. Dzieje panowania Augusta II od ustąpenia Karola XII na ziemię polską aż do elekcyi Stanisława Leszczyńskiego (1702— 1704). Poznań, 1874; Chodźko L. Hrehory książę Ogiński // Po ziarnie. Wilno, 1861; Powidaj L. Wojna domowa Sapiehów z szlachtą litewską w ostatnich latach XVII i na początku XVIII wieku // Przegląd Polski. 1872/73. R. 7, t. 2, z. 4—5; Feldman J. Polska w dobie wielkiej wojny północnej, 1704—1709. Kraków, 1925; Piwarski K. Opozycja litewska pod koniec XVII wieku // Pamiętnik V powszechnego zjazdu historyków polskich w Warszawie od 28 listopada do 4 grudnia 1930 r. Lwów, 1930. Z. 1; Kamiński A. Konfederacja sandomierska wobec Rosji w okresie poaltransztadzkim, 1706—1709. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1969; Wojtasik J. Walka Augusta II z obozem kontystowsko-prymasowskim w pierwszym roku panowania (1697—98) // Przegląd Historyczny. 1969. Z. 1; Wasilewski T. Walka o zrównanie praw szlachty litewskiej z koroną od unii Lubelskiej do początku XVIII wieku // Zapiski Historyczne. 1986. Z. 1; Rachuba A. Sprawa obsady urzędów litewskich po Sapiehach w początkach XVIII wieku // Między wielką polityką a szlacheckim partykularyzmem. Toruń, 1993; Sliesoriūnas G. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000; Яго ж. Walka stronnictw w przededniu i podczas wojny domowej na Litwie XVII/XVIII wieku // Władza i prestiż: Magnateria Rzeczypospolitej w XVI—XVIII wieku. Białystok, 2003. ***Зміцер Віцько.***

**Агінскі** Станіслаў (1710—14.6. 1748), дзяржаўны дзеяч. З роду *Агінскіх*. Сын віцебскага ваяводы Марціна Агінскага і Тэрэзы з Бжастоўскіх. Мсціслаўскі кашталян у 1738—40, віцебскі кашталян з 1740. Пад час бескаралеўя 1733—36 падтрымаў Станіслава Ляшчынскага. Прымаў актыўны ўдзел у сутычках прыхільнікаў Ляшчынскага з рас. войскамі ва ўсх. Беларусі. У канцы 1730-х г. супрацоўнічаў з Радзівіламі. Пры іх падтрымцы ў 1741 беспаспяхова намагаўся стаць дэпутатам і трыбунальскім маршалкам. Аднак ужо ў час рускай кадэнцыі Трыбунала ВКЛ 1741 разам з Сапегамі выступаў супраць Радзівілаў. У саюзе з Сапегамі і Чартарыйскімі імкнуўся стаць маршалкам Трыбунала ВКЛ 1742 і нават атрымаў падтрымку каралеўскага двара. Пад ціскам сваякоў і з-за канфлікту з падскарбіем ВКЛ Я.Салагубам адмовіўся ад планаў стаць трыбунальскім маршалкам і нават не быў ні на адным з соймікаў. Такія перамены планаў А. сапсавалі яго адносіны з Сапегамі. У далейшым займаў самастойную пазіцыю і актыўна не ўдзельнічаў ва ўнутрыпаліт. жыцці ВКЛ. Валодаў Бешанковічамі, Свіслаччу, Булкавам і інш. З 1734 быў жанаты на Марыяне, дачцы К.Д.*Агінскага*; меў сыноў Матэвуша і Алаізія і дачку Элеанору.

*Літ.*: Мацук А.У. Унутрыпалітычная сітуацыя ў Вялікім княстве Літоўскім у 1739 г. // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Мінск, 2007; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o suksecje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Pamiętnik Tadeusza Ogińskiego // Przegląd Historyczny. 1914. Z. 1; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983. ***Андрэй Мацук.***

**Агінскі** Тадэвуш Францішак (26.8. 1712—25.11.1783), дзяржаўны дзеяч. З роду *Агінскіх*. Сын віцебскага ваяводы Марціна Агінскага і Тэрэзы з Бжастоўскіх. Вял. пісар ВКЛ у 1737—44, троцкі кашталян у 1744—70, троцкі ваявода з 1770. У шэрагах антыкаралеўскай апазіцыі прымаў актыўны ўдзел у соймах 1732 і 1733. Пад час бескаралеўя 1733—36 падтрымаў Станіслава Ляшчынскага і камандаваў атрадамі канфедэратаў ва ўсх. Беларусі. Прызнаў Аўгуста III каралём на сойме 1736. Адмоўна сустрэў прапанову Радзівілаў дапамагчы яму заняць пасаду трыбунальскага маршалка ў 1738 і не планаваў гэтага ў далейшым. У 1739 атрымаў Ашмянскае гродавае староства. Быў маршалкам сойма 1744. Не намагаўся, каб сойм скончыўся прыняццем пастаноў аб павелічэнні войска ВКЛ, але і не перашкаджаў спробам іх зацвярджэння. Захоўваў нейтралітэт у барацьбе Чартарыйскіх і Радзівілаў у ВКЛ. Супрацоўнічаў з Радзівіламі толькі на працягу 1754—55. Быў лаяльны да каралеўскага двара, але адхіліў яго прапанову аб дапамозе ў заняцці пасады маршалка Трыбунала ВКЛ у 1759. У наступным годзе ў саюзе з «фаміліяй» зрабіў маршалкам Трыбунала ВКЛ свайго сына Андрэя. Захоўваў лаяльнасць да каралеўскага двара. Пад час бескаралеўя 1763—64 падтрымаў Чартарыйскіх. Непрыхільна ставіўся да пасольства свайго сына Андрэя ў Пецярбург па справе злоўжыванняў рас. пасла М.В.Рапніна. У 1770 у якасці падзякі за Троцкае ваяв. дапамог каралеўскаму прыхільніку Д.Александровічу стаць трыбунальскім маршалкам. Імкнуўся ўхіліцца ад удзелу ў сойме 1773, які павінен быў зацвердзіць 1-ы падзел Рэчы Паспалітай. У 1776—78 уваходзіў у склад Пастаяннай Рады. У 1781 і 1783 быў суддзёй у соймавых судах. Валодаў Маладзечнам, Ізабелінам і інш. Быў жанаты з 1737 на дачцы М.К.Радзівіла Ізабеле, з 1763 на Ядвізе з Залускіх. Ад 1-га шлюбу меў сыноў Андрэя і Францішка Ксаверыя.



*Літ.*: Мацук А.У. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага ў 20—пачатку 30-х гадоў XVIII ст. // Вестник ПГУ. Сер. А. Гуманит. науки. 2005. № 1; Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o suksecje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Pamiętnik Tadeusza Ogińskiego // Przegląd Historyczny. 1914. Z. 1; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983. ***Андрэй Мацук.***

**Агінскі** Францішак Ксаверый Алаізій (3.12.1708—22.11.1758), дзеяч каталіцкай царквы. З роду *Агінскіх*. Сын Марцыяна Міхала Агінскага. У 1724 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. З 1733 ксёндз. Прэфект студый у Пінску (1738—39), прапаведнік і прэфект бібліятэкі ў Менску (1739—40), прэфект студый і сакратар Віленскай акадэміі (1740—43), выкладчык кананічнага права ў Вільні (1744—45), рэктар калегіумаў у Віцебску (1746—49) і Менску (1749—52), прэфект касцёла ў Лукішках (1752—53), рэктар прабацыі ў Нясвіжы (1756—58). Аўтар кнігі «Касцёл св. Міхала... на Нясвіжскай гары» («Kościół S. Michała... na górze Niéswieskiej», Вільня, 1758).

**Агінскі** Юзаф Ян (1700—6.12. 1736), дзяржаўны дзеяч. З роду *Агінскіх*. Сын Дамініка Агінскага і Элеаноры з Войнаў. Мечнік ВКЛ у 1729—30, троцкі ваявода з 1730. Пад час дзеяння *Тарнагродскай канфедэрацыі* знаходзіўся ў акружэнні гетмана Л.Пацея і ў чэрв. 1717 абараняў яго пад час уцёкаў ад канфедэратаў. У 1717—19 знаходзіўся ў Саксоніі. Разам з інш. Агінскімі прымаў актыўны ўдзел як саюзнік Сапегаў у барацьбе за *«Нойбургскія маёнткі»*. Дапамагаў пад час рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ у 1731 абраць трыбунальскім маршалкам сапегаўскага прыхільніка А.Эперыяша. У час бескаралеўя 1733—36 выступіў на баку Аўгуста III, перацягнуў на яго бок частку гарадзенскай шляхты. Камандаваў атрадам войска ВКЛ у барацьбе супраць прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага. У пач. 1734 прызначаны генеральным адміністратарам Скарба ВКЛ і займаў гэтую пасаду да вяртання ў 1736 падскарбія ВКЛ Я.Салагуба. У шлюбе з Ганнай з Вішнявецкіх меў сына Міхала Казіміра.

*Літ.*: Мацук А.У. Род Радзівілаў ва ўнутрыпалітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага ў 20 — пачатку 30-х гадоў XVIII ст. // Вестник ПГУ. Сер. А. Гуманит. науки. 2005. № 1; Sliesoriūnas F. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė 1733—1736 metų tarpuvaldžiu // Lietuvos Valstybė XII— XVIII a. Vilnius, 1997; Яго ж. Georgo von Lieweno misija Lietuvoje 1733 m. pavasarį: Rusijos bandymas iškelti jai priimtino «Piasto» kandidatūrą į Lenkijos ir Lietuvos valdovo sostą priešpaskutinio tarpuvaldžio metu // Istorijos Akiračiai. Vilnius, 2004. ***Андрэй Мацук.***

**Агрыпіна** (паводле інш. звестак Марыя; каля 1340—пасля 1392), вялікая княгіня ніжагародская, жонка вялікага князя Барыса Канстанцінавіча. Малодшая дачка вял. кн. літ. *Альгерда* і яго 1-й жонкі Марыі Яраслаўны, княжны віцебскай. Шлюб А. і Барыса адбыўся ў 1354. Пасля смерці ў 1355 бацькі, вял. кн. ніжагародскага Канстанціна Васілевіча Барыс княжыў у Гарадцы, а з 1365 (канчаткова з 1383) — таксама ў Ніжнем Ноўгарадзе. Шлюб А. і Барыса дазволіў Альгерду атрымаць у асобах ніжагародскіх князёў саюзнікаў у барацьбе з Масквою. У 1371 Альгерд патрабаваў ад канстанцінопальскага патрыярха Філафея паставіць асобнага мітрапаліта ў Кіеве, улада якога павінна была распаўсюджвацца і на Ніжні Ноўгарад. У 1392 вял. князь маскоўскі Васіль Дзмітрыевіч захапіў Ніжні Ноўгарад, а Барыса, А. і іх дзяцей загадаў «развесці па гарадах». Барыс памёр у 1394. Меў сыноў Івана (мянушка Тугі Лук), Данілу (некаторы час княжыў у Ніжнім Ноўгарадзе) і дачку.

**Адам Якубавіч з Котры** (?—1517) — пісьменнік, сакратар канцылярыі вялікага князя літоўскага, віленскі канонік. Нешляхецкага паходжання (honorabilis), называў сябе літвінам, быў добра знаёмы з рускім пісьмом. Яго бацька Якуб быў пісарам канцылярыі ВКЛ, упамінаецца ў 1449—66. Першапачатковую адукацыю Адам атрымаў у Віленскай кафедральнай школе, потым больш за 10 гадоў вучыўся ў Кракаўскім ун-це (1478—89) коштам князя Андрэя Свірскага. У 1482 стаў бакалаўрам, у 1488 — магістрам, у зімовым паўгоддзі 1488/89 займаўся вывучэннем Гарацыя. Вярнуўшыся ў Вільню, працаваў у 1492 у канцылярыі як пісар (натарыус) і ўдзельнічаў у пасольствах: у 1494 два разы ў Маскву ў справе захавання правасл. веры будучай жонкі вял. князя Аляксандра Ягелончыка Алены Іванаўны, у 1496 у Кракаў у справе маёмаснага забеспячэння каралевіча Жыгімонта Казіміравіча. З-пад яго пяра выйшаў акт Віленскай уніі 1499 (лацінскі варыянт), у якім ёсць прыпіска па-руску «Пісаў Адам Якубовіч с Котры». На кнізе з уласнай б-кі «Majus, De priscorum verborum proprietate» (Tarvisiae, 1477) ён пакінуў 2 нататкі: лацінскую — «Certe sum Ade Lithuani» і аўтабіяграфічную рус. — «Книга Адамова Якубовича с Котры, с Литвы з волости Городенское, Згрошкова брата, ему ж накладался на науку до Кракова болей десяти лет, из детинства ест при школе виленской ласкаве ховался, небошчик князь Ендрий, негды каноник и кустош костела виленского святого Станислава». За добрую службу атрымаў ад вял. князя Аляксандра маёнтак Котра ў Гарадзенскім пав. ў пажыццёвае валоданне, там гаспадарыў яго брат Згрошка Якубавіч. Пазней вял. князь Аляксандр надаў Адаму пасаду сандамірскага каноніка. Аднак Адам застаўся ў Вільні ў вялікакняжацкай канцылярыі, удзельнічаў як сакратар у 1505 у працы камісіі па ўрэгуляванні літоўска-інфлянцкай мяжы. Пры Жыгімонце І Старым прызначаны віленскім канонікам, у 1510 упамінаецца як «venerabilis Adam Jakubowicz de Kotra, Vilnensis et Sandomir eccl. canonicus». У Віленскім капітуле апошні раз з'явіўся 21.12.1516. З'яўляецца адным з яскравых прыкладаў культурнага ўплыву Кракаўскага ун-та на землі ВКЛ.

*Літ.*: Wisłocki W. Incunabula typographicae Bibliothece Universitatis Jagiellonicae. Kraków, 1900. S. 368; Poppee F. Adam z Kotry // Polski słownik biograficzny. Kraków, 1935. T. 1; Ochmański J. Dawna Litwa: Studia historyczne. Olsztyn, 1986. S. 120. ***Альбіна Семянчук.***

**адверныя**, службоўцы пры двары вялікага князя літоўскага і вялікай княгіні ў 16—17 ст., якія выконвалі дробныя даручэнні. Пры двары было



некалькі А., якія атрымлівалі ад гаспадара за «службу адверніцкую» вольную ад падаткаў зямлю, да некалькіх валок, у асн. у Гарадзенскай экаваміі («Устава на валокі» 1557 прадугледжвала надзяленне аднаго А. надзелам у 2 валокі). Адверніцкая служба перадавалася ў спадчыну, як і зямельны надзел для забеспячэння гэтай службы. Некаторым А. за верную службу надавалася шляхецтва. З сярэдзіны 17 ст. А. ўжо не служылі пры двары. А.-сяляне пераведзены на чынш і зліліся з асн. масай сялянства. Некаторыя А.-шляхціцы пачалі займаць дзярж. пасады.

*Літ.*: Доўнар А.В. Сяляне-слугі другой паловы XVI—сярэдзіны XVIII ст. Мінск, 2007. С. 63—66.

**Ажахоўскі** (Арахоўскі) Станіслаў (11.11.1513, в. Ажахоўцы каля г. Перамышль Рускага ваяв.—1566), грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч, пісьменнік, публіцыст. З сярэдняй шляхты русінскага паходжання. Пачатковую адукацыю атрымаў у кафедральнай каталіцкай школе ў Перамышлі. У 1526—28 вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, у 1528—29 — у Венскім ун-це, дзе вывучаў пераважна класічныя мовы. Пасля аблогі Вены турэцкім войскам у вер. 1529 выехаў на кароткі тэрмін, паводле адных звестак, у Вітэнберг, паводле інш. — Італію (Падуя, Балоння). У 1530—31 знаходзіўся ў Польшчы, у 1531 вучыўся ва ун-тах Германії (Вітэнберг, Лейпцыг), некаторы час знаходзіўся ў Нюрнбергу. У 1532— 40 ва ун-тах Італіі (Падуя, Балоння, Венецыя) вывучаў філасофію, класічныя мовы, антычную л-ру, зблізіўся з прадстаўнікамі італьянскага гуманізму. З 1541 у Польшчы, пасвячоны ў сан каталіцкага святара, у 1541—47 пробашч у Журавіцах (Рускае ваяв.) і Пабеднiку (Кракаўскае ваяв.). Пасля смерці бацькі ў 1542 меў уладанні ў вёсках Даўгія Журавіцы, Вял. і Малыя Бараньчыцы ў ваколіцах Перамышля. Удзельнічаў у соймах. У 1541—43 узнік канфлікт паміж А. і перамышльскім біскупам С.Тарло, паколькі А. адмовіўся прымаць зарок цэлібату. Быў падтрыманы капітулам Перамышльскага біскупства і гнезненскім арцыбіскупам П.Гаматам на сойме 1543. У 1547—50 пробашч у Санаку (Рускае ваяв.). Працягваў вострую крытыку цэлібату, што выклікала новы канфлікт з перамышльскім біскупам Я.Дзядускім у 1547, які скончыўся вуснай дэкларацыяй А. аб адмаўленні ад крытыкі, за што ён атрымаў пасаду афіцыяла і генеральнага вікарыя (1547—48). З 1548 А. аднавіў крытыку цэлібату, а таксама дзейнасці вышэйшага духавенства, і заявіў пра намер ажаніцца, у сувязі з чым узнавіўся канфлікт з Дзядускім, у якім А. атрымаў падтрымку шляхты. На Пётркаўскім сойме 1550 быў дасягнуты часовы кампраміс, справа А. павінна была быць вырашана ў Рыме. У 1550 адмовіўся ад функцый пробашча, у 1551 узяў шлюб, за што біскупскі суд у Перамышлі адлучыў А. ад царквы як ерэтыка, прызнаў несапраўдным яго шлюб і асудзіў на выгнанне і канфіскацыю маёмасці. Дзякуючы пазіцыі шляхты прысуд не быў выкананы. На Пётркаўскім сойме 1552 заключаны новы кампраміс: скасавана адлучэнне А. ад царквы і абвешчана магчымасць яго вяртання да духоўнага сану пры ўмове адмаўлення ад шлюбу. Аднак на Ловіцкім сінодзе каталіцкай царквы ў 1556 адлучэнне ад царквы было аднаўлена дзякуючы намаганням папскага нунцыя А.Ліпамана. У далейшым А. прымірыўся з каталіцкай царквой, падтрымліваў контррэфармацыйны рух (захаваў, аднак, ранейшыя погляды на праблему цэлібату). У 1561 рымскі папа Пій IV дае дазвол на зняцце з А. экскамунікі і абвінавачванняў у ерасі і прызнанне яго шлюбу пры ўмове невыкanання святарскіх абавязкаў.

А. — аўтар шматлікіх грамадска-паліт., тэалагічных і гіст. твораў. Яго літ. творчасць абапіраецца на глыбокія веды ў галіне філасофіі, класічнай л-ры і рыторыкі. Першыя творы А. прысвечаны праблемам унутранай і знешняй палітыкі Польскага каралеўства: «Паслухмяны падданы» («Fidelis subditis», Кракаў, 1584), «Прамова пра вайну польскага рыцарства супраць туркаў» («De bello adversus Turcas suscipiendo ad equites Polonos oratio», Кракаў, 1543), «Другая прамова пра турэцкую пагрозу да караля Жыгімонта» («Ad Sigismundum Poloniae Turcica», Кракаў, 1544). Выступаў паслядоўным прыхільнікам ідэі саюзу хрысціянскіх дзяржаў супраць Турцыі, у сувязі з чым атрымаў маральную і фінансавую падтрымку ад прадстаўнікоў прагабсбургскай паліт. групоўкі ў Польшчы. Аўтар жалобнага панегірыка на смерць караля Польшчы і вял. кн. ВКЛ Жыгімонта I Старога «Прамова на пахаванні польскага караля Жыгімонта Ягелона» («Funebris oratio habita... ad equites polonos in funere Sigismundi Jagellonis», Кракаў, 1548). Напрыканцы 1540-х г. напісаў 2 паліт. памфлеты супраць прызнання шлюбу Жыгімонта II Аўгуста з Барбарай Радзівіл і яе каранацыі. З сярэдзіны 1540-х г. вял. месца ў творчасці А. займала тэалагічная праблематыка. У лісце да Гамрата «Хрышчэнне русінаў» («Baptismus Ruthenorum», Кракаў, 1544) закрануў праблему ўзаемаадносін каталіцкай і правасл. цэркваў. На думку А., розніца паміж гэтымі цэрквамі не з'яўляецца істотнай, таму няма неабходнасці пераварочвання праваслаўных у каталіцтва і іх паўторнага хрышчэння. А. выступаў прыхільнікам універсальнай уніі абедзвюх цэркваў. У час канфлікту А. з царк. ўладамі па справе цэлібату з'явіўся шэраг яго тэалагічных твораў палемічнага характару: «Аб царкве Хрыстовай» («Pro ecclesia Christi», Кракаў, 1546), «Аб прызнанні цэлібату» («De lege coelibatus», напісана каля 1547, выдадзена ў Кракаве ў 1551), «Прамова Ст.Ажахоўскага Русіна супраць несправядлівых абвінавачванняў...» («Diatribe St.Orichovii Ruth. contra calumniam...», Кракаў, 1548), «Ліст у справе цэлібату...» («Epistola de coelibatu...», Кракаў, 1549), «Прашэнне да найвышэйшага пантыфіка Юлія III на прызнанне ўзятага шлюбу» («Supplicatio... de approbando matrimonio a se inito», Базель, 1551). А. крытыкаваў звычаі вышэйшага духавенства, шэраг царк. устанаўленняў, патрабаваў правядзення царк. рэформы. Паступова ён перайшоў да крытыкі неабмежаванай улады папы рымскага ў каталіцкай царкве, падтрымліваў ідэю пашырэння самастойнасці польск. царквы. У найбольш радыкальным выглядзе антыпапскія ідэі А. праявіліся ў ананімнай рукапіснай брашуры «Вымова Рыму» («Repudium Romae», напісана каля 1556), у якой утрымліваюцца вострыя



інвектывы ў адрас папы; пры гэтым крытыцы падвяргаюцца таксама і пратэстанты. На думку А.Фрыча-Маджэўскага, А. з'яўляецца аўтарам брашуры «Аб прымаце папы» («De primatu papae», 1558), у якой адмаўляецца вярхоўная ўлада пантыфіка ў царкве. Аднак гэта меркаванне не пацвярджаецца навук. даследаваннямі. Дакладна вядома, што А. — аўтар каментара да прысягі польск. біскупаў папе, які мае палемічную накіраванасць і быў далучаны да выдання вышэйзгаданай брашуры. З пач. 1560-х г., пасля прымірэння з каталіцкай царквой, А. стаў адным з ідэолагаў контррэфармацыі. Напісаў тэалагічныя і рэлігійна-палемічныя творы «Вызнанне каталіцкай веры» («Fidei catholicae confessio», Кракаў, 1561, польскі пераклад «Wyznanie wiary», Кракаў, 1562), «Хімера» («Chimaera», Кракаў, 1562). Крытыкаваў веравучэнне і культ пратэстантызму, шырока выкарыстоўваючы пры гэтым інвектывы ў адрас яго дзеячаў, абараняў каталіцкія ўстанаўленні, уладу папы рымскага. Крытыка А. распаўсюджваецца на памяркоўных католікаў, якія выступалі за кампраміс з пратэстантамі, што выклікала палеміку з Фрычам-Маджэўскім у кнізе «Фрыч, або Аб уладзе апостальскага прастолу» («Fricius sive de maiestate Sedes Apostolicae», Кракаў, 1562). Найб. грунтоўны аналіз праблем грамадска-паліт. і рэлігійнага жыцця праведзены А. у працах «Размова або дыялог вакол экзекуцыі Польскай Кароны» («Rozmowa albo dialog około egzekucyjnej Polskiej Korony», Кракаў, 1563), «Квінкункс» («Quincunx», Кракаў, 1564), «Паліцыя Польскага каралеўства» («Policyja Królestwa Polskiego», Кракаў, 1565, поўнае выданне — 1584). Гэтыя працы пабудаваны ў форме дыялогаў і набліжаны па стылю да соймавых прамоў, што павінна было падкрэсліць іх грамадска-паліт. актуальнасць. Канцэпцыя дзяржавы А. знаходзіцца пад моцным уплывам антычнай паліт. думкі. У ёй узнаўляецца арыстоцелеўскае разуменне дзяржавы як аб'яднання шэрагу сем'яў і паселішчаў пад адной уладай. Згодна з антычнай традыцыяй, вылучаў 3 асн. тыпы дзярж. ўладкавання: манархію, арыстакратыю і дэмакратыю. Паводле А., у Польск. каралеўстве прысутнічалі элементы ўсіх 3 тыпаў, паколькі дзярж.-паліт. лад Польшчы грунтаваўся на арганічным супрацоўніцтве «трох саймуючых станаў»: караля, Сената і Пасольскай Ізбы, якая рэпрэзентуе шляхту. Такі сінтэз («паліцыю») лічыў найбольш дасканалым дзярж. утварэннем. У поглядах на грамадства А. прытрымліваўся канцэпцыі арганіцызму, паводле якой розныя сац. групы выконваюць адпаведныя ім функцыі для захавання гарманічнага парадку ў грамадстве як цэлым. Вылучаў 6 саслоўных груп: каплан, кароль, шляхта, купцы, рамеснікі і сяляне. Лічыў, што межы паміж гэтымі саслоўнымі групамі, а таксама іх функцыі павінны быць строга вызначаны; сац. мабільнасць выключаецца. Але пры гэтым толькі каплан, кароль і шляхта з'яўляюцца дзярж. станамі, якія разам фарміруюць паліт. народ. Астатнія 3 саслоўныя групы выступаюць слугамі вышэйшых саслоўяў і не маюць паліт. правоў. Пры гэтым А. распрацоўваў тэакратычную канцэпцыю «капланскага каралеўства», якая ў рэчышчы контррэфармацыйнай ідэалогіі абгрунтоўвала тэзіс пра арганічнае ўзаемадзеянне духоўнай і свецкай улад пры прыярытэце першай. Лічыў, што каралеўская ўлада генетычна паходзіць ад царк.: караля карануе прымас, і тым самым акт каранацыі азначае падпарадкаванне манархічнай улады каталіцкай царкве. Вышэйшы каплан (прымас) у Польск. каралеўстве выступае гарантам дзярж.-паліт. ладу, грамадзянскіх і паліт. правоў саслоўяў і ажыццяўляе вярхоўны кантроль за дзейнасцю свецкай улады; кароль і інш. органы свецкай улады павінны ажыццяўляць свае функцыі ў адпаведнасці з інтарэсамі каталіцкай царквы і клапаціцца пра распаўсюджанне і ўмацаванне каталіцкай веры. У тым выпадку, калі свецкая ўлада не выконвае сваіх абавязкаў у сферы абароны пануючай рэлігіі, духоўны кіраўнік мае права санкцыянаваць непадпарадкаванне паддадных манарху, нават дэтранізаваць апошняга і выконваць пры пэўных умовах функцыі свецкай улады. Разам з тым А. выступае паслядоўным абаронцам дактрыны шляхецкіх вольнасцей; пры гэтым указвае, што яны магчымы толькі ў выніку абмежавання манархічнай улады з боку царквы. У той жа час вызнанне каталіцкай веры выступае ўмовай захавання за шляхціцам грамадзянскіх і паліт. правоў. А. рашуча выступаў супраць рэлігійнай талерантнасці адносна прадстаўнікоў рэфармацыйнага руху і заклікаў улады да выкарыстання суровых пакаранняў згодна з антыерэтычным заканадаўствам. Ён абгрунтоўваў з тэалагічных і палітыка-прагматычных пазіцый ідэю монаканфесійнасці. Наяўнасць мноства рэлігійных канфесій з'яўляецца, на думку А., фактарам разбурэння арганічнага грамадскага і дзярж.-паліт. ладу, занядбання рэлігійных і дзяржаўніцкіх пачуццяў, крыніцай сац. канфліктаў і бунтаў. У актуальных умовах паліт. барацьбы ў Польшчы ў 1560-я г. А. выказваў непрыхільнасць да патрабаванняў шляхецкага экзекуцыйнага руху, бачачы ў ім перадусім уплыў Рэфармацыі. Значнае месца А. надаваў праблеме уніі Польск. каралеўства з ВКЛ. Ён паслядоўна развіваў ідэю інкарпарацыі, якую абгрунтоўваў шляхам радыкальнага размежавання і процідастаўлення феноменаў каралеўства і княства як розных форм дзярж. праўлення. Каралеўства, на яго думку, заснавана на абмежаванні манархічнай улады з боку царк. улады і з боку права; у выніку ў падобнай дзяржаве пануе грамадзянская і паліт. свабода сярод шляхты. Княства абапіраецца на неабмежаваную ўладу манарха, які кіруе дзяржавай згодна з уласным самавольствам; таму ўсе паддадныя княства, уключаючы шляхту, з'яўляюцца нявольнікамі манарха. З гэтага робіцца выснова: адзіным спосабам для шляхты ВКЛ пазбавіцца няволі можа стаць далучэнне да свабоднага Польскага каралеўства. Гэтыя ідэі А. сустрэлі вострую крытыку з боку кіруючых колаў ВКЛ. У якасці палемікі з ім у ВКЛ паўстаў ананімны твор «Размова Паляка з Літвінам» (прыпісваецца Аўгусціну *Ратундусу*). А. напісаў гіст. творы: «Аналы...» («Annales...», напісаны каля 1554, выдадзены ў Дабраміле ў 1611), дзе пададзена хроніка першых гадоў праўлення Жыгімонта II Аўгуста (1548—52) і аўтабіяграфічныя звесткі таго ж перыяду; «Жыццё Яна Тарноўскага» («Żywot Jana Tarnowskiego», Варшава, 1773) — ідэалізаваная біяграфія вядомага польскага дзярж. дзеяча ў кантэксце паліт. гісторыі Поль-



шчы сярэдзіны 16 ст. А. — аўтар шматлікіх лістоў, вершаў і інш. Творы А. мелі вядомасць у Зах. Еўропе: «Прамова на пахаванні польскага караля Жыгімонта Ягелона» і «Аналы...» былі ўключаны ў зборнік «Прамовы найзнакамiцейшых людзей» («Orationes clarorum virorum», Венецыя, 1559), які шмат разоў перавыдаваўся. Ідэйна-тэарэтычная спадчына А. аказала вял. ўплыў на развіццё рэлігійна-філасофскай і грамадска-паліт. думкі Польшчы і ВКЛ. У першую чаргу ідэі А. паўплывалі на тэарэтычны дыскурс контррэфармацыйнага руху, а таксама на фарміраванне канцэпцыі *сарматызму*, якая ўключала ў сябе ідэі нязменнасці дзярж.-паліт. ладу і непахіснасці шляхецкіх свабод.

*Тв.*: Mowa na sejmiku Wiszyńskim 13 marca 1566 r. // Wybór mów staropolskich. Wrocław, 1961; Wybór pism. Wrocław, 1972; Policyja Królestwa Polskiego na kształt Arystotelesowych Polityk napisana. Przemyśl, 1984; Policyja Królestwa Polskiego // Filozofia i myśl społeczna w Polsce XVI wieku. Warszawa, 1978; у кн.: Українські гуманісти епохи Відродження. Ч. 1. Київ, 1995; Тисяча років української суспільно-політичної думки. Т. 2, кн. 1. Київ, 2001.

*Літ.*: Сокол С.Ф. Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во второй половине XVI века. Минск, 1974; Наливайко Д.С. Оріховський як український латиномовний письменник Відродження // Українська література XVI—XVIII ст. та інші слов'янські літератури. Київ, 1984; Литвинов В. Историософские взгляды Станислава Ориховского // Человек и история в средневековой философской мысли русского, украинского и белорусского народов. Киев, 1987; Його ж. Проблемы государства в трудах Ст. Ориховского // Отечественная общественная мысль эпохи средневековья: (Историко-философский очерк). Киев, 1988; Його ж. Ренесансний гуманізм в Україні. Київ, 2000; Сас П.М. Українсько-польський мислитель доби Відродження Станіслав Оріховський: на шляху до історизму нового часу // Український історичний журнал. 1991. № 1; Його ж. С. Оріховський, Й. Верещинський: політико-правові концепції державного устрою // Україна — Польща: історична спадщина і суспільна свідомість. Київ, 1993; Його ж. Проблема людини в творчості українського письменника XVI ст. Станіслава Оріховського // Україна і Польща в період феодалізму. Київ, 1994; Бортнік І.А. Праблема талеранцыі ў дыскурсе контррэфармацыйнага руху на геакультурнай прасторы Беларусі, Літвы і Польшчы // Вестник Полоцкого гос. университета. Сер. А. Гуманитарные науки. 2005. № 1; Косманава Б. Станіслаў Ажахоўскі: gente Ruthenus, natione Polonus // Рэфармацыя і грамадства: XVI стагоддзе. Мінск, 2005; Kaim A. *Baptismus Ruthenorum* Stanisława Orzechowskiego z Rusi (1544) // Archiwa, biblioteki i muzea kościelne. Lublin, 2000. T. 73; Koehler K. Stanisław Orzechowski i dylematy humanizmu renesansowego. Kraków; Warszawa, 2004.

***Ігар Бортнік.***

**Ажэшка** Антоні (каля 1743—23.5.1771), ваенны дзеяч. Сын Людвіка Ажэшкі, падкаморыя пінскага. З маладосці А. быў звязаны з групоўкай Чартарыйскіх. Пасол на элекцыйны сойм 1764, падпісаў абранне караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1765 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Пад уплывам братоў *Пуласкіх* далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*. Летам 1769 арганізаваў у Пінскім пав. атрад у яе падтрымку, аднак хутка ён быў рассеяны рас. генералам Дрэвічам. Не зломлены няўдачай, у жн. 1769 Антоні арганізаваў у Пінскім пав. мясцовую канфедэрацыю ў падтрымку Барскай, да якой далучыўся рэгімент коннай гвардыі шэфства Міхала Грабоўскага. 8.8.1769 разбіты войскам А.Суворава пад Янаўцамі каля Пінска. З рэшткамі атрада Антоні дайшоў да Уладзіміра-Валынскага, дзе далучыўся да войска Казіміра Пуласкага. Увосень 1769 удзельнічаў у паходзе Пуласкіх па тэр. ВКЛ. Пацярпеў паражэнні 7.9.1769 ад рас. атрада К.Роне пад Славатычамі, 13.9.1769 — у баі пад Арэхавам, а 14.9.1769 — пад Уладавай. Пасля ваяваў у Прыкарпацці. Увайшоў у склад Найвышэйшай рады Барскай канфедэрацыі ў Прэшаве, дзе прызначаны намеснікам генеральнага каменданта літ. войск і непасрэдным камандзірам корпуса ў 400 чал. з ВКЛ. У 1771 ваяваў пад камандаваннем французскага генерала Ш.Дзюмур'ё, загінуў у бітве з войскамі А.Суворава пад Лянцкаронай (Польшча).

**Ажэшка** Леапольд (каля 1720—79), дзяржаўны дзеяч. Уладальнік маёнтка Саха ў Пінскім пав. З маладосці звязаны з ваяводам віленскім і вял. гетманам ВКЛ Міхалам Казімірам Радзівілам Рыбанькам, якому быў абавязаны кар'ерай. Пасол на соймы 1744, 1752, 1761, 1764 (каранацыйны), пінскі стольнік з 1748, пісар гродскі з 1750, суддзя земскі з 1753. З 1750 маёр, з 1754 секунд-оберштлейтэнант, з 1757 оберштлейтэнант у драгунскім рэгіменце каралевіча. На сойме 1767—68 абраны ў камісію па ўстанаўленні граніц каралеўскай Пінскай эканоміі.

**азбукоўнікі**, ананімныя рукапісныя, пераважна філалагічна-энцыклапедычныя даведнікі на ўсходнеславянскіх землях у 13—18 ст. Узніклі ў канцы 13 ст. для тлумачэння царк.-слав. і іншамоўных слоў, найб. пашырыліся ў 16—17 ст. Зберaглося каля 200 спісаў А. Прыклад бел. А.— «Лексекон вкротце албо речник выборных речей к словенщизне закритых» (1660). Матэрыял у А. падаецца ў азбучным (алфавітным) парадку. Спосабы тлумачэння слоў розныя: часам раскрываецца паходжанне незразумелага слова, а сэнс высвятляецца шляхам перакладу або параўнання з адпаведнымі словамі інш. моў; часам даюцца толькі сінонімы; некаторыя характарыстыкі паняццяў і рэалій нагадваюць энцыклапедычныя апісанні. Існавалі таксама навучальныя, павучальныя і змешаныя А. для школ. У іх даваліся пачатковыя звесткі па граматыцы, арыфметыцы, гісторыі, прыродазнаўстве і інш. дысцыплінах, парады настаўнікам, правілы паводзін вучняў. А. садзейнічалі дэмакратызацыі тагачаснай літ. мовы і пашырэнню свецкай адукацыі, далі пачатак развіццю слоўнікаў і энцыклапедый.

*Літ.*: Ковтун Л.С. Древние словари как источник русской исторической лексикологии. Ленинград, 1977.

***Міхаіл Суднік.***

**Азямблоўскі** Ян (3.2.1655, Мазовія—13.12.1704), дзеяч каталіцкай царквы. У 1671 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. Выкладаў філасофію і матэматыку ў Пултуску (1687—89), Нясвіжы (1689—91) і Вільні (1692—95), прэфект студый у Полацку (1695—96), дворны місіянер віленскага ваяводы К.Я.П.Сапегі і вайсковы місіянер у Вільні (1696—1704). Захаваліся рукапісы яго лекцый па філасофіі.



**Айгуст**, князь пскоўскі ў 2-й пал. 13 ст. Паводле паведамлення Наўгародскага 1-га летапісу, у 1270 вял. кн. уладзімірскі, цвярскі і наўгародскі Яраслаў Яраславіч паставіў княжыць у Пскове А. — князя невядомага, пэўна, літоўскага паходжання. Пазнейшы летапіс памылкова перадае яго імя як «Аўгуст». Перад гэтым у Пскове княжыў *Даўмонт*, магчыма, А. быў адным з яго праціўнікаў у Літве. Аднак княжанне А. не было доўгатэрміновым, і Даўмонт хутка вярнуў свой пасад.

**Айгуста** (у праваслаўі Настасся; каля 1320—11.3.1345), вял. княгіня маскоўская, 1-я жонка вял. кн. Сямёна Іванавіча Гордага. Была малодшай (?) дачкой вял. кн. літ. Гедзіміна. Шлюб адбыўся зімой, у канцы 1333, калі Сямёну было 16 гадоў. Пры заключэнні шлюбу яго бацька, вял. кн. маскоўскі Іван Данілавіч Каліта шукаў падтрымкі літоўцаў у барацьбе з Ноўгарадам, аднак хутка, у 1335, сам уступіў у канфлікт з ВКЛ. Пасля смерці бацькі (1340) Сямён стаў вял. князем маскоўскім. Ад А. меў сыноў Васіля (1337—38) і Канстанціна (1341, пражыў 1 дзень), дачку Васілісу (з 1350 жонка Міхаіла, сына кн. цвярскога і кашынскага Васіля Міхайлавіча; памерла у 1369). А. пахавана ў Маскве ў саборнай царкве Праабражэння Спаса на Бары, якую сама заснавала.

**Акмяне** (Akmenė), горад у Акмянскім р-не Літоўскай Рэспублікі, гл. *Акмяны*.

**Акмяны** (літ. Акмяне, Akmene, цяпер горад у Акмянскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойці, на р. Дабікіне (прыток Венты). Вядомы з 1511 як двор жамойцкага старасты С.Я.Кезгайлы. Адносіліся да павета Вял. Дырвяны. 14.9.1531 вял. кн. Жыгімонт Стары даў дырвянскаму цівуну Я.Станковічу-Білевічу прывілей на заснаванне ў А. мястэчка з правам праводзіць таргі і трымаць корчмы. У сярэдзіне 16 ст. прайшла валочная памера. У 1561 мястэчка мела гандл. плошчу, 3 вуліцы, 82 пляцы, 28 корчмаў. У 1596 каралева польск.і вял. княгіня літ. Ганна Ягелонка заснавала ў А. парафіяльны касцёл Св. Крыжа са школай (апошняя ўпамінаецца таксама ў 1652). З 17 ст. і да 1717 цэнтр нягродавага старосты. У сярэдзіне 17 ст. і ў 1705 разбураны шведскімі войскамі. Ваенныя падзеі і мор 1710—11 прывялі да вынішчэння мястэчка. У 1754 А. атрымалі прывілей на таргі і 4 кірмашы штогод, 13.6.1792 — магдэбургскае права. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Акольскі** (Okolski) Шыман (1580, г. Камянец-Падольскі—10.6.1653), польскі гісторык, геральдык. Д-р тэалогіі (1641). З шляхецкага роду герба «Рава». Вывучаў філасофію і тэалогію ў Львове і Балонні. Уступіў у ордэн дамініканцаў. Быў прапаведнікам пры войску гетмана М.Патоцкага, якое змагалася супраць укр. казакоў у 1637— 38. Гэтыя падзеі апісаў у кнігах «Dyaryusz transacyi wojennej między wojskiem koronnem i zaporoskim w r. 1637 miesiąca Grudnia przez Mikołaja Potockiego zaczętej i dokończonej», Замосце, 1638) і «Kontynuacya dyaryusza wojennego…» (Кракаў, 1639). У 1648— 52 А. ўзначальваў Рускую правінцыю ордэна дамініканцаў, гісторыю якой выклаў у кнізе «Russia florida rosis et lillis» (Львоў, 1646; 7-е выд. Лейпцыг 1759). Склаў каталог рымска-каталіцкіх біскупаў Кіева і Чарнігава «Kioviensium et Czernichoviensium episcoporum etc. ordo et numeris descriptus» (Львоў, 1646). Гал. праца А. — генеалагічна-геральдычны даведнік «Польскі свет» («Orbis polonus», т. 1—3, Кракаў, 1641— 45), які ўтрымлівае багаты матэрыял па шляхецкіх родах ВКЛ. Гэта праца ў значнай меры заснавана на гербоўніках Б.*Папроцкага* і А.*Каяловіча*, але ўтрымлівае і арыгінальны матэрыял 17 ст., дзякуючы чаму захоўвае навук. каштоўнасць.

*Тв.*: Biskupów kijowskich i czerniechowskich świętego katolickiego Rzymskiego kóscioła porządek i liczba. Kraków, 1853; Dyaryusz transakcyi wojennej między wojskiem koronnem i zaporoskim w r. 1637 tudzież Kontynuacya dyaryusza wojennego w roku 1683. Kraków, 1858; Копия диариуша експедицией военной од ихъ милостей панов гетманов коронных и рицерства полскаго з козаками ребелезуючими отправленой в року 1638, а описаной през велебного отца Симона Околского // Летопись событий въ Юго-Западной России в XVII веке, составил Самоил Величко. Киев, 1864. Т. 4.

*Літ.*: Krzyżanowski S. De Simonis Okolscii vita et scriptis historicis. Kraków, 1870 (змешчана бібліяграфія прац А.).

ORBIS
POLONVS.
Splendoribus cæli: Triumphis mundi:
Pulchritudine animantium: Decore aquatilium:
Naturæ excellentia reptilium,
CONDECORATVS.
IN QVO
ANTIQVA SARMATARVM GENTILITIA,
PERVETVSTÆ NOBILITATIS POLONÆ
INSIGNIA,
Vetera & Noua Indigenatus meritorum præmia & Arma,
specificantur & relucent.
Nunc primùm, vt Latinitati consecratus, ita claritate & veritate perspicuus.
AVTHORE
R. P. Fr. SIMONE OKOLSKI, S. Th. Bacc. Ordinis Prædic. Prouinciæ Russiæ, Priore Cameń. & Illustriss: Potocij Campiductoris Regni, Ordinario Concionatore.
CRACOVIÆ,
In Officina Typographica Francisci Cæsarij,
Anno Dñi, 1641.

Ш.**Акольскі**. Польскі свет. Т. 1. Кракаў. 1641. Тытульны ліст.

**акраверш** (ад грэч. ákros крайні + лац. versus верш), верш, у якім рытмічная выразнасць дапаўняецца зрокавай: першыя літары яго радкоў (прачытаныя зверху ўніз або знізу ўверх) складаюць імя ці нават фразу. Звычайна гэта ўказанне, каму адрасаваны верш — прызнанне ў каханні, пажаданне і інш. А. сустракаюцца ў аўтараў паўд.-слав. паходжання — Грыгорыя *Цамблака* і Пахомія Лагафета. Першыя ва ўсх.-слав. паэзіі А. пісаў Ф.Скарына. Даследчык стараж. рукапісаў і выданняў А.Турылаў выявіў у яго «Малой падарожнай кніжцы» (Вільня, 1522) З А.: «Делал доктор Скоринич Франціскоус», «Писал доктор Скоринич Францискус» і алфавітны, які складаецца з 24 літар ад А да Ω з улікам асаблівасцей кірылічнага алфавіта.

*Літ.*: Турилов А.А. Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции: (к вопросу о научном описании и изучении рукописей традиционного содержания) // Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. Ленинград, 1981.

**актоіх** (асмагласнік; ад грэч. οχτω восем + ηχος глас), адна з галоўных богаслужэбных кніг праваслаўнай царквы, якая змяшчае паслядоўнае выкладанне песнапенняў «васьмі гласаў». Існуе ў простым (ненатаваным) і пеўчым (натаваным, нотным) відах. Музыка выкладаецца крукавой, квадратнай лінейнай і сучаснай натацыямі. А. найбольш ярка, чым інш. богаслужэбныя кнігі, адлюстроўваюць найважнейшыя заканамернасці структурнай арганізацыі сістэмы асмагласся. Ненатаваны рукапісны А. бярэ пачатак з візантыйскай традыцыі выконваць песнапенні ў кожны з 8 дзён Вялікадня на асобы глас. У пач. 6 ст. з святочных гімнаў, сгрупаваных па 8 гласах, сірыйскім патрыярхам Севірам быў складзены зборнік песень «Актоіх». Аўтарамі песнапенняў А. былі царк. гімнографы 8—13 ст. Іаан Дамаскін, Феадор Студыт, Іосіф Песнапісец і інш. Натаваныя рукапісныя А. з'явіліся ў канцы 16 ст. З гэтага часу на землях ВКЛ пачалося выданне А., якія выходзілі з друкарняў Вільні (Васіля Гарабурды, 1582), Магілёва (С.Собаля, пасля 1638; брацкай, 1730, 1740, 1754), Куцейна (Собаля, каля 1632; Богаяўленскага манастыра, 1646), перадрукоўваліся і перапісваліся на працягу 17—20 ст., у т.л. ў стараверскім асяроддзі (у Ветцы). На сённяшні час ненатаваныя і натаваныя А., напісаныя і надрукаваныя ў перыяд ВКЛ і больш позні час, захоўваюцца ў шматлікіх бел., рас., літ., польскіх і інш. музейных і бібліятэчных фондах. Самыя вял. зборы А. у Беларусі (каля 70 кніг, у т.л. ў адным пераплёце з інш. кнігамі) у Нац. б-цы Беларусі, Цэнтр. навук. б-цы НАН Беларусі, Веткаўскім музеі нар. творчасці.

*Літ.*: Пікарда Г. дэ. Царкоўная музыка на Беларусі, 989—1995. Мінск, 1995; Гусейнова З.М. Октоих нотированный: (по материалам рукописей XV—XVII вв.) // Дни славянской письменности и культуры: материалы Всерос. конф. Владивосток, 1998. Ч. 1; Дожына Н. Спеўная кніга Актоіх на Беларусі // Музычная культура Беларусі: пошукі і знаходкі: матэрыялы VII навук. чытанняў памяці Л.С.Мухарынскай, Мінск, 8—10 крас., 1998 г. Мінск, 1998; Яе ж. Состав и редакции певческой книги Октоих на примере трех старообрядческих кодексов из минских собраний // Вопросы музыкознания и философии музыки. Мінск, 2003; Киприан (Керн К.). Литургика: гимнография и эортология. М., 1999; Бражников М.В. Русская певческая палеография. Санкт-Петербург, 2002.

***Наталля Дожына.***


1


2


3

**Актоіх**: 1 — Куцейна. 1646. Тытульны ліст; 2 — Ветка. Пач. 19 ст. Аркуш 124; 3 — Ветка. 1824. Тытульны ліст.

**«Акты археаграфічнай экспедыцыі»** («Акты, собранные в библиотеках и архивах Российской империи Археографическою экспедициею Императорской Академии Наук», ААЭ), серыйнае выданне дакументаў па гісторыі Расіі і суседніх краін. Выдадзена Археаграфічнай экспедыцыяй (камісіяй) у 4 тамах у Санкт-Пецярбургу ў 1836—38. Том 1 ахоплівае 1294—1598, т. 2 — 1598—1613, т. 3 — 1613—45, т. 4 — 1645—1700. Сярод апублікаваных дакументаў дагаворныя граматы вял. і ўдзельных князёў 14—15 ст., даравальныя граматы духоўным і свецкім феадалам, устаўныя, тарханныя, губныя, мытныя, судныя граматы, дыпламатычныя дакументы і інш. Апублікаваны дагаворы Полацка з Рыгай і Гоцкім берагам 13 ст., перапіска вял. княгіні літ. Алены Іванаўны з бацькам, вял. кн. маскоўскім Іванам III і сваякамі (т. 1), дакументы, што тычацца войнаў Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18 (т. 2), Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34 (т. 3) і 1654—67, дзейнасці Сімяона Полацкага (т. 4). Выдадзены імянны, геаграфічны і прадметны паказальнікі (Санкт-Пецярбург, 1838).

*Літ.*: Павлов-Сильванский Н.П. Погрешности актов Археографической экспедиции // Летопись занятий Императорской Археографической комиссии за 1904 год. Санкт-Петербург, 1907. Вып. 17.

**«Акты гістарычныя»** («Акты исторические, собранные и изданные Археографическою комиссиею», АИ), серыйнае выданне дакументаў па гісторыі Расіі і суседніх краін. Выдадзена Археаграфічнай камісіяй у 5 тамах у Санкт-Пецярбургу ў 1841—43. Том 1 ахоплівае 1334—1598, т. 2 — 1598—1613, т. 3 — 1613—45, т. 4 — 1645—76, т. 5 — 1676—1700. Сярод апублікаваных дакументаў дагаворныя граматы вял. і ўдзельных князёў 14—15 ст., даравальныя граматы духоўным і свецкім феадалам, наказы ваяводам і приставам, устаўныя граматы, дакументы аб зборы дзярж. даходаў і інш. Апублікаваны Судзебнікі 1497 і 1550,

дакументы аб адносінах Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ, справа аб уцёках у ВКЛ разанскага кн. Івана Іванавіча ў 1521 (т. 1), дакументы аб вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18 (т. 2), ліквідацыі наступстваў вайны, Марыне Мнішак (т. 3), аб вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 (т. 4). Выдадзены імянны і геаграфічны паказальнікі (1843).

**«Акты Маскоўскай дзяржавы»** («Акты Московского государства», АМГ), серыйнае выданне дакументаў па гісторыі Расіі і суседніх краін. Выдадзена Пецярбургскай АН пад рэдакцыяй Н.А.Папова і Дз.Я.Самаквасава ў 3 тамах у Санкт-Пецярбургу ў 1890—1901. Том 1 ахоплівае 1571—1634, т. 2 — 1635—59, т. 3 — 1660—64. Апублікаваны дакументы з Маскоўскага стала Разраднага прыказа з Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі (цяпер у Рас. дзярж. архіве старажытных актаў), у асн. дакументы бягучага справаводства, якія асвятляюць паліт. і ваенную гісторыю Расіі, у т.л. вайну Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18, войны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34 і 1654—67.

**«Акты Тургенева»** («Акты исторические, относящиеся к России, извлеченные из иностранных архивов и библиотек... А.И.Тургеневым», «Historica Russiae Monumenta ex antiquis exterarum gentium archivis et bibliothecis deprompta ab A.I.Turgenevio»), серыйнае выданне дакументаў па гісторыі Расіі і суседніх краін. Выдадзена А.І.Тургеневым у 2 тамах у Санкт-Пецярбургу ў 1841—42. Том 1 ахоплівае 1075—1584, т. 2 — 1231—1719. У 1848 Археаграфічная камісія выдала працяг: «Дополнения к Актам историческим, относящимся к России. Собраны в иностранных архивах и библиотеках». Апублікаваны дакументы з Ватыканскага тайнага архіва, рымскіх, англійскіх, французскіх архіваў і бібліятэк, у асн. на лац., таксама на французскай, англійскай, італьянскай, нямецкай, грэчаскай, польск. мовах: папскія булы, лісты пап Гедзіміну, Ягайлу, Вітаўту, данясенні папскіх нунцыяў і легатаў, інструкцыі С.*Герберштэйну*, А.*Пасевіна*, дыпламатычная перапіска, лісты Івана Грознага, Стафана Баторыя, творы пра Расію замежных аўтараў. Дакументы асвятляюць працэс заключэння *Берасцейскай уніі 1596*, адносіны Рэчы Паспалітай з Расіяй, Інфлянцкую вайну 1558—82, вайну Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18 і інш.

**«Акты цэхаў віленскіх 1495—1759»** («Akty cechów wileńskich 1495—1759»), зборнік дакументаў па сацыяльна-эканамічнай і гаспадарчай гісторыі Вільні. Выдадзены Я.Юркевічам у Познані ў 2006. Уключае матэрыялы, падрыхтаваныя ў 1920—30-х г. віленскімі гісторыкамі Генрыкам Лаўмянскім, Марыяй Лаўмянскай, Станіславам Касцялкоўскім. У той час кніга ў асн. была надрукавана (без тытульнага ліста), але тыраж амаль цалкам загінуў у ходзе ваенных дзеянняў 1939. У т. 1 змешчана 487 дакументаў перыяду 1495—1700, у т. 2 — 344 дакументаў за 1701—59. Матэрыялы на лац., старабел. і польск. мовах. Сярод дакументаў цэхавыя прывілеі і статуты, судовыя выракі, перапіска, якая тычыцца рамесных цэхаў і інш. з архіваў Вільні, Варшавы і Кракава, ранейшых археагр. выданняў. Юркевіч у прадмове асвятліў гісторыю падрыхтоўкі кнігі, забяспечыў выданне пералікам апублікаваных дакументаў, бібліяграфіяй, імянным і геаграфічным паказальнікамі.

**Акулаў** Герасім (Гераська; ?, г. Дуброўна—пасля 1686), разьбяр па дрэве. Майстэрству разьбы вучыўся ў Куцеінскім Богаяўленскім манастыры. У час *Вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* выехаў у Расію. У 1654—58 працаваў у Іверскім Валдайскім манастыры, у 1658—66 у Новаіерусалімскім манастыры на Істры, куды быў запрошаны патрыярхам Ніканам. У 1666 пераведзены ў Збройную палату Маскоўскага Крамля ў арцель К.*Міхайлава*. У 1667—68 удзельнічаў у аздабленні Каломенскага палаца. Вядомы як адзін са стваральнікаў разьбяных іканастасаў 3 цэркваў у Ізмайлаўскай сядзібе цара Аляксея Міхайлавіча. У сак. 1686 удзельнічаў у стварэнні іканастаса царквы Пятра і Паўла ў Маскве.

**акчэ** (а к ш э; па-турэцку белаваты), дробная сярэбраная манета Турцыі ў 14—19 ст., Крымскага ханства ў 15— 18 ст. Першапачаткова важыў 1,2 г пры пробе 900 праміле, да пач. 17 ст. яго маса знізілася да 0,3 г, да канца 17 ст. — да 0,1 г. (крымскі А. ў 15 ст. меў масу да 0,8 г, у 16 ст. — 0,5 г, у пач. 17 ст. — 0,3 г). На крымскіх А. на аверсе змяшчалася імя хана, на рэверсе — тамга, месца і год чаканкі. Крымскія А. (як і крымска-генуэзскія *аспры*) удзельнічалі ў грашовым абароце ВКЛ у 2-й пал. 15 ст., пераважна ў Сярэднім Падняпроўі і Усх. Падоллі. У Падняпроўі вядомы ў асн. адзінкавыя знаходкі А. хана Менглі-Гірэя апошняй чвэрці 15 ст. На Падоллі знойдзена некалькі скарбаў, у складзе якіх прысутнічаюць крымскія А. апошніх дзесяцігоддзяў 15 ст. У ВКЛ А. маглі называць аспрамі. Іл. гл. таксама ў т. 2, с. 152.

*Літ.*: Б ы ч к о в А.А. Монеты Турции XIV—XVII вв. Л., 1939; К а з у б о в с к и й Г.А. Обращение гирейских и крымско-генуэзских монет на украинских землях Великого княжества Литовского // «О древностях южного берега Крыма и гор Таврических»: сборник научных трудов: (по материалам конференции в честь 210-летия со дня рождения Петра Ивановича Кеппена). Киев, 2004.



**Акчэ** крымскага хана Менглі-Гірэя (канец 15 ст.) з археалагічных раскопак у Кіеве.

**Алабіяна** (Alabiano, Alabianus) Гарсія (1549, Таранкон у Арагоне, Іспанія — 24.7.1624), дзеяч каталіцкай царквы. З 1567 езуіт. Атрымаў грунтоўную адукацыю. У 1577 прыбыў у Польшчу. З 1578 праф. схаластычнай тэалогіі ў Віленскай акадэміі, у 1585—92 яе рэктар. Прыклаў шмат намаганняў для развіцця акадэміі, умацавання пазіцый каталіцтва. Яго высока цанілі каралі Стафан Баторый і Жыгімонт III. Быў спаведнікам віленскага біскупа Ю.*Радзівіла*, разам з ім у 1592 выехаў у Кракаў. У 1599 узначальваў Польскую правінцыю ордэна езуітаў. У 1599 су-

праваджаў Радзівіла ў паездцы ў Рым, пасля яго смерці (1600) рэктар калегіума ў Сарагосе.

*Літ.*: Piechnik L. Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 1. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**Аланд** Ян (псеўд. Трызна Пётр Казімір; каля 1559, г. Львоў—14.3.1641), дзеяч каталіцкай царквы. Каля 1586 узначаліў катэдральную школу ў Гнезне. З 1590 езуіт. Выкладаў рыторыку ў Яраслаўлі (1591—94), гуманітарныя прадметы ў Рызе. З 1600 жыў у Нясвіжы, прэфект студый (1604—06, 1613—14), прэфект Марыянскай кангрэгацыі (1609—13), прэфект бурсы (1618—19), інструктар 3-й прабацыі (1619—20), рэктар калегіума (1620—23). Пры двары М.К.*Радзівіла* Сіроткі быў прапаведнікам і выхавацелем яго сыноў. Пад псеўданімам П.К.Трызна выдаў пераклад на польск. мову 5 сярэдневяковых трактатаў, што прыпісваліся св. Аўгусціну. Аўтар кнігі «Аб цудах божых ангелаў у касцёле св. Міхаіла Архангела каля Нясвіжа» («O cudach SS. Aniołów Bożych w kościele św. Michała Archanioła blisko Nieświeża», Вільня, 1630).

*Літ.*: Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. T. 1. Kraków, 1999.

**Александровіч** Канстанцін, жывапісец 2-й пал. 18 ст. (творы датуюцца 1777—94). Мяркуецца, што мог быць вучнем Л.Смуглевіча. Працаваў на Беларусі (Нясвіж, маёнтак І.Ф.Мараўскага Завушша недалёка ад Нясвіжа), каля 1785 пераехаў у Варшаву. Вядомы як партрэтыст. Выконваў заказы арыстакратыі і караля. Рабіў таксама ў вял. колькасці копіі з партрэтаў мінулых эпох, а таксама сучасных яму мастакоў (М.Бачарэлі). Працягваў традыцыі парcaptured параднага партрэта 17—18 ст. Творчасці ўласцівы яркая дакладная характарыстыка мадэлі, увага да дэталей, выкарыстанне дэкаратыўных плям чыстага колеру. Найб. вядомыя творы А. — партрэты К.С.Радзівіла Пане Каханку (1786), К.Красінскага (1786), Р.Граноўскага (1793), Я.Машынскага, Кацярыны II (1777). У Львоўскім музеі імя Любамірскіх захоўвалася каля 35 работ мастака, пераважна копіі т.зв. гіст. партрэтаў з калекцыі маёнтка Завушша. Творы зберагаюцца ў Літве (Вільнюс), Польшчы, Украіне (Львоў) і інш.

*Літ.*: Piwkowski W. Konstanty Aleksandrowicz — warszawski malarz-portrecista z ostatniej ćwierci XVIII wieku // Rocznik Muzeum Narodowego w Warszawie. Warszawa, 1987. T. 31.

**Алена** (паміж 1315 і 1319 — пасля 1339), княгіня звянігарадская, жонка кн. Андрыяна Цітавіча. Дачка вял. кн. літ. Гедзіміна. Ніканаўскі летапіс паведамляе, што звянігарадскі кн. Андрыян Цітавіч, унук карачаўскага кн. Мсціслава Міхайлавіча, ажаніўся з А., дачкой літ. кн. Гаманта (відаць, гэта сапсаванае імя Гедзіміна). Мяркуецца, шлюб быў заключаны пасля 1331. Аўдавела ў 1339.

**Алена** (каля 1360—15.9.1437), княгіня серпухаўска-бароўская, жонка кн. Уладзіміра Андрэевіча. Дачка вял. кн. літ. Альгерда і яго 2-й жонкі Ульяны Аляксандраўны. Шлюб быў заключаны ў час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72*. Летам 1371 паслы Альгерда ў Маскве дамовілся пра перамір'е, якое было замацавана заручынамі паміж А. і Уладзімірам Андрэевічам — стрыечным братам вял. кн. маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча. Шлюб быў заключаны ў пач. 1372. Аднак пасля гэтага ваенныя дзеянні працягваліся. Мела сыноў Івана (кн. серпухаўскі), Андрэя, Сямёна (кн. бароўскі), Яраслава, Фёдара, Андрэя (кн. раданежскі), Васіля (кн. перамышльскі). Аўдавела ў 1410. Перад смерцю прыняла манаства з імем Еўпраксія.

**Алена** (каля 1390—пасля 1449), княгіня раціборгская, жонка кн. Януша II. Дачка кн. Карыбута. У студз. 1407 выдадзена замуж за Януша II з лініі опаўскіх Пшэмысловічаў (Сілезія). Мяркуецца, што шлюб адбыўся ў Вільні, дзе раціборгскага князя прадстаўлялі яго паслы. Першапачаткова была праваслаўнай, пасля заключэння шлюбу мусіла прыняць каталіцтва. Аўдавела ў 1424. Мела сыноў Мікалая, Вацлава, дачку Малгажату.

**Алендскі** Станіслаў (каля 1760—93), дзяржаўны дзеяч. З роду *Алендскіх*, сын Стафана *Алендскага*. З 1788 ротмістр нац. кавалерыі. З маладосці ўцягнуты ў маёнткавыя судовыя справы са сваякамі — Пакашамі. На карысць апошніх у 1782 выказаўся Віленскі земскі суд, што прымусіла А. і яго сваякоў звярнуцца за падтрымкай да караля польскага і вял. князя літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які зычліва ставіўся да вернага яму роду А. У 1790 абраны паслом ад Жамойці на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*. Належаў да Таварыства прыяцеляў Канстытуцыі. Выступаў за стварэнне Нац. банка ў інтарэсах сярэдняй шляхты, за павышэнне абараназдольнасці краіны. У 1791 атрымаў ордэн св. Станіслава. У час абарончай вайны з Расіяй 1792 служыў ротмістрам у Пінскай брыгадзе нац. кавалерыі. Меў маёнткі Прамежы ў Ваўкавыскім і Лаўкі ў Лукаўскім паветах.

**Алендскі** Стафан (1703—71), дзяржаўны дзеяч. Ваўкавыскі маршалак з 1740, падчашы ВКЛ з 1764, канюшы ВКЛ з 1765. Паходзіў з кальвінісцкага роду. Яго бацька Багуслаў пасля бітвы пад Алькенікамі ў 1701 быў прызначаны сканфедэраванай шляхтай генеральным аканомам «*Нойбургскіх маёнткаў*». Род Алендскіх разбагацеў, трымаючы ў заставе гэтыя маёнткі. Калі новыя ўладары «Нойбургскіх маёнткаў» Радзівілы ў пач. 1730-х г. пачалі выкупляць застаўленыя ўладанні, то на абарону А. стаў яго стрыечны брат Багуслаў Незабытоўскі. А. перайшоў у каталіцтва, што дало яму магчымасць стаць паслом на сойм 1738 і выступаць там супраць Радзівілаў. Аднак Радзівілы ў 1739 выйгралі ў Трыбунале ВКЛ судовыя справы з Незабытоўскім і А. У 1740, пасля сканчэння кантракта аб заставе, падчашы ВКЛ Г.Ф.Радзівіл з дапамогай зброі вярнуў сабе маёнткі Стажынкі і Рудзіцы. Некалькі паветовых соймікаў у 1740 уключылі ў інструкцыі сваім паслам пункты ў падтрымку А. і інш. пасэсараў «Нойбургскіх маёнткаў». На сойме 1740 Радзівілы пад пагрозай соймавага суда і пад ціскам каралеўскага двара пагадзіліся на перагаворы з А. пры пасрэдніцтве падканцлера ВКЛ М.Чартарыйскага. У выніку Радзівіламі ў 1741 была працягнута застава Стажынак. У 1744 і 1748 А. спрабаваў вярнуць грошы, па-



зычаныя яго бацькам рэйнскаму электару Карлу Філіпу як уладальніку «Нойбургскіх маёнткаў». У 1745 беспаспяхова дамагаўся праз суд вярнуць пазыкі ад Радзівіла. На соймах 1748, 1752 і 1761 А. падтрымаў праграму рэфармавання дзярж. ладу, прапанаваную Чартарыйскімі. Пад час бескаралеўя 1763—64 А. быў адным з актыўных прыхільнікаў абрання на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. 6.2.1764 А. абраны маршалкам канфедэрацыі Ваўкавыскага пав. У 1765 адным з першых атрымаў ордэн св. Станіслава. З 1765 член Скарбовай камісіі ВКЛ. Па жаданні караля разам са Скарбовай камісіяй далучыўся да канфедэрацыі С.Бжастоўскага, але абараняў рэформы, прынятыя з 1764.

*Літ.*: М а ц у к А. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» (1730—1740-я гады) // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 3; Я г о ж. Рух пасэсараў «нойбургскіх уладанняў» // Геральд Litherland. 2007. № 17; Z i e l i ń s k a T. Kariera i upadek żydowskiego potentata w dobrach radziwiłłowskich w XVIII wieku // Kwartalnik Historyczny. 1991. №3; L e s i ń s k i J. Spory o dobra neuburskie // Miscellanea Historico-Archivistica. Warszawa, 1996. T. 6; P a l k i j H. Sejmy 1736 i 1738 roku: U początków nowej sytuacji politycznej w Rzeczypospolitej. Kraków, 2000.

***Андрэй Мацук.***

**Алендскі** Стафан (каля 1720, в. Мачульна, Ваўкавыскі пав.—2.9.1763), дзеяч кальвіністкай царквы. З кальвіністкай шляхецкай сям'і. Скончыў Слуцкую гімназію, вучыўся ў Сарбоне ў Парыжы. Пасля вяртання на радзіму атрымаў у 1745 сціплую пасаду старасты сітнаўскага (цяпер в. Малое Сітна Полацкага р-на). З прычыны пратэстанцкага веравызнання А. не здолеў ва ўмовах контррэфармацыі зрабіць значную кар'еру. У 1743 ажаніўся з Ганнай Людвікай Красінскай (памерла ў 1756), дачцы старасты гомельскага і прапойскага Мікалая Красінскага. У 1757 у Сітне А. пераклаў з французскай на бел.-польск. макаранічную мову 2-ю частку культавай кнігі пратэстантаў Еўропы «Шлях пілігрыма...» брытанскага пратэстанта і вязня сумлення Джона Баньяна (John Bunyan, «The Pilgrim's Progress from This World to That Which Is to Come»). Упершыню ў Рэчы Паспалітай частку гэтай кнігі пераклаў у 1728 стараста бабруйскі, кальвініст С.Р.Цадроўскі (гэта праца выйшла ў 1764 у Караляўцы, дзе пратэстанты Літоўскай Ядноты здолелі стварыць у 1708 сваю друкарню, пасля таго як апошняя пратэстанцкая друкарня ВКЛ у Слуцку была зачынена ў 1687 пад ціскам езуітаў). Пераклад А. («Droga pielgrzymującego chrześcijanina do wieczności błagosławionej») выйшаў у Караляўцы ў 1775. Магчыма, А. — аўтар іншых перакладаў і выданняў друкарні Літоўскай Ядноты ў Караляўцы. Пераклад А. стаў асновай для перакладa гэтага твора на мазурскі (прускі) дыялект польск. мовы (1900).

*Літ.*: K o n a r s k i S. Szlachta kalwińska w Polsce. Warszawa, 1936; K r i e g s e i s e n W. Ewangelicy polscy i litewscy w epoce saskiej. Warszawa, 1996.

***Андрэй Катлярчук.***

**Алендскія**, шляхецкі род герба «Равіч». Паходзілі з Мазовіі, потым перасяліліся на Падляшша, дзе мелі маёнтак Аленды ў Браньскім пав., з 1520-х г. жылі ў Ваўкавыскім пав. З сярэдзіны 15 ст. прадстаўнікі роду — актыўныя вызнаўцы кальвінізму. Валодалі маёнткамі пераважна ў Ваўкавыскім пав., а таксама ў Расейнскім, Шаўліскім, Ковенскім, Менскім паветах. Мелі гарадскія пляцы ў Ваўкавыску і Вільні. Найб. вядомыя:

С т а н і с л а ў (?—пасля 1529), пачынальнік галіны роду на тэр. ВКЛ. Стараста жамойцкі, намеснік высоцкі і гарадзішчанскі, войскі мельніцкі (1530); прывілеем караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта I Старога ў 1527 атрымаў ленны маёнтак Хрустаў з фальваркам Сцыбакоўскі і в. Ятулты ў Ваўкавыскім пав., у 1529 фундаваў алтарыю пры Мсцібаўскім касцёле. Меў сыноў Крыштофа і Януша.

К р ы ш т о ф (?—1565), сын Станіслава. Першы раз узгадваецца ў крыніцах у 1538. Каля 1545 прызначаны каралеўскім дваранінам Жыгімонта II Аўгуста. У 1553 удзельнічаў у рыцарскім турніры ў Кракаве, арганізаваным у сувязі са шлюбам Жыгімонта II Аўгуста з Кацярынай Габсбург. Стараста браньскі і суражскі (1558). Дэлегат ад падляшскай шляхты ВКЛ на Варшаўскі сойм 1563—64 у справе уніі з Каронай Польскай. Валодаў маёнткамі на Падляшшы (Ходаў, Скверчын Рускі, Пільчава). Двойчы ў шлюбе. Меў дачок Кацярыну і Малгажату ад 1-га і сына Адама ад 2-га шлюбу.

Я н у ш (?—1580), сын Станіслава. Цівун платэльскі ў Жамойцкай зямлі (1540), стараста браньскі (1565). Пачынальнік кальвінскай галіны роду ў ВКЛ. Ленны ўладальнік маёнтку Хрустаў з фальваркамі Яманты, Калонна і Лапеніца, дамоў і пляцаў у Ваўкавыску, у 1574 набыў у князя Шчаснага Яраславіча Галоўчынскага і яго жонкі Лізаветы з Хадкевічаў маёнтак Мачульна ў Ваўкавыскім пав. У шлюбе з Ганнай з Трызнаў меў сыноў Яна і Крыштофа, дачку Кацярыну.

К р ы ш т о ф (?—пасля 1602), сын Януша. Пры падзеле бацькавай спадчыны атрымаў маёнткі Мачульна, Дварэц Гнезненскі, Хрустаў, пляцы з дамамі ў Ваўкавыску, па прывілеях караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта III Вазы (1593 і 1603) валодаў в. Дзякі і Жылічы ў Ваўкавыскім старастве. У шлюбе з Ганнай Есьман меў сыноў Яна, Ежы, Крыштофа, Мікалая, дачок Хрысціну і Гальшку.

Е ж ы (?—пасля 1653), сын Крыштофа. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* удзельнічаў у выправе пад Смаленск, дзе атрымаў ад караля польскага і вял. князя літоўскага Уладзіслава IV прывілей на пасаду падсудка земскага Ваўкавыскага пав. (1633). Потым суддзя земскі ваўкавыскі (1650), пасол на соймы 1642, 1646, 1650, 1653. Валодаў маёнткам Хрустава. У шлюбе з Юстынай Быхавец меў сыноў Мікалая, Крыштофа, Тэафіла, Дыянісія, Ежы, дачок Марыяну і Кацярыну.

К р ы ш т о ф (?—1668), сын Крыштофа. Стольнік (1617), суддзя земскі (1634), падкаморы (1650) Ваўкавыскага пав. Пасол на элекцыю караля польскага і вял. князя літоўскага Яна II Казіміра (1648). Валодаў з падзелу бацькавай спадчыны маёнткам Мачульна з фальваркамі Гнезна і пляцамі ў Ваўкавыску, ленны ўладальнік в. Дзякі і Жылічы ў Ваўкавыскім старастве (1618).

Т э а ф і л (?—1708), сын Ежы, пачынальнік мачульненскай галіны роду.



Харужы, падкаморы (1678), маршалак (1694) Ваўкавыскага пав., маршалак Трыбунала ВКЛ (1686), пасол ад Ваўкавыскага пав. на шматлікія соймы, на элекцыі каралёў польскіх і вял. князёў літоўскіх Яна III Сабескага (1674) і Аўгуста II (1697). Праціўнік Сапегаў, удзельнічаў на чале ваўкавыскай шляхты ў *Алькеніцкай бітве 1700*. Актыўны дзеяч кальвінізму ў ВКЛ, апякун кальвінскага збору ў родавым маёнтку Мачульна, дырэктар сінодаў Літоўскай правінцыі кальвіністаў у Вільні (1680, 1681), Жупранах (1693) і Беліцы (1694). Уладальнік дзедзічных маёнткаў Мачульна, Харашкаўшчызна і Калантаі; стараста дзякаўскі і жыліцкі (Ваўкавыскі пав., 1683), дзяржаўца мастоўскі (1697—98). Двойчы ў шлюбе: у 1-м — з Аленай Маклок меў сыноў Ежы, Багуслава, Крыштофа, дачок Ганну, Кацярыну, Агнешку, Ядвігу, у 2-м — з Ефрасінняй Палубінскай меў дачок Юстыну і Тэафілю.

Е ж ы (?—пасля 1714), сын Тэафіла. Харужы (1703), маршалак (1713) Ваўкавыскага пав., пасол на соймы 1674, 1697, 1698, 1703, 1712. Стараста дзякаўскі і жыліцкі. У 1674 як электар з Ваўкавыскага пав. аддаў свой голас за Яна III Сабескага, у 1697 падпісаў ад Навагародскага ваяв. элекцыю Аўгуста II. Удзельнік Віленскай (1700) і Беліцкай (1704) канвакацый, Варшаўскай вальнай рады (1710). У 1708 быў прыхільнікам караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Ляшчынскага, у 1710 далучыўся да *Сандамірскай канфедэрацыі*. У гэты час вызначаны ў склад т.зв. Быхаўскай камісіі, якая павінна была атрымаць з рас. рук Быхаў, а таксама гарматы і амуніцыю з Быхава, Слуцка і інш. бел. гарадоў. Быў актыўным прыхільнікам кальвінісцкага веравызнання ў ВКЛ, дырэкатарам сінодаў Літоўскай правінцыі кальвіністаў у Койданаве (1699), Беліцы (1713), Слуцку (1714). Уладальнік маёнткаў Мачульна, Калантаі, Гнезна, Рось-Ваўкаўшчызна і Рось-Харошкаўшчызна. У шлюбе з Тэадорай з Пакашаў меў сыноў Яна, Тэафіла, Багуслава, Ежы Станіслава, дачок Рэгіну Гелену, Марыю, Катажыну, Тэафілу, Зоф'ю.

Г е д э о н (?—пасля 1737), сын Дыянісія, пачынальнікаў хрустаўскай галіны роду. Пісар гродскі, стражнік (1734) Ваўкавыскага пав., дэпутат Трыбунала ВКЛ (1716), пасол на Варшаўскі сойм 1735. Двойчы быў у шлюбе (у 1-м — з Рахеллю Глушынскай меў сына Ігнація Францішка, дачок Ганну Канстанцыю, Іагану, Тэадору, у 2-м — з Ганнай (удавой Францкевіча-Радзімінскага) меў сыноў Дыянісія і Ежы.

С т а ф а н (1703—2.3.1771), сын Багуслава, гл. *Алендскі* С.

Я н у ш, сын Стафана. Ротмістр войска ВКЛ, пісар Вайсковага дэпартамента Пастаяннай Рады (1778, 1780). Пры падзеле спадчыны атрымаў маёнтак Мачульна. У шлюбе з Канстанцыяй Чаховіч меў 5 сыноў і дачку.

*Літ.*: Ш а л а н д а А. Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павету ў другой палове XVI—XVIII стст. // Герольд Litherland. 2004. № 1—2; Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мінск, 2002; P a p r o c k i B. Herby rycerstwa polskiego 1584. Kraków, 1858; B o n i e c k i A. Herbarz polski. T. 16. Warszawa, 1899; K o n a r s k i S. Szlachta kalwińska w Polsce. Warszawa, 1936; Polski słownik biograficzny. T. 23. Warszawa, 1978.

***Генадзь Семянчук.***

**Алізар Шылавіч** (Алізар Кірдзеевіч; ?—1486), дзяржаўны дзеяч. Сын валынскага баярына Гаўрылы Кірдзеевіча Шылы, члена рады вял. князя Свідрыгайлы (1436—38). Быў адным з багацейшых землеўладальнікаў у Луцкім пав. У 1450 атрымаў ад вял. кн. літ. і караля польск. Казіміра прывілей на родавыя і падараваныя Свідрыгайлам маёнткі, якія з гэтага часу разглядаліся як яго вотчына. Гэта стала магчымым дзякуючы палітыцы Рады ВКЛ па ўмацаванні сваіх пазіцый на Валыні ў час спрэчак з Польшчай за валоданне валынскімі і падольскімі землямі. Магчыма, у 1453 А.Ш. разам з луцкім старастам Нямірам Разанавічам узначаліў антыліт. змову на Валыні, але хутка перайшоў на бок ВКЛ, што прынесла яму вышэйшыя валынскія пасады. З 1461 стараста ўладзімірскі, адначасова з 1463 маршалак Валынскай зямлі і з 1480 стараста луцкі. Памёр бяздзетным.

**Аліўскі манетны двор**, часовы манетны двор ВКЛ. Знаходзіўся на тэр. Аліўскага кляштара цыстэрцыянцаў каля Гданьска. Чаканіў медныя соліды Яна II Казіміра ў 1663. Арандатарам двара быў Анджэй Георг фон Горн, ініцыялы якога GFH змешчаны на аверсе пад партэтам караля. На рэверсе пад гербам «Пагоня» знаходзіцца родавы герб падскарбія ВКЛ Е.Белазора «Венява».

*Літ.*: J a n u š o n i s S. 1663—1667 m. Lietuvos Didziosios Kunigaikštystės pinigų kalyklų infliacinių vario šilingų kaldinimo nežinomos ataskaitos // Lietuvos istorijos metraštis, 1973 metai. Vilnius, 1974; Я г о ж. Проблемы дешифровки инициалов G.F.H. на литовских медных шилингах 1663—1667 гг. // Материалы межреспубликанской научной конференции по источниковедению и историографии народов Прибалтийских республик Союза ССР: Историография. Вильнюс, 1978.

***Іван Сінчук.***

**алтарыя**, фундуш, запіс на ўтрыманне богаслужэння ў пэўнага алтара ці ў капліцы касцёла (часцей кафедральнага, калегіяцкага або парафіяльнага, зрэдку кляштарнага). Вядома з канца 13 ст. А. засноўвала небагатая шляхта, якая не мела сродкаў на заснаванне асобнага касцёла, а таксама мяшчане і мяшчанскія суполкі (брацтвы, рамесныя цэхі). Фундарат звычайна сам вызначаў кола асоб, якія мелі права на А., колькасць мес, якія павінны былі адпраўляцца, кола асоб, за душу якіх павінны былі служыцца месы (сам фундатар, яго нашчадкі, члены цэха і іх родныя і г.д.), часам дадаваўся абавязак годнага пахавання фундатара. Забеспячэнне А. было нязначным, звычайна — участак зямлі. У Рэчы Паспалітай А. найб. былі распаўсюджаны ў 16—1-й пал. 17 ст. У адным касцёле часцей было 1—2 А. Каплана пры А. называлі алтарыстам (гэта ж і памочнік плябана). З канца 17 ст. А. з'яўляліся і ва уніяцкіх цэрквах ВКЛ.

**альвар**, шыракараспаўсюджаная назва граматыкі лацінскай мовы «De institutione grammatica», аўтарам якой з'яўляецца партугальскі езуіт Эмануэл Алварэш (1526—1582). Упершыню выдадзена ў Лісабоне ў 1572. Шырока выкарыстоўвалася ў школах Рэчы Паспалітай, дзе шмат перавыдавалася, упершыню ў Познані ў 1577, пасля ў Вільні (15 выданняў), Калішы, пазней у Полацку. Апошні раз выдадзена ў Пецярбургу ў 1840. Розныя выданні ма-



юць свае асаблівасці ў падачы матэрыялу, разбіўцы на класы і інш. У 18 ст. граматыку крытыкавалі піяры, аднак яна была ўведзена ў школы, падлеглыя Адукацыйнай камісіі.

*Літ.*: C y t o w s k a M. Od Aleksandra do Alvara: (Gramatyki łacińskie w Polsce w XVI w.). Wrocław, 1968.

**Альгімонт** (Альгімунт), міфічны вялікі князь новагародскі беларуска-літоўскіх летапісаў. Названы нашчадкам *Палемона*, сынам новагародскага кн. Траняты (летапісы Археал. таварыства, Рачынскага, Альшэўскі, Румянцаўскі), або Скіргайлы (летапіс Красінскага), або Скрыгайлы (Яўрэінаўскі летапіс), які княжыў, быццам, у сярэдзіне 13 ст. Пасля смерці Траняты заняў новагародскі трон. Пасля шматгадовага княжання пакінуў княства свайму сыну *Рынгальту*. «Хроніка літоўская і жамойцкая» (17 ст.) дадае, што А. «меў трохі непрыязні» з луцкім і белзскім кн. Давыдам Мсціславічам з-за мяжы падляшскай і белзскай.

**Альгімонт**, міфічны князь беларуска-літоўскіх летапісаў. Названы сынам кн. Гольшы (родапачынальніка *Гальшанскіх*), унукам вял. кн. Рамана з рода герба Кітаўрас. Упамінаецца пры апісанні падзей, аднесеных да сярэдзіны—2-й пал. 13 ст. Пасля смерці бацькі А. быў яшчэ малалетнім. Гэта выкарыстаў кн. Даўмонт, які з Пскова напаў на літ. землі, але быў разбіты кн. Лаўрышам. Той параіў панам ВКЛ абраць на трон Віценя, бо А. і інш. прэтэндэнт былі яшчэ маладыя. Легенда пра А. ўзнікла, відаць, у родзе князёў Гальшанскіх.

**Альгімонт**, міфічны князь. Хроніка Быхаўца паведамляе, што калі вял. кн. літ. Гедзімін захапіў Кіеў і Пераяслаў, то пасадзіў там княжыць вял. кн. гальшанскага А., сына кн. Міндоўга. Гэта легендарная звестка павінна была абгрунтаваць правы на Кіеў князёў *Гальшанскіх*, якія ў канцы 14—15 ст. былі наменікамі і ваяводамі ў Кіеве. Гэтай жа мэце служыў запіс у Кіева-Пячэрскім памінальніку, дзе ўпамінаецца кіеўскі кн. А. (у праваслаўі Міхаіл, у манастве Яўфімій). Некаторыя даследчыкі прымаюць верагоднасць звесткі пра заваяванне Кіева Гедзімінам і атаясамліваюць А. з кіеўскім князем невядомага паходжання *Фёдарам*, які ўпамінаецца ў 1331.

*Літ.*: Р у с и н а О. Студії з історії Києва та Київської землі. Київ, 2005.

**Алькенікі** (В а ў к і н і к і, літ. Валькінінкай, Valkininkai, цяпер мястэчка ў Варэнскім р-не, Літ. Рэспубліка), мястэчка ў Троцкім павеце, на р. Мерачанка (Мяркіс). Вядомы з пач. 15 ст. У 1418 вял. кн. Вітаўт падараваў А. разам з інш. маёнткамі сваёй жонцы Ульяне Гальшанскай, у 1428 пацвердзіў наданне. А. былі дзярж. уладаннем, з 1503 упамінаюцца як цэнтр воласці, якая звычайна давалася ў трыманне намеснікам (дзяржаўцам), пасля былі цэнтрам нягродавага староства. У 16 ст. ў А. быў велікакняжацкі двор. Вял. княгіня Бона заснавала касцёл, які дадаткова быў забяспечаны Стэфанам Баторыем (1581—82) і Жыгімонтам III (1602). У 1551 у А. заснавана дзярж. пушкарня, якая дзейнічала да сярэдзіны 17 ст. У пач. 17 ст. ў А. было 136 дымоў, да 1000 жыхароў, упамінаецца Руская вуліца, што сведчыць, відаць, аб наяўнасці правасл. насельніцтва. У 1636 мечнік ВКЛ М.К.Халецкі заснаваў кляштар францысканцаў, дзе з 1765 захоўваліся рэліквіі св. Баніфацыя. Мястэчка моцна пацярпела ў сярэдзіне 17 ст., у час войнаў з Расіяй і Швецыяй. Непадалёк ад А. адбылася *Алькеніцкая бітва 1700*. 22.11. 1700 канфедэрацыя шляхты ў А. прыняла рашэнне пра сваё падпарадкаванне М.С.Вішнявецкаму, які быў абвешчаны генеральным палкоўнікам ВКЛ. У час *Паўночнай вайны 1700—21* пад А. 22.2.1706 адбыўся бой паміж войскам шведскага палкоўніка Дукера і яго саюзнікаў з ВКЛ, з аднаго боку, і рас. дывізіяй Боўра і яго саюзнікаў, з другога. З 1777 вядома парафіяльная школа. У 1789 было 112 дымоў. 26.6. 1792 А. атрымалі магдэбургскае права і герб з выяваю жоўтага льва на чырвоным фоне. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Ž i l ė n a s V. Šaunamųjų ginklų kalykla Valkininkuose XVI a. // Iš lietuvių kultūros istorijos. T. 1. Vilnius, 1958; M i š k i n i s A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybės. T. 2, kn. 1. Vilnius, 2002; R a č i ū n a i t ė T. Šv. Bonifaco kankinio relikvijos Valkininkų bažnyčioje // Menotyra. 2004. № 2.

**Алькеніцкая бітва 1700**, вырашальная бітва 18 ліст. паміж сіламі *рэспубліканцаў* і сапегаўцаў у ходзе *феадальнай вайны 1697—1702*. Адбылася каля мяст. *Алькенікі* (цяпер мяст. Валькінінкай у Варэнскім р-не Літ. Рэспубліці). Была вынікам абвастрэння ўнутрыпаліт. супярэчнасцей у ВКЛ, барацьбы магнацкіх груповак за кантроль над дзейнасцю Скарбовага і Гал. Трыбуналаў ВКЛ, аднаўленнем канфлікту за «нойбургскія ўладанні». Бітве папярэднічалі зборы паспалітага рушэння, фармальнай падставай чаму стаў універсал Аўгуста II ад 1.7.1700, які склікаў шляхту для абароны паўн. межаў ВКЛ (фактычна, на вайну з Швецыяй). 3.7.1700 Аўгуст II заключыў пагадненне з вял. гетманам К.Я. Сапегам і польным гетманам Я.Б.Слушкам, якія абавязваліся выставіць на дапамогу саксонскаму войску ў Інфлянтах корпус у 3660 чал. Пагадненне было выкарыстана рэспубліканцамі для абвінавачвання Сапегаў у незаконнай вярбоўцы харугваў. Паводле заключанага 21.8.1700 у Вільні мірнага пагаднення паміж Сапегамі і рэспубліканцамі вярбоўка новых харугваў забаранялася, а тыя, што будуць вяртацца з-пад Рыгі, падлягалі роспуску. Аднак у жн.—вер. 1700 у шэрагу паветаў адбыліся соймікі і з'езды, дзе шляхта пастанавіла арганізаваць выправы на дапамогу Аўгусту II або выступіць паспалітым рушэннем. 15.10.1700 паспалітае рушэнне ўсх. (бел.) паветаў на чале з троцкім кашталянам М.К.Коцелам пры спробе захопу Ашмянаў пацярпела паражэнне ад вял. падскарбія Б.П.Сапегі і адступіла да Ліпнішак, дзе ў канцы кастр. сабралася ашмянскае, віцебскае, аршанскае, пінскае і мсціслаўскае рушэнне. На пач. ліст. да іх далучылася лідская, троцкая, слонімская, ваўкавыская, менская, полацкая шляхта, часткова браслаўская, упіцкая і гарадзенская. Частку сіл склалі прыватныя харугвы Вішнявецкіх (валашскія, казацкія, драгунскія, пешыя, усяго да 2 тыс. чал.), Радзівілаў (2 панцырныя, 1 татарская харугвы) і інш. магнатаў. Міхал Сервацы Вішнявецкі быў абраны



POSTANOWIENIE
GENERALNE
STANOW
W. X. Lit:
*Wieczne y nigdy nienáruszone,*
Ná
Ziezdźie Walnym
WOIEWODZTW
*Y*
POWIATOW,
*Pospolitym Ruszeniem*
pod
OLKINIKAMI
uchwalone.
Roku Pańskiego 1700.
*w Drukarni Akademij Wileńskiey Soc: IESV.*

**Алькеніцкая пастанова 1700**. Вільня. 1700. Тытульны ліст.

генеральным палкоўнікам ВКЛ. Паводле ўласнай ацэнкі, рэспубліканцы сабралі да 10 тыс. войска, якое 10.11.1700 падступіла да Алькенікаў. 17.11.1700 да іх далучыўся жамойцкі староста Р.А.Агінскі на чале 25 харугваў жамойцкай шляхты і 3 валашскіх харугваў (1—1,5 тыс. чал). Спробы Сапегаў у кастр. склікаць шляхту паспалітым рушэннем да Вільні, а 9.11.1700 правесці там з'езд у сваю падтрымку вял. поспеху не мелі. 14.11.1700 з Вільні пад Алькенікі пад камандаваннем К.Я.Сапегі рушыла 1,5-тысячнае войска, у т.л. 200 рэйтараў, 185 драгунаў, 500 татараў, 300 венгерскіх пехацінцаў, надворная харугва (80 чал.), гарадзенская, віленская і браслаўская павятовыя харугвы, частка ковенскай і ўпіцкай шляхты з 8 гарматамі (паводле звестак рэспубліканцаў, Сапегі мелі 5 тыс. чал.). Частка войск затрымалася ў Інфлянтах. У ноч на 18.11.1700 войска Сапегаў заняло пазіцыю ў 2 лініі на пагорку ў разгалінаванні дарог з Вільні на Гародню і Алькенікі. Бітва пачалася а 8-й гадзіне раніцы і працягвалася 5 гадзін. Супраць левага фланга Сапегаў былі размешчаны ў засадзе 2 гарматы і харугвы Вішнявецкага. Пры іх падтрымцы правае крыло паспалітага рушэння (бел. паветы) і валашскія харугвы Агінскага ўдарылі на левы фланг Сапегаў, але іх атаку адбілі рэйтары і татары пры падтрымцы надворнай харугвы. Частка харугваў левага крыла (Коцел) атакавала правы фланг Сапегаў і выйшла на віленскі гасцінец, але была спынена сапегаўскімі татарамі і адступіла. Працяг наступлення рэспубліканцаў на ўсіх напрамках (Агінскі і стражнік ВКЛ Л.К.Пацей з часткай харугваў зайшлі ў тыл) прывёў да акружэння сапегаўскага войска. Выратаваліся ўцёкамі павятовыя харугвы і татары. Уцяклі да Вільні К.Я. і Б.П. Сапегі, вял. маршалак А.П.Сапега. Пакінуты ў якасці камандуючага канюшы ВКЛ М.Ф.Сапега здаўся ў палон з рэшткамі войска (драгунамі, рэйтарамі і пяхотай). Страты рэспубліканцаў склалі 100—150 чал. забітымі і смяротна паранен ымі, прыблізна столькі ж страцілі Сапегі. Назаўтра пасля бітвы шляхта расправілася з палоннымі: М.Ф.Сапегам, браслаўскім старастам М.Войнам-Ясянецкім і ротмістрам венгерскай пяхоты Куровічам. Рэспубліканцы правялі пад Алькенікамі з'езд паспалітага рушэння, на якім была ўтворана канфедэрацыя і прынята *Алькеніцкая пастанова 1700*. Сапегі былі пазбаўлены пасад і асуджаны на выгнанне, іх маёнткі падлягалі канфіскацыі. Пасля бітвы групоўка Сапегаў у ВКЛ часова спыніла існаванне, яе лідэры пакінулі княства і накіраваліся ў Курляндыю, потым у Польшчу, а ўрэшце перайшлі пад апеку шведскага караля Карла XII і прынялі ўдзел на яго баку ў *Паўночнай вайне 1700—21*.

*Літ.*: N a r b u t t J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskigo i Augusta II, królow panujących w Polsce. T. 2. Wilno, 1842; J a r o c h o w s k i K. Dzieje panowania Augusta II od śmierci Jana III do chwili ustąpenia Karola XII na ziemię polską. Poznań, 1856; P o w i d a j L. Wojna domowa Sapiehów z szlachtą litewską w ostatnich latach XVII i na początku XVIII wieku // Przegląd Polski. 1872/73. R. 7. T. 2. Z. 4—5; P i w a r s k i K. Opozycja litewska pod koniec XVII wieku // Pamiętnik V powszechnego zjazdu historyków polskich w Warszawie od 28 listopada do 4 grudnia 1930 r. Lwów, 1930. Z. 1; W a s i l e w s k i T. Walka o zrównanie praw szlachty litewskiej z koroną od unii Lubelskiej do początku XVIII wieku // Zapiski Historyczne. 1986. Z. 1; U r w a n o w i c z J. Drobna szlachta litewska w wojnie z Sapiehami // Drobna szlachta podlaska w XVI—XIX wieku. Białystok, 1991; S l i e s o r i ū n a s G. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė suverbuotų karinių dalinių siuntimas prie Rygos 1700 m. // Lietuvos istorijos metraštis, 2001. Vilnius, 2002. T. 2.

***Зміцер Віцько.***

**Алькеніцкая пастанова 1700** («Генеральная пастанова станаў ВКЛ, вечная і ніколі непарушная, на вальным з'ездзе ваяводстваў і паветаў, паспалітым рушэннем пад Алькенікамі ўхваленая»), заканадаўчы акт ВКЛ, прыняты 24 ліст. *рэспубліканцамі* на з'ездзе паспалітага рушэння пасля перамогі над войскам Сапегаў у *Алькеніцкай бітве 1700*. З'езд адбыўся 20—24.11.1700 у Алькеніках пад дырэкцыяй мсціслаўскага ваяводы Міхала Сясіцкага, у выніку чаго была ўтворана шляхецкая канфедэрацыя і прынята А.п. У адпаведнасці з ёю было арганізавана новае войска ВКЛ (7900 чал.), на ўтрыманне якога прызначаўся шэраг падаткаў і пабор з «нойбургскіх удаданняў» у памеры 300 тыс. злотых штогод. Войска на 2 гады перадавалася пад камандаванне генеральнага палкоўніка Міхала Сервацыя *Вішнявецкага*, улада над ім вял. і польнага гетманаў (К.Я.Сапегі і Я.Б.Слушкі) касавалася. Пры Вішнявецкім ствараўся дарадчы орган з камісараў — прадстаўнікоў паветаў, асобных сенатараў і цэнтр.ураднікаў ВКЛ. Збор мытных паступленняў на 2 гады перадаваўся ў арэнду троцкаму кашталяну М.К.Коцелу і жмудскаму старасту Р.А.Агінскаму. Быў скасаваны Скарбовы трыбунал ВКЛ 1700 і адменены ўсе яго дэкрэты, зняты абвінавачванні ў фінанасавых злоўжываннях з Коцела і Агінскага, якія павінны былі зрабіць справаздачу аб сваёй дзейнасці вызначанай на з'ездзе камісіі. Больш таго, абодва атрымалі «за заслугі» па 100 тыс. злотых са скарбу ВКЛ. На ўсе злоўжыванні паспалітага рушэння была абвешчана амністыя. Гал. рашэнні А.п. датычылі Сапегаў і іх прыхільнікаў. Вял. гетман К.Я.Сапега, вял. падскарбі Б.П.Сапега, стольнік Ю.С.Сапега, вял. маршалак А.П.Сапега і польны пісар М.Я.Сапега асуджаліся на выгнанне, пазбаўляліся гонару, тытулаў, пасад і староостваў. Іх

маёнткі канфіскоўваліся на карысць дзяржавы і перадаваліся ў пасесію генеральнаму палкоўніку Вішнявецкаму. Апошні прызначаў там адміністратараў, якія павінны былі рабіць справаздачы камісарам, а таксама прызначаў сваіх намеснікаў у сапегаўскія староствы. У маёнтках размяшчалася войска. Іўе перадавалася параненым і нашчадкам забітых у Алькеніцкай бітве. Чарэя за мытныя махінацыі Б.П.Сапегі пераходзіла ў іпатэку да скарбу ВКЛ, пасланыя камісары павінны былі сабраць там 300 тыс. злотых. «Нойбургскія уладанні» перадаваліся пад апеку К.С.Радзівіла, які абавязваўся не спрабаваць іх выкупіць. Правы канцлера на гэтыя маёнткі абгрунтоўваліся т.зв. варшаўскім запісам 1669 — падробленым завяшчаннем Багуслава Радзівіла. Не падлягалі канфіскацыі маёнткі Е.Ф., Ю.Ф. і Я.К. Сапегаў, а таксама прадстаўнікоў коданскай лініі роду, пры ўмове прынясення прысягі прытрымлівацца А.п. і не дапамагаць асуджаным сваякам. Маёнткі канфіскоўваліся і ў прыхільнікаў Сапегаў, калі яны ў 2-тыднёвы тэрмін не выканаюць аналагічнай прысягі (не датычыла сапегаўцаў, якія «за відавочныя здрады супраць Рэчы Паспалітай асобнымі пастановамі ад ваяводстваў і паветаў асуджаны»).

*Літ.*: Narbutt J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskigo i Augusta II, królow panujących w Polsce. T. 2. Wilno, 1842; Jarochowski K. Dzieje panowania Augusta II od śmierci Jana III do chwili ustapenia Karola XII na ziemię polską. Poznań, 1856; Rachuba A. Sprawa obsady urzędów litewskich po Sapiehach w początkach XVIII wieku // Między wielką polityką a szlacheckim partykularyzmem. Toruń, 1993; Я г о ж. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002.

***Зміцер Віцько.***

**Альтранштацкае перамір'е 1706**, дагавор паміж шведскім каралём Карлам XII і саксонскім курфюрстам, каралём польскім і вял. князем літоўскім Аўгустам II. Заключаны 24.9.1706 у замку Альтранштад (Altranstadt) у Саксоніі пасля захопу шведскімі войскамі ў ходзе *Паўночнай вайны 1700—21* значнай часткі тэр. Рэчы Паспалітай і



1

2

Медалі ў гонар **Альтранштацкага перамір'я 1706**: 1 — медальер Х.Вермут; 2 — медальер А.Карлстэен.

іх уварвання ў Саксонію. Згодна з дагаворам, падпісаным ад імя Аўгуста II яго ўпаўнаважанымі, Аўгуст II абавязаўся адмовіцца ад кароны Рэчы Паспалітай на карысць *Станіслава* Ляшчынскага, разарваць саюз з Расіяй, здаць шведам Кракаў і інш. гарады, размясціць шведскія гарнізоны ў саксонскіх гарадах, выдаць шведам Ё.Р. Паткуля, які раней быў на шведскай службе. Дагавор быў падпісаны таемна ад Расіі. Аднак Аўгуст II імкнуўся захаваць саюз з Пятром I і ўступіў у антышведскія перагаворы з Прусіяй, Даніяй, Англіяй і Галандыяй. Гэта прывяло да таго, што Карл XII апублікаваў дагавор і прыгразіў Аўгусту II пазбавіць яго саксонскага трона. Перамір'е было заключана на 10 тыдняў, потым прадоўжана. Пасля Палтаўскай бітвы Аўгуст II абвясціў 8.7.1709 А.п. нядзейсным (яго ўпаўнаважаныя былі абвінавачаны ў перавышэнні паўнамоцтваў), аднавіў саюз з Пятром I (Тарунскі дагавор 1709) і з дапамогай рас. войск вярнуў трон Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Ивонина Л.И. Европейская дипломатия в Альтранштадте в 1706—начале 1707 гг. и польско-шведский договор // Проблемы славяноведения. Брянск, 2006. Вып. 8.

**алюмнат**, папская семінарыя, папскі калегіум, спецыяльная навучальная ўстанова езуітаў па падрыхтоўцы святароў для місіянерскай працы сярод пратэстантаў і праваслаўных. Заснаваны па ініцыятыве рымскага папы Рыгора XIII. Існавалі А. ў Грацы (1573), Вене (1574), Празе (1575), Оламаўцы (1578), Браневе (1578) і інш. Утрымліваліся за кошт папы і падпарадкоўваліся Кангрэгацыі прапаганды веры. Тэрмін навучання 4—5 гадоў. Праграма прадугледжвала вывучэнне шырокага кола гуманітарных дысцыплін, філасофіі, тэалогіі. Выпускнікі А. не былі абавязаны прымаць святарства, маглі праводзіць каталіцкую палітыку і ў свецкім стане. У ВКЛ па ініцыятыве Антоніо *Пасевіна* А. заснаваны ў Вільні на падставе брэве папы Рыгора XIII ад 5.2.1583. (гл. *Віленскі алюмнат*).

**Аляксандра** (каля 1370—19.6. 1434), княгіня мазавецкая, жонка кн. Земавіта IV. Малодшая дачка вял. кн. літ. Альгерда і яго жонкі Ульяны Аляксандраўны. Шлюбу А. папярэднічала дамова 1385 караля польск. Ягайлы з Земавітам аб тым, што апошні не будзе прэтэндаваць на польск. карону і верне захопленыя раней каронныя землі, за што меў атрымаць ад Ягайлы некаторыя рус. землі. Дадатковай гарантыяй дамовы быў шлюб А. з Земавітам у лют. 1387. Дзякуючы гэтаму шлюбу Ягайла захоўваў прыязныя адносіны з дваром мазавецкіх князёў. Ён добра ставіўся да А., імкнуўся забяспечыць яе дзецям трывалае становішча. А. вызначалася дабрачыннасцю, падтрымлівала Кракаўскі ун-т, за што была ўключана ў спіс яго ганаровых навучэнцаў. Аўдавела ў 1425 (або 1426), мела шматлікіх нашчадкаў, у т.л. сыноў Земавіта V (кн. раўскі, гастынінскі, сахачаўскі), Аляксандра (біскуп трыдэнцкі, патрыярх аквілейскі), Казіміра II (кн. белзскі), Трайдзеня II (кн. мазавецкі), Уладзіслава I (кн. плоцкі), дачок Кацярыну (жонка літ. кн. Міхаіла Жыгімонтавіча), Офку (жонка цешынскага кн. Балservlet Баляслава I), Цымбарку (жонка герцага Эрнста Жалезнага Габсбурга), Эмілію (жонка столпскага кн. Багуслава), Кацярыну.

**Аляксей** (А л е к с і й, свецкае Сімяон або Еляўферый; каля 1293, Масква— 12.2.1378), дзеяч праваслаўнай

царквы. Нарадзіўся ў сям'і «літоўскага» баярына Фёдара Бяконта, выхадца з Чарнігава. У маладосці прыняў манаства ў Маскоўскім Богаяўленскім манастыры. Атрымаў добрую кніжную адукацыю. Прыкладна з 1333 быў пры двары мітрапаліта Феагноста. З пач. праўлення вял. кн. маскоўскага Сімяона Гордага (1340) быў мітрапаліцкім намеснікам, лічыўся пераемнікам мітрапаліта. З 1352 епіскап уладзімірскі. У 1354 у Канстанцінопалі пастаўлены на пасаду мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Аднак у Кіеве асталяваўся стаўленік вял. кн. літ. Альгерда (?) мітрапаліт *Феадарыт*. Канстанцінопальскі патрыярх прыняў рашэнне аб пераносе кафедры А. з Кіева ва Уладзімір з захаваннем за ім тытула мітрапаліта кіеўскага. На мяжы 1354—55 мітрапаліцкую кафедру ў Кіеве заняў новы стаўленік Альгерда *Раман*. Паміж двума мітрапалітамі разгарнулася барацьба за царк. ўладу над усімі рус. землямі. Прыкладна ў 1355—56 А. зноў ездзіў у Канстанцінопаль для зацвярджэння межаў сваёй юрысдыкцыі. Аднак амаль усе бел. і укр. землі засталіся пад царк. уладай Рамана, хоць Кіеў фармальна перадаваўся пад юрысдыкцыю А. Ездзіў у Арду, дзе дамогся прывілеяў на карысць царквы. Пасля смерці вял. кн. маскоўскага Івана II Іванавіча (1359) А. стаў рэгентам пры малалетнім вял. кн. Дзмітрыю. У пач. 1359 А. зрабіў спробу ўмацавацца ў Кіеве, але быў там зняволены і абрабаваны па загаду Альгерда, але здолеў уцячы. Мітрапаліт Раман у адказ з'явіўся ў Цвяры, якая фармальна падпадала пад юрысдыкцыю А. У 1361 канстанцінопальскі патрыярх яшчэ раз размежаваў сферы юрысдыкцыі А. і Рамана, тытул мітрапаліта ўсяе Русі быў пакінуты за А. Пасля смерці Рамана ў 1362 новы мітрапаліт у ВКЛ пастаўлены не быў, і А. фармальна ахапіў сваёй духоўнай уладай усе рус. землі. У 1362 А. наведаў ВКЛ і дасягнуў пэўнага паразумення з Альгердам; паставіў епіскапа ў Бранск, які ўваходзіў у склад ВКЛ. У 1363 А. хрысціў у Цвяры дачку Альгерда, якую прывезла яе бабка Настасся, удава цвярскога кн. Аляксандра Міхайлавіча. А. падтрымліваў палітыку вял. кн. маскоўскага Дзмітрыя на падпарадкаванне Цвярскога княства, што ярка праявілася ў час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72*. У 1370 А. адлучыў ад царквы саюзнікаў Альгерда — смаленскага кн. Святаслава Іванавіча, цвярскога кн. Міхаіла Аляксандравіча і інш., якія выступілі супраць вял. кн. маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча. У 1371 Альгерд запатрабаваў ад Канстанцінопаля асобнага мітрапаліта для ВКЛ і саюзных князёў — навасільскага, цвярскога і ніжагародскага, абвінаваціўшы А. ў тым, што той не наведвае ВКЛ. Патрыярх Філафей паставіў галіцкага мітрапаліта для рус. зямель у складзе Польск. каралеўства, а А. заклікаў наведваць Кіеў і ВКЛ, каб выконваць там пастырскія абавязкі. З-за таго, што А. так і не зрабіў гэтага, мітрапалітам у ВКЛ у 1376 быў пастаўлены *Кіпрыян*, які пасля смерці А. павінен быў атрымаць духоўную ўладу над усёй Руссю. Увогуле, уся дзейнасць А. як царк. і паліт. дзеяча, дыпламата была прасякнута ідэяй узвышэння ролі Масквы, што не дазволіла маскоўскаму мітрапаліту сапраўды стаць рэлігійным правадыром усяго правасл. рус. насельніцтва. У 1448 А. быў абвешчаны Рус. правасл. царквой святым. Неўзабаве жыції А. з'явіліся ў ВКЛ, яго шанавала і уніяцкая царква Рэчы Паспалітай у 17—18 ст.

*Літ.*: Л и х а ч е в Н.П. Два митрополита // Сборник статей в честь Д.Ф.Кобеко. Санкт-Петербург, 1913; К р и ч е в с к и й Б. Митрополичья власть в средневековой Руси (XIV век). Санкт-Петербург, 2003; M e y e n d o r f f J. Alexis and Roman: A Study in Byzantino-Russian Relations (1352—1354) // Byzantinoslavica. 1967. R. 27. № 2.

**Аляксей** (2-я пал. 15 ст.—1-я пал. 16 ст.), дзеяч праваслаўнай царквы, кніжнік. Паходзіў з г. Таропец. Прыблізна з канца 15 ст. жыў у Полацку, іераманах, магчыма, бібліятэкар Полацкага Сафійскага сабора. Арганізаваў і, відаць, фінансаваў перапіску кніг для б-кі сабора і некаторых мясцовых манастыроў. Мяркуецца, што быў знаёмы з Ф.Скарынам. Пазней пераехаў у Вільню, дзе ў 1540 быў архімандрытам Троіцкага манастыра. У гэты перыяд сваёй дзейнасці працягваў падтрымліваць сувязі з Полацкам і надаваў маёмасць мясцовым цэрквам і манастырам. Перапісаныя па заказу А. кнігі ідэнтыфікуюцца па яго ўласнаручных укладных і ўладальніцкіх запісах, выкананых пазнавальным буйным акруглым скорапісам. У сабранай А. б-цы знаходзіліся рэдкія творы айцоў царквы, кормчыя, жыційная і богаслужэбная л-ра, у т.л. Залатаструй, Залатавуст, Палея талковая, намаканон рускай рэдакцыі 1286 і інш. У 1579 шэраг кніг з б-кі




Старонкі кніг з уласнаручнымі запісамі кніжніка **Аляксея**.



Сафійскага сабора былі вывезены каронным канцлерам Я.Замойскім у Польшчу. Кнігі з манастыра Іаана Прадцечы на Востраве доўгі час захоўваліся ў б-цы Жыровіцкага манастыра. Цяпер кнігі А. зберагаюцца ў Нац. б-цы Польшчы ў Варшаве, Харкаўскім гіст. музеі і б-цы Львоўскага ун-та.

*Літ.*: Щ а п о в Я.Н. Библиотека полоцкого Софийского собора и библиотека Академии Замойской // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; Я г о ж. Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики. Ч. 1—2. М., 1976; В а р о н і н В.А. «Кніга Светого Софея»: (да гісторыі полацкіх кніжных збораў XV—XVI стст.) // Бел. гіст. часопіс. 2007. № 3. ***Васіль Варонін.***

**Аляксінскі** Францішак Ксаверый (1758, в. Андронаў, Кобрынскі пав.—1826), мастак-мініяцюрыст. Вучыўся ў Вільні. Паступіў на службу ў полк пешай гвардыі ВКЛ, атрымаў чын паручніка. Па справах службы часта бываў у Каралеўскім замку ў Варшаве, дзе яго артыстычныя здольнасці прыкмеціў кароль польскі і вял. кн. літ. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. А. быў накіраваны на вучобу да Францішка *Смуглевіча*, пасля да прыдворнага каралеўскага мініяцюрыста Вінцэнта Лясё, пад кіраўніцтвам якога выконваў мініяцюры для табакерак, пярсцёнкаў і медальёнаў. З 1790-х г. працаваў самастойна. У 1793 пакінуў вайсковую службу і пасяліўся ў Вільні. З 1814 у Варшаве, знаходзіўся на цывільнай службе. У 1823 прадставіў на Варшаўскай выстаўцы 2 партрэты і мініяцюру. Вядомыя мініяцюры А. — партрэты Тадэвуша Касцюшкі, Юзафа Панятоўскага, Яна Генрыка Дамброўскага, Іахіма Храптовіча, Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Юльяна Нямцэвіча і інш.

**Алясніцкі** Ян (Яська з Алясніцы; ?—21.1.1413), польскі дзяржаўны дзеяч. Сын кракаўскага лоўчага Збігнева з Алясніцы. Зрабіў кар'еру дзякуючы падтрымцы сваякоў — Куразвенцкіх. У канцы 1390 прызначаны польскім каралём Уладзіславам II (Ягайлам) намеснікам у Літве замест Клеменса *Маскажоўскага* з тытулам старасты віленскага. Паводле звестак Яна Длугаша, у 1390—92 А. з дапамогай польскіх войск абараняў Літву ад кн. Вітаўта і крыжакоў, супрацьстаяў інтрыгам кн. Скіргайлы. Пад час аблогі Вільні крыжакамі і Вітаўтам у вер. 1391 А. быў вымушаны спаліць Віленскі Дольны замак і ўкрыцца ў Верхнім замку. Пасля пабудовы крыжакамі замкаў Нойгардэн (Новая Гародня), Рытэрсведэр і Меленбург А. сабраў літ. войска на чале з кн. Вігунтам і паслаў яго на аблогу Нойгардэна. Пасля заключэння *Востроўскага пагаднення 1392* паміж Ягайлам і Вітаўтам А. перадаў свае намесніцкія паўнамоцтвы ў Літве Вітаўту. З 1398 А. займаў пасаду старасты ланчыцкага, з 1404 войскі люблінскі, з 1405 суддзя земскі кракаўскі.

**Амвросій** Юшкевіч [Яскевіч; 1690—17(28).5.1745], дзеяч праваслаўнай царквы. Нарадзіўся ва Украіне ці Беларусі. Вучыўся ў «польскай школе», у пач. 18 ст. паступіў у Кіева-Магілянскі калегіум. Пасля заканчэння вучобы (1723) паслушнік Кіеўскага Пустына-Мікольскага манастыра, дзе ў 1725 прыняў манаства. З 1727 выкладаў у Кіева-Магілянскім калегіуме. З 1731 настаяцель *Віленскага Святадухаўскага манастыра*. У 1732 пацярпеў ад урадавых войск, якія захапілі манастыр. У 1733 прыязджаў у Маскву, дзе атрымаў ад Сінода жалаваную грамату і грашовую дапамогу ў памеры 200 рублёў. 10(21).6.1734 «за утеснения от Польши» А. выкліканы ў Пецярбург, дзе прызначаны архімандрытам Маскоўскага Сіманава манастыра, хутка пераведзены настаяцелем Іпацьеўскага манастыра. З 1734 член Сінода. З 1736 епіскап валагодскі і белазерскі, з 1740 наўгародскі і велікалуцкі (з гэтага ж года архіепіскап). Рэфармаваў Валагодскую духоўную семінарыю, куды запрасіў выкладаць выпускнікоў Кіева-Магілянскага калегіума. У Волагду запрасіў мастакоў з Беларусі, у т.л. М.К.*Іскрыцкага*. Ператварыў Наўгародскую школу Феафана Пракаповіча ў духоўную семінарыю, куды таксама запрасіў выкладчыкаў з Кіева. У 1742 і 1744 прыдворны прапаведнік. Прапаноўваў імператрыцы Елізавеце Пятроўне аднавіць патрыяршаства, выступаў супарць секулярызацыі духоўных уладанняў.

*Літ.*: Г р и г о р ь е в а И.Л., С а л о н и к о в Н.В. Новгородская «академия»: К истории учебных заведений Новгорода XVIII в. // Новгородский сборник. Санкт-Петербург, 2008. Вып. 11(21).

**Ана фон Зангерсхаўзен** (Anno von Sangershausen; ?—6 або 8.7.1273), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1256—73. Паходзіў з цюрынгскага рыцарскага роду, сядзібай якога быў г. Зангергаўзен. У гіст. крыніцах упамінаецца з 1254 як лівонскі магістр. Працягваў палітыку ўмацавання ордэна ў Прыбалтыцы. Будаваў крыжацкі замак у Клайпедзе. У 1256 ён быў атакаваны жамойтамі, напад якіх Ана адбіў і зрабіў карную экспедыцыю па Жамойці. У 1256 на капітуле ордэна выбраны вял. магістрам узамен Попа фон Остэрна, які пакінуў пасаду. У 1260 адбіваў напад жамойтаў на замак св. Георгія на Нёмане (Юрбарк), аднак *бітва на Дурбе 1260* скончылася паражэннем войск ордэна. Вынікам гэтага стала паўстанне прусаў і куршаў супраць ордэнскай улады, якое пачалося ў вер. 1260. Адначасова кн. Аляксандр Неўскі ўдарыў з Пскова на г. Дорпат. У Прусіі ордэн страціў большасць сваіх замкаў, і само існаванне ордэна было пастаўлена пад пытанне. Ана звярнуўся за дапамогай да рымскага па-




**Ана фон Зангерсхаўзен**.



пы Урбана IV, які заклікаў крыжакоў Цэнтр. Еўропы дапамагчы Тэўтонскаму ордэну, абяцаючы адпушчэнне грахоў. У 1263 з сабраным войскам (пераважна з рэйнскіх абласцей Германії) Ана прыбыў у Прусію. Адначасова вербаваў добраахвотнікаў у Германії, Чэхії і Аўстрыі. У 1265 папа Клімент IV зноў заклікаў на дапамогу Тэўтонскаму ордэну, і ў Прусію прыбылі новыя атрады, якімі камандавалі герцаг браўншвейгскі Альберт I, ландграф цюрынгскі Альберт II, маркграф брандэнбургскі Ота III. Вял. рэйд па Натангії прадпрыняў у 1272 маркграф мейсенскі Дзітрых II. Да 1274 паўстанне ў Прыбалтыцы было ў асн. падаўлена. А. фон З. значна павялічыў зямельныя ўладанні Тэўтонскага ордэна ў розных краінах Еўропы. З'явіліся 16 новых ордэнскіх камандорый, у т.л. ў Венецыі, Эгеры, Мотлінгу.

**Андрушэвіч** Ян (псеўд. Anchuscius, Anchusius; ?—1567?), дзеяч каталіцкай царквы, паэт-лацініст. Быў канонікам у Вільні, біскуп кіеўскі ў 1546—56 і луцкі ў 1556—66. У 1548 быў адным з паслоў ад ВКЛ на пахаванні Жыгімонта I Старога. Каля 1543 напісаў элегічным двухвершам дыдактычна-рэлігійную паэму («Lens Lituana olim...», 52 радкі) пра легендарнае забойства ў Вільні 14 францысканскіх манахаў у перыяд княжання Альгерда [1345—77]. Гэты выпадак апісаны ў бел.-літ. летапісах (напр., у Хроніцы Быхаўца) і ў інш. творах тагачаснай л-ры. Гал. змест і пафас яе ў апалагетычна-хрысціянскай тэндэнцыйнасці, дыдактызме, што раскрываюцца толькі праз эмацыянальнае (а таму і непаслядоўнае) апісанне драматычных эпізодаў катавання язычнікамі францысканцаў, якія спрабавалі пашырыць хрысціянства ў Літве. Паэма цікавая ўвагай аўтара да мясцовай легенды, спробай выкарыстання каталіцкай царквой фактаў айчыннай гісторыі (узвышаецца роля гіст. асобы ваяводы віленскага П.Гаштольда), асуджэннем братазабойстваў. Мастацкі ўзровень твора невысокі, аднак у ім адчуваецца добрае валоданне класічнай латынню, літ. тэхнікай (метрычнае вершаскладанне), спалучэнне вобразаў антычнай міфалогії і хрысціянска-біблейскіх і сведчыць аб нарастанні рэнесансавых элементаў у культуры ВКЛ. Паэма была выбіта на адным з помнікаў у гонар францысканскіх місіянераў, упершыню апублікавана Л.Вадзінгам у «Annales minorum» («Малыя аналы», выходзілі ў 1588—1657). Перакладзена на польск. і літ. мовы.

*Літ.*: Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Минск, 1979.

**Андрыяшаў** (Андрияшев, Андріяшев) Аляксандр Міхайлавіч [20.8(1.9).1863, г. Чарнігаў—1939], украінскі гісторык. Скончыў Кіеўскі ун-т. Працаваў у архівах Рэвеля і Рыгі. У 1903—05 вучыўся ў Археалагічным ін-це ў Санкт-Пецярбургу. Працаваў у С.-Пецярбургскай археагр. камісії. З 1917 заг. аддзела стараж. актаў Кіеўскага цэнтр. архіва стараж. актаў. З 1928 узначальваў Камісію Старой Украіны пры Усеўкр. АН. Працы па гісторыі Валынскай, Наўгародскай, Кіеўскай і Ноўгарад-Северскай зямель, архівістыцы.

*Тв.*: Очерк истории Волынской земли до конца XIV столетия. Киев, 1887; Материалы по исторической географии Новгородской земли: Шелонская пятина по писцовым книгам 1498—1576 гг. Т. 1. М., 1914; Нарис історії колонізації Київської землі до кінця XV в. // Київ та його околиці в історії і пам'ятках. Київ, 1926; Нарис історії колонізації Сіверської землі до початку XVI в. // Записки історично-філологічного відділу Всеукраїнської АН. Київ, 1928. Кн. 20; Актові книги Київського Центрального Архіву Давніх Актів // Центральний архів стародавніх актів у Києві. Київ, 1929. Вип. 1.

**Андрэеў** Андрэй, майстар разьбярскай і сталярнай справы 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у 2-й пал. 17 ст. ў Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1684 «со товарищи делали кресла великой государыне, ларцы и подносные столы». *Мая Яніцкая.*

**Андрэеў** Восіп, разьбяр па дрэве 17 ст. Выхадзец з Оршы. Перасяліўся ў Маскву і працаваў у Збройнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1685 разам з інш. бел. разьбярамі рабіў іканастас «з флемаванымі дарожнікамі» і калонкамі для Новадзявочага манастыра ў Маскве.

**Андрэеў** Іван (?, Полацк—1679), майстар-чаканшчык па серабры. У пачатку студз. 1660 прывезены ў Маскву і залічаны майстрам чаканнай справы Сярэбранай палаты Крамля. Працаваў пераважна над формай посуду і рэльефнымі ўпрыгожаннямі вырабаў з серабра. Сярод работ сярэбраныя пазалочаныя рукамыйнікі царэвічаў Івана і Пятра (1676, зробленыя з Іванам Пракоф'евым, Васілём Іванавым і Ларыёнам Афанасьевым).

**Андрэй** (?—14.2.1324), епіскап цвярскі ў 1289—1316. Сын нальшчанскага, пасля полацкага кн. *Гердзеня*. Магчыма, у час нападу ў 1266 пскоўскага кн. *Даўмонта* на Нальшчаны быў захоплены ім у палон. Абставіны, пры якіх А. аказаўся ў Цвярскім княстве, невядомы. Быў ігуменам заснаванага ім Багародзіцкага манастыра на р. Шоша або ігуменам Цвярскога Отрача манастыра. Па просьбе цвярскога кн. Міхаіла Яраславіча мітрапаліт Максім паставіў А. на цвярскую епіскапскую кафедру. У 1310 А. абвінаваціў новага мітрапаліта Пятра ў сіманії і благаслаўленні некананічных шлюбаў, пасля паразумеўся з ім. Падставай канфлікту было, відаць, жаданне кн. Міхаіла Яраславіча (ён стаў ужо вял. князем уладзімірскім) паставіць на мітрапаліцкую пасаду свайго вылучэнца ігумена Геронція). У 1316 А. пакінуў кафедру і з'ехаў у манастыр на Шошы. Існуе меркаванне, што пры пасрэдніцтве А. ў 1321 быў заключаны мірны дагавор паміж цвярскім кн. Дзмітрыем Міхайлавічам і маскоўскім кн. Юрыем Данілавічам.

**Анікееў** Саўка, майстар разьбярскай сталярскай справы 2-й пал. 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1684 разам з інш. майстрамі-беларусамі рабіў крэслы, куфэркі і паднасныя сталы для царскага двара.

**Анікшты** (літ. Анікшчай, Anykščiai, цяпер горад, цэнтр Анікшчайскага р-на, Літ. Рэспубліка), мястэчка ў Вількамірскім пав. (у 16 і 18 ст. — цэнтр *Анікштынскага павета*), у сутоках рэк Святая (Швянтойі) і Анікшта. Вядомы з 1440 як вялікакняжацкі двор, які быў перададзены ў трыманне Радзівілу Осцікавічу. У 1503 аддадзены вял. княгіні літоўскай Алене Іванаўне, якая заснавала ў А. царкву (вядома з 1529).



Пасля А. трымаў М.Кезгайла, з 1520 Ю.Осцікавіч, у 2-й пал. 16 ст. Астравіцкія, у 17 ст. Глябовічы, у 18 ст. Сапегі, Зібергі. З 1514 упамінаюцца як мястэчка (горад), цэнтр сталовага каралеўскага маёнтка, пасля цэнтр нягродавага староства. У 1514 вял. кн. Жыгімонт Стары фундаваў касцёл св. Мацея, які згарэў у 1566, пасля адбудаваны. У 1625, у час вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29, А. былі спустошаны шведскімі войскамі. А. пацярпелі ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўн. вайны 1700—21. У 1765 у А. быў 101 дым, каля 700 жыхароў; у 1773 — 112 дымоў; у 1780 — 211 пляцаў (з іх 52 пустых), каля 1000 жыхароў. Да 1775 у А. (разам з Вількамірам) адбываліся пасяджэнні земскага суда Вількамірскага пав. 17.1.1792 А. атрымалі магдэбургскае права і герб з выявай св. Яна Непамука на мосце цераз р. Святая. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Итомлинский А., Гуковский К. Местечко Оникшты: (опыт историко-статистического описания) // Памятная книжка Ковенской губернии на 1901 год. Ковна, 1900; Anikščiai: Istorijoje, literatūroje, atsiminimuose. Vilnius, 1992; Miškinis A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybes. T. 2, kn. 2. Vilnius, 2005.

**Анікштынскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1-й пал. 16 ст. і ў 1773—95. Цэнтр — мяст. *Анікшты*. Упамінаецца з 1525. Быў фактычна воласцю Віленскага пав. (ваяв.). Да А.п. належалі населеныя пункты Ракішкі, Крошты, Катляры, Барташуны, Капота, Віжуны і інш. У 1528 у войска ВКЛ 22 анікштынскія баяры выстаўлялі 24 коннікаў, у 1565 анікштынская харугва налічвала 25 баярынаў. У ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 А.п. увайшоў склад *Вількамірскага павета*. Новы А.п. утвораны Гарадзенскім соймам 1793 з паўночнай часткі Вількамірскага пав. ў складзе *Браслаўскага ваяводства*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) А.п. увайшоў у склад Рас. імперыі, дзе быў скасаваны.

*Літ.*: Wojtkowiak Z. Lithuania transwilniensis saec. XIV—XVI: Podziały Litwy polnocnej w późnym średniowieczu. Poznań, 2005.

**Анікшчай**, мястэчка, гл. *Анікшты*.

**Анінскі** (Аннинский) Сяргей Аляксандравіч [13(25).10.1891, г. Сызрань Сімбірскай губ., Расія—лют. 1942], расійскі гісторык. Канд. гіст. навук (1935). Скончыў гісторыка-філалагічны ін-т (1913). У 1913—20 выкладаў лац. і грэчаскую мовы ў сярэдніх навучальных установах. У 1919 скончыў Архіўныя курсы пры Петраградскім археал. ін-це. У 1920—30 працаваў у Петраградскім (Ленінградскім) аддзяленні Цэнтрархіва. У 1930—35 вучоны хавальнік Рукапіснага аддзялення Б-кі АН СССР. З 1936 працаваў у Ін-це гісторыі АН СССР (з 1940 старшы навуковы супрацоўнік). Памёр у цягніку на шляху ў час эвакуацыі вучоных абложанага гітлераўцамі Ленінграда ў Ташкент. Даследаваў гіст. помнікі эпохі сярэднявякоўя і новага часу як крыніцы па гісторыі народаў Еўропы. Выдаў твор Мацея з Мехава «Трактат пра дзве Сарматыі» («Трактат о двух Сарматиях», Масква, Ленінград, 1936 ), зборнік «Акты Крэмоны X—XIII стст.» («Акты Крэмоны X—XIII вв. в зб. АН СССР»; Масква—Ленінград, 1937), «Хроніку Лівоніі» Генрыха Латвійскага («Хроніка Лівонии»; Масква—Ленінград, 1938), «Разважанне пра Масковію» Франчэска Цьепала («Рассуждение о Московии», у зборніку «Гістарычны архіў», Масква—Ленінград, 1940, т. 3).

*Тв.*: Пребывание в Ливорно царского посольства в 1656 г.: (впечатления иностранца) // Сборник статей, посвященных А.С.Орлову. Ленинград, 1934;Известия венгерских миссионеров XIII—XIV вв. о татарах и Восточной Европе // Исторический архив. М.; Ленинград, 1940. Т. 3.

*Літ.*: Пашуто В.Т. Советский археограф С.А.Аннинский // Археографический ежегодник за 1969 год. М., 1971.

**Анісімаў** Іван, збройнік 17 ст., майстар шабельнай справы. Родам з Глыбокага. Разам з інш. бел. майстрамі пераехаў у Маскву і працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. Жыў у Мяшчанскай слабадзе. У 1662—65 па загаду цара вучыўся ў Астрахані «рабіць чаркаскія шаблі». Вярнуўшыся, разам з 7 «таварышчы» зрабіў «5 ножан шабельных на чаркаскае дзела з меднаю аправаю мінулага».

**Анісімаў** Насонка, разьбяр па дрэве 17 ст. Родам з Беларусі. У 2-й пал. 17 ст. пераехаў у Маскву і працаваў у Майстарскай палаце Маскоўскага Крамля. У 1648 разам з інш. бел. майстрамі «рабіў палаці і ставіў іканастасы» ў Данской царкве.

**Анічэнка** Уладзімір Васілевіч (20.7. 1924, в. Янаўка Хоцімскага р-на, Беларусь—2.2.2001), беларускі мовазнавец. Д-р філалагічных навук (1970), праф. (1971). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1976). Скончыў БДУ (1952). З 1955 працаваў у Ін-це мовазнаўства АН БССР, з 1970 у Гомельскім ун-це (да 1990 заг. кафедры, з 1991 заг. лабараторыі). Працы па гісторыі бел. мовы, бел.-ўкр. моўным сувязям у часы Рэчы Паспалітай, лексікаграфіі. Склаў «Слоўнік мовы Скарыны» (т. 1—3, Мінск, 1977—94). Адзін з аўтараў «Гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы» (1970), гал. рэдактар і адзін з аўтараў «Слоўніка мовы Янкі Купалы» (т. 1—6, 1997—2003). Выдаў спісы помніка бел. перакладной л-ры «Александрыя» (1962). Аўтар вучэбных дапаможнікаў для вузаў па гісторыі ўсх.-слав. моў. Дзярж. прэмія БССР 1988 за комплекс прац 1966—88 пра Ф.Скарыну.

*Тв.*: Граматыка Л.Зізанія // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1957. № 4; Некаторыя пытанні развіцця беларускай мовы ў XVIII стагоддзі // Там жа. 1961. № 4; Скарынінскія традыцыі на Украіне // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск, 1968; Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мінск, 1969; Украінізмы ў беларускай пісьменнасці XV—XVII стст. // Slavia. 1975. № 4; Беларускі казачны эпас. Мн., 1976; Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў. Мінск, 1978; Развитие белорусского литературного языка в XVIII в. // Вопросы языкознания. 1978. № 4; Гістарычная фанетыка ўсходнеславянскіх моў. Мінск, 1982; Языковая ситуация в Белоруссии во времена Великого княжества Литовского и Речи Посполитой // Kalbotyra. 1988. Т. 2 (39); Голас з невычэрпнай і жыватворнай крыніцы. Мінск, 1995; Набожнае слова і антычная мудрасць крочаць побач. Гомель, 1997 (з А.Станкевіч); Вопыт літаратурна-дыялектнага слоўніка беларускай мовы. Гомель, 1999.

*Літ.*: Германовіч І.К. Беларускія мовазнаўцы. Мінск, 2006. Т. 1. С. 10—12.

**Анталептаўскі кляштар кармелітаў босых.** Заснаваны ў мяст. Анта-



**Анталептаўскі кляштар кармелітаў босых**. Касцёл Святога Крыжа. Літаграфія. 1840.

лепты Вількамірскага пав. (цяпер в. Анталептэ Зарасайскага р-на, Літоўская Рэспубліка) уладальнікам мястэчка кашталянам інфлянцкім Янам Міхаілам Струцінскім з сынам Юзафам у 1734—38. Мураваны касцёл Св. Крыжа (асвячоны ў 1763) — храм зальнага тыпу ў стылі позняга барока. Асн. аб'ём прамавугольны ў плане, да яго прымыкае больш нізкі прэсбітэрый з 3-граннай алтарнай апсідай, да якой, у сваю чаргу, па гал. восі далучаецца прамавугольная яшчэ ніжэйшая сакрысція, так што храм моцна выцягнуты ў даўжыню. На гал. фасадзе дзве 4-ярусныя вежы, паміж якімі фігурны франтон. Над прэсбітэрыем на 2-м паверсе ўладкавана капліца, у якую вядуць сходы. Пад касцёлам прасторная крыпта, якая масіўнымі слупамі падзяляецца на 3 нефы. Мураваны 2-павярховы жылы корпус каля касцёла пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. Пасля паўстання 1830—31 кляштар зачынены, касцёл у 1846—50 перароблены пад царкву, з 1918 зноў касцёл.

*Літ.*: Lietuvos architekturos istorija. Vilnius, 1994. T. 2. P. 139—140.

**Антоній** Вінніцкі (?—26.11.1679), дзеяч праваслаўнай царквы. У 1650 атрымаў прывілей ад караля Яна ІІ Казіміра на Перамышльскую епархію. Пры падтрымцы правасл. шляхты і кліру адабраў уладанні кафедры ва уніяцкага епіскапа Афанасія Крупянецкага. У 1651 кароль перадаў перамышльскую кафедру уніяцкаму епіскапу Пракопу Хмялёўскаму, але А. не дапусціў яго, як і яго пераемніка Антонія Цярлецкага, да кафедры. Пасля смерці кіеўскага мітрапаліта Дыянісія Балабана (1663) А. быў адным з прэтэндэнтаў на вакантную пасаду. Царк. сабор у Корсуні ў 1663 абраў мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі *Іосіфа IV* Нелюбовіча-Тукальскага, але хутка іншы сабор абраў мітрапалітам А. Абодва прэтэндэнты атрымалі ў 1663 ад караля пацвярджальныя прывілеі, але рэальную ўладу ў мітраполіі здолеў праз пэўны час атрымаць Іосіф. А. прызнавалі законным мітрапалітам на Валыні, у Перамышльскай зямлі, на Холмшчыне, аднак ён не дамогся пацвярджэння тытула ад усх. патрыярхаў. Пасля смерці ў 1666 львоўскага епіскапа Афанасія Жэліборскага А. стаў адміністратарам Львоўскай епархіі. У 1666—67 кіраваў мітраполіяй, калі мітрапаліт Іосіф быў зняволены ў Мальбарку. У 1667 Ян Казімірануляваў прывілей, выдадзены Іосіфу, і прызнаў А. адзіным законным мітрапалітам кіеўскім. Аднак большасць праваслаўных працягвала падпарадкоўвацца Іосіфу, які паставіў епіскапам львоўскім Іосіфа Шумлянскага, адхіліўшы А. Да 1671 А. працягваў дамагацца львоўскай кафедры, абапіраючыся на Львоўскае брацтва. У 1670 у Львоў быў прызначаны уніяцкі епіскап Іаан Малахоўскі, але А. не дапусціў яго да кафедры. На сойме 1676 А. дамагаўся прызнання яго мітрапалітам пасля смерці Іосіфа, пры гэтым шукаў падтрымкі рас. рэзідэнта ў Варшаве Цяпкіна. Аднак кароль Ян III Сабескі перадаў кіраванне мітраполіяй епіскапу Іосіфу Шумлянскаму. У 1678 А. дамогся прызнання сваіх правоў. Удзельнічаў у перагаворах аб злучэнні каталіцкай і правасл. цэркваў, але захаваў вернасць праваслаўю. На сойме 1679 прасіў рас. паслоў супрацьдзейнічаць распаўсюджанню уніі.

**антымінс**, прадмет літургічнага ўжытку, чатырохвугольная льняная ці шаўковая хуста з выявамі палажэння Хрыста ў труну ў цэнтры і 4 евангелістаў па вуглах, з зашытымі ў ёй мошчамі. Прызначалася для накрыцця прастола ў царк. алтары. Пры неабходнасці сам А. мог выконваць функцыі прастола для царк. службы. Выявы на А. маглі быць вышытыя, вытканыя, намаляваныя, надрукаваныя. У ВКЛ існавала практыка падпісання А. царк. іерархамі для кантролю за іх продажам і выкарыстаннем. Вядомы 3 А. работы В.*Вашчанкі*: адбіткі на палатне з гравіраванай меднай дошкі, зробленыя ў Магілёўскай друкарні (1694, 1708, 1723).

**«Антырызіс»** («Антирризис, альбо Апология против Христофора Филалета»), ананімны твор палемічнай літаратуры. Напісаны ў адказ на твор Хрыстафора Філалета (М.*Бранеўскага*) *«Апакрысіс»*. Мяркуецца, што аўтар «А.» — Іпацій *Пацей*, якому дапамагаў П.*Аркудзій*. Кніга выдадзена ў друкарні Мамонічаў у Вільні не раней за 22.3.1599 на старабел. мове, у 1600 — у друкарні Д.*Ланчыцкага* на польскай мове. Абъёмны твор, дзе падрабязна разглядаецца гісторыя заключэння уній паміж каталіцкай і правасл. цэркавамі ў 15—16 ст., цытуецца шмат гіст. дакументаў, твораў айцоў царквы, лац. і грэчаскіх аўтараў. Прыводзяцца лісты Клірыка Астрожскага 1593, Пацея 1595, інструкцыя Лушкоўскаму на Тарунскі сінод, лісты Жыгімонта III, царкоўныя прывілеі Уладзіслава III 1443, Аляксандра 1504, Жыгімонта I 1543, ліст Пацея да Астрожскага з просьбай дапамагчы справе уніі 1598, адказ на яго Клірыка Астрожскага і водпаведзь Пацея. Твор пабудаваны як дыялог: спачатку прыводзіцца цытата з кнігі «Апакрысіс», азагалоўленая «Філалет», потым даецца на яе водпаведзь, азагалоўленая «Отказ». Аўтары «А.» абвінавачваюць «Апакрысіс» у нападках на рымскага папу, падрыў дзярж. улады Рэчы Паспалітай, у прэтэнзіях простых людзей на права судзіць духоўных іерархаў, у бязбожнасці і ерасі. Аўтары «А.» прадэманстравалі добрае веданне царкоўнай і свецкай літаратуры, уменне весці палеміку на навук.-лагічным і бытавым узроўні.

*Публ.*: Русская историческая библиотека. Санкт-Петербург, 1903. Т. 19. С. 477—1122.





«**Антырызіс**». Вільня. Не раней за 22.3.1599. Разварот.

*Літ.*: С т у д и н с ь к и й К. Хто був автором «Антиррезіса» з р. 1599? // Записки Навукового товариства імени Шевченка. 1900. Т. 35—36. Кн. 3—4; А н у ш к и н Л. Во славном месте виленском: очерки из истории книгопечатания. М., 1962. С. 122—126; Г у с е в а А.А. Издания кирилловского шрифта второй половины XVI века: сводный каталог. М., 2003. Кн. 2. С. 1088—1089.

**антыфанарый** (ад лац. antiphonarius), літургічная кніга каталіцкай царквы, якая ўключае песнапенні службаў афіцыя — усіх дзённых службаў лацінскага абраду, акрамя імшы. Першыя ўпамінанні пра А. адносяцца да 8—пач. 9 ст. У той час тэрмін выкарыстоўваўся ў розных сэнсах — як збор песнапенняў афіцыя ці толькі яго антыфонаў, як збор антыфонаў начнога афіцыя і інш. З 12—13 ст. тэрмін набыў сучаснае значэнне. А. былі шырока распаўсюджанымі харальнымі зборнікамі на тэр. ВКЛ, аднак колькасць А., якія захаваліся да сённяшняга часу, невялікая, зберагаюцца яны пераважна ў фондах музеяў і б-к Літвы і Беларусі. Сярод рукапісных А.: «Antiphonale» з Віленскага кляштара бернардзінцаў (магчыма, 15 ст., тытульны аркуш кнігі не захаваўся, таму нельга вызначыць яе дакладную дату), «Антыфанарый гасподніх свят і службаў святым, сабраны паводле абраду даміні-канцаў» (1709), «Вялікі двухтомны антыфанарый гасподніх свят і свят розным святым» з Віленскага кляштара дамініканцаў (1752), «Антыфанарый гасподніх свят і службаў святым у адпаведнасці з абрадамі дамініканцаў» з Нясвіжскага кляштара дамініканцаў (т. 1—2, 18 ст.), «Антыфанарый гасподніх свят» з Гарадзенскага кляштара бернардзінцаў (2-я пал. 18 ст.), «Антыфоны свят ордэна бернардзінцаў для хору Слонімскага кляштара» (1770). Унікальны рукапісны помнік каталіцкай традыцыі, які дайшоў да сённяшняга часу, — А. з *Будслаўскага кляштара бернардзінцаў*. У гэтым рукапісе захавалася тытульная старонка на лацінскай мове: «Антыфанарый мінарыцкі разам з месамі для Будслаўскага кляштара Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі айцоў бернардзінцаў. Клопатамі шаноўнага айца Канстанціна Пенса, гвардыяна Будслаўскага канвента. Сакавік, 1751 год. (Выканаў брат бакалаўр філасофіі, канверс)». Рукапіс мае памеры 34,5 × 20,5 см. Напісаны акуратным каліграфічным почыркам квадратнай харальнай натацыяй (сустракаецца і арыгінальная мензуральная натацыя). Мае сціплую ілюмінацыю, выкананы чорным, чырвоным і жоўтым колерамі. Новы тэкст кожнай рубрыкі і версу традыцыйна пачынаецца вял. літарай, якая вылучана для прыгажосці чырвоным ці жоўтым колерам. У супрацьлегласць таму, што пазначана на тытульным лісце, рукапіс адкрываецца не спевамі А., а спевамі мес. Такім чынам, гэта арыгінальны па складу зборнік, бо ў ім аб'ядноўваюцца ў адно цэлае нотны місал з А. У 1-й частцы рука-





**Антыфанарый** з Будслаўскага кляштара кармелітаў (1751).

пісу запісана 14 ардынарыяў мес без Credo, 15 Credo, паводле ўстойлівай традыцыі пазначаных як Patrem, 4 секвенцыі: Mittit ad Virginem, Victima paschali laudes, Veni Sancte Spiritus і Lauda Sion Salvatorem. 2-я частка рукапісу ўключае непасрэдна спевы А.: антыфоны Ad magnificat, Ad Benedictus (важнейшыя антыфоны дзённых службаў афіцыя), а таксама памінальную месу. У гэтым А. ўжываюцца ключы C і F, часам сустракаецца і цэфаутны ключ. У харальных нотах выкарыстоўваюцца храматычныя знакі — бемоль і дыез. Выбраныя песнапенні А. ўключаны ў дадатак да падручніка Зыгмунта *Лаўксміна* «Мастацтва і практыка музыкі для навучання моладзі ў калегіумах Таварыства Ісуса» («Ars et praxis musica in usum studiosae iuventutis in collegiis Societatis Jesu», Вільня, 1667). Гэта быў папулярны ў ВКЛ падручнік, які двойчы перавыдаваўся ў 1669 і 1693.

*Літ.*: Григорианский хорал. М., 1997; Б а р а б а ш Н. Книги из исторических белорусских книжных собраний в фондах Национального музея истории и культуры Беларуси // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мінск, 1998. Вып. 3; Л і х а ч Т. Тэорыя харальных спеваў на Беларусі. Мінск, 1999; Я е ж. Літургічная музыка на Беларусі. Ч. 1. Каталіцкая традыцыя. Мінск, 2008; Г а л а м б о ш И. Реставрация антифонария XVI века // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры. Мінск, 2006. Ч. 1; М а р т ы н ю к Т. Антыфанарый XVIII стагоддзя з Будслаўскага кляштара бернардзінцаў // Научные труды Бел. гос. академии музыки. Мінск, 2006. Вып. 13; G o n c z a r o w a W. O manuskryptach klasztoru OO. Bernardynow w Wilnie // Nasza przeszlosc: Studia z dziejow Kociola i kultury katolickiej w Polsce. Krakow, 1994. T. 82.

***Таццяна Мартынюк.***




**Антыфанарый** са Слонімскага кляштара бернардзінцаў (1770).

**Анушкін** (Анушкин) Аляксандр Іванавіч (3.9.1903—кастр. 1978), журналіст, гісторык кнігі. Скончыў Камуністычны ін-т журналістыкі (1930). З 1924 у апараце камсамола. З 1930 на журналісцкай працы ў Алма-Аце, потым у Казані (рэдактар газеты «Красная Татария»). У 1946—53 рэдактар газеты «Советская Литва». У 1949—52 кандыдат у члены бюро ЦК КПЛ, у 1952—53 член бюро, у 1947—53 дэпутат Вярхоўнага Савета ЛССР. З 1953 на журналісцкай працы ў Крыме, заг. аддзела, намеснік рэдактара газеты «Советский Крым». Працы па гісторыі кнігадрукавання ў ВКЛ. Лічыў, што ў Вільні існаваў гурток гуманістаў, у які ўваходзіў Ф.Скарына. Выказаў гіпотэзу, што віленская друкарня Скарыны пачала працаваць у 1519 (у доме бурмістра Я.Бабіча). Даводзіў, што хоць Скарына прывёз з Прагі розныя прылады, матэрыялы, шрыфты і нават майстра-друкара, арганізаваць працу друкарні яму дапамагалі віленскія майстры-рамеснікі. Прасачыў уплыў выданняў Скарыны на ўсё наступнае бел., літ. і укр. кнігадрукаванне і выданне кніг у Маскве да 19 ст. Бібліяфіл, сабраў вял. калекцыю старых выданняў.

*Тв.*: Во славном месте Виленском: очерки из истории книгопечатания. М., 1962; На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; Тайны старопечатной книги: поиски, находки, загадки. Симферополь, 1972; Виленская типография Скорины // Книга: Исследования и материалы. М., 1975. Сб. 30; Предшественник «Грамматики» Смотрицкого // Там жа. 1978. Сб. 36; Рассказы о старых книгах: поиски, находки, загадки. 2 изд. М., 1979; Проблемы учета отечественных старопечатных изданий, находящихся в зарубежных книгохранилищах // Советская историография книги. М., 1979; Скорининские традиции в вильнюсском книгопечатании XVI—XVII вв. // Франциск Скорина и некоторые вопросы развития книги в Советском Союзе. Вильнюс, 1979.

**Анціп'еў** Яфімка (Анціпін Яфрэмка), разьбяр па дрэве 2-й пал. 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. Вучань *Іпаліта*, пад кіраўніцтвам якога ўпрыгожваў (разам з Л.Юр'евым і Д.Грыгор'евым) царскую карэту «разнымі вуглавымі слупкамі» і гербамі; рабіў іканастасы, куфры, рызніцы, цацкі для царэвічаў і інш.

**Апакаў** (рус. Опаков, цяпер с. Палаткі Юхнаўскага р-на Калужскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад на Смаленшчыне. Размяшчаўся на высокім правым беразе р. Угра (левы прыток Акі). Магчыма, сучасная назва паходзіць ад стаўкі хана Ахмата, які ў гэтым месцы ў 1480 спрабаваў пераправіцца цераз раку. На паўн.-зах. ускраіне с. Палаткі знаходзіцца гарадзішча, паселішча на якім няспынна існавала з часоў ранняга жалезнага веку да позняга сярэдневякоўя. Упершыню ўпамінаецца ў кнізе данін вял. кн. літ. Казіміра (паміж 1440 і 1455). У пач. 15 ст. далучаны да ВКЛ. У 2-й пал. 15 ст. А. быў горадам з сістэмай валасцей па абодва

бакі ад Угры. У ваенна-адм. плане падпарадкоўваўся Смаленску, лічыўся смаленскім прыгарадам і з'яўляўся важным пунктам у лініі абароны ўсх. граніцы ВКЛ. Належаў князям Андрэю і Юрыю Андрэевічам (?), потым Міхаілу Еўнуццевічу Жаслаўскаму (Заслаўскаму), да 1492 — Сямёну Фёдаравічу Варатынскаму. У ходзе маскоўска-літ. вайны 1487—94 зімой 1493 быў спалены войскамі кн. Фёдара Васілевіча Разанскага з разанскімі і маскоўскімі ваяводамі пры ўдзеле мясцовых «вярхоўскіх» князёў. Большасць жыхароў была прыведзена да прысягі маскоўскаму вял. князю, а трымаўшыя абарону літ. і смаленскія людзі, а таксама «градскія большыя людзі» (усяго 530 чал.) уведзены ў палон. Паводле ўмоў літ.-маскоўскага дагавора аб вечным міры 1494 частка апакаўскіх валасцей (з левага боку ад Угры) перайшла да Расіі. Сам горад застаўся ў складзе ВКЛ і быў перададзены ў вотчыну Васілю Сапежычу. У 1500 А. быў зноў захоплены і паводле ўмоў перамір'я 1503 далучаны да Расіі.

***Віктар Цемушаў.***



«**Апакрысіс**». Астрог. 1598. Тытульны ліст.

**«Апакрысіс»** («Апокрисис, албо Отповедь на книжкы о съборе Берестейском...»), твор царкоўна-палемічнай літаратуры. Апублікаваны ў 1597 у Вільні на польск. мове, перавыдадзены ў 1598 у Астрозе ў перакладзе на старабел. мову. Аўтар (магчыма, пратэстант М.*Бранеўскі*) па даручэнні кн. К.Астрожскага выступіў у абарону правасл. насельніцтва Украіны і Беларусі пасля заключэння Берасцейскай уніі 1596 і ў адказ на кнігі яе апалагетаў П.Скаргі і І.Пацея, схаваўшы сваё імя над псеўданімам Хрыстафор Філалет (у перакладзе з грэч. Хрыстаносец Праўдалюб). «А.» напісаны на багатым фактычным матэрыяле, з дакументальнай абгрунтаванасцю доказаў, вызначаецца кампазіцыйнай стройнасцю і майстэрствам выкладу. Складаецца з агульнай прадмовы, уступнага артыкула, 4 частак (з самастойнай прадмовай да кожнай) і заключэння. Аўтар паказаў, што царк. саюз уніяцкіх епіскапаў з каталіцкім лагерам абумоўлены не праблемамі багаслоўскай ісціны і маралі, а імкненнем да гарантаваных матэрыяльных выгод, высокіх дзярж. пасад, рэліг. прывілеяў і паліт. правоў. Выдатна ведаючы царк. і свецкую гісторыю, ён шырока спасылаўся на меркаванні знакамітых грэчаскіх і лацінскіх аўтараў. У творы выкарыстаны разнастайны арсенал літ. і фальклорных мастацкіх сродкаў: анекдатычныя гісторыі, байкі, сатырычныя бытавыя замалёўкі, трапныя прыказкі і прымаўкі, каларытныя эпітэты і параўнанні. «А.» — яркая старонка антыуніяцкай публіцыстыкі. Раскрыўшы вострую супярэчнасць паміж феад. вярхамі 2 асноўных веравызнанняў Рэчы Паспалітай, Хрыстафор Філалет змагаўся за традыцыі і веру народа з пазіцый мясцовай знаці, якая баялася, каб палітыка уніяцка-каталіцкага духавенства не прывяла дзяржаву да ўнутранай сац. і нац.-вызваленчай вайны. Таму ён заклікаў знаць да класавай салідарнасці і сумесных дзеянняў па ліквідацыі пажару, які толькі пачынаў разгарацца.

*Літ.*: Скабаланович И. Об «Апокрисисе» Христофора Филалета. Санкт-Петербург, 1873; Яременко П.К. Український письменник-полеміст Христофор Філалет і його «Апокрисис». Львів, 1964; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мінск, 1968; История белорусской дооктябрьской литературы. Минск, 1977.

***Аляксандр Коршунаў.***

**«Апалагетыкус, гэта значыць абарона канфедэрацыі...»** («Apologeticus, to jest obrona konfederacyjej...»), рэлігійна-палемічная паэма. Выдадзена на польск. мове ў 1582, відаць, у Вільні. Складаецца з 2 частак: «Абарона канфедэрацыі» («Obrona konfederacyjej» і «Седыцыя, альбо бунт капланскі» («Sedycyja albo bunt kaplanski»). Налічвае 1770 вершаў (без уліку ўступа і дадаткаў). Ананімны аўтар, прыхільнік Рэфармацыі (магчыма, лютэранін), рашуча выступае супраць папскай улады, каталіцкага касцёла, парушэнняў католікамі рэлігійных свабод, асуджае напады на пратэстантаў у Вільні і спаленне віленскім біскупам Ежы Радзівілам, натхнёным езуітамі, пратэстанцкіх кніг у 1581, абараняе асновы верацярпімасці ў Рэчы Паспалітай, устаноўленыя актам *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*. У якасці дадаткаў у кнізе змешчаны «Падзяка роце рымскай ад роты пякельнай за іх верную працу і стараннасць, якія чыняць дзеля памнажэння царства сатанінскага», 2 урыўка з лацінскага трактата «Lavacrum consientiae» (1496), ліст караля польск. і вял. кн.



літ. Стэфана Баторыя ў сувязі з віленскімі падзеямі 1581. Паэма мела значэнне для ўмацавання талерантнасці ў ВКЛ і садзейнічала ўключэнню акта Варшаўскай канфедэрацыі ў склад Статута ВКЛ 1588. Твор доўгі час не быў вядомы навукоўцам, упершыню звесткі пра яго надрукаваны ў 1924, перавыдадзены ў 1932. Аўтарам лічаць Вацлава *Агрыпу* або Станіслава Нінінскага.

*Літ.*: Bursche E. Nieznany poemat wilenski o konfederacji warszawskiej // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1924. T. 3; Barycz H. Kto byl autorem poematu «Apologeticus» z 1582 r.? // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1934. T. 6; Кавалёў С.В. Контррэфармацыя ў Вялікім княстве Літоўскім: па старонках паэмы «Апалагетык...» (1582) // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1999. № 2.

**«Апісанне спраў, якія захоўваюцца ў архіве Віленскага генерал-губернатарства»** («Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернаторства»), зборнік дакументаў у 2 тамах, падрыхтаваны А.М. *Энгелем* пры садзейнічанні К.Гамаліцкага, па ініцыятыве і пры фінансавай падтрымцы віленскага генерал-губернатара А.Л.Патапава. Выдадзены ў Вільні ў 1869—70. Другі том мае назву «Архіў Віленскага генерал-губернатарства». Выданне не завершана. У 1-й частцы 1-га тома змешчаны дакументы віленскага генерал-губернатара М.В.*Рапніна*, якія тычацца яго папярэдняй ваеннай дзейнасці да прызначэння віленскім генерал-губернатарам (1783—91). У 2-й частцы 1-га і 1-й частцы 2-га тамоў дакументы архіва Рапніна за крас.—чэрв. 1794, якія датычацца паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі: лісты рас. імператрыцы Екацярыны II да галоўнакамандуючага рас. войскамі ў Польшчы і Літве генерала-аншэфа В.А.Ігельстрома, да старшыні ў ваеннай калегіі, генерала-аншэфа М.І.Салтыкова; лісты караля польск. і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага да Екацярыны II; сакрэтныя данясенні, рапарты, лісты Ігельстрома, Салтыкова, мінскага, брацлаўскага і ізяслаўскага генерала-губернатара Ц.І.Тутальміна, генерала-маёра П.Дз.Цыцыянава і інш. да Рапніна са звесткамі пра падзеі 24.3.1794 у Кракаве, пакаранне смерцю 25.4.1794 у Вільні паўстанцамі вял. гетмана ВКЛ Ш.М.Касакоўскага, ваенныя сутычкі рас. войск з паўстанцамі, пра кантрыбуцыі, накладзеныя на жыхароў Гародні, якія падтрымлівалі паўстанцаў і інш. Значная частка дакументаў датычыцца ваенных дзеянняў у раёне Ліды, Навагародка, Нясвіжа, Ашмян, Міра, Іўя. У зборніку змешчаны і дакументы паўстанцаў: універсалы Найвышэйшай літ. рады ў ваяводствы, паветы і дзярж. гарады ВКЛ ад 25.4. 1794; фрагмент універсала, падпісанага Касцюшкам у лагеры пад Вінярамі 2.5.1794; універсал да абываццеляў Менскага ваяв., дадзены 15.6.1794 у Івянцы і падпісаны М.К.Агінскім; зварот Найвышэйшай літ. рады да рас. салдат і афіцэраў ад 13.5.1794 і інш. Зборнік складзены паводле методыкі, якая выкарыстоўвалася ў т. 1 «Апісання дакументаў і спраў, якія захоўваюцца ў архіве свяцейшага кіруючага Сінода» (Санкт-Пецярбург, 1868). У прадмове да 1-га тома абвешчана структура выдання, вызначаны яго мэты, прыведзены звесткі даведачнага характару, у т.л. пералік усіх гал. начальнікаў краю, пачынаючы з Рапніна і да Патапава, з указаннем дакладных тэрмінаў знаходжання іх на гэтых пасадах. У канцы тома змешчаны імянны (разгорнуты) і геаграфічны паказальнікі; у 2-м томе яны адсутнічаюць. Тэксты дакументаў надрукаваны на мове арыгінала (рус., польск., нямецкай, французскай з паралельным перакладам для трох апошніх на рускую), ёсць невял. тэкстуальныя заўвагі і заўвагі па змесце, пазначаны папярэднія публікацыі. Зборнік не мае строга навук. характару.

*Міхась Шумейка.*

**«Аповесць пра аблогу Мсціслава»**, наратыўная крыніца аб *Мсціслаўскай бітве 1386*. Напісана відавочцам падзей, які падчас аблогі знаходзіўся ў Мсціславе. У аповесці ў яркай лаканічнай манеры расказваецца пра паход смаленскіх войск на чале з кн. Святаславам Іванавічам супраць ВКЛ з мэтай адваяваць Мсціслаў, які раней быў смаленскім уладаннем. Аблога Мсціслава ў крас. 1386 скончылася няўдачай. У бітве на р. Віхра 29 крас. смаляне былі разгромлены войскамі ВКЛ на чале са Скіргайлам, Карыбутам, Лугвенам і Вітаўтам. Кн. Святаслаў Іванавіч загінуў. Яго сына Юрыя Святаславіча, захопленага ў палон, літвіны пасадзілі на княжанне ў Смаленску ў якасці васала ВКЛ. Каштоўнай з'яўляецца інфармацыя пра ўдзел палякаў у войску ВКЛ, што стала магчымым пасля заключэння Крэўскай уніі 1385. Аповесць істотна дапаўняе звесткі пра вайну 1386 у «Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх». Магчыма, калі служылым наўгародскім князем у 1407 стаў мсціслаўскі кн. Лугвен, пратограф аповесці трапіў у Ноўгарад. Найбольш блізкай да пратографа з'яўляецца пашыраная рэдакцыя аповесці з Навара-сійскага, Галіцынскага і, відаць, Талстоўскага спісаў Наўгародскага 4-га летапісу, у якіх адлюстраваны наўгародскі звод 1428. Гэта ж рэдакцыя з нязначнымі розначытаннямі ўвайшла ў звод 1448, які паслужыў пратографам для спісаў аповесці ў складзе Наўгародскага Карамзінскага летапісу, Наўгародскага 4-га летапісу малодшай рэдакцыі і Сафійскага 1-га летапісу. На аснове Сафійскага 1-га летапісу старэйшай рэдакцыі ўзніклі спісы аповесці ў складзе маскоўскіх зводаў апошняй чвэрці 15 ст. і Друкарскага летапісу. Тэкст аповесці з Наўгародскага летапісу па спісе Дуброўскага паходзіць ад аднаго са спісаў Наўгародскага 4-га летапісу старэйшай рэдакцыі. Тэкст з Васкрасенскага летапісу 16 ст. — ад маскоўскага зводу 1479 альбо ад маскоўскага зводу канца 15 ст. Вядомы 4 скарочаныя рэдакцыі аповесці. Самая стараж. з іх, у складзе Рагожскага летапісца і Сімяонаўскага летапісу, відаць, была створана на аснове тэксту, блізкага да пашыранай рэдакцыі, якая ўвайшла ў звод 1428. На думку М.Дз.Прысёлкава і інш. даследчыкаў, Рагожскі летапісец адлюстроўвае агульнарус. мітрапаліцкі звод 1408 (пратограф Троіцкага летапісу) у цвярской апрацоўцы, зробленай каля 1413. Аднак у выпісках М.М.Карамзіна і ў інш. фрагментах страчанага Троіцкага летапісу не захавалася ніводнай цытаты з аповесці, таму пытанне аб першаснасці гэтага спісу ў адносінах да спісаў з Наўгародскага 4-га летапісу не можа быць вырашана. 2 скарочаныя рэдакцыі ўзніклі ў 2-й пал. 15 ст. на аснове



Сафійскага 1-га і Друкарскага летапісаў. 4-я скарочаная рэдакцыя ў 2 варыянтах змешчана ў Ніканаўскім зводзе 16 ст. Яна з'яўляецца кампіляцыяй з больш ранніх пашыраных і скарочаных рэдакцый аповесці, але дапоўнена летапісным фрагментам невядомага паходжання пра зверствы смалян у адносінах да насельніцтва Мсціслаўшчыны.

*Літ.*: Л і ц к е в і ч А.У. «Аповесць пра аблогу Мсціслаўля» канца XIV—пачатку XV стст. // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мінск, 2007. Вып. 9.

***Алег Ліцкевіч.***

**«Аповесць пра цуды Віленскага крыжа»** («Повесть о чудесах честного и животворящего креста, иже взят в литовском граде Вильне сыном боярским арзамаским Василием Микулиным и принесен во град Муром, иже изволил быть в девичье монастыре Живоначальныя Троицы»), старажытнарускае сказанне пра мурамскую праваслаўную святыню — *Віленскі крыж*. Напісана ў канцы 17 ст. або ў 1-й пал. 18 ст. У аповесці рассказваецца, як Васіль Сяргееў сын Мікулін родам з Арзамаса ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у час узяцця Вільні ў 1657 (на самай справе ўзяцце адбылося ў 1655) увайшоў у разрабаваны войскам храм і знайшоў на падлозе абронены кімсьці сярэбраны пазалочаны крыж, упрыгожаны каштоўнымі камянямі і жэмчугам. На радзіме аднойчы пачуў у сне голас, што крыж хоча быць у Мурамскім Троіцкім манастыры, які перад гэтым збудаваў мясцовы купец Тарас (Багдан) Барысаў сын Цвятноў. У 1658 Мікулін з'явіўся ў Мураме, знайшоў Цвятнова і перадаў яму крыж, паведаміўшы яго гісторыю. У 1659 Мікулін у бітве пад Канатопам трапіў у татарскую няволю, маліўся ў думках Віленскаму крыжу і паспяхова збег з Крыма. Аповесць заканчваецца паведамленнем, што Мікулін прыехаў у Мурам памаліцца крыжу за сваё шчаслівае вызваленне. Аповесць — цікавы помнік мясцовай агіяграфіі, напісаны выразнай, сакавітай мовай.

*Публ.*: Повесть о чудесах Виленского креста // Библиотека литературы Древней Руси. Санкт-Петербург, 2006. Т. 15.

*Літ.*: Б р у н Т.А. Муромская «Повесть о чудесах Виленского креста» // Труды Отдела древнерусской литературы. Ленинград, 1979. Т. 34; Я е ж. О датировке «Повести о чудесах Виленского креста» // Герменевтика древнерусской литературы. М., 1989. Сб. 2; Р у д и Т.Р. Еще раз о датировке «Повести о чудесах Виленского креста» // Труды Отдела древнерусской литературы. Санкт-Петербург, 1999. Т. 51.

**апокрыфы** (ад грэч. apokryphos таемны, запаветны), мастацкія аповесці ў сярэдневяковых літаратурах, сюжэтна звязаныя з Біблiяй, жыціямі святых, легендамі аб раі, пекле, канцы свету. Забараняліся царквой як некананічныя. У дахрысціянскі і раннехрысціянскі час тэрмін «А.» ўжываўся для абазначэння кніг вял. мудрасці, чый глыбокі, патаемны сэнс быў даступны не кожнаму. З развіццём антыфеад. барацьбы і пашырэннем ерасей А. сталі называць творы з ерэтычным ухілам. Царк. цэнзура склала паказальнікі (індэксы) «фальшывых» кніг, якія падлягалі знішчэнню. У перыяд Кіеўскай Русі на ўсх.-слав. землях шырокую вядомасць набылі А. аб стварэнні Богам Адама (адзначаны дуалістычнымі ўяўленнямі багамілаў), аб цару Саламоне, «Хаджэнне Багародзіцы па пакутах» (у бел. апрацоўцы 15—16 ст.— «Аб дванаццаці пакутах»), «Страцім-птушка», апакрыфічныя евангеллі Іакава, Фамы, Нікадзіма. У А. адлюстраваліся нар. ўяўленні эпохі феадалізму пра светаўладкаванне, пошукі праўды і дабра. Зрабілі ўплыў на некаторыя жанры бел. фальклору (казкі, духоўныя вершы). ***Ларыса Кароткая.***

**Араны** (Вараны; літ. Варэна, Varena, цяпер горад, цэнтр Варэнскага р-на, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Троцкім павеце, каля ўпадзення р. Варэнэ ў р. Мерачанка (Мяркіс). Вядомы з 1413. Тут знаходзіўся велікакняжацкі двор. З 16 ст. мястэчка, цэнтр нягродавага староства, якое доўгі час знаходзілася ў трыманні Бжастоўскіх. У 1589 А. атрымалі прывілей на штотыднёвыя таргі. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўн. вайны 1700—21 разбураны. У 1780 ген. М.Бжастоўскім пабудаваны драўляны касцёл. У 1780—90-я г. ў А. працавала майстэрня Ю.Перла па вырабе ігральных карт. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: B r e n s z t e j n M. Sztycharze wileńscy Perlowie i nieznana fabryka kart do gry w Oranach w XVIII w. // Ateneum Wileńskie. 1924. Z. 5—6.

**арацыі** (ад лац. oro гавару), празаічны жанр у шматмоўнай літаратуры ВКЛ 17—18 ст. З А. выступалі школьнікі ў час розных свят (Каляды, Вялікдзень) і ў сувязі з заканчэннем навучальнага года, каб прадэманстраваць свае веды па рыторыцы, уменне прыгожа і лагічна гаварыць. А. выкарыстоўваліся таксама на пасяджэннях соймікаў, сямейных урачыстасцях (віншавальныя прамовы свата). Найб. цікавыя па зместу польска-бел. А., створаныя ў 1750— 60-я г. ў Жыровіцкай базыльянскай школе. Яны скіраваны супраць прадажнасці і непісьменнасці шляхты, напісаны вобразнай мовай. Ідэі асветніцкай роўнасці ўсіх людзей, служэння грамадству і радзіме сцвярджаліся ў польск. А. «Пчолы» і «Аб ашчаслівленні чалавека», якія ўзніклі ў 1780-я г. ў асяроддзі вучняў Забельскага дамініканскага калегіума. Некаторыя з А., дзе інсцэніравалася пасяджэнне суда, набліжаліся па жанру да драматургічных твораў. Лепшыя А. завучваліся на памяць, распаўсюджваліся ў рукапісных зборніках, садзейнічалі развіццю аратарскай прозы на Беларусі. ***Адам Мальдзіс.***

**ардашня**, прадпрыемства па вырабе ардашу (вышэйшага ў параўнанні з выробленым на *будах* гатунку паташу), які выкарыстоўвалі ў вытворчасці шкла, мыла, сукна, фарбаў, фарфору, пры апрацоўцы скур, бяленні тканіны і інш. Існавалі ў Беларусі ў 18—1-й пал. 19 ст. Ардаш выраблялі з попелу, які дастаўлялі сяляне ў лік паншчыны або за плату. Дровы на А. таксама дастаўлялі сяляне ў парадку павіннасці. Працавалі на А. буднікі, як правіла, 9—10 чал. Звычайна на А. было 6—9 медных і жалезных катлоў, драўляныя кадкі для попелу, жалезныя качэргі, шуфлі, долаты і інш. У 1740—80 А. былі найбольш пашыраны ў Крычаўскім, Чачэрскім, Прапойскім стараствах; Копыскім, Быхаўскім, Любавіцкім графствах, Гарадзенскай эканоміі і інш. уладаннях. Захавалася падрабязнае апісанне 2 А. у Быхаўскім графстве. У Гарадоцкім фальварку гэта была

драўляная пабудова, крытая гонтай, у якой размяшчаліся 2 цагляныя гораны з 4 меднымі і 2 жалезнымі катламі для выпарвання шчолаку, гартавальная печ для гартавання (люстравання) ардашу, паблізу — драўляная хатка майстра, 29 драўляных кадак для попелу. У Навабыхаўскім фальварку драўляная А. была падзелена на 2 палавіны — вытворчае памяшканне і жыллё майстра. У А. была студня, кладоўка для захоўвання попелу, цагляныя горны з умураванымі катламі, паблізу — пабудова з гартавальнай печчу.

***Васіль Мялешка.***

**ардынаты**, катэгорыя насельніцтва ў ВКЛ у 18 ст., мясцовая разнавіднасць *зямян*. Ва ўсх. Беларусі былі вядомы себежскія і невельскія А. (адпаведна 20 і 48 родаў), у паўд. Беларусі — тураўскія А. ў Тураўскім маёнтку Сапегаў (пасля Патоцкіх), якія часам называліся і шляхтай. Апошнія не плацілі чынш і даніну, а выконвалі спецыфічныя павіннасці: выстаўлялі падводы, збіралі даўгі з арандатараў панскіх зямель, наглядалі за абмалотам збожжа ў панскіх фальварках, лоўляй рыбы ў іх вадаёмах, арганізоўвалі будаўніцтва грэбляў, панскіх пабудоў у Тураве і акольных вёсках, адвозілі гаспадарам сабраныя падаткі. У час патрэбы былі павінны з'яўляцца на *паспалітае рушэнне*, але за кошт уладальніка маёнтка.

*Літ.*: Zielińska T. Losy panów szlachty w dobrach Potockich na Białorusi: Epizod z drugiej połowy XVIII wieku // Heraldyka i okolice. Warszawa, 2002.

**Аркудзій** (Arcudius) Пётр (каля 1563, востраў Корфу—1633), дзеяч грэка-каталіцкай царквы. У 1578 паступіў у Грэчаскі калегіум св. Афанасія, дзе ў 1591 атрымаў вучоную ступень д-ра філасофіі і тэалогіі. У 1591 рымскі папа Рыгор XIV па просьбе луцкага біскупа Бернарда Мацяёўскага накіраваў А. ў Луцк для прапаганды ідэі царк. уніі. У 1593—96 быў святаром Грэчаскага калегіума. У 1596 рымскі папа Клімент VIII па просьбе епіскапаў правасл. царквы Рэчы Паспалітай выдаў акт аб далучэнні Кіеўскай мітраполіі да каталіцкай царквы, і А. разам з епіскапамі ўладзімірскім Іпаціем Пацеем і луцкім Кірылам Цярлецкім выехаў з Рыма ў Рэч Паспалітую. Стаў бліжэйшым памочнікам Пацея ў правядзенні царк. уніі. Выкладаў у школе ў Бярэсці, рыхтаваў правядзенне царк. сабора, на якім была заключана *Берасцейская унія 1596*. На сойме 1597 выступаў у яе абарону. У 1597 быў перакладчыкам на суд. працэсе па справе экзарха канстанцінопальскага патрыярха *Нікіфара*. З дапамогай Пацея ў 1601 А. заснаваў семінарыю ў Вільні для падрыхтоўкі уніяцкіх святароў і пастаянна дбаў аб павышэнні яе ўзроўню (з-за недахопу сродкаў яна месцілася ў драўляным будынку, а колькасць навучэнцаў не перавышала 12 чал.). Удзельнічаў у рэлігійнай палеміцы з праваслаўнымі, дапамагаў Пацею ў напісанні кн. *«Антырызіс»* (1599, 1600, на старабел. і польск. мовах), скіраванай супраць твора М.Бранеўскага *«Апакрысіс»*. У 1600—01 па ініцыятыве мітрапаліта Іпація Пацея ўдзельнічаў у пасольстве канцлера ВКЛ Л.Сапегі ў Маскву для высвятлення магчымасці заключыць унію з Рус. правасл. царквой. Таксама меў заданне адшукаць «грэчаскую» б-ку цара Івана Грознага. У 1601 прызначаны архімандрытам Лаўрышаўскага манастыра і пінскім пратапопам, у 1603 — кобрынскім архімандрытам. Рымскія ўлады прапаноўвалі прызначыць А. епіскапам, але кароль Жыгімонт III адмовіў, спасылаючыся на тое, што А. — не паляк і недастаткова добра ведае «русскую» мову. У 1603—05 А. шукаў у Рыме падтрымкі для Віленскай семінарыі. У 1609 канчаткова з'ехаў у Рым. Быў цэнзарам, бібліятэкарам, удзельнічаў у дзейнасці Кангрэгацыі прапаганды веры. Аўтар шматлікіх багаслоўскіх твораў, у т.л. «Сем кніг аб згодзе ўсходняй і заходняй цэркваў у адпраўленні сямі таінстваў» («Libri VII de concordia Ecclesiae Occidentalis et Orientalis in septem sacramentorum administratione», Парыж, 1619, 2-е выд. 1626, 3-е выд. 1672), «Гісторыя аб уніі рускіх з Рымскім пасадам» («Historia de Ruthenorum cum Romana Sede unione», не захавалася).



П.**Аркудзій** атрымлівае доктарскі дыплом ад святога Афанасія. Малюнак на дыпломе. 1591.

*Літ.*: Студинський К. Хто був автором «Антиррезіса» з р. 1599? // Записки Навукового товариства імени Шевченка. 1900. Т. 35—36, кн. 3—4; Ozorowski M. Piotr Arkudiusz — Grek na służbie Słowian // Bizancjum—prawosławie—romantyzm: Tradycja wschodnia w kulturze XIX wieku. Białystok, 2004.

**арнат** (лац. ornatus), верхняе літургічнае адзенне рымска-каталіцкага духавенства. Складаецца з 2 палотнішчаў, закругленых унізе і змацаваных плечавымі швамі. Апранаецца праз га-



**Арнат** з устаўкай са слуцкага пояса.

лаву паверх інш. адзення. Да эпохі барока А. мелі выгляд палярыны, перад якой аздабляўся вертыкальна нашытым пасам, тыльны бок — нашытым крыжом. Барочным А. уласцівы фігурныя краі пярэдняга палотнішча, якое набыло абрыс віяланчэлі. На Беларусі захаваліся А. 17—19 ст., якія з'яўляюцца творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Яны пашыты з парчовых і шаўковых тканін, атласу, аксаміту адпаведнага канкрэтнай літургіі колеру (зялёнага, фіялетавага, белага, чырвонага, сіняга) і аздоблены аплікацыямі або гафтам, тасьмой і карункамі з залатымі ці сярэбранымі ніткамі, часта жэмчугам і каштоўнымі камянямі. А., зробленыя са слуцкіх паясоў, былі выяўлены ў час навук. экспедыцый у касцёлах в. Чарнаўчыцы Брэсцкага і Новая Мыш Баранавіцкага, г.п. Ружаны



**Арнат** з устаўкай са слуцкага пояса. 18 ст.

Пружанскага, г. Косава Івацэвіцкага р-наў. А. з мастацкіх тканін бел. мануфактур 18—19 ст. зберагаюцца ў Музеі стараж.-бел. культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі, Нац. мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. *Мая Яніцкая.*

**армяне**, народнасць у ВКЛ. Сяліліся тут у асн. абшчынамі (т.зв. калоніямі) у гарадах і мястэчках. Прычыны перасялення А. — барацьба армянскіх купцоў за рынкі, рэлігійныя ганенні на А. у Арменіі пад уладай Асманскай імперыі, войны за Закаўказзе паміж Асманскай імперыяй і Іранам. Міграцыя А. у ВКЛ ішла непасрэдна з Арменіі і з прамежкавых пляцовак — Крыма і Малдовы. У Кіеве А. вядомы з 11 ст., у Львове — з 2-й пал. 13 ст., у Луцку, Камянцы, Уладзіміры, Сняціне, Белзу — з 14—15 ст., у Хаціне, Бары, Язлоўцы — з 16 ст. Паводле падлікаў Я.Дашкевіча, на Правабярэжнай Украіне да канца 18 ст. існавала каля 60 армянскіх калоній. У гарадах органам армянскага самакіравання была рада старэйшын (6—12 чал.). У некаторых гарадах армянскія абшчыны дамагліся асобнага самакіравання паводле *магдэбургскага права*. Такія абшчыны ўзначальваліся выбарнымі *войтамі*. Абшчыны мелі свой суд, уласнае права — кодэкс Мхітара Гоша (1519). Армянскія абшчыны дамагліся прывілеяў ад каралёў польскіх і вял. князёў літ., якія забяспечвалі іх аўтаномію: Ягайлы (1409), Жыгімонта I Старога (1519), Жыгімонта II Аўгуста (1549, 1567). Армянскія рады выконвалі адм. і фінансавыя функцыі, збіралі падаткі, утрымлівалі шпіталі, распараджаліся царк. маёмасцю. Армянскія калоніі былі аўтаномнымі, але падтрымлівалі паміж сабой сувязі. У выніку ваенных падзей у 17 ст. армянскія калоніі ў Кіеве і Луцку занянпалі і трапілі пад уладу львоўскай армянскай абшчыны. Вядучую ролю ў жыцці армянскіх калоній адыгрывалі буйныя гандляры, якія падтрымлівалі гандлёвыя сувязі аж да Індыі, Егіпта і Партугаліі, займаліся ліхвярствам, пазычалі грошы магнатам, каралю. Росквіт армянскага гнадлю ў ВКЛ і Польшчы прыпадаў на 14—1-ю пал. 17 ст. Да «армянскіх тавараў», што ўвозіліся, адносіліся: дарагія тканіны, вопратка, дываны, залататканыя паясы, «турэцкія» хусткі, усх. зброя, духмяныя рэчывы; вывозіліся: мёд, бурштын, ювелірныя вырабы, вырабы гарбарнага рамяства (сёдлы, вупраж), халодная зброя. Армянскія гандляры, як знатакі ўсх. моў, выступалі перакладчыкамі ў велікакняжацкай і каралеўскай канцылярыях, выконвалі дыпламатычныя даручэнні ў краінах Усходу. У армянскіх калоніях былі ўмелыя майстры, сярод якіх вылучаліся ткачы, што выраблялі дарагія тканіны і залататканыя паясы, а таксама лекары, мастакі. Перасялялася таксама армянская знаць (у 16 ст. ў Мазырскім пав. аселі Іпагорскія, якія далі пачатак роду Лянкевічаў-Іпагорскіх герба «Котвіч»). Армянскае насельніцтва мела сваю царк. арганізацыю, епіскапаў (у Кіеве, Львове, Камянцы). У 1640 заключана унія паміж армянскай царквой Рэчы Паспалітай і рымска-каталіцкай царквой. Абавязковай прыналежнасцю армянскіх калоній былі цэрквы (у Кіеве з 14 ст. вядома драўляная царква, у Луцку мураваная царква св. Стафана пабудавана ў 1378, у Камянцы царква св. Мікалая заснавана ў 1398). У Вільні армянская калонія не склалася, хоць армянскае насельніцтва там пражывала, у т.л. рамеснікі. У 16 ст. тут упамінаецца армянская школа, у 1627 — армянін-саф'ннік. Найб. вядомая армянская сям'я прадпрымальнікаў у ВКЛ — *Маджарскія*, што трымалі *Слуцкую мануфактуру шаўковых паясоў*.

*Літ.*: Линниченко А. Армяне Польши и Юго-Западной Руси. Санкт-Петербург, 1862; Дашкевич Я. Армянские колонии на Украине в источниках и литературе 15—19 вв.: (историографический очерк). Ереван, 1962; Яго ж. Вірменське самоврядування Києва в межах магдебурзького права XV—XVII ст. // Самоврядування в Києві: історія та сучасність. Київ, 2000; Яго ж. Вірменія і Україна. Львів; Нью-Йорк, 2001; Григорян В.Р. История армянских колоний Украины и Польши: (Армяне в Подолии), Ереван, 1980; Халпахчьян О.Х. Сооружения армянской колонии в Каменце-Подольском // Архитектурное наследство. М., 1980. Вып. 28.

**Арсеній** Магілянскі [у свеце Аляксей; 17(28).3.1704 або 1711, мяст. Рашацілаўка Палтаўскага палка—8(19).6.1770], дзеяч праваслаўнай царквы. Вучыўся ў Кіева-Магілянскай акадэміі (1721—27) і Харкаўскім калегіуме, які скончыў у 1735. З 1739 выкладаў у Цвярской духоўнай семінарыі, з 1741 — у Маскоўскай духоўнай акадэміі. З 1741 манах Троіца-Сергіевай лаўры. Набыў вядомасць сваімі казаннямі, красамоўствам і ў 1743 запрошаны як прапаведнік да царскага двара.



**Арсеній** Магілянскі.

З 1744 архімандрыт Троіца-Сергіевай лаўры, рэктар Троіцкай семінарыі, епіскап пераяслаў-залескі, вікарый Маскоўскай епархіі, член Сінода. З 1752 на пакоі ў Ноўгарад-Северскім манастыры. У 1757 прызначаны мітрапалітам кіеўскім, галіцкім і ўсяе Малой Расіі (тытул «усяе Малой Расіі» дзейнічаў да 1767), юрысдыкцыя якога ахоплівала і ВКЛ. Супрацьдзейнічаў пашырэнню уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай. Аўтар шматлікіх друкаваных казанняў, напісаў службу і акафіст св. Дзмітрыю Растоўскаму.

*Тв.*: Письмо о делах унии // Акты Южной и Западной России. Санкт-Петербург, 1861. Т. 3.

*Лит.*: Шпачинский Н. Киевский митрополит Арсений Могилянский и состояние Киевской митрополии в его правление. Киев, 1907.

**Арсеній** Сялунскі, пісьменнік-пілігрым 15 ст. Быў дыяканам, як мяркуецца, у Беларусі. Здзейсніў падарожжа ў Святую Зямлю, якое апісаў у запісках, заснаваных на запісках ігумена Данілы 12 ст. Аналіз моўных асаблівасцей сведчыць, што А. мог паходзіць з бел. зямель. Паводле інш. версіі, А. быў балгарынам.

*Літ.*: Адрианова В.П. Хождение Арсения Селунского // Известия Отделения русского языка и словестности Императорской Академии Наук. 1913. Т. 18, кн. 3; Шляпкин И.А. Хождение Арсения Селунского: (заметки к статье В.П.Адриановой) // Там жа. 1914. Т. 19, кн. 1; Обнорский С.П. К литературной истории «Хожденія» Арсения Селунского // Там жа. 1914. Т. 19, кн. 3; Марков А. Родина паломника Арсения Селунского // Рус. филологический вестник. 1914. Т. 71; Яго ж. Дополнение к статье «Родина паломника Арсения Селунского» // Там жа. 1915. Т. 83.

**артыкулы гетманскія**, артыкулы вайсковыя, кодэксы норм ваеннага права ў ВКЛ і Кароне Польскай. Рэгламентавалі паўнамоцтвы і абавязкі гетмана, ротмістраў, таварышаў, пахолкаў, абознікаў, рэгулявалі паводзіны жаўнераў пад час баявых дзеянняў, іх узамаадносіны з дзярж. структурамі і цывільным насельніцтвам. Першыя А.г. ў выглядзе тэматычнага кодэкса выдадзены ў 1609, да гэтага нормы вайсковага права дзейнічалі ў форме звычаёвага права, асобных соймавых уставаў і канстытуцый, якія датычыліся асобных сфер дзейнасці войска (дысцыпліны, субардынацыі, забеспячэння). Пачатак юрыд. афармленню і фіксацыі норм ваеннага права ў ВКЛ паклалі Менская ўхвала Жыгімонта І Старога ў 1507 і апісанне паўнамоцтваў гетмана Канстанціна Астрожскага Берасцейскім соймам ад 13.8.1512, згодна з якім у ВКЛ, у адрозненне ад Кароны, гетману і яго прадстаўнікам павінны былі падначальвацца не толькі наёмнікі, але і *паспалітае рушэнне*, і ён меў дыктатарскія паўнамоцтвы, уключаючы права смяротнага пакарання. Забараняліся паядынкі ў войску, канфіскацыя правіянту без аплаты прыраўноўвалася да крадзяжу, вызначаліся памеры грашовых выплат мясцоваму насельніцтву за харчаванне для войска, а таксама нормы пакарання для парушальнікаў. Паводле праекта А.г. 1535, падлягалі рэгуляцыі паводзіны жаўнераў на маршы і пад час бітвы, прычым прававыя нормы распаўсюджваліся і на абознікаў, што абслугоўвалі войска (кавалёў, цесляроў, калёснікаў і інш.). На фарміраванне асобнага кодэксу ваенных норм у ВКЛ аказвалі ўплыў зборнікі, выдадзеныя ў Кароне: «Караля Жыгімонта Аўгуста парадак праваў рыцарскіх ваенных» (1557) і «Артыкулы гетманскія Фларыяна Зэбжыдоўскага» (1561). Яны былі адаптаваны для ВКЛ у «Артыкулах ваенных нябожчыка пана Тарноўскага» і «Караля Жыгімонта артыкулаў ваенных для Літвы» і выкарыстоўваліся ў час Інфлянцкай вайны 1558—82. Тэрыторыі ВКЛ значна цярпелі ад жаўнерскага і канфедэрацкага сваволля пад час баявых дзеянняў і маршаў войскаў праз яго тэрыторыю ў 1600—18, што прыводзіла да ўвядзення з кожным новым праектам А.г. больш жорсткіх норм пакарання. Так, паводле канстытуцый 1593 і 1601, ад адказнасці за самавольны сыход з войска ці арганізацыю канфедэрацыі ў дзеючым войску вызваляў дазвол гетмана або невыкананне ўмоў аплаты за службу з боку скарбу. За такое ж парушэнне паводле А.г. 1609 прадугледжвалася пакаранне смерцю. А.г. 1609 складаліся з 3 частак: 1) артыкулы, якія вызначалі субардынацыю, нормы дысцыпліны і абавязкі ротмістраў, таварышаў, пахолкаў, слуг у дзеючым войску і на лежах (кватэрах) (ротмістры павінны былі знаходзіцца пры ротах і адказвалі за ўзбраенне і вывучку падуладных, забаранялася браць харчаванне, дрэва і фураж без аплаты, пераманьваць таварышаў і пахолкаў паміж ротамі, п'янства і гульні); 2) нормы, што дзейнічалі пад час баявых дзеянняў на маршы, пад час знаходжання ў абозе, бітвы (месца роты ў калоне, лагеры і шыхце вызначаў гетман, самавольнае пакіданне вызначанага месца ў бітве каралася смерцю, знаходкі ў сваім абозе і палонныя ворагі павінны былі перадавацца гетману, абавязковай была ўзаемная дапамога на маршы, агаворваўся парадак сігналаў і пароляў, забараняліся кантакты з іншаземцамі і мясцовым насельніцтвам без паведамлення гетману, а таксама знаходжанне ў абозе перакупшчыкаў, шынкароў, жанчын, калі гэта не законныя жонкі жаўнераў, трыманне сабак); 3) стаўкі аплаты насельніцтву за набытае харчаванне [за свінню — 2 злотых, барана — 10 грошаў, курыцу — 1 грош, прычым у залежнасці ад месца лежаў (кватаравання) — на Украіне ці на «Русі» — пшаніца каштавала ад 1 злотага да 20 грошаў, жыта — 20 ці 16 грошаў і г.д.]. У Кароне А.г. 1609 былі абавязковымі да 1698, калі іх замянілі артыкулы караля Аўгуста II, у ВКЛ яны працягвалі распрацоўвацца і выдавац-

ца гетманамі для падуладных ім войскаў у 17—18 ст. Найб. жорсткімі з іх з'яўляюцца праекты А.г. гетмана Крыштофа Радзівіла (1622, 1635), якія не былі зацверджаны соймам. Паводле іх уводзілася градацыя пакаранняў у залежнасці ад цяжкасці праступкаў, прычым часта прадугледжвалася выкарыстанне смяротнага пакарання за парушэнне субардынацыі і дысцыпліны, і не толькі шляхам «годнага» для шляхты адсякання галавы, але павешання, чвартавання і адсякання рук. За меншыя парушэнні прадугледжвалася выгнанне з войска, зняволенне, пазбаўленне жолду (жалавання) і інфамія; драба маглі прагнаць праз 2 шэрагі, збіваючы палкамі. Жаўнер, які не данёс гетману на парушальніка, падзяляў з ім віну. У 1754 гетман Міхал Казімір Радзівіл выдаў у Нясвіжскай друкарні «Артыкулы вайсковыя». А.г. садзейнічалі павышэнню ўзроўня дысцыпліны і павышэнню прафесіянальных якасцей войска. Аднак практычнае прымяненне А.г. залежала ад паліт. сітуацыі і інтарэсаў ваеннага кіраўніцтва. Паколькі гетманскія пасады ў ВКЛ займалі выключна прадстаўнікі магнатэрыі, А.г. садзейнічалі замацаванню іх кантролю над узброенымі сіламі і росту паліт. вагі ў грамадстве. А.г. з'яўляюцца важнейшай крыніцай для вывучэння гісторыі ваеннага права ВКЛ.

*Літ.*: С а г а н о в і ч Г.М. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мінск, 1994; Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008; Volumina legum. T. 2—3. St. Petersburg, 1859—60; K u k i e l W. Zagadka artykułów wojennych 1609 r. a wojskowe prawo Wielkiego Księstwa Lietewskiego // Atheneum Wileńskie. 1933—34. R. 9; C i a r a M. Konfederacje wojskowe w Polsce w latach 1590—1610 // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1988. T. 31; W i s n e r H. Rzeczpospolita Wazow. T. 2. Warszawa, 2004.

***Віктар Якубаў.***

**Архангельскі** (Архангельский) Аляксандр Сямёнавіч [12.(24).7.1854, г. Пенза, Расія—24.4.1926], расійскі літаратуразнавец. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1904), праф. (1884). Скончыў Казанскі ун-т (1876), дзе выкладаў у 1882—1908, пасля ў Пецярбургскім ун-це. Асн. працы па стараж.-рус. л-ры, л-ры 19 ст. і тэатры 17—18 ст. У кн. «Нарысы з гісторыі заходнярускай літаратуры XVI— XVII стст.» (Очерки из истории западно-русской литературы конца XVI—первой половины XVII в. // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1888. Кн. 1) даследаваў бел. л-ру. Разглядаў барацьбу з каталіцтвам на бел. і ўкр. землях, гісторыю царк. брацтваў (у Вільні, Гародні, Магілёве, Бярэсці, Менску, Оршы, Пінску і інш.) і кнігадрукавання ў славян (ад Ш.Фіёля і Ф.Скарыны), даў спіс бел. кніг 14—16 ст. На шырокім фоне тагачаснай паліт., грамадска-культ. і рэліг. барацьбы даследаваў творы палемічнай л-ры («Апакрысіс» Хрыстафора Філалета, «Фрынас» М.Сматрыцкага, «Палінодыю» З.Капысценскага, «Перастрогу» невядомага аўтара), прапаведнікаў Іанікія Галятоўскага, Лазара Барановіча, Кірылы Стаўравецкага (Транквіліёна), кнігі вучэбнага характару («Лексіс» Л.Зізанія, «Лексікон» П.Бярынды, «Граматыку» М.Сматрыцкага).



К.**Арцішэўскі**.

*Літ.*: Нил Сорский и Вассиан Патрикеев, их литературные труды и идеи в древней Руси. Санкт-Петербург, 1882; Театр допетровской Руси. Казань, 1884; Св. Кирилл и Мефодий и совершенный ими перевод Св. Писания. (Казань, 1885; Борьба с католичеством и умственное пробуждение южной Руси к концу XVI в. // Киевская старина. 1886. № 6; Творения отцов церкви в древнерусской письменности. Вып. 1—4. Казань, 1889—1891; Из лекций по истории русской литературы: литература домонгольской Руси, XI—половина XIII в. Казань, 1903; Из лекций по истории русской литературы: образование и литература в Московском государстве конца XV—XVII вв. 2 изд. Вып. 1—4; Казань, 1898—1913; Введение в историю русской литературы. Т. 1. Петроград, 1916.

***Янка Саламевіч.***

**«Архіў Віленскага генерал-губернатарства»** («Архив Виленского генерал-губернаторства»), археаграфічнае выданне, гл. ў арт. «*Апісанне спраў, якія захоўваюцца ў архіве Віленскага генерал-губернатарства*».

**Арцём'еў** Савін, ювелір 17 ст. з Полацка. Перасяліўся ў Маскву і працаваў у Сярэбранай палаце Маскоўскага Крамля. У 1661 разам з інш. майстрамі рабіў «усялякія суды і царкоўныя кадзілы».

**Арцішэўскі** Крыштоф (1592, маёнтак Рагалін, Польшча—1656), дзяржаўны і ваенны дзеяч. Нарадзіўся ў арыянскай шляхецкай сям'і. З-за ганенняў на арыян у Польшчы А. выхоўваўся ў беластоцкіх маёнтках Радзівілаў і пры двары К.*Радзівіла* ў Біржах. Як кліент Радзівіла і выдатны знаўца старабел. мовы атрымаў у 1619 пасаду «пісара рускай мовы» ў яго канцылярыі. Далейшае жыццё А. было цесна звязана з родам Радзівілаў і інтарэсамі пратэстантаў ВКЛ. У 1622 кіраваў абаронай Біржанскага замка ад шведскіх войск. У 1623 за забойства асабістага ворага шляхціца П.Бжазніцкага, які забраў яго родавы маёнтак, А. быў асуджаны на баніцыю. З 1624 у Галандыі. Як стыпэндыят Радзівіла А. вывучаў артылерыю і навігацыю ў Лейдэнскім ун-це. У 1627—29 кіраўнік гуртка студэнтаў-пратэстантаў з ВКЛ ва ун-це г. Седан (цяпер у Францыі). У 1629 завербаваўся на службу ў галандскую Заходне-Індскую кампанію і атрымаў пасаду капітана флота Галандскай Індыі (Бразіліі і Сурынама). У Бразіліі ў войнах Галандыі супраць Іспаніі А. зрабіў хуткую кар'еру і ў 1637 прызначаны камандуючым 7-тысячнай галандскай арміі ў Бразіліі. Але зацяжны канфлікт А. з губернатарам Галандскай Індыі графам Янам Морыцам Насау прымусіў А. пакінуць службу і вярнуцца ў Амстэрдам. У 1637 удзельнічаў




Да арт. К.**Арцішэўскі**. Карта Бразіліі. Амстэрдам. 1650.

у аблозе г. Брэда, якой кіраваў прынц Фрэдэрык Аранскі. У 1642 галандскі вучоны Герард Вос (Gerard Voss) выдаў у Амстэрдаме адно з першых даследаванняў язычніцкіх культаў індзейцаў Амерыкі «De theologia gentili et physiologia christiana sive de origine et progressu idolatriae». Значная частка кнігі, паводле прызнання аўтара, была пабудавана на этнаграфічных занатоўках, зробленых А. у Бразіліі. На аснове назбіранай у Амерыцы інфармацыі галандскі картограф і выдавец Ян Блау (Jan Blaeu) надрукаваў у 1650 у Амстэрдаме адну з першых карт Бразіліі. У легендзе карты Блау змясціў кароткае лацінскае прысвячэнне А. і яго герб «Праўдзіц». У 1643, відаць, у ка-

мерцыйных мэтах, А. падрыхтаваў у Амстэрдаме трактат пра лячэнне падагры «Epistola de podagra curata per doctorem Andream Cnevffelivm», які выдаў Блау (згодна з А., яго ўкр. сябар доктар Андрэй Гнялеўскі вынайшаў цудадзейны сродак ад падагры, які дапамог А.). У 1648, у час казацкага паўстання, А. вярнуўся на бацькаўшчыну і быў прызначаны каралём генералам артылерыі. Кіраваў абаронай Львова ад войск гетмана Б.Хмяльніцкага. Аднак з-за фінансавай спрэчкі са сваім намеснікам К.*Семяновічам* пакінуў войска і вярнуўся ў Амстэрдам. Пасля заключэння *Кейданскай уніі 1655* на заклік Я.*Радзівіла* А. зноў выехаў у Рэч Паспалітую. Па яго прыкладзе пакінуў службу ў Даніі яго брат палкоўнік Гальяш Арцішэўскі. Па дарозе А. захварэў і спыніўся ў пратэстанцкім мястэчку Лешна, дзе і памёр. Харугва каталіцкай шляхты выцягнула цела А. як «здрадцы і ерэтыка» з труны і спаліла яго на ростанях. Пра гэта з абурэннем пісалі тагачасныя англійскія і галандскія газеты. А. быў сябрам вядомых пратэстанцкіх дзеячаў ВКЛ С.*Рысінскага* і А.*Вішаватага*. А. — аўтар шэрагу вершаў, у якіх, між іншым, называў сябе грамадзянінам свету. Помнік А. існуе ў бразільскім горадзе Рэсіфі правінцыі Пернамбуку. Частка архіва А. захоўвалася ў Нясвіжскім замку, цяпер у Гал. архіве старраж. актаў у Варшаве.


E.PIŠTOLA
DE
PODAGRA CVRATA
per Doctorem
ANDREAM CNEVFFELIVM.
AMSTELREDAMI,
Apud IOHANNEM BLAEV.
cIↃ IↃ c xxiii.

К.**Арцішэўскі**. «Epistola de podagra». Амстэрдам. 1643.

*Тв.*: Piesn Krzysztofa Arciszewskiego / Wyd. A.W.D. [Арцём Вярыга Дарэўскі?] S.l., 1863; D a n y s z A. Pamietnik Krzysztofa Arciszewskiego z pobytu w Brazylii // Rocznik Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Poznaniu. 1895. T. 21.

*Літ.*: K r a u s h a r A. Dzieje Krzysztofa z Arciszewa Arciszewskiego admirala i wodza Holendrow w Brazilii. T. 1—2. Petersburg, 1892; F i s c h l o w i t z E. Cristoforo Arciszewski. Rio de Janeiro, 1958; A u g u s t y n i a k U. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640): Miechanizmy funkcjonowania patronatu. Warszawa, 2001; P a r a d o w s k a M. Krzysztof Arciszewski, admiral wojsk holenderskich w Brazylii. Wrocław; Warszawa, 2001.

***Андрэй Катлярчук.***

**Арэнт** Тобіяш (10.6.1646 — 8.4. 1724), дзеяч каталіцкай царквы. У 1662 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. З 1673 ксёндз. Місіянер у Караляўцы (1674—75), выкладаў філасофію ў Полацку (1678—81), пазітыўную і палемічную тэалогію ў Браневе (1681—82), прэфект студый у Варшаве (1682—83), выкладаў схаластычную і палемічную тэалогію ў Браневе (1684—85), суперыёр у Караляўцы (1688—90, 1694—96), рэктар калегіумаў у Браневе (1690—93) і Варшаве (1697—1701), галава Літ. правінцыі ордэна (1701—05), рэктар Віленскай акадэміі (1705—10, 1716—20, 1721—24), рэгент Папскай семінарыі і прэфект студый у Браневе (1710—13), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1713—16). Як галава Літ. правінцыі ў 1703 прапанаваў генералу ордэна езуітаў план пашырэння ўплыву на праваслаўных, для чаго выступаў за прыняцце езуітамі ўсх. абраду. У працы «Studium polemicum» (Вільня, 1716) выклаў свае метады вядзення рэліг. палемікі. Апрацаваў практычны педагагічны падручнік «Praxis de natura, motivis et mediis magisterii grammatices» (Вільня, 1744).

*Літ.*: P i e c h n i k L. Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 3. Próby odnowy Akademii Wilenskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**«Асветнік літоўскі»** («Просветитель литовский»), расійскі палемічны зборнік, накіраваны супраць неправаслаўных хрысціянскіх цэркваў. Складзены, відаць, у 1620-я г. Першапачаткова быў невял. памеру, меў 30 раздзелаў. Назву атрымаў з-за таго, што ў яго склад увайшлі ўрыўкі з твораў бел. і ўкр. аўтараў з ВКЛ антыпратэстанцкай накіраванасці, у т.л. «Кніга аб абразах», «Кніга аб Троіцы» (пераклады з 2 віленскіх выданняў 1596). Некаторыя антыкаталіцкія і антыпратэстанцкія раздзелы «А.л.» ўзяты з Рус. хранографа шырокай рэдакцыі. У 1620-х г. «А.л.» пашыраны дадатковымі раздзеламі: натурфіласофскімі артыкуламі, выпіскамі з «Касмаграфіі» і «Палеі», айцоў царквы, твораў рас. правасл. аўтараў, антымусульманскімі артыкуламі з хранографа. Быў уключаны антыкаталіцкі твор С.*Зізанія* «Казанне святога Кірыла, патрыярха іерусалімскага» (Вільня, 1596) і інш. Зборнік такога складу паслужыў асновай для выдання «*Кірылавай кнігі*» (Масква, 1644).

*Літ.*: О п а р и н а Т.А. Просветитель Литовский — неизвестный памятник идеологической борьбы XVII века // Литературная и классовая борьба эпохи позднего феодализма в России. Новосибирск, 1987; Ее ж. Археографическое описание списков Просветителя Литовского (вид Унд. 426) // Публицистика и исторические сочинения периода феодализма. Новосибирск, 1989.

**Асікевіч** (А ў с ю к е в і ч) Аляксандр, архітэктар. Выпрацаваў праектны план і кіраваў пабудовай царквы *Барунскага Петрапаўлаўскага манастыра* (1747—63).

*Літ.*: L o z a S. Architekci i budowniczowie w Polsce. Warszawa, 1954.

**Асінскі** Самуэль (?—1649), ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Радван», сын Паўла Асінскага, скарбніка ашмянскага і каралеўскага двараніна. Вызнаваў кальвінізм. У 1632 удзельнічаў у абранні караля польскага і вял. кн. літ. Уладзіслава IV. Пачаў службу ў каралеўскай гвардыі і ўдзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. З 1640 оберштэр першага рэгімента каралеўскай гвардыі. Падчашы ашмянскі ў 1635—43, цівун бяржнянскі ў 1642—43, абозны ВКЛ з 1645. У 1645

удзельнічаў у перадачы Расіі г. Трубчэўск (Трубецк). Аддача горада выклікала ў ВКЛ гучны пратэст, Трыбунал ВКЛ прысудзіў А. разам з мсціслаўскім ваяводам Мікалаем Абрамовічам на выплату 600 тыс. злотых і смяротнае пакаранне, але кароль абараніў іх. У 1646 па даручэнні караля вёў прыгатаванні да вайны з Турцыяй, збіраў атрад жаўнераў. З 1648 удзельнічаў у баявых дзеяннях супраць укр. казакаў. Вызначыўся ў бітвах пад Старым Канстанцінавам 26—28.7.1648 і Піляўцамі 21.9.1648. На сойме 1648 выступіў з рэляцыяй пра ход ваенных дзеянняў. У 1648 удзельнічаў у абранні караля польскага і вял. кн. літ. Яна II Казіміра. Меў маёнткі ў розных паветах ВКЛ, з 1633 трымаў маёнткі Паросе (да 1637) і Навіны ў Аліцкай эканоміі, у 1641 атрымаў Берасцейскую эканомію пад умовай утрымання атрада ў 500 чал. пешай гвардыі і выплаты 5 тыс. злотых штогод каралю.

**Аскерка** Гервазы Людвік (1700—71), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з роду *Аскеркаў*, сын Антонія Аскеркі і Сафіі з Календаў, брат Рафала Алаізія *Аскеркі*. Мазырскі гродскі староста з 1724, чашнік ВКЛ з 1748, рэферэндар ВКЛ з 1764; пасол на соймы 1724, 1726, 1733 (надзвычайны), 1733 (канвакацыйны), 1740, 1744, 1746, 1748, 1750, 1752 1760, 1764, 1766. У 1733 абраны палкоўнікам Мазырскага пав. і падпісаў выбар каралём Станіслава Ляшчынскага. Прымаў актыўны ўдзел у барацьбе пасэсараў «нойбургскіх уладанняў» супраць Радзівілаў. У 1737 абраны дэпутатам і быў кандыдатам на пасаду маршалка Трыбунала ВКЛ, але стаў маршалкам Скарбовага трыбунала. З пачатку 1740-х г. супрацоўнічаў з Сапегамі і Чартарыйскімі. Разам з ковенскім гродскім старастам Шыманам Сіруцем дапамог Сапегам атрымаць большасць на рус. кадэнцыі Трыбунала ВКЛ 1742. Перад Трыбуналам ВКЛ 1743 А. лічыўся супольным кандыдатам Чартарыйскіх і Сапег на пасаду трыбунальскага маршалка. Дапамог лоўчаму ВКЛ Міхалу Антонію *Сапегу* быць абраным дэпутатам у Мазыры і стаць трыбунальскім маршалкам. У канцы жн. 1743 Чартарыйскія перад спробай стварэння антыкаралеўскага рокаша ў ВКЛ сабралі на нараду ў Воўчыне сваіх прыхільнікаў, сярод якіх быў А. У 1747 разглядаўся як магчымы кандыдат на пасаду маршалка Трыбунала ВКЛ 1748. Карыстаўся нават падтрымкай непрыхільных яму Радзівілаў, але адмовіўся дамагацца пасады. Падтрымліваў праграму Чартарыйскіх па рэформе дзярж. ладу. Сярод іх прыхільнікаў знаходзіўся і пасля разрыву Чартарыйскіх з каралеўскім дваром. У маі 1764 быў пaслом Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ у Пецярбург для забеспячэння рас. падтрымкі Чартарыйскім і іх кандыдату на трон Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. У 1768 выступаў супраць запрашэння рас. войск супраць *Барскай канфедэрацыі*.

*Літ.*: Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o sukcesje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Zielińska Z. Walka «Familii» o reforme Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1. Warszawa, 1996.

*Андрэй Мацук.*

**Аскерка** Рафал Алойзы (1708—67), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з роду *Аскеркаў*, сын Антонія Аскеркі і Сафіі з Календаў, брат Г.Л.*Аскеркі*. Мазырскі харужы з 1733, маршалак з 1738, пасол на соймы 1748, 1760, 1764 і 1766. У 1733 быў сярод тых, хто выбіраў каралём Станіслава Ляшчынскага. У 1740 абраны мазырскім дэпутатам і стаў маршалкам Скарбовага трыбунала. З пач. 1740-х г. супрацоўнічаў з Сапегамі і Чартарыйскімі. Дапамог лоўчаму ВКЛ Міхалу Антонію *Сапегу* быць абраным дэпутатам у Мазыры і стаць маршалкам Трыбунала. Падтрымліваў праграму Чартарыйскіх па рэформе дзярж. ладу. У шэрагу іх прыхільнікаў знаходзіўся і пасля разрыву Чартарыйскіх з каралеўскім дваром. У 1756 ізноў абраны мазырскім дэпутатам і стаў маршалкам Скарбовага трыбунала. На канвакацыйным сойме 1764 вызначаны пaслом да складання пакта канвента. У 1765 няўдала намагаўся атрымаць пасаду надворнага падскарбія ВКЛ.

*Літ.*: Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o sukcesje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Zielińska Z. Walka «Familii» o reforme Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1. Warszawa, 1996.

*Андрэй Мацук.*

**аспр** (аспра, ад грэч. aspros белы), сярэбраная манета Трапезундскай імперыі, Ордэна гаспітальераў, генуэзскай калоніі Кафа ў Крыме ў 13—15 ст. і інш. Першапачаткова важыў 2,9 г, пасля маса знізілася да 1,1 г. На генуэзскіх А. на аверсе была выява герба Генуі, лацінская назва горада і ініцыялы консула, на рэверсе — тамга залатаардынскага або крымскага хана, яго імя і тытул на арабскай мове. Крымска-генуэзскія А. (як і *акчэ* крымскіх ханаў) удзельнічалі ў грашовым абароце ВКЛ у 2-й пал. 15—пач. 16 ст., пераважна ў Сярэднім Падняпроўі і Усх. Падоллі. У дакументах ВКЛ 15—17 ст. А. маглі называць турэцкія акчэ (варыянты наймення — аспа, аспрата, аспроля).

*Літ.*: Казубовский Г.А. Обращение гирейских и крымско-генуэзских монет на украинских землях Великого княжества Литовского // «О древностях южного берега Крыма и гор Таврических»: Сборник научных трудов: (по материалам конференции в честь 210-летия со дня рождения Петра Ивановича Кеппена). Киев, 2004.

**Астаф'еў** Рыгор, збройнік 17 ст., майстар пішчальнай справы. Родам з Оршы. Працаваў у Маскве, куды ў 1658 прыехаў з быхаўскім збройнікам-пішчальнікам Васілём у якасці яго вучня. Жыў у Броннай слабадзе сярод бел. пасяленцаў-рамеснікаў. У 1677 А. з Амелькам Сяргеевым зрабіў 4, у 1678 — 10 пішчалей.

**Астаф'еў** Сценька, ювелір 17 ст., майстар сярэбранай справы. Жыў у Полацку. У 1660 разам з вучнем Антошкам Шчасным і пляменнікам Івашкам па запрашэнні цара Аляксея Міхайлавіча ў ліку інш. полацкіх рамеснікаў пераехаў на жыхарства ў Маскву і працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля.

**астраномія** (ад грэч. astkon зорка + nomos закон), навука пра рух, будову, паходжанне і развіццё касмічных цел,


CENTVRIA
ASTRONOMICA
In alma Academia & Vniuersitate Vilnensi Societatis JESV
ab
ALBERTO DYBLINSKI Physicæ, & Matheseos auditore.
Publicæ disputationi proposita.
VILNÆ,
Typis Academicis Societatis JESV, Anno Domini 1639.

Да арт. **Астраномія**. «Астранамічная сотня». Вільня. 1639. Тытульны ліст.

іх сістэм і Сусвету ў цэлым. Астранамічныя даследаванні на тэр. ВКЛ праводзіліся ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Першыя назіранні Венеры праведзены тут у пач. 17 ст. Асновай выкладання астраноміі доўгі час быў геацэнтрызм, але выкладчыкі паведамлялі студэнтам і аб альтэрнатыўных канцэпцыях светабудовы. У 2-й чвэрці 17 ст. праходзіла рэцэпцыя творчасці Г.Галілея. Пад кіраўніцтвам Освальда *Кругера* ажыццяўляліся тэлескапічныя даследаванні нябесных цел. У выніку былі пацверджаны рух Меркурыя і Венеры вакол Сонца, наяўнасць спадарожнікаў у Юпіцера, плямаў на Сонцы. Кругер у 1645 адкрыта прызнаў геліяцэнтрызм. Разбуральныя войны і грамадскія канфлікты сярэдзіны 17—1-й трэці 18 ст. прыпынілі даследчую працу, хоць прафесары акадэміі працягвалі знаёміць навучэнцаў з дасягненнямі зах.-еўрапейскіх вучоных. Заканамерным вынікам аднаўлення і рэфармавання езуіцкай сістэмы адукацыі стала ўтварэнне ў 1753 астранамічнай абсерваторыі пры акадэміі. Яе калектыў пад кіраўніцтвам Марціна *Пачобута-Адляніцкага* з 1765 праводзіў сістэматычныя астраметрычныя даследаванні, якія спалучаліся з вырашэннем прыкладных задач, пераважна ў галіне геадэзіі і картаграфіі, а таксама садзейнічаў распаўсюджанню навук. ведаў. Асаблівае значэнне мела праграма назіранняў Меркурыя, выніковыя дадзеныя якой былі выкарыстаны Ж.-Ж.Ф. дэ Лаландам для карэкцыі табліц руху гэтай планеты. З мэтаю прыцягнення ўвагі да важнай, але нявывучанай часткі зорнага неба Пачобут-Адляніцкі прыняў рашэнне аб вылучэнні канстэляцыі (сузор'я) «Каралеўскі Цялец Панятоўскага» (зараз астэрызм у складзе Змеяносца), што было падтрымана сусветнай навук. грамадскасцю. У межах плана па стварэнні карты Рэчы Паспалітай супрацоўнікі Віленскай астранамічнай абсерваторыі вызначылі геаграфічную шырату звыш 20 населеных пунктаў на тэр. сучасных Беларусі, Літвы і Латвіі, стварылі папярэднюю карту ВКЛ. Значная ўвага імі надавалася папулярызацыі дасягненняў прыродазнаўства з мэтаю выкаранення астралагічных забабонаў, паскарэння сац.-эканам. развіцця краіны. У «Віленскім календары» з 1775 быў апублікаваны артыкул, прысвечаны апісанню Сонечнай сістэмы на аснове поглядаў М.Каперніка, І.Кеплера, І.Ньютана. Дзейнасць вучоных астранамічнай абсерваторыі стала важным фактарам развіцця вышэйшай адукацыі ў Вільні на працягу 2-й пал. 18—1-й трэці 19 ст.


1


2

Да арт. **Астраномія**: 1 — секстант канструкцыі Ж.Каніве з Віленскай астранамічнай абсерваторыі. 1765; 2 — тэлескоп з Віленскай астранамічнай абсерваторыі. 18 ст.




Да арт. **Астраномія**. Выява сузор'я «Каралеўскі Цялец Панятоўскага» з атласа Фламстэда. 1795.

*Літ.*: B a l i ń s k i M. Dawna Akademia Wileńska. Petersburg, 1862; B i e l i ń s k i J. Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 1—3. Kraków, 1899—1900; Из истории естествознания и техники Прибалтики. Т. 2 (8). Рига, 1970; P l e š k a i t i s R. Feodalizmo laikotarpio filosofija Lietuvoje. Vilnius, 1975; Vilniaus universiteto istorija (1579—1803). Vilnius, 1976;

Z u b o v a s V. Tomas Žebrauskas ir jo mokiniai. Vilnius, 1986; Очерки истории науки и культуры Беларуси IX—начала XX в. Минск, 1996; T a r g o s z K. Polski wątek w życiu i sprawie Galileusza: «Galileo Galilei e il mondo polacco» Bronisława Bilińskiego (1969) z uzupełnieniami // Zagadnienia Filozoficzne w Nauce. Kraków, 2003. T. 32; M a t u l a i t y t e S. Senoji Vilniaus universiteto astronomijos observatorija ir jos biblioteka. Vilnius, 2004. ***Павел Космач.***

**Астрожская Біблія**, першае поўнае выданне тэксту Біблії на царкоўнаславянскай мове, якое выйшла ў 1580—81 у г. Астрог (Валынь), у маёнтку кн. К.К.*Астрожскага* і на яго сродкі, у заснаванай ім каля 1578 *Астрожскай друкарні*. Выданне рыхтаваў калектыў рэдактараў-кніжнікаў, сярод якіх было некалькі вучоных-грэкаў, а таксама Герасім Сматрыцкі, кіраўнік *Астрожскай школы*, і І.*Фёдараў*, які кіраваў друкам. Асновай тэксту А.Б. стала рукапісная Генадзева Біблія (Ноўгарад, 1499) — першы ў правасл. славян поўны кодэкс царк.-слав. Св. Пісання, копія якой была прыслана з Масквы царом Іванам IV. Збіраліся (у т.л. на Балканах і ў Італіі) і параўноўваліся іншыя царк.-слав., грэчаскія і лацінскія тэксты. Большасць біблейскіх кніг пры выданні А.Б. рэдагавалася мінімальна, аднак 1-я і 2-я кнігі Параліпаменан, 1-я і 2-я кнігі Макавейскія, кніга Прамудрасці Саламона, часткі кнігі Ерамії, перакладзеныя ў Ноўгарадзе паводле лацінскай Вульгаты, фрагментарна моцна правіліся паводле старажытнага грэчаскага перакладу. У новым перакладзе ўвайшла ў А.Б. кніга Эсфір; упершыню была перакладзена з грэчаскага арыгінала 3-я кніга Макавейская. А.Б. была выдадзена арыгінальным дробным шрыфтам у 2 слупкі на старонку вял. фарматам (у аркуш), вялізным на той час тыражом каля 1 тыс. экз., які друкаваўся на працягу 2 гадоў з рознымі неістотнымі варыянтамі ў афармленні і тэксце. Кніга мае 628 аркушаў, без ілюстрацый, але з застаўкамі і ініцыяламі. Арфаграфіі А.Б. ўласцівы архаічныя рысы, а лексіцы і граматыцы — пэўная уніфікаванасць. Сярод правасл. славян А.Б. адразу стала найб. аўтарытэтнай крыніцай біблейскага тэксту на царк.-слав. мове (да 18 ст.) і паўплывала на нормы гэтай мовы, замацаваныя ў граматыцы М.*Сматрыцкага*. Перавыданні А.Б. былі здзейснены ў Маскве (1663) і Кіеве (1743) з крыху зменeным на маскоўскі ўзор правапісам і націскам, а зрэдку — лексікай і граматыкай. Наступнае перавыданне, т.зв. Елізавецінская Біблія (Масква, 1751), было значна выпраўлена паводле грэчаскіх і нават яўрэйскіх крыніц і актыўна перавыдавалася ў 18 ст. (Масква, 1756, 1759, 1762; Кіеў, 1758; Пачаеў, 1798).

*Публ.*: Острізька Біблія = Ostroh Bible 1581. Winnipeg, 1983; Острожская Библия 1581 г. [Фототип. воспр.]. Ленинград; М., 1988; Біблія сия книги Старого і Нового Завітів писана язиком словянськым... / Вид. Р.Турконяк. Львів, 2006.

*Літ.*: Федоровские чтения, 1981. М., 1985; Острожская библия: сб. статей. М., 1990; Н е м и р о в с к и й Е.Л. Острожская Библия: как находили и вводили в научный оборот самое знаменитое издание Ивана Федорова // Федоровские чтения, 2005. М., 2005; F r e i d h o f G. Vergleichende sprachliche Studien zur Gennaius-Bibel (1499) und Ostroger Bibel (1580/1581). Frankfurt am Main, 1972. ***Ігар Клімаў.***

**Астроўскі** Казімір (4.3.1669, Серадзьскае ваяв.—4.7.1732), дзеяч каталіцкай царквы, філасаф. З 1684 езуіт, з 1695 ксёндз. Выкладаў рыторыку ў Кросне (1697—98) і Яраслаўлі (1698—99), філасофію і матэматыку ў Львове (1699—1701), матэматыку і этыку ў Любліне (1701—02), філасофію ў Калішы (1702—08), тэалогію ў Сандаміры (1708—12) і Познані (1712—19), рэктар калегіума ў Луцку (1719—24), выкладчык кананічнага права і прэфект студый у Калішы (1724—25), рэк-







**Астрожская Біблія**. Тытульны ліст, аркуш 133 (з аркушаў, дадрукаваных у Вільні), выходны ліст з датай 1580.



тар калегіумаў у Кросне (1725—28) і Берасці (1728—32). У Берасцейскім калегіуме адкрыў у 1729 курс філасофіі для свецкіх студэнтаў. Выдаў філасофскі твор «Singulares universae rationalis scientiae controversiae» (Сандамір, 1719). Унёс значны ўклад у мадэрнізацыю схаластычнай філасофіі.

*Літ.*: Bargieł F. Kazimierz Ostrowski SJ (1669—1732) i jego wkład w unowocześnienie filozofii scholastycznej. Kraków, 1990.

**Астроўскі** (Ostrowski) Юліуш (16.1.1854, г. Варшава—12.3.1917), польскі палітычны дзеяч, генеалог. Граф. Вывучаў права ў Лювене і Бруселі. Належаў да лагера кансерватыўных каталіцкіх дзеячаў, адзін з заснавальнікаў Каталіцкага саюза (1905). Генеалогіяй займаўся як аматар. У 1896—1914 публікаваў у Варшаве ў сшытках «Гербавую кнігу польскіх родаў» («Ksiega herbowa rodow polskich»), дзе змешчана звыш 3600 выяў гербаў і іх апісанняў у альфавітным парадку (да герба «Sylm»). У 1930—36 працяг выдання ажыццяўляўся ў выглядзе часопіса «Herold» (да герба «Szczerbic»). Праца А. заснавана на вялізнай фактычнай базе, ахоплівае ўсе тэрыторыі б. Рэчы Паспалітай, а таксама Сілезію, Зах. Памор'е, Курляндыю; уключае таксама гербы няпольскіх родаў. Нягледзячы на недахопы (не заўсёды крытычны падыход да матэрыялу, непатрэбнае памнажэнне гербавых разнавіднасцяў) праца А. дзякуючы багаццю сабраных звестак (3664 гербаў) захоўвае вял. навук. вартасць.

**атаман**, у некаторых сярэдневяковых краінах назва кіраўніка, правадыра, начальніка. Найбольш верагодна цюркскае паходжанне слова (ад ata «бацька» або ад odamon «пастух, правіцель»). Першапачаткова тэрмін «А.» азначаў любога кіраўніка, начальніка ў якой-небудзь справе. Упершыню сустракаецца ў наўгародскіх граматах 13 ст. ў значэнні «начальнік прамысловай партыі, рыбалоўнай ватагі». У ВКЛ А. называлі ніжэйшых службовых асоб сельскай адміністрацыі на Кіеўшчыне (Оўруцкі і Чарнобыльскі паветы) і ў Падольскай зямлі. А. згадваюцца ў 2-й пал. 14 ст. ў сувязі з акалічнасцямі далучэння да ВКЛ Падолля (былое Паніззе) — тэр., якая непасрэдна падпарадкоўвалася Залатой Ардзе. Першапачаткова А. зваліся мясцовыя сял. ўлады, створаныя татарамі для збору падаткаў. Функцыі А. акрэслены ў летапіснай *«Аповесці аб Падоллі»*, у якой распавядаецца пра 3 татарскіх князёў, «отчичей и дедичей Подольское земли; а от них завед[ыв]али атаманы, и баскаки, приежд[ж]аючи, от тых атаманов имовали с Подольской земли дан[ь]». М.*Стрыйкоўскі* адзначаў, што князі з ВКЛ *Карыятавічы* ўступілі «у прыязнь» з мясцовай уладай — «отаманами», каб з іх дапамогай арганізаваць абарону зямлі ад татар. Наяўнасць у Паўд. Русі ў якасці начальнікаў мясцовага самакіравання старцаў (у Мазырскім і Любецкім паветах Кіеўскай зямлі) і А. на адной тэр. і з ідэнтычнымі сац.-эканам. характарыстыкамі сведчыць аб складанай паліт. сітуацыі ў 2-й пал. 13—1-й пал. 14 ст. і дазваляе вызначыць межы ўлады татар. На тэр. Украіны А. называлі таксама сельскага старшыну, старасту, старэйшага пастуха або чабана, кіраўніка рыбалоўнай ватагі і інш. Найб. распаўсюджанне тэрмін атрымаў сярод казацтва. У Запарожскай Сечы ў 16—18 ст. існавалі выбарныя пасады кашавога і куранных А. Кашавы А. меў вышэйшую вайсковую, адм. і суд. ўладу; куранныя А. ведалі ўсімі гаспадарчымі і адм. справамі ў куранях (групе хат або жылля).

*Сцяпан Цемушаў.*

**Атасельскі** Канстанцін (каля 1739, г. Львоў—24.12.1809), тэатральны мастак і майстар дэкаратыўнага жывапісу. Каля 1780 запрошаны ў прыдворны тэатр К.С.Радзівіла Пане Каханку ў Нясвіжы. Стварыў шэраг дэкарацый, у т.л. ў 1784 для аперэты «Агатка, ці Прыезд пана» (музыка Я.Голанда). З Нясвіжа пераехаў у Дзярэчын, дзе для прыдворнага тэатра Сапегаў размаляваў гал. заслону. З 1793 працаваў у Вільні, у 1796—1802 стварыў шэраг дэкарацый для Віленскага тэатра (оперы «Аберон, кароль эльфаў» П.Враніцкага, «Ладаіска» Л.Керубіні, «Уяўны цуд, ці Кракаўцы і горцы» Я.Стэфані).

*Гурый Барышаў.*

**Аўлачымскі** (Аблачынскі) Лаўрын (свецкае Юзаф; 19.2.1724, в. Нястанавічы, Менскае ваяв.—12.7.1763), дзеяч каталіцкай царквы. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. У 1743 у Віленскім кляштары Св. Духа ўступіў у ордэн дамініканцаў. Навіцыят А. адбыў у Папарцях, праз год выехаў у Гародню, дзе 6 гадоў вывучаў філасофію. Ухіляўся ад адм. і выкладчыцкай дзейнасці, але актыўна займаўся душапастырствам, з 1750 місіянер. З 1753 выхавальнік у навіцыяце ў Ружаным Стоку, у 1754—56 падпрэор Ружанастоцкага кляштара, з 1755 прэфект мясцовых місіянераў. Ружанастоцкія місіянеры-дамініканцы ахоплівалі сваёй дзейнасцю ВКЛ, Курляндыю, Інфлянты, Прусію, Чырвоную Русь, Мазовію. Выпрацавалі ўласныя місіянерскія метады, якія выклаў Войцех Шалуха ў кнізе «Спосаб зручнага і пасяховага адпраўлення місіі» («Sposob dogodnego i skutecznego misyi odprawowania», Вільня, 1766). Яны прадугледжвалі стварэнне напружанай эмацыянальнайнай атмасферы сярод слухачоў, нечаканыя шумавыя, музычныя эфекты і відовішчы. Казанні пра смерць неаднойчы рабіліся пры наяўнасці выкапанага з магілы трупа. Як сведчыць у сваіх мемуарах Юльян Нямцэвіч, А. «прыцягваў бясконцыя натоўпы людзей» і яшчэ пры жыцці яго лічылі святым. Аднак з боку правасл. дзейнасць А. выклікала супраціў, было некалькі замахаў на яго жыццё. Магілёўскі епіскап Георгій Каніскі ў 1765 скардзіўся на дзейнасць А. каралю польскаму і вял. князю літоўскаму Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. Выступалі супраць А. і яўрэі, якіх ён намагаўся навярнуць у каталіцтва і сілком заганяў у касцёл для прапаведзяў. А. зрабіў значны ўклад у будаўніцтва Ружанастоцкага кляштара, фундаваў для яго звон. Падрыхтаваў выданне кнігі Габрыэля Юркоўскага «Духмянасць містычнай ружы з Ружанастоцкага касцёла» («Wonnosci mistycznej rozy z Kosciola Rozano-Stockiego», Вільня, 1760), пад зменай назвай — «Мора літасці і ласкі Божай» («Morze litosci i laski Bozej», Вільня, 1760), кнігу Юркоўскага «Ружаная плынь квітнеючых ласк» («Rozany Potok kwitnacych lask», Вільня, 1763). Твор А. «Тэалогія прапаведнікаў»

(«Theologia concionatorum») застаўся ў рукапісу.

**Афанасьеў** Ларывон, ювелір 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Сярэбранай палаце Маскоўскага Крамля. У 1676 разам з бел. ювелірамі Іванам Андрэевым, Іванам Пракоф'евым, Васілём Іванавым зрабіў сярэбраныя пазалочаныя рукамыйнікі для царэвічаў Івана і Пятра.

**Афанасьеў** Пётра, жывапісец 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. У крас. 1680 накіраваны ў Аляксандраву Слабаду для выканання спраў па асабістых загадах цара.

**Афанасьеў** Сава, ювелір-пераплётчык 17 ст. Паходзіў з Беларусі. У Маскве працаваў у Кнігадрукарскім прыказе. У 1680 зрабіў абклады для кніг П.Скаргі на польск. мове і кнігі Ж.Кальвіна на лацінскай мове.

**афіцыял** (лац. officialis, officiarius, officiatus), у каталіцкай царкве святар высокага рангу, якому біскуп даручаў у межах дыяцэзіі ажыццяўляць сваю суд. ўладу (часам па пэўнаму колу пытанняў). Быў старшынёй біскупскага суда, кансісторыі. Выдаваў адпаведныя суд. выракі. У час адсутнасці біскупа А. мог выконваць яго абавязкі. Пасада А. існавала ў і грэка-каталіцкай царкве ВКЛ, дзе ён мог узначальваць царк.-адм. акругу — афіцыялат.

**Ахмат** (?—6.1.1481), хан Вялікай Арды. Сын хана Кічы-Мухамеда, пасля смерці якога ў 1459 ханам стаў яго старэйшы сын Махмуд. А. пачаў барацьбу з братам за ўладу і захапіў яе прыблізна ў 1466—68. Аднавіў кантроль над рус. землямі, якія на некаторы час зноў сталі выплочваць татарам даніну. У 1470 вял. кн. літ. Казімір IV прыслаў да А. пасольства на чале з татарынам Кірэем Крывым, прапануючы саюз супраць вял. кн. маскоўскага Івана III. Мэтай Казіміра было, відаць, устанаўленне кантролю над Ноўгарадам. Праз год А. адпусціў пасла Казіміра і прыслаў свайго. Паміж дзвюма дзяржавамі быў заключаны саюз. Улетку 1472 А. рушыў у паход на Маскву. Напад адбыўся праз землі ВКЛ (вярхоўя Акі), аднак татарам удалося толькі спаліць Алексін на правым беразе Акі, пасля чаго падышло маскоўскае войска, і А. адступіў. У 1476 А. захапіў Крымскае ханства, пазней падначаліў Астраханскае ханства, патрабаваў ад Васіля III прызнаць васальную залежнасць ад Арды і аднавіць выплату даніны. У 1479 А. вёў перагаворы з ВКЛ аб новым саюзе. У 1480 прадпрыняў паход на Маскву праз уладанні ВКЛ. Аднак Казімір не здолеў мабілізаваць на дапамогу А. польск. войскі, і паход скончыўся няўдала для татар (гл. *Стаянне на Угры 1480*). На зваротным шляху ў снеж. 1480 А. разрабаваў уладанні ВКЛ у вярхоўях Акі. Маскоўская дзяржава канчаткова вызвалілася ад татарскай залежнасці. А. быў забіты каля Азова сібірскім ханам Івакам, які дзейнічаў у саюзе з Нагайскай ардой.

*Літ.*: Алексеев Ю.Г. Освобождение Руси от ордынского ига. Ленинград, 1989; Горский А.А. Москва и Орда. М., 2000.

**Ахорскі Праабражэнскі манастыр.** Знаходзіўся каля в. Ахора (цяпер Чачэрскі р-н) на беразе р. Сож. Згодна паданню, заснаваны ў 17 ст. пустэльнікам (ці будаўніком) Аркадзем паводле загаду крычаўскага старасты канцлера Радзівіла. Першы ігумен вядомы з 1669. У час Паўн. вайны 1700—21 у 1708 манастыр разбураны шведамі, пасля адбудаваны. Паводле прывілея Аўгуста II 1720 манастыр захаваў праваслаўе і зямельную маёмасць. У 1842 прыпісаны да Магілёўскага Богаяўленскага манастыра, з 1870 самастойны. Меў драўляныя храмы: Праабражэнскі (1711) з разьбяным 3-ярусным іканастасам і шанаваным абразам Багародзіцы, Успенскі (1843). Манастыр зачынены ў 1918. Будынкі не захаваліся.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Ашмянскі кляштар францысканцаў.** Заснаваны ў г. *Ашмяны* вял. кн. Аляксандрам у 1505. Будынкі амаль на працягу ўсяго часу існавання былі драўляныя. Захаваўся інвентар 1585, дзе сярод кніг упамінаецца *антыфанарый* на пергаменце. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у 1659 кляштар цалкам разбураны. У 1822 пабудаваны каменны зальны касцёл. Кляштар зачынены ў 1832.

*Аляксандр Ярашэвіч.*





**Бабятынскі** (Bobiatyński) Конрад Артур (н. 28.6.1977, г. Варшава, Польшча), польскі гісторык. Д-р гуманістычных навук (2006). Скончыў Гіст. ін-т Варшаўскага ун-та (2001), дзе з 2001 дактарант, з 2006 ад'юнкт. Вывучае гісторыю ВКЛ 2-й пал. 17 ст., гісторыю ваеннай справы 16—17 ст., адносіны Рэчы Паспалітай з Расіяй у 17 ст., гісторыю запарожскіх казакоў 17 ст.

*Тв.*: Стары і Новы Быхаў у час вайны Рэчы Паспалітай з Масквой (1654—1655) // Беларускі гістарычны агляд. 2003. Сш. 1—2; Полацк і Полацкая зямля ў час вайны Рэчы Паспалітай з Масквой у 1654—1655 гг. // Полацкія гістарычныя запіскі. Наваполацк; Мінск, 2006. Т. 3; Адносіны жыхароў ВКЛ да маскоўскага войска ў 1654—55 г. // Бел. гіст. агляд. 2007. Сш. 1—2; Ад Смаленску да Вільні: вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.) // Arche. 2008. № 7—8; Od Smoleńska do Wilna: Wojna Rzeczypospolitej z Moskwą 1654—1655. Zabrze, 2004; Twierdze naddnieprzanskie w systemie obrony wschodniej granicy Wielkiego Księstwa Litewskiego — XVI—połowa XVII wieku // Zamojsko-Wołyńskie Zeszyty Muzealne. Zamość, 2004. T. 2; Dyneburg i Inflanty Polskie podczas wojny Rzeczypospolitej z Moskwą 1654—1656 // Zapiski Historyczne. 2005. Z. 2—3; Listy Janusza Radziwiłła do krola o działaniach militarnych podczas wojny z Moskwą w okresie od lutego do kwietnia 1655 r. // Studia historyczno-wojskowe. Siedlce, 2007. T. 1; Panorama postaw ludności Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec agresji moskiewskiej w latach 1654—1655 // Studia i materiały do historii wojskowości. Białystok, 2007. T. 43; Stronnictwo sapieżyńskie w defensywie — lata 1666—1673 // Леў Сапега (1557—1633 гг.) і яго час. Гродна, 2007; Michał Kazimierz Pac, wojewoda wileński, hetman wielki litewski: Działalność polityczno-wojskowa. Warszawa, 2008.

**багагласнік**, уніяцкі і праваслаўны зборнік песнапенняў рэлігійнага зместу. Б. былі пашыраны ў 16—19 ст. на тэр. Беларусі і Украіны ў рукапісным і друкаваным выглядзе. Прызначаліся для спеваў у час богаслужэння, хрэснага ходу і ў дамашнім побыце на святы. Жанры песнапенняў у складзе Б. разнастайныя: лацінскія гімны, польск. кантычкі, календы, гейналы, пастаралькі, бел. і ўкр. духоўныя псальмы і канты. Большасць Б. мела аднолькавую структуру: 1-я частка ўключала песні, прысвечаныя асн. царк. святам, страсцям Ісуса, некаторым тыдням царк. календара, цудатворным абразам, 2-я — святам, звязаным з Багародзіцай, і некаторым цудатворным абразам з яе выявай, 3-я — апосталам і пакутнікам, у 4-й частцы змяшчаліся пакаянныя і замілавальныя песнапенні для розных выпадкаў. Паэтычная і музычная аснова Б. інтэрнацыянальная, яе вытокі ў жыціях святых, грэчаскіх духоўных песнях, каталіцкіх і разнастайных пратэстанцкіх гімнах і харалах, польск. кантычках, калядках, пастаральках, гейналах, усх.-слав. нар. песнях; адчувальныя паўд.-слав., візантыйскія, турэцка-татарскія песенныя ўплывы. Змест Б. — улюбёныя матывы літаратуры і іканапісу. Бытавыя элементы найб. поўна ўвасоблены ў псальмах-калядках. У аснове паэтычных тэкстаў — сілабічныя прафесійныя і напаўпрафесійныя вершы. Параўнанне значнай колькасці бел., укр. і больш позніх рас. Б., складзеных з бел.-ўкр. узораў, паказвае эвалюцыю мовы ў бок яе русіфікацыі, прычым многія словы перакладаюцца на рус. мову няўдала, што вядзе да скажэння сэнсу, парушэння рыфмы, часам да разбурэння акравершаў, у якіх называліся аўтары тэкстаў. Большая частка псальмаў і кантаў узята ў Б. гатоваю з тых узораў кантавай культуры, што мелі ў 16—17 ст. шырокае хаджэнне ў народзе на тэр. Беларусі і Украіны і траплялі таксама ў інш. песенныя зборнікі (канцыяналы, катэхізмы). Выкладаліся яны ў Б. 1-, 2-, 3-, 4- і 5-галосна. Ва ўкр. Б., выдадзеных у Пачаеве, замацавалася 1- і 3-галосае музычнае выкладанне, у рукапісных рас. зборніках канца 17—18 ст. перавага аддавалася 3-галосаму. Ёсць звесткі пра існаванне вял. колькасці ранніх рукапісных бел. зборнікаў падобнага тыпу. Сярод іх Б., што зберагаўся ў Богаяўленскім манастыры (складаўся з 2 кніг: адна змяшчала ноты, другая — рыфмаваныя тэксты на старабел. мове), жыровіцкі Б. 17 ст. на старабел. мове, запісанай лацініцай (змяшчаў тыднёвыя псальмы, ірмасы, трапары). У 18 ст. рукапісныя бел. Б. ствараліся ў Супраслі (адзін з іх зберагаецца ў б-цы АН Літвы); тагачасныя зборнікі часткова складаліся з псальмаў і кантаў са збор-



нікаў 16—17 ст. У 17 ст. на Беларусі былі ўжо і свае друкаваныя Б., аднак з іх, як і з ранніх друкаваных укр. Б., ніводнага не засталося. Прычына малой захаванасці рукапісных і друкаваных Б. у праследаваннях іх правасл. духавенствам, якое разглядала гэтыя песеннікі як з'яву уніяцкую, шкодную для праваслаўя. Ёсць падставы лічыць, што рукапісныя Б. ў параўнанні са строга цэнзураванымі друкаванымі былі бліжэй да нар.-песеннай і бытавой традыцыі выканання псальмаў і кантаў, змяшчалі і канты свецкага зместу, у т.л. жартоўныя і т.зв. звярыныя гратэскі. Найб. ранні друкаваны Б., што дайшоў да нашага часу — пачаеўскі (выд. 1790) на царк.-слав., лацінскай і польск. мовах са значнай колькасцю украінізмаў і беларусізмаў. Ён перавыдаваўся ў Пачаеве ў 1805, 1825, 1850, стаў асновай Б. 19—пач. 20 ст., што друкаваліся ў Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Львове, Вільні, Гродне. У цэлым Б. з'яўляюцца каштоўнымі помнікамі самабытнай, інтэрнац. па сваіх вытоках, нар. у аснове кантавай культуры.

*Ларыса Касцюкавец.*

**Багдан Анісімавіч** (сярэдзіна 16 ст., Пінск—пасля 1601), беларускі царкоўны спявак, кніжнік. Паходзіў з Пінска. Быў вольнанаёмным спеваком у Супрасльскім манастыры. У 1630 уступіў у канфлікт з кцітарам манастыра Крыштофам Хадкевічам, пасля чаго пакінуў манастыр. Далейшы лёс невядомы. Склаў *Супрасльскі ірмалой 1601*. Вызначаўся «навуковым» падыходам пры складанні ірамлоя, пазначаў, адкуль браў музычныя творы, на палях занатоўваў паходжанне напеваў, абавязкова адзначаў мясцовыя (складзеныя ў Супрасльскім манастыры). Цікавіўся грэчаскай царк. музыкай, прывёў шмат грэчаскіх напеваў разам з тэкстамі на грэчаскай мове. Невядома, ці быў кампазітарам. Упрыгожыў рукапіс 5 манахромнымі (малінавага колеру) мініяцюрамі, 16 застаўкамі ў выглядзе рознакаляровай пляцёнкі балканскага тыпу. Для аздаблення першай старонкі ўжыў выразаную з кнігі гравюру Ф.Скарыны з выявай сонца і маладзіка.



**Багдан Анісімавіч**. Супрасльскі ірмалой. 1601. Аркуш 428.

*Літ.*: Конотоп А.В. Древнейший памятник украинского нотолинейного письма — супрасльский Ирмологион 1598—1601 гг. // Памятники культуры: Новые открытия: Письменность. Искусство. Археология: ежегодник, 1974. М., 1975; Пікарда Г. дэ. Царкоўная музыка на Беларусі, 989—1995. Мінск, 1995.

**Багданаў** Самойла, касцяной справы майстар 17 ст. Паходзіў з Беларусі. У 2-й пал. 17 ст. пераехаў у Маскву, працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля ў арцелі па мастацкай апрацоўцы косці. У лют. 1661 атрымаў слановую косць для вырабу шахмат, якія зрабіў з Кірушкам Сцяпанавым, Івашкам Мікіціным, Івашкам і Данілам Грыгор'евымі. У 1680 асабіста вытачыў 2 камплекты шахмат з слановай косці для цара: у адным фігуркі людзей з бердышамі і стрэльбамі выкананы ў тэхніцы разьбы па косці, у другім — фігуры гладкія точаныя.

**Багдашэвіч** І., адзін з кіраўнікоў *Давыд-Гарадоцкага паўстання 1648—50*. Мясцовы войт, у 1648 узначаліў атрад (полк) паўстанцаў колькасцю ў некалькі соцень чалавек. Першапачаткова дзейнічаў пад агульным кіраўніцтвам украінскага казацкага палкоўніка А.*Нябабы*, пасля разгрому апошняга ў кастр. 1648 дзейнічаў самастойна. Стварыў у сваім атрадзе казацкую іерархічную сістэму, у 1650 набыў статус палкоўніка. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.*: Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978.

*Сяргей Чаропка.*

**Багушэвіч** Войцэх (3.5.1666, Гарадзенскі пав.—15.5.1734), дзеяч каталіцкай царквы. У 1683 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прэфект школ у Плоцку (1699—1701), Пултуску (1701—02), Гародні (1702—03), Нясвіжы (1703—04), Менску (1704—05), Пінску (1705—06), рэктар калегіума ў Віцебску (1709—13), праф. маральнай тэалогіі і прэфект школы ў Нясвіжы (1713—14), рэктар калегіумаў у Нясвіжы (1714—20) і Полацку (1720—27), галава Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1727—31), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1731—34). Быў вядомы як мастак. Маляваў абразы святых, аднавіў алтар Маці Божай у Пултуску.

**Бадзянскі** (Бодянский) Восіп Максімавіч [13(25).11.1808, мяст. Варва Палтаўскай губ. (цяпер горад, цэнтр Варвінскага р-на Чарнігаўскай вобл., Украіна—19.9(1.10).1877], украінскі і расійскі філолаг, гісторык. Скончыў Маскоўскі ун-т (1834). В 1837 абараніў магістэрскую дысертацыю «Пра народную паэзію славянскіх плямён», у 1855 — доктарскую дысертацыю «Пра час паходжання славянскіх пісьмёнаў». У 1837—42 наведаў шмат слав. краін, займаўся даследаваннямі пад кіраўніцтвам чэшскага слявіста П.Шафарыка. У 1842—48 і 1849—68 праф. кафедры гісторыі і літ. слав. народаў Маскоўскага ун-та. У 1845—48 і 1858—77 сакратар Імператарскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім ун-це, рэдактар часопіса «Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете», дзе надрукаваў шмат гіст. крыніц, у т.л. па гісторыі ВКЛ [«Аповесць пра прыход літоўскага караля Сцяпана на вялікі і слаўны горад Пскоў», «Праекты аб скасаванні грэка-расійскага веравызнання ў захопленых Польшчай у Расіі абласцях», судовая позва С.Лавейку 1591, ліст мітрапаліта Ісідора да ўлад г. Холм 1440, ліст Пятра І да канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла 1706, «Размова аднаго паляка з Масквой на замку Маскоўскім у



1601 г.» Г.Пельгрымоўскага (урывак), «Пра Пятра Мядзведку, маскаля, казака, года 1607 у студзені», польск. «Песня пра Маскву ў 1609 г.», умовы Жыгімонта III Ілжэдзмітрыю 1605; журнал ваенных дзеянняў П.М.Крачэтнікава ў Рэчы Паспалітай 1767—68]. Заклаў падмурак рас. славяназнаўства. Займаўся праблемамі стараж. слав. пісьменнасці, вуснай нар. творчасці, паходжання славян і іх мовы. Збіраў бел. нар. песні, даследаваў мову Бібліі Ф.Скарыны, бел. ананімную паэму «Энеіда навыварат». Адкрыў бел. паходжання *Пазнанскі рукапіс*, у якім змешчаны *летапіс Рачынскага, «Гісторыя пра Атылу», «Аповесць пра Баву», «Аповесць пра Трышчана»*, і апублікаваў іх. Прапанаваў называць бел.-літ. летапісы «беларускімі пра Вялікае княства Літоўскае». Пераклаў з польск. мовы працы Дзяніса Зубрыцкага, аб'яднаныя ў зборніку «Критико-историческая повесть временных лет Червонной или Галицкой Руси» (Масква, 1845).

*Тв.*: О поисках моих в Познанской публичной библиотеке // Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских. 1846. № 1.; Выдержки из дневника О.М.Бодянского // Сборник Общества любителей российской словесности на 1891 год. М., 1891; Дневник 1852—1857. М., 2006.

*Літ.*: Срезневский И.И. На память о Бодянском, Григоровиче и Прейсе, первых преподавателях славянской филологии. Санкт-Петербург, 1878; Пичета В. К истории славяноведения в СССР // Историк-марксист. 1941. Кн. 3; Кондрашов Н.А. Осип Максимович Бодянский. М., 1956 (змешчана бібліяграфія прац Б.).

**Бадэр** Ганс Ульрых, віленскі канвісар і людвісар 17 ст. Займаўся ў асн. адліўкай з каляровых металаў невял. рэчаў, а таксама званоў. Захаваліся звесткі пра 4 званы Б. У 1664 адліў звон для касцёла ў Рэплі (Ваўкавыскі пав.), у 1671 — для цэркваў у Котры (Гарадзенскі пав.) і Кляшчэлях (Падляшша). Яшчэ адзін звон адліты ў 1696. Званы Б. невял. памераў, без асаблівых аздоб, але з лацінскімі надпісамі, што называюць імя майстра і год адліўкі.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 72—73.

**Бажэнава** (Гаршкавоз) Вольга Дзмітрыеўна (н. 24.2.1956, г. Волагда, Расія), беларускі гісторык мастацтва. Канд. мастацтвазнаўства (1987), дацэнт (1993). Скончыла Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна (1980). З 1989 у Бел. політэхнічным ін-це, з 1996 у Еўрапейскім гуманітарным ун-це (Мінск), з 2003 у БДУ. Даследуе праблемы мастацтва барока Беларусі 17—18 ст. у кантэксце зах.-еўрапейскай культуры і гісторыі Беларусі. Сааўтар падручніка «Гісторыя мастацтваў» (Масква, 1997), складальнік і адказны рэдактар зборніка «Знаходжанне вобраза» (Мінск, 2009).

*Тв.*: Гродзенскі кафедральны касцёл Святога Францыска Ксаверыя. Мінск, 2005 (з А.А.Ярашэвічам); Нясвіжскі касцёл Божага Цела. Мінск, 2006; Радзивилловский Несвиж: росписи костела Божьего Тела. Минск, 2007.

**Базельскі сабор 1431—49**, сабор каталіцкай царквы. Засядаў спачатку ў г. Базель, з 1448 — у г. Лазана (Швейцарыя). Скліканы рымскім папам Марцінам V у час глыбокага крызісу каталіцкай царквы для яе рэфармавання, урэгулявання ваеннага канфлікту з гусітамі, аб'яднання каталіцкай і правасл. цэркваў. Аднак Марцін V памёр да адкрыцця сабора, і ў час яго правядзення разгарэлася барацьба за вярхоўную царк. уладу паміж папам Яўгенам IV і самім саборам. Б.с. пацвердзіў рашэнне *Канстанцкага сабора 1414—18* аб прымаце ўсяленскага сабора над папам, абвясціў аб скасаванні некаторых падаткаў на карысць рымскай курыі, аб рэгулярным скліканні мясцовых сабораў, аб свабодзе царк. выбараў. Заключыў кампраміс з памяркоўнымі гусітамі — чашнікамі. Нязгодны з гэтымі рашэннямі Яўген IV абвясціў у 1437 пра перанос сабора ў Ферару, што было праігнаравана яго ўдзельнікамі. У 1438 у Ферары адчыніўся фактычна іншы сабор (у 1439 перанесены ў Фларэнцыю). Б.с. у 1439 абвясціў Яўгена IV нізложаным і выбраў новага папу — Фелікса V (савойскі герцаг Амадэй VIII, які адмовіўся ад сану ў 1449). Аднак большасць членаў Б.с. яго пакінула. У Лазане сабор прызнаў новага папу — Мікалая V і абвясціў аб самароспуску. Сабор не здолеў вырашыць пастаўленых перад ім задач, што прывяло да яшчэ большага падзення аўтарытэту каталіцкай царквы. Сабор імкнуўся заключыць царк. унію з правасл. царквой Візантыі. Адбыўся абмен пасольствамі паміж саборам і візантыйскім імператарам Іаанам VIII (у пасольстве апошняга ўдзельнічаў прыхільнік уніі *Ісідор* — будучы мітрапаліт кіеўскі). Высакамерныя адносіны Б.с. да справы уніі прымусілі візатыйскі бок пайсці на пагадненне з папам Яўгенам IV, у выніку чаго была заключана *Фларэнтыйская унія*. Сярод паліт. праблем, якія разглядаў сабор, былі напружаныя адносіны паміж Польшчай і ВКЛ. У гэты час у ВКЛ ішла феад. вайна паміж Жыгімонтам Кейстутавічам (яго падтрымліваў Ягайла) і Свідрыгайлам (яго саюзнік — Лівонскі ордэн). Восенню 1432 Свідрыгайлу наведаў з міратворчай місіяй пасланнік сабора Лаўрэнцій дэ Даміані. 22.3. 1433 правасл. князі Яраслаў Лугвенавіч і Андрэй, а таксама 14 баяр па прапанове Свідрыгайлы заявілі сабору, што той прытрымліваецца каталіцтва. У лісце Свідрыгайлы ад 26.11.1433 было заяўлена, что яго правы на трон ВКЛ грунтуюцца на тым, што ён сын Альгерда. Увогуле Свідрыгайла імкнуўся забяспечыць сабе падтрымку ўзаемных ворагаў — сабора і папы Яўгена IV. Апошні ў булах 1434 тытулаваў Свідрыгайлу вял. князем і нават прызначыў яго капелана Пятра жамойцкім біскупам. Свідрыгайла праз Андрэаса Пфафендорфа (пракуратар Тэўтонскага ордэна і Свідрыгайлы) патрабаваў на саборы, каб палякам была абвешчана анафема за іх саюз з гусітамі, накіраваны супраць ордэна і Свідрыгайлы. У сярэдзіне 1434 мітрапаліт Герасім (рэзідэнцыя ў Смаленску) дапамагаў Свідрыгайлу падтрымліваць адносіны з саборам і папам Яўгенам. Паміж саборамі, Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам ішла ажыўленая перапіска, але пасля *Брэсцкага міру 1435* паміж Ордэнам (2 з яго галін), з аднаго боку, і Польшчай і ВКЛ — з другога, цікавасць сабора да гэтых спраў значна ўпала. У 1434 рыжскі арцыбіскуп Генінг Шарпенберг скардзіўся сабору на Лівонскі закон, просячы, каб сабор узяў яго пад свой пратэктарат і паклаў канец прэ-

тэнзіям ордэна на лівонскія біскупствы. У 1435 сабор прызнаў караля польск. Уладзіслава III і вял. кн. літ. Жыгімонта пратэктарамі Рыжскага арцыбіскупства і інш. біскупстваў у Лівоніі. Магчыма, аналагічныя лісты сабор выслаў да Ягайлы і Свідрыгайлы яшчэ ў 1431. У 1439 сабор выслаў віленскаму біскупу Мацею пастановы сабора для інфармацыі.

*Літ.*: Dundulis B. Kova dėl valdžios Lietuvoje ir Bazelio bažnytinis susirinkimas (1431—1435 m.) // Lietuvos TSR aukštųjų mokyklų mokslo darbai. Istorija. Vilnius, 1964. T. 6.

**Базілевіч** (Базилевич) Канстанцін Васілевіч [12(24).5.1892, г. Кіеў—3.3. 1950], расійскі гісторык. Канд. гіст. навук (1935), праф. (1938). Скончыў Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча ў Санкт-Пецярбургу (1913), авіяцыйную школу, Маскоўскі ун-т (1922). Удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне, з 1918 у Чырвонай Арміі. У 1918—21 працаваў у ваенна-тэхнічнай рэдакцыі Рэўваенсавета, у 1922—29 у Дзярж. гіст. музеі ў Маскве, у 1929—35 у НДІ сувязі і Інжынерна-тэхнічнай акадэміі сувязі. З 1930 выкладаў у вузах Масквы, з 1935 — у Маскоўскім ун-це, з 1939 — у Вышэйшай партыйнай школе пры ЦК ВКП(б), адначасова з 1936 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН СССР. Даследаваў гісторыю феад. Расіі: нар. рухі, гандаль, знешнюю палітыку дзяржавы. У 1949 змясціў у часопісе «Вопросы истории» артыкул «Вопыт перыядызацыі гісторыі СССР феадальнага перыяду», якім была распачата вял. навук. дыскусія. Апублікаваў дакументы па гісторыі гар. паўстанняў у Расіі ў 17 ст., мытныя кнігі. Адзін з аўтараў абагульняючых прац «Нарысы гісторыі СССР», «Гісторыя Масквы», падручнікаў па гісторыі СССР для вузаў і сярэдніх школ. Пасмяротна выйшла незавершаная манаграфія «Знешняя палітыка Рускай цэнтралізаванай дзяржавы: Другая палова XV стагоддзя» (Масква, 1952), у якой Б. даў нарыс паліт. гісторыі Расіі ў 15 ст., даследаваў яе знешнюю палітыку ў адносінах да татарскіх ханстваў і ВКЛ. Дэтальна прасачыў ход ваенных дзеянняў паміж Расіяй і ВКЛ у 1480—90-х г. і вайны паміж імі ў 1500—03, узаемаадносіны асобных рус. княстваў з ВКЛ у 2-й пал. 15 ст., літ.-крымскія ўзаемадачыненні. За гэту працу Б. пасмяротна адзначаны Ламаносаўскай прэміяй 1-й ступені (1950).

*Тв.*: Таможенные книги как источник экономической истории России // Проблемы источниковедения. М.; Ленинград, 1933. Сб. 1; К вопросу об изучении таможенных книг XVII в.: (Проблема внутренней критики источника) // Там же. 1936. Сб. 2; Крестьянская война начала XVII века. Разгром польской и шведской интервенции: Стенограмма лекций, прочитанных 29 и 30 декабря 1939 г. Лекции 14 и 15. М., 1940; Борьба украинского и белорусского народов против польского владычества. Присоединение Украины к России: Стенограмма лекций, прочитанных 15 и 17 января 1940 г. Лекции 20 и 21. М., 1940; Борьба русского народа с польско-шведской интервенцией в начале XVII века. Минин и Пожарский. М., 1946; Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. [2 изд.] М., 2001.

*Літ.*: К.В.Базилевич // Вопросы истории. 1950. № 3; Исторические работы К.В.Базилевича // Там же. 1950. № 7 (змешчана бібліяграфія прац Б.); Черепнин Л.В. К.В.Базилевич // Уч. зап. МГУ. М., 1952. Вып. 156; Я г о ж. К 10-летию со дня смерти С.В.Бахрушина и К.В.Базилевича // Черепнин Л.В. Отечественные историки XVIII—XX вв. М., 1984.

**Баканоўскі** (Беканоўскі) Аляксандр (10.3.1682, Беларусь—13.2. 1755), дзеяч каталіцкай царквы. У 1704 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1715 ксёндз. Вывучаў у Віленскай акадэміі філасофію (1706—09) і тэалогію (1712—16). Праф. рыторыкі і паэтыкі ў Навагародку (1716—18), філасофіі ў Пінску (1718—19), філасофіі і маральнай тэалогіі ў Навагародку (1719—20), схаластычнай, пазітыўнай і палемічнай тэалогіі ў Віленскай акадэміі (1721—32, 1742—43), прэфект школы і суперыёр у Коўне (1741—42), прэфект школы ў Пінску (1739—40), Полацку (1743—46), Навагародку (1746—51). Выдаў кнігу «Праблемы тэалагічныя кананічна-маральныя пра сем таінстваў» («Quaestiones teologicae canonico-morales de septem sacramentis ss. canonum, canciliorum et ss. pp. autoritate firmatae», Вільня, 1732).

**Балабан** Гедэон (1530—1607), дзеяч праваслаўнай царквы, гл. *Гедэон*.

**Балаклай** (Булаклай, Буклай), міфічны татарскі хан, які быццам жыў у 13 ст. У літ.-бел. летапісах названы заволжскім царом, г.зн. ханам Вял. арды. Запатрабаваў ад вял. кн. літ. Скірмунта (у Яўрэінаўскім летапісе — Шкварна), каб той утрымліваў татарскіх баскакаў у сваіх гарадах і плаціў даніну, якую раней давалі татарам рус. князі. У адказ Скірмунт загадаў паслам Б. адрэзаць насы, губы і вушы. Б. узначаліў вял. паход супраць Скірмунта, разрабаваў рус. землі. Скірмунт спаткаў татарскае войска на граніцы сваіх уладанняў, каля Койданава. У бітве татарскае войска было разбіта, а сам Б. загінуў. Пасля бітвы Скірмунт узяў гарады Мазыр, Чарнігаў, Старадуб, Карачаў. Летапісны расказ быў дапоўнены некаторымі падрабязнасцямі гісторыкам 16 ст. М.Стрыйкоўскім. Напад Б. ён аднёс да 1221 і выказаў меркаванне, што на Чорным моры Б. заклаў замак, які назваў сваім імем. Крыніцай для ўтварэння імя Б. паслужыла, магчыма, імя Балай з Іпацьеўскага летапісу — военачальніка («багатыра») хана Батыя.

**балты**, індаеўрапейская група народаў, якія з'яўляюцца носьбітам балцкіх моў, з якіх да нашага часу захаваліся толькі літоўская і латышская. Тэрмін «Б.» утвораны ад назвы Балтыйскага мора (лат. Mare Balticum) і ў навук. абарот уведзены нямецкім мовазнаўцам Георгам Несельманам (1811—81), праф. Кёнігсбергскага ун-та (ням. Balten). Пытанне аб часе вылучэння балцкіх моў застаецца дыскусійным. Прапанавана гіпотэза аб фарміраванні на працягу 3-га тыс. да н.э. ў прычарнаморска-ніжняволжскіх стэпах страж.-еўрапейскай этнамоўнай супольнасці, якая з'яўлялася прамежкавай стадыяй паміж зах.-еўрапейскімі гіст. народамі і індаеўрапейскай агульнасцю (Т.В.Гамкрэлідзэ, В.У.Іванаў). У выніку рассялення носьбітаў страж.-еўрапейскіх дыялектаў у цэнтр.-еўрапейскім рэгіёне і наступнага развіцця паўсталі самастойныя кельта-італійскія, ілірыйскія, германскія, балцкія і слав. мовы. Шэраг фанетычных, граматычных і лексічных падабенстваў паміж балцкімі і слав. мовамі дазволіў даследчыкам сцвярджаць аб доўгім балта-слав. адзінстве.



Мяркуюць, што толькі каля 500 г. да н.э. адбылося вылучэнне праслав. мовы з балта-слав. (В.В.Сядоў). Разам з гіпотэзай аб балта-слав. адзінстве існуюць гіпотэзы аб: незалежным, раўналежным развіцці блізкіх балцкіх і славянскіх дыялектаў (А.Мее); другасным збліжэнні балцкіх і слав. моў (І.М.Эндзелін); стараж. агульнасці, затым доўгім перапынку і новым збліжэнні (Я.Развадоўскі); утварэнні слав. мовы з перыферыйных дыялектаў балцкай мовы (В.У.Іванаў, У.М.Тапароў). Б.У.Горнунг, наадварот, лічыў, што самі зах. перыферыйныя Б. адарваліся ад протаславян.

Паводле даных гіст. дыялекталогіі, Б. ў канцы 2-га тыс. да н.э. падзяліліся на 3 вял. групы: зах., цэнтр. (сярэднюю) і дняпроўскую. Арэал рассялення носьбітаў балцкіх моў не быў сталым. Пачатак этнагенезу Б. звязваюць з культурай шнуравой керамікі, носьбіты якой рассяліліся на вял. прасторы ад паўд.-ўсх. ўзбярэжжа Балтыйскага мора на З да Сярэдняга Падняпроўя і вярхоўяў Акі на Пд і У. На землі сучаснага бел. Падняпроўя плямёны культуры шнуравой керамікі праніклі ў пач. 2-га тыс. да н.э. У пач. жалезнага веку на тэр. Усх. Прусіі, Вармії, Мазурыі і зах. Літвы з'явілася насельніцтва лужыцкай культуры. У выніку інфільтрацыі лужыцкага насельніцтва сфарміравалася культура зах.-балцкіх (усх.-прускіх) курганоў. Ад апошняй прасочваецца прамая пераемнасць да зах. Б. (прусаў, *яцвягаў*, галіндаў, куршаў), якія вядомы паводле раннесярэдневяковых пісьмовых крыніц. Да гэтага часу адносяць пачатак фарміравання зах.-балцкай этнічнай супольнасці, з'яўленне адрозненняў у мове і культуры ад інш. балцкіх племянных груповак, якія паслужылі асновай лета-літ. і дняпроўскіх плямёнаў.

Культуру шнуравой керамікі на тэр. бел. Падняпроўя змяніла ў 2-й пал. 2-га тыс. да н.э. сосніцкая культура эпохі бронзы. На яе аснове склаліся культуры дняпроўскіх Б. ранняга жалезнага веку (днепра-дзвінская, юхноўская, верхняокская). Культуру штрыхаванай керамікі (7 ст. да н.э.— 5 ст. н.э.), якая распаўсюдзілася на тэр. сучасных цэнтр. Беларусі, Літвы і часткова Латвіі, стварылі плямёны сярэдняй групы Б. Перыферыйнай групоўкай стараж. балцкага этнамоўнага масіва лічацца плямёны мілаградскай культуры (існавала з 6—5 ст. да н.э. да 1—2 ст. н.э.). Пэўную ролю (яе ступень у шэрагу выпадкаў застаецца дыскусійнай) адыгралі Б. ў складанні на тэр. Усх. Еўропы тушамлінска-банцараўскай (5—7 ст.), зарубінецкай (3 ст. да н.э.—2 ст. н.э.) і мошчынскай (4—7 ст.) культур. У межах тушамлінска-банцараўскай культуры, паводле меркавання даследчыкаў, склаўся асобы славяна-балцкі сімбіёз. Тэр. Смаленскага Падняпроўя і Полацкага Падзвіння, дзе лакалізуецца тушамлінска-банцараўская культура, у адрозненне ад больш паўн. абласцей да моманту прыходу славян была досыць шчыльна заселена Б., і пазней не назіраецца значнага адтоку насельніцтва з гэтай вобласці. Паводле меркавання Сядова, носьбіты зарубінецкай культуры, якія засялілі Сярэдняе Падняпроўе, у т.л. Пд сучаснай Беларусі, у моўных адносінах былі блізкія і да славян, і да зах. Б. і, магчыма, стварылі асобную дыялектную групу. Да балцкага этнамоўнага масіву адносяць носьбітаў мошчынскай культуры (вярхоўі Акі). Мяркуюць, што менавіта да іх адносіцца зафіксаваны ў гоцкага гісторыка Іардана этнонім «Coldas», магчыма, іх нашчадкі згадваюцца ў стараж.-рус. летапісе ў 12 ст. пад імем голядзь.

Найвышэйшы росквіт у дадзярж. перыяд Б. перажылі ў 2—5 ст. н.э. (паводле азначэння М.Гімбутаса, «залаты век» Балтыі). У гэты час назіраецца найб. тэр. распаўсюджанне Б. ад нізоўяў Віслы на З да басейна Акі на У, ад басейна Дзвіны і вярхоўяў р. Вялікая на Пн да прыпяцкіх балот на Пд. Для гэтага перыяду характэрна значнае развіццё найважнейшых галін гаспадаркі Б. — земляробства (з'яўляецца двуполле, ральнае земляробства выцясняе падсечна-агнявое) і жывёлагадоўлі (выяўленыя археолагамі косткі свойскіх жывёл больш чым у 2 разы перавышаюць па колькасці косткі дзікіх). Узрастае тавараабмен Б. з суседзямі, сярод іншага выяўлена мноства рымскіх манет. Традыц. прадметам экспарту Б. застаецца бурштын. У той жа час у мастацтве балцкіх плямён фарміруецца «балтыйскі стыль» (ён знаходзіць адлюстраванне ў т.л. ў майстэрскіх эмалях). Следствам прагрэсу ў гаспадарцы з'явілася маёмасная дыферэнцыяцыя і функцыянальная стратыфікацыя насельніцтва, пра што сведчаць знаходкі багатых пахаванняў (напрыклад, пахаванні правадыроў племя судавян 4—пач. 5 ст., выяўленыя ў 1950-я г. экспедыцыяй Г.Антановіча каля Сувалак). Археал. даследаванні дазваляюць прасачыць наступную эвалюцыю грамадскага ладу Б. Так, з 7—8 ст. пачынаюць будавацца ўмацаваныя паселішчы, у якіх засяроджваецца рамесная вытворчасць і племянная арыстакратыя. У 10—12 ст. такія паселішчы ператвараюцца ў феад. замкі, каля некаторых з іх узнікаюць пасады (Трокі, Кернаў і інш.).

Звесткі пісьмовых крыніц аб Б. першых стагоддзяў н.э. вельмі фрагментарныя (Тацыт, Пталамей, Касіядор, Іардан). Асн. інфармацыю даюць археал. даследаванні. Адрозненні ў тыпах пахаванняў і абраднасці дазваляюць вылучыць асобныя балцкія плямёны або саюзы плямён. Дзякуючы раннесярэдневяковым пісьмовым помнікам (творы Вульфстана, Адама Брэменскага, Пятра з Дусбурга, Ибн Якуба; польск. хронікі, стараж.-рус. летапісы) вядомы назвы асобных плямёнаў 3 груп Б. Насельніцтва басейна сярэдняга і ніжняга Нёмана і ніжняга цячэння Зах. Дзвіны (за выключэннем яе вусця) паводле антычных і раннесярэдневяковых крыніц вядома пад імем эсціяў. Сярод іх вылучаюць некалькі плямён: на Пд ад Рыжскага заліва па ўзбярэжжы Балтыйскага мора размясціліся куршы; на У ад іх размяшчаліся земгалы і жамойты, а ў нізоўях Нёмана скальвы; у басейне Віліі лакалізуюцца аўкштайты, якія сутыкаліся на Пн з селамі (левы бераг Зах. Дзвіны) і латгаламі (правы бераг Зах. Дзвіны). Левы бераг сярэдняга Панямоння і тэр. на З да ніжняй Віслы займалі яцвягі (судовы, судавяне) і інш. прускія плямёны. Гістарыёграф Тэўтонскага ордэна Пётр з Дусбурга ў 1-й пал. 14 ст. згадваў аб 10 прускіх плямёнах, з якіх найбольшымі былі судавяне і галіндзяне; сярод інш. упамінаюцца памесяне, пага-

сяне, вармійцы, натангі, зембы, надровы, барты і скалавіты. У стараж.-рус. летапісах сустракаюцца назвы некалькіх асобных балцкіх плямён: лецьгола, голядзь, жмудзь, літва, корсь, яцвягі, прусы і земігола.

З 6 ст. на тэр. дняпроўскіх Б. пранікаюць славяне, якія аказаліся больш актыўнымі. Ужо ў 8—9 ст. славяне часткова выцеснілі, часткова знішчылі і асімілявалі Б. Завяршыўся гэты працэс у 12 ст. Больш трагічным быў лёс зах. Б. У 1220—30-я г. на землях Прусіі ўсталяваўся Тэўтонскі ордэн, які пачаў планамерны наступ на землі зах. Б. Да 1267 былі заваяваны куршы. Паўстанне прусаў у 1242 на некаторы час аслабіла націск нямецкіх рыцараў. Але да 1260 усх. і зах. прускія землі былі ордэнам захоплены. Паўстанне прусаў у 1260 было задушана з асобай жорсткасцю. У апошняй чвэрці 13 ст. апошнімі сaступілі сіле ордэна судавяне. Паралельна ішла нямецкая каланізацыя земляў Б. Прусы, якія заставаліся ў жывых, з часам забылі сваю мову. Вядома, што яшчэ ў пач 17 ст. на землях прусаў пропаведзі для мясцовага насельніцтва чыталіся з дапамогай перакладчыка, у канцы таго ж стагоддзя на прускай мове размаўлялі толькі пажылыя людзі. У 1283 Тэўтонскі ордэн пачаў войны з інш. групай Б., якая паспела стварыць трывалую дзярж. арганізацыю — ВКЛ. Два балцкія народы — літоўцы і латышы — здолелі захаваць сваю незалежнасць і сваю мову. Асновай для фарміравання літ. народнасці сталі аўкштайты і жамойты, а таксама, у пэўнай ступені, скальвы і куршы. У сваю чаргу, латгалы, земгалы, селы і часткова куршы сталі продкамі латышоў. Паводле меркавання польск. лінгвіста Я.Атрэмбскага, значная частка яцвягаў улілася ў склад польск. народнасці, у той жа час яцвягі, якія засялялі рэгіён сярэдняга цячэння Нёмана, сталі літоўцамі.

*Літ.*: Э н д з е л и н И.М. Славяно-балтийские этюды. Харьков, 1911; Tallgren A.M. Zur Archäologie Eestis. Bd. 2. Dorpat, 1925; М е й е А. Введение в сравнительное изучение индоевропейских языков. М.; Ленинград, 1938; Иванов В.В., Т о п о р о в В.Н. К постановке вопроса о древнейших отношениях балтийских и славянских языков // Исследования по славянскому языкознанию. М., 1961; Г о р н у н г Б.В. Из предыстории образования общеславянского языкового единства. М., 1963; Я е ж. Балты: Люди янтарного моря. М., 2004; М у г у р е в и ч Э.С. Восточная Латвия и соседние земли в X XIII вв. Рига, 1965; С е д о в В.В. Племена восточных славян, балты и эсты // Славяне и скандинавы. М., 1986; Я г о ж. Balti senatnē. Riga, 1992; Я г о ж. Славяне: историко-археологическое исследование. М., 2002; Okulicz- Kozaryn Ł. Życie codzienne Prusów i Jacwięgów w wiekach średnich. Warszawa, 1983; Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987; Г а м к р е л и д з е Т.В., И в а н о в Вяч.Вс. Индоевропейский язык и индоевропейцы: реконструкция и историко-типологический анализ праязыка и пракультуры. Т. 1 2. Тбилиси, 1984; Č e p i e n e I. Historia litewskiej kultury etnicznej. Kaunas, 2000; Т р у б а ч е в О.Н. Этногенез и культура древнейших славян: лингвистические исследования. 2 изд. М., 2003; O t r ę b s k i J. Rozwój wzajemnych stosunków między grupą językową bałtycką a słowianską // Z polskich studiów slawistycznych. Warszawa, 1958. Т. 1; G i m b u t a s M. The Balts. London, 1963; O k u l i c z Ł. Kultura kurhanów zachodniobałtyjskich we wczesnej epoce żelaza. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1970; V o l k a i t e - K u l i k a u s k i e n e R. Lietuviai IX XII amžiais. Vilnius, 1970; Z a r i ņ a A. Seno latgaļu apgerbs 7. 13. gs. Riga, 1970; Leituvos gyventoju prekybiniai ryšiai I—XI a. Vilnius, 1972; S c h m i d W.P. Baltisch und Indogermanisch // Bałtistica. Vilnius, 1976. T. 12 (2); A n t o n i e w i c z J., G i e y s z t o r A. Bałtowie zachodni w V w. p.n.e. — V w. n.e.: terytorium, podstawy gospodarcze i społeczne plemion prusko-jaćwieskich i letto-litewskich. Olsztyn; Białystok, 1979; K o s m a n M. Zmierzch Perkuna czyli ostatni poganie nad Bałtykiem. Warszawa, 1981.

***Сцяпан Цемушаў.***

**Балыка** Багдан, кіеўскі купец пач. 17 ст., аўтар успамінаў. Сын кіеўскага войта. У студз. 1612 выехаў з інш. кіеўскімі купцамі праз Лоеў, Гомель і Мсціслаў у Маскву, куды прыбыў у чэрв. 1612 разам з атрадам войск Рэчы Паспалітай. У Маскве Б. спыніўся ў Кітай-горадзе, які хутка стаў аб'ектам атак 2-га рас. апалчэння. Абложаным у Кітай-горадзе і Крамлі жаўнерам Рэчы Паспалітай не змог дапамагчы атрад гетмана Я.К.Хадкевіча, і яны, пакутуючы ад голаду, у ліст. 1612 капітулявалі. У пач. 1613 Б. выехаў у Кіеў. Аўтар запісак «О Москве и о Дмитрию, царику московском ложном», у якіх распавядаецца пра паездку ў Маскву і аблогу Крамля ў 1612. Запіскі Б. — важная крыніца па гісторыі вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18. Захаваліся ў адзіным рукапісе, які ў 19 ст. зберагаўся ў зборы Асалінскіх у Львове. Выдадзены ў 1882 У.Б.Антановічам.

*Літ.*: В. А. Записки киевского мещанина Божко Балыки о московской осаде 1612 года // Киевская старина. 1882. № 3.

**Бальчыконіс** (Balčikonis) Юозас (24.3.1885, в. Эрышкяй Панявежскага р-на, Літва—5.2.1969), літоўскі мовазнаўца. Акадэмік АН ЛітССР (1946), праф. (1948), заслужаны дзеяч навукі ЛітССР (1945). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1911). Выкладаў у літ. прагімназіі ў Вільні (1913), на курсах таварыства «Саўле» ў Вільні і Варонежы (1914—16), літ. гімназіі ў Варонежы (1915—18). У 1918—22 дырэктар Панявежскай мужчынскай гімназіі, у 1922—24 — Панявежскай настаўніцкай семінарыі, у 1924—31 дацэнт Каўнаскага ун-та, у 1944—59 выкладаў у Вільнюскім ун-це (у 1944—50 заг. кафедры літ. мовы). У 1930—53 гал. рэдактар «Слоўніка літоўскай мовы» (рэдагаваў т. 1—3, 1941—56). У 1944—52 дырэктар Ін-та літ. мовы АН ЛітССР. Выдаў працы Ё.Яблонскіса (т. 1—5, 1933—36), М.*Валанчуса* (1931), катэхізіс М.Пяткявічуса 1598 (1939), граматыку Д.*Клейна* 1653 (1957, з інш.).

*Тв.*: Названия литовских населенных пунктов, образованные от названий рек и озер // Lingua Posnaniensis. Poznań, 1959. Т. 7; Rinktiniai raštai. T. 1—2. Vilnius, 1978—82.

*Літ.*: Юозас Бальчиконис (1885—1969) // Тр. АН ЛитССР. Сер. А. 1969. Т. 2; S c h m a l s t i e g W.R. A Note on Juozas Balčikonis' Contribution to the Standartization of Lithuanian // Lituanus: Lithuanian Quarterly Journal of Arts and Sciences. 1981. № 4; V a i t k a u s k a s V. Juozas Balčikonis. Kaunas, 1985.

**Бантке** (Bandtkie) Ежы Самуэль (24.11.1768, г. Люблін, Польшча—11.6.1835), польскі бібліёграф, філолаг, гісторык кнігі. Д-р гонарыс каўза (1811), ганаровы чл. Віленскага ун-та. У 1787—90 вучыўся ва ун-тах у Гале і Іене. Некалькі гадоў быў гувернёрам у П.Ажароўскага, у т.л. ў Берліне і Санкт-Пецярбургу. З 1798 выкладаў у Вроцлаве польск. мову ў гімназіі св. Эльжбеты, з 1804 рэктар школы Св. Ду-



ха, бібліятэкар б-кі пры касцёле св. Бярнарда. З 1811 дырэктар Ягелонскай б-кі, праф. бібліяграфіі Кракаўскага ун-та. Упарадкаваў былыя езуіцкія кнігазборы ў складзе Ягелонскай б-кі, праводзіў яе каталагізацыю, падараваў ёй сваю асабістую б-ку. Аўтар падручнікаў, слоўнікаў, працы па гісторыі кнігадрукарства ў Польшчы і ВКЛ, па гісторыі Сілезіі, Рэчы Паспалітай. На аснове распрацовак Ё.Д.*Гофмана* напісаў працу «Гісторыя друкарняў у Польскім каралеўстве і Вялікім княстве Літоўскім, як і ў краях замежных, у каторых польскія працы выходзілі» («Historia drukarń w Królestwie Polskim i Wielkim Xięstwie Litewskim, jako i w krajach zagranicznych, w których polskie dzieła wychodziły», т. 1—3, Кракаў, 1826; 2 выд. Варшава, 1974).

*Тв.*: De primis Cracoviae in arte typographica incunabulis. Cracoviae, 1812; Historia drukarn krakowskich od zaprowadzenia drukow do tego miasta az do czasow naszych, wiadomoscia o wynalezieniu sztuki drukarskiey poprzedzona. Kraków, 1815; Historia Biblioteki Uniwersytetu Jagiełłonskiego w Krakowie. Kraków, 1821; История государства Польского. Т. 1—2. Санкт-Петербург, 1830; Dzieje narodu polskiego. Т. 1—2. Wrocław, 1835 (ёсць дадатак «O monetach polskich i litewskich»).

*Літ.*: Немировский Е.Л. Польские труды по истории книгоиздательского дела и книгопечатания // Книга: исследования и материалы. М., 1962. Вып. 6; Królikowska M. Szkoła naruszewiczowska i jej miejsce w historiografii polskiej XIX wieku. Warszawa, 1989.

**Бантыш-Каменскі** (Бантыш-Каменский) Мікалай Мікалаевіч [16(27). 12.1737, г. Нежын, Украіна—20.1(1.2). 1814], расійскі архівіст, гісторык. Паходзіў з сям'і малдаўскіх баяр, што выехалі ў 1711 з Малдовы з гаспадаром Дзмітрыем Кантэмірам. Вучыўся ў Нежынскай грэчаскай школе, Кіева-Магілянскай акадэміі (1745—54), Маскоўскім ун-це (з 1755). З 1762 актуарыус, з 1783 кіраўнік Архіва Калегіі замежных спраў. Склаў вял. колькасць вопісаў архіўных фондаў і аглядаў архіўных дакументаў па пэўных тэмах, у т.л. фондаў 79/1 «Зносіны Расіі з Польшчай», 64/1 «Зносіны Расіі з Ліфляндыяй і Эстляндыяй», 63/1 «Зносіны Расіі з Курляндыяй». Склаў працу «Выпіска грунтоўная пра выбар на польскі пасад кандыдата ў выпадку смерці Аўгуста II і пра выбранне потым у каралі сына яго Аўгуста III». У 1780—84 напісаў 5-томную працу «Дыпламатычны збор спраў паміж Расійскім і Польскім дварамі з самага іх пачатку па 1700 год» («Дипломатическое собрание дел между Российским и Польским дворами с самого оных начала по 1700 год»), якую выкарыстаў М.М.Карамзін пры напісанні «Гісторыі дзяржавы Расійскай». У 19 ст. гэтыя працы Б.-К. часткова надрукаваны ў серыйным выданні «Помнікі дыпламатычных зносін Старажытнай Расіі з дзяржавамі замежнымі». Па даручэнні обер-пракурора Сінода А.І.Мусіна-Пушкіна напісаў кнігу «Гістарычнае паведамленне пра унію, што ўзнікла ў Польшчы, з паказаннем пачатку і найважнейшых, у працяг яе, праз два стагоддзі, здарэнняў» («Историческое известие о возникшей в Польше унии, с показанием начала и важнейших, в продолжении оной, чрез два века, приключений», М., 1805). Кніга, напісаная з пазіцый рас. ўрада, які імкнууся да скасавання уніяцкай царквы, доўгі час захоўвала паліт. значэнне і двойчы была перавыдадзена (Вільня, 1864, 1866). Пераклаў на рус. мову «Гісторыю Расіі пры Пятры Вялікім» Вальтэра (1761), выдаў дапаможнік па філасофіі «Elementa philosophiae recentioris» (1777), граматыку грэчаскай мовы «Grammatica graecae sive institutionum linguae graecae» (Лейпцыг, 1779; 2-е выд. 1785). Выдаў «Дзённыя запіскі святога цудатворца Дзімітрыя, мітрапаліта Растоўскага» (1781), удзельнічаў у выданні «Слова пра паход Ігара» (1800).

*Тв.*: Памятники дипломатических сношений древней России с Римской империей, 1488—1599. Санкт-Петербург, 1851—52; Переписка между Россией и Польшей по 1700 г. (1487—1645). Ч. 1—3. М., 1862; Реестр делам Крымского двора с 1474 по 1799 год, учиненный Н.Н.Бантыш-Каменским в 1808 г. Симферополь, 1893; Обзор внешних сношений России (по 1800 год). Ч. 1—4. Санкт-Петербург, 1894—1902; Бантыш-Каменский Н.Н. Реестры греческим делам Московского архива Коллегии иностранных дел: Российский государственный архив древних актов. Фонд 52. Опись 1. М., 2001.

*Літ.*: [Бантыш-Каменский Д.Н.] Жизнь Николая Николаевича Бантыш-Каменского. М., 1818; Белокуров С.А. По поводу материалов для русской библиографии, собранных Н.Н.Бантыш-Каменским // Книговедение. 1894. № 11; Здобнов Н.В. История русской библиографии: (от древнего периода до начала XX в.). Т. 1. М., 1944; Коблениц И.Н. Н.Н.Бантыш-Каменский (1737—1814) и его материалы по русской библиографии // Теория и история библиографии. М., 1969; Козлова Н.А. Н.Н.Бантыш-Каменский и некоторые вопросы актовой археографии второй половины XVIII в. // Археографический ежегодник за 1977 год. М., 1978; Я е ж. Труды Н.Н.Бантыш-Каменского по истории России // Россия на путях централизации. М., 1982; Моисеева Г.Н. Древнерусская литература в художественном сознании и исторической мысли России XVIII в. Ленинград, 1980.

**Баравік** Феадосій (?—пасля 1652), дзеяч уніяцкай царквы, пісьменнік. Член базыльянскага ордэна. У 1620 іераманах, настаяцель Віленскага Троіцкага манастыра. У 1623 удзельнічаў у базыльянскай кангрэгацыі ў Руце. У 1648 прапаведнік мінскіх Узнясенскага і Святадухаўскага манастыроў. У 1652 суперыёр Жыровіцкага Успенскага манастыра. У пач. 17 ст. (да 1621) напісаў «Гісторыю» *Жыровіцкага абраза Маці Божай* на старабел. мове («Гисториа, або повесть людей розных, веры годных, о образе чудовном пренасвятейшое Девы Марии жировицком...»). Захавалася ў адзіным рукапісе, які цяпер зберагаецца ў Б-цы Рас. АН у Санкт-Пецярбургу (фонд


ГИСТОРИЯ
ЯБО

**Баравік**. «Гісторыя» Жыровіцкага абраза Маці Божай. Пач. 17 ст. Тытульны ліст.

П.Дабрахотава). Перад тэкстам «Гісторыі...» ў рукапісе змешчана своеасаблівая прадмова — палемічны твор, скіраваны супраць пратэстанцкага адмаўлення шанавання абразоў. Пасля тэксту знаходзяцца пацвярджальныя подпісы. 1-я кангрэгацыя базыльянскага ордэна, якая адбылася ў 1621 у Лаўрышаве, пастанавіла надрукаваць «Гісторыю...». Яна была літаратурна апрацавана, перакладзена на польск. мову і выдадзена ў Вільні ў 1622 у езуіцкай друкарні («Historia, abo powieść zgodliwa przez pewne podanie ludzi wiary godnych, o obrazie Przeczystey Panny Mariey Żyrowickim cudotwornym w. X. L. W powiecie Słonimskim y o rozmaitych cudach...»). У 1628 выйшла 2-е выданне кнігі (у базыльянскай друкарні пры Троіцкім манастыры). Твор Ф. з'яўляецца каштоўным помнікам старабел. мовы і царк. гісторыі, на яго абапіраліся наступныя апрацоўкі гісторыі пра Жыровіцкі абраз.

*Літ.*: Жуковіч П. Неизданное русское сказание о Жировицкой иконе Божией Матери: (в связи с историей русского дворянского рода Солтанов Жировицких) // Известия отделения русского языка и словесности Императорской АН. 1912. Т. 17, кн. 2; Крамко І., Мальдзіс А. Невядомы помнік старабеларускай пісьменнасці // Бел. лінгвістыка. Мінск, 1983. Вып. 23; Іх жа. Са скарбаў нашага старажытнага пісьменства // Помнікі культуры. Мінск, 1985.

**Баран** Івашка, майстар разьбярнай і сталярнай справы 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у 2-й пал. 17 ст. ў Збройнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1684 у складзе арцелі бел. цесляроў і разьбяроў рабіў крэслы, куфэркі, падносныя сталы і інш. па-мастацку аздобленыя рэчы для царскіх харом.

**Бараціні** (Boratini, Burattini) Ціт Лівій (8.3.1617, г. Аорда, Італія—17.11.1682), прадпрымальнік, навуковец. Мяркуецца, што вучыўся ў Падуі і Венецыі, атрымаў гуманітарную адукацыю. У 1637—41 вывучаў старажытнасці ў Егіпце. З 1641 жыў у Рэчы Паспалітай, прыкладна з 1646 каралеўскі дваранін. Удзельнічаў у дыпламатычных місіях. Займаўся вырабам лінз для тэлескопаў, канструяваннем розных тэхнічных прыстасаванняў. У 1650 прызначаны каралеўскім архітэктарам, кіраваў работамі па будове і рамонце каралеўскіх рэзідэнцый. У час Паўн. вайны 1656—60 выставіў у войска харугву, якая пад камандаваннем Стафана Чарнецкага ваявала са шведамі. У 1658 атрымаў індыгенат (пацвярджэнне шляхецтва). Для паляпшэння фінансавага становішча ўрада Рэчы Паспалітай прапанаваў план выпуску ў буйных маштабах непаўнавартаснай манеты, якая б абарачалася па прымусовым курсе. У адпаведнасці з гэтым планам у 1659—66 ажыццяўляўся масавы выпуск медных *солідаў*, якія ад прозвішча Б. атрымалі назву *бараціні*. Іх чаканілі і на манетных дварах ВКЛ — Аліўскім, Берасцейскім, Віленскім, Ковенскім, Мальбаркскім, Уяздаўскім. З 1658 арандатар манетнага двара ў Кракаве, потым інш. манетных двароў, з якіх атрымліваў вял. прыбыткі. Ва Уяздаве адчыніў астранамічную абсерваторыю, адкрыў плямы на Венеры. У Вільні ў 1675 выдаў на італьянскай мове трактат «Усеагульная мера» («Misura universale»), у якім прапаноўваў прыняць універсальную сістэму мер.

*Тв.*: Miara powszechna / Wyd. A.Birkenmajer. Kraków, 1897.



**Барбара** Запайя, Жыгімонт І Стары, Бона Сфорца. Гравюра.

**Барбара** (15.7.1478, г. Сандамір, Польшча—15.2.1534), маркграфіня мейсенская, жонка маркграфа Георга Веціна (Барадатага; памёр у 1539), дачка караля польск. і вял. кн. літ. Казіміра IV і Эльжбеты Габсбург. Была наймалодшым дзіцём Казіміра IV. Дынастычны шлюб быў заключаны ў 1496 паўнамоцнымі прадстаўнікамі караля польск. Яна Ольбрахта (брата Б.) і саксонскага герцага Альбрэхта (бацькі Георга), пры гэтым Ян Ольбрахт абавязаўся даць сваёй сястры пасаг у памеры 32 тыс. венгерскіх дукатаў. Муж Б. быў маркграфам мейсенскім з 1500, спадчынным намеснікам Фрысландыі (частка Нідэрландаў) у 1504—15. Б. мела 10 дзяцей, з якіх большасць памерла ў маленстве.

**Барбара** Запайя (Barbara Zapolya; 1495—2.10.1515), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, 1-я жонка Жыгімонта І Старога. Дачка венгерскага магната Стафана Запайя і Ядвігі, дачкі цешынскага князя Пшэмыслава II (з роду Пястаў). Старэйшы брат Б. Ян у 1526—40 быў венгерскім каралём. Шлюб Б. з Жыгімонтам І, заключаны ў 8.2.1512 (у той жа дзень адбылася і каранацыя Б.), быў накіраваны супраць Габсбургаў, якія ў саюзе з Тэўтонскім ордэнам і Маскоўскай дзяржавай пагражалі манархіі Ягелонаў. У 1513 суправаджала мужа ў паездцы ў Вільню, адкуль той збіраўся камандаваць войскамі падчас *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22*. У Вільні садзейнічала развіццю культу св. Казіміра. Па прапанове Б. яе сакратар А.*Кшыцкі* напісаў паэтычныя творы ў гонар святога. Вызначалася вял. набожнасцю. Сучаснікі і нашчадкі лічылі, што дзякуючы малітвам Б. былі атрыманы перамогі ў Вішнявецкай бітве 1512 і Аршанскай бітве 1514 (Ё.Дэцый). Нарадзіла дачок Ядвігу і Ганну (хутка пасля нараджэння апошняй памерла).

*Літ.*: Przybyszewski B. Barbara Zapolya królowa Polski, 1512—1515. Łańcut, 2000.

**Баркалабаўскі ірмалой**, наталінейны *ірмалой*, перапісаны ў 1651 у скрыпторыі *Куцеінскага Богаяўленскага манастыра* для *Баркулабаўскага Узнясенскага манастыра* па заказу ігуменні Фацініі Кіркораўны. Пісаны на шчыльнай паперы, мае 318 аркушаў. Асн. частка кнігі складаецца з 10 раздзелаў, што змяшчаюць ноты і тэксты. Ноты запісаны квадратнай 5-лінейнай натацыяй, тэксты — познім паўуставам. Пасля змешчаны 2 дапаможныя раздзелы, у якіх указаны спевы на пэўныя святы літургічнага года. Загаловак 1-га з іх выкананы вяззю інш. стылю, а тэкст напісаны вельмі набліжаным да скорапісу дробным паўуставам, у якім больш выразна праглядаюцца бел. рысы. На дадатковых разлінаваных аркушах у канцы кніжнага блока знаходзяцца паасобныя спеўныя тэксты, занатаваныя рознымі асобамі. Змест кнігі: спевы ўсяночнага чування (з пазначэннем распеву «Припелы Болгарскїе»): псальм 103, спевы на літургію Іаана Златавуста, спяваная пасля малебна сціхіра Найсвяцейшай Багародзіцы, катавасія на 8 гласаў; дагматыкі, сядальны, антыфоны, ірмасы на 8 гласаў — на суботнюю вячэрню; спевы на нядзелі і святы літургічнага году (ад Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы да Сашэсця Святога Духа) і на літургію Васіля Вялікага; святы літургічнага году па месяцах з пазначэннем адпаведных спеваў; абазначэнне спеваў на святы Гасподнія, Багародзічныя і святых. Змяшчаюцца спевы на ўсе віды правасл. богаслужэння — вячэрню, ютрань і літургію. Склад Б.і. амаль не розніцца ад складу ірмалояў, што выходзілі з друку паўстагоддзем пазней у Львове і Пачаеве. Тытульны ліст Б.і. створаны ў т.зв. архітэктурным стылі з вывай аркі і святых у якасці калон-апор (Іаан Прарок, Іаан Златавуст, Васіль Вялікі, Грыгорый Багаслоў), формай падачы загалоўка ён ідзе за Еўеўскім Евангеллем вучыцельным 1616. Раздзелы ў Б.і. пачынаюцца застаўкамі ў старадрукаваным стылі, пісанымі вяззю кінаварнымі загалоўкамі і капіраванымі са старадрукаў і рукапісаў ініцыяламі. Аправа Б.і. характэрна для бел. кірылічных кніг 17 ст.: чорная скура на дошках, сляпое цісненне, аснову якога складаюць геаметрычныя рамкі з падвойных ліній. Зберагаецца ў Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі.


Баркалабаўскі ірмалой.

*Літ.*: [Разумовский Д.В. Сообщение] // Древности: тр. Имп. Московского археол. о-ва. М., 1883. Т. 9, вып. 2—3; Ясіноўскі Ю. Беларускія ірмалоі XVI—XVII ст. // Мастацтва Беларусі. 1984. № 11; Ясиновський Ю. Українскі та білоруські ірмолої XVI—XVIII ст. Львів, 1996; Лаўрык Ю.М. Баркулабаўскі ноталінейны ірмалой: помнік кнігапіснай традыцыі Куцеінскага Багаяўленскага манастыра // Музейны веснік. Мінск, 2006. Вып. 3.

*Юрый Лаўрык.*

**Бароўскі** (Borowski) Ян (1890, г. Санкт-Пецярбург—25.10.1966), польскі гісторык мастацтва, рэстаўратар помнікаў архітэктуры. Скончыў у Ін-т грамадзянскіх інжынераў у Санкт-Пецярбургу (1917). У 1916 выканаў праект пашырэння касцёла ў мяст. Глыбокае. З 1925 старшы асістэнт кафедры гісторыі архітэктуры факультэта прыгожых мастацтваў Віленскага ун-та, з 1929 кансерватар помнікаў культуры Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. Займаўся дакументаваннем, кансервацыяй і рэстаўрацыяй помнікаў культуры Віленшчыны, у т.л. археал. раскопкамі і кансервацыйнымі работамі ў Троцкім замку, на Замкавай гары ў Вільні, у Крэўскім замку, рэстаўрацыяй касцёлаў св. Казіміра, св. Тэрэзы, трынітарыяў, візітак, Вострай Брамы ў Вільні, касцёлаў у Будславе, Слоніме, Навагрудку. Ажыццявіў інвентарызацыю і абмеры палацаў і сядзіб у Лявонпалі, Армянах, Германовічах, Мендзыжэчы, Крыцэвічах, Красным Двары, Зялёнай Луке, Пунжанах, Гняздзілаве і інш. З 1945 жыў у Вроцлаве, пасля ў Гданьску, дзе да 1952 займаў пасаду ваяводскага кансерватара помнікаў культуры.

*Літ.*: Lorentz S. Jan Borowski (1890—1966) // Biuletyń Historii Sztuki. 1967. № 4.

**Барталамей з Пултуска** (?—да 26.10.1453), біскуп жамойцкі ў 1439—52(?). Па паходжанні паляк з Мазовіі. Атрымаў добрую адукацыю. Да 1439 займаў пасаду каноніка віленскага. Быў абраны біскупам жамойцкім капітулам у 1439 праз 3 дні пасля смерці свайго папярэдніка, Якуба з Вільні. Відаць, гэта адбылася без каралеўскай прапановы. У 1440 жамойцкі капітул звярнуўся для зацвярджэння гэтага абрання да рымскага папы, але той адмовіў у гэтым і пакінуў за сабой права прызначыць наступнага біскупа. Інфармацыі пра дзейнасць Б. з П. не захавалася.

*Літ.*: Błaszczyk G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój. Poznań, 1993.

**Барташэвіч** Станіслаў Станіслававіч (?—пасля 1580), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з Віленскага пав. Быў звязаны з кн. М.Радзівілам Чорным, у 1541 маршалак двара яго жонкі Эльжбеты. У 1547 пры двары віленскага ваяводы Я.Глябовіча. З 1551 дваранін М.Радзівіла Рудога, яго пісар, з 1555 пісар велікакняжацкай канцылярыі. Удзельнічаў у рэвізіі «ўкраінных замкаў» у Падняпроўі, правядзенні попісаў войска ВКЛ 1565 і 1567. У 1560-я г. харужы рудамінскі. Дзякуючы пратэкцыі Радзівіла Рудога, у 1567 стаў каралеўскім сакратаром.

*Літ.*: Ragauskiene R. Lietuvos Didžiosios Kunidaikštystes kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (apie 1515—1584 m.). Vilnius, 2002; Kempa T. Sekretarze królewscy na służbie u Radziwiłłow w drugiej połowie XVI wieku // Patron i dwór: Magnateria Rzeczypospolitej w XVI—XVIII wieku. Warszawa, 2006. Метрыка-70, с. 129 (год 1580).

**Барціліус** Ваўжынец (Лаўрын; 9.8.1569, г. Тарнаў, Польшча—28.8.1635), дзеяч каталіцкай царквы. У 1585 уступіў у Браневе ў ордэн езуітаў, з 1601 ксёндз. Вывучаў філасофію ў Браневе (1592—95), тэалогію ў Віленскай акадэміі (1597—1601). У 1603 здейсніў паломніцтва ў Ларэта і Рым, адкуль у 1604 першы прывёз у Рэч Паспалітую рэліквіі св. Станіслава Косткі. Праф. філасофіі ў Віленскай акадэміі (1605—08), маральнай тэалогіі ў Нясвіжы (1610—11), пазітыўнай тэалогіі, Свяшчэннага Пісання і яўрэйскай мовы ў Віленскай акадэміі (1617—19, 1623), рэктар і магістр навіцыята ў Вільні (1611—17), рэктар калегіма ў Пултуску (1620—23, 1632—35), інструктар трэцяй прабацыі ў Нясвіжы (1624—31), галава Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1635). Аўтар аскетычных і філасофскіх твораў. Пакінуў рукапісныя курсы філасофіі і маральнай тэалогіі. Сучаснікі лічылі Б. чалавекам святога жыцця. Некаторыя яго творы змясціў А.*Каяловіч* у сваім жыцці Б.: «Пры жыццё і смерць Лаўрына Барціліуса» («De vita et mortibus Laurentii Bartilii», Вільня, 1645).

*Літ.*: Darowski R. Ks. Wawrzyniec Bartilius SJ (1569—1635): Wybitny tarnowianin z przełomu XVI i XVII wieku // Rocznik Tarnowski. Tarnów, 1990.

**Барч** Фрыдрых (крас. 1552, г. Бранева, Усходняя Прусія—21.11.1609), дзеяч каталіцкай царквы. У 1569—72 вучыўся ў Калегіум Раманум у Рыме, у 1572 уступіў там у ордэн езуітаў. Вывучаў тэалогію ў Вене. З 1576 у Рэчы Паспалітай. У Браневе быў прэфектам школы, дыяцэзіяльнай семінарыяй, Папскай семінарыяй, шляхецкім канвіктам, рэктар калегіума (1584—90). У 1592—95 рэктар Віленскай акадэміі. Суперыёр і прапаведнік у Гданьску (1595—98), віцэ-правінцыял для літ. часткі Польск. правінцыі ордэна езуітаў (1598—1600), спавядальнік караля польск. і вял. кн. літ. Жыгімонта III. Удзельнічаў у смаленскім паходзе караля ў час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. Падчас апекі над хворымі заразіўся і памёр пад Смаленскам. Аўтар казанняў, палемічных і аскетычных твораў на лацінскай мове: «Controversiarum huius saeculi practica ad populum tractatio» (Кракаў, 1607), «Thesaurus spiritualis» (Кракаў, 1607), «Conciones controversae» (Кракаў, 1607; Кёльн, 1610).


Ф.**Барч**.

*Літ.*: Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**Баршч** Ежы (27.4.1677, г. Нясвіж—3.3.1743), дзеяч каталіцкай царквы. У 1692 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прэфект школы ў Гародні (1710—11, 1712—13), прэфект філасофіі ў Пултуску (1711—12), праф. трэцяй тэалагічнай лекцыі ў Віленскай акадэміі (1713—16), прэфект школы ў Дынабургу (1720—22), рэктар і магістр навіцыята ў Вільні (1725—31), галава Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1731—35), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1735—38), рэктар трэцяй прабацыі ў Вільні (1738—41), рэктар калегіума ў Віцебску (1741—43). Быў дэлегатам на 16-й генеральнай кангрэгацыі ордэна езуітаў у Рыме ў 1730—31. Быў вядомым прапаведнікам, выдаў шмат сваіх прамоў. Пакінуў рукапісныя курсы філасофіі і рыторыкі.

**Барыс Фёдаравіч** Гадуноў [Борис Фёдорович Годунов; каля 1550—13(23).4.1605], рускі цар з 1598. Паходзіў з баярскага роду. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. Заняў віднае становішча ў час апрычніны дзякуючы жаніцьбе на дачцы М.Скуратава і шлюбу сваёй сястры Ірыны з царэвічам Фёдарам Іванавічам (каля 1574). Пры цару Фёдару Іванавічу стаў фактычным кіраўніком дзяржавы. Быў абраны на трон Земскім саборам. Умацоўваў цэнтр. ўладу, абапіраючыся на дваранства, узмацніў запрыгоньванне сялян. Ажыццяўляў вял. крэпасное і царк. будаўніцтва, у Смаленску загадаў пабудаваць вялізныя гар. ўмацаванні. Імкнуўся да пашырэння гандлёвых, ваенных і культ. сувязей з краінамі Зах. Еўропы. У 1599 праводзіў лінію, скіраваную на саюз са шведскім правіцелем герцагам Карлам супраць Жыгімонта III. Мэтай саюзу было выцесніць Рэч Паспалітую з Прыбалтыкі, каб замацавацца там. Саюзнікам у барацьбе супраць Рэчы Паспалітай Б.Ф. лічыў Свяшчэнную Рымскую імперыю, якой прапаноўваў сумесна пасадзіць на трон Рэчы Паспалітай эрцгерцага Максіміляна (прэтэндаваў на трон яшчэ ў 1587, але саступіў у гэтай барацьбе Жыгімонту III). Інфлянты Б.Ф. прапаноўваў падзяліць паміж Швецыяй і Расіяй. Імперыя адмовілася ад такога саюзу з Расіяй. У 1600 пачалася адкрытая вайна паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай, у якой Расія вырашыла выступіць на баку апошняй. Рэч Паспалітая таксама імкнулася заключыць саюз з Расіяй, таму ў 1600 у Маскву было накіравана вял. пасольства на чале з канцлерам ВКЛ Л.І.*Сапегам*. Пасольства прапанавала заключыць дзярж. унію паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй (фактычна Расія павінна была быць інтэграванай у Рэч Паспалітую), але Б.Ф. на гэта не пайшоў. Ён прапаноўваў сумесную барацьбу супраць Швецыі і план падзелу Інфлянтаў паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, які аказаўся непрымальным для апошняй. Вынікам пасольства стала толькі заключэнне ў 1601 20-гадовага перамір'я. Перагаворы Расіі са Швецыяй у 1601, у ходзе якіх шведскі бок прапаноўваў Б.Ф. план захопу бел. зямель, скончыліся безвынікова. Узмацненне ў Расіі сац. ўціску прывяло ў пач. 17 ст. да



сял. вайны і казацкіх выступленняў, чым скарыстаўся самазванец *Ілжэдзмітрый I*. У час барацьбы з ім Б.Ф. раптоўна памёр.

*Літ.*: Флоря Б.Н. Русско-польские отношения и балтийский вопрос в конце XVI—начале XVII в. М., 1973; Скрынников Р.Г. Борис Годунов. М., 1983; Яго ж. Россия накануне «смутного времени». 2 изд. М., 1985; Яго ж. Социально-политическая борьба в Российском государстве в начале XVII в. Ленинград, 1985; Зимин А.А. В канун грозных потрясений. М., 1986; Czerska D. Borys Godunow. Wrocław, 1988; Павлов А.П. Государев двор и политическая борьба при Борисе Годунове (1584—1605). М., 1992; Морозова Л.Е. Борис Федорович Годунов // Вопросы истории. 1998. № 1.

**Барыч** (Barycz) Генрык (26.6.1901, г. Стары Сонч, Польшча—9.3.1994), польскі гісторык культуры. Д-р габілітаваны (1935), праф. У 1920—24 вучыўся ў Ягелонскім ун-це ў Кракаве. Яго настаўнікамі былі праф. Станіслаў Кот, Уладзіслаў Сямковіч, Уладзіслаў Канапчынскі, Раман Градзецкі, Ян Дамброўскі. У 1926 атрымаў ступень доктара філасофіі ў Ягелонскім ун-це за даследаванне «Тры даследаванні па гісторыі культуры XVI ст.», прысвечаныя Марціну Кравіцкаму, Яну Манчынскаму і Пятру Кміце. З 1926 працаваў у Ягелонскім ун-це, спачатку асістэнт семінара па гісторыі культуры ун-та, пазней — кафедры гісторыі культуры. У 1934 архіварыус, з 1935 дырэктар архіва Ягелонскага ун-та. У гэты час напісаў фундаментальную працу «Гісторыя Ягелонскага універсітэта ў эпоху гуманізму» («Historia uniwersitetu Jagiełłońskiego w epoce humanizmu», Кракаў, 1935), на падставе якой атрымаў ступень доктара габілітаванага. З 1946 праф. надзвычайны, кіраўнік кафедры сярэдневяковай і новай гісторыі выхавання і асветы Ягелонскага ун-та. Па паліт. матывах звольнены з Ягелонскага ун-та, у 1949—53 выкладаў у Вроцлаўскім ун-це. З 1953 прафесар кафедры гісторыі феад. Польшчы, з 1957 кіраўнік кафедры гісторыі навукі філасофска-гіст. факультэта Ягелонскага ун-та. У 1948—55 рэдактар часопіса «Рэфармацыя ў Польшчы». На працягу 37 гадоў чл. навук. рады «Польскага слоўніка біяграфічнага». З 1971 на пенсіі. Пасля аднаўлення Польск. акадэміі ўмельства (Polska Akademia Umiejętności) у 1989 абраны яе віцэ-старшынёй. Даследаваў эпоху Рэнесансу і Рэфармацыі, інтэлектуальныя, культ. і навук. сувязі Польшчы з Еўропай ў эпоху Адраджэння, гісторыю польск. навукі, у т.л. Ягелонскага ун-та. Выдаў творы Мацея з Мехава, Яна Снядэцкага, метрычныя запісы польскіх студэнтаў у актах Падуанскага ун-та, «Conclusiones Universitatis Cracoviensis ab anno 1441 ad annum 1589» (Кракаў, 1933).

*Тв.*: Polacy na studiach w Rzymie w epoce Odrodzenia. Kraków, 1938; Dzieje nauki polskiej w epoce Odrodzenia. Warszawa, 1957; Spojżenia w przeszłość polsko-włoska. Wroclaw etc., 1965; W blaskach epoki Odrodzenia. Warszawa, 1968; Z dziejów polskich wędrowek naukowych za granicę. Wrocław, 1969; Z epoki renesansu, reformacji i baroku: prady, idee, ludzie, książki. Warszawa, 1971; Jan Łasicki: studium z dziejów kultury naukowej XVI wieku. Wrocław, 1973; Szlakami dziejopisarstwa staropolskiego. Wrocław etc., 1981; Między Krakowem a Warmią i Mazurami. Olsztyn, 1987.

*Літ.*: Banach A.K. Henryk Barycz (1901—1994) // Uniwersytet Jagiełłoński: Złota księga Wydziału historycznego. Kraków, 2000.

***Альбіна Семянчук.***

**баснійцы**, баснякі, народ на Балканах. Мова — сербскахарвацкая, сярод вернікаў пераважаюць мусульмане. У канцы 18 ст. група Б. перасялілася ў ВКЛ, дзе несла вайсковую службу. У 1771—77 вядомы вайсковы атрад Б. у Гародні, які быў падначалены камандаванню мясцовага гарнізона. Налічваў каля 30 чал., у т.л. 5 унтэр-афіцэраў: вахмістра, секундвахмістра, 2 капралаў, трубача. Атрымлівалі ад дзяржавы коней, узбраенне, уніформу, гаршовую аплату. Выконвалі функцыю міліцыі для каралеўскіх мануфактур і Гродзенскай эканоміі падчас кіравання А.*Тызенгаўза*. Удзельнічалі ў барацьбе супраць руху сялян, незадаволеных узмацненнем прыгону ў эканоміі і прымусовай працай на мануфактурах. Атрад Б. быў скасаваны ў 1777 у сувязі з заняпадам мануфактур. Пасля гэтага Б. пасяляліся ў Гародні індывідуальна. Тут яны жылі разам з сем'ямі на адной вуліцы, што вяла да карчмы «Раскоша», у дамах, спецыяльна пабудаваных для іх дрэздэнскім архітэктарам І.Г.Мёзерам.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Строительство Тызенгауза в Гродно // Архитектурное наследство. М., 1958. Сб. 11; Szymański S. Bosniacy w Grodnie końca XVIII wieku // Rocznik Białostocki. Warszawa, 1981. T. 15.

**батаніка**, навука пра расліны, адзін з раздзелаў біялогіі. Першапачаткова была шчыльна звязана з практычнымі інтарэсамі земляробства, лясных промыслаў, медыцыны. Аднак ужо ў 12—13 ст. з'явіліся тэарэтычныя звесткі батанічнага характару ў творах перакладной літаратуры («Фізіёлаг»). З 16 ст. перакладаліся медыцынскія дапаможнікі («траўнікі», «лячэбнікі»). На цалкам навук. аснове Б. у ВКЛ пачала развівацца пасля прыбыцця ў 1775 у Гародню Ж.Э.*Жылібера*, які заснаваў *Гарадзенскі батанічны сад* (у 1777 налічваў 1200 відаў раслін, у 1780 — 2000 відаў; дзейнічаў да 1781). У 1781 Жылібер пераехаў са сваімі вучнямі ў Вільню, дзе ў Гал. школе ВКЛ (б. Віленская акадэмія) заснаваў і ўзначаліў кафедру натуральнай гісторыі і батанікі, заклаў пры школе батанічны сад, выдаў на лацінскай мове абагульняючую працу «Флора Літвы» (1781— 82). У цяперашні час у Ін-це батанікі АН Украіны захоўваюцца 4000 лістоў гербарыя Жылібера, з якіх 2400 адносяцца да ваколіц Гародні. У 1780-х г. пачаў працаваць батанік С.Б.Юндзіл (гл. ў арт. *Юндзілы*), які за кнігу «Апісанне раслін у правінцыі ВКЛ...» (1791) быў узнагароджаны каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім залатым медалём «Заслужаным». У 1785 ён заклаў невял. батанічны сад у Шчучыне.

*Літ.*: Развитие биологии на Украине. Киев, 1984. Т. 1; Очерки истории науки и культуры Беларуси IX—начала XX в. Минск, 1996; Sławiński W. Dr. Jan Emmanuel Gilibert, profesor i założyciel Ogrodu Botanicznego w Wilnie: Pryczynek bio-bibljograficzny do historji Uniwersytetu Wileńskiego // Ateneum Wileńskie. 1925. Z. 9; Iš mokslu istorijos Lietuvoje. Vilnius, 1960. T. 1.

**батлейка**, бетлейка (ад Betleem — польская назва г. Віфлеем, дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос), беларускі народны тэатр лялек. Вядомы з 16 ст. Тэатр батлейкавага тыпу ў розных рэ-

гіёнах Беларусі меў назвы яселка, батляемка, остлейка, жлоб, вяртэп. Блізкія да Б. ўкр. вяртэп (найб. пашыраны ў 18—19 ст.), польск. шопка (вядома з 15 ст.). Для паказаў Б. з дрэва рабілі скрынкі розных памераў, звычайна ў выглядзе хаткі ці царквы, з гарызантальнымі перагародкамі (ярусамі-сцэнамі). Кожная сцэна-ярус мела прорazі для ваджэння лялек. Сцэна аздаблялася тканінай, паперай, геаметрычнымі фігурамі з тоненькіх палачак і нагадвала балкон, на якім адбывалася дзеянне. На задніку сцэн рысаваліся абразы, зоркі, крыжы, вокны, лялечныя кампазіцыі на біблейскі сюжэт і інш. У скрынцы, падобнай да царквы, рабіўся купалападобны дах з крыжом. Скрынка закрывалася дзверцамі. Неабходнасць у шматъяруснай будове скрынак адпала тады, калі паказы Б. набылі свецкі характар. Лялькі-персанажы рабіліся з дрэва, каляровай паперы, тканіны; валасы, бровы, вусы — з лёну ці аўчыны; вопратку шылі з тканіны. Лялькі мацаваліся на драўляны ці металічны шпень, пры дапамозе якога батлеечнік вадзіў іх па прарэзах у ярусе-сцэне. Вядомы таксама Б. з лялькамі-марыянеткамі на нітках з верхнім прынцыпам ваджэння, пальчатачныя лялькі. Паказы суправаджаліся музыкай, сцэна і лялькі асвятляліся свечкамі. Батлеечнік знаходзіўся за скрынкай, адтуль вадзіў лялькі, гаварыў тэкст, падрабляючы голас персанажа. Часта ён быў не толькі адзіным выканаўцам, але і драматургам, мастаком, рэжысёрам, музыкантам, іншы раз — своеасаблівым канферансье (звяртаўся непасрэдна да гледача, характарызуючы ад свайго імя той ці іншы персанаж). Звычайна батлеечнікі былі таленавітымі акцёрамі-самародкамі. Рэпертуар Б. багаты жыццёвым і фальклорным матэрыялам, незвычайным сюжэтам, вял. колькасцю персанажаў. Складаўся звычайна з 2 частак: кананічнай (рэліг.) і свецкай (нар.-бытавой). Кананічны сюжэт разыгрываўся на верхнім, свецкі — на ніжнім ярусе-сцэне. Найб. папулярнасцю карыстаўся свецкі рэпертуар з камічнымі сцэнамі, нар. песнямі і танцамі. Некаторыя тэкставыя варыянты батлейкавых паказаў запісаны ў 2-й пал. 19 ст. Па паходжанні і тэматычна-стылявых асаблівасцях вылучаюцца сцэнкі і песні рэліг. зместу, містэрыяльная драма «Цар Ірад» і нар. інтэрмедыйныя сцэнкі. Першыя ўзніклі пад уплывам адпаведнай пісьмовай літаратуры, выразныя рысы фальклору маюць нар. жанравыя сцэны. Многія сцэны маюць вострасатырычны характар, у іх высмейваюцца такія сац. тыпы, як доктар-шарлатан, карчмар, фанабэрысты франт-шляхціц і інш. Сатырычным вобразам проціпастаўлены селянін — гал. герой папулярных сцэн «Мацей і доктар» і «Антон з казой і Антоніха». Найб. папулярныя ў рэпертуары Б. нар. сцэны: «Вольскі — купец польскі», «Ірадыяда, Рыгор і франт», «Волжскі дваранін і Ванька», «Барыня і доктар», «Цыган і цыганка», «Яўрэй і казак», «Скамарох з мядзведзем» і інш. Батлейкавы паказ меў сінтэтычны характар, што ў значнай ступені абумоўлівалася жанрава-стылістычнай разнастайнасцю рэпертуару. Песня, танец, дыялог, маналог — асн. кампаненты паказаў Б., у якіх выяўляўся характар сродкаў сцэнічнай выразнасці. Заняпад Б. пачаўся ў 2-й пал. 19 ст.


**Батлейка** з Віцебскай Ільінскай царквы. 19 ст.

*Літ.*: Виноградов Н.Н. Белорусский вертеп // Известия Отделения русского языка и словесности Академии наук. Санкт-Петербург, 1908; Романов Е.Р. Белорусский сборник. Вильна, 1912. Вып. 8. С. 74—103; Шейн П.В. Вертеп или бетлейки (батлейки) // Шейн П.В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Санкт-Петербург, 1902. Т. 3; Карский Е.Ф. Белорусы. Т. 3, вып. 3. Петроград, 1922; Бядуля З. Батлейка // Вестник народного комиссариата просвещения ССРБ. 1922. Вып. 5—6, № 3—4; Красьнянскі В. Батлейка Віцебскага аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Мінск, 1928. Т. 1, сш. 1; Усікаў Я. Беларуская батлейка // Беларусь. 1958. № 4; Барышаў Г.І., Саннікаў А.К. Беларускі народны тэатр батлейка. Мінск, 1962; Гусев В.Е. Взаимосвязи русской вертепной драмы с белорусской и украинской // Славянский фольклор. М., 1972; Саламевіч Я. Міхал Федароўскі. Мінск, 1972. С. 342—348; Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Т. 1. Мінск, 1975; Фрейденберг О.М. Семантика архитектуры вертепного театра // Декоративное искусство СССР. 1978. № 2; Народны тэатр. Мінск, 1983; Лозка А. Беларуская батлейка: каляндарныя і абрадавыя гульні. Мінск, 1997; Барышев Г.И. Батлейка. Минск, 2000; Саўчук Н. Беларуская батлейка // Бел. гіст. часопіс. 2003. № 3.

***Міхаіл Каладзінскі.***

**баўтушнікі**, балтушнікі, рамеснікі па вырабу аўчын. У бел. пісьмовых крыніцах тэрмін вядомы з 1578. Аналагічнае слова прысутнічае і ў польскай мове (bołtusznik). Аднак у абедзвюх гэтых слав. мовах яно з'яўляецца запазычаннем з літ. мовы, дзе мае тое ж значэнне (паходзіць ад літ. слова baltas белы). З.Ю.Капыскі лічыў, што Б. выраблялі ласіныя скуры. У Магілёве ў 16 ст. існаваў баўтушніцкі рамесны цэх.

**Бацюшкаў** (Батюшков) Пампей Мікалаевіч [14(26).6.1811, маёнтак Данілаўскае Валагодскай губ.—20.3(1.4). 1892], расійскі гісторык, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, выдавец. З дваранскай сям'і. Брат паэта К.Бацюшкава. Пасля заканчэння афіцэрскіх класаў



артылерыйскага вучылішча ў Пецярбургу (1831) служыў у арміі (1832—40). З 1850 віцэ-губернатар у Коўне, у 1851—53 памочнік папячыцеля, у 1868—69 папячыцель Віленскай навучальнай акругі, у 1856—67 віцэ-дырэктар дэпартамента духоўных спраў іншаземных веравызнанняў. З 1869 чл. савета міністра нар. асветы. Кіраваў камітэтам па будаўніцтве храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве. Паводле паліт. поглядаў славянафіл, супрацоўнічаў з І.С.Аксакавым, М.П.Пагодзіным, М.В.*Каяловічам;* адзін з асн. праваднікоў палітыкі русіфікацыі ў Беларусі, Украіне і Літве. Вынікам яго дзейнасці ў дэпартаменце духоўных спраў іншаземных веравызнанняў была пабудова ў Беларусі і Украіне больш як 2 тыс. правасл. цэркваў па тыпавых праектах. Прымаў захады перавесці богаслужэнне ў касцёлах Мінскай губ. з польск. мовы на рус. (праз ксяндза Сенчыкоўскага). Выдаў «Атлас народанасельніцтва Заходне-Рускага краю паводле веравызнанняў» (1863, складзены афіцэрамі Генеральнага штаба Эртэлем, Барановічам, Дэліўронам, Рытыхам і інш.; 2 выд. 1864). Ініцыятар і выдавец серыі альбомаў з тлумачальнымі тэкстамі «*Помнікі рускай даўніны ў заходніх губернях імперыі*» (вып. 1—8, Санкт-Пецярбург, 1868— 85). Выдаў са сваімі прадмовамі манаграфіі прафесараў Кіеўскай духоўнай акадэміі М.І.Пятрова, М.І.Гарадзецкага і І.І.Малышэўскага «Холмская Русь» (1887), «Валынь» (1888), «Беларусь і Літва» (1890), «Падолле» (1891), «Бесарабія» (1892). Гіст. развіццё Беларусі зводзіў да гісторыі правасл. царквы і паліт. дзейнасці князёў. Асабісты архіў Б. зберагаецца ў Рас. нац. б-цы ў Санкт-Пецярбургу (Аддзел рукапісаў, ф. 52).

*Літ.:* Памяти П.Н.Батюшкова. Санкт-Петербург, 1892; Крачковский Ю.Ф. Памяти П.Н.Батюшкова. Вильна, 1892; М а й к о в Л. П.Н.Батюшков // Батюшков П.Н. Бессарабия: ист. описание. Санкт-Петербург, 1892. С. XV—XXXII; П ы п и н А.Н. История русской этнографии. Т. 4. Санкт-Петербург, 1892.

***Мікола Нікалаеў.***

**Баэмус** (Бём; Bohemus, Boemus, Bohm) Ёган (мянушка Аўбанец, Аўб; каля 1485—1535), нямецкі гуманіст і пісьменнік. Атрымаў добрую гуманітарную адукацыю, але невядома дакладна, дзе ён вучыўся, магчыма, у Цюбінгене і Лейпцыгу. У пач. 16 ст. служыў капеланам у г. Ульм, уваходзіў у брацтва Тэўтонскага ордэна. У 1515 апублікаваў кнігу вершаў. Набыў шырокую вядомасць дзякуючы сваёй кнізе «Норавы, законы і звычаі ўсіх народаў» («Mores, leges et ritus omnium gentium», 1520), якая доўгі час захоўвала папулярнасць у еўрапейскіх адукаваных колах і была перавыдадзена на нямецкай, італьянскай, французскай, іспанскай і англійскай мовах. Б. вельмі пільна ставіўся да паходжання інфармацыі, якую ён выкарыстоўваў. Ён пісаў, што трэба пазбягаць такіх твораў, дзе асобныя ілжывыя звесткі прымушаюць сумнявацца ў праўдзівасці ўсяго астатняга. Кніга Б. — першая спроба ў гісторыі ранняга Новага часу даць агульную карціну чалавечай культуры ў сусветным маштабе. Паказаў вял. майстэрства ў стварэнні сціслага і ёмістага нарыса. Кожнае асобнае апісанне пэўнай краіны ў кнізе Б. ўяўляе сабою не дэталёва прапісанае маляўнічае палатно, а, хутчэй, малюнак, у якім некалькі асн. ліній і штрыхоў ствараюць непаўторную своеасаблівасць сілуэта. Але ўсе разам такія нарысы складаюць панараму культ. разнастайнасці чалавецтва. Беларусь і яе насельніцтва апісаны ў раздзеле «Пра Літву і жыццё літвінаў» («De Lithuania, et Lithuanorum vita»). Б. адзначаў, што «мова народа, як і ў палякаў, славянская», большасць літвінаў — хрысціяне грэчаскага (правасл.) абраду, аднак некаторая частка з іх яшчэ застаецца ў «цемры паганства». У інш. раздзеле — «Пра Русію альбо Рутэнію і сучасныя звычаі русаў» («De Rusia sive Ruthenia, et recentibus Rusianorum moribus») Б. згадвае і назву «Белая Русь», аднак не вызначае дакладна яе лакалізацыю. Стварыў Б. жанр кароткага агляду, які змяшчаў геаграфічныя, гіст. і культ.-этнаграфічныя звесткі, меў шэраг паслядоўнікаў.

*Літ.:* С ы н к о в а І. Ёган Баэмус і яго кніга «Норавы, законы і звычаі ўсіх народаў» // Бел. гіст. агляд. 2007. Сш. 1—2; S c h m i d t E. Deutsche Volkskunde im Zeitalter des Humanismus und der Reformation. Berlin, 1904. S. 60—107; H o d g e n M.T. Early Anthropology in the Sixteenth and Seventeenth Centuries. Philadelphia, 1964; V o g e l K.A. Cultural Variety in a Renaissance Perspective: Johannes Boemus on «The Manners, Laws and Customs of All People» (1520) // Shifting Cultures: Interaction and Discourse in the Expansion of Europe. Münster, 1995.

***Ірына Сынкова.***

**Без-Карніловіч** (Бес-Корнилович, Бескорнилович) Міхаіл Восіпавіч [29.9(10.10).1796, г. Магілёў-Падольскі—7(19).1.1862], расійскі гісторык, вайсковы тапограф. Генерал-маёр рас. арміі. Брат дзекабрыста А.В.Карніловіча. Скончыў 1-ы кадэцкі корпус (1816). Удзельнік рус.-турэцкай вайны 1828—29. У 1831—47 кіраваў тапаграфічнай экспедыцыяй у Мінскай, Наўгародскай, Валынскай, Віцебскай, Магілёўскай губ., Беластоцкай вобл. З 1852 у адстаўцы. Вывучаў дакументы ў дзярж., прыватных, манастырскіх архівах. Аўтар прац па гісторыі Беларусі, якую абмяжоўваў Віцебскай і Магілёўскай губерніямі, астатнія бел. землі называў Літвой. Продкамі беларусаў лічыў не толькі крывічоў і радзімічаў, але таксама і суседнія плямёны, якія аказалі свой уплыў. Пра беларусаў пісаў як пра самастойны народ («племя») і ставіў іх у «адзін шэраг з суседнімі народамі». Выключнае значэнне надаваў дзяржаўнасці Полацка, лічыў яго цэнтрам крывічоў. Адзначыў згуртаванасць Полацкай зямлі ў 1230—40-я г. у барацьбе супраць крыжакоў, даказваў паходжанне вял. кн. літ. Віценя з роду полацкіх князёў. Сабраў краязнаўчыя звесткі і даў гіст. даведкі пра Віцебск, Полацк, Лепель, Лукомль, Друцк, Мсціслаў, Магілёў, Люцын, Невель, Оршу, Копысь, Себеж, Чарэю і інш. Выкарыстоўваў звесткі гісторыкаў Я.Длугаша, М.Стрыйкоўскага, А.Гваньіні, В.Кадлубака, Мацея з Мехава, М.М.Карамзіна і інш. Апісаў помнікі дойлідства, археалогіі і этнаграфіі, побыт бел. сялян.

*Тв.:* Нашествие литовцев на Устюжину — уездный город Новгородской губернии // Северная Пчела. 1836. № 110; Военно-историческое обозрение Российской империи. Т. 8. Витебская губерния. Санкт-Петербург, 1852; Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Санкт-Петербург, 1855 (2 изд. Минск, 1995).

*Літ.:* А л е к с е е в Л.В. Археология и краеведение Беларуси, XVI в.—30-е гг. XX в. Минск, 1996.

**Бейтнік** Мацей (5.2.1705, Вармія—20.4.1749), мастак. У 1727 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Працаваў у навіцыяце ў Вільні (1727—31), Жодзішках (1731—36), у Нясвіжы пры касцёле св. Міхала (1736—37), Менску (1737—45), Рэшэлі (1745—46), Полацку (1746—49).

**Беканус** (Бекан; Becanus, Bekan) Міхал Ота (каля 1550, г. Бек, Бельгія—6.7.1622), дзеяч каталіцкай царквы. У 1570 уступіў у ордэн езуітаў. Вывучаў філасофію і тэалогію ў Майнцы. З 1589 у Рэчы Паспалітай. Праф. грэчаскай мовы ў Любліне (1589—90), праф. палемічнай тэалогіі і рэгент Папскай семінарыі ў Вільні (1590—94), рэктар калегіума ў Браневе (1594—97), рэктар калегіума і магістр навіцыята ў Рызе (з 1597). З-за шведскага наступлення ў час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* выехаў у 1600 з навіцыятам у Полацк, а ў 1605 — у Вільню, дзе кіраваў ім да 1610. Пасля капелан і спавядальнік караля польск. і вял. кн. літ. Жыгімонта III у Варшаве. Выдаў свой рэліг. дыспут з лютэранінам П.*Одэрборнам* у кнізе «Ein Gespräch von der Religion», Вільня, 1605).




Альтанка, пабудаваная ў **Белавежскай пушчы** для караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў 1784. Гравюра.

*Літ.*: Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**Белавежская пушча**, лясны масіў у Берасцейскім ваяводстве. Упершыню ўпамінаецца ў 1409, калі паміж каралём польск. Ягайлам і вял. кн. літ. адбыліся перагаворы ў Берасці (гл. *Берасцейская сустрэча 1409*). Пасля перагавораў было арганізавана паляванне ў Б.п., пад час якога нарыхтавана мяса для харчавання войска ў час вайннай кампаніі 1410 супраць Тэўтонскага ордэна. Яшчэ раз Ягайла паляваў у Б.п. ў 1426. Вядома, што тут былі Жы-




Карта часткі Берасцейскай эканоміі з **Белавежскай пушчай**. Картограф Міхал Палхоўскі. 1784.




Да арт. **Белавежская пушча**. Тытульны ліст матэрыялаў дзейнасці рэвізійнай камісіі 1712 у Берасцейска-Кобрынскай эканоміі, Белавежскім лясніцтве і інш. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.

гімонт I Стары (1506), Жыгімонт II Аўгуст (1546), Стэфан Баторый (1581, 1583, 1584), Жыгімонт III (1597), Жыгімонт IV (1643), Ян II Казімір (1650). Вял. паляванне было арганізавана ў 1752 для Аўгуста III. У гонар гэтай падзеі ў пушчы быў пасталены абеліск. Б.п. мела статус вялікакняжацкага (каралеўскага) паляўнічага ўгоддзя, адпаведны штат службоўцаў і аховы (ляснічы, асочнікі, лясныя слугі, стражнікі). Перыядычна праводзіліся рэвізіі Б.п. (Белавежскага лясніцтва). Мясцовае насельніцтва за службу па падтрыманні пушчы ў належным стане і за ўдзел у каралеўскіх паляваннях атрымлівала ў карыстанне вольныя ад падаткаў (акарамя дзяржаўных) зямельныя надзелы. Пры кіраванні надворнага падскарбія ВКЛ А.Тызенгаўза (1765—80) праведзены рэформы з мэтай павысіць таварны патэнцыял Б.п. Было адменена права карыстацца пушчай з боку пабочных асобаў, яна падзелена просекамі на 13 старожаў. Павялічыўся вываз з пушчы драўніны. У 1784 вял. паляванне арганізавана для Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Праведзены перад гэтым улік зуброў паказаў, што ў Б.п. жыло як мінімум 284 асобін. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) пушча ў складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Похилевич Д.Л., Чугай В. Королевские леса Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в.: (производство, население) // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1966. Таллин, 1971; Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2009; Зямля сілы. Белавежская пушча. Мінск, 2009; Hedemann O. Dzieje Puszczy Bialowieskiej w Polsce przedrozbiorowej: (w okresie do 1798 roku). Warszawa, 1939; Samojlik T. Pųszcza Białowieska w pracach przyrodnikow 1721— 1831. Warszawa, 2004; Samojlik T., Jędrzejewska B., Kamiński T. Polana pasieczna na akwareli Jana Henryka Müntza Puszcza Białowieska — polowanie na niedźwiedzia (1780—1783 г.) // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. 2003. № 3—4; Daszkiewicz P., Jędrzejewska B., Samojlik T. Łowy i inne pobyty królów polskich i wielkich książąt litewskich w Puszczy Białowieskiej w XV—XVI wieku // Там жа. 2006. № 3—4.

**Белакаменская бітва 1604**. Адбылася 25 вер. паміж войскамі ВКЛ і Швецыі ў час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* пад Белым Каменем (ням. Вайзенштайн, цяпер Пайдэ, Эстонія) — стратэгічна важным замкам шведскай Эстляндыі на гасцінцы з Рэвеля на Дорпат, які быў заняты польскім войскам у 1602. 15.9.1604 шведскае войска, падмацаванае венгерскімі, шатландскімі, нямецкімі наёмнікамі, агульнай колькасцю 6 тыс. чал. на чале з Арвідам Эрыксанам Стаалармам пачало аблогу Белага Каменя. 23.9.1604 яно правяло штурм горада, які быў адбіты з вял. стратамі для нападаючых. 24.9.1604 на дапамогу абаронцам Белага Каменя прыбыло войска ВКЛ колькасцю каля 2300 чал. на чале з гетманам Янам Каралем *Хадкевічам*. Поле бітвы ляжала паміж дарогай, лесам і забалочанай раўнінай. Стааларм паставіў аддзелы кавалерыі (рэйтары, пашыхтаваныя ў караколь) і пяхоты адзін за адным, каб зрабіць немагчымым іх разбіццё паасобку, і ўжыў трохчасткавую пабудову. Мацнейшы левы фланг, складзены з наёмнікаў, закрываў дарогу на Рэвель, правы, складзены з фінаў, быў прыкрыты багнай, цэнтр склалі шведы. На правае крыло войска ВКЛ Хадкевіч паставіў гусараў (роты Т.Ляцкага, Хадкевіча, Ф.Невяроўскага, Я.П.Сапегі, Я.Барухоўскага), у цэнтр — пяхоту, рэйтараў і лёгкія гарматы, левае крыло склалі харугвы татараў і казакоў ВКЛ. Бітва працягвалася з 7 да 8 гадзін раніцы. Пазбаўленыя месца для манеўраў, гусары ВКЛ ударылі ў левы мацнейшы фланг ворага, дзе праціўнік менш за ўсе гэтага чакаў. Удар гусараў зламаў шведскі рэйтарскі караколь, а затым супраціўленне пяхоты. Пасля знішчэння левага флангу ворага ў бой пайшлі цэнтр і левае крыло войска ВКЛ. Шведы былі разбіты і загнаны ў балота. Паводле падлікаў Хадкевіча, праціўнік згубіў 3 тыс. чал., 21 харугву, 6 малых гармат і ўвесь абоз. Страты войска ВКЛ склалі 81 забітага, больш за 100 параненых. Аднак чаканне зімы, эпідэміі і голад у вынішчаных Інфлянтах прывялі да таго, што Хадкевіч у чарговы раз не здолеў утрымаць дысцыпліну ў войску і пасля бітвы большая частка прысутных у абозе жаўнераў палічыла свае абавязкі перад дзяржавай выкананымі, пачала патрабаваць выплаты жолду (жалавання), завязала новую канфедэрацыю, абрала яе маршалкам Аляксандра Юзафа Лісоўскага (не ўдзельнічаў у бітве) і з'ехала ў Курляндыю і ВКЛ.

*Літ*: Naruszewicz A. Historya Jana Karola Chodkiewicza wojewody wileńskiego, hetmana wielkiego W. X. Lit. T. 1. Warszawa, 1805; Korrespodencye Jana Karola Chodkiewicza / Oprac. i opisał W.Chomętowski. Warszawa, 1875; Wijuk Kojałowicz W. Herbarz Rycerstwa Wielkiego Xęstwa Litewskiego. Tak zwany Compendium. Kraków, 1897; Herbst S. Wojna inflancka 1603—1604 // Studia historica: W 35—liecie pracy naukowej Henryka Łowmiańskiego. Warszawa, 1958; Wimmer J. Wojsko i skarb Rzeczy Pospolitej u schyłku XVI i w pierwszej połowy XVII w. // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1968. T. 14, cz. 1; Podhorodecki L. Sławni hetmani Rzeczy Pospolitej. Warszawa, 1994. ***Віктар Якубаў.***

**«Беларускі архіў старажытных грамат»** («Белорусский архив древних грамот»), археаграфічны зборнік дакументаў па гісторыі ўсходнебеларускіх зямель. Падрыхтаваны ў Гомелі



І.І.*Грыгаровічам,* які збіраў рукапісы для зборніка ў Магілёве і Мсціславе. Выдадзены ў Маскве ў 1824 на сродкі і з дапамогай графа М.П.Румянцева. Выданне планавалася ў 3 частках, выйшла толькі першая. Змешчана 57 дакументаў 1463—1768, большасць з якіх — прывілеі гарадам і правасл. царкве на розныя льготы. Дакументы выдадзены вял. князямі літ. Казімірам IV, Аляксандрам, Жыгімонтам І Старым, Жыгімонтам II Аўгустам, Стэфанам Баторыем, Жыгімонтам III Вазам, Уладзіславам IV, Янам II Казімірам, Міхалам Вішнявецкім, Станіславам Аўгустам Панятоўскім, князямі І.Ю.Мсціслаўскім, М.І.Мсціслаўскім, мітрапалітам Гедэонам Святаполк-Чацвярцінскім, царамі Аляксеем Міхайлавічам, Пятром І, маскоўскімі патрыярхамі Ніканам і Іаакімам, курляндскім герцагам Якавам і інш. Найб. значныя дакументы: прывілей Стэфана Баторыя Магілёву на магдэбургскае права 1578, прывілей Жыгімонта III на заснаванне брацтва ў Магілёве 1602, прывілей Станіслава Аўгуста Панятоўскага магілёўскаму епіскапу Георгію Каніскаму на заснаванне ў Магілёве вучылішча і друкарні 1768 і інш. Дакументы надрукаваны ў большасці на мове арыгіналаў — старабел., некаторыя забяспечаны паралельнымі тэкстамі на лацінскай, польск. і рус. мовах. Тэксты дакументаў даны з захаваннем старaж. літар, вынасной літары «и» і паеркі. Дадзены ілюстрацыі: пячатка Магілёва, подпісы Жыгімонта III, Л.Сапегі, патрыярха Ніканa. Дакументы забяспечаны кароткімі археагр. каментарыямі, дзе прыводзяцца звесткі пра наяўнасць арыгінала дакумента, яго мову, пячаткі, месца захавання. У канцы кнігі змешчаны «Прымячанні і папраўкі» да дакументаў, якія маюць характар кароткіх гіст. каментарыяў. Паказальнікі адсутнічаюць. Шмат дакументаў, змешчаных у зборніку, не захавалася або не перавыдавалася, таму выданне захоўвае навук. вартасць. Рукапіс 2-й часткі зборніка зберагаецца ў Бел. дзярж. архіве-музеі л-ры і мастацтва.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 16—28; Шумейко М.Ф. Белорусская археография в XIX—XX вв.: (проблемы теории, истории, методики). Минск, 2007.

**Белгарад** (цяпер Белгарад-Днястроўскі, укр. Білгород-Дністровський, цэнтр Белгарад-Днястроўскага р-на Адэскай вобл., Украіна), старажытны горад на правым беразе р. Днестр. На працягу існавання меў шматлікія назвы: Ціра, Альба, Аспракастрон, Акчакерман, Чатаця-Албэ, Манкастра, Акерман. Існаваў з антычных часоў, з'яўляўся адным з буйных цэнтраў міжнар. гандлю. Прыкладна з 10 ст. ў складзе старaж.-рус. дзяржавы, потым — *Галіцка-Валынскага княства*. У 1260—70-я г. стаў значным цэнтрам арды хана Нагая, якая сфарміравалася ў ніжнім Падунаўе і правіцель якой меў прэтэнзіі на пераважную паліт. ролю ў Залатой Ардзе. У той жа час горад уваходзіць у сферу інтарэсаў генуэзцаў. Пасля перамогі вял. кн. літ. Альгерда ў *бітве каля Сініх Вод 1362* улада Залатой Арды адсунулася ад узбярэжжа Чорнага мора паміж Днястром і Дняпром далей на У. Гэту тэр., якая, магчыма, у той час называлася Падолле, атрымаў пляменнік Альгерда кн. Юрый Карыятавіч (гл. ў арт. *Карыятавічы*). Апошні вёў актыўную барацьбу супраць татарскіх правіцеляў (Цемера, або Цемірэза, які атаясамліваецца з Дзмітрыем — праціўнікам Альгерда ў бітве каля Сініх Вод 1362) і нават быў запрошаны заняць малдаўскі пасад. У 1374 малдаўскі гаспадар Юрый (Юрга) Карыятавіч за барацьбу з татарамі падараваў белгарадскаму намесніку Яшцы Літавору с. Зуброўцы. Распаўсюджванне ўлады правасл. літ. князёў на Малдову (Валошскую зямлю) было звязана з імкненнем мясцовага насельніцтва пазбегнуць венгерска-польск. ціску, які быў выражаны, у прыватнасці, у навязванні каталіцтва. Але каля 1377, магчыма, у сувязі са смерцю Альгерда і пераарыентацыяй інш. князёў Карыятавічаў на саюз з венгерскім каралём *Людвікам I*, кн. Юрыя Карыятавіча атруцілі (паводле слоў летапісца, «князя Юрия волохове взяли его собе воеводой и тамо окормили»). Пасля гэтага Б. на значны час увайшоў у склад Малдаўскага княства. З канца 14 ст. ў рэгіёне ўзнікла турэцкая пагроза. У 1420 Б. вытрымаў няўдалую для туркаў аблогу. У той жа час рэзка пагоршыліся малдаўска-літ. адносіны. У 1418 у Малдову збег праціўнік вял. кн. літ. Вітаўта кн. *Свідрыгайла*, а ў 1421 малдаўскі правіцель Аляксандар Добры адмовіўся ад рукі сястры Вітаўта Рымгайлы. Вітаўт нават збіраўся ісці вайной на Малдову. Мерапрыемствамі, якія звязаны менавіта з апошнім намерам, а не з дапамогай Малдове ў барацьбе з туркамі, трэба лічыць пабудову падольскім старастам *Гедыгольдам* умацаванняў каля Белгарада ў 1421. У 1484 Б. канчаткова быў захоплены турэцкім султанам Баязідам II і заставаўся пад турэцкай уладай да 1812, калі паводле ўмоў Бухарэсцкага міру быў далучаны да Расіі.

*Літ.*: Параска П.Ф. Внешнеполитические условия образования Молдавского феодального государства. Кишинев, 1981; Очерки внешнеполитической истории Молдавского княжества (последняя треть XIV—начало XIX в.). Кишинев, 1987.

***Віктар Цемушаў.***

**бельскія мануфактуры і майстэрні**, прамысловыя прадпрыемствы ў г. *Белая* ў Берасцейскім ваяв. (цяпер г. Бяла-Падляска, Польшча). Былі арганізаваны ў пач. 18 ст. ўладальніцай горада Г.К.*Радзівіл* (1676—1746), жонкай канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла. У большасці былі першымі адпаведнага профілю мануфактурамі і прадпрыемствамі ў ВКЛ. Асн. рабочай сілай былі наёмныя майстры і дапаможныя работнікі, некаторыя з іх былі з прыгонных сялян. Пры арганізацыі прадпрыемстваў Г.К.Радзівіл арыентавалася на зах.-еўрапейскія мануфактуры, запрашала замежных майстроў, якія не толькі былі павінны арганізаваць вытворчасць, але і падрыхтаваць сабе змену з мясцовых майстроў. Аднасна невял. сувязь з рынкам перашкаджала развіццю бельскіх прадпрыемстваў, забяспечвала невял. даход, таму хутка пасля смерці Г.К.Радзівіл большасць прадпрыемстваў перастала існаваць.

Фаянсавая мануфактура (фарфурня) працавала па меншай меры з 1727. У 1738 вытворчасць была рэарганізавана, ва ўсіх радзівілаўскіх уладаннях пачалі шукаць сыравіну лепшай якасці, прывезлі майстроў з Чэхіі. Вырабляўся ўпрыгожаны посуд, парцэлянавыя фігуркі. Прадукцыя ішла на продаж і падарункі. Вучні, падрыхтаваныя ў Белай, пасля працавалі майстрамі на



арганізаванай у 1742 *Свержанскай фаянсавай мануфактуры*. Фарфурня была ліквідавана пасля смерці Г.К.Радзівіл.

На гафтавай мануфактуры ствараліся вырабы з матэрыі, шытыя сярэбранымі і залатымі ніткамі: арнаты, абіўкі, абразы, спадніцы. Вядома з 1728. Працавалі гафцяр Лянгле (штогод атрымліваў высокі заробак — 1000 злотых), гафцяркі Мікалаеўская, Агароднікава, Палюся, Кася, Марыся, Літоўка, Ахляноўская. Прадукцыя, сярод якой адзначаны рэчы ў кітайскім стылі, прызначалася для княжацкага двара і для падарункаў (у касцёлы і інш.).

Суконная мануфактура працавала з 1737. Першапачаткова майстры былі запрошаны з Члухава (Памор'е). Сярод майстроў былі Генрык Кудэрлей, Герман Альшхаўт, Адам Мантэй, Ян Перлеберг. Працавала на прускай і мясцовай сыравіне.

Майстэрня па вытворчасці габеленаў і дываноў вядома з 1716. Працавалі майстры (у асн. замежныя) і кабернікі. Прадукцыя прызначалася на продаж і для радзівілаўскага двара.

Майстэрня па шліфоўцы вырабных камянёў існавала прыкладна з 1720. У 1725—31 яе кіраўніком быў Фішэр (відаць, майстар з Германіі). Прыкладна з 1732 і да 1737 у майстэрні працаваў Ян Унгер з Саксоніі, у 1733 прыняты 2 вучні. Майстэрня вырабляла пячаткі, табакеркі, шабельныя рукаяці, жэтоны для гульні, вазы, чаркі, більярдныя кіі, конскія ўпрыгожанні. Вырабы высока ацэньваліся сучаснікамі. З прыняццем на працу майстра Іаахіма Цэрска (памёр у 1741) выконваліся больш значныя работы — надмагіллі, эпітафіі. Каля 1732 Г.К.Радзівіл запрасіла шліфоўшчыка брыльянтаў з Мангайма, але за год знаходжання ў Белай ён не змог наладзіць адпаведнай вытворчасці.

Ювелірная майстэрня вядома ў 1724—39, была месцам працы некалькіх злотнікаў. З іх вядомы Ян Крыштоф Геер (з Германіі?), Беньямін Ляўковіч, Янкель Ляйбовіч, Рафал Бярковіч, Абрам Шламовіч, Юзаф Машковіч (з Любліна). Выраблялі рэчы з каштоўных металаў, якія, відаць, прызначаліся Радзівіламі на падарункі.

Сталярная майстэрня вырабляла мэблю. Вядома з 1715. Праекты мэблі выконвалі мастакі Вількоўскі і Фішэр. Сярод прадукцыі адзначаны шафы, бюро, сталы, канапы, скрыні; папулярныя былі вырабы ў кітайскім стылі. Некаторыя майстры былі запрошаны з Члухава. Вядомы майстры Гроскі, Родзкі, Ігнацій, Пётр Галячэўскі, Ян Крыштоф Герн (з Дрэздэна), Губерт Бадон (з Францыі), майстры з Літвы, Гданьска. Працавала для радзівілаўскага двара і па заказах інш. асоб.

Штукарская і разьбярская майстэрня выконвала скульптурныя фігуры з гіпсу і мармуру. Вырабы прызначаліся для Бельскага палаца Радзівілаў, касцёлаў. Паводле некаторых даных, у Белай існавалі таксама пераплётная, гадзіннікавая, сталярная, ткацкая майстэрні, вытворчасць намётаў (гэта майстэрня вырабляла таксама дываны з аплікацыяй, парасоны, гунькі).

*Літ.*: M a ń k o w s k i T. Polskie tkaniny i hafty XVI—XVIII wieku. Wrocław, 1954; M a s z k o w s k a B. Z dziejów polskiego meblarstwa. Wrocław, 1956; S t a s z e w s k a M., J e z e w s k a M. Polski fajans. Wrocław, 1978; C h o j n a c k a H. Fajanse polskie XVIII—XIX w. Warszawa, 1981; K a r k u c i n s k a W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa (1676—1746): Działalnoś ć gospodarcza i mecenat. Warszawa, 2000.

**Бембус** Мацей (1567, г. Познань, Польшча—30.7.1645), дзеяч каталіцкай царквы. З 1587 член ордэна езуітаў. Выкладаў філасофію і тэалогію ў езуіцкіх калегіумах Польшчы. Працаваў у Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе выкладаў філасофію (1601—04) і тэалогію (1604—12). У 1612—18 прыдворны прапаведнік караля і вял. кн. літ. Жыгімонта III Вазы. Рэктар езуіцкага калегіума ў Познані (1621—23), прэпазіт езуіцкага дому прафесаў у Кракаве (1624— 27). У 1625 некалькі месяцаў выконваў функцыі віцэ-правінцыяла Польск. правінцы ордэна езуітаў. Быў дарадцам польск. правінцыялаў, актыўна ўдзельнічаў у рэлігійным і грамадскім жыцці ордэна. У апошнія гады жыцця адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. Памёр у Кракаве. Набыў папулярнасць як аўтар казанняў (не апублікаваны). Быў адным з ідэолагаў контррэфармацыйнага руху. На літ. творчасць Б. вялікі ўплыў мелі погляды П.*Скаргі*. Аўтар палемічнага твору супраць пратэстантаў «Мір, які не з'яўляецца мірам...» («Рах поп рах...», Кракаў, 1615), які паўстаў як адказ на праект некаторых пратэстанцкіх дзеячаў аб пагадненні з каталіцкай царквой. У гэтай працы Б. выступае як пераканаy працiўнік рэліг. талерантнасці і *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*. Сцвярджаецца немагчымасць пагаднення католікаў з «ерэтыкамі» як немагчымасць пагаднення ісціны з хлуснёй; верацярпімасць, на думку Б., падрывае асновы рэліг. светапогляду. Наяўнасць у соцыуме розных канфесій разглядаецца як крыніца грамадскай нестабільнасці; указваецца на мяцежны і неталерантны характар пратэстантызму. Пратэстантаў абвінавачваў ва ўдзеле ў *Зэбжыдоўскага рокашы 1606—09*. У якасці высновы змяшчаецца прапанова скасаваць рашэнні Варшаўскай канфедэрацыі і аднавіць у Рэчы Паспалітай «антыератычнае» заканадаўства, якое абапіралася на Карчынскую канфедэрацыю 1438. Як паленіст Б. выступаў у падтрымку уніяцкай царквы (асабіста прымаў удзел у сінодзе уніяцкай царквы ў Львове ў 1629), а таксама уніі армянскай царквы ў Рэчы Паспалітай з рыма-каталіцкай царквой: «Заклік да каталіцкага адзінства» («Wzywanie do jedności katolickiej», Кракаў, 1629), «Армянскае набажэнства» («Ormiańskie nabożeństwo», 1630). Б. заклікаў праваслаўных Рэчы Паспалітай да прыняцця «новай уніі» з каталіцкай царквой. На аснове царк. традыцыі ён абгрунтоўваў манархічную мадэль хрысціянскай царквы на чале з рымскім папам як пераемнікам апостала Пятра. Разам з тым дапушчаў захаванне асобных абрадаў, цырымоній і мовы набажэнства для асобных цэркваў. Асабліва падкрэсліваў працяглую традыцыю падпарадкавання ўсх. цэркваў Рыму, ухваляў *Фларэнтыйскую унію 1439*, якую прыняло правасл. духавенства Польшчы і ВКЛ. У цэлым Б. звяртаўся да праваслаўных і прадстаўнікоў армянскай царквы ў лагодным тоне, пазбягаў інвектыў, што можна патлумачыць надзеямі на перамогу уніяніцкіх тэндэнцый у межах правасл. і армянскай цэркваў. Б. з'яўляецца аўтарам комплексу прац,



у якіх прадстаўлены ідэал «хрысціянскага шляхціца»: «Хрысціянскі ваяр» («Bellator Christianus», 1617), «Вобраз сапраўднага шляхціца» («Wizerunek szlachcica prawdziwego», Вільня, 1617), «Камета, тое ёсць пагроза з неба» («Kometa, to jest pogróżka z nieba», 1619). Гал. шляхецкімі дабрадзейнасцямі лічыў набожнасць, усебаковую падтрымку каталіцкай царквы, лагоднасць і справядлівасць у дачыненні да падданых, мужнасць пры абароне айчыны. Акцэнтуацыю гэтых шляхецкіх этычных каштоўнасцяў можна разглядаць у кантэксце фарміравання ідэалогіі *сарматызму*. Б. выступаў у абарону ордэна езуітаў у палеміцы з яго праціўнікамі у творы «Карысная заўвага» («Monita salutaria», 1615). Падрыхтаваў для каталіцкага духавенства трактат «Пільны пастар» («Pastor vigilans», 1618), у якім быў прадстаўлены ідэальны вобраз святара.

*Тв.*: Pokój, który nie jest pokojem // Filozofia i myśl społeczna XVII wieku. Cz. 1. Warszawa, 1979.

*Літ.*: Przyłęcki S. Mateusz Bembus. Lwow, 1854; Załęski S. Jezuici w Polsce. T. 1—2. Lwów, 1901; Grabowski T. Piotr Skarga na tle katolickiej literatury religijnej w Polsce wieku XVI, 1536—1612. Kraków, 1913; Bartoszewicz K. Antysemityzm w literaturze polskiej XV—XVII w. Warszawa, 1914; Ogonowski Z. Z zagadnień tolerancji w Polsce XVII wieku. Warszawa, 1958; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Korolko M. Klejnot swobodnego sumienia: Polemika wokół Konfederacji Warszawskiej w latach 1573—1658. Warszawa, 1974; Darowski R. Mateusz Bembus SJ (1567—1645), profesor filozofii w Poznaniu // Archiwum filozofii i myśli społecznej. Wrocław, 1986. T. 31.

***Ігар Бортнік.***

**Беніслаўскі** Канстанцін (3.5.1746, Латвія—пасля 1780), дзеяч каталіцкай царквы. Брат Я.*Беніслаўскага*. У 1761 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1774 ксёндз. Праф. сінтаксісу і паэтыкі ў Віленскай акадэміі (1769—71). Выдаў драму ў 5 актах белым вершам «Кір» («Cyrus», Вільня, 1771), у гонар Кацярыны II — «Песні на ўвесь дзень і ўсю ноч» («Pieśni całodzienne i całonocne», Вільня, 1780).

**Беніслаўскі** Ян (16.7.1735, Зазуля, Інфлянты—25.3.1812), дзеяч каталіцкай царквы. Брат К.*Беніслаўскага*. У 1757 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1768 ксёндз. Вывучаў архітэктуру ў Полацку ў 1769—70. Праф. філасофіі ў Калегіум Набіліум у Вільні (1767—69), у калегіуме ў Навагародку (1771—73). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) выкладаў у Віленскай акадэміі (1773—75), рэктар ваяводскай школы ў Берасці (1775—78). З 1778 жыў ва ўсх. Беларусі, зблізіўся з Р.Пацёмкіным, дапамагаў біскупу Станіславу Богушу-Сестранцэвічу ў арганізацыі Магілёўскай архідыяцэзіі, мясцовай духоўнай семінарыі, наладжванні дзейнасці ордэна езуітаў. У 1783 ездзіў у Рым для зацвярджэння Магілёўскай архіядыяцэзіі. У 1782 Кацярына II прызначыла яго біскупам-каад'ютарам, у 1784 афіцыйна пасвячоны як тытулярны біскуп гадарскі. Калі ў 1800—01 імператар Павел I трымаў Богуша-Сестранцэвіча ў ссылцы ў Беларусі, Б. ў Санкт-Пецярбургу кіраваў Магілёўскай архідыяцэзіяй і рымска-каталіцкай калегіяй. Выдаў падручнік філасофіі «Пачаткі логікі» («Institutiones logicae seu Brevis tractatus de cultura ingenii», Вільня, 1774), пераклад падручніка «Роздумы для свецкіх ксяндзоў» («Rozmyślania dla księży swieckich o powinnościach chrześcijańskich z listów i Ewangelji wzięte», т. 1—3, Полацк, 1799—1802; 2 выд. Варшава, 1859—60).

**Беніцкі кляштар бернардзінцаў.** Знаходзіўся ў в. Беніца ў Ашмянскім пав. (цяпер у Маладзечанскім р-не, Рэспубліка Беларусь). Заснаваны ў 1700 троцкім кашталянам М.К.Коцелам. Мураваны Троіцкі касцёл асвячоны ў 1704 віленскім біскупам К.К.Бжастоўскім. Жылы корпус першапачаткова быў драўляны, потым мураваны; разбураны ў канцы 19 ст. Пры касцёле існавала брацтва Бязгрэшнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Прыкладна з 1780 да 1842 пры касцёле існавала школа. Кляштар у 1852 скасаваны, касцёл у 1866 перароблены на царкву, у 1919 вернуты католікам, у 1948 зачынены. Касцёл аднанефны, крыжова-купальны з 2-вежавым гал. фасадам; неф завершаны 5-граннай апсідай, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Захаваліся рэшткі алтароў і стукавых надмагілляў. У сутарэннях касцёла былі пахаваны Коцелы і Швыйкоўскія.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Берасцейская канфедэрацыя 1605—08**, канфедэрацыя войска ВКЛ у час *вайны Рэчы Паспалітай і Швецыі 1600—29*. Дзярж. войска пад час гэтай вайны па прыпаведных лістах павінна было забяспечвацца і ўзнагароджвацца за кошт выплат (кухонных і жолду) і паставак са скарбу, але ў ВКЛ сродкаў было недастаткова. Невыкананне дзяржавай сваіх абавязкаў дазваляла жаўнерам шляхецкага паходжання ствараць канфедэрацыі. Б.к. створана 8.10.1605 у абозе войска ВКЛ пасля перамогі над шведамі ў *Кірхгольмскай бітве 1605*. У акце абвяшчэння канфедэрацыі была заяўлена яе мэта — дабівацца разліку скарбу за службу. Пасля абрання маршалка (у 1607 ім быў А.Кяндзерскі) удзельнікі з'ехалі з Інфлянтаў і занялі каралеўскія эканоміі ў ваколіцах Берасця, Камянца, Пінска і Кобрына. У кошт пагашэння запазычаннасці канфедэраты самавольна бралі прыстаўствы, збіралі стацыю, канфіскоўвалі сродкі з падаткаў каралеўшчын непасрэдна ў паборцаў, дасылалі паслоў з патрабаваннямі да караля і ўраднікаў (ваявод, арандатараў, аканомаў), прымалі легатаў і камісараў ад караля і сената. Легатамі да Б.к. былі ў асн. прадстаўнікі ВКЛ. Каардынацыю збора сродкаў (дзярж. падаткаў і дабраахвотных складак мяшчан і шляхты — «таварыскіх») з ВКЛ і Польшчы на пагашэнне запазычаннасці ажыццяўляў падскарбі ВКЛ Яраш Валовіч. Скарб ВКЛ, хоць і прызначаў усе падаткі з ВКЛ на выплату Б.к. і *Гарадзенскай канфедэрацыі 1606—08*, але не мог сабраць усёй сумы; канфедэраты заблакіравалі збор падаткаў і праводзілі бескантрольныя канфіскацыі на месцах. Адсутнасць дапамогі Польшчы ў вырашэнні праблем фінансавання прывяла ў 1607—08 да пераносу актыўнасці Б.к. з ВКЛ на Падляшша, Мазавецкае, Плоцкае ваяводствы і гарады каралеўскай Прусіі. У выніку злоўжыванняў Б.к. Варшаўскі сойм 1607 вызваліў Берасце ад падаткаў.



Сойм прызначыў камісарамі па разліку з войскам Марціна Шышкоўскага (луцкі біскуп), Гераніма Хадкевіча (віленскі кашталян), Станіславаў Варжыцкага (варшаўскі кашталян, у 1599 кобрынскі арандатар), Мацея Ленека (дорпацкі кашталян), Гераніма Ішыкоўскага (драгічынскі падкаморы), Самуэля Валовіча (макрацкі стараста), Бальтазара Стравінскага (троцкі цівун), якія прыступілі да працы ў чэрв. 1607. Па падліках Б.к. скарб ВКЛ і Польшчы быў павінен за службу ў 1604—05 каля 100 тыс. злотых, а па падліках камісараў — толькі 25 тыс. злотых. У час паліт. крызісу 1606—08 (гл. *Зэбжыдоўскага рокаш 1606—09*) кароль накіраваў да Б.к. Шышкоўскага, а Люблінскі ракашовы сойм — полацкага пасла П.Стаброўскага. Б.к. адмовілася афіцыйна далучыцца да рокашу і забаранілі на коле 24.7.1606 гэта зрабіць ротмістрам Яну Паўлу Сапегу, М.Младзяноўскаму і Стравінскаму разам з початамі. Аднак утрымаць цэласнасць канфедэрацыі да вырашэння праблемы не ўдалося. На асабістым узроўні шэраг удзельнікаў Б.к. (Сапега і інш.) далучыўся да караля пад час бітвы пад Гузавам 6.7.1607, а ў пач. 1608 да войска Януша Радзівіла, калі той заклікаў кліентаў абараняць сваю асобу ад войскаў Яна Караля Хадкевіча. У крас. 1608 для Радзівіла са складу Б.к. быў наняты аддзел у 500 коннікаў. 2.4. 1608 кароль Жыгімонт III гарантаваў удзельнікам Б.к., што яны не будуць выкліканы на суд за мінулыя злоўжыванні ў каралеўшчынах. Актыўныя дзеянні Хадкевіча на чале 3 тыс. дзярж. войка, сенатараў ВКЛ і Польшчы ў маі—чэрв. 1607 прывялі 20.6.1608 да падпісання замірэння паміж Хадкевічам і Радзівілам і разліку з Б.к. У працэсе перагавораў каралеўскія камісары пагадзіліся на выплату 40 тыс. злотых «заслужаных» жаўнерам і кампенсацыю ваенных выдаткаў і юргельда Хадкевічу (50 тыс. злотых), прывезлі 25 тыс. злотых наяўнымі, а рэшту сумы, да 48 тыс. злотых, выдалі «фантамі» (распіскамі). Б.к. спыніла сваю дзейнасць, не атрымаўшы поўнага разліку. Канфедэраты завербаваліся на службу або ў войска Хадкевіча ў Інфлянтах, або ў атрады, якія стварыў Сапега для дапамогі Лжэдзмітрыю II. Канчатковы разлік з удзельнікамі Б.к. адбыўся ў 1613. Дзейнасць канфедэрацыі стала прычынай стварэння праектаў увядзення сталага скарбу ў ВКЛ у 1606—07, якія не былі рэалізаваны, а таксама зацвярджэння Варшаўскім соймам 1609 канстытуцыі «Аб парадку паводзін жаўнераў» і «Вайсковых артыкулаў 1609 г.», у якіх пад пагрозай смяротнай кары і канфіскацыі маёмасці былі забаронены канфедэрацыі ў войску, любое самавольнае размяшчэнне жаўнераў ва ўладаннях свецкіх і духоўных феадалаў.

*Літ*: Я к у б а ў В.У. Першыя канфедэрацыі войска Вялікага Княства Літоўскага і іх уплыў на сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім у 1604—1608 гадах // Веснік Полацкага дзяржаўнага універсітэта. Серыя А. Гуманітарныя навукі. 2008. № 7; Volumina legum. T. 2. St. Petersburg, 1859; Archiwum domu Radziwiłłow / Wyd. A.Sokołowski. Kraków, 1885; Archiwum domu Sapiechów. T. 1 / Wyd. A.Prochaska. Lwów, 1892; N a r u s z e w i c z A. Historya Jana Karola Chodkiewicza wojewody wileńskiego, hetmana wielkiego W. X. Lit. T. 1. Warszawa, 1805; W i s n e r H. Litwa wobec rokoszu (1606—1607) // Kwartalnik Historyczny. 1972. Z. 2; Я г о ж. Rzeczpospolita Wazów. T. 2. Warszawa, 2004; Ciara M. Konfederacje wojskowe w Polsce w latach 1590—1610 // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1988. T. 31; U r w a n o w i c z J. Wojskowe «sejmiki» kola w wojsku Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Białystok, 1996; A u g u s t y n i a k U. W służbie hetmana I Rzeczypospolitej: Klientela wojskowa Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640). Warszawa, 2001; G a l a j R. Radziwiłłowie w piśmiennictwe politycznym okresu rokoszu Zebrzydowskiego // Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historiczne. Lublin, 2003.

***Віктар Якубаў.***

**Берасцейскія саборы 1590—94**, памесныя саборы праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Склікаліся мітрапалітам кіеўскім Міхаілам Рагозам для вырашэння важных праблем царк. жыцця, выпрацоўкі мер па супрацьдзеянні наступу каталіцтва і пратэстантызму. У саборах удзельнічалі мітрапаліт, епіскапы, настаяцелі манастыроў, прадстаўнікі прыходскага духавенства, брацтваў, шляхты. Адбываліся ў Берасці, якое было зручным пунктам для прыезду ўдзельнікаў сабораў з тэр. Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы. Сабор 20.6.1590 канстаціраваў, што правасл. царква падвяргаецца націску з боку каталіцтва і пратэстантызму, свецкіх патронаў, унутраных свapак. Было прынята рашэнне пра штогадовае скліканне сабораў, за ўхіленне ад удзелу ў іх вінаваты пазбаўляўся сану. На будучых саборах меркавалася выпрацоўка школьнай праграмы і сістэмы адукацыі. Была разгледжана спрэчка паміж львоўскім епіскапам Гедэонам Балабанам і Львоўскім брацтвам. Сабор стаў на бок брацтва і асудзіў імкненне біскупа падначаліць яго сабе. На саборы, які адбыўся восенню 1591, было вырашана павысіць патрабавальнасць для кандыдатаў на пасады прыходскіх святароў, не дапускаць куплі-продажу такіх пасад. Забаранялася богаслужэнне святароў, што ўступілі ў другі шлюб. Святарам дано права звяртацца са скаргамі на епіскапаў у адрас сабораў. Была ўхвалена дзейнасць Львоўскага і Віленскага брацтваў па стварэнні школ і друкарняў, пры гэтым сабор абавязаў епіскапаў выдзяляць сродкі на іх дзейнасць. Адначасова падкрэслівалася, што брацтвы не маюць права выдаваць кнігі без дазволу епіскапаў. Для павышэння аўтарытэту царквы святарам у выпадку спрэчак забаронена звяртацца ў свецкія суды. Пастаноўлена, што ў выпадку смерці епіскапа яго пераемнік будзе выбірацца на з'ездзе епіскапаў, а не прызначацца аднаасобна мітрапалітам. На сабор, які адбыўся з удзелам патрыяршага экзарха ў 1593, быў выкліканы для суда львоўскі епіскап Гедэон Балабан, які раней за злоўжыванні быў адхілены мітрапалітам ад кіравання епархіяй, аднак ён не з'явіўся на сабор і быў адлучаны ад царквы. Абвастрэннем супярэчнасцей у правасл. царкве Рэчы Паспалітай прывяло да таго, што на сабор 1594 большая частка епіскапаў не з'явілася. Да сабора звярнулася Віленскае брацтва і правасл. шляхта з прапановамі, скіраванымі супраць улады епіскапаў. Прапаноўвалася, каб у дзяржаве стала знаходзіўся прадстаўнік патрыяршага экзарха, які мог кантраляваць адпаведнасць дзеянняў епіскапаў рашэнням сабораў. Патрабавалася, каб даходы епіскапаў накіроўваліся на ўтрыманне



школ, шпіталяў, храмаў, каб епіскапы не асмельваліся звяртацца ў свецкія суды. Прапаноўвалася прызнаць манаполію брацтваў на ўтрыманне школ і друкарняў, заснаваць брацтвы ў кожным павятовым цэнтры, падначаліць святароў брацкіх храмаў непасрэдна мітрапаліту. Аднак епіскапы, якія прысутнічалі на саборы, адхілілі гэтыя патрабаванні. Тым не менш, дзейнасць брацтваў была на саборы ўхвалена, Гедэон Балабан яшчэ раз адхілены ад кіравання Львоўскай епархіяй. Брацкія святары былі пакінуты пад уладай епіскапаў, якім належаў і кантроль за кнігадрукаваннем. У цэлым дзейнасць сабораў не змагла карэнным чынам рэфармаваць правасл. царкву Рэчы Паспалітай. Апасаючыся росту ўплыву брацтваў, царк. іерархі пайшлі на саюз з рымскім папам і ўрадам Рэчы Паспалітай, што прывяло да заключэння *Берасцейскай уніі 1596*.

*Літ.*: Ж у к о в и ч П. Брестский собор 1591 года: (по новооткрытой грамоте, содержащей деяния его) // Известия Отделения русского языка и словестности Императорской АН. 1907. Т. 12, кн. 2; Ф л о р я Б.Н. Брестские синоды и Брестская уния // Славяне и их соседи. М., 1991. Вып. 3.

**бехцер**, пласцініста-кольчаты даспех усходняга, верагодна, персідскага паходжання. Непакрыты («белы») Б. уяўляў кальчужную камізэльку без рукавоў, у якую на грудзях і спіне ўпляталіся дробныя прамавугольныя пласцінкі, размешчаныя гарызантальна і аб'яднаныя ў доўгія вертыкальныя рады. У кожным радзе пласцінкі, якія мелі па кароткіх краях адтуліны для мацавання кальчужных перамычак, напускаліся адна на адну такім чынам, што пры ўдары стваралася падвойная ці нават патройная ахова цела. Падобная сістэма набору пласцінак была і ў крытым Б., хаця функцыю па злучэнні іх у цэльны даспех павінна было выконваць тэкстыльнае пакрыццё, часам, магчыма, у камбінацыі з кальчужным пляценнем. Узгадваецца ў дакументах ВКЛ 16 ст. Так, у «рэестры паспалітых рэчаў скарбных» за 1510 названы «бехтер черленым оксамитом крыть». Аднак, як правіла, не ўказваецца, якія Б. меліся на ўвазе — крытыя ці «белыя». Верагодна, да класічных, непакрытых Б. кальчужнага мацавання пласцінак належаў «бехцер панцыровы з бляшкамі пазалочанымі», які фіксуецца ў рэестры рэчаў, высланых у 1569 з Нясвіжа ў Чарнаўчыцы, а таксама «бехцер стары просты жалезны», што фігуруе ў спісе зброі Крыштофа Радзівіла за 1584. Падобныя даспехі, якім былі ўласцівы даволі высокія засцерагальныя якасці, маглі як вырабляцца на месцы паводле ўсх. узораў, так і закупляцца за мяжой і нават захопліваецца у якасці трафея. Так, у 1564, пасля бітвы пад Улай у адступаючага маскоўскага войска кн. Сярэбранага сіламі ВКЛ было захоплена панцыраў і Б. (у Маскоўскай дзяржаве ўжываліся непакрытыя Б.) на 6000 асоб.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008. С. 94—95.

***Юрась Бохан.***

**Бжазінскі** Адам (1768?, Паставы—?), танцоўшчык. Да 1785 прыгонны падскарбія надворнага ВКЛ. А.*Тызенгаўза*. Вучыўся ў яго балетных школах у Гародне і Паставах (відаць, у Л.Пецінеці і *Ле Ду*). У вер. 1778 удзельнічаў як саліст у школьным спектаклі «Вясковага балета» Г.Пецінеці на сцэне прыдворнага тэатра Тызенгаўза ў Гародні (у праграмцы значыўся як А.Бжэскі). Быў завешчаны магнатам каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму і ў 1785 увайшоў як саліст у склад трупы «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці». Да 1794 танцаваў у большасці балетаў на прыдворнай сцэне і ў Нац. тэатры. Сярод партый: Парменон («Шлюб самнітаў»), адзін з міністраў («Каралева Ванда»), Актавіян («Клеапатра»). Карыстаўся поспехам у аўдыторыі. У 1794—97 працаваў у прыватных трупах у Вільні, Варшаве, Гданьску.

***Гурый Барышаў.***

**Бжазоўскі** Марцін (15.11.1700, Палессе—13.4.1759), дзеяч каталіцкай царквы. У 1718 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі ў Вільні (1732—33), філасофіі ў Варшаве (1733—35), праф. схаластычнай філасофіі, кананічнага права, прэфект школы, рэгент духоўнай семінарыі ў Браневе (1740—42), праф. схаластычнай філасофіі ў Полацку (1742—45), рэгент Папскай семінарыі, праканцлер, дэкан факультэта права Віленскай акадэміі (1746—49), віцэ-рэктар (1749—50), рэктар Нясвіжскага калегіума (1750—55), рэктар Віленскай акадэміі (1755—59). Быў дэлегатам на 18-ю генеральную кангрэгацыю ордэна езуітаў у Рыме (1755—56). Аўтар драмы «Забава ў святочны дзень» («Lusus in feria desinens», Вільня, 1733).

*Літ.*: P o p l a t e k J. Zarys dziejów Seminarium Papieskiego w Wilnie 1585—1773 // Ateneum Wileńskie. 1930. R. 7. Z. 1—2.

**Бібікаў** (Бибиков) Аляксандр Ільіч [30.5.(10.6)1729—9.(20).4.1774], расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. Генерал-аншэф (1771), сенатар (1774). Вучыўся з 16 гадоў у Інжынерным корпусе, які скончыў у 1746 прапаршчыкам. Удзельнічаў у Сямігадовай вайне 1756—63, у час якой стаў камандзірам Чарнігаўскага пяхотнага палка і генерал-маёрам (1762). У 1765 займаўся рэвізіяй часткі граніцы Рас. імперыі з Рэччу Паспалітай паміж р. Пауд. Буг і Смаленскам, а ў 1769 — граніцы з Фінляндыяй, за што атрымаў чын прэм'ер-маёра лейб-гвардыі Ізмайлаўскага пяхотнага палка. У 1766—67 старшыня камісіі па складанні Улажэння Рас. імперыі (дэпутат ад Кастрамской губ.). 20.6(1.7).1771 прызначаны галоўнакамандуючым 19-тысячным корпусам рас. войск ў Рэчы Паспалітай, дзе да пач. 1773 непасрэдна кіраваў разгромам *Барскай канфедэрацыі*. У 1773—74 да сваёй раптоўнай смерці ўдала камандаваў войскамі па падаўленні паўстання Е.Пугачова, за што яго нашчадкі атрымалі ў вечную спадчыну 2 тыс. дзесяцін з 880 сялянамі ў маёнтку Смятанка Капыскага пав. Магілёўскай губерні.

*Літ.*: Записки о жизни и службе Александра Ильича Бибикова. Санкт-Петербург, 1817; Я б л о ч к о в М.Т. Дворянское сословие Тульской губернии. Тула, 1905. Т. 9. С. 12.

***Яўген Анішчанка.***

**Біблія** (ад грэч. biblia кнігі, скруткі), збор свяшчэнных кніг (таму называецца яшчэ Святое Пісанне, Слова Божае і інш.) хрысціян і іудзеяў, які складаецца з мноства празаічных і верша-





Да арт. **Біблія**. Евангелле Васіля Цяпінскага. 1570-я г. Разварот.

ваных твораў (традыцыйна называных кнігамі), згрупаваных паводле зместу ці паходжання ў пэўныя часткі, якія аб'яднаны сімвалічным сэнсам. Вылучаюцца 2 асноўныя часткі Б.: Стары Запавет, напісаны на яўрэйскай і грэчаскай мовах (з фрагментамі на арамейскай) іудзейскімі прарокамі, уладарамі і святарамі да нараджэння Хрыста, і Новы Запавет, напісаны на грэчаскай мове апосталамі і іх вучнямі пасля нараджэння Хрыста. Стары Запавет складаўся з 9 ст. да н.э. па 1 ст. н.э. пераважна ў Палесціне; Новы Запавет узнік у 1—2 ст. н.э. пераважна сярод яўрэйскай дыяспары ўсх. часткі Рымскай імперыі і ў Рыме. Новы Запавет складаецца з 27 кніг, аб'яднаных у 3 часткі: Тэтраевангелле [4 блізкія па зместу Евангеллі (ад грэч. euaggelion добрая вестка) — фрагментарныя біяграфіі Ісуса Хрыста, напісаныя апосталамі Мацвеем, Маркам, Лукой і Іаанам], Апостал (утрымлівае Дзеі Апосталаў, аўтарам якіх лічыцца апостал Лука і ў якіх апавядаецца пра бліжэйшыя падзеі пасля смерці Ісуса, і 21 ліст апосталаў, якія падзяляюцца на 7 саборных, адрасаваных усім хрысціянам лістоў апосталаў Іакава, Пятра, Іаана, Іуды і 14 лістоў апостала Паўла) і Апакаліпсіс (сімвалічна-містычнае апісанне будучага канца свету), аўтарам якога лічыцца апостал Іаан. У склад Б. цалкам уваходзіць Святое Пісанне іудаізму (ТаНаХ), якое ахоплівае толькі частку кніг хрысціянскага Старога Запавету — т.зв. кананічныя кнігі (іх 39, імі абмяжоўваецца Стары Запавет у пратэстантаў), але ў іудзеяў яны маюць інакшую групоўку і назвы. Сярод гэтых кніг важнейшую ролю ў хрысціянскім і іудзейскім набажэнстве адыгрывае Псалтыр — зборнік 150 ці 151 высокапаэтычных хваласпеваў (іх аўтарства прыпісваецца царам Давіду, Саламону, левітам Асафу і Эману і інш.). Астатнія 8 старазапаветных кніг і фрагменты ў 2 кананічных кнігах (выступаюць толькі ў католікаў і праваслаўных) называюцца некананічнымі (у пратэстантаў — апокрыфамі). У 3—2 ст. да н.э. ТаНаХ (з дадаткам некаторых інш. кніг) быў дакладна перакладзены на грэч. мову для грэкамоўных іудзеяў Блізкага Усходу (паводле падання — 72 тлумачамі ў Александрыі 3 ст. да н.э.) і стаў вядомы пад назвай Септуагінта (ад лац. septuaginta семдзесят), гэты пераклад паўплываў на многія наступныя пераклады Старога Запавету. На грэчаскую мову Стары Запавет перакладаўся і пазней. У 4 ст. н.э. св. Еранім Стрыдонскі (з Ілірыі) стварыў новы лацінскія пераклад Б. (часткова рэдагуючы ранейшыя лац. пераклады, што з'яўляліся ўжо з 2 ст. н.э.), які атрымаў назву Вульгата (ад лацінскага vulgatus агульны, паспаліты). З распаўсюджаннем хрысціянства (асабліва з часоў Рэфармацыі) Б. перакладалася на многія мовы і дыялекты з высокай дакладнасцю, што часта давала пачатак пісьменству і л-ры многіх народаў.

Славяне атрымалі першы пераклад частак Б. (Евангелля, Апостала, Псалтыра і некаторых інш.) на царк.-слав. мову ў 2-й пал. 9 ст. ў выніку т.зв. маравскай місіі (пасольства ў Вял. Маравію) 2 візантыйскіх святароў, народжаных у грэчаскім г. Салонікі (Салунь), братоў св. Кірыла (каля 827— 869) і св. Мяфодзія (каля 815—885), якія ведалі слав. мову. Пазней з'явіліся пераклады на царк.-слав. мову інш. біблейскіх кніг, а ранейшыя царк.-слав. пераклады зазналі рэдактуры і выпраўленні. Царк.-слав. тэкст Б., які на працягу стагоддзяў перапіскі падвяргаўся зменам і некаторым скажэнням, выкарыстоўваўся ў набажэнстве сярод правасл. паўд. (у т.л. сярод католікоў — харватаў-глагаляшаў) і ўсх. славян, а таксама румын, да 18—20 ст. Ён быў прынесены ў 11 ст. пасля хрысціянізацыі Кіеўскай Русі таксама на Беларусь. Да канца 15 ст. кнігі Б. распаўсюджваліся сярод правасл. славян не ў адным кодэксе, а зборнікамі (часта богаслужэбнымі, радзей тлумачальнымі ці чытальнымі), што складаліся толькі з асобных біблейскіх кніг ці іх фрагментаў: Евангеллі (у т.л. Евангеллі службовыя — т.зв. апракасы, напрыклад *Друцкае Евангелле* 1401, ці тэтры, напрыклад *Жыровіцкае Евангелле* 15 ст.), Апосталы, Псалтыры, парымейнікі, палеі і інш.), таму многія старазапаветныя кнігі адсутнічалі ці былі рэдкімі. Першы амаль поўны звод царк.-слав. Б. быў складзены ў Ноўгарадзе ў 1499 захадамі архіепіскапа Генадзія (т.зв. Генадзіеўская Б.), часткова — шляхам новых перакладаў з Вульгаты. Аналагічную працу, але без перакладу, выканаў у Супрасльскім манастыры манах *Мацвей Іванавіч* Дзесяты (з Таропца), які ў 1502—07 склаў на падставе богаслужэбных кніг біблейскі рукапіс з поўным Новым Запаветам і ўсімі кнігамі біблейскіх прарокаў ды вытрымкамі з інш. кніг Старога Запавету. Першай поўнай царк.-слав. Б. стала друкаваная *Астрожская Біблія* 1581.

У 1517—19 у Празе Францыск *Скарына* выдаў друкаваны няпоўны Стары Запавет у выглядзе серыі выпускаў аднага фармату пад назвай «Бівлія руска»: Псалтыр (1517), 6 кніг т.зв. зборніка Прамудрасці (кнігі Іова, Прыпавесцей Саламонавых, Еклезіяста, Песні Песняў, Прамудрасці Саламонавай, Прамудрасці Ісуса Сірахавага; 1517—18), зборнік Васьмікніжжа (кнігі Роду, Выхаду, Левітаў, Лічбаў, Другога Закону; Ісуса Навіна, Суддзяў, Руф), 4 кнігі Царстваў, а таксама кнігі Плача Ерамії, Данілы, Эсфіры, Юдзіфі. Свой біблейскі тэкст Скарына часткова рэдагаваў паводле вядомых царк.-слав. і чэшскіх перакладаў, часткова перакладаў з чэшскіх узораў на спрошчаную царк.-слав. мову. У 1522—25 у Вільні Скарына перавыдаў (з неістотнымі зменамі) Псалтыр (у складзе кішэннага малітоўніка для вандроўнікаў пад назвай «Малая падарожная кніжка») і выдаў Апостал, які таксама нясе сляды рэдагавання паводле розных царк.-слав. перакладаў, але з улікам чэшскіх крыніц. Усе выданні Скарыны прызначаліся свецкім чытачам, сярод усх. славян яго тэксты актыўна перапісваліся да 18 ст. Мова яго выданняў у цэлым блізкая да царк.-слав.

На старабел. мову біблейскія кнігі перакладаліся ў канцы 15—17 ст., аднак усе такія пераклады прызначаліся толькі для індывідуальнага ўжытку і ніколі для набажэнства правасл. ці уніяцкай царквы. Арыгіналам звычайна служыў царк.-слав. пераклад, чэшскія або польск. пераклады. Толькі асобныя пераклады выключна Евангелля ўбачылі свет у друку: няпоўнае Евангелле (1570-я г.) пратэстанта Васіля *Цяпінскага* і евангельскія фрагменты у складзе Вучыцельнага Евангелля 1616 у перакладзе Мялеція *Сматрыцкага*. Біблейскія цытаты ў катэхізісе (Нясвіж, 1562) Сымона *Буднага* звычайна пакідаліся без перакладу на царк.-слав. мове. Рукапісных перакладаў на старабел. мову вядома больш. Насычэнне царк.-слав. біблейскіх тэкстаў бел. і ўкр. рысамі адзначаецца ўжо ў 15 ст. (Чэцця 1489 з Камянца — зборнік казанняў і жыцій), тады ж пачынаюцца і пераклады асобных рэліг. твораў на старабел. мову (Пакуты Хрыстовы, ці Страсці Хрыстовы; Жыціе Аляксея, чалавека Божага; Аповесць пра трох каралёў і інш.). Разам з такімі перакладамі ў рукапісе 16—17 ст. вядомы старабел. пераклад кнігі Песні Песняў, выкананы паводле чэшскай Падэраўскай Б. 1433. Асаблівае значэнне мае т.зв. Віленскі зборнік 16 ці 17 ст., што паходзіць з Супрасльскага манастыра і цяпер захоўваецца пад № 282 у Б-цы АН Літвы (Вільнюс). Ён утрымлівае 9 кніг Старога Запавету на старабел і царк.-слав. мове, некаторыя з якіх правіліся паводле яўрэйскага тэксту ТаНаХа. У зах. Украіне ў 16 ст. узнік шэраг біблейскіх рукапісных перакладаў Евангелля (*Перасопніцкае Евангелле* 1556—61 і залежныя ад яго Валынскі, ці Жытомірскі, рукапіс 1571 і фрагментарны Літкаўскі, ці Леткаўскі, рукапіс мяжы 16—17 ст.), Апостала (Крэхаўскі рукапіс 1560—70-х г., выкананы паводле *Берасцейскай Бібліі*) і ўсяго Новага Запавету. Апошні са шматлікімі бел. рысамі ў мове быў перакладзены валынскім шляхціцам (пратэстантам?) Валянцінам Негалеўскім каля 1581 паводле польск. перакладу Новага Запавету (Ракаў, 1577) пратэстанта Марціна *Чаховіца*. З укр. Падолля паходзяць пераклады асобных кніг Старога Запавету (рукапіс Лукі з Цярнопаля 1569, цяпер страчаны, і Ануфрыеўскі кодэкс 1575—77), некаторыя тэксты ў якіх узыходзяць да Скарыны. З Беларуссю звязаныя пераклад сярэдзіны 16 ст. старазапаветнай кнігі Тобіяша (цяпер страчаны) і 2 пераклады Псалтыра 16—17 ст., адзін з якіх выкананы паводле польск. перакладу (Кракаў, 1539) Валянціна Урубля (каля 1475— 1537), другі — паводле Берасцейскай Б. У бел. хранографах 16—17 ст. выклад біблейскай гісторыі вёўся паводле кніг Б., якія падаваліся ў старабел. перакладах, звычайна выкананых паводле польск. перакладу Б. (Кракаў, 1599) каталіка Якуба *Вуека* (1541—97). Бел. рысы ў мове мае тлумачальная Б. 17 ст. пад назвай «Выклад месц труднейшых», што зберагаецца цяпер у Кіеве. Пераклады біблейскіх фрагментаў адзначаюцца ў тэкстах Стафана *Зізанія*, Захарыі Капысценскага, *Пятра* Магілы і інш.

У 2-й пал. 16 ст. на Беларусі выдаваліся некаторыя польск. пераклады Б. (Берасцейская Б., *Нясвіжская Біблія* і інш.), а ў 16—18 ст. розныя біблейскія кнігі на царк.-слав. мове, пераважна богаслужэбныя: Евангеллі, Апосталы, Псалтыры, радзей Новыя Запаветы, якія шырока імпартаваліся ў Маскоўію. У 18 ст. уніяцкія і каталіцкія друкарні (Супрасль, Вільня, Гародня і



Да арт. **Біблія**. Евангелле Мамонічаў. Вільня. 1575. Разварот.



інш.) актыўна выдавалі біблейскія тэксты на царк.-слав. мове для старавераў, перш за ўсё Масковії. Часам біблейскі царк.-слав. тэкст публікаваўся са старабел. каментарыямі на палях, напрыклад Новы Запавет (Куцейна, 1652).

Пераклады Б. на літ. мову з'явіліся ў 16 ст., аднак сістэматычна яны рабіліся толькі ў пратэстанцкім асяроддзі і пераважна для літоўцаў-лютэран *Малой Літвы*, месцам выдання звычайна выступаў Каралявец (Кёнігсберг). У каталіцкім асяроддзі на літ. мову былі перакладзены толькі невял. біблейскія фрагменты, хаця запісы асобных малітваў на літ. мове вядомы з пач. 16 ст. За пераклад Б. узяўся ў Караляўцы на пач. 1540-х г. С.*Рапалёніс* незадоўга да сваёй смерці. Урыўкі са Святога Пісьма перакладаў пастар Марцінас *Мажвідас* у сваім выданні катэхізіса (1547), а таксама яго стрыечны брат пастар Балтрамеюс *Вілентас*, які пад назвай «Энхірыдыён» выдаў уласны пераклад Малога катэхізіса (1575, 1579) Марціна Лютэра, а затым — пераклад урыўкаў з Евангелля і Апостала (1579), прысвечаны герцагу Альбрэхту, перавыдадзены Лазарам Зенгштокам (1612). Цалкам усю Б. (у т.л. некананічныя кнігі) пераклаў у 1579—90 пастар Ёнас *Брэткунас* паводле нямецкага перакладу Лютэра і крыху паводле лацінскага тэксту. Яго праца абмяркоўвалася ў 1590-х г. пастарамі Усх. Прусіі, аднак засталася ў рукапісе, хаця і паўплывала на наступных перакладчыкаў. Ён таксама выпусціў уласны пераклад пастылы (1591), малітоўнік ды 2 рэліг. спеўнікі (1589), заснаваныя на апрацоўках тэкстаў Мажвідаса. Каталіцкія пераклады біблейскіх цытат і фрагментаў (часткова з улікам ранейшых перакладаў) рабіліся ў канцы 16 ст. з польск. мовы езуітам Мікалоюсам *Даўкшам* у катэхізісе Якуба Лядэсмы (Вільня, 1595) і пастыле Вуека (Вільня, 1599). Для кальвіністаў ВКЛ з польск. мовы былі перакладзены Мельхіёрам *Пяткевічам* (каля 1550—1608) катэхізіс (Вільня, 1598—99), дзе меўся пераклад 40 псалмоў, і Якубам *Маркунасам* (1550—1611) пастыла Мікалая Рэя (Вільня, 1600) з перакладам біблейскіх фрагментаў. Біблейскія фрагменты і цытаты ёсць у пастылах езуітаў Канстанцінаса *Сірвідаса* (Вільня, 1629, 1644) і Яна *Яхновіча* (Вільня, 1647). Каталік С.М.*Славацінскіс* (каля 1620—каля 1660) выдаў рэлігійны спеўнік (Вільня, 1646), дзе меліся асобныя псалмы, перакладзеныя паводле Вульгаты і польск. тэксту. Уся Б. для літоўцаў ВКЛ друкавалася ў 1660—63 у Лондане ў перакладзе кальвініста Багуслава Самуэля *Хілінскага*, які працаваў на падставе афіцыйнага тэксту галандскай Б. 1635—57 з улікам біблейскіх моў, аднак выданне з фінансавых прычын было спынена, захаваліся некалькі сотняў аркушаў Старога Запавету (Пяцікніжжа, 4 кнігі Царстваў, Параліпаменона і некаторых інш.). Ён таксама апублікаваў на лац. і англійскай мовах трактат аб праблемах перакладу Б. на літ. мову (Оксфард, 1657, 1660). У рукапісе захаваўся таксама яго пераклад Новага Запавету, апублікаваны толькі ў 20 ст. Свой пераклад Хілінскі напачатку 1660-х г. дасылаў на абмеркаванне адзінаверцам у Кейданы, яго пераклад рэдагаваў Ян Бажымоўскі (1610—73). Пастар Ёган Рэза (1576—1629) на падставе перакладу Брэткунаса надрукаваў у 1625 псалмы паралельна тэксту Лютэра. Пераклад Новага Запавету паводле польск. Б. (Гданьск, 1601) з улікам грэчаскага тэксту ажыццявілі кальвіністы з Кейдан Самуэль Бітнерыс (каля 1632—1710) і Ян Бажымоўскі Малодшы (1645—87). Перад выданнем іх пераклад адрэдагавалі лютэране з Малой Літвы Ф.Шустэр і Бернхард Зандэн. Гэты пераклад, арыентаваны на розныя літ. дыялекты, быў надрукаваны за кошт прускага ўрада ў 1701, аднак не задаволіў лютэранскі клір. На загад прускага караля Фрыдрыха Вільгельма I новы літ. пераклад Б. быў арганізаваны ў 1720—30-х г. пры Каралявецкім ун-це прускім суперінтэндэнтам і прыдворным капеланам Ёганам Якубам Квантам (1686—1772). Над перакладам Новага Запавету і Псалтыра (1727), апублікаваных паралельна з нямецкім тэкстам, працаваў шэраг пастараў з Малой Літвы: Філіп Руіг, Крыштаф Рэбентыш і інш. Са зменамі гэты пераклад выходзіў пасля ў Тыльзіце і Берліне. Над перакладам і выданнем усёй Б. (1735) апрача ранейшых перакладчыкаў працаваў яшчэ большы калектыў пастараў на чале з Ёганам Брэнтам (Берэндам; 1667—1737) і Пятром Готлібам Мількам (каля 1692—1753). Пераклад быў выкананы паводле тэксту Лютэра на падставе перакладу Брэткунаса і Хілінскага, з улікам выдання 1701. Другое выданне гэтага перакладу (1755) было па даручэнні Кванта нанова адрэдагавана Адамам Фрыдрыхам Шымпельнігам (1699—1763), бацька ўдзельнічаў яшчэ ў працы над перакладам 1727.

*Публ.: Славянскія тэксты:* Трипольский Н.И. Волынское рукописное Евангелие XVI века // Волынский историко-археологический сборник. Житомир, 1900. Вып. 2; Пересопницьке Євангеліє 1556—1561: Дослідження; Транслітерований текст; Словопокажчик / Підг. І.П.Чепіга, Л.А.Гнатенко. Київ, 2001; The Jevanhelije učitelnoje of Meletij Smotryc'kyj / Ed. D.A.Frick. Cambridge (Mass.), 1987; Altbauer M. The Five Biblical Scrolls in a Sixteenth-Century Jewish Translation into Belorussian: (Vilnius Codex 262) / Concordance comp. M.Taube. Jerusalem, 1992; Biblia ruska, vyložena doktorom Franciskom Skorinoju (Prag, 1517—1519): Kommentare; Apostol (Wilna, 1525): Facsimile und Kommentar / Hrsg. H.Rothe, F.Scholz. Paderborn; München; Wien; Zürich, 2002.

*Літоўскія тэксты*: Bartholomaüs Willent's litauische Uebersetzung Luther'schen Enchiridions und der Episteln und Evangelien, nebst den Varianten der von L.Sengstock besorgten Ausgabe dieser Schriften / Hrsg. F.Bechtel. Göttingen 1882; The Old Lithuanian Catechism of Baltramiejus Vilentas (1579): A Phonological, Morphological and Syntactical Investigation / Ed. G.Ford. The Hague; Paris, 1969; Biblia litewska Chylińskiego: Nowy Testament. T. 2: Tekst / Publ. C.Kudzinowski, J.Otrębski. Poznań, 1958; T. 3: Indeks / Publ. C.Kudzinowski. Poznań, 1964; T. 1: Fotokopie / Publ. C.Kudzinowski. Poznań, 1984; Psalteras ing lietvwischką lieszvwį perguldítas Jano Bretkūno, Labguwa (Labiau) 1580: Facsimile edition / Hrsg. J.D.Range, F.Scholz. Paderborn; München; Wien: Zürich, 1991; Navias Testamentas ing lietvwischką lieszvwį perraschitas per Janą Bretkuną, Labguwa (Labiau) 1580: Facsimile edition / Hrsg. J. D. Range, F. Scholz. Paderborn; München; Wien: Zürich, 1991; Samuelio Boguslavo Chylinskio Biblija: Senosis Testamentas. T. 1: Lietuviško vertimo ir olandiško originalo faksimiles / Ed. G.Kavaliūnaitė. [Vilnius], 2008.

*Літ.*: Карский Е.Ф. Западно-русские переводы Псалтыри в XV—XVII вв. Вар-



шава, 1896; Назаревский А.А. Язык Евангелия 1581 г. в переводе В.Негалевского. Киев, 1911; Евсеев И.Е. Очерки по истории славянского перевода Библии. Санкт-Петербург, 1916; Огієнко І. Українська Пересопницька Євангелія 1556 року. Тарнів, 1921; Його ж. Новий Завіт в перекладі на українську мову Валентина Негалевського 1581 року: Нарис з історії культурного життя старої Волині. Тарнів, 1922; Його ж. Українська Житомирська Євангелія 1571 року: Опис пам'ятки, анализ мови і словник. Тарнів, 1922; Його ж. Українська літературна мова XVI ст. і український Крехівський апостол 1560-х рр. Т. 1—2. Варшава, 1930; Флоровский А. Чешская библия в истории русской культуры и письменности: (Фр. Скорина и продолжатели его дела) // Sborník filologický: Vydává III. třída České akademie pro vědy, slovesnost a umění. Praha, 1946. Sv. 12. (перавыд.: Munchen, 1988); Іларіон, митроп. (Огієнко І.) Переклади Біблії на українську мову. Виннипеґ, 1962; Клімаў І.П. Пераклад Евангелля В.Цяпінскім // Беларуская лінгвістыка. Мінск, 1997. Вып. 47; Яго ж. Тэксталогія біблейных выданняў Францыска Скарыны: набыткі і задачы // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры. Мінск, 2006. Ч. 1; Яго ж. Гісторыя старабеларускіх перакладаў Біблii // Роднае слова. 2007. № 11; Яго ж. Біблейныя пераклады на старабеларускую / староўкраінскую мову эпохі Рэфармацыі і Контррэфармацыі // Festschrift fur Hans Rothe zum 80. Geburtstag. Berlin; München, 2008; Яго ж. Да вывучэння біблейных перакладаў на старабеларускую мову ранняга этапа // «І сонца твае не закоціцца, і месяц твой не схаваецца...»: зборнік прац па беларусістыцы і багаслоўі ў гонар юбілею а. Надсана. Мінск, 2009; Мартинас Мажвидас и духовная культура Великого княжества Литовского XVI века. Вильнюс; Москва, 1999; Алексеев А.А. Текстология славянской Библии. Санкт-Петербург, 1999; Головащенко С. Біблієзнавство: Вступний курс. Київ, 2001; Роль переводов Библии в становлении и развитии славянских литературных языков. Москва, 2002; Будзько І. З гісторыі ўсходнеславянскіх перакладаў Біблii // Роднае слова. 2006. № 8; Яе ж. Да тэксталагічнай характарыстыкі старабеларускіх перакладаў кніг Старога Запавету // Беларуская лінгвістыка. Мінск, 2006. Вып. 57; Rhesa L.J. Geschichte der litthauischen Bibel: Ein Beytrag zur Religionsgeschichte der Nordischen Völker. Koenigsberg, 1816; Яго ж. Philologisch-kritische Anmerkungen zur litthauischen Bibel. Bd. 1—2. Koenigsberg, 1816—24; Reinhold H. Die sogenannte Chylinskische Bibelübersetzung // Mitteilungen der Litauischen littererischen Gesellschaft. Heidelberg, 1895. Bd. 4. Hf. 2—3; Jakštas-Dambrauskas A. Apie katalikiškus lietuvių Šventraščio vertimus ir vertejus. Kaunas, 1933; Falkenhahn V. Der Übersetzer der litauischen Bibel Johannes Bretke und seine Helfer. Königsberg; Berlin, 1940; Altbauer M. Some Methodological Problems in Research of the East Slavic Bible Translations (Vilnius Codex N 262). Jerusalem, 1968; Šventojo Rašto lietuviškieji vertimai: 1579—1941: Bibliogrinis indeksas: Naujasis Testamentas / Sudar. J.Tumelis. Vilnius, 1988; Range J.D. Bausteine zur Bretke-Forschung: Kommentarband zur Bretke-Edition (NT). Paderborn; München; Wien: Zürich, 1992.

*Ігар Клімаў.*

**Бібліятэка Акадэміі навук Літвы** (Lietuvos mokslų akademijos biblioteka). Заснавана ў 1941 у Вільнюсе на базе Дзярж. публічнай б-кі Урублеўскіх (заснавана ў 1925, каля 180 тыс. экзэмпляраў друкаваных выданняў), збораў Евангелічна-рэфарматарскага сінода, арганізаванага ў сярэдзіне 16 ст. (захавалася каля 18 тыс. экзэмпляраў), б-кі Таварыстыа сяброў навук і прыватных збораў. Налічвае больш за 4 млн. экзэмпляраў, у т.л. 177 тыс. рукапісаў, 80 тыс. рэдкіх кніг і старадрукаў, 12 тыс. карт і атласаў. У аддзеле рукапісаў 6 унікальных калекцый пергаментаў, у т.л. кірылічныя граматы (фонд 2, 1503— 1614), 22 калекцыі, створаныя пераважна дзярж. і грамадскімі ўстановамі (калекцыя рукапісаў былой Віленскай публічнай б-кі, фонды 16—18, 22, 934 адзінак захоўвання 15—19 ст.; «Беларусіка», фонд 18, 464 адзінак захоўвання 1185—1933; рукапісы і дакументы з Каўнаскага гар. архіва, Дзярж. ун-та; калекцыя Віленскага мастацкага музея). Па гісторыі каталіцкай царквы ў Беларусі і Літве тут захоўваюцца самыя поўныя зборы дакументальных, перш за ўсё справаводчых матэрыялаў; шматтомная калекцыя кніг віленскага капітула, лісты біскупаў ВКЛ па публічных і гаспадарчых справах, царк.-манастырскія інвентары, рэвізіі, справаздачы, матэрыялы аб царк.-рэліг. адносінах, суд. працэсах, дысідэнтах, багатая карэспандэнцыя 16—17 ст. У зборы «Рускія рукапісныя кнігі» (фонд 19, 329 адзінак захоўвання 11—19 ст.) пераважаюць стараж. бел. рукапісы, вывезеныя ў 2-й пал. 19 ст. з Супрасля, Жыровічаў і інш. бел. манастыроў і цэркваў. Сярод рарытэтаў — Тураўскае Евангелле 11 ст., Мсціжскае Евангелле 13—14 ст., Пяцікніжжа, напісанае дзякам кіеўскага мітрапаліта Фёдарам у 1514, Супрасльскі і Слуцкі сінодзікі 16—17 ст., Куцеінская Мінея 1669 і інш. Сярод рукапісаў былой Віленскай публічнай б-кі — апісанне межаў ВКЛ і Польшчы 1546, інвентар Друцкага замка 17 ст., кніга Лідскага гродскага суда 1630—31, акты па гісторыі Магілёва, каралеўскія і прыватнаўладальніцкія прывілеі, фундушы, тэстаменты, гісторыя Берасцейскага базыльянскага кляштара да 1797, дыярыуш Сапегі 1730—31, «Кроника Витебская», зборнікі з арацыямі, актамі, гаспадарчымі і сямейнымі матэрыяламі, літ. творамі. Зберагаецца значная частка рукапісаў з Бел. музея імя І.Луцкевіча (фонд 21, 2308 адзінак захоўвання, 1936—49). Захоўваюцца асн. матэрыялы аб дзейнасці рэфармацыйных аб'яднанняў у Беларусі і Літве з сярэдзіны 16 ст., каталіцкай царквы ВКЛ (фонд 43, 28 000 адзінак захоўвання, 1301—1940), калекцыя інвентароў і дакументаў маёнткаў 16—20 ст., асабістыя зборы бел., літ., рус., польск. вучоных і пісьменнікаў, у т.л. М.Балінскага, В.Біржышкі, А.Вальдэмара, Ю.Жугжды, У.Сыракомлі (фонд 109, 65 адзінак захоўвання, 1844—62), І.Лапы (фонд 211, 40 адзінак захоўвання, 19—20 ст.), П.Паkаркліча, Пілсудскіх, К.Яблонскага. Асобнымі калекцыямі зберагаюцца дакументы і матэрыялы Сапегаў (фонд 139, 5589 адзінак захоўвання, 1604—1831), Тышкевічаў (фонд 148, 149, 420 адзінак захоўвання, 1518—1912), Нарбутаў (фонд 124, 52 адзінак захоўвання, 1584—1864). У аддзеле рэдкай кнігі (каля 116 тыс. адзінак захоўвання) зборы літуаністыкі, інкунабулы, палеатыпы, эльзевіры, рэдкія выданні 2-й пал. 16—20 ст. У калекцыі кірылічных старадрукаў кніга «Лічбы» 1519 з пражскай Біблii Ф.Скарыны (экзэмпляр Бел. музея), «Граматыка» Мялеція Смятрыцкага (Еўе, 1619), выданні Мамонічаў, бел. брацтваў у Вільні і Еўі, Куцеінскай, Гарадзенскай, Супрасльскай друкарняў 17—18 ст., прыватных кнігавыдаўцоў Беларусі і Украіны, адна з багацейшых калекцый лацінскіх і



польскамоўных выданняў найбольш прадукцыйнай у канцы 16—18 ст. друкарні ВКЛ — Віленскай езуіцкай акадэміі. Прыкметна прадстаўлены рэдкія рэфармацыйныя друкі (Берасце, Нясвіж, Лоск, Любча), пахавальныя і шлюбныя панегірыкі, зах.-еўрапейскія выданні Біблії.

*Літ.*: Г и л ь т е б р а н д т П. Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Вып. 1. Вильна, 1871; Д о б р я н с к и й Ф. Путеводитель по Виленской публичной библиотеке. Вильна, 1879; Я г о ж. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882; Описание рукописного отделения Виленской Публичной Библиотеки. Вып. 1—5. Вильна, 1895—1906; Описание инвентарей феодальных владений в Литве / Сост. А.Абрамович. Вильнюс, 1963; К о з л о в с к а я Е.В. Обзор старопечатных изданий кирилловского шрифта в Центральной библиотеке АН Литовской ССР // Из истории академических библиотек. М., 1983; Н і к а л а е ў М. Палата кнігапісная: рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мінск, 1993; Г а л е н ч а н к а Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; S t u d n i c k i W.G. Rys historyczne archiwum i biblioteki synodu ewangelicko-reformowanego w Wilnie. Wilno, 1926; Rankraščiu rinkiniai: Lietuvos TSR Mokslų Akademijos Centrines bibliotekos 11—20 amžiu rankraščiu fondu trumpa apžualga / Sudarė V.Abramavičius. Vilnius, 1963; Lietuvos TSR Mokslų akademijos centrines bibliotekos atlasų žemelapių katalogas. Vilnius, 1969; F i e g e l m a n a s N. Lietuvos inkunabulai: [katalogasj]. Vilnius, 1975; Rankraščiu rinkiniu rodykle. Vilnius, 1977.

***Георгій Галенчанка.***

**бібліятэка Будслаўскага кляштара бернардзінцаў.** Існавала пры *Будслаўскім кляштары бернардзінцаў* у сярэдзіне 17—сярэдзіне 19 ст. Найб. ранні ўладальніцкі запіс на кнізе з б-кі датуецца 1652. У канцы 18—пач. 19 ст. складалася з 2 частак: б-кі, неабходнай для набажэнства, і студэнцкай б-кі (пры кляштары ў 1731—97 дзейнічала школа маральнай тэалогіі і рыторыкі, у 1793 адчынена 2-класная пачатковая школа, дзейнічала музычная школа, быў створаны аркестр для суправаджэння богаслужэння ў касцёле). Кнігазбор уключаў выданні на польскай і лацінскай мовах па маральнай тэалогіі, аскетыцы, біблеістыцы, літургічныя кнігі. У складзе б-кі былі таксама выданні па геаграфіі, гісторыі, юрыспрудэнцыі, медыцыне. Асобна былі вылучаны харальныя кнігі. Л-ра для навучальных мэт — творы Цыцэрона, падручнікі па рыторыцы, слоўнікі — камплектавалася ў колькасці 3—9 асобнікаў. Пераважалі выданні 18 ст., але былі і 16—17 ст. Значная частка кніг была надрукавана ў бел. друкарнях у Нясвіжы, Полацку, Вільні; шмат было польскіх выданняў і выданняў з інш. еўрапейскіх краін — Італіі, Германіі і г.д. Кожны асобнік пазначаўся надпісам, які сведчыў аб яго прыналежнасці да кнігазбору Будслаўскага кляштара: «...Hic liber spectat ... Conventus Budensis». Рукапісны каталог б-кі 1796, які захоўваецца ў Нац. гіст. архіве Беларусі, уключае 596 выданняў. Вядомы акты візітаў кляштара за 1817, 1819, 1822, 1837 і 1841 (захоўваюцца ў Б-цы Вільнюскага ун-та), дзе зафіксаваны склад б-кі, які вагаецца ад 786 (у 1819) да 1065 экз. (у 1822). Пасля зачынення кляштара ў 1852 кнігазбор захоўваўся ў Будслаўскім касцёле да сярэдзіны 20 ст. У 1961 б-ка вывезена ў Мінск і падзелена паміж Дзярж. гіст. музеем (цяпер Нац. музей гісторыі і культуры Беларусі) і Дзярж. б-кай БССР (цяпер Нац. б-ка Беларусі). Кнігі з кляштарнай калекцыі сустракаюцца і ў прыватных кнігазборах.

*Літ.*: Б а р а б а ш Н. Книги из исторических белорусских собраний в фондах Национального музея истории и культуры Беларуси // Музей на мяжы стагоддзяў: традыцыйнае і новае ў канцэптуальных падыходах: матэрыялы навук.-практычнай канферэнцыі (11—12 снеж. 1997 г.). Мінск, 1998.

***Тацця Рошчына.***

**бібліятэка Віленскага кляштара канонікаў латэранскіх.** Існавала пры *Віленскім кляштары канонікаў латэранскіх* з канца 17 ст. да сярэдзіны 19 ст. Фундатарам б-кі быў прыёр кляштара Станіслаў Карыцкі. У 2-й пал. 18 ст. шмат кніг закупіў прэпазіт Рэмігіуш Сабяшчанскі, б-ку ўпарадкаваў праф. маральнай тэалогіі Вальтэр Урублеўскі. Б-ка атрымлівала кнігі ў падарунак, у т.л. ад ковенскага падчашыя Юзафа Касакоўскага, віленскага біскупа Давіда Пільхоўскага. У б-ку паступілі кнігі зачыненай у 1832 у Відзах школы канонікаў латэранскіх (часткова перададзены ў Свянцяны, інш. кнігі перайшлі ў Віленскую публічную б-ку). Найстарэйшы візітацыйны вопіс б-кі паходзіць з 1697, калі тут была 251 кніга ў 307 тамах. У 1704—06 у б-цы 324 кнігі ў 363 тамах. Паводле візітацыі 1820, у б-цы было 2197 кніг, гал. чынам 18 ст. Асн. частку кнігазбору складалі прапаведніцкія творы Томаша Медзіяланскага, Францішка Рыхлоўскага, Амброжыя Нешпарковіча, Фабіяна Біркоўскага, Пятра Скаргі, Шымона Старавольскага, Яна Вольскага, Ваўжынца Рыдзеўскага, Паўла Качынскага, Юзафа Мэнцінскага, Яцэка Ліберыуша і інш. Было шмат твораў св. Аўгусціна — патрона ордэна канонікаў латэранскіх. Меліся Біблія ў лацінскім і польскім (пераклад Якуба Вуека) варыянтах, біблейныя каментарыі (у т.л. езуітаў), катэхізісы. Працы па маральнай тэалогіі прадстаўлены творамі Пятра Калета, Іосіфа Моншэйна, Альберта Крэчмара, па дагматычнай і практычнай тэалогіі — творамі Францішка Пшыленцкага. Знаходзіліся працы па гісторыі ордэна канонікаў аўтарства Яна дэ Нігра-Вале, па агульнай гісторыі, філасофіі, кананічным і свецкім праве, матэматыцы, медыцыне, красамоўстве, творы палемічнай л-ры, містычныя і аксketычныя працы (Тамаш Кемпійскі, Ігнацій Лаёла, Людовік дэ Понт), агіяграфія (пра благаслаўлёнага Станіслава Казімерчыка, св. Яна Канці, благаслаўлёнага Міхала Гедройца), энцыклапедычныя выданні, слоўнікі і граматыкі лацінскай, польскай, італьянскай моў. Творы прыгожага пісьменства ў б-цы прадстаўлены толькі кнігамі Джонатана Свіфта, Мацея Сарбеўскага і Адама Нарушэвіча. Пераважала л-ра на лацінскай і польскай мовах, было некалькі кніг на літ. і рас. мовах. Мясцовая спецыфіка выклікала з'яўленне ў б-цы кнігі Яна Кулешы «Вера праваслаўная» (Вільня, 1704). Пасля скасавання кляштара частка яго б-кі перададзена куратары Віленскай навучальнай акругі, частка — дыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі.

лая Стафана Паца, віленскага суфрагана Георгія Альбінуса, каноніка Барталамея Вышамірскага, праф. Віленскай акадэміі Францішка Мількента Нарвойшы. У б-цы было шмат кніг па кананічным і свецкім праве, філасофіі, гісторыі, геаграфіі, матэматыцы, батаніцы, творы антычных аўтараў, слоўнікі. Віленскі гравёр Францішак Вацлаў *Бальцэвіч* выканаў для б-кі спец. экслібрыс. Пасля скасавання кляштара (1833) частка яго б-кі перададзена ў Гродзенскую гімназію, адкуль у сярэдзіне 19 ст. некаторыя стараж. выданні аддадзены ў Віленскі музей старажытнасцей. Рэшта дамініканскай б-кі захоўваецца ў Гродзенскім дзярж. гісторыка-археал. музеі.

*Літ.*: Шоцік В. Гісторыя і лёс бібліятэкі кляштара дамініканцаў у Гародні // Гіст. альманах. Гародня, 2002. Т. 6; Яеж. Фрагменты бібліятэкі гродзенскіх дамініканцаў у кнігазборы ГДГМ // Матэрыялы Другіх кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Рэчы Паспалітай» (Мінск, 15—16 вер. 2000 г.). Мінск, 2002.

**бібліятэка Жыровіцкага манастыра.** Існавала пры *Жыровіцкім Успенскім манастыры* з 16 ст. Вядома паводле вопісаў, пачынаючы з 1731. У 1758 на ўсіх кнігах б-кі пастаўлены надпіс: «Сия книга есть з библиотеки монастыра Жировицкого чину Василия Великого 1758 Anno подписана», былі прастаўлены бібліятэчныя шыфры. Паводле вопіса 1800, у б-цы было 2686 кніг у 3867 тамах, а таксама 537 рукапісаў і 93 гравюры. Кнігі былі размеркаваны па 17 раздзелах. Сярод найб. стараж. рукапісаў б-кі — «Ізмарагд» (15 ст.), павучанні Ісаака Сірына (15—16 ст.), Кіева-Пячэрскі пацярык (16 ст.), *Жыровіцкае Евангелле* (16 ст.). У сувязі з пераводам Літ. духоўнай семінарыі з Жыровіч у Вільню частка кніг б-кі перавезена ў Віленскі Троіцкі манастыр. М.Нікалаеў ідэнтыфікаваў 52 рукапісы з Б.Ж.м. ў сучасных кнігазборах. У цяперашні час у Б-цы АН Літвы захоўваецца 29 рукапісаў з Б.Ж.м., а таксама 14 рукапісаў, якія, магчыма, паходзяць з Б.Ж.м. Іншыя жыровіцкія рукапісы зберагаюцца ў Б-цы РАН у Санкт-Пецярбургу, архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Ін-та рас. гісторыі РАН, Аддзеле рукапісаў Рас. нац. б-кі ў Санкт-Пецярбургу. Вядома



Кіева-Пячэрскі пацярык (16 ст.) з шыфрамі **бібліятэкі Жыровіцкага манастыра**.

больш за 100 стардрукаў, якія паходзяць з Б.Ж.м.

*Літ.*: Нікалаеў М. Палата кнігапісная: рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мінск, 1993; Попов В.В. Жировичская библиотека // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мінск, 2002. Вып. 5; Морозова Н.А. Из истории библиотеки Жировицкого монастыря: жировицкие рукописи в библиотеке Академии наук Литвы // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры. Мінск, 2006. Ч. 1.

**Бібліятэка князёў Чартарыйскіх** у Кракаве (Biblioteka Książąt Czartoryskich). Закладзена ў канцы 18 ст. Адамам Казімірам Чартарыйскім, які прызначаў яе для даследавання гісторыі Польшчы ў яе гіст. межах. Сучасны склад б-кі вызначаюць матэрыялы перш за ўсё 4 буйных архіваў у складзе б-кі: Публічнага, Дамовага, Эканамічнага і Кіраўніцтва зборамі князёў Чартарыйскіх. Першыя зборы кніг захоўваліся ў родавым маёнтку Чартарыйскіх — Пулавах, у 1794 яны моцна пацярпелі, часткова былі вывезены ў Пецярбург. У 1818 А.Чартарыйскі набыў калекцыю Тадэвуша Чацкага (1574 рукапісы). У 1-й пал. 19 ст. ў Пулавы паступілі таксама матэрыялы магнацкіх архіваў — Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў. У 1831 з Пулаваў зноў былі вывезены ў Пецярбург рукапісы (больш за 400 адзінак). У 1848 зборы Пулаўскай б-кі перапраўлены ў Парыж, дзе размясціліся ў «Атэлі Ламбэр». У парыжскі перыяд б-ка набыла спісы Статутаў ВКЛ, ілюстраваную гісторыю еўрапейскіх міжнар. трактатаў 1551—1784. Спецыяльна для б-кі сістэматычна капіраваліся каштоўныя гіст. крыніцы ў замежных зборах — Швецыі, Англіі, Германіі і інш. краінах. Гэтыя працы працягваліся да 1879. Назапашаныя копіі склалі «Збор Уладзіслава Чартарыйскага». У 1876 Публічны архіў і б-ка перавезены ў Кракаў, і там утворана навук. ўстанова пад назвай «Зборы князёў Чартарыйскіх у Кракаве». У 1902 ад Антонія Тышкевіча быў набыты архіў Куратары віленскай, у 1923 — шчуцінскі архіў Друцкіх-Любецкіх з матэрыяламі 1537—1851. У склад б-кі ўвайшоў амаль поўнасцю архіў Сяняўскіх, матэрыялы Адама Чартарыйскага (некаторы час школьны куратар у Літве і Беларусі). У 1939 рэестры б-кі налічвалі 5999 адзінак захоўвання. Дамовы архіў захоўваў пераважна прыватныя матэрыялы, Эканам. архіў — уладальніцкія акты Сяняўскіх і Чартарыйскіх. Б-ка ўваходзіць у склад Нац. музея ў Кракаве. Цяпер у б-цы зберагаецца каля 11 тыс. рукапісаў, у т.л. каля 2 тыс. пергаментаў, каля 185 сярэдневяковых кодэксаў. Сярод найб. цікавых матэрыялаў па гісторыі Беларусі і Літвы — 3-я кніга Метрыкі ВКЛ за 1440—1506, пергаментны акт Люблінскай уніі 1569, шматтомныя «Партфелі Адама Нарушэвіча» («Teki Naruszewicza») — копіі і выпіскі матэрыялаў з розных б-к і архіваў (часткова унікальныя, усяго больш за 217 тамоў), рэестры кніг Метрыкі ВКЛ, зробленыя па ініцыятыве Нарушэвіча, «Acta Tomiciana» — копіі актаў каралеўскай канцылярыі часоў канцлера Пятра Таміцкага, складзеныя яго сакратаром Станіславам Гурскім, гетманская кніга Яна Караля Хадкевіча з лістамі 1556—1628, аб'ёмныя і працяглыя мемуары канцлера ВКЛ Альбрэхта Станіслава Радзівіла сярэдзіны 17 ст., метрыка правоў і прывілеяў Вільні (копіі актаў за 1387—1733), мемуары Канстанцыі Сапегі 1651—84. Вял. комплекс матэрыялаў складаюць



*Літ.*: P i e t r z k i e w i c z I. Biblioteka klasztoru kanoników regularnych laterańskich w Wilnie w XVII—XIX w. // Белорусский сборник: статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Санкт-Петербург, 2002. Вып. 2.

**Бібліятэка Вільнюскага універсітэта** (Vilniaus universiteto biblioteka). Заснавана ў 1570 як б-ка Віленскага езуіцкага калегіума. Значна пашырылася пасля 1579, калі калегіум ператвораны ў акадэмію (універсітэт). На яе ахвяравалі кароль польскі і вял. князь літ. Жыгімонт II Аўгуст, віленскі біскуп Валерыян Пратасевіч, канцлер ВКЛ Леў Сапега, яго сын падканцлер Казімір Леў Сапега і інш. Б-ка атрымлівала абавязковы экзэмпляр з універсітэцкай друкарні, з 1780 — з усіх друкарняў ВКЛ. У 1579 налічвала 4,5 тыс. тамоў, у 1773 — 11 тыс. тамоў. Б-ка мела свае каталогі, кнігі расстаўляліся па 18 аддзяленнях у адпаведнасці з галінамі навук. Б-кай карысталіся прафесары ун-та, студэнты. Пераважала тэалагічная і інш. рэлігійная л-ра. Зберагаліся рэдкія выданні і рукапісы, у т.л. твор Мікалая Каперніка «Пра абарачэнні нябесных сфер», працы Пталамея, Арыстоцеля, Р.Дэкарта і інш. З канца 18 ст. ствараліся адносна самастойныя кніжныя зборы факультэтаў. З 1805 у б-ку сталі афіцыйна дапускацца пабочныя асобы. Пасля паўстання 1830—31 у Польшчы, Беларусі і Літве ун-т зачынены (1832), кніжныя фонды падзелены паміж Медыка-хірургічнай і Духоўнай акадэміямі, частка кніг перададзена Бел. навучальнай акрузе, Кіеўскаму і Харкаўскаму ун-там. Пасля аднаўлення ун-та (1919) у б-ку паступілі некаторыя зборы Віленскай публічнай б-кі. У 1930-я г. універсітэцкая б-ка налічвала каля 200 тыс. тамоў. Пасля 2-й сусветнай вайны называлася Навук. б-ка Вільнюскага дзярж. ун-та імя В.Капсукаса. У канцы 1940-х — 1950-я г. папоўнілася кнігамі з б. Каўнаскага ун-та, з б-к Масквы і Ленінграда. У 1985 налічвала 4,5 млн. адзінак захоўвання, у т.л. 180 тыс. старадрукаў (312 інкунабул), 189 тыс. рукапісаў, 66 тыс. бібліяграфічных і інфармацыйных выданняў. У фондах рукапіснага аддзела захоўваюцца стараж. кодэксы, пергаменты, Псалтыр на царк.-слав. мове, Слуцкі спіс 16 ст., спісы Статута ВКЛ 1529, актавыя матэрыялы 14— 20 ст., кнігі «лаўрэатаў» Віленскага ун-та, якія атрымалі тут навук. ступені ў канцы 16—18 ст., асабістыя архівы прафесараў, навукоўцаў, гісторыкаў М.Балінскага, І.Лялевеля, М.Маліноўскага, Ю.Кавалеўскага, М.Пелкі-Палінскага (з вельмі цікавымі кнігазнаўчымі матэрыяламі), перапіска А.І. Мілавідава, І.Спрогіса. Зберагаюцца матэрыялы прыватных архіваў Сапегаў, Тышкевічаў, Копцяў, карэспандэнцыя Радзівілаў 17 ст., актавыя матэрыялы, інвентары і гаспадарчыя кнігі маёнткаў, гаспадарскіх уладанняў, гарадоў, мястэчак (Кобрына, Любчы, Дзярэчына, Крошынскага староства і інш.), царк. устаноў (Лаўрышаўскага і Супрасльскага манастыроў, Гарадзенскага кляштара, каталіцкіх ордэнаў), матэрыялы архіва Віленскага ун-та, рукапісы пісьменнікаў, фальклорныя запісы, інтэрмедыі, зборнік вершаў полацкага стражніка С.Багушэўскага, архіў Паўн.-Зах. аддзела Рус. геаграфічнага таварыства, альбом мастака Дз.М. Струкава з каляровымі замалёўкамі населеных месцаў, помнікаў архітэктуры, эпіграфікі, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (у т.л. крыж Ефрасінні Полацкай). Сярод старадрукаў — Берасцейская Біблія 1563, Апостал Ф.Скарыны 1525, кірылічныя, польскамоўныя, лацінскія выданні Мамонічаў, Віленскай акадэміі, Віленскага Святадухаўскага брацтва, рэфармацыйных друкарняў, унікальныя экзэмпляры кніг Альберта Каяловіча па гісторыі ВКЛ (1651, 1653), «Абарона Вялікага княства Літоўскага» А.Руткоўскага (каля 1649), юрыд., навук., белетрыстычныя і царк.-палемічныя выданні. Многія інкунабулы захоўваюць запісы бел. чытачоў, каля 200 тамоў паходзяць з кнігазбораў аднаго з гал. апекуноў Віленскай акадэміі Казіміра Льва Сапегі. Асобную калекцыю складаюць зборы картаграфічных матэрыялаў і атласаў, іканаграфіі.

*Літ.*: О д и н ц о в Н.Ф. Униатское богослужение в XVII и XVIII в. по рукописям Виленской Публичной библиотеки // Литовские епархиальные ведомости. 1886. № 38; М и л о в и д о в А.И. Описание славянско-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491—1880 гг.). Вильна, 1908; В л а д и м и р о в Л.И. Очерки по истории книги и библиотек в Литве до 1917 г. Вильнюс, 1965; П е т р а у с к е н е З. Библиотека Вильнюсского университета. Вильнюс, 1970; Н і к а л а е ў М. Палата кнігапісная: рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мінск, 1993; Г а л е н ч а н к а Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; B r e n s z t e j n M. Biblioteka Uniwersytecka w Wilnie do roku 1832. 2 wyd. Wilno, 1925; L i s o w s k i S. Uniwersytecka Biblioteka Publiczna w Wilnie w latach 1919—1929. Wilno, 1931; Biblioteki Wileńskie: praca zbiorowa. Wilno, 1932; Kulturu kryžkeleje. Vilnius, 1970; Vilniaus valstybinis V. Kapsuko universitetas. Moksline biblioteka — 400. Vilnius, 1970; K i s a r a u s k a s V. Lietuvos knygos zenklai. Vilnius, 1974; F i e g e l m a n a s N. Lietuvos inkunabulai: [katalogas]. Vilnius, 1975; L a u c e v i č i u s E. XV—XVIII a. knygų įrišimai lietuvos bibliotekose. Vilnius, 1976.

***Георгій Галенчанка.***

**бібліятэка Гарадзенскага кляштара дамініканцаў.** Існавала пры *Гарадзенскім кляштары дамініканцаў* у 17—сярэдзіне 19 ст. Была адной з найбуйнейшых у Беларусі і Літве ў 18—1-й пал. 19 ст., налічвала да 15 тыс. выданняў, пачынаючы з 16 ст. Адкрыццё (пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў) пры кляштары павятовай школы Адукацыйнай камісіі, якая мела механічны, мінералагічны і фізічны кабінеты, патрабавала наяўнасць вял. колькасці вучэбнай л-ры. Б-ка папаўнялася шляхам куплі кніг, атрымання прыватных кнігазбораў у спадчыну ад манахаў, падараванняў з боку свецкіх і духоўных асоб (манахаў, навучэнцаў). Так, д-р тэалогіі Гілярый Помян і Зыгмунт Гілярый Піскоўскі ў 1762 перадалі ў б-ку 600 тамоў 17—18 ст. па тэалогіі, кананічным праве, філасофіі, прыродазнаўстве на лацінскай, польскай і інш. мовах. Вял. кнігазбор ахвяраваў кляштару яго настаяцель Дамінік Сівіцкі (1762). У 1773 у дамініканскі кляштар перададзены кнігазбор гарадзенскіх езуітаў, у склад якога ўваходзілі і кнігі з б-кі караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта II Аўгуста з яго суперэксслібрысам. У склад дамініканскай б-кі трапілі кнігі са збораў віленскіх і гарадзенскіх кармелітаў, шчучынскіх піяраў, гарадзенскіх францысканцаў і бернардзінцаў, розных езуіцкіх устаноў Беларусі, віленскага біскупа Міка-



дакументальныя, эпісталярныя крыніцы па гісторыі панавання манархаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, соймавыя канстытуцыі і дыярыушы, працэсуальныя акты і пратаколы, у т.л. камісіі ў справе выступлення праваслаўных супраць уніяцкага полацкага архіепіскапа Анастасія Сялявы 1636, кніга пратаколаў камісарскіх навагародскіх судоў 1739, мемуары, прамовы, літ. творы і публіцыстыка, гаспадарчыя дакументы, у т.л. інвентар віленскага манетнага двара, рахункі кіраўніка Шклоўскага маёнтка 1660—62, хронікі Кадлубака, Длугаша, дыярыушы пасольстваў, неапублікаваны дагэтуль «Nomenclator» А.Каяловіча 1658, гербоўнік Ігнація Капіцы-Мілеўскага 18 ст., арыгіналы твораў Мацея Стрыйкоўскага, спісы Статутаў ВКЛ 16—17 ст., матэрыялы канфедэрацый, рокашаў, у т.л. «Akta związku wojska Wielkiego Księstwa Litewskiego 1601 г.», збор актаў Рускай і Літ. правінцый францысканскага ордэна, пратаколы, акты капітулаў, запісы 1235—1650, рэестры дакументаў высокіх свецкіх саноўнікаў і духоўных іерархаў за 1600—97, вывады шляхецтва (сведчанні аб набілітацыі), тастаменты і інш. У значнай калекцыі царк.-слав. рукапісаў ганаровае месца займае ўпрыгожанае каляровымі мініяцюрамі Лаўрышаўскае Евангелле 14 ст. Калекцыя «Teki królewskie» ўтрымлівае копіі актаў, што тычацца адносін Нямецкага ордэна з Польшчай і ВКЛ за 1263—1412. Збор родавых архіваў уключае матэрыялы і карэспандэнцыю Хадкевічаў, Друцкіх-Любецкіх, Масальскіх, Радзівілаў, Сапегаў. Збор царк.-манастырскіх матэрыялаў — нясвіжскія, аршанскія, полацкія езуіцкія і піярскія акты, прамовы, вершы, панегірыкі 17—18 ст., архівы Куратарыі віленскай і Віленскага ун-та. З архіўнай спадчыны свецкіх і царк. асоб, дзеячаў культуры, палітыкі, адміністрацыі вял. значэнне маюць матэрыялы дыпламатычнай дзейнасці Цыпрыяна Паўла Бжастоўскага ў перамовах з Расіяй 1635—74, жамойцкага біскупа Аляксандра Казіміра Гараіна (1685—1774), віленскіх прафесараў, дыярыушы, карэспандэнцыя, паліт. творы навагародскага ваяводы Юзафа Ябланоўскага (1711—77), карэспандэнцыя вял. гетмана ВКЛ Міхала Агінскага (1728—1800). У б-цы ёсць значныя зборы інкунабул, зах.-еўрапейскіх і слав. старадрукаў 17—18 ст.: фрагмент пражскага выдання Скарыны — кнігі «Песня песняў»; твор Марціна Чаховіца «Epistomium na Wędzidło ... Xiędza Hieronima Powodowskiego» (Кракаў, 1583), Пятра з Гонязі «O ponurzaniu chrystyańskym przeciwko chrztu nowochrzczeńcow niedawnym» (Венграў, 1570), Міколы Гусоўскага «Carraen Nicolai Hussoviani de statura feritate ac venatione bisontis» (Кракаў, 1523), Сымона Будната «Катихисис, то ест наука стародавная христианьская от светого писма для простых людей языка рускoго...» (Нясвіж, 1562), яго ж «O Urzędzie miecza używającem» (Лоск, 1583), буквар слав. мовы Спірыдона Собаля (Куцейна, 1631), твор базыльяніна Феадосія Баравіка «Historia, albo powieść zgodliwa ... o obrazie przeczystey Panny Mariey Żyrowickim cudotwornym...» (Вільня, 1622).

*Літ.*: Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; Catalogus codicum manu scriptorum Musei Principum Czartoryski Cracoviensis. Vol. 1—2. Cracoviae, 1887—1913; Rękopisy Biblioteki Czartoryskich w Krakowie. Cz. 1—2. Warszawa, 1965—66; Katalog dokumentów pergaminowych Biblioteki Czartoryskich w Krakowie = Catalogus diplomatum pergameneorum Bibliothecae Czartoryscianae. Cz. 1—2. Kraków, 1975—91; Katalog rękopisów Biblioteki Czartoryskich w Krakowie: sygnatury 1682—2000. Kraków, 1988; Katalog rękopisów Biblioteki Książąt Czartoryskich w Krakowie: sygnatury 5320—5441. Kraków, 2007; Buła J. Katalog kalendarzy polskich od XVI do XVIII wieku w zbiorach Biblioteki Czartoryskich. Kraków, 1994; Biblioteka Książąt Czartoryskich: informator o zbiorach. Kraków, 2004.

***Георгій Галенчанка.***

**бібліятэка Лаўрышаўскага манастыра.** Існавала пры *Лаўрышаўскім манастыры* ў 13—сярэдзіне 19 ст. Вядома паводле вопісаў з пач. 19 ст. У гэты час размяшчалася ў спец. мураваным будынку. Паводле вопіса 1824, у б-цы была 451 кніга ў 595 тамах, пераважна друкаваныя выданні на польскай і лацінскай мовах, а таксама некалькі кірылічных. Сярод Біблій былі выданні на польскай мове гатычным шрыфтам (16 ст.), Біблія на англійскай мове. Было шмат твораў айцоў царквы, кананічныя і багаслоўскія творы (з іх 4 кірылічныя кнігі), служэбнікі Віленскай, Супрасльскай, Пачаеўскай друкарняў. Прысутнічалі працы па гісторыі царквы (у т.л. «Хронікі» Цэзара Баронія), гісторыі Рэчы Паспалітай, геаграфічныя слоўнікі, апісанні Святой Зямлі, прапаведніцкія творы (у асн. каталіцкіх і уніяцкіх аўтараў, напрыклад, Цімафея Шчуроўскага; магчыма, рукапісная кніга «Propowiedi Ruskie»), аскетычныя творы (Іосіфа Пяткевіча, Дзмітрыя Занкевіча і інш.), жыціі святых (аўтарства Ігнація Кульчыцкага, Занкевіча і інш.), даведачныя выданні, лацінска-польска-літ. слоўнік Канстанцінаса Сірвідаса, творы Арыстоцеля, Цыцэрона, Эзопа, каментарыі да твораў антычных аўтараў, вучэбная л-ра (лацінская граматыкі, рыторыкі), паліт. выданні, календары, газеты. У манастырскай царкве былі богаслужэбныя кнігі (43 экз.), у т.л. некалькі Евангелляў вял. фармату, посная і кветкавыя трыёдзі, актоіхі і інш. рукапісы. Пергаментнае *Лаўрышаўскае Евангелле* 13—14 ст. ў вопісе 1824 не адзначана, відаць, яно было вывезена з манастыра раней.

*Літ.*: Лабынцев Ю.А., Щавинская Л.Л. Библиотека Лаврышевского монастыря // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры. Мінск, 2006. Ч. 1.

**бібліятэка Менскага кляштара бернардзінцаў.** Існавала пры *Менскім кляштары бернардзінцаў* з 1-й пал. 17 ст. да сярэдзіны 19 ст. Аснова б-кі закладзена адначасова з самім кансентам. Неабходныя для набажэнства кнігі збіраліся ў сакрысціі касцёла, а прызначаныя для чытання — у самім канвенце. Паводле акта візітацыі, на час 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) яе склад быў дастаткова характэрны для такога роду б-к: «імшалы, рытуалы, градуалы, антыфанарыі, агенды, зборнікі чытанняў з Евангелляў, брэвіярыі» (колькасць паасобнікаў не ўказана). Вопіс уласна кляштарнай б-кі 1796 змяшчае 450 пазіцый (больш за 800 тамоў). Кнігі ў вопісе размеркаваны паводле прадметных раздзелаў, унутры раздзелаў расстаўлены па ал-



фавіце. 1-ы раздзел названы «Аскетыка» (творы, прысвечаныя духоўнаму ўдасканаленню), у наступных раздзелах прадстаўлены выданні Бібліі, працы па катэхетыцы, крыніцы для падрыхтоўкі казанняў, зборнікі прапаведніцкіх твораў і інш. Названы творы Аўгусціна, Карнеля з Лапіды, Ліпсіуса, Бальсама, Дрэкселіуса, Тамаша Кемпійскага (на лацінскай мове і ў польскім перакладзе). Пераважалі творы ўласна бернардзінцаў і езуітаў, на польскай і лацінскай мовах. Нетэалагічная л-ра прадстаўлена працамі і падручнікамі па граматыцы, рыторыцы, свецкай гісторыі, юрыспрудэнцыі, медыцыне, матэматыцы, паэтыцы, фізіцы, філасофіі і інш. (творы Цыцэрона, Тацыта, Светонія, Віргілія, Баэцыя, Лейбніца і інш.). Некаторыя падручнікі прысутнічалі ў вял. колькасці экзэмпляраў, напрыклад, «Arithmetica et geomeria» Якуба Накцыяновіча (13 па-асобнікаў). Фонд камплектаваўся шляхам закупкі, падарункаў, стварэннем манускрыптаў насельнікамі кляштара (у прыватнасці, запісаў выкладаў у кляштарным «Studium philosophicum» — своеасаблівым універсітэце для законнікаў). Б-ка перастала існаваць разам з ліквідацыяй канвента ў 1864. Кнігазбор разышоўся па інш. бернардзінскіх кляштарах і сярод святароў. У фондах Нац. гіст. музея Беларусі захоўваюцца 2 манускрыпты з б-кі менскіх бернардзінцаў (КП 523, КП 13624). Гэта канвалюты «скрыптаў» — рукапісных канспектаў выкладаў па філасофіі, што чыталіся бернардзінскімі генеральнымі лектарамі Дамінікам Эйдымонтам, Даміцыем Булгароўскім і, відаць, інш. членамі ордэна.

*Юрый Лаўрык.*

**Бібліятэка Нацыянальнага цэнтра імя Асалінскіх у Вроцлаве** (Biblioteka Zakładu Narodowego imienia Ossolińskich we Wrocławiu). Заснавана ў Львове Юзафам Максіміянам Асалінскім (1748—1826) згодна з фундацыяй 1817. Акт фундацыі пацверджаны аўстрыйскім імператарам Францыскам І. У далейшым папаўнялася членамі фаміліі Асалінскіх, падараваннямі інш. асоб і ўстаноў, купляй рукапісаў і старадрукаў. У 1938 рукапісныя зборы «Асалінэума» налічвалі каля 13 500 рукапісаў, каля 2130 афіцыйных актаў, каля 1700 аўтографаў. У жн. 1944 «Асалінэум» стаў адной з навук. бібліятэк АН СССР. У 1946 урад СССР прыняў пастанову аб перадачы Польшчы 150 тыс. адзінак друкаванай прадукцыі і каля 7 тыс. рукапісаў «Асалінэума». Вывезеныя зборы, дапоўненыя інш. калекцыямі, былі ўладкаваны ў Вроцлаве. Цяпер у «Асалінэуме» налічваецца больш за 17 тыс. рукапісаў, у т.л. каля 200 — сярэдневяковых кодэксаў, каля 4 тыс. — 16—18 ст., больш за 2 тыс. дакументаў. Найб. значныя калекцыі сабраны фундатарам б-кі Асалінскім і пісьменнікам, геральдыстам, географам Эварыстам Анджэем Курапатніцкім (каля 1734—88). У гэтых зборах шырока прадстаўлены дакументальныя і наратыўныя крыніцы па паліт. гісторыі Рэчы Паспалітай, соймавыя матэрыялы, прамовы, універсалы, канстытуцыі. У ліку родавых архіваў — маёнткавыя паперы, карэспандэнцыя Корсакаў, Сапегаў, Абуховічаў. Шмат навук. матэрыялаў са спадчыны вядомых даследчыкаў культуры і гісторыі Польшчы і ВКЛ — Караля Бадэцкага, Караля Шайнохі, Юзафа Шуйскага і інш. У рукапісным стане знаходзяцца рэгесты да незавершанага кодэкса Мацея Догеля. Сярод прававых помнікаў: спісы Статутаў ВКЛ, пасланні каралёў польскіх і вял. князёў літоўскіх 16—18 ст. (у арыгіналах і копіях), соймавыя дыярыушы (у т.л. Гарадзенскага сойма 1718), гаспадарскія прывілеі, акты Полацкага ваяв. 16—18 ст. Зрэдку сустракаюцца інвентары бел. маёнткаў (напрыклад, Дуброўны 1649, уладанняў Караля Глябовіча, Шклоўскага старства 1727). Адзін з рукапісаў утрымлівае матэрыялы ваенна-паліт. саперніцтва розных магнацкіх груповак і правячых эліт ВКЛ: «Uspokojenie WKL z domem Sapiehów in a. 1702» (247 аркушаў). Б-ка мае значныя зборы рэдкіх польскамоўных і лацінскіх выданняў, унікальных панегірыкаў з львоўскіх збораў, рэфармацыйных друкаў: Берасцейскую і Нясвіжскую Біблії сярэдзіны 16 ст., адзін з 3 экз. Новага Запавету (Лоск, 1574), творы Міколы Гусоўскага 1520-х г., кнігу С.Калакоўскага «Catherinon Xięstwa Słuckiego» (Вільня, друкарня Мамонічаў, 1593) і інш.

*Літ.*: Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; Rękopisy Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu 1—1504, objęte katalogiem Wojciecha Kętrzyńskiego. Wrocław, 1948; Inwentarz rękopisów Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu. T. 1—18. Wrocław, 1948—2003; Kawecka-Gryczowa A. Katalog inkunabułów Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu. Wrocław, 1956; Katalogi rysunków w zbiorach Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich. T. 1—2. Wrocław, 1960—69; Górska B. Katalog czasopism XVI—XVIII w. w zbiorach starych druków Biblioteki Ossolineum. Wrocław, 1963; Яго ж. Katalog kalendarzy XVII—XVIII w. w zbiorach Biblioteki Ossolineum. Wrocław etc., 1968; Bohonos M. Katalog starych druków Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich: polonica wieku XVI. Wrocław, 1965; Heintsch K. Przewodnik po Bibliotece Zakładu Narodowego im. Ossolińskich Polskiej Akademii Nauk we Wrocławiu. Wrocław, 1967; Bułówna A. Katalog gazet z XVIII wieku w zbiorach Biblioteki Zakładu im. Ossolińskich. Wrocław, 1969; Katalog starych druków Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich. T. 1—9. Wrocław etc., 1991—97; Korzon K. Biblioteka Ossolineum we Wrocławiu. Wrocław etc., 1992; Lipiński I. Katalog dokumentów Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich: dokumenty z lat 1276—1979. Wrocław, 1999; Dworsatschek M. Polska w dawnej kartografii: historyczne ziemie polskie na mapach do początku XIX wieku w zbiorach Ossolineum. Wroclaw, 2008.

***Георгій Галенчанка.***

**бібліятэка Нясвіжскага кляштара бенедыкцінак.** Існавала ў *Нясвіжскім кляштары бенедыкцінак* у канцы 16—2-й пал. 19 ст. Першыя кнігі прывезены манашкамі з мацярынскага бенедыкцінскага кляштара ў Хелмна (Польшча). Кнігазбор кляштара падзяляўся на канвенцкі (усяго кляштара), навіцыяцкі (карыстаўся навіцыят, куды прымаліся паслушніцы), капланскі (кнігі для богаслужэння), школьны. Захаваўся вопіс кніг кляштара 1828, паводле якога ў канвенцкай б-цы было 225 назваў кніг у 437 тамах выключна на польскай мове. Большасць з іх (105 назваў) была аскетычна-містычныя творы, прызначаныя для духоўнага



ўдасканалення манашак, у т.л. кніга віленскага бенедыкцінца К.Анджэёўскага «Гара Табар» (Вільня, 1764), якой у б-цы было 24 экз., творы інш. віленскіх бенедыкцінцаў, у т.л. ананімная «Купель душы» (Вільня, друкарня Яна Карцана, 1609; 9 экз.). Працы па гісторыі бенедыкцінскага ордэна і царквы ўвогуле, жыціі святых налічвалі ў б-цы 27 пазіцый, у т.л. «Бенедыкцінскі каляндар» (Вільня, 1768). Манаскія статуты (бенедыкцінскія, кармеліцкія, дамініканскія) і каментарыі на іх налічвалі 13 пазіцый. Свяшчэннае Пісанне (Біблії, Евангелля), каментарыі на яго, катэхізісы былі прадстаўлены 15 пазіцыямі; паралітургічныя творы (службы святым, брацкія цырымоніі) — 14 пазіцыямі, казанні і маралізатарскія творы — 15 пазіцыямі. Адзінкавымі экзэмплярамі былі прадстаўлены палемічныя творы, скіраваныя супраць дысідэнтаў і ў абарону езуітаў, а таксама працы па медыцыне і гаспадарцы. Капеланскі збор б-кі налічваў 60 назваў у 79 тамах. Гэта былі кнігі на лацінскай мове: Біблії і каментарыі на яе (4 пазіцыі), катэхізісы (3 пазіцыі), кнігі па медытацыі (7 пазіцый), жыціі і календары (5 пазіцый), рытуалы (4 пазіцыі) і інш., у т.л. «Аб гальскай вайне» Юлія Цэзара. Пасля таго як у 1876 кляштар быў зачынены, яго б-ка перададзена ў гар. магістрат, згарэла ў пажары 1880.

*Літ.*: G w i o ź d z i k J. Staropolski księgozbiór panien benedyktynek z Nieświeża: z dziejów fundacji Mikołaja Krzysztofa Radziwiłła Sierotki // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. Warszawa, 1995.

**бібліятэка Пінскага Лешчанскага манастыра.** Існавала ў *Пінскім Лешчанскім манастыры* ад часу яго заснавання (13 ст.?). Захоўвалася ў адной з сакрысцій гал. царквы, называнай «скарбчыкам», і была памешчана ў шафу. На 1-м этапе гісторыі б-кі (да сярэдзіны 17 ст.) яна складалася з некалькіх дзесяткаў кніг, гал. чынам літургічных і павучальных. Інвентар манастыра 1588 адзначае ў ёй традыцыйную падборку кніг, што выкарыстоўваліся для адпраўлення набажэнстваў (2 Евангеллі, Апостал, Устаў, 2 Служэбнікі, Часоўнік, 2 Актоіхі, Трыёдзі посная і кветкавая, Багародзічнік і Ірмалой з царк. спевамі), пабожнага чытання («Лесвіца», кніга Ісаака Сірына, павучальнае Евангелле) і падрыхтоўкі казанняў. Лешчанскія зборы гэтага часу камплектаваліся праз перапісванне манускрыптаў у самім манастыры і праз закупку. Пачатак 2-га этапу можна звязаць з 1668, калі манастыр канчаткова далучыўся да уніі, стаў базыльянскім, і, згодна з ордэнскімі прадпісаннямі, мусіў распачаць збіранне б-кі, неабходнай для пастырскай працы, адукацыі і духоўнага самаўдасканалення манахаў. З гэтага часу, відаць, паяўляецца раздзяленне кніжнага фонду на літургічныя зборы пры цэрквах і ўласна манастырскую б-ку. Манастырская кніжніца разраслася да аб'ёму ў некалькі соцень тамоў. Камплектаванне фондаў вялося праз закупку л-ры, атрыманне выданняў у падарунак або ў спадчыну пасля манахаў, якія памерлі. Гэты перыяд заканчваецца з канцом 18 ст., калі землі ВКЛ увайшлі ў склад Рас. імперыі, а грэка-каталіцкая царква пачала страчваць сваё прыярытэтнае становішча на карысць праваслаўнай. 3-і этап характарызуецца пэўным застоем у развіцці лешчанскіх кнігазбораў, якія амаль не папаўняліся; закончыўся ён у 1839 са скасаваннем грэка-каталіцкай царквы ў Рас. імперыі, ліквідацыяй манастыра і вывазам з яго б-кі. На гэты час манастырская кніжніца ўжо дакладна падзялялася на 2 кнігазборы агульнай колькасцю каля 300 тамоў. Першы кнігазбор быў прызначаны для адпраўлення набажэнстваў і змяшчаў літургічную і прапаведніцкую л-ру (у адрозненне ад 16—1-й пал. 17 ст., у яго склад уваходзілі не толькі кірылічныя кнігі для служэння паводле грэка-візантыйскага абраду, але таксама і выданні для лацінскага набажэнства). Другі кнігазбор складаўся з кніг (пераважна лацінскіх і польскіх), якія былі патрэбны для духоўнага ўдасканалення, вучобы і навук. заняткаў манахаў. Гэты кнігазбор быў сістэматызаваны паводле прадметнай класіфікацыі і падзяляўся на раздзелы «Святое Пісанне», «Тэалагічныя кнігі», «Творы аратараў і паэтаў», «Прапаведніцкія творы», «Працы па аскетыцы», «Гістарычныя працы і жыцці святых гасподніх» і інш. У ім прысутнічала л-ра не толькі духоўнага, але і свецкага характару, прычым у некаторых раздзелах яна нават пераважала. Далейшы лёс манастырскай б-кі да канца не высветлены. Частка яе была перададзена Мінскай духоўнай семінарыі. У 1918 семінарыя была закрыта, а яе маёмасць нацыяналізавана. Кнігазборы семінарыі агульнай колькасцю каля 15 тыс. тамоў былі перададзены ў 1920-х г. у Дзярж. б-ку БССР. Падчас 2-й сусветнай вайны фонды Дзярж. б-кі вывозіліся прадстаўнікамі акупацыйнага рэжыму ў Германію, а пасля вайны, уперамешку з нарабаванымі немцамі ў інш. месцах культ. каштоўнасцямі, а таксама з захопленымі савецкімі войскамі трафеямі вярталіся ў СССР. У Мінск трапіла толькі частка б. фондаў Дзярж. б-кі — удвая менш, чым было да таго. Таму некаторыя кнігі з б-кі Лешчанскага манастыра, магчыма, будуць знойдзены ў б-ках Зах. Еўропы і б. СССР. Цяпер у фондах Нац. б-кі Беларусі захоўваюцца, прынамсі, 5 стարадрукаў з б. лешчанскіх кнігазбораў (шыфры 094/4739, 094/7031, 094/7169, 094/14420, 094/ 14467).

*Літ.*: Д о в г я л л о Д.И. Пинский Лещинский монастырь в 1588 г. Минск, 1909; М і л а в і д а ў А. Архіў зліквідаванага Пінскага Лешчанскага манастыра // Праваслаўе. 2001. № 10; Л а ў р ы к Ю. Кнігазборы пінскага Лешчынскага манастыру // Наша вера. 2007. № 4; R a d z i s z e w s k i F. Wiadomość historyczno-statystyczna o znakomitych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych. Kraków, 1875. S. 38. ***Юрый Лаўрык.***

**бібліятэка Полацкага езуіцкага калегіума.** Існавала пры *Полацкім езуіцкім калегіуме* (пасля акадэміі) у канцы 16—пач. 19 ст. Хутка павялічвалася з пач. 17 ст. Значныя кнігазборы ёй ахвяравалі езуіты Ян Рывоцкі (1632), Ян Садкоўскі (1683). Вял. закупкі кніг адбыліся ў 1636 (на 300 злотых), 1643, 1646, 1647 (больш за 1000 злотых), 1679. У час пажару 1682 згарэлі кнігі ў пакоях прафесараў, як мяркуецца, агульная б-ка ацалела. Пасля гэтага для б-кі пабудавана мураванае памяшканне. У 1705, апасаючыся шведскага нападу, езуіты вывезлі б-ку ў будынкі б. Спаскага манастыра, аднак у апошні дзень перавозкі ўся б-ка згарэла. Но-



вы кнігазбор збіраўся гал. чынам шляхам закупкі. Большая яго частка згарэла ў час пажару 1750. Пасля гэтага была сабрана новая б-ка, якая значна абагацілася дзякуючы падараванням езуітаў, што перасяліліся ва ўсх. Беларусь з Рэчы Паспалітай пасля забароны ордэна езуітаў (1773). У 1787 у б-цы было 5576 кніг. У 1812 гал. б-ка акадэміі налічвала 30 тыс. тамоў на замежных мовах і 10 тыс. тамоў на польскай мове.

*Літ.*: Шайкоў В. Да пытання аб езуіцкай бібліятэцы ў Полацку // Бел. гіст. часопіс. 2003. № 4; Kadulska I. Akademia Połocka: Ośrodek kultury na Kresach, 1812—1820. Gdańsk, 2004; Brężgo B. Losy bibliotek jezuickich kolegiów w Połocku i Witebsku // Przegląd Powszechny. 1926. № 169; Jezuicka ars historica. Kraków, 2001.

**Бібліятэка Расійскай акадэміі навук** у Санкт-Пецярбургу (Библиотека Российской Академии наук). Створана па ўказу Пятра I у 1714 як «Б-ка яго царскай вялікасці». У 1725—47 называлася Імператарская Пецярбургская б-ка, у 1747—1917 — Б-ка Імператарскай АН, у 1917—25 — Б-ка Рас. АН, у 1925—92 — Б-ка АН СССР, з 1992 сучасная назва. У 1818 б-ка падзелена на 2 аддзяленні: 1-е (Рускае) і 2-е (Замежнае), якія былі фактычна самастойнымі б-камі з асобным кіраўніцтвам і фінансаваннем. У 1883 у складзе 1-га (Рускага) аддзялення створаны Слав. аддзел, у 1893 — Часопісны аддзел, у 1901 — Рукапісны і Рускі кніжны аддзелы. У склад б-кі паступілі кнігі Пятра I, рас. акадэмікаў, інш. вучоных і пісьменнікаў. У 1719 б-ка налічвала 10 тыс. кніг, 1790-х г. — 40 тыс., у 1836 — 90 тыс., у 1862 — 243 тыс., у 1917 — 1,5 млн., у 1924 — 3,5 млн., у пач. 21 ст. — больш за 20 млн. У 1988 б-ка пацярпела ад пажару. У б-ку ўвайшло некалькі збораў рукапісаў і старадрукаў, што сфарміраваліся на тэр. ВКЛ. У 1772 у Санкт-Пецярбург вывезена Нясвіжская б-ка князёў Радзівілаў (9673 назвы кніг). У 1890 і 1897 у б-ку паступіў збор праф. М.К.Баброўскага з рукапісамі 12—19 ст., а ў 1905 і 1908 — збор праф. П.Н.Дабрахотава (епіскапа Паўла) з рукапісамі 13—19 ст. Сярод найб. каштоўных рукапісаў б-кі — Радзівілаўскі летапіс, Іпацьеўскі летапіс (Іпацьеўскі спіс), Наўгародскі 1-ы летапіс (Акадэмічны спіс), бел.-літ. летапісы: Нікіфараўскі і Акадэмічны. Сярод актавага матэрыялу б-кі прывілей Ягайлы Скіргайлу 1387 на Троцкае і Полацкае княствы, Менск, Свіслач, Бабруйск, Рэчыцу і інш. гарады (збор Рас. акадэміі); прывілеі вял. князёў літоўскіх і каралёў польскіх гораду Коўна 15—18 ст., дакументы пра маёнткі Ульскіх у Ковенскім пав. 17 ст. (збор І.І.Сразнеўскага), дакументы Жыровіцкага манастыра 17—18 ст. (збор Дабрахотава). Зберагаюцца дзённік сойма Рэчы Паспалітай 1761 (збор С.Р.Строганава), дзённік аблогі Пскова Стэфанам Баторыем (выдадзены М.В.Каяловічам у 1867). Сярод рукапісаў творы Іасафата Кунцэвіча (збор Дабрахотава), спіс віленскай «Граматыкі славянскай мовы» 1586, «Хроніка» Марціна Бельскага ў спісе 17 ст. (Архангельскі збор), шмат твораў Сімяона Полацкага. У б-цы зберагаюцца кнігі з б-кі караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта II Аўгуста, Берасцейскай Біблії 1563 (3 экз.), Астрожская Біблія 1581, «Жыціе Варлаама і Іаасафа» (Куцейна, 1637) і шмат інш. старадрукаў з ВКЛ 16—18 ст.

*Літ.*: Описание рукописного отделения Библиотеки Академии наук СССР. Т. 3—4. Ленинград, 1930—59; Исторический очерк и обзор фондов Рукописного отдела Библиотеки Академии наук. Вып. 1—2. М.; Ленинград, 1956—58; История Библиотеки Академии наук СССР, 1714—1964. М.; Ленинград, 1964; Описание Рукописного отдела Библиотеки Академии наук СССР. Т. 3—8. М.; Ленинград, 1965—89; Материалы и сообщения по фондам отдела рукописной и редкой книги Библиотеки Академии наук СССР. Ленинград, 1966; Нікалаеў М. Палата кнігапісная: рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мінск, 1993; Книги из библиотеки польского короля Сигизмунда II Августа: Каталог / Сост. Е.А.Савельева. Санкт-Петербург, 1994; Литваника XVI—XX вв. в собрании Российской академии наук: каталог выставки. Санкт-Петербург, 1997; Летопись Библиотеки Российской Академии наук. Т. 1. 1714—1900. Санкт-Петербург, 2004; Польское восстание 1794 г. под руководством Т.Костюшко: каталог книг из коллекции Библиотеки РАН / Сост. О.В.Гусева, Е.Ю.Шаповал. Санкт-Петербург, 2004; Собрание польских старопечатных книг в Славянском фонде БАН. Вып. 1. Несвижская ординатская библиотека Радзивиллов / Сост. О.В.Гусева, Е.В. Комиссарова. 2 изд. Санкт-Петербург, 2005; Почаевский сборник: каталог / Сост. Е.А.Савельева. Санкт-Петербург, 2006; Елкина Н.Н. К истории справочной и информационной работы в Библиотеке Российской Академии наук. Санкт-Петербург, 2007.

**бібліятэка Слонімскага кляштара бенедыкцінак.** Існавала пры Слонімскім кляштары бенедыкцінак з канца 17 ст. да сярэдзіны 19 ст. Візітацыйныя спісы кніг б-кі вядомы з 1668. У 1719 было 70 кніг, у асн. на польскай мове: касцельныя статуты, жыціе св. Бенядыкта, інш. святых, аскетычная л-ра, брэвіярыі. У 1733 адзначаны антыфанарый, градуал, марціралог, 4 мшалы, Евангелле, рукапісны служэбнік св. Бенэдыкта, «Духоўныя практыкаванні» і інш. Пры візітацыі 1820 адзначана, што «навуковых» (вучэбных) кніг у кляштары няма, толькі жыції святых і кнігі для набажэнства. У 1830 сярод кніг адзначаны мшалы рымскія і уніяцкія, агенды, «Кніга брацтва сэрца Ісусава».

*Літ.*: Гвездзик И. Собрание книг бенедиктинок в Слониме (XVII—XIX вв.) // Белорусский сборник: статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Санкт-Петербург, 2002. Вып. 2; Pietrzkiewicz I. Biblioteki klasztorów słonimskich w świetle zachowanych inwentarzy XVIII—XIX ww. // Там жа. Санкт-Петербург, 2005. Вып. 3.

**бібліятэка Слонімскага кляштара бернардзінцаў.** Існавала пры *Слонімскім кляштары бернардзінцаў* з 17 ст. да сярэдзіны 19 ст. Дакументальныя звесткі пра яе сустракаюцца пачынаючы з 1787. Захаваліся інвентарныя спісы кніг б-кі 1798, 1804, 1816, 1820, 1821 і 1822. Б-ка значна вырасла ў канцы 1820—30-х г., калі бернардзінцы трымалі школу. У 1820 тут было 948 кніг, у асн. казанні на польскай мове, працы па тэалогіі, філасофіі, рыторыцы і гісторыі, а ў 1822 — 1766 кніг (яшчэ 17 богаслужэбных кніг захоўвалася ў сакрысціі), у 1830 — 1858 кніг. З захаваных інвентароў вынікае, што кнігазбор бернардзінцаў быў даволі стары, тэматычна пераважалі прапаведніцкія, аскетычныя творы, працы па рыторыцы і філасофіі. У 1830 у б-ку перайшла л-ра з зачыненага кляштара



ў Берасці (791 кніга). У 1838 у Слонімскім кляштары 2177 кніг, з іх 75 літургічных: антыфанарыі, псалтыры, брэвіярыі, агенды, мшалы (у т.л. «мшал рускі»). У гэты час пераважалі філасофскія працы, лацінскія і польскія казанні, каментарыі Свяшчэннага Пісання, аскетычныя, гіст. і паліт. творы, працы па рыторыцы, граматыцы, паэзіі. Пасля 1845 у б-цы 1734 кнігі ў 2774 тамах.

*Літ.*: Pietrzkiewicz I. Biblioteki klasztorów słonimskich w świetle zachowanych inwentarzy XVIII—XIX ww. // Белорусский сборник: статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Санкт-Петербург, 2005. Вып. 3.

**бібліятэка Слонімскага кляштара дамініканцаў.** Існавала пры Слонімскім кляштары дамініканцаў з канца 17 ст. да сярэдзіны 19 ст. У 1819 у б-цы было 255 кніг рознай тэматыкі, у асн. прапаведніцкая л-ра, творы па тэалогіі, філасофіі, царк. і свецкім праве. У 1820 было 13 літургічных кніг, 235 прапаведніцкіх, тэалагічных і аскетычных твораў. Прыкладна ў такіх памерах захоўвалася б-ка ў наступныя гады.

**бібліятэка Слонімскага кляштара канонікаў латэранскіх.** Існавала пры Слонімскім кляштары канонікаў латэранскіх з сярэдзіны 17 ст. да сярэдзіны 19 ст. Дакументальныя дадзеныя пра б-ку паходзяць пачынаючы з 18 ст. У 1704—06 тут было 293 кнігі ў 316 тамах, пераважалі прапаведніцкія, гіст. і аскетычныя творы (асобна пазначаны рукапісы і забароненыя кнігі). Зафіксаваны выдаткі кляштара на пераплётныя работы і закупку кніг, у т.л. пропаведзяў у Кракаве. Хоць з 18 ст. канонікі трымалі павятовую і парафіяльную школы, кляштарная б-ка не вызначалася велічынёй, таму можна меркаваць, што школы трымалі ўласныя б-кі. У 1820 у б-цы 243 кнігі, у т.л. лацінскіх і польскіх пропаведзяў, аскетычных і антычных твораў. У 1830 было 400 кніг, у 1836 — 779 кніг.

**Бідэр** (Bieder) Герман (н. 21.10. 1941, г. Маркерсдорф, Аўстрыя), аўстрыйскі мовавед-славіст. Д-р габілітаваны (1986). Скончыў Венскую гандлёвую акадэмію (1961), вучыўся ў Венскім (1961—65), Сафійскім (1966—67, 1972—73) ун-тах. У 1977 стажыраваўся ў Ін-це мовазнаўства АН Беларусі. З 1969 працаваў у Ін-це слав. філалогіі Венскага ун-та, з 1971 — у Ін-це славістыкі Зальцбургскага ун-та (з 1999 яго дырэктар). Даследуе шырокае кола праблем слав. філалогіі. Аўтар прац па фанетычных і правапісных асаблівасцях Статутаў ВКЛ 1529 і 1588, стараж. нямецка-бел. моўных кантактах з высвятленнем польскага пасрэдніцтва. Устанавіў, што германізмы ў старабел. мове маюць пераважна сярэдненямецкае, часам верхненямецкае, у выключных выпадках ніжненямецкае паходжанне. Аўтар слоўніка германізмаў у слав. мовах («Deutsche Wortbildungselemente in den slavischen Sprachen», 1985).

*Тв.*: Das Litauische Statut von 1529: (Bemerkungen zur historischen Orthographie und Phonetik der Altweissrussischen Rechtsprache) // Wiener Slawistisches Jahrbuch. 1973. Bd. 18; Das Litauische Statut von 1588: (Die Phonetik des westrussischen Originals im Vergleich zur polnischen Obersetzung) // Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej. 1974. T. 14; Zur Erforschung des deutschen Lehrgutes im weisrussischen: Schrifttum des 14. bis 17. Jahrhunderts // Opuscula Slavica et Linguistica. 1976; Zur Rolle des Polnischen bei der Übername von deutschen Lehrgut ins westrussische: (wei βrussischeukrainische) Schrifttum des 14—17. Jhs. // Symposium Slavicum. München, 1976; Die Rolle des Polnischen bei den älteren deutsch-westrussischen lexikalischen Lehrbeziehungen (phonetisch-phonologischer Aspect) // Wiener Slavistisches Jahrbuch. 1978. Bd. 24; Die morphologische Adaptation deutscher Substantiva in Altweissrussischen Sprachdenkmälern wus der Sicht der deutschen historischen Morphologie // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1978. Vol. 4. № 2.

*Літ.*: Запрудскі С. Аўстрыйскі рыцар беларускай мовы: (да 60-годдзя Германа Бідэра) // Кантакты і дыялогі. 2001. № 9—10.

**біла**, драўляная або металічная дошка, ударамі па якой склікаліся вернікі на богаслужэнне. Ужывалася ў ВКЛ у мясцовасцях, дзе не было *званоў*. Да сцяны царквы св. Мікалая ў Лагойску быў прымацаваны жалезны брус, сагнуты дугой, па якім білі каменем. У 1-й чвэрці 19 ст. яго знішчыў мясц. святар. Да пач. 20 ст. захоўваўся прывешаны да сцяны Супрасльскай царквы кавалак арнаментаванай бронзавай пліты, які выкарыстоўваўся як Б. Царк. правілы дазваляюць ужыванне Б. да цяперашняга часу.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 13—14.

**Біржанскі дагавор 1701**, дагавор паміж Расіяй і Саксоніяй, падпісаны ў ходзе *Паўночнай вайны 1700—21* у Біржах 26 лют. (7 сак.). Заключаны рас. царом Пятром І і саксонскім курфюрстам Фрыдрыхам Аўгустам І (адначасова кароль польскі і вял. князь літ. Аўгуст II). Бакі пацвердзілі заключаны ў 1699 рас.-саксонскі дагавор, накіраваны супраць Швецыі, і пагадзіліся працягваць вайну супраць яе. Пётр І абавязаўся прадаставіць Саксоніі ў дапамогу войскі, аказваць ёй грашовую субсідыю (штогод 200 тыс. талераў). У выпадку перамогі Інфлянты (Латвія і Эстонія) мелі адысці пад уладу Фрыдрыха Аўгуста, а Інгрыя (Іжорская зямля), Карэлія і Нарва — Расіі. Пётр І выдзяляў Аўгусту II 20 тыс. рублёў на подкуп сенатараў, каб тыя сакцыянавалі ўступленне Рэчы Паспалітай у вайну супраць Швецыі. У заключэнні Б.д. ўдзельнічаў Р.*Агінскі*, галава шляхецкіх колаў ВКЛ, што змагаліся з групоўкай Сапегаў (гл. *Феадальная вайна 1697—1702*). Была дасягнута дамова паміж Агінскім і Пятром І, што апошні будзе падтрымліваць антысапегаўскі рух (23.3.1702). Б.д. дзейнічаў да паражэння Саксоніі ад Швецыі і падпісання *Альтраштацкага перамір'я 1706*.



Медаль на заключэнне **Біржанскага дагавора 1701**. Рэч Паспалітая. Серабро.

*Літ.*: Письма и бумаги императора Петра Великого. Т. 1. Санкт-Петербург, 1887; Рябцевич В. Российско-«польские» монетные эмиссии эпохи Петра I. Тольятти, 1995.



**Біржышка** (Biržiška) Мікалас (Міхал; 24.8.1882, мяст. Векшняй Акмянскага р-на, Літва—24.7.1962), літоўскі палітычны і культурны дзеяч. Брат В.Біржышкі. Скончыў гімназію ў Шаўлях (1901), Маскоўскі ун-т (1907). З 1905 чл. Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы. У 1908 рэдактар часопіса «Žarija» («Жар»), у 1908—09 працаваў у рэдакцыі газеты «Vilniaus žinios» («Віленскія весці»), у 1910—11 рэдактар сацыял-дэмакратычнага часопіса «Visuomene» («Грамадства»), адначасова ў 1909—15 працаваў у зямельным банку ў Вільні. З 1908 удзельнічаў у дзейнасці Літ. навуковага т-ва (яго віцэ-старшыня). З 1917 чл. Літ. Тарыбы. У 1918—19 міністр асветы часовага літ. ўрада. У 1919—20 рэдактар літ. газеты ў Вільні «Głos Litwy» («Голас Літвы», на польскай мове). У 1919—22 старшыня Часовага камітэта вільнюскіх літоўцаў. Заснавальнік і дырэктар літ. гімназіі ў Вільні (1915—22). У 1922 высланы польскімі ўладамі з Вільні. У 1922—39 праф. Каўнаскага ун-та, у 1926—27 яго рэктар. У 1925—35 старшыня Саюза вызвалення Вільнюса, у 1929—35 — Літ. т-ва па вывучэнні культуры народаў СССР. У 1939—43 праф. і рэктар Вільнюскага ун-та, у 1940 — дырэктар Ін-та літуаністыкі. У 1941—46 акадэмік АН ЛітССР. З 1944 у эміграцыі ў Германіі (у 1946—49 выкладаў у Прыбалтыйскім ун-це ў Гамбурге), з 1949 у ЗША. Працы па гісторыі літ. л-ры і культуры, фальклырыстыцы. Даследаваў літ. нар. песні — дайны. Выдаў манаграфічныя даследаванні пра А.Баранаўскаса і К.*Данелайціса*. Вынікі даследавання старабел. л-ры ў ВКЛ падвёў у арт. «Беларуская літаратура», змешчаным у т. 9 «Літоўскай энцыклапедыі» (1941). Адзначаў высокую ролю старабел. мовы ў ВКЛ. Для «Літоўскай энцыклапедыі» напісаў шмат артыкулаў пра паліт. і культ. дзеячаў («Чацкія», «Чапскія», «Чартарыйскія», «Чачоты», «Хадкевічы», «Ходзькі», «Хамінскія» і інш.). Аўтар падручнікаў, мемуараў. Разам з В.Біржышкам выдаў працу С.*Даўкантаса* «Гісторыя старажатных літоўцаў і жамойтаў» («Darbai senųjų lietuvių ir žemaičių», Каўнас, 1929). Падрыхтаваў да друку і выдаў працу В.Біржышкі «Александрынас».

*Тв.*: Literatura litewska // Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana. 1909; Skrót dziejów piśmiennictwa litewskiego. Wilno, 1919; Barono gyvenimas ir raštai. Kaunas, 1924; Mūsų raštų istoriją (nuo XVI a. iki 1864). Kaunas, 1925; Duonelaičio gyvenimas ir raštai. Kaunas, 1927; Iš mūsų kultūros ir literatūros istorijos. T. 1—2. Kaunas, 1931—38; Senasis Universitetas 1579—1842 m.: vardu ir raštu atranka. Vilnius, 1940; Lietuvių tautos kelias. Kn. 1—2. Los Angeles, 1952—53; Vilniaus Golgota. 2 leid. Vilnius, 1992.

*Літ.*: Ивинская М. Изучение старобелорусской и староукраинской литературы в Литве между двумя мировыми войнами // Literatūra. Vilnius, 2005. Т. 47 (2).

**Біспінг** (Бішпінг, Бішпінк) Ян Тадэвуш Кароль (каля 1741—28.9.1822), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з нямецкага рода ўласнага герба (прыдомак фон Гален), прадстаўнікі якога ў канцы 16—пач. 17 ст. перасяліліся ў ВКЛ. Сын Баляслава, маршалка старадубскага. Падпісаў акт аб элекцыі Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў 1764. Пасля займаў урады старадубскага гараднічага (1765—67), падстолія (1767—73), земскага пісара (1773—81), харужага (1781—86), маршалка (1786—93). Пасол на сойм 1782, дзе быў выбраны для рэвізіі Кароннай скарбовай камісіі. У 1776 узнагароджаны ордэнам св. Станіслава. Дэпутат Трыбунала ВКЛ 1784 (маршалак Трыбунала духоўнага), 1789. На моцы соймавай пастановы ў 1793 стаў, як і ўсе павятовыя маршалкі, кашталянам (старадубскім).

**бітва на Сухадрэве 1445**. Адбылася на р. Сухадрэў (левы прыток Шані, што злева ўпадае ва Угру) паміж войскамі ВКЛ і маскоўскімі атрадамі. У адказ на зімовы паход 1444—45 татарскіх ханаў Бердзедата і Касыма, якія дзейнічалі па загаду маскоўскага вял. кн. Васіля II у накірунку Вязьмы, Бранска і Смаленска, вял. князь літ. Казімір IV летам 1445 адправіў свае войскі на зах. межы Вял. княства Маскоўскага. На іх чале сталі ковенскі староста Валімунт (Судзівой), віленскі ваявода, маршалак Радзівіл Осцікавіч, смаленскі намеснік Мікалай Няміраў, полацкі намеснік Андрэй Саковіч і інш. Агульная колькасць войскаў, паводле маскоўскіх летапісаў, складала каля 7 тыс. чал. У сувязі з тым, што большасць маскоўскіх сіл накіравалася супраць хана Улу-Мухамеда, войскам ВКЛ супрацьстаялі нешматлікія атрады са складу дружын удзельных маскоўскіх князёў Івана Андрэевіча Мажайскага, Міхаіла Андрэевіча Вярэйскага і Васіля Яраславіча Серпухаўскага. Войска ВКЛ захапіла і спаліла 5 гарадоў (сярод іх, магчыма, Мажайск і Вярэя), затрымалася на тыдзень пад Казельскам, не здолела таксама ўзяць Калугу, а потым выйшла да р. Сухадрэў (Сухадровь), дзе разбіла маскоўскае войска, у якім налічвалася, па розных дадзеных, ад 260 да 500 чал. Сярод загінуўшых быў суздальскі кн. Андрэй Васілевіч Лугвіца, які служыў мажайскаму князю; ваяводы мажайскага і вярэйскага князёў трапілі ў палон. Страты войск ВКЛ склалі забітымі каля 200 чалавек.

***Віктар Цемушаў.***

**Бітнер** Самуэль (Бітнерыс Самуэліс; каля 1632, Польшча—да 5.11.1710), дзеяч кальвіністскай царквы, перакладчык. Нарадзіўся ў кальвінісцкай сям'і, якая перасялілася ў ВКЛ. Вучыўся ў Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, з 1651 — ва ун-це ў Франкфурце-на-Одэры. З 1663 святар, з 1668 прапаведнік. З 1673 плябан у Новым Месце, потым у Бейнарове і Біржах. У 1687 абраны кансеньёрам віленскім, з 1688 завілейскім, з 1698 суперінтэндэнт жамойцкі. Жыў у Біржах і Кейданах. Выдаў катэхізіс «Пачатак павучання для малых дзяцей» («Pradzia pamoksla del mazu Weykialu», Каралявец, 1680), які быў выдадзены на сродкі Людвікі Караліны Радзівіл. Тут жа быў змешчаны літоўскі буквар. У 1695 Віленскі сінод даручыў Б. перакласці на літ. мову Новы Запавет. З дапамогай Яна Бажымоўскага (малодшага) пераклаў яго большую частку на аснове польскага выдання (Гданьск, 1601) з улікам грэчаскага тэксту. Пераклад адрэдагавалі лютэране Фрыдрых Сігізмунд Шустэр і Бернхард Зандэн з Малой Літвы. Кніга выдадзена ў 1701 у Каралярўцы (Кёнігсбергу) пад назвай «Naujas Testamentas Wieszpaties musu Jezaus Kristaus».

**Богуш** Томаш (20.12.1723, Палессе—6.3.1783), дзеяч каталіцкай царквы. У 1739 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1751 ксёндз. Праф. паэтыкі ў Вільні (1753—54), рыторыкі і гісторыі ў Варшаве (1754—55), філасофіі ў Пінску (1756—57), місіянер у Лагішыне (1760—61), праф. тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве (1762—65) і Пінску (1765—69), праф. маральнай тэалогіі і прэфект школы (1770—72), таксама праф. кананічнага права ў Варшаве (1772—73). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) да 1781 прапаведнік у варшаўскіх школах Адукацыйнай камісіі, потым канонік берасцейскі. У паразуменні з Адукацыйнай камісіяй збіраў матэрыялы па гісторыі касцёла ў Рэчы Паспалітай. Выдаў драму для школьнага тэатра «Эўтропіуш» («Eutropiusz, tragedia wierszem polskim napisana», Вільня, 1754).

**Богуш-Шышка** Міхал (8.11.1811, в. Варонічы Ігуменскага пав.—12.3. 1877), беларускі архівіст, перакладчык. Скончыў гімназію і ун-т (1832) у Вільні, дзе вывучыў 7 жывых і 4 мёртвыя мовы. Да 1838 працаваў перакладчыкам падкаморскага суда ў Мінску. Пераклаў на польскую мову шмат твораў, у т.л. «Споведзь» св. Аўгусціна (т. 1—2, 1844), «Падарожжа» А.Гумбальта (т. 1—4, 1861), «Нарыс усеагульнай гісторыі» Г.Вебера (т. 1—2, 1861—62). Удзельнічаў у падрыхтоўцы «Слоўніка польскай мовы» (Вільня, 1861). У 1858—59 удзельнічаў у стварэнні першых тамоў «Вялікай універсальнай энцыклапедыі» С.Оргельбранта. У 1860 нясвіжскі ардынат Б.Радзівіл запрасіў Б.-Ш. ў Нясвіж для ўпарадкавання архіва. На падставе архіўных дакументаў напісаў працы «Нарыс жыцця князя Міхала Крыштофа Радзівіла, празванага Сіроткам», «Дыярыуш князя Міхала Казіміра Радзівіла», «Гісторыя Астрожскай ардынацыі» (не выдадзены). У зборнай працы «Нясвіжскі архіў» змясціў шмат звестак па гісторыі Літвы і Беларусі: пра адказ Жыгімонта III маскоўскім паслам у 1610, Лоеўскую бітву 1649, дыярыуш ваеннага пахода на рас. землі 1660, прамову Яна III Сабескага пасля зрыву сойма ў Гародне ў 1688, суд. справу над К.Лышчынскім, Алькеніцкую бітву 1700, акт Барскай канфедэрацыі 1768, перапіску К.С.Радзівіла Пане Каханку з М.Рапніным і інш. Дапамагаў інш. гісторыкам, якія прыязджалі ў Нясвіж знаёміцца з архіўнымі дакументамі (М.І.Кастамараву, П.А.Гільтэбранту і інш.). Збярог шмат дакументаў і кніг са скасаваных кляштараў бенедыкцінак і бернардзінцаў у Нясвіжы. Абавязкі радзівілаўскага архіварыуса выконваў да 1873.

**Богша** Павел (1552, г. Слуцк—4.9. 1627), дзеяч каталіцкай царквы. У 1575 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў. Вывучаў тэалогію ў Рыме. Суперыёр у Кракаве (1581—82), праф. яўрэйскай мовы ў Вільні (1582), віцэ-рэктар Віленскай акадэміі (1582—85), сакратар і намеснік галавы Польскай правінцыі ордэна езуітаў (1585—95), прапаведнік у Познані (1596—97), рэктар калегіума ў Браневе (1597—99) і Віленскай акадэміі (1599—1601), намеснік галавы Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1601—08), галава гэтай правінцыі (1608—14), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1614—22). Прыклаў шмат намаганняў для вылучэння Літ. правінцыі ордэна езуітаў са складу Польскай правінцыі і яе далейшага развіцця. Апекваўся над мастакамі-езуітамі. Дэлегат 6-га (1608) і 7-га (1615—17) Генеральных кангрэсаў ордэна езуітаў у Рыме.

*Літ.*: P i e c h n i k L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984; Я г о ж. Rozkwit Akademii Wileńskiej w latach 1600—1655. Rzym, 1983.

**Боім** Бенядзікт Павел (1629, г. Львоў—28.2.1670), дзеяч каталіцкай царквы. У 1646 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў філасофію ў Полацку (1649—52) і тэалогію ў Лювене (1657—61). У Бельгіі пазнаёміўся з баландыстамі і для іх пераклаў на лацінскую мову жыціе св. Яна Канці. Праф. рыторыкі ў Пултуску (1661—62), маральнай тэалогіі ў Вільні (1668—70). Быў вядомы як прапаведнік. Жадаў выехаць у Кітай, але не атрымаў дазволу духоўных улад, таму пачаў агітаваць праваслаўных пераходзіць у каталіцтва. Для абгрунтавання перавагі каталіцтва над праваслаўем выдаў кнігі «Старая вера» («Stara wiara, abo Jasne pokazanie, iż ci, co w dyzuniej trwają, starej wiary nie mają», Вільня, 1668), «Воз да неба» («Wóz do nieba», Варшава, 1670). Абапіраўся на аўтарытэт айцоў царквы, каб даказаць прымат рымскага папы, догмат аб зыходжанні Св. Духа і ад Бога-Сына. Паважна называў праваслаўных «брацішкі нашы каханыя».

**Борк** (Б о р г к, Б о р к г), міфічны князь. У легендзе бел.-літ. летапісаў пра першых літ. князёў названы старэйшым сынам *Палемона.* Паведамляецца, што ён заклаў горад на р. Юра, які назваў ад імя ракі і свайго імя — Юрбарк (цяпер Юрбаркас, Літоўская Рэспубліка). Пасля таго як Б. памёр, не пакінуўшы дзяцей, яго ўладанні адышлі да брата Кунаса. Відавочна, што крыніцай утварэння імя Б. ў легендзе паслужыла назва сапраўднага г. Юрбарка (хоць ён і не знаходзіцца на р. Юра), закладзенага крыжакамі ў сярэдзіне 13 ст. (нямецкая назва — Георгенбург, Замак святога Георгія). У «Хроніцы» М.Стрыйкоўскага Б. названы Боркусам.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Босгрэйв** (Bosgrave) Якуб (каля 1548, Годманстоўн, Англія—27.10. 1623), дзеяч каталіцкай царквы, матэматык. У 1564 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў, з 1573 святар. Атрымаў у Англіі гуманістычную адукацыю, пасля вучыўся ў Лювене, Турнэ, Рыме (Калегіум Раманум). Праф. паэтыкі і матэматыкі ў Познані (1571—73), пасля ў Оламаўцы. У 1576 арганізаваў у Віленскай акадэміі кафедру матэматыкі, выкладаў тут геаметрыю. У 1580 выехаў у Англію для падтрымкі мясц. католікаў, быў там зняволены, катаваны і асуджаны на смерць. Дзякуючы каралю польскаму і вял. князю літ. Стэфану Баторыю смяротны прысуд быў адменены, і Б. высланы з краіны. У 1587 вярнуўся ў Рэч Паспалітую. Выкладаў матэматыку, яўрэйскую мову і філасофію ў Познані і Калішы. Высока яго шануючы, П.Скарга змясціў жыціе Б. сярод англійскіх пакутнікаў, не ведаючы пра яго ўратаванне ад смяротнага пакарання.

*Літ.*: P i e c h n i k L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.



**Бохан** Павел (25.1.1628, Аршанскі пав.—14.3.1695), дзеяч каталіцкай царквы. У 1650 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1659 ксёндз. Вывучаў тэалогію ў Нямецкай правінцыі ордэна езуітаў (1655—59). Прэфект школы і праф. маральнай тэалогіі ў Віленскай акадэміі (1664—66), праф. схаластычнай тэалогіі і прэфект школы ў Браневе (1666—70), у Віленскай акадэміі праф. схаластычнай тэалогіі (1670—73), прэфект школы і праф. кананічнага права (1674—75), рэктар (1776—78), рэктар калегіумаў у Мышы (1678—85) і Варшаве (1685— 89), галава Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1689—92), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1692—95). Быў дэлегатам на 12-ю генеральную кангрэгацыю ордэна езуітаў (1682). Зрабіў вял. ўклад у развіццё адукацыі ў ВКЛ, асабліва гуманістычнай.

*Літ.*: Piechnik L. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**Бохвіч** (Бухвіч, Бохвіц) Шыман, віленскі людвісар у сярэдзіне 16 ст. Адрозніваўся вял. майстэрствам, аднойчы за адзін дзень адліў 18 гармат, за што вял. князь літ. і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст надаў яму шляхецтва. Пасля жыў у Кракаве. Як паведамляе Станіслаў Сарніцкі ў «Кнігах гетманскіх», Б. напісаў «Кнігі пушкарскія», якія засталіся ў рукапісе. Відаць, быў кальвіністам, родапачынальнікам роду Бохвічаў герба «Радван» у ВКЛ.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 22—23.

**Брадоўскі** Ігнат (2.3.1713, Беларусь—16.2.1760), дзеяч каталіцкай царквы. У 1730 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1742 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Навагародку (1744—45) і Полацку (1745—46), прэфект школы ў Менску (1747—48), праф. этыкі ў Вільні (1750—51), праф. школы і сакратар Віленскай акадэміі (1751—52), прэфект школы ў Гародне (1752—53), праф. тэалогіі ў Полацку (1757— 58). Напісаў гіст. драму пра св. Станіслава.

**Бражыц** Іасафат (1635—12.2. 1683), дзеяч грэка-каталіцкай царквы. У маладосці ўступіў у Быценскім манастыры ў базыльянскі ордэн. Вучыўся ў Менскім езуіцкім калегіуме, у 1661—63 у папскім алюмнаце ў Брунсбергу. Жыў у манастырах у Жыровічах, Быцені, Замосці, Навагародку, быў ігуменам Холмскага, Менскага, Полацкага (з 1671) і Віцебскага базыльянскіх кляштараў. Пашыраў культ Багародзіцы, Іасафата Кунцэвіча. Арганізаваў у Полацку брацтва Пакрова Багародзіцы. Як полацкі ігумен і афіцыял полацкага архіепіскапа ўдзельнічаў у *Люблінскім калоквіуме 1680*. Меў вядомы абраз Маці Божай, які, як лічыў, выратаваў яго падчас мору 1666 у Менску. Перад смерцю перадаў абраз свайму крэўнаму Мікалаю Песляку, які заснаваў *Барунскі Петрапаўлаўскі манастыр*. Абраз у гэтым манастыры стаў адным з самых шанаваных у краі (гл. *Барунскі абраз Маці Божай*). Б. быў выдатным прапаведнікам, апекуном убогіх і нямоглых, сярод вернікаў лічыўся цудатворцам. Памёр у Віцебску, шанаваны як святы, але кананізаваны не быў.

**Брандэнбургскі паход 1326**, сумесны паход войск ВКЛ і Польшчы на Брандэнбургскае маркграфства. Адбыўся ў выніку заключэння саюзнага *дагавора 1325* паміж вял. князем літ. Гедзімінам і каралём польскім Уладзіславам І Лакоткам. Выконваючы саюзныя абавязацельствы, Гедзімін выставіў у паход, скіраваны супраць ворагаў польскага караля — брандэнбургскага маркграфа Людовіка і яго бацькі, імператара Людовіка Баварскага, свае войскі (1200 коннікаў) на чале з гарадзенскім старастам *Давыдам*. Паход быў падтрыманы рымскім папам Іаанам XXII, які загадаў крыжакам падтрымліваць мір з ВКЛ, што забяспечыла свабодны праход ліцвінаў. У час паходу былі спустошаны брандэнбургскія паселішчы, у т.л. Берлін, аднак гарады Франкфурт і Брандэнбург адбілі напады саюзных войск.

**Браніцкі** Ян Клеменс (21.9.1689, г. Тыкоцін або г. Беласток—9.10.1771), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Быў апошнім у магнацкім родзе Браніцкіх герба «Грыф», адным з самых багатых і ўплывовых магнатаў Рэчы Паспалітай. Сын падляшскага ваяводы Стафана Мікалая Браніцкага і Кацярыны з Сапегаў. Другое імя Клеменс пачаў ужываць у сталым узросце замест хроснага імя Казімір. У 1723 атрымаў ганаровую пасаду падчашага ВКЛ, але не прыняў яе, харужы вял. каронны ў 1724—28, генерал артылерыі каронны у 1728—35, гетман польны каронны ў 1735—52, гетман вял. каронны з 1752, адначасова кракаўскі ваявода ў 1746—62 і кашталян з 1762; староста бранскі з 1709, бельскі з 1719, кросненскі з 1720, масціцкі з 1744, злататырыйскі з 1750. У маладосці служыў у французскім войску. Пасля вяртання ў 1709 далучыўся да групоўкі канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла і ажаніўся з яго дачкой Кацярынай. Імкнуўся адыгрываць ахоўную ролю ў паліт. жыцці Рэчы Паспалітай, не дапушчаючы рэформ, і ў гэтым дзейнічаў разам з Радзівіламі. Падтрымліваў караля Аўгуста II, у 1733 выступіў за абранне на трон Аўгуста III. Групоўка Чартарыйскіх, якая выпрацавала план рэформ Рэчы Паспалітай, імкнулася перацягнуць Б. на свой бок. Для гэтага ў 1748 яна арганізавала шлюб Б. з Ізабелай Панятоўскай (сястра будучага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага). Аднак намаганні «Фаміліі» далучыць Б. да справы рэформ не далі плёну. Быў платным агентам французскага ўрада, але з пач. Сямігадовай вайны 1756—63 пачаў прытрымлівацца прускай арыентацыі, зноў зблізіўся з рэфармісцкай групоўкай Чартарыйскіх. Пасля смерці Аўгуста III у 1763 меркаваў выставіць сваю кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай, што прывяло да разрыву з Чартарыйскімі. Б. быў пазбаўлены рэальнай улады над войскам і эмігрыраваў у Венгрыю, потым паразумеўся з Чартарыйскімі і вярнуўся. Імкнучыся вярнуць паліт. ўплыў, Б. прыняў удзел у арганізацыі *Барскай канфедэрацыі*, якую падтрымліваў фінансава. Пабудаваў раскошны палац у Беластоку («Падляшскі Версаль»). У 1745 заснаваў у Беластоку Вайсковую школу будаўніцтва і інжынерыі.

*Літ.*: Sztachelska-Kokoczka A. Magnackie dobra Jana Klemensa Branickiego. 2006.

**Браніцкія**, Грыфіты-Браніцкія, шляхецкі род герба «Грыф». Паходзілі з-пад Кракава, дзе мелі в.

Браніцы. Родапачынальнік — Ян Клеменс Б., кракаўскі ваявода (1243). З сярэдзіны 17 ст. праз шлюб іншага Яна Клеменса з дачкой Стафана *Чарнецкага* Аляксандрай Катажынай род Б. трывала звязаны з Падляшшам, дзе гал. сядзібу ўладкаваў у тагачаснай в. Беласток. Гал. ўладанні мелі надалей у Малой Польшчы, Падляшскім ваяв. і Ваўкавыскім павеце. Найб. вядомыя:

Ян Клеменс (?—1673), сын Яна Клеменса, падкаморыя кракаўскага. Маршалак Кароннага Трыбунала (1651). Разам са Стафанам Чарнецкім актыўны ўдзельнік *Паўночнай вайны 1655—60* са шведамі. Падстолі (1658) і стольнік (1660) каронны. Разам з цесцем у 1660-х г. падтрымліваў дзярж. рэформы і выступаў супраць *Любамірскага рокаша 1655—56*. Дарадчык караля польскага і вял. князя літ. Міхала Вішнявецкага. Пры заключэнні шлюбу з Аляксандрай Катажынай Чарнецкай атрымаў у якасці пасагу маёнтак Тыкоцін. Меў сына Стафана Мікалая і 3 дачок.

Стафан Мікалай (?— 1709), сын Яна Клеменса. Скончыў езуіцкі калегіум у Варшаве. Стольнік каронны (1688), ваявода падляшскі (1703). Ажаніўся з Катажынай Схаластыкай Сапега (1687), дачкой Казіміра Сапегі, вял. гетмана ВКЛ, зрабіўшыся надзейным і верным саюзнікам дому Сапегаў; падтрымліваў Станіслава Ляшчынскага і шведаў. За гэта саксонскія войскі Аўгуста II у 1703 спустошылі яго падляшскія і літ. маёнткі (Тыкоцін, Беласток і інш.). У 1704—08 у эміграцыі. У пасаг жонка ўнесла яму значны маёнтак Рось у Ваўкавыскім пав. Меў сына Яна Клеменса і 4 дачок.

Ян Клеменс (21.9.1689—9.10.1771), сын Стафана Мікалая, гл. *Браніцкі* Я.К.

Ізабела (1.7.1730—14.2.1808), жонка Яна Клеменса. 4-е дзіця Станіслава Панятоўскага, ваяводы мазавецкага, і Канстанцыі Чартарыйскай, кашталянкі віленскай, родная сястра караля польскага і вял. князя літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Выйшла замуж за ўплывовага мужа-магната ў 1748 у выніку паліт. камбінацый з мэтай уздзейнічаць на мужа дзеля забеспячэння прыхільнасці групоўцы Чартарыйскіх. Дзякуючы ёй малавядомы Беласток пераўтварыўся ў цэнтр культуры на памежжы Кароны Польскай і ВКЛ: атрымаў магдэбургскае права (1749), тут створаны цэхавыя арганізацыі рамеснікаў (1759, 1769), пабудавана ў стылі барока палацава-паркавая рэзідэнцыя. Мела ўплыў на брата-караля. Пасля Рацлавіцкай бітвы 1794 засталася ў Варшаве і падтрымлівала паўстанцаў.

*Літ.*: Boniecki A. Herbarz polski. T. 2. Warszawa, 1899; Polski słownik biograficzny. T. 2. Warszawa, 1938; Kowecka E. Dwór «najrzadniejszego w Polszcze magnata». Warszawa, 1993. ***Генадзь Семянчук.***

**Брокус** (Англус) Адам (каля 1542, г. Лондан—7.7.1605), дзеяч каталіцкай царквы. У 1565 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў, з 1571 ксёндз. З 1567 у Рэчы Паспалітай. У Браневе віцэ-рэгент духоўнай семінарыі (1568—69), канвікта (1570—71), прэфект школы (1568—71), магістр навіцыята (1574—77). Праф. маральнай і палемічнай тэалогіі ў Вільні (1580—94), маральнай тэалогіі (1594—1603, з перапынкам), канцлер Віленскай акадэміі (1599—1603), рэктар (1594, 1603—05). З 1593 радца галавы Польскай правінцыі ордэна, у 1594 яго сакратар. У 1581 быў дэлегатам на 4-ю генеральную кангрэгацыю ордэна езуітаў у Рыме.

*Літ.*: Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**Бротэльт** (Breutelt, Bretel) Іаган, віленскі людвісар 1-й пал. 17 ст. Паходзіў з Латарынгіі. Знаходзіўся на службе ў каралёў польскіх і вял. князёў літ. Жыгімонта III і Уладзіслава IV, карыстаўся тытулам «Sacrae Regiae Majestatis fusor» («яго каралеўскай вялікасці ліцейшчык»). Захаваліся звесткі пра 11 бронзавых гармат, адлітых Б. у 1629—38, і 6 званоў 1630—47. Сярод гармат Б. вядомы дзве, якія прызначаліся для гетмана Крыштофа Радзівіла і нясуць выяву яго герба. Адзін са званоў Б. быў заказаны Станіславам Войнам для касцёла ў Плунгах, упрыгожаны яго гербам (1646).

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa w b. W. Księstwie Litewskiem. Wilno, 1924; Martinaitienė G.M. «IOANNES BREUTELT NOBIS FECIT...» // Menotyra. 2001. № 2.

**брыгандына**, пласцінкавы даспех у выглядзе кароткай камізэлькі, паднітаванай дробнымі бляшкамі. З-за сваёй эластычнасці набліжаўся да панцыраў. Б. былі папулярнымі ў Еўропе ў 15—16 ст., часта пакрываліся шляхетнымі тканінамі (аксамітам і інш.) і выконвалі ролю даспеха-касцюма. Першыя адзінкавыя згадкі аб ужыванні паліт. элітай ВКЛ касцюма, выробленага са шляхетных тканін і ўзмоцненага



**Брыгандына** са збраёўні караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. Італія. Сярэдзіна 16 ст.

«жалезным палатном» (textorium ferreum), трапляюцца ў канцы 14 ст. У 16 ст. Б. фігуруюць у дакументах ВКЛ пад рознымі тэрмінамі ў залежнасці ад формы пласцінак і сістэмы іх набору, прычым аналагічныя тэрміны выкарыстоўваліся ў гэты час і для пазначэння непакрытых даспехаў (бехцер, карацына).

*Літ.*: Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008. С. 94—96. ***Юрась Бохан.***

**Брэгер** Герман Максімавіч (н. 31. 10.1962, г. Мінск), архівіст, гісторык. Скончыў Бел. політэхнічны ін-т (1988). Працаваў у будаўнічых і праектна-канструктарскіх установах Мінска, у 1994—95 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі, з

1997 у Нац. гіст. архіве Беларусі (вядучы палеограф, гал. архівіст). Даследуе гісторыю дзярж. устаноў ВКЛ 16—18 ст., шляхты і населеных пунктаў Ашмянскага і інш. паветаў, займаецца археагр. апрацоўкай актавых кніг Метрыкі ВКЛ, земскіх і гродскіх судоў ВКЛ.

*Тв.*: Кальвінскі збор у Вароне // Беларусь—Расія—Японія: матэрыялы Першых астравецкіх краязнаўчых чытанняў, прысвечаных памяці Іосіфа Гашкевіча. Мінск, 1997 (Беларусіка=Albaruthenica. Вып. 8); Праблемы пошуку дакументаў па гісторыі населеных месцаў і генеалогіі павятовай шляхты былога Віленскага ваяводства ВКЛ да сярэдзіны XVII ст. ў архівах і бібліятэках Вільні // Замежная архіўная Беларусіка: матэрыялы Міжнароднай навук. канф., 25—26 крас. 1996 г. Мінск, 1998; Матэрыялы Мінскай кадэнцыі Галоўнага Трыбунала Вялікага княства Літоўскага ў Вільнюскім архіве: (супастаўленне двух вопісаў) // Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных, бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах. Мінск, 1999 (Вяртанне. Вып. 6); Хацюхова: гісторыя невялікага паселішча. Мінск, 2001; Архіў Ашмянскага земскага суда 2-й пал. 18 ст.: (Мядзельская кадэнцыя) // Архівы на мяжы тысячагоддзяў. Мінск, 2001; Уласнасць ашмянскай шляхты ў Браслаўскім павеце: (паводле актавых кніг Браслаўскага земскага суда 1603—1632 гг.) // Браслаўскія чытанні. Браслаў, 2002. Вып. 5; З гісторыі маёнтка Дамашкавічы // Архіварыус. Мінск, 2004. Вып. 2; Архіў маёнтка Глыбокае Зяновічаў і Радзівілаў у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве // Там жа. Мінск, 2006. Вып. 4.

**Брэжга** (Brežgo) Баляслаў Рычардавіч (31.3.1887, в. Айзупіешы Дрыцанскай вол. Рэжыцкага пав. Віцебскай губ.—30.9.1957), латышскі гісторык, архівіст. Д-р гіст. навук (1933). У 1911 паступіў у Тыфліскае ваеннае вучылішча. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. У 1917 як вольны слухач скончыў Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археал. ін-та і быў пакінуты для падрыхтоўкі да прафесарскага звання, з 1918 заг. аддзялення. У 1918 скончыў Маскоўскі археал. ін-т. З 1920 яго праф., памочнік рэктара, у 1921—25 прарэктар. У 1919—23 упаўнаважаны Гал. ўпраўлення архіўнай справы РСФСР па Віцебскай губ. З 1925 жыў у Латвіі. У 1933 у Брусельскім ун-це абараніў дысертацыю на званне д-ра гіст. навук па тэме «Латгальскае сялянства ў 1772—1861 гадах». У 1925—37 выкладаў у Рус. ун-це ў Рызе, у 1937—40 інспектар Упраўлення па ахове помнікаў даўніны, у 1940—41 дырэктар Даўгаўпілскага павятовага дзярж. архіва, з 1945 праф. кафедры слав. філалогіі Латвійскага ун-та, з 1946 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Латв.ССР. Даследаваў гісторыю, помнікі археалогіі, архітэктуры, кнігавыдання, пісьменнасці, архівы Віцебшчыны і Латгаліі.

*Тв.*: Архівы і архіўная праца ў Віцебшчыне // Віцебшчына. Віцебск, 1925. Т. 1; Klasztor Tadulinski na Witebszczyznie // Ziemia. 1929. № 13; Ахова помнікаў старажытнасці на Віцебшчыне // Беларуская школа. Рыга, 1932. № 4, 5; 1933. № 4—6; Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Очерки по истории крестьянских движений в Латгалии, 1577—1907. Рига, 1956;Sztuki piękne w Kolegium oraz w Akademii OO. Jezuitów w Połocku w XVIII i XIX w. // Prace i materiały sprawozdawcze sekcji historji sztuki towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie. Wilno, 1938/39. T. 3; B r e ž g o B. Latgolas inventari un generalmerisanas zemju apraksti (1695—1784). Daugavpils, 1943.

*Літ.*: Д о р о ш е н к о В.В. Уроки историка Б.Р. Брежго // Археографический ежегодник за 1993 год. М., 1995; П а н і з н і к С. Ён уздымаў старонкі віцебска-полацкай даўніны // Полацк: карані нашага радавода. Полацк, 1996; V e s t u m i e k s B. Brezgo septindesmitgadnieks // Latvias PSR Zinatnu Akademijas vestis. 1957. № 5 (змешчана бібліяграфія прац Б.); Profesors Boļeslavs Brežgo / Sast. H.Strods. Rēzekne, 1990 (змешчана бібліяграфія прац Б.).

**Брэсцкі мір 1435**, мірны дагавор, падпісаны 31 снеж. ў г. Брэст (цяпер Бжэсць-Куяўскі) паміж Польшчай і ВКЛ, з аднаго боку, і Тэўтонскім ордэнам (з удзелам Лівонскага ордэна), з другога. Быў заключаны ў ходзе *феадальнай вайны 1432—39*, калі за ўладу ў ВКЛ змагаліся Свідрыгайла і стаўленік Польшчы Жыгімонт Кейстутавіч. Пасля паражэння ў *Вількамірскай бітве 1435* Свідрыгайла збег у Полацк, а саюзны яму Лівонскі ордэн быў вымушаны пайсці на замірэнне. Тэўтонскі ордэн (з удзелам Лівонскага) заключыў з Польшчай і ВКЛ (у асобе Жыгімонта Кейстутавіча) «вечны» мір і абяцаў больш не дапамагаць Свідрыгайлу. Ордэн абяцаў у будучым не прызнаваць ніякага вял. князя літоўскага, якога б не прызналі польскі кароль і



Акт **Брэсцкага міру 1435**.

яго рада. Былі ў асн. пацверджаны граніцы паміж ордэнам, Польшчай і ВКЛ, устаноўленыя *Мельнскім мірам 1422*. Польшча атрымала важны гандлёвы г. Няшава і адмовілася ад правоў на Гданьскае Памор'е і Хэлмскую зямлю. Абвяшчалася свабода грамадскіх і гаспадарчых кантактаў паміж бакамі. Ордэн абавязаўся разарваць дзярж. сувязі са Свяшчэннай Рымскай імперыяй (імператар Сігізмунд Люксембургскі падтрымліваў Свідрыгайлу) і рымскай курыяй і ператвараўся ў лакальную дзяржаву. Гарантам міру выступалі прускія саслоўі, у выпадку парушэння дагавора з боку крыжакоў іх падданыя вызваляліся ад паслушэнства ордэну, што сведчыла пра ўзмацненне ўнутранай апазіцыі ў ордэнскіх дзяржавах. Мір быў ратыфікаваны Лівонскім ордэнам у 1436.

*Літ.*: Historia dyplomacji polskiej. Warszawa, 1982. T. 1. S. 406; B i s k u p M.,

L a b u d a G. Dzieje zakonu krzyżackiego w Prusach. Gdańsk, 1986.

**Брэтфус** (П р э т ф у с; Brettfuss, Breitfuss, Prayetfuess) Гіоб (?—да 15.10. 1571), архітэктар, ваенны інжынер. Паходзіў з Германіі, жыў у Францыі. З 1540 на службе ў вял. князя літ. і караля польскага Жыгімонта I Старога. Да 1547 як каралеўскі архітэктар займаўся будаўнічымі працамі ў Крэменецкім замку. У 1545 па загаду Жыгімонта ездзіў у Трокі для вывучэння стану мясц. замка. У 1550—51 у Кракаве, адкуль пасланы ў Вільню для ўзмацнення фартыфікацыйных збудаванняў горада і арганізацыі там вытворчасці гармат. Кіраваў працай *Віленскай пушкарні*, умацаваў Віленскі Ніжні замак, арганізаваў майстэрні па вырабе пораху і ваеннай амуніцыі. Забяспечваў людвісарню патрэбнымі інструментамі, сыравінай, прывозіў патрэбных майстроў-пушкароў з Кракава, заказваў у Венгрыі ядры патрэбных калібраў. Прызначаны віленскім будаўнічым (1551—57) і гараднічым (1554—71), дзяржаўцам алькеніцкім і ляйпунскім (1557—71). У 1564 пачаў будаўніцтва каралеўскага двара ў Кнышыне і грунтоўную перабудову замка ў Тыкоціне. Удзельнічаў у пабудове г. Аўгустаў. У 1566 будаваў летнюю велікакняжацкую рэзідэнцыю ў Вяршупцэ пад Вільняй. Мяркуецца, што Б. удзельнічаў у пабудове замка Пятра Весялоўскага ў Беластоку. Дзяржаўца васількаўскі з 1568, староста тыкоцінскі з 1569.

*Літ.*: B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 23—24.

**Брэтцар** (Б р э ц а р) Якуб (23.7. 1690, Вял. Польшча—11.8.1733), жывапісец. У 1712 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. Працаваў над аздабленнем езуіцкіх святынь. У 1714—15 выканаў выяву св. Андрэя Баболі ў Віленскім касцёле св. Казіміра. Зрабіў размалёўку інтэр'ера слуцкага касцёла Св. Тройцы (1715—17). У 1717—21 размаляваў у Полацку капліцу, стварыў абразы «Распяцце», «Маці Божая», шэраг партрэтаў, у т.л. генералаў ордэна езуітаў. У 1721—22 у Менскім касцёле езуітаў выканаў паліхромную размалёўку ў сакрысціі і алтар Маці Божай. У 1723—24 працаваў у Нясвіжы, у 1723—24 — у Слуцку. У 1724—26 у Нясвіжскім касцёле Божага Цела займаўся залачэннем алтароў. У Віленскім доме прафесараў у 1726—31 выканаў партрэты генералаў ордэна езуітаў і езуітаў-мучанікаў. У 1731—32 у Віцебску размаляваў карнізы і капітэлі ў езуіцкім касцёле, зрабіў выявы св. Андрэя Баболі і св. Тадэвуша. У 1732—33 жыў у Нясвіжы, памёр у Пінску.

**Бубенька** Таццяна Станіславаўна (н. 8.6.1957, г. Беразіно Мінскай вобл.), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1991). Скончыла Бел. дзярж. ун-т (1980). У 1977—94 працавала ў Ін-це гісторыі НАН Беларусі. У 1994—98 заг. сектара аховы помнікаў і археалогіі Віцебскага гарвыканкома. З 1998 дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Віцебскага ун-та, з 2003 дэкан факультэта давузаўскай падрыхтоўкі. Даследуе гар. і сельскія паселішчы Беларусі 9—18 ст. Абследавала археал. помнікі ў Баранавіцкім, Бярэзінскім, Віцебскім, Мастоўскім, Пухавіцкім, Чашніцкім р-нах, выявіла больш за 20 новых помнікаў. Праводзіла раскопкі пасада стараж. Клецка (1986), дзяцінца Навагрудка (1991— 92), гарадзішча Камень у Лепельскім р-не (1998). З 1981 даследуе Ніжні замак стараж. Віцебска.

*Тв.*: Стеклянная посуда из Витебска // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Кожаная обувь средневекового Витебска XII—XVIII вв. // Средневековые древности Беларуси. Минск, 1993; Нижний замок — экономический центр Витебска XIV—XVIII в. // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Палітычнае жыццё Віцебска ў XIV—XVIII ст. // Памяць: гісторыка-дакум. хроніка Віцебска. Мінск, 2002. Кн. 1; Кузнечное ремесло средневекового Витебска // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця. Гродна, 2003. Ч. 1; Средневековый Витебск: Посад — Нижний замок (X—первая половина XIV в.). Витебск, 2004; Типология и хронология изразцов Витебского замка 16—18 вв. // Średniowieczne i nowożytne kafle. Regionalizm — podobieństwa — różnice. Białystok, 2007; Усадьба кн. Огинских в Витебске или новые дополнения к «Чертежу» м. Витебска 1664 г. // Актуальные проблемы из исторического прошлого и современности в общественно-гуманитарных и социорелигиоведческих науках Беларуси, ближнего и дальнего зарубежья. Витебск, 2007; Wieża Olgierda w Witebsku — wyniki badań, restauracja i użytkowanie // Zamki, grody, ruiny. Seria architektura obronna. Warszawa; Białystok, 2009. T. 3.

**Буга** (Būga) Казімерас (6.11.1879, в. Пажэге, Зарасайскі р-н, Літва—2.12.1924), літоўскі мовавед. Магістр (1914). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1912), дзе з 1916 працаваў прыват-дацэнтам. У 1917—19 праф. Пермскага, у 1919—20 Томскага, з 1922 Каўнаскага ун-таў. У 1920 працаваў у Міністэрстве асветы. Працы па фанетыцы, марфалогіі, лексікалогіі літ. мовы. Сабраў картатэку літ. слоў (больш за 600 тыс. картак), арганізаваў выданне шматтомнага «Слоўніка літоўскай мовы». Заклаў асновы літ. анамастыкі. Устанавіў законы, паводле якіх літ. імёны перадаюцца ў рус. летапісах. Даказваў балцкае паходжанне імёнаў літ. князёў, адвяргаў пункт погляду, што яны мелі слав. паходжанне. Даследаваў стараж. запазычанні са слав. (у т.л. з беларускай) і германскіх моў у літ. мове. На аснове даследавання гідранімii Беларусі ўстанавіў арэал распаўсюджання балцкіх моў у старажытнасці. Лічыў, што прарадзіма балтаў знаходзілася ў басейне Прыпяці, адкуль яны пад ціскам славян у 6—8 ст. прыйшлі на сучасныя літ. і латвійскія землі. Даследаваў міфалогію балтаў.

*Тв.*: Rinktiniai raštai. T. 1—3. Vilnius, 1958—62.

*Літ.*: М а ж ю л і с В. К.Буга // Вопросы славянского языкознания. М., 1958. Вып. 3; Z i n k e v i č i u s Z. Kalbininkas K.Būga. Kaunas, 1981; K l i m a s A. Kazimieras Būga and the Academic Dictionary of Lithuanian // Lituanus: Lithuanian Quarterly Journal of Arts and Sciences. 1981. № 4.

**Буйвід** Міхал (?—каля 28.10.1598), ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З шляхецкага роду герба ўласнага. У 1589—98 староста рэжыцкі (г. Рэжыца ў Інфлянтах, цяпер г. Рэзекне ў Латвіі; у гіст. даследаваннях Б. часта памылкова называюць старастам рэчыцкім). У 1595 узначальваў шляхецкія войскі ВКЛ, якія супрацьстаялі ўкр. казакам у час *Налівайкі паўстання 1595—96*. На чале атрада ў 1 тыс. коннікаў (наёмныя жаўнеры, прыватныя атрады магнатаў і добраахвотнікі-шляхціцы) Б. 15.12.1595 рушыў з Ігу-



мена пад Магілёў, каб даць бой Налівайку. Непадалёк ад Магілёва каля в. Буйнічы ў снеж. 1595 адбылася *Буйніцкая бітва 1595*, у якой Б. не здолеў разбіць казацкае войска і яно адышло на Быхаў.

*Літ.*: Lulewicz H. Nieformalne zjazdy senatorskie-szlacheckie w Wielkim Księstwie Litewskim na przykładzie wydarzeń z lat 1595—1596: (inwazja S.Nalewajki) // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV—XVIII стагоддзях. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск—Навагрудак, 23—24 ліст. 2007 г.). Мінск, 2008.

**Буйноўскі** Міхал (8.3.1632, Полацкае ваяв.—20.10.1690), дзеяч каталіцкай царквы. У 1646 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1658 ксёндз. Вывучаў рыторыку, філасофію і граматыку ў Віленскай акадэміі (1650—53) і тэалогію ў Тырнаве (1657—60). Праф. граматыкі ва Ужгарадзе (1656), рыторыкі ў Браціславе (1661—62), Нясвіжы (1663—64), Гародні (1664—65), Вільні (1665—68), Варшаве (1668—70), Крожах (1670—72), пенітэнцыярый у базіліцы св. Пятра ў Рыме (1672—83), рэктар калегіумаў у Полацку (1783—88) і Нясвіжы (1689—90). Выдаў кнігі па тэалогіі і аскетыцы «Ранішні абед на падсілак душы» («Ranny obiad na posiłek duszy», 1686), «Дарога да дому вечнасці» («Droga do domu wieczności», Вільня, 1688), «Ratio status eligendi» (Вільня, 1688—89), «Ratio status ecclesiastici stabiliendi» (Вільня, 1690). Выразаў фігуркі святых. У 1681 шукаў у Рыме мастакоў для вял. гетмана ВКЛ М.К.Паца.

**бульба**, шматгадовыя клубняносныя расліны роду паслён сямейства паслёнавых. Больш як 170 дзікарослых і культ. відаў. Радзіма — Паўд. Амерыка. У Еўропу Б. завезена ў сярэдзіне 16 ст., першапачаткова ў Іспанію, Англію. У Рэчы Паспалітай стала вядома ў 17 ст. Лічыцца, што ўпершыню Б. ў краіну завёз кароль польскі і вял. князь літ. Ян III Сабескі пасля перамогі над туркамі ў *Венскай бітве 1683*. Першапачаткова Б. выкарыстоўвалі як лекавую і дэкаратыўную расліну, у якасці палявой культуры пачала масава спажывацца па ўсёй Еўропе з 2-й пал. 18 ст. У якасці экзатычнай стравы Б. з'явілася на магнацкім стале ў Рэчы Паспалітай напрыканцы 17 ст. У кнізе кухмістра кракаўскага ваяводы Станіслава Чарнецкага «Усё пра стравы, альбо Збор страў» згадваецца першы бульбяны прысмак для эліты краіны. Пад назваю «tertofelle» тут хаваецца Б., якую пяклі ў попеле і парэзаную на скрылікі смажылі. Кніга пабачыла свет у 1682 і на працягу 18 ст. неаднаразова перавыдавалася. У Беларусі Б. ўпершыню пачалі вырошчваць на тэр. сучаснай Гродзеншчыны ў час панавання караля польскага і вял. князя літ. Аўгуста III [1736—63]. Але ў гэты час яна вырошчвалася толькі ў каралеўскіх эканоміях нямецкімі каланістамі. Найб. значным бульбаводчым раёнам у канцы 1780-х г. стала тэр. Полацкага намесніцтва. Калі ў 1788 тут было пасеяна ўсяго 7 чвэрцяў Б., а сабрана 21 чвэрць, то праз 2 гады пасеяна 4617 чвэрцяў, а сабрана 18 759 чвэрцяў. На Суражчыне ў гэты час вырошчвалі Б. не толькі на агародах, але і на панскіх палетках. Першапачаткова бел. сялянства ставілася надзвычай недаверліва да гэтай агрыкульт. навацыі, здзяйсняла акты сабатажу, адмаўлялася яе садзіць. Шырока распаўсюдзілася на працягу 19 ст.

*Ігар Марзалюк.*

**Булыка** Аляксандр Мікалаевіч (н. 18.3.1935, в. Селішча Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.), беларускі мовазнавец. Чл.-кар. НАН Беларусі (1994), д-р філалагічных навук (1981), праф. (1992). Скончыў БДУ (1959). Настаўнічаў, з 1962 у Ін-це мовазнаўства АН БССР (з 2008 — Ін-т л-ры і мовазнаўства НАН Беларусі), з 1984 заг. аддзела. Выкладае ў БДУ, Бел. дзярж. педагагічным ун-це. Член Навук. савета «Мова і грамадства» аддзялення мовы і л-ры РАН, навук. сакратар Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі пры НАН Беларусі. Даследуе мову помнікаў стараж. бел. л-ры, старабел. графіку, арфаграфію, фанетыку, марфалогію, лексіку і інш., асаблівасці мовы выданняў Ф.Скарыны, асобных помнікаў старабел. пісьменства — «Троі», «Трыбунала абывацелям Вялікага княства Літоўскага», Статута ВКЛ, актаў Метрыкі ВКЛ. Усебакова даследаваў лексічныя запазычанні бел. мовы, вывучае іх семантыку, этымалогію, спосабы фанетычнай, марфалагічнай і семантычнай адаптацыі. Навук. кіраўнік, рэдактар і сааўтар «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (выдаецца з 1982). Адзін з аўтараў выданняў «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (Мінск, 1970), «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (Мінск, 1979), «Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст.» (Мінск, 1988), «Мова выданняў Францыска Скарыны» (Мінск, 1990), «Скарына і яго эпоха» (Мінск, 1990), «Тэорыя і практыка беларускай тэрміналогіі» (Мінск, 1999), энцыклапедыі «Беларуская мова» (Мінск, 1994). Адзін са складальнікаў хрэстаматыі «Красамоўства ў Беларусі» (Мінск, 2002). Дзярж. прэмія Беларусі (1998).

*Тв.*: Развіццё археаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мінск, 1970; Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мінск, 1972; Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мінск, 1980; Слоўнік іншамоўных слоў. Мінск, 1993 (2 выд. Т. 1—2. 1999); Большой словарь иноязычных слов. М., 2002; Орфографический словарь русского языка. М., 2002; Словарь иноязычных слов: Актуальная лексика. Мінск, 2006.

*Літ.*: Паляшчук Н.В. Аляксандр Мікалаевіч Булыка: (да 70-годдзя з дня нараджэння) // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2005. № 1; Яе ж. Аляксандр Мікалаевіч Булыка: (да 70-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. Мінск, 2005. Вып. 55.

**Бумблаўскас** (Bumblauskas) Альфрэдас (н. 18.11.1956, г. Цяльшай, Літва), літоўскі гісторык. Д-р габілітаваны (2008), праф. (2002). Скончыў Вільнюскі ун-т (1979), дзе з 1979 выкладае, заг. кафедры тэорыі гісторыі і гісторыі культуры (з 1993), дэкан гіст. факультэта (1989—2002), намеснік дэкана (з 2002). Даследуе цывілізацыйныя праблемы ВКЛ, яго гіст. ролю, Рэфармацыю. Быў чл. рады сейма «Саюдзіса», яго намеснік старшыні (1990—92). Набыў папулярнасць дзякуючы ўдзелу ў тэлевізійнай праграме «Гісторыя Літвы» (1988—90), адзін са стваральнікаў праграмы «Таямніцы быцця» (з 1993), за што ўзнагароджаны Нац. прэміяй у галіне культуры і мастацтва (1998). Літ. прэмія Сімонаса Даўканта-



са (1999), Прэмія парламенцкай асамблеі Літвы і Польшчы (2004).

*Тв.*: Dėl Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės civilizacijos pobūdžio // Lietuvos istorijos studijos. Vilnius, 1996. T. 3; The Heritage of the Grand Duchy of Lithuania: perspectives of Historical Consciousness // The Peoples of the Grand Duchy of Lithuania. Vilnius, 2002; Senosios lietuvos istorija 1009—1795. Vilnius, 2005.

**бурса** (ад лац. bursa сумка), 1) інтэрнат у навучальных установах — калегіумах, манастырскіх і брацкіх школах, духоўных семінарыях, дзе жыла моладзь у час навучання. Вылучаліся жорсткай дысцыплінай, якая нагадвала манастырскую. Езуіты крытычна ставіліся да Б., якія патрабавалі для свайго ўтрымання шмат персаналу і сродкаў і аддавалі перавагу таму, каб вучнёўская моладзь жыла і выхоўвалася ў адкрытых установах і дамах. Таму пры сваіх калегіумах адчынялі толькі невял. Б. немаёмных (*бурсы музычныя*). Акадэмічныя Б. існавалі пры Віленскай акадэміі, бо там вучылася шмат моладзі з усяго ВКЛ, заснаваны віленскім біскупам Валерыянам Пратасевічам (1579, т.зв. Валерыянаўская Б.), канонікам Амброзіем Бейнартам (1602, т.зв. Амбразіянская Б. для немаёмных студэнтаў), ашмянскім земскім суддзёй Я.М.Корсакам (1618, прызначалася для 10 студэнтаў з роду Корсакаў і 10 студэнтаў з інш. шляхецкіх родаў), дэканам Жабінскім (1651, музычная Б.). Сродкі на ўтрыманне Б. браліся з даходаў ахвяраваных фундатарамі вёсак, дамоў у гарадах, грашовых сум. Б. для шляхты называліся *канвікты*. 2) Назва пэўнага брацтва, сябрыны, кампаніі.

**бурса музычная**, інтэрнат у езуіцкіх калегіумах у 17—18 ст. Ствараліся для немаёмных студэнтаў, якія былі не ў стане аплочваць пражыванне за ўласныя сродкі. Своеасаблівай «платай» за жыццё ў бурсе быў занятак музыкай. Традыцыйна езуіты ставіліся крытычна да выкарыстання музыкі і спеваў у касцёлах. У пачатковы перыяд сваёй дзейнасці ў ВКЛ яны дапускалі толькі гранне на ўжо існуючых арганах. Аднак пад ціскам вернікаў езуіты пайшлі на больш шырокае ўвядзенне ў сваіх касцёлах музыкі, што было дазволена ўладамі ордэна ў Рыме з умовай, каб духоўнымі спевамі займалася толькі свецкая вучнёўская моладзь. Гэты абавязак быў ускладзены на Б.м., пры якіх таксама арганізоўваліся аркестры. Бурсакі спявалі ў касцёлах, ігралі падчас касцельных, школьных і грамадскіх урачыстасцей, тэатральных пастаноўках навучэнцаў калегіума. У некаторых выпадках выступленні бурсакоў дапускаліся ў інш. касцёлах і пры шляхецкіх дварах. Сярод бурсакоў былі і тыя, што скончылі курс навучання ў калегіуме, але вучыў спевам і музыцы студэнтаў. На чале Б.м. стаяў рэгент (прэфект), якому дапамагаў старшы з бурсакоў. Тэрмін навучання ў бурсе быў звычайна 3 гады, пасля яшчэ 3 гады старэйшыя бурсакі перадавалі свае веды малодшым навучэнцам. Некаторыя з выхаванцаў заставаліся навучэнцамі ў Б.м. і атрымлівалі за сваю працу аплату. Колькасць навучэнцаў у Б.м. звычайна не перавышала дзесятак. Б.м. пры Віленскай акадэміі заснавана ў 1651 дэканам Жабінскім, пры Ковенскім калегіуме — у 1650 П.Шукштам, пры Полацкім калегіуме існавала з 1597, пры Віцебскім — з 1673, пры Нясвіжскім — прыкладна з 1610, пры Берасцейскім — прыкладна з 1630, пры Пінскім — прыкладна з 1645. Вядома Б.м. пры Жыровіцкім манастыры. Б.м. адыгралі вял. ролю ў фарміраванні музычнай культуры ВКЛ.

*Літ.*: Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Минск, 1992; Яе ж. З гісторыі музычнай бурсы пры Віцебскім езуіцкім калегіуме // Віцебскі сшытак. 1995. № 1; Ліхач Т. Музычныя бурсы езуітаў на Беларусі // Мастацтва. 1995. № 6.

**Бурундай**, мангольскі военачальнік 13 ст. Быў адным з гал. цемнікаў хана Батыя. Удзельнічаў у захопе манголамі Волжскай Булгарыі (1236—37). У 1238 армія Б. разбіла войскі кн. Юрыя Усевaладавіча і захапіла Уладзіміра-Суздальскае княства. У 1240 пад камандаваннем Батыя ўдзельнічаў ва ўзяцці Кіева, у 1241 — у еўрапейскім паходзе манголаў. У сярэдзіне 13 ст. Б. быў пастаўлены на месца Курэмсы, якому былі падначалены орды, пагранічныя з Галіцка-Валынскім княствам (з Курэмсою паспяхова змагаўся кн. Даніла Раманавіч). У 1258 Б. узначаліў буйны мангола-татарскі паход на ВКЛ і яго саюзнікаў, да якога прымусіў далучыцца галіцка-валынскіх князёў (Данілу Раманавічу заявіў: «Иду на Литву, оже еси мирен — поиди со мною»). Асабіста Даніла не паехаў, а паслаў з Берасця свайго брата Васільку. Той злучыўся з манголамі, ідаць, пад Навагародкам, пасля яны рушылі ва ўласна Літоўскую і Нальшчанскую землі. На зваротным шляху манголы разрабавалі зямлю яцвягаў і выйшлі да г. Дарагічын. У адказ літ. князі Войшалк і Таўцівіл адваявалі Навагародак і захапілі ў палон кн. Рамана Данілавіча. Цяжкія наступствы паходу Б. адзначае Наўгародскі 1-ы летапіс: «Взяша Татарове всю землю Литовьскую, а самех избиша». Аднак гал. вынікам паходу Б. стала тое, што ардынскай уладзе было падпарадкавана Галіцка-Валынскае княства. Каб замацаваць поспех, у 1259 Б. пайшоў на саму Галіцка-Валынскую зямлю. Даніла Раманавіч паслаў у яго стаўку брата Васільку, сына Льва і холмскага епіскапа Івана з падарункамі. Б. запатрабаваў ад іх, каб былі разбураны ўмацаванні гарадоў Галіцка-Валынскага княства. Шмат іх было разбурана, а ўмацаванні г. Уладзімір спалены. Аднак г. Холм адмовіўся падпарадкавацца Б. і вытрымаў яго аблогу, пасля чаго зімой 1259—60 Б. са сваім войскам і рус. атрадамі пайшоў у польскія землі, дзе схаваўся Даніла Раманавіч, ваяваў Люблін, Завіхост, Сандамір, Лесць.

**Бурхард фон Швандэн** (Burchard von Schwanden, ?—ліп. 1304, або 1309, або 1310), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1282(або 1283)—1290. Паходзіў з заможнай мяшчанскай сям'і з Берна. У ордэн уступіў не пазней за 1270. У 1275 стаў комтурам канвента Кёніц (Хойніцэ), у 1277 — комтурам Цюрынгіі і Саксоніі. У 1287 літвіны нанеслі паражэнне ордэну ў бітве пад Рыгай, дзе загінуў і прускі магістр ордэна. Каб выправіць становішча, Б.ф.Ш. сабраў вял. войска ў Швабіі і Франконіі і на яго чале прыбыў у 1287 у Прусію. Быў ажыццёўлены новы адм. падзел у Прусіі і Лівоніі. Новапрызначаны




Бурхард фон Швандэн.

прускі магістр Майнгарт фон Кверфурт заснаваў наднёманскі замак Рагнета, які стаў апорай крыжакоў пры захопе Жамойці. Б.ф.Ш. выйшаў з Тэўтонскага ордэна падчас баявых дзеянняў у Палесціне і далучыўся да ордэна іаанітаў.

**Бусаў** (Bussow) Конрад (каля 1550, Ільтэн каля Гановера—1617), ваенны дзеяч, мемуарыст. Атрымаў добрую адукацыю і ваенны вопыт. З 1569 жыў у Інфлянтах, магчыма, знаходзіўся на службе ў караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта III. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* перайшоў на шведскі бок. Быў прызначаны герцагам Карлам (будучы кароль Карл IX) рэвізорам інфлянцкіх замкаў, захопленых шведамі ў Рэчы Паспалітай, у 1601 — камендантам замкаў Марыенбург і Нойгаўзен. Вёў тайныя перагаворы з рас. уладамі, абяцаючы перадаць ім гарады Марыенбург і Нарву. Пасля таго як гэта не атрымалася, у 1601 перасяліўся ў Маскву. Служыў цару Барысу Гадунову, потым Ілжэдзмітрыю І, Васілю Шуйскаму. У 1606 перайшоў на бок І.Балотнікава і выехаў у Калугу. Падтрымаў Ілжэдзмітрыя II. Пасля яго гібелі ў 1611 далучыўся да войска караля польскага і вялікага князя літ. Жыгімонта III пад Смаленскам, потым дзейнічаў у Маскве. У канцы 1611 выехаў у Рыгу, потым жыў у Германіі. Памёр у г. Любек. У 1612—13 напісаў на нямецкай мове «Маскоўскую хроніку», якая першапачаткова ахоплівала падзеі ад смерці цара Івана IV у 1584 да 1611. Пасля тэкст быў дапоўнены аўтарам звесткамі да заключэння Стаўбоўскага міра 1617. Хроніка — важная крыніца па гісторыі Смуты, *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. Б. паведамляе шмат важных фактаў пра Лжэдзмітрыя I і Лжэдзмітрыя II, які, паводле звестак Б., першапачаткова быў служкай у папа і школьным настаўнікам у Шклове і Магілёве. З-за адсутнасці сродкаў і недобразычлівых адносін да яго Б. не змог апублікаваць свой твор. Шмат звестак з яго апублікаў пад сваім імем швед П.*Петрэй дэ Эрлезунда*. У перакладзе на рус. мову ўпершыню выдадзена М.Г.Устралавым у 1831 («Сказания современников о Димитрии Самозванце», ч. 1).

*Тв.*: Московская хроника, 1584—1613. М.; Ленинград, 1961.

**Бусяжская Успенская царква.** Пабудавана ў 1779 у в. Бусяж у Слонімскім пав. (цяпер у Івацэвіцкім р-не, Рэспубліка Беларусь) як уніяцкая. Мураваны 1-нефавы храм. Прамавугольны ў плане асн. аб'ём перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, накрыты 2-схільным дахам з атыкавымі франтонамі на тарцах, да яго прымыкае невял. прамавугольная апсіда. Сцены расчлянёны слаістымі пілястрамі. Вокны з лучковымі завяршэннямі. Гал. фасад 2-ярусны, верхні ярус — фігурны франтон, завершаны гранёнай вежачкай. Над парталам гал. ўвахода лучковае акно, сіметрычна якому размешчаны 2 глыбокія нішы, завершаныя конхамі. Хоры над уваходам абрамлены аркай з 3-лопасцевым завяршэннем.

**Бут** Грыгорый (Грыцко), казацкі палкоўнік, удзельнік *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Летам 1648 атрад Б. ў складзе 15 харугваў, «у адных да 500 людзей, у іншых меней», знаходзіўся ў наваколлях Брагіна. Напрыканцы верасня гэтага ж года Б. разам з атрадам Ф.Гаркушы рушыў з-пад Брагіна на Мазыр, адтуль водным шляхам на Петрыкавічы, далей на Глуск і ў першай палове кастрычніка дасягнуў Бабруйска. Пасля авалодання Бабруйскам, у другой палове кастр.—пачатку ліст. 1648 Б. быў накіраваны да Свіслачы для авалодання мясц. замкам. 6.12.1648 атрад Б. захапіў Ігумен. Відаць, 9.12.1648 накіраваўся да Быхава на злучэнне з атрадам Гаркушы, пасля чаго адышоў ва Украіну. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.*: Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. Киев, 1965; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: очерки рус.-бел. связей второй половины XVI — XVII в. Минск, 1978.

***Сяргей Чаропка.***

**Бутаўт** (у каталіцтве Генрык; каля 1346—пасля 1381), князь. Сын вял. князя літ. *Кейстута* і *Біруты*. Валодаў г. Дарагічын на Падляшшы. У ліп. 1365 пасля адной з ваенных выправаў не вярнуўся дадому, а з'ехаў да крыжакоў у Каралявец, дзе ахрысціўся. На думку М.Космана, з дапамогай крыжакоў Б. меркаваў захапіць уладу ў ВКЛ. Потым Б. выехаў да імператара Карла IV у Прагу, дзе пражыў рэшту жыцця. У лют. 1381 да яго збег з ВКЛ з-пад апекі Кейстута сын *Вайдут*. Б. быў пахаваны ў Празе ў аўгусцінскім касцёле св. Фамы.

*Літ.*: Kosman M. Orzeł i Pogoń: z dziejów polsko-litewskich XIV—XX w. Warszawa, 1992; Rowell S.C. Unexpected Contacts: Lithuanians at Western Courts, c. 1316—c. 1400 // English Historical Rewiev. 1996. № 111; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Бухавіцкі кляштар дамініканцаў.** Заснаваны ў 1674 пісарам дэкрэтавым ВКЛ, войскім гарадзенскім Казімірам Пухальскім у в. Бухавічы ў Берасцейскім пав. (цяпер у Кобрынскім р-не, Рэспубліка Беларусь). Фундуш зацверджаны соймавай канстытуцыяй 1690. Касцёл св. Дамініка ў стылі барока пабудаваны ў канцы 17 ст. Мураваны 1-нефавы храм меў прамавугольны ў плане асн. аб'ём, да яго з усх. боку прымыкала невял. прамавугольная ап-



сіда з сакрысціяй. Вуглы асн. аб'ёму і апсіды ўмацаваны контрфорсамі. Да гал. фасада прыбудавана 2-ярусная вежа-званіца, праз якую вядзе гал. ўваход. Фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі, апяразаны карнізам простага профілю. Уваход фланкіруюць 2 пілоны з паўкруглымі нішамі. У 1832 кляштар зачынены. Касцёл быў перароблены пад правасл. Пакроўскую царкву, надбудаваны 3-і ярус званіцы, зроблена 8-гранная вежачка над алтаром.

*Літ.*: Wołyniak [Giżycki J.M.]. Siedziba bazylianów w Torokaniach. Kraków, 1906. S. 9.

**Буценас** (Butėnas) Домас (н. 9.4. 1926, г. Чыкага, ЗША), літоўскі гісторык, архівіст. Канд. гіст. навук (1976). Нарадзіўся ў сям'і эмігрантаў, якая з 1932 жыла ў Літве. Скончыў Вільнюскі ун-т (1952). У 1957—99 працаваў у Цэнтр. дзярж. гіст. архіве ЛітССР (з 1990 Архіў гісторыі Літ. дзяржавы), яго дырэктар у 1962—87, адначасова ў 1971—91 выкладаў у Вільнюскім ун-це. Працы па гісторыі дворнай чэлядзі ў ВКЛ у 16—17 ст., магнацкіх родаў, архівістыцы. Аўтар «Гістарычнага нарыса дзяржаўных і грамадскіх устаноў Вялікага княства Літоўскага XIII—XVIII стагоддзяў» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes valstybiniu ir visuomeninių institucijų istorijos bruožai XIII—XVIII amžiuje», Вільнюс, 1997). Адказны рэдактар і адзін з аўтараў даведніка па фондах Цэнтр. дзярж. гіст. архіва Літвы («Lietuvos centrinio valstybinio istorijos archyvo fondy žinynas», Вільнюс, 1990). Склаў вопіс дакументаў фонду Сапегаў у гэтым архіве «Дакументы роду Сапегаў: апісанне фонду F. № 1292» («Sapiegų giminės dokumentai: Fondo aprašas F. Nr. 1292». Vilnius, 1995). Удзельнічаў у выданні зборніка дакументаў аб заснаванні Віленскай акадэміі («Academia et universitas Vilnensis», Вільнюс, 1979; «Academia et Universitas Vilnensis: Vilniaus universiteto steigimo dokumentai», Вільнюс, 2004).

*Тв.*: Вопросы фондирования документов Великого княжества Литовского в каталоге И.Спрогиса // Материалы межреспубликанской научной конференции по источниковедению и историографии народов прибалтийских республик Союза ССР: источниковедение. Вильнюс, 1978.

*Літ.*: Tautvaišaitė L. Istorikui ir archyvistui Domai Butėnui — 75 metai // Lietuvos istorijos metraštis, 2001 metai. Vilnius, 2002. T. 1.

**Бучынскі** (Бучинський) Багдан (Юзаф) Мелітонавіч (27.11.1883, г. Станіслаў, Аўстра-Венгрыя, цяпер Івана-Франкоўск, Украіна—15.7.1907), украінскі гісторык. У 1901—02 вучыўся ў Пражскім, у 1902—06 — Львоўскім ун-тах. Даследаваў гісторыю ВКЛ 15—16 ст., працэс заключэння царк. уніі ў 15—16 ст.

*Тв.*: Нові праці до історії Великого князівства Литовського в XV віці // Записки Наукового товариства імени Шевченка. Львів, 1907. Т. 75. Кн. 1; Кілька причинків до часів великого князя Свитригайла (1430—1433) // Там жа. Т. 76. Кн. 2; Студії з історії церковної унії // Там жа. 1908. Т. 85. Кн. 5; Т. 86. Кн. 6; 1909. Т. 88. Кн. 2; Т. 90. Кн. 4; Початки політичної карієри Остафія Дашковича // Там жа. 1913. Т. 113. Кн. 1; Сліди великоруських літературних творів про фльорентійську унію та урядового акту московського правительства в «Історії фльорентійського собору» 1598 року // Там жа. 1913. Т. 115. Кн. 3; Змагання до унії руської церкви з Римом в роках 1498—1506 // Записскі Українського наукового товариства у Києві. Київ, 1909. Кн. 4—6; «Грамота Мисаїла» і «Грамота Ніфонта» // Там жа. Кн. 13.

*Літ.*: Грушевський М. Богдан Бучинський: посмертна згадка // Грушевський М. Твори: У 50 т. Львів, 2007. Т. 8.

**Былёўскі** Язэп, разьбяр па дрэве 18 ст. У 1754—55 удзельнічаў у аздабленні касцёла бернардзінцаў у Берасці: выканаў паводле ўласнага эскіза 2 алтары, амбон, статую св. Францішка для саду і інш.

**Быстрань** (Bystroń) Ян (13.6.1860, в. Датыне Дольне, Цешынская Сілезія—30.6.1902), польскі мовавед. Бацька Я.С.*Быстраня*. Д-р (1886), чл.-кар. Пазнанскага т-ва аматараў навук (1887), Акадэміі навук ў Кракаве (1894). Паходзіў з сял. сям'і. Скончыў нямецкую гімназію ў Цешыне. У 1881—86 вучыўся ў Кракаўскім, у 1886—87 — у Лейпцыгскім ун-тах. Выкладаў у гімназіях у Кракаве (1888—89, 1891—1902) і Стрыі (1889—91). Працы па гісторыі польскай, славацкай, нямецкай і літ. моў, этналогіі, фалькларыстыцы. Даследаваў «Катэхізіс» Я.Лядэсьмы ў перакладзе на літ. мову (Вільня, 1605), перавыдаў яго, забяспечыўшы граматычным уступам і слоўнікам («Katechizm Ledesma w przekładzie wschodnio-litewskim. Z wydania wileńskiego z roku 1605, wydał i gramatycznym wstępem i słownikiem opatrzył Jan Bystroń». Кракаў, 1890).

*Тв.*: Przyczynek do bibljografii litewskiej. 1893.

*Літ.*: Biogramy uczonych polskich. Cz. 1, z. 1. Wrocław, 1983.

**Быстрань** (Bystroń) Ян Станіслаў (20.10.1892, г. Кракаў—18.11.1964), польскі сацыёлаг і этнолаг. Сын Я.*Быстраня*. Д-р габілітаваны (1918), чл. Польскай АН (1952). У 1910—14 вучыўся ў Кракаўскім ун-це, у 1912—13 — у Ecole pratiq des Hautes Etudes i ў Сарбоне ў Парыжы. З 1918 прыват-дацэнт Кракаўскага ун-та, з 1919 праф. надзвычайны і заг. кафедры этналогіі і этнаграфіі Пазнанскага ун-та, з 1922 праф. звычайны. У 1925—34 заг. кафедры этналогіі і сацыялогіі Кракаўскага ун-та, у 1934—48 заг. кафедры сацыялогіі Варшаўскага ун-та, адначасова ў 1934—36 узначальваў Дэпартамент універсітэцкай адукацыі Міністэрства рэліг. вызнанняў і публічнай асветы. У час 2-й сусветнай вайны быў зняволены акупантамі, прымаў удзел у тайным навучанні. Чл.-кар. Польскай акадэміі ўмельства (1933), чл. Варшаўскага навук. т-ва (1945), Пазнанскага т-ва аматараў навук (1947), Навук. т-ва ў Львове (1931). Даследаваў гісторыю культуры Польшчы, Рэчы Паспалітай, польскі фальклор, нар. творчасць, антрапаніміку. На падставе аналізу л-ры 16—18 ст. даў шырокую этналагічную панараму паліт., ваеннага, сямейнага і паўсядзённага жыцця Рэчы Паспалітай.

*Тв.*: Człowiek i książka. Warszawa, 1916 (3 wyd. 2003); Nazwiska polskie. Lwów, 1927 (3 wyd. Warszawa, 1993); Bibliografia etnografii polskiej. Kraków, 1929; Polacy w Ziemi Świętej, Syrji i Egipcie, 1147—1914. Kraków, 1929; Dzieje obyczajów w dawnej Polsce. Wiek XVI—XVIII. T. 1—2. Warszawa, 1932—34 (4 wyd. Warszawa, 1993—94); Przysłowia polskie. Kraków, 1933; Typy ludowe J.P.Norblina. Kraków, 1934; Tematy, które mi odradzano: Pisma etnografi-



czne rozproszone. Warszawa, 1980 (змешчана бібліяграфія прац Б.).

*Літ.*: Biogramy uczonych polskich. Cz. 1, z. 1. Wrocław, 1983; Kutrzeba-Pojnarowa A. Jan Stanisław Bystroń (1892— 1964) // Historycy warszawscy ostatnich dwóch stuleci. Warszawa, 1986; Etnografowie i ludoznawcy polscy: Sylwetki, szkice biograficzne. T. 1. Kraków, 2002.

**Быстрыца** (цяпер вёска ў Астравецкім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Віленскім ваяв., на р. Вілія. У 1390 уласнасць караля Ягайлы, дзе ён заснаваў кляштар канонікаў рэгулярных (аўгусцінцаў). У 1391 Ягайла падпарадкаваў Быстрыцкаму касцёлу парафіяльны касцёл у Медніках. У 1398 віленскі біскуп Андрэй сваім тастаментам запісаў Быстрыцкаму касцёлу сукно і грошы. У 1399 папа рымскі Баніфацый IX дазволіў пробашчу Быстрыцкага касцёла карыстацца бенефіцыямі (фундушамі) Віленскага кафедральнага і інш. касцёлаў у Віленскай дыяцэзіі для адбудовы кляштара. У 1407 згадваецца воласць Быстрыца, уласнасць вял. князя літ. Вітаўта, у якой ён падараваў 3 рыбакоў і возера Віленскаму кафедральнаму касцёлу. У 1501 правы патранату над касцёлам у Б. вял. князя літ. і кароль польскі Аляксандр саступіў віленскаму біскупу Войцеху Табару. У 1501—06 Б. — уласнасць Аляксандра, у паселішчы існавала карчма. Каля 1514 двор Б. — уласнасць вял. князя літ. і караля польскага Жыгімонта I, знаходзіўся ў трыманні віленскага ваяводы Мікалая Мікалаевіча Радзівіла, у 1526 — у трыманні віленскага ваяводы Альбрэхта Марцінавіча Гаштольда. У 1526 і 1528 Быстрыцкі кляштар зачынены Жыгімонтам I Старым за злоўжыванні і злачынствы манахаў, касцёлператвораны ў парафіяльны. У 1532, 1533 і 1536 быстрыцкі пробашч, віленскі суфраган д-р Філікс спрачаўся з Радзівіламі аб праве валодання маёнткам Дуды і з князямі Пронскімі аб шкодах касцельнаму маёнтку. У 1536 і 1542 віленскія мяшчане судзіліся з віленскімі ваяводамі аб мыце з плытоў у Б., якое ўвёў да 1522 віленскі ваявода М.М.Радзівіл, у 1542 Жыгімонт I вызваліў мяшчан ад уплаты мыта за прагон плытоў цераз Б. У 1563 быстрыцкі намеснік кн. Ян Баляслававіч Свірскі паведамляў, што ў гаспадарскім двары Б. праводзілася валочная памера. У 1541—59 згадваецца войт горада («места») Б. Андрэй Гроцкі. У 1612 мястэчка, 56 двароў. У 16—18 ст. мястэчка Б. — цэнтр староства ў Віленскім ваяв. Знаходзілася ў валоданні Бжастоўскіх. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. *Герман Брэгер.*

**Быстрыцкі** Марцін (3.5.1692, Мазоўша—4.2.1754), дзеяч каталіцкай царквы, матэматык. У 1710 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1722 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Плоцку (1723—24) і Пултуску (1724—25), філасофіі ў Полацку (1730—33), тэалогіі ў Вільні (1733—35), матэматыкі ў Вільні (1735—37), тэалогіі ў Полацку (1737—38), тэалогіі, кананічнага права і матэматыкі ў Варшаве (1738—41), праф. схаластычнай тэалогіі і дэкан тэалагічнага факультэта Віленскай акадэміі (1741—42), прыдворны місіянер плоцкага біскупа-суфрагана Марціна Залускага (1742—44), прэфект школы (1745—47) і рэгент Папскай семінарыі (1745—49) у Браневе, праф. матэматыкі і прэфект школы ў Гародні (1749—50), віцэ-канцлер Віленскай акадэміі, праф. і дэкан факультэта права (1753—54). Выдаў працу «Гаспадарская геаметрыя» (далучана да яго перакладу кнігі Гора «Зямянская эканомія», якая ў 1744—57 вытрымала 4 выданні).

**Быстрыцкі Крыжаўзвіжанскі касцёл**, помнік архітэктуры 18 ст. Пабудаваны ў стылі барока ў 1760 у в. Быстрыца (цяпер у Астравецкім р-не, Рэспубліка Беларусь). Аднанефавы мураваны храм з 2-вежавым гал. фасадам, накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над 5-граннай апсідай, да якой з Пн прылягае невял. рызніца. Вежы 3-ярусныя. Ніжні ярус вылучаны на гал. фасадзе вязкамі пілястраў, верхнія ярусы скразныя, вуглы скошаны пад 45° і апрацаваны пілястрамі. Лучковы праём увахода аздоблены трохвугольным франтонам. Сцены расчлянёны падвойнымі пілястрамі. Вокны з паўцыркульнымі і арачнымі завяршэннямі. У інтэр'еры перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, апсіда — конхай, сакрысція — крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам крывалінейныя ў плане хоры. Гал. алтар 2-ярусны, з 2 драўлянымі скульптурамі апосталаў, роспіс у выглядзе расліннага арнаменту. *А.Міцянін.*

**Быхаўскае выступленне сялян 1740**. Адбылося ў Быхаўскім старастве з-за злоўжыванняў мясц. адміністрацыі і ўзмацнення рэліг. супярэчнасцей. Выклікана намерам М.Сапегі ператварыць у сваіх уладаннях на Быхаўшчыне правасл. цэрквы ва уніяцкія. Даведаўшыся пра гэта, сяляне і мяшчане мяст. Дашкавічы Ашмянскага пав. ў крас. 1740 збілі уніяцкага святара і выгналі панскую адміністрацыю. Сяляне в. Сідаравічы аб'ядналіся з жыхарамі інш. вёсак і стварылі ўзброены атрад у 200 чал. Узначалілі выступленне сяляне В.Ярашэнка, Г.Бушня, М.Казёл і В.Гетман. 27 крас. ў вёску рушылі быхаўскі намеснік Д.Стахоўскі з 2 святарамі ў суправаджэнні атрада з быхаўскага гарнізона. Каля вёскі сяляне зрабілі засаду і забілі некалькі чалавек, у т.л. Стахоўскага. У маі выступленне падаўлена, 6 сялян забіта, шмат паранена.

**Быхаўская сінагога**. Пабудавана ў сярэдзіне 17 ст. ў стылі позняга рэнесансу ў г. Быхаў. Цэнтрычная мураваная пабудова (20 × 21 м у плане) з элементамі абарончага дойлідства: круглая вежа на паўн.-зах. рагу з лесвіцай унутры, дэкаратыўна-абарончы атык (байніцы пазней замураваны). Накрыта пакатым 4-схільным дахам. Фасады будынка расчлянёны тонкім карнізам на 2 ярусы. У ніжнім ярусе былі прарэзаны прамавугольныя і круглыя байніцы (пазней замураваны). Дэкарыравана простымі карнізамі, неглыбокімі прамавугольнымі нішамі. Вокны з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі размешчаны высока. У інтэр'еры квадратная зала падзелена 4 магутнымі 8-граннымі слупамі на 9 роўных частак, перакрытых скляпеннямі. Паміж сабой слупы ўсярэдзіне злучаны аркамі на 2 узроўнях. Цэнтр. месца займае 2-ярусная трыбуна-біма. У цэнтры ўсх. сцяны алтар у нішы, акаймаванай стукавай лепкай. Ніжні ярус сінагогі мае



паўсферычнае перакрыцце, упрыгожанае стукавым рознакаляровым раслінным арнаментам. Інтэр'еры сінагогі былі багата ўпрыгожаны лепкай з жывёльным і раслінным арнаментам.

**Быхаўцы**, шляхецкі род герба «Магіла». Паходзіў са Смаленскай зямлі, але прозвішча сведчыць, што магчымы родапачынальнік быў ураджэнцам г. Быхаў. У 1510 кароль польскі і вял. князь літ. Жыгімонт І Стары надаў братам Васілю і Ваську Міткавічам Б., смаленскім баярам, 12 незаселеных вёсак у Дарсунішскім пав., а ў 1514, пасля страты Смаленска, дадаў Ваську яшчэ 8 вёсак. 3-і брат, каралеўскі дваранін Андрэй Міткавіч Б., у 1536 атрымаў ад Жыгімонта І Старога землі ў Троцкім пав. Прадстаўнікі рода ў 1-й пал. 17 ст. займалі пасады троцкіх намесніка, пісара гродскага, падсудка, былі дэпутатамі Трыбунала ВКЛ ад Троцкага ваяв. У 17 ст. валодалі маёнткамі ў Менскім ваяв., Гарадзенскім, Троцкім і Лідскім пав. З 1676 валодалі маёнткам Лыскава з аднайменным мястэчкам і воласцю і Магілёўцы ў Ваўкавыскім пав. З родам Б. звязана адкрыццё ў палацавай б-цы ў Магілёўцах у 1820-х г. Хронікі Быхаўца. Найб. вядомыя:

Базыль (?—1653), віленскі гродскі пісар у 1623—32. Валодаў маёнткамі Таўкачэвічы, Шацк, Грэбені, Дудзічы з в. Церабелі, Сяргеевічы і Кабылічы, Бакшты, Сідаровічы ў Менскім ваяв., Каралёў Мост у Гарадзенскім пав., Падаўгі ў Троцкім пав., Глыбокае з в. Раганічы, Галоўцы, Ляхаўцы і Савічы ў Лідскім пав. Памёр бяздзетны. Меў братоў Януша (?—1622) і Аляксандра Пракопа (?—1646), апякун іх дзяцей.

Самуэль Дабрагост Банавентура (?—3.10.1709), сын Яна Янушавіча. Падчашы менскі (1676), староста люцынскі (1678). Заснавальнік Лыскаўскага маёнтка ў Ваўкавыскім пав., дзе заклаў паперню. Валодаў дваром у Гародні па вул. Залатарскай. Жанаты з Крысцінай Дэнгаф, кашталянкай віцебскай. Меў сыноў Яна, Уладзіслава, Людвіка і Міхаіла.

Ян Казімір (?—1754), сын Самуэля Дабрагоста Банавентуры. Ксёндз, канцлер Віленскай дыяцэзіі, воўпаўскі і лыскаўскі пробашч. Валодаў у Ваўкавыскім пав. часткай Лыскава, спадчынай па бацьках, і маёнткам Одла (Плябанаўцы) у Гарадзенскім пав., нададзенага Віленскай капітулай. У 1753 пры парафіяльным касцёле ў Лыскаве заснаваў кляштар місіянераў.

Людвік (?—1734), сын Самуэля Дабрагоста Банавентуры. Пісар скарбовы ВКЛ у 1720—34. Валодаў маёнткам Нядзьвецк і часткай Лыскава ў Ваўкавыскім пав. У шлюбе з Людвікай Тызенгаўз. Меў дачку Разалію (жонка Дамініка Антонія Сухадольскага, пісара гродскага ваўкавыскага).

Уладзіслаў Тадэвуш (?— 10.8.1761), сын Самуэля Дабрагоста Банавентуры. Падчашы менскі ў 1714—26, суддзя Трыбунала ВКЛ (1714, 1736), староста люцынскі (1718), ваўкавыскі стольнік (1726), суддзя гродскі (1727—36), падстароста (1738—40), суддзя земскі (1740—61). Валодаў маёнткам Раневічы і часткай Лыскава з Магілёўцамі ў Ваўкавыскім пав. У шлюбе з Галенай Біспінг, суддзянкай земскай старадубскай, меў сына Яна, у шлюбе з Марыянай Нінеўскай — сына Ігната і дачок Тэрэзу, Іагану і Францішку.

Ян Мікалай (?—пасля 1769), сын Уладзіслава Тадэвуша. Ваўкавыскі суддзя земскі (1758), пасол і суддзя гродскі (1764), падкаморы (1765), маршалак (1769). Уладальнік маёнтка Лыскава.

Юзаф Уладзіслаў (?—пасля 1793), сын Ігната. Шамбялян караля польскага і вял. князя літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага, з 1793 апошні крайчы ВКЛ.

*Літ.*: Paprocki B. Herby rycerstwa polskiego 1584. Kraków, 1858; Boniecki A. Herbarz polski. T. 2. Warszawa, 1899; Шаланда А. Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павету ў другой палове XVI—XVIII стст. // Герольд Litherland. 2004. №3—4.

***Генадзь Семянчук.***

**Быценская капліца**, помнік архітэктуры 2-й пал. 17 ст. Пабудавана ў стылі барока ў в. Быцень (цяпер у Івацэвіцкім р-не, Рэспубліка Беларусь) пры *Быценскім Успенскім манастыры*. Прамавугольны ў плане 3-нефавы мураваны будынак накрыты вальмавым дахам з галоўкай на 8-гранным барабане ў цэнтры. Сцены апрацаваны шырокімі пілястрамі і плоскімі прамавугольнымі нішамі. Аконныя праёмы маюць паўцыркульныя арачныя завяршэнні. Цэнтр. неф значна шырэйшы за бакавыя, перакрыты цыліндрычным скляпеннем.

**Бянклеўскі** Ануфрый Гневамір (?—пасля 1790), палітычны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Наленч», які з Добжынскай зямлі перанёсся ў Берасцейскі і Пінскі пав. Бянклеўскія не падтрымалі абранне на трон у 1768 Станіслава Аўгуста Панятоўскага і далучыліся да варожай яму *Барскай канфедэрацыі*. Б. быў старастам ляхавіцкім. 24.9.1768 у лесе пад Пружанамі сканфедэраваная шляхта Берасцейскага пав. абрала Б. сваім маршалкам. Атрад Б. пацярпеў паражэнні ад рас. войск у баях пад Зэльвай і Дзярэчынам і адышоў у Нясвіж, які пазней быў аблажаны рас. войскамі. Б. разам з іншымі маршалкамі Барскай канфедэрацыі быў вымушаны падпісаць адмову ад удзелу ў канфедэрацыі, пасля чаго яму было дазволена з'ехаць у Прусію. У 1769 выехаў да канфедэратаў у Славакію, пасля рушыў у ВКЛ зноў уздымаць шляхту на барацьбу з Панятоўскім і рас. войскамі. Па дарозе ў Польшчы на чале невял. атрада даў некалькі баёў, дайшоў да Беластока. Пасварыўся з кіраўніцтвам Барскай канфедэрацыі — Генеральнасцю, якая нават прыгаварыла Б. да смяротнага пакарання. У 1770 атрад Б. зноў імкнуўся прарвацца ў ВКЛ, да вясны 1771 дзейнічаў на Падляшшы. На пераломе 1771—72 у складзе атрада канфедэратаў увайшоў у ВКЛ, у баі пад Дарашэвічамі над Прыпяццю 2.2.1772 трапіў у рас. палон. У 1773 жыў у няволі ў Сібіры, пасля быў вызвалены. Паводле звестак Е.Кітовіча, Б. хутка памёр у нястачы, але У.Канапчынскі даводзіў, што Б. гаспадарыў у сваім маёнтку прынамсі да 1790.

**Бярзанскі** Міхал (3.6.1691, Жамойць—29.3.1736), дзеяч каталіцкай царквы. У 1709 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1721 ксёндз. Праф. рыторыкі



ў Віленскай акадэміі (1722—23) і Крожах (1723—26), прапаведнік і прэфект школы ў Крожах (1727—28), місіянер у Ворнях (1728—29), рэктар калегіума ў Пашаўшы (1735—36). У Пашаўскім касцёле паставіў алтар св. Францыска Ксаверыя. Выдаў кнігу «Flaminia universae Romae» (Вільня, 1723).

**Бяркоўскі** Мікалай (каля 1350—1414), віленскі біскуп, гл. *Гашкоўскі* М.

**Бярозаўскі павет**, адм.-тэр. адзінка. Цэнтр — г. *Бяроза* (цяпер цэнтр Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл.). Створаны *Гарадзенскім соймам 1793* у складзе *Берасцейскага ваяводства.* У склад Б.п. ўвайшла рэшта *Пінскага павета*, якая пасля 2-га падзелу засталася ў Рэчы Паспалітай, а таксама Бярозаўская, Сялецкая, Сяхновіцкая парафіі Берасцейскага ваяв., Альшэўская парафія Слонімскага пав. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Б.п. далучаны да Рас. імперыі.





**Вадыян** (Vadianus; сапр. Ёахім фон Ват, Joachim von Watt; 29.11.1484, г. Сен-Гален, Швейцарыя—6.4.1551), швейцарскі гуманіст, дзеяч Рэфармацыі, палітык. Паходзіў з багатай сям'і гандляроў і палітыкаў. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Сен-Галене. З 1501 вучыўся ў Венскім ун-це, дзе ў 1508 атрымаў ступень магістра, з 1510 выкладаў на артыстычным факультэце, у 1512 узначаліў кафедру паэтыкі. Набыў вядомасць як аўтар вершаў, прамоў, інш. твораў, выдавец твораў антычных аўтараў. У 1514 атрымаў ад імператара Максіміляна ўзнагароду — вянец і пярсцёнак, стаўшы «каранаваным» паэтам (poeta laureatus). Будучы прафесарам паэтыкі, пачаў вучобу на медычным факультэце. У 1516 выбраны рэктарам Венскага ун-та. У 1518 вярнуўся на радзіму і атрымаў месца гар. медыка. У 1521 увайшоў у Малую раду горада, у 1526 выбраны бургамістрам. В. далучыўся да рэфармацыйнага руху, і вельмі важным кірункам яго дзейнасці зрабілася даследаванне рэлігійных пытанняў, да якіх ён падышоў са сваёй звычайнай грунтоўнасцю. Значным укладам В. ў развіццё гіст. навукі быў пошук і збіранне разнастайных крыніц. Нягледзячы на напружаную грамадскую дзейнасць, В. знаходзіў час, каб працаваць над сваім гал. гіст. творам «Хроніка сен-галенскіх абатаў». Шмат увагі надаваў геаграфіі. Лічыў, што адзінай сапраўднай крыніцай дакладных геаграфічных ведаў з'яўляюцца асабістыя назіранні розных краін і мясцовасцей. Асабіста пабываў у розных гарадах Германіі, Італіі, Венгрыі, Польшчы, Сілезіі. Яго твор «Кароткае апісанне трох частак свету: Азіі, Афрыкі і Еўропы» («Epitome trium terrae partium, Asiae, Africae et Europae», 1534) змяшчае не толькі звесткі іншых (гал. ч. антычных) аўтараў, але і ўласныя ўражанні пад час падарожжаў. У раздзеле, прысвечаным Сарматыі, В. апісвае Усх. Еўропу ад Прычарнамор'я да Балтыкі. Гэты нарыс адрозніваецца ад гіст.-геаграфічных апісанняў інш. нямецкіх гуманістаў 15—16 ст. большай дакладнасцю і грунтоўнасцю. В. займаўся таксама правам, музыкай, матэматыкай, медыцынай і прыродазнаўствам.

*Літ.*: Сынкова І. Агляд Усходняй Еўропы ў творы Іоахіма Вадыяна «Кароткае апісанне трох частак свету: Азіі, Афрыкі і Еўропы» // Бел. археаграфічны штогоднік. Мінск, 2008. Вып. 9; Vadianstudien. Bd. 1—7. 1945—62; Näf W. Vadian und seine Stadt St. Gallen. Bd. 1—2. St.Gallen, 1974. *Ірына Сынкова.*

**важніца**, пабудова ў гарадах ВКЛ, дзе вымяраліся прывезеныя купцамі на продаж збожжа, воск, жалеза і інш. тавары. Вядома з канца 15 ст. Размяшчалася на гандлёвых плошчах, часам блакіравалася з ратушамі і гандлёвымі радамі. Уяўляла сабой аднапавярховы мураваны ці драўляны будынак, накрыты 2- або 4-схільным дахам. Унутры вылучаліся 2 памяшканні: уласна В., дзе захоўваліся гарадскія вага і мера, і «мерніца», дзе ўзважваліся і вымяраліся тавары. Плата за ўзважванне тавараў (важніцкае) была істотнай крыніцай даходаў велікакняжацкага скарбу (у дзярж. гарадах) або гар. скарбу (у гарадах з магдэбургскім правам). У прывілеі Полацку 1510 адзначалася: «Також важницу в месте Полоцком ... мы з ласки нашое ... и для лепшого вспоможенья места нашого Полоцкого придали есмо тую вагу и плат с нее на ратушу». У Клецку ў 18 ст. гандлёвая вага разам з калодай з мерамі, абабітай для прыгажосці жалезным абручом, знаходзілася пад кантролем гар. улад на Рынку; на калодзе былі выразаны ёмістасці ў 1, 0,5, 0,25 і 0,125 карца.

**Вазгірд** Казімір (18.2.1706, Беларусь—5.1.1774), дзеяч каталіцкай царквы. У 1723 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прафесар рыторыкі ў Вільні (1736—37), прапаведнік і прэфект школы ў Гародні (1737—38), прафесар філасофіі ў Вільні (1742—45), прэфект школы і б-кі ў Менску (1745—46), прафесар тэалогіі і кананічнага права ў Полацку (1746—50) і Вільні (1750—53), дэкан тэалагічнага факультэта Віленскай акадэміі (1750—53), рэктар калегіумаў у Крожах (1753—56), Варшаве (1756—60), Гародні (1760—63), Вільні (1763—66), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1766—69). Пакінуў рукапісны курс філасофіі.

*Літ.*: Piečhnik L. Odrodzenie Akademii Wileńskiej, 1730—1773. Rzym, 1990;

Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Вайдыла** (Вайдыт, Вайдала, Вайніла; ?—1382), літоўскі баярын. «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» называе В. «парабкам нявольным, халопам» вял. кн. літ. Альгерда, у якога спачатку быў пекарам, пасля рассцілаў ложак і падаваў яму ваду піць. Альгерд узвысіў В., даў яму ў трыманне Ліду (В. валодаў таксама Дуброўнай). Наступны вял. кн. літ. Ягайла яшчэ больш узвысіў В. і ў 1379 даў яму ў жонкі сваю сястру *Марыю Альгердаўну* (мяркуецца, што шлюб уладкавала маці Ягайлы Ульяна Аляксандраўна). В. ўпамінаецца ў хроніцы Віганда з Марбурга пад 1375, калі быў пасрэднікам пры перагаворах Ягайлы з крыжакамі, як сведка падпісаў трактаты Ягайлы з Лівонскім ордэнам 1379 і 1380. Незадаволены вял. паліт. роляй В., кн. Кейстут загадаў схапіць і павесіць яго, калі на кароткі час захапіў трон ВКЛ у Ягайлы. Калі Ягайла вярнуў сабе трон, то, помсцячы за забойства В., загадаў зняволіць Вітаўта, сына Кейстута, у Крэўскім замку.

*Літ.*: Barwiński B. Pieczęć ruska Wojdyiy z r. 1380: (Przyczynek do sfragistyki litewskiej) // Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne. 1910. T. 2. № 9; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.



Пячатка **Вайдылы**.

**вайна за аўстрыйскую спадчыну 1740—48.** У сувязі з адсутнасцю ў аўстрыйскага імператара Карла VI і яго памерлага старэйшага брата, аўстрыйскага імператара Іосіфа I сыноў, якія маглі быць спадчыннікамі, у 1713 была прынята «Прагматычная санкцыя», згодна з якой у выпадку адсутнасці ў імператара сыноў трон пераходзіў да яго дачок. У выпадку адсутнасці ў Карла VI сыноў трон пераходзіў да дачок Іосіфа I — Марыі Юзефы і Марыі Амаліі і іх мужчынскім і жаночым спадчыннікам па праву першародства. Пасля шлюбу Марыі Юзефы і Марыі Амаліі (адпаведна з саксонскім курфюрстам Аўгустам III і баварскім курфюрстам Карлам Альбертам) яны адмовіліся ад аўстрыйскага трона на карысць дачкі Карла VI Марыі Тэрэзіі. «Прагматычная санкцыя» гарантавала непадзельнасць зямель Габсбургаў. У 1720—24 «Прагматычная санкцыя» была ўхвалена ўсімі землямі Аўстрыйскай манархіі. Санкцыя была апублікавана 6.12.1724 і прызнана ўсімі манархамі Еўропы, за выключэннем Баварыі. 20.10.1740 памёр аўстрыйскі імператар Карл VI. Вайна за яго спадчыну пачалася 16.12.1740 з нападу прускага караля Фрыдрыха II на Сілезію. Прускае войска перамагло аўстрыйскае ў бітве пад Мольвіцам 10.4. 1741. Прусія і Францыя 5.6.1741 падпісалі саюз супраць Аўстрыі. Аўгуст III выношваў планы стаць імператарам ці хоць бы атрымаць частку спадчыны Габсбургаў. Францыя, Прусія і Аўстрыя ціснулі на Саксонію, каб яна заняла іх бок у вайне, якая разгарнулася. Адначасова пры падтрымцы Прусіі і Аўстрыі ў Рэчы Паспалітай рыхтавалася антыкаралеўская канфедэрацыя Патоцкіх, арганізацыі якой ўдала перашкодзіла групоўка «фамілія». У ВКЛ канфедэрацыі ўвогуле не былі створаны. 19.9. 1741 Саксонія далучылася да антыаўстрыйскага саюза (Франкфурцкая унія), які прадугледжваў падзел Аўстрыі. 28.10.1741 Аўгуст III выдаў маніфест, у якім абгрунтаваў свае прэтэнзіі на аўстрыйскую спадчыну і накіраваў саксонскія войскі ў Маравію. Яшчэ адзін прэтэндэнт на імператарскую карону, баварскі курфюрст Карл Альберт пратэставаў супраць «Прагматычнай санкцыі» і заявіў свае правы на спадчыну Габсбургаў. Свае прэтэнзіі на аўстрыйскую спадчыну прад'явіла і Іспанія, якая абгрунтоўвала іх старымі спадчыннымі дамовамі паміж аўстрыйскай і іспанскай галінамі Габсбургаў. Удзел у баявых дзеяннях прынялі неапалітанскі і сардзінскі каралі, кёльнскі і рэйнскі курфюрсты. У вер. 1741 баварскі курфюрст на чале свайго войска і французскага дапаможнага корпуса маршала Бель-Іля напаў на Верхнюю Аўстрыю, якая прызнала яго эрцгерцагам. Далей разам з саксонскімі і прускімі войскамі Карл Альберт захапіў Чэхію (Прага капітулявала 27.11.1741). Вял. дапамогу ў захопе Прагі зрабілі саксонскія войскі, але Аўгуст III не атрымаў ніякіх тэр. набыткаў. Было толькі прынята рашэнне, што Аўгуст III атрымае Маравію пад час новай ваеннай кампаніі ў 1742. На рэйхстагу 24.1. 1742 у Франкфурце-на-Майне баварскі курфюрст Карл Альберт быў абраны імператарам і каранаваны пад імем Карла VII. Адначасова іспанска-неапалітанскае войска напала на аўстрыйскія ўладанні ў Італіі (Ламбардыя, Парма, П'ячэнца і Гуастала). Выратавала Марыю Тэрэзію падтрымка венграў, якія 11.9. 1741 на Прэсбургскім сойме за пэўныя гарантыі самакіравання склікалі апалчэнне. Аўстрыйская армія вызваліла Аўстрыю і ў лют. 1742 увайшла ў Баварыю, якую разрабавала, але праз некаторы час была вымушана адступіць. Інш. аўстрыйскае войска не здолела вызваліць Чэхію. Фрыдрых II, скарыстаўшы занятасць аўстрыйскіх войск, напаў на Маравію. Яшчэ да гэтага ён пераканаў Аўгуста III аддаць пад яго камандаванне і саксонскае войска. Аднак аб'яднанаму пруска-саксонскаму войску не ўдалося ўзяць сталіцу Маравіі Брно. Уся ваенная кампанія ў Маравіі скончылася няўдачай, а пад час адступлення саксонская армія была амаль знішчана. 17.5.1742 прускія войскі атрымалі перамогу ў бітве з аўстрыйскімі пад Хатусіцам.

Рэч Паспалітая захоўвала нейтралітэт у вайне, што адпавядала інтарэсам усіх асн. ігракоў на міжнар. арэне (Расіі, Францыі, Прусіі). Адзінай краінай, якая зрабіла спробу ўцягнуць Рэч Паспалітую ў вайну, была Аўстрыя. 12.5.1742 Марыя Тэрэзія накіравала саслоўям Рэчы Паспалітай ліст з просьбай аказаць дапамогу супраць Прусіі. Гэты ліст быў прыхільна прыняты магнатамі і шляхтай, але Рэч Паспалітая не магла аказаць рэальнай дапамогі ў сітуацыі адсутнасці сойма і моцнай апазіцыі магнацкай групоўкі Патоцкіх, якая прыхільна ставілася да Прусіі. У



1742 нават выношваліся планы стварэння антыкаралеўскай канфедэрацыі Патоцкіх пры падтрымцы Швецыі і Прусіі. Марыя Тэрэзія пры пасрэдніцтве Англіі вырашыла прымірыцца з Фрыдрыхам II, якому згодна з мірным дагаворам у Брэслаўлі (11.6.1742) саступіла Сілезію і Глац. Францыя была вельмі незадаволена сепаратным дагаворам Прусіі з Аўстрыяй. Незадаволена была і Саксонія, войскі якой разам з Прусіяй ваявалі ў Чэхіі, а Аўгуст III нават збіраўся ў новай кампаніі выставіць супраць Аўстрыі 40-тысячнае войска. Саксонія аказалася перад пагрозай атакі Аўстрыі, а войскі — магчымага знішчэння з боку пераўзыходзячых аўстрыйскіх сіл у Чэхіі. Саксонскі ўрад разлічваў у новай сітуацыі, што Францыя ў помсту нападзе на Прусію і тады ў Саксоніі будзе шанц заваяваць Сілезію. Саксонія імкнулася атрымаць у Аўстрыі і частку Сілезіі, якая тэрытарыяльна злучала Саксонію і Рэч Паспалітую, але Аўстрыя рашуча адвергла такую магчымасць. У выніку Саксонія 23.7.1742 далучылася да мірнага дагавора з Аўстрыяй. За пэўныя тэр. саступкі і за англійскія субсідыі заключыла мір і Сардзінія. Не жадаючы ўмацавання Францыі, Англія пагадзілася не толькі выплочваць, як раней, грашовыя субсідыі Аўстрыі, але і пачала ваенныя дзеянні ў яе падтрымку. Англійскае войска разам з гановерскімі і гесенскімі атрадамі сабралася ў Бельгіі. Англійскі флот прымусіў неапалітанскага караля да нейтралітэту. Аўстрыйскія ўладанні ў Італіі былі вызвалены. Аднačасова французскі маршал Бель-Іль з-за супраціўлення быў вымушаны пакінуць Прагу, а ў снеж. 1742 адступіць за р. Эгер. Аўстрыйскія войскі зноў увайшлі ў Баварыю, якая ў маі—чэрв. 1743 была вымушана прынесці прысягу Марыі Тэрэзіі. Англійскае войска разбіла французскую армію маршала Ноайля пры Дэцінгене-на-Майне, у выніку чаго яна адступіла за Рэйн. Пад уплывам поспехаў Марыі Тэрэзіі і англійскіх субсідый Сардзінія і Саксонія далучыліся да саюза з Аўстрыяй (адпаведна 13.9.1743 і 20.12.1743). Прычым перагаворы з Саксоніяй былі найб. складанымі і цягнуліся з пач. 1743. У выніку Аўстрыя пайшла на заключэнне саюза толькі пасля таго, як Саксонія аказала вял. дапамогу ў прымірэнні з Расіяй. У той жа час Аўстрыя не пагадзілася на саступкі на ніводную з саксонскіх просьб аб тэр. набытках. Згодна дагавору Саксоніі і Аўстрыі меркавалася далучыць да яго Расію, Англію і Рэч Паспалітую. Нягледзячы на стараннi Прусіі, у 1743 «фаміліі» ў Рэчы Паспалітай удалося перашкодзіць стварэнню антыкаралеўскіх канфедэрацый Патоцкіх як у Кароне, так і ў ВКЛ. 4.2.1744 Саксоніі ўдалося атрымаць яшчэ адну значную дыпламатычную перамогу і заключаць саюз з Расіяй. Згодна яму, абедзве дзяржавы абяцалі ў выпадку нападзення дасляць на вайсковую дапамогу: Расія — 4 тыс. кавалерыі і 8 тыс. пяхоты, а Саксонія — 3 тыс. кавалерыі і 5 тыс. пяхоты. Акрамя таго, планавалася далучыць да саюза і Рэч Паспалітую. Англійскі флот паспяхова атакаваў французскі ўвесну 1744, а аўстрыйская армія перайшла Рэйн і напала на Эльзас. Аўстрыйскаму наступленню перашкодзіла Прусія, якая парушыла мірны дагавор і 5.6. 1744 далучылася да Франкфурцкай уніі з Баварыяй, Рэйнам, Гесен-Каселем і Францыяй. Прусія ўмацавала свае пазіцыі і саюзным дагаворам з Расіяй. Перагаворы паміж Расіяй і Прусіяй пачаліся яшчэ ў жн. 1742 і скончыліся толькі ў канцы 1742. Гал. мэтай Фрыдрыха II было ўключэнне ў дагавор пункта, які б зацвярджаў Сілезію і Глац за Прусіяй. Рас. імператрыца Лізавета Пятроўна, заключаючы дагавор, пазбягала магчымай дапамогі Прусіі прадстаўнікам звергнутай Брауншвейгскай дынастыі. У выніку 27.3. 1743 быў падпісаны саюзны дагавор паміж Расіяй і Прусіяй. Расія не прызнавала за Фрыдрыхам II Сілезію і Глац, але ў тытулатуры называла яго ўладаром Сілезіі, Глаца, Юліха і Берга. Аднačасова рас. ўрад даў згоду далучыцца да Брэслаўскага дагавора, што і было зроблена 12.11.1743. Згодна дагавору Расіі і Прусіі, абедзве дзяржавы ў выпадку вайны абяцалі ўзаемную ваенную дапамогу ў 3 тыс. пяхоты і 2 тыс. кавалерыі. Саксонскі двор зразумеў, што яго гал. супернікам стала захапіўшая Сілезію Прусія, а не Аўстрыя. У выніку Саксонія 13.5.1744 заключыла саюзны дагавор з Аўстрыяй. У сваю чаргу, Фрыдрых II запатрабаваў у Аўгуста III права вольнага праходу прускіх войск, бо яны ідуць у Чэхію на дапамогу імператару. Фрыдрых II не дачакаўся адказу Аўгуста III і 11.8.1744 увайшоў у Саксонію. Амаль аднačасова з'явіліся планы стварэння антыкаралеўскіх канфедэрацый у Рэчы Паспалітай пры падтрымцы Францыі і Прусіі. 4 пруская арміі хутка прайшлі праз Саксонію, якая была не ў стане перашкодзіць ім. 23.8.1744 прускія войскі напалі на Чэхію і 16.9.1744 захапілі Прагу. Гэта прымусіла аўстрыйцаў не толькі адступіць ад французскай мяжы, але і з Баварыі. Большасць магнатаў і шляхты Рэчы Паспалітай падтрымлівала Аўгуста III і яго саюзніцу Аўстрыю, але выступала за захаванне Рэччу Паспалітай нейтралітэту. На сойме Рэчы Паспалітай 1744 каралеўскі двор і «фамілія» спрабавалі правесці рэформы, якія б прывялі да павелічэння войска. Аднак з-за прускага і французскага супрацьдзеяння, а таксама адсутнасці рас. падтрымкі, сойм скончыўся безвынікова. У пач. 1745 аўстрыйцы перамаглі баварцаў і французаў пры Амберзе, 15.4.1745 — гесенцаў пры Пфафенгофене. 20.1.1745 памёр Карл VII, а яго сын Максімілян 22.4.1745 у Фюсэне заключыў з Аўстрыяй мір, па якім адмовіўся ад прэтэнзій на імператарскую карону. Францыя бачыла новым кандыдатам на імператарскі трон Аўгуста III, але той разумеў, што супраць гэтага будуць Аўстрыя, Расія і Прусія. Таму Аўгуст III адмовіўся ад сваіх прэтэнзій. 18.5.1745 Аўстрыя заключыла новы дагавор з Саксоніяй. За голас Аўгуста III на карысць мужа Марыі Тэрэзіі Францыска Стэфана Аўстрыя абяцала Саксоніі вузкі калідор з сілезскіх зямель, якім злучаліся Рэч Паспалітая і Саксонія, а Марыя Тэрэзія абяцала трон Рэчы Паспалітай сыну Аўгуста III Ксаверыю. У сваю чаргу, Аўгуст III абяцаў аказаць ваенную дапамогу супраць Прусіі і дамагчыся такой дапамогі ад Рэчы Паспалітай. У выніку 13.9.1745 новым імператарам быў абраны муж Марыі Тэрэзіі Францыск Стэфан пад імем Франца I. 18.1.1745 у Варшаве Саксонія падпісала антыпрускі саюз з Аўстрыяй, Англіяй і Галандыяй. Аўгуст III абяцаў сабраць 50-ты-



сячнае войска на дапамогу абароны Чэхіі ад Прусіі за субсідыі Англіі і Галандыі. За гэта ў выпадку перамогі Саксоніі абяцалі пэўныя тэр. набыткі. У выніку аўстрыйскім войскам разам з 20-тысячным сасконскім корпусам удалося вызваліць ад прускіх войск Чэхію. Паражэнне Прусіі прывяло Аўгуста III да ідэі наступлення ў Сілезіі. Аўстрыйскія і саксонскія войскі накіраваліся на захоп гэтай тэрыторыі. 4.6.1745 прускія войскі пад камандаваннем Фрыдрыха II атрымалі перамогу пад Штрыгау над аб'яднаным аўстрыйска-саксонскім войскам Карла Латарынгскага і Іагана Адольфа Саксен-Вейсенфельса. 23.7.1745 прускія войскі напалі на Саксонію. 30 вер. пад Саорам прускаму войску Фрыдрыха II удалося перамагчы аўстрыйскае войска Карла Латарынгскага. Рас. ўрад на працягу 1745 разглядаў магчымасць аказаць ваенную дапамогу Саксоніі супраць Прусіі. Фрыдрых II, у сваю чаргу, імкнуўся атрымаць рас. войскі на падставе таго, што саксонскія войскі напалі на Сілезію, якая належала Прусіі. Рас. ўрад сцвярджаў, што не прызнае прыналежнасці Сілезіі Прусіі і таму лічыць нападзенне апошняй на Саксонію нічым не абгрунтаваным. Толькі 3.10.1745 было прынята канчатковае рашэнне аб адпраўцы рас. войск на дапамогу Саксоніі. Рас. войскі ў колькасці 50 тыс. салдат павінны былі сабрацца ў Курляндыі і пачаць наступленне вясной 1746. Перашкодзілі гэтым планам мірныя перагаворы Прусіі з Аўстрыяй і Саксоніяй. Пры пасрэдніцтве Англіі Аўстрыя і Саксонія заключылі 25.12.1745 новы мір з Прусіяй, згодна якому Вена зноў прызнала правы Прусіі на Сілезію і Глац. Саксонія была вымушана пайсці на гэтыя перагаворы, бо прускія войскі, каб не даць злучыцца аўстрыйскім і саксонскім войскам, увайшлі ў Лужыцы і 23.11.1745 пры Грос-Генерсдорфе перамаглі саксонцаў. Асн. саксонскія сілы не прынялі ўдзел у гэтай бітве і знаходзіліся непадалёку ад Дрэздэна. Фрыдрых II прыняў рашэнне разграміць саксонскую армію і паслаў супраць яе свае войска пад камандаваннем прынца Леапольда Ангальт-Дэсаў. 15.12.1745 прускія войскі разграмілі саксонскую армію. Аўстрыйскія войскі былі вымушаны адступаць у Чэхію, а прусакі занялі ўсю Саксонію. Гэта прывяло да амаль поўнага яе эканам. вынішчэння.

Вайна мела вял. значэнне для палітыкі каралеўскага двара ў Рэчы Паспалітай. У выніку разрабавання прускімі войскамі Саксоніі Аўгуст III страціў магчымасць выкарыстоўваць значныя фінансавыя сродкі з Саксоніі ў фарміраванні прыдворнай партыі ў Рэчы Паспалітай. Акрамя таго, Аўгусту III прыйшлося больш увагі ўдзяляць справам Саксоніі, каб правесці там неабходныя рэформы дзярж. ладу і атрымаць перавагу ў барацьбе з апазіцыяй яго палітыкі цэнтралізацыі. Са снеж. 1745 Расія і Аўстрыя праводзілі перагаворы аб саюзе, які быў заключаны 2.6.1746 у Пецярбургу. Згодна дагавору, абедзве краіны абавязаліся ў выпадку нападзення выслаць у дапамогу корпус войск, які павінен складацца з 20 тыс. пяхоты і 10 тыс. кавалерыі. Праўда, дагавор не распаўсюджваўся на тэр. Італіі і Персіі і не датычыў Аўстрыі з Францыяй. Згодна дагавору, у выпадку нападзення Прусіі на Аўстрыю, Расію ці Рэч Паспалітую Вена і Пецярбург павінны былі выставіць па 60 тыс. жаўнераў. Абедзве дзяржавы абавязваліся дзейнічаць у Рэчы Паспалітай у згодзе. Садзейнічала збліжэнню Аўстрыі і Расіі імкненне Прусіі заключыць саюз са Швецыяй, што ацэньвалася ў Пецярбургу як умяшальніцтва ў рас. сферу інтарэсаў. 29.5.1747 Швецыя і Прусія заключылі саюзны дагавор, да якога ў снеж. 1747 далучылася Францыя. Нягледзячы на саюз з Аўстрыяй і Расіяй, 21.4.1746 Саксонія падпісала субсідны трактат з Францыяй. Парыж выплаціў 1,5 млн. франкаў за захаванне Саксоніяй нейтралітэту ў вайне. Фактычна Аўгуст III замест актыўнай знешняй палітыкі выбраў фінансавыя сродкі, якія былі неабходны для выплаты кантрыбуцыі Прусіі і аднаўлення Саксоніі.

Ва Усх. і Цэнтр. Еўропе пасля Дрэздэнскага дагавору ўсталяваўся мір. У Італіі і Бельгіі ваенныя дзеянні працягваліся. У 1745 Францыя акупіравала амаль усе аўстрыйскія ўладанні ў Італіі. Генуя разарвала дамоўленасці з Аўстрыяй і перайшла на бок Францыі. Саюзнік Аўстрыі Сардзінія ледзьве ўтрымалася толькі ў П'емонце і Савое. Заключэнне Дрэздэнскага міру дало магчымасць Аўстрыі перакінуць свае войскі ў Італію. 16.6.1746 аўстрыйская армія перамагла французска-іспанскае войска пад П'янчэнцай. 6.9. 1746 была захоплена Генуя, праўда, ужо 5 снеж. паўстаўшыя гараджане вызвалілі горад. Аўстрыйцы і сардзінцы адваявалі ўсе ўладанні ў Італіі і нават увайшлі на кароткі час у Паўд. Францыю. Акрамя таго, удалося адбіць французскае наступленне на П'емонт, але французам удалося вызваліць акружаную Генную (крас.—чэрв. 1747). Французам удалося ўзяць рэванш у Бельгіі, дзе незаконнанароджаны сын Аўгуста II Морыц Саксонскі захапіў фактычна ўсю Бельгію і галандскія крэпасці Берген-ап-Зоам і Маастрыхт. Морыц Саксонскі атрымаў перамогі над войскамі саюзнікаў пад Фантэнуа (12.5.1745), пад Раку (11.10.1746), пры Лафельдзе (2.7.1747). Гэта вымусіла Аўстрыю шукаць міру, нягледзячы на тое, што на яе баку 2.6.1747 стала Расія і выслала сваё войска пад камандаваннем фельдмаршала Ласі да Рэйна. У крас. 1748 пачаўся мірны кангрэс у Аахене, на якім 18.10.1748 заключаны мір. Згодна яму, Аўстрыя саступіла дону Філіпу Іспанскаму герцагствы Парма, П'янчэнца і Гуастала. Рэч Паспалітая не прымала ўдзелу ў вайне, але яе вынікі аказалі значны ўплыў на ўнутрыпаліт. сітуацыю ў дзяржаве. Захоп Прусіяй Сілезіі прывёў да поўнага фіяска планаў каралеўскага двара аб тэр. злучэнні Саксоніі з Рэччу Паспалітай («сілезскім калідорам»). Узмацненне Прусіі ў выніку вайны прывяло да павелічэння колькасці прускіх прыхільнікаў сярод антыкаралеўскай апазіцыі ў Рэчы Паспалітай. Занятасць Аўстрыі змаганнем з прэтэндэнтамі на аўстрыйскую спадчыну прывяла да змяншэння яе зацікаўленасці ў адносінах з Рэччу Паспалітай. У той жа час вайна аказала малы ўплыў на дамініраванне Расіі ў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Соловьев С. Сочинения. Кн. 11. М., 1993; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o sukcesje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Horn D. Saxony in the War of the Austrian Succession // English Historical Review. 1929. T. 44; Zie-



l i ń s k a Z. Walka «Familii» o reforme Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; B r o w n i n g R. The War of the Austrian Succession. New York, 1993; A n d e r s o n M. The War of the Austrian Succession 1740—1748. London; New York, 1995; H a n k e R. Brühl und das Renversement des alliances: Die antipreussusche Aussenpolitik des Dresdener Hofes 1744—1756. Berlin, 2006.

*Андрэй Мацук.*

**Вайна за польскую спадчыну 1733—38,** міжнародны ўзброены канфлікт за дамінаванне ў Рэчы Паспалітай пасля смерці караля Аўгуста II. Праблема польск. спадчыны ўзнікла ў 1725, калі французскі кароль Людовік XV ажаніўся з дачкой б. караля польск. і вял. кн. літ. *Станіслава* Ляшчынскага Марыяй. Гэта дало новы імпульс памкненням Ляшчынскага пры падтрымцы французскай дыпламатыі вярнуцца на трон Рэчы Паспалітай. Вял. падтрымку кандыдатура Ляшчынскага атрымала ў ВКЛ. Тут у апошнія гады панавання Аўгуста II перавагу ва ўнутрыпаліт. жыцці атрымала антыкаралеўская апазіцыя на чале з магнацкімі родамі Пацеяў, Сапегаў, Агінскіх. Ян Казімір Сапега і Крыштаф Урбановіч імкнуліся дамагчыся ад рас. ўрада згоды на кандыдатуру Ляшчынскага. Спадзяванні, што наступным каралём будзе Ляшчынскі, узмацнялі апазіцыйную дзейнасць, апазіцыянеры разам з магнацкім родам Патоцкіх былі ініцыятарамі зрыву апошніх соймаў у час панавання Аўгуста II (1729, 1730, 1732). Смерць Аўгуста II 2.2.1733 паклала пачатак бескаралеўю, змяніла раўнавагу сіл у Рэчы Паспалітай. Часовым кіраўніком краіны стаў адзін з гал. прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага прымас Рэчы Паспалітай Тэадор Патоцкі. Пасля пэўных разваг былая дворская (прыхільная да саксонскай дынастыі) партыя Чартарыйскіх пайшла на супрацоўніцтва з апазіцыйнай двару групоўкай Патоцкіх у справе выбару каралём Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. Катэгарычна супраць яго кандыдатуры выступалі суседзі Рэчы Паспалітай Расія і Аўстрыя. Венскі двор прапаноўваў партугальскага інфанта Эмануіла, але прыхільна ставіўся і да кандыдатуры саксонскага курфюрста Фрыдэрыка Аўгуста. Пецярбургскі двор выступаў за выбар на трон якога-небудзь прыхільнага Расіі «пяста» (сярод магчымых кандыдатаў былі Януш і Міхал Вішнявецкія, Павел Сангушка, Тэадор Любамірскі, Мікалай Фаўстын і Міхал Казімір Радзівілы). Асн. спадзяванні Пецярбург ускладаў на магнатаў ВКЛ. Спецыяльна да трох з іх (Міхала Вішнявецкага, Антонія Казіміра Сапегі і Паўла Сангушкі) былі пасланыя расійскія прадстаўнікі Францішак Дарэўскі і Юры Лівен з лістамі ад імператрыцы Ганны Іаанаўны. Вішнявецкаму і Сангушку яны павінны былі нават прапанаваць рас. падтрымку ў выпадку іх жадання прэтэндаваць на трон Рэчы Паспалітай. Рас. пасол Фрыдэрык Казімір Левенвольдэ намагаўся стварыць канфедэрацыю з былых апазіцыянераў Аўгусту II у ВКЛ (у асноўным з прадстаўнікоў магнацкіх родаў Сапегаў і Агінскіх), але, не атрымаўшы ад іх ніякіх гарантый, адмовіўся ад гэтай ідэі. Сапегі і Агінскія даволі хутка выказаліся за Станіслава Ляшчынскага, бо ўжо даўно адначасова ўтрымлівалі кантакты і з Расіяй, і Францыяй і дзейнічалі ў апошнія гады ў інтарэсах Ляшчынскага. Пры грашовай падтрымцы французскага пасла Антонія Феліксa Манці на канвакацыйным сойме 1733 была створана канфедэрацыя і прынята пастанова аб тым, што будучым каралём павінен быць толькі «пяст» і каталік. Фактычна гэтай пастановай з магчымых кандыдатаў выключаўся саксонскі курфюрст — сын Аўгуста II. Элекцыйны сойм пад кіраўніцтвам прымаса Тэадора Патоцкага, нягледзячы на супраціў некаторых магнатаў і шляхціцаў, абраў 13.9.1733 каралём польскім і вял. кн. літ. Станіслава Ляшчынскага. Яшчэ да элекцыйнага сойма ў жн. 1733 у ВКЛ увайшлі рас. войскі. Расія аспрэчвала легітымнасць выбару Ляшчынскага, спасылаючыся на тое, што пастановамі сойма 1717 ён быў пазбаўлены права прэтэндаваць на карону Рэчы Паспалітай.

Францыя выступіла ў абарону выбару Станіслава Ляшчынскага і аб'явіла вайну Аўстрыі. Гэта фактычна азначала пачатак агульнаеўрапейскага канфлікту. Супраць Ляшчынскага выказалася значная частка магнатаў ВКЛ на чале з канцлерам ВКЛ і рэгіментарам войск ВКЛ Міхалам Вішнявецкім. Другая частка праціўнікаў Ляшчынскага пры фінансавай падтрымцы рас. прадстаўніка Лівена яшчэ ў час перадэлекцыйнага сойміка (14—16.7.1733) стварыла ў Навагародскім ваяв. канфедэрацыю. У выніку шляхта Навагародскага ваяв. не прыняла ўдзелу ў элекцыйным сойме і стала ініцыятарам стварэння канфедэрацыі праціўнікаў Ляшчынскага і выбрання каралём пад імем Аўгуста III саксонскага курфюрста Фрыдэрыка Аўгуста (выбраны 5.10.1733). Напярэдадні выбараў 4.10.1733 да яе далучылася частка магнатаў і шляхты ВКЛ пад кіраўніцтвам Міхала Вішнявецкага, якія пасля адмовы прэтэндаваць на трон кракаўскага кашталяна Януша Вішнявецкага пагадзіліся абраць каралём саксонскага курфюрста. Прыхільнікі Ляшчынскага былі вымушаны адступіць перад пераўзыходзячымі рас. войскамі. Сам Станіслаў Ляшчынскі з большасцю сваіх прыхільнікаў накіраваўся ў Гданьск, дзе спадзяваўся хутчэй атрымаць вайсковую дапамогу Францыі. 23.2.1734 пачалася аблога Гданьска рас. войскамі. 5.3.1734 іх узначаліў фельдмаршал Бурхард Мініх. На дапамогу Гданьску прыбылі толькі каля 2 тыс. французаў і некалькі соцень шведаў. Такой дапамогі ад Францыі было недастаткова. 7.7.1734 Гданьск капітуляваў. Пад час аблогі Гданьска па ўсёй Рэчы Паспалітай ствараліся канфедэрацыі ў абарону Станіслава Ляшчынскага. У ВКЛ першая такая канфедэрацыя была створана шляхтай Ашмянскага пав. Далей канфедэрацкі рух перакінуўся на бліжэйшыя паветы і ваяводствы (11.2.1733 створана канфедэрацыя Лідскага пав.). 5.4.1734 у Вільні створана Генеральная канфедэрацыя ВКЛ у абарону вольнага выбрання Станіслава Ляшчынскага. Яе маршалкам быў абраны віцебскі ваявода Марцыян Міхал *Агінскі*. Асн. сілы канфедэратаў тым часам рушылі з Ашмянскага пав. ў Навагародскае ваяв. і спыніліся пад Карэлічамі. Туды прыбывалі атрады з інш. паветаў. Далучыліся да канфедэратаў і некаторыя часці войска ВКЛ, якія не паслухаліся загаду рэгіментара ВКЛ Міхала Вішнявецкага і падтрымалі Ляшчынскага. У выніку пад Карэлічамі сабраліся значныя сілы канфедэратаў,



якія Марцін *Матушэвіч* ацэньваў у 8 тыс. чал. Баявыя дзеянні вяліся сіламі нязначных атрадаў. Канфедэраты выйгралі некалькі баёў з войскамі ВКЛ і рас. атрадамі — пад Новым Местам, Кадышам, Лунінай, Вільняй (гл. *Віленская бітва 1734*), Слонімам і інш. Гэта не магло паўплываць на агульную сітуацыю ў ВКЛ, і канфедэраты былі вымушаны ўвесь час адступаць ад пераўзыходзячых рас. войск і аддзелаў войск ВКЛ пад камандаваннем Міхала Вішнявецкага, Міхала Казіміра Радзівіла, Мікалая Фаўстына Радзівіла, Багуслава Незабытоўскага. У ліст. 1734 рэгіментар ВКЛ Антоні Пацей (прызначаны Ляшчынскім замест Міхала Вішнявецкага) пад Пружанамі падзяліў гал. сілы канфедэратаў. Сам з конніцай рушыў пад Йохансбург, а пяхота пайшла ў бок Берасця. Ёю камандаваў чашнік ВКЛ Юзаф Шчыт, які, зразумеўшы, што не ўдасца адарвацца ад праследавання з боку 2-тысячнага войска Міхала Казіміра Радзівіла (надворныя харугвы, войска ВКЛ і 300 рас. драгун), вырашыў прыняць бой, акапаўшыся на забалочаным беразе р. Ясельда пад мястэчкам Сялец у Берасцейскім ваяв. *Сялецкая бітва 1734* скончылася поўным разгромам канфедэратаў. Гал. сілы канфедэратаў пад камандаваннем Пацея, ухадзілі ад праследавання рас. войскамі па маршруце: Берасцейскае ваяв.—Пінскі пав.—Навагародскае ваяв.—Менскае ваяв.—Ашмянскі пав.—Віленскае ваяв. У Віленскім ваяв. пазбеглі бітвы з пераўзыходзячымі рас. войскамі, паспеўшы перайсці на другі бераг замерзлай р. Вілія. Пад Прэнамі прымусілі да ўцёкаў рас. атрад і рушылі на З. Там да іх у сак. 1735 далучыліся канфедэрацкія войскі з Валыні. Аб'яднаныя сілы канфедэратаў пасля ўпартай бітвы пад Бортнікамі і пад ціскам пераўзыходзячых войск праціўніка рушылі ў Польшчу. Адсутнасць асн. сіл канфедэратаў не змяніла пазіцыі шляхты ВКЛ і менавіта тут назіраліся найбольшыя выступленні супраць прымірыцельнага сойма Рэчы Паспалітай 1735. Пасля падзення Гданьска і заключэння Францыяй перамір'я колькасць прыхільнікаў Ляшчынскага паменшылася і да наступнага прымірыцельнага сойма 1736 шляхта і вядучыя магнацкія роды ВКЛ прызналі каралём Аўгуста III.

Шмат у чым няўдача прыхільнікаў Ляшчынскага была звязана з тым, што Францыя вяла асн. баявыя дзеянні ў Італіі і Германіі. Для Францыі і яе саюзнікаў удала адбываліся баявыя дзеянні ў Італіі. 25.5.1734 пад Бітонта іспанскія войскі нанеслі паражэнне аўстрыйскім і фактычна ўсталявалі панаванне Іспаніі ў Паўд. Італіі. 29.6.1734 французскія войскі разбілі аўстрыйскія пад Пармай. Аўстрыйцы атрымалі перамогі над французамі ў ліп. 1734 пад Куістэла і 14 вер. пад Сек'яй. У Германіі французскім войскам, нягледзячы на супраціўленне аўстрыйцаў пад камандаваннем Яўгенія Савойскага, удалося ўзяць стратэгічна важную крэпасць Філіпсбург. 5.10.1735 у Вене падпісана перамір'е паміж Францыяй і Аўстрыяй. Канчатковы мір падпісаны ў Вене толькі ў 1738. Францыя прызнала каралём польскім і вял. князем літоўскім Аўгуста III, за Станіславам Ляшчынскім пажыццёва захоўваўся каралеўскі тытул. Ляшчынскаму перадаваліся ў пажыццёвае ўладанне Латарынгія і графства Бар, якія пасля яго смерці далучаліся да Францыі. Аўстрыя адмовілася ад часткі Міланскага герцагства (адышло да Сардзініі) і Каралеўства Абедзвюх Сіцылій (перададзена малодшай галіне іспанскіх Бурбонаў). У Рэчы Паспалітай вайна прывяла да ўзмацнення рас. уплыву.

*Літ.*: Герье В. Борьба за польский престол в 1733 году. М., 1862; Kantecki K. Po zgonie Augusta II // Przewodnik naukowy i literacki. 1877; Яго ж. Stronnictwo saskie w Polsce roku 1733: kilka rysów do charakterystyki ludzi i czasu // Niwa. 1877. T. 11; Яго ж. Stanislaw Poniatowski kasztelan krakowski, ojciec Stanislawa Augusta. T. 1—2. Poznań, 1880; Pamiętnik Tadeusza Ogińskiego // Przegląd Historyczny. 1914. Z. 1; Dygdała J. Dylematy austriackiej polityki wobec Rzeczypospolitej podczas bezkrólewia 1733 roku // Acta Universitatis Nicolai Copernici. Historia. 1993. № 28; Яго ж. Postawa «familii» Czartoryskich w bezkrólewiu 1733 roku z perspektywy Wiednia // Między wielką polityką a szlacheckim partykularzem. Toruń, 1993; Яго ж. Kwestia dysydencka w Rzeczypospolitej doby bezkrolewia 1733 roku // Zapiski Historyczne. 1997. № 1; Яго ж. Saskie próby infiltracji środowisk szlacheckich podczas bezkrólewia 1733 roku // Kwartalnik Historyczny. 2003. Z. 4; Lisek A. Litwini na sejmie elekcyjnym w 1733 roku // Z dziejów XVII i XVIII wieku: Ksiega jubileszowa ofiarowana Profesorowi Michalowi Komaszyńskiemu. Katowice, 1997; Яго ж. Postawa Radziwiłłów w okresie przedostatniego bezkrólewia i w pierwszych miesiacach wojny domowej (1733—1734) // Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003; Sliesoriūnas F. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė 1733—1736 metų tarpuvaldžiu // Lietuvos valstybė XII—XVIII a. Vilnius, 1997; Niedziela R. Pisma polityczne w okresie bezkrólewia i wojny o tron polski po śmierci Augusta II Mocnego (1733—1736). Kraków, 2005.

***Андрэй Мацук.***

**Вайніловіч** Рамуальд (7.2.1714—27.10.1763), дзеяч каталіцкай царквы. У 1729 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў тут філасофію (1732— 35) і тэалогію (1738—42). Прафесар рыторыкі ў Варшаве (1743—44), этыкі ў Вільні (1747—48), філасофіі і этыкі ў Навагародку (1748—51), прэфект школы ў Нясвіжы і місіянер ва Ужанцы (1751—52), прафесар філасофіі ў Нясвіжы (1752—55), прэфект друкарні і шпіталя ў Нясвіжы (1754—55), прафесар схаластычнай і палемічнай тэалогіі ў Полацку (1756—57) і Вільні (1757—58), дэкан філасофскага факультэта Віленскай акадэміі (1757—58), рэктар калегіума ў Менску (1758—63). Быў вядомы як прапаведнік. Выдаў кнігу «Святочныя казанні на ўвесь год» («Kazania swiąteczne na cały rok», Нясвіж, 1756). Пакінуў рукапісны курс філасофіі.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959; Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Валадковіч** (Валадкевіч) Казімір (каля 1621—5.8.1662), дзеяч каталіцкай царквы. З роду *Валадковічаў*. У 1637 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1655—59 місіянер у войску ВКЛ. Аўтар паэмы «Вотыўная ода Каралеве нябеснай лінскай» («Ode votiva Reginae caelorum Lindensi», Кракаў, 1661), у гонар абраза Маці Божай у Святой Ліпцы.

**Валінскі** Ежы (1765?, г. Паставы—28.6.1840), танцоўшчык. Да 1785 прыгонны. Вучыўся ў балетных школах надворнага падскарбія ВКЛ А.Тызенгаўза ў Гародне і Паставах (у Ле Ду). У



1785—94 уваходзіў у трупу «Таварыства танцоўшчыкаў Яго Каралеўскай Мосці» ў Варшаве, удзельнічаў у спектаклях у каралеўскім замку і ў Лазенках, на сцэне Нац. тэатра. Танцаваў сольныя партыі ў балетах «Казакі», «Лукас і Калінета», «Каралева Ванда». Пасля задушэння паўстання 1794 выступаў у спектаклях антрэпрыз С.Галніцкага і К.Аўсінскага ў Варшаве, у 1795 працаваў у Гародне, але ў тым жа годзе вярнуўся ў Варшаву (да 1799 у трупах Трускалясхіх і В.Багуслаўскага, у 1800—23 выкладчык танцаў).

*Літ.*: Барышев Г. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Валконскае княства**, феадальная дзяржава ва Усх. Еўропе, адно з *Вярхоўскіх княстваў*. Канчаткова вылучылася са складу Тарускага княства ў канцы 14 ст. Займала невял. тэр. ў асн. уздоўж правага берага р. Упа (правы прыток Акі) у яе сярэднім цячэнні, распаўсюджвалася на правыя прытокі Упы Валкону, Дубну, Вял. Калодню і дасягала вярхоўя правага прытока Акі — Чарапеці. Аснову княства складала вол. Валкона, з якой да пач. 16 ст. вылучылася вол. Калодна. Некаторы час да В.к. належала вол. Конін уздоўж правага прытока Акі — Вял. Крушмы. Сталіца княства — г. Валкона (цяпер Цімафееўскае гарадзішча). Інш. значныя цэнтры княства — гарады Паўшына (цяпер в. Новае Паўшына) і Конін (в. Спас-Коніна), сёлы Апочня і Супруты. Адпаведна з радаслоўцам 1-й пал. 16 ст. князёў Адзінцэвічаў Валкона была дадзена кн. Юрыем Тарускім (сын кн. Міхайлы Усеваладавіча Чарнігаўскага, які загінуў у Ардзе ў 1246) у вотчыну свайму сыну Івану Тоўстая Галава. Да канца 14 ст. Валкона яшчэ не вылучылася ў самастойнае княства, яе князі насілі тытул «тарускія» і захоўвалі за сабой долі ў г. Таруса. Адпаведна з радаслоўным роспісам князёў Валконскіх, прадстаўленым у Разрадны прыказ у 1686, пасля гібелі ў Кулікоўскай бітве 1380 кн. Фёдара Іванавіча Тарускага (сын Івана Тоўстая Галава) яго сыны Канстанцін, Іван і Фёдар Конінскія перайшлі жыць на Валкону, якая стала цэнтрам княства. Блізкімі сваякамі князёў Валконскіх былі Спажскія, якія пасля гібелі ў 1380 кн. Мсціслава Іванавіча Тарускага (таксама сын Івана Тоўстая Галава) перайшлі ў Паўшына. Апошняе пасля смерці князёў Спажскіх, якія не мелі дзяцей, у пач. 15 ст. перайшло да князёў Валконскіх. Набыццё самастойнасці В.к. супадае з ліквідаваннем суверэнітэту Тарускага княства, ярлык на якое атрымаў ад залатаардынскага хана ў 1392 маскоўскі вял. кн. Васіль І Дзмітрыевіч. Да сярэдзіны 15 ст. большасць князёў Валконскіх служыла ўдзельным маскоўскім князям (напрыклад, кн. І.А.Мажайскаму). У 1445 узяты ў палон у бітве на Сухадрэве кн. конінскі і валконскі Іван Фёдаравіч. Магчыма, пасля гэтага ён перайшоў на службу да вял. князя літ. альбо адразу да яго васала — кн. Ф.Л.Варатынскага. З сярэдзіны 15 ст. і інш. валконскія князі трапілі ў васальную залежнасць ад князёў Варатынскіх (магчыма, ужо ў 1427 хтосьці з князёў Валконскіх служыў кн. Ф.Л.Варатынскаму). Валконскімі былі страчаны долі ў Тарусе і вол. Конін. На службе ў Варатынскіх адзін з Валконскіх упамінаецца ў 1488 нават без княжацкага тытула. Наогул В.к. знаходзілася пад вярхоўнай уладай князёў Варатынскіх. У 1482 і 1486 князі Раман і Міхайла Валконскія атрымалі ад караля польскага і вял. кн. літ. Казіміра падараванні (2 сялы каля Пуціўля і зборы з пуціўльскага мыта). З

ВАЛКОНСКАЕ КНЯСТВА

ТАРУСА — Гарады – сталіцы княстваў
Алексін — Іншыя гарады
Супруты — Сельскія пасяленні
Цэнтры ўдзелаў і княжацкіх уладанняў
Лапасна — Цэнтры валасцей
ВАЛКОНА — Назвы валасцей
Граніцы дзяржаў у сярэдзіне XIV ст.
Граніцы ўдзелаў і далучаных тэрыторый
Граніца Валконскага княства ў пачатку XV ст.
Тэрыторыя Валконскага княства ў сярэдзіне XV ст.
1392 — Гады далучэння тэрыторый да Вялікага княства Маскоўскага

*Лічбамі на карце пазначаны*

1 Любуцк з валасцямі. Каля 1356 г. далучаны да ВКЛ. Паміж 1404 і 1408 гг. належаў Маскве

2 Мітрапаліцкае ўладанне г. Алексін (з 1308-1326). Каля 1390 г. абменена маскоўскім вялікім князем Васіліем I на растоўскую воласць Караш (Святаслаў)

3 "Уезд" Мсціслаў. Былыя тарускія землі. Прыкладна з 1345 г. належалі Маскве. У 1381 г. далучаны да Вялікага княства Разанскага

4 Лапасна. У 1353 г. далучана да Вялікага княства Разанскага

Аўтар В.М.Цемушаў

МАШТАБ 1:1 000 000



ліст. 1491 па сак. 1492 на Валконе знаходзілася крымскае пасольства да Івана III, што ўскосна сведчыць пра залежнасць В.к. ад Масквы. Каля 1496, пасля смерці князёў Дзмітрыя і Сямёна Фёдаравічаў Варатынскіх, валконскія князі разам са сваімі ўладаннямі перайшлі на маскоўскую службу. Валкона разам з Конінам і асобна Калодна пералічаны ў складзе маскоўскіх уладанняў у тастаменце Івана III 1504. Тэр. В.к. адм. была размеркавана паміж Алексіным і Тарусай (цэнтры паветаў), але з прычыны службы большасці князёў Валконскіх маскоўскім князям Старыцкім лічылася часткай іх удзела. У 1-й чвэрці 16 ст. валконскія князі захоўвалі правы даніны і суда ў сваіх уладаннях, а В.к. — вотчынна-княжацкі статус. У княстве існаваў прынцып уладання валасцямі па долях. На працягу 16 ст. В.к. паступова трансфармавалася з удзела ў простую вотчыну служылых князёў. Воласць Валкону князі Валконскія страцілі пасля 1566, калі цар Іван Грозны зрабіў абмен уладанняў кн. Уладзіміра Андрэевіча Старыцкага. Частка валконскіх князёў, пазбаўленых родавых уладанняў, служыла непасрэдна маскоўскаму цару. На маскоўскай службе князі Валконскія ўпамінаюцца з 1515. У 1515 і 1520 Пётр Вярыга-Валконскі хадзіў у паходы на Віцебск. На працягу 16 ст. Валконскія прызначаліся ваяводамі, намеснікамі і галовамі ў паўдн. гарады Рас. дзяржавы (Тула, Дзедзілаў, Чарнігаў, Ліўны, Белгарад).

*Літ.*: Волконская Е.Г. Род князей Волконских. Санкт-Петербург, 1900; Троицкий Н.И. Березовское городище и древний удельный город Волконеск: по раскопкам 2—5 июня 1903 года. Тула, 1904; Шеков А.В. Верховские княжества: (краткий очерк политической истории. XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993.

***Віктар Цемушаў.***

**Валовіч** Марцыян Дамінік (?—5.8. 1712), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Валовічаў*. Мсціслаўскі харужы з 1692, вял. пісар ВКЛ у 1701—03, вял. маршалак ВКЛ з 1704; маршалак Трыбунала ВКЛ 1704, пасол на соймы 1690 і 1693 (двойчы) ад Мсціслаўскага ваяв., 1695 ад Полацкага ваяв., 1696 і 1697 (двойчы) ад Мсціслаўскага ваяв., 1701—02 і 1703 ад Віленскага пав.; удзельнік элекцый (выбараў караля) 1674 і 1697. У снеж. 1693 быў паслом да Яна III Сабескага з маніфестам супраць адкрыцця пасяджэнняў сойма, прынятым прадстаўнікамі розных груповак на нелегальна скліканай правінцыйнай радзе ВКЛ, што выклікала пратэст караля. Дырэктар мсціслаўскага перадканвакацыйнага сойміка 27.7.1696, на якім абраны пaслом. Адзін з лідэраў апазіцыйнай Сапегам групоўкі *рэспубліканцаў*. Актыўна адстойваў ідэю ўраўнавання правоў на элекцыйным сойме 1697: унёс адпаведную прапанову ў першы дзень пасяджэнняў, па яго ініцыятыве створана камісія і зачытаны складзены ёю праект, які быў ухвалены. У канцы 1697—пач. 1698 адзін з арганізатараў паспалітага рушэння на ўсходзе ВКЛ, якое пустошыла маёнткі Сапегаў. Абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ на 1698 ад Мсціслаўскага ваяв. і камісарам для перагавораў з войскам ВКЛ наконт выплаты жалавання, падпісаў Шкудскі трактат 3.3.1698 з войскам Рыгора Антонія *Агінскага*. 3.10. 1698 заняў Магілёўскую эканомію, захапіўшы замак у Магілёве. У канцы 1698 удзельнічаў у паспалітым рушэнні, браў удзел у перагаворах з Сапегамі пад Пузавічамі, якія скончыліся падпісаннем пагаднення 20.12. 1698. Падпісаў *Пузавіцкую пастанову 1698*. На раздвоеным навагародскім грамнічным сойміку 9.2.1699 абраны адным з 2 дырэктараў, падтрыманы большасцю шляхты. Удзельнік мсціслаўскага грамнічнага сойміка 8.2. 1700, які пратэставаў супраць дзейнасці Скарбовага Трыбунала, узначаленага Сапегамі. Дырэктар мсціслаўскага сойміка 20.8. 1700, які ўхваліў паспалітае рушэнне пад выглядам дапамогі Аўгусту II (фактычна — супраць Сапегаў). На чале мсціслаўскай шляхты браў удзел у Ашмянскай 15.10.1700 і *Алькеніцкай 1700* бітвах. Падпісаў *Алькеніцкую пастанову 1700*, якой прызначаны камісарам пры генеральным палкоўніку Міхале Сервацыю *Вішнявецкім* ад Мсціслаўскага ваяв. 24.11.1700 пад яго кіраўніцтвам пад Алькенікамі адбыўся з'езд мсціслаўскага паспалітага рушэння, на якім В. абраны паслом на сойм 1701—02. Дырэктар мсціслаўскага грамнічнага сойміка 7.2.1701. Адзін з ініцыятараў уступлення ВКЛ у *Паўночную вайну 1700—21* на баку Расіі ў 1702. На Віленскім з'ездзе шляхты ВКЛ 1703 абраны ў склад пасольства да караля (фактычна на Мальбарскую вальную раду). Падчас Люблінскага сойма 1703 атрымаў прывілей «з аконцам» на пасаду вял. падскарбія ВКЛ (адабраны ў Бенядзінкта Паўла Сапегі), аднак саступіў яго Людвіку Канстанціну *Пацею* пасля ўмяшальніцтва Агінскага, які прымусіў Пацея адмовіцца на сваю карысць ад урада польнага гетмана. 4.2.1704 атрымаў урад вял. маршалка ВКЛ, якога быў пазбаўлены Аляксандр Павел Сапега. На сойме 1703 атрымаў разам з Пацеем на 2 гады збор падаткаў (мыта і тытунёвай манаполіі). Падпісаў Явораўскі трактат паміж ВКЛ і Расіяй 1703. Прыняў удзел у стварэнні *Сандамірскай канфедэрацыі* 1704. Пасля пераходу Караля Станіслава *Радзівіла* на бок Станіслава Ляшчынскага атрымаў 25.8.1706 ад Аўгуста II Крычаўскае стараства, якое заняў з дапамогай рас. войска. Уваходзіў у склад дэлегацыі, абранай на Львоўскай вальнай радзе 1707 да Пятра I, вёў перагаворы з прадстаўнікамі цара ў Жоўкве. Падчас Люблінскай вальнай рады 1707 абраны дырэктарам правінцыйнай рады ВКЛ. Дырэктар з'езда шляхты ВКЛ у Навагародку 3—19.12.1707, удзельнікі якога прынеслі прысягу на вернасць саюзу з Расіяй. У канцы 1708—пач. 1709 знаходзіўся ў войску Агінскага, якое дзейнічала на Валыні супраць прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага. Напярэдадні прыбыцця на дапамогу Агінскаму рас. корпуса Мікалая Інфлянта ездзіў да кароннага гетмана Адама Мікалая Сяняўскага з прапановай аб'яднаць сілы для сумеснага наступлення. Удзельнік Варшаўскай вальнай рады 1710. Узначаліў пасольства Рэчы Паспалітай у Расію 1710—11, дамогся вываду рас. войск і інш. саступак, чаму спрыяла абвастрэнне адносін Расіі з Асманскай імперыяй.

*Літ.*: Артамонов В.А. Россия и Речь Посполитая после Полтавской победы (1709—1714 гг.). М., 1990; Kamiński A. Konfederacja Sandomierska wobec Rosji w okresie poaltransztadzkim, 1706—1709. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1969; Malec J. Coaequatio iurium stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego z Koroną Polską w 1697 r. // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1979. T. 12; Poraziński J. Malborska rada senatu w 1703 roku // Zapiski



Historyczne. 1979. Z. 2; R a c h u b a A. Sprawa obsady urzędów litewskich po Sapiehach w początkach XVIII wieku // Między wielką polityką a szlacheckim partykularyzmem. Toruń, 1993; S l i e s o r i ū n a s G. Lietuvos Didžioji Kunigaikštyste vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000.

*Зміцер Віцько.*

**Вальбрамчык** Крыштоф (?—пасля 1618), друкар, выдавец. Мяркуецца, што паходзіў з Вольбрама каля Кракава. У 1592 дзейнічаў у Львове. У 1594 у друкарні Віленскай акадэміі надрукаваў 3 каталіцкія кнігі: твор А.Юргевіча «Bellum quinti evangelii in quo contra larvatam harmoniam Genevensium, et fucatum consensum sendomiriensem clarissime ostenditur, nullam esse apud evangelicos nostri temporis, fidei unitatem vel certitudinem», памфлет М.Лашча «Акуляры на люстэрка хрысціянскага набажэнства ў Польшчы» («Okulary na zwierciadło nabożeństwa chrześcijańskiego w Polsce»), твор М.Варэцкага «Брацтва імя Божага ў Вільні пры касцёле Св. Духа, устаноўленае ў 1590 годзе» («Bractwo imienia Bożego w Wilnie przy Kościele S. Ducha pastanowione roku 1590»). Пасля з'ехаў у Львоў, дзе ў 1614—15 выдаў 2 панегірыкі, і ў Замосце, дзе ў 1617—18 кіраваў дзейнасцю друкарні Замойскай акадэміі. займаўся выдавецкай справай каля 2 гадоў. Надрукаваў тут каля 14 выданняў, у т.л. кнігу Э.Сікстуса «Пра цяпліцы ў шкле» (1617), 2 панегірыкі Т.Замойскаму на грэчаскай мове (1617). Далейшы лёс невядомы.

*Літ.*: А н у ш к и н А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 133; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie / Oprac. A.Kawecka-Gryczowa. Wrocław; Kraków, 1959.

**валюшня**, гл. *Фолюш*.

**Валюшэвіч** Томаш Дамінік (21.12. 1747, Жамойць—1800), дзеяч каталіцкай царквы. У 1762 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1771—73 вывучаў тэалогію ў Віленскай акадэміі. Канонік жамойцкі, пробашч пашвітынскі. У 1775 візітатар парафіяльных школ Адукацыйнай камісіі. Пераклаў на польскую мову творы П.Дж.Генры «Навукі дагматычныя і маральныя пра чатыры часткі катэхізіса хрысціянскага» (Вільня, 1777—79), Ф.Фелера «Катэхізіс філасофскі» (Вільня, 1784), А.М.Лігуоры «Казанні, або Гаміліі, нядзельныя» (Варшава, 1783).

**Валянціна** (Валянцініс) Ян Андрэй дэ [каля 1495, Мадэна (Італія) — 20.2. 1547], лекар, дыпламат. Паходзіў з мадэнскіх дваран. У 1515 скончыў ун-т у Ферары, пасля чаго стаў лекарам кардынала Іпаліта I д'Эстэ. У яго світе ў 1518 прыбыў у Польшчу на заключэнне шлюбу паміж Жыгімонтам I і Бонай. У 1520 пасланы кардыналам у Польшчу як лекар каралевы Боны. Тут пасяліўся стала, аднак падтрымліваў шчыльныя кантакты з радзімай. Пасля 1522 стаў святаром. Набыў славу ўмелага лекара і заможную кліентуру. Некаторы час быў лацінскім пісарам у канцылярыі ВКЛ (1539—41). Стаў уплывовым палітыкам, якога падтрымлівала Бона. Выконваў дыпламатычныя даручэнні: у 1537 выязджаў у Ферару і Мантую ў справе выдання замуж каралеўскай дачкі Ізабелы, і інш. Стаў вял. каронным сакратаром. Займаў шмат касцельных пасад, у т.л. быў віленскім канонікам (1533—39) і дэканам (1534—39), пробашчам троцкім (1533—39), канонікам кракаўскім і плоцкім. Памёр і пахаваны ў Кракаве.

*Літ.*: Г р у ш а А.І. Канцылярыя Вялікага княства Літоўскага 40-х гадоў XV—першай паловы XVI ст. Мінск, 2006; P o c i e c h a W. Królowa Bona (1494—1557): Czasy i ludzie Odrodzenia. T. 1—4. Poznań, 1949—58.

**Варгоцкі** Андрэй (каля 1559, каля Перамышля—пасля 1620), дзеяч каталіцкай царквы, перакладчык. У 1577 уступіў у ордэн езуітаў. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. Прафесар ніжэйшага класа ў Пултуску (1578) і Вільні (1579—82), паэтыкі ў Браневе (1582—84), рыторыкі ў Пултуску (1584—85), дыялектыкі ў Вільні (1586—87), прэфект Віленскай духоўнай семінарыі (1587—88), прафесар рыторыкі ў Вільні (1589—91). У 1591 у Вільні выйшаў з ордэна езуітаў, быў прапаведнікам у Варшаве, пробашчам у Бегагніцах каля Новага Сонча, з 1603 служыў пры Мар'яцкім касцёле ў Кракаве. Выдаў палемічныя творы, накіраваныя супраць пратэстантаў. Пераклаў з лацінскай мовы на польскую і выдаў кнігу М.К.Радзівіла Сіроткі «Пэрэгрынацыя» («Peregrynacja albo pielgrzymowanie do Ziemi Świętej», Кракаў, 1607), хоць арыгінал і быў напісаны па-польску. Гэты пераклад выдаваўся таксама ў 1611, 1617, 1628, 1683, 1745 (двойчы), 1847. Перакладаў антычных аўтараў.

*Літ.*: P i e c h n i k L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**Варлаам I** Я с і н с к і [1627—22.8 (2.9).1707], дзеяч праваслаўнай царквы. Вучыўся ў Кіева-Магілянскім калегіуме, Эльблангу, Оламаўцы, Кракаве. Атрымаў ступень д-ра філасофіі. У Кіеў вярнуўся паміж 1660 і 1665. Прыняў манаства ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Магчыма, загадваў мясцовай друкарняй, выкладаў у калегіуме. У 1665—73 ігумен Кіеўскага Богаяўленскага (брацкага) манастыра і рэктар Кіева-Магілянскага калегіума, для аднаўлення якога прыклаў шмат намаганняў. Відаць, у 1673—77 ігумен Кіеўскага Міхайлаўскага Залатаверхага манастыра, з 1680 настаяцель Кіеўскага Пустына-Мікольскага манастыра, з 1683 архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры. Варожа ставіўся да казацкага гетмана І.Самайловіча, пратэставаў супраць абрання кіеўскім мітрапалітам Гедэона Чацвярцінскага. Пасля пераходу Кіеўскай мітраполіі пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату дамогся ў 1688 для Кіева-Пячэрскай лаўры статуса стаўрапігіяльнай (падпарадкоўвалася маскоўскаму патрыярху). У 1690 абраны і пасвячоны ў Маскве ў сан мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і ўсяе Малыя Расіі. Хоць фармальна В. I была падначалена правасл. царква Рэчы Паспалітай, Магілёўская епархія яму не падпарадкоўвалася, і намаганні В.I яе падначаліць былі безвыніковымі. Клапаціўся аб цэрквах, манастырах, развіцці Кіева-Магілянскага калегіума (з 1701 акадэмія). Аўтар казанняў, вершаў, пасланняў, лістоў.

*Літ.*: В о с т о к о в А. Акт избрания Варлаама Ясинского архимандритом Киево-Печерского монастыря // Киевская старина. 1887. № 6—7; Л е в и ц к и й О. Письмо и стихи Варлаама Ясинского // Киевская старина. 1890. № 3; П е т р о в Н.И. Киевская академия во второй половине XVII в. Киев, 1895; М а л е в а н -



с к и й Ф. Киевский митрополит Варлаам Ясинский, 1690—1701 // Киевские епархиальные ведомости. 1897. № 18; Г о л у б е в С.Т. Киевская академия в конце XVII и начале XVIII столетия. Киев, 1901; Из прошлого Киевской епархии: Варлаам Ясинский, митрополит Киевский и Галицкий и Малыя России (1690—1707) // Киевские епархиальные ведомости. Часть неофициальная. 1905. № 12—50.

**Варлаам II** [свецкае Васіль Ванатовіч; каля 1680, г. Яраслаў, Галіцыя—17(28).1.1751], дзеяч праваслаўнай царквы. Вучыўся ў Кіева-Магілянскім калегіуме (1692—1700), Славяна-грэка-лацінскай акадэміі ў Маскве (1701—04). Прыняў манаства, быў обер-іераманахам у рас. флоце. З 1719 архімандрыт Ціхвінскага Успенскага манастыра. У 1722 прызначаны рас. ўладамі на пасаду архіепіскапа кіеўскага, галіцкага і ўсяе Малыя Расіі. Намагаўся вярнуць Кіеўскай епархіі статус мітраполіі. Ажыццяўляў вярхоўную ўладу над правасл. царквой ВКЛ. Вёў спрэчкі з-за царк. маёнткаў з бел. епіскапам Сільвестрам Чацвярцінскім. Быў апанентам Феафана Пракаповіча. У 1730 выкліканы ў Маскву, дзе абвінавачаны ў паліт. нелаяльнасці да рас. ўрада (не адслужыў малебны з выпадку ўзыходжання на трон імператрыцы Ганны Іванаўны), пазбаўлены сана і сасланы ў Кірыла-Белазерскі манастыр. У 1741 вызвалены з вяртаннем архірэйскага сана, аднак адправіўся на спакой у Ціхвінскі манастыр, дзе прыняў схіму і памёр.

*Літ.*: К р ы ж а н о в с к и й Е. Феофан Прокопович и Варлаам Ванатович // Тр. Киевской духовной академии. 1861. № 3; Р ы б а л о в с к и й А. Варлаам Вонатович, архиепископ Киевский, Галицкий и Малыя России // Там жа. 1908. № 5, 7—11.

**Варнянскі Георгіеўскі касцёл.** Пабудаваны ў стылі віленскага барока ў мяст. Варняны Віленскага пав. (цяпер вёска ў Астравецкім р-не). Будаўніцтва пачаў уладальнік мястэчка Е.Абрамовіч (гл. ў арт. *Абрамовічы*) у 1760, завяршыла пасля яго смерці (1767) жонка Марыя. Святыня (2-вежавы 1-нефавы мураваны храм з трансептам) задумана як кампазіцыйная дамінанта унікальнага ансамбля забудовы цэнтра мястэчка. Касцёл размешчаны на падоўжанай планіровачнай восі трапецападобнай плошчы і замыкае яе стэрэаскапічную перспектыву, узмоцненую дыяганальным разваротам пастаўленых па баках касцёла сіметрычных 2-павяховых камяніц, дзе размяшчаліся плябанія і дом аптэкара. Размешчаная перад касцёлам брама раней была ўпрыгожана барочнай скульптурай. На супрацьлеглым зах. баку плошчы знаходзіўся палацава-паркавы комплекс уладальнікаў мястэчка. Асн. акцэнт у ансамблі зроблены на мастацкай распрацоўцы 2-вежавага фасада касцёла, які вызначаецца пластычнасцю і ажурнасцю сілуэта. Заглыбленая цэнтр. частка завершана 2-ярусным



**Варнянскі Георгіеўскі касцёл**.

атыкавым франтонам. Шмат'ярусныя чацверыковыя вежы маюць увагнутую паверхню парсценкаў паміж звязкамі вуглавых пілястраў, што стварае тонкую нюансіроўку падаючых і слізгаючых ценяў. Імклівасць вертыкальных ліній супакойвае мяккі малюнак цякучых абрысаў. Неф касцёла падзелены сістэмай пілястраў і спараных падпружных арак на 2 часткі, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Амаль роўная з нефам па даўжыні прамавугольная апсіда прэсбітэрыя мае аналагічнае скляпенне, але больш інтэнсіўны рытм падпружных арак. Па баках прэсбітэрыя размешчаны нізкія сіметрычныя аб'ёмы, падзеленыя на 2 часткі, у якіх размяшчаюцца капліцы і сакрысціі. Над уваходным памяшканнем, якое злучана з прасторай нефа арачнымі праёмамі, размешчаны арганныя хоры з пластычным хвалістым абрысам агароджы. Інтэр'ер упрыгожвалі пышныя алтары, амбон, лавы і канфесіяналы з ракайльным дэкорам. У гал. алтары знаходзіліся абразы «Узнясенне» і «Св. Ян Непамук» работы вучняў С.Чаховіча, перанесеныя ў Варняны з касцёла св. Казіміра ў Вільні. Пад парогам святыні, пад жалезнай плітой, захавана труна з целам фундатаркі М.Абрамовіч. Касцёл быў рэканструяваны ў 1880 і 1909, у 2-й пал. 20 ст. доўгі час не дзейнічаў, аднаўлены і нанава асвячоны ў 1990 г.

*Літ.*: Г а б р у с ь Т.В. Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001. С. 253—254.

*Тамара Габрусь.*

**Варняны** (цяпер вёска ў Астравецкім р-не, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Віленскім пав. Вядома з 14 ст. У 1391 В. — уласнасць караля польск. Ягайлы, з якога ён даў фундуш касцёлу ў Медніках. У 1397 з дазволу караля віленскі біскуп Андрэй запісаў дзесяціну Віленскаму капітулу з В. У 1423 В. — уласнасць вял. кн. літ. Вітаўта. У 1453 В. — гаспадарская воласць у Немежскім павеце, у якой кароль польск. і вял. кн. літ. Казімір раздаваў землі баярам і шляхце. Да 1462 В. — уласнасць Сангайлы, баярына караля Казіміра, дзе паводле яго тэстаменту ў 1462 яго ўдава Марына заснавала парафіяльны касцёл і запісала яму ў фундуш дзесяціны з В. і інш. сваіх маёнткаў, землі і сялян. У 1502 В. — уласнасць Алены Андрэеўны Даўгірдаўны, удавы кн. Петкі Свірскага. Пасля смерці Алены маёнтак перайшоў да яе сыноў і дачок, а пасля падзелу паміж імі матчыных і бацькоўскіх маёнткаў В. сталі ўласнасцю віленскага каноніка кн. Андрэя Петкавіча Свірскага. Да 1511 ён аддаў маёнтак В. ў заставу троцкаму ваяводу, дворнаму маршалку Рыгору Станкавічу Осціку, мужу сваёй сястры княжны Аляксандры Петкаўны Свірскай. Пасля смерці Андрэя Свірскага ў 1511 яго пляменнікі князі Пётр і Андрэй Міхайлавічы Свірскія аспрэчвалі маёнтак у Осціка. Каля 1522,



пасля смерці Осціка, маёнтак ва ўласнасці яго сыноў Юрыя і Рыгора Рыгоравічаў Осцікаў, які ў іх аспрэчвалі браты Пётр і Андрэй Свірскія. У 1524 маёнтак В. — уласнасць Альжбеты Рыгораўны Осцікаўны, жонкі Мікалая Станіслававіча Кезгайлы. Яна скардзілася на братоў Юрыя і Рыгора Осцікаў, якія, аспрэчваючы ў яе маёнтак, наехалі на яго і спустошылі. Пасля 1532 маёнтак В. браты Юрый і Рыгор Осцікі трымалі ў сумесным валоданні. У 1559 уласнасць браслаўскага старосты Юрыя Юр'евіча Осціка, у валоданні Варнянскага касцёла 44 дымы падданых сялян. У 1580 В. перайшлі да караля польскага і вял. кн. літ. Стэфана Баторыя, які падараваў маёнтак віленскаму войскаму Яну Абрамовічу. У 1593 апошні запісаў фундушы існуючаму тут парафіяльнаму касцёлу, заснаваў пры ім школу для шляхецкіх дзяцей і шпіталь для састарэлых і інвалідаў. Прадстаўнікі роду Абрамовічаў падпісалі дакументы «Абрамовічы на Варнянах». Ян Абрамовіч, з'яўляючыся кальвіністам, мог мець адносіны да фундацыі кальвінскага збору ў в. В. (Вароне) шляхціцаў Чыжоў, але ў сваім маёнтку каталіцкі касцёл у кальвінскі збор не перарабляў, што часам сцвярджаецца ў навук. л-ры. Пасля смерці Яна Абрамовіча В. валодаў яго сын Мікалай, які, будучы мсціслаўскім кашталянам (з 1640), павялічыў фундуш Варнянскага касцёла. Пасля яго смерці ў 1651 маёнтак В. апынуўся ў руках яго сына Самуэля, старадубскага старасты, які, перайшоўшы ў каталіцтва, у 1654 атрымаў ад віленскага біскупа прывілей на аднаўленне і ўпрыгожанне касцёлаў у сваіх маёнтках В. і Кабыльнік. Пазней В. валодаў старэйшы сын Самуэля староста Губскага старасва (Ашмянскі павет) Самуэль Міхал Абрамовіч, які жыў яшчэ ў 1679. Відаць, ён памёр, не маючы дзяцей, потым маёнткам валодаў яго брат Андрэй Абрамовіч, віленскі скарбнік. Апошні запісаў В. свайму малодшаму сыну Самуэлю Абрамовічу, віленскаму стольніку, які жыў у 1-й пал. 18 ст. Калі ён памёр (пасля 1745), уладальнікам маёнтка стаў яго сын Андрэй Абрамовіч, віленскі земскі пісар (з 1761 берасцейскі кашталян). Андрэй задумаў пабудаваць у В. мураваны касцёл замест драўлянага, аднак неўзабаве, у 1763, памёр, не здзейсніўшы задумы. Маёнтак атрымаў брат нябожчыка, старадубскі і губскі староста Ежы Абрамовіч, які, паспеўшы ўзвесці толькі мураваныя сцены новага касцёла, памёр у 1766, запісаўшы маёнтак у пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Марцыяне з Дзерналовічаў. Марцыяна, заснаваўшы ў 1767 дамініканскую місію пры новазбудаваным Варнянскім касцёле, запрасіла манаха-дамініканца з Астравецкага кляштара і запісала яму грашовы фундуш. У 1769 яна скончыла будаўніцтва і аздабленне касцёла, які быў асвячоны віленскім суфраганам Зянковічам. Пазней В. былі ў сумесным валоданні Марцыяны і яе паўналетніх сыноў Андрэя і Яўхіма Абрамовічаў. Пасля смерці маці браты ў 1787 падзялілі паміж сабой бацькоўскія і матчыны маёнткі, у выніку чаго ўладальнікам В. стаў Яўхім Абрамовіч. У ваколіцах В. у 16—18 ст. знаходзілася мноства маёнткаў і фальваркаў дробнамаёнткавай шляхты і баяр з назвай — В. Іх уладальнікамі былі гаспадарскі баярын М.А.Гімбутовіч, кн. Ю.Пронскі, гаспадарскі дваранін А.Г.Дзежа, каралеўскі ротмістр І.Мікуліч, віленскі зямянін В.Стаброўскі, віленскі падсудак С.Касінскі, віленскі зямянін Ш.А.Забела, падляскі ваявода М.П.Кішка-Цеханавецкі і інш. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) В. ў складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Lorentz S. Worniany // Prace i materjały sprawozdawcze Sekcji Historii Sztuki Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie. Wilno, 1938/39. T. 3; Брэгер Г. Кальвінскі збор у Вароне // Беларусіка = Albaruthenica. Мінск, 1997. Вып. 8.

***Герман Брэгер.***

**Варшэвіцкі** Крыштоф (1543, Варшэвіцы, Мазовія—10 або 11.9.1603), палітычны дзеяч, пісьменнік. З заможнага шляхецкага роду. Брат С.*Варшэвіцкага.* У дзяцінстве быў пажом пры двары чэшскага караля Фердынанда. Вучыўся ў Лейпцыгу, Вітэнбергу, Балонні. У 1561—72 сакратар пазнанскага біскупа А.Канарскага. У час бескаралеўя 1572—74 падтрымаў кандыдатуру Генрыка Валезы, быў паслом на каранацыйны сойм 1574. У час бескаралеўя 1574—76 падтрымліваў кандыдатуру імператара Максіміляна. Пасля абрання на трон Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя выехаў да Максіміляна ў Аўстрыю, але ў 1577 вярнуўся і пагадзіўся з Баторыем. Суправаджаў яго ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82*, інфармаваў лістамі пра ваенныя падзеі каралеву Ганну Ягелонку. Удзельнічаў у мірных перагаворах з царом Іванам IV Грозным. У 1582 быў паслом у Швецыю. Пасля смерці Баторыя выступаў за абранне на трон Рэчы Паспалітай эрцгерцага Максіміляна. Пасля яго паражэння збег у Прагу, потым у Швецыю, у 1594 вярнуўся. З 1598 канонік кракаўскі. У 1600—02 жыў у Італіі. Напісаў шмат маральных, паліт., акалічнасных твораў, некаторыя з якіх выдадзены ў ВКЛ: маральна-паліт. праца «Парадоксы да Стафана І, караля польскага» («Paradoxa ad Stephanum I, Regem Poloniae», Вільня, 1579), «Прамова да Стафана І, караля польскага» («Ad Stephanum Regem Poloniae oratio», Вільня, 1582). Найб. вядомы твор В. — «Пра найлепшы стан вольнасці» («De optimo statu libertatis», Кракаў, 1598). В. выказваўся за моцную каралеўскую ўладу ў Рэчы Паспалітай, якая дзейнічала б у інтарэсах усяго грамадства; адмаўляў прынцып выбарнасці караля. Заклікаў да паляпшэння становішча сялян і мяшчан, ад якіх залежыць дабрабыт дзяржавы.

*Літ.*: Коялович М. Дневник последнего похода Стефана Батория на Россию. Санкт-Петербург, 1867; Вержбовский Т. Криштоф Варшевицкий и его сочинения: историко-лит. изслед. Варшава, 1885; Поссевино А. Исторические сочинения о России XVI в. М., 1983; Tazbir J. Szlachta i teologowie. Warszawa, 1987.

**Варшэвіцкі** Станіслаў (каля 1530, Варшэвіцы, Мазовія—3.10.1591), дзеяч каталіцкай царквы. З заможнага шляхецкага роду. Брат К.*Варшэвіцкага.* Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, у 1550—51 у Вітэнбергскім ун-це, дзе пад уплывам Ф.Меланхтана перайшоў у кальвінізм, у 1554—56 у Падуанскім ун-це. Пасля вяртання каралеўскі сакратар. Парваў з лютэранствам, пакінуў каралеўскі двор і прыняў духоўнае званне (з 1558 канонік пазнанскі і гнезненскі, архідыякан ловіцкі). Быў актыўным дзеячам контррэфармацыі, у


С.**Варшэвіцкі**. 1693.

1567 уступіў у ордэн езуітаў. У 1570 арганізаваў і ўзначаліў езуіцкі калегіум, а потым акадэмію ў Вільні, яе рэктар да 1578. З дыпламатычнымі місіямі ад рымскай курыі ў 1574 і 1578 выязджаў у Швецыю. Капелан каралевы Кацярыны Ягелонкі, выхавацель будучага караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта III. У 1582—90 узначальваў езуіцкі калегіум у Любліне. У 1588 удзельнічаў у пасольстве ў Малдову. Аўтар рэлігійных твораў, перакладаў. Пакінуў багатую карэспандэнцыю.

*Літ.*: Bednarski S. Stanislaw Warszewicki. Kraków, 1939; Я г о ж. Stanisława Warszewickiego pochodzenie, młodosc, studia w Wittenberdze i Padwie // Studia z dziejów kultury polskiej. Warszawa, 1949; Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**варыўня**, стопка, істопка, тып старадаўняй гаспадарчай пабудовы для захавання агародніны, садавіны, малака, часам і гаспадарчых прылад. На Беларусі вядома з канца 16 ст. (першапачаткова называлася «издебка варывная»). У сял. дварах В. была прамавугольнай у плане невял. звычайна зрубнай пабудовай, накрытай 2- або 4-схільным дахам з драніцы ці саломы, з вокнамі без шкла, якія зачыняліся драўлянымі засаўкамі (будавалі В. і без акон). Унутры памяшканне ацяплялі курной печчу, агнішчам або гарачым вуголлем. У фальварках 17— пач. 20 ст. існавалі шматкамерныя В., якія мелі сенцы, каморы і інш. памяшканні.

**Варэна́** (Varėna), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр раёна, гл. *Араны*.

**Васілеўскі** (Wasilewski) Тадэвуш (8.4.1933, г. Вільня—9.11.2005), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1972), праф. надзвычайны (1982). У 1945 з сям'ёй выехаў у Польшчу. У 1951—1955 вучыўся ў Варшаўскім ун-це, дзе пасля выкладаў у Ін-це гісторыі. У 1991—95 пасол Польшчы ў Балгарыі. Даследаваў гісторыю паўд. славян, Візантыі, ВКЛ 13—16 ст., Рэчы Паспалітай 16—17 ст. Працы па гісторыі паліт. развіцця ВКЛ, царк. гісторыі ВКЛ, генеалогіі Гедзімінавічаў і Радзівілаў. Прапанаваў новыя даты нараджэння Ягайлы (1362 або 1363), Вітаўта (1354 або 1355), іншых князёў. Выдаў дыярыуш Я.А.Храпавіцкага (ч. 1—2, Варшава, 1978—88), «Аўтабіяграфію» Б.Радзівіла (Варшава, 1979), мемуары Г.Х.Гольштайна «Ваенныя прыгоды 1655—1666» (Варшава, 1981), дыярыуш А.Д.Скарабагатага (Варшава, 2000). Удзельнічаў у выданні кніг Метрыкі ВКЛ. Аўтар шматлікіх біяграфічных нарысаў дзеячоў ВКЛ у «Польскім слоўніку біяграфічным».

*Тв.*: Zdrada Janusza Radzwiłła w 1655 r. i jej wyznaniowe motywy // Odrodzenie i reformacja w Polsce. Warszawa, 1973. T. 18; Ostatni Waza na polskim tronie. Katowice, 1984; Jan Kazimierz (1609—1672). Warszawa, 1985; Walka o zrównanie praw szlachty litewskiej z koronna od unii lubelskiej do początków XVIII wieku // Zapiski Historyczne. 1986. Z. 1; Prawosławne imiona Jagiełły i Witolda // Analecta Cracoviensia. 1987. T. 19; Budowa zamku i rezydencji Radziwiłłow w Biržach w latach 1586—1654 // Podług nieba i zwyczaju polskiego. Warszawa, 1988; Litewskie rady sienatu w XVII w. // Acta Universitatis Wratislaviensis. № 945. Historia. T. 66. Wrocław, 1988; Walka o spadek po księżnie Marii Woloszce, wdowie po Januszu Radzwiłłe, w latach 1660—1690 // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa; Łódź, 1989. T. 3; Data urodzin Jagiełły i Witolda // Rzegląd Wschodni. 1991. Z. 1; Nobilitacje miast w dawnej Rzeczypospolitej Obojga Narodów // Czas, przestrzeń, praca w dawnych miastach. Warszawa, 1991; Trzy małżeństwa wielkiego księcia Litwy Olgierda // Kultura średniowieczna i staropolska. Warszawa, 1991; Z dziejów dynastii Giedyminowiczów, nowe ustalenia genealogiczne // Biuletyn Polskiego Towarzystwa Heraldycznego. Warszawa, 1991. № 5; Pospolite ruszenie województwa podlaskiego i ziem zachodniej Litwy w XVI w. // Drobna szlachta podlaska w XV—XIX w. Białostok, 1991; Uwagi o liczebności, składzie etnicznym i uzbrojeniu litewskiego pospolitego ruszenia konnego w latach 1410—1529 // Studia Grunwaldzkie. Olsztyn, 1991. T. 1; Pochodzenie rodu Radziwiłłow-Ościków // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa, 1997. T. 7; Początkowe dzieje dynastii Giedymina // Człowiek w społeczeństwie średniowiecznym. Warszawa, 1997; Toleracja religijna w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI—XVII w. // Odrodzenie i reformacja w Polsce. Warszawa, 1997. T. 41; Dynastia litewska w latach 1269—1377 a elekcyjność władzy // Inter Orientem et Occidentem. Warszawa, 2002; Podwojne imiona prawosławnych książąt i panów, ich małżonek i córek w Wielkim Księstwie Litewskim // Władza i prestyż. Białystok, 2005.

*Літ.*: Д у м и н С.В. Тадеуш Стефанович Василевский // Летопись Историко-родословного общества в Москве. М., 2007. Вып. 12/13.

**Васілёнак** Сяргей Іванавіч (23.9. 1902, в. Запруддзе Сенненскага р-на—15.4.1982), беларускі літаратуразнавец і фалькларыст. Канд. філалагічных навук (1940), дацэнт (1941). Скончыў БДУ (1929). Удзельнік Вял. Айч. вайны. Працаваў у Віцебскім (1932—34) і Магілёўскім (1934—41) педагагічных ін-тах. У 1946—60 выкладаў бел. л-ру і фальклор у Маскоўскім ун-це, адначасова некалькі гадоў працаваў у Гомельскім педагагічным ін-це. Асн. працы па гісторыі бел. стараж. л-ры і фальклоры. Складальнік зборніка «Беларускі эпас» (1959, з М.Грынблатам і К.Кабашнікавым), хрэстаматыі для ВНУ «Вуснапаэтычная творчасць беларускага народа» (1959, з І.Гутаравым). Адзначаў, што «далучэнне Беларусі і Украіны да моцнага Літоўскага княства мела не толькі адмоўнае, але і станоўчае гістарычнае значэнне». Лічыў, што дзярж. мовай у ВКЛ да канца 17 ст. была агульная бел.-ўкр. кніжная мова. Летапісы ВКЛ называў літоўска-беларускімі. Адзначаў вял. значэнне спадчыны Кіеўскай Русі ў духоўнай культуры ВКЛ, падкрэсліваў агульныя рысы

бел. і ўкр. культуры ў рамках ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Сфармуляваў тэорыю, згодна з якой развіццё л-ры Беларусі ў эпоху феадалізму ішло па 2 асн. шляхах: вусная нар. творчасць і прафесійная л-ра; вылучаў 2 перыяды ў яе гісторыі: 14—1-я пал. 16 ст. («Зараджэнне і развіццё фальклору і мастацкай літаратуры ў Беларусі ў перыяд фарміравання беларускай народнасці»), канец 16—18 ст. («Фальклор і літаратура перыяду антыпрыгонніцкай і вызваленчай барацьбы беларускага народа»). Прасочваў рысы рэалізму ў бел. л-ры ў 16—17 ст.

*Тв.*: Белорусская литература. М., 1951; Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма (XIV—XVIII вв.). М., 1961.

**Васіль I Дзмітрыевіч** (Василий I Дмитриевич; 30.12.1371 або 1.1.1372—27.2.1425), вялікі князь маскоўскі з 1389. Сын вял. кн. маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча Данскога. У 1383 пасланы бацькам у Арду, каб аспрэчваць тытул вял. князя ў Міхаіла Аляксандравіча Цвярскога. Быў там затрыманы як заложнік, праз 2 гады збег у Валахію і праз ВКЛ у 1387 вярнуўся ў Маскву. Зрабіўшыся вял. князем, В. I Дз. праводзіў палітыку тэр. захопаў, карыстаючыся татарскай дапамогай. За час яго княжання да Маскоўскай дзяржавы былі далучаны Ніжні Ноўгарад, Таруса, Мурам і інш. У 1389 сасватаў у вял. кн. літ. Вітаўта, які ў гэты час быў у выгнанні ў Прусіі, дачку *Соф'ю Вітаўтаўну*. Шлюб адбыўся ў 1390 у Маскве. У 1393 і 1396 сустракаўся са сваім цесцем у Смаленску (таксама 2-гі раз у 1396 — у Каломне), Соф'я сустракалася з бацькам у Смаленску ў 1398 і 1422. Імкнуўся падтрымліваць мір з Вітаўтам. Калі ў 1404 да яго прыехаў смаленскі кн. Юрый Святаславіч з просьбай абараніць яго ад Вітаўта і прапанаваў за гэта перадаць яму Смаленскае княства, В. I Дз. адмовіў яму. Аднак, апасаючыся далейшага ўмацавання ВКЛ, пайшоў на канфрантацыю з Вітаўтам, пачалася *вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08*. У 1408 прыняў на службу збеглага з ВКЛ кн. *Свідрыгайлу* і даў яму ў трыманне Уладзімір, Пераяслаў, Валакаламск. У 1424 аказаў дапамогу Вітаўту ў барацьбе супраць татарскага хана Кудаідата, які, рухаючыся па р. Ака, напаў на г. Адоеў (аднак гэта дапамога не спатрэбілася). У 1394 выдаў сваю сястру Марыю замуж за мсціслаўскага кн. *Лугвена*, а ў 1417 — дачку Настассю за кіеўскага кн. Алельку Уладзіміравіча. Пасля смерці В. I Дз. маскоўскі трон перайшоў да яго сына *Васіля II Васілевіча*.

*Літ.*: Барбашев А. Витовт и его политика до Грюнвальдской битвы 1410 г. Санкт-Петербург, 1885; Его ж. Витовт, последние двадцать лет княжения, 1410—1430. Санкт-Петербург, 1891; Лурье Я.С. Две истории Руси XV века: Ранние и поздние, независимые и официальные летописи об образовании Московского государства. СПб., 1994; Хорошкевич А.Л. Документы начала XV в. о русско-литовских отношениях // Культурные связи России и Польши XI—XX вв. М., 1998; Горский А.А. Москва и Орда. М., 2000.

**Васіль II Васілевіч** Цёмны [Василий II Васильевич Тёмный; 10 (або 15 ці 21).3.1415—27.3.1462], вялікі князь маскоўскі ў 1425—33, 1433—34, 1434—46, 1446—62. Сын вял. кн. маскоўскага *Васіля I Дзмітрыевіча* і *Соф'і Вітаўтаўны*. У час праўлення вёў доўгія войны са сваімі дзядзькамі і стрыечнымі братамі, якія прэтэндавалі на маскоўскі трон. У ходзе гэтай барацьбы некаторыя князі і баяры былі вымушаны ратавацца ўцёкамі ў ВКЛ (напр., кн. Васіль Яраславіч Бароўскі, родапачынальнік князёў *Яраславічаў*). У 1430 В. II В. прысутнічаў на з'ездзе манархаў у Вільні, дзе меркавалася каранацыя Вітаўта каралеўскай каронай (так і не адбылася). Хутка Вітаўт памёр, і ў ВКЛ пачалася *феадальная вайна 1432—39*. В. II В. у яе не ўмешваўся. У 1433 у выніку ўзброенай барацьбы ён быў вымушаны на кароткі час саступіць трон свайму дзядзьку Юрыю Дзмітрыевічу, у 1434 зноў пацярпеў ад яго паражэнне (хутка Юрый памёр у Маскве). У 1446 В. II В. на некаторы час страціў трон у выніку нападу войск свайго стрыечнага брата Дзмітрыя Шамякі, быў асляплены, але здолеў аднавіць свае пазіцыі. Заключыў з вял. кн. літ. Казімірам IV *дагавор 1449*, які фактычна спыніў рост літ. ўплыву на рускія землі. У 1437 В. II В. прызнаў мітрапаліта Ісідора, адправіў яго на царк. сабор у Італію, але не прыняў заключаную там у 1439 *Фларэнтыйскую унію*. Ісідор быў вымушаны збегчы з Масквы ў ВКЛ. У 1448, прызначыўшы мітрапаліта без згоды патрыярха, В. II В. заснаваў аўтакефальную Рус. правасл. царкву, асобную ад правасл. царквы ў ВКЛ.

*Літ.*: Барбашев А. Витовт, последние двадцать лет княжения, 1410—1430. Санкт-Петербург, 1891; Зимин А.А. Витязь на распутье. М., 1991; Лурье Я.С. Две истории Руси XV века: ранние и поздние, независимые и официальные летописи об образовании Московского государства. Санкт-Петербург, 1994; Горский А.А. Москва и Орда. М., 2000; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: вторая половина XV в. [2 изд.] М., 2001.

**Васіль Іванавіч** Шуйскі (Василий Иванович Шуйский; 1547 або 1552—5 або 12.9.1612), цар і вялікі князь усяе Русі ў 1606—10. З княжацкага роду суздальска-ніжагародскіх Рурыкавічаў. У 1583 атрымаў ад цара Фёдара Іванавіча тытул баярына. У 1584 узначальваў Суд. прыказ, у 1585 ваявода ў Смаленску, у 1590 — у Ноўгарадзе. Кіраваў следчай камісіяй, якая разглядала абставіны смерці царэвіча Дзмітрыя і прыйшла да высновы, што царэвіч сам сябе закалоў. Гэта



Да арт. **Васіль** Шуйскі. Капліца Шуйскіх у Варшаве. Рэканструкцыя 19 ст. паводле малюнкаў 17—18 ст.



**Васіль** Шуйскі з братамі на сойме 1611. Медзярыт Т.Макоўскага паводле карціны Т.Далабелі. Пач. 17 ст.

версія адпавядала інтарэсам Барыса Гадунова, у час царавання якога (1598—1605) В.І. умацаваў сваё становішча, удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць *Ілжэдзмітрыя I*. У 1605 быў вымушаны прызнаць Ілжэдзмітрыя як цара, супраць якога ў 1606 арганізаваў паспяховае паўстанне ў Маскве. 19(29).5.1606 В.І. быў абраны царом. Павёў паспяховую барацьбу з паўстанцкім рухам, што дзейнічаў ад імя Лжэдзмітрыя, разбіў войскі І.І.Балотнікава, а яго самога захапіў у палон. Не змог дамагчыся рашучай перамогі над *Ілжэдзмітрыем II*, які стварыў сваю рэзідэнцыю ў с. Тушына пад Масквой. 25.7(4.8.).1608 В.І. заключыў з каралём польскім і вял. кн. літ. Жыгімонтам III перамір'е на 3 гады і 11 месяцаў, паводле ўмоў якога адпусціў на волю палякаў і літвінаў, што былі зняволены ў ходзе барацьбы супраць Ілжэдзмітрыя І. У 1609 В.І. падпісаў дагавор са шведскім каралём Карлам IX, якому перадаў г. Карэлу і абяцаў дапамагчы завяваць Інфлянты. У адказ Жыгімонт III аб'явіў вайну В.І. і абложыў Смаленск. Войска Рэчы Паспалітай на чале з С.*Жалкеўскім* атрымала перамогу над рас. войскам у бітве каля с. Клушына, заняло Мажайск і рушыла на Маскву. 17(27).7.1610 у выніку дварцовага перавароту В.І. быў скінуты з трона. Ён быў пастрыжаны ў манахі (з імем Варлаам). Войскі Жалкеўскага занялі Маскву, а калі яе пакідалі ў канцы 1610, то Жалкеўскі забраў В.І. з 2 яго братамі як палонных. В.І. быў дастаўлены пад Смаленск да Жыгімонта III (адмовіўся яму пакланіцца), потым адпраўлены ў Гародню, у 1611 — у Варшаву, дзе быў прадстаўлены сойму, а пасля зняволены ў Гастынінскі замак, дзе памёр і быў пахаваны. У 1620 яго астанкі былі перапахаваны ў Варшаве ў спец. пабудаванай капліцы. Маскоўскі ўрад разглядаў гэтае пахаванне як абразу і дамогся таго, што ў 1635 прах В.І. быў вывезены і перапахаваны ў Архангельскім саборы Маскоўскага Крамля.

*Літ.*: А б р а м о в и ч Г.В. Князья Шуйские и российский трон. Л., 1991; Л и б р о в и ч С. Царь в плену. М., 1991; С к р ы н н и к о в Р. Василий Шуйский. М., 2002; Ф л о р я Б.Н. Польско-литовская интервенция в России и русское общество. М., 2005; К о з л я к о в В. Василий Шуйский. М., 2007.

**Васільеў** (Васильев) Феадосій [1656 або 1661—23.7(3.8).1711], адзін з лідэраў расійскіх стараабраднікаў, заснавальнік беспапоўскага сагласу федасееўцаў. З роду наўгародскіх дваран Усавых (беспадстаўна іх называюць баярскім родам Урусавых), сын святара. Быў дзячком, пасля прыняў стараабрадніцтва і перахрысціўся з імем Дыянісій (1686 або 1690). Пачаў выступаць як актыўны прапаведнік стараабрадніцтва ў Наўгародскім і Пскоўскім паветах, Маскве. У самым канцы 17 ст. з-за праследавання наўгародскага мітрапаліта Іова В. з маці, сынам і прыхільнікамі збег у ВКЛ. Тут, у Невельскім пав., на землях пана Куніцкага, у Крапівінскай вол., каля в. Русанава, В. заснаваў стараабрадніцкую абшчыну — агульнажыцельства. Яно складалася з мужчынскай і жаночай абіцеляў (600 і 700 чал. адпаведна). Абшчына была заснавана на прынцыпах бясшлюбнасці, агульнасці маёмасці, абавязковай працы, жорсткай дысцыпліны. В. прапаведаваў у мясцовых стараабрадніцкіх абшчынах, у памежных рас. землях. У 1708 абшчына пацярпела ад рабаўніцтва жаўнераў Рэчы Паспалітай падчас Паўн. вайны 1700—21, і А.Д.Меншыкаў выдаў В. дазвол пасяліцца ў яго ўладаннях у Велікалуцкім павеце, а ў 1710 перадаў яго абшчыне фальварак Рапіна каля Юр'ева (Тарту). У 1711 В. адправіўся ў Ноўгарад афармляць справы пераезду, быў там схоплены і памёр у зняволенні ў архіепіскапскай цямніцы. Аўтар пасланняў, накіраваных да прыхільнікаў выгоўскай згоды стараабраднікаў, твора пра Антыхрыста (даказваў, што Антыхрыст ужо царуе ў свеце, а з 1666 пад яго ўладай знаходзіцца Расія).

*Літ.*: Житие Феодосия Васильева, основателя феодосиевского согласия, написанное сыном его Евстратом в 7250-ом году // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1869. Кн. 2; И у с т и н о в П.Д. Федосеевщина при жизни ее основателя // Христианское чтение. 1906. № 2—4.

**Ваўкавыская езуіцкая місія.** Існавала ў 18 ст. ў г. Ваўкавыск. Катажына Эльжбета з Агінскіх Пузына, мсціслаўская кашталянава, разам з Юзафам Антоніем і Саламеяй Катажынай Качаноўскімі, падкаморыямі Ваўкавыскага пав., у 1734 фундавалі касцёл Найсвяцейшага Адкупіцеля (SS. Redemptoris) і кляштар езуітаў. У 1736 намаганнямі Ежы Ліноўскага, які запісаў кляштару бацькаву спадчыну, пачала функцыяніраваць сталая місія.



Яна спачатку залежала ад Слонімскай езуіцкай рэзідэнцыі, а пазней падпарадкоўвалася Гарадзенскаму калегіуму. Вядомы місіянеры: Ежы Ліноўскі (1736—40), Станіслаў Карвацкі (1737—40), Францішак Гжымала (1740—41), Францішак Карп (1741—46). Прэорамі кляштара былі: Францішак Карп (1747—48, 1751—52), Антоні Трапянскі (1748—49), Марцін Следзеўскі (1750—51), Павел Піскоўскі (1752—67), Андрэй Віхерт (1767—68, 1770—72), Лукаш Стоша (1768—69), Юзаф Боўфал (1769—70), Адам Клакоцкі (1772—74). У 1747 пры місіі адчынена пачатковая школа, якая існавала і пасля скасавання ордэна езуітаў (1773), да 1794. У канкурэнтнай барацьбе з піярамі перамаглі езуіты. Піяры прадалі езуітам фальварак Дунікаўка і выехалі з Ваўкавыска. Гаспадарчым апірышчам кляштара і місіі былі таксама маёнткі: Мадзейкі, Красіўніца, Крашчызна. Намаганнямі слонімскага рэктара Казіміра Станкевіча ў 1753 пачалося будаўніцтва новага драўлянага касцёла, які асвячоны ў 1755, а кансекраваны віленскім біскупам Міхалам Янам Зянковічам у 1757. Кляштар размяшчаўся ў цэнтры горада на У ад рынку. Касцёл драўляны, з 2 вежамі на гал. фасадзе і малой вежай на даху, згарэў у 1800. У гал. алтары размяшчалася фігура Хрыста Фрасаблівага, шанаваная як цудадзейная. Уласна будынак кляштара са школай быў мураваны, 2-павярховы; у склад кляштарнага комплексу ўваходзілі пякарня, бровар, кузня, канюшня з вазоўняй, 2-павярховае гумно, абора.

*Літ.*: Wołyniak (Giżycki J.). Z przeszłości powiatu wołkowyskiego. Kraków, 1905. ***Генадзь Семянчук.***

**ваявода элекцыйны**, вышэйшы ўраднік Полацкага і Віцебскага ваяводстваў, выбар якога належаў мясцовым абывацелям. Уваход Полацкага і Віцебскага княстваў у склад ВКЛ мірным шляхам абумовіў захаванне цэнтр. уладамі многіх атрыбутаў аўтаноміі, што адлюстравалася ў нормах абласнога права. Больш інфармацыі захавалася пра сітуацыю ў Полацку. Палажэнне пра выбары мясцовых ваяводаў былі выпрацаваныя ў 15 ст. Самы ранні дакумент, дзе зафіксавана права палачан выбіраць ваяводу, — прывілей Жыгімонта Старога ад 23.6.1511. На практыцы выбары да канца 16 ст. не ажыццяўляліся. Барацьбу за аднаўленне гэтага палажэння абласнога права полацкая шляхта, ужо як адзіны прэтэндэнт на яго ажыццяўленне, актывізавала ў 1580—90-я г. У выніку прызначэнне ваяводам Андрэя Паўлавіча Сапегі ў 1597 адбылося па прапанове полацкіх абывацеляў, але гэта не сведчыла пра аднаўленне самой працэдуры элекцыі. Палачане на працягу 1-й пал. 17 ст. рэгулярна патрабавалі зацвердзіць іх правы і парадак выбараў ваяводы. Заканадаўча права выбіраць полацкага ваяводу замацавала толькі соймавая канстытуцыя 1647. Першы дакументальна апісаны выпадак выбараў адбыўся ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* 28.8.1654 у Нарачы, дзе шляхта Полаччыны абрала ваяводам Багуслава Радзівіла, канюшага ВКЛ. Парадак элекцыі быў падобны да выбараў павятовых земскіх ураднікаў і старасты жамойцкага. Прэцэдэнт з Радзівілам, які так і не быў зацверджаны каралём польскім і вял. кн. літ. Янам Казімірам на выбарнай пасадзе, стаў зыходным пунктам для аднаўлення традыцыі. У 2-й пал. 17— 18 ст. склалася сталая практыка элекцыі полацкай шляхтай ваяводаў, што было юрыд. падмацавана пастановай Варшаўскага сойма 1699.

*Літ.*: Лаппо И.И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Галубовіч В.У. Полацкія ваяводы ў XVII ст. // Бел. гіст. часопіс. 2007. № 11. ***Віталь Галубовіч.***

**Вевіс** (Vievis), горад у Тракайскім р-не Літоўскай Рэспублікі, гл. *Еўе*.

**Вега** (Vega) Эмануэль дэ (1553, г. Каімбра, Партугалія—27.1.1640), дзеяч каталіцкай царквы. У 1569 уступіў у Партугаліі ў ордэн езуітаў. У Рыме вывучаў філасофію і тэалогію. З 1581 у ВКЛ, у Віленскай акадэміі да 1587 выкладаў палемічную тэалогію. Суправаджаў жамойцкага біскупа М.Гедройца ў час візітацыі яго епархіі. Вёў актыўную контррэфармацыйную дзейнасць. Выдаў некалькі тэалагічных прац і палемічных брашур супраць пратэстантаў на лацінскай мове: «Assertiones theologicae» («Тэалагічныя сцвярджэнні», Вільня, 1585), «Disputatio theologica» («Тэалагічны дыспут», Вільня, 1586) і інш. Ведаў некалькі моў, у т.л. літоўскую. Пасля выезду з ВКЛ выкладаў у Венгрыі, Празе, быў прапаведнікам у розных гарадах Італіі. Памёр у Рыме.

*Літ.*: Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 144; Natoński B. Humanizm jezuicki i teologia pozytywno-kontrowersyjna w XVII i XVIII wieku: Nauczanie i piśmiennictwo // Dzieje teologii katolickiej w Polsce. Lublin, 1975. T. 2, cz. 1; Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**Вегнер** (Вейнер; Waehner, Weyner) Ян Самуэль (1757, г. Мітвайдэ, Саксонія—2.3.1823), віленскі людвісар. Працаваў у Вільні прынамсі з 1790. Жыў у завулку паміж брамамі Віленскай і Татарскай, які пасля зваўся Людвісарскай вуліцай. У час *паўстання 1794* працаваў над адліўкай гармат у пушкарні, арганізаванай паўстанцкімі ўладамі. Захаваліся звесткі пра 20 званоў, адлітых В. У 1791 і 1794 вырабіў 2 званы для Панявежскага касцёла. У наступныя гады, пачынаючы з 1797, адліў званы для касцёлаў у Вільні, Граўжышках і Гальшанах (Ашмянскі пав.), Пуні, Сумілішках і Півашунах (Троцкі пав.), Трашкунах (Вількамірскі пав.) і інш. Быў сеньёрам Віленскай лютэранскай абшчыны.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 94—99.

**Векшні** (літ. Вякшняй, Viekšniai, цяпер мястэчка ў Акмянскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойці, на р. Вянта. Вядомы з 14 ст. Мяркуецца, што каля 1565, у час валочнай памеры Вякшнянскай воласці, у В. заснаваны касцёл. Мураваны касцёл Яна Хрысціцеля пабудаваны ў 1634 (В. — цэнтр дэканата). У 1636 заснавана школа. Былі дзярж. уладаннем, цэнтрам нягродавага стараства, якое давалася ў трыманне магнатам. З 1703 вякшнянскім старастам быў падканцлер ВКЛ С.А.*Шчука*, потым — яго сын Марцін Леапольд, які 25.10.1725 прадаставіў В. магдэбургскае права і герб з вывявай 3 высокіх гор. У 1743 гэта права пацвердзіў вякшнянскі староста Міхал Гурскі, у 1764 пазбаўлены яго соймам.

15.5.1792 кароль польскі і вял. кн. літ. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі аднавіў магдэбургскае права для В. і даў герб мястэчку з выявай 3 зорак (1 сярэбраная, 2 залатыя) пад каронай у блакітным полі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Lietuvos magdeburginių miestų privilegijos ir aktai. T. 2. Vilnius, 1997.

**Велюс** (Vėlius) Гінтаўтас (н. 10.8.1971, г. Вільнюс), літ. археолаг. Д-р гуманітарных навук (2001). Скончыў Вільнюскі ун-т (1993), дзе да 1995 вучыўся ў магістратуры, да 2000 — у дактарантуры, з 2001 выкладае. Даследуе позні жалезны век Літвы, працэсы урбанізацыі і хрысціянізацыі стараж. Літвы, літ. язычніцкія пахавальныя абрады. Праводзіць археал. раскопкі Кернава.

*Тв.*: Istoriniai šaltiniai apie mirusiųjų deginima Lietuvoje, išimtys ar taisyklė? // Lituanistica. 2001. № 1; XIII—XIV a. Kernavės kapinyno apgalviai // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2001. T. 21; Kernavė in the Context of Towns of the Grand Duchy of Lithuania // Archaeologia Lituana. Vilnius, 2003. T. 4; Kernavės miesto bendruomenė XIII—XIV amžiuje. Vilnius, 2005.

**Велюс** (Vėlius) Норбяртас (1.1.1938, в. Гульбес, Шылальскі р-н, Літва—23.6.1996), літ. фальклярыст, міфолаг. Д-р габілітаваны, праф. (1991). Скончыў Вільнюскі ун-т (1962). Працаваў у Ін-це літ. мовы і л-ры (з 1990 Ін-т л-ры і фальклору) АН Літвы, выкладаў у Каўнаскім ун-це (заг. кафедры этналогіі і фальклярыстыкі). Ініцыятар, арганізатар і ўдзельнік комплексных краязнаўчых экспедыцый. Запісаў каля 30 тыс. фальклорных твораў. Ініцыятар стварэння і старшыня Рады апекі над этнічнай культурай Літвы. Аўтар прац: «Міфічнае паходжанне літоўскіх легенд» («Mitinės lietuvių sakmių būtybės», Вільнюс, 1977), «Светапогляд старажытных балтаў» («Senovės baltų pasaulėžiūra», Вільнюс, 1983), «Хтанічны свет літоўскай міфалогіі» («Chtoniškasis lietuvių mitologijos pasaulis», Вільнюс, 1987). Выдаў збор чароўных казак «Падарункі лаўмы» («Laumių dovanos», Вільнюс, 1979, англійскі пераклад — «Lithuanian mythological tales», Вільнюс, 1998), зборнікі «Літоўская міфалогія» («Lietuvių mitologija», Вільнюс, 1995—2004, т. 1—3, т. 3 — разам з Г.Бяраснявічусам), «Крыніцы балцкай рэлігіі і міфалогіі» («Baltų religijos ir mitologijos šaltiniai», Вільнюс, 1996, т. 1 «Са старажытных часоў да канца XV ст.»; 2001, т. 2 «XVI ст.»; 2003, т. 3 «XVII ст.»; 2005, т. 4 «XVIII ст.»).

*Літ.*: Судник Т., Цивьян Т. Норберт Велюс (1938—1996) // Балто-славянские исследования, 1988—1996. М., 1997; Norbertas Vėlius / Sudarė I.Seliukaitė, P.Vitkuvienė. Vilnius, 1999.

**Веркаўская бітва 1658.** Адбылася 21 кастр. ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Пасля адмовы Варшаўскага сойма 1658 разглядаць кандыдатуру цара Аляксея Міхайлавіча на трон Рэчы Паспалітай адносіны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай абвастрыліся. Каб вызначыць прынцыпы адносін паміж абедзвюма дзяржавамі, пад Вільняй 26.9.1658 пачаліся перагаворы, якія з боку ВКЛ вялі вял. гетман Павел Ян Сапега (гл. ў арт. *Сапегі*) і польны гетман Вінцэнт Аляксандр Гасеўскі (гл. ў арт. *Гасеўскія*). Улады ВКЛ вялі перагаворы з пазіцыі сілы, Сапега са сваім атрадам стаў на Пд ад Вільні, каля в. Рудаміна, Гасеўскі, у якога было 1500 чал. конніцы, разбіў свой лагер у біскупскім маёнтку Веркі на Пн ад Вільні. Узяўшы Вільню ў кальцо, войскі ВКЛ фактычна кантралявалі Віленскі пав. Рас. войскі пад камандаваннем кн. Ю.А.*Далгарукава*, якія займалі Вільню, раптоўна 21.10.1658 напалі на лагер Гасеўскага. Завязалася жорсткая бітва, у ходзе якой конніца Гасеўскага не здолела супрацьстаяць рас. пяхоце. Каля 200 афіцэраў і жаўнераў польнага гетмана было забіта і трапіла ў палон, сам Гасеўскі таксама трапіў у няволю і быў адпраўлены ў Маскву. Паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай аднавіліся шырокамаштабныя баявыя дзеянні.

*Літ.*: Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974. С. 119; Tyla A. Verkų mūšis (1658 10 21) // Lituanistica. 2007. № 1.

**Вернер** Мар'яна, спявачка і драматычная актрыса 2-й пал. 18 ст. У 1783—85 актрыса прыдворнага тэатра К.С.Радзівіла Пане Каханку ў Нясвіжы. У ліст. 1785 заключыла паўторны кантракт як педагог тэатральнай школы ў Нясвіжы, паводле якога навучала дзяцей прыгонных для выступленняў у Камедыхаўзе. Відаць, працавала да 1791.

*Літ.*: Барышев Г. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Вернер фон Орзельн** (Werner von Orseln; каля 1280—18.11.1330), вялікі магістр Нямецкага ордэна. Паходзіў з Германіі. Як член ордэна ўпамінаецца з 1312, калі быў комтурам Рагнеты —



Вернер фон Орзельн.

замка на мяжы з Жамойцю. З 1314 вял. комтур, а таксама комтур канвента (кляштара) у Марыенбургу. Быў намеснікам і бліжэйшым супрацоўнікам вял. магістра ордэна Карла фон Трэвіра, у час яго вымушанай адсутнасці ў 1317—19 пакінуў сваю пасаду. Пасля смерці Карла ў 1324 стаў вял. магістрам Нямецкага ордэна. Яго абранне паклала пачатак правілу, што наступныя вял. магістры выбіраліся з ліку рыцараў, якія вызначыліся ў барацьбе супраць Польшчы і ВКЛ, а не з замежнікаў. Прыкладаў намаганні для павелічэння набожнасці, гаспадарчага развіцця Прусіі. У 1328 да яе была далуча-

на Клайпеда (Мемель), якой раней валодалі рыцары-мечаносцы. Мяркуецца, што гэта было звязана з планамі агрэсіі супраць ВКЛ. Пасля зрыву мірных перагавораў з Польшчай у Брэсце-Куяўскім у 1324 Прусія і Польшча пачалі шукаць саюзнікаў да будучай вайны. Польскі кароль Уладзіслаў І Лакаток заключыў саюз з вял. кн. літ. Гедзімінам (1325), а В.ф.О. — з мазавецкімі (1326) і сілезскімі князямі, чэшскім каралём Янам Люксембургскім. Вайна пачалася ў 1327, у час яе В.ф.О. быў забіты адным са сваіх рыцараў.

**ветэрынарыя**, галіна навукі і практычная дзейнасць па прадухіленні і лячэнні хвароб жывёл, ахове людзей ад хвароб, агульных для чалавека і жывёл. Доўгі час лячэнне хворых хатніх жывёл ажыццяўлялася ў ВКЛ нар. сродкамі. Першым друкаваным дапаможнікам па лячэнні коней стала кніга К.М.*Дарагастайскага* «Гіпіка, альбо Кніга пра коней» (Кракаў, 1603). У Любчанскай друкарні Пятра Кміты ў 1617 і 1627 выдадзена кніга на польскай мове «Пра догляд і навучанне коней, пры гэтым лячэнне пры хваробах коней». У 1770-х г. Ж.Э.*Жылібер* планаваў адкрыццё ў Гарадніцы — прадмесці Гародні — ветэрынарнай школы, аднак гэты план рэалізаваны не быў. Жылібер даследаваў інфекцыйныя хваробы жывёл, напісаў некалькі навук. артыкулаў па В. Хваробы жывёл даследаваў праф. Віленскага ун-та С.Б.Юндзіл (гл. ў арт. *Юндзілы*).

**Вешвенай** (Viešvėnai), вёска ў Цельшайскім р-не Літоўскай Рэспублікі, гл. *Вяшвяны*.

**Віграўскі кляштар камедулаў.** Заснаваны каралём польскім і вял. кн. літ. Янам ІІ Казімірам 6.1. 1667 на паўвостраве воз. Вігры ў Гарадзенскім пав. (цяпер у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча). Згодна з каралеўскім прывілеем, кляштар, разлічаны на 12 манахаў, атрымаў месца пад сядзібу, часткі Пераломскай і Пярстунскай пушчаў з вёскамі. Кароль пакінуў сабе права палявання ў пушчах. Манахі прыбылі ў 1668, першапачаткова жылі ў каралеўскім паляўнічым двары. У 1671 паляўнічы двор, драўляны касцёл і кляштарныя пабудовы згарэлі. У 1678 пабудаваны новы невял. драўляны касцёл кляштара, а ў 1680 — драўляны касцёл для прыхаджан у бліжэйшай в. Магдаленава. У 1685 кляштар атрымаў статут прыярата, да 1699 закладзены мураваны касцёл паводле праекта, як мяркуецца, Пятра Пуціні. На 2 тэрасах, уладкаваных на прыродным пагорку, пабудаваны мураваны касцёл, келлі манахаў (эрэмы), будынак для гасцей, гадзіннікавая вежа, гаспадарчыя будынкі. Будаўнічыя працы працягваліся да 1745. У 1715 кароль польск. і вял. кн. літ. Аўгуст II надаў кляштару дадатковыя ўладанні. Кляштар валодаў г. Сейны, 56 вёскамі, 11 фальваркамі, азёрамі, млынамі, борцямі, броварамі, руднямі, смалярнямі, меў каля 8,5 тыс. падданых, быў адным з заможнейшых у Рэчы Паспалітай. Прускія ўлады ў 1796 канфіскавалі зямельныя ўладанні кляштара, а ў 1800 скасавалі яго. Былы кляштар стаў сядзібай наваствораната Віграўскага біскупства (існавала да 1823), некаторыя будынкі былі перабудаваны. У 1829, 1860-х г. і пач. 20 ст. касцёл адрамантаваны, некаторыя кляштарныя будынкі разабраны. У час 1-й сусветнай вайны кляштарны комплекс значна пашкоджаны. У 1922—29 паводле праекта Оскара Сасноўскага адбудаваны касцёл, плябанія і 1 эрэм. У час 2-й сусв. вайны касцёл зноў часткова разбураны, пасля вайны


Księgi Trzećie. 99

Symetrya álbo Proporcya y kßztáłt Koniá.

Procemium.

Obiaśnienie Figury.

Да арт. **Ветэрынарыя**. Старонка з кнігі К.М.Дарагастайскага «Гіпіка». 1603.

пачаліся рэстаўрацыйныя працы, якія працягваюцца да цяперашняга часу. Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі пабудаваны ў стылі позняга барока ў зах. частцы верхняй тэрасы. У плане мае форму крыжа, у бакавых канцах якога размешчаны капліцы, сакрысціі і зала брацтва. Над імі ўзвышаюцца 2 двух'ярусныя вежы, накрытыя барочнымі купаламі. Гал. неф накрыты 2-схільным дахам з меднай бляхі, у бакавых нефах


**Віграўскі кляштар камедулаў**.



уладкаваны па 3 капліцы. Касцёл меў багата аздобленыя інтэр'еры, размаляваныя фрэскамі, 9 алтароў. У крыпце касцёла захаваліся пахаванні манахаў і віграўскага біскупа Міхала Францішка *Карповіча*. Да паўн.-зах. кута касцёла прымыкае трапезная (цяпер плябанія) з уязной брамай, пабудаваная на ніжняй тэрасе. На паўдн. баку той жа тэрасы размешчана фарэстэрыя (дом для заможных насельнікаў кляштара, якія пад апекай манахаў праводзілі тут рэшту жыцця). Перад гал. парталам касцёла ўзведзены будынак з вежай, завершанай купалам (т.зв. Канцлерская капліца). На ніжняй тэрасе размешчаны асобныя келлі манахаў (эрэмы).

*Літ.*: Kłapkowski W. Duszpasterstwo i oświata w dobrach klasztoru kamedułów wigierskich. Sejny, 1933; Jemielity W. Zespół pokamedulski w Wigrach. Łomża, 1989; Grabowski K., Osewski W., Starczewski M. Pokamedulski zespół klasztorny Wigry. Suwałki, 1997; Ambrosiewicz M. Dzieje wigierskiego klasztoru // Wigry. 2003. № 1.

**Від**, легендарны літоўскі князь. Рас. Васкрасенскі летапіс (артыкул «Начало государей литовских») паведамляе пад 6772 (1264), што ён быў сынам полацкага кн. Давіда Расціславіча (асоба таксама легендарная), людзі яго празвалі Воўк; у 6773 (1265), пасля смерці Міндоўга, стаў уладаром Літоўскага княства, да якога далучыў «Деревские земли много». Як элемент рэальных падзей, якія адлюстраваліся ў легендзе пра В., даследчыкі бачаць у імені В. сапсаванае імя кн. *Віценя*, які, магчыма, далучыў да ВКЛ Палессе.

**відзімус**, відымус (лац. vidimus мы зверылі), засведчаная копія дакумента, якая выдавался вялікакняжацкай канцылярыяй з Метрыкі ВКЛ або канцылярыяй цэнтр. або мясцовага суда з адпаведнай актавай кнігі. Меў поўную юрыд. моц. Статут ВКЛ 1588 прадугледжваў беспярашкодную выдачу В. па запатрабаванні зацікаўленай асобы: «А выписы, або видимусы, так с тых книг перших воевод и старост, яко и кождый вряд с книг своих с прав кождому, кому кольвек того потреба указывати будеть, без вшелякого затрудненья и проволоки мають давати листы с подписом руки писара гродского присяглого и с печатми самих воевод, старост або их врядников судовых, наместника албо подстаростего и судьи гродского» (раздз. 4, арт. 14).

**Відзы** (цяпер гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Браслаўскім пав., у канцы 18 ст. горад, цэнтр Браслаўскага ваяв. Да 17 ст. зваліся Віды. Традыцыйна лічыцца, што вядомы з 1-й пал. 15 ст., калі вял. кн. літ. Жыгімонт Кейстутавіч [1432—40] аддаў землі паміж рэкамі Дзісна і Друкша, якія зваліся Ловішчы, ашмянскім баярам братам Доўгірду, Даўкшу і Нарушу (дакументальна гэта звестка не пацвярджаецца). У 1433 Ганна Даўгідавіч перадала Відзаўскаму касцёлу двор. У 1481 Ганус і Хведзька Доўгірды фундавалі ў Відзах драўляны парафіяльны касцёл Нараджэння Найсвяцейшый Панны Марыі, які дадаткова забяспечыў у 1498 віленскі біскуп Войцех Табар. 3 пач. 16 ст. В. называюцца мястэчкам. У 1523—24 маёнтак В. з касцёлам купіў канцлер ВКЛ А.Гаштольд за 500 коп грошаў у Яна Карэвіча з дазволу сваякоў апошняга. У 1521—23 некаторыя землі ў В. шляхам абмену набыў у Гаштольда лацінскі пісар ВКЛ Павел Нарушэвіч, а ў 1529 — капітула Віленскага біскупства. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 В. ў складзе Браслаўскага пав. Віленскага ваяв. У 2-й пал. 16 ст. смаленскі кашталян Станіслаў Нарушэвіч заснаваў у В. кальвінскі збор, які дзейнічаў і ў 1-й пал. 17 ст. У 1629 В. сталі ўладаннем Пацаў. У 1639 падскарбі ВКЛ П.Пац заставіў В. віленскаму мешчаніну Андрэю Снарскаму за 40 тыс. злотых. Гетман польны ВКЛ, ваявода віленскі М.К.Пац у 1675 адпісаў свае відзаўскія ўладанні віленскім канонікам латэранскім з мэтай завяршэння будаўніцтва касцёла св. Пятра і Паўла ў Вільні. У 1709 В. пацярпелі ў час *Паўночнай вайны 1700—21*. У 1711 у В. жыла невял. суполка манахаў-дамініканцаў. У 18 ст. пры парафіяльным касцёле дзейнічаў шпіталь. У інвентары 1731 апісана частка В., што належала віленскаму біскупу М.Я.Зянковічу, названы вуліцы Рынкавая, Дворная, Казіная, Віленская, засценак Лук'янішкі, адзначаны 54 сям'і мяшчан, у т.л. 7 яўрэйскіх (невядома, якая частка мястэчка была ў інш. уладальнікаў). У 1754 лоўчы браслаўскі Антоні Ваўжэцкі заснаваў у В. езуіцкую місію пры парафіяльным касцёле, у 1754—67 дзейнічала пачатковая езуіцкая школа. У 1762 езуіты пачалі будаваць свой мураваны касцёл (не скончаны). У 1764 пабудавана царква правасл. старавераў. У 1769 у В. дзейнічаў атрад барскіх канфедэратаў на чале з Міхалам Гараінам. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 праз В. прайшлі рас. войскі з корпуса В.В.Далгарукава. Гарадзенскі сойм 1793 частку Браслаўскага пав., якая засталася ў ВКЛ пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793), пераўтварыў у Браслаўскае ваяв. з цэнтрам у В., якія атрымалі статус горада. Паводле люстрацыі 1794, у В. каля 1300 жыхароў, 182 дымы (біскупу віленскаму І.Масальскаму належаў 51 дым, відзаўскай плябаніі — 39 дымоў, віленскім канонікам латэранскім — 42 дымы, Ваўжэцкім — 50 дымоў). У горадзе кватараваў штаб 1-га палка войска ВКЛ. У час паўстання 1794 у маі 1794 Т.*Ваўжэцкі* сабраў у В. атрад з 300 паўстанцаў, у чэрв. 1794 яны разбіты рас. войскамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) В. ў складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Посох Г. Видзы: (опыт ист.-стат. описания). Ковна, 1895; Hedemann O. Historja powiatu brasławskiego. Wilno, 1930; Wojtkowiak Z. Lithuania transwilniensis saec. XIV—XVI: Podziały Litwy północnej w późnym średniowieczu. Poznan, 2005.

**Віжунскі касцёл св. Георгія.** Пабудаваў у 1406 у мяст. Віжуны Вількамірскага пав. (цяпер в. Віжуонас Укмергскага р-на, Літоўская Рэспубліка) уладальнік мястэчка Крысцін Осцік. Касцёл — узведзеная ў гатычным стылі 3-нефавая базіліка з 5-граннай апсідай і 2 невял. сакрысціямі па баках. Бакавыя нефы аддзелены ад гал. 2 радамі слупоў (па 4). Асвятляецца высокімі вокнамі (па 4 у бакавых сценах, 3 у апсідзе, 2 у сакрысціях), якія першапачаткова былі стральчатыя, у цяперашні час лучковыя. Скляпенні крыжовыя. Накрыты 2-схільным дахам. Апсіда звонку падтрымліваецца 2 трохступенчатымі контрфорсамі. У 16—17 ст. Віжуны належалі Кішкам і Радзівілам,



што вызнавалі пратэстанцтва і перарабілі касцёл на кальвінскі збор. У 1604 тут пахаваны Крыштоф Радзівіл Пярун, а ў 1641 — яго сын Крыштоф. У 1667 збор гвалтам вярнулі сабе католікі. У 1706 касцёл адрамантаваны. У 19 ст. па баках апсіды пабудаваны 2 сакрысціі. У выніку перабудовы 1891 павялічаны ў даўжыню нефы, над гал. уваходам узведзена вежа-званіца.

**візітацыя**, в і з і т а (ат лац. visitatio агляд), у каталіцкай царкве перыядычнае абследаванне іерархамі падуладных епархій, касцёлаў, кляштараў. Былі пашыранай формай пастырскай апекі і царк.-адм. кантролю за дзейнасцю парафіяльнага святарства. Праводзіліся ў хрысціянскай царкве са стараж. часоў. У сярэдневяковай Еўропе В. праводзіліся біскупамі або іх архідыяканамі. Трыдэнцкі сабор 1545—63 абавязаў біскупаў асабіста візітаваць сваю епархію раз у год (у крайнім выпадку — у 2 гады), у выпадку неабходнасці — часцей; калі гэта немагчыма было зрабіць асабіста, біскупу дазвалялася прызначаць для гэтага асобага візітатара. У выпадку, калі вялізныя біскупствы мелі суфраганіі, апошнія былі абавязаны праводзіць свае В. На дэканаў быў ускладзены абавязак кожны год праводзіць В. свайго дэканата і прадастаўляць справаздачу аб ёй біскупу. Арцыбіскупам прадастаўлена права праводзіць В. (з пэўнымі абмежаваннямі) сваіх царк. правінцый. В. ахоплівала духавенства, вернікаў, касцёлы з іх фундушамі і маёнткамі, касцельныя карпарацыі, таварыствы, шпіталі, манаскія абшчыны (што датычыць іх душпастырскай дзейнасці). В. праводзіліся за кошт касцёлаў, якія падлягалі праверцы. У манаскіх ордэнах праводзіліся свае В. — генералам або правінцыялам ордэна. У рэальнасці генеральныя В. праводзіліся значна радзей. Генеральная В. Віленскага біскупства адбылася перад Віленскімі сінодамі 1527 (праводзілася з 1525 віленскім кантарам, медніцкім канонікам Ежы Солакам з Эйшышак) і 1606, перад выданнем біскупам Аляксандрам Сапегам пастырскага ліста 1682 (праводзіў біскуп-суфраган Мікалай Слупскі), перад сінодамі 1717 і 1744.

У практыцы правасл. царквы пад час аб'езду сваёй епархіі епіскап удзельнічаў у богаслужэнні, чытаў казанні, а пасля В. склікаўся мясцовы сабор, дзе падводзіліся вынікі В., а праступкі духавенства разглядаліся на судовым пасяджэнні епіскапскай кансісторыі. Такі парадак захоўвала і уніяцкая царква, аднак з канца 17 ст. ў ёй пачала распаўсюджвацца каталіцкая практыка В., пры якой епіскапы даручалі правядзенне В. сваім davераным асобам, складалася візітацыйная дакументацыя. Так былі праведзены В. епархій: Кіеўскай мітрапаліцкай (1681), Уладзімірска-Берасцейскай (1695—96), Полацкай (1697). Мяркуецца, што ўпершыню ва уніяцкай царкве вынікі В. пачалі фіксавацца ў візітацыйнай дакументацыі пры рэвізіі Уладзімірска-Берасцейскай епархіі ў 1635, Полацкай у 1647, Кіеўскай мітрапаліцкай у 1666, Холмска-Белзскай у 1683. Пры мітрапаліце Кіпрыяне Жахоўскім (1674—93) з'явіліся візітацыйныя фармуляры для апісання парафій. В. пачалі праводзіцца сістэматычна. Новыя В. праводзіліся па скарочанай праграме: фіксаваліся толькі змены, якія адбыліся ў параўнанні з папярэдняй В. Пасля заканчэння В. візітатары выдавалі распараджэнні па выпраўленні недахопаў (пазнейшыя «рэфармацыйныя дэкрэты»). Адно з першых такіх распараджэнняў захавалася ад В. 1709 Бабруйска ў Кіеўскай мітрапаліцкай епархіі. Замойскі сабор уніяцкай царквы 1720 абавязаў епіскапаў сістэматычна праводзіць В. сваіх епархій кожны год (або раз у 2 гады, калі епархія вялікая), асабіста або праз упаўнаважаных асоб, якія б вылучаліся праведнасцю і розумам. Былі вызначаны аб'екты, якія падлягалі В. — цэрквы, манастыры, капліцы, брацтвы, школы, шпіталі і інш. Аднак манастыры базыльян на тэр. ВКЛ у 1617 былі аб'яднаны ў Віленскую кангрэгацыю Прасвятой Троіцы і мелі сваіх уласных візітатараў. У выпадку, калі б на працягу 6 месяцаў пасля епіскапскага напамінання В. манастыроў не адбылася, епіскап павінен быў сам правесці яе. Усе жаночыя базыльянскія манастыры падлягалі В. епіскапаў. Асаблівую ўвагу візітатары павінны былі звяртаць на ўнутраны стан жыцця парафій: «святасць жыцця», зберажэнне «чысціні веры», навучанне веры, прапаведзі слова Божага. Візітатары абавязваліся прасачыць, каб у епархіях ажыццяўляліся літургічныя змены, уведзеныя Замойскім саборам. Візітацыйная дакументацыя павінна была зберагацца ў 2 экзэмплярах у парафіяльным і епархіяльным (для кантролю) архівах. Епіскапам і інш. візітатарам было забаронена браць падарункі пад час правядзення В. (у якасці пакарання за такі праступак візітатар быў павінен вярнуць падарункі ў двайным памеры, епіскап мог нават страціць пасаду, свецкі візітатар — быць адлучаным ад царквы). Было вызначана, што толькі багатыя парафіі абавязаны кампенсаваць выдаткі на правядзенне В., а яе тэрмін мае быць непрацяглым, каб не абцяжарваць парафію. У час правядзення В. епіскапы павінны былі асвячаць яшчэ не асвячоныя храмы. Протапрэсвітэры і дэканы павінны былі дапамагаць епіскапам праводзіць В., а таксама візітаваць свае дэканаты мінімум праз год пасля генеральнай візітацыі, а таксама ажыццяўляць рашэнні апошняй. На практыцы генеральныя і дэканскія В. ажыццяўляліся значна радзей. Замойскі сабор выпрацаваў фармуляр пытанняў, якія павінны былі задавацца візітатарамі пад час В. (яны маглі дапаўняцца і мадыфікавацца). Пытанні былі падзелены на 16 груп: парох, дыякан, мошчы, абразы, адпусты, хрышчэнні і мірапамазанні, еўхарыстыя, пакаянні, елеяпамазанні, вянчанні, літургія, пахаванні, брацтвы міран, шпіталі, манахі, манахіні. Для правядзення В. епіскап мог прызначаць і звычайнага пароха, якому дадаваўся пісар. Візітацыйная дакументацыя (называлася таксама «візітацыя», «візіта») — важная крыніца па гісторыі царквы, культуры, гаспадаркі. Тут апісваўся знешні і ўнутраны выгляд храмаў, фіксавалася наяўнасць абразоў, іканастасаў, алтароў, літургічных рэчаў, кніг, іншай маёмасці, гаспадарчага інвентару, зямлі і інш. Візітацыйная дакументацыя складалася пераважна на польскай мове. Епархіяльныя візіты сшываліся ў спец. кнігі па пэўных парафіях і за пэўныя перыяды.



Звычайна візіты пачыналі апісанне храма з алтароў, абразоў, інш. літургічных рэчаў, пасля пералічваліся богаслужэбныя і метрычныя кнігі, святарскае адзенне. Давалася апісанне знешняга выгляду храма (у некаторых выпадках прыводзіліся малюнкі), царк. могілак. Потым называліся вёскі, жыхары якіх былі прыпісаны да храма; адзначаліся могілкавыя капліцы і філіяльныя цэрквы, брацтвы. Пералічваліся царк. дакументы, што захоўваліся пры храме. Адзначалася, ці выканаў святар рэкамендацыі папярэдніх В. Апісваліся жылыя і гаспадарчыя пабудовы плябаніі, даходы пароха. Асабістая маёмасць пароха апісвалася рэдка. Называліся імя і прозвішча святара, яго ўзрост, адукацыя (якую духоўную школу скончыў), гады хіратаніі і прызначэння на пасаду, сваякі. Адзначаліся яго маральныя якасці, адпаведнасць пасадзе, недахопы ў вядзенні душапастырскай дзейнасці, у гаспадарцы, даваліся рэкамендацыі па ліквідацыі недахопаў.

*Літ.*: Малишевский Н. Заметка о визитах, как хранилищах исторических сведений и документов // Литовские епархиальные ведомости. 1869. № 10; Яго ж. Извлечение из инвентаря визит 1703 года протопопий: Горецкой, Лепельской, Бешенковской, Голобицкой, Бабыницкой, Освейской, Брацлавской, Себежской, Полоцкой [...] // Там жа. № 17; Яго ж. Долгиновское и Ошмянское благочиния в 1784 году: (извлечение из визит) // Там жа. № 23; Археографический сборник документов. Т. 13, 14. Вильна, 1902, 1904; Пятровіч Н. Крыніцы па гісторыі каталіцызму і уніяцтва Беларусі ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы // Вяртанне-6. Мінск, 1999; Скочиляс І. Генеральні візітації в українсько-білоруських єпархіях Київської уніатської митрополії, 1596—1720 роки // Записки Наукового товариства імені Шевченка. Львів, 1999. Т. 238; Лісейчыкаў Дз.В. Візіты і інвентары уніяцкіх храмаў Беларусі як крыніца па гісторыі штодзённасці: (паводле матэрыялаў НГАБ) // Беларускі археаграфічны штогоднік. Мінск, 2005. Вып. 6; Яго ж. Пратаколы генеральнай візітацыі уніяцкіх цэркваў Кіеўска-Віленскай епархіі 1680—1682 гг. у фондах НГАБ // Rocznik Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej. Lublin, 2007. R. 5; Цвірка А.А., Яцкевіч З.Л. Візіты Заслаўскай уніяцкай царквы Праабражэння Гасподняга за 1681, 1792 гг. // Там жа; Яцкевіч З.Л. Візіты Блоньскага і Пухавіцкага уніяцкіх дэканатаў 1783—1784 гг. // Архіварыус. Мінск, 2006. Вып. 4; Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680—1682 гг.: зб. дак. / Уклад. Дз.В.Лісейчыкаў. Мінск, 2009; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Cz. 1—3. Wilno, 1908—16; Greckokatolickie dekanaty błoński i puchowicki w latach 1783—1784 / Wstęp i oprac. I.Wodzianowska. Sandomierz, 2006.

**вікарый** (лац. vicarius ад vices gerere замяшчаць), намеснік пэўнай царкоўнай пасады. У каталіцкай царкве ВКЛ існавалі В. біскупаў, кафедральныя, парафіяльныя і інш. В. кафедральны — намеснік члена капітула (пралата ці каноніка), які сам не мог выконваць капітульныя абавязкі, звычайна з-за занятасці дзярж. і інш. справамі. Такія В. складалі асобую калегію з уласным правам і прывілеямі, вікарную пасаду займалі пажыццёва. В. парафіяльны — святар, які ў якасці намесніка пробашча выконваў душапастырскія абавязкі. Былі пастаянныя (пажыццёвыя) і часовыя (выконвалі або ўсе абавязкі пробашча, або некаторыя з іх). В. існавалі і ў праваслаўных, з 17 ст. — ва уніяцкіх прыходах. У касцельным праве ў дачыненні да В. ужываўся тэрмін «каад'ютар».

**Вікінт**, Вікент, легендарны жамойцкі князь. Хроніка Быхаўца паведамляе, што жамойцкі князь Монтвіл меў 2 сыноў: В. і Эрдзівіла. Пасля смерці бацькі вял. князем жамойцкім стаў В., а яго брат Эрдзівіл княжыў у Новагародку, Гародні, Берасці і інш. рус. гарадах, разбураных ханам Батыем. Такім чынам, княжанне В. ўмоўна аднесена да сярэдзіны 13 ст. Падрабязнасці княжання В. не паведамляюцца. Пасля яго смерці яго ўладанні адышлі да літ. кн. Жывінбуда. Аўтар летапісу Рачынскага падае тыя ж звесткі, але і адзначае, што летапісцы называюць сыноў Монтвіла інш. імёнамі — Неманас і Скірмант. Аўтар летапісу Красінскага называе сыноў Монтвіла Неманас і Скірмант, а аўтар Альшэўскага летапісу па-рознаму: у адным месцы Эрдвіл і Крымунт (апошні адпавядае В.), а потым паведамляе, што пасля смерці Монтвіла вял. князем жамойцкім стаў яго малодшы сын В. (старэйшы сын, Эрдвіл, княжыў у рус. гарадах). Румянцаўскі летапіс таксама злучае 2 версіі адносна сыноў Монтвіла: Вінінт (варыянт Вікент) і Эрдзівіл, Неманас і Скірмант. Гісторык 16 ст. М.Стрыйкоўскі называе братоў В. і Эрдзівіла. На яго думку, малодшы сын Монтвіла, В., атрымаў пасля смерці бацькі княствы Жамойцкае і Куршскае, жыў у згодзе са старэйшым братам Эрдзівілам, які валодаў рус. гарадамі, і Жывібудам Дарспрунгавічам, які княжыў у Кернаве, Вількаміры, Дзяволтве і частцы Літвы паміж рэкамі Нявяжа і Вілія. Усе трое супольна ваявалі супраць русакоў і інфлянцкіх немцаў, В. аказаў дапамогу Эрдзівілу ў *Крутагорскай бітве* з татарамі. Як адзначае Стрыйкоўскі, некаторыя летапісы сведчаць, што В. быў забіты ў час паходу на Русь, аднак сам прытрымліваўся версіі, што В. памёр сваёй смерцю незадоўга перад смерцю Эрдзівіла. «Хроніка літоўская і жамойцкая» 17 ст., прымаючы ў асноўным версію Стрыйкоўскага, паведамляе, што Монтвіл меў 3 сыноў: Эрдзівіла (ён жа Радзівіл), Нёмана і малодшага В. (Вікента), які пасля смерці бацькі прыняў княствы Жамойцкае і Куршскае. Прататыпам легендарнага летапіснага князя В. паслужыў часткова рэальны жамойцкі князь *Выкынт*.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Віленскае цівунства**, адміністрацыйна-тэрытарыяльная і гаспадарчая адзінка ў ВКЛ у 14—18 ст. Магчыма, існавала ўжо пры вял. кн. Гедыміну, вядома з 1430-х г. Уяўляла собой дзярж. павет, які матэрыяльна забяспечваў сталіцу ВКЛ — Вільню. Ляжала на ПнУ ад Вільні. Складалася з валасцей (часам таксама называліся паветамі, дзяржавамі): Немянчынскай, Свянцянскай, Лынгмянскай, Дзісенскай, Трашкунскай, Ажвінскай, Канцяжынскай. Цівун віленскі ажыццяўляў гаспадарчае кіраванне дзярж. землямі (збіраў з іх мядовую даніну, мезлеву, распараджаўся млынамі, матэрыяльна забяспечваў Віленскі кафедральны касцёл, адсылаў збожжа ў дзярж. замкі, і інш.), уладкоўваў там ваеннапалонных, майстроў, што былі заняты на будоўлях у Вільні. Ён меў таксама суд. ўладу, уво-



дзіў ва ўладанне маёнткамі, падараванымі вял. князем, збіраў дзярж. падаткі (сярэбшчыну), мог выконваць абавязкі віленскага ваяводы. Быў вольным ад ваеннай службы. Віленскім цівуном мог быць толькі падданы ВКЛ. Меў уласны апарат: падцівуна, мясцовых дзякаў, намеснікаў. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 тэр. В.ц. ўвайшла ў склад Віленскага, Ашмянскага і Браслаўскага пав., але як гаспадарчая адзінка яна захавалася.

*Літ.*: W o j t k o w i a k Z. Lithuania transwilniensis saec. XIV—XVI: Podziały Litwy północnej w późnym średniowieczu. Poznań, 2005.

**Віленская археаграфічная камісія**, Віленская камісія для разбору і выдання старажытных актаў, афіцыйная навуковая ўстанова ў крас. 1864—1915. Створана з мэтай абгрунтаваць велікадзярж. палітыку царызму на Беларусі і ў Літве. Найважнейшым абавязкам камісіі была публікацыя дакументаў аб існаванні правасл. цэркваў і манастыроў у краі. Археагр. падрыхтоўка дакументаў часта была на невысокім узроўні. У рабоце камісіі ўдзельнічалі П.А.Бяссонаў. Я.Ф.Галавацкі, М.І.*Гарбачэўскі*, Ф.М.*Дабранскі*, Дз.І.*Даўгяла*, Ю.Ф.*Крачкоўскі*, К.І.Снітка, І.Я.*Спрогіс*, А.В.*Турцэвіч*. С.В.*Шаўковіч* і інш. Выдадзена 39 тамоў *Актаў Віленскай камісіі* (матэрыялы земскіх, гродскіх, копных судоў, магістратаў, інвентары старостваў і маёнткаў, матэрыялы пра вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і інш.); 6 выданняў (у 8 кнігах) па гісторыі аграрных адносін, лясной гаспадаркі (*«Пісцовая кніга былога Пінскага старасmва», «Пісцовая кніга Гродзенскай эканоміі», «Пісцовая кніга Пінскага і Клецкага княстваў», «Рэвізія Кобрынскай эканоміі...», «Рэвізія пушчаў і пераходаў звярыных у былым Вялікім княстве Літоўскім...» , «Ардынацыя каралеўскіх пушчаў у лясніцтвах былога Вялікага княства Літоўскага»), «Зборнік дакументаў, якія датычаць адміністрацыйнага ладу Паўночна-Заходняга краю пры імператрыцы Кацярыне ІІ (1792—1796)», «Зборнік палеаграфічных здымкаў са старажытных грамат і актаў»*, усяго 49 тамоў крыніц. Нягледзячы на тэндэнцыйнасць у рабоце камісіі, яе выданні з'яўляюцца важнай крыніцай вывучэння гісторыі, эканомікі, культуры Беларусі, гісторыі бел. мовы.

*Літ.*: Т у р ц е в и ч А. Краткий исторический очерк Виленской комиссии для разбора и издания древних актов, 1864—1906 гг. Вильна, 1906; У л а щ и к Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Ш у м е й к о М.Ф. Белорусская археография в первой четверти XIX—XX вв.: (проблемы теории, истории, методики). Минск, 2000; Я г о ж. Белорусская археография в XIX—XX вв.: (проблемы теории, истории, методики). Минск, 2007. ***Анатоль Грыцкевіч.***

**Віленская бітва 1734.** Адбылася 30 студз. ў час *вайны за польскую спадчыну 1733—38.* Аб'яднанае войска прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага вырашыла бараніць Вільню ад войск рас. генерал-маёра Льва Ізмайлава і Мікалая Фаўстына Радзівіла. Расіяне бачылі мэтай бітвы поўнае і хуткае знішчэнне сіл прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага. Корпус Ізмайлава складаўся з 6 тыс. салдат, яго падтрымлівала 3-тысячнае войска ВКЛ і прыйшоўшы з ім 2-тысячны дапаможны рас. атрад пад камандаваннем падпалкоўніка Лівена. Войскі прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага пад камандаваннем рэферэндара ВКЛ Дамініка Валовіча, польнага стражніка ВКЛ Марціна Пашкоўскага, Крычэўскага, Ігната Ланеўскага-Ваўка, Шырвінскага, Юзафа Бжастоўскага, Панцынскага і Важынскага (9—10 тыс. чал.) размясціліся на гары каля касцёла св. Стафана. У выніку рас. войскі не змаглі разгарнуцца для бітвы і былі вымушаны рушыць вузкай дарогай каля самой гары. Дачакаўшыся ар'ергарда, рушылі ў наступленне грэнадзёры Сібірскага палка, за імі — Ладажскі батальён і асн. сілы Сібірскага палка. Прыхільнікі Станіслава Ляшчынскага пачалі страляць, але рабілі мала шкоды праціўнку. З іншага боку атакавалі рас. кірасіры, іх эскадрону нават удалося ўзабрацца на гару. За ім тое ж удалося зрабіць 2 ротам драгунскага Нарвенскага палка. Прыхільнікі Ляшчынскага пад камандаваннем Пашкоўскага атакавалі казакоў, драгун і роту Каргапольскага палка, якія не здолелі ўтрымацца на пазіцыях і адступілі за кірасіраў і Нарвенскі полк. Рас. кавалеры былі нанесены значныя страты. Праследуючы праціўніка, прыхільнікі Ляшчынскага сутыкнуліся з кірасірамі і эскадронам Нарвенскага палка, якія вытрымалі атаку. У вырашальны момант бітвы Пашкоўскі не атрымаў дапамогі ад Валовіча. У выніку яго атрад быў вымушаны адступіць, страціўшы пэўную колькасць параненымі і забітымі. Адступіўшыя войскі Ляшчынскага перагрупіраваліся і зноў былі гатовы да бітвы. Перагрупіроўку сваіх сіл зрабіў і Ізмайлаў. Пры артылерыйскай падтрымцы рас. войскі рушылі ў атаку. Прыхільнікі Станіслава Ляшчынскага не прынялі бітвы і адступілі. У рас. войск не засталося сіл, каб праследаваць іх.

*Літ.*: Б у т у р л и н Д. Военная история походов россиян в XVIII столетии. Ч. 3. Санкт-Петербург, 1823; T r u c h i m S. Konfederacja Dzikowska, Poznań, 1921; S l i e s o r i ū n a s F. Mūšis prie Vilniaus ir miesto nusiaubimas 1734 metais // Lietuva ir jos kaimynai: nuo Normanų iki Napoleono. Vilnius, 2001. ***Андрэй Мацук.***

**Віленская Богаяўленская царква**, другая назва *Віленскай Пятніцкай царквы.*

**Віленская брацкая школа**, вучэбная ўстанова праваслаўнага брацтва пры *Віленскім Святадухаўскім манастыры*. Арганізавана правасл. жыхарамі Вільні ў 1584, якія дамагліся прывілеяў на адкрыццё школы ад канстанцінопальскага патрыярха Іераміі (1588) і караля Жыгімонта III (1589). Дзейнічала з 1591. Выкладаліся царк.-слав., грэчаская, лацінская, польская мовы. Цярпела супрацьдзеянне езуіцкай *Віленскай акадэміі*, студэнты якой у 1598 разграмілі В.б.ш. Росквіт школы прыйшоўся на 1590-я г., калі тут выкладалі *Кірыла* Транквіліён-Стаўравецкі (з 1592), Стафан *Зізаній* (1593—99), Лаўрэнцій *Зізаній* (1595—97). У пач. 17 ст. выкладалі *Лявонцій* Карповіч (да 1608), Мялецій *Смотрыцкі*. Сярод выпускнікоў школы — епіскап *Іосіф* Бабрыковіч (рэктар школы ў 1624—25), С.Шыцік-Заленскі, мітрапаліт *Іосіф* Нелюбовіч-Тукальскі. Школа рыхтавала выкладчыкаў для інш. правасл. школ ВКЛ, якія дзейнічалі пры манастырах. У 1617 для В.б.ш. пабудавана камяніца. Кароль Польшчы і вял. кн. ВКЛ



Уладзіслаў IV у 1635 выдаў прывілей, згодна з якім з усіх правасл. школ толькі ў Віленскай і Кіеўскай брацкіх школах дазвалялася выкладаць лацінскую і грэчаскую мовы. В.б.ш. цесна супрацоўнічала з *Віленскай брацкай друкарняй*, якая выдавала ў т.л. і школьныя падручнікі, а выкладчыкі школы працавалі і ў друкрані (напрыклад, Лявонцій Карповіч быў друкаром і карэктарам). З сярэдзіны 17 ст. ў сувязі з ваеннымі падзеямі В.б.ш. прыйшла ў занапад, аднак існавала да часу скасавання Святадухаўскага брацтва (1796).

*Літ.*: Смирнов Ф.К. Виленский Свято-Духов монастырь: Ист. описание. Вильно, 1888; П-ч [Панкевич] М. Виленское Свято-Троицкое, впоследствии Свято-Духовское, братство: (ист. очерк). Вильна, 1891; Харлампович К. К истории западно-русского просвещения: Виленская братская школа в первые полвека ее существования. Вильна, 1897; Его ж. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века, отношение их к инославным, религиозное обучение в них и заслуги их в деле защиты православной веры и церкви. Казань, 1898; Сцепуро Д. Виленское Св.-Духовское братство в XVII и XVIII столетиях // Тр. Киевской духовной академии. 1898. Т. 3; 1899. Т. 1— 3; Chomik P. Bractwo św. Ducha w Wilnie w XVI—XVIII wieku // «Pokazanie Cerkwie prawdziwej...»: Studia nad dziejami i kulturą Kościoła prawosławnego w Rzeczypospolitej. Białystok, 2004.

**Віленская Васкрасенская царква.** Знаходзілася ў Вільні на рагу Вялікай і Шкляной вуліц, недалёка ад ратушы. Была адной з важнейшых правасл. цэркваў горада. У 1511 упамінаецца ў грамаце мітрапаліта Іосіфа Солтана, у 1580 — у рэестры васковай даніны з Віленскага брацтва. У 1609 перададзена уніятам, у якіх знаходзілася да канца 18 ст. У 1619 царк. дзядзінец з могілкамі абгароджаны тынам, тут пабудавана некалькі дамоў. У 1632 уніяты абяцалі перадаць В.В.ц. ў ліку 3 цэркваў праваслаўным, што не зроблена. Згодна з соймавай пастановай 1650, прынятай пасля Збораўскага дагавора 1649 з укр. казакамі, царква павінна была быць вернута праваслаўным, аднак гэта не выканана. У 1654 у Віленскай уніяцкай кансісторыі разглядалася справа аб прысваенні царк. рэчаў і грошай святаром В.В.ц. Рыбінскім. Упамінаецца ў 1671 як цэлая. У 2-й пал. 17—18 ст. царква валодала некалькімі камяніцамі, якія здаваліся ў арэнду. У 1705 епіскап Гедэон Шумлянскі рукапалажыў для яе святара Якава Жываткевіча. У 1706 адрамантаваны 2 царк. крамы і камяніца. Камяніца і крамы ў пач. 18 ст. здаваліся ў арэнду Вількіну і інш. асобам. У 1724 Стафан Гружэўскі падараваў В.В.ц. 140 злотых, Марцыян Дамброўскі — двор каля радзівілаўскага палаца. У 1776 царква ў руінах, пасля стала зусім лядашчай, таму святар Макрэцкі дамогся права перабудаваць яе ў жылы дом.

*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Его ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Вялікая сінагога.** Пабудавана ў Вільні на Нямецкай вул. па прывілеі караля польскага і вял. князя літоўскага Уладзіслава IV 1633 на месцы разбуранай у 1606 драўлянай сінагогі. Была вял. мураваным будынкам, амаль квадратным у плане. Каб вышыня сінагогі не перавышала акаляючую забудову (адно з патрабаванняў каралеўскага прывілея), яе падлога была апушчана ў грунт на 2 м. Асн. аб'ём сінагогі — мужчынская зала памерамі 22,3 × 25 м, разлічаная на 3 тыс. чал. З трох бакоў яна была абкружана 2-павярховымі галерэямі. Уваход вёў у калідор-сенцы, над якім размяшчаліся памяшканні для кіраўніцтва кагала. 2 галерэі прызначаліся для жанчын. Фасады сінагогі былі мала аздоблены, падзяляліся плоскімі пілястрамі, былі прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі і завяршаліся прафіляванымі карнізамі. Паўд.-ўсх. (звернуты да вуліцы) і паўн.-зах. фасады завяршаліся хвалістымі (?) франтонамі. У цэнтры мужчынскай залы стаялі 4 калоны тасканскага ордэра, якія падтрымлівалі скляпенне, аздобленае ляпнымі рэбрамі. У 1635 сінагога разгромлена ў час антысеміцкага выступлення віленскіх мяшчан, моцна пацярпела ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, пашкоджана пажарам 1748, пасля якога інтэр'еры набылі рысы ракако. Ніша для Торы (арон-кадэш) была вылучана калонамі, на ламаным карнізе ўладкавана раскошная разьба з выявамі львоў і вазонаў, паміж якімі была зроблена выява скрыжаляў. У канцы 18 ст. будынку нададзены рысы класіцызму, франтоны сталі трохвугольнымі, галерэі набылі дарычныя калоны. У 2-ю сусв. вайну сінагога моцна пацярпела, канчаткова зруйнавана ў 1957.

*Літ.*: Янкявічэне А. Вялікая сінагога ў Вільні // Помнікі мастацкай культу-



**Віленская Вялікая сінагога**. Знешні выгляд.



**Віленская Вялікая сінагога**.
Інтэр'ер.

ры Беларусі эпохі Адраджэння. Мінск, 1994; D r ē m a V. Dingęs Vilnius. Lost Vilnius. Исчезнувший Вильнюс. Vilnius, 1991.

**Віленская Іванаўская царква**, Віленская царква Іаана Багаслова. Знаходзілася ў Вільні на Пакроўскай вул., каля Пакроўскай царквы. У 1511 упамінаецца ў грамаце мітрапаліта Іосіфа Солтана. У 1554 дворны падскарбі Іван Андрэевіч Солтан завяшчаў царкве дом у Вільні. У 1559 валодала зямлёй паміж цэрквамі св. Міхаіла і св. Іаана (дом на гэтым пляцы адзін мешчанін перадаў іншаму з умовай, што пазямельная плата павінна ісці, «як старадаўна бывала», святару В.І.ц.). У 1609 перададзена уніятам. У 1610, відаць, пашкоджана пажарам, аднак у 1619 мураваныя сцены царквы былі цэлыя. У 1620 царк. ўлады пратэставалі супраць захопу Гурскім царк. пляца. У 1628 шавецкі цэх прыняў рашэнне даваць царкве штогод 2 капы грошаў, паўкаменю і 3 фунты воску. У 1671 яшчэ існавалі руіны В.І.ц. і яе мурававай званіцы, але яе дзядзінец з могілкамі забудоўваліся прыватнымі дамамі (у т.л. стаяла камяніца каноніка Пшэслаўскага — былая камяніца Гурскага, да царк. памяшкання прыбудаваны інш. муры). Пасля не ўпамінаецца.

*Літ.*: К р а ч к о в с к и й Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Д о б р я н с к и й Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Ільінская царква**, Віленская царква Ільі Прарока. Знаходзілася ў Вільні на вул. Латочак, каля Раждзественскай царквы. Адна са стараж. правасл. цэркваў. Вільні. У 1609 ужо не існавала. У 1619 адзначана, што яе пляц з могілкамі забудаваны дамамі. У 1622 муляр-немец Ендрых пачаў будаваць тут дом, было выкапана некалькі старых трун і шмат костак, пра што енералам была складзена рэляцыя.

*Літ.*: К р а ч к о в с к и й Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Д о б р я н с к и й Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Казьмадзям'янаўская царква**, Віленская царква Казьмы і Дзям'яна. Знаходзілася ў Вільні на рагу вул. Бакшты і Андрэеўскай, у пачатку Казьмадзям'янаўскай (Смілінскай, Савіч) вуліцы. Вядома з 1503. Драўляная. У пач. 16 ст. яе святар Іаан быў намеснікам мітрапаліта ў Вільні. Упамінаецца ў акце 1594. У 1609 перададзена уніятам. У 1631 падканцлер ВКЛ П.Сапега запісаў царкве плату са сваёй камяніцы на вул. Савіч — 10 коп грошаў штогод. Згарэла, відаць, у пажары 1655 падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У 1671 замест яе на дзядзінцы пустое месца, могілкі закінуты, але межавыя знакі захаваліся. У 1677 мітрапаліт Кіпрыян Жахоўскі аддаў царк. пляц манахам-аўгусцінцам, якія пабудавалі тут кляштар. У 1807—08 ён заняты пад правасл. духоўную семінарыю, аўгусцінскі касцёл перароблены пад царкву Андрэя Першазванага.

*Літ.*: К р а ч к о в с к и й Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Д о б р я н с к и й Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская капліца святога Казіміра.** Пабудавана ў 1623—32 па заказе караля польскага і вял. кн. літ. Жыгімонта III Вазы і віленскага біскупа Астафія Валовіча. Праект у стылі ранняга барока склалі і кіравалі будаўніцтвам архітэктары-італьянцы Канстанціна *Тэнкала* і Матэа Кастэла. Па заказе Жыгімонта III быў зроблены новы саркафаг-рэлікварый св. *Казіміра* і 14.8. 1636 урачыста ўнесены ў алтар капліцы, аздоблены сярэбранымі арнаментамі і скульптурай укрыжаванага Хрыста, прадстаячых Панны Марыі, Яна Евангеліста і Марыі Магдалены. 2 бакавыя алтары змяшчалі сярэбраныя статуі апосталаў і рэльефы з жыцця св. Казіміра. Кароль польскі і вял. кн. літ. Уладзіслаў IV, яго жонка Цэцылія Рэната і магнаты падаравалі ў капліцу шмат залатых і сярэбраных літургічных і ватыўных рэчаў. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 сярэбраны алтар і інш. аздобы з серабра і золата былі ўзяты каралём польскім і вял. кн. літ. Янам II Казімірам на патрэбы дзяржавы. Капліца ў плане ўяўляе квадрат з бокам 11 м, кубічны аб'ём увенчаны купалам на 8-гранным барабане з ліхтаром, упісаны ў канец паўд. нефа *Віленскага кафедральнага касцёла Станіслава і Уладзіслава*. Уваход у капліцу з нефа аздоблены парталам з мармуру розных колераў, дзверы літыя краціс-тыя. Над уваходам знаходзіцца каралеўская ложа. Знешнія сцены капліцы складзены з блокаў са шведскага каменю (вапняку), расчлянёны дарычнымі пілястрамі, знадворку змешчана фун-



**Віленская капліца святога Казіміра**.
Знешні выгляд.



**Віленская капліца святога Казіміра**. Інтэр'ер.

датарская табліца Уладзіслава IV, пры якім капліца была закончана. Інтэр'ер аздоблены архітэктурнымі элементамі з каменю і мармураў рознага колеру. Пашкоджаную ў час ваенных дзеянняў капліцу ў 1666 рэстаўрыраваў архітэктар Ёган Вінцэнт Сальвадор. Новыя работы па рэстаўрацыі капліцы арганізаваў у 1690—92 гетман ВКЛ Казімір Ян Сапега. Выкананыя ў гэты час, верагодна, майстрам Пятром *Перці* алтар і ляпны дэкор інтэр'ера са штука ў стылі барока захаваліся да нашага часу. У нішах купала стаяць 4 алегарычныя скульптуры. У канцы 17 ст. Мікельанджэла *Палоні* намаляваў 2 фрэскі: «Адкрыццё труны св. Казіміра» (адбылося ў пач. 17 ст.) і «Цуд уваскрэсення дзяўчынкі пры труне св. Казіміра». Роспісы невядомага мастака на ветразях купала паказваюць св. Казіміра ў небе сярод анёлаў і аблокаў. У нішах сцен устаноўлены разьбяныя пасярэбраныя скульптуры каралёў Ягайлы (Уладзіслава II), Уладзіслава III Варненчыка, Казіміра IV Ягелончыка, Яна Ольбрахта, Аляксандра, Жыгімонта I Старога, Жыгімонта II Аўгуста і св. Казіміра (канец 18 ст.). Побач з алтаром у рагу капліцы стаіць разны пазалочаны амбон канца 17 ст. незвычайнай формы накшталт келіха. На месцы алтара змешчана сярэбраная труна з рэліквіямі св. Казіміра (зроблена ў 1742—47). На яе вечку сярэбраная фігура св. Казіміра, выкананая ў той жа час. У 1952—89 саркафаг знаходзіўся ў касцёле св. Пятра і Паўла на Антаколі. Над табернакулумам стараж. абраз св. Казіміра ў сярэбранай шаце, ахінуты балдахінам.

*Літ.*: Киткаускас Н.Й. Вильнюсский кафедральный собор. Вильнюс, 1977; Kłos J. Wilno: Przewodnik krajoznawczy. Wilno, 1937; Vilniaus katedros lobynas: Albumas. Vilnius, 2002.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Віленская Кацярынінская царква.** Знаходзілася ў Вільні каля Прачысценскага сабора і Міхайлаўскага касцёла. У грамаце 1511 мітрапаліта Іосіфа Солтана ўпамінаецца аб яе асвячэнні (відаць, пасля аднаўлення, а не пабудовы). У 1548 мітрапаліт Макарый рукапалажыў у В.К.ц. святара Міхаіла, які да таго быў дворным святаром земскага падскарбія ВКЛ Івана Гарнастая. Мяркуецца, што згарэла ў час пажару 1557, бо ў дакументах 2-й пал. 16 ст. не ўпамінаецца. У 1619 была ў руінах, яе пляц з могілкамі забудаваны прыватнымі дамамі. У 1631 за самавольнае будаўніцтва на грунце В.К.ц., які належаў Троіцкаму манастыру, базыльяне паклікалі ў Трыбунал ВКЛ Асінскага. У 1651 прынята судовае рашэнне аб ачыстцы царкоўнага пляца ад прыватных пабудоў, але гэта не выканана. У 1671 мітрапаліт Гаўрыіл Календа намагаўся адсудзіць царк. пляц, што яму не ўдалося.

*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Его ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Мікалаеўская царква**, Віленская царква Успення святога Мікалая, Віленская Успенска-Мікольская царква. Знаходзілася ў Вільні на рагу Смілінскай (Савіч, Латочак) вул. і Пятніцкага завулка, каля Міхайлаўскай царквы. Драўляная з муравանай званіцай. Упершыню ўпамінаецца ў 1347, калі тут пахаваны *Тры віленскія мучанікі*. У 1551 мітрапаліт Макарый загадаў віленскім мяшчанам перадаць В.М.ц. святару Менскай Мікалаеўскай царквы. У 1566 клецкі святар Пракоп Левановіч прасіў віленскіх бурмістраў і мяшчан даць яму месца святара пры В.М.ц. (адзначана, што царква драўляная). У 1609 перададзена уніятам. У 1610 знішчана пажарам. У 1612 абгарэлыя сцены званіцы мітрапаліт Ігнацій Пацей аддаў віленскаму мешчаніну Пятру Васілевічу ў арэнду для ўладкавання там жылога дома (за штогадовую плату 7 коп грошаў і права адчыніць у гэтым доме шынок). У 1616 гэты дом прададзены Яну Дзядзюлю, у 1627 — Міхноўскаму. У 1629 забаронена Асінскаму будавацца на царк. пляцы, у 1631 ён за самавольнае будаўніцтва пакліканы базыльянамі ў Трыбунал ВКЛ. У 1671 не існавала нават слядоў В.М.ц., так што ў спрэчцы з мітрапалітам за права валодаць гэтым пляцам Віленскі магістрат нават сумняваўся ў факце існавання царквы.

*Літ.*: Крачковский Ю.Ф. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Міхайлаўская царква**, Віленская царква Міхаіла Архангела. Знаходзілася ў Вільні на рагу Вял. і Пакроўскай вуліц, каля Іванаўскай царквы. Вядома з 2-й пал. 15 ст. У 1511 упамінаецца як стараж. пры спрэчцы віленцаў з мітрапалітам. У 1522 святар Віленскай Юр'еўскай царквы Мацвей запісаў у тэстаменце В.М.ц. акаваны серабром крыж, номаканон, футра з лісіцы. У 1546 мітрапаліт Макарый рукапалажыў у В.М.ц. святара Паўла Мікалаевіча (быў настаяцелем да 1557). У 1610, відаць, згарэла ў час пажару. У 1619 ужо не існавала, яе пляц з могілкамі забудаваны шляхецкімі і мяшчанскімі дамамі. У 1620 мітрапаліт Іосіф Руцкі паклікаў у суд Вялічку за захоп царк. грунта. У 1622 мешчанін-немец Бальвер у час пабудовы дома на Вял. вуліцы, на месцы царк. пляца, адкапаў шмат костак і пахаванні, пра што ене-



ралам быў складзены акт. У 1651 складзены акт, што Садоўскі засыпаў косткі ў склепе царквы. Да 1671 зніклі апошнія сляды В.М.ц., яе пляц цалкам забудаваны. У 1671 мітрапаліт Календа пачаў судовы працэс з кальвіністамі з-за зруйнаваных царк. муроў і атрымаў каралеўскі мандат на вяртанне яму В.М.ц., Пакроўскай царквы і 2 камяніц.

*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская мячэць.** Пабудавана мусульманамі-татарамі, паселенымі вял. кн. літ. Вітаўтам у прадмесці Вільні Лукішкі, відаць, у канцы 14— пач. 15 ст. Упершыню ўпамінаецца ў творы 1558 невядомага аўтара — татарына з ВКЛ «Рысале-і-Татары-Лех» («Трактат аб татарах Польшчы») у шэрагу інш. драўляных мячэцяў ВКЛ. Невядомы польскі падарожнік у 1581 адзначыў, што ў В.м. ніякіх выяў не было, падлога заслана каляровымі дыванамі. Побач з мячэццю размяшчаліся татарскія могілкі. Паводле апісанняў сярэдзіны 19 ст., В.м. была квадратная ў плане, спераду яна мела навес на слупах, накрыты стромкім дахам з маленькім мінарэтам па цэнтры. Пасля некалькі разоў перабудоўвалася. У пач. 20 ст. планавалася пабудаваць мураваны будынак мячэці, аднак гэта не ўдалося з-за пачатку 1-й сусветнай вайны. Пасля 2-й сусветнай вайны мячэць разбурана па загаду ўладаў. Іл. гл. ў т. 1, с. 119.

*Літ.*: Kryczyński L. Historia meczetu w Wilnie: (Próba monografii). Warszawa, 1937; Meczety i cmentarze Tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 1999.



**Віленская мячэць**. Гравюра 19 ст.

**Віленская Пакроўская царква**, Віленская царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы. Знаходзілася ў Вільні на Пакроўскай вул. Мяркуецца, што менавіта В.П.ц. меў на ўвазе вял. кн. літ. Аляксандр, калі пісаў у лісце да вял. кн. маскоўскага Івана III, што недалёка ад Віленскага замка ёсць царква Прасвятой Багародзіцы, куды можа хадзіць маліцца яго дачка Алена. В.П.ц. адзначана ў прадажным запісе 1529 Настассі Зяновічавай Івану Гарнастаю на суседні пляц. У 1546 былы настаяцель В.П.ц., архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры Іаан Матфеевіч запісаў у тастаменце святарам царквы мураваны дом для рэзідэнцыі (збудаваў яго раней на царк. грунце). З 1546 святаром В.П.ц. быў Павел Ніканавіч, з 1554 — Ярмола. Царква ўпамінаецца ў актах 1579, 1608, 1609. У 1609 перададзена уніятам. Да пажару 1610 на пляцы В.П.ц. стаялі дамы кравецкага цэха; падчас пажару яны згарэлі, а іх уладальнікі адбудоўваць іх не захацелі. У 1610 архімандрыт Іосіф Руцкі са згоды мітрапаліта Іпація Пацея дазволіў пабудавць тут дом шаўцу Матысу Ліпніцкаму. У 1619 царква стаяла занядбаная, у ёй ужо не праводзіліся службы. Суседні кальвінскі збор паступова завалодваў царк. землямі. У 1640 мітрапаліт двойчы пратэставаў супраць захопу кальвіністамі царк. зямель, а таксама падаваў скаргі, што кальвінскі збор пабудаваны на царк. зямлі, а саму царкву кальвіністы перарабілі на камяніцу. У 1651 мітрапаліт скардзіўся, што канонік Пшэслаўскі набыў камяніцу на царк. грунце без яго згоды, а да царквы прыбудаваў мур. У 1652 мітрапаліт дазволіў віленскаму архімандрыту Дубовічу будавацца на царк. зямлі. У 1670 мітрапаліт падаў скаргу на кальвініста Раецкага з-за пабудовы ім на царк. грунце муроў. Камісія 1671 адзначыла, што руіны царквы апынуліся сярод будынкаў Віленскага кальвінскага збору. Кальвіністы фактычна захапілі В.П.ц., разбіралі яе на цэглу, зацёрлі стараж. «грэчаскія» фрэскі, дом святара быў цалкам разбураны. Царква не была адноўлена. У 1671 мітрапаліт Календа пачаў судовы працэс з кальвіністамі з-за зруйнаваных царк. муроў і атрымаў каралеўскі мандат на вяртанне яму В.П.ц., Міхайлаўскай царквы і 2 камяніц. У далейшым працягваліся судовыя спрэчкі з-за валодання царк. пляцам.

*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Папская семінарыя**, гл. *Віленскі алюмнат*.

**Віленская Петрапаўлаўская царква**, Віленская царква святых апосталаў Пятра і Паўла. Знаходзілася ў Вільні ў Зарэччы, на вул. Рыконцкай. Мяркуецца, што заснавана ў 14 або 15 ст. У сярэдзіне 16 ст. мітрапаліт Макарый (1534—56) прызначыў сюды святара Мікалая Іванавіча. Упамінаецца ў каралеўскім прывілеі 1558, інш. актах 16 ст. Пры царкве існавалі вял. могілкі для правасл. жыхароў Вільні, з 1558 дзейнічаў шпіталь. З 1570 святаром царквы быў Іван Аляксандравіч, з 1571 — Мікола Іванавіч. У 1609 перададзена уніятам. У 1653 яе серабро перададзена на захаванне ў Троіцкі манастыр. У час вай-



ны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, відаць, пашкоджана. У 1667 бурмістр Мікалай Клічэўскі запісаў тэстаментам на шпіталь В.П.ц. грошы. У 1671 царква і могілкі пры ёй ужо закінуты, неразбураным заставаўся толькі шпіталь.

*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская пушкарня**, дзяржаўная майстэрня па вырабе гармат у Вільні. Мяркуецца, што заснавана вял. кн. літ. Жыгімонтам II Аўгустам у 1540-х г. Размяшчалася на б. землях кармеліцкага кляштара каля арсенала на Дольным замку. Некалькіх майстроў для пушкарні прыслаў прускі герцаг Альбрэхт (Георга Герліха са Шмалькальдэна ў 1552, Мікалая Готшалка ў 1556). Шмат майстроў прыслана з Кракаўскай пушкарні, сярод іх былі Марцін Сякіра, Станіслаў Турэк Зіменскі з Любліна, Мікалай Дроздэк (усе 1552), Мацей Рыснічэр з Сілезіі (1554), Валенты Спілер, Ян Фаўнер з Нюрнберга, Дамінік Шмід з Торуні, старшыя пушкары Валенты Гафер і Андрэй Гнаўэр (усе 1555), Бенядыкт Кніпер (1557), Андрэй Фляўм з Аненберга, Георг Шольц з Нісы, Крыштоф Фрыч з Любоўлі, Марцін Крэйнер, Вальцін Ахтруд з Вроцлава, Тамаш Дзюрынг з Дрэздэна, Вальцін Чэп з Гуры, Ян Мюлер з Нюрнберга, Ян Недлер, Андрэй Сцікс з Рэгенсбурга, Георгій Кобер з Вроцлава, Анджэй Носек са Сжэсна, Анджэй Шыдлоўскі з Кракава, Бенядыкт Залдоўскі з Маравіі, Ваўжынец Кабіленскі з Кракава, Якуб Гембіцкі з Клепажа, Якуб Шмукеж з Прагі, Себасцьян Галер з Швайнфурта, Мікалай Пацін (усе 1563). Яшчэ адна партыя пушкароў паслана ў Вільню ў 1567. Былі таксама запрошаны злотнікі для аздаблення і апрацоўкі гармат: Эразм Кунч (1553), Георг Бімбгаўзен з Гданьска, Іаган Сахс з Ганзена ў Галшчыніі, Іаган Арнстайн з Эмдэна, Генрых Мілянд са Страсбурга, Іаган Рослер з Іахімсталя, Іаган Якуб Шмідле з Цюрыха, Ян Менс з Аўгусты ў Чэхіі, Ян Вявёрка з Ланчыцы (усе 1554), Гаспар са Страдома (1555). Сярод віленскіх людвісараў вядомы таксама Шыман *Гавіч* (1553), Фларыян Сач (1554), Шыман *Бухвіч*. Пушкар і сотнік Андрэй Тольман у 1555 быў пасланы з Вільні ў Кіеў. Агульнае кіраўніцтва В.п. ажыццяўляў Гіоб *Брэтфус*, а пасля яго смерці (1571) — Дзюрынг з Дрэздэна. Сыравіна на В.п. прывозілася з Кракава, куды паступала з розных краін: медзь — з Венгрыі, свінец — з Гданьска і Олькуша, сталь — з Карынціі і Венгрыі. Асабліва актыўна В.п. працавала ў 1550-х г. Паводле данясення венецыянскага пасла, у 1560 у Вільні было 180 вял. гармат і мноства дробных. У канцы 16 ст. В.п. падтрымліваў кароль польскі і вял. князь літоўскі Стафан Баторый. Пры ім у пушкарні працавалі майстры Крыштоф Спрынгер і Геранім Віталі з Італіі, адліваліся цяжкія асадныя гарматы. У пач. 17 ст. зроблена вял. гармата «Віленскія браты», якая страляла 30-фунтавымі ядрамі. У час паходу на Смаленск у 1610 адліваў гарматы майстар Ян Роланд з 3 памочнікамі. У 1620—30-х г. працаваў людвісар Іаган *Бротэльт* з Латарынгіі, які адліў прынамсі 11 гармат. Пасля В.п. спыніла сваю дзейнасць.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 17—29.

**Віленская Пятроўская царква.** Знаходзілася ў Вільні каля Вострай брамы. Належала *Віленскаму Троіцкаму манастыру*. Пабудавана, відаць, у 1-й пал. 16 ст., пасля таго як у 1507 было скончана ўзвядзенне гар. абарончага мура і Вострай брамы. Ю.Ф. Крачкоўскі меркаваў, што В.П.ц. магла быць заснавана вял. княгіняй літоўскай Аленай Іванаўнай і названа ў гонар маскоўскага мітрапаліта Пятра; прызначалася яна для захоўвання цудатворнага абраза Вастрабрамскай Маці Божай. Аднак, паводле сучасных даследаванняў, гэты абраз датуецца 17 ст. Да пач. 17 ст. царква прыйшла ў заняпад і скасавана. У 1701 існавалі толькі яе руіны.

*Літ.*: Крачковский Ю.Ф. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Раждзественская царква**. Знаходзілася ў Вільні на Прачысценскай вул., насупраць Спаскай царквы, каля Ільінскай царквы. Вядома з пач. 16 ст. У 1510 вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт I Стары даў віленскаму ключніку Рыгору Ісаевічу Грамыку пляц каля В.Р.ц. У 1511 упамінаецца святар гэтай царквы Іакаў. У час вял. пажару Вільні 1557 царква згарэла. Правасл. звярнуліся да караля з просьбай дазволіць ім адбудаваць царкву, атрымалі адпаведны прывілей у 1560. У 1592 адзначаны жылы дом на царк. зямлі. У 1609 перададзена уніятам. У 1610 згарэла, не была адбудавана. У 1619 увесь яе пляц з могільнікам з дазволу царк. уладаў забудаваны дамамі мяшчан. У 1671 былі бачны толькі рэшткі яе алтарнай часткі — стараж. мур вышынёй 3 сажні і шырынёй 1,5 сажні.

*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Спаская царква.** Знаходзілася ў Вільні на Спаскай вул., побач з Прачысценскім саборам (бліжэй да р. Вільня). У грамаце мітрапаліта Іосіфа Солтана 1511 упамінаецца як здаўна існуючая. У 1551 мітрапаліт Макарый перавёў святара В.С.ц. ў Віленскую Мікалаеўскую (Успенскую) царкву. У 1580 адзначана даніна на карысць В.С.ц. з віленскіх мяшчан — свечка з 2 камянёў воску. У 1592 упершыню адзначаны царк. шпіталь, у 1619 ён упамінаецца як мураваны. У 1609 перададзена уніятам. У 1610 моцна пацярпела ад пажару. На пустым царк. грунце архімандрыт Іосіф Руцкі ў 1612 дазволіў будавацца купцу Валенту Урбановічу. У 1619 спец. камісія адзначыла, што царква цалкам занядбаная. Аднак царк. шпіталь працягваў існаваць, утрымліваўся за кошт брацтва. У 1650, калі святар В.С.ц. Себасцьян Федароўскі выехаў з Вільні, царк. начынне, грошы і серабро прысвоіў святар Васкрасенскай царквы Мікалай Рыбінскі. Камісія 1671 адзначыла, што В.С.ц. закінутая.



*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Юр'еўская царква.** Знаходзілася ў Вільні за Вострай брамай, на могілках на Росі. Драўляная. Упершыню ўпамінаецца ў грамаце 1511 мітрапаліта Іосіфа Солтана, дзе адзначана заява юр'еўскага святара Матфея, што ён атрымаў царкву ад мітрапаліта Іоны. У 1522 святар царквы Матфей склаў тастамент, тэкст якога захаваўся да нашага часу. У 1532 кароль польскі і вял. князь літоўскі Жыгімонт I Стары выдаў прывілей на пабудову новай царквы «на Юр'евай Росе». Відаць, меркавалася ўзвесці часоўню або прыдзел да царквы (у гонар Раджджаства Багародзіцы, бо В.Ю.ц. называецца часам царквой Раджджаства Прасвятой Багародзіцы). У 1566 Жыгімонт II Аўгуст выдаў дэкрэт з загадам Івану Цыгану, які прадаў дом, што належаў В.Ю.ц. і трымаў яго ў арэндзе, выкупіць яго назад і вярнуць царкве. З 1582 царква стала месцам брацкіх сходак і гадавых святаў для цэха капялюшнікаў, сярмяжнікаў і нагавічнікаў. Пры ёй існаваў шпіталь. У 1595 царква запячатана прыхаджанамі з-за растраты царк. маёмасці святаром. У 1613 Юр'еўскае брацтва падало скаргу ў задворны асэсарскі суд за няслушнае накладанне падаткаў. У 1620 старшы Віленскага базыльянскага манастыра Іосіф Баравік дазволіў Афанасію Філіповічу трымаць палову царк. пляца за штогадовую плату 30 грошаў на карысць святара царквы. У 1640 і 1642 складзены рэестры царк. рэчаў. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654— 67 царква, відаць, разбурана. У 1671 спец. камісія адзначыла, што ад царквы засталіся руіны, на царк. могілках разбіты агароды і пабудавана некалькі прыватных дамоў. У 1745 праведзена вызначэнне царк. юрыдыкі на Росе «пры царкавішчы».

*Літ.*: Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Я г о ж. Православные святыни города Вильны // Тр. IX археологического съезда 1893 года. М., 1897. Т. 2; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленская Юр'еўская царква.** Знаходзілася ў Вільні на Лукішках. У 1524 кароль польскі і вял. князь літоўскі Жыгімонт I Стары выдаў віленскаму ваяводзе Гаштольду загад, каб ён адвёў пустку для пабудовы гэтай царквы. Пры ёй існаваў невял. манастыр. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.*: Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904.

**Віленскі абраз Маці Божай** Свята-Міхальскі («Мадонна Сапегаў»), адзін з самых старажытных шанаваных абразоў Вільні. Упершыню ўпамінаецца як цудатворны ў бернардзінскай хроніцы Літвы (каля 1655). Абраз увайшоў у сусветны «Марыйны атлас» («Atlas Marianus», Мюнхен, 1672) езуіта Вільгельма Гумпенберга, паводле тэксту Альберта *Каяловіча*. У 1670 і 1671 у сувязі з апрабацыяй цудатворнасці ў Вільні выдадзены 2 кнігі з апісаннем гісторыі і цудаў абраза. Згодна з паданнем, абраз знойдзены ў лесе сярод руін нейкага старога касцёла і прынесены віленскім бернардзінам. Канцлер ВКЛ Леў Сапега, які фундаваў у 1594 *Віленскі кляштар бернардзінак* з касцёлам св. Міхала, перадаў у яго абраз. Перад тым як змясціць абраз у алтар, па загаду канцлера яго спрабавалі паднавіць, але твар Маці Божай не ўспрымаў новай фарбы, і мастак змог толькі перамаляваць выявы апосталаў Пятра і Паўла на святых бернардзінскага ордэна св. Францыска Асізскага і св. Бярнарда Сіенскага. Абраз уцалеў і праславіўся цудамі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, калі знайшлі яго пасля пажару касцёла толькі нязначна пашкоджаным. У 1669 віленскі біскуп Аляксандр Сапега прызначыў камісію на чале з біскупам-суфраганам Мікалаем Слупскім для вывучэння цудаў абраза. Камісія прыйшла да станоўчага вываду, 13.2.1670 біскуп прызнаў абраз цудатворным, а ў 1673 рымскі папа Клімент X даў дазвол каранаваць абраз. Паўторна дэкрэт выдаў папа Клімент XII у 1732 па просьбе кашталяна троцкага Яна Фрыдэрыка Сапегі. Каранацыя адбылася толькі 8—10.10.1750, ужо з дазволу папы Бенядыкта XIV, пад пратэкцыяй падскарбія ВКЛ Аляксандра Сапегі. Залатыя кароны прывёз з Рыму правінцыял бернардзінцаў Францішак Савіч. Магнацкі род Сапегаў апякаў абраз на працягу 2 стагоддзяў, таму ён атрымаў назву «Мадонна Сапегаў». Аднак ужо ў канцы 18 ст. Вастрабрамскі абраз Маці Божай стаў у Вільні больш папулярным і шанаваным. У 1888 касцёл св. Міхала зачынены царскімі ўладамі, і абраз перанеслі ў б. касцёл бернардзінцаў. У 1905 Сапегі дабіліся дазволу адчыніць касцёл св. Міхала (як сваю родавую ўсыпальніцу), і абраз у 1912 вярнуўся ў яго гал. алтар. У 1933—35 ён рэстаўрыраваны Янам Руткоўскім, які высветліў, што твар Маці Божай на абразе намаляваны тэмперай, усё астатняе — алеем. У 1948 касцёл св. Міхала сав. ўлады зноў зачынілі, абраз трапіў у касцёл Св. Духа, а адтуль у 1973 у Мастацкі музей Літвы. У 1984—86 абраз рэстаўрыраваны і дэталёва даследаваны ў Цэнтры рэстаўрацыі Мастацкага музея. Выявілася, што абраз напісаны ў пач. 16 ст. на ліпавай дошцы, але ў час пажару (верагодна, 1610) ён быў моцна пашкоджаны; ацалеў толькі твар Марыі, усё астатняе дапісана ў 1-й пал. 17 ст. на далучаных дошках. Пасля рэстаўрацыі, у 1989, абраз змешчаны ў бакавым алтары Віленскага архікафедральнага касцёла. Абраз страціў каштоўную мастацкую чаканную шату, кароны і іншыя старадаўнія аздобы. У кампазіцыі абраза спалучана візантыйская і зах.-еўрапейская іканаграфіі. Марыя прадстаўлена ў рост на маладзіку, у прамяністым арэоле. На левай руцэ яна трымае дзіця, падтрымліваючы яго за ножкі. Ісус у даўгім хітоніку схіліў галаву да маці. Правая рука ў блаславенні, левай ён водзіць па раскрытай кнізе. Валасы Марыі распушчаны, на галаве ружанцовы вяночак, 4 анёлы трымаюць над ёю карону. Унізе абапал стаяць на каленях св. Францыск і св. Бярнард. Фон аздоблены разьбяным раслінным арнаментам, характэрным для бел. іканапісу 17 ст. На працягу 17—19 ст. з абраза выконваліся гравюры. Самы ранні і дакладны медзярыт выкананы Лявонціем Тарасевічам да кнігі прафесара-езуіта Яна Дрэўса «Methodus peregrinationis» (Вільня, 1687). На ім абраз паказаны ўжо ў шаце і кароне.

*Літ.*: Бекшта А., Вайшвілайтэ І. Маці Божая з дзіцем Ісусам і святымі



Францыскам і Бернардам з Вільнюскага кляштара бернардзінак // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мінск, 1994; S z c z y g i e l s k i S. Aprobacja obrazu NMP w kosciele św. Michala. Wilno, 1670; S o k o l i ń s k a K. Skarbnica niebieska otwarta...w obrazie Boga Rodzice Marii Panny w kościele św. Michała wraz z pieśnią o tym obrazie. Vilnae, 1671.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Віленскі алюмнат**, В і л е н с к а я П а п с к а я с е м і н а р ы я, навучальная ўстанова пры *Віленскай акадэміі*, якая рыхтавала каталіцкіх місіянераў для пратэстанцкіх і праваслаўных краін. Заснавана па ініцыятыве Антонія *Пасевіна* на падставе брэве папы Рыгора XIII ад 5.2.1583. Адчынены прыватна ў крас. 1583, афіцыйна — 10.7.1585. Утрымліваўся папам рымскім, які штогод адпускаў на В.а. 1200 скуда. Прызначаны ў асн. для навучання русінаў ВКЛ і выхадцаў з Маскоўскай дзяржавы, вучыліся таксама ўраджэнцы Швецыі, Фінляндыі, Даніі, Англіі, Германіі. У 1622 падпарадкавана Кангрэгацыі прапаганды веры. Адначасова вучылася каля 20 студэнтаў. Першапачаткова навучэнцы не былі абавязаны прымаць святарства пасля сканчэння тэрміну навучання, большасць з іх заставалася ў свецкім стане. Пасля 1625 ад выпускнікоў пачалі патрабаваць абавязковага прыняцця святарства. Найбольш здольныя студэнты вывучалі філасофію і тэалогію непасрэдна ў Віленскай акадэміі. На чале В.а. стаяў рэгент. На мяжы 16 і 17 ст. алюмнату падпарадкавана Семінарыя перакладчыкаў у Дорпаце, якая рыхтавала каталіцкую л-ру для прыбалтыйскіх краін (дзейнічала да 1625). У 1622 В.а. падпарадкаваны Кангрэгацыі прапаганды веры. У 1651—65 з-за ваенных дзеянняў алюмнат не дзейнічаў. У 1753 рымскі папа Бенядзікт XIV перарабіў яго ў школу для уніяцкага духавенства, былі вызначаны квоты месцаў для розных уніяцкіх дыяцэзій. У 1773 з-за скасавання ордэна езуітаў апека над В.а. перайшла да уніяцкага базыльянскага ордэна. В.а. працаваў да 1798.

*Літ.*: C h a r k i e w i c z W. Ostatnie lata Alumnatu Papieskiego w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1929. R. 6. Z. 1—2; P o p l a t e k J. Powstanie Seminarjum Papieskiego w Wilnie (1582—1585) // Там жа; Я г о ж. Zarys dziejów Seminarium Papieskiego w Wilnie 1585—1773 // Там жа. 1930. R. 7. Z. 1—2; Я г о ж. Wykaz alumnów Seminarium Papieskiego w Wilnie 1582—1773. Там жа. 1936. R. 11; G r i c k e v i č i u s A. The Seminary of Gregory XIII in Vilnius (1583— 1655) // Lithuanian Historical Studies. Vilnius, 1997. T. 2; L i t w i n H. Katalog alumnów seminarium papieskiego w Wilnie 1582—1798 // Przegląd Wschodni. 2003. T. 8. Z. 4(32); 2005. T. 9. Z. 2 (34).

**Віленскі Гаон** (сапр. Эліяху бен Шлома Залман; 1720, в. Сялец, Берасцейскае ваяв.—1797), яўрэйскі рэлігійны дзеяч. Самастойна дасканала вывучыў Стары Запавет, Талмуд, равінскую л-ру, кабалу. У 1740—45 вандраваў па яўрэйскіх абшчынах Рэчы Паспалітай і Германіі і ўжо тады карыстаўся вядомасцю. З 1745 жыў у Вільні. Шануючы яго вял. духоўны аўтарытэт, у 1785 віленскі кагал прызначыў яму значнае грашовае ўтрыманне, хоць да канца жыцця ён не займаў ніякай афіцыйнай ці грамадскай пасады. В.Г. вёў аскетычны лад жыцця, аднак цікавіўся грамадскім жыццём і на ўсе важныя грамадскія пачынанні патрабавалася яго санкцыя. Цікавіўся мірскімі навукамі, вывучаў алгебру, геаметрыю, астраномію, ухваляў пераклад на іўрыт прац па прыродазнаўчых навуках. Замежных моў, аднак, В.Г. не ведаў і карыстаўся ў асн. сярэдневяковымі яўрэйскімі творамі. Быў праціўнікам свецкай адукацыі, асветніцтва. Выступаў за захаванне складанай сістэмы традыц. іудзейскага веравучэння і абраднасці, усіх запаветаў Торы, таму рашуча выступіў супраць узнікшага руху *хасідызму*, якое разглядаў як ерась. У 1772 ва ўсіх сінагогах Вільні ад яго імя хасіды былі асуджаны, а іх малітоўныя дамы зачынены, В.Г. заклікаў спальваць іх рэлігійныя творы. На кароткі час наведаў Палесціну, мяркуючы туды пераехаць на сталае жыццё. В.Г. пакінуў пасля сябе значную колькасць запісак на палях чытаных кніг, выказванні і лекцыі, запісаныя яго вучнямі. Выказваўся па ўсіх пытаннях іудаізму. Сам пісаў мала. Яму прыпісвалі аўтарства больш за 70 прац, з якіх больш за 50 былі выдадзены пасля яго смерці.

**Віленскі з'езд 1599**, супольны з'езд прадстаўнікоў праваслаўнай і пратэстанцкай шляхты і духавенства Рэчы Паспалітай. Быў кульмінацыяй працэсу збліжэння паміж праваслаўнымі і пратэстантамі Рэчы Паспалітай напрыканцы 16 ст. Гэты працэс быў выкліканы небяспекай страты існуючых паліт. правоў як для праваслаўнай, так і для пратэстанцкіх канфесій пад уздзеяннем контррэфармацыйнага руху, які актывізаваўся ў 1590-я г. Дадатковы імпульс працэсу збліжэння надала *Берасцейская унія 1596*, у выніку якой усе ранейшыя правы і прывілеі, нададзеныя правасл. царкве, перайшлі да уніяцкай. Пачатак працэсу збліжэння паміж праваслаўнымі і пратэстантамі быў пакладзены падчас Торуньскага аб'яднанага сінода лютэран, кальвіністаў і чэшскіх братоў Рэчы Паспалітай 21—26.8.1595, скліканага з мэтай пацвярджэння агульнапратэстанцкага саюзу на аснове *Сандамірскай згоды 1570*. Гал. свецкі пратэктар правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай, кіеўскі ваявода Канстанцін *Астрожскі* выслаў на сінод свайго пасла Каспера Лушкоўскага з інструкцыяй, якая была агучана пад час пасяджэнняў сінода. У інструкцыі змяшчалася крытыка планаў царкоўнай уніі, вылучанай правасл. епіскапамі, а таксама сцвярджалася непахіснасць акта *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*. Астрожскі прапаноўваў заключэнне паліт. саюзу паміж правасл. і пратэстанцкай шляхтай, які прадугледжваў скаардынаваную парламенцкую дзейнасць у абарону сваіх рэлігійных правоў. Інструкцыя прадугледжвала таксама план супрацоўніцтва ў чыста рэлігійнай сферы: узаемнае наведванне прадстаўнікамі абодвух бакоў царк. сабораў і сінодаў. Пастулявалася блізкасць веравучэння і культу праваслаўя і пратэстантызму ў супрацьвагу каталіцтву. Прапановы Астрожскага пераклікаліся з інтэнцыямі шэрагу пратэстанцкіх дзеячоў. Сіньёр чэшскіх братоў Шыман Тэафіл Турноўскі ў сваім казанні на Торуньскім сінодзе падкрэсліў станоўчыя бакі правасл. веравучэння і неабходнасць супрацоўніцтва з праваслаўнымі. Торуньскі сінод не прыняў афіцыйнай рэзалюцыі адносна супрацоўніцтва з праваслаўнымі, аднак адзнакай збліжэння стала змяшчэнне патрабаванняў праваслаўных у інструкцыі сінода, накіраванай каралю, а таксама рашэнне пра накіраванне пратэстанцкіх паслоў да Астрожскага для далейшых кан-



сультацый і фактычная згода на каардынацыю дзеянняў пратэстанцкай шляхты з праваслаўнай на сойміках. Таксама было прынята рашэнне пра збор інфармацыі аб усіх актах рэлігійнай нецярпімасці ў дачыненні як да пратэстантаў, так і да праваслаўных у розных частках Рэчы Паспалітай з мэтай аказання дапамогі пацярпелым. У ВКЛ гэтыя нефармальныя функцыі даручаны ваяводзе віленскаму і гетману ВКЛ Крыштофу *Радзівілу* Перуну і падчашаму ВКЛ Крыштофу Мікалаю *Дарагастайскаму*.

Супрацоўніцтву пратэстанцкай і правасл. супольнасцей у значнай ступені спрыялі асабістыя кантакты паміж Астрожскім і пратэстанцкімі магнатамі, найперш з Радзівілам Перуном і ваяводам брэсцка-куяўскім Анджэем Ляшчынскім. Супрацоўніцтва выяўлялася ў супольных дзеяннях правасл. і пратэстанцкай шляхты ў абарону Варшаўскай канфедэрацыі і супраць пераследаў праваслаўных і пратэстантаў пад час перадсоймавых соймікаў і соймаў 1596, 1597 і 1598, у прававой і адм. падтрымцы сенатарамі ВКЛ, у першую чаргу Радзівілам Перуном праваслаўных пад час іх канфліктаў з уніятамі. Імкненне да паглыблення пратэстанцка-правасл. супрацоўніцтва як на паліт., так і на рэлігійным полі выклікала ідэю правядзення супольнага з'езда (сінода). Падобная ідэя нарадзілася ў колах, блізкіх да Астрожскага, Радзівіла Перуна і Ляшчынскага прыблізна на мяжы 1598 і 1599. Актыўную ролю ў падрыхтоўцы з'езда адыгралі стараста трэйдэнскі Пётр Стаброўскі, пратэстанцкі шляхціц з Вял. Польшчы Марцін *Бранеўскі*, Турноўскі. Адкрыццё з'езда было запланавана на 9.5.1599. Быў выбраны зручны момант, звязаны з паражэннем караля Жыгімонта III Вазы ў дынастычнай барацьбе ў Швецыі. Арганізацыя з'езда трымалася ў таямніцы. Яго пачатак па часе прывязваўся да пасяджэння Трыбунала ВКЛ у Вільні, таму мерапрыемствы па выездзе ўдзельнікаў з'езда ў Вільню знешне павінны былі выглядаць як звязаныя з судовымі справамі. На з'ездзе планавалася разгледзець як праблемы паліт., так і чыста рэлігійнага саюзу праваслаўных і пратэстантаў. Выразам гэтага стаў створаны напярэдадні з'езда праект «De colloquio Wilnensi cum Graecis» («Аб Віленскім сінодзе з грэкамі»), які складаўся з 3 частак. У 1-й частцы «Аб будучай размове міністраў з духоўнымі грэчаскімі...», напісанай, на думку даследчыкаў, Турноўскім, прадстаўлены план рэлігійнай уніі паміж пратэстантамі і праваслаўнымі. План прадугледжваў далучэнне правасл. царквы да Сандамірскай згоды і паступовае набліжэнне правасл. веравызнання і культу да пратэстанцкіх пры захаванні некаторых адрозненняў. Прадугледжвалася таксама стварэнне сумесных школ і правядзенне агульных правасл.-пратэстанцкіх сінодаў. У 2-й частцы праекта, якая, на думку даследчыкаў, з'яўляецца вынікам калектыўнай працы асн. арганізатараў з'езда, разглядаліся арганізацыйныя пытанні правядзення з'езда ў Вільні. Сцвярджалася, што рашэнні В.з. павінны быць замацаваны наступным з'ездам, які планавалася правесці ў Малой Польшчы з удзелам прадстаўнікоў прускіх і інфлянцкіх гарадоў напярэдадні склікання бліжэйшага сойма. З гэтага будучага з'езда меркавалася накіраваць пасалоў да караля з просьбай аб уключэнні пытання аб прававых гарантыях Варшаўскай канфедэрацыі ў каралеўскую інструкцыю на перадсоймавыя соймікі. Таксама прадугледжвалася правядзенне актыўных дзеянняў у абарону правоў праваслаўных і пратэстантаў на сойміках і сойме. У 3-й частцы праекта, складзенай, на думку даследчыкаў, у асяроддзі Астрожскага, выкладзена праграма з'езда. На ім прадугледжвалася правядзенне дыскусіі паміж прадстаўнікамі пратэстанцкага і правасл. духавенства, канчатковай мэтай якой абвяшчалася рэлігійная унія. У выпадку яе немагчымасці гал. актуальнай задачай павінна было стаць заключэнне паліт. правасл.-пратэстанцкага саюза, накіраванага на абарону акта Варшаўскай канфедэрацыі. Ішла размова таксама пра сумесныя дзеянні пратэстантаў і праваслаўных у абарону рэлігійных правоў у парламенцкіх установах і інфармаванне грамадскасці аб актах рэлігійнай нецярпімасці з боку рыма-католікаў і уніятаў.

Традыцыйна ў гістарыяграфіі пачатак В.з. датуецца 15.5.1599, калі ў Вільню прыехала большасць яго ўдзельнікаў. Аднак, на думку Л.Ярмінскага, гэтая дата з'яўляецца ўмоўнай, паколькі многія ўдзельнікі, у т.л. Радзівіл Перун і А.Ляшчынскі, з'явіліся на з'ездзе значна пазней. Дакладная колькасць удзельнікаў з'езда невядома. Сярод прадстаўнікоў шляхты пераважалі пратэстанты, гал. ч. з ВКЛ. З ліку пратэстанцкіх сенатараў ад ВКЛ прысутнічалі Радзівіл Перун, ваявода смаленскі Ян Абрамовіч, ваявода берасцейскі Крыштоф Зяновіч, кашталян жамойцкі Мікалай Нарушэвіч, кашталян полацкі Іосіф Корсак; ад Польскага каралеўства — Ляшчынскі і кашталян радамскі Анджэй Фірлей. Прадстаўніцтва правасл. шляхты было значна меншым; прысутнічалі 2 правасл. сенатары з Польскага каралеўства: Канстанцін Астрожскі і ваявода валынскі Аляксандр Астрожскі. Сярод духавенства таксама пераважалі пратэстанты, сярод якіх былі кальвіністы, лютэране і чэшскія браты. Найбольшую актыўнасць у дзейнасці з'езда праяўлялі Турноўскі і суперінтэндант лютэранскай царквы ў Вял. Польшчы Эразм *Глічнер*. Правасл. духавенства было прадстаўлена толькі асобамі, блізкімі да К.Астрожскага: ігумен Дубенскага манастыра Ісаак, архідыякан з Дубенскага манастыра Гедэон і мітрапаліт белгародскі Лука, які з 1599 быў ігуменам Сцепаньскага манастыра ва ўладаннях К.Астрожскага. На з'ездзе прысутнічалі прадстаўнікі Віленскага правасл. брацтва. Правасл. епіскапы Гедэон Балабан і Міхаіл Капысценскі, нягледзячы на запрашэнні, на з'езд не з'явіліся. 24 і 27 мая адбыліся 2 дыскусіі паміж прадстаўнікамі пратэстанцкага і правасл. духавенства. Напярэдадні Турноўскі склаў спіс асн. пытанняў, паводле якіх павінна адбывацца дыскусія. К.Астрожскі падчас дыскусіі рабіў намаганні, накіраваныя на збліжэнне рэлігійных пазіцый бакоў, нават спрабаваў схіліць правасл. духавенства да прызнання Сандамірскай згоды 1570. Аднак дыскусія паказала наяўнасць істотных разыходжанняў у дагматыцы і кульце пратэстантызму і праваслаўя. Адзіным пазітыўным вынікам рэлігійнай дыскусіі стала сфармуляванне 18 агульных элементаў веравучэння ў праваслаўных і пратэстантаў, якія былі апублікаваны ў ананімнай брашуры «Артыкулы, паводле якіх евангелікі пагаджаюцца з людзьмі грэчаскага культу і з усходнімі



цэрквамі ў збавенным вучэнні» («Artykuły, w których zgadzają się ewangelicy z ludźmi Greckiego nabożeństwa i z Kościoły orientalnymi w nauce zbawiennej», без указання года выдання). На прапанову аб заключэнні рэлігійнай уніі на ўмовах, выпрацаваных пратэстанцкімі тэолагамі, у першую чаргу Турноўскім, прадстаўнікі правасл. духавенства заявілі, што яе рэалізацыя немагчыма без згоды ўсх. патрыярхаў. У сувязі з гэтым пратэстанцкае духавенства накіравала 6 чэрв. ліст да александрыйскага патрыярха Мялеція Пігаса з адпаведнымі прапановамі, якія, аднак, не меў істотных вынікаў. Акрамя дыскусіі з правасл. духавенствам вядучыя пратэстанцкія тэолагі ставілі на з'ездзе задачу ўмацавання агульнапратэстанцкага адзінства на аснове Сандамірскай згоды 1570, пацверджанай на Торуньскім сінодзе 1595. Была ажыццёўлена спроба схіліць да прызнання апошняй віленскіх лютэран, на што скіраваў свае намаганні Глічнер. Аднак дадзеная спроба не ўдалася; падчас з'езда ўзнікалі спрэчкі паміж віленскімі лютэранскімі і кальвіністцкімі міністрамі. Пасля няўдалай спробы рэалізацыі рэлігійнай уніі 28 мая быў абвешчаны акт канфедэрацыі пратэстанцкай і правасл. шляхты. У ім змешчаны скаргі на дыскрымінацыйныя дзеянні рыма-католікаў і уніятаў, а таксама дзярж. улад адносна праваслаўных і пратэстантаў, адхіленне правасл. і пратэстанцкай шляхты ад вышэйшых дзярж. пасад. Сцвярджаліся непарушнасць акта Варшаўскай канфедэрацыі і неабходнасць замацавання яе правамоцнасці пэўнымі гарантыямі. У кантэксце гэтага абвяшчаўся паліт. саюз, накіраваны на абарону правоў пратэстанцкага і правасл. насельніцтва. Напрыканцы дакумента пералічаны імёны 126 генеральных правізораў, выбраных з асяроддзя пратэстанцкіх і правасл. сенатараў і шляхты для правядзення скаардынаванай палітыка-прававой дзейнасці па абароне рэлігійных правоў. Сярод іх 19 былі праваслаўнымі, астатнія пратэстанты. Аднак большая іх частка на з'ездзе не прысутнічала і была абрана завочна. Акт канфедэрацыі датаваны 2 чэрв. Дакумент падпісала, паводле дадзеных Д.Алянчына, 65 асоб (амаль усе пратэстанты). Напрыканцы тэкста пакінуты пустыя месцы для подпісаў інш. удзельнікаў з'езду. Характэрна тое, што акт не падпісалі К.Астрожскі, Радзівіл Пярун, а таксама інш. актыўныя дзеячы В.з. Гэты факт не мае адназначнай інтэрпрэтацыі. Л.Ярмінскі ўказвае на тое, што паводле першапачатковага праекту з'езд не павінен быў прымаць канчатковае рашэнне наконт паліт. саюза, якое ўскладалася на будучы сінод, аднак ніякіх дзеянняў па яго падрыхтоўцы не праводзілася. На яго думку, Радзівіл Пярун у апошні момант адмовіўся ад радыкальных паліт. дзеянняў, імкнучыся заручыцца падтрымкай караля ў канфлікце з Хадкевічамі вакол Слуцкага княства, а таксама ў справе намінацыі на сенатарскую пасаду яго сына Януша. Паводле Т.Кэмпы, К.Астрожскі падтрымаў Радзівіла Перуна, не жадаючы дзейнічаць насуперак яму, паколькі разумеў, што ў значнай ступені пазіцыя апошняга будзе мець уплыў на становішчы праваслаўных у ВКЛ. Аўтарамі акта з'езда, на думку Ярмінскага, былі найбольш радыкальна настроеныя пратэстанцкія дзеячы на чале з Ляшчынскім і Абрамовічам, якія, страціўшы надзеі на скліканне наступнага з'езда, зрабілі спробу актуалізаваць ідэю паліт. саюза на В.з. У выніку задачы, пастаўленыя В.з., засталіся нерэалізаванымі. Ідэя рэлігійнай уніі пратэстантызму і праваслаўя была нерэалістычнай, паколькі меліся істотныя адрозненні ў веравызнанні і культе гэтых канфесій. У далейшым яна больш не ўздымалася. Акт В.з. не меў рэальнай паліт. сілы і ніякім чынам не паўплываў на далейшы ход грамадска-паліт. жыцця. У паліт. дакументах наступных дзесяцігоддзяў спасылкі на яго амаль адсутнічаюць. Разам з тым, у 1-й пал. 17 ст. працягвалася актыўнае нефармальнае супрацоўніцтва паміж пратэстанцкімі і правасл. дзеячамі ў грамадска-паліт. сферы, накіраванае на абарону ўласных рэлігійных правоў і інтарэсаў.

*Літ.*: Коялович М.О. Об отношениях западно-русских православных к литовско-польским протестантам во времена унии // Христианское чтение. 1860. Т. 2; Жукович П. Сеймовая борьба православного западнорусскаго дворянства с церковной унией (до 1609 г.). Санкт-Петербург, 1901; Lukaszewicz J. O kosciolach braci czeskich w dawnej Wielkopolsce. Poznan, 1835; Яго ж. Dzieje kosciolow wyznania helweckiego w Litwie. T. 1. Poznan, 1842; Likowski E. Unia brzeska (r. 1596). Poznan, 1896; Krasiński W. Zarys dziejów powstania i upadku reformacji w Polsce. T. 2, cz. 1. Warszawa, 1904; Tomkiewicz W. Cerkiew dyzunicka w dawnej RP Polskiej: Okres walki z unią kościelną 1586—1635 // Przegląd Powszechny. 1933. T. 200; Chodynicki K. Kościół prawoslawny a Rzeczpospolita Polska: Zarys historyczny, 1370—1632. Warszawa, 1934; Oljančyn D. Zur Frage der Generalkonföderation zwischen Protestanten und Orthodoxen in Wilna 1599 // Kyrios. 1936. T. 1, z. 1; Яго ж. Originaltext der Urkunde der Generalkonföderation zwischen den Protestanten und Orthodoxen in Wilna 1599 // Kyrios. 1936. T. 1, z. 2; Jørgensen K.E.J. Öukumenische Besterbungen unter den polnischen Protestanten bis zum Jahre 1645. København, 1942; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Яго ж. Kalwini litewscy wobec unii katolicyzmu z prawosławiem // 400-lecie unii brzeskiej. Częstochowa, 1996; Węgierski A. Libri quattor Slavoniae reformatae. Varsoviae, 1973; Gmiterek H. Szymon Teofil Turnowski w obronie zgody sandomierskiej // Annales Uniwersitatis Mariae Curie-Skłodowska. 1976. T. 31. Z. 2; Яго ж. Polski obóz protestancki wobec unii brzeskiej na przełomie XVI i XVII wieku // Rocznik Bialskopodlaski. Biala Podlaska; Lublin, 2000—01. T. 8—9; Bendza M. Prawoslawno-protestanckie tendencje unijne w XVI wieku ze szczegalnym uwzględnieniem terenu ziem Rzeczypospolitej // Rocznik Teologiczny ChAT. 1983. T. 25. Z. 2; Rzońca J. Rzeczpospolita Polska w latach 1596— 1599. Opole, 1990; Jarmiński L. Bez użycia siły: Działalność polityczna protestantów w Rzeczypospolitej u schyłku XVI wieku. Warszawa, 1992; Byliński J. Marcin Broniewski — trybun szlachty wielkopolskiej w czasach Zygmunta III. Wrocław, 1994; Макарий (Булгаков), митрополит. История русской церкви. Кн. 6. М., 1996; Уния в документах. Мн., 1997; Sławiński W. Projekty politycznej współpracy protestancko-prawosławnej i unii religijnej obu wyznań w świetle obrad toruńskiego synodu generalnego1595 roku i późniejszych planów braci czeskich // Miedzy Zachodem a Wschodem: studia z dziejów Rzeczypospolitej w epoce nowożytnej. Toruń, 2002; Яго ж. Toruński synod generalny w Toruniu w 1595 roku: z dziejów polskiego protestantyzmu w drugiej połowie XVI wieku. Warszawa, 2002; Kempa T. Wobec kontrreformacji: protestanci i prawosławni w obronie swobód wyznaniowych w Rze-



czypospolitej w koncu XVI i w pierwszej połowie XVII wieku. Toruń, 2007.

*Ігар Бортнік.*

**Віленскі кальвінскі збор.** Першапачаткова збор існаваў з 1552 або 1553 пры віленскім палацы Мікалая Радзівіла Чорнага на Лукішках, праз некалькі год перанесены на вул. Замкавую, дзе для яго пабудаваны будынак побач з радзівілаўскім плацам. У гэтым зборы Радзівіл Чорны завяшчаў сябе пахаваць. У 2-й пал. 1570-х г. гэты збор зачынены Мікалаем Крыштофам Радзівілам Сіроткай. Пасля гэтага кальвіністы збіраліся для набажэнстваў у намётах у Рыбным канцы. У 1581 Мікалай Радзівіл Руды збудаваў новы збор у Святаміхайлаўскім завулку каля касцёла св. Ганны і Пакроўскай царквы (пасля насупраць яго праз завулак пабудаваны касцёл св. Міхала Архангела кляштара бернардзінак). Пляц пад пабудову Радзівіл Руды купіў у 1576, прадаў кальвініскай суполцы ў 1577 за 8 тыс. злотых, што было зацверджана каралём польскім і вял. князем літоўскім Стафанам Баторыем у 1579. Мяркуючы па апісаннях, гэта быў вял. будынак з асобнай вежай-званіцай з гадзіннікам. Побач былі ўладкаваны друкарня (трымаў Даніэль *Ланчыцкі*), шпіталь і могілкі. У 1591 збор спалены студэнтамі Віленскай акадэміі, падбухторанымі езуітамі. Справа разглядалася судом, але пакарання вінаватых не дапусціў адміністратар Віленскай дыяцэзіі (будучы біскуп) Бенедыкт Война, за што на яго быў наложаны грашовы штраф, а пасля баніцыя (выракі, відаць, не былі выкананы). У 1611 збор разгромлены католікамі. З-за абвінавачвання ў стральбе кальвіністамі па касцёлу выракам суда ў 1640 збор разбураны. Новы збор (таксама драўляны) быў пабудаваны за гарадской сцяной, на кальвініскіх могілках (пазнейшая вул. Завальная). У 1682 збор разгромлены і спалены фанатыкамі-католікамі, падчас нападу былі выкінуты рэшткі памерлых з капліц. Судовы працэс над вінаватымі цягнуўся некалькі гадоў, у 1686 чацвярых з іх асудзілі на смерць (усе ўцяклі за мяжу). Пасля гэтага збор адбудаваны на старым месцы. У пач. XIX ст. насупраць пабудаваны мураваны будынак збору.



**Віленскі касцёл Стафана**.

*Літ.*: Merczyng H. Wilno ewangelickie // Monumenta reformationis Polonicae et Lithuanicae. Ser. 1. Z. 1. 2 wyd. Wilno, 1925; Gizbert-Studnicki W. Zarys historyczny wileńskiego kośc. ew.-ref. i jego biblioteki. Wilno, 1932; Яго ж. Kościoł ewangelicko-reformowany w Wilnie: historja—organizacja—świątynia. Wilno, 1935; Zwolski B. Sprawa zboru ewangelicko-reformowanego w Wilnie w latach 1639—41. Wilno, 1936; Яго ж. Zburzenie zboru ewangelicko-reformowanego w Wilnie w r. 1682 // Ateneum Wileńskie. 1937. R. 12; Kosman M. Protestanci i kontrreformacja: z dzejów tolerancji w Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Wrocław etc., 1978.

**Віленскі касцёл Стафана.** Заснаваны ў 1600 у Вільні езуітам Шыманам Высоцкім на тагачаснай гар. ускраіне (цяпер вул. Чыгуначная). Пабудаваны ў 1600—12 у стылі ранняга барока. Меў незвычайны план, які прадугледжваў, апроч гал. нефа, толькі адзін бакавы — паўднёвы. Інтэр'еры і фасады сціпла дэкарыраваны. Пры касцёле існавалі кляштар, шпіталь св. Лазара. У 1715 касцёл і кляштар перайшоў да ордэна рахітаў, у 1752 — да ордэна марыявітак. У 1794 пацярпеў пад час абстрэлу Вільні рас. войскамі. У 1801—06 праведзены аднаўленчыя працы пад кіраўніцтвам архітэктара Пьетра Росі. Кляштар зачынены ў 1864, касцёл — пасля 2-й сусветнай вайны. У 1975—76 фасады касцёла адрэстаўрыраваны. На могілках пры касцёле быў пахаваны архітэктар Лаўрын *Гуцэвіч* (на сцяне касцёла ў яго гонар устаноўлена дошка).

**Віленскі кляштар кармелітак босых.** Заснаваны ў Вільні ў 1638 падканцлерам ВКЛ Стафанам Казімірам



**Віленскі кляштар кармелітак босых**. Касцёл Юзафа Абручніка. Фотаздымак 19 ст.



**Віленскі крыж** у ларцы-складні.

Пацам. Пры кляштары ў стылі барока пабудаваны касцёл св. Юзафа Абручніка. Меў крыжовы план, багата дэкарыраваныя фасады, увенчаны невял. вежай. Уваход быў акцэнтаваны паўкалонамі, злучанымі лучковым гзымсам, над ім размяшчаўся фігурны шчыт з пілястрамі, гзымсамі і валютамі. Бакавыя фасады былі аздоблены пілястрамі. Касцёл разабраны па загадзе рас. уладаў у 1877, і на гэтым месцы разбіта гандлёвая плошча.

**Віленскі крыж**, рэліквія Рускай праваслаўнай царквы. Згодна паданню, зафіксаванаму ў «*Аповесці пра цуды Віленскага крыжа*», ён быў як трафей вывезены ў 1657 у Расію з адной віленскай царквы ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай* і аказаўся ў мурамскага купца Б.Цвятнога, які перадаў яго ў Мурамскі Троіцкі манастыр, дзе зберагаецца і цяпер (у 1930—96 знаходзіўся ў мясцовым музеі). У цяперашні час В.к. прадстаўляе сабой крыж-складзень для рэліквій з серабра 500 пробы, выраблены ў тэхніцы чаканкі, з выкарыстаннем гравіроўкі, пазалочаны. Па форме крыж 4-канцовы, з аглавіем, ускладнены 3-лопаснымі формамі, прыстаўленымі да канцоў асновы і ў выглядзе своеасаблівых букетаў уверсе і да асновы крыжа. На крыжы выява Распяцця, па баках постаці Божай Маці і Іаана Багаслова, уверсе — Саваофа ў аблоках, ад якога ўніз адыходзяць промні, унізе ў авальным медальёне выява Адамавай галавы з 2 косткамі. На левым баку В.к. выгравіраваны 35 надпісаў пра ўкладзеныя ўнутр крыжа мошчы (прарока Данііла, св. Ганны, евангеліста Матфея, апосталаў Андрэя і Варфаламея, інш. усяленскіх святых, св. Аляксандра Неўскага і інш.) і часткі мемарыяльных рэчаў (фрагменты рыз Сергія Раданежскага, палкі Антонія Рымляніна і інш.). Склад святых мошчаў і рэчаў паказвае на тое, што ніжняя частка В.к. з надпісамі была выраблена ў канцы 17 ст., верхняя, відаць, зроблена ў 18 ст. Першапачатковы В.к., як мяркуецца, быў напрастольным, выраблены з серабра, пазалочаным, упрыгожаным каштоўнымі камянямі і жэмчугам. Цяперашні крыж, відаць, быў зроблены ў канцы 17—18 ст. на ўзор аўтэнтычнага В.к., які знік. Крыж заключаны ў драўляны ларэц-складзень, упрыгожаны жывапіснымі сюжэтамі святаў, жывапіс закрыты чаканай сярэбранай шатай з прарэзямі для лікаў і кісцей рук, часам для ступняў ног (пач. 19 ст.).

*Літ.*: Сухова О.А. Чудотворные Сретенский и Виленский кресты из города Мурома // Ставрографический сборник. М., 2003. Кн. 2; Пуцко В.Г., Сухова О.А. Виленский крест в «Повести» и мощевик Троицкого монастыря в Муроме // Уваровские чтения-V. Муром, 2003.



**Віленскі крыж**. Правы і адваротны бакі.

**Віленскі лютэранскі збор.** Пабудаваны ў 1555 у Вільні на Нямецкай вул. з дрэва. Згарэў у 1655 у час заняцця Вільні рас. войскамі ў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1662 адбудаваны як мураваны. Згарэў у 1737. Адноўлены ў 1737—44 паводле праекта Яна Крыштофа *Глаўбіца*. Храм зальнага тыпу, аднанефны. Фасады збора дэкарыраваны сціпла, франтоны ўтвораны выгнутымі і ламанымі лініямі, маюць валюты. Быў упрыгожаны барокавым алтаром 1624, падараваным віленскім бурмістрам Якубам Гібелем, разнымі лаўкамі работы віленскіх майстроў. У 18 ст. пастаўлены ракайльны алтар паводле праекта Глаўбіца, амвон



**Віленскі лютэранскі збор**.
Фотаздымак Я.Булгака. 1917.

і хоры, упрыгожаныя ляпнінай. У 19 ст. да збору прыбудавана масіўная званіца. Іл. гл. ў т. 1, с. 443.

*Літ.*: Adamowicz A.F. Kościoł augsburski w Wilnie. Wilno, 1855; Merczyng H. Wilno ewangelickie // Monumenta reformationis Polonicae et Lithuanicae. Ser. 1. 2 wyd. Wilno, 1925. Z. 1.; Kosman M. Protestanci i kontrreformacja: z dziejów tolerancji w Rzeczypospolitej XVI— XVIII wieku. Wrocław etc., 1978.



**Віленскі лютэранскі збор**. Алтар.

**Віленскі палац Пацаў** на вуліцы Вялікай. Першапачатковы будынак пабудаваны ў 16 ст., належаў Рыгору Осціку, потым Габрыэлю Бекешу, у 17 ст. перайшоў да Міхала Казіміра Паца. У 1675 грунтоўна перабудаваны. Трохпавярховы будынак у стылі барока меў манументальны гал. фасад. Цэнтр. ўваход (з вул. Вялікай) быў аформлены парталам, над якім знаходзіліся ляпныя выявы гербаў. Уваход вёў у вял. вестыбюль у цэнтры будынка. Памяшканні размяшчаліся па абодва бакі ад вестыбюля ў 2 рады, планіроўка анфіладная. Сцены былі ўпрыгожаны роспісамі Мікельанджэла *Палоні* і лепкай Яна Паўла *Перці*. Захаваліся фрагменты 2 бакавах крылаў, аркада (замураваная) на 1-м паверсе з тыльнага боку. Значна перабудаваны, фасады страцілі першапачатковыя рысы.

*Літ.*: Małachowicz E. Wilno: Dzieje. Architektura. Cmentarze. Wrocław, 1991. S. 128—129; Lietuvos architektūros istorija. T. 2. Vilnius, 1994. P. 166—167.

**Віленскі палац Радзівілаў** на вуліцы Людвісарскай. Пабудаваны віленскім ваяводам Янушам Радзівілам да 1653 за Вілейскай брамай гар. умацаванняў Вільні, на маляўнічым баку пагорка. Вял. палацавы комплекс у стылі барока ўключаў у свой склад 2-павярховыя гал. корпус, 2 бакавыя крылы, а таксама 5 3-павярховых павільёнаў (4 на вуглах комплексу, адзін — у цэнтры гал. корпуса). П-падобны ў плане палацавы комплекс ахопліваў вял. дзядзінец — курданёр. Пабудова палаца звязваецца з майстэрняй Канстанціна Тэнкалі. Знешні выгляд палаца адлюстраваны на медалі аўтарства Себасцьяна Дадлера 1653. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* палац спустошаны, яшчэ больш пацярпеў у час *Паўночнай вайны 1700—21* і не быў адноўлены як рэпрэзентатыўная рэзідэнцыя. У 1807 Дамінік Радзівіл перадаў палац Віленскаму таварыству дабрачыннасці, яго будынкі прыстасаваны пад утылітарныя мэты. У час 1-й сусветнай вайны некаторыя будынкі палаца зруйнаваны, захавалася каля паловы першапачатковых муроў. У 1979 пачата яго рэстаўрацыя і рэгенерацыя. У 1984 скончана аднаўленне паўд.-зах. павільёна, у 1990 — паўн.-зах. павільёна і прамежкавага будынка. Унутраная планіроўка не аднаўлялася. Будынкі выкарыстоўваюцца Мастацкім музеем Літвы.



**Віленскі палац Пацаў**.



**Віленскі палац Радзівілаў** на вул. Людвісарскай. Выява на медалі С.Дадлера. 1653.



**Віленскі палац Радзівілаў** на вул. Людвісарскай. Фрагмент франтона. Фота Я.Булгака. 1916.





**Віленскі палац Радзівілаў** на вул. Людвісарскай. Фота Я.Булгака. 1916.



**Віленскі палац Радзівілаў** на Пушкарні.

*Літ.*: Małachowicz E. Wilno: Dzieje. Architektura. Cmentarze. Wroclaw, 1991. S. 125—126.

**Віленскі палац Радзівілаў** на Пушкарні. Пабудаваны, відаць, у 1-й пал. 16 ст. гетманам ВКЛ Юрыем Радзівілам, пасля належаў яго сыну Мікалаю Радзівілу Рудому. Размяшчаўся на ПнЗ ад Ніжняга замка Вільні, на маляўнічым беразе Віліі. Фасады 3-павярховага рэнесанснага палаца былі багата ўпрыгожаны. На вышыню да 2-га паверха падымаліся паўкалоны іанічнага ордэра. Паміж імі размяшчаліся вокны, на 1-м паверсе квадратныя, на 2-м — стральчатыя. 3-ці паверх упрыгожаны аркадай з паўкруглых арак. Да паўн.-зах. рага палаца прымыкала круглая вежа з адкосам у ніжняй частцы, што мела круглыя і паўцыркульныя байніцы. Палац разам з гаспадарчымі пабудовамі ўтвараў комплекс, абведзены мураванай сцяной з брамай, 2 круглымі і квадратнай вежай. Пазней у складзе комплексу пабудаваны палац Барбары Радзівіл. Комплекс не захаваўся да нашага часу, вядомы паводле выявы на медалі 1626, планаў 18 ст., малюнкаў сярэдзіны 19 ст.

*Літ.*: Lietuvos architekturos istorija. T. 1. Vilnius, 1987. P. 229—231.

**Віленскі палац Сапегаў** на Антокалі. Сапегі валодалі драўляным дварам на Антокалі з 17 ст. На яго месцы ў 1691—97 віленскі ваявода і вял. гетман ВКЛ Казімір Ян Павел Сапега пабудаваў 3-павярховы палац у стылі позняга барока. У плане блізкі да прамавугольніка. Гал. фасад афармлены 2 нізкімі бакавымі вежамі з выгнутымі дахамі, паміж якімі размешчаны паўкруглы франтон з багатай лепкай, 1-ы паверх руставаны. Па баках палаца былі зроблены галерэі з арачнымі праёмамі (цяпер замураваны). Фасады дэкарыраваны пілястрамі іанічнага ордэра, ляпнымі абрамленнямі прамавугольных аконных праёмаў. Інтэр'еры аздоблены фрэскамі (Мікельанджэла *Палоні*), ляпнінай (Ян Пётр *Перці*), печамі з размаляванымі кафлямі (на белым фоне былі выявы гербаў, замкаў, касцёлаў). Палац быў абкружаны вял. паркам з павільёнамі, фантанамі і статуямі (у асноўным, драўлянымі). У сядзібу вялі праезды праз 2 барочныя брамы, упрыгожаныя ляпнінай і статуямі. У 1715 палац прададзены інш. уладальнікам. У 1809 яго набыла дзяржава і ўладкавала тут вайсковы шпіталь, пры гэтым было страчана багатае ўбранне інтэр'ераў.

*Літ.*: Łopaciński E. Pałac Sapieżyński na Antokolu w Wilnie // Prace i materjały sprawozdawcze sekcji historji sztuki towarzystwa przyjaciol nauk w Wilnie. Wilno, 1938/39. T. 3; Małachowicz E. Wilno: Dzieje. Architektura. Cmentarze. Wrocław, 1991. S. 126—127; Lietuvos architektūros istorija. T. 2. Vilnius, 1994. P. 169—172.



**Віленскі палац Сапегаў** на Антокалі. Малюнак 19 ст.

**Віленскі палац Слушкаў.** Пабудаваны полацкім ваяводам Дамінікам Слушкам у 1690—94 у Вільні на беразе р. Вілія на штучным паўвостраве. Пры будаўніцтве частка рэчышча ракі была засыпана грунтам з Антокальскага пагорка. Трохпавярховы, квадратны ў плане палац меў рызаліты на ўсіх вуглах, якія нагадвалі замкавыя вежы. Быў упрыгожаны ляпнінай і роспісам, як мяркуецца, аўтарства Мікельанджэла *Палоні* і Яна Пятра *Перці*. У аздабленні інтэр'ераў быў выкарыстаны італьянскі мармур. Уваход на дзядзінец быў праз барочную браму (цяпер замуравана). Фасады палаца ўпрыго-



жаны лепкай, раскрапаваны пілястрамі іанічнага ордэру. Палац быў абкружаны вял. італьянскім паркам з каналамі і сажалкамі, каля берага Віліі была пабудавана капліца з домам для святара. У 1-й пал. 18 ст. палац перайшоў ва ўласнасць Патоцкіх і Пузынаў, у 1756 — віленскіх піяраў, якія ўладкавалі там калегіум, у 1766 — Міхала Казіміра Агінскага. У пач. 19 ст. ў палацы быў уладкаваны тартак і бровар. З 1830-х г. у будынку размяшчаліся казармы, склады, шпіталь, турма, былі надбудаваны 4-і і 5-ы паверхі. Унутраная планіроўка і інтэр'еры не захаваліся.

*Літ.*: Łopaciński E. Pałac Słuszków // Wilno: Kwartalnik poświęcony sprawom miasta Wilna. 1939. № 1; Małachowicz E. Wilno: Dzieje. Architektura. Cmentarze. Wrocław, 1991. S. 127; Lietuvos architektūros istorija. T. 2. Vilnius, 1994. P. 171—172.

**Віленскі сабор 1509—10**, сабор духавенства праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі ў Вільні 25.12.1509—18.1. 1510. Скліканы мітрапалітам Іосіфам II Солтанам. У саборы ўдзельнічалі ўсе епіскапы (уладзімірскі і берасцейскі Васіан, смаленскі Варсанофій, луцкі і астрожскі Кірыла, полацкі і віцебскі Яўфімій, тураўскі і пінскі Арсеній, перамышльскі Антоній, холмскі Філарэт), шэраг архімандрытаў, ігуменаў, пратапопаў, святароў. Прыняў саборны акт з 15 пунктаў, які стаў важным дакументам у барацьбе правасл. іерархіі супраць умяшальніцтва свецкіх асоб у царк. справы, у падняцці ўнутранай дысцыпліны ў царкве. Асудзіў практыку падаравання вял. князем літоўскім пасад епіскапа і ігумена, калі яны яшчэ былі не свабоднымі, без згоды мітрапаліта, епіскапаў, рады правасл. князей і паноў. Пастанавіў, што ў выпадку, калі вял. князь дасць пасаду епіскапа або ігумена недастойнаму кандыдату, то царк. сабор павінен аспрэчыць гэта. Сабор забараніў свецкім патронам цэркваў самавольна выдаляць з храмаў святароў. Пастаноўлена, што святара павінен судзіць духоўны суд. У выпадку, калі патрон на працягу 3 месяцаў не прызначае ніякага святара на вакантнае месца, то такое права дадзена епіскапу. Святар, які пачаў службу ў храме па загаду патрона без згоды епіскапа, павінен быў пазбаўляцца сана. Пастаноўлена, што калі князь або пан захапіў царк. маёмасць, то яго трэба выклікаць на мітрапаліцкі суд, а калі ён не з'явіцца — адлучаць ад царквы. Міранам забаронена мець Номаканон (кормчыя кнігі), каб не маглі самі разбірацца ў духоўных і царк. справах. Епіскапы абавязаны з'яўляцца на царк. саборы. Ім забаронена ставіць святароў у чужыя епархіі, манахам забаронена без дазволу ігумена пакідаць свой манастыр. Епіскапы не павінны былі без правіннасці адымаць ў святароў і ігуменаў храмы і манастыры. Удовым святарам забаронена браць 2-і шлюб і служыць, яны былі павінны прымаць манаства. Саборны акт распаўсюджваўся ў спісах, быў надрукаваны ў кн. «Иже во святых отца нашего Иоанна Златоуста о священстве» (Львоў, 1614).

*Літ.*: Голубев С.Т. Объяснительные параграфы по истории западно-русской церкви. Киев, 1893; Покровский А.И. О Соборах Юго-Западной Руси XV—XVII вв. // Богословский вестник. 1906. № 10; Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996.

**Віленскі сабор 1514**, сабор духавенства праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі ў Вільні. Скліканы мітрапалітам Іосіфам II Солтанам для ўстанаўлення царк. шанавання св. *Елісея Лаўрышаўскага* (відаць, князя Войшалка), які заснаваў манастыр каля Навагародка. У час татарскага нападу на ваколіцы Навагародка ў пач. 16 ст. (1503, 1505 або 1506) Лаўрышаўскі манастыр не быў крануты татарамі (згодна паданню, ім здалося, што манастырскі двор быў запоўнены конніцай, хоць там нікога не было). Гэта было прыпісана заступніцтву св. Елісея. Афіцыйнае яго шанаванне павінна было павысіць аўтарытэт правасл. царквы ВКЛ. Сабор устанавіў свята Елісея ў дзень яго скону — 23 кастрычніка. У гэты час, відаць, было складзена жыціе св. Елісея (не дайшло да нашага часу). Пасля Бе-



**Віленскі палац Слушкаў**.




**Віленскі палац Слушкаў**. Малюнак Н.Орды.



расцейскага сабора 1596 св. Елісея шанавалі уніяты (да сярэдзіны 17 ст.).

*Літ.*: Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996.

**Віленскі сабор 1546**, сабор духавенства праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі ў Вільні. Склікаavны мітрапалітам Макарыем II па ініцыятыве караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта I Старога. Захаваўся ліст Жыгімонта I ад 13.2.1546, у якім ён адзначае, што даведаўся ад многіх князёў і паноў аб «беспарадках і няспраўнасцях, якія здзяйсняюцца паміж вашым духавенствам грэцкага закона, таксама паміж князямі і панамі і простымі людзьмі ў вашым законе, а асабліва паміж усімі ўладыкамі, як на Валыні: паміж імі адбываюцца вялікія аблуды і распушчанасць насуперак правілам святых айцоў і справядлівасці, а ты, іх старэйшы пастыр, не жадаеш таго ведаваць і праследаваць». Для выпраўлення становішча Жыгімонт I загадаў мітрапаліту склікаць сабор у Вільні на дзень Узнясення Гасподняга, запрасіць на яго ўсіх правасл. епіскапаў і архімандрытаў і «разважыўшы з імі аб усім тым неўладкаванні вашага закона, учыніў, па правілах святых айцоў, належную пастанову, як караць вінаватых і зацвердзіць парадак у вашым законе». Вял. князь адзначыў: «А мы ва ўсіх тых справах жадаем дапамагаць тваёй міласці, каб у нашай дзяржаве не было паміж хрысціянамі ніякай аблуды і неўладкавання, якое пачалося і адбываецца цяпер». Інфармацыя аб ходзе сабора не захавалася, аднак навукоўцы не сумняваюцца ў факце яго правядзення. У любым выпадку, прынятыя на саборы меры па паляпшэнні становішча ўнутры правасл. царквы ВКЛ кардынальным чынам не змянілі становішча.

*Літ.*: Акты, относящиеся к истории Западной России. Санкт-Петербург, 1848. Т. 3. С. 3.

**Віленскі сабор 1558**, сабор духавенства праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі ў Вільні. Скліканы мітрапалітам Сільвестрам у 1558, на першым тыдні Вял. посту. Пра свой намер мітрапаліт напісаў каралю польскаму і вял. князю літоўскаму Жыгімонту II Аўгусту. Кароль сваімі лістамі апавясціў усіх епіскапаў і архімандрытаў аб маючым адбыцца саборы і загадаў з'ехацца ім у Вільню на прызначаны мітрапалітам час. Потым, даведаўшыся пра цяжкую хваробу і нядужы стан супрасльскага архімандрыта Сергія Кімбара, паведаміў 2.2.1558 мітрапаліту, што Сергій не можа з'явіцца на сабор, а дашле замест сябе ўпаўнаважанага, і пры гэтым выказаў жаданне, каб на саборы, які склікаецца руплівасцю мітрапаліта «ку постановенью веры и закону християнского», усё скончылася добра, у згодзе са словам і наказам Божым. Іншых звестак пра сабор не дайшло. Не вядома канкрэтная праграма яго дзейнасці. Выказвалася меркаванне, што сабор не толькі разгледзеў праблемы ўнутранага жыцця правасл. царквы, але і выявіў небяспеку, якую несла ёй пратэстанцтва.

*Літ.*: Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996.

**Віленскі сабор 1589**, сабор духавенства праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі. Быў скліканы канстанцінопальскім патрыярхам Іераміем у той час, калі ён у 1588 праз Беларусь накіроўваўся ў Маскву, каб зацвердзіць там утварэнне незалежнага патрыярхату. Сабор быў прызначаны на свята Раждаства Багародзіцы (8.9.1588), але тады не адбыўся. У Вільню патрыярх прыехаў з Масквы ў ліп. 1589. Туды ж прыбыў кароль польскі і вял. князь літоўскі Жыгімонт III з сенатарамі. Іераміі была прадастаўлена магчымасць беспераШкодна правесці сабор і ажыццявіць мерапрыемствы па ўладкаванні правасл. царквы Рэчы Паспалітай. На саборы абмяркоўваліся парушэнні кананічнага права, што адбываліся ў мітраполіі. Патрыярх нізлажыў мітрапаліта Ані- сіфара Дзевачку з-за таго, што той 2 разы быў жанаты [21(31) ліп.]. Новым мітрапалітам кароль прызначыў Міхаіла Рагозу [27 ліп.(6 жн.)], якога патрыярх пасвяціў. Іерамія ўхіліўся ад дыскусіі па пытаннях веры, якую прапаноўвалі каталіцкія дзеячы і прыхільнікі царк. уніі (І.Пацей). 1(11) жніўня Іерамія выдаў грамату да ўсіх правасл. народаў Усходу, у якой забараніў святарам з усх. краін па-за юрысдыкцыяй канстанцінопальскага патрыярха самавольна прыязджаць у Рэч Паспалітую і ўмешвацца ў мясцовыя духоўныя справы. Са свайго боку, Жыгімонт III 21.7.1589 зацвердзіў статут Віленскага Троіцкага брацтва са школай і друкарняй. Вынікі сабора былі супярэчлівымі: дзеянні Іераміі, накіраваныя на аздараўленне правасл. царквы Рэчы Паспалітай, прывялі да незадаволенасці правасл. епіскапаў дзейнасцю канстанцінопальскага патрыярха, абвастрылі іх адносіны з брацтвамі і падштурхнулі іх да заключэння уніі з каталіцкай царквой.

*Літ.*: Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 5. Київ, 1994; Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996.

**Віленскі сінод 1520**, першы сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам *Янам* з князёў літоўскіх. Адбыўся ў Віленскім кафедральным касцёле св. Станіслава ў канцы 1520 (або, магчыма, у студз. 1521). Невядома, якія пытанні абмяркоўваў і якія пастановы прыняў. Удзельнічаў папскі легат Захарыус Ферэры з Вічэнцы, які прамовіў казанне. Пра сінод вядома толькі з дэкрэта, які легат выдаў падчас набажэнства ў Віленскім касцёле св. Бернардзіна 2.2.1521.

*Літ.*: Fijałek J. Pierwszy synod diecezji wileńskiej w katedrze św. Stanisława 1520/21 // Kwartalnik Teologiczny Wileński. 1923—1924. Rok 1—2; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1527**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам *Янам* з князёў літ. у 2-й пал. 1527 (або, магчыма, у пач. 1528). Адбыўся пасля правінцыяльнага сінода Гнезненскай мітраполіі 3.7.1527 у Лэнчыцы. Перад В.с. была праведзена генеральная візітацыя Віленскай рымска-каталіцкай епархіі (пачалася ў 1525). В.с. скліканы для ажыццяўлення пастаноў 5-га Латэранскага сабора аб умацаванні каталіцкай веры і рашэнняў Лэнчыцкага сінода. Быў скіраваны супраць набіраўшых моц пратэстанцкіх веравучэнняў. У сінодзе ўдзельнічалі члены капітула, дэканы, абаты, пробашчы. Прыняў рашэнні зменшыць адпраўленне царк. святаў, колькасць якіх да таго часу значна вырасла, а таксама працэсій са Святымі Дарамі, прытрым-

ліваца аднолькавага парадку богаслужэння. Загадаў адчыняць парафіяльныя школы, для чаго былі вылучаны сродкі на ўтрыманне настаўнікаў, пры чым забаронена прыймаць настаўнікаўнемцаў. У школах павінны былі выкладацца Евангелле і пасланні св. Паўла, па-літоўску і па-польску. Пастановы сінода, разбітыя на 18 артыкулаў, былі надрукаваны: «Statuta Vilnensis Dioecesis Synodaliter per Ill-m Principem et R-m D-num Joannen e ducibus Lithuaniae... » (Кракаў, 1528). Аўтарам гэтай




Да арт. **Віленскі сінод 1527**. Гравюры з выдання пастаноў сінода. Кракаў. 1528.

кнігі, якая была разаслана па епархіі, лічыцца Ежы Солак (Талат) з Эйшышак і Ян *Даманоўскі*, рэдагаваў яе сам біскуп.

*Літ.*: K u r c z e w s k i J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; S a w i c k i J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1538**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Паўлам Гальшанскім 19—21 мая ў Віленскім касцёле св. Яна. Удзельнічалі біскуп луцкі Ежы Хвальчэўскі, члены Віленскага капітула, дэканы, абаты, пробашчы. Разглядзеў пытанне пра падатак на аднаўленне Віленскага кафедральнага касцёла пасля пажару 1530. Ухваліў яго ў памеры: ад пары валоў 12 грошаў, ад вупражнага каня 6, ад грунту 6, ад агароду 6, ад карчмы 3, вікарый павінен заплаціць 6, алтарысты 30 грошаў. Падатак раскладзены на 2 гады, з умовай, што не будзе збірацца на патрэбы дзяржавы. Іншыя рашэнні сінода невядомы.

*Літ.*: K u r c z e w s k i J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; S a w i c k i J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1542**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Паўлам Гальшанскім 27 вер.—4 кастр., відаць, у Вільні. Падрабязнасцей пра яго дзейнасць не захавалася. Скліканы, верагодна, у сувязі з маючым адбыцца правінцыяльным сінодам Гнезненскай мітраполіі, скліканым на 17.10.1542. Разглядаў, магчыма, пытанні пра аднаўленне кафедральнага касцёла пасля пажару 1542 і пра супрацьстаянне рэфармацыйным рухам.

*Літ.*: K u r c z e w s k i J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; S a w i c k i J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1546**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Паўлам Гальшанскім, відаць, у Вільні. Прыняў 11 пастаноў: аб прадухіленні ганьбавання ксяндзоў, пакліканых на суд біскупскімі афіцыяламі; пра забарону апраўдання на судзе свецкіх асоб, якія судзяцца з ксяндзамі, у выпадку адсутнасці гэтых ксяндзоў; пра абавязкі візітатараў дыяцэзіі; пра спадчыну памерлых без тэстаменту; пра інквізітара ерасі; пра свецкіх асобаў, якія зневажаюць духавенства; пра тых, хто ўпарта застаецца пад касцельным пакараннем і не імкнецца пазбавіцца яго на працягу года; пра ўладу біскупа; пра вікарыяў у гарадах і вёсках; пра захаванне недатыкальнасці духавенства; пра падаткі, накладзеныя на духавенства соймамі. Тэксты пастаноў не захаваліся, відаць, яны закранялі канкрэтныя адм. пытанні.

*Літ.*: K u r c z e w s k i J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; S a w i c k i J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1555**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Паўлам Гальшанскім 4—6 лют. ў Віленскім кафедральным саборы. Па просьбе Гальшанскага, які быў смяротна хворы, старшынстваваў на сінодзе біскуп жамойцкі і прэлат віленскі Вацлаў *Вярбіцкі*. Гал. пытаннямі, якія разглядаў сінод, былі адносіны паміж духоўнымі асобамі; пакаранне вінаватых духоўных; падаткі, накладзеныя на духавенства на сойме для вядзення вайны з Расіяй (гл. *Інфлянцкая вайна 1558—82*). Сінод пагадзіўся на падатак, але пастанавіў прасіць караля пра апеку і абарону ад дамаганняў на духоўныя маёнткі. Былі прадпісаны малітвы і пасты для даравання міласэрнасці Божай (гэтае рашэнне было скіравана супраць пратэстанцкай дактрыны). Сінод забараніў хаваць ерэтыкоў (пратэстантаў) пры касцёлах. Былі заслуханы пастановы Віленскага сінода 1546, некаторыя з іх яшчэ раз ухвалены, зацвярджэнне іншых адкладзены да выздараўлення біскупа і правядзення правінцыяльнага сінода Гнезненскай мітраполіі.

*Літ.*: P r z y a ł g o w s k i W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 2. Petersburg, 1860; K u r c z e w s k i J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; S a w i c k i J. Concilia Poloniae: Źrodła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1582**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Ежы *Радзівілам* на 12 лют. для правядзення ў жыццё пастаноў Трыдэнцкага сабора. Яны былі абвешчаны абавязковымі для Віленскай дыяцэзіі. Для забеспячэння новазакладзенай *Віленскай духоўнай семінарыі* сінод увёў падатак з духавенства. Біскуп кіеўскі Мікалай Пац, які перайшоў у пратэстанцтва, быў пазбаўлены



пасад каноніка віленскага і пробашча навагародскага, што прымусіла яго адмовіцца ад біскупства. На сінодзе былі вырашаны некаторыя адм. і судовыя справы. 25.2.1582 Радзівіл выдаў пастырскі ліст (надрукаваны), у якім змешчаны 26 артыкулаў з касцельнымі пастановамі, у якіх змешчаны нормы Трыдэнцкага сабора, правінцыяльнага сінода Гнезненскай мітраполіі, Віленскага сінода біскупа Валерыяна Пратасевіча (скліканы 15.1.1559, падрабязнасці пра яго невядомы) і свайго сінода. Гэта сведчыць пра тое, што на В.с. былі прыняты статуты, але яны не захаваліся.

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 2. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1602**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Бенядзіктам Войнам 3 сак. ў Вільні. Удзельнікі і ход сінода невядомы. Прыняў пастановы пра касцельную дысцыпліну, адпраўленне культу. Пастановы сінода выдадзены: «Synodus Dioecesana Episcopatus Vilnensis Celebrata Vilnae Per Illustrissimum Et Reverendissimum In Christo Patrem ac Dominum D. Benedictum Woynam...» (Вільня, 1602).

*Літ.*: Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wilenskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1607**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Бенядзіктам Войнам 20 студз., відаць, у Вільні. Перад сінодам была праведзена генеральная візітацыя епархіі. Удзельнікі і ход сінода невядомы. Прыняў статуты, якія ўвайшлі ў збор 1613.

*Літ.*: Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wilenska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źrodła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1611**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Бенядзіктам Войнам 25 крас. ў Вільні. Прысутнічалі члены капітула, 300 плябанаў. Сінадальным прапаведнікам быў Пётр *Скарга*. Сінод прыняў статуты, якія надрукаваны разам з пастановамі сінодаў 1602 і 1607: «Constitutiones Synodorum Diocesis Vilnensis Per Illustrissimum Et Reverendissimum In Christo Patrem Ac Dominum D. Benedictum Woyna...» (месца выдання не ўказана, 1613). Было пастаноўлена: святары павінны выкладаць народу асновы веры па пасцілах Вуека і Скаргі, пазбягаць «фальшывых» гісторый і выдуманых цудаў; пры выкананні сакраментаў ужываць устаноўленыя рытуалы, не дапускаць да выканання капланскіх абавязкаў вандроўных святароў без дазволу біскупа; клапаціцца пра Святыя Дары, выконваць правілы хрышчэння, заключэння шлюбу, споведзі, прычасця; святары павінны спавядаць толькі сваіх прыхаджан; не вымагаць аплаты за сакраменты; не высвячаць святароў без дазволу пробашча і дэкана, кандыдат з іншай дыяцэзіі павінен быў прынесці прысягу, што на працягу 6 гадоў застанецца ў гэтай дыяцэзіі; дэканы прынамсі раз у год павінны аглядаць дэканат і рабіць аб гэтым справаздачу біскупу, раз на год склікалі дэканацкія сіноды, сумленна выконвалі распараджэнні духоўнага начальства, з ксяндзамі захоўвалі «брацкую любоў»; ксяндзы павінны насіць доўгую чорную сукню і галіць танзуру, устрымлівацца ад моцных напояў, ігры ў карты, нікому не адмаўляць у пахаванні, таксама тым, хто не можа аплаціць; чвэрць маёмасці памерлага ксяндза належыць яго касцёлу; забараняецца звычай класці ахвяры на алтар, пачастункі на цвінтары; належыць строга трымацца пастоў (іх пералік вызначаны); патронамі ВКЛ абвешчаны святыя Казімір, Георгій і Мікалай.

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 2. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źrodła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1613**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Бенядзіктам Войнам у канцы крас.—пач. мая. Ухваліў падатак на войска ў памеры 1 злотага са службы (валокі) згодна з рашэннямі Варшаўскага сойма і правінцыяльнага сінода Гнезненскай мітраполіі.

*Літ.*: Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1626**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Астфіем Валовічам 18 чэрв. ў Вільні. Удзельнікі, ход, прынятыя пастановы невядомы. На сінодзе адбыўся тэалагічны дыспут, пра што сведчыць трактат Войцеха Станіслава Бжэскага «Controversia de ecclesia, verbo Dei, conciliis, summo pontifice, certis conclusionibus comprehensa. In gratiam Illmi ac Rmi Domini D. Eustachii Wolowicz» (месца выдання не ўказана, 1626).

*Літ.*: Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1631**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Абрагамам Войнам у сярэдзіне кастрычніка. Падрабязнасці яго правядзення невядомы. Война выдаў збор касцельных пастаноў, куды ўвайшлі пастановы сінода Бенядзікта Войны 1613 і некаторыя ўхвалы (прынамсі 2) В.с. 1631: «Constitutiones Synodorum Dioecesis Vilnensis Diuersis temporibus celebratarum Iussu Illmi Ac Rn Dmi Domini D. Abrahami Woyna...» (Вільня, 1633).

*Літ.*: Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1635**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Абрагамам Войнам 24 чэрв. ў Вільні. Абмеркаваў праблемы



касцельнай дзесяціны і нерухомасці. Згодна з булай папы рымскага Урбана VIII ад 25.11.1634 касцельную дзесяціну натурай трэба было замяніць на грошы. Сінод з гэтым пагадзіўся, даручыўшы плябанам скласці адпаведныя дамовы з калятарамі касцёлаў. Варшаўскі сойм 1635 прыняў закон, які дазваляў фундушы і запісы на карысць касцёла ад прыватных асоб толькі з дазволу сойма. Біскуп абавязаў ксяндзоў, каб у выпадку з'яўлення магнацкага фундуша або тэстамента на касцёл яго хутчэй бы дасылалі яму, каб ён мог зацвердзіць дакумент у караля і на сойме; сінод пэўнай пастановы па гэтым пытанні не прыняў. Пастаноўлена не аддаваць касцельных маёнткаў у арэнду свецкім асобам, а лясоў — яўрэям; каб капланы не трымалі некалькіх парафій адразу, прадастаўлялі вікарыям належную аплату, рэгулярна служылі імшу. Тэксты ўхвал сінода невядомы.

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 2. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1669**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Аляксандрам Казімірам Сапегам 11—13 сак. ў Віленскім кафедральным касцёле. Удзельнічалі біскупы жамойцкі Казімір Пац, смаленскі Іаган-Готард Тызенгаўз, члены Віленскага капітула, абаты, пробашчы. Устанавіў правілы адпраўлення абрадаў, абавязкі святароў. Прыняў рашэнні, што вікарыя можна прыймаць на пасаду толькі пасля здачы ім экзамена і выдачы яму пасведчання ад біскупа; прэлаты павінны стала знаходзіцца пры кафедральным касцёле; святарам забаронена адпраўляць імшу ў прыватных дамах; святары павінны 4 разы ў год чытаць у касцёлах пасля казанняў па-польску і па-літоўску дэкрэт Трыдэнцкага сабора адносна царк. шлюбу і разводу; пільнаваць правільнасць заключэння шлюбу і давання разводу; святарам забаронена пакідаць епархію без дазволу біскупа; пробашчы павінны жыць пры касцёлах, а не ў фальварках; святары павінны клапаціцца пра цэласнасць касцельных маёнткаў, не прадаваць і не абменьваць іх, клапаціцца пра касцёл, касцельнае начынне і дакументы; касцельныя маёнткі не могуць давацца ў арэнду яўрэям; строга пільнаваць посты; пахаванні павінны быць сціплымі; святары павінны прытрымлівацца звычайнай касцельнай вопраткі; забаронена даваць бенефіцыі іншаземцам, якія не ведаюць польскую і літоўскую мовы. Былі вызначаны сінадальныя суддзі, экзаменатары кандыдатаў на бенефіцыі, цэнзары кніг. Пастановы сінода, падзеленыя на 33 артыкулы, былі надрукаваны: «Acta Synodi Diaecesis Vilnensis Praesidente Illustrissimo ac Reverendissimo Domino D. Alexandro Sapieha...» (Вільня, 1669).

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywóty biskupów wilenskich. T. 3. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1685**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Аляксандрам Катовічам 1—3 кастр. ў Віленскім кафедральным касцёле. Сінод адчынены на другі дзень пасля таго, як біскуп урачыста прыняў кафедральны касцёл. Удзельнічалі біскуп смаленскі Канстанцін Казімір Бжастоўскі, члены капітула, пробашчы. Абмяркоўваў праблемы ўзаемаадносін унутры кліра (біскуп спрабаваў увесці жорсткую дысцыпліну) і патрэбы касцёла. Пастановы сінода, падзеленыя на 41 артыкул, былі надрукаваны: «Acta, Constitutiones, et Decreta Synodi Diaecesis Vilnensis, Praesidente Illustrissimo Ac Reverendissimo Domino Domino Alexandro Michaele Kotowicz...» (Вільня, 1685).

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 3. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źrodła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1717**, сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Канстанцінам Казімірам Бжастоўскім 3—5 лют. ў Віленскім кафедральным касцёле. Сіноду папярэднічала генеральная візітацыя Віленскага біскупства. Сінод пастанавіў: дэканы павінны 2 разы ў год склікаць пробашчаў на сход; хрысціць і даваць шлюб толькі ў касцёле; праводзіць катэхізацыю на зразумелай, бацькоўскай мове; святары павінны рабіць казанні ў нядзелі і святы, праводзіць імшу паводле рытуала, са спевамі, будаваць арганы, скласці спісы парафіян; не аддаваць касцельныя маёнткі ў арэнду без дазволу біскупа; жыць у парафіі і не займацца свецкімі справамі (адвакатура, выкладанне ў прыватных дамах, кіраванне маёнткамі). Святарам забаранялася п'янства, пражыванне разам з кабетамі (нават роднымі), нашэнне пышнай вопраткі; святары павінны назіраць за выкананнем пастоў, але супрацьдзейнічаць прыватна прызначаным пастам. Па ініцыятыве канонікаў рэгулярных прынята рашэнне дабівацца ў Рымскай курыі кананізацыі благаславёнага Міхала Гедройца. Забаронена будаваць сінагогі і пратэстанцкія зборы без ведама біскупа, праводзіць яўрэйскія і лютэранскія працэсіі. Святарам рэкамендавана прасвятляць народ у адносінах да чараўнікоў, не дапушчаць, каб іх судзіў свецкі суд або вясковы натоўп. Пастаноўлена прывесці ў парадак епархіяльны архіў, для чаго вызначаны люстратары. Прызначаны камісары для рэвізіі Віленскай духоўнай семінарыі. Былі вызначаны праступкі і злачынствы, якія падлягалі суду біскупа, пералічаны перашкоды, якія рабілі шлюб нядзейсным. Вызначаны парадак ажыццяўлення касцельнага следства (інквізіцыі). Вызначаны цэнзары, якія павінны былі 4 разы ў год аглядаць мясцовыя кнігарні. Пастановы сінода, падзеленыя на 29 артыкулаў, былі надрукаваны: «Decreta, Sanctiones Et Universa Acta Synodi Dioecesana Ab Illustrissimo, Excellentissimo, ac Reverendissimo Domino D. Constantino Casimiro Brzostowski...» (Вільня, 1717). Тут жа былі змешчаны некаторыя пастановы ранейшых сінодаў і пастырскія



пасланні віленскіх біскупаў 1682 і 1710, якім Бжастоўскі надаў моц сінадальных статутаў.

*Літ.:* Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 3. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі сінод 1744**, апошні сінод Віленскай рымска-каталіцкай епархіі. Скліканы біскупам Міхалам Янам *Зянковічам* 10—12 лют. ў Віленскім кафедральным касцёле. Сіноду папярэднічала генеральная візітацыя Віленскага біскупства, якая пачалася ў 1743. Удзельнічалі біскупы смаленскі Багуслаў Гасеўскі, інфлянцкі Юзаф Пузына, члены Віленскага капітула, шмат дэканаў і пробашчаў. Было пастаноўлена: пробашчы павінны праводзіць катэхізацыю па нядзелях, прамаўляць у «народнай» мове асн. малітвы, не дапускаць да споведзі тых, хто не ведае


SYNODUS DIOECESANA VILNENSIS AB Jllustrissimo, Excellentissimo ac Reverendissimo Domino D. MICHAELE JOANNE ZIENKOWICZ Dei & Apostolicæ Sedis Gratiâ EPISCOPO VILNENSI In Ecclesia Cathedrali Sua, Anno Dni MDCCXLIV. Diebus 10. 11. 12. M. Febr: CELEBRATA. TYPIS MANDATA Vilnæ Sacræ Reg: Majestatis Academ: Soc: JESU.

Пастановы **Віленскага сінода 1744**. Вільня. 1744. Тытульны ліст.

асноў веры; дэканы павінны пільнаваць, каб пратэстанты не будавалі збор і не навучалі дзяцей католікаў, іх святары павінны насіць больш кароткую вопратку, чым ксяндзы; дзеці ад мяшаных шлюбаў павінны выхоўвацца ў каталіцтве. Забаронена панам аддаваць падданых хрысціян на службу яўрэям, балявяць з яўрэямі, жыць разам з імі, запальваць ім свечкі ў святы, чысціць ліхтары, есці мацу, запрашаць акушэрак-яўрэяк, дапушчаць пахаванне яўрэяў удзень. Забаронена выпрабоўваць чараўнікоў праз кіданне іх у ваду, судзіць іх без дазволу пробашча або ўпаўнаважанай біскупам асобы. Для лепшага вядзення гаспадаркі, святкаванне святаў, што прыпадалі ў ліпені, жніўні і верасні на панядзелак—суботу, перанесена на нядзелю. Забаронена хрысціць дзяцей у прыватных дамах, хіба што ў час маразоў ці пры хваробе. Спавядаць хворых дазвалялася толькі тады, калі яны ў прытомным стане. Перад даваннем шлюбу святары павінны даследаваць, ці няма перашкод для яго заключэння; разводы ўскладнены. Святары павінны быць прыкладам сціплых паводзін, стала жыць пры касцёле, пазбягаць балявання, не прымаць ад свецкіх уладаў выканання якіх-небудзь абавязкаў. Дыяцэзіяльны канцлер павінен прынамсі 6 месяцаў, ад красавіка да жніўня, знаходзіцца ў Вільні, трымаць у парадку архіў і прадстаўляць неабходныя дакументы для абароны касцельных спраў. Сінод пацвердзіў перадачу кіравання Віленскай духоўнай семінарыяй ксяндзам-*камуністам*, якім аддадзены і семінарскія маёнткі; тэрмін навучання ў семінарыі ўстаноўлены ў 3 гады; над семінарыяй наглядаць павінны правізары. Прадпісана трымацца пастановы Трыдэнцкага сабора ў адносінах да кандыдатаў на святарства. Дэканы павінны затрымліваць вандроўных капланаў і адсылаць іх у біскупскую вязніцу на 2 месяцы. Прыходскія святары павінны выконваць распараджэнні дэканаў як наменікаў біскупа пад пагрозай штрафу 10 коп грошаў. Святары павінны пры напісанні тэстамента запісваць трэцюю частку сваёй маёмасці на карысць касцёла або алтары, з якіх мелі даходы. Членам манаскіх ордэнаў забаронена ўмешвацца ў справы парафіяльнага духавенства. Місіянеры могуць дзейнічаць толькі са згоды біскупа, якому яны павінны даваць справаздачу. Вызначаны кляштары на штогадовыя рэкалекцыі для духавенства. Прадпісана аднавіць алтары, што занялалі, а таксама касцельныя брацтвы; памерлых хаваць у касцёлах і на цвінтарах, а не па лясах і палях, убогіх хаваць дарма, не вымагаць незвычайнай узнагароды за пахаванне. Усім рэкамендавана прытрымлівацца постаў. Былі вызначаны цэнзары кніг для прагляду кнігарняў, сінадальныя суддзі і экзамінатары з ліку членаў капітула. Пастановы сінода, падзеленыя на 34 артыкулы, былі надрукаваны: «Synodus Dioecesana Vilnensis Ab Illustrissimo, Excellentissimo ac Reverendissimo Domino D. Michaele Joanne Zienkowicz...» (Вільня, 1744).

*Літ.:* Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 3. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. Wilno, 1908; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

**Віленскі Троіцкі касцёл.** Пабудаваны ў Вільні на Дамініканскай вул., відаць, у 15 ст. першапачаткова з дрэва, потым мураваны ў гатычным стылі. Храм зальнага тыпу, аднанефны. У 1536 вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт I Стары заснаваў пры касцёле шпіталь. Пасля гарадскіх пажараў 1748 і 1749 перабудаваны, пры гэтым узведзены 2 вежы, новы прэсбітэрый, замест гатычнай апсіды зроблены барочны партал. У гэты час касцёл належаў Віленскай акадэміі. У пач. 19 ст. пераабсталяваны пад правасл. царкву, у 1919 вернуты католікам. Пасля 2-й сусветнай вайны зачынены. У 1968 частка фасада абвалілася, у 1971 адноўлена гатычная апсіда. Іл. гл. ў т. 1, с. 443.

**Вількіновіч** Ігнацій (28.1.1690, Жамойць—31.12.1757), дзеяч каталіцкай царквы. У 1707 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі ў Плоцку (1719—20) і Варшаве (1720—21), філасофіі ў Варшаве (1721—23) і Полацку (1724—27), тэалогіі ў Пінску (1727—28), Варшаве (1728—29), Вільні (1729—31), Браневе (1731—35), рэгент папскіх семінарый у Браневе (1731—35) і Вільні (1742—46), рэктар калегіумаў у Нясвіжы (1735—39) і Пінску (1739—42, 1750—55), інструктар 3-й прабацыі ў Нясвіжы (1746—

49) і Вільні (1749—50). Выдаў «Тэалагічны трактат пра Божае адзінства і траічнасць» («Tractatus theologicus de Deo uno et trino», Вільня, 1739), некалькі праграм езуіцкіх тэатральных пастановак.

**віно**, алкагольны напітак, які атрымліваюць поўным ці частковым спіртавым браджэннем вінаграднага соку (сусла) ці мязгі (здробненага вінаграду). Спярша ўжывалася выключна ў літургічнай практыцы правасл. і каталіцкай цэркваў. Вінаград для прыгатавання В. вырошчвалі ў часы Кіеўскай Русі і пазней у раёне Кіева і на Пд ад яго. Аднак мясц. В. былі, відаць, малапрыдатныя як напіткі. Лічыцца, што звычай піць В. распаўсюдзіўся ў Рэчы Паспалітай у 16 ст. У ВКЛ ўжыванне В. было прыкметай раскошы. Яно імпартавалася з Малдовы (царк. кагоры), Грэцыі (мальвазія), з 16 ст. найбольшую папулярнасць сярод шляхты набыло венгерскае В. (асабліва такай). У 17—18 ст. пашырылася мода на рэйнскія (мозельскія, якія ў Рэчы Паспалітай пілі з цукрам) і французскія (у т.л. шампанскія) В. Шмат гатункаў прывазных В. адзначаецца ў мытных кнігах ВКЛ. Напрыклад, у берасцейскай мытнай кнізе 1583 адзначаны мальвазія («мальмазея»), якая завозілася куфамі, мускат («мушкатэля») — барылкамі.

**Вінрых фон Кніпродэ** (?—24.6. 1382), вялікі магістр Нямецкага ордэна. Паходзіў з Германіі. Як член ордэна ўпамінаецца з 1334. Комтур гданьскі ў 1338—41, з 1342 комтур Балгі і войт Натангіі, з 1344 вял. маршал ордэна, з 1346 вял. комтур. У 1348 камандаваў войскам ордэна ў пераможнай для яго *бітве на Стрэве 1348* з літвінамі. З вер. 1351 вял. магістр ордэна. Падтрымліваў мір з Польшчай, ваяваў супраць ВКЛ і супрацьдзейнічаў росту актыўнасці Даніі ва ўсх. частцы Балтыйскага мора. Добра арганізаваны напад на Жамойць у 1352 сустрэў рашучы адпор. У 1355 пайшоў на саюз з уладарамі ВКЛ і дапамог ім у барацьбе супраць Польшчы за Галіцкую Русь. Аднак ужо ў 1356 вял. князь літоўскі Альгерд пачаў збліжэнне з Польшчай, у 1358 пагадзіўся на хрышчэнне Літвы



**Вінрых фон Кніпродэ**.

ад Свяшчэннай Рымскай імперыі, пры гэтым адной з умоў было высяленне Нямецкага ордэна з Прыбалтыкі і падзел яго тэр. Аднак гэтыя планы не здзейсніліся. У 1360 пачалася новая хваля крыжацкіх нападаў на ВКЛ, якая працягвалася да смерці В.ф.К. У гэтых нападах прымала ўдзел шматлікае еўрапейскае рыцарства. У час гэтай барацьбы Коўна на некаторы час трапіла пад уладу ордэна, а кн. Кейстут быў узяты ў палон. Ордэн падтрымаў Ганзу ў вайне супраць дацкага караля Вальдэмара IV, які пацярпеў паражэнне. У час праўлення В.ф.К. ордэнская дзяржава займала найб. абшар, паспяхова развівалася яе гаспадарка, гандаль (асабліва збожжам, якое плацілі як дань ордэну скораныя балцкія народы). Лад жыцця рыцараў усё больш набываў свецкі выгляд.

**Віталій**, рэлігійны дзеяч і пісьменнік 1-й пал. 17 ст. Аўтар духоўных вершаў, перакладчык царк. кніг з грэчаскай і лацінскай моў. Пераклаў на царк.-слав. мову і выдаў кнігу «Дыёптра, або Люстра жыцця людскога на тым свеце...» (Еўе, 1612; перавыдадзена ў Еўі і Вільні ў 1642, Куцейне ў 1651 і 1654, Магілёве ў 1698, Клінцах у 1786), прасякнутую царк. тэндэнцыямі. У кнізе змешчаны таксама тыпова барочныя паводле характару і стылю філасофска-дыдактычныя вершы В., у якіх праводзяцца ідэі хрысціянскага аскетызму, марнасці зямнога жыцця, што было своеасаблівым адлюстраваннем цяжкага сацыяльнага і нац.-рэлігійнага становішча бел. і ўкр. народаў у Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Ф р а н к о І. Забутий український віршописець XVII віку // Записки Наукового товариства ім. Шевченка. 1898. Т. 22, кн. 2.

***Аляксандр Коршунаў.***

**Вітаўт** (каля 1303—6.7.1336), князь троцкі. Мяркуецца, што быў сынам вял. князя літоўскага *Гедзіміна*. Паводле хронікі Віганда з Марбурга, у 1336 неназваны па імю князь троцкі быў забіты крыжакамі. Гісторыкі лічаць, што ім мог быць В., сын якога Юрый Вітаўтавіч браў удзел у паходзе супраць крыжакоў у 1342.

*Літ.*: P u z y n a J. Kiedy urodził się Witold i co wiemy o rodzie jego matki // Miesięcznik Heraldyczny. 1930. T. 9; T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Вітман** (Wittman) Францішак (Франц), музыкант і капельмайстар 18 ст. У 1749—60 капельмайстар прыдворнага аркестра Г.Ф.*Радзівіла* ў Слуцку і Белай. У Слуцку выступаў у драматычных спектаклях (вядома пра выкананне В. ролі Багацея ў адной з п'ес, 1752). У 1756 выязджаў з групай музыкантаў у Нясвіж. Пасля смерці Радзівіла (1760) быў запрошаны М.К.*Радзівілам* Рыбанькам узначаліць Нясвіжскую капэлу.

*Літ.*: Б а р ы ш е в Г. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Вітунскі** Аўгусцін (?—20.7.1654), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. Паходзіў з польскага шляхецкага роду герба «Роля». Член манаскага ордэна бернардзінцаў. Быў выкладчыкам тэалогіі, жыў у Кракаве, Любліне, Вільні, уваходзіў у склад кіраўніцтва правінцыяй ордэна ў Рэчы Паспалітай. У 1640 удзельнічаў у судовым працэсе віленскіх бернардзінак супраць Віленскага



кальвінскага збору, які скончыўся пастановай разбурыць збор. Садзейнічаў заснаванню Слонімскага кляштара бернардзінак (1645). Пасля 1650 кусташ у Віленскім кляштары бернардзінцаў. Дзякуючы яго намаганням для касцёла выканана сталя (лава для ганаровых прыхаджан і гасцей) выдатнай разьбярскай працы, упрыгожаная разнымі і маляванымі фігурамі святых, багата пазалочаная і пасярэбраная. Выдаў казанні на пахаванні магнатаў: «Для вечнай памяці. Харугва пабожнай любові ... Эльжбеты з Гаславіц Валовічавай...» («Dla wieczney pamięci. Chorągiew pobożney miłości na zniesienie żalobney chorągwi z smiercu JWJMP Elżbiety z Gosławic Wołłowiczowey ... na pogrzebowych egzekwiach kazaniem wystawiona...», Люблін, 1636), «Персцень бессмяротнасці ... Крыштофа Весялоўскага...» («Pierscien niesmiertelnosci, oddany w żałobnych namiotach śmierći Jasnie Wielmożnego Pana, Iego Mosci P. Krysztopha Wiesiolowskiego, Wielkiego Marszałka W. X. Litewskiego, Mielnickiego, Tykocinskiego, Surazkiego, Kleczelskiego, etc. Starostę, Oekonoma Grodźieńskiego. W Horodnicy przy namiotach 26 Maii Roku 1637 cum speciali licetia Rndis Pris Pacifici Romani Comissarii etc. Visitatoris Generalis Apostolici», Кракаў, 1637), «Уцешная магіла Аляксандра Масальскага, ваяводы мінскага...» («Radosny grob JWJMP Alexandra Mosalskiego, woiewody Mińskiego, starosty Kowieńskiego etc. na kazaniu pogrzebowym w Kownie w kościele Troycy panien zakonnych św. Franciszka wystawiony», Вільня, 1643), «Ціяра вечнасці Кацярыны з Потака Радзівілавай...» («Tyara wieczności JOX Katarzyny z Potoka Radziwiłowey, naywyszey podkomo[rzyney] W.X.L. Kazimirskiey, Kamienieckiey, Seyweninskiey etc. starosciney. W skarbcu pogrzebowym w kościele kathedralnym Wileńskim na kazaniu praesentowana», Вільня, 1643), «Дом вялікі ... Станіслава Войны...» («Dom wielki głos wdzięczney nieśmiertelnoszci rozmnażający na pogrzebie WJMP Stanisława Woyny, kuchmistrza W.X.L., ciwóna Gondińskiego, Połongowskiego etc. starosty, kazaniem delineowany ... w Salanciech maiętności dziedziney», Вільня, 1649), «Аковы несмяротнай славы ... Юрыя Дэшпата Зяновіча...» («Okowy nieśmertelney sławy y chwały JMPP Jerzego Deszpota Zienowicza, starosty Opiskiego ... w dzien pogrzebu ciala iego w kościele Wileńskim Franciszka swiętego oycow Bernardinow praesentowane», Вільня, 1650), «Грыф Хадкевічаўскі» («Gryf Chodkiewiczowski, kazanie na pogrzebie Krzysztofa Chodkiewicza, wojewody Wileńsk[iego]», Вільня, 1652) і інш. Лічыўся выдатным прапаведнікам, хоць у яго казаннях адзначаюцца характэрныя для эпохі рысы заняпаду мовы і стылю.

*Літ.*: Kantak K. Bernardyni polscy. T. 2. Lwów, 1933; Klasztory bernardyńskie w Polsce w jej granicach historycznych. Kalwaria Zebrzydowska, 1985; Sarcevičienė J. Lietuvos didikės proginėje literatūroje: portretai ir įvaizdžiai. Vilnius, 2005.

**Віцебская Васкрасенская царква.** Існавала ў Віцебску на ратушнай плошчы ў 16—20 ст. Драўляная царква, пабудаваная ў 16 ст., паказана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Складалася з 3 зрубаў: асн., алтарнага і бабінца з вежай над ім, накрытых асобнымі шатровымі дахамі з галоўкамі. Не зберaглася. На яе месцы, побач з крамамі, у 1772 пабудавана ў стылі позняга барока мураваная уніяцкая царква, арыентацыя алтара зменена з У на Пн. Аднанефавы храм меў паўкруглую алтарную апсіду з рызніцамі па баках, якія надавалі будынку прамавугольны план, 2-вежавы гал. фасад меў складаную хвалістую паверхню. Сцены былі аздоблены выцягнутымі плоскімі пілястрамі і завершаны хвалістымі карнізамі, скразныя ярусы вежаў і франтон упрыгожаны стылізаванымі валютамі. Вежы завяршаліся фігурнымі купалкамі. З 1834 праваслаўная. У 1936 разбурана. У канцы 2000-х г. адноўлена.

*Літ.*: Роцька І. Віцебская Уваскрасенская Рынкавая царква: архітэктурны аналіз // Віцебскі сшытак. 1996. № 2; Цішкін І. Храм на Рынку ў Віцебску // Там жа; Страчаная спадчына. Мінск, 1998. С. 91—92. ***Тамара Габрусь.***

**Віцебская вучоная архіўная камісія**, гістарычнае таварыства Віцебскай губ. ў 1909—19. Створана 31.5 (13.6).1909 па ініцыятыве Е.Р.*Раманава*, А.П.*Сапунова*, В.С.Арсеньева. Паводле статута мела на мэце ахову помнікаў гісторыі і культуры, вывучэнне і папулярызацыю гісторыі роднага краю, збіранне прадметаў старажытнасці, правядзенне археал. раскопак, збор і вывучэнне старадаўніх рукапісаў і дакументаў, арганізацыю экскурсій па гіст. месцах, выданне навук. і папулярных прац па гісторыі, геаграфіі, археалогіі і этнаграфіі Віцебшчыны. Да канца 1910 камісія налічвала 28 членаў-заснавальнікаў, 99 ганаровых членаў (сярод іх Дз.Н.Кайгарадаў, Я.Ф.Карскі, В.В.Ключэўскі, А.С.Лапа-Данілеўскі, П.П.Сямёнаў-Цяньшанскі, А.А.Шахматаў, Б.І.Эпімах-Шыпіла), 325 правадзейных членаў (сярод іх мясц. гісторыкі і краязнаўцы М.В.Анцаў, К.А.Змігродскі, У.А.Кадыгробаў, Дз.С. Леанардаў, М.Я.Нікіфароўскі, У.К.Стукаліч, К.І.Ціхаміраў) і 15 членаў-супрацоўнікаў. Старшыні камісіі: Арсеньеў, Кадыгробаў [з 26.9(9.10).1910] і Ціхаміраў. Камісія мела праўленне, савет, гіст. архіў (314 спраў), музей (у ім 1069 манет і 39 медалёў), б-ку (3700 тамоў). Існавала на субсідыі ўрада (адначасова 500 руб. і 200 руб. штогод), членскія ўзносы, грашовыя ахвяраванні ад прыватных асоб і ўстаноў, зборы з лекцый. У 1910 па ініцыятыве камісіі адкрыты Віцебскі настаўніцкі інстытут, у 1911 — Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага ін-та. Мела кантакты больш чым з 100 навуковымі ўстановамі Расіі і замежных краін. Пры ёй была камісія для разгляду архіўных спраў ва ўстановах. Выдавала перыядычны зборнік «*Полоцко-Витебская старина*». Ліквідавана ў сувязі з утварэннем Віцебскага губернскага архіўнага ўпраўлення. Архіў, музей і б-ка перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археал. ін-та.

*Літ.*: Арсеньев В.С. Личный состав Витебской ученой архивной комиссии к 31 мая 1910 года. Витебск, 1910; Змигродский К.А. Каталог монет и медалей музея Витебской учёной архивной комиссии. Витебск, 1911; Мельникова М. Каталог Архива Витебской учёной архивной комиссии. Витебск, 1912; Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI в.—30-е годы XX в. Минск, 1996. С. 167—169; 90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, 24 лістапада 1999 г., г. Віцебск. Мінск; Віцебск, 2000; Шумейко М.Ф. Белорус-



ская археография в XIX—XX вв.: (проблемы теории, истории, методики). Минск, 2007.

**Віцебская Ільінская царква.** Існавала ў 18 (17?) — пач. 20 ст. Пабудавана як уніяцкая ў 1746 у Віцебску. Належала цэху кормшчыкаў. 4-зрубны драўляны храм крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі з 3 бакоў быў абкружаны галерэяй. Зрубы (тры 5-гранныя і прамавугольны ў плане бабінец) завяршалі высокія шатры з галоўкамі. Сяродкрыжжа было накрыта 4-схільным шатром з невял. прагінам кожнага схілу ўверсе і завершана 2-яруснай вежачкай з васьмерыковым барабанам і барочнымі купалкамі. Уваходы былі аформлены ганкамі. Сцены былі вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, аздоблены разным карнізам, вокны прамавугольныя, у галерэі — рамбічныя. У інтэр'еры зрубы перакрываліся самкнутымі скляпеннямі, сяродкрыжжа — 8-гранным скляпеннем, павернутым адносна шатровага пакрыцця на 22,5°. Над уваходам вузкія хоры. Побач з царквой размяшчалася 3-ярусная зрубна-каркасная званіца, накрытая пакатым шатром. В.І.ц. згарэла ў 1904.

*Літ.*: Красавіцкі П. Віцебская Ільінская царква // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Мінск, 1928. Кн. 6; Страчаная спадчына. Мінск, 1998. С. 86—89.

***Тамара Габрусь.***

**Віцебская Міхайлаўская царква.** Пабудавана з плінфы, відаць, у 1-й чвэрці 12 ст. ў Віцебску, на тэр. дзядзінца (пазнейшы Верхні замак). Разбурана у час пажару 1335 або пад час аблогі Віцебска Вітаўтам у 1396. Пасля адноўлена як драўляная на каменным падмурку. Паводле звестак гісторыка М.Стрыйкоўскага, у царкве былі партрэты вял. кн. Альгерда і яго жонкі Ульяны Аляксандраўны. Выява царквы змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. У гэты час яна складалася з 2 прамавугольных у плане асн. і алтарнага зрубаў, накрытых 2-схільнымі дахамі. Асн. зруб завяршаўся чацверыковай вежачкай з шатровым пакрыццём. Гал. фасад быў упрыгожаны невял. адкрытай галерэяй з балясавай агароджай. У 18 ст. царква моцна пацярпела ад пажару і не была адноўлена.

*Літ.*: Калядзінскі Л.У. Віцебскі храм Св. Міхаіла // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1995. № 1.

**Віцебская Святадухаўская царква.** Існавала ў Віцебску ў 16—17 ст. на тэр. Заручаўскай слабады. Складаны па кампазіцыі мураваны будынак, увянчаны 5 шатровымі вярхамі з галоўкамі на светлавых барабанах. Бабінец унутры чляніўся на 2 ярусы: у верхнім размяшчаліся хоры, якія з боку гал. фасада асвятляліся вокнамі — 3 высокімі прамавугольнымі і 1 круглым. Яе выява змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Не захавалася.

**Віцебская Сімяонаўская царква.** Існавала ў 17 ст. ў Віцебску ў Задзвінскай слабадзе. 2-зрубны драўляны будынак складаўся з прамавугольнага ў плане асн. аб'ёму і алтарнай часткі, завершаных 2-схільнымі дахамі. Цэнтр асноўнага аб'ёму ўвенчваўся высокай складанай па форме купальнай вежачкай з дэкаратыўным крыжам. Яе выява змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Не захавалася.

**Віцебская Спаса-Праабражэнская царква.** Існавала ў 17 ст. ў Віцебску на тэр. Узгорскага замка. Пабудавана з дрэва. Складалася з высокіх прамавугольных у плане асн. аб'ёму і гранёнай апсіды, накрытых 2-схільнымі дахамі, і 3-яруснай званіцы (2 ніжнія ярусы чацверыковыя, верхні з высокімі вузкімі вокнамі ўвенчаны васьмерыковым купалам). Асн. аб'ём завяршаўся галоўкай на высокім барабане. Фасады расчляняліся высока размешчанымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Яе выява змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Не захавалася.

**Віцебская Троіцкая царква** («Чорная Тройца»). Існавала ў Віцебску ў прадмесці Пескавацік у 18—пач. 20 ст. Пабудавана з дрэва як уніяцкая ў 1761 (першапачатковы храм быў пабудаваны на гэтым месцы ў 1618). 5-зрубны храм крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі. Цэнтр. 8-гранны зруб быў завершаны светлавым васьмерыком і накрыты пакатым шатром, які пераходзіў у невял. купалок з галоўкай. 4 прамавугольныя ў плане зрубы, арыентаваныя па баках свету, былі накрыты 2-схільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Да царквы прылягалі вял. шматгранная ў плане абходная галерэя, 2-ярусная званіца з пакатым шатром пры ўваходзе (з З) і невял. прыбудовы па баках алтарнага зруба (з У). Сцены былі вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. Знішчана ў 1930-я г.

*Літ.*: Клепікаў М. «Чорная Троіца» // Беларуская мінуўшчына. 1996. № 6; Страчаная спадчына. Мінск, 1998.

***Тамара Габрусь.***

**Віцебская Увядзенская царква.** Існавала ў 17 ст. ў Віцебску на тэр. Узгорскага замка. Драўляная пабудова складалася з 3 аб'ёмаў: 2-яруснага цэнтр. чацверыковага, завершанага 4-схільным дахам, гранёнай апсіды з шатровым дахам, чацверыковай званіцы, завершанай ізбіцай і шатровым дахам з купалам (фланкіравала гал. фасад з ПнЗ і мела самастойны ўваход). Усе дахі ўвянчаны купальнымі галоўкамі на светлавых барабанах. Яе выява змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Не захавалася.

**Віцебскі гасціны двор.** Існаваў у Віцебску у 17 ст. Вядомы і пад назвай Віцебская ратуша (у 1623 ратуша ліквідавана ў сувязі з пазбаўленнем Віцебска магдэбургскага права). Пабудаваны з дрэва на тэр. Узгорскага замка ў комплексе з 89 крамамі і складамі, якія ўтваралі прамавугольную ў плане гандлёвую плошчу, забудаваную з 4 бакоў і злучаную з Верхнім замкам мостам цераз р. Віцьба. Гал. квадратны ў плане будынак быў завершаны высокім вальмавым дахам з бельведэрам і балюстрадай вакол яго. Бельведер быў накрыты купалам, завершаным галоўкай на васьмерыку, увенчаны шпілем з гарадскім гербам. Будынак уключаў 2 «гасціныя» жылыя пакоі, якія ацяпляліся «па-чорнаму», і памяшканне для гарадскога суда. Каля яго размяшчаліся важніца, дзе захоўвалася гарадская вага, 7 камор для тавараў, стайня. Выява двара адлюстравана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Будынкі апісаны ў інвентары Віцебска сярэдзіны 17 ст. Не захаваліся.

**Віцебскі дом Горскага.** Існаваў у Віцебску ў 17 ст. на тэр. Верхняга замка. Драўляны 2-павярховы прамаву-



гольны ў плане будынак, завершаны вальмавым дахам з 2 шпілямі ў вяршынях вальмаў. Ніжні паверх гаспадарчы (тыпу падклета), верхні — жылы, абкружаны па перыметры кансольна-бэлечнай балюстраднай галерэяй. Адлюстроўвае рысы жыллёвага гарадскога будаўніцтва ПнЗ Беларусі 17 ст. Яго выява змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Не збярогся.

**Віцебскі дом Шапкіна.** Існаваў у 17 ст. на тэр. Ніжняга замка ў Віцебску. Г-падобны ў плане 2-павярховы драўляны будынак меў 2-схільны дах з трохвугольнымі шчытамі ў тарцах (адзін са шчытоў завяршаўся дэкаратыўным флюгерам). Паверхі падзяляліся карнізным поясам, вокны прамавугольныя. Гал. ўваход вылучаны шматгранным 2-ярусным вежай, завершанай шатром і флюгерам. У збудаванні адлюстраваны традыцыйныя кампазіцыйныя прыёмы архітэктуры жылля заможных гараджан 17 ст. Яго выява змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. Не збярогся.

**Віцебскі палац Агінскага.** Існаваў у 17—1-й пал. 19 ст. ў Віцебску на тэр. Ніжняга замка. Драўляны будынак складанай асіметрычнай кампазіцыі. Асн. 2-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём (ніжні паверх — гаспадарчы, верхні — жылы) завяршаўся 2-схільным дахам са ступенчатымі шчытамі ў тарцах, да яго з аднаго боку прылягала высокая 8-гранная вежа, завершаная складаным па малюнку купалам і дэкаратыўным флюгерам над шатровым дахам, з другога — невял. аб'ём, накрыты 2-схільным дахам і аформлены ў 2-м ярусе кансольна-бэлечнай галерэяй з разной балюстрадай. Гал. ўваход вырашаўся ў выглядзе невысокай 8-граннай вежы з шатровым пакрыццём. На 2-і ярус вежы, злучаны з жылым паверхам, вяла парадная вонкавая лесвіца. Палац быў адным з найб. значных будынкаў Віцебска, як сімвал горада адлюстраваны ў пач. 18 ст. на «Чарцяжы Зах. Дзвіны», яго выява змешчана на «чарцяжы» Віцебска 1664. У 17 ст. тут збіраліся соймікі Віцебскага павета. У 1-й пал. 19 ст. вядомы як «дом з купалам», у ім размяшчалася базыльянская школа. Не збярогся.

**Віцебскі піярскі калегіум.** Заснаваны ў Віцебску Андрэем і Ганнай Свіршчэўскімі паміж 1751 і 1753. Яны перадалі піярам пляцы ў горадзе, агароды і суму 1000 талераў, пабудавалі драўляныя касцёл і кляштар. Пасля віцебскім піярам далі сродкі Пацей (1200 талераў), віцебскі харужы Магучы (100 талераў), Міклаевіч (800 талераў) і інш., а віцебскі ротмістр і гранічны суддзя М.Мікоша ў 1761 перадаў ім юрыдыку ў Віцебску. Піяры трымалі школу для моладзі з 5 класаў, дзе выкладалі польскую і лацінскую мовы, арыфметыку, геаграфію, гісторыю, геаметрыю, фізіку, паэзію, рыторыку, права, філасофію. Навучанне было бясплатным. Пры калегіуме існаваў канвікт (інтэрнат). У калегіуме адбываліся тэатральныя пастаноўкі навучэнцаў (у 1765 паставілі трагедыю «Артаксар» Ю.Кушаля). У 1785 па просьбе Р.Пацёмкіна В.п.к. быў перанесены ў Дуброўну, вернуты ў 1799, у 1822 пераведзены ў Полацк, дзе на яго базе створана вышэйшае піярскае вучылішча (закрыта ў 1830).

*Літ.*: Gozdawa M. Wspomnienie o Pijarach Witebskich // Kwartalnik Litewski. 1910. R. 1, t. 1.

**Вішаваты** Анджэй (26.11.1608, мяст. Філіпава, Троцкае ваяв.—29.7. 1678), тэолаг, філосаф, адзін з ідэолагаў антытрынітарызму ў Рэчы Паспалітай. Паходзіў са шляхецкай сям'і. У 1619—29 вучыўся ў антытрынітарнай Ракаўскай школе (акадэміі) у Сандамірскім ваяв. У 1629—30 хатні настаўнік у люблінскага ваяводы А.Тарлы. У 1631—38 знаходзіўся за мяжой: вучыўся ў Гамбургу, Лейдэне, потым жыў у Амстэрдаме (1632—37), Парыжы, наведваў Англію; быў знаёмы з буйнейшымі вучонымі і філосафамі таго часу Гуга Гроцыем, Ж.Мерсенам, П.Гасендзі. У 1638—40 знаходзіўся ў Польшчы, прымаў удзел у спробах прадухілення закрыцця Ракаўскай школы ў 1639. У 1640—42 падарожнічаў па Германіі, Галандыі, Францыі. З 1642 антытрынітарны міністр у Пясках і Шэршніцы (Кіеўскае ваяв.), якія належылі шляхціцу С.Вайнароўскаму, потым міністр ва ўладаннях Ю.Чапліча ў Валынскам ваяв. — Галічанах і Іваніцах (часова ў Кіселіне і Берастэчцы). У час войн 1648—60 В. часта пераязджаў з месца на месца, не маючы сталага месца жыхарства. У сак. 1660 удзельнічаў у дыспуце з езуітам Мікалаем Ціхоўскім у замку войніцкага кашталяна Я.Веляпольскага. У сувязі з выгнаннем антытрынітарыяў з Рэчы Паспалітай В. пераехаў у Сілезію, потым у Венгрыю, Германію, з 1666 жыў у Амстэрдаме. Стаў адным з лідэраў польскіх і літоўскіх братоў у эміграцыі. У 1665—69 падрыхтаваў і выдаў на лацінскай мове фундаментальную серыю твораў антытрынітарыяў Польшчы і ВКЛ «Бібліятэка Польскіх братоў» («Bibliotеka Fratrum Polonorum»). Памёр у Амстэрдаме.

Да эміграцыі творчасць В. была скіравана пераважна на абарону польскіх і літоўскіх братоў ад абвінавачванняў з боку контррэфармацыйнай прапаганды. У палеміцы з езуітам Ціхоўскім напісаны працы В. «Адказ на Да безнадзейных довадаў арыян, або Да Звястуна святой Тройцы» («Ad desperatam causam Arianorum seu Prodromum triumphi SS. Trinitatis ... responsio»), «Адказ на суму арыянскай веры» («Odpowiedź na summę wiary ariańskiej»), «Адказ на ліст кс. Мікалая Ціхоўскага, езуіта...» («Odpowiedź na list ks. Mikołaja Cichowskiego, Jezuity...»). Да нашага часу гэтыя творы не захаваліся; звесткі аб іх вядомы з палемічных прац Ціхоўскага. У эміграцыі В. выступае як адзін з гал. ідэолагаў антытрынітарызму. У яго творчасці пераважалі тэалагічна-філасофскія і маральна-рэлігійныя пытанні. Твор «Стымулы дабрадзейнасцяў» («Stimuli virtutum...», Амстэрдам, 1682) прысвечаны этычнай праблематыцы. У ім узнаўляецца характэрная для польскіх і літоўскіх братоў рыгарыстычная мараль, заснаваная на літаральным тлумачэнні Новага Запавету, падкрэсліваецца прыярытэт транцэндэнтных мэт у жыцці чалавека перад мэтамі рэальнага зямнога жыцця. Разам з тым у тэалагічна-філасофскіх пытаннях погляды В. фарміраваліся пад моцным уплывам рацыяналістычнага накірунку філасофіі Новага часу. Гал. праца В. ў эміграцыі — «Аб рэлігіі, згоднай з розумам» («Religio rationalis...», Амстэрдам, 1685). У ёй



рэпрэзентаваны найбольш радыкальны варыянт рацыяналізацыі рэлігіі польскіх і літоўскіх братоў у сацыніянскі перыяд. В. сцвярджае, што крыніцай абсалютнай ісціны з'яўляецца Свяшчэннае Пісанне. Але разам з тым указваецца рацыянальны характар рэлігійных ісцін. Свяшчэннае Пісанне разглядаецца як норма веры; суддзёй у справах веры выступае розум. Пры гэтым крытыкуюцца падыходы да рэлігійнага пазнання, заснаваныя на аўтарытэце царк. традыцыі, а таксама на канцэпцыі т.зв. ілюмінацыі Святога Духа. Хаця В. лічыць ісціны веры вышэйшымі за ісціны розуму, у той жа час указвае, што ўсе рэлігійныя ісціны павінны быць верыфікаваны з дапамогай розуму: тое, што не адпавядае розуму, павінна быць элімініравана з рэлігійнай дактрыны. Такім шляхам праводзіцца абвяржэнне асн. дагматаў каталіцкай і пратэстанцкіх цэркваў. Біблейскія цуды інтэрпрэтуюцца ў рацыяналістычным і натуралістычным духу. Пад уплывам новага еўрапейскага рацыяналізму В. пастуліруе ў якасці крытэрыю ісціны відавочнасць і выразнасць. Гэтымі рысамі валодаюць пэўныя ідэі і паняцці, якія маюць аксіяматычны характар і з'яўляюцца зразумелымі для ўсіх людзей. У палеміцы з ірацыяналістычнымі поглядамі В. даводзіць здольнасць чалавечага розуму да адэкватнага пазнання. Выдаў тэалагічную працу, у якой крытыкуецца дагмат Тройцы — «Да Барона Боінэбурга, кастрычнік 1665» («Ad Baronem Boineburgem m. oct. 1665», упершыню надрукавана Г.В.Лейбніцам у працы «Абарона Тройцы» («Defensio trinitatis», у кнізе «Палікарп Лейзер», «Polycarp Leser...», т. 1, Вітэнберг, 1717). Рэлігійна-філасофскія ідэі В. атрымалі шырокі рэзананс у навукова-філасофскай думцы канца 17—пач. 18 ст. і аказалі ўплыў на фарміраванне раннеасветніцкага рацыяналізму.

*Тв.*: O religii zgodnej z rozumem, czyli Traktat o posługiwaniu się sądem rozumu także w sprawach teologicznych i religijnych. Warszawa, 1960.

*Літ.*: Падокшын С.А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мінск, 2003; Wilbur E.M. A history of Unitarianizm. Socinianism and its Antecedens. Cambridge, 1947; McLachlan J.H. Socinianism in the Seventheenth-Century England. Oxford, 1951; Ogonowski Z. Racjonalizm w polskiej myśli ariańskiej i jego oddziaływanie na Zachodzie // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1956. T. 1; Яго ж. Z zagadnień tolerancji w Polsce XVII wieku. Warszawa, 1958; Яго ж. Wiara i rozum w doktrynach religijnych socynian i Locke'a // Studia nad arianizmem. Warszawa, 1959; Яго ж. Socynianizm a Oświecenie. Warszawa, 1966; Chmaj L. Andrzej Wiszowaty jako działacz i myśliciel religijny // Chmaj L. Bracia Polscy: ludzie, idee, wpływy. Warszawa, 1957; Raków — ognisko arianizmu. Kraków, 1968; Wokół dziejów i tradycji arianizmu. Warszawa, 1971; Tazbir J. Bracia Polscy na wygnaniu: studia z dziejów emigracji ariańskiej. Warszawa, 1977; Kot S. Polska złotego wieku a Europa. 2 wyd. Warszawa, 1987. ***Ігар Бортнік.***

**Вішнеўскі** (Wiszniewski) Міхал (27.9.1794, в. Фірлеева Івана-Франкоўскай вобл., Украіна — 22.12.1865), польскі філосаф, псіхолаг, гісторык літаратуры. Вучыўся ў Крэменецкім ліцэі (потым у 1823—24 там выкладаў), ва ун-тах Італіі, Францыі, Шатландыі. З 1831 праф. усеагульнай гісторыі, потым гісторыі літ. Ягелонскага ун-та ў Кракаве. У 1836—39 дырэктар ліцэя св. Ганны і акруговых школ Кракаўскай рэспублікі. Быў блізкі да галіцыйскіх кансерватыўных колаў. Выступіў супраць Кракаўскай рэвалюцыі 1846 і быў асуджаны рэвалюцыйным судом на смерць. З 1848 у эміграцыі, гал.чынам у Італіі, дзе супрацоўнічаў з прэм'ер-міністрам Сардзінскага каралеўства К.Кавурам, у 1859 атрымаў княжацкі тытул. Асн. праца В.— «Гісторыя польскай літаратуры» («Historia literatury polskiej», т. 1—10, 1840—57), даведзеная да сярэдзіны 17 ст. і якая з'яўляецца абагульняючай працай па культуры Польшчы і Рэчы Паспалітай. У ей ёсць звесткі пра Ф.Скарыну, інш. прадстаўнікоў бел. рэнесансавай літаратуры. Выдаў «Помнікі польскай гісторыі і літаратуры» («Pomniki historii i literatury polskiej», т. 1—4, 1835—37), куды ўключаны і бел. матэрыял. Працаваў над шматтомнай працай пра езуітаў Рэчы Паспалітай (захаваўся рукапіс т. 1).

*Тв.*: Bacona metoda tłumaczenia natury. 1834 [2 wyd. Warszawa, 1976]; Charaktery rozumów ludzkich. 1837 [2 wyd. Warszawa, 1988]; Podróż do Włoch, Sycylii i Malty. Warszawa, 1982.

*Літ.*: Banka J. Poglądy filozoficzno-społeczne Michała Wiszniewskiego. Warszawa, 1967; Dybiec J. Michał Wiszniewski: Życie i twórczość. Wrocław, 1970.

**Вішнеўскі касцёл.** Пабудаваны ў 1637—41 у в. Вішнева ў Ашмянскім пав. (цяпер у Валожынскім р-не) па фундацыі ваяводы новагародскага Ю.Храптовіча ў стылі ранняга барока з элементамі рэнесансу. Перабудаваны ў 1771 (да нефа прыбудаваны 2 прамавугольныя ў плане бакавыя капліцы, зменены інтэр'ер) і ў 1906 (дабудаваны 2-вежавы гал. фасад). 1-нефавы мураваны храм з больш нізкай паўцыркульнай алтарнай апсідай. Неф накрыты 3-схільным дахам з франтонам на гал. фасадзе. 3-ярусныя чацверыко-

**Вішнеўскі касцёл.**





выя вежы завершаны фігурнымі купалкамі. Вузкія высокія вокны маюць паўцыркульнае завяршэнне. Унутры сцены расчлянёны масіўнымі выступамі, на якія апіраюцца падпружныя аркі. Скляпенне аздоблена ляпным дэкорам 17 ст. ў выглядзе паліганальных і крывалінейных рам. Зберагліся разныя алтары 18 ст., каваныя дзверы 17 ст., размалёўка. *Аляксандр Ярашэвіч.*

**Вішнявецкая царква.** Пабудавана ў стылі барока ў 1742 у в. Гавязна ў Навагародскім пав. (цяпер в. Вішнявец у Стаўбцоўскім р-не) як уніяцкая, перабудавана ў 1850. Мураваная 3-нефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай і 2-вежавым гал. фасадам, вырашаным як самастойны аб'ём. У плане царква амаль квадратная. Сцены звонку і ўнутры расчлянёны пілястрамі, завершаны развітымі прафіляванымі карнізамі. Аконныя праёмы з лучковымі, на гал. фасадзе паўцыркульнымі завяршэннямі. У інтэр'еры 4 масіўныя слупы вылучаюць цэнтр. неф, перакрыты цыліндрычным скляпеннем. Бакавыя нефы значна ніжэйшыя і вузейшыя за гал., разам з нартэксам перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Вішнявецкі** Міхал Серваци (13.5.1680—16.9.1744), дзяржаўны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай. З роду князёў *Вішнявецкіх*, сын Крыштафа Вішнявецкага і Ганны з Хадароўскіх. Польны гетман ВКЛ з 1702, вял. гетман ВКЛ з 1703 з надання Аўгуста II, віленскі ваявода з 1706 з надання Аўгуста II, польны гетман ВКЛ і віленскі кашталян з 1707 з надання Станіслава Ляшчынскага, канцлер ВКЛ з 1720, віленскі ваявода і вял. гетман ВКЛ з 1735. Бацька В. памёр, калі яму было 6 год, і далейшае выхаванне адбывалася пад кіраўніцтвам айчыма Яна Караля Дольскага. Скончыў езуіцкі калегіум у Львове. У 1695 айчым памёр, і маці, каб захаваць маёнткі Дольскіх, ажаніла 15-гадовага В. з дачкой Дольскага ад 1-га шлюбу Кацярынай. Адразу пасля жаніцьбы В. выехаў на гадавое навучанне ў вайсковую школу ў Парыжы. Пад час выбараў караля на элекцыйным сойме 1697 галасаваў за перамогшага Аўгуста II. З 1698 прымаў актыўны ўдзел у барацьбе супраць Сапег у шэрагах *рэспубліканцаў*. 25.4.1700 у Вільні сапегаўскія жаўнеры напалі на карэту В. і яго брата Януша, у выніку яны абодва былі паранены. В. камандаваў сіламі рэспубліканцаў у пераможнай над Сапегамі *Алькеніцкай бітве 1700*. За гэта шляхта надала яму на 2 гады ўрад генеральнага палкоўніка ВКЛ разам з камандаваннем над войскам ВКЛ і значнай часткай сапегаўскіх уладанняў. Пасля пач. *Паўночнай вайны 1700—21* Аўгуст II пакінуў В. кіраўніком войска ВКЛ. 17.1.1702 пасля смерці Юзафа Слушкі В. прызначаны польным гетманам ВКЛ. У сак. 1702 узначальваў войскі ВКЛ, якія спрабавалі перашкодзіць руху шведскіх войск і 24.3.1702 пад Дарсунішкамі атрымаў перамогу над шведскім атрадам палкоўніка Гумерхельма. Быў вымушаны адступіць перад асн. сіламі Карла XII і пакінуць Вільню. Адзін з ініцыятараў склікання ў сак. 1703 г. з'езда рэспубліканцаў у Вільні, які ператвораны ў Генеральную канфедэрацыю прыхільнікаў Аўгуста II. Як адданы каралеўскі прыхільнік быў абраны маршалкам сойма 1703. Яго рашучая дзейнасць на сойме на карысць Аўгуста II прывяла да перамогі пракаралеўскай групоўкі і выклікала радыкалізацыю антыкаралеўскай апазіцыі. На працягу 1703 з пераменным поспехам імкнуўся перашкодзіць дзеянням шведскіх войск у Польшчы. 26.11.1703 у падзяку ад Аўгуста II атрымаў урад вял. гетмана ВКЛ. Гэта ўзмацніла канфлікт В. з інш. лідэрам рэспубліканцаў Рыгорам Агінскім. У снеж. 1703 адзін з нешматлікіх падтрымаў тайную дамову Аўгуста II з рас. царом Пятром I. Надалей кіраваў войскамі прыхільнікаў Аўгуста II у ВКЛ. 5.8.1704 пад Крыжбаркам разам з Агінскім і рас. атрадамі пацярпеў паражэнне ад шведска-сапегаўскіх войск пад камандаваннем вял. гетмана ВКЛ Казіміра Яна Сапегі. 1.11.1704 В. ўзяў рэванш у бітве з сапегаўскімі атрадамі пад Шкудамі. Аднак перавага шведаў рабілася ўсё больш яўнай, і прашведскім каралём Рэчы Паспалітай стаў родзіч В. Станіслаў Ляшчынскі. З 1705 В. праводзіў перагаворы з Ляшчынскім аб пераходзе на яго бок. У 1706 пацярпеў некалькі значных паражэнняў ад шведскіх войск і пакінуў Вільню. У маі-чэрв. 1706 да ўрада вял. гетмана ВКЛ атрымаў ад Аўгуста II урад віленскага ваяводы. Пасля адмовы Аўгуста II ад кароны Рэчы Паспалітай разглядаўся Пятром I як адзін з кандыдатаў на трон. В. не паддаўся на спакуслівую прапанову і ў чэрв. 1707 перайшоў на бок Станіслава Ляшчынскага. Ад яго атрымаў урады польнага гетмана ВКЛ і віленскага кашталяна. Вёў пасляховыя ваенныя дзеянні супраць атрадаў Сандамірскай канфедэрацыі на чале з Агінскім. Пасля Палтаўскай бітвы 1709 В. спрабаваў дамовіцца з Пятром I пра пераход на бок пераможцаў. Пётр I не пагадзіўся, і рас. атрад раптоўна захапіў В. ў палон. Больш за год В. ўтрымліваўся ў Глухаве. Пётр I адмаўляўся выдаць яго Рэчы Паспалітай і нават



**Вішнявецкая царква.**



меркаваў судзіць, але таму 13.12.1710 удалося ўцячы. Беспасняхова намагаўся арганізаваць атрады ў падтрымку Ляшчынскага ў Прусіі, потым выехаў у Венгрыю, адкуль у 1712 накіраваўся ў Бендэры да Карла XII. У 1713 атрымаў амністыю ад Аўгуста II, але не скарыстаўся з яе і ў пач. 1714 беспасняхова спрабаваў арганізаваць на Украіне антыкаралеўскую канфедэрацыю. У лютым 1714 зноў выехаў за мяжу ў Вроцлаў. Вярнуўся ў 1716, зноў атрымаўшы амністыю ад Аўгуста II. Надалей знаходзіўся сярод каралеўскіх прыхільнікаў і 10.2.1720 атрымаў урад канцлера ВКЛ. Маршалак Трыбунала ВКЛ 1721. Пасля смерці вял. гетмана ВКЛ Людвіка Пацея 12.1.1730 прызначаны кіраваць войскам ВКЛ, атрымаўшы ўрад генеральнага рэгіментара. Пад час бескаралеўя 1733 адмовіўся ад рас. прапаноў прэтэндаваць на карону Рэчы Паспалітай. У той жа час не быў супраць кандыдатуры «пяста», якім мог стаць яго брат Януш. Пад час элекцыйнага сойма 1733 адмовіўся падтрымаць Ляшчынскага і ў абарону «вольнага выбару» пакінуў Варшаву. З-за канфлікта з кракаўскім ваяводам Тэадорам Любамірскім далучыўся да канфедэрацыі праціўнікаў Ляшчынскага ўжо пасля яе стварэння. Прымаў удзел у выбранні імі 5.10.1733 каралём Рэчы Паспалітай саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста. На працягу 1734—35 быў кіраўніком войск яго прыхільнікаў у ВКЛ. 26.11.1735 атрымаў пасаду вял. гетмана ВКЛ. У канцы 1730-х г. фактычна кіраваў пракаралеўскай групоўкай Радзівілаў у ВКЛ. Пад час сапегаўска-радзівілаўскай барацьбы ў Трыбуналах ВКЛ у 1741—43 больш за сваіх родзічаў Радзівілаў схіляўся да кампрамісу з Сапегамі. Імкнуўся не ўступаць у канфлікт з імкненнямі каралеўскага двара. Таму, як віленскі ваявода, фактычна дазволіў, каб трыбунальскімі маршалкамі станавіліся лідэры партыі Сапегаў: у 1741 г. — мсціслаўскі ваявода Міхал Масальскі, а ў 1743 — лоўчы ВКЛ Міхал Антоні Сапега. В. праявіў сябе і як пісьменік, бібліяфіл і мецэнат. Пасля смерці 1-й жонкі ў 1725 ажаніўся з Магдаленай Чартарыйскай, пасля яе смерці (1728) — з удавой Якуба Флемінга Тэкляй з Радзівілаў (1730).



П.**Віяна**. Выклады па натуральнай філасофіі. 1577.

*Літ.*: Мацук А. Род Радзівілаў ва ўнутрапалітычным жыцці ВКЛ у 20-ых—пачатку 30-ых гг. XVIII ст. // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Гуманит. науки. 2005. №1; Яго ж. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» у 1730—1740-я гады // Бел. гіст. часопіс. 2005. №3; Zielińska Z. Walka «Familii» o reforme Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Sliesoriūnas F. Lietuvos Didžioji Kunigaikstyśte 1733—1736 metų tarpuvaldžiu // Lietuvos valstybė XII—XVIII a, Vilnius, 1997; Яго ж. Georgo von Lieweno misija Lietuvoje 1733 m. pavasari: Rusijos bandymas iskelti jai priimtino «Piasto» kandidatūrą į Lenkijos ir Lietuvos valdovo sosta priespaskutinio tarpuvaldžio metu // Istorijos akiračiai. Vilnius, 2004; Palkij H. Praca komisji aukcji wojska w latach 1736—1738 // Kwartalnik Historyczny. 1999. Z. 1; Яго ж. Sejmy 1736 i 1738 roku: u początków nowej sytuacji politycznej w Rzeczypospolitej. Kraków, 2000; Czamańska I. Wiszniowieccy: Monografia rodu. Poznań, 2007. ***Андрэй Мацук.***

**Віяна** (Viana) Пётр (1549, г. Лагараньё, Іспанія—10.5.1609), дзеяч каталіцкай царквы, філосаф. У 1569 уступіў у Таледа ў ордэн езуітаў. З 1573 у Рэчы Паспалітай. Праф. маральнай і палемічнай тэалогіі (1574—75) і філасофіі (1575—78) у Віленскай акадэміі. Зблізіўся з М.К.Радзівілам Сіроткам, які яго высока цаніў і выдаваў яго творы ў сваёй віленскай друкарні. В. актыўна ўмешваўся ў палітычныя справы, у час бескаралеўя 1574—76 і пасля абрання на трон Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя актыўна выступаў з габсбургскіх пазіцый, за што ў 1578 адкліканы з Рэчы Паспалітай (яму не дапамагло і заступніцтва Радзівіла). Пасля выкладаў тэалогію ў Неапалі, Балонні, Парме. Выдаў некалькі прац па філасофіі, напісаных у духу неатамізму.

*Літ.*: Darowski R. Piotr Viana SJ (1549—1609) i jego działalność filozoficzna w Polsce // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1978. T. 23; Яго ж. Filozofia w szkołach jezuickich w Polsce w XVI wieku. Kraków, 1994; Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984; Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Войскаўская царква Раджджаства Багародзіцы**, помнік драўлянага уніяцкага дойлідства 2-й пал. 18 ст. Пабудавана паміж 1751 і 1775 у в. Войская ў Берасцейскім ваяв. (цяпер Камянецкі р-н). Мае рысы стылю барока. Да прамавугольнага ў плане са зрэзанымі ва ўсх., алтарнай, частцы вугламі асн. зруба з 3 далучаны бабінец (над ім раней была званіца). Царква лаканічная па форме і выяўленчых сродках. Сцены вертыкальна ашаляваны і прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. Пластычны 2-схільны з вальмамі, над алтаром гонтавы, дах завершаны ў цэнтры яруснай барочнай вежкай (пабудавана пазней). Алтарная частка і франтон гал. фасада вылучаны складанымі па малюнку вокнамі ў форме познарэнесансавага картуша. Інтэр'ер зальны, перакрыццё бэлечнае. У алтарнай частцы па баках 2 сакрысціі з балконамі. У аб'ёме бабінца — хоры. Перад царквой стаіць 2-ярусная брама-званіца — васьмярык на чацверыку (1-ы ярус мураваны з 3 лучковымі праёмамі, 2-і драўляны), завершаная шатровым гонтавым дахам з галоўкай.



Войскаўская царква Раджджаства Багародзіцы.

*Літ.*: Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст. Мінск, 1978. С. 102.

**Вольнаўскі Троіцкі манастыр.** Існаваў як базыльянскі ў 1632—1839 у в. Вольная ў Новагародскім пав. (цяпер в. Вольна ў Баранавіцкім р-не). Першапачатковыя пабудовы былі драўляныя. У 2-й пал. 18 ст. па фундацыі мясцовага шляхціца Дамаслоўскага ў стылі позняга барока пабудавана мураваная Троіцкая царква (асвечана ў 1768). Храм — 3-нефавая базіліка з паўкруглым завяршэннем цэнтр. нефа, 2-вежавым гал. фасадам і невял. трансептам, размешчаным пасярэдзіне будынка. Цэнтр. неф і трансепт роўнавысокія і роўнашырокія і ўтвараюць у верхнім сячэнні правільны грэчаскі крыж, да якога па восі Пд—Пн далучаны фасад-нартэкс і паўкруглая алтарная апсіда з вімай. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма ўвенчана «каронаю» з 4 фігурных франтонаў. Гал. фасад падзелены 1-й гарызантальнай цягай на ўзроўні карніза цэнтр. нефа, што разам з моцна выяўленай тэлескапічнай будовай вежаў ставрае надзвычай дынамічныя прапарцыянальныя суадносіны паміж яго часткамі. Гал. і бакавыя фасады будынка ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. Вуглавыя контрфорсы пастаўлены пад вуглом 45 да плоскасці фасада. У інтэр'еры бакавыя нефы пераўтвораны ў невял. травеі, цалкам падпарадкаваныя ядру кампазіцыі, а каля алтара трансфармаваны ў сакрысціі. Алтар прастора аддзелены скразной муравнай перагародкай у выглядзе спараных калон, аб'яднаных складана раскрапаваным антаблементам, які падтрымлівае дынамічную скульптурную групу анёлаў. У скразных праёмах адкрываецца шматпланавая прастора алтара. Інтэр'ер насычаны архітэктурнай і дэкаратыўнай пластыкай. Цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі ўмацоўваюць слаістыя падпружныя аркі, якія абапіраюцца на апоры складанага сячэння. Пышны балдахін амбона ўвянчаны статуяй Майсея. Дэкаратыўная лепка на фасадзе і ў інтэр'еры храма мае рысы стылю ракако. З 1895 храм дзейнічае як правасл. царква.



Троіцкая царква Вольнаўскага Троіцкага манастыра.

*Літ.*: Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001. С. 191—192.

***Тамара Габрусь.***

**«Вопіс Польскай нунцыятуры»** («Опись Польской нунциатуры»), археаграфічнае выданне дакументаў з Ватыканскага архіва 16—17 ст. Ажыццёўлена Я.Ф.*Шмурло* ў 2 выпусках у рамках серыйнага выдання «Расія і Італія» («Россия и Италия», т. 2, вып. 1—2, Санкт-Пецярбург, 1908—13). У выданні змешчана агульная характарыстыка архіўнага фонда Польскай нунцыятуры ў Ватыканскім архіве, выкладзена гісторыя яго фарміравання. Фонд складаецца з 3 серый тамоў: асн. (387 тамоў з дакументамі за 1560—1808), Additamenta (25 тамоў), Polonia Russa (Polonia Marrone, 193 тамы); змяшчае ў асн. дакументы пунцыяў рымскіх пап у Рэчы Паспалітай: іх данясенні дзярж. сакратару ў Рым (часта з рознымі дадаткамі), указанні дзярж. сакратароў нунцыяў і інш. дакументы, звязаныя з дзейнасцю апошніх. У выданні пералічаны тамы за 16 ст., якія маюць найбольшае дачыненне да гісторыі ВКЛ і Расіі. Прыведзены звесткі пра адпаведныя архіўныя кнігі, іх знешні выгляд, змест, ранейшыя публікацыі дакументаў. Найб. цікавыя дакументы прыведзены ў выглядзе рэгестаў ці надрукаваны цалкам на мове арыгінала (лацінскай або італьянскай). Дакументы асвятляюць становішча каталіцкага касцёла ў Рэчы Паспалітай, яго адносіны да іншых веравызнанняў, стасункі паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, рас. кандыдатуры на трон Рэчы Паспалітай у часы міжкаралеўя, Інфлянцкую вайну 1558—82, місію А.*Пасевіна* ў Рэчы Паспалітай і

Расіі, дзейнасць Полацкага езуіцкага калегіума, сувязі Рыма з Крымам і Малдовай і інш. У Дадатку змешчаны апісанні некаторых кніг Нямецкай нунцыятуры, а таксама іншых архіўных фондаў, дзе прысутнічаюць матэрыялы па гісторыі ВКЛ і Расіі 16 ст. Прыведзены факсіміле некаторых дакументаў. Змешчаны таксама храналагічны паказальнік лістоў, паказальнік асабовых імён і геаграфічных назваў, паказальнік дакументаў па месцы захоўвання.

*Літ.*: Пашуто В.Т. Русские историки эмигранты в Европе. М., 1992; Яковенко С.Г. Работы российских и польских историков по изучению и публикации переписки папских нунциев в Польше // Культурные связи России и Польши XI— XX вв. М.:, 1998.

**Воўпа** (цяпер вёска, цэнтр сельсавета ў Ваўкавыскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ваўкавыскім павеце, на р. Ваўпянка. Да сярэдзіны 15 ст. дзярж. двор і сяло ва ўладаннях вял. князя літоўскага Казіміра Ягелончыка, які ў 1449 падараваў В. канцлеру ВКЛ *Алехне Судзімонтавічу*. У 1478 заснаваны *Воўпаўскі касцёл Яна Хрысціцеля*. Вял. князь літоўскі Аляксандр Ягелончык у 1492 пацвердзіў наданне двара В. Соф'і, старэйшай дачцы Алехны, другой жонцы Аляксандра Юр'евіча Гальшанскага, віленскага каштэляна і гарадзенскага старасты. Пасля яе смерці (1517) вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт І Стары пацвердзіў наданне Воўпаўскага двара іх сыну Паўлу Гальшанскаму, біскупу луцкаму, пазней віленскаму, апошняму прадстаўніку княжацкага роду Гальшанскіх. Ёнператварыў В. ў цэнтр сваіх вял. уладанняў. У 1533 біскуп запісаў Воўпаўскі маёнтак маладому вял. князю Жыгімонту Аўгусту. Па ініцыятыве вял. княгіні літоўскай і каралевы польскай Боны створана Воўпаўскае староства з цэнтрам у В. Першапачаткова старастамі былі дыгнітарыі з Кароны Польскай: Ян Збароўскі, гнезненскі кашталян (да 1588), Мікалай Вольскі, мечнік каронны (да 1606), Адам Сендзівой Чарнкоўскі, ваявода ленчыцкі. У 1624 староства набыў канцлер ВКЛ Леў Сапега для свайго сына, падканцлера Казіміра Льва. Апошні ў 1643 прымаў у В. караля польскага і вял. князя літоўскага Уладзіслава IV. З 1654 старастам быў Казімір Ян Сапега, у наступным вял. гетман ВКЛ. У 1692 староства атрымаў Аляксандр Павел Сапега, надворны маршалак ВКЛ, у 1727 (фактычна ў 1731) — яго сын Казімір Леан Сапега, генерал артылерыі ВКЛ. Удава апошняга Караліна Тэрэза з Радзівілаў перадала Воўпаўскае староства Юзафу Аляксандру Ябланоўскаму, ваяводу навагародскаму. У 1772 староства складалася з мястэчка В. з ключамі Дубна, Стары Дворац і Калодзежна. На сойме 1773—75 староства атрымаў Юзаф Вінцэнт Плятэр, польны пісар ВКЛ, пазней троцкі кашталян. Пасля 1831 староства пераняў рас. ўрад. 21.1.1792 кароль польскі і вял. князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі надаў мястэчку В. права на самакіраванне і герб — у блакітным полі выява бабра. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. Да нашых дзён захаваўся помнік архітэктуры 18 ст. драўляны касцёл Яна Хрысціцеля. Да 1941 у В. існавала драўляная сінагога, пабудаваная ў 1-й пал. 18 ст. ў стылі барока, адна з прыгажэйшых і найбольшых у Рэчы Паспалітай.

*Генадзь Семянчук.*



**Воўпаўскі касцёл Яна Хрысціцеля**.

**Воўпаўскі касцёл Яна Хрысціцеля.** Заснаваны і пабудаваны ў 1478 канцлерам ВКЛ *Алехнам Судзімонтавічам* і яго жонкай Ядвігай у мястэчку *Воўпа* Ваўкавыскага пав. Першы драўляны касцёл асвяціў віленскі біскуп Ян Ласовіч. Да 1511 Аляксандр Юр'евіч і Соф'я Судзімонтаўна Гальшанскія фундавалі пры касцёле капліцу св. Ганны. Другі будынак касцёла паўстаў на старым месцы каля 1618 па фундацыі віленскага біскупа Астафія Валовіча. У 1640, пасля пажара, пабудаваны новы касцёл па ініцыятыве і за грошы Казіміра Льва Сапегі і яго жонкі Тэадоры Крысціны з Тарноўскіх. Сучасны драўляны будынак касцёла пабудаваны ў 1773 за 30 тыс. злотых ксяндзом Юзафам Казімірам Касакоўскім, мясцовым пробашчам у 1761—75. Да новай святыні са старой перанеслі алтары, амбоны і лаўкі. Будынак аднанефавы падоўжаны з трансептам ў цэнтр. частцы, утвораным дзвюма 5-граннымі больш нізкімі бакавымі прыбудовамі-капліцамі. Гал. фасад трохчасткавы: цэнтр. частка ў выглядзе неглыбокага рызаліту завершана атыкам і трохвугольным франтонам, бакавыя ўтвораны 2-яруснымі вежамі з нізкімі шатровымі дахамі і фігурнымі шпілямі над імі. Неф накрыты ламаным дахам з вежачкай над алтарнай апсідай, бакавыя прыбудовы — вальмавымі. Унутры прастору нефа замыкае драўляны разьбяны гал. алтар — помнік манументальна-прыкладнога мастацтва 1640-х г., які спалучае рысы маньерызму і ранняга барока, работы кракаўскіх (малапольскіх) майстроў. Устаноўлены на масіўным высокім цокалі, алтар мае структуру 3-восевай аркі з 2-ярус-

най цэнтр. часткай. Ніжні ярус падзелены на вертыкалі 4 калонамі карынфскага ордэру на 3 часткі: у цэнтры — абраз «Укрыжаванне», у бакавых — скульптуры святых Казіміра і Яна Хрысціцеля (вышынёй больш за 2 м). Вонкавыя калоны яруса пазалочаныя, унутраныя ўпрыгожаны разьбой ў выглядзе стылізаванай вінаграднай лазы. У верхнім ярусе знаходзіцца абраз «Дабравешчанне», фланкіраваны пазалочанымі калонамі карынфскага ордэру, і скульптурнымі выявамі святых Лізаветы і Кацярыны. Алтар багата дэкарыраваны накладной і скразной разьбой у выглядзе арабескавых паясоў, ракавін, картушоў з выявамі гербаў фундатараў — пяцічасткавага Казіміра Льва Сапегі («Ліс», «Лілія», радзівілаўскі арол, «Друцк», «Тапор») і меншага, «Лелівы» Теадоры Крысціны з Тарноўскіх, галовак херувімаў. Пафарбаваны ў чорны колер і пазалочаны, што стварае выразны кантраст. Фундатар гал. алтара — Казімір Леў Сапега з жонкай. У зах. капліцы размешчаны алтар Маці Божай Ружанцовай, зроблены каля 1640—44 і фундаваны Станіславам Кошчыцам; ва ўсх. капліцы — алтар Маці Божай Вострабрамскай 1-й чвэрці 18 ст. У 1744 да Воўпаўскай парафіі належалі: мястэчка і двор Воўпа, вёскі Агрызкі, Бадзяты, Белы Дворац, Данілаўцы, Дзенкавічы, Дзятлавічы, Дубаўцы, Дубна, Дыляўцы, Жарабілы, Заручаны, Кавалі, Кашаў, Крываносаўцы, Крываносы, Лазы, Мыслюнкі, Нямейкі, Парынкі, Сухінічы, Сямашкі, Тупічаны, Ябланова, Яцкаўшчызна.

*Літ.*: W a r d z y ń s k i M. Kościół parafialny p.w. Św. Jana Chrzciciela w Wolpie // Materiały do dziejów sztuki sakralnej na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej. Kraków, 2003. Cz. 2, t. 1.

***Альбіна Семянчук.***

**вошчап**, лёгкае кап'ё ў ВКЛ, прызначанае галоўным чынам для кідання. Забяспечваўся меншым, чым у звычайнага кап'я наканечнікам, насаджаным на параўнальна кароткае і танчэйшае дрэўка. Воін з лёгкім кап'ём-В. паказаны на пячатцы ноўгарад-северскага кн. Карыбута 1386. У дакументах 16 ст. тэрмін «В.» сустракаецца часта. В., падобна як і рагацінамі, забяспечваліся ў гэты час пераважна мабільная кавалерыя і пяхота. У якасці зброі, характэрнай у той ці іншай ступені для ўсіх родаў войск, В. выступае ў попісах паспалітага рушэння ВКЛ 1565 і 1567. Аднак, калі ў попісе 1565 В. фіксуюцца як пануючы від кароткага кап'я, то ў 1567 яны былі шырока прадстаўлены толькі ў жамойцкіх харугвах, выразна адметных на фоне астатняга войска, дзе яўна аддавалі перавагу рагацінам (влочням). Відаць, у гэты час назвы «рагаціна» і «В.» разглядаліся як сінонімы для пазначэння кароткага кап'я універсальнага прызначэння незалежна ад памераў наканечніка.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008.

***Юрась Бохан.***

**Вуек** (Wujek, Vangrovitius) Якуб (1541, г. Вангровец каля Познані—27.7.1597), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, перакладчык. У 1565 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў, з 1568 ксёндз. Вучыўся ў цыстэрцыянскім кляштары ў Вангроўцы, з 1555 — у Сілезіі (у Вроцлаве?), з 1558 — у Кракаўскай акадэміі. У 1559—62 выкладаў у палацавай школе куяўскага біскупа Якуба Уханскага. У 1562—64 вывучаў філасофію, матэматыку і грэчаскую мовы ў Вене, дзе атрымаў ступені магістра вольных мастацтваў (1564) і бакалаўра тэалогіі (1567). Пасля сакратар прымаса Якуба Уханскага, канонік ленчыцкі. Пасля ўступлення ў ордэн езуітаў у 1565—67 вывучаў у Рыме яўрэйскую мову і тэалогію пад кіраўніцтвам Я.Лядэсмы, Ф.Талетуса і А.Гаглярдзі. У 1567—70 выкладаў рыторыку ў Пултуску. Быў рэктарам калегіумаў у Познані ў 1572—78 і Вільні ў 1578—79. У 1579—84 узначальваў езуіцкую місію ў Трансільваніі, дзе арганізаваў некалькі езуіцкіх асяродкаў і праводзіў актыўную контррэфарматарскую дзейнасць. У 1584 удзельнічаў у 5-й генеральнай кангрэгацыі езуітаў у Рыме. У 1586—87 намеснік галавы Польскай правінцыі ордэна езуітаў, у 1587—89 і 1595—96 у Трансільваніі, у 1589—92 прэпазіт дома прафесаў у Кракаве. З 1592 займаўся амаль выключна новым перакладам Біблії на польскую мову. Пераклад В., які супрацьстаяў розным пратэстанцкім перакладам, стаў значным творам польскай тэалогіі і пісьменства і аказаў вял. ўплыў на ўнармаванне польскай мовы, падняцце яе прэстыжу, у т.л. у ВКЛ. Быў выдадзены «Новы запавет Пана нашага Ісуса Хрыста» з каментарыямі (Кракаў, 1593), «Евангелле і эпісталы» (Кракаў, 1593; перавыдавалася, між іншым, у Вільні ў 1713, 1765, 1787, у Полацку ў 1802; існуе


Я.**Вуек**.

думка, што першае выданне гэтай кнігі было зроблена ў Вільні ў 1579), «Псалтыр Давідаў» (Кракаў, 1594; перавыдавалася, між іншым, у Вільні ў 1764 і 1892), «Біблія, гэта значыць Кнігі Старага і Новага запавету» (Кракаў, 1599; перавыдавалася, між іншым, у Вільні ў 1861—64, 1896—98, 1907—09). Біблейскія пераклады В. шмат разоў перавыдаваліся да 20 ст. Аўтар тэалагічных, палемічных, гамілетычных, аскетычных твораў («Юдзіцыум», Кракаў, 1570; «Пасціла каталіцкая», Кракаў, 1573—75; «Пасцілы меншай частка першая», Познань, 1579—80; «Аб касцёле Пана Хрыста праўдзівым», Познань, 1580). Пераклаў на польскую мову кнігу Фамы Кемпійскага «Пра паслядоўніцтва Ісусу Хрысту» (Кракаў, 1571). «Пасціла меншая» па ініцыятыве жамойцкага біскупа Мальхера Гедройца (гл. ў арт. *Гедройцы*) была перакладзена на літоўскую мову М.*Даўкшам* (Вільня, 1599).



*Літ.*: L i s o w s k i S. Starodruki Uniwersyteckiej Bibljoteki Publicznej w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1931/1932. R. 8; M a r t e l A. La langue polonaise dans les pays ruthènes, Ukraine et Russie Blanche 1569—1667. Lille, 1938; Studies on the Bible: to commemorate 400th anniversary of the publication of Jakub Wujek's translation of the Bible 1599—1999 Warszawa, 2000; Mikalojaus Daukšos 1599 metu Postile ir jos saltiniai. Vilnius, 2001; R o s i n a s A. Mikalojaus Dauksos tekstu ivardžiu semantine ir morfologine struktura. Vilnius, 2001; K u ź m i n a D. Jakub Wujek (1541—1597): Pisarz, tłumacz i misjonarz. Warszawa, 2004; K u r a n M. Retoryka jako narzędzie perswazji w postyllografii polskiej XVI wieku: (Na przykładzie Postylli katolicznej Jakuba Wujka). Łódź, 2007.

**Выкынт**, В ы к а н т, В і к ы н т, князь жамойцкі ў 1-й пал. 13 ст. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе сярод літоўскіх і жамойцкіх князёў — удзельнікаў заключэння з Галіцка-Валынскім княствам *дагавора 1219*. Названы ў групе жамойцкіх князёў на 2-м месцы, пасля Эрдзівіла. Быў дзядзькам (вуем) пляменнікаў вял. князя літоўскага *Міндоўга* Таўцівіла і Эдзівіда, гэта значыць, сястра В. была жонкай іх бацькі Даўспрунка. У 1248 Міндоўг паслаў Таўцівіла, Эдзівіда і В. у паход на Русь, да Смаленска, а сам захапіў іх уладанні ў Літве. Таўцівіл, Эдзівід і В. збеглі да галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васількі Раманавічаў, якія пачалі ваенныя дзеянні супраць Міндоўга. В. быў накіраваны імі, каб падняць супраць Міндоўга яцвягаў і Жамойць. «Серабром і шматлікімі падарункамі» В. пераканаў ваяваць супраць Міндоўга яцвягаў і палову Жамойці. Ордэн мечаносцаў на прапанову Данілы далучыцца да супольнага паходу супраць Міндоўга адказаў, што дзеля саюза з Данілам гатовы заключыць мір з В., хоць той раней загубіў шмат рыцараў-мечаносцаў, і дапамагчы Таўцівілу. Гэты расказ з Іпацьеўскага летапісу быў запазычаны ў Хроніку Быхаўца. У «Хронікі літоўскай і жамойцкай» 17 ст. гэтыя падзеі дапоўнены легендарным паведамленнем, што В. падчас паходу на Смаленск захапіў Віцебск. Князь В. паслужыў прататыпам для легендарнага летапіснага князя *Вікінта*.

**Вырвіч** Андрэй (21.11.1636, Аршанскі пав.—14.4.1698), дзеяч каталіцкай царквы. У 1653 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў філасофію ў Рыме (1656—58). Праф. паэтыкі ў Крожах (1661—62), філасофіі ў Вільні (1669—72), прэфект школы і прапаведнік у Навагародку (1672—73, 1676—77), Вільні (1673—74, 1678—79), Варшаве (1674—76), праф. тэалогіі ў Варшаве (1679—80) і Вільні (1680—83), рэгент Папскай семінарыі ў Вільні (1683—88), рэктар калегіума ў Полацку (1688—91). Выдаў панегірык у гонар С.Свянціцкага. Пакінуў рукапісныя курсы тэалогіі і рыторыкі.

*Літ.*: P l e č k a i t i s R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Вяжэвіч** Вацлаў (5.3.1729, Літва—7.8.1788), дзеяч каталіцкай царквы. Д-р тэалогіі і абодвух правоў. У 1744 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прэфект матэматычнага музея (1759—60) і праф. філасофіі ў Вільні (1763—66), прыдворны місіянер віленскага біскупа І.Масальскага, выхавацель яго дзяцей (1766—70). У 1771 секулярызаваўся, займаў духоўныя пасады ў Польшчы, з 1785 генеральны камісар маёнткаў гнезненскага арцыбіскупа. Выдаў тэзісы па філасофіі (Вільня, 1766).

**Вязгайла** (Вязгайлавіч, Вяжгайла) Мікалай (?—19.1.1533), дзеяч каталіцкай царквы, дзяржаўны дзеяч. Паходзіў з літоўскага шляхецкага роду герба «Адравонж». Яго бацька Мішка быў намеснікам віленскага ваяводы М.Радзівіла. В. атрымаў добрую адукацыю, магчыма, за мяжой. Прыняў духоўны сан, быў плябанам у Берасці (1511), у 1511 па ініцыятыве вял. князя абраны віленскім канонікам, у 1519 стаў плябанам у Эйшышках і дэканам віленскім (апошнюю пасаду займаў да смерці), у 1521 — протанатарыем апостальскім, вікарыем і генеральным афіцыялам у Віленскай дыяцэзіі, у 1522 — плябанам у Вязыні, у 1524 — плябанам у Рамігале, у 1525 — прэпазітам троцкім, біскупам кіеўскім. Заставаўся, аднак, у Вільні. З 1510 служыў пры велікакняжацкім двары, у 1523—29 лацінскі сакратар велікакняжацкай канцылярыі. Некалькі разоў быў паслом вял. князя да Рады ВКЛ, у т.л. на Берасцейскі сойм 1525. У 1528 зноў стаў біскупам кіеўскім, аднак заставаўся ў Вільні. У 1530 прызначаны вял. князем біскупам жамойцкім, што зацвердзіў рымскі папа ў 1531. Значнаму кар'ернаму росту В. быў абавязаны сваім здольнасцям, вернай службе манарху, магчыма, падтрымцы вял. княгіні літ. і каралевы польск. Боны. Удзельнічаў ва ўзвядзенні Жыгімонта II Аўгуста на трон ВКЛ (1529). У 1531 быў паслом Рады ВКЛ у Польшчу, калі было адмоўлена ў дапамозе з боку ВКЛ у вайне з Малдовай. У 1532 уваходзіў у склад камісіі па размежаванні ВКЛ і Прусіі. Магчыма, удзельнічаў у выпрацоўцы Статута ВКЛ 1529.

*Літ.*: B ł a s z c z y k G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój. Poznań, 1993; Г р у ш а А.І. Канцылярыя Вялікага княства Літоўскага 40-х гадоў XV—першай паловы XVI ст. Мінск, 2006.

**вязь**, старажытнае дэкаратыўнае пісьмо, пры якім літары звязаны ў непарыўны арнамент. Запазычана ўсх.-слав. кніжнікамі ў канцы 14 ст. ад паўд. славян. На Беларусі ў 15—17 ст. ёю ўпрыгожвалі тытульныя лісты і за-



Да арт. **Вязь**. Актавая кніга Слонімскага земскага суда. 1590.



1



2

Да арт. **Вялікая княгіня**:
1 – медаль у гонар караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы і яго жонкі Ганны Габсбург;
2 – медаль Рудольфа Лемана. 1596. Золата.

галоўкі, пераважна ў рукапісных кнігах рэліг. жанраў (Псалтыр 16 ст., № 335, Рас. дзярж. б-ка; Пралог 17 ст., № 325, там жа; зборнік павучанняў сярэдзіны 17 ст., № 752, Дзрж. гіст. музей у Маскве). Зрэдку В. выкарыстоўвалі ў дзелавой і свецкай пісьменнасці (Статут ВКЛ 1566, № 34, Рас. нац. б-ка; бел. пераклад «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» Мацея Стрыйкоўскага, № 688, тамсама). Друкаваная В. вядома ў выданнях Францыска Скарыны, Сымона Буднага, у старадруках канца 16—17 ст. (Статут ВКЛ, Вільня, 1588; «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа», Куцейна, 1637). У бел. В. пераважалі элементы расліннага і жывёльнага арнаменту, у рус. — геаметрычнага.

*Літ.*: Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. Ленинград, 1928. ***Аляксандр Булыка.***

**Вякшняй** (Viekšniai), мястэчка ў Акмянскім р-не Літоўскай Рэспублікі, гл. *Векшні*.

**вялікая княгіня**, тытул жонкі *вялікага князя* ВКЛ. Статус В.к. ў першыя стагоддзі існавання ВКЛ невядомы, аднак ён значна саступаў статусу мужа. Самастойнай паліт. ролі не адыгрывала. Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай (1569) тытул В.к. літоўскай быў дадатковым у каралевы польскай. Яе каранацыя ў Рэчы Паспалітай была дапаўненнем каранацыі мужа. У 1512 зацверджаны парадак каранацыі польскай каралевы (для Барбары Запалья), ён пацверджаны ў 1646 і 1649 каралямі Уладзіславам IV і Янам II Казімірам для каралевы Людвікі Марыі. Падданыя не прыносілі каралеве прысягі на вернасць, права не прызнавала за ёй уладных і судовых паўнамоцтваў. Пры арганізацыі шлюбу манарха браліся пад увагу перш за ўсё дзярж. інтарэсы. Кандыдатуру будучай каралевы павінен быў зацвердзіць Сенат (гэта абяцаў пры абранні на трон Рэчы Паспалітай ужо Стафан Баторый). Яна павінна была быць з царуючага альбо буйнога ўладарнага дому і спавядаць каталіцтва (апошняе патрабаванне ўнесена ў 1669). Пажыццёвая «аправа» каралевы забяспечвалася соймам на каралеўскіх эканоміях, якімі ў Польшчы традыцыйна з 16 ст. гэта былі Тухаль, Голубь, Брадніца, з 17 ст. Кампінас, Мядзешын, Казунь. У ВКЛ жонкі манарха трымалі ў 14—пач. 16 ст. Магілёўскую воласць, Анікшты (Ядвіга, Алена Іванаўна), у 16—17 ст. — Кобрынскі павет (Бона, Ганна Ягелонка, Канстанцыя Габсбург), Упіту. У гэтых маёнтках каралева мела вярхоўную ўладу, але пад умовай, каб шанавала актуальных трымальнікаў зямлі і не раздавала маёнткі замежнікам і асобам нешляхецкага паходжання. Першая жонка Жыгімонта III Ганна атрымала 50 тыс. злотых вена і столькі ж «прывенка», у 17 ст. гэтыя лічбы выраслі да 100 тыс. злотых. Каралева атрымлівала таксама 2 тыс. дукатаў на ўласныя патрэбы. Двор каралевы ўтрымліваўся дзяржавай, кіраваўся маршалкам, якога прызначаў кароль, і складаўся з мужчынскай і жаночай частак. У мужчынскай былі канцлер (сакратар), падскарбі, крайчы, падстолі, стольнік, кухмістр, канюшы, пакаёвыя дваране, служкі. Жаночая частка (фраўцымер) узначальвалася ахмістрыняй, якая фактычна не падпарадкоўвалася маршалку, і складалася з ганаровых дам і дам-таварак, ганаровых пані, а таксама пакаёвай абслугі (са шляхты і мяшчанак). Некаторыя з В.к. дзякуючы сваім асабістым якасцям актыўна ўзельнічалі ў паліт. жыцці (Бона, Людвіка Марыя).

Жонкі вял. князёў літоўскіх: Міндоўга [сярэдзіна 1230-х г.—1263] — Марта; Гедзіміна [1316—41] — Еўна; Альгерда [1345—77] — Марыя Яраслаўна, Ульяна Аляксандраўна; Ягайлы [1377—81, 1382—92] — Ядвіга, Ганна Цылейская, Эльжбета Граноўская, Соф'я Гальшанская; Кейстута [1381—82; у 1345—77 падзяляў уладу з Альгердам] — Бірута; Вітаўта [1392—1430] — Марыя (?), Ганна Святаслаўна, Ульяна Гальшанская; Свідрыгайлы [1430—32] — Ганна Іванаўна; Казіміра IV [1440—92] — Эльжбета Габсбург, Аляксандра [1492—1506] — Алена Іванаўна; Жыгімонта I Старога [1506—48] — Барбара Запалья, Бона Сфорца; Жыгімонта II Аўгуста [1548—72] — Эльжбета Габсбург, Барбара Радзівіл, Кацярына Габсбург; Стафана Баторыя [1576—86] — Ганна Ягелонка; Жыгімонта III Вазы [1587—1682] — Ганна Габсбург, Канстанцыя Габсбург; Уладзіслава IV [1632—48] — Цэцылія Рэната Габсбург, Людвіка Марыя Ганзага дэ Невер; Яна II Казіміра [1648—68] — Людвіка Ма-



1



2

Да арт. **Вялікая княгіня**:
1 – медаль на шлюб караля польскага і вялікага князя літоўскага Уладзіслава IV Вазы з Марыяй Людвікай Ганзага дэ Невер;
2 – медаль Іагана Гёгна. 1646. Серабро.


1



2

Да арт. **Вялікая княгіня**: 1 – медаль на каранацыю караля польскага і вялікага князя літоўскага Яна III Сабескага і яго жонкі Марыі Казіміры дэ ля Гранж д'Арк; 2 – медаль Іагана Гёгна. 1676. Серабро.

рыя Ганзага дэ Невер; Міхала Вішнявецкага [1669—73] — Элеанора Марыя Юзэфа Габсбург; Яна III Сабескага [1674—96] — Марыя Казіміра дэ ля Гранж д'Арк; Аўгуста II Моцнага [1697—1706, 1709—33] — Крысціна Эбергардзіна Гогенцолерн-Байройт; Станіслава Ляшчынскага [1704—09, 1733] — Кацярына Апалінская; Аўгуста III [1733—63] — Марыя Юзэфа Габсбург.

*Літ.*: D u c z m a l M. Jagiełłonowie: Leksykon biograficzny. Kraków, 1996; A u g u s t y n i a k U. Wazowie i «królowie rodacy»: studium władzy królewskiej w Rzeczypospolitej XVII wieku. Warszawa, 1999; T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Вялікі** (Великий, Welykyi) Атанасій Грыгар (5.11.1918, с. Турынка Львоўскай вобл., Украіна—24.12.1982), украінскі гісторык, археограф. Д-р філасофіі (1944) і багаслоўя (1946). З 1933 базыльянін. Вучыўся ў пражскіх Карлавым і Укр. вольным ун-тах, у Вюрцбургскім ун-це, Папскім Грыгарыянскім ун-це, Папскім Усходнім ін-це і Ватыканскай палеаграфічнай школе ў Рыме. Займаў пасады віцэ-рэктара і прарэктара Укр. папскага калегіума св. Іасафата ў Рыме, рэдактара часопіса «Analecta Ordinis Sancti Basilii Magni» («Запіскі Ордэна Святога Васіля Вялікага»), сакратара Камісіі Усх. Цэркваў 2-га Ватыканскага сабору, протаархімандрыта базыльянскага ордэна. З 1948 вёў працу па выяўленні і публікацыі стараж. дакументаў па гісторыі базыльянскага ордэна, грэка-каталіцкай і рыма-каталіцкай цэркваў у ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У серыі «Рымскія дакументы каталіцкай царквы на землях Украіны и Беларусі, сабраныя і выдадзеныя стараннямі айцоў базыльян» падрыхтаваў зборнікі дакументаў: «Св. Іасафат свяшчэннамучанік: Дакументы беатыфікацыі і кананізацыі» (т. 1—3, 1952—67), «Найсвяцейшыя аўдыенцыі» (т. 1—2, 1963—64), «Дакументы рымскіх пантыфікаў, якія асвятляюць гісторыю Украіны» (т. 1—2, 1953—54), «*Акты Кангрэгацыі прапаганды веры*» (т. 1—5, 1953—55), «Лісты Кангрэгацыі прапаганды веры» (т. 1—7, 1954—57), «Партыкулярныя кангрэгацыі, якія асвятляюць гісторыю украінскай каталіцкай царквы» (т. 1—2, 1956—57), «Лісты кіеўскіх каталіцкіх мітрапалітаў: 1613—1839» (т. 1—9, 1952—80), «Лісты біскупаў: 1600—1900» (т. 1—5, 1972—81), «Лісты апостальскіх нунцыяў: 1550—1900» (т. 1—14, 1959—77), «Прашэнні уніяцкай царквы» (т. 1—3, 1960—65), «Дакументы Берасцейскай уніі і яе творцаў: 1550—1600» (т. 1, 1970), «Лісты базыльян: 1601—1760» (т. 1—2, 1979).

*Тв.*: 3 літопису християнської України: церковно-історичні радіолекції з Ватикану. Т. 1—9. Рим, 1969: Світло й тіні української історії: причинки до історії української церковної думки. Рим, 1969; Українське християнство. Рим, 1969.

*Літ.*: П л о х і й С.М. Від Якова Суші до Атанасія Великого: (огляд видань римських джерел з історії української церкви // Український археографічний щорічник. Київ, 1993. Вип. 2.

**Вянгерскі**, В я н г р о ў с к і (Węgierski) Андрэй (1600, г. Астрарог, Вял. Польшча—11.1.1649), дзеяч кальвіністцкай царквы Рэчы Паспалітай, гісторык, паэт. Вучыўся ў школе чэшскіх братоў у Лешне, у 1621—23 — у Торуні, пасля ва ун-це ў Лейдэне (Нідэрланды). Выконваў абавязкі міністра (пастара) ў Лешне, у 1629—33 рэктар мясцовай школы чэшскіх братоў. Ваявода белзскі Рафал Ляшчынскі (гл. ў арт. *Ляшчынскія*) запрасіў В. на свой двор ва Уладаву ў Берасцейскім ваяв., дзе В. узначальваў збор і школу. У 1644 сіньёр кальвінісцкага Люблінскага дыстрыкта. З пач. паўстання на Украіне пад кіраўніцтвам Б.Хмяльніцкага (1648) выехаў у Вял. Польшчу. Гал. праца Л., выдадзеная пад псеўданімам Адрыанус Рэгенвольсціус (Adrianus Regenvolscius), — «Гістарычна-хранналагічная сістэма цэркваў славян розных правінцый» («Systema historico-chronologicum ecclesiarum Slavonicarum per provincias varias» (Утрэхт, 1652; 2 выд. Амстэрдам, 1679) — першы грунтоўны нарыс на шырокім еўрапейскім фоне гісторыі пратэстанцтва ў розных слав. краінах і землях, у т.л. ў ВКЛ. Выдаў малітоўнік і спеўнік (Гданьск, 1646), тэалагічныя працы «Disputatio theologica de conciliis ecclesiasticis» (Лейдэн, 1628), «Generalis confessio doctrinae ecclesiarum reformatarum» (1645). Аўтар шматлікіх акалічнасных вершаў і казанняў. Пераклаў на польскую мову творы педагога Яна Амаса Каменскага.

*Тв.*: Andreae Wengerscii Libri quattuor Slavoniae reformatae. Varsoviae, 1973.

**Вярбілаўская канфедэрацыя 1655**, саюз вайскоўцаў ВКЛ супраць тых колаў ВКЛ на чале з гетманам Янушам *Радзівілам*, якія пайшлі на заклю-


SYSTEMA
HISTORICO-
CHRONOLOGICUM,
Ecclesiarum Slavonicarum per
PROVINCIAS varias,
Præcipuè,
POLONIÆ, | RUSSIÆ,
BOHEMIÆ, | PRUSSIÆ,
LITVANIÆ, | MORAVIÆ, &c.
Distinctarum.
LIBRIS IV. ADORNATUM;
Continens Historiam Ecclesiasticam, à Christo & Apostolorum tempore, ad An.Dom. M DC L.
OPERA
ADRIANI REGENVOLSCII E.P.

TRAJECTI ad RHENUM,
Ex Officina Johannis à Waesberge, Bibliopolæ.
Anno M. DC. LII.

А.**Вянгерскі**. Гістарычна-храналагічная сістэма цэркваў славян розных правінцый. Утрэхт. 1652. Тытульны ліст.



чэнне *Кейданскай уніі 1655* са Швецыяй у час *Паўночнай вайны 1655—60* і *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Абвешчана 23.8.1655 у г. Вярбілава ў Жамойці прыкладна 2000 жаўнерамі, якія захавалі вернасць Рэчы Паспалітай і каралю польскаму і вял. кн. літ. Яну II Казіміру. В.к. выступіла ў абарону тэр. цэласнасці Рэчы Паспалітай, заклікала весці далей барацьбу супраць яе ворагаў — шведаў. Адзіным законным камандуючым арміі ВКЛ канфедэраты прызналі В.А.Гасеўскага (гл. арт. *Гасеўскія*). На чале В.к. сталі 4 афіцэры-каталікі — К.Жаромскі, К.Катоўскі, С.*Кміціц*, С.Ліпніцкі. Былі адпраўлены 4 паслы да Яна II Казіміра (Е.Юдыцкі, К.Есьман-Сынкоўскі, Кміціц, С.Шчыгельскі), якія 8.9.1655 прыбылі ў яго штаб-кватэру. Кароль абвясціў Януша і Багуслава Радзівілаў здраднікамі, іх маёмасць канфіскоўвалася і перадавалася афіцэрам, якія захавалі вернасць Рэчы Паспалітай. Інспіратарамі ўтварэння В.к. былі члены клана Пацаў, якія імкнуліся пазбавіць Радзівілаў вядучых пазіцый у ВКЛ. Далей антышведскую барацьбу ў ВКЛ узначалілі Павел Ян Сапега, Вінцэнт Гасеўскі, Крыштоф і Міхал Пацы.

*Літ.*: Rachuba A. Konfederacja wojska litewskiego w Wierzbołowie w 1655 r. // Miscellanea Historico-Archivistica. 1994. T. 4; Ягож. Paweł Sapieha wobec Szwecji i Jana Kazimierza (IX 1655—II 1656) // Acta Baltico-Slavica. 1997. T. 11.

**Вярбіцкі** Вацлаў (?—18.7.1555), дзеяч каталіцкай царквы, дзяржаўны дзеяч. Паходзіў з польскага шляхецкага роду герба «Радван», аселага ў ВКЛ. Атрымаў гуманістычную адукацыю. З 1524 плябан гарадзенскі, каралеўскі сакратар, лацінскі пісар у велікакняжацкай канцылярыі. У 1533 прызначаны вял. князем літоўскім Жыгімонтам I Старым біскупам кіеўскім, у канцы гэтага года або пач. 1534 — жамойцкім біскупам, кансекраваны ў Рыме ў 1534. Адначасова з 1537 быў канонікам віленскім і архідыяканам жамойцкім. Прэтэндаваў на пасады біскупа луцкага, потым віленскага. Як член Рады ВКЛ удзельнічаў у працы шматлікіх соймаў. У 1541 і 1545 уваходзіў у склад камісій па размежаванні ВКЛ з Інфлянтамі. У 1551 і 1554 быў зборшчыкам падатку — серабшчыны. Удзельнічаў у судовых разборах маёнткавых спрэчак магнатаў. Меў маёнтак Ракаў у Менскім пав. (купіў у князёў Алелькавічаў). Памёр раптоўна ў Рызе.

*Літ.*: Błaszczyk G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustroj. Poznań, 1993.

**Вярбіцкі** Віктарын (каля 1520—каля 1586), дзеяч каталіцкай царквы, дзяржаўны дзеяч. Паходзіў з польскага шляхецкага роду герба «Радван», аселага ў ВКЛ, пляменнік жамойцкага біскупа Вацлава *Вярбіцкага*. Магчыма, дзякуючы яго падтрымцы В. вывучаў права ў Падуанскім ун-це (у 1553 абраны яго рэктарам). У 1558 быў плябанам у Відуклях у Жамойці, адначасова з 1560 канонік віленскі (да 1567) і жамойцкі, з 1563 архідыякан жамойцкі і луцкі. У 1564 прэпазіт шпіталя св. Магдаліны ў Вільні. У 1564 прызначаны вял. кн. літ. Жыгімонтам II Аўгустам біскупам жамойцкім, у 1565 кансекраваны, у 1567 прызначаны біскупам луцкім. У 1567 быў зборшчыкам падатку, паслом Рады ВКЛ на польскі сойм у Пётркаве. Карыстаўся славай «найвучонага чалавека ў Літве».

*Літ.*: Królik L. Organizacja diecezji łuckiej i brzeskiej od XVI do XVIII wieku. Lublin, 1983; Błaszczyk G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój. Poznań, 1993.

**Вярбіцкі** Казімір Юзаф (22.2.1704, Віцебскае ваяв.—24.4.1761), дзеяч каталіцкай царквы. Брат Ф.*Вярбіцкага*. У 1719 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У Вільні праф. рыторыкі (1734— 35), філасофіі (1738—41), тэалогіі (1742—45), кананічнага права (1746— 52), адначасова рэгент шляхецкага канвікта, які адбудаваў пасля пажару 1748; праф. рыторыкі для клірыкаў-езуітаў у Слуцку (1735—37), рэктар калегіума ў Жодзішках (1752—55). Кіраваў будаўніцтвам касцёла ў Жодзішках. Садзейнічаў росту б-кі Віленскай акадэміі. Выдаў кнігу «Жыцие Людавікі дэ Бесі» («Vita V. P. Ludovici de Bessuy», Вільня, 1738), прамовы, казанні.

*Літ.*: Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Вярбіцкі** Фелікс (14.1.1699, Віцебскае ваяв.—24.4.1761), дзеяч каталіцкай царквы. Брат К.Ю.*Вярбіцкага*. У 1714 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прафесар рыторыкі ў Варшаве (1727—28), прапаведнік і прэфект б-кі ў Нясвіжы (1728—29), прапаведнік і прэфект школы ў Менску (1729—30), прыдворны місіянер Радзівілаў у Нясвіжы (1730—35), праф. філасофіі ў Вільні (1735—38), прапаведнік пры касцёле св. Казіміра ў Вільні (1738— 39), прапаведнік і прэфект школы ў Віцебску (1740—41), праф. схаластычнай, пазітыўнай і палемічнай тэалогіі ў Вільні (1741—43), рэктар калегіума ў Віцебску (1743— 46) і Нясвіжы (св. Міхала, 1748—52), рэгент Папскай семінарыі ў Вільні (1752—55), рэктар калегіума ў Пінску (1756—59), прэфект б-кі пры касцёле св. Яна ў Вільні (1759—60). Пакінуў рукапісныя лекцыі па філасофіі і тэалогіі.

**вярдунак** (ад ням. Vierdung), вагавая і грашова-лікавая адзінка ў ВКЛ у 15—16 ст., чацвёртая частка *грыўні кракаўскай*. Складала каля 50 г серабра, або 12 пражскіх, потым польскіх *грошаў*.

**вяртэп**, тэатр лялек, гл. *Батлейка*.

**Вяшвяны** (літ. Вешвенай, Viešvenai, цяпер вёска ў Цельшайскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойці, на р. Вешва. Упершыню ўпамінаецца пад 1253 (Wieśwe), пасля — з 1486. З 1569 велікакняжацкім сталовы маёнтак, цэнтр воласці, з 17 ст. цэнтр нягродавага староства, якое давалася ў трыманне заможнай шляхце. У 1761 староста Пілсудскі пабудаваў драўляны касцёл Св. Троіцы. У 1789 было 14 двароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Viešvenai: istorija ir dailes paminklai. Vilnius, 2003.





**Гавіч** (Hawicz, Hauwicz) Шыман, віленскі людвісар у сярэдзіне 16 ст. Як мяркуецца, паходзіў з г. Брно ў Маравіі. У 1548—49 працаваў у каралеўскай Кракаўскай пушкарні. Пасля запрошаны ў Віленскую людвісарню. У 1553 для аздаблення гармат, што адліваў Г., з Кракава ў Вільню пасланы злотнік Эразм Кунч. У 1556—57 адліў у Кракаве некалькі прыгожых званоў для касцёлаў.

*Літ.*: B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 21—22.

**гадзіннік**, прыстасаванне для вымярэння часу ў межах сутак. Паводле ўскосных звестак, ужо ў 11—13 ст. на Русі выкарыстоўваліся сонечныя (гнамон), вадзяныя і пясочныя Г. Пясочны гадзіннік паказаны на партрэце першадрукара Ф.Скарыны 1517. Сонечныя Г. (рухомыя і нерухомыя) працягвалі ўжывацца ўвесь час існавання ВКЛ. У 1736 у Нясвіжскім езуіцкім калегіуме складзена інструкцыя па вырабе сонечных Г. розных канструкцый, ілюстраваная 46 чарцяжамі. Захаваўся сонечны Г. 2-й пал. 18 ст., уладкаваны каля касцёла ў в. Ішчална каля Шчучына (зроблены Я.Малецкім з Вільні). Віленскім майстрам І.Манувірам зроблены сонечныя Г., устаноўленыя ў Кернаве (1787). Інш. Г. яго работы захоўваюцца ў Літ. нац. музеі (1781), Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі (1779). У Полацкай езуіцкай акадэміі меласа 3 астранамічныя Г., якія былі адпраўлены ў Санкт-Пецярбург у 1830. Механічны Г. быў вынайдзены ў Зах. Еўропе (найб. верагодна, у Італіі ці Англіі) у 2-й пал. 13 ст., у Польшчы вядомы з 2-й пал. 14 ст., у ВКЛ з 16 ст. Першапачаткова гэта былі толькі вежавыя (сцянныя) Г. У 16—18 ст. вял. механічныя Г., часта з боем (куранты), устанаўліваліся для ўсеагульнага карыстання на высокіх збудаваннях — вежах, касцёлах, цэрквах. Яны вядомы ў Вільні (1557, вежа кафедральнага касцёла; у пажары 1591 згарэў Г. на вежы кальвінскага збора; у пажары 1707 згарэў Г. Троіцкага манастыра; Г. на вежы езуіцкага калегіума зрабіў Марцін Багноўскі), Нясвіжы, Берасці (1619, на замкавай вежы), Койданаве (1620), Клецку (1626, замак), Слуцку (1642, на замкавай вежы; 1717, на вежы езуіцкага касцёла, зрабіў майстар Міхал Гёнер), Полацку (1654, работы віленскага майстра Густава Мудні), Куцейна (1655, манастырскі), Віцебску (1660, Маркаў манастыр, гадзіншчык Іван Сцяпанаў), Магілёве (1725, езуіцкі касцёл), Юравічах (1776, езуіцкі касцёл), Воўчыне (18 ст., Троіцкі касцёл), Будславе (18 ст., касцёл) і інш. Па прывілеі Боны 1541 Гародня абавязана была мець майстра, які мог бы зрабіць і рамантаваць Г. Захаваўся Г. апошняй трэці 17 ст. на вежы Гарадзенскага езуіцкага касцёла. Па прывілеі Жыгімонта II Аўгуста 1551 Берасце абавязвалася ўладкаваць Г. і трымаць пры ім трубача. З 16 ст. вядомы пакаёвыя і партатыўныя механічныя Г. з пружынай. З іх настольныя мелі форму вежы, квадартнай кафлі, шасцібаковай ці круглай каробкі і інш. Яны не вылучаліся надзейнасцю, але мелі высокі кошт, што высмейвалася ў сатырычнай «Прамове Мялешкі» пач. 17 ст. Першы партатыўны настольны Г. ў Рэчы Паспалітай быў зроблены ў 1525 майстрам Якубам Чэхам з Прагі для вял. княгіні літ. і каралевы польскай Боны; ён мае выявы гербаў Польшчы (Арол) і ВКЛ («Пагоня»). Прыдворных зэгармістраў (гадзіншчыкаў) меў Жыгімот II Аўгуст, у т.л. ў Вільні. Першым з іх быў у 1543—72 Ян (Януш). З Прусіі да Жыгімонта Аўгуста прыехаў зэгармістр Леанард Фрэнк (упамінаецца ў 1557). У 1566 на каралеўскую службу прыня-



**Гадзіннік** сонечны майстра Я.І.Манувіра (1779).

ты Конрад Грыс. Над Г. Віленскага кафедральнага касцёла наглядаў майстар Ганус Гоненфельд (з 1597). У сярэдзіне 17 ст. ў Вільні вядомы майстры Уручынскі, Ганс Клясен, Ян Шэрэр, Аляксандр Гельман (у 1662—63 адрамантаваў ратушны Г., яшчэ раз пасля пажару — у 1670—74, у 1674 адрамантаваў Г. кафедральнага касцёла). Высокім узроўнем выканання адрозніваюцца настольныя Г. работы самага дасканалага віленскага майстра Якуба *Герке* (Гяркевіч, Яркевіч). Вядома больш за дзесятак яго Г., датаваных ад 1616 да 1664. Шмат працаваў над удасканаленнем Г. механік, ураджэнец Вільні А.А.*Каханскі*. Палонныя бел. гадзіншчыкі ў 2-й пал. 17 ст. працавалі ў Аружэйнай палаце ў Маскве (Міхалка Мікіцін, Філька Тарасаў, Антошка Іваноў). Гадзіншчык з Нясвіжа Е.*Якабсон* у 1760-я г. зрабіў механічную лічыльную машыну. Гадзіншчыкаў у бел. гарадах было няшмат (напр., адзін у Слуцку ў 1728, адзін у Пінску ў 1783, 3 у Клецку ў 17 ст. і 2 у 18 ст.), акрамя Менска (33 майстры ў 1800). Майстры-гадзіншчыкі працавалі ў асн. паасобку, толькі ў буйных гарадах аб'ядноўваліся з інш. майстрамі-металістамі ў рамесныя цэхі. Так, з канца 16 ст. віленскія гадзіншчыкі ўваходзілі ў супольны цэх разам з кавалямі, слесарамі, катлярамі, мечнікамі, нажоўнікамі. У 1591 менскія гадзіншчыкі аб'яднаны ў адзін рамесны цэх са злотнікамі, кавалямі, катлярамі, меднікамі, слесарамі і нажоўнікамі (статут цэха зацверджаны Жыгімонтам III Вазам у 1592). У Белай (Берасцейскае ваяв.) у 18 ст., паводле няпэўных дадзеных, існавала гадзіннікавая майстэрня Радзівілаў.

*Літ.*: Игнатенко А.П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв. Минск, 1963; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Минск, 1966; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Минск, 1975; Кулагін А. Бясстрасныя хранометры, жывыя сведкі // Мастацтва Беларусі. 1987. № 4; Милинкевич А.В. Башенные часы Гродненского иезуитского (фарного) костела — памятник техники XVII века // Из истории науки и техники Белоруссии. Минск, 1988; Яго ж. История и техническое устройство гродненских башенных часов // Памятники науки и техники, 1989. М., 1990; Онищенко А.А., Климка Л.А. Оригинальные солнечные часы мастера XVIII в. И.Манвира // Из истории науки и техники Белоруссии. Минск, 1988; Киштымов А.Л. История часового дела в Беларуси // Очерки истории науки и культуры Беларуси IX—начала XX в. Минск, 1996; Яго ж. Хранители времени: городские зегармистры // Знакамітыя мінчане. Матэрыялы Беларуска-Польскай навуковай канферэнцыі, Мінск, 9 лістапада 2004 г. Мінск, Вроцлаў, 2005; Лаўрэш Л., Круцікаў У., Пастухоў В. Сонечны гадзіннік у Ішчалне // Спадчына. 2000. № 2; Цітоў А.К. Зэгармістры Беларусі // Архіварыус. Мінск, 2006. Вып. 4; Яго ж. Спіс майстроў-зэгармістраў, што працавалі ў Беларусі з XVI да пачатку XX ст. // Там жа. 2007. Вып. 5; Brensztejn M. Zegarmistrzostwo wileńskie w wiekach XVI i XVII // Ateneum Wileńskie. 1923. № 1; Mažeikiene O. Laikrodžiai XVI—XIX a.: Katalogas. Vilnius, 1976; Siedlecka W. Polskie zegary. 2 wyd. Wrocław etc., 1988; Włodarczyk J. Zegary mechaniczne i zegarmistrzostwo // Z dziejów techniki w dawnej Polsce. Warszawa, 1992.


1


2


3

**Гадзіннікі**: 1 – майстра Я.Чэха (1525); 2–3 – майстра Я.Герке (1626, 1628).

**Гадуноў** Барыс (каля 1550—1605), рускі цар, гл. *Барыс Фёдаравіч* Гадуноў.

**Гадэбскі** Марцін (9.11.1655, Беларусь—7.8.1709), дзеяч каталіцкай царквы. У 1671 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. філасофіі і матэматыкі ў Плоцку (1689—91), прэфект школы ў Варшаве (1691—92), праф. філасофіі ў Полацку (1692—95), прэфект школы ў Пінску (1695—97), праф. тэалогіі ў Вільні (1697—99), рэктар Пінскага калегіума (1700—03), віцэ-рэктар Віленскай акадэміі (1704), рэктар калегіума ў Вільні пры касцёле св. Ігнація (1705—09). Аўтар філасофскіх тэзісаў «Увесь свет» («Mundus universus», Варшава, 1691).

*Літ.*: Piechnik L. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**Газіус** (Газіуш) Якуб (каля 1583, каля г. Тухоля, Прусія—пасля 1629), дзеяч каталіцкай царквы. У 1600 уступіў у Рызе ў ордэн езуітаў, з 1611 ксёндз. Прэфект школы і бурсы ў Полацку (1615—17), вайсковы місіянер у Маскве (1617—18), праф. Святога Пісання і палемічнай тэалогіі ў Нясвіжы (1623—24), праф. маральнай тэалогіі і кафедральны прапаведнік у Плоцку (1626—27), праф. маральнай тэалогіі ў Нясвіжы (1628—29). У 1629 выйшаў з ордэна езуітаў і ўступіў у ор-

дэн канонікаў рэгулярных. Набыў вядомасць як красамоўца. Аўтар акалічнасных казанняў, у т.л. на гібель у Хацінскай бітве 1621 М.Б.Зяновіча (Вільня, 1622), смерць гетмана Я.К.Хадкевіча (1622).

*Літ.*: Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 76—77.

**Гай** (Гайус; Hay, Hayus) Джон (каля 1546, Далгэці ў Шатландыі—21.5. 1608), дзеяч каталіцкай царквы, філасаф. У 1566 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вучыўся ў Лювенскім ун-це. У 1570 прыехаў у Рэч Паспалітую, выкладаў у Вільні рыторыку, з 1572 — філасофію. Выхаваў некалькі вядомых прафесараў філасофіі. Праводзіў публічныя дыспуты з пратэстантамі: А.Воланам, А.Тшэцескім. У 1575 з'ехаў у Францыю, дзе выкладаў філасофію і тэалогію. Аўтар палемічных і гіст. прац.

*Літ.*: Darowski R. John Hay and the Origins of Philosophy in Lithuania // The Innes Review. 1980. T. 31; Яго ж. Filozofia w szkołach jezuickich w Polsce w XVI wieku. Kraków, 1994; Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984; Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**гайдукі** (ад венг. hajdú, мн. лік hajdúk), від лёгкаўзброенай пяхоты, пашыраны ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе ў 16—17 ст. Была ўзброена агністрэльнай зброяй у спалучэнні з адмысловымі сякерамі, часам — шаблямі. У войску Рэчы Паспалітай была запазычана з Венгрыі, мясцовыя Г. складалі асобныя атрады «гайдуцкага строю»; Г. — ўраджэнцаў Венгрыі называлі «венграмі» (напр., Ф.Еўлашоўскі ў сваіх запісках адзначаў: «Гайдуки и венкгрове не зле бронили»). Магнаты набіралі з Г. сваю асабістую ахову, таму з цягам часу слова «Г.» стала абазначаць асабістыя войскі паноў. Пасля ўзяцця рас. войскамі Смаленска ў 1654 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* гайдуцкі атрад мясц. гарнізона ў 500 чал. прынёс прысягу на вернасць цару і быў прыняты на рас. службу пад назвай Гайдуцкі прыказ; у 1654—58 яны ваявалі на Зах. Дзвіне, пасля неслі гарнізонную, паліцэйскую і мытную службу ў Халмагорах. Г. ў ВКЛ маглі называць і *выбранцаў*.

*Літ.*: Малов А.В. Московские выборные полки солдатского строя в начальный период своей истории, 1656—1671 гг. М., 2006; Wimmer J. Historia piehoty polskiej. Warszawa, 1978.

**Гайка** Ян Мікалаевіч (каля 1510—79), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З шляхецкага рода гербу «Агоньчык». Пачаў кар'еру ў 1530-х г. са службы пры двары віленскага кашталяна Ю.Радзівіла. У 1536 ездзіў з лістом ад Радзівіла ў Маскву да кн. І.Абаленскага. У 1546 каралеўскі дваранін. Пазней пісар рускі пры двары вял. княгіні літ. і каралевы польскай Барбары Радзівіл. З 1554 канюшы гарадзенскі, адначасова ў 1554—66 вял. пісар ВКЛ (належаў да вузкага кола службоўцаў унутры дзярж. канцылярыі, якое займалася вядзеннем Метрыкі ВКЛ), ключнік віленскі з 1556, маршалак гаспадарскі ў 1564—66, кашталян берасцейскі з 1566. У 1552 пасланы соймам ВКЛ з лістом да маскоўскіх баяр. У 1556 удзельнічаў у Вільні ў перамовах з царскімі пасламі, якія прыехалі да Жыгімонта Аўгуста. Чл. пасольства Васіля Тышкевіча 1558—59, якое прывезла ў Маскву мірныя прапановы. Г. быў прыхільнікам Жыгімонта Аўгуста і яго палітыкі па заключэнні дзярж. уніі паміж ВКЛ і Польшчай. У 1565 чл. пасольства ВКЛ на чале з А.Валовічам, якое было паслана на польскі сойм у Пётркаў, каб весці перагаворы пра арганізацыю сумеснага сойма і польскую ваенную дапамогу ВКЛ. У 1566 удзельнічаў у пасольстве ад сойма ВКЛ у Берасці да польскага сойма ў Любліне. Падпісаў акт Люблінскай уніі 1569. Быў прыхільнікам Радзівілаў (асабліва М.Радзівіла Рудога) у час першых 2 міжкаралеўяў, прымаў удзел у большасці шляхецкіх з'ездаў з удзелам Рудога. Трымаў шматлікія дзярж. маёнткі, быў дзяржаўцам ашмянскі з 1555, вількейскім, уцянскім, краснасельскім, трабскім.

**гайны суд**, юрыдычны тэрмін, якім у ВКЛ пазначалі суд, што адбыўся ў тэрміны і на ўмовах, прадугледжаных законам.

**Гайцюнішскі лютэранскі збор.** Збудаваны ў 1614 у в. Гайцюнішкі (цяпер у Воранаўскім р-не) уладальнікам маёнтка Пятром *Нонхартам*. Бязвежавы, прамавугольны ў плане будынак мае развітую прамавугольную алтарную частку. З трох бакоў (акрамя алтарнага) умацаваны парнымі трохвугольнымі контрфорсамі на ўсю вышыню будынка (іх схілы накрыты дахоўкай). Збор накрыты вальмавым дахам з дахоўкі. Вонкавае аздабленне сціплае, складаецца з прафіляваных карнізаў. Праём увахода лучковы, вокны паўцыркульныя. Над уваходам невял. чацверыковая вежа-званіца. Асн. аб'ём перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Пад полам крыпта, якая служыла для пахавання. Збор мае выразныя рысы абарончага збудавання. Захаваўся ў паўразбураным стане.



**Гайцюнішскі лютэранскі збор.**

**Галавацкі** (Главацкі) Пятро або Ян, правадыр казацка-сялянскіх атрадаў у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Паходзіў з правасл. шляхты з Палесся. Да 1648 быў драгунам у М.Сабескага ў Кодаку. З пач. паўстання на Украіне пад кіраўніцтвам Б.Хмяльніцкага далучыўся да казакоў. Пасля разгрому каронных войск пад Жоўтымі Водамі Г. у якасці палкоўніка атрада запарожцаў быў накіраваны на Севершчыну і Чарнігаўшчыну для распаўсюджвання тут паўстання. Магчыма, казакі Г. авалодалі Гомелем у ліп. 1648. Да сярэдзіны лета атрад дзейнічаў у Старадубскім пав., пасля чаго адкліканы Хмяльніцкім на Валынь. У чэрв. 1649 разам з І.*Галотам* з'явіўся ў Мазырскім пав., але ўдзелу ў Загальскай бітве 1649 не прымаў. Пасля разгрому войска Галоты атрад Г. накіраваўся на Рэчыцу, але трапіў у засаду, падрыхтаваную стражнікам ВКЛ Р.Мір-



скім. Войска Г. было разбіта, ён сам пасаджаны на палю.

*Літ.*: Белоруссия в эпоху феодализма. Сб. документов. Т. 2. Минск, 1960; А б ец е д а р с к и й Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. — Минск, 1978; М ы ц ы к Ю. Палкоўнік Ілля Галота і Загальская бітва 1649 г. у святле новых дакументаў // Спадчына. 2002.

***Станіслаў Чаропка.***

**Галавацкі** (Головацкий) Якаў Фёдаравіч [17(29).10.1814, с. Чэпелі Львоўскай вобл.—1(13).5.1888], украінскі і расійскі паэт, філолаг, фалькларыст, гісторык. Паходзіў з сям'і уніяцкага святара. Разам з пісьменнікамі М.Шашкевічам і І.Вагілевічам быў пачынальнікам новай укр. л-ры ў Галіцыі, якая знаходзілася ў складзе Аўстра-Венгрыі. Уваходзіў у склад дэмакратычнай «Рускай тройкі», якая выдавала на ўкр. мове альманах «Днястроўская русалка». Скончыў Львоўскі ун-т (1841), стаў святаром, з 1848 праф. рус. мовы і л-ры гэтага ун-та (у 1862—64 рэктар). Праследаваўся аўстрыйскімі ўладамі, у 1868 перасяліўся ў Расію, адмовіўся ад святарскага сану, прыняў праваслаўе і рас. падданства. У 1868—88 старшыня *Віленскай археаграфічнай камісіі*. Напісаў прадмову да т. 3 *Актаў Віленскай камісіі*, у якой выклаў гісторыю гэтай камісіі за 1864—70. Выдаў сабраныя ім «Народныя песні Галіцкай і Угорскай Русі» (кн. 1—4, 1878). Вывучаў гісторыю, л-ру і этнаграфію Беларусі.

*Тв.*: Несколько слов о Библии Скорины и о рукописной русской Библии из XVI столетия, обретающейся в библиотеце монастыря Св. Онуфрия во Львове // Науковый сборник, издаваемый литературным обществом Галицко-русской Матицы. Львов, 1865. Вып. 1—4; Дополнение к очерку славяно-русской библиографии В.М.Ундольского. Санкт-Петербург, 1874; Географический словарь западнославянских и югославянских земель и прилежащих стран. Вильна, 1884; Черты домашнего быта русских дворян на Подляшье, т.е. в нынешней Седлецкой и Гродненской губерниях, по актам XVI столетия. Вильна, 1888; Кореспонденція Якова Головацького в літах 1850—62 / Видав К.Студинський. Львів, 1905; Кореспонденція Якова Головацького в літах 1835—49 / Видав К.Студинський. Львів, 1909.

*Літ.*: Памяти Иакова Федоровича Головацкого, председателя Виленской комиссии для разбора и издания древних актов. Вильна, 1888; П о л я н и н а Т.В. Я.Ф.Головацкий (1814—1888) — пропагандист славянской культуры // Культура и общество в эпоху становления наций. М., 1974; У л а щ и к Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

**Галаўня** Ігнат (20.12.1666, Жамойць—4.10.1701), дзеяч каталіцкай царквы. У 1681 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1694 ксёндз. Праф. рыторыкі (1695—96) і філасофіі (1698—1701) у Вільні, прэфект школы ў Крожах (1701). Аўтар 2 школьных драм.

*Літ.*: O k o ń J. Dramat i teatr szkolny: Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970; P l e č k a i t i s R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Галаўня** Людвік (24.8.1696, Беларусь—9.8.1742), дзеяч каталіцкай царквы. У 1716 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Місіянер у Любчы (1731—32), прэфект школы ў Віцебску (1732—33), прапаведнік і прэфект б-кі ў Навагародку (1733—35), Менску (1735—37), Пінску (1737—39), прапаведнік у Вільні (1740—41), суперыёр у Мсціслаўлі (1741—42). Пабудаваў мураваны касцёл у Будагосце. Апублікаваў сваю прамову «Вітанне найяснейшага Трыбунала» («Powitanie nayiaśnieyszego Trybunału», Вільня, 1740).

**Галіцка-Валынскі летапіс**, летапісны звод, частка *Іпацьеўскага летапісу*. Ахоплівае падзеі 1205—90. Сярод інш. стараж.-рус. летапісаў вызначаецца арыгінальным стылем і будовай. Першапачаткова меў выгляд свабоднага расказа, не быў разбіты па гадах і нагадваў хранограф. Крыніцамі Г.-В.л. былі княжацкія летапісы, асобныя дакументы (акты, граматы, даянсенні, дагаворы, у т.л. *дагавор 1219*), расказы відавочцаў пра бітвы і паходы, воінскія аповесці, фрагменты з перакладных твораў. У.Ц.Пашута меркаваў, што першапачатковы Галіцкі летапіс склаў у 1211 галіцкі кніжнік Цімафей. Гэты твор увайшоў у склад летапіснага зводу 1246 кіеўскага мітрапаліта Кірыла і быў працягнуты да 1261 холмскім епіскапам Іаанам. Пасля летапісанне перайшло ў г. Уладзімір; летапісец кн. Васількі Раманавіча давёў звод да 1269, потым быў далучаны кароткі летапісец кн. Шварна, а далей — звод 1272—89, які апавядаў пра княжанне валынскага кн. Уладзіміра Васількавіча. Аўтарам апошняга Пашута лічыў уладзімірскага епіскапа Яўсцігнія, І.П. Яромін — тураўскага епіскапа Марка, а А.І.Генсёрскі — пісца Федарца. Апошняя апрацоўка летапіснага матэрыялу ў складзе Г.-В.л. — т.зв. звод Мсціслава Данілавіча 1292, у які ўвайшлі і звесткі пра пінскіх князёў. Аднак заключныя звесткі Г.-В.л. пра смерць пінскага і сцепанскіх князёў на мяжы 1289—90 А.М.Насонаў лічыў незалежнымі прыпіскамі, зробленымі на тэр. Турава-Пінскага княства. Усе вядомыя спісы Г.-В.л. ўтрымліваюць гэтыя прыпіскі і т.ч. узыходзяць да спісу Г.-В.л., які абрываўся на 1290. Магчыма, што арыгінал Г.-В.л. працягваўся крыху далей, але ён не дайшоў да нашага часу. Пазнейшымі перапісчыкамі звесткі Г.-В.л. былі разбіты па гадах (акрамя Хлебнікаўскага спісу), але ў большасці памылкова. На думку Пашуты, у Г.-В.л. трапілі фрагменты з т.зв. *«Літоўскага летапісу»*, які вёўся ў 13 ст. ў Навагародку і апавядаў пра першых літ. князёў. Асн. змест Г.-В.л. — паліт. і ваенная гісторыя Галіцка-Валынскага княства, яго ўзаемадачыненні з суседзямі, у т.л. з літ. землямі (ВКЛ). Г.-В.л. — адзіная крыніца, якая больш-менш сістэматычна асвятляе ўзнікненне і першапачатковую гісторыю ВКЛ. У складзе летапісу захаваліся яркія расказы пра дзейнасць Міндоўга, Войшалка і інш. літ. князёў, іх ваенныя і мірныя ўзаемадачыненні з галіцка-валынскімі князямі. Г.-В.л. паслужыў узорам і адной з крыніц *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *Хронікі Быхаўца*.

*Публ.*: Галицько-Волинський літопис: дослідження. Текст. Коментар. / За ред. М.Ф.Котляра. Київ, 2002; Галицко-Волынская летопись: Текст. Комментарий. Исследование / Сост. Н.Ф.Котляр, В.Ю.Франчук, А.Г.Плахонин. Санкт-Петербург, 2005.

*Літ.*: Г р у ш е в с ь к и й М. Хронольогія подій Галицько-Волинської летописи // Записки Наукового товариства імені Шевченка. Львів, 1901. Т. 41; П а ш у т о В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Г е н с ь о р с ь к и й А.І. Галицько-Волинський літопис: (процес складання, редакції і редактори). Київ, 1958; Е р е м и н И.П. Литература древней Руси. М.; Ленинград, 1966; Н а с о н о в А.Н. История русского летопи-



сания XI—начала XVIII века: очерки и исследования. М., 1969; Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мінск, 1969; Котляр М.Ф. Галицько-Волинський літопис. Київ, 1993; Вилкул Т. О некоторых источниках литовских известий Галицко-Волынской летописи // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes istorijos šaltiniai: Faktas. Kontekstas. Interpretacija. Vilnius, 2007.

**Галоўны архіў старажытных актаў** (ГАСА; Archiwum Główne Akt Dawnych, AGAD) у Варшаве. Заснаваны ў 1808 як Агульны краёвы архіў, з 1816 Гал. архіў Каралеўства Польскага, з 1889 Варшаўскі гал. архіў стараж. актаў Каралеўства Польскага, з 1918 ГАСА. Зберагае найважнейшыя дзярж. акты, дакументы вышэйшых органаў улады і вышэйшых суд. устаноў Польскай дзяржавы 12—18 ст., цэнтр. адм. устаноў Варшаўскага княства, Каралеўства Польскага, польскіх губерняў і асобных тэр. да пач. 20 ст. Перад 2-й сусветнай вайной у архіве захоўвалася 1750 тыс. кніг, папак і звязак дакументаў, больш за 5 тыс. пергаментных актаў, 10 тыс. планаў і карт. У час вайны больш за 90% архіўных матэрыялаў загінула. Пасля вайны ў склад ГАСА ўключаны захаваныя зборы Архіва стараж. актаў і Скарбовага архіва. У цяперашні час у архіве зберагаецца больш за 300 тыс. кніг, папак і звязак дакументаў, 8727 пергаментных актаў. Архіў мае аддзелы: 1-ы (акты органаў улады, дзярж. і грамадскіх інстытутаў ад стараж. часоў да 1795), 2-і (акты органаў улады, устаноў і грамадскіх інстытутаў 1795— 1918), 3-і (акты сем'яў і прыватных асоб), 4-ы (картаграфічныя матэрыялы). У 1-м аддзеле, сярод матэрыялаў, што асвятляюць гісторыю ВКЛ, зберагаецца сумарыуш Метрыкі ВКЛ — пералік актаў Метрыкі з кароткім выкладам іх зместу за 1386—1751, выкананы ў 1744—51 (15 архіўных адзінак); копіі найб. ранніх кніг Метрыкі ВКЛ за 1440—1582, выкананыя лацінскім шрыфтам у 1775—92, а таксама арыгінальная кніга Метрыкі ВКЛ 1775— 92 (31 архіўная адзінка). Фонд «Так званая Літоўская Метрыка» — калекцыя дакументаў рознага паходжання, сярод каторых 429 інвентароў ад 15 ст. да 1808, некалькі дзесяткаў кніг, звязаных па паходжанні з каралеўскай канцылярыяй, каля 300 кніг з разнароднымі дакументамі часоў панавання Станіслава Аўгуста Панятоўскага (у т.л. матэрыялы Пастаяннай Рады, Стражы Правоў, акты Чатырохгадовага сойма 1788—92, Гарадзенскага сойма 1793), дакументацыя Адукацыйнай камісіі, Вайсковай камісіі абодвух народаў, Камісіі паліцыі абодвух народаў, паўстанцкіх улад 1794 і інш. У фондзе «Збор пергаментных дакументаў» зберагаюцца 1144 акты з б. архіва Радзівілаў, у т.л. каля 100 актаў агульнадзярж. характару з дзярж. архіва ВКЛ, прывілеі вял. князёў літ. і каралёў польскіх на ўрады і маёнткі, а таксама акты, выдадзеныя Радзівіламі. У фондзе «Збор папяровых дакументаў» зберагаюцца каралеўскія універсалы на правядзенне соймаў і сеймікаў, збор паспалітага рушэння, універсалы ваявод і кашталянаў на правядзенне выбараў земскіх ураднікаў, універсалы Барскай і Таргавіцкай канфедэрацый, выпіскі з Метрыкі ВКЛ і інш. Фонд «Архіў Чатырохгадовага сойма» утвораны з дакументаў, пасупіўшых з СССР у 1964. Налічвае 25 тамоў з дакументамі 1778—94, 1834, у т.л. дыярыушы соймавых пасяджэнняў, тэксты выступленняў, праекты і канчатковыя тэксты соймавых канстытуцый, карэспандэнцыя да маршалкаў сойма, рапарты соймавым дэпутацыям і цэнтр. камісіям і інш. Фонд «Карэспандэнцыя Станіслава Аўгуста» налічвае 16 тамоў перапіскі караля за 1792—97, вылучаных з архіва Патоцкіх з Яблонны. У фондзе Архіва Кароннага скарбу зберагаецца фінансавая дакументацыя каралеўскага двара, пасольстваў, соймаў, падатковыя рэестры, люстрацыі, рэвізіі і інвентары каралеўскіх маёнткаў. У ГАСА зберагаюцца архівы некаторых магнацкіх і шляхецкіх родаў, сярод матэрыялаў якіх шмат дакументаў мае дачыненне да ВКЛ. З іх найб. важныя: Варшаўскі архіў Радзівілаў, архіў Радзівілаў з Няборава, архіў Радзівілаў з Паланэчкі, архівы Замойскіх, Пшаздзецкіх, Тызенгаўзаў, Браніцкіх, Патоцкіх з Росі («Роскі архіў»), Прозараў і Ельскіх і інш. Фонд «Варшаўскі архіў Радзівілаў» утрымлівае фрагменты архіваў розных ліній роду Радзівілаў, якія ў 19 ст. сканцэнтраваліся ў Нясвіжскім замку, а перад 2-й сусветнай вайной былі перавезены ў Варшаву. У цяперашні час фонд налічвае 250 пагонных метраў дакументаў з 1190 да 20 ст. Акрамя дакументаў прыватнага характару, фонд утрымлівае шмат матэрыялаў, што асвятляюць дзейнасць вышэйшых ураднікаў і органаў улады ВКЛ, перапіску Радзівілаў з каралямі, службовымі і прыватнымі асобамі. Матэрыялы фонда асвятляюць юрыд. і гаспадарчы стан шматлікіх маёнткаў Радзівілаў у ВКЛ і Кароне Польскай, дзейнасць радзівілаўскіх мануфактур і прадпрыемстваў. Некаторыя дакументы фонда паходзяць з б. архіўных збораў Сабескіх, Сапегаў, Палубінскіх, Кішкаў і інш. Картаграфічны збор ГАСА налічвае 25 012 адзінак захоўвання, сярод якіх планы, карты, атласы, архітэктурныя чарцяжы 1579—1954.

*Літ.*: Семянчук Г. «Беларусіка» ў фондах Галоўнага архіву старажытных актаў у Варшаве // Спадчына. 1996. № 2; Akta Komisji Policji Obojga Narodów i Komisji Policji Koronnej (1791—1794): Inwentarz / Oprac. J.Jankowska. Warszawa, 1949; Katalog planów miast w zbiórach Archiwum Głownego Akt Dawnych w Warszawie / Oprac. J.Kazimierski, D.Warecka. Warszawa, 1953; Bankowski P. Archiwum Stanisława Augusta: monografia archiwoznawcza. Warszawa, 1958; Jankowska J. O tak zwanej Metryce Litewskiej w zasobie Archiwum Głownego Akt Dawnych w Warszawie // Archeion. Warszawa, 1960. T. 32; Semkowicz W. Przewodnik po zbiorze rękopisów wilanowskich / Uzupełnił i do druku przygotował P.Bankowski. Warszawa, 1961; Smoleńska B., Zielińska T. Archiwalia prywatne w Archiwum Głownym Akt Dawnych // Archeion. Warszawa, 1962—63. T. 38—39; Archiwum Głowne Akt Dawnych w Warszawie: Przewodnik po zespołach. T. 1. Archiwa dawnej Rzeczypospolitej. 2 wyd. Warszawa, 1975; Zielińska T. Archiwa Radziwiłłów i ich twórcy // Archeion. Warszawa, 1978. T. 66; Archiwum Głowne Akt Dawnych: informator o zasobie. T.Zielińskiej. Warszawa, 1992; Materiały genealogiczne, nobilitacje, indygenaty w zbiórach Archiwum Głownego Akt Dawnych w Warszawie: katalog / Oprac. A.Wajs. Warszawa, 1995; Urbaniak V. Archiwum Radziwiłłów z Nieborowa w zbiórach Archiwum Głownego Akt Dawnych // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa, 1996. T. 6; Bartoszewicz H. Kartografika Radziwiłłowskie w zbiórach Archi-

wum Głównego Akt Dawnych // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa, 1997. T. 4.

**Галоўчынская бітва 1708.** Адбылася 3(14) ліпеня ў ходзе *Паўночнай вайны 1700—21* паміж шведскімі і рас. войскамі каля мяст. Галоўчын Аршанскага пав. (цяпер вёска ў Бялыніцкім р-не). Войскі шведскага караля Карла XII да ліп. 1708 выйшлі да Галоўчына. Рас. войскі ўмацаваліся на супрацьлеглым, левым беразе р. Вабіч (левы прыток Друці). Тут на расцягнутых пазіцыях былі сабраны часці генерал-фельдмаршала Б.П.Шарамецева і генералаў А.Д.Меншыкава і А.І.Рапніна. На правым флангу размясціліся 13 пяхотных і 11 драгунскіх палкоў, у цэнтры — 9 пяхотных і 3 драгунскія палкі (аддзяляліся ад правага фланга балотам), на левым флангу — 10 драгунскіх палкоў і 4 тыс. казакоў і калмыкаў. Усяго рас. войскі мелі да 40 тыс. чал. і 45 гармат. Шведская армія налічвала 12 пяхотных і 16 кавалерыйскіх палкоў. 29 чэрв. шведы пачалі артылерыйскую падрыхтоўку, 2(13) ліп. сабралі пантоны, з дапамогай якіх меркавалі фарсіраваць Вабіч і разбіць спачатку цэнтр. групоўку рас. войск, а пасля астатнія. У ноч на 3(14) ліп. шведскія войскі рушылі ўперад, але з-за залевы не здолелі навесці пантонны мост, таму атрымалі загад фарсіраваць Вабіч ўброд (5 пяхотных і 4 кавалерыйскія палкі, больш за 10 тыс. чал.). У палове 3-й гадзіны шведская артылерыя адкрыла агонь і шведы рушылі на рас. пазіцыі, а ў 4-й гадзіне ўступілі ў рукапашны бой. Адначасова левы фланг рас. войск быў атакаваны шведскай конніцай Рэншэльда, каб той не змог прыйсці на дапамогу цэнтру, а правы рас. фланг падвергнуты інтэнсіўнаму абстрэлу, што імітаваў атаку. Дзве гадзіны рас. салдаты цэнтра нястройна адстрэльваліся, а потым, не маючы значнага ўрону, пачалі адыходзіць. Шведы праследавалі іх да палудня, а потым Карл XII павярнуў супраць правага фланга, аднак Шарамецеў адтуль ужо адступіў. Рас. войскі адступалі групамі па 20—100 чал. і на працягу некалькіх дзён выходзілі да Шклова і Магілёва. Перамога шведскай арміі не была рашучай. Рас. бок згубіў 350 чал. забітымі і 675 паранеными, 630 прапаўшымі без вестki або трапіўшымі ў палон (усяго 1655 чал.), усю артылерыю, амуніцыю і абоз; шведы згубілі 255 чал. забітымі і 1219 параненымі. Раззлаваны паражэннем Пётр I аддаў Рапніна пад суд і разжалаваў яго ў радавыя. Поспех пад Галоўчынам стаў апошняй перамогай шведскай арміі ў вайне з Расіяй. Яна адкрыла Карлу XII шлях да Дняпра і дазволіла заняць Шклоў і Магілёў.

*Літ.*: Павленко Н., Артамонов В. 27 июня 1709. М., 1989; Катлярчук А. Шведы ў гісторыі й культуры Беларусі. Мінск, 2002.

**Галубінскі** (Голубинский) Яўген Еўсігнеевіч [28.2(12.3).1834, с. Матвеева Калагрыўскага пав. Кастармской губ., Расія—7(20).1.1912], гісторык царквы. Акад. Пецярбургскай АН (1903, чл.-кар. 1882). З сям'і святара. Скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію (1858). Магістр багаслоўя (1859). З 1859 праф. славеснасці ў Віфанскай семінарыі пры Спаса-Віфанскім манастыры. З 1861 выкладаў у Маскоўскай духоўнай акадэміі, з 1870 экстраардынарны праф. У 1872—74 наведаў Бліжні Усход, Балканы, Італію, Аўстра-Венгрыю. У 1880 абараніў доктарскую дысертацыю «Гісторыя рускай царквы» (т. 1, апублікаваны ў 1880—81, Уваўская прэмія АН). З 1881 ардынарны праф. Маскоўскай духоўнай акадэміі. У 1884—93 памочнік рэктара, чл. праўлення акадэміі. Заслужаны праф. (1886). З 1895 у адстаўцы. Працы па гісторыі рус. і паўд.-слав. цэркваў. Асн. твор Г. — шматтомная «Гісторыя Рускай царквы» («История Русской церкви», т. 1—2, Масква, 1880—1918; 4 выд. Масква, 2002; кожны том падзелены на 2 паўтамы), даведзеная да 16 ст. У гэтай працы сабраны і крытычна абагульнены вялізны фактычны матэрыял, у т.л. пра правасл. царкву на тэр. Беларусі 10—13 ст. і ВКЛ. Г. даследаваў гісторыю заснавання і дзейнасці Літ. правасл. мітраполіі ВКЛ 14 ст., Галіцкай правасл. мітраполіі 14 ст., іх узаемадачыненні з кіеўскімі і маскоўскімі мітрапалітамі.

*Тв.*: Краткий очерк истории православных церквей Болгарской, Сербской и Румынской, или Молдо-Валашской. М., 1871; Преподобный Сергий Радонежский и созданная им Троицкая лавра. Сергиев Посад, 1892 [2 изд. М., 1909]; История канонизации святых в Русской церкви. Сергиев Посад, 1894 [2 изд. М., 1903]; К нашей полемике со старообрядцами. М., 1896 (2 изд. 1905).

*Літ.*: Голубинский Евгений Евстигнеевич // Материалы для биографического словаря действительных членов Императорской Академии Наук. Петроград, 1915. Т. 3 [змешчана бібліяграфія прац Г.]; Жизнь и труды академика Е.Е.Голубинского. М., 1998 [змешчана бібліяграфія прац Г.]; Платонов А.А. Академик Евгений Евсигнеевич Голубинский — историк и человек // Отечественные архивы. 2003. № 3.

**Галятоўскі** Іаанікій [каля 1620—2(12).1.1688], дзеяч праваслаўнай царквы, гл. *Іаанікій*.

**Гамаліцкі** Міхаіл Лявонавіч [22.11 (3.12). 1791, в. Бялавічы, Слонімскі пав. (цяпер у Івацэвіцкім р-не)— 21.1 (2.2).1861], беларускі ўрач, гісторык, літаратар. Д-р медыцыны (1815), праф. надзвычайны (1824). З сям'і уніяцкага святара. Вучыўся ў Жыровіцкай базыльянскай павятовай школе (да 1808). Адверг патрабаванні стаць уніяцкім святаром і паступіць у Жыровіцкую духоўную семінарыю. Вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ун-та (1808—15), пасля выкладаў у ім тэарэтычную хірургію (1816—27), з 1816



Медаль у гонар **Галоўчынскай бітвы 1708**. Медальер Бенгт Вестман. Серабро.



сакратар медыцынскага факультэта, з 1819 ад'юнкт. Чл. Віленскага лекарскага таварыства (з 1815, пазней яго сакратар, рэдактар яго выданняў), Віленскай археал. камісіі (з 1856). З-за хваробы ў 1827 пакінуў ун-т і заняткі медыцынай. Даследаваў гісторыю Вільні, яе касцёлаў і цэркваў, жыццё св. Казіміра, гісторыю зах. зямель Беларусі, бел. філалогію і археалогію, займаўся літ. дзейнасцю. Падвергнуў вострай крытыцы 1-ы том «Гісторыі Вільні» Ю.Крашэўскага, які быў вымушаны яго перарабіць. Збіраў рукапісы, кнігі. Апекаваўся маладым А.Кіркорам. Пасля смерці Г. яго б-ка паступіла ў Віленскі музей старажытнасцей.

*Тв.*: Katedra wileńska, ozdobienie i wyporządzenie kościoła katedralnego wileńskiego, oraz kilka słów o pożytkach z ozdoby i dostojności obrzędow kościelnych // Wizerunki i roztrząsania naukowe. Wilno, 1838. T. 1; Katedra wileńska, odnowa kaplicy świętego Kazimierza, z historycznemi o dawnym jej stanie wiadomościami // Там жа. 1840. T. 13; Katedra wileńska // Там жа. 1840. T. 14; Historia Wilna // Там жа; Kilka uwag nad dziełem: Wilno od początku jego aż do roku 1750 // Там жа. 1842. T. 22—23; O planach Wilna jakiem było w XVI wieku // Там жа. 1843. T. 24; Odpowiedź na zapytanie hrabiego Eustachego Tyszkiewicza, tyczącę sie kaplicy ś. Kazimierza // Kwartalnik Litewski. 1910. T. 1.

*Літ.*: Каханоўскі Г. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984; Яго ж. Адчыніся, таямніца часу. Мінск, 1984. С. 21—22; Беларуская фальклярыстыка: эпоха феадалізму. Мінск, 1989; Bieliński J. Doktorowie medycyny promowani w Wilnie. Warszawa, 1886.

**гандлёвыя рады**, тып гандлёвых збудаванняў, якія складаліся з шэрагу крам (гандлёвых ячэек), злучаных у суцэльны корпус. У ВКЛ вядомы з 16 ст. Будаваліся з цэглы і дрэва пераважна на гандлёвых плошчах гарадоў і мястэчак. Узніклі ў выніку злучэння асобных крам з ушчыльненнем забудовы рынначных плошчаў; у гарадах, якія мелі магдэбургскае права, нярэдка аб'ядноўваліся з *ратушамі*. У буйных гарадах і мястэчках былі пашыраны замкнёныя (з праездамі) Г.р., якія ўтваралі ў цэнтры прамавугольную ці квадратную ў плане гандлёвую плошчу з арыентацыяй крам на плошчу і абапал яе (Берасце, Клецк, Паставы, Полацк, Шклоў і інш.). Варыянтам замкнёных былі П-падобныя Г.р., што ўтварыліся ў выніку ўключэння ў адзін з бакоў забудовы ратушы (Нясвіж) або раскрыцця гандлёвай плошчы па асн. горадаўтваральнай восі (Дзярэчын); у гэтым выявіліся рысы архітэктуры барока. У архітэктуры стылю класіцызму (2-я пал. 18—19 ст.) сфарміраваліся Г.р., выраўнаныя аднарадным прагонам, размешчаным у цэнтры плошчы, з 2-баковай арыентацыяй крам, нярэдка з праездам у цэнтры, вылучаным вежачкай у завяршэнні; Т-падобныя і 2-радовыя, якія ўтваралі гандлёвую вуліцу (Пінск). Вядомы Г.р. з шэрагам асобных карпусоў. Г.р. ўключалі таксама складскія памяшканні і асобныя каморы, звычайна размешчаныя ў цэнтр. і вуглавых частках. Фасады часта аздаблялі галерэямі і аркадамі. Кожная крама мела самастойны ўваход. Найб. манументальныя Г.р., якія, акрамя гандлёвых і складскіх, уключалі адм.-грамадскія памяшканні і пабудовы, называліся *гасцінымі дварамі*.

**Ганна**, мяркуемая вялікая княгіня літоўская, жонка Альгерда. Звесткі пра Г. няпэўныя. Хроніка Быхаўца і Яўрэінаўскі летапіс паведамляюць, што Г. была віцебскай князёўнай, якая прынесла яму ў пасаг Віцебск; пасля яе смерці Альгерд ажаніўся з цвярской князёўнай *Ульянай Аляксандраўнай*. Аднак «Радавод князёў віцебскіх» называе іншае імя віцебскай князёўны — *Марыя Яраслаўна*. Я.Тэнгоўскі дапускае магчымасць, што размова ідзе пра адну асобу, у якой названы 2 імя — хрысцільнае і манаскае. Аднак «Сказанне пра Мамаева пабоішча» ўказвае, што Г. была мачахай князёў Андрэя і Дзмітрыя Альгердавічаў, якая ахрысціла іх у праваслаўе. На гэтай падставе Т.Васілеўскі лічыў Г. 2-й жонкай Альгерда, з якой ён ажаніўся пасля смерці Марыі Яраслаўны, прыкладна ў 1340—41.

*Літ.*: Wasilewski T. Trzy małżeństwa wielkiego księcia Litwy Olgierda // Kultura średniowieczna i staropolska. Warszawa, 1991; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Ганна** (Данута; каля 1360—25.5. 1448), княгіня мазавецкая, жонка мазавецкага князя Януша I. Дачка вял. кн. літ. *Кейстута*, сястра *Вітаўта*. Мела язычніцкае імя Данута, якое было заменена пры каталіцкім хрышчэнні на Г. Шлюб адбыўся незадоўга да 27.9. 1376. У Г. ў Мазовіі хаваўся Вітаўт пасля смерці бацькі (1382). Перажыла мужа, які памёр у 1429. Пасля смерці вял. кн. літ. Жыгімонта Кейстутавіча і абрання на трон ВКЛ Казіміра Ягелончыка (1440) у Мазовію да Г. выехаў за падтрымкай іншы прэтэндэнт на трон — кн. Міхаіл Жыгімонтавіч, пляменнік Г. Пахавана ў Варце ў касцёле дамініканцаў.

**Ганна** (каля 1365—паміж 1404 і 1407), княгіня опаўская, жонка опаўскага князя Пшэмка. Мяркуецца (Я.Тэнгоўскі), што была дачкой валынскага кн. *Любарта*, на што ўказвае яе прыйменны прыдатак «з Луцка» («de Luczka»). Пшэмка з дынастыі сілезскіх Пшэмысловічаў нарадзіўся каля 1365, шлюб з Г. заключыў не раней 1386 (відаць, каля 1390), стаў княжыць у Опаве ў 1394. Меў ад Г. сыноў Вацлава і Мікалая, дачку Агнешку, пасля смерці Г. яшчэ 2 разы заключаў шлюбы, памёр у 1433.

*Літ.*: Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Ганна** Цылійская (каля 1380, г. Цылі, цяпер Цэле, Славенія—20 або 21.3. 1416), каралева польская, 2-я жонка Ягайлы (Уладзіслава II). Дачка графа Вільгельма фон Цылі і Ганны, дачкі польскага караля *Казіміра III* Вялікага. Шлюб адбыўся 29.1.1402 у Кракаве, каранацыя — 25.2.1403. Дзякуючы шлюбу Ягайла ўстанавіў родавую сувязь з папярэдняй польскай дынастыяй і тым самым легалізаваў свае правы на польскі трон пасля смерці першай жонкі *Ядвігі*. У 1413 дачка Г. — Ядвіга была прызнана спадчынніцай польскага трона. Для ўзмацнення яе становішча Г. суправаджала Ягайлу ў паездцы па ВКЛ, прысутнічала пры заключэнні *Гарадзельскай уніі 1413*, хрысціянізацыі Жамойці. У 1415 разам з мужам прымала прысягу малдаўскага гаспадара Аляксандра.

**Ганна** (12.3.1476, г. Няшава, Польшча—12.8.1503), княгіня паморская, жонка паморскага князя Багуслава X. Дачка караля польскага і вял. кн. літ.

*Казіміра IV* і *Эльжбеты* Габсбург. У 1486 бацька планаваў выдаць Г. замуж за германскага караля Максіміляна Габсбурга, аднак гэтая планы не сустрэлі падтрымкі ў Свяшчэннай Рымскай імперыі. Шлюбныя ўмовы з Багуславам X падпісаны 7.3.1490 у Гародні, там жа адбыўся папярэдні шлюб у адсутнасць жаніха. Канчатковы шлюб заключаны 2.2.1491 у г. Шчэцін. Гэта ўмацавала саюзныя адносіны манархіі Ягелонаў з Памор'ем, заснаваныя на дагаворы 1466. Ягелоны імкнуліся выкарыстаць Памор'е ў барацьбе супраць крыжакоў, а паморскія князі з дапамогай Польшчы імкнуліся пазбавіцца вярхоўнай улады над сабой Гогенцолернаў.

**Ганна** Радзівіл (1476—14/15.3. 1522), княгіня мазавецкая, жонка мазавецкага князя Конрада III Рудога. Дачка Мікалая Радзівіла (Радзівілавіча), ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ, і Соф'і Манівідаўны. Шлюб з Конрадам III заключаны паміж 6.10.1496 і 2.4.1497. Г. ўнесла пасаг у памеры 20 тыс. дукатаў. Перад гэтым у яго былі 2 бяздзетныя шлюбы з мяшчанкамі. Г. нарадзіла яму 2 дачок і сыноў Станіслава I і Януша III. Пасля раптоўнай смерці мужа ў 1503 Г. стала апякункай дзяцей, рэгенткай княства. Дамаглася ад караля Аляксандра, каб вымарачныя мазавецкія Варшаўская, Цехановецкая, Ломжынская і Навагродская землі былі перададзены яе сынам, а не Кароне (заплаціла за гэта 30 тыс. дукатаў). Выношвала планы пра свой шлюб з каралевічам Жыгімонтам Аўгустам, пазней хацела выдаць за яго сваю дачку Соф'ю, аднак гэта не атрымалася. Паспяхова бараніла незалежны статус Мазавецкага княства, імкнулася ўключыць у яго склад, як было раней, Дарагічын і Мельнік, заснаваць біскупства ў Варшаве. Вылучалася ўладалюбствам, варагавала з мазавецкай шляхтай. У 1516 шляхта запатрабавала, каб Г. перадала ўладу старэйшаму сыну Станіславу. Перадача адбылася ў 1518, але Г. захавала ўплыў на палітыку. Падрыхтавала шлюб сваёй дачкі Соф'і з трансільванскім кн. Стэфанам Баторыем (бацькам караля польскага і вял. кн. літ. Стэфана Баторыя). Пахавана ў кляштары бернардзінцаў у Варшаве.

**Ганна** Ягелонка (18.10.1523, г. Кракаў—9.9.1596), каралева польская і вялікая княгіня літоўская [1576—96], жонка *Стэфана* Баторыя. Дачка караля польскага і вял. кн. літ. *Жыгімонта I* Старога і *Боны* Сфорца. Бацькі не здолелі выдаць Г. замуж, як і наступны кароль, брат Г. *Жыгімонт II Аўгуст* (ён планаваў выдаць Г. за кагосьці з Габсбургаў, зах.-паморскіх князёў, шведскіх Вазаў). У 1550—60-я г. на руку Г. прэтэндавалі дацкі прынц Магнус, курляндскі герцаг Готард Кетлер, пфальцграф Рыхард Вітэльсбах. Пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572) Г. стала своеасаблівым сімвалам ягелонскай манархіі і магла прэтэндаваць на трон Рэчы Паспалітай. Рукі Г. пачалі дамагацца французскі прынц *Генрык* Валезы і сын германскага імператара Эрнст, якія спадзяваліся такім чынам павялічыць свае шансы заняць трон Рэчы Паспалітай. Стаўшы каралём, Генрык Валезы, аднак, з Г. не ажаніўся і хутка з'ехаў у Францыю. У час 2-га бескаралеўя 13.12.1575 прыхільнікамі Ягелонаў Г. была абвешчана каралевай, а 15.12.1575 яе мужам вызначаны трансільванскі ваявода Іштван Батары (Стафан Баторый), якому павінен быў дастацца трон Рэчы Паспалітай; Г. падтрымала яго абранне. 1.5.1576 адбыўся шлюб і каранацыя Г. і Стафана Баторыя. У 1581 атрымала ад караля вена ў памеры 30 тыс. злотых, запісаных на маёнтках у ВКЛ, у т.л. Кобрынскую эканомію і Пружаны. Дала магдэбургскае права і гербы Пружанам (6.5.1589), Кобрыну і Гарадку (Гарадцу, 10.12. 1589). Г. не набыла палітычнай вагі ў дзяржаве і займалася ўладкаваннем сваіх маёнткаў, мецэнацтвам. Пасля смерці Стафана Баторыя (1586) Г. магла законна стаць на чале Рэчы Паспалітай, але не здолела атрымаць уладу. Было абвешчана новае бескаралеўе. Г. прапанавала абраць на трон шведскага каралевіча Жыгімонта, сына сваёй сястры Кацярыны, які і быў абраны каралём польскім і вял. князем літ. (*Жыгімонт III* Ваза). У час яго панавання (1587—1632) Г. не адыгрывала палітычнай ролі. Фундавала ў ВКЛ некалькі касцёлаў (у 1590 — у Паланзе і Горждах, у 1596 — у Акмянах).

*Літ.*: B o g u c k a M. Anna Jagiełłonka. Warszawa, 1994.

**Ганна** Габсбург (16.8.1573, г. Грац—10.2.1598), каралева польская і шведская, вялікая княгіня літоўская, жонка Жыгімонта III Вазы. Дачка эрцгерцага Карла Штырыйскага (брат імператара Максіміляна II), унучка імператара Фердынанда I і *Ганны* Ягелонкі. Была сястрой імператара Фердынанда II, эрцгерцага Аўстрыі Леапольда V, Канстанцыі Габсбург — 2-й жонкі караля




**Ганна** Габсбург.

Польшчы і вял. кн. ВКЛ Жыгімонта III Вазы. У 1586 Ганна Ягелонка планавала выдаць замуж за Жыгімонта каго-небудзь з дачок эрцгерцага Карла, але Г. была заручана з Генрыкам I Латарынгскім. Пасля таго, як у 1590 заручыны былі сарваны, Жыгімонт III аднавіў перагаворы пра заключэнне шлюбу з Г., нягледзячы на шырокую апазіцыю ў Польшчы. У пач. 1592 у Прагу прыбыло яго пасольства на чале з маршалкам ВКЛ Альбрыхтам Радзівілам. Шлюб заключаны 4.5.1592 у Вене (Жыгімонта III прадстаўляў Радзівіл) і 31.5.1592 у Кракаве адначасова з каранацыяй. Заключэнне шлюбу сустрэла вострае супраціўленне пратэстантаў Рэчы Паспалітай. У 1593—94 разам з мужам была ў Швецыі, дзе 1.3.1594 каранавана як шведская каралева. Значнай паліт. ролі не адыгрывала. У шлюбе з Жыгімонтам III мела



сыноў Уладзіслава (у 1632—48 кароль польскі і вял. кн. літ. Уладзіслаў IV) і Крыштофа, дачок Ганну Марыю, Кацярыну і яшчэ адну Кацярыну.

**Ганна** (цяпер в. Мілаславічы, цэнтр сельсавета ў Клімавіцкім р-не Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв. Заснавана ў 1725 на тэр. Углянскага войтаўства, на землях в. Мілаславічы, на правым беразе р. Іпуць. Тэрмін слабады мястэчку быў вызначаны на 15 гадоў. Улічваючы сугучнасць назвы мястэчка з імем тагачаснай уладальніцы Крычаўскага старваства — Ганны Катажыны Радзівіл з Сангушкаў, можна меркаваць, што менавіта яна заснавала мястэчка і дала яму сваё імя. Паводле інвентара Крычаўскага старваства 1727, у мястэчку 87 дымоў, млын і валюш. Згодна з інвентаром старваства 1747, мястэчка Г. мела і другую назву — Мілаславічы. Яго ядром быў рынак пл. каля 1500 м², з якога выходзілі 4 вуліцы: Шумяцкая, Ганчарная, Старэцкая і Ладзяшанская; над Іпуццю ішла вуліца Лагавая; усяго было 44 жылыя дамы. У 1779 у Мілаславічах налічваўся 51 двор, у якіх пражывалі 382 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у 1773 Г. афіцыйна перайменавана ў Мілаславічы.

*Літ.*: М я ц е л ь с к і А.А. Фарміраванне мястэчак Крычаўскага староства // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Я г о ж. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2008. № 23.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Ганна Іванаўна** (?—да 28.9.1484), вялікая княгіня літоўская, жонка вялікага князя Свідрыгайлы. Дачка цвярскога кн. Івана Іванавіча, стрыечная сястра вял. кн. цвярскога Барыса Аляксандравіча. Шлюб быў заключаны ў Цвяры ў 1431, калі Свідрыгайла ўжо заняў велікакняжацкі трон. Мэтай шлюбу было замацаванне ўжо старога Свідрыгайлы на троне, магчымае заснаванне ім сваёй дынастыі, забеспячэнне сабе вонкавай падтрымкі. Паводле польскага гісторыка 15 ст. Я.Длугаша, пад уплывам жонкі Свідрыгайла спрыяў праваслаўным, а Жыгімонт абвінавачваў Свідрыгайлу, што той пад уплывам жонкі адступіў ад каталіцтва. Г.У. не перайшла ў каталіцтва і заставалася ў шлюбе праваслаўнай (хоць рымскі папа Яўген IV у лісце ад 20.10.1434 называў жонку Свідрыгайлы Соф'яй, што можа паказваць на змену веравызнання), што выкарыстаў у барацьбе супраць Свідыгайлы яго праціўнік Жыгімонт Кейстутавіч. Калі апошні ў 1432 захапіў велікакняжацкі трон, Г.І. трапіла ў палон. Пасля была вызвалена, у канцы 1432 нарадзіла Свідрыгайлу сына, які, відаць, хутка памёр. Потым зноў трапіла ў палон да Жыгімонта. Дапамогу Свідрыгайлу ў феад. вайне 1432—39 аказала і Цвярское княства. У 1433 Свідрыгайла і яго прыхільнікі дамагаліся вызвалення Г.І. з дапамогай Базельскага сабору, што ім удалося ў 1434. З 1437 жыла пры мужу ў Луцку. Пасля яго смерці (1452) атрымала ад вял. кн. літ. і караля польскага Казіміра Ягелончыка Здзітаў, Гарадок (Давыд-Гарадок), Дварцы. На думку О.Галецкага, Г.І. магла атрымаць Гарадзецкі павет і вакольныя маёнткі ад Казіміра яшчэ пры жыцці мужа, каля 1447. Мела маёнткі і ў Луцкім пав. Апошні раз яна ўпамінаецца пад 1471. Пасля смерці Г.І. Казімір Ягелончык перадаў Давыд-Гарадок кн. І.В.Яраславічу.

*Літ.*: Г р у ш е в с к и й А.С. Пинское Полесье: Ист. очерки. Киев, 1903; W o l f f J. Ród Gedimina. Kraków, 1886; Halecki O. Ostatnie lata Świdrygiełły i sprawa wołyńska za Kazimierza Jagiellończyka. Kraków, 1915; К л ю г Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.): пер. с нем. Тверь, 1994; T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Ганна Святаслаўна** (?—31.7.1418), вялікая княгіня літоўская, жонка вялікага князя Вітаўта. Дачка вял. кн. смаленскага Святаслава Іванавіча [1358—86]. Паводле крыжацкага паведамлення, шлюб Вітаўта і Г.С. адбыўся яшчэ пры жыцці вял. кн. літ. Альгерда (памёр у 1377). Відаць, ён быў заключаны ў 1360-х г., калі Вітаўт быў удзельным князем берасцейскім. У 1382 Г.С. садзейнічала ўцёкам мужа з вязніцы, куды яго пасадзіў Ягайла. У 1392 абяцала пры набыцці Вітаўтам пасады вял. князя літ., што яе муж выканае ўмовы прысягі, прынесенай ім каралю польскаму Ягайле і Кароне Польскай. Вітаўт і Г.С. мелі дачку *Соф'ю Вітаўтаўну*, выдадзеную замуж за вял. кн. маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча, і інш. дзяцей, пэўных звестак пра якіх не захавалася. Г.С. была пахавана ў Віленскім кафедральным касцёле.

*Літ.*: W o l f f J. Ród Gedimina. Kraków, 1886; T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Ганна Фёдараўна** (?—пасля 3.5. 1458), княгіня мазавецкая, жонка мазавецкага князя Баляслава III. На думку О.Бальцэра, была дачкой літ. кн. Івана Альгімонтавіча Гальшанскага (гл. ў арт. *Гальшанскія*), Я.Тэнгоўскі мяркуе, што была дачкой кн. Фёдара Альгердавіча. Шлюб, заключаны каля 1412, арганізаваў бацька Баляслава, мазавецкі кн. Януш I. Баляслаў не меў уласнага ўдзела, памёр заўчасна (не пазней 1425), раней за бацьку. Г.Ф. мела з Баляславам III сына Баляслава IV, князя мазавецкага. Ён на выпадак сваёй смерці перадаў Г.Ф. ў пажыццёвае валоданне Варшаўскую зямлю. Пасля смерці Баляслава IV (1454) была апякункай унукаў — Конрада III, Казіміра III, Баляслава V, Януша II. Шмат фундавала, заснавала шпіталь Св. Духа пры касцёле св. Марціна, кляштар бернардзінцаў у Варшаве. У 1434 меркаваўся, але не адбыўся яе шлюб з вял. кн. літ. Жыгімонтам Кейстутавічам, хоць на яго даў дазвол рымскі папа Яўген IV.

*Літ.*: T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Гапановіч** (Апановіч) Антоній (?—пасля 1780), віленскі людвісар. Старэйшы сын Тамаша *Гапановіча*. У 1760



А.**Гапановіч**. Звон. 1656.



адліў звон (вышыня 74 см) для Астрабрамскага касцёла кармелітаў у Вільні, у 1780 — звон (вышыня 48 см) для Віленскага касцёла св. Барталамея канонікаў рэгулярных. У Гродзенскім дзярж. музеі гісторыі рэлігіі захоўваецца невял. звон, адліты Г. у 1756 для невядомай святыні.

*Літ.*: Ганчарук І. Звон «засьведчыў»... // Мастацтва. 1994. № 11; B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 83—84.

**Гапановіч** (Апановіч) Тамаш (?—да 1758), віленскі людвісар. У 1742 адліў 2 званы для езуіцкага Віленскага касцёла св. Рафала (адзін з выявамі св. Францішка Ксаверыя і архангела Рафаіла) і для касцёла ў Шашолах у Віленскім пав., у 1743 — для Дукштаў і Крэва, у 1744 — для невядомага касцёла. Людвісарскай справай займаўся старэйшы сын Г. — Антоній *Гапановіч*.

*Літ.*: B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 82—83.

**Гарадзенская канфедэрацыя 1606—08**, канфедэрацыя войска ВКЛ у час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. Складалася з вайскоўцаў, якія служылі пад камандаваннем гетмана Яна Караля *Хадкевіча* ў Інфлянтах з 1605 да ліп. 1606 і не атрымалі аплату за службу. Яны абвясцілі канфедэрацыю, выехалі ў Гарадзенскую эканомію і пачалі там чакаць выплаты запазычанасці па аплаце за службу, збіраючы стацыю і сродкі з падаткаў. Г.к. адразу абвясціла пра свае раялісцкія прыхільнасці і папрасіла разлічыцца з ёю да 2.2.1607. У кастр. 1606 да канфедэрацыі далучыліся роты Хадкевіча і Г.Фітынга. У 1605—07 у дзярж. скарбе ВКЛ адсутнічалі сродкі на разлік з Г.к. Больш таго, у дачыненні да рахункаў з Г.к. яшчэ ў снеж. 1607 каралеўскія ўраднікі не мелі аніякай інфармацыі. Па падліках саміх канфедэратаў, скарб быў вінен Г.к. 10 тыс. злотых. У час *Зэбжыдоўскага рокаша 1606—09* частка Г.к., узначаленная Хадкевічам, прыняла ўдзел у бітве пад Гузавам 6.7.1607 на баку караля Жыгімонта III. Пасля падаўлення рокашу ў Кароне кароль імкнуўся выкарыстаць Г.к. для вяртання кантролю над ВКЛ. 2.4.1608 ён выдаў гарантыю ўдзельнікам Г.к., што яны не будуць выкліканы ў суд за мінулыя злоўжыванні ў каралеўшчынах. 3.4.1608 адбыўся разлік з Г.к., і канфедэраты афіцыйна вярнуліся пад камандаванне Хадкевіча. Пасля спалення акта канфедэрацыі для замацавання поспеху Хадкевіч вызначыў войскам пад пастой Кнышын, Райгорад, Ганязь і Аўгустаў. Вясной 1608 Крыштоф Радзівіл правёў паспяховыя перагаворы са стаяўшымі ў Крынках ротмістрамі Г.к. Крыштофам (?), Яйкоўскім (70 коней), А.Млоцкім, панамі Сянкевічамі (100 коней) аб іх найме на службу да Януша Радзівіла. Пасля Вялікадня 1608 былыя канфедэраты склалі аснову дзярж. войска ў 3 тыс. чал. Яны прайшлі з Гародні да Берасця па Шарашоўскім і Нараўскім гасцінцах, адмовіўшыся ад бітвы з асабістым войскам Януша Радзівіла (1200 чал.), дайшлі да Берасця і садзейнічалі прыняццю *Берасцейскай канфедэрацыяй 1605—08* умоў разліку са скарбам і ліквідацыі рэштак рокашу ў ВКЛ, пасля чаго канфедэраты, якія пажадалі працягнуць службу, былі накіраваны ў Інфлянты.

*Літ.*: Я к у б а ў В.У. Першыя канфедэрацыі войска Вялікага Княства Літоўскага і іх уплыў на сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім у 1604—1608 гадах // Весн. Полацкага дзярж. ун-та. Сер. А. Гуманіт. навукі. 2008. № 7; Volumina legum. T. 2. St. Petersburg, 1859; Archiwum domu Radziwiłłów / Wyd. A.Sokołowski. Kraków, 1885; Archiwum domu Sapiechów. T. 1 / Wyd. A.Prochaska. Lwów, 1892; N a r u s z e w i c z A. Historya Jana Karola Chodkiewicza wojewody wileńskiego, hetmana wielkiego W. X. Lit. T. 1. Warszawa, 1805; W i s n e r H. Litwa wobec rokoszu (1606—1607) // Kwartalnik Historyczny. 1972. Z. 2; Я г о ж. Rzeczpospolita Wazów. T. 2. Warszawa, 2004; C i a r a M. Konfederacje wojskowe w Polsce w latach 1590—1610 // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1988. T. 31; U r w a n o w i c z J. Wojskowe «sejmiki» kola w wojsku Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Białystok, 1996; A u g u s t y n i a k U. W służbie hetmana I Rzeczypospolitej: klientela wojskowa Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640). Warszawa, 2001; G a l a j R. Radziwiłłowie w piśmiennictwe politycznym okresu rokoszu Zebrzydowskiego // Radziwiłłowie: Obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003. ***Віктар Якубаў.***

**Гарадзенская канфедэрацыя 1609—10**, канфедэрацыя войска ВКЛ і інфлянцкай земскай службы ў час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, утвораная для атрымання ўзнагароды за службу і кампенсацыі страт прыватных асоб ВКЛ на вайну. У ліп.—жн. 1609 кароль Жыгімонт III Ваза пачаў змяншаць фінансаванне вайны са Швецыяй на карысць інтэрвенцыі ў Маскоўскую дзяржаву (гл. *вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*). Вял. гетман ВКЛ Ян Кароль *Хадкевіч* абвясціў, што будзе «разам з жаўнерамі» і паабяцаў падумаць пра далучэнне да будучай канфедэрацыі, што дазволіла яму вярнуць войскі ў Інфлянтах пад сваё камандаванне і вызваліць ад шведаў Парнаву. Пад час маршу пад Дынамюнд войска ў Адэльскім касцёле абвясціла аб стварэнні канфедэрацыі. Дзякуючы асабістаму аўтарытэту Хадкевіча на працягу 4 сходаў «жаўнерскага кола» яму ўдавалася трымаць войска пад кантролем. Толькі пасля выканання ранейшых умоў і ажыццяўлення задач ваеннай кампаніі, адразу пасля здачы Дынамюнда 9.10.1609 жаўнеры ВКЛ палічылі свае абавязкі выкананымі, а службу скончанай. У той жа дзень яны сабраліся ў абозе, абвясцілі маршалкам канфедэрацыі Самуэля Казаноўскага і раз'ехаліся. Канфедэраты сабраліся ў Гарадзенскай эканоміі, але пашырылі свае канфіскацыі не толькі на ВКЛ, але на тэр. Польшчы: Куяўскае біскупства, Вышаградскае і Плоцкае стараствы. Хадкевіч на каронным трыбунале ў Пётркаве склаў пратэстацыю, у якой абвінавачваў цэнтр. ўлады ў тым, што яны пакінулі без падтрымкі Інфлянты і іх абаронцаў, пасля чаго ў якасці простага жаўнера далучыўся да Г.к. Актыўная дзейнасць канфедэрацыі прымусіла Княжацкую Прусію прызначыць ім на выплату сваю кварту (30 тыс. злотых), а гнезненскага арцыбіскупа В.Бараноўскага пазычыць дзяржаве на выплаты 15 тыс. злотых. Г.к. пасылала паслоў да свецкіх і духоўных сенатараў Рэчы Паспалітай. У сак. 1610 іх пасольства на чале з падстоліем ВКЛ Мікалаем Глябовічам прыбыла да Жыгімонта III пад Смаленск. Пасол аргументаваў стварэнне Г.к. дазволам гет-

мана і нястачай, якую войска цярпела ў Інфлянтах, і прасіў аплаціць ім службу з 26.9.1608 да 26.9.1609, 6 тыдняў на збор і транспарціроўку на тэатр баявых дзеянняў, узнагародзіць іх дароўнай чвэрццю за штурм Парнавы. Вынікам пасольства стала адпраўка Жыгімонтам III у Гародню стольніка ВКЛ Крыштофа Весялоўскага і пісара ВКЛ Яна Скуміна-Тышкевіча. Іх мэтай было пераканаць Г.к. ўзяць частку аплаты і далучыцца да войск караля пад Смаленскам. Але канфедэраты пагаджаліся толькі на поўны разлік і адмовіліся ўзяць прапанаваныя 49 тыс. злотых ад ВКЛ і 50 тыс. злотых ад Кароны. Няздольнасць дзярж. скарбаў сканцэнтраваць сродкі прыводзіла да таго, што дата разліку некалькі разоў пераносілася: з 11.4.1610 на 10.6.1610, а затым на 7.7.1610. Скарбу давялося выплаціць спачатку 138 773 злотых, а ў кастр.—ліст. — яшчэ 187 377 злотых. У выніку была выплачана ўся сума і 12.11.1610 быў спалены акт Г.к. Скарбы ВКЛ і Польшчы былі вычарпаны, сродкаў на выплату войскам, якія ўдзельнічалі ў інтэрвенцыі ў Маскоўскую дзяржаву, не засталося, але былыя канфедэраты далучыліся да дзярж. войск пад Смаленскам.

*Літ*: Якубаў В.У. Першыя канфедэрацыі войска Вялікага Княства Літоўскага і іх уплыў на сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім у 1604—1608 гадах // Весн. Полацкага дзярж. ун-та. Сер. А. Гуманіт. навукі. 2008. № 7; Naruszewicz A. Historya Jana Karola Chodkiewicza wojewody wileńskiego, hetmana wielkiego W. X. Lit. T. 1. Warszawa, 1805; Volumina legum. T. 2. St. Petersburg, 1859; Archiwum domu Radziwiłłow / Wyd. A.Sokołowski. Kraków, 1885; Archiwum domu Sapiechów. T. 1 / Wyd. A.Prochaska. Lwów, 1892; Wisner H. Litwa wobec rokoszu (1606—1607) // Kwartalnik Historyczny. 1972. Z. 2; Jego ż. Rzeczpospolita Wazów. T. 2. Warszawa, 2004; Filipczak-Kocur A. Konfederacia grodzieńska wojska litewskiego w latach 1609—1610 // Pamiętnik Biblioteki Kornickiej. Kornik, 1981. Z. 18; Ciara M. Konfederacje wojskowe w Polsce w latach 1590—1610 // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1988. T. 31; Urwanowicz J. Wojskowe «sejmiki» kola w wojsku Rzeczypospolitej XVI—XVIII wieku. Białystok, 1996; Augustyniak U. W służbie hetmana i Rzeczypospolitej: klientela wojskowa Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640). Warszawa, 2001.

***Віктар Якубаў.***

**Гарадзенскі абраз Маці Божай Кангрэгацкай** (Студэнцкай). Прывезены з Рыму правінцыялам дамініканцаў і падараваны канцлеру ВКЛ Альбрэхту Станіславу Радзівілу (1623—56). Пасля смерці канцлера абраз дастаўся дамініканцу Куклінскаму, затым Войцеху Жэляроўскаму, а той, ужо будучы цяжка хворым, падараваў яго кангрэгацыі студэнтаў пры Гарадзенскім калегіуме езуітаў у памяць цудоўнага выратавання з-пад рас. варты ў Гарадзенскім замку 2.8. 1661. Па просьбе кангрэгацыі камісія ад віленскага біскупа у складзе канцлера дыяцэзіі Казіміра Вайшняровіча



**Гарадзенскі абраз Маці Божай.**

і пробашча касцёла св. Брыгіты Станіслава Катоўскага апрабавала 108 цудаў абраза, засведчаныя пад прысягай, пасля чаго біскуп Ежы Белазор прызнаў абраз цудатворным. Урачысты перанос абраза з маёнтка Жэляроўскага Кульбакі ў касцёл езуітаў (тады яшчэ драўляны) адбыўся 3.8.1664, у працэсіі ўдзельнічала 5 тыс. чал., ішлі цэхі з харугвамі, бернардзінцы, студэнты. Пратакол з апісаннем цудаў надрукаваны ў 1686 у Вільні, для яго гравюру з гербам Агінскіх выканаў Лявонцій Тарасевіч. Абраз, намаляваны на медным лісце памерамі 22 × 17 см, іканаграфічна з'яўляецца паўторам слыннага абраза Маці Божай Снежнай з рымскай базілікі Санта Марыя Маджорэ, перапрацаваным у раннебарочным стылі пры захаванні характэрных прыкмет пратографа. Высокія мастацкія якасці жывапісу (дакладны малюнак, багаты каларыт, умелае карыстанне святлаценем) можна лічыць пацвярджэннем гіст. легенды пра італьянскае паходжанне абраза. Каля 1731 на прывілеяванай лаве (сталі) у касцёле невядомым мастаком намаляваны 16 сюжэтаў з гісторыі цудатворнага абраза, некаторыя вядомы з выдання 1686, інш., відаць, узяты з рукапіснай кнігі. У 2005 абраз урачыста каранаваны.

*Літ.*: Ярашэвіч А. Цуды абраза Маці Божай Кангрэгацкай // Наша вера. 2005. № 3.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Гарадзенскі Баторыеўскі палац** («Баторыеўка»). Размяшчаўся ў Гародні на ўсх. баку Рыначнай плошчы каля езуіцкага касцёла. Мураваны будынак на гэтым месцы пабудаваны пасля 1579 па загаду караля польскага і вял. кн. літ. Стафана Баторыя. У плане меў форму літары L, гал., доўгім фасадам выходзіў на Рынак. Не выключана, што паводле праектнага плана палац павінен быў мець сіметрычныя бакавыя крылы, з якіх пабудавана толькі адно. Магчыма, аўтарам праекта палаца з'яўляецца каралеўскі архітэктар італьянец Санці Гучы. У 1-й пал. 17 ст. пляц належаў князям Масальскім, з 1680 — Сапегам. Аднак на думку Е.Кавальчыка, палац пабудаваны ў сярэдзіне 17 ст. (магчымы аўтар праекту — Джавані Батыста Джыслені). Двухпавярховы будынак меў вестыбюль з 2 апорнымі слупамі, над ім размяшчалася вял. зала, да якой вяла манументальная лесвіца з 2 крылаў. Усе памяшканні першага паверсе былі скляпеністыя. Планіроўка пакояў на абодвух паверхах анфіладная. На 2-м паверсе цэнтр. месца займала Вял. зала, прызначаная для каралеўскіх прыёмаў. Яна мела 2 каміны пры бакавых сценах, 2 акны, выхад на балкон. Налева быў уваход у Сенатарскі пакой, далей размяшчаліся 1-ы і 2-і каралеўскія пакоі, яшчэ далей (у паўд. крыле палаца) размяшчаліся каралеўская спальня, кабінет, прыбіральня і 2 гардэробы. Направа ад Вял. залы размяшчаліся канферэнцпакой кароннага канцлера і яго спальня. Знешняя аздоба палаца была ў ка-





**Гарадзенскі Баторыеўскі палац** (справа). Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

рынфскім стылі. Дах быў плоскі. З боку дзядзінца першы паверх меў аркады. У 1717—18 прыстасаваны пад каралеўскую рэзідэнцыю ў час правядзення ў Гародні соймаў Рэчы Паспалітай. У гэты час да палаца прыбудавана паўн. крыло, узведзенае, аднак, з дрэва. Адначасова 2 драўлянымі 2-павярховымі пераходамі палац быў злучаны з іншым палацам Сапегаў на вул. Брыгіцкай, дзе адбываліся пасяджэнні Пасольскай Ізбы і Сената (архітэктар Іахім Даніэль Яўх). На першым паверсе пераходаў былі зроблены аркады, на 2-м — шэраг памяшканняў для каралеўскіх дваран і вузкія калідоры. Яшчэ адзін драўляны пераход вёў ад рыначнага пляца праз вул. Брыгіцкую да езуіцкага касцёла. Пасля пераносу ў сярэдзіне 18 ст. пасяджэнняў сойма ў *Гарадзенскі Новы замак* драўляныя пераходы разабраны. У 1765 палац прададзены Бжастоўскім. Быў надбудаваны 3-і паверх, накрыты мансардавым дахам, карынфскія пілястры заменены гладкімі. Каля 1780 разабрана паўн. драўлянае крыло.

*Літ.*: Lileyko J. Przebudowa grodzieńskich pałaców Batoriańskiego i Sapieżyńskiego na gmach sejmowy w 1717—1718 roku // Między Padwą a Zamościem: studia z historii sztuki i kultury nowożytnej ofiarowane Profesorowi Jerzemu Kowalczykowi. Warszawa, 1993; Kowalczyk J. Pałace i dwory późnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

**Гарадзенскі палац Агінскіх.** Пабудаваны ў 1790 паводле праекта архітэктара Караля Шыльтхаўза ў стылі класіцызму з элементамі нар. дойлідства. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з развітымі рызалітамі ў цэнтры гал. і дваровага фасадаў і 4 алькежамі па вуглах. У мураваным першым паверсе знаходзіліся каморы і парадная 2-маршавая лесвіца. Драўляны 2-і паверх уключаў жылыя пакоі, залы, кухні. Асн. аб'ём накрыты высокім 4-схільным дахам. Фасады палаца мелі 2-яруснае вырашэнне. Ніжні ярус (1-ы паверх) масіўны з невял. гладкімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Верхні (2-і паверх) — больш высокі, ажурны, прарэзаны рытмічным радам шырокіх акон з ліштвамі. Рызаліт на гал. фасадзе быў завершаны невял. атыкам, гал. ўваход афармлены стылізаваным порцікам.

*Літ.*: Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. 3 изд. Минск, 1985.

**Гарадзенскі палац Радзівілаў на Рынку.** Шляхам скупкі гар. пля-



**Гарадзенскі Баторыеўскі палац.** Планы паверхаў. Чарцёж пач. 18 ст.




**Гарадзенскі палац Агінскіх.** Рэканструкцыя У.А.Чантурыя. Планы паверхаў.

цаў паўд. часткі Рынка ў канцы 17—1-й пал. 18 ст. Радзівілы авалодалі комплексам будынкаў, якія раней належалі Валовічам (у глыбіні квартала, у Радзівілаў прыкладна з 1683), Масальскім (мсціслаўскі ваявода Міхал Юзаф Масальскі прадаў яго у 1738 Міхалу Казіміру Радзівілу Рыбаньку за 17 тыс. злотых), Сапегам (набыў Радзівіл Рыбанька ў Крысціны з Сапегаў і яе мужа Казіміра Масальскага ў 1751 за 55 тыс. злотых). Вуглавая камяніца Масальскіх па загаду Радзівіла Рыбанькі ў 1738—44 перабудавана пад палац паводле праекта архітэктара Дамініка Фантана, за будаўніцтвам нагляд аў штатны радзівілаўскі архітэктар Аўгусцін Рашковіч. У 1744 інтэр'еры палаца ўпрыгожваў нясвіжскі мастак Ксаверый Дамінік Гескі (гл. ў арт. *Гескія*). Палац у плане нагадваў літару Г, меў 2 крылы, гал. фасад выходзіў на Рынак, дзе ў рызаліце была гал. брама. Франтон рызаліта быў аздоблены гербамі Радзівілаў і Вішнявецкіх, разной арматурай (відаць, як у Нясвіжскім замку). Дах мансардавы. Сцены пафарбаваны ў цялесны колер, абрамленні вокнаў і гзымсы — у шэры колер, пад камень. Праз браму траплялі ў вестыбюль, адтуль улева гал. лесвіца вяла ў палац. У прырынкавым крыле былі прадстаўнічыя залы, у крыле пры вул. Бернардзінскай — княжацкія апартаменты з капліцай і канцылярыяй. Сцены клеткі з гал. лесвіцай пакрыты роспісам (напэўна, аўтарства Гескага). Кафля, ліхтары і жырандолі палаца паходзілі з радзівілаўскіх мануфактур, былі таксама «печкі саксонскія фарфоравыя на чатырох каменных слупках». На 2-м паверсе размяшчалася вял. Партрэтная, зала, сцены якой былі пакрыты паліхромнай размалёўкай. На палацавым дзядзінцы размяшчаліся драўляныя пабудовы. Набыты Радзівіламі ў 1751 суседні палац Сапегаў—Масальскіх палучаўся непасрэдна да палаца Радзівілаў. На час набыцця ён быў занядбаны і заставаўся недаведзеным да ладу. Гэты палац пазначаны на плане горада 1655, складаўся з 3 крылаў.

*Літ.*: Г а р д з е е ў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня; Wrocław, 2008; K o w a l c z y k J. Pałace i dwóry późnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

**Гарадзенскі палац Радзівілаў** на Рынку. План.

**Гарадзенскі палац Радзівілаў** у З а н ё м а н н і. Пабудаваны ў Гародні да 1752 па загаду Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі. Называўся Казіміраўскім. Быў вял., 2-павярховым, выцягнутым ўздоўж будынкам з вял. вестыбюлямі і заламі, шматлікімі пакоямі, злучанымі ў 3- і 4-комнатныя апартаменты, па 4 на кожным паверсе. Найб. прасторнымі былі абедзенная зала, т.зв. публічныя пакоі і вял. зала з 6 вокнамі, што выходзілі на Нёман. Некаторыя пакоі былі ўпрыгожаны роспісамі. Фасады ад дзядзінца і Нёмана ўпрыгожаны выявамі гербаў Радзівілаў і Вішнявецкіх, ваеннага рыштунку. Верагодны аўтар размалёвак інтэр'ераў і экстэр'ераў — Антоніо Франчэска Мелана. Тарцавыя фасады палаца былі ўвенчаны невял. вежамі. Дах мансардавы, з акруглымі вокнамі, накрыты дахоўкай. Пры палацы стаялі 2 афіцыны (памяшканні для шляхетных гасцей), былі разбіты ніжні і верхні сады. Палац разгромлены рас. войскамі ў канцы 18 ст.

*Літ.*: Г а р д з е е ў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня; Wrocław, 2008. С. 210—211; K o w a l c z y k J. Pałace i dwóry późnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

**Гарадзенскі палац Сангушкаў**. У 1704 і 1715 вял. маршалак ВКЛ кн. Павел Караль Сангушка купіў 2 пляцы ў Гародні на вул. Рэзніцкай. У 1725 архітэктар Іахім Даніэль Яўх распрацаваў праект палаца Сангушкаў на гэтых пляцах, які прадугледжваў выкарыстанне існуючай забудовы. Будаўніцтвам, якое скончылася ў 1726, кіраваў Гінтэр. На будоўлі працавалі муляры з Вільні, цесляры з Люрбліна, сталярныя работы выконвалі майстры з Кальбушовы. У 1726 працы па пабудове флігеляў кансультаваў архітэктар Дамінік Фантана. Палацавы комплекс займаў вял. плошчу. Палац размяшчаўся ў глыбіні пляца, што з 3 бакоў быў абкружаны флігелямі. Быў фланкіраваны 2 алькежамі. Да гал. ўваходу вялі «кручаныя» сходы. Фасад быў увенчаны бельведэрам-альтанкай. Па баках ад палаца стаялі флігелі.

*Літ.*: B e t l e j A. Nowe wiadomości na temat pałacu Sanguszków w Grodnie // Przegląd Wschodni. 2000. T. 6. Z. 1 (21); K o w a l c z y k J. Pałace i dwory późnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

**Гарадзенскі палац Сапегаў** на вул. Брыгіцкай. Вядомы з сярэдзіны 17 ст., пазначаны на плане Гародні 1655. У гэты час ужо належаў Сапегам. Уяўляў прамавугольны ў плане будынак з цэнтр. рызалітам з паўд. боку (ад дзядзінца). У пач. 18 ст. ім валодалі Сапегі (відаць, ваявода віленскі Казімір Ян Сапега або яго сын, маршалак ВКЛ Аляксандр Павел Сапега). У 1717—18 пераабсталяваны пад залу пасяджэнняў Пасольскай Ізбы і Сената ў час правядзення ў Гародні соймаў Рэчы Паспалітай. Гал. ўваход у палац быў з Бернардзінскай вул. На першым паверсе знаходзіліся вял. вестыбюль, за якім размяшчалася лесвічная клетка з двухкрылымі сходамі, якія вялі да верхнага вестыбюля. З яго ў правы бок вёў уваход у залу Пасольскай Ізбы, а ў



левы — у залу Сената. Пасольская Ізба ў плане была блізкая да квадрата, мела 10 акон (па 3 на кароткіх баках і 4 на доўгім ад уваходу). Тут знаходзіўся стол для падрыхтоўкі соймавых дакументаў, перад ім — крэсла соймавага маршалка, вакол знаходзіліся 3 рады лавак для соймавых паслоў, размешчаныя амфітэатрам. Зала Сената мела абрысы 3-нефавай базілікі, пры гэтым з бакавых «нефаў» выйсці ў гал., больш высокі, можна было праз 5 арак. Над аркамі размяшчаліся 10 акон, у кароткім баку залы былі 4 акны, ля супрацьлеглай сцяны стаяў каралеўскі трон. Адсюль вялі ўваходы ў пакой для канферэнцый і прыбіральню. У палацы размяшчаліся канцылярыя і дапаможныя службы. Двума драўлянымі 2-павярховымі пераходамі ён быў злучаны з палацам Сапегаў на Рыначнай плошчы, прыстасаваным пад каралеўскую рэзідэнцыю (гл. *Гарадзенскі Баторыеўскі палац*). У 1726 па загаду караля Аўгуста II інтэр'еры палаца нанава аздоблены архітэктарам Іаганам Даніэлем Яўхам. Пасля пераносу ў сярэдзіне 18 ст. пасяджэнняў сойма ў *Гарадзенскі Новы замак* драўляныя пераходы разабраны, аднак сам палац да пач. 19 ст. знаходзіўся ў нязменным выглядзе.



1



2

**Гарадзенскі палац Сапегаў**: 1 – зала Сената (малюнак 1726); 2 – выгляд збоку, план (малюнак пач. 18 ст.).

*Літ.*: L i l e y k o J. Przebudowa grodzieńskich pałaców Batoriańskiego i Sapiezyńskiego na gmach sejmowy w 1717—1718 roku // Między Padwą a Zamościem: Studia z historii sztuki i kultury nowożytnej ofiarowane Profesorowi Jerzemu Kowalczykowi. Warszawa, 1993; K o w a l c z y k J. Paace i dwory późnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

**Гарадзенскі палац Тызенгаўза.** Пабудаваны ў 1760—70-я г. ў прадмесці Гародні Гарадніцы па загаду Антонія *Тызенгаўза* (архітэктары Іозеф Мёзер, Джузепе Сака, мастакі Пётр Гежыдовіч, Лукаш Хібель, Антоній Грушэцкі, Фолвіль). Выкананы ў стылі барока, аднак некаторыя элементы і прыёмы аздаблення запазычаны з ракако (апрацоўка фасадаў рустам, убранне інтэр'ераў). Пастаўлены як гал. будынак на новай плошчы Гарадніцы, палац вызначаў яе цэнтр. ролю ў архітэктурным ансамблі. Трапецападобная канфігурыцыя палаца ўтварала парадны двор, шырока раскрыты на плошчу. За палацам распалагаўся вял. парк. Аднапаварховы доўгі будынак у цэнтр. часцы меў анфіладную сістэму плана, а ў бакавых крылах — калідорную. Планіроўка палаца не вызначалася дакладнасцю і кампазіцыйнай дасканаласцю. Можна меркаваць, што асн. ўвага была аддадзена вонкавай кампазіцыі, а план прывязваўся да яе. Гал. фасад быў раскрапаваны здвоенымі рустападобнымі лапаткамі, ляпнінай. Меў завяршэнне ў выглядзе авальнага ў плане бельведэра з купалам над гал. ўваходам. Інтэр'еры ўпрыгожаны распіснымі плафонамі, мармуровымі камінамі. Быў пакрыты высокім вальмавым дахам. Палац з пач. 19 ст. служыў рэзідэнцыяў для гродзенскіх губернатараў. Разбураны ў 1915.

*Літ.*: К в и т н и ц к а я Е.Д. Строительство Тызенгауза в Гродно // Архитектурное наследство. М., 1958. Вып. 11; Ч а н т у р и я В.А. История архитектуры Белоруссии. 3 изд. Мінск, 1985. С. 157—158; К а л н и н В.В. Городница — городской ансамбль XVIII века // Строительство и архитектура Белоруссии. 1988. № 4.

**Гараін** Аляксандр (1734—15/16. 11.1788), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Міхала Антонія, старасты новамлынскага, войскага і пісара гродскага



віленскага. Віленскі падстолі ў 1760—65, падваявода ў 1764—68, войскі ў 1765—88, сурагатар гродскі з 1766. Пасол на соймы 1756, канвакацыйны 1764 (выбраны люстратарам каралеўскіх маёнткаў у Віленскім ваяв.), каранацыйны 1764 (выбраны ў камісію па размежаванні Пенянскага і Купішскага старастваў), 1766 (выбраны ў склад камісіі па рэвізіі кароннага скарбу), 1768, 1773—75; дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1756. Пасля смерці Аўгуста III (1763) далучыўся да Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764. З 1781 валодаў б. езуіцкім маёнткам Касцяневічы ў Ашмянскім пав. Быў атручаны.

**Гараін** Аляксандр Казімір (1685, мяст. Касцяневічы Ашмянскага пав.—24.7.1774), дзеяч каталіцкай царквы. Сын Фларыяна Казіміра, падчашага ваўкавыскага, брат Я.А.*Гараіна*, пляменнік жамойцкага біскупа А.М.*Гараіна*. Скончыў Віленскую акадэмію, дзе атрымаў ступень доктара тэалогіі. Пробашч у Немянчыне пад Вільняй, пасля перайшоў у Жамойць, дзе карыстаўся падтрымкай свайго дзядзькі-біскупа. Канонік і прэлат кафедральнага капітула ў Ворнях, з 1719 біскуп-суфраган жамойцкі, з 1730 (пасвячоны ў 1732) тытулярны біскуп герненскі. Пасля смерці Аўгуста II (1733) падтрымліваў Станіслава Ляшчынскага. З яго падзеннем быў вымушаны пераехаць у Прусію, меў рэзідэнцыю ў Тыльзіце, адкуль кіраваў Жамойцкай дыяцэзіяй ад імя свайго дзядзькі. У 1736 вярнуўся. Дапамагаў наступным жамойцкім біскупам — Ю.М.Карпу і А.Тышкевічу. Доўгі час змагаўся з біскупам-суфраганам Е.К.*Анцутам* за пасаду архідыякана віленскага, атрымаў яе ў 1737 дзякуючы рашэнню спец. камісіі, прызначанай Рымам. Ад віленскага біскупа М.Я.Зянковіча атрымаў пасаду генеральнага візітатара. Быў правізарам Віленскай семінарыі. Удзельнічаў у працы сойма 1738. У 1760-х г. падтрымліваў групоўку Чартарыйскіх, дзякуючы іх пратэкцыі ў 1762 атрымаў пасаду рэферэндара духоўнага ВКЛ. Пасля смерці Аўгуста III (1763) далучыўся да Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764, садзейнічаў абранню на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1773 праводзіў працэс скасавання ордэна езуітаў у Віленскай дыяцэзіі.

**Гараін** Аляксандр Мікалай (30.3.1651, Лыскава—7.12.1735), дзеяч каталіцкай царквы. З 1678 святар. Займаў пасады кусташа і афіцыяла віленскага, пробашча геранёнскага, у 1704—11 біскуп-суфраган віленскі (тытулярны біскуп тыберыядскі), у 1711—16 біскуп смаленскі, з 1716 біскуп жамойцкі. Прыклаў шмат намаганняў для ўладкавання дыяцэзіі. Пасля смерці караля польск. і вял. кн. літ. Аўгуста II (1733) не здолеў наладзіць нармальныя стасункі з камандзірамі рас. войск у Жамойці і выехаў у Прусію, а дыяцэзіяй кіраваў праз свайго пляменніка А.К.*Гараіна*. Памёр у Шылгалу ў Прусіі, пахаваны ў Ворнях. Аўтар твора «Кніга св. Юзафа пра розныя брацтвы» («Księga św. Józefa o wszelakich bractwach», Вільня, 1734).

**Гараін** Міхал Пётр (каля 1729—30.8.1769), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын Я.А.*Гараіна*, брат Я.Н.*Гараіна*. Віленскі стражнік у 1746—48, гараднічы ў 1748—65, падкаморы з 1765; генерал-ад'ютант Булавы польнай з 1753, секунд-оберштлейтэнант рэгамента Булавы вялікай ВКЛ з 1761. Пасля смерці Аўгуста III (1763) далучыўся да Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764, удзельнічаў у абранні на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1764—68 чл. Вайсковай камісіі ВКЛ. У 1768 далучыўся да Барскай канфедэрацыі, паўстаўшая шляхта ў 1769 выбрала яго маршалкам Віленскага пав. 14.8.1769 выдаў маніфест да Браслаўскага пав. з заклікам да паўстання. Загінуў у баі з царскімі войскамі пад Гадуцішкамі каля Паставаў.

**Гараін** Ян Антоній (1686—31.7.1777), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Фларыяна Казіміра, падчашага ваўкавыскага, брат А.К.*Гараіна*. З 1725 харужы пяцігорскі, потым віленскі пісар гродскі ў 1727—30, падчашы ў 1730—48, падваявода ў 1730—34 і 1745—48, сурагатар гродскі ў 1744—45, гараднічы ў 1746—48, дзераўнічы ў 1747—57, падкаморы ў 1748—64. Дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1725 і 1752. Пасол на соймы 1729 і 1733, на апошнім падтрымаў абранне на трон Станіслава Ляшчынскага, потым з яго прыхільнікамі ў эміграцыі ў Каралячы (меў тытул маршалка двара Ляшчынскага). Пасля вярнуўся і далучыўся да лагера Чартарыйскіх, дзякуючы чаму стаў дзяржаўцам рыканцішскім і лаварышскім, актыўна ўдзельнічаў у паліт. жыцці. Абіраўся пасламом на соймы 1738, 1740, 1744, 1746, 1748, 1750, 1754, 1761, 1762. Пасля смерці Аўгуста III (1763) далучыўся да Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764. Удзельнічаў у працы канвакацыйнага, элекцыйнага і каранацыйнага соймаў 1764, удзельнічаў у абранні на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага, ад якога ў 1764 атрымаў пасаду берасцейскага кашталяна, а ў 1768 — ваяводы. Быў старастам зелаўскім, ваўкавыскім (з 1773). У 1766—68 чл. Вайсковай камісіі ВКЛ. Далучыўся да Барскай канфедэрацыі, рыхтаваў у ВКЛ паўстанне супраць лагера караля і рас. войск, пасля далучыўся да войск Пуласкіх, удзельнічаў у абвяшчэнні Генеральнай канфедэрацыі абодвух народаў. Пасля паражэння канфедэрацкіх войск у эміграцыі ў Прусіі, Сілезіі, Гданьску. Сыны Г. — М.П.*Гараін* (паўстанец 1768—69) і Я.Н.*Гараін* (паўстанец 1794).

**гарбарства**, рамяство па вырабу скур для пашыву абутку, вырабу вупражы, сёдлаў, рэчаў хатняга ўжытку. Як самастойны від рамяства склалася ў эпоху Кіеўскай Русі, што зафіксавана ў пісьмовых крыніцах, адлюстравана ў вусна-паэтычнай творчасці, прасочана археалагічна. У пісьмовых крыніцах ВКЛ слова «гарбар» («кгарборъ», рамеснік, які займаецца Г.) упершыню згадваецца ў 1536, паходзіць ад сярэдняверхненямецкага gerber праз польск. пасрэдніцтва (garbarz). Разам з тым існавалі тэрміны «кажамяка» і «сырамятнік» (фіксуюцца з 1509), «скорнік», «усмар», а таксама тэрміны для пазначэння гарбароў вузкай спецыялізацыі: «замшнікі» (выраблялі замшу), «саф'яннікі» (выраблялі саф'ян), «*баўтушнікі*» (выраблялі аўчыны), «беласкурнікі» (выраблялі белыя скуры без фарбавання). Паводле пісьмовых крыніц 17—18 ст., у ВКЛ выраблялiся скуры юхтавыя, ялавічныя, валовыя, барановыя, казліныя, ялавічныя, пад'ялавыя,



цялячыя. Гарбары ў Магілёве падзяляліся на майстроў, «которые робят скоры дубленые, скоры дубленые жолтые, и чырвоные, и чорные», тут былі таксама кажамякі і баўтушнікі. Першая выява, на якой адлюстравана работа гарбароў, змешчана на гравюры з Гародні 1568, дзе паказана, як 3 майстры займаюцца апрацоўкай скур. Сыравінай для гарбарнай справы служылі скуры свойскай буйной і дробнай рагатай жывёлы, радзей — скуры дзікіх жывёл: лася, аленя, казулі. У меншай ступені выкарыстоўваліся скуры коней і свіней. Тэхналогія апрацоўкі першаснай сыравіны ўключала ў сябе наступныя аперацыі: адмочванне скур, заленне ў вапнавай рошчыне, мяздрэнне — пазбаўленне рэшткаў жывёльнага тлушчу і мяса, старанная прамыўка, выдаленне попелу і наданне мяккасці кісялём — «квашэнне ўсніе», дубленне, прапітка тлушчам — дзёгацем або ворванню. Сляды Г. у выглядзе скапленняў абзоленай поўсці каля некаторых пабудоў выяўлены ў Полацку, Менску, Слуцку, Гародні, Віцебску ў напластаваннях 13 ст. і больш позняга часу. У Полацку і Віцебску ў напластаваннях 13 ст. знойдзены спец. нажы для зняцця мяздры — стругі, або тупікі. Часам у некаторых гарадах падчас раскопак сустракаюцца касцяныя лашчылы, якія выкарыстоўваліся для выглажвання ўнутранай і паліроўкі знешняй паверхні скуры. Для гэтай жа мэты маглі ўжывацца і гладкія камяні круглай альбо авальнай формы. Такія камяні сустракаліся ў раскопках на Верхнім і Ніжнім замках Віцебска, у Клецку і Капылі. Спрасаванне скуры адбывалася з дапамогаю даўбешак, якіх толькі на Верхнім замку Віцебска было знойдзена больш за 20. Такія даўбешкі вядомы і па раскопках Ніжніх замкаў у Віцебску, Гародні, Слуцку, Полацку. У культ. пласце некаторых гарадоў часам сустракаюцца шышкі елкі, сасны, альхі, якія, паводле этнаграфічных назіранняў, выкарыстоўваліся пры дубленні скур і з'яўляліся натуральным фарбавальнікам у карычневы колер. Паводле фізіка-механічных і хімічных аналізаў, што праводзіліся па скураных вырабах 14—18 ст. з раскопак Віцебска, устаноўлена, што ўзоры скураной вытворчасці з Віцебска адпавядаюць стандартам сучаснай высакаякаснай юхты. Г., як від рамесніцкай дзейнасці, было характэрна ў асн. для гарадоў (замкаў) і мястэчак. У сельскай мясцовасці яно існавала, як правіла, у відзе хатніх промыслаў сялянін. Мяркуецца, што ў 1-й пал. 16 ст. ў Вільні ўзнік рамесны цэх гарбароў. У канцы 16 ст. ў Вільні вядома правасл. мядовае брацтва гарбароў пры царкве Св. Тройцы, потым узнікла аналагічнае каталіцкае брацтва. Цэхі гарбароў вядомы таксама ў Магілёве (замшнікаў з 1594; гарбароў з 1625, да 1632 у гэты цэх уваходзілі таксама рымары і седляры), Слуцку (кажамяцкі цэх існаваў з канца 16 ст., саф'яннікаў і гарбароў — узнік да 1619), Клецку (1-я пал. 17 ст.), Бярэсці (1640). У 2-й пал. 18 ст. фіксуюцца гарбарныя мануфактуры ў Гародні, Крычаве, Шклове, Магілёве (прадмесце Лупалава). У 1770-х г. у Магілёве дзейнічала каля 66 гарбарных майстэрняў. Да 40% цэхавых рамеснікаў Магілёва займаліся апрацоўкай скур і футра і пашывам вырабаў з іх. Прадукцыя магілёўскіх і віцебскіх майстроў, акрамя задавальнення мясцовага попыту, збывалася ў Маскву, Вільню, Варшаву, Рыгу, Украіну.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Гарбарнае рамяство старажытнага Полацка // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1961. № 3; Я г о ж. Шавецкае рамяство старажытнага Полацка // Там жа. 1962. № 3; Г а р б а ч ы к М.Р. Аб адной лексіка-семантычнай групе слоў старабеларускай мовы, звязаных з апрацоўкай скуры і вырабам з яе // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1992. № 1; Дук Д., С о л о в ь е в А. Кожевенно-сапожное ремесло Полоцка XVI—XVIII вв.: (по итогам археологического надзора на территории Великого посада в 2000—2002 гг.) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2004. № 19.

***Леанід Калядзінскі.***

**Гардына** Ігнацы (20.8.1710, Беларусь—3.4.1757), дзеяч каталіцкай царквы. У 1726 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вывучаў у Вільні філасофію (1728—31) і тэалогію (1734—38). Місіянер ва Ужанцы каля Нясвіжа (1739—40), праф. этыкі ў Вільні (1744—45), прэфект школы ў Навагародку (1746—47), прапаведнік і прэфект б-кі ў Менску (1747—50), Слоніме (1750—51), Пінску (1752—53), прэфект школы і б-кі ў Оршы (1753—55). Апублікаваў «Казанне на вітанне Трыбунала ВКЛ» («Kazanie na powitanie JO Trybunału W. Xięstwa Litewskiego», Вільня, 1745).

**Гартман фон Гальдрунген** (Hartmann von Haldrungen; каля 1200—19.8.1282), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1273—82. Паходзіў з цюрынгскага рыцарскага роду ўладальнікаў маёнтка Гальдрунген. Пасля смерці бацькі стаў нашчадкам усіх яго ўладанняў, у 1234 уступіў у Тэўтонскі ордэн (як і яго малодшы брат Герман). У 1238 стаў комтурам Саксоніі. Мяркуецца, што належаў да прыбліжаных вял. магістра Конрада з Цюрынгіі. Удзельнічаў у перагаворах пра далучэнне ордэна мечаносцаў да Тэўтонскага ордэна, пра што пакінуў рэляцыю. Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці ордэна, атрымаў пасады вял. комтура і намесніка вял. магістра Ана фон Зангерсхаўзена, пасля смерці якога быў выбраны вял.



Да арт. **Гарбарства**. Гарбары ў Гародні. Фрагмент медзярыта М.Цюнта. 1567.




**Гартман фон Гальдрунген**.

магістрам. Праводзіў актыўную палітыку ў Палесціне і Прыбалтыцы. У Памор'і ордэн атрымаў ад мясцовых князёў Белагард і Гнеў, у Прусіі было канчаткова падаўлена вял. паўстанне прусаў і насаджалася нямецкая каланізацыя, пачалося наступленне на надруваў і скальваў, якія былі пакараны ў 1274— 77, потым — на Судаву (заваявана ў 1283). Бежанцаў-прусаў вял. кн. літ. Трайдзень пасяліў у Гародне і Слоніме. Мяркуецца, што скальвы пасяліліся ў Жамойці, надрувы — ва ўсх. Літве. У 1274 крыжакі пабудавалі замак Дзюнабург на Зах. Дзвіне. Трайдзень расцаніў гэта як акт агрэсіі супраць Літвы і пачаў яго аблогу, якая, аднак, скончылася беспаспяхова. У 1277 літ.-яцвяжскае войска разбурыла крыжацкі горад Кульм, у 1279 крыжакі дайшлі да літ. г. Кернаў, але пацярпелі паражэнне ў *Ашэрадэнскай бітве 1279*. У 1281 літ. войска разрабавала прускую зямлю Самбію.

**Гаршвіла** Крыштоф (25.7.1671, Лідскі пав.—21.4.1721), дзеяч каталіцкай царквы. У 1687 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1700 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Вільні (1701—02) і Гародні (1702—03), філасофіі ў Варшаве (1704—06) і Вільні (1706—09), праф. тэалогіі і прэфект школы ў Варшаве (1709—12), праф. тэалогіі і кананічнага права ў Вільні (1712—17), рэктар Полацкага калегіума (1717—20), Віленскай акадэміі (1720—21). Аўтар драмы «Exilium sapientis in Dionysio», пастаўленай у Вільні ў 1696. У рукапісах засталіся яго лекцыі па філасофіі.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992; Okoń J. Dramat i teatr szkolny: Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970; Piechnik L. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987; Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**гарэлка**, моцны алкагольны напітак, сумесь рэктыфікаванага этылавага спірту з вадой. З'явілася ў ВКЛ на мяжы 15 і 16 ст. з Германіі, як сведчыць і пачатковая назва — «віно гарэлае» (калька з нямецкага «geprant Wein»). Падобным чынам называлі Г. ва ўсіх народаў, што ўваходзілі ў Рэч Паспалітую — палякаў, украінцаў, літоўцаў і інш. Да 17 ст. была адносна дарагой і маладаступнай, аднак па меры адноснага змяншэння выдаткаў на яе вытворчасць паступова выцясняла піва і асабліва пітны мёд, з канца 17—пач. 18 ст. заняўшы месца асн. алкагольнага напітка. У залежнасці ад ступені дыстыляцыі утрыманне спірту ў ёй вагалася ад 15—20% (т.зв. простая) да 70% (акавіта). Папулярнымі напоямі шляхты былі розныя лікёры, настойкі і наліўкі на аснове Г., з дадаткам зёлак, мёду, спецый, ягад, цукру — зуброўка, крупнік, крамбамбуля, траянка і г.д. Г., вытрыманая ў дубовых бочках на працягу 5—10 гадоў, называлася старка. Асн. сыравінай для вырабу Г. доўгі час было жыта, у т.л. у форме соладу, аднак з 1830-х г. спірт і Г. пачалі атрымліваць пераважна з бульбы, што рэзка знізіла яе сабекошт, а разам з тым і якасць (Г. з бульбы цяжка ачысціць ад сівушных алеяў). Рытуальная роля Г. у традыцыйных абрадах бел. сялянства (вяселле і інш.) усталявалася параўнальна нядаўна, прыкладна ў 18 ст. ***Алесь Белы.***

**Гасковіч** Андрэй (?, Вільня— 1491), дзеяч каталіцкай царквы. З шляхецкага роду герба «Шаліга», сын Пятра. У 1443 паступіў у Кракаўскую акадэмію, дзе атрымаў навук. ступені бакалаўра (1446) і магістра (1450). У 1460 упамінаецца як магістр Андрэй з Вільні, канонік віленскі, у 1461 доктар дэкрэтаў, у 1466 названы доктарам духоўнага права і канонікам, у 1469 архідыякан віленскі. У 1473 упаўнаважаны вял. кн. літ. Казіміра пры размежаванні ВКЛ і Інфлянтаў. Пасля смерці віленскага біскупа Яна Ласовіча выбраны капітулам у 1481 на пасаду біскупа, што пацвердзіў рымскі папа Сікст VI. Відаць, быў стаўленікам Казіміра. Значнай паліт. актыўнасці не праяўляў. Павялічыў зямельныя ўладанні біскупства шляхам скупкі земляў баяр. Вёў вострыя спрэчкі з Віленскім капітулам з-за падзелу некаторых даходаў; яны былі ўлагоджаны спец. камісіяй, створанай Казімірам.

**Гастунскі** (Астовіус, Багемус; Hostounský, Ostovius, Bohemus) Бальтазар (1534 або 1535, Горсаўскі Тын, Чэхія—7.6.1600), дзеяч каталіцкай царквы. У 1555 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў, з 1562 ксёндз. Вывучаў філасофію і тэалогію ў «Калегіум раманум» у Рыме. У 1563 з папскім нунцыем Ф.Камендоне прыбыў у Польшчу, дзе рыхтаваў глебу для прыезду езуітаў. З 1565 віцэ-правінцыял першых польск. калегіумаў, выкладаў матэматыку, грэчаскую мову, дыялектыку. З 1569 займаўся арганізацыяй калегіума ў Вільні, у якім потым выкладаў палемічную тэалогію. Удзельнічаў у дыспутах з пратэстантамі. З 1572 у Чэхіі. Аўтар шматлікіх тэалагічных прац на чэшскай мове, пераклаў на яе творы А.Пасевіна і С.Гозія.

*Літ.*: Piechnik L. Początki Akademii Wileńskiej, 1570—1599. Rzym, 1984.

**Гасюк** Мікалай, беларускі гравёр па шкле 18 ст. Родам з в. Налібакі (цяпер у Стаўбцоўскім р-не). У 1766 гал. рысавальшчык Налібоцкай шкляной мануфактуры Радзівілаў. Гравіраваў кубкі, кілішкі, бакалы, кварты і інш.

**Гатэй** (Gattey, Gatey) Пётр Францішак (17.3.1742, г. Соль, Францыя—каля 1774), астраном. У 1758 уступіў у ордэн езуітаў. Пасля забароны ордэна ў Францыі ў 1762 прыбыў у Рэч Паспа-



літую. У 1763—70 вывучаў у Віленскай акадэміі філасофію і тэалогію, адначасова з 1766 выкладаў французскую мову, матэматыку, займаўся астраноміяй. З 1772 праводзіў астранамічныя назіранні, удзельнічаў у вымярэнні Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам М.Пачобута-Адляніцкага. У 1774 сур'ёзна захварэў і з'ехаў у маёнтак Шадурскіх у Інфлянтах, дзе і памёр. Напісаў на французскай мове «Крытычны катэхізіс» («Catechisme critique», Вільня, 1774), які ў польск. перакладзе выкарыстоўваўся ў школах *Адукацыйнай камісіі*.

**Гаўдэмунда** (?—1288), княгіня мазавецкая, жонка мазавецкага князя Баляслава II. Дачка літ. кн. Трайдзеня. Шлюб адбыўся ў 1279, пры гэтым Г. была ахрышчана і атрымала імя Соф'я. Баляслаў каля 1274—75 атрымаў Плоцкі ўдзел з рук свайго старэйшага брата, чэрскага кн. Конрада II. Пасля смерці апошняга ў 1294 Баляслаў стаў і чэрскім князем. У шлюбе з Г. меў сыноў Земавіта II і Трайдзеня I (названы ў гонар дзеда).

**Гаўрыіл** Крамянецкі [свецкае Рыгор Фёдаравіч; 20.11(1.12). 1711, мяст. Насоўка Кіеўскага палка—9(20).9.1783], дзеяч праваслаўнай царквы. Нарадзіўся ў сям'і войта мяст. Насоўкі. Вучыўся ў Кіеўскай духоўнай акадэміі, з 1732 — у Харкаўскім вучылішчнай калегіі, з 1733 — у Маскоўскай славяна-лацінскай акадэміі. З 1736 выкладаў у Аляксандра-Неўскай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу. У 1739 прыняў манаства, з 1743 рэктар семінарыі. З 1748 архімандрыт Новаспаскага манастыра, чл. Свяцейшага Сінода. З 1749 епіскап каломенскі і кашырскі, з 1755 епіскап казанскі і свіяжскі, з 1762 архіепіскап санкт-пецярбургскі і шлісельбургскі, з 1770 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. У Кіеў прыбыў у 1772. Пад юрысдыкцыяй Г. знаходзілася і правасл. царква Рэчы Паспалітай. Дакладна выконваў распараджэнні рас. улад па кіраванні мітраполіяй. Шмат клапаціўся пра Кіева-Магілянскую акадэмію, пабудаваў каменны корпус для бурсы, склаў першую інструкцыю па ўтрыманні вучняў.



**Гаўрыіл** Крамянецкі.

Удзельнічаў у судзе над мітрапалітам Арсеніем *Мацеевічам*.

**Гашкоўскі** (Gorzkowski) Мікалай (Мікалай з Гошкава; каля 1350—1414), дзеяч каталіцкай царквы. З шляхецкага роду герба «Геральт» з Прашкоўскай зямлі каля Кракава. Вучыўся ў Пражскім ун-це, дзе атрымаў навук. ступені бакалаўра (1370) і магістра вызваленых навук, бакалаўра (да 1382) і д-ра (1386) кананічнага права. З 1397 дэкан касцёла св. Фларыяна ў Кракаўскай акадэміі, з 1398 афіцыял кракаўскага біскупа, быў канонікам Кракаўскага капітула і кусташам Сандамірскага калегіяцкага касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі. У 1398 каралева Ядвіга і Ягайла прапанавалі яго кандыдатуру на пасаду віленскага біскупа пасля смерці біскупа Андрэя, аднак вял. кн. літ. Вітаўт, не жадаючы ўзмацнення ў Вільні пазіцый кракаўскага каралеўскага двара, быў рашуча супраць, і біскупам стаў Ян Пліхта. Г. стаў праф. юрыд. факультэта Кракаўскай акадэміі, яго дэканам, у 1402—03 рэктар акадэміі. Пасля смерці Пліхты Вітаўт даў згоду на прызначэнне Г. віленскім біскупам (1407). Дамогся ад Вітаўта новых прывілеяў на карысць біскупства і кафедральнага касцёла. Садзейнічаў навучэнню ў Кракаўскай акадэміі выхадцаў з ВКЛ (Вільні, Трокаў, Ашмянаў). Быў адным з гарантаў *Гарадзельскага прывілея 1413*, замацаваў сваёй пячаткай акт польск. шляхты, якая прымала ў сваі гербавыя брацтвы шляхту ВКЛ у час заключэння *Гарадзельскай уніі 1413*. У гіст. л-ры Г. часам памылкова называюць Бяркоўскім, Баркоўскім.

**гвардыян** (ад лац. guardianus ахоўнік), настаяцель кляштара (кансента) у манаскім ордэне *францысканцаў* і яго адгалінаванні — ордэне *бернардзінцаў*. Выбіраўся на правінцыяльным капітуле на пэўны час, звычайна на 3—6 гадоў.

**геаграфія**, комплекс навук аб Зямлі. Вял. ўвагу ўдзялялі геаграфічным аб'ектам (асабліва рэкам), экстрэмальным з'явам надвор'я стараж.-рус. летапісцы. На Русі былі вядомы візантыйскія геаграфічныя творы. Гэтыя веды перайшлі ў ВКЛ, выкарыстоўваліся ў бел.-літ. летапісах. Інтарэс да вывучэння Г. ў ВКЛ значна вырас у 16 ст. ў сувязі з больш інтэнсіўным развіццём гандлёвых зносін з Зах. Еўропай. З гэтага часу пачалі абмяркоўвацца планы злучэння басейнаў Дняпра і Зах. Дзвіны, Бярэзіны і Нёмана, Прыпяці і Зах. Буга. Апісаннем геаграфічных аб'ектаў займаліся рэвізоры і каморнікі ў час правядзення валочнай памеры, якія складалі рэестры (інвентары) феад. уладанняў. Шмат геаграфічных звестак пра землі ВКЛ даў у сваіх працах М.*Стрыйкоўскі*. Практычнае веданне геаграфічных рэалій патрабавалася пры складанні мірных дагавораў, у якіх пазначаліся трасы граніц ВКЛ з суседнімі дзяржавамі (Масковіяй, Інфлянтамі, Польшчай). Значным дасягненнем геаграфічная навукі ВКЛ было выданне т.зв. Радзівілаўскай карты ВКЛ (каля 1603; 2 выд. 1613). Паглыбленыя геаграфічныя і прыродазнаўчыя даследаванні патрабаваліся пры пракладцы *Агінскага канала* (1760—80-я г.) і *Каралеўскага канала* (1770—80-я г.). У 18 ст. у Рэчы Паспалітай з'явіліся спецыялізаваныя выданні па Г. краіны. У 1721 на лац. мове выдадзена кн. Г.Жанчынскага «Гісторыя займальных прыродных з'яў Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага». Г. як вучэбная дысцыпліна выкладалася ў Віленскай акадэміі, інш. езуіцкіх і піярскіх навучальных установах, часта ў спалучэнні з гісторыяй Рэчы Паспа-



літай. У сярэдзіне 18 ст. цікаўнасць да Г. вырасла, пачало друкавацца шмат календароў са звесткамі па Г. краіны і замежнай. У 1737 у Варшаве Стафан Міхал Пузына (гл. ў арт. *Пузыны*) выдаў першы геаграфічны нарыс у Рэчы Паспалітай «Кароткае апісанне чатырох часцей свету» («Krótkie opisanie czterech części świata»). У 1743 Казімір Алойзы *Галоўка* выдаў у Вільні падручнік «Кампендыюм геаграфіі» («Compendium geographiae»), напісаў геаграфічны нарыс Рэчы Паспалітай (перавыдаваўся 5 разоў з 1757 у дадатку да практычнай энцыклапедыі Я.К.Гаўра «Агульная эканоміка землеўласніка»), склаў геаграфічныя табліцы і карты, у т.л. ВКЛ («Chartae geographicae Galliae, Germaniae, Majoris Poloniae et M. Duc. Lithuaniae», 1750, не захавалася). Папулярны падручнік геаграфіі «Еўропа, з частак свету першая апісаная» («Europa z części świata najprzedniejsza», Варшава, 1754) выдаў Францішак *Папроцкі*. Асаблівай папулярнасцю карысталася абагульняльная геаграфічная праца Караля *Вырвіча* «Сучасная геаграфія» («Geografia czasów terazniejszych», т. 1, Варшава, 1768, забаронена да продажу паводле патрабавання рас. пасла М.В.Рапніна; 2 выд. Вільня, 1794) і яе скарочаная версія «Усеагульная геаграфія» («Geografia powszechna», Варшава, 1770, 3 выд. 1794). У 1766 у Вільні выдадзена першае ў Рэчы Паспалітай даведачнае выданне па Г. — праца Іларыёна *Карпінскага* «Геаграфічны лексікон для грунтоўнага разумення газет і гісторыі з розных аўтараў сабраны, перакладзены і напісаны» («Lexykon geograficzny dla gruntownego pojęcia gazet i historii z różnych awtorów zebrany, przetłumaczony i napisany»). Геаграфічныя аб'екты ВКЛ адзначаны і ў польск. перакладзе англійскага слоўніка Лорэнса Эчарда «Геаграфічны слоўнік» («Dykcyonarzyk geograficzny, czyli Opisanie królestw, prowincyi, biskupstw, xięstw, hrabsłw, margrabstw, portów, fortec y innych mieysc znacznieyszych w czterech częściach świata», т. 1—3, Варшава, 1782—83), пры гэтым былі дададзены звесткі пра некаторыя аб'екты, якія адсутнічалі ў арыгінале. З заснаваннем у Віленскай акадэміі астранамічнай абсерваторыі з 1777 пачаліся сістэматычныя назіранні за тэмпературай паветра. Захаваліся журналы назірання за надвор'ем, якія вяліся ў Лыскаўскім кляштары місіянераў, Полацкім кляштары дамініканцаў.

*Літ.*: Беляев И.Д. О географических сведениях в древней Руси // Зап. Императорского Русского Географического Общества. Санкт-Петербург, 1852. Кн. 6; Вашкевич А.Е. Использование географических словарей в исторических исследованиях // Здабыткі. Мінск, 2008. Вып. 10; Lipko S. Podręczniki geografii w szkolach polskich XVIII w. // Rozprawy z dziejów oświaty. Warszawa, 1966. Т. 9; Яго ж. Nauczanie geografii w okresie Komisji Edukacji Narodowej. Warszawa, 1973; Puchowski K Edukacja historyczno-geograficzna w kolegiach pijarskich i jezuickich w I Rzeczypospolitej // Wkład pijarów do nauki i kultury w Polsce XVII—XIX w. Warszawa, 1993; Decyk W. Leksykon geograficzny Hilariona Karpińskiego (Wilno, 1766) jako przedmiót badań historyczno-językoznawczych: Zarys problematyki // Prace filologiczne. Warszawa, 2002. Т. 47.

**Гедройцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ. Звязаны з групай князёў *Гедройцаў*. Першапачаткова, у 14—15 ст., яны мелі ўладанні на Пн ад Вільні да Відзянішак. Мяркуецца, што ў канцы 14 ст. ўладанне («княства») Гедройцаў было пазбаўлена элементаў самастойнасці, ім цалкам маглі распараджацца вял. князі літоўскія. У 16 ст. уладанні Гедройцаў значна пашырыліся на Пн. і У, дайшлі да інфлянцкай граніцы. Род Гедройцаў моцна разгалінаваўся, яго прадстаўнікі пачалі карыстацца інш. прозвішчамі, многія страцілі княжацкі тытул. Цэнтр павета невядомы, як і яго намеснікі (дзяржаўцы). Землеўласнікі павета ўтваралі асобную ваенную харугву. У час попісу войска ВКЛ 1528 «князі і баяры гедройцкія» былі абавязаны выстаўляць 234 коннікаў, у 1565 — 45-асабовая гедройцкая харугва выстаўляла 80 коннікаў. Попіс 1567 называе 74 маёнткаў «гедройцкіх князёў», якія выстаўлялі ў войска 114 коннікаў. У час правядзення адм.-тэр. рэформы 1565—66 землі Г.п. ўвайшлі ў склад Віленскага і Вількамірскага паветаў.

*Літ.*: Wojtkowiak Z. Lithuania transwilniensis saec. XIV—XVI: Podziały Litwy północnej w późnym średniowieczu. Poznań, 2005.

**Гедрус** (Кендрус, Кедрус), легендарны князь. Паводле бел.-літ. летапісаў, быў 3-м або 4-м сынам кн. літ., жамойцкага і рус. Рамана. Пасля смерці бацькі пабудаваў драўляны горад, які назваў Гедройці, а сам празваўся князем Гедройцкім. Удзельнічаў у міжусобіцы паміж сваімі братамі Нарымонтам і Даўмонтам на баку апошняга. У некаторых месцах летапісаў Г. названы Гедройцем. Пакінуў сына *Гінвіла*. Відаць, легенда пра Г. была ўключана ў летапісы, каб абгрунтаваць княжацкае паходжанне роду *Гедройцаў*.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Гедэон** Балабан [свецкае Рыгор Маркавіч; 1530—10(20).2.1607], дзеяч праваслаўнай царквы. Паходзіў з шляхецкага роду, сын львоўскага епіскапа Арсенія (Марка Балабана), якому, будучы свецкім чалавекам, дапамагаў у кіраванні епархіяй. З 1566 намінальны, з 1576 фактычны епіскап львоўскі і камянецкі. У 1550-х г. знаходзіўся ў стане вострага канфлікту з Львоўскім Успенскім брацтвам па маёмасных пытаннях і кананічнай юрысдыкцыі епіскапа. Мітрапаліт Міхаіл Рагоза, Берасцейскі сабор 1590 і патрыярх прынялі бок брацтва. Г. звярнуўся за падтрымкай да караля, пасля чаго мітрапаліт абвясціў пра пазбаўленне Г. сану і епархіі. Каб аднавіць свае пазіцыі, Г. пачаў удзельнічаць у падрыхтоўцы уніі правасл. царквы Рэчы Паспалітай з каталіцкай царквой. У студз. 1595 склікаў епархіяльны сабор і абвясціў на ім, што па прыкладу вышэйшага духавенства прызнае ўладу рымскага папы. Мітрапаліт вярнуў яму сан і епархію. Пасля гэтага Г. адышоў ад справы уніі. На Берасцейскім саборы 1596 выступіў рашуча супраць уніі, пасля чаго яе прыхільнікамі зноў пазбаўлены сану. У сваю чаргу, канстанцінопальскі патрыярх Мялецій прадпісаў абраць новага мітрапаліта замест уніята Міхала Рагозы, а да гэтага прызначыў Г. сваім экзархам у Рэчы Паспалітай. За процідзеянне справе уніі Г. прыгаворваны ўладамі да выгнання, але на

сойме 1603 гэтае рашэнне адменена. Падтрымліваў на Украіне кнігадрукаванне, дапамог Львоўскаму брацтву аднавіць былую друкарню І.Фёдарава (1586), адчыніў друкарні ў Крыласе каля Галіча (каля 1605) і Страціне (каля 1602), дзе працаваў Памва *Бярында*. Адчыніў у Крыласе і Страціне школы.

*Літ.*: Петров Н. Львовский епископ Гедеон Балабан и его деятельность в пользу православия и русской народности в Галиции и юго-западном крае России // Памятники русской старины в западных губерниях. Санкт-Петербург, 1885. Т. 8; Гильтебрандт П.А. Гедеон Балабан и его три книги // Русская историческая библиотека. Санкт-Петербург, 1900. Т. 19; Рева Л.Г. Балабан Гедеон // Українська біографістика. Київ, 1999. Вип. 2; Лукашова С.С. Конфликт львовского епископа Гедеона Балабана и Успенского братства // Славянский альманах, 1999 г. М., 2000.

**Гедэон** Адорскі (каля 1660-я г.— пасля 1715), дзеяч уніяцкай і праваслаўнай цэркваў. Сын Даніла Даўмонта-Адорскага (за ваенныя заслугі быў набілітаваны соймам 1676), гараднічага дынабургскага (інфлянцкага) у 1677—86, уладальніка маёнткаў Адоры і Тоўчын у Віцебскім ваяв. Відаць, з 1674 вучыўся ў Львоўскім езуіцкім калегіуме, пасля ў Оламаўцы, дзе ўступіў у базыльянскі ордэн. Хутка стаў архімандрытам уніяцкага Ануфрыеўскага манастыра пад Мсціславам. У 1690 атрымаў ад караля польск. і вял. кн. літ. Яна III Сабескага прывілей на пасады епіскапа беларускага і магілёўскага, архімандрыта ноўгарад-северскага і чарнігаўскага (пасвячоны тайнымі уніятамі львоўскім епіскапам Іосіфам Шумлянскім і перамышльскім Інакенціем Вініцкім). Мясцовае правасл. насельніцтва адмовілася прызнаць пасвячэнне Г. і запатрабавала, каб яго пасвяціў правасл. кіеўскі мітрапаліт. У 1690 Г. прыехаў у Кіеў, дзе не быў прызнаны законным епіскапам і змешчаны пад нагляд у Кіева-Пячэрскую лаўру. Афіцыйна абвясціў пра сваю прыналежнасць да уніяцкай царквы і пра разрыў з ёю. З 1691 прапаведнік Кіева-Пячэрскай лаўры, у 1693 іераманах. У 1693—97 у Маскве, рабіў казанні, пісаў панегірыкі; клапаціўся аб забеспячэнні сваіх правоў на маёнткі ў Віцебскім ваяв. пасля смерці бацькі. У Маскве да яго, як да былога уніята, ставіліся з падазрэннем. У 1701, дзякуючы падтрымцы гетмана І.Мазепы, стаў рэктарам Кіева-Магілянскай акадэміі, што было незвычайна, бо ён там не вучыўся і не выкладаў, а таксама ігуменам Кіеўскага Брацкага Богаяўленскага манастыра. Значна ўмацаваў з дапамогай Мазепы маёмаснае становішча акадэміі і манастыра, пабудаваў новы вучэбны корпус («Мазепінскі»). З 1705 архімандрыт Круціцкага Мікольскага манастыра каля Батурына — рэзідэнцыі Мазепы. Быў у бліжэйшым атачэнні Мазепы. Пасля здрады апошняга (1708) арыштаваны ў 1712 рас. уладамі і сасланы ў Салавецкі манастыр. Разам з інш. ссыльнымі святарамі заснаваў Архангельскую славяна-лацінскую школу, з 1715 яе рэктар.

*Літ.*: Голубев С.Т. Гедеон Оранский: (бывший ректор Киевской академии в начале XVIII ст.) // Тр. Киевской духовной академии. 1900. № 10, 12.

**Гемпель** Рафал (18.10.1718, Беларусь—22.1.1758), дзеяч каталіцкай царквы. У 1732 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1745 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Варшаве (1747—48), Пултуску (1748—49), Гародні (1749—50), філасофіі ў Варшаве (1750—52), віцэ-рэгент «Калегіум нобіліум» у Варшаве (1752—54), выхавацель сыноў полацкага кашталяна Канстанціна Плятэра (1754—58). Аўтар філасофскіх твораў («Assertiones philosophicae», Варшава, 1753), трагедый («Majestas asserta sive Darius», Варшава, 1746, «Infidelis felicitas, fides felix, sive Clodvaldus», Варшава, 1748), панегірыкаў, прамоў («Прамова пра бібліятэку Залускіх», не выдадзена) і інш.

**Генрых Ройз фон Плаўэн** (Heinrich Reuβvon Plauen; ?—да 28.12. 1429), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1410—13. Паходзіў з рыцарскага роду Фогтландаў. У 1391 прыбыў з Мейсена ў Прусію, каб удзельнічаць у выправе супраць Літвы. У 1392 уступіў у Тэўтонскі ордэн. З 1398 комтур ордэнскага дому ў Гданьску, з 1402 комтур Няшавы, з 1407 комтур Свеці. У час вял. паходу аб'яднанага войска ВКЛ і Польшчы ў ордэнскія землі ў 1410 Г.ф.П. застаўся бараніць Кульмскую



**Генрых Ройз фон Плаўэн** (?–1429).

зямлю ад магчымай атакі польск. войска. Пасля паражэння крыжакоў у *Грунвальскай бітве 1410* здолеў умацаваць сталіцу ордэна Мальбарк перад надыходам польска-літвінскіх войск. Гарнізон Мальбарка на чале з Г.ф.П. вытрымаў 9-месячную аблогу, што дало магчымасць ордэну выправіць катастрафічнае становішча. У гэты час Г.ф.П. тытулаваўся намеснікам крыжацкай дзяржавы. У ліст. 1410 замежныя ўраднікі ордэна, якія прыбылі на генеральны капітул у Мальбарк, абралі Г.ф.П. вял. магістрам Тэўтонскага ордэна. Выступаў за працяг вайны з Польшчай і ВКЛ. У канцы 1410 атакаваў польск. войскі на чале з Ягайлам, але пацярпеў паражэнне, і быў вымушаны пайсці на падпісанне *Тарунскага міру 1411*. Для далейшага кіравання дзяржавай і здабычы вялізных грошай на выкуп палонных стварыў дзярж. раду з паслухмянага яму рыцарства і мяшчанства. У канцы 1413 падрыхтаваў новы напад на Польшчу, у той час, калі Ягайла з адборным рыцарствам быў у Гародле на заключэнні уніі з ВКЛ. Аднак

унутраная апазіцыя, узначаленая вял. маршалам ордэна Міхаэлем фон Кюхмайстэрам, адмовілася выконваць загады Г.ф.П. і арганізавала змову. Хворы вял. магістр быў захоплены ў Мальбарку, пазбаўлены годнасці вял. магістра і прызначаны на малазначнае комтурства ў Пакрыўне. У 1414 спрабаваў з дапамогай Польшчы вярнуць уладу. Аднак яго тайныя перагаворы былі выкрыты, і Г.ф.П. трапіў пад варту. У 1422 яго саслалі ў аддалены замак Лохштад, дзе ён да смерці займаў пасаду пракуратара.

**Генрых Ройз фон Плаўэн** (Heinrich Reuβvon Plauen; ?—2.1.1470), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1469—70. Паходзіў з цюрынгскага рыцарскага роду, уладальнікаў маёнтка Плаўэн. У маладосці ўступіў у Тэўтонскі ордэн і прыехаў у Прусію. Хутка атрымаў урад фогта Тчэва, з 1433 комтур Балгі, з 1440 фогт Натангіі, з 1441 вял. шпітальнік ордэна і комтур Эльблёнга. Меў у ордэне вял. аўтарытэт, аказваў значны ўплыў на вял. магістра Людвіга фон Эрліхсгаўзена, свайго пляменніка. У 1454, калі пачалася Трынаццацігадовая вайна з Польшчай, Генрых узначаліў ордэнскае войска ў нізоўях Віслы, разбіў польск. войска пад Хайніцамі, пасля фактычна камандаваў арміяй і кіраваў дзяржавай. Згодна з умовамі *Тарунскага міру 1466* Тэўтонскі ордэн стаў леннікам Кароны Польскай. З 1467 Генрых быў намеснікам крыжацкай дзяржавы, адцягваў сваё абранне на пасаду вял. магістра, каб не прыносіць леннай прысягі польск. каралю Казіміру IV. Пад яго ціскам у 1469 генеральны капітул ордэна ўсё ж абраў Генрыха вял. магістрам. 29.11.1469 ён прынёс прысягу Казіміру IV. Неўзабаве памёр ад апаплексічнага ўдару.



**Генрых Ройз фон Плаўэн** (?–1470).

**Генрых фон Гогенлоэ** (Henrich von Hohenlohe; ?—15.7.1249), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1244—49. Паходзіў з вюртэмбергскага рыцарскага роду, уладальнікаў маёнтка Гогенлох. У 1220 разам з братамі Фрыдрыхам і Андрэем уступіў у Тэўтонскі ордэн, пры гэтым частка іх родавых уладанняў стала асновай ордэнскай камандорыі Мергентайм, месцам рэзідэнцыі вял. і нямецкіх магістраў ордэна. У 1221 адбыў паломніцтва ў Святую Зямлю, пасля стаў камандорам Мергентайма. У 1225 суправаджаў са Святой Зямлі ў Італію жонку імператара Фрыдрыха II Ізабелу. З гэтага часу і да 1232 быў у свіце вял. магістра Тэўтонскага ордэна Германа фон Зальца. Пасля да 1242 нямецкі магістр ордэна. У 1244 у Палесціне выбраны вял. магістрам. Быў пасрэднікам у спрэчцы рымскага папы Інакенція IV з імператарам, якога і падтрымаў. Атрымаў ад яго «залатую булу», у якой Фрыдрых II пацвердзіў перадачу Прусіі Тэўтонскаму ордэну, а таксама «падараваў» ордэну Літву і Русь. Варагаваў з прускім магістарм Дзітрыхам фон Грунінгенам, які арыентаваўся на рымскага папу. У 1246 выехаў у Прусію, дзе правёў адм. рэформу, падзяліўшы заваяваныя прускія землі на комтурствы. Камандаваў нападамі на прусаў. Заключыў выгадны для ордэна мірны дагавор з паморскім кн. Святаполкам.

**Генрых фон Дуземер** (Henrich von Dusemer; ?—1353), вялікі магістр



**Генрых фон Дуземер**.

Тэўтонскага ордэна ў 1345—51. Паходзіў са Швабіі. У маладым узросце ўступіў у Тэўтонскі ордэн. У 1311 удзельнічаў у нападзе на Літву, у час якой уступіў у бой з кн. Віценем. З 1329 комтур Рагнеты, у 1333 фогт Самбіі, у 1334 комтур Пакарміна, з 1335 вял. маршал і комтур Кёнігсберга. У 1339 уступіў у канфлікт з вял. магістрам ордэна. У 1345 аднагалосна выбраны вял. магістрам Тэўтонскага ордэна дзякуючы заслугам у вайне з літвінамі. На працягу некалькіх гадоў ордэн зведваў сталыя напады літвінскіх дружын, пакуль яны не былі разбіты ў *бітве на Стрэве 1348*. Аднак развіць поспех крыжакам перашкодзіла эпідэмія чумы, таму яны арганізоўвалі невял. напады на прыгранічныя літ. вобласці. З 1350 крыжацкая дзяржава пачала аднаўляць магутнасць, будаваліся гарады, развівалася нямецкая каланізацыя Прусіі. Аднак у 1351 Г.ф.Д. нечакана пакінуў пасаду вял. магістра, магчыма, з-за старасці і хваробы.

**Гену** (Ж э н у; Genu) Абрагам Антоні (?—каля 1746), архітэктар. Кіраваў пабудовай вежаў касцёла св. Яку-




Да арт. **Геральдыка**. Гравюра Д.Тшэрнінга з гербамі зямель Рэчы Паспалітай. 1645.

ба пры *Віленскім кляштары дамініканцаў* (1727—37). Знаходзіўся на службе ў Агінскіх, быў інспектарам іх будоўляў. Мяркуецца, што з'яўляецца аўтарам праекта *Лявонпальскага палаца*, сядзібы ў Ганунце каля Свянцян. Узначальваў брацтва пры Віленскім касцёле св. Ігнація.




Да арт. **Геральдыка**. Б.П а п р о ц к і. Гняздо цноты. Кракаў. 1578. Тытульны ліст.

**геральдыка** (ад ням. Heer Alt герольд, даслоўна: стары пан), спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае *гербы*, гісторыю іх узнікнення і выкарыстання, а таксама правілы іх складання; сістэма гербаў і ведаў аб іх. Гал. прадмет вывучэння Г. — герб. Роля Г. ў гіст. даследаванні даволі значная. Яна можа дапамагчы ў дыпламатычных, сфрагістычных, нумізматычных і інш. даследаваннях, у вызначэнні храналагічнага, рэгіянальнага аспектаў пэўных матэрыяльных помнікаў, асабістай атрыбутацыі матэрыялу. Разам з тым, герб каштоўны не толькі як дапаможны сродак у гіст. вывучэнні мінулага, але і сам з'яўляецца важнай крыніцай паліт. гісторыі (бо Г. фіксавала саюзы, тэр. змены і дынастычныя шлюбы), а таксама крыніцай аб дэмаграфічных працэсах у пануючым саслоўі, бо Г. была цесна звязана з генеалогіяй. Гербы могуць быць прыцягнуты да вывучэння гісторыі грамадскай свядомасці, сац. псіхалогіі, мадэлявання (аднаўлення) псіхалагічнай атмасферы эпохі, акрамя гэтага, яны маюць вял. мастацкую каштоўнасць. Г. падзяляецца на тэарэтычную і практычную. Аналізам і сістэматызацыяй элементаў герба займаецца тэарэтычная Г. Зварот да яе неабходны для ўсіх, хто хоча раскрыць таямніцы гербаў, бо менавіта яна ўводзіць у спецыфіку прадмета, знаёміць з тэрміналогіяй і канкрэтнымі абрысамі вывучаемага матэрыялу, дае магчымасць дакладней прачытаць апісанне герба пры адсутнасці яго выявы. Прадметам вывучэння тэарэтычнай Г. з'яўляецца непасрэдна выява герба і правілы яго складання. Практычная Г. займаецца непасрэдна стварэннем гербаў.

У сваім развіцці Г. ў ВКЛ прайшла 2 этапы: 15 ст.—1740-я г. — час фіксацыі гербаў у хроніках і гербоўніках, іх апісання і класіфікацыі; 1740—90-я г. — час тэарэтычнага асэнсавання і навук. вывучэння гербаў. На 1-м этапе аўтары як замежных, так і айчынных гербоўнікаў фіксавалі (замалёўвалі) і апісвалі гербы ВКЛ: дзярж.-дынастычныя (*«Пагоня»*, *«Калюмны»*), зямельныя, капітульныя, гар., княжацкія і шляхецкія. Так, малюнкі і апісанні згаданых гербаў змешчаны ў зах.-еўрапейскіх хроніках і гербоўніках: «Хроніцы Канстанцкага сабора» Ульрыха Рыхен-



Да арт. **Геральдыка**. Гербы ў «Хроніцы Канстанцкага сабору» У.Рыхенталя. 1420-я г.




Да арт. **Геральдыка**. Марк Амброжы з Нысы. Arma Regni Poloniae. Антверпен. 1562. Тытульны ліст.

таля (1420-я г.), брусельскім гербоўніку «Armorial Lyncenich» і стакгольмскім «Codex Bergshammer» (іх «літоўскія» часткі датуюцца 1430—40-мі г.), польскай хронікі Яна *Длугаша* (1450—80-я г.) і гербоўніку пад назвай «Insignorum, clenodiorum regis et regni Polonie descriptio», які таксама прыпісваецца гэтаму аўтару (1460—70-я г.). Апошні захаваўся ў 7 рукапісах, у т.л. ў 2 спісах 16 ст. з каляровымі малюнкамі: «Stemmata Polonica» (1550-я г.) і кодэксе Эразма Каміна (1575). З распаўсюджаннем друкавання апісанні гербаў з ВКЛ з'явіліся на старонках старадрукаў: у друкаваных версіях «Хронікі Канстанцкага сабора» Рыхенталя (Аўгсбург, 1483, 1536; Франкфурт-на-Майне, 1575), «Хроніках» Марціна *Бельскага* і Яўхіма *Бельскага* (Кракаў, 1551, 1597), у «Апісанні Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра *Гваньіні* (Кракаў, 1579) і інш. Багата была аздоблена геральдычнымі гравюрамі і «Біблія Руска» Францішка *Скарыны* (Прага, 1517—19). Не пакінулі па-за ўвагай гербы з ВКЛ і складальнікі першых польскіх друкаваных гербоўнікаў Марк Амброжы з Нысы («Arma Regni Poloniae», Антвэрпен, 1562), Мікалай Рэй («Звярынец», Кракаў, 1562, 1574) і Барташ *Папроцкі* («Гняздо цноты», Кракаў, 1578; «Гербы польскага рыцарства», Кракаў, 1584). Акрамя дзярж. герба — «Пагоні», у працах апошняга ў асобных раздзелах багата прадстаўлены гравюры і апісанні гербаў зямель, ваяводстваў, гарадоў і шляхты ВКЛ. Папроцкі быў першым, хто спалучыў выявы гербаў з генеалогіяй шляхецкіх родаў, тым самым стварыўшы новы тып гербоўніка, які стаў узорам для наступнікаў. У 17 ст. звесткі Папроцкага паслужылі асн. крыніцай па гербах шляхты ВКЛ для многіх аўтараў кампілятыўных геральдычных твораў (Ян Гербурт, Станіслаў Германьскі і інш.), а таксама для дамініканіна Шымана *Акольскага*, які на лацінскай мове выдаў 3-томны гербоўнік «Польскі свет» («Orbis Polonus», Кракаў, 1641—45). Тым не менш, час патрабаваў твора, які быў бы прысвечаны непасрэдна гербам шляхты ВКЛ. Такую працу паспрабаваў зрабіць езуіт Война Каяловіч. З 1648 ён пісаў гербоўнік шляхты ВКЛ, абапіраючыся ў асн. на рукапісы, дакументы і акты сучасных яму прадстаўнікоў шляхецкіх родаў. У 2 рукапісах — «Compendium» (1650-я г.) і «Nomenclator» (1658) Каяловіч сабраў вял. колькасць як вядомых, так і невядомых раней шляхецкіх гербаў. Абодва рукапісы не былі надрукаваны пры жыцці аўтара. Толькі значна пазней у Кракаве іх выдаў польскі геральдыст Францішак *Пекасінскі* ў 1897 і 1905 адпаведна. «Compendium», напісаны на польскай мове, згодна з легендай аб *Палемоне*, пачынаецца з гербаў «Ка-




Да арт. **Геральдыка**. Ш.А к о л ь с к і. Польскі свет. Т. 2. Кракаў. 1641. Разварот з гербамі ВКЛ.


HERBY RYCERZTWA POLSKIEGO.

Nà pieccioro Xiąg rozdzielone.

Przez Bartosza Paprockiego

1584.

W Krakowie

Roku Pańskiego 1584.

Да арт. **Геральдыка**. Б.П а п р о ц к і. Гербы польскага рыцарства. Кракаў. 1584. Тытульны ліст.


ORBIS POLONVS

Splendoribus cæli: Triumphis mundi: Pulchritudine animantium: Decore aquatilium: Naturæ excellentia reptilium,

CONDECORATVS.

IN QVO

ANTIQVA SARMATARVM GENTILITIA, PERVETVSTÆ NOBILITATIS POLONÆ INSIGNIA,

Vetera & Noua Indigenatus meritorum præmia & Arma, specificantur & relucent.

*Nunc primùm, vt Latinitati consecratus, ita claritate & veritate perspicuus.*

AVTHORE

*R. P. Fr. SIMONE OKOLSKI, S. Th. Bacc. Ordinis Prædic. Prouinciæ Russiæ, Priore Camen. & Illustriss: Potocij Campiductoris Regni, Ordinario Concionatore.*

CRACOVIÆ,

In Officina Typographica Francisci Cæsarij, Anno Dñi, 1641.

Да арт. **Геральдыка**. Ш.А к о л ь с к і. Польскі свет. Т. 1. Кракаў. 1641. Тытульны ліст.


KORONA
POLSKA
przy
ZLOTEY WOLNOSCI
Wszystkich Kathedr, Prowincyi, y Rycerstwa
KLEYNOTAMI
Heroicznym Męstwem y odwagą,
Naywyższemi Honorami,
Cnotą, Pobożnością, y Świątobliwością
OZDOBIONA
PODANA
Przez
X. KASPRA NIESIECKIEGO Societatis JESU.
Roku Wolności ludzkiey przez Wcielonego
BOGA windykowaney 1728.

Да арт. **Геральдыка**. К. Н я с е ц к і. Карона Польская. Т. 1. Львоў. 1728. Тытульны ліст.

люмны», «Кітаўрас», «Ружа» і «Пагоня». Пасля іх у алфавітным парадку ад «Абданка» да «Зубрынай галавы» змешчаны інш. гербы. Пры кожным з іх Каяловіч даў назву, малюнак, апісанне колераў, спіс шляхецкіх родаў з іх радаводамі, а таксама шматлікія гербавыя змены ў выяве, кляйнодзе і колерах. Апошнія ён пераважна класіфікаваў як адметнасці і варыяцыі польскіх шляхецкіх гербаў. «Nomenclator», напісаны на лацінскай мове, складаецца з радаводаў шляхты ВКЛ у алфавітным парадку. Вялікі па аб'ёме рукапіс змяшчаў як шляхту з гербамі, так і без гербаў, бо іх не ведаў і сам аўтар. У апісаннях радаводаў найб. каштоўнымі з'яўляюцца звесткі за 16 — 1-ю пал. 17 ст. Цалкам твор не надрукаваны, Пекасінскі ў перакладзе на польскую мову выдаў фрагмент да прозвішча «Камар». У канцы 17 ст. папулярны быў жанр вершаваных гербоўнікаў, у якім працавалі Вацлаў Патоцкі і Мацвей Ігнацій *Кулігоўскі*. Першы ў 1696 у Кракаве выдаў «Почат гербаў шляхты Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага», дзе змясціў «Пагоню» і гербы шляхты з ВКЛ. Другі ў 1699 у Вільні надрукаваў твор пад назвай «Смешны Дэмакрыт». У вершаванай форме Кулігоўскі даў апісанні 257 гербавых выяў (без малюнкаў), таксама гербавыя легенды і прозвішчы шляхты ВКЛ і Польшчы. Рукапісамі Каяловіча карыстаўся ў 1-й пал. 18 ст. Каспар *Нясецкі* — аўтар самага поўнага на той час гербоўніка ўсёй Рэчы Паспалітай — Польскага Каралеўства і ВКЛ. У 1728—43 у Львове ён выдаў багата аздоблены гравюрамі 4-томны гербоўнік пад назвай «Карона Польская», дзе сярод іншага змясціў дзярж. герб ВКЛ, гербы яго зямель, ваяводстваў, капітулаў, а таксама шляхты разам з іх генеалогіямі. Разам з тым, шмат шляхецкіх родаў з ВКЛ былі дадзены без згадкі іх гербаў. Крытычны падыход да легендарных звестак, спасылкі на шматлікія крыніцы прадвызначылі даволі высокі навук. ўзровень гербоўніка Нясецкага. Усе наступныя складальнікі гербоўнікаў бралі інфармацыю пераважна з яго твора. Нічым іншым, як кампіляцыямі з Нясецкага і дадаткамі да яго з'яўляюцца гербоўнікі і геральдычныя творы Станіслава Юзафа Дуньчэўскага (1757), Бенядзікта Хмялёўскага (1763), Вацлава Варшыцкага (1782—83), Пятра Малахоўскага (1790) і Войцеха Вінцэнта Вялёндка (1792—98).

Пачатак 2-му этапу Г. ВКЛ паклаў твор Юзафа Аляксандра *Ябланоўскага* «Геральдыка» (Львоў, 1742; 2-е выд. 1748; 3-е выд. 1752). Гэта быў першы ў Рэчы Паспалітай геральдычны трактат, да таго ж напісаны жыхаром ВКЛ. Прысвечаны ён быў тэарэтычным праблемам Г.: правілам і законам складання шляхецкіх гербаў. Разам з тым, у ім падаваліся ўласныя геральдычна-генеалагічныя ўяўленні аўтара. Так, Ябланоўскі быў першым, хто ў адносінах да вял. князёў літоўскіх ужыў тэрмін «літоўска-беларускія князі» («Xiążęta Litewscy Białoruscy»). Твор падзелены на 7 раздзелаў-«трактатаў», у першым апісаны «правілы гербаў»: тыпы тарчаў, арматуры, гелмаў і карон, а таксама ганаровыя дадаткі да гербаў некаторых родаў ВКЛ і Польшчы. Вял. фрагменты «Геральдыкі» Ябланоўскага перадрукаваны ў гербоўніку Андрэя Эварыста Курапатніцкага (1789). Тэорыі і сістэматызацыі Г. прысвечаны твор Дзмітрыя Францішка Колі (1699—1766) пад назвай «Кароткі трактат па геральдыцы», выдадзены ў 1747 у Вар-


HERALDICA
To iest
OSADA KLEYNOTOW RYCERSKICH
y
WIADOMOSC ZNAKOW HERBOWNYCH
dotąd w Polszcze nieobiaśniona,
PRACĄ y WYNALAZKIEM
JOZEFA ALEXANDRA
z HRABIOW PRUSSOW
Z Wicholtza na Jabłonowie, Lachowcach,
Zawałowie, Lisiańce, y Podhorcach,
JABŁONOWSKIEGO
Sądowego Ziemi Buskiey,
STAROSTY
Ustawami Nauki powszechnie przyiętey
OKRYSLONA
Jnne do tego przydatki Rzeczy ciekawych do Domow
Szlacheckich należących,
Na kilka Traktatow podzielone Roku, 1742.

Да арт. **Геральдыка**. Ю.А. Я б л а н о ў с к і. Геральдыка. Львоў. 1742. Тытульны ліст.

шаве. Аўтар, абапіраючыся на зах.-еўрапейскі матэрыял, у 6 раздзелах кнігі раскрыў паняцце герба, азнаёміў з геральдычнымі правіламі, даў сваю арыгінальную класіфікацыю гербаў і г.д. Менавіта працы Ябланоўскага і Колі заклалі ў 1740-я г. ў Рэчы Паспалітай у цэлым і ў ВКЛ у прыватнасці падмурак для развіцця Г. як навук. дысцыпліны.

*Літ.*: Ч е р н ы х А.П. Геральдика // Введение в специальные исторические дисциплины. М., 1990; Ц і т о ў А. Сфрагістыка і геральдыка Беларусі. Мінск, 1999; Я г о ж. Геральдыка Беларусі. Мінск, 2007; Ш а л а н д а А. Гербы і геральдычныя выявы на гравюрах «Біблії Рускай» Францыска Скарыны // Герольд Litherland. 2002. № 3—4; M a l i n o w s k i R.E. Teoryja heraldyki powszechnej. Warszawa, 1841; S z y m a ń s k i J. Nauki pomocnicze historii. Warszawa, 1972; D a c k a I.M. «Korona Polska» Kaspra Niesieckiego: pomnik staropolskiego piśmiennictwa heraldycznego. Warszawa, 2004.

***Аляксей Шаланда.***

**Геранімаў** (цяпер в. Гронаў Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка Мсціслаўскага ваяв. Заснавана ў 1726 на землях в. Вепрын ва ўрочышчы Камень над р. Сож. Сугучнасць назвы паселішча з імем Геранім Фларыяна Радзівіла, дзяржаўцы Крычаўскага старства ў 1746—60, дазваляе сцвярджаць, што мястэчка было заснавана ягонай маці Ганнай Катажынай Радзівіл з Сангушкаў і названа ў гонар сына. Тэрмін слабады мястэчку вызначаны ў 20 гадоў. Згодна з інвентаром Крычаўскага старства 1747, аснову планавай кампазіцыі мястэчка складаў рынак, адзін з бакоў якога выходзіў на р. Сож. З астатніх бакоў рынку адыходзілі вуліцы Манастырская, Вушакоўская і Вепрынская. Акрамя таго, інвентар згадвае незабудаваныя завулкі Крычаўскі і Зорскі, якія вялі з рынку ў бок Сажа. Развіццё мястэчка ішло марудна. У 1747 у ім налічвалася толькі 18 жылых дамоў, з якіх 6 стаялі на рынку; 8 дамоў у мястэчку стаялі пустыя, налічваліся 34 пустыя пляцы. У 1747 у мястэчку жыло 5 алейнікаў, з якіх 3 былі купцамі; былі яшчэ 2 купцы, 2 кушняры, ганчар, пастух. У 1753 тут пражывала 6 алейнікаў. Звесткі аб развіцці мястэчка ў 2-й пал. 18 ст. амаль адсутнічаюць. У 1770 мястэчку дано права на таргі па серадах. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.




Да арт. **Геральдыка**. В.К а я л о в і ч. Nomenclator. Кракаў. 1905. Тытульны ліст.

*Літ.*: М я ц е л ь с к і А.А. Фарміраванне мястэчак Крычаўскага староства // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Я г о ж. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гістарычна-археал. зб. Мінск, 2008. № 23.

***Андрэй Мяцельскі.***

**герб** (ад ням. Erbe спадчына), сімвалічная выява, перадаваемая ў спадчыну і складзеная паводле вызначаных геральдычных правілаў. З'яўленне Г. цесна звязана са станаўленнем рыцарства ў Зах. Еўропе ў 11—13 ст., а таксама са зменамі, якія адбыліся ва ўзбраенні. Увядзенне закрытага шлема і даспехаў выклікала патрэбу ў выкарыстанні на шчыце і шлеме, як самых рэпрэзентацыйных элементах рыцарскага ўзбраення, пэўных эмблем, якія б выконвалі функцыю ідэнтыфікацыі сваіх уладальнікаў. Спачатку выбар іх быў свабодны і залежаў ад густу асоб, якія імі карысталіся. Таму яны не былі сталымі і маглі быць зменены па нейкай прычыне. Ператварэнне такіх эмблем у Г. было вынікам развіцця сац. працэсаў у сярэдневяковым грамадстве краін Зах. Еўропы. Ва ўмовах фарміравання феад. іерархіі, складвання васальных адносін адбылося пашырэнне іх функцый. Дагербавыя эмблемы былі прыстасаваны для вызначэння месца сваіх уладальнікаў у сям'і, родзе і грамадстве, што, у сваю чаргу, было цесна звязана з правам валодання зямлёй і інш. маёмасцю. У сувязі з гэтым эмблемы набываюць спадчыннасць. Такім чынам, Г. адлюстроўвалі пэўную сац.-прававую сістэму адносін, якая склалася ў сярэдневякоўі. Упершыню яны з'явіліся ў Зах. Еўропе ў 2-й пал. 12 ст. і хутка распаўсюдзіліся ў рыцарскім асяроддзі, заняўшы месца не толькі на шчытах і шлемах, але і на сцягах, вопратцы, пячатках, зброі, рэчах. Канчатковае афармленне Г. адбылося падчас рыцарскіх турніраў і крыжовых паходаў на Усход. На турнірах Г. знаходзіліся ў цэнтры ўвагі спецы-



**Гербы** ў «Хроніцы Канстанцкага сабору» У.Рыхенталя. 1420-я г.



Партрэт Анджэя Укольскага з **гербам** «Касцеша».

яльна прызначаных асоб — герольдаў. Яны праводзілі гербавую праверку, аб'яўлялі і апісвалі Г. перад пачаткам рыцарскіх спаборніцтваў. Менавіта герольды выпрацавалі на практыцы спец. геральдычныя правілы і законы, а разам з імі і мастацкія сродкі выяўлення Г. Нездарма ад слова «герольд» паходзіць назва навукі аб гербах — *геральдыкі*. Крыжовыя паходы, у якіх удзельнічала рыцарства амаль усіх краін Зах. Еўропы, пакінулі значны след у эмблематыцы яго Г. Асаблівa гэта датычыць выкарыстання ў якасці гербавых выяў розных варыянтаў крыжа. Улічваючы тое, што ў кожнай з сярэдневяковых краін Захаду эканам., сац. і культурныя фактары па-рознаму ўплывалі на ўзнікненне і развіццё такой галіны рыцарскай культуры, як геральдыка, крыжовым паходам належыць вял. роля ва уніфікацыі геральдычных правілаў і Г. шматнац. зах.-еўрапейскага рыцарства.

З Захаду Г. пастунова пранікалі ў краны Цэнтр. Еўропы, у т.л. ў Польшчу. На польскіх землях яны распаўсюдзіліся паміж сярэдзінай 13 ст. (Сілезія) і сярэдзінай 14 ст. (Мазовія). Нягледзячы на тое, што працэс развіцця геральдыкі ў Польшчы быў вынікам геральдычных уплываў Захаду, польскія рыцарскія Г. займелі шэраг спецыфічных асаблівасцей. Падставай для іх паслужылі істотныя адрозненні ў фарміраванні польскага шляхецкага саслоўя, што, у сваю чаргу, было цесна звязана з правам трымання зямлі. У Польшчы трыманне зямлі вынікала не з леннага права, як у Зах. Еўропе, а з прыналежнасці да роду. На гэтай аснове адбывалася і афармленне польскага шляхецкага саслоўя, у выніку чаго ўтварыліся род генеалагічны (натуральны) і род гербавы. Род генеалагічны, ці натуральны, — гэта супольнасць крэўных сваякоў, якія засяляюць дакладна акрэсленую тэр., што называецца гняздом. Род геральдычны, ці гербавы, уяўляў сабой новы тып сац. арганізацыі, які складаўся з пэўнай колькасці розных па сваім паходжанні сямей, аб'яднаных агульным Г. Такім чынам, у Польшчы агульным Г. карысталіся не толькі прадстаўнікі генеалагічнага роду, але і зусім чужыя элементы, якія ўсе разам складалі згуртаваны і салідарны гербавы род.

У канцы 12—13 ст., пасля паступовай пераарыентацыі крыжовых паходаў з Блізкага Усходу на Прыбалтыку, у непасрэднай блізкасці ад стараж. бел. і літоўскіх зямель, спачатку ў Інфлянтах, а пазней у Мазовіі і Прусіі, з'явілася зах.-еўрапейскае, пераважна нямецкае, рыцарства. Суседства з ім спрыяла з'яўленню ў ВКЛ рыцарскіх звычаяў і абавязкаў, формы адзення і ўзбраення, уяўленняў аб рыцарскай годнасці і гонары. Зах.-еўрапейская рыцарская культура несла ў асяроддзе бел. і літоўскіх феадалаў і пэўныя гербавыя ўзоры. З інш. боку, дынастычная Крэўская унія 1385 і далейшыя падзеі


**Герб** на пячатцы Ходкі Юр'евіча. 1422.

звязалі ВКЛ цеснымі сувязямі, у т.л. і гербавымі, з Польшчай. Асаблівае значэнне для развіцця шляхецкіх Г. у ВКЛ меў Гарадзельскі сойм 1413, на якім частка літ. і жамойцкіх баяр каталіцкага веравызнання атрымала польскія Г. Дзякуючы нямецка-польска-лацінскім моўным уплывам у старабел. мову трапілі і замацаваліся ў ёй не толькі само слова «Г.», але і шэраг геральдычных тэрмінаў: «тарча», «гелм» (шлем), «*клейнод*», «арматура» і інш. Як і ў інш. феад. краінах Еўропы, у ВКЛ склаўся ўласны комплекс Г., пад якім трэба разумець усю іх існуючую ў грамадстве сукупнасць: дзяржаўны Г., зямельныя, гар., шляхецкія Г., гербікі (гмеркі) мяшчан, Г. грамадска-рэліг. арганізацый, цэхаў, гандлёвых аб'яднанняў. У сваім развіцці Г. ў ВКЛ прайшлі некалькі этапаў: канец 14—1-я пал. 15 ст. (з'яўленне Г. у ВКЛ); 2-я пал. 15—1-я пал. 16 ст. (складванне комплексу Г. у ВКЛ); 2-я пал. 16—1-я пал. 17 ст. (росквіт Г. у ВКЛ); 2-я пал. 17—канец 18 ст. (заняпад Г. у ВКЛ).

Першы этап звязаны з падзеямі вакол Крэўскай уніі 1385 і абраннем вял. князя літ. Ягайлы польскім каралём. Гэты перыяд характарызуецца з'яўленнем у ВКЛ першых Г.: дзярж.-дынастычных «*Пагоні*» і «*Калюмнаў*», зямельных (Віленскай, Троцкай, Смаленскай, Навагародскай зямель), княжацкіх (князёў Гальшанскіх, Друцкіх, Свірскіх і інш.), баярскіх (Манівіда), гар. (Вільні). Вылучаюцца 2 асн. тыпы гербавых выяў, якія пазней будуць панаваць у геральдыцы ВКЛ: зах.-еўрапейскі і клейнавы («Калюмны»). У гэты час нямецкія геральдычныя ўплывы з Інфлянтаў і Прусіі замяняюцца польскімі. Прыняцце літ. і жамойцкімі баярамі-каталікамі польскіх шляхецкіх Г. на Гарадзельскім сойме 1413 і далейшае далучэнне да іх на падставе *прывілея 1434* вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча правасл. «рускага» баярства, заклала асновы для аб'яднання іх у адзіныя гербавыя роды і бліжэй пазнаёміла грамадства ВКЛ з геральдычнымі правіламі. Гэтыя падзеі дадалі да існуючых тыпаў Г. у ВКЛ польскія шляхецкія Г. Важнай акалічнасцю 1-га этапу была спроба вял. кн. Вітаўта ўвесці ў пач. 15 ст. пасаду герольда

(«Litherland»). У цэлым, аднак, геральдыка ў ВКЛ знаходзілася ў зародкавым стане. Большая частка феадалаў ВКЛ працягвала карыстацца ўласнымі пячаткамі старога ўзору з клейнамі-знакамі без ніякага геральдычнага афармлення. 1-ы этап можна ахарактарызаваць як перыяд зараджэння Г. у ВКЛ. Па сутнасці, яны былі вынікам сінтэзу зах.-еўрапейскіх геральдычных уплываў (праз Інфлянты, Прусію і, пераважна, Польшчу) і мясц. эмблематычнага матэрыялу, які складаўся з прыватнаўласніцкіх знакаў-клейнаў і ўзораў хрысціянскай (як візантыйска-правасл., так і рымска-каталіцкай) сімволікі і іканаграфіі.

На 2-м этапе вылучаюцца 3 асн. шляхі павелічэння колькасці Г. у ВКЛ: праз геральдызацыю знакаў-клейнаў і выяў, праз наданні Г. зах. тыпу манархамі (набілітацыю, наданне магдэбургскага права гарадам) і праз распаўсюджанне польскіх Г. сярод бел.-літоўскай шляхты на падставе *адопцыі*. Пад геральдызацыяй трэба разумець працэс геральдычнага афармлення мясц. эмблематычнага матэрыялу, у якім вылучаюцца 2 стадыі: змяшчэнне клейнаў-знакаў і выяў на геральдычнай тарчы; далучэнне дадатковых гербавых элементаў — спачатку гелма, клейнода, кароны, намёта, а пасля арматуры, тарчатрымальнікаў, ордэнаў і дэвізаў. Для гэтага перыяду характэрна 1-я стадыя геральдызацыі. Пра масавасць працэсу і гал. крыніцу шляхецкай геральдыкі ў ВКЛ сведчыць тое, што тэрміны «знак», «пячаць» і «Г.» мелі ў старабел. мове аднолькавы сэнс. Адзначаючы масавы характар геральдызацыі, варта падкрэсліць, што асабліва на ўсх. бел. землях ВКЛ былі нярэдкія выпадкі карыстання пячаткамі са знакамі-клейнамі старога тыпу. У цэлым, на 2-м этапе ішло складванне ўсяго комплексу Г. у ВКЛ: дзярж.-дынастычных, зямельных, гар. Г., гмеркаў (гербікаў) мяшчан, Г. грамадска-рэліг. арганізацый, цэхаў і гандлёвых аб'яднанняў, а таксама шляхецкіх Г. Па характары іх гербавых выяў яны падзяляюцца на 3 тыпы: клейнавыя, польскія і зах.-еўрапейскага тыпу. Іх суадносіны прадвызначылі далейшы лёс геральдыкі ВКЛ.



Партрэт Лізаветы Радзівіл з **гербамі**.

На 3-м этапе Г. ў ВКЛ дасягнулі свайго росквіту, што праявілася ў іх колькасным росце і відавым багацці, разнастайнасці тыпаў гербавых выяў. У першую чаргу гэта датычыцца шляхецкай геральдыкі ВКЛ і, у прыватнасці, клейнавай. У гэты час геральдызацыя знаходзілася на 2-й стадыі — далучэння дадатковых гербавых элементаў. Важнай асаблівасцю 3-га перыяду быў моцны і хуткі працэс натуралізацыі клейнавых Г. Пад ім разумеецца такая мастацкая расшыфроўка знакаў-клейнаў, пры якой яны ператвараліся ў выявы натуралістычнага і рэалістычнага характару, што было вынікам уплываў у ВКЛ рэнесансавага і барокавага мастацтва. Вылучаецца поўная і няпоўная натуралізацыя. У выніку апошняй атрымоўваўся камбініраваны Г. Цалкам натуралізаваны клейнавы Г. нічым не адрозніваўся ад Г. зах.-еўрапейскага тыпу. Шырокае распаўсюджанне сярод бел.-літоўскай шляхты атрымалі складаныя шматпалёвыя Г., якія адлюстроўвалі генеалогію ўладальніка па бацьку і маці («па мячы і кудзелі»). Яшчэ адзін від складаных Г. — т.зв. Г. «крэўнасці» — аб'ядноўвалі на адной тарчы гербавыя выявы мужа і жонкі. Усё гэта засведчыла існаванне ў шляхецкай геральдыцы ВКЛ 3 відаў Г.: асабістых (складаных), сямейных (пераважна клейнавага тыпу) і родавых. У якасці апошніх пасля аб'яднання ў 1569 ВКЛ і Польшчы ў Рэч Паспалітую ўсё часцей пачалі выкарыстоўвацца польскія шляхецкія Г. Рост польскага сектара шляхецкай геральдыкі ВКЛ адбываўся як афіцыйным шляхам, на падставе *Віленскага прывілея 1563* караля і вял. кн. Жыгімонта II Аўгуста, так і неафіцыйным, праз сямейныя сувязі, стварэнне ўласнага Г. на ўзор польскага і праз паланізацыю клейнавых Г. Пад паланізацыяй клейнавых Г. трэба разумець ператтварэнне клейнавай гербавай выявы ў польскую ў выніку яе натуралізацыі і геральдызацыі. Падвышэнне значэння польскіх шляхецкіх Г. у ВКЛ было звязана з канчатковым афармленнем мясц. шляхецкага саслоўя на ўзор польскага, пры гэтым польскія Г. выступалі



Шляхецкі **герб** Ф.Скарыны. Біблія. Прага. 1519.

ў якасці гал. доказаў прыналежнасці да яго. У гэты час звычайнай з'явай сярод бел.-літоўскай шляхты была двугербавасць — сітуацыя, калі прадстаўнікі аднаго і таго ж роду (сям'і) або нават адна асоба ўжывалі 2 Г. — сямейны клейнавы і польскі. З аднаго боку, гэта сведчыла аб раўнавазе паміж асн. сектарамі шляхецкай геральдыкі ВКЛ, з другога — гэта было прыкметай збліжэння геральдычных сістэм ВКЛ і Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай.

На 4-м этапе ўзмацніліся польскія геральдычныя ўплывы на геральдыку ВКЛ. Крызіс перажывалі клейнавыя шляхецкія Г. У гэты час праз паланізацыю і натуралізацыю значна зменшылася іх колькасць. З мэтай класіфікацыі клейнавых гербавых выяў аўтары гербоўнікаў 17—18 ст. (Шыман *Акольскі*, Войцех *Каяловіч*, Каспер *Нясецкі* і інш.) залічалі іх да варыянтаў польскіх Г. На ўзор апошніх ім даваліся назвы або ад імя родапачынальніка («Карыбут», «Барэйка»), або ад назвы ўладання («Друцк»), або ад падабенства на нейкую рэч («Вага», «Ліхтар»), або, найчасцей, ад прозвішча ўладальніка («Масальскі», «Зяновіч»). У духу ідэалогіі *сарматызму* ствараюцца пышныя гербавыя легенды і міфы. Міфалагізацыя прадугледжвала стварэнне такой гербавай гісторыі, якая б тлумачыла паходжанне Г. Усё гэта спрыяла зніжэнню колькасці Г. чыста клейнавага тыпу. Аднак гал. фактарам, які абумовіў заняпад клейнавай геральдыкі, было знікненне прыватнай гербавай пячаткі ў шляхецкіх масах ВКЛ і замена яе подпісамі. У выніку знікла з ужытку вял. колькасць клейнавых Г., якія так і не знайшлі адлюстравання ў гербоўніках. Крызіс і заняпад клейнавых Г. прывёў да дамінавання ў шляхецкіх масах ВКЛ польскіх Г. Што датычыць апошніх, то для іх вызначальнай тэндэнцыяй стала уніфікацыя ці прывядзенне польскіх гербавых выяў у адпаведнасць з тымі ўзорамі, якія былі зафіксаваны ў гербоўніках. Шмат у чым падобны працэс быў адлюстраваннем сацыяльна-паліт. і культ. сітуацыі ў Рэчы Паспалітай. У гэты час у шляхецкай геральдыцы ВКЛ закончыўся працэс геральдызацыі. Па сутнасці, гэта была яго заключная стадыя: Г. набылі дадатковыя элементы — арматуру, тарчатрымальнікаў, ордэны і дэвізы. Былі вызначаны і замацаваны гербавыя колеры. Асаблівасцю геральдызацыі гэтага часу было знікненне гелмаў і шырокае выкарыстанне шляхецкіх карон, княжацкіх мітр і намётаў, што было праявай пэўнага гербавага «сепаратызму» шляхты ВКЛ у Рэчы Паспалітай. Пасля далучэння зямель ВКЛ да Рас. імперыі ў выніку 3 падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) падчас правядзення новымі ўладамі легітымацыі бел.-літоўкай шляхты адбылася яе канчатковая гербавая паланізацыя. Пад апошняй трэба разумець масавы свядомы пераход апалячанай шляхты б. ВКЛ да карыстання польскімі шляхецкімі Г. Расцягнуты па часе гэты працэс меў месца і ў першыя дзесяцігоддзі 19 ст.



Партрэт Крыштофа Хадкевіча са складаным **гербам**.




Да арт. **Герб**. Тытульны ліст «Біблії» Ф.Скарыны з выявамі яго шляхецкага герба і мяшчанскага гербіка. Прага. 1519.

*Літ.*: Ч е р н ы х А.П. Геральдика // Введение в специальные исторические дисциплины. М., 1990; Ц і т о ў А. Беларуская прыватная геральдыка // Спадчына. 1995. № 3; Я г о ж. Геральдыка беларускіх местаў. Мінск, 1998; Я г о ж. Сфрагістыка і геральдыка Беларусі. Мінск, 1999; Яго ж. Геральдыка Беларусі. Мінск, 2007; Ш а л а н д а А. Польска-лацінскія моўныя ўплывы на беларускую геральдычную тэрміналогію // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Гродна, 1998; Я г о ж. Перыядызацыя гісторыі геральдыкі Беларусі // Герольд Litherland. 2001. № 1; Я г о ж. Мяшчанская геральдыка ВКЛ у XV—XVIII ст.: да пастаноўкі праблемы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2003. № 19; Я г о ж. Гербавы «сепаратызм» шляхты ВКЛ у 2-й палове XVII—XVIII ст. // Шлях да ўзаемнасці. Гродна, 2004; L e l e w i e l I. Herby litewskie i wojewodztw ruskich oraz rozrodzenie się polskich 1413—1600 // Niesiecki K. Herbarz Polski. Lipsk, 1839. T. 1; W e r y h a - D a r o w s k i A. Znaki pieczętne ruskie: noty heraldyczne. Paryż, 1862; S z y m a ń s k i J. Nauki pomocnicze historii. Warszawa, 1972; K u c z y ń s k i S.K. Polskie herby ziemskie: Geneza, treści, funkcje. Warszawa, 1993; Rimša E. Heraldry: past to present. Vilnius, 2005; Я г о ж. Pieczęcie miast Wielkiego Księstwa Litewskiego. Warszawa, 2007.

***Аляксей Шаланда.***

**Гербініус** Ян (16.12.1627, г. Бычына, Сілезія—7.3.1679), дзеяч лютэранскай царквы, педагог, пісьменнік. Сын Эліаша Капусты, рэктара лютэранскай школы ў Бычыне, які лацінізаваў сваё прозвішча як Г. Ян вучыўся ў школе ў Бычыне, гімназіі ў Гданьску, ва ун-тах у Лейдэне (атрымаў тут у 1654 ступень магістра) і Вітэнбергу. Кіраваў школамі ў Бычыне (з 1657), Валове ў Сілезіі (з 1661), Баянове ў Вял. Польшчы (з 1663). Пасланы лютэранамі Рэчы Паспалітай у Данію, у 1669—70 жыў у Капенгагене, пасля прапаведнік і рэктар нямецкай школы ў Стакгольме, з 1673 прапаведнік у Вільні, дзе ўдзельнічаў у тэалагічных дыспутах з пратэстантамі і праваслаўнымі. Выдаў тут кнігу «Катэхізны гадзіннік» («Zygar katechizmo-

wу», 1675). З 1675 выкладаў у Каралявецкім ун-це, Тыльзіце, Гданьску. Выконваў абавязкі капелана шведскага пасольства ў Варшаве. З 1677 пастар у Грудзёндзе. Ведаў шмат моў. Пісаў вершы на польскай, нямецкай, лацінскай, французскай, грэчаскай, яўрэйскай мовах. Кнігі Г. выдаваліся ў Амстэрдаме, Гданьску, Іене, Капенгагене. Пераклаў на турэцкую мову катэхізіс (прызначаўся для турка, якога Г. ахрысціў у Стакгольме). Аўтар прац на лацінскай і польскай мовах у розных галінах навукі (літаратуразнаўства, мовазнаўства, геаграфія, логіка, рыторыка, педагогіка і інш.) і тэалогіі.


I. SYMBOLA FIDEI CHRISTIANÆ CATHOLICA:
To jest
Powszechne Náuki y Wiáry Chrześciáńskiey WYZNANIA / z cudownymi ich Historyami:
A po nich
II. CONFESSIA AUSZPURSKA,
Albo Wyznánie Náuki y Wiáry Ewáńgelickiey od Kurfirstow / Xiążąt / y niektorych Miast w Rzeszy Niemieckiey / á w Mieście Auszpurku ná walnym Seymie / Roku po Národzeniu Páńskim 1530. Dniá 25. Czerwcá / CAROLOWI Piątemu ś. p. Cesárzowi Rzymskiemu podáne y jáwnie czytáne / według Exemplarzá Łacińskiego ná ięzyk Polski wiernie przetłumáczone / á z Historyą iego świeżo wydáne:
III. KATECHIZM błogosłáwionego Oycá D. Márciná LUTHERA mnieyszy:
Do czego sie przywiązały
IV. ZYGAR KATECHIZMOWY, álbo Kátechizácya WILENSKA:
V. CATECHIZACYA Turecka / álbo Turczyná nieiákiego w Sztokholmie / Roku 1672. Dniá 30. Lipcá / jáwnie ochrzczonego / krotkie w Wierze Chrześciáńskiey ćwiczenie / Językiem Tureckim podáne y zpisáne
przez
X. JANA HERBINIUSA, bywszego niekiedy [illegible] w Wilnie [illegible]
We Gdáńsku / nákłádem Christiáná Mánsklapa / drukował Dawid Fryderyk Rhete Roku 1675.

Я.**Гербініус**. Сімвалы хрысціянскай веры. Гданьск. 1675. Тытульны ліст.

Апошнія былі сабраны ў кнізе «Сімвалы хрысціянскай веры» («Symbolae fidei Christianae», Гданьск, 1675). Пакінуў падрабязнае апісанне Кіева-Пячэрскай лаўры («Religiosae Kijovienses cryptae, sive Kijovia subterranea», Іена, 1675).

**Гербурт** Мамерт [28.4.1789, в. Качын Ковельскага пав.—18.2(2.3). 1873], дзеяч каталіцкай царквы, гісторык. Д-р тэалогіі (1816). У 1808—12 вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, з 1812 ксёндз, плябан у Клевані каля Роўна. З 1819 канонік луцкі. У 1821—29 рэктар Віленскай семінарыі. З 1829 віленскі канонік, потым прэлат-схаластык, з 1863 дэкан; жытомірскі прэлат-кусташ. У адносінах да рас. улад займаў лаяльную пазіцыю. Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці Віленскай археал. камісіі, падараваў Віленскаму музею старажытнасцей шмат старыж. рэчаў. З 1838 для Археагр. камісіі рабіў выпіскі са стараж. дакументаў Віленскага капітула і дыяцэзіі. Чл. Віленскага статыстычнага камітэта, у які ў 1849 прадставіў для друку збор актаў Віленскага капітула 1501—1601. У выніку вял. шматгадовай працы па складанні збору рэгестаў касцельных актаў стварыў рукапісны «Sumariusz» у 3 тамах (акты за 16, 17 і 18 ст.); захаваліся тамы 1 (акты 1501—1600) і 2 (акты 1601—79). Склаў збор каралеўскіх і княжацкіх прывілеяў Віленскаму біскупству з 1387 да 1690; збор папскіх булаў, актаў Базельскага сабора, папскіх нунцыяў, каралеўскіх лістоў, біскупскіх тастаментаў 14—19 ст.; збор выпісак з актаў Віленскай кансісторыі 1650—1714 (у 2 тамах); збор выпісак з актаў Троцкага павятовага суда 1643—50; збор выпісак з актаў Віленскага суда лаўнікаў 1464—1689; збор выпісак з актаў Ковенскага магістрата 1520—62; збор выпісак з актаў розных дыяцэзій, ваяводстваў, гарадоў (у т.л. Пінска) 17 ст.; вопіс актаў Камянецкага капітула 1596—1644; збор актаў кляштараў францысканцаў і аўгусцінцаў у Берасці 1404—1600. Усе зборнікі гіст. дакументаў Г. засталіся ненадрукаванымі. Выдаў некаторыя свае казанні, працы па тэалогіі, пераклад на польскую мову казання Грыгорыя Назіянзіна (1822), зборнік касцельных песняў («Cantionale ecclesiasticum», Вільня, 1856; 5 выд. 1882).

*Літ.*: P a w l i k o w s k a W. Wileńska Kapituła Katedralna w zapisie źródłowym. Cz. 1 // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia historica. Poznań, 2007. T. 12.

**Гервяты** (цяпер вёска ў Астравецкім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Віленскім ваяв., на р. Лоша. У 1434 згадваецца як вёска ў Медніцкай вол., а таксама як зямля, што раней была ў валоданні баяр Івашкі і Федкі Карэвічаў; уласнасць вял. князя літ. Жыгімонта Кейстутавіча, якую ён падараваў віленскаму біскупу Мацею і Віленскаму кафедральнаму касцёлу. У 1471 віленскі біскуп Ян купіў людзей з землямі ў баярыні Кацярыны Монтушавай, а ў 1474 — у ашмянскага баярына Станіслава Даўкшавіча. У 1475 упамінаецца двор, які віленскія біскупы заснавалі каля вёскі, падараванай ім Жыгімонтам Кейстутавічам. У 1484 вёска — уласнасць віленскага біскупа Андрэя, да якой ён прыкупіў маёнтак з людзьмі Гальчуны ў баярына Юрыя Юр'евіча Гаталтовіча. У 1536 маёнтак і мястэчка, уласнасць віленскага біскупа Яна, дзе ён заснаваў парафіяльны касцёл і надаў яму фундуш, у т.л. дзесяціны з маёнтка і 2 карчмы ў мястэчку. У 1539 сталовы маёнтак Віленскага біскупства, ва ўласнасці віленскага біскупа кн. Паўла Аляксандравіча Гальшанскага. У 1590 уласнасць віленскага біскупа, кардынала, кн. Юрыя Радзівіла. У 1597 мястэчка ў маёнтку віленскага біскупа, у якім было 34 дамы, у т.л. 15 дамоў на рынку, 15 дамоў вулічных, 4 халупы. У 1653 у маёнтку 112 дамоў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Герман Брэгер.*

**Герке** (Г і р к е, Г я р к е в і ч, Я р к е в і ч; Gierke, Gercke, Gierkiewicz, Jerkiewicz) Якуб (?—пасля 1664), віленскі гадзіннікавы майстар. Паходзіў, магчыма, з Германіі. У 1-й пал.—сярэдзіне 17 ст. быў найб. дасканалым гадзіншчыкам у Вільні, які стварыў шэдэўры гадзіннікавага рамяства. Высокім узроўнем выканання адрозніваюцца яго настольныя гадзіннікі, датаваныя 1616, 1621, 1626, 1628, 1636, 1637, 1640, 1642, 1644, 1646, 1660 і 1664. У 1621 вырабіў раскошны вежачкавы гадзіннік з пазалочанай бронзы, увенчаны купалам з фігурай Маці Божай (агульная вышыня 12,5 см). Іншы вежачкавы гадзіннік, датаваны 1628, мае наверсе фігурку Ісуса Хрыста з жывёламі. Кафляныя гадзіннікі майстра (у форме квадратнай кафлі) маюць вышыню 8 см, бакавыя памеры 10—11 см, некаторыя з іх акрамя ўзораў упрыгожаны сюжэтнымі выявамі (пакутніцтва св. Кацярыны, уваскрашэнне Хрыстом Пятра і інш.). Вядомы 2 гадзіннікі майстра з 6 бакавымі гранямі, адзін з іх паказвае знакі задыяка. У 1660 Г. стварыў складаны гадзіннік у драўляным зялёным корпусе, з фігурамі апосталаў Пятра і Паўла і Амура, выгравіраваны-

мі біблейскімі сцэнамі, які паказваў не толькі гадзіны і хвіліны, але таксама секунды, дні і фазы месяца; меў і невял. астралябію.

*Літ.*: Brensztejn M. Zegarmistrzostwo wileńskie w wiekach XVI i XVII // Ateneum Wileńskie. 1923. № 1; Siedlecka W. Polskie zegary. 2 wyd. Wrocław etc., 1988. S. 66, 76—77.

**Герловіч** Павел (25.1.1647, г. Вільня — 8.5.1703), людвісар, слесар, сталяр, друкар. У 1680 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Служыў сакрысціянам у віленскіх касцёлах св. Ігнація (1683—84), св. Казіміра (1684—86), прэфект Віленскай друкарні езуітаў (1686—1703), якую значна пашырыў. З прыбыткаў друкарні заказаў 3 алтары для касцёла св. Яна ў тэхніцы стука. Займаўся адліўкай шрыфтоў.

**Герман** [?—11(21).12.1681], дзеяч праваслаўнай царквы, паэт, музыкант-выканаўца. Паводле традыцыі, што захавалася да 19 ст., Г. паходзіў з ВКЛ, быў захоплены ў палон у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і падараваны царом Аляксеем Міхайлавічам патрыярху Нікану. Разам з Ніканам, калі той самавольна пакінуў патрыяршы прастол, Г. пасяліўся ў Васкрасенскім Новаіерусалімскім манастыры. Быў келейнікам патрыярха, іпадыяканам. Дасягнуў вышэйшых манастырскіх пасад «страіцеля» (1673—75, 1678— 80) і архімандрыта (з 1680). Быў верным прыхільнікам Нікана. У апошнія гады жыцця карыстаўся прыхільнасцю цара Фёдара Аляксеевіча, чытаў яму арацыі ў час царскіх візітаў. Верагодна, Г. падтрымліваў творчыя кантакты з Сімяонам Полацкім, Сільвестрам Мядзведзевым і інш. маскоўскімі інтэлектуаламі. Як паэт Г. пісаў вершаваныя пераробкі псалмоў, духоўныя песнапенні да храмавых свят і інш. Карыстаўся ізасілабічнай версіфікацыяй, цудоўна валодаў рознымі страфічнымі формамі, часта выкарыстоўваў акрасціх, у т.л. вершаваны. Г. быў таксама пеўчым, рэгентам хору, лютністам, магчыма, і кампазітарам (аўтарам гімнаў). У тастаменце Г. адзначана шмат польскіх і лацінскіх кніг, што, відавочна, сведчыць пра яго сувязі з радзімай (Біблія ў перакладзе Іераніма, лексікон, «польскія» псалмы, жыція святых, «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваньіні, альвар — лацінская граматыка).

*Літ.*: Позднеев А.В. Песни-акростихи Германа // Тр. Отдела древнерусской литературы. М.; Ленинград, 1958. Т. 14; Яго ж. Рукописные песенники XVII—XVIII вв.: из истории песенной силлабической пэзии. М., 1996; Панченко А.М. Русская стихотворная культура XVII века. Ленинград, 1973; Костюковец Л.Ф. Герман — поэт и композитор. (Из истории белорусской музыки XVII века) // Беларуская музыка: гісторыя і традыцыі. Мінск, 2003.



1




2

Я.**Герке**. Гадзіннік. 1646 (1); подпіс на гадзінніку 1626 (2).

**Герман фон Зальца** (Hermann von Salza; ?—да 20.3.1239), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1211—39. Паходзіў з рыцарскага роду з ваколіц Лангензальца. У 1196 удзельнічаў у паходзе ў Святую Зямлю. Да 1209 уступіў у Тэўтонскі ордэн. З 1211 упамінаецца як магістр нямецкага шпіталя ў Аке. Стаў фактычным стваральнікам Тэўтонскага ордэна як духоўна-рыцарскай карпарацыі і дзяржавы. Завязаў блізкія адносіны з імператарам Фрыдрыхам II, які пачаў давяраць яму важныя дыпламатычныя місіі. Карыстаючыся гэтым, Герман дабіўся для ордэна шмат прывілеяў і зямель. У 1215 атрымаў вялізныя ўладанні ад караля Венгрыі Андрэя II, але потым страціў іх. У 1226 атрымаў ад кн. Конрада Мазавецкага Хэлмінскую зямлю як базу для барацьбы з прускімі плямёнамі. У 1228 першыя тэўтонскія рыцары прыбылі ў Польшчу. Практычную работу па ўладкаванні ордэна на новым месцы даверыў мясц. магістру Герману фон Бальке. Г.ф.З. дамогся прывілеяў, што ўмацавалі незалежнае становішча ордэна ў Прусіі ад імператара Фрыдрыха II (1226) і рымскага папы Грыгорыя IX (1230). Быў пасрэднікам у спрэчках паміж імператарам і папам.




**Герман фон Зальца**.

**Германавіцкі касцёл**. Пабудаваны ў стылі позняга барока ў 1787 у мяст. Германавічы ў Браслаўскім пав. (цяпер вёска ў Шаркаўшчынскім р-не). Мураваны 1-нефавы храм з 2-вежавым гал. фасадам накрыты 2-схільным дахам з франтонамі на тарцах (на гал. фасадзе атыкавы франтон з валютамі). Паўкруглая апсіда (унутры 5-гранная) ніжэйшая за асн. аб'ём. Шмат'ярусныя вежы выступаюць за межы нефа. Верхнія ярусы скразныя. Пластыка фасадаў

ордэрная. Карнізы, абрамленні праёмаў, франтоны крывалінейных абрысаў. Унутры неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем. Сцены аздоблены пілястрамі, фрызам з лепкай, размалёўкай. Агароджа крывалінейных у плане хораў упрыгожана разным картушам.

**Германішкі** (цяпер вёска ў Астравецкім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав., на р. Жыжма. Упершыню ўпамінаюцца ў 14 ст. Належалі вял. князю літ. Ягайлу, які ў 1397 перадаў Віленскаму капітулу. У 1514 землі пад Астраўцом знаходзіліся ва ўласнасці гаспадарскага баярына Берната Германовіча і яго стрыечнага брата Яна Германовіча, узамен якіх, падараваных Альбрэхту Гаштольду да яго маёнтка Астравец, вял. князь літ. і кароль польскі Жыгімонт І Стары даў інш. землі ў Ашмянскім пав. У 1540 згадваецца двор, які купіў жамойцкі стараста Ян Мікалаевіч Радзівіл да свайго маёнтка Жупраны, што яму пацвердзіў Жыгімонт І. Паміж 1566 і 1572 атрымалі прывілей на стварэнне мястэчка, таргоў і корчмаў. У 1686 біскуп Канстанцін Казімір Бжастоўскі пабудаваў у мястэчку касцёл Св. Тройцы. У 18 ст. мястэчка — маёмасць Віленскага біскупства. У 1790 у Г. 94 ж., 24 двары, млын, карчма, належалі біскупу Ігнацію Масальскаму. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. ***Герман Брэгер.***

**Герцык** Ян (27.12.1728, г. Полацк—19.5.1777), дзеяч каталіцкай царквы. У 1744 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вывучаў у Грацы (Аўстрыя) тэалогію і матэматыку (1756—59), у Вене матэматыку (1759—60). Праф. філасофіі ў «Калегіум нобіліум» у Варшаве (1762—63), у Нясвіжы (1763—66), Полацку (1767—69), праф. тэалогіі і кананічнага права ў Полацку (1770—73). Аўтар кнігі «Палажэнні агульнай фізікі» («Assertiones ex physica generali», Нясвіж, 1766).

**Герыч** Ганна (1789, Слуцкі пав. Мінскай губ.; ахрышчана ў Капыльскай парафіі—21.2.1857), пісьменніца-мемуарыстка. З роду Рэйтанаў. Дачка Міхала Рэйтана, старэйшага брата Тадэвуша *Рэйтана*, і Ганараты Баргдановіч. Жонка Караля Герыча, маці Эдварда Герыча — удзельніка паўстання 1830—31, эмігранта. Пасля смерці маці выхоўвалася ў маёнтку Грушаўка, які ў 1778 перайшоў ва ўласнасць братоў Т.Рэйтана Антонія і Станіслава. Пасля смерці мужа 18 гадоў валодала маёнткам Ішкалдзь, які пасля паўстання 1830—31 канфіскаваны на карысць кн. Вітгенштэйна. У 1837 пераехала да сына ў Парыж. Падтрымлівала кантакты з А.Міцкевічам, С.Гашчынскім, А.Таванскім, Л.Ходзькам, А.Бергелем, А.Гарэцкім і інш. У 1830-х г. пачала пісаць успаміны па гісторыі побыту бел. шляхты перыяду ВКЛ, пра жыццё Т.Рэйтана і інш. Частка яе рукапіснай спадчыны ўпершыню надрукавана ў ліст. 1857 у львоўскім часопісе «Дзеннік літэратурны» (асобнае выданне 1858). Рукапіс успамінаў, у т.л. 2 часткі, што з'яўляюцца працягам друкаванага тэксту (апісанне маёнтка Ішкалдзь і дзейнасці Тавянскага), захоўваюцца ў Польскай б-цы і Музеі Адама Міцкевіча ў Парыжы.

*Тв.*: Z pamiętników Anny z Rejtenów Geryczowej, zmarłej w Paryżu roku 1857 // Dziennik Literacki. 1857. № 133—137; Z pamiętników Anny z Rejtenów Gieryczowej zmarłej w Paryżu roku 1857. Lwów, 1858.

*Літ.*: Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст.: нарысы быту і звычаяў. Мінск, 1982; Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Минск, 2004. С. 424—429; Listy Seweryna Goszczyńskiego (1823—1875). Kraków, 1937; Potrykowski J. Tułactwo Polaków we Francji: dziennik emigranta. T. 2. Kraków, 1974; Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Przeczypospolitej. T. 2. Wrocław, 1993; Polacy pochowani na Cmentarzu Montmartre oraz Saint-Vincent i Batignolies w Paryżu. Warszawa, 1999. ***Вольга Гарбачова.***

**Геткант** (Getkant, Gedkant) Фрыдрых (1602 або 1604, Рагайне, Прусія—1666), картограф, ваенны інжынер, артылерыст. З 1621 вучыўся ў Каралявецкім ун-це. Паступіў на службу да караля польскага і вял. князя літ. Уладзіслава IV, ад якога атрымаў званне інжынера. У час падрыхтоўкі да вайны са Швецыяй у 1634—35 выканаў планы гарадоў Пуцк, Тчэў, Грудзёндз, Гнеў, Шпіца Мантаўская, план абложанай шведамі Пілавы. У 1637 выканаў план Пуцкага заліва з фартыфікацыямі Уладзіслава і Казіміра.



Ф.**Геткант**. План умацаванняў Вільні. 1648.

У 1638 пачаў працу над атласам «Практычная тапаграфія» («Topographica practica»), куды ўвайшлі планы гарадоў і ўмацаванняў. З гарадоў ВКЛ склаў планы Коўна, Таўрогаў, Вярбілава, Вільні і яе прадмесця Лукішкі (1648). Арганізаваў рэканструкцыю ваенных умацаванняў Вільні. Як мяркуецца, кіраваў будаўніцтвам *Віленскага артылерыйскага бастыёна*. Пасля дзейнічаў ва Украіне, удзельнічаў у бітве пад Берасцечкам 1651 з казакамі. Оберштлейтэнант (1654). Пасля ўзяцця шведамі Кракава ў 1655 паступіў на шведскую службу, камандаваў артылерыяй пры аблозе Яснай Гуры. Пасля перайшоў на бок караля польскага і вял. князя літ. Яна II Казіміра, удзельнічаў у 1658 у аблозе занятай шведамі Торуні. Палкоўнік артылерыі (1658). З 1660 жыў у Львове, дзе падчас пажару горада ў 1662 страціў свае навук. працы, прызначаныя да друку. Сябраваў з К.*Семяновічам*, які ў сваёй кнізе «Вялікае мастацтва артылерыі» апісаў артылерыйскія вынаходніцтвы Г., назваў яго «польскім Архімедам».

*Літ.*: Зенковіч А.Ф. План г. Вильны 1648 года // Зап. Сев.-Зап. отдела Императорского Русского Географического Общества. Вильна, 1914. Кн. 4; Alexandrowicz S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989; Reweńska W. Plan Wilna Fryderyka Getkanta: analiza kartograficzna // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1995. T. 6.

**Гец** Казімір (13.3.1715, Прусія—1762), дзеяч каталіцкай царквы. У 1743 уступіў у Варшаве ў ордэн езуітаў. Выкладаў рыторыку ў Пашаўшы (1745—46), служыў місіянерам у Кейданах (1747—49). Каля 1750 выйшаў з ордэна, стаў канонікам жамойцкім. Выдаў кнігу «Сінод дыяцэзіі Медніцкай, або Жамойцкай» («Synodus dioecesana Mednicensis seu Samogitiae», Вільня, 1752).

**Гжэгаж з Жарноўца** (каля 1528, мяст. Жарновец Паморскага ваяв., Польшча—1601), пратэстанцкі рэлігійны дзеяч Польшчы і ВКЛ. Паходзіў з плябейскай сям'і. Узгаданы як удзельнік евангельска-рэфармацкага сінода ва Уладзіславі ў 1566, калі быў катэхістам у Кжэнціцах. Удзельнік аб'яднанага пратэстанцкага Сандамірскага сінода 1570. У 1578 узгаданы як міністр у Багданаве (Пазнанскае ваяв.). З 1583 згадваецца як міністр ва Улашчове (Сандамірскае ваяв.). Удзельнік Тарунскага сінода 1595, на якім актыўна выступаў за захаванне *Сандамірскай згоды 1570*. Браў удзел у пратэстанцка-правасл. *Віленскім з'ездзе 1599*. Падтрымліваў цесныя сувязі з польскімі пратэстанцкімі магнатамі, асабліва з Кшыштапорскімі, якім прысвяціў шэраг сваіх палемічных твораў. Меў папулярнасць найперш як кальвініcцкі палеміст і прапаведнік («кальвініcцкі Скарга»). Яго гал. праца «Пасціла, або Выклад нядзельных Евангелляў і ўрачыстых свят» («Postilla albo wykład Ewanieliy Niedzielnych y Świąt uroczystych», Кракаў, 1582?; 2 выд., Вільня, 1597—1605?) уступіла ў палеміку з «Пасцілай» каталіцкага тэолага Я.*Вуека*. Да 1-га выдання кнігі далучаны прадмовы канцлера ВКЛ і кашталяна віленскага Астафія Валовіча да караля Стэфана Баторыя, польскіх пратэстанцкіх тэолагаў Паўла *Гілеўскага* і К.Трэцыя да Валовіча. 2-е выданне пачынаецца з прадмовы «стрэйшых евангельскіх збораў у Літве» да ваяводы віленскага Крыштофа Радзівіла. Паводле тэалагічных поглядаў Гжэгаж прытрымліваецца афіцыйнай дактрыны евангельска-рэфармацкага збору Рэчы Паспалітай, выкладзенай у Сандамірскай канфесіі. Гал. ўвага ў працы звернута на абарону гэтай дактрыны, абвяржэнне абвінавачванняў контррэфармацыйнай прапаганды, а таксама крытыку каталіцкай дагматыкі і культу. Часам крытыка каталіцтва мае вельмі радыкальны характар, лідэры контррэфармацыйнага руху абвінавачваюцца ў ерасі, а папа рымскі параўноўваецца з Антыхрыстам. Гжэгаж выступаў супраць гвалту ў рэліг. сферы, прызнаваў магчымасць ужывання супраць «ерэтыкоў» выключна духоўных сродкаў. «Пасціла» Гжэгажа выклікала шэраг палемічных адказаў з боку каталіцкіх тэолагаў (Вуека, С.*Градзіцкага*, А.Лукомскага). Гжэгаж адказаў працай «Абарона евангеліцкай пасцілы» («Obrona Postylli Ewangelickiej», Кракаў, 1584—86?). Супраць антытрынітарыяў скіраваны яго працы «Апакатастасіс, гэта значыць Паправа галоўнага палажэння аб боскім выкупленні праз Хрыста» («Apokatastasis to iest naprawa artykułu naygruntownieyszego o dosyć uczynieniu sprawiedliwości Bożey przez Chrystusa», без года; 2-е выд. 1598), «Кліпенс, або Духоўны шчыт» («Clypens abo Tarcz duchowna», Вільня, 1598), «Апомаксіс, або Абвяржэнне няправільных слоў Яна Ліцынія» («Apomaxis albo zniesienie niesłuszney skazy Jana Liciniusa», Вільня, 1600). У гэтых творах Гжэгаж абараняе дагматы аб Тройцы і боскасці Хрыста, якія адмаўляліся антытрынітарыямі, крытыкуе элементы рацыяналізму ў вучэнні польскіх і літ.




**Гжэгаж з Жарноўца**. «Кліпенс». Вільня. 1598. Тытульны ліст.

братоў. Працы Гжэгажа выклікалі палеміку з боку антытрынітарыяў ВКЛ і Польшчы (П.Статорыуса, Я.Л. *Намыслоўскага*). Выданне твораў Гжэгажа ў Вільні сведчыць пра яго цесныя кантакты з пратэстанцкай супольнасцю ў ВКЛ. Працы Гжэгажа мелі шырокую папулярнасць не толькі ў пратэстанцкіх колах ВКЛ і Польшчы, але і за мяжой (каля 1593 «Пасціла» была перакладзена на нямецкую мову). Яны мелі значны ўплыў на далейшае развіццё пратэстанцкай тэалогіі, асабліва пастылаграфіі ВКЛ і Польшчы (К.Краінскі, С.*Дамброўскі*). Сінод евангельска-рэфармацкай царквы ВКЛ 1617 назваў «Пасцілу» Гжэгажа ў ліку кніг, абавязковых для бібліятэк духоўных асоб.

*Тв.*: Postilla abo wykłady Ewanielij niedzielnych i świąt uroczystych. S.l., 1864.

*Літ.*: Łukaszewicz J. O kościołach braci czeskich w dawnej Wielkiej Polsce. Poznań, 1835; Яго ж. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w dawnej Małej Polsce. Poznań 1853; Grabowski T. Z dziejów literatury kalwińskiej w Polsce (1550—1650). Kraków, 1906; Яго ж. Piotr Skarga na tle katolickiej literatury religijnej w Polsce wieku XVI. 1536—1612. Kraków, 1913; Halecki O. Zgoda Sandomierska 1570: Geneza i znaczenie w dziejach Reformacji polskiej za Zygmunta Augusta. Warszawa; Kraków, 1915; Kolbuszewski K. Postyllografia polska XVI i XVII w. Kraków, 1921; Wojak T. Uwagi o tolerancji w Polsce na tle polemiki wyznaniowej w XVI wieku // Wkład protestantyzmu do kultury polskiej. Warszawa, 1970; Kaweczka-Gryczowa A. Spory o «szczyrą prawdę» // Odrodzenie i reformacja w Polsce. Warszawa, 1978. T. 12; Maciuszko J. Ewangelicka postyllografia polska XVI—XVII wieku. Warszawa, 1987; Radoń S. Stosunek do Braci Polskich w XVI i XVII wieku: obraz zboru w piśmiennictwie antyariańskim // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Studia Religiologica. Kraków, 1994. Z. 27; Яго ж. Z dziejów polemiki antyariańskiej w Polsce XVI—XVII wieku. Kraków, 1993; Kempa T. Wobec kontrreformacji: protestanci i prawoslawni w obronie swobód wyznaniowych w Rzeczypospolitej w końcu XVI i w pierwszej połowie XVII wieku. Warszawa, 2007. ***Ігар Бортнік.***

**Гізберт-Студніцкі** Багуслаў (7.6.1683, ВКЛ—7.3.1730), дзеяч каталіцкай царквы. У 1701 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі ў Вільні (1714—16) і Слуцку (1716—17, 1718—20), філасофіі ў Вільні (1720— 23), тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве (1723—25) і Вільні (1725—26). З 1726 пастулатар у справе беатыфікацыі Андрэя Баболі ў Рыме. Аўтар панегірыкаў, тэатральнай п'есы («Saltus citra motum e Rhodo insula in Coelum quiete beatifica terminatus», 1715), у рукапісах пакінуў лекцыі па філасофіі і тэалогіі.

**Гілёўскі** Павел (каля 1534, мяст. Гілёвіцы Кракаўскага ваяв., Польшча—5.4.1595), пратэстанцкі рэлігійны дзеяч ВКЛ і Польшчы, тэолаг. Паходзіў з дробнай шляхты. Пра месца і час вучобы звестак няма. Да 1556 быў пробашчам у Войнічы (Кракаўскае ваяв.). Далучыўся да евангельска-рэфармацкай царквы 8.12.1556 на сінодзе ў Іванавіцах. З 1557 міністр у зборах у Палянцы і Пшэціўшове (Асвенцімска-Затарскае княства), потым суперінтэндэнт у Затарскім дыстрыкце. Праводзіў актыўную арганізацыйную дзейнасць па стварэнні новых збораў і наглядзе за выкананнем міністрамі сваіх духоўных абавязкаў у Затарскім дыстрыкце. З мэтай узмацнення евангельска-рэфармацкай царквы ў Польшчы звяртаўся ў лістах за падтрымкай да аўтарытэтных лідэраў зах.-еўрапейскай Рэфармацыі Г.Булінгера і Т.Безы. На сінодзе ва Уладзіслаўі 1559 выступаў з прапановамі па дэмакратызацыі царк. структуры: выбарнасць суперінтэндэнтаў і сеньёраў на агульным сходзе збору, права сеньёраў прымаць рашэнні толькі са згоды сінода. Разам з тым арганізацыйная актыўнасць Г. прывяла да яго канфлікту з шэрагам міністраў Затарскага дыстрыкта, якія на сінодзе ў Ксёнжы 1560 абвінавацілі Г. ва ўвядзенні новых парадкаў без агульнай згоды. Г. прымаў актыўны ўдзел у Сандамірскім аб'яднаным сінодзе лютэран, кальвіністаў і чэшскіх братоў 1570, дзе заклікаў лютэран і чэшскіх братоў да прыняцця *Сандамірскай канфесіі*. Выступаў прыхільнікам агульнапратэстанцкага паліт. саюзу на аснове Сандамірскай згоды 1570: разам з М.Сарніцкім і К.Трэцым дзейнічаў на карысць узгодненых дзеянняў дысідэнцкай шляхты на сойме 1570; у 1573 прымаў удзел у аб'яднаным сінодзе лютэран, кальвіністаў і чэшскіх братоў у Кракаве, які пацвердзіў агульнапратэстанцкі паліт. саюз. У 1575—79 прапаведнік збору ў Кракаве. У 1579—80 знаходзіўся ў Вільні падчас сойма. У 1580—89 міністр у Вільні, з 1590 — у Ланцуце. Выконваў абавязкі сеньёра Рускага дыстрыкта. Быў адным з ідэолагаў кальвінізму ў ВКЛ і Польскім каралеўстве. Першы вядомы твор Г. «Выяўленне таго, што Айцец, Сын і Дух ёсць адзіны ісцінны Бог»


WYKLAD
Kátechizmu Kośćiołá
Chrześćiáńskiego / z Pism Swiętych
dla Wiáry prawdziwey vtwierdzenia / y fałszywey sie vstrzeżenia / nápiśány / á teraz znowu z popráwą y przyczynkiem wypuszczony.
Przez X. Páwłá Gilowskiego / Káznodźieie Słowá Bożego prawdziwego.
Przydány tesz iest odpis przećiwko Czechowicowi Nowokrzczeńskiemu Ebionićie / ktory był wypuścił swoy rozsądek przećiwko temu Kátechizmowi / ná Artykuł przednieyszy o Bogu / dosyć nie słuszny á błędu pełny.
Nákłádem Wielmożney Pániey Jey Mśći Pániey Pániey Doroty Samboreckiey / z Okrzeicy y z Ostrowá Záwiszyney Kásztellánowey Witebskiey / Dzierżáwczyney Somiliskiey etc.
W Zeymach ... Rok 16..

П.**Гілёўскі**. «Катэхізіс хрысціянскай царквы». Вільня. 1605. Тытульны ліст.

(«Okazanie... że Ociec, Syn i Duch są jeden prawdziwy Bóg», 1566) належыць да тэалагічнай палемікі з узнікшым у межах рэфармацыйнага руху антытрынітарызмам. Гал. тэалагічная праца Г. «Катэхізіс хрысціянскай царквы» («Katechizm kościoła krześcijańskiego», Кракаў, 1579; 3-е выд. Вільня, 1605) выклікала палеміку з лідэрам антытрынітарызму М.*Чаховіцам*, у ходзе якой Г. выдаў «Адказ на ядавітыя паклёпы Марціна Чаховіца» («Odprawa przeciwko jadowitym potwarzom Marcina Czechowica», 1605). У віленскі перыяд Г. выдаў «Трактат, або Кароткае вызнанне веры» («Traktat albo krótkie okazowanie o wierze», прысвечаны канцлеру ВКЛ і кашталяну віленскаму Астафію Валовічу), «Тры казанні аб нараджэнні Ісуса Хрыста, на Варшаўскім сойме



1579» («Kazania trzy o Narodzeniu... Jezusa Chrystusa, w Warszawie pod sejmem miane w r. 1579», 1582), «Пасцілы хрысціянскай чацвёртая частка» («Postylle chrześcijańskiej część czwarpta», 1582) з далучанымі да яе «Трыма казаннямі». Спрэчным застаецца пытанне, ці былі першыя 3 часткі «Пасцілы» выдадзены раней, ці меўся на ўвазе працяг «Пасцілы» Гжэгажа з Жарноўца. Г. таксама ўдзельнічаў у палеміцы з каталікамі: «Разважанне аб працы нейкага езуіта з Пазнанскага кляштара аб пераўтварэнні хлеба ў сапраўднае цела Ісуса Хрыста» («Rozsądek rozprawy niektórego jezuity z klasztoru poznańskiego o przemienieniu chleba w Ciało prawdziwe... Jezusa Chrystusa», 1593). Г. займаў пазіцыі артадаксальнага кальвінізму і крытыкаваў погляды сваіх рэліг. апанентаў. Аднак стыль яго прац пазбаўлены характэрных для рэліг. палемікі таго часу экспрэсіўных рытарычных зваротаў. У той жа час выкарыстоўваў вострыя інвектывы і інталерантныя інтэнцыі ў дачыненні да іншаверцаў, асабліва антытрынітарыяў (так, Г. станоўча ацэньваў спаленне М.Сервета ў кальвінісцкай Жэневе). Католікаў і антытрынітарыяў характарызаваў як ерэтыкоў, праціўнікаў ісцінnай веры, папу рымскага называў Антыхрыстам. У кантэксце рэліг.-этычнай праблематыкі Г. закранаў некаторыя сац. пытанні: крытыкаваў марнатраўства і схільнасць да раскошы маёмных пластоў грамадства, асуджаў крайнасці феад. эксплуатацыі, выступаў супраць ліхвярства. Творчасць Г. мела вял. ўплыў на развіццё тэалагічнай думкі ВКЛ і Польшчы. Сінод евангельска-рэфармацкай царквы ВКЛ 1617 назваў «Катэхізіс» Г. ў ліку кніг, абавязковых для б-кі духоўных асоб.

*Літ.*: Łukaszewicz J. O kościołach braci czeskich w dawnej Wielkiej Polsce. Poznań, 1835; Яго ж. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w dawnej Małej Polsce. Poznań, 1853; Grabowski T. Z dziejów literatury kalwińskiej w Polsce (1550—1650). Kraków, 1906; Wotschke T. Christoph Tretius. Königsberg, 1907; Яго ж. Der Briefwechsel der Schweitzer mit den Polen. Leipzig, 1908; Яго ж. Geschichte der Reformation in Polen. Leipzig, 1911; Halecki O. Zgoda Sandomierska 1570: Geneza i znaczenie w dziejach Reformacji polskiej za Zygmunta Augusta. Warszawa; Kraków, 1915; Kolbuszewski K. Postyllografia polska XVI i XVII w. Kraków 1921; Brückner A. Różnowiercy polscy. Warszawa, 1962; Szczucki M. Marcin Czechowic. Warszawa, 1964; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Kaweczka-Gryczowa A. Spory o «szczyrą prawdę» // Odrodzenie i reformacja w Polsce. Warszawa, 1978. T. 12; Maciuszko J. Ewangelicka postyllografia polska XVI—XVII wieku. Warszawa, 1987.

*Ігар Бортнік.*

**Гільтэбрант** (Гильтебрандт) Пётр Андрэевіч [26.4(8.5).1840, в. Пер'і, Касімаўскі пав. Разанскай губ.—29.11 (12.12).1905], расійскі гісторык, археограф, этнограф, фальклорыст. Вучыўся ў Маскоўскім ун-це (1861—63). Працаваў у пецярбургскай газеце «Голос», у 1865—70 памочнік архіварыуса Віленскага цэнтр. архіва стараж. актавых кніг, заг. аддзела рукапісаў Віленскай публічнай б-кі, у 1867 чл. Віленскай археагр. камісіі, з 1871 у Археагр. камісіі ў Пецярбургу, з 1884 у сінадальнай друкарні, з 1897 у Міністэрстве нар. асветы. Арганізаваў шэраг экспедыцый на тэр. Беларусі па выяўленню рукапісных матэрыялаў і рэдкіх кніг. У 1867 абследаваў нясвіжскі архіў Радзівілаў, дзе знайшоў урывак Слуцкага летапісу 16 ст. У 1869 упершыню надрукаваў са сваімі каментарыямі Тураўскае евангелле 11 ст. У «Виленском вестнике» і «Литовских епархиальных ведомостях» змяшчаў пад крыптанімамі П.А., П.Г., П.Г-ндт артыкулы і рэцэнзіі па нар. творчасці, музейнай і бібліятэчнай справе, археалогіі. У 1866 Паўн.-Зах. аддзел Рус. геагр. таварыства перадаў Г. калекцыю фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, сабраных навучэнцамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Частку з іх (300 песень, 151 прыказку і 93 загадкі) ён выдаў асобным зборнікам (вып. 1, 1866). Побач з сапраўды нар. бел. песнямі там змешчаны штучныя, псеўдафальклорныя творы казённа-патрыятычнага зместу і вершы літаратурнага паходжання. Бел. фальклорны матэрыял, які Г. збіраўся выдаць у 2-м выпуску зборніка, захоўваецца ў Рас. нац. б-цы. У 1867—1904 рэдагаваў асобныя тамы «*Археаграфічнага зборніка дакументаў*», удзельнічаў у падрыхтоўцы тамоў «*Рускай гістарычнай бібліятэкі*» [т. 4, 1878 (змешчаны «Дыярыуш» Афанасія Філіповіча), т. 7, 1882, т. 19 і т. 20, 1903]. У тэкстах выданняў рабіў адвольныя праўкі. Пад яго наглядам выходзілі працы ўкр. этнографа і фалькларыста П.П.Чубінскага («Труды Этнографическо-статистической экспедиции в Западнорусский край. Т.1—7. Санкт-Пецярбург, 1872— 78). Аўтар «Даведачнага і тлумачальнага слоўніка да Новага запавету» (кн. 1—6, 1882—85). Склаў апісанне рукапісаў Віленскай публічнай б-кі. У навук. і грамадскай дзейнасці прытрымліваўся пастулатаў заходнерусізму, выступаў супраць польскага ўплыву ў Беларусі, але не прызнаваў беларусаў як самастойны народ.

*Тв.*: Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вып. 1. Вильна, 1866; Немецкая контора в Полоцке // Сб. материалов и статей по истории Прибалтийского края. Рига, 1869. Т. 2; Несвижский катехизис 1562 года: заметки. Вильна, 1870; Васко-Вощило, внук Богдана Хмельницкого // Рус. старина. 1870. № 11; Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Вып. 1. Вильна, 1871.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Беларуская фалькларыстыка: збіранне і даследаванне народнай творчасці ў 60-х гадах XIX—пачатку XX ст. Мінск, 1989; Шумейко М.Ф. Белорусская археография в первой четверти XIX—XX вв.: (проблемы теории, истории, методики). Минск, 2000.

**Гімбут** (Кгинбут), легендарны жамойцкі князь. Паводле бел.-літ. летапісаў, быў сынам кн. Кунаса, унукам Палемона. Пасля смерці Кунаса яго сыны сталі князямі: Кернус — Завілейскай Літвы, а Г. — гарадоў Юрбарка, Кунасава і Жамойцкай зямлі. Г. княжыў доўгі час і жыў у згодзе з братам. Паводле Хронікі Быхаўца, Кернус і Г., «жадаючы айчызны сваёй размножыць», прадпрынялі сумесны паход да гарадоў Браслаў і Полацк, захапілі шматлікі палон. Падчас гэтага паходу на Жамойць напалі латгалы. Г., калі вярнуўся з паходу, прадпрыняў у адказ карную экспедыцыю на латгалаў «і ўсіх



выкараніў, высцінаў, а іншых у палон вывеў да Жамойці, і зямлю іх пустой учыніў». «Хроніка літоўская і жамойцкая» дадае, што Кернус і Г. спярша ваявалі да Берасця, а потым накіраваліся да Полацка. Г. пакінуў пасля сябе сына Мантвіла, якому адышло Жамойцкае княства.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Гінвіл** (Кгинвил), легендарны полацкі князь. Паводле бел.-літ. летапісаў, быў сынам князя літоўскага, навагародскага і полацкага Мінгайлы (Міхаіла), пасля смерці якога яго сыны сталі князямі: Шварн (у інш. версіі Скірмунт) — навагародскім, а Г. — полацкім. Г. ажаніўся з дачкой вял. князя цвярскога Барыса Мар'яй, для чаго прыняў праваслаўе. Атрымаў хроснае імя Барыс у гонар цесця. Заснаваў горад на р. Бярэзіна, назваў яго сваім імем — Барысаў. Пабудаваў у Полацку Сафійскі сабор, Спаскі манастыр, Барысаглебскую царкву ў Бельніцы (Бельчыцах). Прадаставіў палачанам права збірацца на веча. Паводле адной летапіснай версіі, меў сына Глеба (будучы князь полацкі) і дачку Парараскоўю (будучая св. Пракседа). Паводле інш. версіі, меў сына Васіля (Рагвалода), які, у сваю чаргу, меў сына Глеба і дачку Праскоўю. Паводле Хронікі Быхаўца, Г. атрымаў хроснае імя Юрый, княжыў у Полацку нядоўга, а пасля яго смерці ў 1199 княства адышло да яго сына Барыса (памёр у 1206), які і заняўся горадабудаўнічымі справамі, адзначанымі ў інш. летапісах. Гэтую версію прыняў гісторык 16 ст. М.Стрыйкоўскі, хроснае імя Г. у яго хроніцы — Юргі. Храніст дадае, што гэты князь вёў доўгія войны з пскавічамі і смалянамі, памёр не ў старым узросце і пакінуў пасля сябе сына Барыса. Гэтыя звесткі перайшлі ў «Хроніку літоўскую і жамойцкую», дзе смерць Мінгайлы і пачатак княжання Г. ў Полацку датаваны 1268. Легенда пра Г. і яго дзяцей, якая супярэчыць старажх.-рус. летапіснай традыцыі, павінна была абгрунтаваць правы вял. князёў літоўскіх на Полацкае княства.

*Літ.*: Гл. да арт. *Гімбут*.

**Гінвіл** (Кгинвил), легендарны літоўскі князь. Паводле бел.-літ. летапісаў, быў сынам кн. *Гедруса* (паводле Еўраінаўскага летапісу — сынам кн. Аляксандра, невядомага з інш. паведамленняў). Нашчадкі Г. ў летапісах не названы, можна меркаваць, што пад імі меліся на ўвазе князі Гедройцкія, родапачынальнікам якіх названы кн. Гедрус.

**Гінвіл**, ваявода вялікага князя літоўскага Вітаўта. Разам з Васілём Барэйкавічам быў пасланы супраць мяцежнага кн. Карыбута, які ў 1392 адмовіўся прызнаць Вітаўта вял. князем ВКЛ. Войскі Г. і Васіля Барэйкавіча разбілі атрады Карыбута каля Дакудава, пасля чаго той збег у Навагародак.

**Гінкевіч** Міхал (каля 1594, Жамойць—4.4.1663), дзеяч каталіцкай царквы. У 1615 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1626 ксёндз. Д-р тэалогіі (1636). Выкладаў гуманіёру (комплекс пачатковых дысцыплін), красамоўства і паэтыку ў Вільні (1617—19). Вывучаў у Рыме філасофію і тэалогію. Праф. маральнай тэалогіі ў Пултуску (1629—30), тэалогіі ў Вільні (1633—37), Свяшчэннага Пісання ў Вільні (1644—45), рэктар Нясвіжскага калегіума (1641—44), прэпазіт дамоў прафесаў у Вільні (1646—50) і Варшаве (1651—53), пенітэнцыярый у Рыме (1654—61), рэктар Віленскай акадэміі (1661—63). Адбудаваў акадэмію пасля разбурэнняў, выкліканых вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Аўтар казанняў, прац па тэалогіі, у т.л. пра Найсвяцейшую Панну Марыю «Задыяк дванаццаці сузор'яў» («Zodiacus stellarum XII» (Гданьск, 1707), у рукапісах пакінуў «Жыцці віленскіх біскупаў», лекцыі па філасофіі.

*Літ.*: Piechnik L. Rozkwit Akademii Wileńskiej w latach 1600—1655. Rzym, 1983; Яго ж. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**Гірус** (Кгирус), легендарны літоўскі князь. Паводле бел.-літ. летапісаў, паходзіў з княжацкага роду герба «Кітаўрас», быў сынам Даўспрунка з Дзяволтвы. Вял. князь літ. Кернус, не маючы сыноў, а толькі дачку Паяту, выдаў яе замуж за Г., які стаў вял. князем літоўскім пасля Кернуса. Пасля смерці жамойцкага кн. Неманаса яго ўладанні адышлі да Г., які такім чынам стаў вял. князем літ. і жамойцкім. Па просьбе навагародскага кн. Шварна, які вёў войны з рус. князямі, Г. паслаў яму ў дапамогу свайго старэйшага сына Кукавойта. Пасля смерці Г. вял. князем літ. і жамойцкім стаў Кукавойт.

*Літ.*: Гл. да арт. *Гімбут*.

**Гістарычны архіў Літоўскай дзяржавы** (Lietuvos valstybės istorijos archyvas) у Вільнюсе. Створаны ў 1957 як Цэнтр. дзярж. гіст. архіў Літ. ССР на базе збораў Аддзела гіст. фондаў Цэнтр. дзярж. архіва Літ. ССР, утворанага ў 1940 і ўключаўшага дакументы Віленскага цэнтр. архіва стараж. актаў, Віленскага архіва прысутных месцаў і Архіва-музея М.М.Мураўёва. З 1990 Цэнтр. дзярж. гіст. архіў Літвы. Захоўвае дакументы 15—пач. 20 ст. — 1116 фондаў, 1 333 204 адзінак захоўвання, 8 808 830 кадраў мікрафільмаў (пач. 21 ст.). Зберагае актавыя і наратыўныя крыніцы, якія маюць важнае значэнне для вывучэння ВКЛ. Сярод дакументаў фонды Трыбунала ВКЛ, земскіх, гродскіх, падкаморскіх, кампрамісарскіх, каптуровых, канфедэрацкіх судоў, магістратаў (у т.л. імянная кніга Віленскага магістрата 1616—1771), Радзівілаўскай камісіі, Віленскай рымска-каталіцкай мітрапаліцкай курыі, упраўлення віленскага каталіцкага біскупа, правасл. і грэка-уніяцкай кансісторый, Віленскай евангелісцка-лютэранскай калегіі, Віленскай археагр. камісіі, манастыроў (у т.л. Віленскага Святадухаўскага манастыра), Таварыства сяброў навукі ў Вільні, фамільныя зборы магнацкіх родаў Агінскіх, Белазораў, Горскіх, Друцкіх-Любецкіх, Плятэраў, Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў і інш. Пераважную частку архіўных збораў складаюць сац.-эканамічныя і грамадска-паліт. матэрыялы — інвентары, люстрацыі маёнткаў, лясніцтваў, староставаў, дзяржанняў, эканомій, тарыфы падымнага падатку, разнастайныя суд. справы, акты куплі-продажы і заставы маёнткаў, матэрыялы пра падзелы Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст., паўстанне 1794. З наратыўных матэрыялаў захоўваюцца старадрукаваныя кнігі, эпісталярная спадчына, асобныя зборнікі літаратурных і публіцыстычна-паліт. твораў 17—



18 ст., з рэліг.-панегірычнымі вершамі, барочнай сатырай, соймавымі пармовамі. Зберагаюцца перапіска архіварыусаў І.Я.Спрогіса, М.І.Гарбачэўскага, Р.Мяніцкага і інш., матэрыялы і картатэкі даследчыка Метрыкі ВКЛ С.Л. Пташыцкага.

*Літ.*: Государственные архивы СССР: справ. Ч. 2. М., 1989; Lietuvos centrinio valstybinio istorijos archyvo fondų žinynas. T. 1. Vilnius, 1990; Дакументы па архітэктуры і картаграфіі Беларусі ў архівах Санкт-Пецярбурга і Вільні. Мінск, 1994; Паўловіч С. Дакументы па гісторыі Беларусі ў фондзе «Радзівілы, князі» Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы // Нясвіжскія зборы Радзівілаў: іх фарміраванне, гістарычны лёс, цяперашняе месцазнаходжанне і шляхі выкарыстання. Мінск, 2002; Sapiegų giminės dokumentai: fondo aprašas F. Nr. 1292. Vilnius, 1995; Lietuvos valstybės istorijos archyvas. Vilnius, 2006. ***Георгій Галенчанка.***

**Глеб Дзмітрыевіч** (да 1360—пасля 1393), князь друцкі і бранскі. Сын кн. Дзмітрыя Альгердавіча. Атаясамліваецца з друцкім (або бранскім) кн. Глебам, які на баку вял. князя маскоўскага Дзмітрыя ўдзельнічаў у *Кулікоўскай бітве 1380*. На думку Я.Тэнгоўскага, Г.Дз. упамінаецца ў дакуменце кн. Вітаўта 1384 пад памылковым імем Леў (названы шваграм Вітаўта, князем друцкім). Г.Дз. упамінаецца таксама ў рахункавых кнігах Ягайлы пад 1389. Каля 1393 выступіў як парučыцель за кн. Жэдзевіда. Мяркуецца, што быў жанаты з сястрой Ганны, жонкі Вітаўта, г.зн. з нейкай смаленскай князёўнай. Інфармацыя пра нашчадкаў Г.Дз. адсутнічае.

*Літ.*: Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Глажынскі** Антоні (14.10.1720, Навагародскае ваяв.—29.10.1767), дзеяч каталіцкай царквы. У 1736 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі ў Ломжы (1749—50) і Плоцку (1750—51), праф. філасофіі ў Пултуску і місіянер у Карневе (1751—53), прэфект касцёла ў Качыцах (1753—55), прапаведнік і прэфект б-кі ў Нясвіжы (1760—63) і Полацку (1765—67). Быў даверанай асобай і тэолагам М.Радзівіла Рыбанькі. Аўтар «Казанняў на нядзелі ўсяго года» («Kazania na niedziele całego roku», т. 1—3, Нясвіж, 1779).

*Літ.*: Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Глінаецкі** Кароль (1.10.1647, Мазовія—4.9.1702), дзеяч каталіцкай царквы. У 1665 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прэфект школы ў Пултуску (1678—79, 1689—90), Нясвіжы (1681—82), Полацку (1683—84, 1687—89), Плоцку (1683—85), Ломжы (1692—93, 1696—97), Дарагічыне (1693—95), пракуратар Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1697—1702), рэктар калегіума ў Ломжы (1702—03). Быў вядомы як прапаведнік. Апублікаваў казанне на пахаванне А.Г.Палубінскага.

**Глінская** (у замужжы Букатова) Тэафіля (Багуміла; каля 1762, в. Косічы, Навагародскі пав.—23.10. 1799), паэтэса. Дачка кальвініста, паручніка (пазней палкоўніка) войска ВКЛ Крыштофа Глінскага. У 1790 выйшла замуж за старасту міляніцкага Алойзія Букатага. Некаторы час жыла ў маёнтку Шчорсы ў Навагародскім пав. Пісала на польскай мове. Аўтар апісальнай паэмы «Шчорсы» (1784), віншавальных вершаў, перакладаў. Яе творы належаць да класіцыстычнага кірунку ў шматмоўнай л-ры Беларусі.

*Літ.*: Mikulski T. Ze studiów nad Oświeceniem. Warszawa, 1956.

***Адам Мальдзіс.***

**Глічнер** Эразм (1535, г. Жнін, Калішскае ваяв., Польшча—26.1.1603), пратэстанцкі рэлігійны дзеяч ВКЛ і Польшчы, педагог. Паходзіў з мяшчанскай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Сілезіі, дзе, відаць, прыняў лютэранства. У 1550—54 жыў у ВКЛ, гувернёр на службе у князёў Алелькавічаў. У 1554—58 вучыўся ў Каралявецкім ун-це. У 1558 вярнуўся да двара Алелькавічаў. Наведаў Кракаў, дзе запісаўся ва ун-т, аднак звесткі пра яго вучобу там адсутнічаюць. У 1559—62 дзеяч Малапольскай евангельска-рэфармацкай царквы ў Сандамірскім ваяв. (у 1559—61 міністр у Хмельніку, у 1561—62 — у Бабовай). З 1562 у Вял. Польшчы (у 1562—67 лютэранскі міністр у Серадзі, у 1567—69 — у Торуні, у 1569—89 — у Градзіцку, у 1592—1603 — у Брадніцы). Суперінтэндэнт лютэранскай царквы ў Вял. Польшчы ў 1566—1603. Адыграў вял. ролю ў арганізацыі структуры лютэранскай царквы ў Рэчы Паспалітай. Актыўна ўдзельнічаў у кансалідацыі пратэстантызму ў ВКЛ і Польшчы. Прымаў удзел у аб'яднаным сінодзе лютэран, кальвіністаў і чэшскіх братоў, які прыняў *Сандамірскую згоду 1570*, у аб'яднаных сінодах пратэстантаў Рэчы Паспалітай ва Уладзіславе (1583) і Торуні (1595), *Віленскім сінодзе 1599*. Першыя творы Г. прысвечаны эканам. («Навука і практыка», «Nauka i praktyka», Кракаў, 1558) і педагагічным («Кнігі аб выхаванні дзяцей», «Książki o wychowaniu dzieci», Кракаў, 1558) праблемам. Па тэалагічных пытаннях да 1562 займаў неакрэсленую пазіцыю ў межах рэфармацыйнага руху, вагаўся паміж лютэранствам, кальвінізмам і станкарыянствам. З 1562 ідэолаг лютэранства. У 1594 пад кіраўніцтвам Г. выдадзены пераклад на польскую мову «Аўгсбургскай канфесіі». У межах лютэранскай тэалогіі прытрымліваўся поглядаў філіпізму. Актыўна падтрымліваў ідэю збліжэння ўсіх пратэстанцкіх веравызнанняў. Падтрымліваў планы пратэстанцка-правасл. уніі на аснове пераважна пратэстанцкага веравучэння. У 1599 разам з дзеячам чэшскіх братоў Я.Т.Турноўскім склаў ліст да канстанцінопальскага патрыярха, у якім сфармуляваны 18 пунктаў, накіраваных на збліжэнне тэалагічнай дактрыны правасл. царквы з пратэстантызмам. Актыўна палемізаваў па тэалагічных пытаннях з антытрынітарыямі і каталікамі. Аўтар тэалагічнай працы «Хроніка жыцця Ісуса Хрыста» («Kronika żywota Jezusa Chrystusa», Торунь, 1573). Выступіў супраць Пятра *Скаргі* ў абарону акта *Варшаўскай канфедэрацыі 1573* у творы «Апеляцыя» («Appelatia», Каралявец, 1598). У 1-й частцы гэтага твора Г. рэпрэзентуе сябе як паслядоўнага прыхільніка рэліг. талеранцыі. Насілле ў справах сумлення лічыў антытэзай маральнаму вучэнню хрысціянства. Каштоўнасць верацярпімасці абгрунтоўваў шляхам палітыка-прагматычнай аргументацыі, акцэнтаваў узаемасувязь рэліг. і грамадзянскага міру. Прынцыпы Варшаўскай канфедэрацыі разглядаў як элемент працяглай традыцыі заключэння «канфедэрацый» (пагадненняў



аб рэліг. міры), вытокі якой бачыў яшчэ ў пагадненнях біблейскіх патрыярхаў з суседнімі народамі. Па аналогіі з актам Варшаўскай канфедэрацыі разглядаў Медыяланскі эдыкт рымскага імператара Канстанціна. Указваў на спецыфічныя адрозненні паміж свецкай уладай, заснаванай на прынцыпах панавання-падпарадкавання, і духоўнай уладай, якая прадугледжвае паслушэнства толькі на аснове прынцыпу добраахвотнасці. Даводзіў неэфектыўнасць духоўнага прымусу, які інспіруе рэліг. пратэізм. Фактычна ў поглядах Г. змешчаны элементы канцэпцыі аддзялення рэліг. інстытутаў ад дзяржавы. У 2-й частцы твора падвергнуў жортскай крытыцы вучэнне, культ і звычаі каталіцкай царквы, што паказваецца як вынік яе паступовага «сапсавання». На гэтай аснове зрабіў высновы аб тым, што Рэфармацыя з'явілася сродкам ліквідацыі крызісу. Напісаў гіст. працу «Хроніка Польскага каралеўства» («Chronicon rerum Poloniae», Торунь, 1597), якая ўтрымлівае шмат фантастычных звестак з гісторыі стараж. Польшчы.

*Літ.*: Б о р т н і к І.А. Праблема талерантцыі ў пратэстанцкай сацыяльна-палітычнай думцы Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства XVI—XVII стст. // Бел. гіст. часоп. 2007. № 8; D a n y s z A. Erazm Gliczner jako pedagog. Poznań, 1912; M i a s k o w s k i K. Glicznera «Kronika żywota» // Zapiski Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Toruniu. 1918. R. 7; W o t s c h k e T. Erazm Gliczner, Aus Posens kirchlicher Vergangenheit. Lissa; Posen, 1918; M i t u ł a M. Poglądy Glicznera na wychowanie // Przeszłość. 1931. № 1; B a r y c z H. Erazm Gliczner // Reformacja w Polsce. R. 12. 1953/55; B e n d z a M. Prawoslawno-protestanckie tendencje unijne w XVI wieku ze szczególnym uwzględnieniem terenu ziem Rzeczypospolitej // Rocznik Teologiczny. 1983. T. 25, z. 2.

*Ігар Бортнік.*

**Гловіч** Максім (6.1.1642, г. Магілёў—5.5.1712), дзеяч каталіцкай царквы. З багатай мяшчанскай сям'і. У 1665 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Больш за 20 гадоў быў місіянерам сярод праваслаўных. Добра ведаў царк.-слав. і грэчаскую мовы. Арганізатар і суперыёр езуіцкай місіі ў Магілёве ў 1673—97. У 1687 пабудаваў тут вял. драўляны касцёл, аднавіў яго пасля пажару, выставіў новы будынак школы. Рэктар Аршанскага калегіума (1697—1700), прэфект школы і б-кі ў Віцебску (1700—04), Магілёве (1704—05), суперыёр (1706—08) і місіянер (1708—10) у Мсціславе, узначальваў канвікт і бурсу незаможных студэнтаў у Нясвіжы.

**Гогаль** Іона Пятровіч (?—каля 1602), дзеяч праваслаўнай, потым уніяцкай царквы. З кобрынскага шляхецкага роду Гогаляў (Гогалевічаў). Як мяркуецца, быў вылучэнцам епіскапа луцкага і астрожскага Кірылы *Цярлецкага*, які бачыў у Г. памочніка ў справе заключэння уніі паміж правасл. царквой Рэчы Паспалітай і каталіцтвам і абяцаў яму месца пінскага і тураўскага епіскапа. У студз. 1572 як архімандрыт кобрынскі заключыў пагадненне з берасцейскім кашталянам Іванам Гайкам аб супольным валоданні млынам і карыстаннем р. Трасцяніца. У снеж. 1594 Г. як архімандрыт Кобрынскага Спаскага манастыра і епіскап-намінат пінскі ўдзельнічаў у сустрэчы Цярлецкага з каталіцкім луцкім біскупам Бярнардам Мацiёўскім у Торчыне пад Луцкам, падпісаў дакумент аб далучэнні да уніі. У 1595 пад патранатам Г. ў Кобрыне адбыўся з'езд епіскапаў, якія выступалі за унію. У чэрв. 1595 удзельнічаў у з'ездзе епіскапаў у Берасці, дзе былі ўстаноўлены ўмовы уніі. Падпісаў зварот да рымскага папы Клімента VIII аб уніі 12(22).6.1595. Пасля смерці пінскага і тураўскага епіскапа Лявонція Пялчынскага (жн. 1595) Г. атрымаў каралеўскую намінацыю на епіскапства (з рэкамендацыямі Іпація Пацея і Кірылы Цярлецкага) з умовай, што ён адмовіцца да Кобрынскай архімандрыі на карысць Цярлецкага і будзе ў уніі з рымскім папам. Удзельнічаў у саборы, дзе была прынята *Берасцейская унія 1596*, падпісаў адпаведныя дакументы. Разам з інш. епіскапамі-уніятамі быў пракляты правасл. ўдзельнікамі сабора.

*Літ.*: Д м и т р и е в М.В., Ф л о р я Б.Н., Я к о в е н к о С.Г. Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI—начале XVII в. Ч. 1. Брестская уния 1596 г.: исторические причины. М., 1996; Ґ у д з я к Б. Криза і реформа: київська митрополія, Царгородський патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000.

**Гольша** (Голшис), легендарны князь. Паводле бел.-літ. летапісаў, быў 3-м або 4-м сынам князя літ., жамойцкага і рускага Рамана. Пасля смерці бацькі перайшоў р. Велью, знайшоў прыгожае месца на р. Вільні за мілю ад вусця Велі, насупраць Раканцішак, і пабудаваў там горад, названы сваім імем Гольша (Гальшаны). У хуткім часе, у час палявання, знайшоў за 10 міляў ад гэтага горада прыгожае месца над р. Карабель, перанёс туды свой горад і пачаў называцца кн. Гальшанскім. Удзельнічаў у міжусобіцы паміж сваімі братамі Нарымонтам і Даўмонтам на баку апошняга. Паведамляецца, што меў сына Альгімонта. Відаць, легенда пра Г. была ўключана ў летапісы, каб абгрунтаваць княжацкае паходжанне роду *Гальшанскіх*.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Гомельскі павет** (Гомейскі ўезд), адм.-тэр. адзінка ў Вялікім княстве Маскоўскім у 1500—37. Складаўся з тэр. Гомельскай (Гомейскай) вол. (павета) і частак Горвальскай, Стрэшынскай і Чачэрскай валасцей. З 1500 да 1518 Г.п. заставаўся ў складзе Старадубскага ўдзельнага княства, якое створана ў ВКЛ у 1454 для ўцекача з Вял. княства Маскоўскага — кн. Івана Андрэевіча Мажайскага. Пасля яго смерці паміж 1471 і 1483 Старадуб і Гомель атрымаў яго 2-і сын Сямён. Разам з інш. князямі Сямён Мажайскі ўступіў у таемное пагадненне з маскоўскім вял. кн. Іванам III, а ў крас. 1500 адкрыта заявіў аб пераходзе на маскоўскі бок. Пасля захопу 3.5.1500 ваяводам Якавам Захар'ічам- Кошкіным Бранска кн. С.І.Мажайскі прысягнуў Івану III і перайшоў да яго на службу разам са сваімі вотчынамі і захопленымі ў ВКЛ землямі (Любеч, часткі некаторых валасцей). Пазней (жн.—вер. 1500) С.І.Мажайскі захапіў мсціслаўскія гарады Папова Гара, Дрокаў і Мглін. Пасля смерці ў 1505 С.І.Мажайскага Старадубскае княства разам з Гомелем перайшло да яго сына Васіля. У 1518 ён загінуў у маскоўскай вязніцы. Яго ўдзел стаў належаць непасрэдна вял. князю маскоўскаму. У Гомелі з'явіліся намеснікі: Васіль Пушкін, Фёдар

Рыгоравіч Пляшчэеў, кн. Дзмітрый Дзмітрыевіч Шчэпін-Абаленскі.

Фарміраванне тэр. Г.п. пачалося ў 1500. Адміністрацыйна да Гомеля былі аднесены землі на З і У ад р. Сож. Тэр. былой Гомельскай вол. была значна павялічана за лік сёл Горвальскай, Стрэшынскай і Чачэрскай валасцей. Магчыма, у той жа час актыўна асвойваліся землі на Пд ад Гомеля, якія фармальна лічыліся любецкімі. На У тэр. Г.п. змяншалася ў сувязі з распаўсюджваннем памешчыцкага і царк. землеўладання з боку Старадуба. Гомельскія землі кантралявалі цячэнне р. Сож, а разам з Любечам — і Дняпро. Але ў 1508 Любеч быў вернуты ў склад ВКЛ. Для Масквы актуальнай стала задача засваення і захопу тэр. да р. Дняпро на З ад Г.п. Паміж 1504 і 1511 часткі Горвальскай і Рэчыцкай валасцей на левабярэжжы Дняпра былі заняты маскоўскімі войскамі, пры гэтым маскоўская ўлада была распаўсюджана і на правы бераг ракі (сёлы Заспа і Левашэвічы). Дняпро быў перагароджаны езам (частаколам) для кантролю за рухам уздоўж ракі. У 1529—30 да Г.п. часова далучаны засожскія сёлы са складу Чачэрскай і Прапойскай валасцей. На тэр. Г.п. з'явіліся валасці, цэнтрамі якіх былі прызначаны старыя сёлы (Бабічы, Свецілавічы, Галодна і інш.), а таксама ўтвораны валасці Маслаў і Крукаў, якія ўяўлялі сабой буйныя памешчыцкая ўладанні дваран Маславых і Крукавых. У гомельскіх землях было распаўсюджана царк. землеўладанне — Спаскай, Троіцкай і Мікольскай цэркваў у Гомелі, Мікольскай царквы ў с. Волатава, Міхайлаўскай царквы ў с. Кошалева, Мікольскай царквы ў г. Орша. Падчас маскоўскай улады ў святчэннікаў аршанскай царквы ўзніклі праблемы па зборы даніны з гомельскага с. Церашковічы. У 1508 кароль Жыгімонт I Стары дазволіў раз у год выезд за данінай на маскоўскую тэрыторыю. У час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* Гомель 16.7.1535 узяты войскамі найвышэйшага гетмана ВКЛ Юрыя Мікалаевіча Радзівіла. У выніку перагавораў у Маскве, якія пачаліся ў студз. 1537, паслы ВКЛ дамагліся вяртання ВКЛ усёй Гомельскай вол. ў тых межах, у якіх яна існавала да 1500. Канчаткова Гомель прызнаны за ВКЛ паводле ўмоў 5-гадовага перамір'я ад 18.2.1537. Яшчэ 21.9.1535 Гомель з валасцямі быў дадзены каралём Жыгімонтам I у трыманне да волі гаспадарскай кн. Аляксандру Андрэевічу Кашырскаму, 27.5.1536 Гомель атрымаў «да жывата» кн. Васіль Юр'евіч Талачынскі. Пазней было створана Гомейскае стараства, якое спачатку атрымала тэрыторыю Г.п. і ў якім нават было рэалізавана імкненне маскоўскага боку далучыць землі да р. Дняпро. Пры гэтым частка тэр. б. павета (паміж Сожам і Беседдзю) засталася пад маскоўскай уладай (адміністрацыйна падначалена Паповай Гары). Паступова да канца 16 ст. амаль усе далучэнні да Гомеля маскоўскіх часоў былі вернуты да сваіх старых цэнтраў. Найб. важная крыніца па гіст. геаграфіі і гаспадарчай дзейнасці Гомельскага стараства сярэдзіны 16 ст. — «Рэестр рэвізіі гаспадарскай Гомельскай валасці», складзены ў 1560 рэвізорамі Рыгорам Валовічам і Мікалаем Нарушэвічам і перапісаны ў 1646 для троцкага ваяводы Аляксандра Служкі, які атрымаў права на эксплуатацыю лясных рэсурсаў гомельскіх пушч. Падчас стварэння «Рэестра» Гомель захоўваў тэрыторыю, якая ў асн. супадала з тэр. Г.п. 1-й трэці 16 ст.

## ГОМЕЛЬСКІ ПАВЕТ. 1500–1537 гг.




*Літ.*: Т е м у ш е в В.Н. Гомельская земля в конце XV—первой половине XVI века: территориал. трансформации в пограничном регионе. М., 2009.

***Віктар Цемушаў.***

**Гордан** (Gordon) Патрык Леапольд [Пётр Іванавіч; 31.3(10.4).1635, Охлухрыс у Шатландыі—29.11(10.12). 1699], ваенны дзеяч. З шатландскага шляхецкага роду. Вызнаваў каталіцтва, быў прыхільнікам Сцюартаў. У 1651 быў вымушаны пакінуць радзіму. Два гады вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Браневе (Усх. Прусія). Вандраваў па Еўропе. У 1655 запісаўся ў армію шведскага караля Карла X, які ваяваў супраць Рэчы Паспалітай (гл. *Паўночная вайна 1655—60*), двойчы пераходзіў у польскую армію. У 1660 ваяваў супраць рас. войск у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1661 у чыне маёра паступіў на рас. службу. Двойчы пабываў на радзіме, выконваў дыпламатычныя даручэнні Расіі ў Англіі і наадварот. У 1670—77 начальнік гарнізона ў г. Сеўск ва Украіне. У 1677—78 удзельнічаў у вайне з туркамі, атрымаў чын генерал-маёра (1678). Пасля служыў у Кіеве. Удзельнічаў у крымскіх паходах 1687 і 1689, атрымаў ранг «поўнага генерала». У 1689 рашуча падтрымаў Пятра I у час барацьбы з царыцай Соф'яй, стаў яго блізкім супрацоўнікам, атрымаў чын контр-адмірала. Удзельнічаў ва ўзяцці Азова ў 1696, у падаўленні стралецкага мяцяжу 1698. Вёў дзённік (на англійскай мове), які ахоплівае ўсё яго жыццё да канца 1698; звесткі за 1667—77 і 1678—84 не захаваліся. Дзённік — важная крыніца па ваеннай гісторыі Цэнтр. і Усх. Еўропы 2-й пал. 17 ст.

*Тв.*: Дневник 1635—1659. М., 2000; Дневник 1659—1667. М., 2003.

*Літ.*: Шишов А. Патрик Гордон: четырех царей слуга. М., 2002.

**Готфрыд фон Гогенлоэ** (Gottfried von Hohenlohe; 1265—19.10.1310), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1297—1303. Паходзіў з вюртэмбергскага рыцарскага роду, уладальнікаў маёнтка Гогенлоэ. У 1279 уступіў у Тэўтонскі ордэн, дзе хутка прасоўваўся па адм. лесвіцы. З 1290 комтур Франконіі, з 1294 магістр Германіі. Кіраваў ордэнам у час, калі трэба было выбіраць паміж вайной за вяртанне ўладанняў у Святой Зямлі (да чаго заклікаў рымскі папа) і ўмацаваннем пазіцый у Прусіі. У 1298 і 1302—03 наведаў Прусію і Лівонію. У Клайпедзе сабраўся капітул, на якім магістр Прусіі Конрад фон Зак абвінаваціў Г.ф.Г. ў занядбанні справы барацьбы з язычнікамі ў Прыбалтыцы і запатрабаваў ад яго пакінуць пасаду вял. магістра. Г.ф.Г. быў вымушаны пагадзіцца на гэта. На генеральным капітуле ў Эльблёнгу ў 1303 адстаўка была пацверджана. Готфрыд выехаў у Германію, дзе зноў стаў комтурам Франконіі. Тым не менш, ён працягваў тытулавацца вял. магістрам і гуртаваў сваіх прыхільнікаў для аднаўлення ўлады ў ордэне, што яму, аднак, не ўдалося.



Готфрыд фон Гогенлоэ.

**Гофман** Андрэй (каля 1598, Прусія—6.7.1647), мастак, друкар. У 1631 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1633—34 і 1635—39 працаваў як друкар і мастак у акадэмічнай друкарні ў Вільні. У 1634—35 мастак у Оршы, у 1640—42 — у Браневе, у 1642—47 — у Ворнях.

**Гофман** (Hoffmann) Ёган Даніэль (28.12.1701, г. Торунь—19.7.1766), нямецкі гісторык, бібліёграф. З незаможнай мяшчанскай сям'і. Скончыў Тарунскую гімназію (1723), ун-ты ў Вітэнбергу, Іене (1725), Лейпцыгу (1726). Вярнуўся ў Торунь, дзе даваў прыватныя ўрокі польскай мовы. З 1732 праф. Тарунскай гімназіі, з 1746 віцэ-рэктар Эльблёнгскай гімназіі; выкладаў філасофію, гісторыю, польскую мову, красамоўства. Працы па гісторыі Прусіі, Польшчы, польскай філалогіі. Склаў бібліяграфію прац пра харытатыўны калоквіум у Торуні ў 1645 («Synopsis historico-literaria colloqui charitativi Thoruniensis», Каралявец, 1744). Аўтар першай працы па гісторыі кнігадрукавання ў Польшчы і ВКЛ «Пра друкарні, што заснаваны і развіваліся ў Польскім каралеўстве і Вялікім княстве Літоўскім» («De typographiis, earumque initiis et incrementis in Regno Poloniae et Magno Ducatu Lithuaniae», Гданьск, 1740), дзе адзначыў 150 друкарняў у 37 гарадах, у т.л. друкарні Ф.Скарыны, М.Кавячынскага, І.Фёдарава, Д.Ланчыцкага, Л.Мамоніча, Я.Карцана і інш. у Вільні, Берасці, Заслаўе, Лоску, Нясвіжы, Любчы, Ашмяне, Слуцку, Супраслі, Жэймах, назваў некаторыя іх выданні. Гэта кніга паслужыла асновай для працы Е.С.Бантке «Гісторыя друкарняў у Польскім каралеўстве і Вялікім княстве Літоўскім» (т. 1, Кракаў, 1826).

*Тв.*: De originibus linguae Polonicae. Dantisti, 1730; De imperio Piastorum in Polonia. Elbinga, 1764; De Henrico de Hohenlohe magistro Ordinis Teutonici. Elbinga, 1757.

*Літ.*: Małecki J. Jan Daniel Hoffmann, pierwszy historyk drukarstwa polskiego // Warmia i Mazury. Olsztyn, 1958. T. 4; Narbutienė D. Johannas Danielis Hoffmannas apie spaudos atsiradimą Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje // Knygotyra. Vilnius, 2000. T. 36.

**Гофман** (Hofman) Марцін, людвісар 16 ст. Першапачаткова працаваў у Коўне. У 1583 адліў *маладаўскі звон* па заказу Сямёна Войны. У 1587 вырабіў багата ўпрыгожаны рэнесансным арнаментам звон з выявамі гербаў «Лебедзь» Шэметаў і «Ліс» Сапегаў (да пач. 20 ст. знаходзіўся ў касцёле ў в. Шаўкяны ў Жамойці). У канцы 16 ст. перасяліўся ў Вільню і ў 1597 адліў звон для касцёла ў Задзвеі.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 41.

**грабарства**, рамяство па правядзенні земляных работ. Рамеснікі, што



займаліся Г. — грабары, — вядомы з 16 ст., тэрмін «грабар» («кграбаръ») паходзіць ад сярэдневерхненямецкага grabaere праз польскае пасрэдніцтва (grabarz), упершыню ўпамінаецца ў 1552. Вылучэнню Г. як асобнага рамяства садзейнічалі складаныя гаспадарчыя і ваенныя задачы, што паўсталі ў ВКЛ у 1-й пал. 16 ст.: правядзенне *валочнай памеры*, пракладка каналаў, уладкаванне ставоў, гацяў і млыноў, умацаванне гарадоў і замкаў, мураванае будаўніцтва. Грабары пры дапамозе рыдлёвак і павозак пракладалі межавыя канавы, насыпалі *капцы*, выкопвалі катлаваны пад мураваныя падмуркі, калодзежы, насыпалі гаці, рылі ставы, равы і каналы.

**Грабенбаўэры** (Grabenbauer), музыканты 18—пач. 19 ст.

Д а м і н і к (?—раней 25.2.1804), клавесініст і педагог. У 1757—72 працаваў пры двары гетмана Браніцкага ў Беластоку, даваў прыватныя ўрокі музыкі. Часта выязджаў у Слонім. Відаць, з 1778 жыў тут стала (1.1.1779 заключыў з М.К.Агінскім дагавор на 8 гадоў, паводле якога абавязваўся навучаць прыгонных у школе ігры на клавікордах). Працаваў да 1804.

Е в а (1760, Беласток—?), спявачка і педагог. Дачка Дамініка. З 1.1. 1779 працавала ў прыдворным тэатры Агінскага ў Слоніме. Паводле дагавору, павінна была вучыць прыгонных спевам, а таксама выступаць у тэатры ў операх і камедыях. У 1780 спявала ў оперы «Тэлемак». У сак. 1785 пакінула Слонім разам з мужам, прыдворным спеваком М.Лазарыні.

*Літ.*: Б а р ы ш е в Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Грабоўскі** Пётр (каля 1563, в. Памяны на Падляшшы—1625), дзеяч каталіцкай царквы, эканаміст. Паходзіў са шляхецкага роду герба «Даленга». Падарожнічаў. У 1583 уступіў у Браневе ў ордэн езуітаў. З 1584 у Рызе, дзе вывучыў латышскую мову і на ёй рабіў казанні. Каля 1586 выйшаў з ордэна езуітаў, быў пробашчам у г. Парнаў у Інфлянтах. Аўтар эканам. твораў «Меркаванне кароннага сына пра пяць рэчаў, што належыць зрабіць Рэчы Паспалітай Польскай» («Zdanie syna koronnego o piąciu rzeczach Rzeczypospolitej Polskiej należących», 1595), «Ніжняя Польшча, або Польскае пасялішча» («Polska Niżna, albo Osada polska», 1596). Перад пагрозай татарскіх і турэцкіх нападаў выступаў за стварэнне моцнага скарбу Рэчы Паспалітай, куды бы паступала царк. дзесяціна, уведзенае мыта на шляхецкія экспартныя тавары, добраахвотныя падаткі з шляхты. Прапаноўваў у войску рабіць апору на выбранцаў з сялян, якіх бы ўтрымлівалі самі сяляне. Выступаў за заключэнне шырокай антытурэцкай лігі. Накрэсліў план каланізацыі паўд. і ўсх. зямель Рэчы Паспалітай шляхам закладання шляхецкіх с.-г. пасялішчаў, якія б баранілі дзяржаву ад татараў і туркаў; прапаноўваў адчыніць ваенную школу. Яму прыпісваюцца творы «Польскае люстэрка, выстаўленае на пачатку 1598 г.» («Zwierciadło Rzeczypospolitej Polskiej na początku r. 1598 wystawione», надрукаваны ў 1859), «Пра яўрэяў» і «Пра гарматы» (не захаваліся).

*Тв.*: у кн.: Biblioteka polska. Ser. 3, cz. 12. Kraków, 1858; Ser. 4, cz. 3. Kraków, 1859; G ó r s k i J., L i p i ń s k i E. Merkantylistyczna myśl ekonomiczna w Polsce XVI i XVII wieku: wybór pism. Warszawa, 1958.

**Градзецкі** (Г р а д э ц к і; Grodzecki, Grodecki) Вацлаў (каля 1535, в. Гродзец, Цешынская Сілезія—1591), польскі картограф. У 1550—55 вучыўся ў Кракаўскім, у 1556—58 — Лейпцыгскім ун-тах. Жыў у Італіі, Чэхіі. У Лейпцыгу склаў карту Польшчы і ВКЛ (да пач. 1558). Сустрэўся там з гуманістам Філіпам Меланхтанам, які напісаў для Г. працу пра паходжанне славян. Пазней яна была выдадзена разам з прысвячэннем карты каралю польскаму і вял. князю літ. Жыгімонту II Аўгусту і паказальнікамі да карты ў форме невял. брашуры. У 1561 Г. вярнуўся ў Польшчу. У 1564 у Кракаўскім ун-це атрымаў ступень магістра вызваленых навук, стаў канонікам у Вроцлаўскім капітуле, пасля канонікам у Оламаўцкім капітуле (Маравія), дэканам калегіяцкага касцёла ў Брно. З 1572 схаластык оламаўцкі, прэпазіт брноўскі (да 1574). Спрыяў заснаванню ў Брно езуіцкага калегіума, дапамагаў яму потым. Карта Г. выдадзена Ёганам Опарынам у Базелі каля 1562 у выглядзе гравюры на дрэве. Пры яе складанні выкарыстана карта Б.*Вапоўскага* (Кракаў, 1526), амаль увесь тыраж якой загінуў у 1528. У 16 ст. карта Г. лічылася 1-й арыгінальнай картай Польшчы і ВКЛ. На ёй пазначаны 724 геаграфічныя аб'екты, у т.л. на бел. землях — 30 населеных пунктаў. Агульныя прапорцыі Беларусі ўпершыню ў картаграфіі прадстаўлены блізкімі да рэальных. Каля ста гадоў карта Г. перавыдавалася і перараблялася рознымі картографамі. У 1568 Г. зрабіў новую рэдакцыю карты, пераслаў яе Опарыну для выдання ў кнізе «Палонія» Марціна Кромера, аднак гэтыя планы не ажыццявіліся, а карта знікла. Іл. гл. ў т. 1, с. 36—37.

*Літ.*: К а з л о ў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў (XVI—XX стст.). Мінск, 2004; B u c z e k K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVIII w. Warszawa, 1963; A l e x a n d r o w i c z S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989.

**Градзіцкі** Станіслаў (1541, г. Познань, Польшча—1613), рэлігійны дзеяч, адзін з лідэраў Контррэфармацыі ў ВКЛ і Польшчы. Паходзіў з патрыцыянскай сям'і ў Познані. Пачатковую і сярэднюю адукацыю атрымаў у парафіяльнай школе і Акадэміі Любраньскага ў Познані. У 1553—57 вучыўся ва ун-тах ў Франкфурце-на-Одэры і Вітэнбергу, у 1557—61 — у Кракаўскім ун-це, пасля сканчэння якога атрымаў ступень бакалаўра вольных мастацтваў. У 1561—67 жыў у Познані, займаўся гандлем. Пад уплывам біскупа вармінскага Станіслава Гозія вырашыў стаць святаром. У 1567—75 вывучаў філасофію і тэалогію ў Рымскім езуіцкім калегіуме (з перапынкам у 1570—71, калі выязджаў у Познань). У 1571 у Рыме ўступіў у ордэн езуітаў. Д-р тэалогіі (1575). У 1573 уключаны ў камісію езуіцкіх тэолагаў і маралістаў на чале з Ф.Таледа, якая разглядала пытанне аб вырашэнні супярэчнасці паміж царк. дактрынай, якая асуджае ліхвярства, і патрэбамі развіцця буржуазных адносін. У 1575—82 рэктар езуіцкага калегіума ў Пултуску. У 1582—84 узначальваў езуіцкую місію

ў Кракаве, дзе адыграў значную ролю ў пашырэнні езуіцкага ўплыву на каралеўскі двор. У 1584—94 жыў у Вільні, узначальваў кафедру дагматычнай тэалогіі ў Віленскай акадэміі, з 1590 канцлер акадэміі. У 1594—98 рэктар езуіцкага калегіума ў Познані. У 1598—1604 прапаведнік пры кафедральным саборы ў Львове. У 1604—07 паўторна ўзначальваў езуіцкую місію ў Кракаве. У гэты час далучыўся да т.зв. каралеўскай партыі, падтрымліваў Жыгімонта III падчас рокашу Зэбжыдоўскага 1606—09. Спрабаваў схіліць да каталіцтва Лжэдзмітрыя I. У 1607 вярнуўся ў Познань, дзе правёў апошнія гады жыцця. Г. з'яўляецца адным з ідэолагаў контррэфармацыйнага руху ў ВКЛ і Польскім каралеўстве, што адлюстравана ў яго палемічных творах, якія паўсталі ў віленскі перыяд дзейнасці. Праца «Пра выпраўленне календара» («O poprawie kalendarza», Вільня, 1587) прысвечана абароне праведзенай каталіцкай царквой каляндарнай рэформы, якая выклікала процідзеянне з боку пратэстантаў і праваслаўных. Разглядаючы сітуацыю ў ВКЛ, Г. канстатаваў рэліг. гетэрагеннасць у дзяржаве, што абумоўлівала цяжкасці для контррэфармацыйнага руху. Для абароны каляндарнай рэформы Г. спасылаўся на Свяшчэннае Пісанне і царк. традыцыю. У адносінах да рэліг. апанентаў ужываў дыферэнцыраваны падыход: з аднаго боку, жорсткая інвектыўная крытыка пратэстантаў, з другога — адносна лагодная крытыка праваслаўных. Заклікаў апошніх аб'яднацца з каталіцкай царквой на аснове прызнання праваслаўнымі каталіцкай дагматыкі і ўлады рымскага папы пры захаванні культавай спецыфікі (ідэі Г. ў асн. базіраваліся на унійным праекце Пятра *Скаргі*). Г. ўказваў на унію як на адзінае выйсце для правасл. царквы з унутранага крызісу, сродак перадолення пратэстанцкіх «ератычных уплываў». Гал. прычынай гэтага крызісу лічыў «памылкі» грэчаскай царквы: адмаўленне прымату рымскіх пап і ерасі з боку канстанцінопальскіх патрыярхаў, умяшальніцтва свецкіх улад у царк. справы, асабліва ў перыяд «турэцкай няволі». Акцэнтаваная крытыка менавіта грэчаскага праваслаўя актуалізавала прапанову да праваслаўных Рэчы Паспалітай да разрыву сувязей з Канстанцінопальскім патрыярхатам і рэгіянальнай уніі з Рымам. Працы Г. «Аб ужыванні сакраменту Панскага цела пад адной асобай у царкве Божай» («O iedney osobie używaniu Sakramentu ciała Pańskiego w Kościele Bożym», Вільня, 1589), «Евангеліст» («Ewangelik», Вільня, 1592), «Правіла ератычнай веры» («Prawidło wiary heretyckiej», Вільня, 1592) прысвечаны палеміцы з пратэстантамі, у межах




С.**Градзіцкі**. «Казанне пра чысцец». Вільня. 1593. Тытульны ліст.

якой выкарыстоўваліся традыцыйныя для контррэфармацыйнай думкі аргументы. Г. з пазіцый схаластычнага рацыяналізму падверг крытыцы адзін з цэнтр. пастулатаў пратэстантызму аб Свяшчэнным Пісанні як аснове рэліг. вучэння. На яго думку, пратэстанцкае разуменне Свяшчэннага Пісання вынікае не з яго самога, а з рэляцыйных разважанняў розуму, якія не абапіраюцца на царк. традыцыю («злой філасофіі»). Гэтаму процістаўляецца «праўдзівая філасофія», што мае на мэце рацыянальнае тлумачэнне прынятай на веру каталіцкай дагматыкі. Адмаўленне царк. традыцыі і спробы тлумачэння рэліг. ісцін на аснове чалавечага розуму разглядаюцца як крыніца ерасяў, амаралізму і сац. дэстабілізацыі, што абгрунтоўваецца з дапамогай прыкладаў з жыцця зах.-еўрапейскіх краін. З пазіцый каталіцкай артадоксіі востра крытыкаваў пратэстанцкі культ. Аўтар шматлікіх казанняў. Дзейнасць Г. аказала значны ўплыў на далейшае развіццё контррэфармацыйнай думкі ў ВКЛ і Польшчы. Разам з творамі Скаргі, Бенядзікта Гербеста, Антоніо *Пасевіна* яна склала тэарэтычную аснову праекта аб'яднання правасл. царквы з каталіцкай, увасобленага ў Берасцейскай уніі 1596.

*Літ.*: А н у ш к и н А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; W o j a k T. Uwagi o tolerancji w Polsce na tle polemiki wyznaniowej w XVI wieku // Wkład protestantyzmu do kultury polskiej. Warszawa, 1970; K o s m a n M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; R a d o ń S. Z dziejów polemiki antyariańskiej w Polsce XVI—XVII wieku. Kraków, 1993; Я г о ж. Stosunek do Braci Polskich w XVI i XVII wieku: obraz zboru w piśmiennictwie antyariańskim // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Studia Religiologica. 1994. Z. 27; K o ś c i e l n y R. Problem tolerancyjności kontrreformatorów w Rzeczypospolitej na przełomie XVI i XVII wieku. Szczecin, 1997.

***Ігар Бортнік.***

**Гразноў** (Грязнов) Васіль Васілевіч [?—27.2(12.3).1909], краязнавец, рысавальшчык і літограф. Даследчык стараж.-рус. і бел. архітэктуры, матэрыяльнай культуры і мастацтва. Скончыў Строганаўскае вучылішча (1862). У 1864 па запрашэнні І.П.Карнілава пераехаў у Вільню, выкладаў маляванне ў 1-й мужчынскай і жаночай (з 1886) гімназіях. Сабраў унікальную калекцыю прадметаў бел. культуры і побыту. У 1864 знайшоў Тураўскае евангелле 11 ст. Упершыню навукова апісаў і замаляваў Барысаглебскую (Каложскую) царкву ў Гродне, замак у Лідзе, цэрквы-замкі ў Сынковічах і Мураванцы і інш. Многія малюнкі Г. сталі ілюстрацыямі да кніг П.М.Бацюшкава («Помнікі рускай даўніны ў заходніх губернях імперыі», т. 1—8, 1868—85; «Беларусь і Літва», 1890), І.В.Карчынскага («Старажытная Каложская царква ў імя святых князёў Барыса і Глеба ў г. Гродне», 1908), «Маляўнічай Расіі» (т. 3, 1892) і інш. У Дзярж. Эрмітажы зберагаюцца літаграфіі (лісты з альбома) «Унутраны від... Прачысценскага сабора ў г. Вільна», «Унутраны від Нікольскай царквы ў г. Вільна», «Выява



Лідскага замка 14 ст. і царквы часоў Альгерда ў Вільні» і інш.

*Тв.*: О древних церквах Северо-Западного края // Известия о занятиях седьмого археологического съезда в Ярославле 6—20 авг. 1887 г. Ярославль, 1887, № 10; Коложская Борисоглебская церковь в г. Гродне // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна, 1893.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси, XVI в.—30-е годы XX в. Минск, 1996. С. 121—122.

**Гралеўскі** Якуб (2.7.1655, Мазовія—18.8.1702), дзеяч каталіцкай царквы. У 1672 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1684 ксёндз. Праф. паэтыкі і рыторыкі ў Навагародку (1680—81), Нясвіжы (1685—86), Пултуску (1686—87), Вільні (1687—88), філасофіі ў Варшаве (1689—91), рэгент дыяцэзіяльнай семінарыі ў Пултуску (1691—92), прэфект школы ў Варшаве (1692—93), праф. філасофіі ў Пінску (1693—96), прэфект школы ў Полацку (1696—97), праф. тэалогіі ў Вільні (1696—1700) і Варшаве (1700—02). Аўтар драмы «Заключэнне міру» («Pacis foedera», Вільня, 1688). У рукапісах засталіся яго лекцыі па філасофіі.

*Літ.*: Okoń J. Dramat i teatr szkolny: sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.

**граматыка** (ад грэч. grammatikē майстэрства чытання і пісьма, ад грэч. gramma літара, пісьмо), лад і будова мовы, а таксама навука і падручнік, што апісваюць мову. Пачаткі Г. як навукі ў еўрапейскай традыцыі звязаны з распрацоўкай Платонам і Арыстоцелем мадэлей словазмянення (парадыгмы) і з вучэннем Арыстоцеля пра часціны мовы, што ў далейшым стала асновай граматычнага апісання. Але толькі ў эпоху элінізму (4—3 ст. да н.э.) у сувязі з патрэбамі правільнай інтэрпрэтацыі грэчаскіх тэкстаў Г. набыла практычны і сістэматычны характар і становіцца падручнікам [грэчаская Г. Дыёніса Фракійца (2 ст. да н.э.) — першая вядомая школьная Г.]. Лацінскія Г. пераймалі грэчаскія ўзоры, прыстасоўваючы граматычную сістэму грэчаскай мовы да матэрыялу лацінскай. Найб. папулярнасць набыла лацінская Г. «Ars minor» Элія Даната (сярэдзіна 4 ст. н.э.), даходліва складзеная ў выглядзе пытанняў і адказаў. У сярэдневяковыі разам з *рыторыкай* і дыялектыкай (логікай) Г. ўтварала «трывіум» — базавы курс зах.-еўрапейскай адукаванасці (у складзе *сямі вольных мастацтваў*), аснову якога складала вывучэнне лацінскай мовы. Гуманісты таксама імкнуліся ствараць пераважна Г. грэчаскай і лацінскай моў (К.Ласкарыс, Ф.Меланхтан і інш.), як і езуіцкія выкладчыкі (лацінская Г. М.Альвара — *альвар*). Пры апісанні нар. моў у эпоху Рэнесанса (з 2-й пал. 15 ст.) еўрапейскія граматысты абапіраліся на нормы і тэрміналогію лацінскай Г. (усх.-слав. граматысты — пераважна на грэчаскія Г.), якая служыла ўзорам для стварэння Г. гэтых моў. Матэрыял нар. моў у такіх выпадках прыстасоўваўся да норм і структуры лацінскай ці грэчаскай моў, што вяло да неадэкватнасці і штучнасці апісання, але спрыяла ўзнікненню ў 17—18 ст. універсальных Г. [напрыклад, «Граматыка Пор-Раяль» (Парыж, 1660) А.Арно і К.Лансло].

Хаця ў царк.-слав. традыцыі існавалі пераклады грэчаскіх Г. (Іаана Дамаскіна «Аб васьмі часцінах слова») і граматычных трактатаў, адсутнасць сістэмнай адукацыі ў правасл. славян рабіла такія працы непажытачнымі. Першыя арыгінальныя Г. ў ВКЛ арыентаваліся на грэчаскія і лацінскія ўзоры і апісвалі царк.-слав. мову, хаця часам мелі фрагменты на старабел. мове: «Адэльфоціс: граматыка добраглаголівай яліна-славенскай мовы» (Львоў, 1591) — паралельная грэчаска-царк.-слав. Г., фактычна дакладны пераклад кароткай грэчаскай Г.; «Граматыка славенска» Лаўрэнція *Зізанія* (Вільня, 1596) — школьная Г. ў пытаннях і адказах; «Граматыкі славенскія правільная сінтагма» Мялеція *Сматрыцкага* (Еўе, 1619; Вільня, 1629). Апошняя Г., дзе ўпершыню ва ўсх.-слав. традыцыі разглядаўся таксама сінтаксіс, вельмі дэталёва апісвала нормы царк.-слав. мовы, уводзячы некаторыя бел. і ўкр. рысы. Яна стала асн. падручнікам па вывучэнні царк.-слав. мовы да 18 ст. для ўсх. і многіх паўд. славян, а таксама для румын і неаднаразова перавыдавалася (Масква, 1648, 1721; Снагаў, 1697; Рымнікул-Вілча, 1755) і перапісвалася, некалькі разоў цалкам і фрагментарна перакладалася на лацінскую мову, служыла асновай і крыніцай многіх падручнікаў [напрыклад, «Граматыка, ці пісьменіца мовы славянскай» (Крамянец, 1638) луцкага біскупа Афанасія Пузыны, ананімная Пачаеўская Г. 1773]. Адзіная Г. старабел. мовы (хаця з царк.-слав. прыкладамі) была напісаная на лацінскай мове Іванам *Ужэвічам* (1640-я г.) на чужыне (у Францыі) і засталася ў рукапісе. На чужыне выдаў шэраг сваіх не вельмі ўдалых граматычных падручнікаў Іван *Капіевіч*: «Latina grammatica» (Амстэрдам, 1700) — лацінская Г. з паралельным рус. перакладам, «Рукаводзіны ў граматыку ў славянарасійскую, або маскоўскую» (Штольцэнберг, 1706), дзе апісвалася мяшаная рус.-царк.-славянская мова. Дзеля падвышэння аўтарытэту *буквары* ў ВКЛ часам называліся Г.

Цікавасць да літоўскай мовы, што захавала шэраг архаічных з'яў, супольных з лацінскай, узнікла сярод каталіцкага духавенства яшчэ ў 15 ст., пасля хрысціянізацыі Літвы. Першую Г. літ. мовы «Grammatica Litvanica» (Каралявец, 1653) напісаў на лацінскай мове пастар з Тыльзіта Даніэль *Клейн* (1609—66), які ў наступным годзе выдаў там жа яе скарочаную версію на нямецкай мове пад назвай «Compendium litvanico-germanicum». Крыху раней (каля 1643) літ. Г. на лацінскай мове напісаў пастар Крыштоф Сапунас (1589—1659), які ў 1651 здабыў нават прывілей ад Каралявецкага ун-та на яе выданне, аднак не здолеў яго скарыстаць. Яго рукапіс адрэдагаваў і апублікаваў пад назвай «Compendium Grammaticae Lithvanicae» (Каралявец, 1673) і пад уласным імем Тэафіль Готліб Шульц (1629—73). Кіраўнік семінара літ. мовы ва ун-це Гале (Прусія) Фрыдрых Гаак (1706—54) у дадатку да свайго нямецка-літ. слоўніка (Гале, 1730) змясціў кароткую літ. Г., заснаваную на працы Клейна. Першая літоўская Г. ў ВКЛ ананімна выйшла на лацінскай мове пад назвай «Universitas Lingvarum Litvaniae» (Вільня, 1737). Усе гэтыя літ. Г. мелі ў цэлым практычны характар. Гісторыка-эты-

малагічны характар меў нямецкі трактат пастара Філіпа Руіга (1675—1749) «Betrachtung der Littauischen Sprache» (Каралявец, 1747), напісаны на лацінскай мове яшчэ ў 1708, у дадатку там змешчана практычная Г. на нямецкай мове «Anfangsgründe einer Littauischen Grammatick», напісаная яго сынам Паўлам Фрыдрыхам (1725—81).

*Публ.*: *Славянскія тэксты*: Ягич В.И. Рассуждения южно-славянской и русской старины о церковнославянском языке. Санкт-Петербург, 1885; Грамматики Лаврентия Зизания и Мелетия Смотрицкого / Сост. Е.А.Кузьминова. М., 2000; Lavrentij Zizanij. Hrammatika Slovenska. Wilna 1596 / Hrsg. G.Freidhof. Frankfurt am Main, 1972; Adelphotes: die erste gedruckte griechish-kirchenslavische Grammatik; Lviv-Lemberg 1591 / Hrsg. O.Horbatsch. Munchen, 1973 (2. Aufl. 1980); Meletij Smotrickij. Hrammatiki slavenskija pravilnoe syntagma: Jevje 1619 / Hrsg. O.Horbatsch. Frankfurt am Main, 1974; Hrammatiki ili pismennica jazyka sloven'skaho: Kremjanec 1638 / Hrsg. O.Horbatsch. Frankfurt am Main, 1977.

*Літоўскія тэксты*: [Klein D.] Pirmoji lietuvių kalbos gramatika 1653 metai = Первая грамматика литовского языка / Red J.Balčikonis, B.Larin. Vilnius, 1957; [Klein D.] Grammatica lituanica; Compendium lituanico-germanicum / Hrsg. H.Haarmann. Hamburg, 1977; Universitas Lingvarum Litvaniae / Vertė, parašė K.Eigminas. Vilnius, 1981; Ruigys P. Lietuviū kalbos kilmės, būdo ir savybių tyrinėjimas / Parengė V.Jurgutis, V.Vilnonytė. Vilnius, 1986; Sapūnas K., Sulcas T. Compendium Grammaticae Lithvanicae. Vilnius, 1997.

*Літ.*: Студинський К. «Адельфотес», граматика, видана у Львові 1591 р. // Записки Наукового товариства ім. Шевченка. 1895. Т. 7. Кн. 3; Макарушка Є. Граматика Мелетія Смотрицького. Критично-історична студія. Львів, 1908; Возняк М. Грамматика Лаврентія Зизанія з 1596 р. // Записки Наукового товариства ім. Шевченка. 1911. Т. 101. Вип. 1; Т. 102. Вип. 2; Кудріцькій Є.М. Іван Ужевич — український граммат тист XVII ст. і його праця // Мовознавство. 1970. № 1; Станкевіч Я. Граматыка славенская Яна Ужэвіча 1643 г. // Веда. 1973. Т. 5. № 1 (перавыд.: Станкевіч Я. Збор твораў у 2-х тт. Мінск, 2002. Т. 2); Східнослов'янські граматики XVI—XVII ст. Київ, 1982; Schmalstieg W.R. Early Lithuanian grammars // Lituanus. 1982. Vol. 28. №1; Мечковская Н.Б. Ранние восточнославянские грамматики. Минск, 1984; Horbatsch O. Die vier Ausgaben der kirchenslavischen Grammatik von M.Smotrýckyj. Wiesbaden, 1964; Ising E. Die Herausbildung der Grammatik der Volkssprachen in Mittel- und Osteuropa. Berlin, 1970. ***Ігар Клімаў.***

**Граткоўскі** Табіяш (?—1822), паэт. Паходзіў са Случчыны. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі, Каралявецкім, Лейдэнскім (Нідэрланды) ун-тах. У 1761 быў рэктарам Слуцкай гімназіі. У 1758 карабель, на якім Г. плыў з Антверпена ў Гданьск, пацярпеў крушэнне. Выратаваўшыся і вярнуўшыся ў Слуцк, ён апісаў гэта здарэнне ў паэме «Марское падарожжа» (1760). ***Адам Мальдзіс.***

**Гружэўскі** Ян (каля 1580, мяст. Нягневічы Навагародскага ваяв.— 12.8.1646), дзеяч каталіцкай царквы. Д-р тэалогіі (1609). У 1595 уступіў у Рызе ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вывучаў тэалогію ў Рыме. Праф. філасофіі ў


VLTIMA
ET MAXIMA HOMI-
NIS MVTATIO
Sive
DE MYSTICA
CVM DEO VNIONE,
EAQVE ADMIRABILI,
ET DE DVPLICI DISPOSITIONE AD
EANDEM, TRIBVS LIBRIS EXPLICANDA.
Liber Primus.
De prima, & remota dispositione.
Pars Libri prior.
Auctore
R. P. JOANNE GRUZEWSKI SOCIETATIS JESU
Sacræ Theologiæ Doctore.
VILNÆ.
Typis Academicis Societ: Iesu Imprimebat Ioanes Kochan.
Anno post Natiuitatem Christi MDCXLI.

Я.**Гружэўскі**. «Поўная і максімальная чалавечая перамена». Т. 1. Вільня. 1641. Тытульны ліст.

Пултуску (1609—11, 1612—13), Браневе (1613—14), маральнай тэалогіі ў Нясвіжы (1611—12), схаластычнай тэалогіі ў Вільні (1615—16), рэктар Віленскай акадэміі (1618—25, 1641—43), прэпазіт дома прафесаў у Варшаве (1628—31), прапаведнік караля Жыгімонта III Вазы (1626—30), прыдворны місіянер пазнанскай ваяводзіны Апалінскай (1634—39), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1641—42), галава Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1643—46). У 1644 адчыніў у Віленскай акадэміі факультэт права. Удзельнічаў у Генеральнай кангрэгацыі ордэна езуітаў у Рыме ў 1645—46. Аўтар тэалагічнага твора «Поўная і максімальная чалавечая перамена» («Ultima et maxima hominis mutatio», т. 1—3, Вільня, 1641—44). У рукапісах засталіся яго лекцыі па філасофіі.

*Літ.*: Piechnik L. Rozkwit Akademii Wileńskiej w latach 1600—1655. Rzym, 1983.

**Грушэцкі** Антон Ігнат Юзаф (псеўд. А.Дамброўскі; 1734, Валынь—1798), жывапісец. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Украіны, Польшчы і Беларусі. Прадстаўнік позняга барока. Жывапісу вучыўся ў Камянцы-Падольскім і Львове. Уступіў у базыльянскі ордэн, у 1760 выйшаў з яго і пераехаў у Кракаў, дзе атрымаў правы цэхавага майстра. У гэты перыяд стварыў партрэт рэктара Кракаўскага ун-та К.Ярмундовіча, карціны «Самсон і Даліла», «Лот з дочкамі», аформіў алтар бернардзінскага касцёла ў Альверні. У 1770 пераехаў у Супрасль, потым у Гародню, дзе ўдзельнічаў у стварэнні (каля 1774) дэкаратыўных кампазіцый для інтэр'ераў *Гарадзенскага палаца Тызенгаўза* і *Гарадзенскага кляштара бернардзінцаў* (1788, з Ф.Міхалкевічам). Сярод работ 1770-х г.: «Святы Еранім», «Алегорыя вернасці», «Мужнасць святога Варфаламея», «Рознакаляровыя львы», «Забавы німфаў», абразы святых Антонія, Францыска і інш.

*Літ.*: Mańkowski T. Antoni Ignacy Dombrowski, malarz krakowski 2 poł. XVIII w. // Sprawozdania z Czynności i Posiedzień Akademii Umiejętności w Krakowie. 1949. № 4; Ryszkiewicz A. Malarz Antoni Gruszecki vel Dombrowski bazylianin w Supraślu // Rocznik Białostocki. Białystok, 1967. T. 7; Kuty D.J. Etapy budowy pobernardyńskiego kościoła w Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Bieliauskas P. Valkininkų bažnyčia ir vienuolynas. Trakai, 2004.

**Грыгор'еў** Даніла, разьбяр па дрэве 2-й пал. 17 ст. Родам з Віцебска. Відаць, у выніку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* апынуўся ў Расіі. Вучань *Іпаліта* (Старца). Працаваў у Маскоўскай Аружэйнай палаце. Рабіў іканастасы, клірасы, куфры, шафы, цац-



кі для царэвічаў. Разам з Я.*Анцiп'евым* і Я.Юр'евым упрыгожыў гербамі і «рознымі вуглавымі слупікамі» царскую карэту.

**Грыгор'еў** Самуіл (Самошка), майстар-цанiннiк 2-й пал. 17 ст. Родам з Копысі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654 узяты патрыярхам Ніканам у Валдайскі манастыр для «цанiннай справы», потым на будоўлю Новаіерусалімскага храма на Істры. Працаваў у Аружэйнай палаце ў Маскве. У 1667—68 зрабіў кафлі для Каломенскага палаца цара Аляксея Міхайлавіча.

**Грым** Якуб (20.7.1709, Вармія — 16.12.1790), скульптар, сталяр. У 1737 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1737—41 працаваў пры адбудове калегіума і касцёла св. Ігнацыя ў Вільні, дзе выканаў алтары і амбон у тэхніцы стука. У 1743—68 кіраўнік майстэрні пры Віленскім касцёле св. Яна, будаваў там алтары, рабіў абсталяванне для астранамічнай абсерваторыі. У 1768—70 сталяр і кіраўнік будоўлі касцёла ў Крожах. Пасля зноў у Вільні, працаваў у сталярных майстэрнях і папернях. Пасля 1779 выехаў у Полацк, дзе кіраваў сталярнай майстэрняй.

**Грынблат** Майсей (Міхаіл) Якаўлевіч [16(29).3.1905, Мінск — 4.7.1983], беларускі этнограф, фалькларыст, гісторык. Канд. гіст. навук (1945). Скончыў Ленінградскі ун-т (1930). Працаваў у Бел. аддзеле Наркамасветы БССР (1920), акцёрам у трупе У.Галубка (1921—25). З 1930 у АН БССР: у Ін-це гісторыі (1931—41, 1945—56) і Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (1957—76), адначасова выкладаў у Мінскім педагагічным ін-це (1937—41) і БДУ (1939—41, 1945—55). Даследаваў духоўную і матэрыяльную культуру, грамадскі побыт, этнагенез беларусаў, займаўся пытаннямі тапа- і антрапанімікі, нар. лексікай, бібліяграфіяй беларусазнаўства. Адзін з аўтараў 2-томнай (т. 1, 1961) і 5-томнай (т. 1, 1972) «Гісторыі Беларускай ССР», даследавання «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць» (1967), нарыса «Беларусы» ў кн. «Народы еўрапейскай часткі СССР» («Народы европейской части СССР», Москва, т. 1, 1964). Складальнік тамоў серыі «Беларуская народная творчасць»: «Радзінная паэзія» (1971), «Загадкі» (1972, з А.І.Гурскім), «Прыказкі і прымаўкі» (кн. 1—2, 1976), «Выслоўі» (1979).

*Тв.*: Песні беларускага народа. Т. 1. Мінск, 1940; Анамастыка як крыніца вывучэння гісторыі і этнаграфіі беларускага народа: (па матэрыялах беларускіх прозвішчаў) // Матэрыялы да IV Міжнароднага з'езда славістаў. Мінск, 1958; К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов // Тр. Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции. М., 1959. Т. 1; Белорусы: очерки происхождения и этнической истории. Минск, 1968; К происхождению белорусской народности: (по поводу теории субстрата) // Советская этнография. 1968. № 5; Беларуская этнаграфія і фалькларыстыка: бібліягр. паказ. Мінск, 1972.

*Літ.*: Список основных работ М.Я.Гринблата: (к 70-летию со дня рождения) // Советская этнография. 1976. № 2.

***Арсен Ліс.***

**Грынявіцкі кляштар францысканцаў**. Існаваў у в. Грынявічы ў Ваўкавыскім пав. (цяпер у Свіслацкім р-не). Касцёл пабудаваны ў 1792 у стылі позняга барока. Мураваная 3-нефавая базіліка з бязвежавым фасадам і прамавугольнай алтарнай апсідай накрыта пакатым (раней высокім) 2-схільным дахам. Кароткія бакавыя нефы завершаны невысокімі аб'ёмамі сакрысцій. Сцены бакавых фасадаў рытмічна расчлянёны плоскімі пілястрамі. Вокны з лучковымі завяршэннямі. Выгнуты гал. фасад падзелены на 2 ярусы на ўзроўні карнізаў нефаў і завершаны фігурным франтонам. Дэкор гал. фасада і інтэр'ер зменены пры перабудове касцёла пад правасл. царкву ў 1870. Зберагліся дзверы з каванымі накладкамі, фрагменты муравагай агароджы і брама 18 ст. ***Людміла Трэпет.***

**«Грыф»**, прыватнаўласніцкі герб, якім у Беларусі, Украіне, Літве і Польшчы карысталася больш за 220 родаў, у т.л. Асоўскія, Бяліцкія, Браніцкія, Быкоўскія, Закрэўскія, Канарскія, Квяткоўскія, Путкмеры. На чырвоным полі выява стоячага на задніх лапах сярэбранага грыфа — фантастычнай істоты з тулавам ільва, галавой і крыламі арла, дзюба і капцюры залатыя. Клейнод — верхняя палавіна грыфа без лап і залатая труба. Вядомы з 13 ст., у ВКЛ — пасля Гарадзельскай уніі 1413.

**Грышкевіч** Войцех (24.4.1665, Жамойць — 25.8.1710), дзеяч каталіцкай царквы. У 1683 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1695 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Вільні (1696—97), Крожах (1698—99), філасофіі ў Нясвіжы (1699—1702), прэфект школы ў Полацку (1702—03), праф. палемічнай тэалогіі і яўрэйскай мовы ў Вільні (1703—04), праф. маральнай тэалогіі ў Крожах (1704—05), місіянер у Шадаве (1705—07), праф. маральнай тэалогіі і прэфект школы ў Крожах (1707—10). Рабіў казанні на літ. мове. Аўтар драмы, пастаўленай у Вільні ў 1697.

*Літ.*: O k o ń J. Dramat i teatr szkolny: sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.

**Грэкавіч** Антоній (? — 23.2.1618), дзеяч грэка-каталіцкай царквы. Доўгі час служыў дыяканам пры двары мітрапаліта Іпацыя Пацея, які за заслугі пасвяціў спачатку яго ў прэсвітэры, а 22.1.1610 прызначыў мітрапаліцкім намеснікам (пратапопам, афіцыялам) у Кіеў (быў ім да 1613), прызначыўшы яго адначасова ігуменам Выдубіцкага манастыра. Мясцовае правасл. духавенства адмовілася прызнаць вяршэнства Г. і распускала чуткі, што ён прыехаў хрысціць народ у лядскую веру, таму Г. быў вымушаны абапірацца на дзярж. ураднікаў і каталіцкіх святароў. У 1611 адзін з запарожскіх казакаў стрэліў у Г. на тэр. Выдубіцкага манастыра, але прамахнуўся, а Г. падаў жалабу на правасл. святароў, што адмаўляліся прызнаць яго ўладу, у каралеўскі задворны асэсарскі суд. Шмат зрабіў для вяртання манастыру страчанай нерухомай маёмасці, у т.л. той, якая адышла да правасл. Кіева-Пячэрскай лаўры. Г. загінуў у выніку ўзброенага нападу. Некалькі дзесяткаў казакоў і гараджан аблажылі Выдубіцкі манастыр, схапілі Г. і звязанага ўтапілі ў прарубі на Дняпры; асабістая маёмасць ігумена была разрабавана. Мітрапаліт Іосіф Руцкі наклаў на Кіеў і ваколіцы інтэрдыкт (забарону богаслужэння). У Кіеў была накіравана каралеўская камісія (1618, 1619), якая з-за процідзеяння

праваслаўных не здолела знайсці і пакараць вінаватых у забойстве Г.

*Літ.*: Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. Санкт-Петербург, 1897; Пам'ятки. Т. 3. Архів Української Церкви. Вип. 1. Документи до історії унії на Волині і Київщині кінця XVI—першої половини XVII ст. / Упорядник М.В.Добищенко. Київ, 2001; Вест. Зап. Рос. 1864. Т. 2. Дек. С. 24—26.

**гуманіёра** (лац. humaniora, humaniores litterae), у езуіцкіх школах Рэчы Паспалітай назва пачатковых вучэбных прадметаў ад інфімы да рыторыкі. Выкладанне Г. лічылася гал. задачай езуіцкіх школ, яна павінна была інтэлектуальна падрыхтаваць моладзь да грамадскай дзейнасці.

**гуменны**, г у м е н н і к, службовец у прыватных маёнтках у 16—18 ст., які сачыў за выкананнем сялянамі павіннасцяў, вядзеннем гаспадаркі ў асобным фальварку. Тэрмін выкарыстоўваўся пераважна ў невял. фальварках, у вял. маёнтках такіх службоўцаў часцей называлі цівунамі.

*Літ.*: Д о ў н а р А.В. Сяляне-слугі другой паловы XVI — сярэдзіны XVIII ст. Мінск, 2007. С. 57.

**гумно**, гаспадарчая пабудова для сушкі і хавання снапоў, абмалоту, ачысткі і сартавання збажыны. Было пашырана на ўсёй тэр. Беларусі. Назва вядома з 15 ст. На Палессі Г. называліся клунямі, на Віцебшчыне і часткова Магілёўшчыне такамі, у зах. раёнах Беларусі стадоламі. У 16 — пач. 20 ст. Г. былі пашыраны ў вёсках (у сял. гаспадарках размяшчаліся ў канцы сядзібных участкаў або ў полі), фальварках (гал. пабудова гуменнага комплексу), гарадах і мястэчках (ставіліся па-за межамі сялібнай тэр. і ўтваралі суцэльны фронт 1- або 2-раднай забудовы). Будаваліся пераважна з бярвён, былі ў плане прамавугольныя, квадратныя, шматвугольныя. Доўгія Г. мелі мяшаную каркасна-вянковую канструкцыю (тарцовыя часткі сцен зрубавыя, сярэднія — замётам у шулы). Зруб не імшыўся, бярвёны не падганяліся шчыльна адно да аднаго для стварэння натуральнай цыркуляцыі паветра. Будынкі мелі высокія 2-схільныя, вальмавыя, пірамідальныя стрэхі, накрываліся саломай, чаротам, драніцамі, гонтай. Найб. была пашырана каркасная канструкцыя страхі на сохах (ставіліся ў адзін рад па падоўжнай восі будынка; у 2 рады, папарна злучаліся бэлькамі, у цэнтры якіх ставіліся кароткія сохі-дзядкі або козлы, што неслі вільчаковую жэрдку), пазней на кроквах. Асн. тыпы вянковых перакрыццяў — 2-схільнае «закотам», 4-схільнае і пірамідальнае з бярвён «у рэж». У цэнтры Г. рабілі глінабітны ток, абапал яго — «застаронкі» для снапоў, саломы, сена, мякіны. Ва ўсх., паўн., паўн.-зах. раёнах Беларусі ў сялянскіх Г. або побач з імі будавалі ёўню для сушкі



**Гумно** ў былой в. Таль Жыткавіцкага р-на. Пач. 20 ст.

снапоў, у фальварках на ўсёй тэр. Беларусі пераважалі асеці. Сялянскія Г. мелі памеры ў плане 7—23 × 5,5—18,5 м, 1 або 2 варот, у фальварках Г. былі значна большых памераў, мелі 4—6 варот, часам 2 такі, размешчаныя ў тарцах, унутры Г. былі свірны (маёнткі Яромічы над Бабруйскам, Красны Стаў над Клецкам). Выразная лаканічная архітэктура многіх Г. грунтавалася на кантрастным спалучэнні нізкіх сцен і высокага пластычнага па малюнку даху. У Зах. Палессі будаваліся Г. без сцен, як высокая страха, пастаўленая на зямлю. У некаторых Г. Прыпяцкага Палесся вынас страхі ўтвараў на адным з падоўжных фасадаў будынка кансольна-бэлечныя або слупавыя падчэні.

*Літ.*: Я к і м о в і ч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. Мінск, 1978; Т р а ц е в с к и й В.В. История архитектуры народного жилища Белоруссии. Минск, 1989; Л о к о т к о А.И. Белорусское народное зодчество: середина XIX—XX в. Минск, 1991; Я г о ж. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мінск, 1999; С е р г а ч е в С.А. Белорусское народное зодчество. Минск, 1992.

**Гундльфінгер** Ян (25.1.1703, Баварыя—пасля 1750), мастак. У 1731 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1733—38 працаваў у Вільні пры калегіуме і касцёле св. Рафала, дзе выканаў шмат абразоў для алтара, рэфлекторыя і калідораў, у 1738—39 — пры касцёле св. Казіміра, у 1740—42 — у Нясвіжы, у 1742—44 — у Пултуску, у 1744—47 — у Дынабургу, у 1747—50 — у Крожах. Пасля выйшаў з ордэна езуітаў, далейшы лёс невядомы.

**Гурка Фёдаравіч** (каля 1360—паміж 1429 і 1433), князь. Сын Фёдара Альгердавіча, брат Рамана Фёдаравіча (родапачынальнік князёў Кобрынскіх) і Сангушкі Фёдаравіча (родапачынальнік князёў Сангушкаў). На мяжы 14 і 15 ст. ажаніўся з сястрой жонкі кн. Аляксандра Носа. У 1412—16 быў у Польшчы пры двары Ягайлы. Меў сыноў Януша (памёр каля 1476) і Аляксандра (памёр не пазней 1484). Януш у 1422 запісаўся ў Кракаўскі ун-т, быў пробашчам вялюнскім, канонікам і кусташам варшаўскім, дэканам плоцкім. Мелі маёнткі на Валыні (Лісяцічы, Красьнічын, Дуб).

*Літ.*: T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Гурчын** (Гурчин) Даніла Аляксеевіч (2-я пал. 17 — пач. 18 ст.), расійскі аптэкар і паэт. Мяркуецца, што паходзіў з ВКЛ. Абставіны яго з'яўлення ў Расіі невядомы. Магчыма, гэта адбылося ў выніку наступстваў *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* або Г. быў у ліку замежных лекараў, запрошаных Пятром I на службу ў Расію. У канцы 17 ст. Г. жыў у Маскве і служыў у Царскай аптэцы. У 1699 яму была даравана зямля пад аптэку на Мяніцкай вуліцы, якую ён збудаваў на ўласныя сродкі. Пасля звярнуўся да Пятра I з просьбай аб жалаванай грамаце на аптэку, якую атрымаў у 1701. Стаў 2-м прыватным уладальнікам аптэкі ў Маскве, назваў сябе «аптэкарам царскай вялікасці». Склаў рукаводствы для хатняга лячэння «Аптечка обозовая или служилого чина людей и их коней», «Аптечка домовая большая, которою всяк человек, егда лекаря нет, может помощь дать не токмо себе, но и всякой скотине во всяких немощах» (абодва 1708). Пісаў

вершы, з якіх захаваўся адзіны твор — польскамоўны панегірык «Триумф польской музы по одержании над шведами и их союзниками под Калишем победы» (Масква, 1706), дзе ўсхваляюцца Пётр I і А.Д.Меншыкаў за перамогу над шведамі ў Калішскай бітве 1706, што адбылася ў час *Паўночнай вайны 1700—21*. Выданне панегірыка — цэльнагравіраванае, упрыгожана выявамі Пятра I, бітвы, планам Санкт-Пецярбурга. Тэкст быў набраны не толькі польскім алфавітам, але і кірыліцай. Некаторыя даследчыкі лічылі, што кірылічная частка кнігі — бел. тэкст (В.Ундольскі). Гэта кніга стала першым выданнем на замежнай мове, што выйшла ў Расіі.

*Літ.*: Ундольский В.М. Очерк славяно-русской библиографии: хронолог. указ. славяно-русских книг церковной печати с 1491-го по 1864-й г. М., 1871; Орешников А.В. Даниил Гурчин, московский аптекарь начала XVIII столетия // Сборник статей в честь графини П.С.Уваровой. М., 1916; Щавинская Л.Л. Московская ода Даниила Гурчина // Здабыткі: Дакумент. помнікі на Беларусі. Мінск, 2007. Вып. 9.

**Гурын** Міхаіл Фёдаравіч (н. 8.11. 1941, в. Радунь Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1971). У 1976—2005 працаваў у Ін-це гісторыі НАН Беларусі (з 1991 вядучы навук. супрацоўнік). Даследуе праблемы металургіі і кавальскай апрацоўкі жалеза, ліцейнай справы Беларусі, сувязі насельніцтва Беларусі з краінамі Зах. Еўропы ў старажытнасці і сярэдневякоўі, гісторыю Радзівілаў і іх уладанняў. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 2, 4, Мінск, 1999, 2001), «Гісторыі Беларусі» (т. 1, Мінск, 2000).

*Тв.*: Жалезныя вырабы XIV—XVII стст. з Віцебска // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 5; Древнее железо Белорусского Подпепровья (I тысячелетие н.э.). Минск, 1982; Мир: историко-эконом. очерк. Минск, 1985; Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. Минск, 1987; Кавальская тэхналогія на тэрыторыі Беларусі ў XIV—XVIII стст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 5; Производство черных металлов в Белоруссии в позднефеодальный период // Из истории науки и техники Белоруссии. Минск, 1988; Імпартныя кавальскія вырабы (X—XVII стст.) на Беларусі // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1994. № 3; Дзейнасць М.К.Радзівіла Сіроткі ў Нясвіжы // Мастацкая культура Нясвіжа. Мінск, 1996; Замак у Міры // Падарожнік. 1997. № 5—6; Дзейнасць М.К.Радзівіла Сіроткі ў Мірскім графстве // Бел. гіст. часоп. 1998. № 1; Падарожжа М.К.Радзівіла ў Сірыю, Палесціну і Егіпет // Музы Нясвіжа. Мінск, 1998; Нясвіжскія гарматы // Нясвіж=Nieśwież. Warszawa; Mińsk, 1998; Міхал Казімір Радзівіл «Рыбанька» // Пяты фестываль камернай музыкі «Музы Нясвіжа». Мінск, 2000.

**Густаў II Адольф** (Gustav II Adolf; 19.12.1594, г. Стакгольм, Швецыя — 16.11.1632), кароль Швецыі [1611—32]. Сын Карла IX і Крысціны фон Шлезвіг-Гольштэйн-Готарп, жанаты на Марыі Элеаноры Гогенцолерн (1599—1655). Г. II А. правёў шэраг рэформ у паліт. і ваеннай сферы. Зацвердзіў гарантыю ўдзелу саслоўяў у паліт. жыцці Швецыі. Рыксдаг і Дзярж. савет сталі склікацца рэгулярна і толькі з іх згоды кароль выдаваў законы, аднак права займаць вышэйшыя пасады была замацавана за шляхтай. Ва ўнутранай палітыцы заняты ў бесперапынных войнах, Г. II А. абапіраўся на канцлера Акселя Оксеншэрну і Юхана Шутэ. Г. II А. узнавіў Упсальскі ун-т, заснаваў ун-т у Дорпаце, грамадскія школы, напісаў некалькі гіст. прац. Паражэнні Карла IX ад цяжкай кавалерыі ВКЛ у палявых бітвах (Какенгаўзенскай, Белакаменскай, Кірхольмскай) у час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* прымусілі Г. II А. правесці ваенныя рэформы. Падчас іх была створана моцная рэгулярная армія шляхам спалучэння вярбоўкі добраахвотнікаў і прымусовага рэкруцкага набору з сялян і бюргераў, таксама ўведзена муштра і жорсткія цялесныя пакаранні. Больш аднародны нац. склад войска і дысцыпліна павысілі яго баявыя якасці. Было ўдасканалена ўзбраенне, уведзена лёгкая палявая артылерыя з 4-фунтавымі гарматамі, упершыню ў Зах. Еўропе створана палкавая артылерыя (па 2 гарматы на полк). Вял. і цяжкія ў кіраванні палкі па 2—3 тыс. чал. заменены палкамі па 1300—1400 чал., у якіх $^2/_3$ складалі мушкецёры, а рэшту — пікінёры. Цяжкае ахоўнае ўзбраенне заменена лёгкім. Павялічана да 40% ад агульнага складу войска колькасць кавалерыі. Кавалерыйскія палкі былі падзелены на эскадроны па 125 вершнікаў Акцэнт быў зроблены на агнявыя магчымасці і хуткасць. Шведскае войска пачало выкарыстоўваць перадавую на той час лінейную тактыку. Пры Г. II А. Швецыя вяла шэраг войнаў. Г. II А. пагадзіўся заключыць мір з Даніяй у Кнеродзе (студз. 1613), Эльфсборг, адзіны порт Швецыі ў Паўн. моры, заставаўся ў руках датчан да 1619, калі быў выкуплены за 1 млн. залатых



**Густаў II Адольф**. Мастак Якаб Эльбфас. Каля 1630.

талераў. Каб не дапусціць стварэння дынастычнай уніі паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай у асобе Уладзіслава IV Вазы Г. II А. прыняў удзел у рас. Смуце. Дапамагаў рас. апалчэнцам змагацца супраць войск Рэчы Паспалітай і Лжэдзмітрыя II. У 1611 Г. II А. быў прапанаваны навагародскімі баярамі і 2-м апалчэннем у якасці канд. на маскоўскі трон. Аднак ні яму, ні яго брату Карлу Філіпу не ўдалося каранавацца. Паводле Сталбоўскага перамір'я 1617 Швецыя атрымала частку Інгрыі і Карэліі, злучыўшы Фінляндыю і Эстляндыю і адрэзаўшы



Рас. дзяржаву ад Балтыйскага мора. У 1617 Г. II А. узнавіў баявыя дзеянні супраць Рэчы Паспалітай у Інфлянтах. Быў высаджаны дэсант каля Віндавы, захоплена Парнава (8.8. 1617) і Саліс. Аднак шведы не здолелі ўзяць Дынамюнд і Рыгу, пасля чаго пад ціскам Даніі Г. II А. заключыў перамір'е з Рэччу Паспалітай. Скарыстаўшы ўдзел войска ВКЛ у Хацінскай вайне з туркамі ў 1621, Г. II А. з 17-тысячным войскам захапіў Рыгу (15.9.1621) і большую частку Інфлянтаў, перанёс баявыя дзеянні ў Курляндыю і заняў Мітаву. 10.8.1622 у Мітаве Я.Дэлагардзі і Крыштоф Радзівіл заключылі сепаратнае перамір'е паміж ВКЛ і Швецыяй, быў праведзены абмен палоннымі. ВКЛ адмовілася выконваць патрабаванне Польшчы спыніць гандаль праз Рыгу, Каралявец і Мемель. Але 24.6.1625 шведы занялі Кокенгаўзен, 7.9.1625 захапілі Біржы, Боўск, Дорпат, Нойгаўзен і Марыенбург. 9.10. 1625 шведскія войскі разбіты на р. Авіншта войскамі ВКЛ (пад Г. II А. забілі каня). 17.12.1626 войскі ВКЛ разгромлены пад Валмойжай. 19.1.1627 было падпісана Бальдэмойжскае перамір'е, паводле якога спыняліся баявыя дзеянні паміж ВКЛ і Швецыяй, гарантаваўся гандаль праз Рыгу. Г. II А. перанёс дзеянні ў Каронную Прусію, заняў шэраг замкаў, але прайграў бітвы пад Алівай (28.9.1627) і Тчцынай (26.6.1627). Вайна скончылася падпісаннем *Альтмаркскага перамір'я 1629*, паводле якога Рэч Паспаліта страціла Рыгу, Мемель, Эльблёнг, Браўн- сберг, Пілаў і мыты з гандлю праз балтыйскія порты, але кароль польскі і вял. князь літ. Жыгімонт III Ваза захаваў за сабой тытул шведскага караля. Атрымаўшы дапамогу ад Францыі, Рас. дзяржавы і Галандыі Г. II А. у 1630 уключыўся ў Трыццацігадовую вайну 1618—48 на баку пратэстанцкай антыгабсбургскай кааліцыі. Г. II А. не ўдалося выратаваць Магдэбург, які быў захоплены габсбургскімі войскамі 20.5. 1631. Аднак Г. II А. разграміў армію Каталіцкай лігі пад камандаваннем графа І.Цілі ў бітве пры Брэйтэнфельдзе (17.9.1631), захапіў Паўн. Германію. Вясной 1632 пачаў паход на Вену і ўварваўся ў Баварыю. На р. Лех упершыню ў гісторыі ваеннага мастацтва адбылася фарсіраваная пераправа, пасля якой войскі Цілі былі разгромлены (5.4.1632). Аўгсбург і Мюнхен здаліся шведам. Пагроза імперскага галоўнакамандуючага А.Валенштэйна саюзніку Г. II А. саксонскаму курфюрсту Ёгану Георгу прымусіла Г. II А. павярнуць на Пн. Кепская разведка прывяла да паражэння Г. II А. падчас атак на добра ўмацаваны абоз Максіміляна Баварскага і Валенштэйна ў Фюрт каля Нюрнберга (жн.—вер. 1632). Спрабуючы перашкодзіць камунікацыям праціўніка, Г. II А. правёў шэраг складаных манеўраў. У вырашальнай бітве пры Лютцэне (16.11.1632) Г. II А. перамог імперскае войска Валенштэйна, але сам загінуў. У выніку праўлення Г. II А. Швецыя значна пашырыла сваю тэр. і стала еўрапейскай звышдзяржавай.

*Літ.*: Форстэн Г.В. Балтийский вопрос в XVI—XVII столетиях. Т. 2. Санкт-Петербург, 1894; История Швеции. М., 1974; Катлярчук А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў. Мінск, 2002; Яго ж. У ценю Польшчы і Расеі: Вялікае Княства Літоўскае і Швэцыя ў часе эўрапейскага крызісу сярэдзіны XVII ст. // Arche. 2008. № 7—8; Kersten A. Historia Szwecji. Wrocław, 1973; Wisner H. Rzeczpospolita Wazów. T. 2. Warszawa, 2004; Wójcik Z. Historia powszehna XVI—XVII wieku. Warszawa, 2004. ***Віктар Якубаў.***

**Густынскі летапіс**, украінскі летапісны звод 1-й пал. 17 ст. Асвятляе гісторыю Украіны і вакольных зямель ад легендарных часоў да 1597. Першы гістарыяграфічны твор, які цалкам прысвечаны гісторыі Украіны. Напісаны на стараўкр. мове, відаць, у Кіеве, як мяркуецца, Захарыем Капысценскім у 1624—27. Арыгінал не збярогся. Назва Г.л. паходзіць ад Густынскага Троіцкага манастыра (цяпер с. Густыня Прылуцкага р-на Чарнігаўскай вобл.), дзе захоўваўся яго спіс, зроблены ў 1670 іераманахам Міхаілам Ласіцкім. 1-я частка летапісу блізкая па змесце да *Іпацьеўскага летапісу*, змяшчае унікальныя звесткі, верагоднасць якіх, аднак, сумненная. Тут знаходзіцца адзінае паведамленне пра тое, што літ. кн. Міндоўг прыняў хрышчэнне па правасл. абраду, якое абвяргаецца вучонымі. 2-я частка Г.л. ахоплівае падзеі 1300—1597, адрозніваецца лаканічнасцю. Пры яе напісанні быў выкарыстаны Васкрасенскі летапіс, візантыйскія і польскія хронікі. Асвятляе палітыку ВКЛ і Польшчы на ўкр. землях, напады крымскіх татараў і туркаў. Заканчваецца асобнымі арт. «Пра пачатак казакоў», «Пра ўвядзенне новага календара», «Пра унію, як пачалася ў Рускай зямлі». Мае ярка выражаную антыкаталіцкую і антыпольскую скіраванасць, якая часам прыводзіць да скажэння фактаў (так, указваецца, што мітрапаліт Ісідор, які заключыў унію з каталіцкай царквой, быў спалены па рашэнні правасл. сабора).

*Публ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 2. Санкт-Петербург, 1843; Т. 40. 2003.

*Літ.*: Єршов А. Коли і хто написав Густинський літопис? // Записки Наукового товариства імені Шевченка. Львів, 1930. Т. 100, ч. 2; Толочко О. Де було написано Густинський літопис? // Історія, історіософія, джерелознавство. Київ, 1996; Його ж. Текстологічні спостереження над збірниками, що містять Густинський літопис: (до питання про реконструкцію архетипу) // Український археографічний щорічник. Київ, 1999. Вип. 3/4.

**Гучы** (Gucci) Санці (каля 1530, Фларэнцыя — каля 1600), архітэктар, скульптар. Паходзіў з сям'і мастакоў. Пачаў творчую дзейнасць у Італіі ва ўзросце 17 гадоў. Працаваў у стылі позняга рэнесансу і маньерызму, вял. ўплыў на яго творчасць аказалі нідэрландскія ўплывы. З 1558 у Польшчы. Ад караля польскага і вял. князя літ. Стэфана Баторыя атрымаў тытул муляра яго каралеўскай міласці (меў яго прынамсі з 1575). Удзельнічаў у будаўніцтве замкаў у Непаламіцах (1558), Яноўцы (1565—85), кіраваў перабудовай замка ў Лобзаве (1585—87). У 1591 на службе ў канцлера Яна Замойскага ў Варшаве. Аўтар праекта замка Ляшчынскіх у Баранаве. Удзельнічаў у перабудове *Гарадзенскага Старога палаца* ў канцы 16 ст. Е.Лілейка мяркуе, што Г. ўдзельнічаў і ў пабудове іншай каралеўскай рэзідэнцыі ў ВКЛ — *Гарадзенскага Баторыеўскага палаца.* Па заказу каралевы Ганны Ягелонкі стварыў надмагілле Стэфана Баторыя ў яго пахавальнай капліцы ў Кракаўскім кафедральным касцёле (1594—95).

*Літ.*: Sinko-Popielowa K. Santi Gucci Florentino i jego szkoła. Kraków, 1933; Fischinger A. Santi Gucci architekt i rzeźbiarz królewski XVI wieku. Kraków, 1969; Kozakiewiczowa



H. Renesans w Polsce: Santi Gucel — architekt i rzeźbiarz. 2 wyd. Warszawa, 1984; Lileyko J. Przebudowa grodzieńskich pałaców Batoriańskiego i Sapieżyńskiego na gmach sejmowy w 1717—1718 roku // Między Padwą a Zamościem: studia z historii sztuki i kultury nowożytnej ofiarowane Profesorowi Jerzemu Kowalczykowi. Warszawa, 1993.

**Гярулiс** (Gerulis, Gerullis) Георг (Юргiс; 13.8.1888, Ёгаўдай каля Тыльзiта, Прусiя — каля 1945), нямецкi i лiтоўскi мовазнавец. Д-р фiласофii (1912). Вучыўся ў Кёнiгсбергскiм i Берлiнскiм ун-тах. Удзельнiчаў у 1-й сусветнай вайне. У 1922—33 выкладаў у Лейпцыгскiм ун-це (праф., заг. кафедры балцкiх моў). У 1931—33 выкладаў курс дыялекталогii ў Каўнаскiм ун-це. У 1934 працаваў у Кёнiгсбергскiм ун-це (праф., рэктар). З 1937 праф. Берлiнскага ун-та. З 1939 у ням. армii (маёр Абвера). У 1945 арыштаваны сав. ўладамi. Далейшы лёс невядомы. Даследаваў стараж. лiт. пiсьменнасць, фанетыку i дыялекты лiт. мовы, прускую тапанiмiю. Падрыхтаваў фотавыданне прац М.*Мажвiдаса* i знойдзенага ў 1921 у Кёнiгсбергскiм дзярж. архiве песеннiка «Gesmes chriksczoniskas» 1566—70: «Найстаражытныя помнiкi лiтоўскай мовы да 1570 года» («Seniausieji lietuviu kalbos paminklai iki 1570 metams», Каўнас, 1922; «Die altesten litauischen Sprachdenkmaler bis zum Jahre 1570», Гайдельберг, 1923), хрэстаматыю «Найстаражытныя лiтоўскiя тэксты» («Senieji lietuviu skaitymai», Каўнас, 1927). У Вiльнi знайшоў перакладзеныя з латышскай мовы «Евангеллi i Пасланнi» Е.*Эльгера*.

*Тв.*: Die altpreu ischen Ortsnamen. Berlin; Leipzig, 1922; Litauische Dialektstudien. Leipzig, 1930; Das Fischerlitauisch in Preussen. Berlin, 1933 (з Х.Ш.Стангам).

*Лiт.*: Sabaliauskas A. Keletas smulkmenu Jurgio biografijai // Lietuviu kalbotyros klausimai. Vilnius, 1996. T. 36; Zinkevicius Z. Jurgis Gerulis — mokslininkas ir zmogus // Там жа.





**Давіл,** легендарны літоўскі князь. Упамінаецца ў маскоўскім Васкрасенскім летапісе 16 ст., згодна з якім быў сынам полацкага кн Расціслава Рагвалодавіча. У 1264 запрошаны жыхарамі Вільні на княжанне і стаў першым князем у гэтым горадзе. Легенда пра Д. павінна была абгрунтаваць правы Маскоўскай дзяржавы на землі і сталіцу ВКЛ у час вострай узброенай барацьбы паміж дзвюма дзяржавамі.

**«Дадаткі да актаў гістарычных»** («Дополнения к актам историческим, собранные и изданные Археографической комиссией», ДАИ), серыйнае выданне дакументаў па гісторыі Расіі і суседніх краін. Выдадзена Археаграфічнай камісіяй у 12 тамах у Санкт-Пецярбургу ў 1846—75. Было працягам серыйнага выдання *«Акты гістарычныя»*. Апублікавана каля 1800 дакументаў з дзярж., мясцовых і прыватных архіваў, у т.л. са Стакгольмскага архіва. У 1-м томе змешчаны дакументы з канца 10 ст. да 1612, у 2-м — за 1613—45, у 3-м — за 1645—54, у 4-м — за 1655—64, у 5-м — за 1665—69, у 6-м — за 1670—76, у астатніх тамах — за 1677—1700. Апублікаваны даравальныя граматы, справаводчая і дыпламатычная дакументацыя і інш. Сярод матэрыялаў выдання — царк. статут Уладзіміра Святаславіча канца 10 ст., устаўная грамата Смаленскай епіскапіі 12 ст., пасланне мітрапаліта Фоція правасл. ВКЛ 1419 і яго павучанне з нагоды асвячэння паходнай царквы для правасл. воінаў Вітаўта, ліст Івана IV гетману Р.Хадкевічу 1578, завяшчанне Івана IV, дакументы пра Смутны час (усе ў т. 1), пра дзеянні войск ВКЛ на тэр. Расіі ў 1609—15 (т. 2), вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 (т. 3—5), пасляваенныя адносіны дзвюх дзяржаў. Да т. 1—10 асобна выдадзены імянны і геаграфічны паказальнікі («Указатель к первым десяти томам дополнений к актам историческим», С.-Пецярбург, 1875).

**Дайнаўскас** (Dainauskas) Ёнас (21.1.1904, г. Каўнас—27.5.2000), літоўскі гісторык, бібліятэчны работнік. Скончыў Каўнаскі ун-т Вітаўта Вялікага (1933). У 1927—40 працаваў у Міністэрстве ўнутраных спраў, у 1937—39 выкладаў у Вышэйшай школе паліцыі. У 1941 зняволены нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, пасля працаваў у Каўнасе адвакатам і выкладчыкам у гімназіі, у 1944 мабілізаваны ў нямецка-фашысцкую армію, у 1945 трапіў у Польшчы ў сав. палон, з якога збег. Да 1957 жыў у Польшчы, пасля ў Францыі, з 1961 у ЗША, дзе працаваў бібліятэкарам. З 1968 выкладаў у Педагагічным літуаністычным ін-це ў Чыкага. Быў адным са стваральнікаў Цэнтра літуаністычных даследаванняў у Чыкага, якому перадаў уласную б-ку (каля 18 тыс. адзінак). У 1961—87 рэдагаваў працяглае выданне «Народнае мінулае» («Tautos praeitis»), у якім друкаваў бібліяграфію прац літоўскай эміграцыі. Даследаваў права ВКЛ 14—16 ст., узаемаадносіны ВКЛ і Польшчы, гісторыю хрышчэння Літвы. Падрыхтаваў бібліяграфію па гісторыі Літвы «Літоўская гістарыяграфія» («Lietuvos istoriografija», 11 сшыткаў, 1971—84), перавыданне часопіса «Аўшрас» («Aušros») за 1883—86 (1983) і інш. Аўтар кнігі «Літоўцы і літоўскае хрышчэнне і 1387-і год» («Lietuvos bei lietuvių krikštas ir 1387-ji metai», Чыкага, 1991). Абгрунтоўваў думку, што акт Крэўскай уніі 1385 быў падроблены ў пазнейшыя часы, што выклікала шырокую навук. дыскусію.

*Літ.*: Katilius A. Jonas Dainauskas (1904 01 21—2000 05 27) // Lietuvos istorijos metraštis, 2000 metai. Vilnius, 2001.

**Дакляровіч** (Дыклер; 1746?, Слуцк — ?), танцоўшчык. З мяшчан. Вучыўся ў мясцовай балетнай школе кн. Г.Ф.*Радзівіла* з 1756 (педагогі А.*Пуціні* і Л.М.*Дзюпрэ)* і танцаваў у яго прыдворным тэатры ў Слуцку (дэбютаваў у 1758 у «Балеце на тры пары», лібрэта і пастаноўка Пуціні), а таксама ў Белай (Берасцейскае ваяв.), гастраліраваў у Нясвіжы. З 1760 вядучы танцоўшчык балетнай трупы Нясвіжскага тэатра М.К.*Радзівіла* Рыбанькі.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мінск, 1992.

**Дамброўскі** Антон Ігнат Юзаф (1734—98), мастак, гл. *Грушэцкі* А.І.Ю.

**Данезі** Алесандра, спявак і капельмайстар 18 ст. Верагодна, працаваў спеваком у прыдворным тэатры К.К.*Радзівіла* Пане Каханку ў Нясвіжы. У 1776—78 капельмайстар прыдворнага тэатра гетмана М.К.*Агінскага* ў Слоніме, у 1784—85 — Нясвіжскага тэатра.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Даніла** Корсунскі, паломнік і пісьменнік канца 16 ст. У 1590 адправіўся ў паездку ў Святую Зямлю і Іерусалім, дзе прабыў 3 гады. Паломніцтва апісаў у «Перэгрынацыі». Гэты твор заснаваны на «Хаджэнні» ігумена Данілы (12 ст.), часам Д. прыводзіць яго тэкст без змен ад уласнага імя. Рукапіс «Перэгрынацыі» ў 1905 паступіў у Перамышльскі грэка-каталіцкі капітул ад Арэста Салцікевіча з Улюча пад Санам. Упершыню апублікаваны ў 1906 Васілём Шчуратам, які высунуў гіпотэзу, што твор мог паўстаць у асяроддзі роду Свідзінскіх на Саначчыне. У «Перэгрынацыі» Д. назваў сябе архімандрытам з Белай Расіі; існуе меркаванне, што Д. быў архімандрытам у с. Корсунь на Гарадзеншчыне. Твор Д. перапісваўся да 17 ст., у 18 ст. перакладзены на рус. мову.

*Тв.*: Щурат В. Перегринація, или Путь до Іерусалиму Данила архимандрыты коръсуньского з Бѣлой России: середньовічна пам'ятка староруської літератури в редакції XVI віку по улюцькій рукописі. Жовква, 1906; Перегринация, ілі путь до Іерусалима // Українська литература XIV—XVI ст. Київ, 1988.

*Літ.*: Адріанова-Перетц В. Данило Корсунський — паломник XVI-го віку // Зап. іст.-філол. відділу ВУАН. Київ, 1926. Кн. 9.

**Данілевіч** (Данилевич) Васіль Яўхімавіч [28.1(9.2).1872, г. Курск—16.11.1936], украінскі гісторык, археолаг. Скончыў Кіеўскі ун-т (1895). Выкладаў у Бакінскім, потым Юр'еўскім (1897—1900) рэальных вучылішчах, Рэвельскай Александраўскай гімназіі (1900—01). З 1903 прыват-дацэнт Харкаўскага ун-та, адначасова выкладаў у гімназіях, з 1907 прыват-дацэнт Кіеўскага ун-та, выкладаў таксама на Вышэйшых жаночых курсах, з 1915 прыват-дацэнт Варшаўскага ун-та, з 1916 у Растове-на-Доне, з 1918 праф. Украінскага ун-та ў Кіеве. Пасля 1920 выкладаў у вузах Кіева (Ін-це нар. адукацыі, Ін-це чырвонай прафесуры), управаў Археалагічнай камісіі Укр. АН. Працаваў у археал. экспедыцыях на Полаччыне, Падзвінні, даследаваў стаянку каменнага веку каля в. Кісцяні Рагачоўскага р-на. У манаграфіі «Нарыс гісторыі Полацкай зямлі да канца XIV стагоддзя» («Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия», Кіеў, 1896) абгрунтаваў правамернасць назвы «Полацкая зямля», паказаў яе гіст. ролю, працэс ўваходу ў склад ВКЛ і ранні перыяд яе гісторыі ў ВКЛ. Меркаваў, што Полацк быў заваяваны літ. кн. Таўцівілам да 1246. Працы па гісторыі Слабадской Украіны 17—18 ст., нумізматыцы, сфрагістыцы, этналогіі, фальклоры.

*Тв.*: Монетные клады Киевской губернии до первой четверти XV ст. // Тр. девятого археологического съезда в Вильне, 1893. М., 1895. Т. 1; Пути сообщения Полоцкой земли до конца XIV столетия // Сб. учено-литературного общества при Юрьевском университете. Юрьев, 1898; К вопросу о Параскеве Пракседис, княжне Полоцкой // Сб. Харьковского історіко-філологічеcкого обўества. Харьков, 1905. Т. 15.

*Літ.*: Життєпис проф. В.Е.Данилевича: (Складений ім самим) // Зап. Іст.-філол. відділу Української академії наук. Київ, 1919. Кн. 1; Праці В.Е.Данилевича // Там жа; Багалій Д. Оцінка наукових праць професора В.Е.Данилевича // Там жа; Козловская В.Я. Памяти проф. В.Е.Данилевича // Советская археология. М.; Ленинград, 1937. № 4; Михальченко С.И. В.Е.Данилевич // IV міжнародная канферэнцыя «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі» (23—24 кастрычніка 2002 г.). Полацк, 2002.

**Данкварт** (Danquart) Бальтазар (1.3.1629, Вільня—5.7.1699), дзеяч каталіцкай царквы. У 1644 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1657 ксёндз. Скончыў навіцыят у Вільні. У 1647—50 вывучаў у Вільні філасофію, у 1655—58 у Празе — тэалогію. Праф. рыторыкі ў Полацку ў 1652—54, Літомежыцах, Опаве, Рэшэлю ў 1661—62, Вільне ў 1663—64, Пултуску ў 1666—67. Быў прапаведнікам у калегіяце св. Яна ў Варшаве, на двары караля польскага і вял. князя літоўскага Яна III Сабескага. Заклікаў да рэформ дзяржаўнага ладу, узмацнення каралеўскай улады. З-за інтрыг каралевы Марыі Казіміры Сабеской быў вымушаны пераехаць у Вільню. У 1679—83 пракуратар Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў, у 1690—93 рэктар Віленскага навіцыята, у 1694—97 рэктар Віленскай акадэміі. Значна пашырыў акадэмію, павысіў у ёй узровень навучання. Мэты касцельнай прапаведзі абгрунтаваў у творы «Breve directorium concionatoris apostolici» (2 выд., Вільня, 1699). Пераклаў і выдаў кнігу А.Радрыгеса «Пра развіццё ў дасканаласці» («O postępowaniu w doskonałości», Вільня, 1698). Апублікаваў некалькі казанняў. У рукапісах засталіся яго лекцыі па рыторыцы і тэалогіі, казанні, прамовы і інш.

*Літ.*: Piechnik L. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**Данкварты**, сям'я майстроў смычковых музычных інструменаў.

Бальтазар (каля 1550 — каля 1622). Рабіў скрыпкі і лютні. Мяркуецца, што спачатку працаваў над лютнямі пры каралеўскім двары ў Кракаве, пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572) пераехаў у Вільню. Стаў прыдворным майстрам Жыгімонта III. Зробленая ім у 1602 скрыпка захоўваецца ў Пазнанскім нац. музеі.

Ян (каля 1600—83), сын Бальтазара. Працаваў у Варшаве пры каралеўскім двары. Рабіў скрыпкі і альты.

Бальтазар (каля 1629—90), сын (?) Яна. Дзеяч каталіцкай царквы, езуіт, гл. *Данкварт* Б.

**Данута** (каля 1360—25.5.1448), княгіня мазавецкая, жонка кн. Януша I, гл. *Ганна*.

**Дарафеевіч** Габрыель, людвісар 17 ст. У 1644 у Полацку па заказу браслаўскага земскага суддзі Себасцьяна Мірскага адліў для Троіцкай царквы ў Мёрах (Браслаўскі пав.) звон (вышыня 71 см) з доўгім фундацыйным надпісам на царк.-слав. мове і аўтарскім на лацінскай мове: «Fecit me Gabriel Dorofieiewicz Polotiae». Пасля звон знаходзіўся ў Мёрскім касцёле. У Пінску з папсаваных у час казацкага нападу 1648 званоў францысканскага касцёла Д. адліў вял. звон вагой 2 тыс. фунтаў з польскім надпісам-вершам.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 74—75.

**Дарафееў** Гаўрыла, ліцейшчык 17 ст. з Полацка. У 1646 для Петрапаўлаўскай і Барысаглебскай цэркваў Пскова адліў звон, аздоблены арнаментамі і сцэнамі з Евангелля.

**Дарашэнка** (Дорошенко) Васіль Васілевіч (25.1.1921, станіца Крымская Краснадарскага краю — 24.3. 1992), латвійскі гісторык. Чл.-кар. АН Латвіі (1971), д-р гіст. навук (1963), праф. (1972). Заслужаны дзеяч навукі Латвійскай ССР. Скончыў Маскоўскі ун-т (1941). Удзельнік Вял. Айч. вайны. У 1945—48 вучыўся ў аспірантуры Маскоўскага ун-та. З 1950 працаваў у Ін-це гісторыі АН Латвійскай ССР, выкладаў у Латвійскім ун-це. Даследаваў праблемы сац.-эканам. гісторыі Балтыйскага рэгіёну (у асн. латвійскіх земляў, у т.л. ў час іх уваходжання ў склад ВКЛ і Рэчы Паспалітай) у перыяд феадалізму і ранняга новага часу. Вывучаў працэс развіцця таварна-грашовых адносін у гаспадарцы феадалаў і сялян (на прыкладзе латыфундыі Рыжскага езуіцкага калегіума), гісторыю гандлю Рыгі. Адзін з аўтараў прац «Гісторыя Латвійскай ССР» («История Латвийской ССР», т. 1, Рыга, 1952), «Феадальная Рыга» («Feodālā Rīga», Рыга, 1978), «Гісторыя Латвійскай ССР» («Latvijas PSR vēsture», Рыга, 1986). Двойчы лаўрэат Дзярж. прэміі ЛатССР.

*Тв.*: Народы Прибалтики в IX — первой четверти XVIII в. // Очерки истории СССР. Период феодализма, IX—XV вв. М., 1953; Акты Литовской метрики как источник по истории Латвии // Изв. АН Латв. ССР. 1957. № 12; Estonica в актах Литовской Метрики // Изв. АН Эст. ССР. Сер. обществ. наук. 1958. № 4; Очерки аграрной истории Латвии в XVI веке. Рига, 1960; Действие «революции цен» в Восточной Прибалтике в XVI в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Рига, 1963; Рыночные связи иезуитских фольварков под Ригой в конце XVI—начале XVII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Минск, 1964; Протоколы рижского Торгового суда как источник для изучения экономических связей Риги с русскими, белорусскими и литовскими землями в XVII веке // Экономические связи Прибалтики с Россией. Рига, 1968; Советская историография Латвии. Рига, 1970 (разам з А.К. Біранам); Мыза и рынок: хозяйство рижской иезуитской коллегии на рубеже XVI и XVII вв. Рига, 1973; Урожаи хлебов в Лифляндии XVI—XVIII вв. // Проблемы аграрной истории: (с древнейших времен до XVIII в. включительно). Минск, 1978. Ч. 1; Торговля и купечество Риги в 17 веке. Рига, 1985; Уроки историка Б.Р.Брежго // Археографический ежегодник за 1993 год. М., 1995.

*Літ.*: Козин М.И. Василий Васильевич Дорошенко (1921—1992) // Археографический ежегодник за 1992 год. М., 1994; Список печатных трудов В.В.Дорошенко // Археографический ежегодник за 1991 год. М., 1994.

**Дарэўская** Апалонія (вядома і як Дарота; 1767?—пасля 1797), танцоўшчыца. Прыгонная падскарбія надворнага ВКЛ А.*Тызенгаўза*, выхаванка яго балетных школ у Гародні і Паставах. У 1778 выступіла як фігурантка ў школьным паказе «Вясковага балета» Г.Петынеці на сцэне прыдворнага тэатра Тызенгаўза ў Гародні. Паводле завяшчання магната перайшла ва ўласнасць караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага і з 1785 стала першай салісткай трупы «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці» ў Варшаве; выступала як гратэскная танцоўшчыца на прыдворнай сцэне і ў Нац. тэатры (партыі ў балетах «Мірза і Ліндор», «Рыбакі», «Лукас і Калінета» і інш.). У 1794—97 працавала ў прыватных антрэпрызах Варшавы і Гданьска. У 1797 па ініцыятыве і за кошт Станіслава Аўгуста выехала ў С.-Пецярбург.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Даўгоўдавічы**, княжацкі род у ВКЛ. Заснавальнік роду Даўгоўд не вядомы па гіст. крыніцах. Мяркуецца, што ён быў у сваяцкіх адносінах з вял. кн. літ. Гедзімінам, або паходзіў з папярэдняй велікакняжацкай дынастыі. Вядомы:

Юрый Даўгоўдавіч (? — пасля 1401), у 1401 прынёс прысягу, што пасля смерці вял. кн. літ. Вітаўта не будзе мець інш. пана, толькі караля польскага Уладзіслава II (Ягайлу).

Глеб Даўгоўдавіч (? — пасля 1450), сын Юрыя Даўгоўдавіча (?). Быў сведкам пры заключэнні дагавора з крыжакамі 1436. Падпісаў як сведка пацвярджальны прывілей Вільні 1441. Каля 1450 атрымаў у валоданне ад вял. кн. літ. і караля польскага Казіміра Ягайлавіча людзей.

Федзька Даўгоўдавіч (? — да 1451), сын Юрыя Даўгоўдавіча (?). У сярэдзіне 15 ст. валодаў маёнткамі на мяжы Слонімскага і Навагародскага паветаў: Ельна, Жалязніца, Крутава, а таксама лукомскімі сёламі Халопенічы, Астапкавічы, Ілітовічы. Федзька памёр без нашчадкаў, пасля чаго гэтыя маёнткі перайшлі да вял. кн. Казіміра Ягайлавіча, а той у 1451 перадаў іх у валоданне канцлеру ВКЛ Міхаілу Кезгайлу (захаваўся арыгінал гэтай граматы, не апублікаваны). Гісторык Г.Брэгер мяркуе, што Федзька Даўгоўдавіч можа быць ідэнтычны кн. Глебу Даўгоўдавічу. З сярэдзіны 15 ст. звесткі пра род Д. знікаюць; відаць, род згас.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Брэгер Г. Хацюхова: Гісторыя невялікага паселішча. Мінск, 2001.

**Даўгяла-Завіша** Ян Кароль (1597—9.3.1661), дзеяч каталіцкай царквы. З шляхецкага роду герба «Задора». У Віленскай акадэміі вывучаў філасофію і права. Пасля на двары віленскага біскупа Бенядзікта Войны, які паслаў яго на вучобу ў Інгальштат і Балонню (атрымаў там ступень доктара філасофіі і абодвух правоў). Пасля суправаджаў сыноў Альбрэхта Радзівіла пад час іх вучобы ў Грацы (Аўстрыя, 1637), Балонні (1638) і Францыі. Канонік віленскі з 1639, рэгент вял. канцылярыі ВКЛ у 1641—49 (арганізаваў перапісванне ў адзін зборнік прывілеяў, дараваных Віленскаму капітулу). Па жаданні прымаса Мацея Любенскага капітул абраў Д.-З. сваім прадстаўніком на Тарунскі харытатыўны калоквіум 1645 для выпрацоўкі паразумення католікаў з дысідэнтамі. Архідыякан віленскі з 1645. Удзельнічаў у абранні на трон у 1648 Яна II Казіміра. Вял. пісар і рэферэндар духоўны ВКЛ у 1649—56. Пасля смерці віленскага біскупа Абрагама Войны (1649) атрымаў годнасць афіцыяла (адміністратара дыяцэзіі), але адмовіўся ад гэтай пасады. Пасол на Берасцейскі сойм 1653, прэпазіт троцкі з 1654. Пасля смерці віленскага біскупа Ежы Тышкевіча ў 1656 абраны на



пасаду віленскага біскупа, пасвячоны ў 1657 у Чэнстахове (Польшча). Фактычна не кіраваў дыяцэзіяй, бо яна амаль цалкам была занята маскоўскімі войскамі. Прыкладаў намаганіі да ўціхамірвання войска ВКЛ, якое выйшла з падпарадкавання камандаванню з-за нявыплаты жалавання, удзельнічаў у заключэнні перамір'яў з Расіяй 1656 і 1658. Шмат суправаджаў Уладзіслава IV, які прызначыў яго каралеўскім сакратаром, і Яна II Казіміра. Вызначаўся красамоўствам, веданнем замежных моў. Прастудзіўся пад час асвячэння касцёла ў Альшэве ў Слонімскім пав., памёр у Бездзежы, пахаваны ў Ражанай.

*Літ.*: P r z y a ł g o w s k i W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 2. Petersburg, 1860; K u r c z e w s k i J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych, zawierające dzieje i prace biskupów i duchowienstw a djecezji wileńskiej, oraz wykaz kościołów, klasztorów, szkół i zakładów dobroczynnych i społecznych. Wilno, 1912.

**Даўкша** Уладзіслаў Аляксандр (24.7.1677, Ваўкавыскі пав. — 18.4. 1747), дзеяч каталіцкай царквы. У 1695 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1706 ксёндз. Атрымаў ступень доктара тэалогіі і кананічнага права. Праф. рыторыкі ў Менску ў 1707—08, Вільні ў 1708—09, 1710—11, Крожах у 1709—10, філасофіі ў Вільні ў 1711—14, схаластычнай тэалогіі ў Варшаве ў 1714—19, Вільне ў 1719—21, адначасова кананічнага права ў Варшаве ў 1714—15, Вільні ў 1719—20, прэпазіт дома прафесаў у Вільні ў 1722—23 і 1738—41, галава Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў у 1723—27 і 1735—38, рэктар Віленскай акадэміі ў 1727—31 і 1741—45, рэктар Варшаўскага калегіума ў 1731—35, рэктар калегіума св. Рафала ў Вільні ў 1745—47. Дэлегат 16-й Генеральнай кангрэгацыі ордэна езуітаў у Рыме ў 1730—31. Прыклаў шмат намаганняў для развіцця школьнай справы езуітаў у ВКЛ пасля Паўн. вайны 1700—21, умацавання маёмаснага становішча ордэна. Упарадкаваў сял. павіннасці ў езуіцкіх маёнтках, змагаўся са злоўжываннямі іх адміністрацыі. Аўтар кнігі «Трактат супраць кальвіністаў і лютэран» («Traktat przeciw kalwinistom i lutrom», Вільня, каля 1719), панегірыкаў, драмы «Convivia dolus» (Вільня, 1709).

*Літ.*: P i e c h n i k L. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**Даўмонт** (Д о у м е н т, Д а у м о н), легендарны князь. Паводле бел.-літ. летапісаў, быў 2-м сынам кн. літ., жамойцкага і рус. Рамана, малодшым братам Нарымонта. Пасля смерці бацькі княжыў ва Уцене. У летапісе змешчаны вял. апавяданне, згодна з якім Нарымонт і Д. ажаніліся з дочкамі лівонскага магістра Фляндра. Калі жонка Д. памерла, то Нарымонт паслаў на пахаванне сваю жонку — сястру нябожчыцы. Пабачыўшы яе, Д. гвалтам ажаніўся з ёю. Гэта стала прычынай вайны паміж братамі, Нарымонт сабраў вял. войска, запрасіўшы для ўдзелу ў кампаніі сваіх братоў Гедройця, Гольшу, Трайдзеня, а таксама цесця Фляндра. Кааліцыя аблажыла Д. ва Уцене, але той здолеў уцячы і з'ехаў у Пскоў, дзе мясц. жыхары абралі яго вял. князем пскоўскім. Пасля захапіў Полацк, княжыў адначасова ў Пскове і Полацку. Пасля задумаў захапіць Літву і Жамойць, для чаго паслаў 6 мужчын забіць вял. кн. літ. і жамойцкага Трайдзеня (свайго малодшага брата). Забойства ўдалося, і Д. рушыў з пскоўскім і полацкім войскам на Літву. Аднак сын Трайдзеня Лаўрыш (ён жа Рымант, Васіль), які прыняў манаства, помсцячы за смерць бацькі, пакінуў манастыр, сабраў войска літ. паноў і выступіў супраць Д. Бітва паміж імі адбылася на беразе возера і працягвалася ад ранку да вечара. Параможаны Д. быў забіты, пасля Лаўрыш захапіў і Полацк. Відавочна, што прататыпам вобраза Д. ў бел.-літ. летапісах паслужыў рэальны кн. Даўмонт, які ўдзельнічаў у забойстве вял. кн. Міндоўга і збег у Пскоў. Аднак радавод Д., абставіны яго жыцця і смерці выдуманы летапісцам. Храніст 16 ст. М.Стрыйкоўскі дадаў ад сябе да летапіснага расказа некаторыя падрабязнасці. Згодна з яго думкай, пасля смерці бацькі Д. — Ромунта — яго сыны сабраліся на з'езд (сойм), на якім вылучылі для Д. Уцянскую зямлю, ва Уцене Д. збудаваў замак; былі дададзены інш. падрабязнасці.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Даўнаровіч** Эліяш (каля 1625, Віцебскае ваяв. — 7.11.1669), дзеяч каталіцкай царквы. У 1642 уступіў у Вільне ў ордэн езуітаў, з 1652 ксёндз. У 1649—53 вывучаў у Рыме тэалогію. Праф. рыторыкі ў Ломжы ў 1648—49 і філасофіі ў Вільні ў 1654—55. У час войнаў з Расіяй і Швецыяй у 1655—56 знаходзіўся ў Рыме. Пасля прафесар схаластычнай тэалогіі і прэфект школы ў Браневе ў 1663—65, прэфект школы ў Пултуску ў 1665—68 і Нясвіжы ў 1668—69. Аўтар кн. «Чалавек палітычны, або Трактат пра маральныя годнасці» («Homo politicus seu Tractatus de virtutibus moralibus», Бранева, 1664).

**Даўспрунк**, легендарны князь. Паводле бел.-літ. летапісаў прыбыў у Літву разам з *Палемонам*, княжыў у Дзяволтве. Меў герб *«Кітаўрас»*. Яго сын Кірус ажаніўся з дачкой кн. Кернуса і стаў вял. кн. літ. і жамойцкім. Храніст 16 ст. М.Стрыйкоўскі лічыў, што Д. быў сынам Палемона (аднак пасля адкінуў такую версію) і заснаваў замак на месцы будучага Вількаміра; яго сынам лічыў кн. Жывінбуда.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Дахтаровіч** Фабіян (20.1.1694, каля Навагародка — 12.1.1766), дзеяч каталіцкай царквы, прамоўца. У 1712 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1724 ксёндз. У 1714—17 выкладаў у Гародні і Нясвіжы. Вывучаў філасофію (атрымаў ступень доктара) і тэалогію ў Вільні ў 1721—25. Праф. рыторыкі ў Вільні ў 1725—26 і Слуцку ў 1726—27, этыкі ў Вільні ў 1728—29, прэфект школы і бібліятэкі ў Варшаве ў 1731—44, рэктар Пултускага калегіума ў 1744—46 і 1749—52, Варшаўскага калегіума ў 1746—49, Гарадзенскага калегіума ў 1753—59, місіянер у Котшы ў 1763—65. У Варшаве ў 1731—34 быў адначасова каралеўскім прапаведнікам, рабіў прамовы ў час соймаў. Лічыўся выдатным красамоўцам. Выдаў некаторыя свае казанні і панегірыкі, у т.л. «Kazanie na pogrzebie J.W. Xięcia Wiszniowieckiego» (Нясвіж, 1745), «Kazania

podczas Seymu grodzieńskiego miane» (Варшава, 1748)

**Дацрат** (Datzrath) Антоній (15.8. 1708, г. Трыр, Германія — пасля 1791), скульптар. У 1742 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, скончыў там навіцыят. Да 1757 працаваў у Вільні ў навіцыяце пры касцёле св. Ігнація. Упрыгожваў яго інтэр'еры: выконваў фігуры святых у алтарах, разныя ўпрыгожанні балконаў і прэсбітэрыя (1747). У 1757—63 працаваў над аздабленнем езуіцкага касцёла ў Коўне. Мяркуецца, што ў гэты час выканаў катафалк з фігурамі, 6 вял. разных кандэлябраў (1758), некалькі алтароў у тэхніцы стука (1758), разныя канфесіяналы (1759—61), музычныя хоры ў тэхніцы стука з драўлянымі разнымі кратамі (1760). У 1763—73 жыў у Крожах (з перапынкам у 1770—71, калі працаваў у Віленскім навіцыяце). У 1791 атрымаў ад Адукацыйнай камісіі штогадовую пенсію 300 злотых.

**Дзевалтва,** усходнябалцкая зямля, гл. *Дзяволтва*.

**Дзелтува** (Deltuva), мястэчка ва Укмергскім р-не Літоўскай Рэспублікі, гл. *Дзявалтаў*.

**Дземчанка** (Демченко) Рыгор Васілевіч (1869—пасля 1938), расійскі гісторык права. Скончыў Кіеўскі ун-т (1891), дзе пасля пакінуты на кафедры гісторыі рус. права. З 1893 дацэнт юрыдычнага факультэта Варшаўскага ун-та. З 1904 магістр крымінальнага права, экстраардынарны праф. З 1909 выкладаў у Кіеўскім ун-це. Эмігрыраваў у Югаславію, у 1921 праф. Суботіцкага ун-та, у 1938 праф. юрыд. факультэта (у Субоціцы) Белградскага ун-та, д-р права. Даследаваў гісторыю права Стараж. Русі, ВКЛ.

*Тв.*: Наказание по Литовскому Статуту в его трех редакциях (1529, 1566 и 1588 гг.). Ч. 1. Киев, 1894; Из истории судоустройства в древней России. Варшава, 1909; Предмет знания в науке о праве. Любляна, 1938.

*Літ.*: М и х а л ь ч е н к о С.И., Т а р а н о в с к и й Ф.В. К вопросу о школе «западно-русского» права в эмиграции // Культурная миссия Российского Зарубежья: История и современность. М., 1999; С у х а р е в Ю.Н. Материалы к истории русского научного зарубежья. Кн. 1. М., 2002.

**дзераўнічы**, д р а ў н і ч ы, шляхецкая пасада (урад). Павінен быў клапаціцца пра забеспячэнне дровамі велікакняжацкіх замкаў і пабудоў. Вядомы ў асноўным у 2-й пал. 16—18 ст. ў Віленскім ваяв. У 1643 гэты абавязак перададзены віленскаму гараднічаму, аднак хутка адноўлена асобная пасада Д. Відаць, пасля разбурэння Віленскіх замкаў у сярэдзіне 17 ст. пасада Г. стала чыста ганаровай. У сярэдзіне 17 ст. пасада Д. існавала ў Смаленскім ваяв. У канцы 18 ст. ганаровыя пасады Д. вядомы ў Анікштынскім, Ашмянскім, Браслаўскім, Вількамірскім, Завілейскім паветах.

**Дзербіна** Галіна Вячаславаўна (н. 29.1.1954, г. Ушачы Віцебскай вобл.), беларускі гісторык права. Канд. юрыд. навук (1990). Скончыла БДУ (1976). У 1976—78 працавала адвакатам Мінскай абласной калегіі адвакатаў. У 1978—94 у аддзеле тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Ін-та філасофіі і права НАН Беларусі (малодшы навук., навук., старэйшы навук. супрацоўнік). У 1995 прайшла стажыроўку ў Лонданскім ун-це (Ін-т паглыбленых прававых даследаванняў; Institute for Advansed Legal Studies). У 1995—99 дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі права Бел. недзярж. ін-та правазнаўства. У 1999—2002 працавала ў Нац. навук.-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны (старшы навуковы супрацоўнік, загадчык сектара гісторыі права і палітыка-прававой думкі). У 2002—06 дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Акадэміі МУС, выкладала курс «Гісторыя дзяржавы і права Беларусі». З 2006 праф. Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Удзельнічала ў падрыхтоўцы выдання «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі» (1989).

*Тв.*: Тэндэнцыі Адраджэння ў сярэдневяковым праве Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987 № 1; Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу. Мінск, 1997; Крыніцы магдэбургскага права ў ВКЛ XVI ст. // Магдэбургскае права на Беларусі: матэрыялы навук. канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю выдачы г. Мінску граматы на магдэбургскае права (Мінск, 26 сакавіка 1999). Мінск, 1999; Узаемаўплывы прававой культуры Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ў XVI ст. // На шляхах да ўзаемаразумення: навук. зб. Мінск, 2000; Радзівілы на службе ў дзяржаўнай канцыляры Вялікага Княства Літоўскага: удзел у кадыфікацыі права XVI ст. // Там жа; Статуты Вялікага Княства Літоўскага як праява культуры Рэнесансу // Нацыянальныя пытанні: матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». 1 сесія — 21—25 мая, 2 сесія — 4—7 снеж., Мінск, 2000 г. Мінск, 2001; Брачно-семейные отношения и статус женщин на белорусских землях по законодательству XVI в. // Женщины на краю Европы. Минск, 2003; Традыцыі дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага як каштоўнасць еўрапейскай палітыка-прававой культуры XVI ст. // На ўшанаванне памяці Ежы Гедройца: матэрыялы Міжнар. навук. канф. «Канцэпцыя УЛБ (Украіна, Літва, Беларусь) — ад ідэі да рэалізацыі». (Мінск, 8—10 чэрв. 2006 г.). Мінск, 2006.

**Дзержкавіч** Мікалай (1453, мяст. Салечнікі, Літва—29.9.1467), дзеяч каталіцкай царквы, гл. *Мікалай Дзержкавіч*.

**дзесятак**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—16 ст., якая ахоплівала некалькі вёсак. Вядомы ў паветах: Берасцейскім (Падляшскі, Памухаўскі), Ваўкавыскім (Жамойцкі, Крамянецкі, Лапеніцкі, Лыскаўскі), Слонімскім (Літоўскі), Камянецкім, Новагародскім, Дарагічынскім, Пінскім, у Полацкай і Смаленскай землях, у Эйшышскай, Дубіцкай, Радунскай, Васілішскай валасцях. Найб. захавалася звестак пра Дз. Клецкага княства ў сярэдзіне 16 ст. Яно падзялялася на 6 Дз.: Валасны (14 сёл), Вяжэвіцкі (9 сёл), Канюшскі (8 сёл), Малеўскі (6 сёл), Сіняўскі (3 сялы, 1 мястэчка), Цецераўскі (2 сялы, 1 двор); пры гэтым Малеўскі і Сіняўскі Дз. маглі адначасова называцца валасцямі. Пад час валочнай памеры ў сярэдзіне 16 ст. падзел Клецкага княства на Дз. быў заменены падзелам на войтаўствы на чале з войтамі (было створана 5 войтаўстваў). На чале Дз. звычайна стаяў *дзесятнік,* аднак у Клецкім княстве 3 Дз. ўзначальваліся *старцамі*, а яшчэ адзін — *цівуном*.

*Літ.*: Л ю б а в с к и й М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Д о в н а р - З а п о л ь с к и й М. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; Г р у ш а А. Рэтраспектыўны метад у даследаванні гісторыі Вялікага княства Лі-

тоўскага // Вялікае княства Літоўскае: Метадалогія і метады даследавання. Санкт-Пецярбург, 2003; Г о л у б е ў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. Мінск, 2008.

**Дзісенскі звон**, помнік мастацкага ліцця. Адліты з бронзы 30.8.1751 ліцейшчыкамі Іванам, Сцяпанам і Максімам Сініцамі для царквы г. Дзісна. Вышыня каля 40 см, дыяметр 30 см. Аздоблены раслінным і хвалістым арнаментамі. Дата і фундацыйны надпіс размешчаны ў выглядзе фрызаў, імёны ліцейшчыкаў — на тулаве звона. Знаходзіцца ў царкве г. Дзісна.

*Мая Яніцкая.*

**Дзітрых фон Альтэнбург** (Ditrich von Altenburg; ? — 6.10.1341), вял. магістр Тэўтонскага ордэна. Быў апошнім у родзе бургграфаў Альтэнбурга ў Цюрынгіі. Паміж 1301 і 1307 уступіў у Тэўтонскі ордэн, нёс службу як рыцар у Рагнеце. Вызначыўся ў паходзе на Жамойць у 1316. З 1320 комтур Рагнеты, камандаваў паходам, у час якога спустошаны ваколіцы Вільні. З 1326 комтур Балгі, фогт Натангіі. У 1331 прызначаны вял. магістрам ордэна Лютэрам фон Браўншвейгам на пасаду вял. маршала Тэўтонскага ордэна, яму даручана камандаванне вял. арміяй, якая ўварвалася ў Куявію і Вял. Польшчу. Трапіў у польскі палон, але быў адбіты. У 1332 на чале крыжацкай арміі захапіў Бжэсць-Куяўскі і Інаўроцлаў, заняў усю Куявію. У 1335 на генеральным капітуле ў Мальбарку абраны вял. магістрам. Заклаў некалькі замкаў над Нёманам, якія закрывалі шлях войскам ВКЛ і служылі базамі для нападаў на Жамойць і Літву. Карыстаўся падтрымкай пануючых нямецкіх дамоў — Люксембургаў і Вітэльсбахаў. У 1337 ад імператара Людовіка Баварскага атрымаў у леннае «валоданне» Жамойць, Літву і Русь. Для заваявання ВКЛ заклаў на пагранічны новыя замкі, будаваў дарогі да літоўскай граніцы. Праводзіў вял. абароннае і касцельнае будаўніцтва ў Гданьску і Мальбарку. Для ўмацавання парадку ўнутры Тэўтонскага ордэна выдаў суровы статут, які забараняў рыцарам весці раскошны лад жыцця, начаваць па-за замкамі і ордэнскімі дамамі. Памёр у Торуні, куды прыбыў на мірныя перагаворы з палякамі.




**Дзітрых фон Альтэнбург.**

**Дзмітрыеў** (Дмитриев) Міхаіл Уладзіміравіч (н. 7.11.1958, г. Масква), расійскі гісторык. Д-р гіст. навук (2001), праф. (2003). Скончыў Маскоўскі ун-т (1981), дзе пасля вучыўся ў аспірантуры, з 1984 працуе на кафедры гісторыі паўд. і зах. славян. Даследуе рэлігійную і культ. гісторыю краін Цэнтр. і Усх. Еўропы, рэфармацыйны рух на ўсх.-слав. землях Рэчы Паспалітай у 16—17 ст., Берасцейскую унію 1596. З 1991 узначальвае Цэнтр украіністыкі і беларусістыкі Маскоўскага ун-та, у рамках яго дзейнасці кіруе пастаяннадзеючым семінарам «Дыялог і канфлікт канфесійна-культурных традыцый у гісторыі Украіны, Беларусі і Балкан». Каардынатар міжнароднай даследчыцкай праграмы «Уплыў праваслаўя і заходняга хрысціянства на грамадствы. Аспекты і перспектывы параўнальна-гістарычнага вывучэння». Чытае лекцыі ва ун-тах Вены, Эдмантана, Парыжа, Будапешта і інш.

*Тв.*: Православие и Реформация: реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI в. М., 1990; Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI — начале XVII в. Ч. 1. Брестская уния 1596 г.: исторические причины. М., 1996 (з Б.М.Флорам, С.Г.Якавенкам); Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI—первой половине XVII в. Ч. 2. Брестская уния 1596 г.: исторические последствия события. М., 1996 (разам з Л.В. Забароўскім, А.А.Турылавым, Б.М.Флорам); Между Римом и Царьградом: генезис Брестской церковной унии 1595—1596 гг. М., 2002; Dissidents russes. I. Feodosij Kosoj. Baden-Baden, 1998; Dissidents russes. II. Matvej Baskin. Starec Artemij. Baden-Baden, 1999.

*Літ.*: Энциклопедический словарь Московского университета: исторический факультет. М., 2004.

**Дзюпрэ** (Dupre) Луі Максіміліян, танцоўшчык, балетмайстар і педагог 18 ст. Адзін з заснавальнікаў мужчынскага сцэнічнага танца. Вучыўся ў Французскай акадэміі музыкі. У 1730—51 саліст тэатра «Каралеўская акадэмія музыкі і танца» ў Парыжы («Гранд-Апера»). Гастраліраваў у Лондане, Варшаве, Дрэздэне, Вене. У 1756 запрошаны Г.Ф.*Радзівілам* у яго прыдворны тэатр у Слуцку, побач з А.*Пуціні* стаў стваральнікам мясцовага балета, у 1756—58 выкладаў у Слуцкай балетнай школе, выступаў у Слуцку і Белай. У сак. 1758 пераехаў у Нясвіж, дзе паводле дагавору з М.К.*Радзівілам* Рыбанькам павінен быў да 1761 не толькі выступаць на сцэне, пісаць лібрэта і ставіць балеты, але і падрыхтаваць для тэатра 8 дзяцей і вучыць танцам усіх, каго яму дадуць.

*Літ.*: Б а р ы ш е в Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Дзявалтаў** (цяпер Дзелтува, Deltuva, мястэчка ў Укмергскім р-не, Літ. Рэспубліка), мястэчка ў Вількамірскім пав., на р. Армона. Упамінаецца пры апісанні нападу крыжакоў у 1385 як цэнтр воласці (land Dewilto). У 15 ст. Дз. належаў Валімунтавічам, пасля Кезгайлам, у 16 ст. — Радзівілам, у 17 ст. — Падбярэзскім, Грушэўскім. У 1476 Кезгайлы фундавалі ў Дз. драўляны касцёл, перароблены да 1570 Радзівіламі ў кальвінскі збор (гл. *Дзявалтаўскі кальвінскі збор*). Пры ім існавала школа (упамінаецца ў 1629 і 1650). Як мястэчка Дз. адзначаны пад 1560 і



на Радзівілаўскай карце ВКЛ 1613. У 1744 атрымаў прывілей на таргі і кірмашы. У 1752 пабудаваны драўляны Троіцкі касцёл (перабудаваны ў 1872). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Дзявалтаўскі кальвінскі збор.** Заснаваны Радзівіламі ў мяст. *Дзявалтаў* (цяпер Дзелтува ў Укмергскім р-не, Літ. Рэспубліка) у 2-й пал. 16 ст. (да 1570) шляхам пераробкі касцёла. Мураваны будынак збора пабудаваў у 1629—38 браслаўскі маршалак Юрый Самсон Падбярэзскі. Гал. аб'ём збора прамавугольны ў плане, папярочнай перагародкай падзяляецца на 2 палавіны. Да яго прыбудаваны бабінец і 5-гранная апсіда. Збор быў накрыты крышай з дахоўкі. Асвятляўся праз вял. спічастыя вокны (па 2 на кожным баку асн. аб'ёму і 3 у апсідзе). Зачынены ў час 1-й сусветнай вайны, у час 2-й сусветнай вайны разбураны. Захаваліся руіны.



**Дзявалтаўскі кальвінскі збор.**

**Дзяволтва,** Д з е в а л т в а, усходнебалцкая зямля. У Іпацьеўскім летапісе пры пералічэнні літоўскіх князёў, што заключылі *дагавор 1219* з Уладзіміра-Валынскім княствам, на апошнім месцы названы «князи из Дяволтвы»: Юдзькі, Пукеік, Бікшы, Лікіік. Два апошнія ўпамінаюцца і ў акце Міндоўга 1260, якім ён перадае, у выпадку адсутнасці ў яго спадкаемцаў, свае каралеўства Тэўтонскаму ордэну (дакумент прызнаецца даследчыкамі фальсіфікатам). У Іпацьеўскім летапісе (Іпацьеўскі спіс) адзначана, што Войшалк з дапамогай валынскіх князёў Шварна і Васількі, помсцячы сваім ворагам, захапіў іх гарады «во Дявелътве и в Нальщанехъ» (1264). Відаць, да канца 13 ст. Дз. як асобная зямля са сваёй паліт. арганізацыяй перастала існаваць і была падпарадкавана непасрэдна вял. князям літоўскім. Гіст. крыніцы не захавалі пэўнай інфармацыі пра межы Дз. Згодна з гіст. традыцыяй, захаванай, у прыватнасці, у хроніцы Мацея Стрыйкоўскага, Дз. прывязвалася да р. Швянтойя. Гісторык Г.Лаўмянскі лакалізаваў Дз. ў верхнім цячэнні р. Швянтойі і басейне р. Шырвінта (1932), дзе пазней быўІлькамірскі пав. (аднак яго тэрыторыя была шырэйшая). У.Пашута меркаваў, што Дз. ляжала ў міжрэччы Нявяжы і Швянтойі (1956) або на У ад Швянтойі (1959). Г.Забела і Т.Баранаўскас на аснове археал. дадзеных лічаць, што Дз. ахоплівала зах. частку сучаснага Малецкага р-на, паўд. часткі Анікшчайскага р-на, усх. частку Укмергскага р-на (каля 2 тыс. км²), уваходзіла ў паўн.-ўсх. частку арэала археал. культуры ўсходнелітоўскіх курганоў; падзялялася як мінімум на 8 валасцей.

*Літ.*: Z a b i e l a G., B a r a n a u s k a s T. Deltuvos žemė // Lietuvos istorijos metrastis, 1995 metai. Vilnius, 1996.

**Дзявульскі** Якуб (23.7.1708, Малая Польшча — 13.11.1760), дзеяч каталіцкай царквы. У 1724 уступіў у Кракаве ў ордэн езуітаў, у 1733 выйшаў з яго, хутка зноў уступіў у Вільні, з 1736 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Плоцку ў 1739—40, філасофіі ў Крожах у 1742—44, прэфект школы ў Коўне ў 1746—47. Аўтар кн. «Meditationes sacrae singulis diei horis accomadatae», Вільня, 1746), «Kongres zbawienny albo Zegar sumienia czas życia regulujący», Вільня, 1746), «Descriptio miraculorum B.V.M. in thaumaturga Imagine Zerominensi», Вільня, 1751).

**Дзягілевіч** Уладзіслаў (31.10. 1675, Беларусь — 13.1.1714), дзеяч каталіцкай царквы, архітэктар. У 1691 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў; ксёндз. Вывучаў філасофію ў Полацку ў 1695—98 і тэалогію ў Вільні ў 1701—04. Працаваў у Оршы, Нясвіжы, Мсціславе, Жодзішках. Суперыёр, архітэктар і прэфект будоўлі ў Мсціславе ў 1710—14. Збудаваў там у 1707 вял. драўляны касцёл, у 1711 адбудаваў згарэлы місійны дом, вежы, гаспадарчыя пабудовы.

**«Дзягуцкі летапісец»** («Хронограф, сиречь Летописец курляндско-литовский»), гістарыяграфічны твор стараверaў Літвы. Ахоплівае падзеі 1652—1850, звязаныя з гісторыяй стараверскіх абшчын (федасееўскага кірунку) у Курляндыі, Літве, Беларусі, Расіі. Летапісец быў створаны ў сярэдзіне 19 ст., як мяркуецца, у старaверскай абшчыне ў в. Дзягуці (цяпер



**Дзявалтаўскі кальвінскі збор.** Малюнак Н.Орды.



в. Дзягучай Зарасайскага р-на, Літоўская Рэспубліка). Лічыцца, што аўтар «Д.л.» — кніжнік Васіль Іванавіч Золатаў (Залатой). У летапісцы дэтальна выкладзена гісторыя стараверскіх абшчын на Пн землях Рэчы Паспалітай, якія з канца 18 ст. былі ў складзе Рас. імперыі. Расказваецца пра паходжанне царк. расколу ў Расіі ў сярэдзіне 17 ст., пра перасяленне стараверaў у Курляндыю (пачынаючы з 1659) і далей у ВКЛ, іх жыццё ў ВКЛ і пад рас. уладай. Адзначаецца талерантнае стаўленне да стараверaў у ВКЛ, будаўніцтва старверскіх цэркваў (у т.л. ў 1764 у Відзах), цяжкасці ў стараверскіх абшчынах пасля далучэння краю да Рас. імперыі. У летапісцы ёсць звесткі пра 16 стараверскіх цэркваў і 2 абіцелі на тэр. ВКЛ. Твор напісаны кніжнай рус. мовай са шматлікімі царк.-слав. формамі, часткова размоўнай рус. мовай, мае ўстаўныя апавяданні, дакументы, вершаваныя творы. Летапісец — важнейшая крыніца для даследавання гісторыі стараверaў на паўн. землях ВКЛ. Захоўваецца ў Старажытнасховішчы Пушкінскага дома ў С.-Пецярбургу, выдадзены ў 1990 і 2004.

*Літ.*: Маркелов В.Г. «Дегуцкий летописец» // Древлехранилище Пушкинского Дома: Материалы и исследования. Л., 1990; Degučių metraštis. Chronografas, arba Kuršo ir Lietuvos metraštis. Vilnius, 2004.

**дзяк** (рус. дьяк ад грэч. diakonos службоўца), кіраўнік і пісьмаводца канцылярыі розных устаноў Расіі да 18 ст., дробная службовая асоба ў ВКЛ. У замежных крыніцах сустракаецца пазначэнне Дз. Рас. дзяржавы канцлерамі (ад слова «канцылярыя»). Першапачаткова Дз. знаходзіліся пры князю, выконваючы функцыі справаводцы і захавальніка казны. Шырокае распаўсюджанне ў Паўн.-Усх. Русі тэрмін «Дз.» атрымаў у 14 ст., да гэтага часу часцей выкарыстоўвалася назва пасады «пісец». Як правіла, у сярэдневяковы перыяд Дз. з'яўляліся асабіста залежнымі ад князя людзьмі — халопамі. Адрозніваюць гаспадарскіх, княжацкіх, уладычных, манастырскіх, вечных (пры гарадскім вечы), гарадскіх, земскіх і інш. Дз. З 15 ст. ў Паўн.-Усх. Русі сярод Дз. сустракаюцца землеўладальнікі. З 16 ст. ў Рас. дзяржаве Дз. маглі займаць даволі высокае становішча. Паводле Судзебніка Івана III (1497) у судзе баяраў і акольнічых (другі думны чын) павінны былі прысутнічаць Дз. Разам са стварэннем у Расіі цэнтр. устаноў — прыказаў, Дз. занялі ў іх ключавыя пасады — альбо таварышаў (намеснікаў) баяраў, альбо непасрэдных кіраўнікоў. Пранікалі Дз. і ў Баярскую думу, складаючы трэці думны чын. У 16—17 ст. Дз. ў Расіі адыгрывалі вядучую ролю ў мясцовым кіраванні: яны засяродзілі ў сваіх руках фінансавае кіраванне. У той жа час ніжэйшы пласт прыказных людзей, якія непасрэдна займаліся складаннем, рэгістрацыяй дакументаў і г.д., у Рас. дзяржаве атрымаў назву падзячых. Па сваім становішчы да іх былі блізкія земскія Дз., якія займаліся канцылярскімі справамі ў мясцовых органах улады, створаных па рэформе Івана IV («земскія ізбы»). У ВКЛ Дз. захавалі становішча дробных выканаўчых чыноў у канцылярыі. Яны разам з *пісарамі* складалі штат канцылярый пры намесніках-дзяржаўцах. У дзярж. канцылярыі ВКЛ Дз. былі памочнікамі пісараў і *сакратароў*, якія знаходзіліся пры канцлеры. Дз. займаліся складаннем пісьмовых актаў, якія зыходзілі ад вял. князя і радных паноў, а таксама прымалі пісьмовыя дакументы, якія прыходзілі на імя вярхоўнага правіцеля і Рады. Да абавязкаў Дз. адносілася рэгістрацыя ў асобых кнігах уваходнай і выходнай дакументацыі. Дз. рыхтавалі дакументы па запрашэнні прыватных асоб, выконвалі функцыі натарыяту: сведчылі прыватныя здзелкі з маёмасцю, заносілі копіі дакументаў у спец. кнігі, рабілі з іх выпісы.

*Літ.*: Лихачев Н.П. Разрядные дьяки XVI в. Санкт-Петербург, 1888; Любавский М.К. Областное деление и местное управление в Литовско-Русском государстве до Люблинской унии. [М., 1893]; Яго ж. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Санкт-Петербург, 2004; Богоявленский С.К. Приказные судьи XVII в. М.; Ленинград, 1946; Леонтьев А.К. Образование приказной системы управления в Русском государстве. М., 1961; Зимин А.А. Дьяческий аппарат в России второй половины XV — первой трети XVI в. // Ист. записки. М., 1971. Т. 87; Груша А.І. Службовы склад і структура канцылярыі Вялікага княства Літоўскага 40-х гадоў XV — першай паловы XVI ст. // METRICIANA: даслед. і матэрыялы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2001. Т. 1; Ерошкин Н.П. История государственных учреждений дореволюционной России. 5 изд. М., 2008.

***Сцяпан Цемушаў.***

**Дзяржаўны Гістарычны музей** у Маскве (Государственный Исторический музей), адно з буйнейшых сховішчаў матэрыяльных і духоўных, рукапісных і друкаваных помнікаў Расіі і суседніх краін, у т.л. ВКЛ, Рэчы Паспалітай. Заснаваны ў 1872, фактычна пачаў працаваць з 1883. Музей захоўвае разнастайныя кодэксы, якія была створаны ў Беларусі або звязаны з яе культ., царк. і паліт. гісторыяй. Некаторыя рукапісы ў свой час былі куплены ў ВКЛ (у «Літве») або ў Маскве і інш. рас. гарадах ад купцоў, вывезены перасяленцамі або захоплены ў перыяды частых у 16—17 ст. войн і сутыкненняў. Так, малавядомы зборнік 2-й пал. 16 ст. з палемічнымі антыкаталіцкімі, тэалагічнымі, прыродазнаўчымі і інш. творамі быў набыты ў «Літве», у стольным горадзе Вільні, маскоўскім паслом Іванам Пятровым Плакідзіным у Святадухаўскім манастыры — царк. цэнтры гал. бел. брацтва ў ВКЛ (зб. Маск. Сін. № 937). У Беларусі ў 16—17 ст. створаны і інш. кірылічныя кодэксы: Мінея службовая 1504 (напісана дзякам Савеліем Няфедзевічам у Бабынічах каля Полацка «повелением хр(и)столюбивого мещанина полоцкого» Савы Бярнішчава); Актоіх, напісаны ў 1538 у Магілёве «повелением раб божиих с(вя)щенноерей служителей с(вя)т(о)го Николы Фирса и с(ы)на его Лазаря попов могилевьских рукою дияка Игната Федоровича Могилевца»; нотны ірмалой, напісаны Цімафеем Куліковічам у «градзе» Белы Ковель у маёнтку віцебскага ваяводы Яна Сангушкі ў 1652 (скрэпа патрыярха Нікана 1657). Захоўваецца ў Музеі *Баркулабаўскі летапіс* у спісе сярэдзіны 17 ст. з цікавым канвоем: апісанне саборнай царквы ў Бярэсці, «Летописец русский», «Задоншчына» Сафрона Разанца і інш. Зборнік з творамі Сімяона Метафраста ў перакладзе кн. Андрэя Курбскага і інш. асоб быў уласнасцю Куцеінскага манастыра (Сін. № 219). Недастаткова даследаваны ў моўных і гісто-



рыка-філалагічных адносінах і бел., па вызначэнні А.Папова, зборнік Чудава манастыра 2-й пал. 16 ст. У склад зборніка ўваходзяць, акрамя ранняй рэдакцыі Сказання аб Уладзімірскім абразе, жыціі святых, Сказанне аб хаджэнні мітрапаліта Ісідара на Фларэнційскі сабор 1439, радавод вял. князёў рус. і літ. і інш. У гістарыяграфічным і крыніцазнаўчым кантэксце цікавыя матэрыялы сустракаюцца ў прыватных фондах навукоўцаў, архівістаў, публікатараў, купцоў-бібліяфілаў — Чарткова, Шчапава і інш. Музей мае адну з трох самых вял. калекцый кірылічных старадрукаў (побач з Рас. дзярж. і Рас. нац. бібліятэкамі): большасць пражскіх і віленскіх выданняў Ф.Скарыны, у т.л. адзін з двух вядомых экзэмпляраў пражскага Псалтыра 1517, друкі Пятра Мсціслаўца, Васіля Гарабурды, Мамонічаў, Спірыдона Собаля, Іаіля Труцэвіча, брацкіх друкарняў і інш.

*Літ.*: Горский А.В., Невоструев К.И. Описание рукописей Московской Синодальной библиотеки. Отд. 1—3. М., 1855—1917; Савва, архим. Указатель для обозрения московской Патриаршей (ныне Синодальной) библиотеки. 2 изд. М., 1858; Щепкина М.В., Протасьева Т.Н. Сокровище древней письменности и старой печати: обзор рукописей русских, славянских, греческих, а также книг старой печати Государственного Исторического музея. М., 1958; Письменные источники в собрании Государственного Исторического музея. М., 1958; Путеводитель по фондам личного происхождения отдела письменных источников Государственного Исторического музея / Сост. Т.Н.Протасьева. Ч. 1. М., 1970; Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008.

***Георгій Галенчанка.***

**Дзярэўскі** Сямён, беларускі разьбяр па дрэве 17 ст. У 1670—80 працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля, аздабляў мэблю і хатняе начынне разнымі выявамі звяроў, птушак, раслін.

**дом прафесаў** (domus professa), установа ордэна езуітаў, якая аб'ядноўвае членаў ордэна, што далі 4 манаскія зарокі (шлюбы). Не меў сталага фундушу, утрымліваўся з дапамогай міласціны. Прафесы выконвалі душпастырскія абавязкі, займаліся місіянерствам і навук. заняткамі. Навучанне ў Д.п., у адрозненне ад інш. езуіцкіх устаноў, не праводзілася. Звычайна ў Д.п. меў рэзідэнцыю галава правінцыі ордэна езуітаў (Літоўскай правінцыі — з 1604 у Д.п. пры касцёле св. Казіміра ў Вільні і з 1608 пры касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі ў Варшаве).

**дом трэцяй прабацыі** (domus tertiae probationis), установа ордэна *езуітаў*, якая аб'ядноўвае ксяндзоў, што адбываюць гадавы курс духоўнасці і ордэнскага права ў спалучэнні з душпастырскай практыкай. У Літ. правінцыі ордэна Д.т.п. існаваў у Вільні пры касцёле св. Рафала ў 1724—73 і каля Нясвіжа пра касцёле св. Міхала ў 1688—1760. Кіраўнік — *інструктар трэцяй прабацыі*.

**Доўнар** Аляксандр Барысавіч (н. 1.1.1972, в. Загараны Вілейскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (2004). Скончыў Бел. дзярж. педагагічны ун-т (1994). У 1995—98 вучыўся ў аспірантуры Ін-та гісторыі НАН Беларусі, дзе з 1998 працуе (з 2005 заг. сектара крыніцазнаўства і археаграфіі аддзела гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу). Даследуе сац.-эканам. гісторыю Беларусі 15—18 ст., гарадское самакіраванне на бел. землях у 15—18 ст.

*Тв.*: Аб'яднанне войтаўска-лаўніцкага і бурмістраўска-радзецкага суда Магілёва (па даным 1636 г.) // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць: зб. навук. прац удзельнікаў Трэцяй Міжнар. навук. канф. «Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць», 22—23 мая 2003 г. Магілёў, 2003. Ч. 1; Масты ў паўтара пруты: нарыс з гісторыі дарожных камунікацый Беларусі XVI—XVIII стст. // Спадчына. 2003. № 2—3; Пацвярджальны прывілей Полацку 1633 г.: (нарыс з гісторыі Полацка 30-х гадоў XVII ст.) // Полацкія гістарычныя запіскі. Наваполацк; Мінск, 2004. Т. 1; Да пытання аб рэвізіі Метрыкі Вялікага княства Літоўскага 1747—1751 гг. // Актуальныя пытанні вывучэння і выдання Метрыкі Вялікага княства Літоўскага: матэрыялы міжнар. навукова-практыч. канф. (Мінск, 11—12 лістапада 2003 г.). Мінск, 2005; Прывілей на магдэбургскае права мястэчку Баруны 1705 г. // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына: матэрыялы Міжнар. навукова-практыч. канф. Гальшаны—Навагрудак, 8—10 вер. 2006 г. Мінск, 2007; Да пытання аб колькасці набегаў крымскіх татар на Беларусь // Клецк у гісторыі Беларусі: (да 500-годдзя Клецкай бітвы): Матэрыялы навукова-практыч. канф. Клецк, 5 жніўня 2006 г. Мінск, 2007; Сяляне-слугі Беларусі другой паловы XVI — сярэдзіны XVIII ст. Мінск, 2007.

**драгуны** (ад фр. dragon, літаральна «дракон»), пяхота, якая для перамяшчэння выкарыстоўвала коней, а бой вяла пераважна ў пешым строі. З'явілася ў сярэдзіне 16 ст., у ВКЛ — у пач. 17 ст. (першае драгунскае фарміраванне вядома ў 1618). На працягу 17 ст. колькасць Д. у войску ВКЛ пастаянна расла. У асн. вербаваліся з мясцовага насельніцтва. Былі ў ВКЛ арганізаваны на ўзор нямецкай пяхоты, зведзены ў рэгіменты (швадроны) па 400—600 чал., або ў меншыя атрады да 100 чал. (харугвы, карнеты, фрайкампаніі). Былі ўзброены аркебузамі або мушкетамі, пісталетамі, шаблямі (рапірамі, палашамі), насілі калеты (кароткія скураныя або суконныя курткі), футравыя шапкі, высокія боты. Рыхтуючыся да бою, Д. вылучалі са свайго складу каняводных (каля 1/3 ад агульнай кольсці атрада), якія ў баі не ўдзельнічалі, а заставаліся ў тыле з конямі. У прыватных маёнтках ВКЛ у 17—18 ст. Д. называлі сялян, якія неслі ваенную павіннасць на карысць свайго пана.

*Літ.*: Сагановіч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мінск, 1994; Доўнар А.В. Сяляне-слугі другой паловы XVI — сярэдзіны XVIII ст. Мн., 2007. С. 56; Wisner H. Wojsko litewskie pierwszej połowy XVII wieku // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1978. T. 21.

**Дракула** Іван, беларускі разьбяр па косці і дрэве 17 ст. Паходзіў з Віцебска. У 1654—80 працаваў у Аружэйнай палаце ў Маскве. Вырабляў кубкі, грабяні, куфэркі і інш.

**Дрокаў** (цяпер в. Стары Дрокаў, Старый Дроков, Суражскага р-на Бранскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад у Мсціслаўскім княстве, потым у Віленскім і Смаленскім ваяводствах. Упершыню згадваецца сярод кіеўскіх гарадоў у «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» канца 14 ст. Археал. помнік — гарадзішча памерамі 50 × 40 м, умацаванае 2 валамі і ровам. Ма-



гутнасць культ. пласта 0,6 м, у ім сустракаецца кераміка юхнаўскай культуры ранняга жалезнага веку і стараж.-рус. часу. Да гарадзішча прымыкае селішча плошчай каля 0,5 га з матэрыяламі стараж.-рус. часу. У 12— канцы 15 ст. Д. уваходзіў у склад *Мсціслаўскага княства*. Пасля яго скасавання быў цэнтрам воласці Віленскага ваяв., з якой у 1496, згодна запісу прыходу ў велікакняжацкі скарб, «наместник дроковский дал от наместничества 4 копы грошей». У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* Д. захоплены маскоўскім войскам. Пад час перагавораў 1542 разглядалася магчымасць пра яго вяртанне ў склад ВКЛ у абмен на маскоўскіх палонных. Згодна з *Дзўлінскім перамір'ем 1618* Д. вернуты ВКЛ, уваходзіў у склад Смаленскага ваяв. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654 заняты рас. войскам, застаўся ў складзе Расіі.

***Андрэй Мяцельскі.***

**«Другая руская прамова аб нараджэнні Хрыста»** [«Ulia concio ruthena pro nativitate Domini»], ананімны сатырычны твор беларускай літаратуры 1-й пал. 18 ст. Уваходзіць у рукапісны зборнік твораў на бел., лац. і польскай мовах (напісаны ў 1711—41, часткова апублікаваны ў 1965). «Прамова» напісана на бел. мове лацінкай, цытаты (выразы і цэлыя сказы) з рэлігійнай л-ры даюцца на лац. мове, сустракаецца польская і рус. лексіка. Твор пабудаваны па канонах царк. *казання,* у яго аснове традыцыйны рэлігійны сюжэт (пастыры—авечкі—ваўкі), напоўнены актуальным зместам. Камічны эфект дасягаецца спалучэннем «высокай» біблейскай тэмы з апісаннем падзей і бытавых рэалій гутарковай мовай. У творы выявіліся асветніцкія ідэі (антыклерыкалізм, рэлігійнае вальнадумства) і парадаксальнасць, барочная квяцістасць стылю. Належыць, відаць, таму ж аўтару, што і «*Руская прамова*». Упершыню апублікавана ў 1965 пад недакладнай назвай «Другая прамова русіна аб нараджэнні Хрыста».

*Публ.*: Прамова Русіна аб нараджэнні Хрыста // Полымя. 1965. № 9.

*Літ.*: М і с к о С. Невядомыя беларускія творы першай паловы XVIII стагоддзя // Полымя. 1965. № 9; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мінск, 1968. С. 412—414; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мінск, 1978. С. 167—168; М а л ь д з і с А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мінск, 1980. С. 295—297. ***Людміла Зарэмба.***

**Дрысвяцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў Віленскім ваяводстве ў 16 ст. Цэнтр — мяст. Дрысвяты. У 1514 аднойчы ўпамінаецца дзяржаўца дрысвяцкі (Мікалай Радзівіл), які ў 1520 меў свайго намесніка. У час адм.-тэр. рэформы 1565—66 Д.п. ўключаны ў склад Браслаўскага павета, аднак яшчэ некаторы час працягваў існаваць як асобная замкавая акруга. У час попісу войска ВКЛ 1567 дрысвяцкая шляхта выступала ў складзе не Браслаўскага пав., а сярод віленскай шляхты. Мяркуецца, што Д.п. служыў для матэрыльнага забеспячэння Дрысвяцкага замка. У 17 ст. Д.п. ператварыўся ў каралеўшчыну.

*Літ.*: W o j t k o w i a k Z. Lithuania transwilniensis saec. XIV—XVI: Podziały Litwy północnej w późnym średniowieczu. Poznań, 2005.

**дрэва**, назва кап'я ў ВКЛ у 16 ст. У шырокім сэнсе — сінонім тэрміна «кап'ё». У вузкім значэнні — цяжкае кавалерыйскае кап'ё для тараннага ўдару. На Навагародскім сойме 1502 прынята пастанова, што кожны феадал ВКЛ «мел з именя своего з десяти служоб пахолка ў зброи на кони з древцем выправити». «Древо с прапорцем цветным» фіксуецца ў спалучэнні з панцырам, прылбіцай і шчытом у якасці нарматыўнага ўзбраення апалчэнцаў ВКЛ Статутамі 1529 і 1566. Такі комплекс узбраення з'яўляўся тыповым для *гусараў*. Прыярытэтнае выкарыстанне Д. ў камплекце са шчытом фіксуюць таксама попісы войска ВКЛ 1565 і 1567. Д. мела адносна кароткае і вузкае, аднак масіўнае (за кошт набліжанага да квадрата ці ромба сячэння) пяро, прыстасаванае для прабівання даспехаў, і шырокую ўтулку, прызначаную для насаджвання на тоўстае дрэўка. Эфектыўнасць выкарыстання Д. моцна залежала ад надзейнасці дрэўка, якое павінна было быць не толькі трывалым, але і дастаткова доўгім, каб паразіць праціўніка на максімальнай адлегласці. Пэўнага стандарту ў даўжыні дрэўка, таксама як і ў яго таўшчыні, не існавала; лічыцца, што яно магло дасягаць 4 м. Кап'ё з такім дрэўкам было досыць масіўным і цалкам адпавядала назве. Масіўнасць Д. прывяла да з'яўлення спец. апорных крукоў на кірасе, якія аблягчалі маніпуляванне гэтай груваcткай зброяй. Таўшчыня дрэўка цяжкіх коп'яў часам была настолькі вялікай, што ў месцы перахопу яго рукой рабілася патанчэнне. Для прадухілення паражэння далоні, што трымала кап'ё, практыкавалася выкарыстанне спец. акруглых шчыткоў. Адзін з іх, што ўваходзіў у склад гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага



Наканечнікі **дрэў**: 1 – Менск (16–17 ст.); 2 – Мсціслаў (16–17 ст.); 3 – Крычаў (16 ст.); 4 – Дарагічын (13–14 ст.).

сярэдзіны 16 ст. (работы Кунца Лохнера), захоўваецца ў нью-йоркскім Метрапалітэн-музеі. Абавязковым атрыбутам Д. быў сцяжок-прапорац (пад час атакі прапорцы на апушчаных коп'ях шамацелі і тым самым палохалі варожых коней). У ВКЛ існавала некалькі варыянтаў Д.: чорныя, іспанскія, браўншвейгскія (цяжкія рыцарскія коп'і, пашыраныя на тэр. Германіі), гусарскія (на венгерска-турэцкі манер, прызначаныя для патрэб сярэдняўзброенай кавалерыі), гусарскія пустыя (клеіліся



з 2 палавін, сярэдзіна якіх выбіралася ад вастрыя да рукаяткі для змяншэння вагі, што дазваляла павялічыць даўжыню Д.). Склееныя дрэўкі часам апляталіся рамянём ці шнуром і размалёўваліся фарбай. Замест акруглага шчытка, які бараніў руку, гусарскія Д. мелі шарападобную «кулю». Прапорцы гусарскіх коп'яў былі надзвычай доўгімі (да 4 м) і завяршаліся 2 канцамі. Тыповае гусарскае кап'ё з «куляй» паказана на гравюры «Літоўскі коннік», выкананай у 1575 нідэрландцам Абрагамам Брайнам.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008.

***Юрась Бохан.***

**Дрэвінскі** Лаўрэнцій (пасля 1568—1640?), дзяржаўны і царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З правасл. шляхецкага роду. Каралеўскі сакратар, чашнік валынскі ў 1606—40. Быў адным з самых актыўных працўнікаў праўядзення царк. уніі. З гэтай мэтай аказваў вял. дапамогу правасл. брацтвам. Быў адным з заснавальнікаў Луцкага брацтва, членам Львоўскага і Віленскага (неаднаразова выбіраўся старастам апошняга). Удзельнічаў у царк. саборы 1596 у Берасці, на якім далучыўся да правасл. лагера, ад якога быў пасланы разам з Данілам Малінскім да Жыгімонта III з пратэстам супраць уніі і просьбай перадаць правасл. епархіі ад іерэяў-уніятаў да праваслаўных. На Віленскім сінодзе 1599 абраны ў лік правізараў для пільнавання інтарэсаў праваслаўных і пратэстантаў. Некалькі разоў выбіраўся паслом на соймы, дзе выступаў у абарону правасл. царквы (асабліва вядома яго прамова на Варшаўскім сойме 1620, дзе ён апісаў уціск праваслаўных жыхароў Львова і Вільні, выступіў за адраджэнне правасл. мітраполіі). У 1630 унёс скаргу ў Віленскі старасцінскі суд ад імя ўсіх князёў, шляхты і паспалітых людзей правасл. веравызнання на ксяндза Дыдрыховіча, які кіраваў нападам на Віленскі правасл. манастыр. Мяркуецца, што Д. — аўтар надрукаванай у Вільні ў 1632 на польскай мове кнігі «Сінопсіс», якая ўтрымлівала прывілеі каралёў польскіх і вял. князёў літоўскіх праваслаўным ВКЛ і Польшчы і паказвала ўціск, якім падвяргаліся праваслаўныя ў гэты час. Кніга была прадстаўлена новаабранаму каралю польскаму і вял. кн. літ. Уладзіславу IV. У 1633 Д. разам з Малінскім заснаваў у Крэменцы Богаяўленскі манастыр, пры якім былі брацтва, школа, друкарня і шпіталь. У 1635 зрабіў буйное падараванне Віленскаму Святадухаўскаму манастыру. Сучаснікі называлі Д. «калонай праваслаўя». Яго нашчадкі ў канцы 17 ст. перайшлі ў каталіцтва, род апалячыўся.

*Тв.*: Sinopsis — сочинение в защиту прав православной церкви, изданное Виленским братством ко времени конвокационного сейма после смерти короля Сигизмунда III, 1632 // Архив Юго-Западной России. Киев, 1887. Ч. 1, т. 7.

*Літ.*: Жукович П. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией. Вып. 1—6. Санкт-Петербург, 1901—12.

**дубатоўкі**, дубатолкі, рамеснікі, якія нарыхтоўвалі дубовую кару для выдзелкі скур. У пісьмовых крыніцах тэрмін вядомы з 1507, але промысел існаваў з даўніх часоў, бо дубовая кара неабходна пры вытворчасці дубленых скур. Ужо ў пач. 16 ст. слова «Д.» ужывалася як зневажальная мянушка, што сведчыць пра нізкі сац. статус Д. Магчыма, менавіта дубовая кара была адным з відаў даніны, што выплочвала літва ўладарам Кіеўскай Русі (у 16 ст. звесткі пра яе трансфармаваліся ў паведамленне польскага храніста Марціна Бельскага, што літва выплочвала даніну рускім князям лыкам і венікамі, бо іншага нічога не мела). З.Ю.Капыскі лічыў, што Д. выраблялі грубыя гатункі скуры, падэшвы.

**Дубінкаўскае княства**, буйная латыфундыя князёў Радзівілаў у Віленскім пав. ў 16—18 ст. Цэнтр — мяст. *Дубінкі.* Маёнтак (Дубінкаўская воласць) перададзены Мікалаю Радзівілу ў канцы 15 ст. У 1-й пал. 16 ст. ўладанне значна павялічыў Юрый Радзівіл. У 1528—30 да воласці належала каля 195 дымоў (60 паншчынных службаў, 9 баярскіх службаў, 10 службаў путных баяраў, 37 дамоў мяшчан). Пасля атрымання Мікалаем Радзівілам Рудым у 1547 тытула князя Свяшчэннай Рымскай імперыі маёнтак пачаў называцца Д.к., а Радзівілы біржанска-дубінкаўскай лініі роду — князямі «на Біржах і Дубінках». Землі Д.к. часта аддаваліся ў заставу (заклад) інш. трымальнікам. У 2-й пал. 16—сярэдзіне 17 ст. Д.к. валодалі Мікалай Радзівіл (сын Рудога), Крыштоф Радзівіл Пярун, Януш Радзівіл. У 1661 Багуслаў Радзівіл аддаў Д.к. ў трыманне Я.Ясперсу, пазней маёнтак трымылі М.Тызенгаўз, Л.Пацей, К.Пузына, Я.Белазор, І.Богуш, В.Гяцэвіч. У 1643 у княстве 19 вёсак, у 1652 — 6 фальваркаў (Дубінкі, Юркішкі, Міколішкі, Нашышкі, Насуны, Заліцішкі), у 1768 — 3 фальваркі. У 1808 маёнтак купілі Тышкевічы, якія заснавалі Дубінкаўскую ардынацыю.

*Літ.*: Instrukcijos feodalinių valdų administracijai Lietuvoje XVII—XIX a. / Parengė: Z.Kiaupa, J.Kiaupienė. Vilnius, 1985; Malczewska M. Latyfundium Radziwiłłow w XV do połowy XVI wieku. Warszawa; Poznań, 1985; Ragauskienė R. Lietuvos Didžiosios Kunidaikstystės kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (apie 1515—1584 m.). Vilnius, 2002.

**Дубінкаўскі замак.** Існаваў каля мяст. *Дубінкі* ў Віленскім ваяв. Пабудаваны на востраве (цяпер паўвостраў) воз. Асвея (Дубінкаўскае) у пач. 15 ст. вял. кн. літ. Вітаўтам на месцы больш ранніх умацаванняў. Упершыню ўпамінаецца ў 1420. Меў драўляна-земляныя ўмацаванні, даўжыня 500 м, шырыня 100—220 м. Закрываў лівонскім рыцарам шлях на Вільню з паўн. боку. Да 1430 у замку Вітаўтам пабудаваны касцёл Св. Духа. З 16 ст. замак належаў Радзівілам, якія ў 16 ст. пабудавалі тут мураваныя кальвінскі збор і палац. Пасля Паўн. вайны 1700— 21 замак заняпаў. З 1960-х г. праводзяцца археал. раскопкі Д.з., падчас якіх выяўлены рэшткі мураваных пабудоў, у т.л. збору, дзе знойдзены пахаванні Радзівілаў.

*Літ.*: Batūra R. Dubingių pilis XIV—XVI a. // Dubingiai. Vilnius, 1971; Zabiela G. Lietuvos medinės pilys. Vilnius, 1995.

**Дубінкі** (літ. Дубінгяй, Dubingiai, цяпер мястэчка ў Малецкім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Віленскім пав., на беразе воз. Асвея (Дубінкаўскае). У 1334 упамінаецца Дубінкаўская зямля («terra Dubingam»), цэнтрам якой, відаць, былі Д. У 1373 і 1375 адбыліся нападзенні крыжакоў. У



15—16 ст. адм. цэнтр, уласнасць вял. князя літоўскага. Тут існаваў драўляны, потым мураваны *Дубінкаўскі замак*. Да 1430 вял. кн. літ. Вітаўт пабудаваў у замку касцёл Св. Духа, які каля 1565 перароблены Мікалаем Радзівілам Рудым у кальвінскі збор, быў месцам пахавання Радзівілаў біржанска-дубінкаўскай лініі роду. У канцы 16 ст. пабудаваны мураваны будынак збору, у 1735 ён згарэў, да сярэдзіны 18 ст. дайшоў у выглядзе руін, пасля быў разабраны. У канцы 15 ст. ўтварылася мястэчка, якое падаравана Мікалаю Радзівілу. У 2-й пал. 16—17 ст. Д. — месца яго рэзідэнцыі, цэнтр радзівілаўскай латыфундыі — *Дубінкаўскага княства*. У 1547—48 тут жыла Барбара Радзівіл — жонка караля польскага і вял. кн. літ. Жыгімонта II Аўгуста. У 17 ст. Д. складаліся з 2 частак на розных берагах возера — Іванішак і Лаўніканцаў, быў заснаваны папяровы млын. Д. разбураны ў час *Паўночнай вайны 1655—60*, рэзідэнцыя Радзівілаў не была адноўлена. У 1643 у Д. было 49 гаспадароў, якія мелі 48 валок зямлі, у 1651 было 67 дымоў, каля 450 жыхароў, у 1661 — 12 дымоў. У 1672 Людвіка Караліна Радзівіл пабудавала драўляны касцёл св. Георгія. У 1682 у Д. адбыўся сінод кальвінісцкай царквы ВКЛ. Пацярпелі ў час Паўн. вайны 1700—21. У 1777 адчынена парафіяльная школа. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Dubingiai. Vilnius, 1971; M a l c z e w s k a M. Latyfundium Radziwiłłów w XV do połowy XVI wieku. Warszawa; Poznań, 1985.

**Дуброва** Тамаш (? — да 1620), ваенны дзеяч ВКЛ. Род Д., паводле меркавання К.Нясецкага, паходзіў з Маскоўскай дзяржавы, паводле С.Урускага — з Мазовіі, у 15 ст. перасяліўся на Смаленшчыну і адтуль далей у ВКЛ. У войску Д. служыў ротмістрам, у ходзе *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* удзельнічаў у баявых дзеяннях у Інфлянтах у 1600—09, у бітвах пры Дорпаце і Ракіборы ў 1603, Белым Камені ў 1604 (выставіў роту ў 200 гусараў), Кірхгольме ў 1605 (кіраваў левым крылом), штурме Парнавы (Пярну) і адвяванні Дынамента ў 1609. Камендант Феліна ў 1603—07. Па прадстаўленні гетмана Яна Караля Хадкевіча за мужнасць і ваенныя заслугі перад айчынай Варшаўскі сойм 1607 прадаставіў яму 8 тыс. злотых на Люцынскам старастве ў Інфлянтах. У 1607—20 быў люцынскім старастам. Меў сына Адама (староста люцынскі з 1624) і ўнука Ежы (мечнік браслаўскі, староста марыенбургскі).

*Літ*: N i e s i e c k i K. Herbarz polski. T. 3. Lipsk, 1839; Volumina legum. T. 2. St. Petersburg, 1859; Ż y c h l i ń s k i T. Złota księga szlahty polskiej. T. 10. Poznań, 1888; B o n e c k i A. Herbarz Polski. Cz.1, t. 4. Warszawa, 1900; U r u s k i S. Rodzina: Herbarz szliachty polskiej. T. 2. Warszawa, 1905. ***Віктар Якубаў.***

**Дубровенская бітва 1701**, адна з буйнейшых бітваў сапежынскага паўстання 1701—02 на У Беларусі і *феадальнай вайны 1696—02*. Адбылася 26.7.1701 у выніку спробы рэспубліканцаў падавіць сял. выступленне ў Дубровенскім графстве, якое пачалося ў сярэдзіне мая 1701. Для гэтага ў Барысаўскім старастве было сканцэнтравана 26 харугваў (каля 2 тыс. чал.) пад камандаваннем рэгіментара Бел. дывізіі войска ВКЛ Казіміра Аляксандра Пацея. 17 ліп. ён спыніўся пад Копыссю, дзе пакінуў абоз, і праз 4 дні пачаў прасоўвацца ў бок Дуброўны. Насустрач Пацею выйшла войска, на чале якога стаяў Браніслаў Карша (слуга Ежы Станіслава Сапегі). Яно налічвала 2 тыс. сялян, 5 баярскіх, некалькі валашскіх і татарскіх харугваў (каля 2,5 тыс. чал.) і было добра ўзброена, у т. л. мушкетамі, пташынамі, пісталетамі, гакаўніцамі і гарматамі. Спачатку адбыліся перамовы, у ходзе якіх рэспубліканцы патрабавалі падаткаў паводле Алькеніцкай пастановы 24.11. 1700, але сяляне ім у гэтым адмовілі, хаця Карша схіляўся да пагаднення. На досвітку 26 ліп. сяляне напалі на 2 валашскія харугвы, што стаялі ў перадавой стражы ў 4 мілях ад Дуброўны. Напад быў адбіты, пасля чаго войска Пацея, нягледзячы на абстрэл з гармат, пераправілася цераз рэчку (відаць, Крапіўну) і атакавала войска сялян. Апошнія не вытрымалі націску і пачалі ўцякаць, страціўшы толькі забітымі, паводле Магілёўскай хронікі, 1674 чал. Уцекачы хаваліся па вёсках, дзе працягвалі аказваць супраціўленне. Жаўнеры, распраўляючыся з імі, падпальвалі вёскі. Праследаванне вылілася ў разню, у ходзе якой (разам з палеглымі ў бітве) загінула 3—4 тыс. чал. (каля чвэрці насельніцтва Дубровенскага графства). Дуброўна здалася на міласць пераможцаў, але не пазбегла рабунку, у ходзе якога былі забіты дзесяткі мяшчан. Пад выглядам таго, што там схавана маёмасць мяшчан і хаваецца дубровенскі войт, быў разрабаваны Куцеінскі базыльянскі манастыр пад Оршай; ігумена жаўнеры збілі, а манахі паразбягаліся. Карша трапіў у палон і быў адпраўлены ў Трыбунал ВКЛ, але дзякуючы заступніцтву Казіміра Аляксандра Пацея пазбег пакарання і пайшоў служыць харужым у панцырную харугву Міхала Сервацыя Вішнявецкага (забіты пад час паходу на Торунь у 1703). У кастр. 1701 Дубровенскае графства паводле рашэння Гарадзенскага з'езда шляхты ВКЛ перададзена Казіміру Аляксандру і Люд-



**Дубінкі**. Гравюра паводле малюнка Н.Орды.

віку Канстанціну Пацеям (палова — на правах заставы).

*Літ.*: Віцько Дз. Паўстанне на ўсходзе Беларусі ў 1701—1702 гг. // Бел. гіст. часопіс. 2007. № 4. ***Зміцер Віцько.***

**Дуброўскі** Міхал (29.9.1633, Вільня — 7.1.1694), дзеяч каталіцкай царквы. У 1652 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў; ксёндз. У 1656—57 вывучаў філасофію ў Вене, у 1658 — у Леабене (Аўстрыя). Прэфект друкарні ў Вільні ў 1664—67 і 1672—73. У 1670—72 выхавацель сыноў Міхала Караля Радзівіла ў Клецку. Праф. філасофіі ў Вільні ў 1676—77, місіянер у Субачы ў 1678, прэфект школы ў Полацку ў 1680—81, прыдворны місіянер Станіслава Радзівіла ў 1681—85, рэктар Аршанскага калегіума ў 1685—88, прэфект школы ў Нясвіжы ў 1688—89, радзівілаўскі місіянер у 1689—91.

**Дудзінскі** (Dudziński) Міхал (24.10. 1747, Прусія — да 1784), паэт, мовазнаўца. У 1762 уступіў у Полацку ў ордэн езуітаў. У 1764—65 вучыўся ў Полацкай настаўніцкай семінарыі, пасля да 1768 — у Полацкім калегіуме. У 1768—69 праф. інфімы ў Варшаве, у 1769—71 — сінтаксісу ў Полацку, у 1771—72 — паэтыкі ў Варшаве, у 1772—73 — паэтыкі і гісторыі ў Ломжы. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1772) вывучаў тэалогію ў Вільні, каля 1775 стаў святаром. У 1775 супрацоўнічаў з час. «Забавы прыемныя і карысныя». Да 1782 выкладаў паэтыку і рыторыку ў школе Адукацыйнай камісіі ў Менску. Далейшы лёс невядомы. Выдаў зборнік паэтычных спроб сваіх вучняў «Паэтычныя забаўкі моладзі ў менскіх школах» («Zabawki poetyckie młodzi w szkołach wydziałowych ćwiczącej się zebrane», Вільня, 1782). Аўтар апісальна-дыдактычнай паэмы «Палац у Сёмкаве» («Pałac w Siemkowie», Вільня, да 1784) пра сядзібу менскага кашталяна А.*Хмары*. У падручніку па польскай мове «Збор найбольш патрэбных матэрыялаў...» («Zbiór rzeczy potrzebniejszych do wydoskonalenia się w języku ojczystym służących», Вільня, 1776) прыводзіў беларусізмы («хітры», «грубы», «парогі», «сысун», «бервяно», «ляда», «ручай», «шыпшына» і інш.), якія адносіў да варварызмаў.

**Дук** Дзяніс Уладзіміравіч (н. 29.5. 1977, г. Наваполацк Полацкага р-на, Рэспубліка Беларусь), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (2004), дацэнт (2006). Скончыў Полацкі ун-т (1999), дзе выкладае, з 2005 заг. кафедры гісторыі і сацыялогіі (з 2006 кафедра айчыннай і ўсеагульнай гісторыі). Вывучае гісторыю Полацка і яго акругі эпохі сярэдневякоўя і ранняга новага часу.

*Тв.*: Матэрыялы да геральдычнай карты месцазнаходжання двароў полацкай шляхты XVI—XVII стст. // Герольд Litherland. 2002. № 3—4; Лакалізацыя асобных тапаграфічных аб'ектаў Полацка XVI—XVII стст. // Бел. гіст. часопіс. 2006. № 6; Полацк XVI—XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада. Наваполацк, 2007; The State, Actual Problems and Perspectives of Development of the Archeology of Polotsk // The Marine Archeology of the Baltic Sea. 2002. Vol. 4.

**Дукштэйн** (дзявочае Лаўцэвіч, Лаўцінская, Лаўчынская) Разалія (1767?, Пастаўшчына—?), танцоўшчыца, гл. *Лаўцэвіч* Р.

**Дундулене** (Dunduliene) Пране (12.2.1910, в. Піліпай Швянчонскага р-на, Літоўская Рэспубліка — 27.2. 1991), літоўскі этнолаг. Д-р гіст. навук (1969), праф. (1971). Скончыла Віленскі ун-т (1938). У 1938—40 працавала ў Літ. навук. таварыстве, у 1941 — у Ін-це этнаграфіі АН Літ. ССР, у 1942—43 — у Этнаграфічным музеі Вільнюскага ун-та, у 1944—50 — у Ін-це гісторыі АН ЛітССР. З 1944 выкладала ў Вільнюскім ун-це, была адной з арганізатараў кафедры этнаграфіі (1951). Працы па гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Літвы і ВКЛ: «Земляробства ў Літве: (З найдаўнейшых часоў да 1917 года)» [«Žemdirbystė Lietuvoje: (Nuo seniausių laikų iki 1917 metų)», Вільнюс, 1963], «Літоўскія каляндарныя і аграрныя звычаі» («Lietuvių kalendoriniai ir agrariniai papročiai», Вільнюс, 1979), «Хлеб у літоўскім побыце і звычаях» («Duona lietuvių buityje ir papročiuose», Вільнюс, 1979; 2 выд. 2007), «Вуж і яго сімвалы ў літоўскім народным мастацтве і вуснай творчасці» («Žaltys ir jo simboliai lietuvių liaudies mene ir žodineje kūryboje», Вільнюс, 1979; 2 выд. 2005), «Дрэвы ў старых літоўскіх вераваннях» («Medžiai senovės lietuvių tikėjimuose», Вільнюс, 1979; 2 выд. 2008), «Птушкі ў старых літоўскіх вераваннях і мастацтве» («Paukščiai senuosiuose lietuvių tikėjimuose ir mene», Вільнюс, 1982; 2 выд. 2006), «Літоўская этнаграфія» («Lietuvos etnografija», Вільнюс, 1982; 2 выд. пад назвай «Літоўская этналогія», «Lietuvių etnologija», Вільнюс, 1991), «Агонь у літоўскім народным светаўспрыманні» («Ugnis lietuvių liaudies pasaulėjautoje», Вільнюс, 1985; 2 выд. 2006), «Літоўская народная касмалогія» («Lietuvių liaudies kosmologija», Вільнюс, 1988), «Старажытныя літоўская міфалогія і рэлігія» («Senovės lietuvių mitologija ir religija», Вільнюс, 1990; 2 выд. 2007), «Літоўскія святы: Традыцыі, звычаі, абрады» («Lietuvių šventės: Tradicijos, papročiai, apeigos», Вільнюс, 1991), «Старыя літоўскія сямейныя звычаі» («Senieji lietuvių šeimos papročiai», Вільнюс, 1999; 2 выд. 2005), «Вока ў літоўскім светаўспрыманні» («Akys lietuvių pasaulėjautoje», Вільнюс, 2006), «Дрэва жыцця ў літоўскім мастацтве і фальклоры» («Gyvybės medis lietuvių mene ir tautosakoje», Вільнюс, 2006), «Літоўская народная касмалогія» («Lietuvių liaudies kosmologija», Вільнюс, 2008), «Літоўскае язычніцтва: Жаночыя боствы» («Pagonybė Lietuvoje: Moteriškosios dievybės», Вільнюс, 2008), гісторыі этналогіі: «Этнаграфічная навука ў Віленскім універсітэце» («Etnografijos mokslas Vilniaus universitetė», Вільнюс, 1978) і інш.

*Тв.*: Земледелие в Литве в эпоху феодализма // Тр. Ин-та этнографии. М., 1956. Т. 32; Историко-этнографический атлас Прибалтики: земледелие. Вильнюс, 1985 (у сааўт.).

**Дунілавіцкі кляштар дамініканцаў.** Заснаваны ў 1683 у в. Дунілавічы каля Паставаў (Ашмянскі пав., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.) Эльжбетай Ісайкоўскай-Белазор. Першапачаткова быў драўляным. Мураваны Троіцкі касцёл, пабудаваны ў 1769—73 у стылі позняга барока, — 3-нефавая 2-вежавая базіліка. Трансепт і прамавугольны ў плане прэсбітэрый



маюць аднолькавую вышыню з цэнтр. нефам і накрыты 2-схільнымі ўзаемаперпендыкулярнымі дахамі з фігурнымі атыкавымі франтонамі на тарцах. Сакрысціі і бакавыя нефы накрыты аднасхільнымі дахамі. Тарцы крылаў трансепта маюць крывалінейны абрыс. Гал. фасад падзелены развітым антаблементам на ніжнюю статычную частку і 2 чацверыковыя са скошанымі вугламі 2-ярусныя вежы, накрытыя купаламі з дэкаратыўнымі галоўкамі. У аздабленні фасадаў выкарыстаны плоскія пілястры (на галоўным — падвойныя ўвагнутыя), прафіляваныя цягі, раскрапоўкі, валюты і інш. Аконныя праёмы і плоскія нішы маюць лучковыя завяршэнні. Уваход вылучаны прамавугольным парталам. У інтэр'еры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках, бакавыя — крыжовымі з фрэскавай размалёўкай. Пабач стаяў 2-павярховы мураваны жылы корпус кляштара (не збярогся). Кляштар зачынены ўладамі пасля паўстання 1830—31. Касцёл у 1866 перароблены на царкву, пры гэтым перабудаваны, у 1919 вернуты католікам і рэстаўрыраваны.

*Тамара Габрусь.*

**«Духоўнае прычасце святых Барыса і Глеба»**, польск.-бел. школьная драма эпохі барока. Аўтар невядомы. Уваходзіць у рукапісны зборнік канца 17 ст. «*Аршанскі кодэкс*». Пастаўлена ў Полацку і, магчыма, у Оршы да 1693. У аснове сюжэта падзеі гісторыі пач. 11 ст. (феадальныя міжусобіцы, распаўсюджанне хрысціянства), што адбываліся ў Полацку і Кіеве. Старaж.-рус. рэчаіснасць і вобразы гал. герояў Барыса і Глеба (першых рус. святых) пададзены ўмоўна. Твор уключае антыпралог, пралог і 4 інтэрмедыйныя сцэны. У інтэрмедыях знайшло адлюстраванне жыццё бел. грамадства канца 17 ст., прысутнічаюць элементы сац. крытыкі, фальклорныя матывы. Дзеючыя асобы драмы селянін («хлоп»), гарбар, салдат, яўрэй, хлопцы-парабкі, якія гавораць па-беларуску, прадстаўлены людзьмі абмежаванымі, грубымі. Мяркуючы па змесце, аўтар — католік-езуіт. Твор апублікаваны І.Ляванскім у «Старапольскай драматургіі» (Варшава, 1963, т. 6).

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мінск, 1980. С. 175—192.

**Дыгань** (Dygoń, Digon) Тамаш (1588—каля 1681), дзеяч каталіцкай царквы, гісторык. Паходзіў з віленскага патрыцыяту. У 1615 паступіў у Віленскі бернардзінскі кляштар, атрымаўшы папярэднюю адукацыю. Служыў у правінцыі Малая Польшча, да якой належалі кляштары ВКЛ. Быў прапаведнікам (1642, Вільня, потым Коўна), кустошам (1645—47, 1659—66, Вільня), спаведнікам бернардзінак (1650, Коўна), гвардыянам (1639, Орша; 1651, Гародня, потым Вільня, Коўна). У 1653 увайшоў у склад кіраўніцтва правінцыі ў якасці дэфінітара і абраны храніграфам правінцыі. У 1656 склаў «Храналогію ордэна братоў меншых абсервантаў правінцыі Малая Польшча і Вялікае княства Літоўскае», у якой даў звесткі пра заснаванне і гісторыю ўсіх кляштараў правінцыі (мужчынскіх і жаночых), прывёў фундацыйныя дакументы і дарчыя запісы, звесткі пра найб. вядомых асоб, якія жылі ў кляштарах, тэксты інскрыпцый у касцёлах бернардзінцаў, апісаў актуальныя падзеі з жыцця кляштараў. Гісторыя заканчваецца апісаннем падзей вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Д. напісаў таксама хроніку Віленскага канвента бернардзінцаў (1668), выдаў 3 панегірычныя казані на пахаваннях.

*Літ.*: Паўлоўская Г.Г. Новая наратыўная крыніца па гісторыі кляштара бернардзінцаў у Гародні // Бел. археаграфічны штогоднік. Мінск, 2008. Вып. 9; Maciejowski W.A. Piśmiennictwo polskie, od czasów najdawniejszych aż do roku 1830. T. 3. Warszawa, 1852; Wyczawski H.E. Dygon Tomasz // Słownik polskich pisarzy franciszkańskich. Warszawa, 1981; Kachel J. Bernardyni 1453—2003: kapłani i bracia zakonni prowincji polskich oraz kustodii św. Michała na Ukrainie: wydanie jubileuszowe. Warta, 2004.

*Ганна Паўлоўская.*

**Дыдрыштэн** (Дыдрыхтэн, Дзітрыхштэйн) Ян Валянцінус Тобіяш (?—да 23.6.1770), скульптар, архітэктар. У 1749—52 жыў у Вільні, дзе займаўся архітэктурна-дэкаратыўнымі працамі. Быў членам пратэстанцкай суполкі. У 1749 удзельнічаў у адбудове згарэлай Святадухаўскай царквы: пабудаваў купал, займаўся ўпрыгожаннем інтэр'ераў (магчыма, у тэхніцы стука). У 1751—52 разам з Янам Незямкоўскім праводзіў будаўнічыя работы пры езуіцкім касцёле св. Рафала: пачаў выводзіць фасад, вывеў адну вежу, аднак пры закладцы фундамента пад гал. алтар пакінуў будоўлю. Быў абвінавачаны ў тым, што скраў у езуітаў грошы і збег у Інфлянты. Магчыма, пабудаваў там ратушу ў Краславе. У 1750-х г. кіраваў будаўніцтвам царквы *Беразвецкага Петрапаўлаўскага манастыра* (архітэктар І.К.*Глаўбіц*), працаваў над яе аздабленнем. Памёр у Вільні.

**Дыжэўскі** Стафан (студзень 1631, Мазовія—9.11.1691), дзеяч каталіцкай царквы, драматург. У 1650 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў; ксёндз. Вывучаў філасофію і тэалогію ў Чэшскай правінцыі ордэна езуітаў. Рэктар калегіумаў у Полацку ў 1677—80, у Плоцку ў 1684—88, у Пінску ў 1688—91. Аўтар некалькіх школьных драм.

*Літ.*: Okoń J. Dramat i teatr szkolny: Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.

**дырэктар соймікавы**, маршалак соймікавы, кіраўнік нарадамі павятовых шляхецкіх *соймікаў* у 16—18 ст. У 16 ст. Д.с., як правіла, станавілася асоба, вышэйшая з прысутных па пасадзе, у 17 ст. гэты звычай дапоўніўся практыкай выбараў Д.с. шляхам галасавання. У паветах, якія не былі цэнтр. ў ваяводствах, на пасаду Д.с. шляхта імкнулася выбіраць павятовых *маршалкаў*. Праблема дырэктарства была юрыд. ўрэгулявана толькі ў 1764 спец. пастановай каранацыйнага сойма. У адпаведнасці з ёй Д.с. аўтаматычна станавіўся найбольш значны па іерархіі ўраднік. Да фукцый Д.с. адносіліся: вызначэнне чарговасці выступленняў шляхты, вырашэнне спрэчак, падтрыманне парадку на пасяджэнні, абвяшчэнне выбараў паслоў, засведчанне подпісам соймікавай дакументацыі. Д.с. ўплываў на вылучэнне кандыдатур на розныя пасады, вызначэнне зместу соймікавых пастаноў.

*Літ.*: Лаппо И.И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Zakrzewski A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII w.: ustrój i funkcjonowanie:



sejmik trocki. Warszawa, 2000; R a c h u b a A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002.

*Віталь Галубовіч.*

**Дыскордзія** Лаўрэнцій (В а ў ж ы н е ц з П ш а с н ы ш а; каля 1515, г. Пшасныш, Цеханавецкая зямля, Польшча — паміж 1566 і 1569), пратэстанцкі рэлігійны дзеяч ВКЛ і Польшчы. Паходзіў з мяшчанскай сям'і. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, дзе атрымаў ступень бакалаўра (каля 1533). Быў ксяндзом ва ўладаннях канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Чорнага. Дзякуючы яго падтрымцы ў 1545 стаў прыдворным каралеўскім прапаведнікам. Прапагандаваў ідэі царк. рэформы, у сувязі з чым узнік яго канфлікт з вышэйшым духавенствам. У 1547 Ланчыцкі сінод каталіцкай царквы абвясціў яго ерэтыкам і прадпісаў звольніць яго ад абавязкаў прыдворнага прапаведніка. Пераехаў у Гжэбск (Мазавецкае ваяв.), у 1550 — у Прусію, дзе адкрыта перайшоў у пратэстантызм. Жыў у Прусіі, Вял. Польшчы, на некаторы час выязджаў у ВКЛ да Радзівіла Чорнага. З 1561 міністр у кальвінскім зборы ў Бжэзінах (Малая Польшчы), з 1562 суперінтэндант кракаўскі. Апошні раз узгадваецца як удзельнік Уладзіслаўскага сінода евангельска-рэфармацкай царквы 1566. Памёр у Высосіцы (Мазавецкае ваяв.). Быў адным з ідэолагаў Рэфармацыі ў Польскім каралеўстве і ВКЛ на раннім этапе. Аўтар прац «Аб дзяржаўнай уладзе» («O urzędzie zwierzchności», 1559, не захавалася), «Вучэнне пра ісціннную і фальшывую пакуту» («Nauka o prawdziwej i falszywej pokucie», Пінчаў, 1559). У апошняй працы, прысвечанай Радзівілу Чорнаму, коратка прадстаўлены асн. элементы евангельска-рэфармацкай дактрыны ў супрацьпастаўленні каталіцкай. У прадмове аўтар узгадаў заслугі Радзівіла Чорнага ў справе пашырэння Рэфармацыі ў ВКЛ, што мела значэнне таксама і для Польшчы. У ёй адлюстраваны надзеі пратэстантаў Польшчы і ВКЛ сярэдзіны 16 ст. аб заняцці пануючага становішча ў дзяржаве. Д. заклікаў Радзівіла абараняць інтарэсы рэфармацыйных веравызнанняў на дзярж. узроўні, звяртаўся да караля з прапановай ажыццявіць Рэфармацыю ў Польшчы і ВКЛ і выкараніць «фальшывыя культы».

*Літ.*: Z a k r z e w s k i W. Powstanie i wzrost reformacji w Polsce. 1520—1572. Lipsk, 1870; G r a b o w s k i T. Z dziejów literatury kalwińskiej w Polsce (1550—1650). Kraków, 1906.

*Ігар Бортнік.*

**Дытц** (Ditz) Ян Фрыдэрык, мастак 18 ст. Паходзіў з Саксоніі. Працаваў на Навасвержанскай фаянсавай і Урэцкай шкляной мануфактурах (1739—43), дзе размалёўваў і залаціў шкляныя, фаянсавыя і маёлікавыя вырабы; пры дварах князёў Радзівілаў у Польшчы і Нясвіжы (1759). Выканаў дэкарацыі для тэатра ценяў Радзівілаў у Слуцку (1756).

*Мая Яніцкая.*

**Дыянісій** (свецкае Давід; каля 1300—15.10.1385), дзеяч праваслаўнай царквы. Мяркуецца, што паходзіў з Кіеўскай зямлі і прыняў манаства ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Каля Ніжняга Ноўгарада заснаваў Вазнясенскі Пячэрскі манастыр, стаў яго ігуменам, потым архімандрытам. З 1371 епіскап суздальскі і ніжагародскі. Як мяркуецца, Д. удзельнічаў у стварэнні Лаўрэнцьеўскага летапісу. Актыўна змагаўся з ерассю стрыгольнікаў. Пасля смерці мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі *Аляксея* (1378) вял. кн. маскоўскі Дзмітрый Іванавіч меркаваў паставіць у мітрапаліты (шляхам склікання сабора рус. епіскапаў) свайго духоўніка Міцяя, што выклікала супраціўленне духавенства. Д. сарваў скліканне сабора і вырашыў адправіцца ў Канстанцінопаль за мітрапаліцкім санам для сябе. Дзмітрый Іванавіч зняволіў Д., але пасля выпусціў (за яго паручыўся Сергій Раданежскі). Аднак Д. збег з Ніжняга Ноўгарада і па Волзе дабраўся да Канстанцінопаля. Туды ж адправіўся і Міцяй, але памёр па дарозе. Мітрапаліцкі сан подкупамі атрымаў у Канстанцінопалі спадарожнік Міцяя пераяслаўскі архімандрыт Пімен (1380), аднак вял. князь саслаў яго ў Чухламу. Д. вярнуўся на Русь у 1382 з санам архіепіскапа. На сан мітрапаліта кіеўскага прэтэндаваў і *Кіпрыян*, які жыў у ВКЛ, таму Дзмітрый Іванавіч вырашыў падтрымаць Д. У 1384 Д. адпраўлены ў Канстанцінопаль, дзе патрыярх пазбавіў Пімена мітраполіі, прызначыў мітрапалітам Д. і адправіў з ім у Маскву 2 грэчаскіх мітрапалітаў для ўзвядзення яго на кафедру. У Кіеве Д. быў схоплены кн. Уладзімірам Алелькавічам, які абвінаваціў Д. ў тым, што той пайшоў у Канстанцінопаль за мітрапаліцкім санам без яго загаду (Уладзімір Алелькавіч фармальна, як кіеўскі князь, меў права выбіраць кандыдатуру кіеўскага мітрапаліта, але дзейнічаў, відаць, па загаду вял. кн. літоўскага Альгерда, які падтрымліваў кандыдатуру Кіпрыяна). Д. быў кінуты ў вязніцу, дзе і памёр. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

*Літ.*: С о к о л о в П. Русский архиерей из Византии и право его назначения до начала XV в. Киев, 1913; К а з а к о в а Н.А., Л у р ь е Я.С. Антифеодальные еретические движения на Руси XIV — начала XVI вв. М.; Ленинград, 1955; Повесть о Митяе: (Русь и Византия в эпоху Куликовской битвы). Ленинград, 1979.

**Дэлямарс** Адам (9.8.1660, г. Люблін — 10.4.1729), дзеяч каталіцкай царквы, мастак. У 1678 уступіў у Кракаве ў ордэн езуітаў; ксёндз. Прафесар матэматыкі ў Сандаміры ў 1691—92, прэфект будоўлі касцёла і калегіума ў Берасці ў 1692—1702 (некаторыя мастацкія працы па ўпрыгожанні касцёла выканаў сам). Каля 1694—95 у якасці тэолага Тэрэзы Слушкі, жонкі віленскага кашталяна, суправаджаў з ёю польскую прынцэсу Тэрэзу Кунегунду Сабескую, выдадзеную замуж за баварскага курфюрста, наведаў таксама Бельгію і Францыю. Прапаведнік у Яраславе ў 1702—03, Львове ў 1703—04, Берасці ў 1704—06, 1708—09, 1712—16 і 1728—29, Любліне ў 1706—07 і 1727—28, Сандаміры ў 1707—08, Кросне ў 1709—10 і 1716—19, Раве ў 1710—11, Познані ў 1711—12, Краснымставе ў 1719—27.

*Літ.*: P a s z e n d a J. Jan Delamars — nieznany artysta małopolski na przełomie XVII i XVIII wieku // Biuletyn Historii Sztuki. 1966. № 2.

**Дэлямарс** Адам Казімір (7.9.1664, Вільня — 22.4.1735), дзеяч каталіцкай царквы. У 1679 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў; ксёндз. Вывучаў у Вільні філасофію ў 1681—84 і тэалогію ў 1688—92. Праф. рыторыкі ў Браневе ў 1692—93 і Пултуску ў 1693—95, філасофіі ў Варшаве ў 1696—98, прапаведнік у Вільні ў 1698—99 і Нясвіжы ў



1699—1702, прафесар філасофіі ў 1702—05 і тэалогіі ў 1705—6 у Вільні, схаластычнай і палемічнай тэалогіі ў Пінску ў 1706—07 і ў Вільні ў 1707—10, тэолаг жамойцкага біскупа Яна Згерскага ў Крожах у 1710—14, рэктар Крожскага калегіума ў 1714—17, рэгент Віленскай папскай семінарыі ў 1717—20, прафесар схаластычнай тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве ў 1720—27, інструктар 3-й прабацыі ў Нясвіжы ў 1727—30 і Вільні ў 1730—33, дэкан юрыд. факультэта Віленскай акадэміі ў 1733—35. Выдаў падручнік па фразеалогіі «Phrases ei cultiores loquendi modi» (Варашава, 1723; вядомы 9 выданняў). Быў знаўцам права, дарадчыкам біскупаў і магнатаў. Для пастановак школьных драм сам маляваў дэкарацыі.

**Дэлямарс** Ян (?—1690), віленскі людвісар. Мяркуецца, што паходзіў з Францыі, першапачаткова падпісваўся «Жан дэ Лямарш» (Jean de Lamarche). У 1656 у Караляўцы (Кёнігсбергу). Быў найб. плённым з людвісараў ВКЛ. Захаваліся звесткі пра 32 званы, адлітыя Д. у 1662—88, некаторыя з іх багата аздоблены арнаментамі, нясуць выявы святых. У 1662 вырабіў для Віленскай ратушы 1000-фунтавы гадзіннікавы звон. У 1665 у Біржах клапаціўся пра радзівілаўскія гарматы. Пасля адліваў званы для розных касцёлаў з усяго ВКЛ. У 1668 адліў 2 гадзіннікавыя званы для Віленскага касцёла св. Пятра і Паўла на Антокалі, у 1669 — багата арнаментаваны звон для Віленскага касцёла францысканцаў на Пясках, а таксама для дамініканскага кляштара ў Папорцях каля Трокаў і касцёла ў Кернаве, у 1670 — звон для касцёла ў Скарулях з выявай Найсвяцейшай Панны Марыі, у 1671 — звон для касцёла ў Шыдлаве ў Жамойці. У 1671—86 Д. адліў прынамсі 6 званоў для Віленскага кафедральнага касцёла (адзін з іх гадзіннікавы, найбуйнейшы важыў 6000 фунтаў). У 1672 па заказу бурмістра Юрыя Паўловіча Д. адліў звон для Віленскай Троіцкай царквы базыльян; гэта быў самы вялікі (вышыня 86 см, дыяметр 117 см) і прыгожы звон Д. У 1675 на сродкі троцкага ваяводы Марціна Агінскага Д. выканаў звон для Троцкага кляштара бернардзінцаў, у 1676 — 2 гадзіннікавыя званы для Пажайскага кляштара камедулаў (заказ Пацаў) і звон для Віленскага кляштара бернардзінак (заказ Сапегаў), у 1679 — звон для касцёла ў Альсядах, рэзідэнцыі жамойцкага біскупа Казіміра Паца, у 1680 — званы для аднаго з дамініканскіх кляштараў, для дамініканскага кляштара ў Расейнах, у 1681 — звон для Будслаўскага касцёла, у 1682 — 2 званы для касцёла ў Шаўлях у Жамойці і ў Відзах, у 1683 — звон для Віленскага дамініканскага касцёла св. Георгія, у 1684 — званы для касцёлаў у Саколцы, Кейданах, Скарулях і Слоніме, у 1688 — для касцёла ў Начы. Быў бацькам езуіта Адама Казіміра *Дэлямарса*.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 49—71.

**Дэшнер** (Deszner) Саламея (1759, г. Беласток — 20.3.1809), польская артыстка драмы і оперы, рэжысёр і антрэпрэнёр. Стваральніца першага пастаяннага тэатра ў Гародні. Выканаўца роляў маладых гераінь і субрэтак. З 1777 у Варшаўскім тэатры [у 1778 выступала ў «Ашчасліўленай галечы» (лібрэта В.Багуслаўскага, музыка М.Каменскага) — першай польскай оперы]. У 1785—90 працавала ў тэатрах Львова, Дубны, Вільні, у 1790—94 — Варшавы. З 1794 у Гародні, дзе ў 1802 стварыла тэатр, якім кіравала да канца жыцця.





**Евангелле вучыцельнае**, г а м і л і я р, зборнік *казанняў*, у якіх даецца тлумачэнне (павучанне) евангельскага (радзей таксама апостальскага) урыўка, што чытаўся ў царкве на пэўны дзень царк. года. Казанні ў Е.в., якія ўяўлялі сабой папулярызаваныя каментарыі да асобных біблейскіх месцаў (гаміліі), змяшчаліся на нядзелі і святы царк. календара. У зах. царкве Е.в. адпавядала *пастыла*, ад якой Е.в. адрознівалася разбіўкай біблейскіх урыўкаў на фрагменты, што раскідваліся па ўсім тэксце казання. У царк.-слав. пісьменстве найб. раннім Е.в. з'яўляецца кампіляцыйны зборнік, складальнікам якога лічыцца балгарскі епіскап Канстанцін Прэслаўскі (канец 9 ст.), казанні тут ахопліваюць толькі частку царк. года. Зборнік сустракаўся рэдка; часцей распаўсюджваліся асобныя вытрымкі з яго. На падставе візантыйскага гаміліяра 12 ст. царк.-слав. пераклад Е.в. быў здзейснены ў сярэдзіне 14 ст., відаць, у Балгарыі, пэўны час ён не меў асобнай назвы і распаўсюджваўся ў розным складзе тэкстаў, пазней зборнік пачаў прыпісвацца грэчаскім патрыярхам 14 ст. Калісту, Філафею і інш.; вытрымкі з гэтага зборніка распаўсюджваліся таксама асобна. Упершыню царк.-слав. Е.в. надрукавана як ананімны зборнік Іванам *Фёдаравым* і Пятром *Мсціслаўцам* у 1569 у Заблудаве, ананімна перавыдадзена Васілём *Гарабурдам* каля 1580, відаць, у Вільні, двойчы — друкарамі Мамонічамі ў 1595 у Вільні. Найб. поўным і папраўным лічыцца выданне Е.в. Львоўскага брацтва (Крылас, 1606), здзейсненае з улікам грэчаскага тэксту пад наглядам епіскапа *Гедэона* Балабана, тут зборнік упершыню быў прыпісаны канстанцінопальскаму патрыярху Калісту. Гэтае Е.в. актыўна перавыдавалася ў Маскве (1629, 1633, 1639, 1652, 1652, 1662, 1681, 1686, 1697). На аснове балгарскіх рукапісаў Е.в. было перакладзена на румынскую мову і надрукавана кірыліцай дыяканам Карэсі паралельна з царк.-слав. тэкстам (Брашаў, 1581).

Па прыкладу польскіх пастыл Мялецій *Сматрыцкі* пераклаў Е.в. на старабел. мову з выкарыстаннем польск. крыніц, яго пераклад быў надрукаваны Віленскім правасл. брацтвам у 1616 у Еўі. З некаторымі зменамі, але без згадкі пра Сматрыцкага, зборнік быў перавыдадзены ў 1637 у Кіеве пад наглядам *Пятра* Магілы, з новай назвай і дабаўленнем ілюстрацый і новых заўваг. Новае Е.в. склаў Кірыла Транквіліён Стаўравецкі (Рахманаў, 1619) шляхам кампіляцыі зах. і ўсх. гамілій і казанняў (часткова — уласнага сачынення). Выданне было асуджана правасл. царкоўнікамі ў Кіеве ў 1627 і хутка забаронена для продажу ў Масковіі, а некаторыя яго экзэмпляры там былі публічна спалены; пазней двойчы за год гэтае Е.в. было перавыдадзена Максімам *Вашчанкам* (Магілёў, 1697).

Пад уплывам польскіх і венгерскіх пастыл у 2-й пал. 16—пач. 18 ст. ў зах. Украіне з'явіўся новы тып Е.в., якое распаўсюджвалася на Лемкаўшчыне, Падоллі і ў Закарпацці ў рукапісах (вядома каля 100) сярод правасл. і уніяцкіх святароў, пераважна вясковых. Усе яны маюць блізкі, але нестабільны склад тэкстаў і ўяўляюць сабой перапрацоўкі царк.-слав. гамілій традыцыйнага Е.в. і польскіх казанняў (у асноўным




**Евангелле вучыцельнае**. Еўе. 1616. Тытульны ліст.



**Езна**. Касцёл Міхала Архангела і Яна Хрысціцеля.

з пастылы Мікалая Рэя), іх мова пераважна царк.-слав., з мноствам укр. рыс. Блізкія да іх т.зв. Нягаўскія павучэнні — зборнік гамілій, што ўзнік у канцы 16 ст. ў Закарпацці і адлюстроўвае пратэстанцкія ідэі.

*Публ.*: Поучение на евангелие по Няговскому списку 1578 г.: тексты. (Материалы для истории Угорской Руси: памятники церковно-религиозной жизни угрорусов XVI—XVII вв.) / Изд. А.Петров. п., 1921; Петров А. Отзвук реформации в русском Закарпатье XVI в. // Материалы для истории Закарпатской Руси. Прага, 1923. Т. 8; Петров А., Яворский Ю.А. Бодянское Учительное Евангелие // Věstník Královské české společnosti nauk. Třída filosoficko-historická, ročník 1935. Praha, 1936; Скотарське Учительне Євангеліє — український гоміліар 1588 року / Вид. М.Кочіш. Сомбатгей, 1997.

*Літ.*: Фіголь В. Учительне Євангеліє Кирила Транквіліона-Ставровецького // Богословія. 1939. Т. 17; Панькевич І. Ладомировське учительне Євангеліє // Науковий збірник товариства «Просвіта» в Ужгороді. Ужгород, 1923. Рок 2; Гонис Д. Цариградският патриарх Калист I и «Учителното евангелие» // Старобългаристика. 1982. № 2; Милованович Ч. Учитељно Јеванђеље патријарха Калиста у словенској и византијској књижевности // Зборник радова Византолошког института. 1983. Т. 22; Добросевич У. Мова і стиль рукописних Учительних Євангелій кінця XVI—початку XVII ст. Автореф. дис. ... канд. філолог. н. Львів, 1997; Чуба Г. Лінгво-текстологічний аналіз Учительних Євангелій другої половини XVI—першої половини XVII ст. Автореф. дис. ... канд. філолог. н. Львів, 1998; Чуба Е. Текстологическая классификация украинских учительных евангелий второй половины XVI века // Славяноведение. 2002. № 2; Janów J. Przyczynek do źródel ewangeljarza popa Andrzeja z Jarosławia: (przekład ruski Postylli M.Reja) // Prace Filologiczne. 1932. T. 15. Cz. 2; Frick D.A. Petro Mohyla's Revised Version of Meletij Smotryc'kuj's Ruthenian Homilary Gospel // American Contributions to the Tenth International Congress of Slavists: 1: linguistics. Columbus, 1988. ***Ігар Клімаў.***

**Ежы з Вільні** (Георгій з Вільні; каля 1405 або каля 1412—25.2.1464), дзеяч каталіцкай царквы. Мяркуецца, што быў ліцвінам шляхецкага паходжання. Ранняя яго біяграфія няпэўная. Атаясамліваецца з Георгіем, сынам Давыда, з Ліды, які ў 1427 запісаўся ў Кракаўскі ун-т (або з Георгіем, сынам Готарда, з Вільні, які запісаўся ва ун-т у 1420) і з канонікам віленскім Ежы з Дворышча (каля Ліды) у 1442—43. Архідыякан віленскі ў 1447—50. Біскуп жамойцкі з 1453. У 1463 пабудаваў у Ворнях (Медніках) драўляны кафедральны касцёл.

*Літ.*: Błaszczyk G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój. Poznań, 1993.

**Езна** (літ. Езнас, Jieznas, цяпер горад у Прэнайскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Ковенскім пав., на беразе воз. Езна. Упершыню ўпамінаецца ў 1492 як вялікакняжацкае ўладанне (двор, цэнтр воласці). У 1495 вял. кн. літ. Аляксандр падараваў Е. сваёй жонцы Алене Іванаўне, а тая ў 1507 — свайму служэбніку кн. Мацвею Мікіцінічу (гл. ў арт. *Галоўчынскія*). Пасля ўласнасць яго сына Яраслава, унуку Шчэнснага і праўнучкі Рэгіны, жонкі мсціслаўскага ваяводы Мікалая Кішкі. Апошнія прадалі Е. ў 1633 падканцлеру ВКЛ Стафану Пацу. Пасля мястэчкам валодалі яго сыны Станіслаў і Крыштоф Зыгмунт (1621—84), канцлер ВКЛ. Тут быў пабудаваны *Езнаўскі палац* — рэзідэнцыя Пацаў. У 1581 упершыню названа мястэчкам. У 1611 упамінаецца мясцовы кальвінскі збор, у сярэдзіне 17 ст. ён пераўтвораны ў *Езнаўскі касцёл Міхала Архангела і Яна Хрысціцеля*, які стаў фамільнай усыпальніцай Пацаў. У 1645 пры касцёле заснаваны шпіталь. У 1702, пад час *Паўночнай вайны 1700—21*, мястэчка разбурана. У 18 ст. мястэчкам валодалі Мікалай Андрэй Пац (памёр каля 1710), яго сын Крыштоф Канстанцін (памёр у 1725), унук Антоні Міхал (памёр у 1774) і праўнук Міхал (1754—1800). У 1710 атрымала прывілей на штотыднёвыя таргі і мыта. У 1776 у мястэчку 20 дымоў, 2 карчмы, 19 крам, вадзяны млын, тартак, шпіталь. З 1781 вядома школа. У час *паўстання 1794* Е. ўзята рас. войскамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Miškinis A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybės. T. 2, kn. 1. Vilnius, 2002.

**Езнаўскі палац**, рэзідэнцыя *Пацаў* у мяст. *Езна*. Першы палац пабудаваны ў сярэдзіне 17 ст. Перабудаваны і значна пашыраны ў сярэдзіне 18 ст. Антоніем Міхалам Пацам. Палац вызначаўся асаблівай раскошай. Паводле падання, колькасць залаў адпавядала колькасці месяцаў у годзе, колькасць пакояў — колькасці тыдняў, вокнаў было 365. Складаўся з 3 карпусоў, якія абкружалі адкрыты з аднаго боку дзядзінец. Гал., рэпрэзентацыйны корпус, што стаяў у цэнтры, быў прамавугольны ў плане, на высокіх, з вокнамі, сутарэннях. У сваёй асн. частцы ён быў 3-павярховы, бакавыя чаткі — 2-павярховыя. Гал. фасад быў раскрапаваны 4 пілястрамі, відаць, тасканскага ордэра. Гал. ўваход і вокны па баках яго, а таксама вокны на 3-м паверсе мелі паўцыркульнае завяршэнне. Над уваходам меўся невял. балкон з кава-

най жалезнай балюстрадай. Корпус быў увенчаны трохвугольным франтонам, у тымпане якога змешчаны ляпныя гербы «Газдава» (роду Пацаў) і «Трубы» (Радзівілаў). Бакавыя часткі гал. корпуса мелі больш сціплую дэкарацыю — дадатковае абрамленне прамавугольных вокнаў і рустоўку на вуглах. Да ўваходу вяла высокая і шырокая лесвіца. З тылу да вуглоў гал. корпуса прымыкалі 2 трохпавярховыя квадратныя вежы, вертыкальна падзеленыя міжпавярховымі гзымсамі і з карнізамі ўверсе. Паміж вежамі была зроблена тэраса з балконам, які падтрымлівалі мураваныя калоны. Гал. корпус быў накрыты 2-схільным дахам з паліванай дахоўкі стальнога колеру. Унутры ад гал. ўваходу адыходзілі 2 раскошныя, выкладзеныя мармурам, паўкруглыя лесвіцы, што вялі да вялізнага вестыбюля. Над ім была бальная зала з бакавымі буфетамі, упрыгожаная размалёўкамі італьянскага мастака на міфалагічныя сюжэты (музы, Апалон, Вакх, Селен і інш.). У бакавых частках гал. корпуса размяшчаліся жылыя пакоі ўладальнікаў палаца. Вокны і дзверы былі аздоблены мармурам. У інтэр'ерах шырока выкарыстоўвалася ляпніна і разьба па дрэве, часта пазалочаная. На 3-м паверсе мелася невял. капліца, упрыгожаная мармурам і пазалочанай ляпнінай у тэхніцы стука. Да вуглоў гал. корпуса прымыкалі крылы — Г-падобныя ў плане 2-павярховыя бакавыя карпусы. Яны мелі па 8 восей на лініі гал. корпуса, па 16 восей па баках. Аздабленне іх было больш сціплым, чым гал. корпуса, абмяжоўвалася міжпавярховымі гзымсамі, карнізамі. Былі накрыты 3-схільнымі дахамі. З тылу да палаца прылягаў французска-італьянскі парк (3 га). Пра палац хадзіла прыслоўе «Варты Пац палаца, а палац — Паца». Палац пацярпеў ад рас. войск у час *паўстання 1794*. Згарэў ад удару маланкі ў 1837. На працягу 19 ст. канчаткова разбурыўся, захвалася частка аднаго крыла ў перабудаваным выглядзе.

*Літ.*: Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. 2 wyd. Wrocław etc., 1992. T. 3.



**Езнаўскі палац**. Малюнак Н.Орды.

**Езяросы** (літ. Зарасай, Zarasai, цяпер горад, цэнтр Зарасайскага р-на, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Браслаўскім пав., паміж азёрамі Оса і Асіда. Належалі Віленскаму біскупству. Упершыню ўпамінаюцца ў 1522, калі пры Езяроскім касцёле заснавана алтарыя. У 1530 віленскі біскуп Ян з князёў літоўскіх дадаткова дараваў плябаніі ў Е. зямлю і сялян. У 1610 коштам Жыгімонта III у Е. пабудаваны новы драўляны касцёл. Е. пазначаны на Радзівілаўскай карце 1613 як мястэчка. У 1631 было 22 дымы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 разбураны. У 1674 касцёл адноўлены. У 1669 у Е. было 34 дымы, карчма, 5 вуліц. Е. разбураны ў час *Паўночнай вайны 1700—21*. З пач. 18 ст. ў ваколіцах Е. сяліліся стараверы з Расіі. У 2-й пал. 18 ст. заснавана школа. У 1721 і 1739 у Е. было 17 дымоў, у 1772 — 21 дым, у 1790 — 47 дымоў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Miškinis A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybės. T. 2, kn. 2. Vilnius, 2005.



**Елісей** Плецянецкі.

**Елісей** Плецянецкі [свецкае Аляксандр Фаміч; каля 1554, г. Львоў—29.10(8.11).1624], дзеяч праваслаўнай царквы. Удзельнічаў у брацкім руху ў Львове. Стаў святаром, у 1594 прыняў манаства. З 1595 архімандрыт *Пінскага Ляшчанскага манастыра*. У ліп. 1596 падтрымаў рух правасл. насельніцтва Пінска, якое пратэставала супраць заключэння царк. уніі і ўнесла ў Пінскі гродскі суд заяву, што не далучацца да мяркуемай уніі з каталіцкай царквой. Удзельнічаў у царк. саборы ў Берасці ў 1596, рашуча выступіў супраць заключэння уніі. У 1599 абраны архімандрытам Кіева-Пячэрскай лаўры (зацверджаны каралём Жыгімонтам III у 1605). Прыклаў шмат намаганняў для абароны маёмасных інтарэсаў лаўры ад прэтэнзій уніятаў і католікаў. Варагаваў з ігуменам Выдубіцкага манастыра уніятам Антоніем *Грэкавічам*, які ў

1618 забіты натоўпам. У 1620 дамогся ад канстанцінопальскага патрыярха Феафана пацверджання права лаўры на стаўрапігію (падпарадкоўвалася напрамую патрыярху), увёў тут агульнажыційны статут. Заснаваў у лаўры школу і друкарню, для якой адчыніў папяровы млын у Радамыслі, арганізаваў друкаванне царк. кніг і падручнікаў, для якіх пісаў прадмовы. Запрасіў у лаўру вядомых інтэлектуалаў (Захарыя Капысценскага, Памву Бярынду, Тарасія Земку, Лаўрэнція Зізанія і інш.). Займаўся вял. дабрачыннай дзейнасцю, падтрымліваў шпіталь. Садзейнічаў заснаванню Кіеўскага брацтва. На некаторы час даў у лаўры прытулак збегламу манаху Рыгору Атрэпьеву (Ілжэдзмітрыю I). Перад смерцю прыняў схіму з імем Яўфімій.

*Літ.*: Голубев С. Панегирик киево-печерскому архимандриту Елисею Плетенецкому 1618 года // Тр. Киевской духовной академии. 1910. № 6. С. 296—350; Титов Ф. Типография Киево-Печерской Лавры: Исторический очерк (1606—1616—1916 г.г.). Т. 1—2. Киев, 1918.

**Елісей Лаўрышаўскі**, праваслаўны святы 13 ст. Згодна з жыціем, якое захавалася толькі ў пераказе гісторыка 17 ст. Альберта *Каяловіча*, быў сынам кн. Траняты, займаў высокае становішча пры двары вял. кн. літ. Міндоўга. Прыняў праваслаўе, пакінуў прыдворную службу і пачаў весці самотнае манаскае жыццё ў пустыні. Да яго далучыўся інш. праваслаўны манах, разам яны заснавалі *Лаўрышаўскі манастыр*. Е.Л. быў забіты сваім слугою. Мошчы Е.Л. шанаваліся як цудатворныя, што вылечвалі душэўныя і цялесныя хваробы. Існавала легенда, што каля 1505 да Лаўрышаўскага манастыра наблізіліся крымскія татары, але ім падалося, што манастырскі дзядзінец запоўнены конніцай, і яны кінуліся наўцёкі. Гэты цуд быў прыпісаны Е.Л., і ён быў кананізаваны мітрапалітам Іосіфам II Солтанам на *Віленскім саборы 1514*. Падчас адной з войнаў мошчы Е.Л. схавалі ў зямлю, а пасля яны не былі адшуканы. Жыційны вобраз Е.Л. ў агульных рысах адпавядае князю *Войшалку*, які, згодна з Іпацьеўскім летапісам, заснаваў Лаўрышаўскі манастыр. Хроснае і манаскае імёны Войшалка невядомы, магчыма, адно з іх (манаскае?) было Елісей. У легендарнай частцы бел.-літ. летапісаў заснаванне манастыра прыпісана Лаўрашу, сыну кн. Рамана (Рыманта). Пасля Берасцейскага сабора 1596 Е.Л. як святога шанавалі уніяты (да сярэдзіны 17 ст.). Мясцовае пакланенне святому працягвалася і пазней, у 2-й пал. 19 ст. выклікала суд. працэс, які скончыўся забаронай культу Е.Л. Цяпер Е.Л. ўваходзіць у Сабор Бел. святых. Дзень яго памяці — 23 кастр. (5 ліст.). У Лаўрышаве і Навагрудку ўстаноўлены помнікі Е.Л.

*Літ.*: Огицкий Д.П. Великий князь Войшелк: (страница из истории Православия в Литве) // Богословские труды. М., 1983. Сб. 24; Мельников А.А. Путь непечален: исторические свидетельства о святости Белой Руси. Минск, 1992; Нікалаеў М. Палата кнігапісная: рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мінск, 1993. С. 134.




Помнік **Елісею Лаўрышаўскаму** ў г. Навагрудак.

**Ельскі** Аляксандр Вікенцій Карлавіч [16(28).6.1834, маёнтак Замосце каля в. Дудзічы Ігуменскага пав. — 10(22).9.1916], беларускі гісторык, географ, публіцыст, калекцыянер. З шляхецкай сям'і. Вучыўся ў гімназіі г. Лаздэне (Усх. Прусія), скончыў Мінскую гімназію (1852). Удзельнічаў у Крымскай (Усходняй) вайне 1853—56. Пасля пасяліўся ў сваім маёнтку Замосце. Быў міравым суддзёй. У час паўстання 1863—64 знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Прытрымліваўся ліберальных поглядаў, якія выказваў у шматлікіх публіцыстычных творах у рас. і польск. прэсе. Аўтар вял. колькасці краязнаўчых і гіст. артыкулаў у перыядычным друку, некалькіх вершаваных і празаічных творах на бел. мове. Напісаў звыш 10 тыс. гіст.-краязнаўчых артыкулаў пра бел. населеныя пункты для



«Польскай ілюстраванай энцыклапедыі» і «Слоўніка геаграфічнага Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін». Прымаў удзел у археал. з'ездах у Вільні (1893) і Рызе (1896). Даследаваў гісторыю вытворчасці кунтушовых паясоў у Слуцку, шкляную мануфактуру Радзівілаў ва Урэччы, б-ку Храптовічаў у Шчорсах. У Замосці сабраў вял. б-ку (10 тыс. кніг), мастацкую галерэю (каля 60 карцін, больш за 2 тыс. гравюр і малюнкаў), калекцыі стараж. рэчаў (зброя, фарфор, мастацкае шкло, слуцкія паясы і інш.).

*Тв.*: Нарыс па гісторыі Мінскай дыяцэзіі // Наша вера. 2002. № 4; 2003. № 1; Выбранае / Уклад. Н.Мазоўка, У.Казберука. Мінск, 2004; Выбранае // Веснік Бел. дзярж. ун-та. Сер. 4. 2005. № 2.

*Літ.*: Е л ь с к і У. На зямлі продкаў: Успаміны пра дзядзьку Аляксандра Ельскага з Замосця // Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік. Мінск, 1993. Вып. 3; Дзеля блізкіх і прышласці: Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Універсітэты Ельскіх» (да 165-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Ельскага): Мінск, 7 кастрычніка 1999 г. Мінск, 1999; К у ш н е р В. Аляксандр Вікенцій Ельскі (1834—1916) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мінск, 2000. Вып. 1.

**Ельскі** Кароль (?, Вільня? — да 1814), разьбяр, скульптар. З роду *Ельскіх*. У 1789 набыў камяніцу ў Вільні. Працаваў пераважна ў Вільні, дзе ўпрыгожваў касцёлы і палацы, у 1778—82 супрацоўнічаў з архітэктарам Карла *Спампані*. Упрыгожваў палацы Мараўскіх у Беліцы, Завішаў у Кухцічах, Дамініка Пшаздзецкага ў Заслаўі (кантракт заключаны ў 1781), Адама *Хмары* ў Сёмкаве Саламярэцкім (1778—80). Аздабляў Кухціцкі касцёл, Заслаўскі касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі (1779), Віленскі кафедральны касцёл (да 1793). Аўтар помнікаў Спампані ў Цаперскім базыльянскім манастыры каля Клецка (1783) і М.Завішы ў касцёле ў Кухцічах. Мяркуецца, што прыкладна ў 1779—81 працаваў у Беніцы: упрыгожваў інтэр'еры палаца Тадэвуша Коцела, выканаў яго надмагілле ў касцёле бернардзінцаў.

**Ельскі** Фларыян (13.7.1745, ВКЛ—?), палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. З роду *Ельскіх*, сын Ежы Ельскага, падчашага гарадзенскага. У 1759 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1763—66 вывучаў філасофію ў Навагародку. Выйшаў з ордэна ў 1766. Вывучаў тэалогію ў духоўнай семінарыі ў Янаве-Падляскім, стаў ксяндзом. Займаўся прыватным навучаннем. У 1788—93 выкладаў у школах Адукацыйнай камісіі ў Варшаве. У час Чатырохгадовага сойма 1788—92 належаў да групоўкі рэфарматараў, т.зв. Калантаеўскай кузні. Далучыўся да паўстання 1794 належаў да радыкальнай групоўкі т. зв. якабінцаў. Удзельнічаў у нар. дэманстрацыях, рабіў палымяныя казанні ў касцёлах. Пасля паўстання канонік інфлянцкі, падканцлер віленскага капітула.

**енерал**, г е н е р а л ь н ы  в о з н ы (лац. generalis ministerialis), судовы выканаўца ў ВКЛ у 16—18 ст., *возны*, кампетэнцыя якога не абмяжоўвалася пэўным паветам, дзе ён быў прызначаны, але распаўсюджвалася на ўсё ваяводства і ўсю дзяржаву. У Статут ВКЛ 1588 быў уключаны спец. артыкул пра Е. (раздзел 4, арт. 104: «О ввозном, которого по латине зовуть енерал»). Згодна з ім, у кожным павеце (ваяводстве) павінен быць адзін Е. з аселай шляхты, які ведаў бел. мову. Прызначаўся вял. князем па прадстаўленні ваявод, судовых старастаў і мясцовай шляхты, прыносіў прысягу ў павятовым земскім судзе. Пры выкананні судовых абавязкаў па-за межамі свайго ваяводства быў павінен мець пры сабе сведкаў са шляхты, як і звычайны возны. У Жамойці з-за яе велічыні Статут дапускаў існаванне двух Е.

**Епіфаній** С л а в і н е ц к і [пач. 17 ст.—19(29).11.1675], дзеяч правасл. царквы, пісьменнік, перакладчык. Нарадзіўся на Украіне або ў Беларусі, мяркуючы па прозвішчы, у мясцовасці з назвай, падобнай на Савянец. Не захаваліся звесткі пра яго сям'ю і хроснае імя. Імя Е. прыняў, калі прыняў манаства ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Як мяркуецца, вучыўся ў Кіеўскай брацкай школе, дзе вывучыў грэчаскую мову. Ведаў таксама лац. мову, якую, відаць, вывучыў у каталіцкім калегіуме. Выкладаў у Кіеўскай брацкай школе лацінскую і, магчыма, грэчаскую і царк.-слав. мовы. У 1649 па просьбе цара Аляксея Міхайлавіча накіраваны ў Маскву, дзе разам з Арсеніем Сатаноўскім арганізаваў у Андрэеўскім манастыры школу для падзячых для вывучэння лацінскай і грэчаскай моў. З 1651 жыў у Чудавым манастыры ў Крамлі. Займаўся рэдагаваннем новага царк.-слав. перакладу Біблії, які з яго прадмовай выйшаў у 1663. Падтрымліваў царк. рэформы патрыярха Нікана. Быў найб. адукаваным інтэлектуалам у Маскве ў сярэдзіне 17 ст., энцыклапедыстам. Пакінуў вялізную рукапісную спадчыну: 60 слоў-пропаведзяў, каля 40 кніжных сілабічных вершаў, некалькі канонаў, пахвальных слоў і інш. (у т.л. суцяшальнае пасланне да княгіні Радзівіл), пераклады багаслоўскіх тэкстаў, «Геаграфіі» Блаў, «Анатоміі» Везалія, «Грамадзянства звычаяў дзецкіх» Эразма Ратэрдамскага і інш. Склаў «Лексікон філалагічны» (тлумачэнне тэрмінаў Свяшчэннага Пісання), «Лексікон грэка-славена-лацінскі» (карыстаўся вял. папулярнасцю, захавалася некалькі яго спісаў). У Расіі не імкнуўся зрабіць кар'еры, меў чын іераманаха.

*Тв.*: Лексикон латинський Е.Славинецького, лексикон словено-латинський Е.Славинецького та А.Корецького-Сатановського / Підгот. до видання В.В.Німчук. Київ, 1973.

*Літ.*: У н д о л ь с к и й  В. Ученые труды Епифания Славинецкого // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1846. № 4; П е в н и ц к и й  В.Ф. Епифаний Славинецкий — один из главных деятелей русской духовной литературы в XVII в. // Тр. Киевской духовной академии. 1861. № 8—10; Б р а й л о в с к и й  С. Филологические труды Епифания Славинецкого // Рус. филол. вестн. 1890. № 2; Я г о  ж. Заметка о греко-славено-латинском словаре Епифания Славинецкого // Там жа. № 4; Р о т а р  И. Епифаний Славинецкий, литературный деятель XVII в // Киевская старина. 1900. № 12; Н і м ч у к  В.В. З лексикографічної спадщини Е.Славинецького // Лексикографічний бюлетень. Київ, 1961. Вип. 8; Б у л а х о в  М. Г. Восточнославянские языковеды. Т 1. Минск, 1976; Е л е о н с к а я  А.С. Человек и Вселенная в ораторской прозе Епифания Славинецкого // Развитие барокко и зарождение классицизма в России XVII—начала XVIII в. М., 1989; P o z d n e e v  A.V. Die Geistlichen Lieder des Epifanij Slavineckij // Die Welt der Slaven. 1960. № 3—4.

**Ердзівіл**, легендарны князь беларуска-літоўскіх летапісаў, гл. *Эрдзівіл*.



**Еўдаксія** (каля 1440—да 1472), ваяводзіна малдаўская, жонка ваяводы (гаспадара) Малдаўскага княства Стафана Вялікага, дачка кн. Алелькі Уладзіміравіча. Шлюб адбыўся 5.6.1464, калі бацька Е. ўжо памёр. Відаць, даючы згоду на гэты шлюб, кароль польскі і вял. кн. літ. Казімір IV імкнуўся да больш шчыльнага саюзу з Малдаўскім княствам, з якім у ВКЛ устанавіліся раўнапраўныя адносіны. Е. мела дачку Алену, якая 6.1. 1483 выдадзена замуж за Івана Іванавіча, сына вял. кн. маскоўскага Івана Васілевіча.

*Літ.*: Параска П.Ф. Молдавско-литовские отношения во второй половине XIV—XV в. // Проблемы источниковедения истории Молдавии периода феодализма и капитализма. Кишинев, 1983; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Tengowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Еўе** (літ. Вевіс, Vievis, цяпер горад у Тракайскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Тракайскім пав., на беразе воз. Вевіс. Упершыню ўпамінаецца ў 1539. У пач. 17 ст. ў кн. Лукаша Свірскага маёнтак Е. набыў правасл. магнат, падкаморы троцкі кн. Багдан Мацвеевіч Агінскі, на што ў 1607 атрымаў каралеўскі прывілей. Тут ён пабудаваў правасл. Успенскую і Вазнясенскую цэрквы з манастыром. У 1610 правасл. Віленскае Святадухаўскае брацтва, пазбаўленае магчымасці выдаваць кнігі ў Вільні, заснавала тут *Еўінскую друкарню* (Б.Агінскі быў старастам брацтва), якая да 1660 выдала 25 кніг на старабел. і польскай мовах. У 1619 Агінскі з жонкай Рэгінай Валовіч выдаў фундуш Еўінскай царкве, манастыру, школе і друкарні. У 1633 фундуш быў пацверджаны Рэгінай Валовіч, на той час ужо ўдавой, з дазволам пабудаваць млын з паперняй і адчыніць школу. Пасля яе смерці (да 1646) Е. перайшло да яе сына Аляксандра Агінскага, ваяводы менскага, пасля кашталяна троцкага. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* мястэчка разбурана. Працягвала належаць Агінскім. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Еўна** (?—1344?), вялікая княгіня літоўская, жонка вял. кн. літ. *Гедзіміна*. Упамінаецца толькі ў «Хроніцы Быхаўца» ў сувязі са смерцю («bo kniahinia Jewna umerla»). Літ. гісторык А.Нікжантайціс датуе гэту падзею 1344. Е. была гарантам парадка атрымання ў спадчыну велікакняжацкага трона, устаноўленага Гедзімінам. Згодна з яго жаданнем, трон дастаўся яго малодшаму сыну Яўнуту, што выклікала незадавальненне старэйшых сыноў. Толькі пасля смерці Е. Альгерд і Кейстут адважыліся на дзярж. пераварот і скінулі Яўнута. У гістарыяграфіі часам імя «Е.» неабгрунтавана даецца ў форме «Ева» (нават «Ева Іаанаўна», князёўна полацкая), што павінна было б сведчыць пра яе прыналежнасць да хрысціянства. Польскі генеалог Я.Тэнгоўскі мяркуе, зважаючы на літ. паходжанне імя «Е.», што яе шлюб з Гедзімінам быў заключаны яшчэ да заняцця апошнім велікакняжацкага трона, у супрацьлеглым выпадку вял. князь, хутчэй, заключыў бы шлюбны саюз з замежнай прынцэсай. Е. нарадзіла прынамсі 8 сыноў (Монвід, Нарымунт, Альгерд, Яўнут, Кейстут, Карыят, Любарт, Вітаўт) і 6 дачок (Эльжбета, жонка плоцкага кн. Вацлава; Марыя, жонка цвярскога кн. Дзмітрыя Міхайлавіча; Альдона, жонка польскага караля Казіміра III; Яўфімія, жонка галіцка-ўладзімірскага кн. Баляслава Юрыя II; Алена, жонка звянігарадскага кн. Андрыяна Цітавіча; Айгуста, жонка вял. маскоўскага кн. Сямёна Іванавіча Гордага).

*Літ.*: Tęngowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Еўпраксія**, вялікая княгіня літоўская, мяркуемая 1-я жонка вял. кн. Вітаўта. Упамінаецца ў прывілеі Вітаўта касцёлу ў Берасці, якому яна раней зрабіла падараванне. Дакумент Вітаўта вядомы толькі з цытаты, прыведзенай гісторыкам 19 ст. Т.Нарбутам, схільным да адвольнага абарачэння з гіст. крыніцамі, таму пытанне аб сапраўднасці існавання Е. застаецца адкрытым, тым больш, што інш. крыніцы першай жонкай В. называюць Марыю Андрэеўну, князёўну лукомскую і старадубскую.

*Літ.*: Wolff J. Ród Gedimina: Dodatki i poprawki do dzieł Hr. K.Stadnickiego: «Synowie Gedymina», «Olgierd i Kiejstut» i «Bracia Władysława Jagiełły». Kraków, 1886.

**Ефрасіння** (каля 1352—5.12.1405 або 5.12.1406), вялікая княгіня разанская, жонка вял. кн. Алега Іванавіча. Дачка вял. кн. літ. Альгерда і яго 2-й жонкі Юльяны Аляксандраўны (іх 2-е дзіця). У 1362 прывезена сваёй бабкай цвярской княгіняй Настассяй (жонка кн. Аляксандра Міхайлавіча) у Цвер, дзе яе ахрысціў мітрапаліт Аляксей. Магчыма, гэта было зроблена з разлікам на будучы шлюб з Алегам Іванавічам. Па падліках Т.Васілеўскага, Е. выдадзена замуж не пазней 1366. Паводле меркавання Я.Тэнгоўскага, шлюб быў арганізаваны Настассяй, каб падрыхтаваць паліт. ўмовы для пераходу Цвярскога княства ў рукі аднаго са сваіх сыноў. Е. была 2-й жонкай Алега Іванавіча. Перажыла мужа, які памёр у 1402. Перад смерцю прыняла манаства пад імем Еўпраксія. Іх дачка ў 1386 ужо была жонкай вял. кн. смаленскага Юрыя Святаславіча.

*Літ.*: Tęngowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.





**Жаба** Станіслаў (29.9.1710, ВКЛ—27.6.1774), дзеяч каталіцкай царквы. З роду *Жабаў*, сын Яна Казіміра Жабы, ваяводы менскага. У 1727 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1738 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Варшаве (1740—41), маральнай тэалогіі ў Полацку (1742—13), прэфект школ у Полацку (1743—15), Менску (1746—47), Нясвіжы (1747—49) і Навагародку (1749—51), віцэ-рэктар калегіума ў Менску (1751—52), рэктар калегіумаў у Віцебску (1753—59) і Крожах (1759—62), галава Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў (1763—66), рэктар калегіумаў у Гродне (1766—69) і Жодзішках (1769—72), рэгент Папскай семінарыі ў Вільні (1772—73). Быў прапаведнікам, аўтар акалічнасных казанняў.

**Жаброўскі** Антоній (17.1.1711—8.9.1767), дзеяч каталіцкай царквы. У 1728 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі ў Вільні (1743—45), філасофіі ў Менску (1745—17) і Нясвіжы (1748—51), прэфект школы, б-кі і друкарні ў Нясвіжы (1751—53), прафесар тэалогіі і кананічнага права ў Полацку (1754—55) і Варшаве (1756—58), пракуратар Мазавецкай правінцыі ордэна езуітаў (1759—60), рэктар калегіума ў Пултуску (1760—66). Аўтар кнігі «Казанне на пахаванні Кацярыны з Грабоўскіх Завішы» («Kazanie па pogrzebie Katarzyny z Grabowskich Zawiszyny», 1745).

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie / Oprac. A.Kawecka-Gryczowa. Wrocław; Kraków, 1959. S. 26, 27, 265.

**жалдакі**, ж о л д н і к і, жаўнеры, наёмныя вайскоўцы ў 16—17 ст., якія атрымлівалі плату за ваенную службу — жолд (ад польск. zold). Тэрмін ужываўся і ў Расіі ў дачыненні да палонных жаўнераў, захопленых у час баявых дзеянняў у ВКЛ.

**Жамойцкае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ у канцы 18 ст. Утворана замест Жамойцкага староства (гл. *Жамойць*) на Гарадзенскім сойме 1793. Было падзелена на Расейнскую, Шаўлінскую і Цельшэўскую землі (паветы). Ваявода прызначаны не быў. З-за пачатку *паўстання 1794* справа пераўтварэння староства ў ваяводства згубіла сваю актуальнасць і на практыцы не рэалізавана, аднак юрыд. Ж.в. скасавана не было.

**Жанчынскі** Габрыель (12.8.1664, Падляшша — 12.11.1737), натураліст, педагог. У 1682 уступіў у Кракаве ў ордэн езуітаў, з 1695 ксёндз. Вывучаў філасофію ў Калішы (1686—89) і тэалогію ў Кракаве (1692—96). Праф. рыторыкі ў Торуні (1697—98), Познані (1698—1700, 1701—02, 1704—06, 1710—15), Любліне (1700—01), праф. філасофіі ў Луцку (1702—04), прэфект школы ў Львове (1706—09), рэгент духоўнай семінарыі ў Сандаміры (1709—10, 1720—21), праф. Свяшчэннага Пісання і духоўнік у Гданьску (1715—19, 1724—37), праф. кананічнага права і маральнай тэалогіі ў Сандаміры (1719—20), рэктар калегіума ў Астрогу (1721—24), спавядальнік у Гданьскім калегіуме (1725—37). Для навучання рыторыцы выдаў кнігу «Gemmae antiquiorum quinquaginta et triorum poetarum» (Познань, 1700) — зборнік выпісак з твораў стараж. паэтаў, падабраных да пэўных шляхецкіх гербаў Рэчы Паспалітай (3-е выданне кнігі выйшла ў Познані ў 1715 пад назвай «Armamentarium Regni Poloniae seu Genti-


HISTORIA
NATURALIS
CURIOSA
REGNI POLONIÆ,
MAGNI DUCATUS LITUANIÆ,
ANNEXARUMq; PROVINCIARUM,
IN
TRACTATUS XX
DIVISA:
Ex
Scriptoribus probatis, servata primigenia eorum phrasi in locis plurimis, ex M. S. S. variis, Testibus oculatis, relationibus fide dignis, experimentis,
DESUMPTA
Operâ
P. GABRIELIS RZACZYNSKI Soc. JESU,
SANDOMIRIÆ.
Typis Collegii Soc. JESU. Anno 1721.

Г.**Жанчынскі**. «Цікавая натуральная гісторыя Польскага каралеўства, Вялікага княства Літоўскага і далучаных правінцый». Сандамір. 1721. Тытульны ліст.

litia nobilitatis Lechicae, Magnique Ducatus Lituaniae arma»). Шмат падарожнічаў па краіне. Аўтар першага вял. апісання прыроды Рэчы Паспалітай «Цікавая натуральная гісторыя Польскага каралеўства, Вялікага Княства Літоўскага і далучаных правінцый» («Historia naturalis curiosa Regni Poloniae, Magni Ducatus Litvaniae, annexarumque provinciarum», Сандамір, 1721) і «Дадатак да натуральнай гісторыі Польскага каралеўства, Вялікага Княства Літоўскага і далучаных правінцый» («Auctuarium historiae naturalis Regni Poloniae, Magnique Ducatus Lithvaniae, Annexarumque Provinciarum», Гданьск, 1742), дзе даў апісанне прыроды, раслін, жывёл, птушак, насякомых, рэк, гор, мінералаў. Дзякуючы багаццю сабранага матэрыялу і яго грунтоўнаму апісанню (у т.л. каля 360 відаў жывёл) Ж. лічыцца пачынальнікам заалогіі ў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: M a c i e s z a A. Gabriel Rzączyński pierwszy fizjograf polski. Sandomierz, 1921; F e d o r o w i c z Z. Fauna Polski w dziełach o. Gabriela Rzączyńskiego T.J. (1664—1737). Wrocław, 1966.

**Жасляй** (Žasliai), мястэчка ў Кайшадорскім р-не Літвы, гл. *Жослі*.

**Жлутка** Аляксандр Анатолевіч (н. 12.9.1954, в. Заполле Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл.), беларускі гісторык, літаратуразнавец. Канд. філалагічных навук (1990). Скончыў Львоўскі ун-т (1983). З 1996 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі НАН Беларусі. Даследуе лацінамоўную л-ру Беларусі, лацінамоўныя крыніцы па гісторыі ВКЛ, праблемы палеаграфіі і дыпламатыкі лацінскіх крыніц, гіст. анамастыкі, гісторыю ранняга хрысціянства на бел. землях. Адзін з аўтараў «Гісторыі даўняй беларускай літаратуры» (Мінск, 2006).

*Тв.*: Лацінская літаратура як феномен беларускай культуры // Спадчына. 1993. № 2; Езуіты на Беларусі: пошукі праўды // З гісторыяй на «Вы». Мінск, 1994. Вып. 2; Францішак Князьнін. Элегія да Бацькаўшчыны // Віцебскі сшытак. 1995. № 1; Лацінскія дакументы па гісторыі беларускіх і памежных тэрыторый XIII—XIV ст. з былога Кёнігсбергскага архіва // Вяртанне-6. Мінск, 1999; Міхал Карыцкі (1714—1781) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мінск, 2000. Вып. 1; Кароль Міндоўг і яго дзяржава ў дакументах папскай курыі XIII ст. // Бел. археаграфічны штогоднік. Мінск, 2003. Вып. 4; Mindowe, rex Lithowiae, in litteris et testimonies. = Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сьведчаньнях. Мінск, 2005; Метадычныя рэкамендацыі да выдання лацінскіх дакументаў XIII— XIV стст. Мінск, 2005; Пачаткі класічнай адукацыі ў Беларусі (X—XIII стст.): сэнс і форма // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе. Мінск, 2007.

**Жослі** (літ. Жасляй, Žasliai, цяпер мястэчка ў Кайшадорскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Троцкім пав., на беразе воз. Жосле. Згодна паданню, запісанаму ў бел.-літ. летапісах і храністам 16 ст. Мацеем Стрыйкоўскім, легендарны літ. кн. Кукавойт паставіў каля воз. Жосле на ўспамін па сваёй маці Паяце, дачцы Кернуса, яе драўляную фігуру, якую мясцовы люд лічыў багіняй; калі фігура спарахнела, на тым месцы выраслі ліпы, якія таксама лічыліся богам. У 15 ст. Ж. валодалі паны Нацы. Ян (?) Нац заснаваў парафіяльны касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі, св. Яна і св. Барбары (асвячоны віленскім біскупам Мікалаем з Дзежкава, 1453— 67). Яго сыны Міхал і Ян павялічылі касцельны фундуш. Касцёл існаваў да 17 ст., у 18 ст. пабудаваны новы. Відаць, у канцы 15 ст. Ж. перайшлі ва ўладанне роду Гаштольдаў. Належалі канцлеру Альбрэхту *Гаштольду*, які перадаў іх у пажыццёвае валоданне сваёй жонкі Соф'і з роду кн. Вярэйскіх. Пасля выгасання роду Гаштольдаў (1540-я г.) Ж. перайшлі да вял. кн. літ. Жыгімонта Аўгуста, які запісаў іх сваёй жонцы Барбары Радзівіл. У 1557 Ж. — гаспадарскае ўладанне, цэнтр воласці. У 1562 Жосленская дзяржава аддадзена ў трыманне пану Лукашу Леньскаму. На Радзівілаўскай карце 1613 пазначана як мястэчка. У 18 ст. Ж. былі цэнтрам нягродавага староства, якое перадавалася ў трыманне магнатам. У 2-й пал. 18 ст. імі валодаў канцлер Іахім *Храптовіч*. 12.1.1792 Ж. атрымалі прывілей на магдэбургскае права і герб з выявай снапа пшаніцы, над ім 2 анёлы, што трымаюць лаўровы вянок, усярэдзіне якога дэвіз «Ex mancipio libertas». Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Л ю б а в с к и й М. Литовско-русский сейм. Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900.

**Жукоўскі** (імя невядома; 1746?, г. Слуцк—пасля 1787), танцоўшчык. З мяшчан. Вучыўся ў балетнай школе Г.Ф.Радзівіла з 1756 (у А.*Пуціні* і Л.М.*Дзюпрэ*) і танцаваў у яго прыдворным тэатры ў Слуцку (дэбютаваў у 1758 у «Балеце на тры пары», лібрэта і пастаноўка Пуціні), а таксама ў Белай, гастраліраваў у Нясвіжы (1757, 1759). З 1760 саліст балета Нясвіжскага тэатра М.К.Радзівіла Рыбанькі (упамінаецца ў складзе трупы ў 1787).

**Жукоўскі** Антоній Шыман (1766?—1834?), камедыйны акцёр, антрэпрэнёр. У 1790—92 узначальваў польскія трупы ў Менску і Вільні. У 1795 стварыў трупу, якая выступала (на польскай і рус. мовах) у Магілёве і Шклове. Гастраліраваў у Гародні (1800, 1804—06), Менску (1801—04, 1811—34), Зэльве (1816).

*Літ.:* Б а р ы ш е в Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992. M i l l e r A. Teatr polski i muzyka na Litwie (1745—1865). Wilno, 1936.

**Жукоўскі** Міхал, гравёр 18 ст. Падрабязнасці жыцця і дзейнасці не захаваліся. На аснове датаваных яго прац можна меркаваць, што ў 1756—58 і 1760 працаваў у Кракаве, у 1759 — у Любліне. Мяркуецца, што жыў таксама ў Вільні. Стварыў медзярыты на тэмы пастановак Нясвіжскага тэатра Ф.У.*Радзівіл*, якія былі выкарыстаны ў кнізе «Камедыі і трагедыі» [«Komedye y Tragedye», Львоў (?), 1754]. У кнізе змешчаны 15 цэльналістavых гравюр Ж., некаторыя маюць пазнаку, што выкананы ў Львове. Гравюры зроблены з малюнкаў, што паказваюць тэатральную сцэну ў Нясвіжы з пастаноўкай спектакля. Аўтарам малюнкаў лічаць Я.Фрычынскага, які быў выдаўцом кнігі. Гравюры маюць невысокі мастацкі ўзровень, але з'яўляюцца цікавым іканаграфічным матэрыялам па гісторыі тэатра ВКЛ. Ж. рабіў таксама гравюры з выявамі святых і абразоў, шляхецкіх гербаў, відаў замежных гарадоў, міфалагічнымі сцэнамі.

*Літ.*: W i d a c k a H. Michał Żukowski i jego ilustracje do dzieła księżny Urszuli Radzwiłłowej // Rocznik Biblioteki Narodowej. Warszawa, 1997. T. 30—31.



**Жураўскі** Аркадзь Іосіфавіч (5.8.1924, в. Янава Талачынскага р-на Віцебскай вобл.— 9.1.2009), беларускі мовазнавец. Член-кар. НАН Беларусі (1980). Д-р філалагічных навук (1968), праф. (1970). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978). Скончыў БДУ (1950). З 1953 працаваў у Ін-це мовазнаўства НАН Беларусі. У 1959—60 чытаў курс лекцый па бел. мове ў Варшаўскім ун-це. У 1960—92 заг. сектара (аддзела) гісторыі бел. мовы Ін-та мовазнаўства НАН Беларусі, адначасова з 1974 быў намеснікам дырэктара, у 1983—89 — дырэктарам, у 1992—96 саветнікам пры дырэкцыі ін-та, з 1997 гал. навук. супрацоўнікам. У 1985—90 старшыня Бел. камітэта славістаў; чл. Міжнар. камісіі па слав. літаратурных мовах пры Міжнар. камітэце славістаў. Рэдактар штогодніка «Беларуская лінгвістыка». Даследаваў гісторыю бел. мовы, лексічныя і граматычныя асаблівасці бел. пісьмовых помнікаў, твораў Ф.Скарыны, С.Буднага, В.Цяпінскага, фарміраванне бел. літаратурнай мовы. Даказаў існаванне ў старабел. перыяд бел. варыянта царк.-слав. мовы. Распрацаваў канцэпцыю «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (гал. рэдактар вып. 1—14, Мінск, 1982—96). Адзін з аўтараў прац: «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (Мінск, 1957), «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (Мінск, 1970), «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (Мінск, 1979), «Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст.» (Мінск, 1988), «Мова выданняў Францыска Скарыны» (Мінск, 1990), удзельнічаў у складанні «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1—2, Мінск, 1961—62). Дзярж. прэмія Беларусі 1994 за цыкл прац «Скарына і беларуская культура».

*Тв.*.: Лексіка нямецкага паходжання ў беларускай пісьменнасці XV—XVII стст. // Беларуская мова. Мінск, 1965; Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мінск, 1967; Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання. Мінск, 1973 (разам з І.І.Крамко); Лексика тюркского происхождения в старобелорусском языке // Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974; Мова нашых продкаў. Мінск, 1983; О канцелярском языке Великого княжества Литовского // Ежегодник истории Литвы, год 1983. Вильнюс, 1984; Беларуска-іншаславянскі сінкрэтызм мовы выданняў Скарыны. Мінск, 1988 (з У.В. Анічэнкам); Мовазнаўства. Мінск, 1993; Праблемы норм беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1993.

*Літ.*: Булыка А.М., Паляшчук Н.В. Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі: (да 80-годдзя з дня нараджэння) // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2004. № 3; Паляшчук Н.В. А.І.Жураўскі: (да 80-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. Мінск, 2004. Вып. 54; Германовіч І.К. Беларускія мовазнаўцы. Т. 1. Мінск, 2006.

**Жывінбуд**, легендарны вялікі князь літоўскі і жамойцкі. Упамінаецца ў бел.-літ. летапісах як выхадзец з роду герба «Кітаўрас». Летапісы Румянцаўскі, Рачынскага і Альшэўскі адзначаюць, што Ж. стаў вял. князем літ. пасля смерці кн. Гіруса, але не ўказваюць хто быў бацькам Ж. Хроніка Быхаўца адзначае, што Ж. — быў сынам вял. кн. літ. Кернуса. Спачатку княжыў у Літве, а пасля смерці вял. кн. жамойцкага Вікінта — таксама ў Жамойці. У летапісах змешчана апавяданне, згодна з якім на новагародскага кн. Скірмунта напаў кн. луцкі і пінскі Мсціслаў, жадаючы яго выгнаць з вотчыны — гарадоў Новагародка, Гародні, Берасця, Мельніка. Скірмунт звярнуўся за дапамогай да Ж., які паслаў да яго свайго старэйшага сына Кукавойта з вял. сіламі (малодшы сын Ж. ў летапісах увогуле не названы). Войска Мсціслава было разбіта «на гэтым баку ракі Ясельды», але сам ён ўратаваўся ўцёкамі. Пасля вяртання Кукавойта Ж. хутка памёр, і Кукавойт зрабіўся вял. князем літоўскім і жамойцкім. Ж. меў жонку Паяту, якая памерла пасля мужа. Храніст 16 ст. М.Стрыйкоўскі лічыў бацькам Ж. кн. Даўспрунка (нашчадка Палемона), а яго спадчыннымі і жончынымі ўладаннямі — Кернаў, Вількамір, Дзяволтву, Літву паміж Невяжай і Віліяй. У «Хроніцы» Стрыйкоўскага змешчана яшчэ адно апавяданне пра ваенную дапамогу Ж.: у 1263 легендарны хан Кідан прыслаў да кн. Радзівіла баскакаў з патрабаваннем даніны, калі той захапіў землі Новагародскую, Берасцейскую, Падляшша і тэрыторыі да Мазыра. Радзівіл звярнуўся за дапамогай да братоў — жамойцкага кн. Вікінта і літ. кн. Ж., і тыя прыслалі свае войскі, якія дапамаглі перамагчы татараў.

*Літ.*: Улашчык Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Жыжмары** (літ. Жэжмарай, Žiežmariai, цяпер мястэчка ў Кайшадорскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Троцкім пав., на р. Стрэва. Упершыню ўпамінаюцца ў 1495 як велікакняжацкае ўладанне, якое вял. кн. літ. Аляксандр даў сваёй жонцы Алене Іванаўне. Пасля яе смерці ў 1513 Ж. перададзены вял. княгіні літ. і каралеве польскай Боне. У пач. 16 ст. пабудаваны драўляны касцёл св. Якуба-апостала, пры якім існавала школа. У 1522 Ж. ўпамінаюцца як горад. У 1518 Ж. былі ў заставе ў Яна Глябовіча, які саступіў іх у 1519 Яну Завішу, з 1524 заставым трымальнікам Ж. быў Павел Нарушэвіч, потым Сапегі і інш. У 1534 Ж. перададзены збегламу з Маскоўскай дзяржавы кн. С.Ф.Бельскаму (гл. ў арт. *Бельскія*), у 1549 — вял. княгіні літ. і каралеве польскай Барбары Радзівіл. У 1620 касцёл згарэў, быў адбudаваны, пасля разбураны разам з мястэчкам у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654— 67, яшчэ раз адбудаваны ў 1672. Мястэчка яшчэ раз было разбурана ў час Паўночнай вайны 1700—21. Хутка пасля 1740 касцёл зноў згарэў, у 1744 пабудаваны новы. У 16—18 ст. Ж. былі цэнтрам нягродавага стараства, якое звычайна знаходзілася ў трыманні магнатаў. У 1768 Ж. перададзены соймам у прыватную ўласнасць Пацеяў узамен за іх маёнтак Парэчча ў Полацкім ваяв., а Чатырохгадовым соймам 1788—92 абвешчаны вольным каралеўскім горадам. 14.2.1792 Ж. атрымалі ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага права на самакіраванне і герб з выявай святога біскупа Станіслава. У 1777 Ж. сталі «цэнтрам» Старадубскага пав., месцам правядзення соймікаў старадубскай шляхты-*эгзулянтаў*. Ініцыятарам перанясення «цэнтра» Старадубскага пав. з Вільні ў Ж. стаў надворны падскарбі ВКЛ А.*Тызенгаўз*, які спадзяваўся такім чынам кантраляваць старадубскую шляхту. Гэта рашэнне пацвердзіў у



1791 Чатырохгадовы сойм 1788—91, і дзейнічала яно да часу скасавання ў 1793 Старадубскага пав. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Ж. ў складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Miškinis A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybės. T. 2., kn. 2. Vilnius, 2005.

**Жэжмарай** (Žiežmariai), мястэчка ў Кайшадорскім р-не Літвы, гл. *Жыжмары*.

**Жэймы** (літ. Жэймяй, Žeimiai, мястэчка ў Ёнаўскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Ковенскім пав., на р. Ланкеса. Упершыню ўпамінаецца пад 1319 у «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага пры апісанні пераможнай бітвы вял. кн. літ. Гедзіміна над войскам крыжацкага маршалка Генрыха фон Плоцке. 1-е верагоднае ўпамінанне адносіцца да 1363, калі Ж. спалены крыжакамі вял. магістра Тэўтонскага ордэна Вінрыха фон Кніпродэ. Потым Ж. ўпамінаюцца пад 1365, 1379 і 1384. У 2-й пал. 15 ст. кароль польскі і вял. кн. літ. Казімір падараваў Ж. хану «Сихъдохъману» (відаць, хану Вял. Арды Сеід-Ахмеду). Маёнткам валодалі таксама яго сыны і ўнукі, якія прадалі Ж. панам Завішам, апошнія валодалі Ж. ў 16—пач. 17 ст. У пач. 16 ст. пабудаваны драўляны касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі. У 16 ст. ён перароблены на кальвінскі збор, пры якім адчынена школа. У пач. 17 ст. кароткі час дзейнічала друкарня, у якой Якубас *Маркунас* выдаў кнігу Паўла *Гілёўскага* «Выклад катэхізіса» («Wykład Katechizmu», 1605; некаторыя вучоныя мяркуюць, што кніга выдадзена ў Вільні). У 1631 у выніку судовага працэсу, распачатага касцельнымі ўладамі, збор перароблены на касцёл. У 1748 Ж. атрымалі прывілей на таргі, з 1777 вядома парафіяльная школа. У 17—18 ст. мястэчкам валодалі Мядэкшы, у 1780 набыта інфлянцкім біскупам Юзафам Касакоўскім (гл. ў арт. *Касакоўскія*), які ў 1787 пабудаваў тут палац. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.



**Жэймяй** (Žeimiai), мястэчка ў Ёнаўскім р-не Літвы, гл. *Жэймы*.

**Жэну** Абрагам Антоні (?—каля 1746), архітэктар, гл. А.А.*Гену*.



**заалогія**, навука пра жывёльныя арганізмы, адзін з раздзелаў біялогіі. Першапачаткова была шчыльна звязана з практычнымі інтарэсамі жывёлагадоўлі, палявання, медыцыны. У 12—13 ст. некаторыя звесткі па З. з'явіліся ў творах перакладной л-ры («Фізіёлаг», «Касмаграфія» Казьмы Індыкаплова, «Луцыдарыус»). У 16 ст. некаторыя звесткі па З. прыведзены ў творы Міколы *Гусоўскага* «Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго» («Carmen de statura feritate ac venatione bisontis», Кракаў, 1523), бел.-літ. летапісах, «Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» Мацея *Стрыйкоўскага* (Каралявец, 1582), у 17 ст. апублікаваны трактат *Міхалона Літвіна* «Пра норавы татараў, літвінаў і маскавітаў» («De moribus tartarorum, lituanorum et moschorum», Базель, 1615), дзе прыведзены дадзеныя пра хатніх і дзікіх жывёл, птушак і рыб ВКЛ. Быў надрукаваны дапаможнік па лячэнні коней К.М.*Дарагастайскага* «Гіпіка, альбо Кніга пра коней» (Кракаў, 1603). У Любчанскай друкарні П.Кміты ў 1617 і 1627 выдадзена кніга на польскай мове «Пра догляд і навучанне коней, пры гэтым лячэнне пры хваробах коней». У 1-й пал. 18 ст. найб. значны ўклад у З. Рэчы Паспалітай зрабіў ураджэнец Падляшша Габрыель *Жанчынскі* (1682—1737). У яго працах «Цікавая натуральная гісторыя Польскага каралеўства, Вялікага Княства Літоўскага і далучаных правінцый» («Historia naturalis curiosa Regni Poloniae, Magni Ducatus Litvaniae, annexarumque provinciarum», Сандамір, 1721) і «Дадатак да натуральнай гісторыі Польскага каралеўства, Вялікага Княства Літоўскага і далучаных правінцый» («Auctuarium historiae naturalis Regni Poloniae, Magnique Ducatus Lithvaniae, Annexarumque Provinciarum», Гданьск, 1742) апісана каля 360 відаў жывёл Рэчы Паспалітай. Працаваўшы ў 1775—83 у Гародні і Вільні натураліст Жан Эмануэль *Жылібер* даследаваў інфекцыйныя хваробы жывёл, напісаў некалькі навук. артыкулаў па біялогіі. З канца 18 ст. пытанні З. распрацоўваў прафесар Віленскага ун-та Станіслаў Баніфацый Юндзіл (гл. ў арт. *Юндзілы*), аўтар «Кароткага курса заалогіі» (ч. 1—3, Вільня, 1807).

*Літ.*: Развитие биологии на Украине. Т. 1. Киев, 1984; Очерки истории науки и культуры Беларуси IX — начала XX в. Минск, 1996; Iš mokslų istorijos Lietuvoje. T. 1. Vilnius, 1960.

**Забароўскі** Анзельм (8.4.1718, Мазовія — 9.12.1774), дзеяч каталіцкай царквы. У 1733 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1746 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Дарагічыне (1748—49), Нясвіжы (1749—50), Слуцку (1750—51), прапаведнік і прэфект б-кі ў Плоцку (1752—53), прэфект школы і б-кі ў Слуцку (1756—57) і Полацку (1762—63), міністр і прэфект будоўлі ў Менску (1763—64) і Бабруйску (1764—65), суперыёр у Мышыніцах (1765—73). Памёр у Нясвіжы. Выдаў кнігу «Усяслаўная Панна» («Tota pulchra Virgo foecundissima», Нясвіж, 1771).

**Забарскайтэ** (Zaborskaite) Ванда (н. 24.12.1922, в. Вашкай Пасвальскага р-на, Літва), літоўскі літаратуразнавец. Чл.-кар. Літ. АН, д-р філалагічных навук (1969), праф. (1973). Скончыла Вільнюскі ун-т (1946), дзе ў 1950—61 выкладала. У 1962—71 працавала ў Ін-це гісторыі АН Літ. ССР. З 1971 выкладала ў Вільнюскім педагагічным ін-це (цяпер Вільнюскі педагагічны ун-т). У 1992—94 дырэктар Дэпартамента развіцця Міністэрства культуры і адукацыі, пасля чл. Генеральнай рады развіцця Міністэрства адукацыі і навукі. Даследуе літоўскі тэатр 16—18 ст., гісторыю літ. л-ры 16—20 ст. Аўтар кніг «Мастацтва рыфмавання» («Eilėraščio menas», Вільнюс, 1965; 3 выд. 2002), «Сто літаратурных загадак» («Šimtas literatūros mįslių», Вільнюс, 1966; 2 выд. 1983), «Майроніс» («Maironis», Вільнюс, 1968; 2 выд. 1987), «У вытокаў літоўскага тэатра: школьны тэатр XVI—XVIII стст.» («Prie Lietuvos teatro istakų: XVI—XVIII a. mokyklinis teatras», Вільнюс, 1981), «Уводзіны ў літаратуразнаўства» («Literatūros mokslo įvadas», Вільнюс, 1982), «Паміж гісторыяй і сучаснасцю: літаратура, успаміны, публіцыстыка» («Tarp istorijos ir dabarties: literatura, atsiminimai, publicistika», Вільнюс, 2002) і інш.



*Літ.*: L u k š a i t ė I. Vandos Zaborskaites 80-mečio sukaktis // Lietuvos istorijos metraštis, 2002 metai. Vilnius, 2004. T. 2.

**Забельскія зборнікі**. Складзены на бел., польскай і лацінскай мовах выкладчыкамі *Забельскага дамініканскага калегіума* (фальварак Забелы каля в. Валынцы Полацкага ваяв., цяпер Верхнядзвінскі р-н) у 1787—91 для мясц. школьнага тэатра. Рукапісныя. Уключаюць камедыі і трагедыі «Свабода ў няволі» і «Камедыя» К.*Марашэўскага*, «Доктар па прымусу», «Сапар», «Фемістокл», «Камедыя» і «Шлюб, пастаўлены дагары нагамі штучкамі арлекіна» М.*Цяцерскага*, «Пышнагольскі» і «Крэз» І.Юрэвіча, аперэту «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас» (тэкст Цяцерскага, музыка Р.Вардоцкага) і сцэнічныя дыялогі «Сяброўская парука», «Пчолы», «Пра ашчаслíўленне чалавека», вершаваныя канты, віншаванні і падзякі А.Козела, Г.Скораня, А.Зубрыцкага, М.Косава, Г.Паўловіча (магчыма, вучні калегіума). Большасць твораў, што ўзніклі ў забельскім асяроддзі, асветніцкія па ідэі і класіцысцкія па стылю. Зборнікі зберагаюцца ў Цэнтр. б-цы АН Літвы.

*Літ.*: М а л ь д з і с А.І. Забельскі школьны тэатр // Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мінск, 1980.

***Адам Мальдзіс.***

**Заблоцкіс** (Zablockis, Заблоцкі) Юргіс (Юрый; каля 1510, в. Забалоцце Лідскага пав., цяпер в. Забалаць Воранаўскага р-на—1563), літоўскі дзеяч культуры, паэт-перакладчык. З 1528 вучыўся ва ун-тах Кракава, Вітэнберга, Караляўца, Цюбінгена. Даваў прыватныя ўрокі дзецям магнатаў. У 1541—42 выкладаў у школе Абрагама *Кульвяца* ў Вільні. Перакладаў на літ. мову рэліг. песні, з якіх адна («Litanija naujai suguldyta») надрукавана ў кнізе Марцінаса *Мажвідаса* «Простыя словы катэхізіса» («Catechismvsa prasty szadei», Каралявец, 1547) і ў зборніку «Спевы хрысціянскія» («Giesmės krikščioniškos», 1570), а другая — у зборніку 1570. Памёр у Цюбінгене.

**Заборскі** (сапр. І в а н а ў) Пётр (?— 1665), майстар-цаніннік, чаканшчык і ювелір. Паходзіў з Беларусі. У 1658— 65 узначальваў арцель бел. майстроў (І.*Максімаў*, *Палубес*, Ф.Чука і інш.), якія стварылі вонкавае ўбранства і аздабленне інтэр'ера Васкрасенскага сабора Нова-Іерусалімскага манастыра пад Масквой шматкаляровымі паліванымі кафлямі.

**Завітневіч** Уладзімір Зянонавіч [2(14).4.1853, в. Ліцвяны Мінскага пав.—люты або сак. 1927], беларускі гісторык, археолаг, філосаф. Д-р царк. гісторыі (1897). Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1875), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1879). У 1879—83 выкладаў у Варшаўскім духоўным вучылішчы. З 1884 дацэнт, з 1899 экстраардынарны, у 1904—11 ардынарны праф. Кіеўскай духоўнай акадэміі па кафедры рускай грамадзянскай гісторыі, аначасова выкладаў у Кіеўскім ін-це шляхетных дзяўчат і на Кіеўскіх агульнаадукацыйных сярэдніх вечаровых жаночых курсах. У 1880—90-я г. ўваходзіў у групу бел. інтэлігенцыі (М.В.Доўнар-Запольскі, Я.А.Ляцкі, Д.М.Мейчык і інш.), што гуртавалася вакол газеты «Минский листок», вывучала гісторыі і этнаграфію Беларусі. Член Гіст. таварыства Нестара-летапісца, Маскоўскага археал. таварыства, Царк.-археал. таварыства пры Кіеўскай духоўнай акадэміі, камісіі па зборы стараж. актаў і інш. У 1918 чытаў лекцыі на курсах беларусазнаўства, што арганізавала культ.-асветная секцыя Бел. вайсковай рады ў Кіеве. Быў дэлегатам Памеснага сабора рус. правасл. царквы 1917—18, кандыдатам на пасаду прафесара Бел. ун-та, які планаваў утварыць урад БНР. У 1917—27 супрацоўнічаў з Усеўкраінскай АН. Даследаваў каля 700 курганоў *дрыгавічоў* у 82 могільніках пераважна ў Бабруйскім, Мазырскім, Рэчыцкім паветах. Вызначыў межы рассялення дрыгавічоў, іх этнавызначальныя прадметы. На 9-м археал. з'ездзе ў Вільні (1895) выступіў з дакладам пра формы пахавальнага абраду ў курганах Мінскай губ. Шэраг прац прысвяціў царк. гісторыі, дзейнасці першых славянафілаў і інш. У магістэрскай дысертацыі «Палінодыя Захарыя Капысценскага і яе месца ў гісторыі заходнярускай палемікі XVI і XVII стст.» («Палинодия Захарии Копыстенского и ее место в истории западнорусской полемики XVI и XVII вв.», Варшава, 1883) зрабіў агляд палемічнай л-ры пра Берасцейскую унію 1596. Выступаў за рэформы царк. жыцця, не пагаджаўся з вольным абыходжаннем з гіст. фактамі, іх фальсіфікацыяй.

*Тв.*: О значении западнорусской богословско-полемической литературы конца XVI и начала XVII вв. и месте, занимаемом в ней «Палинодией» Захарии Копыстенского // Христианское чтение. 1884. Кн. 1—2; Судебный процесс пушкарей Могилевского королевского замка с городским магистратом и сооружение городских укреплений в г. Могилеве // Тр. Киевской духовной академии. 1886. Кн. 1; К вопросу о рукоположении в Киевские митрополиты Св. Макария и о месте его мученической кончины // Там жа. 1890. Кн. 1; К вопросу об историческом призвании русского народа. Киев, 1893; Замок кн. Симеона Олельковича и летописный Городец под Киевом // Чтения в Ист. о-ве Нестора-летописца. Киев, 1893. Кн. 5; Высшее начало, положенное в основу западнорусских братств, и причины стремления последних к ставропигиальности // Там жа. Киев, 1902. Кн. 16, вып. 4; Вопрос о падении Польши в польской историографии // Славянское обозрение. Санкт-Петербург, 1894. Алексей Степанович Хомяков. Т. 1—2. Киев, 1902—13; Значение великой Московской смуты в общем ходе политического развития допетровской Руси. Киев, 1908; Вопрос о народности в его научной постановке // Тр. Киевской духовной академии. 1912. Кн. 5.

*Літ.*: К и с е л е в В.Н. Исследователь внимательный и трудолюбивый: о жизни и деятельности историка и богослова, профессора В.З.Завитневича. Минск, 2007 [змешчана бібліяграфія прац З.].

***Уладзімір Ляхоўскі.***

**загадкі**, кароткае вобразнае, іншасказальнае апісанне рэчы, з'явы, прадмета, якое трэба адгадаць. Як жанр фальклору З. шырока распаўсюджаны ў беларусаў, літоўцаў, украінцаў, рускіх, палякаў са стараж. часоў. Сярод іх метафарычныя і алегарычныя З. пра з'явы прыроды, расліны і жывёлы, чалавечую дзейнасць і рэчы. У адрозненне ад інш. малых жанраў фальклору — прыказак і прымавак, якія запісваліся пачынаючы з 17 ст., З. позна звярнулі на сябе ўвагу літаратараў ВКЛ. Запісы З. вядомы з 18 ст. У рукапісе 18 ст. з Б-кі АН Літвы (фонд 199, справа 11) запісаны 120 З. на польскай і лацінскай мовах. Белетрызаваныя З. выкарыстоўваў у сваіх фацэцыях Кароль *Жэра*.

*Літ.*: Загадкі / Скл. М.Я.Грынблат, А.І.Гурскі. Мінск, 1972; Гілевіч Н.С. Паэтыка беларускіх загадак. Мінск, 1976; Карский Е.Ф. Белорусы. Т. 3, кн. 1. Минск, 2007; Mįslės iš XVIII amžiuje Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje sukurtos rankraštinės knygos / Parenge D.Burba // Tautosakos darbai. Vilnius, 2007. T. 33.

**Загальская бітва 1649**. Адбылася 17 чэрв. каля мяст. Загалле Мазырскага пав. (цяпер в. Загалле, Хойніцкі р-н) паміж падраздзяленнямі войска ВКЛ і казацка-сял. атрадам пад кіраўніцтвам І.*Галоты* ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Галота атрымаў ад Б.Хмяльніцкага булаву наказнога гетмана і шырокія паўнамоцтвы. Перад войскам Галоты была пастаўлена задача ўзяць пад кантроль пераправы цераз Дняпро і Прыпяць і авалодаць Рэчыцай. Гэты павятовы цэнтр мусіў стаць адпраўным пунктам для далейшага заваявання зямель ВКЛ, Магілёва і Вільні. Пасля перад запарожцамі ставілася задача ўваходу ў Польшчу, дзе планавалася аб'яднанне з асн. войскам Хмяльніцкага. Пагалоска аб тым, што Галота «за заслугі свае выпрасіў быў сабе» ў Хмяльніцкага ВКЛ, дайшла нават да Варшавы, што адзначае ў сваіх успамінах А.С.*Радзівіл*. Напрыканцы мая казацкае войска водным шляхам па Дняпры скіравалася да Чарнобыля, адтуль па Прыпяці на чаўнах дасягнула в. Краснаселле (цяпер Хойніцкі р-н), дзе высадзілася на пач. чэрвеня. З Краснаселля казакі пры дапамозе мясцовых сялян патаемнымі сцежкамі рушылі на мяст. Загалле, дзе размяшчаўся моцны гарнізон войска ВКЛ пад камандаваннем ротмістра В.Фаленцкага. Колькасць войска Галоты застаецца дыскусійнай (ад 3 да 30 тыс. чал., паводле найб. верагодных падлікаў — 5—10 тыс. чал.). Ядро войска складалі 2 тыс. ўкр. і 1 тыс. данскіх казакоў. Да казакоў у вял. колькасці далучыліся мясц. паўстанцы. Асн. частка казацка-сял. войска складалася з пехацінцаў, кавалерыі практычна не было. Галота не мог разлічваць на перамогу ў адкрытым баі, таму было прынята рашэнне знішчыць шляхецкі гарнізон у Загаллі ўначы, незаўважна ўвайшоўшы ў мястэчка. Паўстанцкае войска было падзелена на 3 атрады, невял. група казакоў накіравалася ў Загалле пад выглядам мясц. сялян, якія прывезлі для гарнізона харчаванне. Задачай гэтай групы было знішчыць варту і захапіць уязную браму. Пад час набліжэння дыверсійнай групы да мястэчка ў аднаго з казакоў стрэліў самапал, што дазволіла варце своечасова падаць сігнал небяспекі. Галота, разумеючы, што губляе ініцыятыву, неадкладна павёў сваё войска на штурм мястэчка, аднак неабучаныя паўстанцы не здолелі разабрацца ў сітуацыі і пачалі біцца адзін з адным. Страта фактару раптоўнасці ў цэлым вызначыла далейшы зыход бою. Казакі прымусілі жаўнераў адысці за гар. ўмацаванні, але там гарнізон здолеў сканцэнтравацца і адбіць націск. Асабліва вызначылася пры гэтым урадавая пяхота пад кіраўніцтвам Данавая, якая здолела адкінуць атакуючых. У адкрытым полі пешыя казакі апынуліся ў пройгрышнай сітуацыі супраць 4 харугваў лёгкай кавалерыі ВКЛ ротмістра Смольскага, які ўдарыў па левым флангу паўстанцаў. Казакі здолелі вытрымаць атаку кавалерыі, аднак падышоўшы з тылу атрад лёгкай кавалерыі ВКЛ пад камандаваннем паручніка Сасноўскага вырашыў зыход бітвы. Шэрагі паўстанцаў змяшаліся, левы іх фланг, а затым і цэнтр кінуўся наўцёкі да бліжэйшых лясоў і балот, дзякуючы чаму каля 1 тыс. паўстанцаў удалося ўратавацца. Панічнае адступленне асн. сіл паўстанцаў паставіла ў крытычнае становішча атрад самога Галоты на правым флангу. Ён быў прыціснуты да гар. паркана, адкуль з вял. стратамі здолеў адысці да балота, дзе да гэтага часу акапалася частка казакоў. Тут паўстанцы наладзілі абарону, адбілі некалькі штурмаў урадавага войска. Казакі паспрабавалі пачаць перамовы аб дазволе іх уходу без харугваў, але са зброяй, аднак гэтыя прапановы былі адвергнуты. Паўстанцы здолелі пратрымацца да заходу сонца. Уначы яны адышлі патаемнымі балотнымі сцежкамі, пакінуўшы параненага Галоту ў апусцелым лагеры. Страты казацкага войска аказаліся вельмі значнымі: «трупаў налічылі тысячу на чатыры курганы, а на пяты яшчэ збіраюць па розных месцах». Разгром войска Галоты сарваў планы Хмяльніцкага па авалоданні тэр. ВКЛ, у пэўнай меры стрымаў рост паўстанцкага руху на Беларусі.

*Літ.*: Белоруссия в эпоху феодализма: сб. документов. Т. 2. Минск, 1960; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978; Мыцык Ю. Палкоўнік Ілля Галота і Загальская бітва 1649 г. ў святле новых дакументаў // Спадчына. 2002. № 5—6; Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Radziwiłł A.S. Pamiętniki. T. 2. Poznań, 1889; Lipiński W. Stanisław Michał Krzyczewski: z dziejów walki szlachty ukraińskiej w szeregach powstańczych pod wodzą Bohdana Chmelnickiego. Kraków, 1912.

***Станіслаў Чаропка.***

**Заленскі** (Załęski) Станіслаў (11.9.1843, Кракаў — 23.8.1908), польскі гісторык. У 1857 уступіў у ордэн езуітаў. Вывучаў філасофію ў калегіуме ў Старой Весі (1861—64) і тэалогію ў калегіуме ў Кракаве (1867—69). Браў прыватныя ўрокі гісторыі. Праф. польскай л-ры (з 1864) і лацінскай мовы (з 1869) у калегіуме ў Цярнопалі. У 1871—74 і 1876—79 прапаведнік і супрацоўнік часопіса «Przegląd Lwowski». У 1875—76 праводзіў даследаванні ў архівах Францыі. У 1879—81 праф. л-ры і гісторыі Польшчы ў калегіуме ў Цярнопалі. З 1881 прапаведнік у Кракаве, супрацоўнічаў з часопісамі «Misji Kaloticke» і «Przegląd Powszechny». У 1885—92 суперыёр езуіцкага калегіума св. Барбары ў Кракаве, у 1893—95 — калегіума ў Новым Сончы. У 1894—95 даследаваў архівы ў Рыме. Пасля жыў у Новым Сончы, у 1899—1902 суперыёр калегіума ў Львове, пасля зноў у Новым Сончы. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі езуітаў у Рэчы Паспалітай. Гал. праца — «Езуіты ў Польшчы» («Jezuici w Polsce», т. 1—5, Кракаў, 1900—06), утрымлівае багаты архіўны матэрыял па гісторыі ордэна езуітаў у ВКЛ, іх касцёлах і калегіумах у Полацку, Нясвіжы, Менску, Гародне, Пінску, Берасці і інш. гарадах Беларусі.

*Тв.*: Czy jezuici zgubili Polską? Lwów, 1872; Historia zniesienia jezuitów i jego zachowanie na Bialej Rusi. Cz. 1—2. Lwow, 1874—75; O masonii w Polsce od roku 1742 do 1822 na źródłach wyłącznie masońskich. Kraków, 1889.

*Літ.*: Rzepiński S. Ks. Stanisław Załęski. Kraków, 1908.



**Залескі** (З а л е ў с к і) Крыштоф (каля 1591, Мазовія—4.6.1660), дзеяч каталіцкай царквы. У 1608 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прэфект школы ў Оршы (1621—24), місіянер у прускай арміі Пёцінга (1627—29), рэктар калегіумаў у Оршы (1630—36) і Нясвіжы (1635—37), прыдворны місіянер канцлера ВКЛ Альбрэхта Станіслава Радзівіла (1638—50) і куяўскага біскупа Мікалая Войцеха Гневаша (1651—54). У час войнаў Рэчы Паспалітай з Расіяй і Швецыяй выехаў у Вену. У 1660 прыдворны місіянер графа Пёцінга ў Варадыне. Выдаў панегірычнае казанне на пахаванні Альбрыхта Уладзіслава Радзівіла «Dokonanie pobożne przy pańskim pożyciu JO księcia JMCD Albrychta Władysława Radziwiłła», Вільня, 1637).

**Залівака** Стафан (каля 1617, Беларусь — 26.4.1667), дзеяч каталіцкай царквы. У 1634 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. Свяшчэннага Пісання ў Вільні (1652—53), віцэ-рэктар калегіума ў Нясвіжы (1657—58), прэфект школы ў Навагародку (1664— 67). Быў прапаведнікам у час кадэнцый Трыбунала ВКЛ у Навагародку. Аўтар панегірыкаў.

**Зарасай** (Zarasai), горад, цэнтр Зарасайскага р-на Літоўскай Рэспублікі, гл. *Езяросы*.

**Заруцкі** (Заруцкий) Іван Мартынавіч (?, г. Тарнопаль, цяпер Цярнопаль, Украіна—восень 1614), расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Паходзіў з простага роду. У дзяцінстве трапіў у татарскую няволю. Збег да данскіх казакоў, у якіх стаў атаманам. Са з'яўленнем у межах Расіі Лжэдзмітрыя I далучыўся да яго, разам з яго сіламі прыйшоў у Маскву (1605), а пасля гібелі самазванца (1606) вярнуўся на Дон. Узначаліў данскіх казакоў у паўстанцкіх войсках Івана Балотнікава, разам з якімі вытрымаў аблогу ў Туле. Адсюль быў пасланы на пошукі «цара Дзмітрыя». У Старадубе З. далучыўся да Лжэдзмітрыя I і стаў блізкім яму чалавекам. За папаўненнем адправіўся на Дон, увесну 1608 прывёў у Арол 5-тысячны атрад. Быў адным з камандуючых войск Ілжэдзмітрыя II у час новага паходу на Маскву. У 1609 спыніў войска Васіля Шуйскага на р. Хімка, ўратаваўшы Тушынскі лагер самазванца. Атрымаў ад яго чын баярына. Пасля ўцёкаў самазванца ў студз. 1610 у Калугу З. далучыўся да войск караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта III, што трымалі ў аблозе Смаленск (гл. *Вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*). У складзе войск Станіслава *Жалкеўскага* ён накіраваўся ў Маскву, але па дарозе пасварыўся з ім. Пайшоў у Калугу да Лжэдзмітрыя II, з якім быў да яго гібелі ў снеж. 1610. У пач. 1611 меркаваў далучыцца да войска Паўла Стафана Сапегі (гл. ў арт. *Сапегі*), з якім уступіў у перагаворы, але ўрэшце далучыўся са сваімі войскамі да 1-га апалчэння 1611, стаў фактычным галавой земскага ўрада. У канцы 1611—пач. 1612 вёў пад Масквой ваенныя дзеянні супраць войск Рэчы Паспалітай. Аднак лічыў законным пераемнікам рас. трона малалетняга сына Лжэдзмітрыя II (сябе бачыў рэгентам) і пачаў барацьбу з 2-м апалчэннем 1611—12. У ліп. 1612 са саімі казакамі і Марынай Мнішак пайшоў на Разаншчыну. У 1615 разбіты войскамі цара Міхаіла Фёдаравіча пад Варонежам, збег у Астрахань, пасля на р. Яік, дзе быў выдадзены ўрадавым войскам. Пакараны смерцю ў Маскве.

*Літ.*: Д о л и н и н Н.П. Подмосковные полки (казацкие «таборы») в национально-освободительном движении 1611—1612 гг. Харьков, 1958; С т а н и с л а в с к и й А.Л. Гражданская война в России XVII в.: казачество на переломе истории. М., 1990; Т ю м е н ц е в а И.О. Смута в России в начале XVII ст.: движение Лжедмитрия II. Волгоград, 1999; К а р г а л о в В. Московские воеводы XVI—XVII вв. 2 изд. М., 2006.

**Зарэцкія**, віленскія мяшчане, мецэнаты, дзеячы культуры. Прозвішча ад маёнтка Зарэчча (Пойсрэ) ва Упіцкім пав. (адсюль прозвішча). Магчыма, былі адаптаваны Львом Сапегам, карысталіся яго гербам «Ліс».

І в а н С я м ё н а в і ч (?—да 2.9.1584), віленскі бурмістр, скарбны гаспадарскі ў 1556—84, ключнік і падключы віленскі з 1561, староста ўпіцкі з 1571. У 1561 атрымаў прывілей Жыгімонта II Аўгуста на пабудову «ку пожитку шпитальному» 2 вольных ад павіннасцей дамоў пасля пажару на зямлі Віленскай Спаскай царквы. Валодаў некалькімі дамамі ў Вільні і маёнткамі, некаторыя з якіх прадаў Луке Мамонічу (камяніцу ў Вільні, Свіраны і інш.). Лука Мамоніч ажаніўся з дачкой Івана Сямёнавіча і пасля яго смерці стаў скарбным гаспадарскім. Падтрымліваў кантакты са многімі культ. дзеячамі: выхадцамі з Расіі старцам *Арцеміем* (вядома яго пасланне да З., накіраванае супраць католікаў), кн. Андрэем *Курбскім*. Існуе меркаванне (А.І.Анушкін), што Іван Сямёнавіч ведаў Францыска Скарыну і купіў яго друкарню з камяніцай Якуба Бабіча. Каля 1571 у гэтай друкарні ці інш. (гл. *Віленская друкарня Зарэцкіх*) разам з братам Зіновіем выдаў «Часоўнік», падобны да выданняў Скарыны. Выданнем гэтай кнігі было адроджана віленскае кнігадрукаванне, занепалае пасля ад'езду Скарыны. У пасляслоўях да Евангелля 1575 і Псалтыра 1576 браты Мамонічы адзначаюць, што кнігі надрукаваны па ініцыятыве і з дапамогай З.

З і н о в і й (З я н о н) С я м ё н а в і ч, брат Івана Сямёнавіча. Віленскі радца ў 1569), бурмістр. Пасол ад Вільні на сойм 1564.

Я н І в а н а в і ч, сын Івана Сямёнавіча. Земянін Упіцкага пав.

*Літ.*: Акты Виленской археографической комиссии. Т. 26. Вильна, 1899; А н у ш к и н Л. Во славном месте виленском: очерки из истории книгопечатания. М., 1962. С. 58—60; J a r o s z e w i c z - P i e r e s ł a w c e w Z. Druki cyrylickie z oficyn Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI—XVIII wieku. Olsztyn, 2003.

**Засвірскі кляштар кармелітаў абутых**. Пабудаваны ў стылі барока ў 1713—14 у в. Засвір (Мядзельскі р-н). Касцёл — мураваны 1-нефавы храм з 2-вежавым гал. фасадам і паўкруглай алтарнай апсідай, накрыты высокім 2-схільным дахам (над апсідай больш нізкі і пераходзіць у конусападобны). У цэнтры да гал. фасада прылягае невял. паўкруглая прыбудова, якая мае рысы абарончага збудавання. Дэкаратыўная аздоба сканцэнтравана на гал. фасадзе: плоскія прамавугольныя і паўцыркульныя нішы, трохвугольны атыкавы франтон і фігурныя завяршэнні вежаў. Аконныя праёмы з лучковымі завяршэннямі. Неф перакрыты корабавым скляпеннем. З Пн да касцёла прылягае мураваны П-падобны ў

плане 1-павярховы будынак кляштара, які ўтварае замкнёны ўнутраны двор. Планіроўка калідорная, памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У баку ад касцёла стаіць невял. мураваная званіца. ***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Заслаўскі фарны касцёл.** Пабудаваны ў 1774 у мяст. (цяпер горад) Заслаўе пад Менскам на месцы драўлянага храма ў стылі барока. Мураваны 1-нефавы прамавугольны ў плане асн. аб'ём з паўцыркульнай алтарнай апсідай і 2 бакавымі сакрысціямі. Гал. фасад, аздоблены вязкамі пілястраў, прамавугольнымі з паўцыркульным закругленнем і круглымі блендамі, завяршаўся франтонам. Касцёл перабудаваны ў 1868 пад царкву Раства Багародзіцы. Быў разбураны франтон, у цэнтры гал. фасада пабудавана невял. чацверыковая вежа-званіца, над гал. аб'ёмам узведзены вял. купал на светлавым барабане. Сцены гал. і бакавых фасадаў на 2 узроўнях прарэзаны вял. аконнымі праёмамі з паўцыркульным завяршэннем. Да гал. ўвахода вядзе мураваная лесвіца з тэрасай паміж 2 маршамі. У Вял. Айч. вайну храм паўразбураны. У 1988 вернуты каталікам. Знаходзіцца ў стадыі аднаўлення. ***Уладзімір Дзянісаў.***

**Захар'ін** (Кошкін-Захар'ін; Кошкин-Захарьин) Якаў Захаравіч (?— 1511), расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. Сын маскоўскага баярына Захарыі Іванавіча Кошкіна. У 1485—93 наўгародскі намеснік вял. князя маскоўскага Івана III. У 1485 на чале наўгародскіх палкоў удзельнічаў у вял. паходзе Івана III на Цвер, які прывёў да падзення яе незалежнасці. Наўгародцы супраць З. арганізавалі змову, якая была выкрыта. Змоўшчыкі былі пакараны смерцю, на працягу 1487—89 больш за 7 тыс. наўгародскіх землеўласнікаў было выселена ў цэнтр. Расію. У 1488 і 1490 удзельнічаў у розыску і пакаранні ерэтыкоў-жыдуючых. У 1490 удзельнічаў у перагаворах з паслом германскага імператара Мікалаем Попелем. У пачатку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94* З. быў пасланы з войскам з Ноўгарада на паўн. раёны ВКЛ, у 1494 удзельнічаў у дапаможным паходзе да вярхоўскіх князёў, якія перайшлі на бок Масквы. У 1492 да яго ў Ноўгарад звярнуўся полацкі намеснік Ян Забярэзінскі з прапановай вял. князя літ. заключыць шлюб з *Аленай Іванаўнай*, дачкой Івана III. Той праз З. паведаміў, што шлюб немагчыма заключыць да канца вайны. У 1495 З. узначальваў войска, пасланае на шведаў пад шведскую крэпасць Выбарг, спустошыў яго акругу. У канцы 15 ст. намеснік паловы Кастрамы, потым пераведзены ва Уладзімір. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* З. узначаліў гал. войска, якое 3.5.1500 рушыла з Масквы на Севершчыну, захапіла Бранск, Пуціўль і інш. гарады; пасля было накіравана на Пн. У 1502 адзін з кіраўнікоў пахода на Смаленск. Удзельнічаў у заключэнні перамір'я 1503. У пачатку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08* накіраваны з войскам да Мсціслава, спаліў пасады горада. Узначальваў войска (каля 50 тыс. чал.), якое 10.3.1508 рушыла да Смаленска, пасля пад Оршу.

*Літ.*: Кром М.М. Меж Русью и Литвой: западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV— первой трети XVI в. М., 1995.

**Захарый** Капысценскі [каля 1590, с. Капысна каля Перамышля—21(31).3.1627], дзеяч праваслаўнай царквы. З шляхецкага роду герба «Ляліва». Вучыўся ў Астрожскай або Львоўскай брацкай школе. У 1611—14 жыў у манастырах Путненскім (Малдова), Унеўскім, Дарагабужскім, Гарадоцкім, на Падляшшы, у Бельскай зямлі, у Ботках, Мядыні, Каменцы. Магчыма, пасля пераезду ў Вільню, але дакументальна гэта не пацверджана. Прыкладна з 1615—16 у Кіева-Пячэрскай лаўры, куды яго запрасіў архімандрыт *Елісей* Плецянецкі. Прыняў актыўны ўдзел у кнігавыдавецкай справе лаўры, напісаў прадмовы да 4 выданняў мясц. друкарні, выдаў свой твор «Кніга пра веру адзіную святой саборнай апостальскай царквы» (каля 1620). У лаўры З. супрацоўнічаў з Памваю Бярындаю, Лаўрэнціем Зізаніем і інш. Пасля смерці Елісея Плецянецкага (1624) З. абраны архімандрытам Кіева-Пячэрскай лаўры (у 1625 яго абранне пацверджана каралём польскім і вял. князем літ. Жыгімонтам III). Дамогся аўтаномнага становішча лаўры ў адносінах да кіеўскіх мітрапалітаў. Працягвалася


Заслаўскі фарны касцёл.



актыўная выдавецкая дзейнасць друкарні лаўры, дзе былі надрукаваны «Намаканон» (1624), «Трыёдзь посная», «Часаслоў» (1627) і інш. Гал. твор З. — «Палінодзія, або Кніга абароны святой апостальскай усходняй царквы» не была надрукавана аўтарам, але шырока разыходзілася па Украіне і Беларусі ў спісах.

*Тв.*: Палинодия // Памятники полемической литературы в Западной Руси. Санкт-Петербург, 1878. Кн. 1; Lev Krevza's Obrona iednosci cerkiewney and Zaxarija Kopystens'kyj's Palinodija. Harward, 1987.

*Літ.*: З а в и т н е в и ч В.З. Палинодия Захарии Копыстенского и ее место в истории западно-русской полемики XVI и XVII вв. Варшава, 1883; С т е п е н ь к і н а П. Захарія Копистенський // Українська біографістика. Київ, 2008. Вип. 4.

**Заяц** Юрый Афанасьевіч (н. 12.1.1951, г. Ліда Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1989). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1977). У 1979—2001 і з 2005 працуе ў Ін-це гісторыі НАН Беларусі (з 2005 старшы навук. супрацоўнік). Ганаровы грамадзянін г. Заслаўе (1996), у 2001— 05 выкладаў у Бел. дзярж. політэхнічным ун-це. Даследуе сярэдневяковыя горад і вёску, абарончыя збудаванні, дзярж. ўтварэнні і іх паліт.-адм. часткі, гістарыяграфію археалогіі сярэдневяковага перыяду, крыніцазнаўства, паліт. і эканам. гісторыю эпохі сярэдневякоўя, геральдыку. Адзін з аўтараў кнігі «Археалогія Беларусі» (т. 4, Мінск, 2001).

*Тв.*: Заславль X—XVIII вв.: историко-археол. очерк. Минск, 1987; Заслаўская кафля. Минск, 1990; Заславль в эпоху феодализма. Минск, 1995; Оборонительные сооружения Минска XI—XIII вв. Минск, 1996; Великий князь литовский Витовт как политик, военный и государственный деятель // Тр. Бел. гос. технологического ун-та. Сер. 5. 2003. Вып. 11; Битва под Клецком как новое слово в стратегии и тактике борьбы ВКЛ с татарскими набегами и оценка ее официальной историографией Великого Княжества Литовского // Клецк у гісторыі Беларусі: (да 500-годдзя Клецкай бітвы): матэрыялы навук.-практ. канф. Клецк, 5 жн. 2006 г. Мінск, 2007.

**Збароўская царква**. Існавала ў 18—1-й пал. 20 ст. Пабудавана ў 1740-я г. ў в. Збароў у Рэчыцкім пав. (цяпер Рагачоўскі р-н). Драўляная на каменным падмурку 3-зрубавая глыбінна-прасторавая кампазіцыя ўключала квадратны ў плане гал. аб'ём, прамавугольны бабінец і 5-гранны алтарны зруб. Усе зрубы мелі шатровыя завяршэнні (чацверыковыя над бабінцам і гал. аб'ёмам і 6-гранны над алтаром) з цыбулепадобнымі купалкамі на 8-гранных барабанах (барабан над бабінцам быў адкрыты, выкарыстоўваўся як званіца, астатнія — глухія). Хоры над бабінцам навісалі кансольна над гал. уваходам. Сцены былі гарызантальна ашаляваны, вокны прамавугольныя.

*Літ.*: Ч а н т у р и я В.А. История архитектуры Белоруссии. 3 изд. Минск, 1985.



**Збароўская царква**. Малюнак 19 ст.

**«Збор польскіх і рускіх вершаў»**, рукапісны зборнік канца 17 ст. (не раней 1690). Выяўлены і ўпершыню апісаны А.Бркнерам. Складзены некалькімі перапісчыкамі, відаць, у Оршы, прызначаўся для дачкі аршанскага падчашага. Уключае творы на польскай мове і 66 бел. і бел.-ўкр. ананімных лірычных вершаў-песень. У іх выразна адбіліся рысы бел. фальклору, паэзіі барока, уплыў польскай, укр. і зах.-еўрапейскай лірыкі. Праслаўляецца вернае каханне, асуджаецца здрадніцтва, шлюб з нялюбым чалавекам. Лірычны герой часта збіраецца на Украіну, на «вайноньку» з туркамі і татарамі. Ён паказаны абагульнена, як увасабленне абстрактных маральных дабрачыннасцей ці заган. Некаторыя песні не пазбаўлены эратызму. Зберагаецца ў б-цы Чартарыйскіх у Кракаве.

*Літ.*: М а л ь д з і с А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мінск, 1980. С. 91—116. B r ü c k n e r A. Pieśni polsko-ruskie // Pamiętnik Literacki. 1911. T. 10.

***Адам Мальдзіс.***

**«Зборнік палеаграфічных здымкаў са старажытных грамат і актаў, якія захоўваюцца ў Віленскім Цэнтральным Архіве і Віленскай Публічнай Бібліятэцы»** («С б о р н и к п а л е о г р а ф и ч е с к и х с н и м к о в с д р е в н и х г р а м о т и а к т о в, х р а н я щ и х с я в В и л е н с к о м Ц е н т р а л ь н о м А р х и в е и В и л е н с к о й П у б л и ч н о й Б и б л и о т е к е»), археаграфічны зборнік дакументаў. Выдадзены Віленскай археагр. камісіяй у 1884 (вып. 1, працяг выдання не здзейснены), падрыхтаваны С.В.*Шаўковічам*. У зборніку змешчаны 59 дакументаў 1432—1548 у выглядзе літаграфіраваных выяў (цалкам або частак) і друкарскага набору (дакументы, якія публікаваліся ўпершыню, змешчаны цалкам, іншыя — у выглядзе рэгестаў). Сярод апублікаваных матэрыялаў велікакняжацкія прывілеі (у т.л. на магдэбургскае права), прадажныя запісы, судовыя выракі. Першы апублікаваны акт — прывілей вял. князя літ. Жыгімонта Кейстутавіча аб вызваленні віленскіх мяшчан ад мыта на ўсёй тэрыторыі ВКЛ 1432. Частка апублікаваных дакументаў — арыгіналы на пергаменце (29, з іх 14 былі раней апублікаваны), астатнія ўзяты з актавых кніг Дарагічынскага земскага і гродскага судоў, Ковенскага магістрата, Гародзенскага земскага суда, Дарагічынскага і Кнышынскага магістратаў. Прыведзены звесткі аб ранейшых публікацыях дакументаў, іх знешнім выглядзе і месцы захавання. Выданне забяспечана паказальнікамі асабовых імён, геаграфічных назваў, прадметаў і малаўжывальных слоў.

**звон**, самагучальны ўдарны сігнальны інструмент. Звычайна мае форму пустацелай, зрэзанай знізу грушы. Мае вял. значэнне ў царк. жыцці: склікае вернікаў на богаслужэнне, ігра ў З. суправаджае царк. святы, урачыстыя падзеі ў царк., грамадскім, прыватным (шлюб, пахаванне) жыцці. З дапамогай З. абвяшчаліся надзвычайныя здарэнні (пажар, пачатак паўстання, напад на горад ворагаў). З. ратушы і правасл. цэркваў далі пачатак *Віцебскаму паўстанню 1623*, у час якога быў забіты уніяцкі архіепіскап Іасафат



*Кунцэвіч*. Каралеўскія камісары, якія расследавалі забойства, пастанавілі зняць З. з ратушы і ўсіх правасл. цэркваў і адліць з іх адзін вял. З. на памяць пра архіепіскапа. На заклік ратушнага З. пачалося *Магілёўскае паўстанне 1661*. Раннія касцельныя правілы прадпісвалі епархіяльным касцёлам мець 4 З., калегіяцкім касцёлам — 3, парафіяльным — 2, кляштарным — 1. З цягам часу ўстанавіўся звычай набываць як мага больш З., іх вешалі на гар. ратушы, невял. З. прыладжвалі на вежавыя гадзіннікі, дзе яны адбівалі гадзіны і квадрансы.

На тэр. Беларусі вядомы з 11 ст. (упамінаюцца ў «Слове аб палку Ігаравым»). Пад час археал. раскопак абломкі З. знойдзены ў Бярэсці, Гародні, Гомелі, Мсціславе, Тураве. Правасл. традыцыі адліўкі званоў перайшлі ў ВКЛ, дзе спалучаліся з зах.-еўрапейскімі ўплывамі. Звесткі пра найстараж. З. ў ВКЛ адносяцца да цэркваў. Згодна з хронікай Троцкага кляштара бернардзінцаў, тут існаваў З. вагой 645 фунтаў са слав. надпісам «Се аз, раб Божи Яков Ондревич с матерою своею Уляною Александрова... ВКЛ дали есьмо сей колокол, улит в церков св. деве Параскевии... в Вильни во вики. 6885 (1377)» і гатычным надпісам «K.S.Skobelt». Відаць, гэты З. быў выраблены па загаду вял. князя Ягайлы і яго маці Ульяны для Віленскай Пятніцкай царквы. У Навагародку ў адной з цэркваў існаваў З. з лацінскім набожным надпісам і датай 6893 (1385). У 1420 майстар *Усцяк* па заказу пана Шэдзібора Валімонтавіча адліў З. са слав. надпісам для касцёла ў в. Невадніца на Падляшшы. Гэта самы стары З. з ВКЛ, што дайшоў да нашага часу (захоўваецца ў Нац. музеі Літвы). Да. 20 ст. захаваліся яшчэ 6 З., што былі выраблены ў 15 ст. (у касцёлах у Сядах, Кельмах, Дзевалтове, Шаўлянах, Сямялішках), яны мелі нямецкія і лац. надпісы.

З 1518 у дакументах упамінаюцца З. Віленскага кафедральнага касцёла, для якога ў 1530—31 віленскі архідыякан Павел Гальшанскі фундаваў яшчэ адзін З. Тут жа знаходзіўся вял. З., які зваўся «Зыгмунтам» і прыпісваўся фундацыі Жыгімонта І Старога; каб званіць у яго, патрабавалася 20 чал. (загінуў у час пажару Вільні 1610). Пра адліўку З. ў Вільні ў 16 ст. мала вядома, іх магла вырабляць *Віленская пушкарня*. У канцы 16 ст. ў Коўне і Вільні некалькі З. адліў Марцін *Гофман*, у т.л. *Моладаўскі звон*. У 1620 у Вільні на сродкі Астафія і Гераніма Валовічаў адліты вялікі (30 каменяў) З. для Цітавянскага кляштара. Найзнакамітым віленскім ліцейшчыкам З. у 1-й пал. 17 ст. быў Іаган *Бротэльт*, які вырабіў прынамсі 6 званоў у 1630—47. У той жа час у Вільні працаваў людвісар Каспар Вехер. Найб. значным майстрам па адліўцы З. у Вільні ў 2-й пал. 17 ст. быў Ян *Дэлямарс* (прынамсі 32 З. на працягу 1662—88, у т.л. 6000-фунтавы гадзіннікавы З.). Адначасова з ім у Вільні працавалі людвісары Ганс Ульрых *Бадэр*, Фёдар Фёдаравіч *Пярвец* (рабіў З. для Троіцкай царквы). У 1525 упамінаецца З. Віленскага Прачысценскага сабора, у 1605 — З., выліты па заказу віцяблян для Віцебскай царквы св. Пятра. У 1545 адліў З. для Мсцібаўскай царквы (Ваўкавыскі пав.) святар Фёдар *Цышэцкі*. У канцы 16 ст. вядомы 2 ажурныя гадзіннікавыя З. і невял. З. з Міра, якія, як мяркуецца, адліты ў *Нясвіжскай людвісарні*. У 1-й пал. 17 ст. З. ў Полацку і Пінску адліваў Габрыель *Дарафеевіч*, у 1690 вырабіў звон для Слуцкай царквы Нараджэння Божага Казімір *Легер*. Невядомыя майстры адлівалі З. ў Оршы (1648), Магілёве (1651—60).

Шмат З. загінула і вывезена з ВКЛ падчас *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Згодна з Андросаўскім перамір'ем 1667 З. вярталіся законным уладальнікам, але шмат іх засталося ў Расіі. У канцы 17—пач. 18 ст. ў Вільні З. адліваў Бенжамін *Фінгерлінг*, у 1-й пал. 18 ст. — Кароль Готліб *Шпар*, у сярэдзіне 18 ст. — Тамаш *Гапановіч*, у 2-й пал. 18 ст. — Антоній *Гапановіч*, у канцы 18 ст. — Ян Самуэль *Вегнер*. Найб. значным ліцейшчыкам званоў у Вільні ў 18 ст. быў Густаў *Мёрк*, які на працягу 1749—59 вырабіў прынамсі 18 З., у т.л. некалькі З. для Гародні і Навагародка. У 18 ст. З. вырабляліся на *Урэцкай людвісарні*.

З. лічыліся каштоўнай ваеннай здабычай і траплялі ў цэрквы і касцёлы ВКЛ як трафей пасля паспяховых ваенных кампаній. У 1580 кароль польскі і вял. князь літ. Стафан Баторый падараваў полацкім езуітам 2 З., якія маскоўскія ўлады Полацка павесілі на самыя высокія вежы горада, каб званілі ў час трывогі. З захопленага ў 1611 Смаленска кароль польскі і вял. князь літ. Жыгімонт III вывез некалькі З., якія падараваў Віленскаму кафедральнаму касцёлу і касцёлу св. Казіміра. У 1620 два «маскоўскія» З. атрымаў касцёл у Цітавянах. У 1665 канцлер ВКЛ Крыштоф Пац перадаў Пажайскаму кляштару камедулаў З., вывезены са Свенскага манастыра на Браншчыне. У 1-й пал. 17 ст. Крэцінгскі бернардзінскі касцёл атрымаў З., выраблены ў 1592 у Рызе і вывезены адтуль войскам Яна Караля Хадкевіча.



Гадзіннікавы **звон** з нясвіжскай людвісарні. Канец 16 ст.

Шмат З. было заказана для цэркваў і касцёлаў ВКЛ у майстроў Караляўца, Гданьска, Рыгі, Мітавы. Вырабамі замежных майстроў лічацца З. 1-й пал. 15 ст. ў Сядах (пазначаны імем Ганс Гопе), Кельмах і Шаўлянах. З. з лацінскімі гатычнымі надпісамі знаходзіліся ў Дзевалтове (1462, 1464), Гарадзенскім касцёле бернардзінак (1545), Дарагічыне (1560). Ваенныя падзеі 17—18 ст. не спрыялі развіццю мясцовай вытворчасці З. у ВКЛ, таму іх часта заказвалі за мяжой, гал. чынам у Караляўцы (Кёнігсбергу). У 17—18 ст. там адлівалі З. для ВКЛ Міхаэль Дорнман (Кейданскі кальвінскі збор, 1641; Паланга), Нікалаўс Шмідзіхен (Кейданскі фарны касцёл, 1649), Ганс фон Охрум (Трышкі, 1663; Гарадзенскі касцёл езуітаў, 1667; Вевіржаны, 1669), Давід Дорнман (Ігуменская царква, 1674), Готфрыд Дорнман (Індура, 1687; Баг-

данава, 1690; Шарашова, 1697), Якаб Гесінг (невядомы жамойцкі касцёл, 1695; Ілокі, 1698; Дукорская царква, 1700), Шаты, 1701 і 1713, Папяляны, 1705; Адэльск, 1709; Кальварыя Жамойцкая, 1711; Калтыняны, 1714; Расейны, 1719; Ражанка, 1719; Лаўкова, 1720; Нача, 1720; Сувалкі, 1720), Іаган Якаб Дорнман (невядомы лютэранскі збор, 1711; Сурвілішкі, 1711; Астравец, 1711; Віленскі касцёл св. Яна, 1740 — 2 званы; Крэцінга, 1748; Ілокі, 1748; невядомы жамойцкі касцёл, 1759), Б.М.Дорнман (Дарсунішкі, 1769), Андрэас Дзёрлінг (Койданаўскі кальвінскі збор, 1720; Віленскі касцёл Усіх Святых, 1722; Крожскі касцёл бенедыкцінак, 1725; Віленскі касцёл св.



**Звон** майстра Усцяка. 1420.

Філіпа і Якуба, 1727, 1738 і 1739; Сувалкі, 1728; Няменчын, 1730; Ражанка, 1730; Віленскі касцёл св. Міхала, 1731; Рыконты, 1733; Ковенскі касцёл св. Георгія, 1734; Варні, 1755; Ковенскі касцёл Св. Тройцы, 1737; Векшні, 1737; Коўна, 1739; Лішкаў), Іаган Хрыстоф Дзёрлінг (Гарадзенскі францысканскі касцёл, 1740; Докшыцы, 1743; Шумск, 1743; Беніца, 1745; Калтыняны, 1749), Георг Бярнард Кіндэр (Неманойці, 1724; Кляшчэльская царква, 1725; Беpжнікі, 1729; Цельшы, 1729; Калтыняны, 1729; Віленскі касцёл св. Кацярыны, 1732; Пікелі, 1738; Віленскі касцёл св. Барталамея, 1738; Койданава, 1738), Іаган Хрысціян Копінус (Лагойская замкавая царква, 1755; Шакінаў, 1755; Друскенікі, 1757; Неманойці,1759; Свержань, 1760; Ружаны Сток, 1764; Альсяды, 1765; Ковенская ратуша, 1775; Кальварыя жамойцкая, 1775; Слуцкі лютэранскі збор, 1777; Карыцін, 1782; Кузніца, 1783; Дзярэчын, 1784), Готліб Абрагам Шлеверт (Вяшвяны, 1761; Коварск, 1769), А.Больман (Буйвідзі, 1777), І.А. Бельман (Ракаў; Пашыле, 1779; Гінцялішкі, 1782; Кельмы, 1785; Вайгаў, 1788; Віленскі касцёл св. Мікалая, 1792; Адахаў, 1793; Ковенскі касцёл св. Гертруды, 1798), К.А.Копінус (Каралішчавічы, 1787, Баршчыцы, 1788). З Караляўца ў 1750 прывезены вял. З. для Менскага касцёла езуітаў, які па імю фундатара называўся «Ян Салагуб» (у пач. 19 ст. пераліты ў 2 меншых З.).

У Гданьску З. для ВКЛ адлівалі Маціяс Бенінк (Крэцінга, 1593), Герхард Бенінк (Чыжы, 1624; Ялаўка, 1635, Алыка, 1640; Дарагічын, 1648), Бенжамін Вітверк (Саколка), Міхал Вітверк (Невадніца, 1723; Беласток, 1726; Заблудаў, 1728; Кляшчэлі, 1728), Вітверк (Бельск, 1740; Крупчыцы, 1743), Эмануэль Вітверк (Анджэеў, 1780), Іаган Готфрыд Антані (Кузніца, 1743; Крупчыцы, 1743; Кляшчэлі, 1746; Азяты, 1765; Райск, 1771), Эрнст Фрыдрых Кох (Новабярозаў, 1761; Боцькі, 1764; Кнышын, 1766; Вярсока, 1766; Гродзіск, 1766 і 1767; Рудка, 1775), Карл Готфрыд Антані (Пярковічы, 1780). У Эльблёнге людвісар Давід Ёнас вырабіў З. для Асташынскага кальвінскага збору (1668) і касцёла ў в. Раковічы Менскага пав. (1681).

Найстарэйшае паведамленне пра адліўку З. ў Рызе для ВКЛ адносіцца да 15 ст. У 1476 палачане паведамлялі рыжскай радзе, што ў 1474 заказалі ў рыжскага майстра Ганускa Смольбаха З. для Полацкага Сафійскага сабора, перадалі майстру 3 беркаўцы і 5,5 пудоў медзі, 22 рублі грошай, 260 лукон ржы, але Смольбах памёр, таму палачане прасілі рыжан перадаць заказ інш. майстру. У Рызе З. для ВКЛ адлівалі Ганс Маер (Крэцінга, 1592; Віцебская царква, 1605), Герхард Маер (невядомы касцёл, 1698), Гайнрых Біргман (Біржанскі лютэранскі збор, 1731 і 1748; Чадосы, 1750; Чашнікі, 1759; Салокі, 1760), Паўль Копляк (Полацкі езуіцкі касцёл, 1741—42, тры З.), Іаган Аўгуст Гетцель (Каркляны, 1770-я г., 1774 і 1790; Шакінаў, 1774 і 1795; Пявяны, 1776; Чашнікі, 1789; Панямунек, 1791), Гайнрых Эрнст Бергаў (Панямунек, 1794; Сурдзегі, 1796; Трашкуны, 1802; Покрай, 1806).

У Мітаве для ВКЛ З. адлівалі Якаб Філіп Гюнтэр (Груздзі, 1715; Скайзгіры, 1718), Эрнст Фрыдрых Фехтэр (Акмяны, 1760; Груздзі, 1763 і 1765; Папяляны, 1774). З. для ВКЛ выраблялі таксама варшавяне Даніель Цім (Гародня, 1655), Дзітрых Іаган Эгрэнфрыд (царква ў Леўкаве, Ваўкавыскі пав., 1794). У г. Прэшаў у Славакіі Мацей Ульрых адліў у 1676 З., які знаходзіўся ў царкве ў Губінцах у Гарадзенскім пав. (магчыма, быў прывезены пасля Венскай кампаніі 1683). У 1769 цвярскі купец і ліцейшчык Іван Іванавіч Бакуноў вырабіў З. для Віленскай Святадухаўскай царквы. Рас. ліцейшчыкі Іван, Сцяпан і Максім Сініцы адлілі ў 1751 *Дзісенскі звон.* Замежныя майстры невядомага паходжання, якія рабілі З. для ВКЛ: Якаб Кеніг (Мазырская царква, 1632), Эмерыка Мерыцыяна (2-я пал. 17 ст.), Дзінкемаер (Півашуны, 1703), Амброзіус Іаган Пат (Мір, 1709 і 1710; Індура, 1722), Ян Тамашэвіч (Нясвіж, 1738), П.Мрочэк (Палавень, 1765), Антоній Пашкевіч (Янішкі, 1777).

*Літ.*: Г а н ч а р у к І. Званы Адраджэння // Мастацтва Беларусі. 1990. № 2; Я г о ж. Звон «засьведчыў»... // Мастацтва. 1994. № 11; Я г о ж. Званы Гарадзеншчыны // Сьвіцязь. 1994. № 2; Л і х а ч Т. Арганы і званы каталіцкіх касьцёлаў Беларусі XVII—XVIII стст. // Мастацтва. 1995. № 4; Ш ы р о к а в а В.І. Звонавае ліццё на Беларусі: гісторыя і сучаснасць // V Международные Кирилло-Мефодиевские чтения, посвящ. Дням славянской письменности и культуры (Минск, 24—26 мая 1999 г.): материалы чтений. Минск, 2001. Ч. 1; M a r t i n a i t i e n ė G.M. XIV—XV a. LDK varpai // Menotyra. 2007. № 3. B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924.

**«Звязда прасветлая»**, помнік перакладной старажытнабеларускай літаратуры, зборнік легенд, звязаных з культам Дзевы Марыі. Па сведчанні аднаго са спісаў, на рус. мову перакладзены з бел. тэксту «прасталюдзінам Мікітам» у Маскве ў 1668. Помнік зах.-



еўрапейскага паходжання, але арыгінал (лацінскі ці польскі) не знойдзены. У «З.п.» 15 раздзелаў, прысвечаных апавяданням пра цуды Багародзіцы. 15-ы раздзел, што адсутнічаў у бел. арыгінале, складзены з рус. паданняў пра абразы і выпісак з інш. зборнікаў. У 1686 «З.п.» рыхтавалася да друку, але выдадзена не была.

**Згерскі** Ян Мікалай (?—6.12. 1713), дзеяч каталіцкай царквы. З шляхецкага роду герба «Дамброва». Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, Віленскай акадэміі, дзе атрымаў ступень доктара тэалогіі. Быў капеланам Віленскай капліцы св. Казіміра. Біскуп-суфраган віленскі з 1696 (намінальны біскуп мартырыенскі), біскуп смаленскі з 1706, біскуп жамойцкі з 1710. У час *феадальнай вайны 1697—1702* намагаўся прымірыць варагуючыя бакі, у 1703 схаваў перад узяццем шведаў Вільні мошчы св. Казіміра. Шмат зрабіў для школьнай справы ў Жамойці. Фундаваў Кальварыйскі кляштар дамініканцаў, Кейданскі кляштар кармелітаў, заснаваў у Жамойцкім капітуле пасаду пралата-кантара.

*Літ.*: Wołonczewski M. Biskupstwo zmujdzkie. Kraków, 1898.

**Зелігмахер** Тамаш (каля 1636, ВКЛ—23.5.1677), дзеяч каталіцкай царквы. У 1654 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі ў Пултуску (1671—72), Полацку (1672—73) і Варшаве (1673—74), прэфект школы ў Навагародку (1674—75), праф. рыторыкі для клірыкаў-езуітаў у Пінску (1675—76) і Нясвіжы (1676—77). Аўтар падручніка рыторыкі «Ilias oratoria» (Вільня, 1674), школьных драм.

**земгалы** (с е м і г а л ы, з і м і г о л а; латыш. zemgali; літ. zẽmgaliai; пол. zemgalowie; лац. semigalli), усходнебалцкае племя, якое размяшчалася ў асн. у басейне р. Ліелупе і яе прытокаў. На З ад іх жылі куршы, на У — латгалы і селы. На Пд сутыкаліся з жамойтамі, з якімі ў 2-й пал. 1-га тыс. н.э. мелі шмат агульнага ў культуры. З. ўзгадваюцца сярод інш. балцкіх народаў (літва, куршы) у недатаваных уводзінах да «Аповесці мінулых гадоў» як тыя, што даюць даніну Русі. Пад 1106 у летапісах змешчана паведамленне пра тое, што З. перамаглі полацкіх князёў Усяславічаў («всю братью»). Верагодна, што пасля гэтага З. атрымалі незалежнасць. З. падтрымлівалі цесныя сувязі са скандынаўскімі краінамі. Вядомы скандынаўскія рунічныя надпісы на камянях з узгадваннем З. (simkala). Каля Сігтуны знойдзена медная скрыначка, на якой пазначана, што шалі, якія ў ёй знаходзяцца, былі набыты ў земгала. У «Сазе аб Інгвары-вандроўніку» распавядаецца пра падарожжа Інгвара недзе ў 1035—41 да З. з мэтай збору даніны. Пачынаючы з 13 ст. З. часта трапляюць на старонкі нямецкіх хронік (Генрыха Латвійскага, «Рыфмаванай хронікі» і інш.). Землі, занятыя З., прываблівалі сваім багаццем заваёўнікаў. Неаднаразова селішчы З. спусташалі літоўцы. У сваю чаргу, З. здзяйснялі набегі на тэрыторыю літоўцаў, ліваў і латгалаў. У 10—12 ст. ў З. з'явіліся багатыя гарадзішчы Дaбoле, Мяжотне, Тэрвеце, Даўгмале, якія адыгрывалі ролю паліт., ваенных і гандлёва-рамесных цэнтраў. У пач. 13 ст. адбыліся значныя перамены ў характары паселішчаў на тэр. Земгаліі. Большая частка гарадзішчаў была знішчана, іншыя змянілі свой гаспадарчы і сац. выгляд. Звязана гэта было з экспансіяй нямецкіх рыцараў-крыжакоў. На землях З. крыжакі будавалі мураваныя замкі. Пры гэтым адзначаецца ўдзел мясц. насельніцтва пры будаўніцтве першых рыцарскіх замкаў. Найб. уплывовы ў 1-й трэці 13 ст. земгальскі правіцель Віестарц даволі працяглы час знаходзіўся ў саюзе з рыжскім біскупам. Віестарц разлічваў на дапамогу крыжакоў у барацьбе з лівамі і літоўцамі. Між тым біскупу ўдалося дамовіцца з заможнымі вярхамі часткі З., якія гуртаваліся вакол гарадзішча Мяжотне. Мясцовае насельніцтва хрысцілася і дазволіла нямецкім рыцарам заняць гарадзішча. У 1219 немцы былі выгнаны з Мяжотне, аднак праз год вярнуліся ў яго. З гэтага часу пачалася ўпартая барацьба З. з крыжакамі, якая ішла з пераменным поспехам. Аб'яднанае войска літоўцаў і З. нанесла рыцарам ордэна мечаносцаў паражэнне ў *Саўлескай бітве 1236*. Гэта прывяло да аб'яднання рэштказ ордэна мечаносцаў з Тэўтонскім ордэнам. Землі ліваў, куршаў і З. павінны былі падпарадкоўваць рыцары Лівонскага ландмайстарства Тэўтонскага ордэна (Лівонскі ордэн). Гэта значна ўзмацніла сілы крыжакоў у іх экспансіі на землі З. Да 1254 крыжакам удалося захапіць тэр. Земгаліі. Тым не менш, у 1270—80-я г. З. працягвалі барацьбу. Магчыма, некаторыя ваенныя поспехі ў гэты час можна звязваць з імем земгальскага правадыра Намейта (Намейсіса). З. здолелі адваяваць Тэрвеце, аднак зноў страцілі гэты важны паліт. цэнтр сваёй зямлі ў 1281. Пасля гэтага частка З. адышла ў Літву. Лічыцца, што Намейт прызнаў верхавенства літоўскага князя Трайдзеня, які ўключыў яго ў велікакняжацкую раду. Сумесна з літоўцамі З. спрабавалі дапамагчы прусам у іх барацьбе з рыцарамі Тэўтонскага ордэна. Аднак падчас аблогі замка Крыстбург ва Усх. Прусіі Намейт быў забіты. Падпарадкаванне зямлі прусаў дазволіла ордэну высвабадзіць сілы для заваявання зямель усх. балтаў. У 1290 крыжаносцамі захоплена апошняя земгальская крэпасць. Гэты год лічыцца часам канчатковага падпарадкавання Земгаліі нямецкімі рыцарамі. Крыніцы ўказваюць, што 100 тыс. З. у гэты час сышлі ў Літву. Асновай гаспадаркі З. былі земляробства і жывёлагадоўля. З 11 ст. атрымала распаўсюджанне ральнае земляробства, пры гэтым, магчыма, разам з двухполлем З. была знаёма і трохпольная сістэма земляробства. З. выгадоўвалі ў першую чаргу буйную рагатую жывёлу і свіней. Коні выкарыстоўваліся як цяглая сіла ў ральным земляробстве, а таксама для верхавой язды. Часткова харчаванне забяспечвалася паляваннем і рыбалоўствам. У гарадзішчах былі распаўсюджаны жалезаробнае, медзеплавільнае, кастарэзнае, ганчарнае рамёствы. З. адыгралі пэўную ролю пры фарміраванні ў 13—17 ст. латышскай народнасці. Аднак вядучая роля ў гэтым працэсе належала латгалам, якія панеслі значна меншыя страты пад час нямецкай экспансіі.

*Літ.*: М о о р а Х.А. Вопросы этногенеза народов советской Прибалтики по данным археологии // Краткие сообщения Ин-та этнографии АН СССР. М., 1950. Вып. 12; Я г о ж О древней территории расселения балтийских племен // Сов. археология. 1958. № 2; В а н к и н а Л.В., Г р а у д о н и с Я.Я., Ш н о р е Э.Д. Археологические данные по этногенезу Лат-

вии. Ленинград, 1964; А т г а з и с М.К. Вопросы этнической истории земгалов // Из древнейшей истории балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980; Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987; Балты, славяне, прибалтийские финны: этногенетич. процессы. Рига, 1990; Г у д а в и ч ю с Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 г. М., 2005.

*Сцяпан Цемушаў.*

**Зёрнава** (Зёрнова) Антаніна Сяргееўна (7.5.1883, г. Тула, Расія—24.4. 1964), расійскі кнігавед. У 1922—58 навук. супрацоўнік Аддзела рэдкіх кніг Дзярж. б-кі СССР. Сістэматызавала і апісала некалькі тысяч экзэмпляраў маскоўскіх, укр., бел. і замежных выданняў 15—18 ст. Апублікавала «Памятник нижегородской печати 1613 г.» (Масква, 1928). Выдала альбомы арнаментаў маскоўскіх старадрукаваных кніг (Масква, 1952, 1963) і зводны каталог «Книги кирилловской печати, изданные в Москве в XVI—XVII веках» (Масква, 1958), склала дапаможнік «Методика описания старопечатных книг кирилловской печати» (1960). Даследавала кірылічнае кнігадрукаванне ў ВКЛ, дзейнасць І.Фёдарава, П.Мсціслаўца, Мамонічаў, С.Собаля.

*Тв.*: Начало книгопечатания в Москве и на Украине. М., 1947; Книги кирилловской печати, хранящиеся в заграничных библиотеках и неизвестные в русской библиографии // Тр. Гос. б-ки СССР им. В.И.Ленина. М., 1958. Т. 2; Типография Мамоничей в Вильне (XVII век) // Книга: исслед. и материалы. М., 1959. Сб. 1; Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец // Там жа. 1964. Сб. 9; Белорусский печатник Спиридон Соболь // Там жа. 1965. Сб. 10.

*Літ.*: С и д о р о в А.А. Памяти А.С.Зерновой // Книга: исслед. и материалы. М., 1965. Сб. 10.

**Зжэльскі** Ян (28.8.1679, Добжынская зямля—3.12.1746), дзеяч каталіцкай царквы. У 1701 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прэфект школы і б-кі ў Жодзішках (1711—13) і Пінску (1714—15), прапаведнік і прэфект б-кі ў Вільні пры касцёле св. Казіміра (1715—18), прэфект школы ў Полацку (1718—19), праф. філасофіі ў Варшаве (1720—22), прэфект школы ў Варшаве (1722—23) і Пултуску (1723—24), праф. філасофіі ў Гародні (1724—27), прэфект школы ў Нясвіжы (1727—28), віцэ-рэктар калегіума ў Коўне (1728—31), рэктар калегіума ў Плоцку (1733—36), віцэ-рэктар калегіума ў Жодзішках (1736—39), прэфект школы ў Гародні (1739—40), рэктар калегіума ў Менску (1740—41) і дома 3-й прабацыі ў Нясвіжы (1741—45), прэфект школы ў Нясвіжы (1745—46). Аўтар зборніка нядзельных, святочных і акалічнасных казанняў.

**Зігфрыд фон Фохтванген** (Siegfried von Feuchtwangen; ?—5.3.1311), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1303—11. Паходзіў з рыцарскага роду з Франконіі. У гіст. крыніцах упамінаецца з 1298 як краёвы нямецкі магістр, быў таксама комтурам венскім. На генеральным капітуле ў Эльблёнгу ў 1303, які зацвердзіў адстаўку вял. магістра ордэна Готфрыда фон Гогенлоэ, З.ф.Ф. быў абраны вял. магістрам. У час яго праўлення занята Гданьскае Памор'е, было канчаткова прынята рашэнне аб пераносе сядзібы Тэўтонскага ордэна з Венецыі ў Мальбарк. Урачысты ўезд у Мальбарк адбыўся ў вер. 1309. Асаблівай актыўнасці ў ваеннай дзейнасці не праяўляў, аддаючы камандаванне ордэнам прускаму магістру Генрыху фон Плоцке.



**Зігфрыд фон Фохтванген.**

**Зінкявічус** (Zinkevičius) Зігмас (н. 4.1.1927, в. Юодаўсяй Укмегскага р-на, Літва), літоўскі мовавед. Акад. Літ. АН (1990), д-р філалагічных навук (1967), праф. (1969). Чл. Каралеўскай шведскай акадэміі пісьменнасці, гісторыі і старажытнасцей (1982), Нарвежскай акадэміі навук і пісьменнасці (1991), Латвійскай АН (1995), Літ. каталіцкай АН (1991). Заслужаны дзеяч навукі Літвы (1977). Скончыў Вільнюскі ун-т (1950). У 1951—56 працаваў у Вільнюскім педагагічным ін-це, у 1956—95 — у Вільнюскім ун-це (у 1956—68 нам. дэкана гіст.-філалагічнага факультэта, у 1973—89 заг. кафедры літоўскай мовы, з 1988 — кафедры балцкай філалогіі). У 1995—96 дырэктар Ін-та літ. мовы, у 1996—98 міністр адукацыі і навукі, у 1998—99 дзярж. радца па адукацыі і навуцы. У 2000—04 дэпутат сойма. Працы па гісторыі літоўскай мовы, яе дыялекталогіі, акцэнтуацыі, анамастыцы, хрысціянізацыі Літвы, яе этнічнай гісторыі. Разам з А.Гірдзянісам склаў новую класіфікацыю дыялектаў літоўскай мовы. Аўтар кніг «Нарысы па гісторыі займенных прыметнікаў літоўскай мовы» (1957), «Літоўская дыялекталогія» (1966), «Дыялекты літоўскай мовы» (1968), «Асновы мовазнаўства» (1969; 2 выд. 1980), «З літоўскай гістарычнай акцэнталогіі» (1975), «Літоўская антрапаніміка: Асабовыя імёны літоўцаў Вільнюса ў пачатку 17 ст.» (1977), «Дыялекталогія літоўскай мовы» (1978), «Казімерас Буга: жыццё і працы» («Kazimieras Būga: gyvenimas ir darbai», Вільнюс, 1979), «Гістарычная граматыка літоўскай мовы» (ч. 1—2, 1980—81), «Мовавед К.Буга» (1981), «Гісторыя літоўскай мовы» («Lietuvių kalbos istorija», т. 1—6, Вільнюс, 1984—95), «Восточная Литва в прошлом и настоящем» (Вильнюс, 1996), «Гісторыя літоўскай мовы» («The History of the Lithuanian Language», Вільнюс, 1998), «Выбраныя артыкулы» («Rinktiniai straipsniai», т. 1—4, Вільнюс, 2002—04), «Скажэнні гісторыі» («Istorijos iskraipymai», Вільнюс, 2004), «Вытокі хрысціянства ў Літве: Даныя ўсходніх хрысціянскіх імёнаў» («Krikščionybes ištakos

Lietuvoje: Rytų krikščionybe vardyno duomenimis», Вільнюс, 2005), «Паходжанне літоўскага народа» («Lietuviu tautos kilmė», Вільнюс, 2005), «Паходжанне народаў» («Tautos kilmė», Вільнюс, 2006), «Пасля васьмі гадаў» («Po aštuoneriu metų», Вільнюс, 2006), «Паходжанне пісьменнасці» («Rašto kilmė», Вільнюс, 2007), «Старажытныя назвы Літоўскай дзяржавы» («Senosios Lietuvos valstybės vardynas», Вільнюс, 2007), «Уклад Малой Літвы ў літоўскую культуру» («Mažosios Lietuvos indelis į lietuvių kultūrą», Вільнюс, 2008) і інш. Падрыхтаваў выданне «Выбраныя працы» Казімераса Бугі (т. 1—3, Вільнюс, 1958—62). Дзярж. прэмія ЛітССР (1968), Прэмія Гердэра (1994), Прэмія Казімераса Бугі Літ. АН (1995), Нац. прэмія прагрэса (2007).

*Літ.*: О развитии балтийского вокализма // Балто-славянский сборник. М., 1972; К вопросу о литовско-польских языковых контактах по данным антропонимики г. Вильнюса начала XVII в. // Балто-славянские исследования. М., 1974; W sprawie kontaktow jezykowych litewsko-polskich w Wilnie w XVII wieku // Acta Baltico-Slavica. Wroclaw etc., 1976. Т. 9; К истории литовских личных имен восточнославянского происхождения // Балто-славянские языковые контакты. М., 1980; К истории литовской христианской терминологии восточнославянского происхождения // Балто-славянские исследования, 1980. М., 1981; Польско-ятвяжский словарик? // Балто-славянские исследования, 1983. М., 1984; О личных именах литовского происхождения в «Słowniku staropolskich nazw osobowych» // Balto-słowiąnskie zwiazki językowe. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1990; Язык этнического Полесья в качестве канцелярского в ВКЛ // Збудінне. 1991. № 4; 1992. № 10; 1994. № 1/2; Юго-восточная Литва с древнейших времен до наших дней // Вільнюс. 1994. № 7/8; Инвентари имений XVII века — источник антропонимии и демографии Восточной Литвы // ПОЛУТРОПОН : к 70-летию Владимира Николаевича Топорова. Москва, 1998; Гервятская гаворка ў святле сучаснай мовазнаўчай навукі // Весці Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей. Брэст, 1997. Т. 2; Мартинас Мажвидас и начало литовской письмености // Балто-славянские исследования, 1997. Москва, 1998; Существовала ли письменность на литовском языке до Мажвидаса? // Linguistica et Philologica: сборник статей к 75-летию профессора Юрия Владимировича Откупщика. Санкт-Петербург, 1999; Die untergehenden litauischen Mundarten in Wei ru land und Polen // Aspekte Baltischer Forschung. Essen, 2000; Когда и как появились первые христианские молитвы на литовском языке? // Язык и культура: факты и ценности: к 70-летию Ю.С.Степанова. Москва, 2001.

**Зіноўеў** Сцяпан, разьбяр па дрэве 2-й пал 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Майстар *беларускай рэзі*. «Жалаваны» майстар Аружэйнай палаты ў Маскве. Ствараў узоры разьбы («лебядзіныя», «жураўліныя», «гусіныя» 1668). Удзельнічаў у аздабленні царскага палаца ў с. Каломенскае (1678), у стварэнні розных іканастасаў для цэркваў у Ізмайлаве (1680-я г.), званіцы царквы царэвіча Іаасафа (1681) і Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра (1683—85) у Маскве. Зрабіў размаляваную фарбамі, серабром і золатам «Іарданскую сень» на 4 разных слупах (1668, разам з *Арсеніем* і К.*Міхайлавым*), разныя царскія вароты з сенню для царквы Фёдара Страцілата на Троіцкім падвор'і ў Маскве (былі ўстаноўлены ў іканастасе Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра, 1685). Меў вучняў.

**злотніцтва**, ювелірная справа, рамяство па вырабе рэчаў з каштоўных металаў і камянёў. На бел. землях З. як рамяство існавала з часоў Кіеўскай Русі. Вырабы з золата і серабра знойдзены пад час археал. раскопак амаль ва ўсіх бел. гарадах. Буйнейшым цэнтрам З. ў 13 ст. быў Навагародак, дзе, як мяркуе Ф.Д.Гурэвіч, склалася карпарацыя ювеліраў. У ювелірнай вытворчасці ВКЛ вылучаюць некалькі груп майстроў паводле іх прававога статуса і характару вытворчай дзейнасці: манастырскія; незалежныя гарадскія (працавалі паводле «даўняга звычаю»); юрыздычане (майстры, якія залежалі ад уладальніка свецкай або духоўнай *юрыдыкі* ў горадзе); магнацкія сервітары; цэхавыя; прыдворныя злотнікі вял. князёў. Гэтыя групы аказвалі вял. ўплыў адзін на аднаго, ступень уздзеяння не была аднолькавай на ўсёй тэр. ВКЛ, а таксама ў рамках аднаго горада на розных этапах яго гісторыі; на яе ўплывалі этнічнае асяроддзе і культ. традыцыі. Адзначаецца пераход майстроў-ювеліраў з буйных у дробныя гарады і на гэтай аснове — пераход майстроў з адной групы ў іншую. Найб. рэгламентаванай групай злотнікаў (залатароў) былі цэхавыя майстры. Ювелірныя цэхі мелі адладжаную ўнутраную структуру, развітую сістэму знешніх — міжцэхавых, міжсаслоўных, міжрэлігійных, міжнац. сувязей. Першы вядомы злотнік ВКЛ — Якуб, майстар вял. князя літ. Гедзіміна (упамінаецца


Да арт. **Злотніцтва**. Абраз св. Казіміра ў акладзе з Віленскай капліцы Казіміра. Каля 1520.


Да арт. **Злотніцтва**. Рэлікварый з Віленскага кафедральнага касцёла Станіслава і Уладзіслава. Да 1539.



Да арт. **Злотніцтва**. Рэлікварый з Віленскага кафедральнага касцёла Станіслава і Уладзіслава. 1602.



Да арт. **Злотніцтва**. Св. Казімір. Сярэбраная скульптура з Віленскага кафедральнага касцёла Станіслава і Уладзіслава. 1637.



Да арт. **Злотніцтва**. Манстранцыя з Віленскага кафедральнага касцёла Станіслава і Уладзіслава. 1649—55.

ў 1292, калі трон ВКЛ займаў яшчэ Віцень). Мяркуецца, што Якуб паходзіў з Рыгі. Гедзімін прымаў пры сваім двары і інш. злотнікаў. У 1422 згадваецца віленскі злотнік Маркус. З ВКЛ паходзіў вядомы кракаўскі злотнік Ян Літвін (упамінаецца ў 1440—60, з 1441 старшы кракаўскага цэха злотнікаў, з 1442 шматгадовы гарадскі лаўнік), у 1452 яго вучнем быў Ян з Вільні. У 1481 упамінаецца віленскі злотнік Клемент, у 1514 ён жыў у юрыдыцы капітула. Віленскі злотнік Пётр упамінаецца ў 1491—1516. У 1495 па ініцыятыве злотнікаў нямецкага паходжання вял. князь літоўскі Аляксандр у 1495 заснаваў у Вільні злотніцкі цэх (1-ы рамесны цэх у ВКЛ). Цэх ахопліваў майстроў нямецкага і польскага паходжання. У 1516 Жыгімонт I Стары пацвердзіў цэхавы статут. У 1544 віленскія злотнікі — «літвіны» і «русіны» — скардзіліся вял. князю, што мясцовыя злотнікі — немцы і палякі — не даюць ім мажлівасці займацца злотніцкім рамяством як асобам, якія не належаць да цэха, хоць раней яны свабодна ім займаліся; Жыгімонт I дазволіў працаваць злотнікам па-за цэхам. У 1547 Жыгімонт II Аўгуст пацвердзіў статут віленскага цэха злотнікаў, а ў 1558 пастанавіў, каб усе віленскія злотнікі, не зважаючы на нацыянальнасць і веравызнанне, належалі да аднаго цэха (выключэнне было зроблена для братоў Фрыдэрыка і Базыля Шумленскіх). У 1582 Стафан Баторый пацвердзіў прывілей 1547 і дапоўніў статут цэха. У 1596 Жыгімонт III пацвердзіў прывілей Стафана Баторыя і зноў дапоўніў статут. Вядомы імёны 115 віленскіх злотнікаў да канца 16 ст., сярод іх 48 немцаў (прыбылі з Гданьска, Нюрнберга, Караляўца, Эм-



Да арт. **Злотніцтва**. Табліца ў гонар абраза Маці Божай з Чарэйскага манастыра. 1640.



Да арт. **Злотніцтва**. Пацір з Віленскага касцёла Яна. 1-я пал. 18 ст.

дэма, Інгальштата, Франкфурта-на-Майне, Аўгсбурга, Страсбурга, Іахімсталя, Мекленбурга і інш.), 23 чал. перасяліліся з Польшчы (у асн. з Кракава). На велікакняжацкім двары адзначаюцца італьянскія майстры (8 чал. з Венецыі, Вероны і Мантуі), 1 француз. У Вільні працавалі таксама злотнікі з Масковіі (2 чал.), галандзец, швейцарац, венгр. Пасля 1544 адзначаецца наплыў злотнікаў з Польшчы. Мяркуецца, што ў сярэдзіне 17 ст. ў Вільні ўзнік яўрэйскі злотніцкі цэх. У 17—18 ст. сярод віленскіх злотнікаў трывалыя пазіцыі па-ранейшаму захоўвалі майстры нямецкага паходжання, аднак з сярэдзіны 18 ст. значна ўзмацніліся пазіцыі яўрэйскіх майстроў. Патронам злотнікаў лічыўся св. Элігій, яго выява змешчана на пячатках віленскага цэха злотнікаў.

У Коўне злотнікі вядомы з 1498, злотніцкі цэх утварыўся ў сярэдзіне 16 ст. У Гародні злотнікі фіксуюцца з 1539, іх цэх атрымаў статут у 1630, але ў 18 ст. ўжо не дзейнічаў, у 1789 у горадзе працавала 12 майстроў хрысціянаў — па 6 злотнікаў і ювеліраў, а таксама 7 злотнікаў-яўрэяў. У Берасці ў 1566 працавалі 4 злотнікі, у 1599 заснаваны цэх злотнікаў і мастакоў. У Магілёве злотнікі і сярэбранікі ўпамінаюцца з 1577, у 1629 прыняты статут цэха злотнікаў (было 10 майстроў), у 1635 да яго далучаны меднікі, канвісары і бляхары (у 1650 вылучаны); у 1745 у горадзе працаваў 1 злотнік, у 1765 — 6 злотнікаў. У Віцебску залатары ўпамінаюцца з 1596, у 1665 працавалі 2 злотнікі, з 1721 тут вядомы злотніцкі цэх. У Полацку залатары вядомы з 1502, у 1605 арганізаваны цэх металістаў, у які ўваходзілі таксама злотнікі. У сярэдзіне 17 ст. ў горадзе працавала каля 20 злотнікаў, аднак большая частка з якіх была вывезена ў Маскву. Пінскія злотнікі ўпамінаюцца з пач. 16 ст., у 1639 створаны аб'яднаны цэх, у які ўваходзілі злотнікі, кавалі, катляры і мечнікі. У 1783 у Пінску было 4 злотнікі, у канцы 18 ст. злотнікі і сярэбранікі ўваходзілі ў аб'яднаны кавальскі цэх. У Навагародку злотнікі ўпамінаюцца з 1-й пал. 16 ст., у 1636 створаны злотніцкі цэх. У Менску ў 1591 створаны аб'яднаны цэх металістаў, куды ўваходзілі і злотнікі. У 1615 яны стварылі асобны цэх, аднак у 18 ст. зноў існаваў агульны цэх металістаў (у 1800 у горадзе працавала 56 злотнікаў). У Слуцку злотніцкі цэх існаваў у 1-й пал. 17 ст., у 1728 у горадзе было 7 злотнікаў і 12 сярэбранікаў. Майстры-злотнікі, якія не ўваходзілі ў цэхі, працавалі ў Бабруйску, Давыд-Гарадку, Клецку, Міры, Нясвіжы, Слоніме, Шклове і інш. Залатары ў 1-й пал. 16 ст. адзначаюцца ў Кіеве, Жытоміры, Вінніцы, Уладзіміры, Луцку, Крэменцы, Астрозе, Дубно, Клявані, Лакачах, Сокалі, Сцепані і інш. укр. гарадах. Злотнікі Гародні, Менска, Берасця, Магілёва, Полацка, Віцебска і інш. прызнавалі аўтарытэт віленскага злотніцкага цэха як гал. адукацыйнага цэнтра ювеліраў ВКЛ. Усяго ў 1650—1750 пачатковае і майстэрскае навучанне ў віленскім цэху прайшлі больш як 250 чал. з розных гарадоў ВКЛ. Толькі ў 1660—1800 у віленскім цэху былі атэставаны каля 200 ювеліраў з Полацка, Слоніма, Дзісны, Глыбокага. У некаторых віленскіх ювелірных майстэрнях адначасова працавала да 10 вучняў і падмайстроў. Шэрагі злотнікаў ВКЛ пастаянна папаўняліся майстрамі — эмігрантамі з Германіі і Польшчы. Так, у 1730-я г. ў Клецку пасяліўся злотнік Гершан Сендыковіч з Любліна, а ў 1770-я г. ў Гародні — Ёган Тэадор Кёс. Сярод манастырскіх майстроў першапачаткова пераважалі, відаць, праваслаўныя, па меры ўмацавання каталіцтва раслі шэрагі кляштарных майстроў, у 2-й пал. 18 ст. пераважалі прадстаўнікі езуіцкага ордэна.



Да арт. **Злотніцтва**. Пацір з Ружанскай Петрапаўлаўскай царквы. Канец 15 — пач. 16 ст.



Да арт. **Злотніцтва**. Пацір з Ружанскай Петрапаўлаўскай царквы. 1666.



Да арт. **Злотніцтва**. Булава з серабра. Канец 17 — пач. 18 ст.



Да арт. **Злотніцтва**. Абраз Маці Божай з Дзісны. 1774.

Заказчыкамі ювелірных вырабаў выступалі магнаты, заможная павятовая шляхта, царк. іерархія, гарадскі патрыцыят, купецтва. Злотнікі выраблялі мужчынскія і жаночыя ўпрыгожанні, прадметы рэлігійнага культу, парадныя сталовыя прыборы і начынні, аздаблялі вупраж і зброю, рэзалі пячаткі. З 15 ст. побач са злотнікамі ўпамінаюцца сярэбранікі, якія спецыялізаваліся на вырабах з серабра, у 18 ст. ўпамінаюцца спецыялізаваныя майстры-ювеліры, што займаліся апрацоўкай каштоўных камянёў. Сярод вырабаў злотнікаў ВКЛ — *Віленскі крыж*, *Калужскі крыж*, *Полацкі крыж*, шаты абразоў. Найб. старая шата з бел. зямель — шата Будслаўскага абраза Маці Божай (канец 16—1-я пал. 17 ст.), выкананая ў рэнесансным стылі, відаць,




Да арт. **Злотніцтва**: 1–2 – пячаткі віленскага цэха злотнікаў (16 і 18 ст.); 3 – кляймо віленскага цэха злотнікаў (16 ст.); 4–5 – віленскія гарадскія ювелірныя клеймы (16 і 17 ст.).

віленскім майстрам заходняй (італьянскай) арыентацыі.

3. ВКЛ развівалася пад уздзеяннем розных мастацкіх школ і этнічных традыцый. У першапачатковы перыяд былі моцнымі стараж.-рус. і візантыйскі ўплывы. З 14 ст. на З., асабліва ў зах. абласцях ВКЛ развівалася ў рэчышчы готыкі, потым рэнесансу, барока, ракако. Пры вытворчасці ювелірных вырабаў выкарыстоўваліся плаўка, коўка, вальцоўка, валачэнне, расклёпванне, пры іх фармаванні — гнуццё, праўка,



Да арт. **Злотніцтва**. Манстранцыя з Будслаўскага касцёла. 1783.

выцягванне, пілаванне, свідраванне, пайка, штыфтаванне, плакіроўка, пры мастацкай апрацоўцы — шліфаванне, паліраванне, ажураванне, канфарэнне, гравіроўка, гільяшыраванне, траўленне, чаканка, цісненне басмай, інкрустацыя, скань, грануляванне, эмаліраванне, залачэнне, серабрэнне, наводка. Для сведчання якасці на ювелірныя вырабы ставіліся клеймы. Віленскія цэхавыя клеймы мелі выяву св. Элігія і кубка, гарадскія — герба «Калюмны» і перакрыжаваных 4 рысак. Ювелірныя клеймы інш. гарадоў ВКЛ невядомы.

*Літ.*: Максімава Э.С. Матэрыялы да гісторыі беларускага злотніцтва: (арнаментальнае мастацтва злотнікаў «віленскага кола») // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Я е ж. Шата невядомага злотніка // Мастацтва Беларусі. 1985. № 7; Я е ж. Ювелирное искусство Полоцка XVI—XVIII вв. // История и археология Полоцка и Полоцкой земли. Полоцк, 1987; Я е ж. Давыд-гарадоцкія злотнікі XVII—XVIII стст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мінск, 1989; Я е ж. История белорусского «злотництва": (от монастырских ювелиров к цеховым) // Наш радавод. Гродна, 1992. Кн. 4, ч. 3; Я е ж. Мастацкія якасці шатаў абразоў XVI—першай паловы XVII ст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мінск, 1994; Пуцко В.Р. Бароўскі сярэбраны пацір // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мінск, 1989; Я г о ж. Гравіраваная сярэбраная шклянка з Бранска // Мастацтва. 1994. № 5; Я г о ж. Барочныя аправы цудадзейных абразоў Маці Божай // Барока ў Беларускай культуры і мастацтве. Мінск, 1998; Я г о ж. Серебряная чарка с гербом Полоцка // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2000. № 15; Сас П.М. Феодальные города Украины в конце XV—60-х годах XVI в. Киев, 1989; Цітоў А.К. Спіс злотнікаў Беларусі ў XII—XVIII стст. // Гуманітарна-эканамічны веснік. 2001. № 1; Я г о ж. Лепшы злотнік Рэчы Паспалітай // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2008; Я г о ж. Злотнічныя цэнтры Беларусі (ад даўніх часоў — да пачатку XX ст.) // Архіварыус. Мінск, 2009. Вып. 7; Laucevičius E., Vitkauskienė B.R. Lietuvos auksakalystė XV—amžius. Vilnius, 2001; Vilniaus katedros lobynas. = Vilnius Cathedral Treasury. Vilnius, 2002; Сінчук І. Juwel — значыць «каштоўны камень» // Мастацтва. 2004. № 1; Błaszczyk G. Pochodzenie złotników wileńskich do końca XVI wieku // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 2005. T. 11; Auksakalystė XIII—XX a. T. 1—2. Vilnius, 2006—07; Vitkauskiene B.R. Złotnictwo wileńskie: Ludzie i dzieła. XV—XVIII wiek. Warszawa, 2006; Skarbiec katedry wileńskiej. Warszawa, 2008.

**Золтан** (Zoltán) Андраш (н. 25.12. 1949, г. Шопран, Венгрыя), венгерскі славіст. Канд. філалагічных навук (1984). Скончыў Будапешцкі ун-т, дзе з 1974 працаваў на кафедры рус. мовы, з 1991 заг. кафедры ўсх.-слав. і балтыйскай філалогіі, з 2003 заг. кафедры ўкр. мовы. Даследуе польска-ўкр.-бел.-рус. моўныя і культурныя кантакты, сярэдневяковыя канцылярскія мовы ўсх. славян, пытанні гіст. лексікалогіі, этымалогіі і словаўтварэння ўсх.-слав. моў. Асаблівую ўвагу прысвяціў помніку стараж.-бел. літаратуры «*Гісторыя пра Атылу*». Старшыня Венгерскай асацыяцыі беларусістаў.

*Тв.*: Слова венгерского происхождения в белорусском языке: книжные заимствования эпохи Стефана Батория // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». 1 сесія — 21—25 мая, 2 сесія — 4—7 снеж., Мінск, 2000 г. Мн., 2001; О некоторых лексических особенностях старобелорусской «Повести о Трыщане» // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: зб. да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса. Мінск, 2007; Венгерска-старабеларускія фразеалагічныя паралелі // Мова — літаратура — культура: матэрыялы V Міжнар. навук. канф.: (да 80-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна). г. Мінск, 16—17 ліст. 2006 г. Мінск, 2007; Oláh Miklós *Athila* című munkájának XVI a. századi lengyel és fehérorosz fordítása. Nyíregyháza, 2004.

*Літ.*: Прыгодзіч М. Андраш Золтан — даследчык славянскай даўніны // Роднае слова. 2004. № 12.

**Зубоўскі** Францішак Ксаверый (17.10.1744, в. Веразуб Мсціслаўскага пав.—пасля 1791), паэт, перакладчык. У 1760 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, там жа вучыўся і атрымаў ступень доктара. У 1773—74 бібліятэкар Віленскай акадэміі. Пасля скасавання ордэна *езуітаў* (1773) пробашч у Беразыні, у 1777—88 канонік кужэлёўскі і пробашч у Ключэўску. Супрацоўнічаў з часопісамі «Zabawy Przyjemne i Pożyteczne» (1774—77), «Monitor» (1777—78). У 1786 хадайнічаў у Марціна Пачобута-Адляніцкага аб пасадзе ў школе Адукацыйнай камісіі, а ў 1787 — аб пасадзе выкладчыка ў Гал. школе ВКЛ. У

1787 збіраўся выдаваць часопіс «Kollekcja Starozytnych i Tegoczesnych Osobliwosci». У 1788—89 прафесар красамоўства ў школе Адукацыйнай камісіі ў Любліне; з 1791 пенсіянер Адукацыйнай камісіі. Быў членам масонскай ложы «Святыня Ізіды». Прадстаўнік паэзіі Асветніцтва. Пісаў на польскай мове маралізатарскія і патрыятычныя вершы, байкі; перакладаў з лацінскай мовы творы Шымана Шымановіца, Яна Каханоўскага і інш. Выдаў паэтычныя кнігі «Збор вершаў» («Zebrany wiersz», т. 1—2, Варшава, 1786; 2 выд. Вільня, 1808), «Геліконкі» («Helikonki», Люблін, 1789).

**Зяневіч** Андрэй (каля 1608, ВКЛ—20.3.1687), дзеяч каталіцкай царквы. У 1629 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. Свяшчэннага Пісання і прэфект школы ў Крожах (1645—46), прафесар філасофіі ў Вільні (1646—49), палемічнай тэалогіі ў Браневе (1649—50) і Вільні (1652—53), схаластычнай тэалогіі ў Браневе (1653—55), суперыёр у Коўні (1658—61), місіянер у Слуцку (1664—65), праф. схаластычнай тэалогіі ў Вільні (1666—67), суперыёр у Менску (1668—72), прэфект школы ў Полацку (1676—79) і Нясвіжы (1679—82). Быў прыдворным місіянерам кіеўскага біскупа, потым Крыштофа Белазора. Аўтар панегірыкаў. Захаваліся рукапісныя выклады З. па логіцы.

**Зянковіч** Міхал Ян (1670, Дарагічынская зямля, Падляшша—23.1.1762), дзеяч каталіцкай царквы, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў са шляхецкага роду Зянковічаў-Пeратрускіх герба «Сястрэнец». Доўгі час быў пробашчам у Барысаве і Лідзе. Канонік віленскі з 1699, архідыякан жамойцкі, пробашч крожскі, біскуп-суфраган жамойцкі з 1717—18 (тытулярны біскуп юліяпалітанскі), адначасова вял. пісар ВКЛ у 1724—29, біскуп віленскі з 1730. Пасля смерці караля польскага і вял. князя літоўскага Аўгуста II (1733) падтрымаў кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. У сувязі з перамогай Аўгуста III у 1734 быў вымушаны з'ехаць у Прусію, вярнуўся ў 1736. Кіраваў епархіяй з дапамогай суфрагана-прэлата Юзафа Сапегі. Прызначыў на пасаду архідыякана віленскага А.К.*Гараіна*, біскупа-суфрагана жамойцкага. Гэта выклікала нязгоду віленскага капітула, які аддаў гэту пасаду Е.К.*Анцуту*, што выклікала зацятую барацьбу бакоў, якая суправаджалася гвалтоўнымі наездамі на архідыяканскія маёнткі. З. вызначаўся вял. набожнасцю. Аднавіў Віленскі кафедральны касцёл, фундаваў у Вільні касцёл св. Юзафа і Нікадзіма, шпіталь св. Лазара, дом для ксяндзоў-эмерытаў, касцёлы ў Кеўклях і Лаварышках, заснаваў касцёл у Бобтах. Для павышэння ўзроўню навучання ў Віленскай духоўнай семінарыі запрасіў для яе кіравання ксяндзоў-*камуністаў* (адпаведны дагавор з імі заключаны ў 1739), у 1733 даў семінарыі новы статут. Правёў *Віленскі сінод 1744*. У 1750 каранаваў цудатворны абраз Маці Божай у Віленскім касцёле Міхаіла Архангела («Сапежынская мадонна»). Рыхтаваў у свае наступнікі пляменніка — Т.І.*Зянковіча*, аднак наступным віленскім біскупам стаў І.Масальскі.



М.Я.**Зянковіч**.



In AVITUM DECUS
ILLUSTRISSIMI, EXCELLENTISSIMI ac REVERENDISSIMI DOMINI
LOCI ORDINARII.

I.
Dum Synodi Lapes clarescunt Luce Sagitta, — Habacuc 3.
Quolibet hic Lex Lux jure vocanda venit. — Prov. 6.
II.
De radiis Lux orta Crucis, quam Praesulis ornat
Olerum, tot Olerum quis neget. esse modo. — Divi Amatus.

Герб М.Я.**Зянковіча** з выдання пастаноў Віленскага сінода 1744.

*Літ.*: P r z y a ł g o w s k i W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 3. Petersburg, 1860; K u r c z e w s k i J. Biskupstwo wilenskie od jego założenia aż do dni obecnych, zawierające dzieje i prace biskupów i duchowieństw a djecezji wilenskiej, oraz wykaz kościołów, klasztorów, szkół i zakładów dobroczynnych i społecznych. Wilno, 1912.

**Зянковіч** Тамаш Ігнацы (1710—9.12.1790), дзеяч каталіцкай царквы, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Пляменнік віленскага біскупа М.Я.*Зяновіча*, які рыхтаваў З. ў свае наступнікі. Д-р тэалогіі і абодвух правоў. Віленскі канонік з 1741, кусташ з 1744, вял. пісар ВКЛ у 1754—62, біскуп-суфраган беларускі з 1755 (тытулярны біскуп арэапалітанскі), сакратар духоўны ВКЛ у 1762—82, біскуп-суфраган віленскі ў 1763—82. Вызначаўся вял. набожнасцю; асвяціў больш за 60 касцёлаў. Падтрымліваў дабрачынныя таварыствы. Першы ў ВКЛ выступіў супраць масонства.

**зярцала**, тып наборнага даспеха, аснову якога складалі 2 буйныя пласціны, што прыкрывалі грудзі і спіну. Да гэтых пласцін пры дапамозе кальчужных перамычак альбо раменьчыкаў мацаваліся пласцінкі меншага памеру, якія ахоплівалі бакі, а часам і плечы ваяра. Пласціны, асабліва нагрудная і наспінная, паліраваліся да люстранога бляску, адкуль і паходзіць назва гэтага ўсх. даспеха, які трапіў на землі ВКЛ, праўдападобна, праз тэр. Маскоўскай дзяржавы і выкарыстоўваўся тут у 16 ст. «Зерцадла московския одны» фігуруюць у «рэестры паспалітых рэчаў скарбных» за 1510. «Зерцала 4» знаходзіліся ў 1536 сярод амуніцыі замка Магільна.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008.

***Юрась Бохан.***

**Іаанікій** Г а л я т о ў с к і [каля 1620—2(12).1.1688], дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Паходзіў з Валыні. У 1640-х г. вучыўся ў Кіева-Магілянскім калегіуме. Пасля жыў на Валыні, каля 1650 прыняў манаства, быў настаяцелем *Купяціцкага манастыра* ў Пінскім пав. У 1655 запрошаны Лазарам *Барановічам* выкладаць у Кіева-Магілянскім калегіуме. У 1658—62 рэктар Кіева-Магілянскага калегіума і ігумен Кіеўскага Брацкага манастыра. Прыклаў шмат намаганняў для адраджэння калегіума і манастыра пасля ваенных дзеянняў сярэдзіны 1650-х г. У сувязі з рас.-польскімі баямі 1665 быў вымушаны пакінуць Кіеў, жыў на Падоллі, Валыні, у ВКЛ. З 1668 у Ноўгарадзе-Северскім, з 1669 архімандрыт Ялецкага Успенскага манастыра. Адведаў Маскву, дзе зрабіў казанне пры царскім двары. Напісаў каля 20 твораў на ўкр. і польскай мовах. Аўтар зборніка казанняў на укр. мове «Ключ разумения, содержащий поучения на все господские и нарочитых святых праздники» (Кіеў, 1659; 3 выд. 1665; тут змешчаны і трактат «Наука или способ составления проповедей»), кнігі прыпавесцяў на ўкр. і польскай мовах «Небо новое з новыми звездами сотворенное, или Повесть о чудесах Богородицы» (Львоў, 1665; 3 выд. Магілёў, 1699), палемічных твораў на ўкр. і польскай мовах супраць каталікаў, уніятаў, магаметанаў. Супраць кнігі езуіта Бенядзікта Паўла *Боіма* «Старая вера» (Вільня, 1668) накіраваны твор І. на польскай мове «Старая царква новай царкве рымскай зыходжанне Святога Духа ад Айца адзінага паказвае» (Ноўгарад-Северскі, 1678). Палемізуючы з езуітам Пятром *Скаргам*, І. выдаў на польскай мове кнігу «Адказ грэкарасійскай царквы рымлянам на кнігу іх Фундамент Веры, складзеную езуітам Скаргам, або Паказанне фундамента, на якім лацініікі супраць рускіх засноўваюць сваю новую веру» (Чарнігаў, 1683).



*Літ.*: С у м ц о в Н.Ф. Иоанникий Галятовский: к истории южнорусской литературы XVII в. // Киевская старина. 1884. Т. 8. Янв.—апр.; О г и е н к о И.И. Проповеди Иоанникия Галятовского. Харьков, 1913.



Чꙋда Прстой Бцы
Над ними ꙋмѣетными.
Чꙋдо первое.
В Земли Саксон, въ мѣстѣ Магдебꙋркꙋ, былъ младенецъ на имя Ѵдо, который ся в школахъ ꙋчилъ, но всегда от оучителей былъ караный, бо былъ до наꙋки тꙋпый и неспособный, едного дня двѣ збитый бꙋдꙋчи от своего оучителя вийшолъ зъ школы, и ишолъ до церкви, и тамъ на земли

падши

Прстой Бцы. гг.

падши моляся Пречтой Бцы, жебы емꙋ помогла в наꙋцѣ, тогда емꙋ спящомꙋ показалася Пречтая Два Бца, и мовила: Выслꙋхалам молбꙋ твою и видѣлам оутрапеньe твои, штожъ тебѣ дам не тылко даръ оумѣетности, но еще по смерти теперешнего Вппа црковъ Магдебꙋрскїя воинa моего тебѣ порꙋчаю, который самъ если добре бꙋдешъ справовати, вѣчной достꙋпишъ заплаты, а если злѣ, згинешъ, то рекши Пречтая Бца, невидима стала, Ѵдо от сна вставши ишолъ до школы, и почалъ всѣхъ наꙋкою и гаданиемъ превышшати, по двохъ лѣтехъ Архиепппъ Магдебꙋрскій оумеръ, на его мѣстце Оу-

дона

**Іаанікій** Галятоўскі. «Неба новае». Магілёў. 1699. Разварот.

**Іаасаф** К р а к о ў с к і [?—1(12).7.1718], дзеяч праваслаўнай царквы. Да 1670 вучыўся ў Кіева-Магілянскім калегіуме, рэктарам якога быў Варлаам Ясінскі, у будучым апякун І. Каля 1673 накіраваўся на вучобу на Захад, слухаў лекцыі ў Калегіуме св. Афанасія ў Рыме. Прыняў манаства ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Да 1693 выкладаў у Кіева-Магілянскім калегіуме, у 1689—90 і 1693—97 яго рэктар. Атрымаў вядо-



масць як выдатны выкладчык рыторыкі і філасофіі. Дамогся для калегіума статуса вышэйшай навучальнай установы. Адначасова з 1689 быў ігуменам Нікольскага Пустынскага манастыра, з 1693 — Кіеўскага Брацкага манастыра, з 1697 архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1692 І. пасланы Варлаамам Ясінскім у Вільню для ўмацавання пазіцый праваслаўных і ўладжвання спрэчак Віленскага брацтва. 19(30). 10.1707 саборам кіеўскага духавенства абраны мітрапалітам кіеўскім, пасвячоны 15(26).8.1708 у Маскве Стафанам Яворскім. Па загаду Пятра І 6(17).11.1708 пракляў укр. гетмана Івана Мазепу. У 1718 выкліканы ў Пецярбург з-за падазрэнняў у паліт. нелаяльнасці (быў абгавораны пад пыткай царэвічам Аляксеем), памёр па дарозе ў Цвярскім Архангельскім манастыры.

*Літ.*: Мыцык Ю.А. Украинские краткие летописцы конца XVII—начала XVIII в. // Некоторые проблемы отечественной историографии и источниковедения. Днепропетровск, 1978.

**Іаасаф II** [?—17(27).2.1672], дзеяч праваслаўнай царквы. Паходзіў з мяшчан г. Орша. З сям'ёй (меў прынамсі 2 сыноў і дачку) выехаў у Расію. Прыняў манаства. У 1650 дзякуючы пратэкцыі патрыярха Нікана атрымаў пасаду архімандрыта Уладзімірскага Раждзественскага манастыра (1654—56), потым — Троіца-Сергіевай лаўры (1656—66). Звярнуў на сябе ўвагу цара Аляксея Міхайлавіча дзякуючы «цуду» — буйной перамозе ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* пасля 3-дзённага паста і малітваў манахаў Троіцкага манастыра. Пасля нізлажэння патрыярха Нікана 31.1(10.2). 1667 пасвячоны як патрыярх маскоўскі і ўсяе Русі патрыярхамі александрыйскім Паісіем і анціахійскім Макарыем. У маі 1667 старшынстваваў на саборы, што абвясціў анафему стараабраднікам. Благаславіў выданне першых палемічных твораў супраць стараабраднікаў — «Сказание о соборных деяниях» і «Жезл правления» Сімяона Полацкага (Масква, 1667), а таксама яго творы «Большой катехизис» і «Малый катехизис» (Масква, 1670), «Цветная триодь» (Масква, 1670), «Постная триодь» (Масква, 1672). Праводзіў жорсткія ганенні супраць стараабраднікаў. Выдаў правілы іканапісу «Выписка от божих писаний о благолепном писании икон и обличение на неистово пишущих оные» (Масква, 1668).

*Літ.*: Мыцік Ю. Беларус — маскоўскі патрыярх XVII стагоддзя // Голас Радзімы. 2002. 5 чэрв.

**Іван І Данілавіч** Каліта (?—31 марта 1340), князь маскоўскі [1325—40], вял. князь уладзімірскі [1328—40]. Сын маскоўскага князя Данілы Аляксандравіча. Часта ездзіў у Арду і атрымаў поўны давер хана Узбека, які даручыў маскоўскаму князю збіраць з рус. зямель ардынскую даніну. У 1325 пераве́ў кафедру мітрапаліта з Уладзіміра ў Маскву. Сабраў вял. багацці, якія накіроўваў на скупку зямель. Значна пашырыў межы Маскоўскага княства. У канцы 1333, шукаючы падтрымкі ВКЛ у барацьбе з Ноўгарадам, заключыў саюз з вял. князем літоўскім Гедзімінам, ажаніўшы свайго сына Сімяона з дачкой Гедзіміна *Айгустай*. Аднак потым прымірыўся з Ноўгарадам і ў 1335, у адказ на літ. напад на Наваторжскую воласць, паслаў войскі на паўн.-ўсх. землі ВКЛ; былі спалены гарады Асечан, Расну «и иных городков много». Пабудаваў у Маскве некалькі мураваных цэркваў, новы дубовы Крэмль. Перад смерцю прыняў манаства і схіму з імем Ананія. Пахаваны ў Маскве ў саборы архангела Міхаіла.

*Літ.*: Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV вв. М., 1984; Аверьянов К.А. Московское княжество Ивана Калиты. Вып. 1—3. М., 1993—94; Яго ж. Купли Ивана Калиты. М., 2001; Борисов Н.С. Иван Калита. М., 2005; Шишов А.В. Иван Калита. М., 2006.

**Іван Андрэевіч** (?—пасля 1437), князь. Сын Андрэя Альгердавіча. У 1389—99 служылы князь у Пскове. У 1394 прымаў бацьку ў Пскове. Княжанне І.А. ў Пскове закончылася пасля таго, як пскавічы, занепакоеныя пагрозамі вял. кн. літ. Вітаўта, запрасілі да сябе княжыць ад маскоўскага кн. Васіля Дзмітрыевіча яго стаўленіка — цвярскога кн. Івана Усеваладавіча. У 1431 выступіў перад Ягайлам як паручыцель за палонных з ВКЛ. У 1437 І.А. зноў прыбыў у Пскоў, дзе быў прыняты з ганарам, але пасля некалькіх месяцаў побыту пакінуў горад. Відаць, ужо не жыў у 1439, калі пскавічы запрасілі да сябе княжыць сына І.А. Аляксандра (да 1432).

*Літ.*: Stadnicki K. Bracia Władysława Jagiełły Olgierdowicza, króla Polski, wielkiego księcia Litwy. Lwów, 1867; Wolff J. Ród Gedimina. Kraków, 1886; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Іванаўскас** (Ivanauskas) Эўгеніюс (н. 30.5.1959, г. Каўнас, Літва), літоўскі гісторык, археолаг, нумізмат. Скончыў Вільнюскі ун-т (1982). У 1986—91 гісторык і археолаг Навук.-метадычнай рады помнікаў культуры. У 1991—2003 археолаг Навук. цэнтра культ. спадчыны Літвы (з 1995 Цэнтр культ. спадчыны). З 2005 супрацоўнік музея Каўнаскага аддзялення Банка Літвы. Археал. даследаванні праводзіць з 1989. Працы па нумізматыцы ВКЛ, стараж. гарадам, вёскам, дварам, находкам скарбаў у Літве. Аўтар кніг: «Зліткі і манеты Вялікага княства Літоўскага з 1387 да 1495 год» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes lydiniai ir monetos nuo 1387 iki 1495 metų», Вільнюс, 1994, з М.Бальчусам), «Грашовыя скарбы Літвы. Схаваныя ў 1390—1865 гадах» («Lietuvos pinigų lobiai. Paslėpti 1390—1865 metais», Вільнюс, 1995), «Кулаўтуўскі скарб» («Kulautuvos lobiai», Вільнюс, 1997), «Манеты Літвы 1386—1707 гг.» («Coins of Lithuania 1386—1707», Вільнюс, Калумбія, 1999, з Р.Дж.Дучысам), «Знаходкі мундзірных гузікаў Вялікай арміі Напалеона ў Літве» («Napoleono didžiosios kariuomenės uniformos sagos, rastos Lietuvoje», Вільнюс, 1999, з М.Бальчумісам), «Манеты і жэтоны магільнікаў Літвы 1387—1850 гг.» («Monetos ir žetonai Lietuvos senkapiuose 1387—1850», Вільнюс, 2001), «Чаканка манеты ў Літве ў 1495—1769 гг.» («Lietuvos monetų kalybos istorija 1495—1769», Вільнюс, 2002, з Р.Дж.Дучысам), «Адзінкавыя манетныя знаходкі ў Літве XIV—XX стст.» («Pavieniai monetų radiniai Lietuvoje XIV—XX a.», Вільнюс, ...), «Карманны каталог літоўскіх манет» («Pocket Catalogue of Lithuanian Coins», Вільнюс, 2004, з Р.Дж.Дучысам),



«Смоленские монеты Витовта и Романа Михайловича» (Каўнас; Мінск, 2008, з Ю.Барэйшам).

**Іванова** Людміла Сяргееўна (н. 23.7.1947, г. Мінск), беларускі гісторык. Скончыла БДУ (1971). У 1969—75 працавала ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя», у 1976—2007 у Ін-це гісторыі НАН Беларусі (з 1994 навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі Беларусі 13—18 ст.), з 2007 вядучы палеограф аддзела стараж. актаў Нац. гіст. архіва Беларусі. Даследуе гісторыю этнаканфесійных адносін у ВКЛ у 16—17 ст., гісторыю Рэфармацыі, царкоўных уній, культуры і міжнародных сувязей ВКЛ. Адзін з аўтараў кніг «Нарысы гісторыі Беларусі» (ч. 1, Мінск, 1994), «Гісторыя Беларусі» (т. 3, Мінск, 2004).

*Тв.*: Рэфармацыйны рух на Беларусі (другая палова XVI—першая палова XVII стст.) // Бел. гіст. часопіс. 1997. №2; Еўрапейскае абліччa і рэгіянальныя асаблівасці Рэфармацыі на Беларусі (другая пал. XVI—сяр. XVII ст.). Мінск, 1998; Издание протестантских Библейских книг в Беларуси во второй половине XVI века в контексте культурных связей с Польшей // Kultura ksiazki ziem wschodnich i poludniowych pogranicza Polski (XVI—XX wiek): paralele i roznice. Katowice, 2004; Гісторыя пратэстанцкай царквы на Беларуси // Вопросы свободы совести и религиозных организаций в Республике Беларусь. Мінск, 2005; Рэфармацыйныя зборы ў Беларусі: Другая палова XVI—XVII ст. // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Мінск, 2007.

**Іваноў** Андрэй, разьбяр па дрэве 2-й пал. 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Майстар *беларускай рэзі*. Працаваў у Аружэйнай палаце ў Маскве (з 1667 «разьбярнай справы жалаваны майстар»). Пад кіраўніцтвам старца *Арсенія* разам з інш. майстрамі ўдзельнічаў у аздабленні сабора Васкрасенскага Нова-Іерусалімскага манастыра пад Масквой (да 1667), драўлянага царскага палаца ў с. Каломенскае (1667—68), палацавай мэблі. Імя І. ўпамінаецца ў дакументах 1767—77.

**Іваноў** Осіп, цаніннік і разьбяр па дрэве 2-й пал. 17 ст. Паходзіў са Шклова. Майстар *беларускай рэзі*. Працаваў у Маскоўскай дзяржаве. Вучань *Палубеса* ў 1661—66. Прымаў удзел у вырабе кафлі для Васкрасенскага Нова-Іерусалімскага манастыра пад Масквой (1658—66). З 1666 працаваў у Аружэйнай палаце ў Маскве. Разам з К.*Міхайлавым* і інш. аздабляў разьбой дзверы, ліштвы, мэблю (?) для царскага палаца ў с. Каломенскае (1667—68), магчыма, рабіў кафлю для печаў.

**Іваноў** Сямён, майстар разьбярнай і сталярнай справы 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1683—85 у складзе арцелі бел. разьбяроў і цесляроў удзельнічаў у аздабленні і ўстаноўцы іканастаса царквы Данскога манастыра ў Маскве (1683), рабіў крэслы, сталы, куфэркі і інш. для царскіх харомаў.

**Іваноў** Якаў (Якушка), разьбяр па дрэве 2-й пал. 17 ст. Паходзіў з Віцебска. Майстар *беларускай рэзі*. Працаваў у Маскоўскай дзяржаве. У канцы 1666 пераведзены ў Маскву з Васкрасенскага Нова-Іерусалімскага манастыра. Разам з інш. майстрамі — выхадцамі з Беларусі ўдзельнічаў у аздабленні царскага палаца ў с. Каломенскае (1667—68), рабіў разную мэблю, узорыстыя аконныя рамы і інш.

**Івянецкі кляштар францысканцаў.** Пабудаваны ў 1702—05 у стылі сталага барока ў мяст. Івянец (Валожынскі р-н) пад кіраўніцтвам мясцовага майстра А.Чаховіча, рэстаўрыраваны ў 1856—60 (архітэктар В.Бяляўскі, мастак Я.Кураткевіч). У 1880—85 касцёл перабудаваны пад правасл. царкву. Касцёл — мураваная 3-нефавая крыжовая базіліка з 2-вежавым гал. фасадам. Цэнтр. неф і трансепт накрыты 2-схільнымі дахамі з фігурнымі франтонамі па тарцах. Ярусы вежаў угору значна памяншаюцца. Фасады багата аздоблены ордэрнай пластыкай і лепкай. Вокны з лучковымі і фігурнымі завяршэннямі. Унутры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. Інтэр'ер спачатку быў упрыгожаны разьбой, лепкай, скульптурай. Т-падобны ў плане мураваны 2-павярховы (часткова 3-павярховы) будынак кляштара прымыкае да касцёла падоўжным крылом. Планіроўка калідорная. Па восі касцёла — манументальная брама. *Л.В.Трэпет.*

**Ігельстром** (Igelstrom) Іосіф Андрэевіч (Ота Генрых; 7.5.1737—18.2.1823), расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч; барон, з 1792 граф Свяшчэннай Рымскай імперыі. З інфлянцкага шляхецкага роду шведскага паходжання. Вучыўся ў Рызе, Германіі. У рас. арміі з 1753, з 1762 падпалкоўнік. У 1760-х г. у чыне палкоўніка служыў у Рэчы Паспалітай пад камандаваннем кн. М.В. *Рапніна*. У 1766 пасланы ў ВКЛ для схілення на бок Кацярыны II магнатаў: Міхала і Ігнацыя Масальскіх, Яна Дамініка і Мікалая Лапацінскіх, Ігнацыя Агінскага, Тадэвуша Бужынскага. Па загаду Рапніна ў кастр. 1767 арыштаваў групу антырас. настроеных дзярж. дзеячаў —біскупаў кракаўскага Каэтана Солтыка і кіеўскага Юзафа Анджэя Залускага, гетмана польнага і ваяводу кракаўскага Вацлава Жавускага, якія праз Вільню былі вывезены ў Расію ў зняволенне. Удзельнічаў у рас.-турэцкай вайне 1768—74, камандаваў рас. войскамі ў далучаным да Рас. імперыі Крыме. У 1784 па загаду Р.А.Пацёмкіна прымусіў апошняга крымскага хана Шагін-Гірэя выехаць у глыб Расіі. У 1784—92 І. — намеснік сімбірскі і ўфімскі. У 1790 у чыне ген.-паручніка прызначаны ў Фінляндскую армію, удзельнічаў у заключэнні Верэльскага міру. Атрымаў чын ген.-аншэфа, у 1792 намеснік пскоўскі, у 1793 — кіеўскі і чарнігаўскі. У канцы 1793 прызначаны падзвычайным і паўнамоцным паслом у Рэч Паспалітую. Ва ўмовах падрыхтоўкі паўстання патрыётамі Рэчы Паспалітай І. праводзіў асцярожную палітыку, па патрабаванні мясцовых уладаў зменшыў рас. гарнізон у Варшаве. Гэта аблегчыла поспех паўстання ў Варшаве, адкуль І. здолеў вывесці толькі каля 250 чал. Нерашучасць І. выклікала незадаволенасць Кацярыны II, і ён быў адпраўлены ў адстаўку. Жыў у Рызе. У 1796 Павел І прызначыў яго ў чыне генерала ад інфантэрыі арэнбургскім ген.-губернатарам; праз 2 гады І. выйшаў у адстаўку.

*Літ.*: Восстание и война 1794 года в Литовской провинции: (по документам архивов Москвы и Минска). Минск, 2001; Анішчанка Я. Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мінск, 2003; Носов Б.В. Установление российского господства в Речи Посполитой 1756—1768 гг. Москва, 2004.



**Ігнацій**. Партрэт з «Тытулярніка». Расія. 1672.

**Ігнацій** (каля 1540, в-аў Крыт — каля 1620), дзеяч праваслаўнай, потым уніяцкай царквы. Паводле ўласнага сведчання, быў архірэем на Кіпры, адкуль выгнаны туркамі; інш. ўказваюць, што жыў на Афоне, быў епіскапам Іерысо. Прыкладна ў 1594—95 прыбыў у Маскву. Удзельнічаў у каранацыі цара Барыса Гадунова (1598). З 1603 мітрапаліт разанскі і мурамскі. Пасля смерці Барыса Гадунова (1605) разам з інш. іерархамі Рускай правасл. царквы падтрымаў Ілжэдзмітрыя І, прывёў да прысягі яму народ у Туле. Ілжэдзмітрый пазбавіў патрыяршага пасада Іова, які да яго варожа ставіўся, і ў ліп. 1605 фактычна прызначыў на яго месца І. (фармальна абраны саборам). І. каранаваў Ілжэдзмітрыя І (ліп. 1605) і вянчаў яго з Марынай Мнішак (май 1606). На наступны дзень пасля забойства Лжэдзмітрыя І па загаду Васіля Шуйскага 19.5.1606 І. адпраўлены пад варту ў Чудаў манастыр у Крамлі. На новым саборы І. пазбаўлены патрыяршага прастола, які заняў Гермаген. У 1611 вызвалены войскам Рэчы Паспалітай і зноў стаў фактычным маскоўскім патрыярхам. У канцы 1611 разам з войскам Яна Караля Хадкевіча выехаў у стаўку Жыгімонта III пад Смаленск, па дарозе быў абрабаваны рускімі. І. было дазволена пасяліцца ў ВКЛ, з 1612 жыў ва уніяцкім Віленскім Троіцкім манастыры, ігуменам якога быў Іосіф Руцкі. Апошні пачаў схіляць І. прыняць унію, што адбылося ў жн. 1612. Пераход у унію трымаўся ў тайне, бо меркавалася І. вярнуць у Маскву як законнага патрыярха і праваднікa уніі ў Расіі. У 1612 разам з войскамі Жыгімонта III І. прыбыў у Расію, аднак хутка быў вымушаны пакінуць яе. У ВКЛ працягваў лічыцца законнымі маскоўскім патрыярхам. У 1615 ён атрымаў ад Жыгімонта III маёнтак — Папінскі дварэц, удзельнічаў у адпяванні ў Віленскім кафедральным саборы падканцлера ВКЛ Габрыэля Войны, у 1616 асвяціў царкву ў маёнтку Льва Сапегі. Пры падрыхтоўцы паходу на Расію каралевіча Уладзіслава ў 1616 меркавалася зноў вярнуць І. ў Маскву. Пасля заключэння *Дэулінскага перамір'я 1618* Жыгімонт III дазволіў І. вярнуцца ў Расію, але той застаўся ў Вільні, дзе памёр і пахаваны ў Троіцкім манастыры. Рас. ўрад яшчэ ў 1620-я г. не ведаў пра лёс І. і яго пераход у унію, апасаўся, што І. можа ўзначаліць незалежны правасл. патрыярхат у Рэчы Паспалітай. І. высока цанілі уніяты Рафаіл Корсак і Руцкі. Рус. правасл. царква не лічыць І. законным патрыярхам.

*Літ.*: Игнатьев Р. Лжепатриарх Игнатий. Вильна, 1879; Папулидис К.К. Из истории русско-греческих связей конца XVI—начала XVII в.: (о происхождении московского патриарха Игнатия) // Византийский временник. М., 1977. Т. 38; Ульяновский В.И. Патриарх Игнатий в Греции, России и Речи Посполитой // Славяне и их соседи: католицизм и православие в Средние века: сб. тезисов. М., 1991; Яго ж. К идее патриаршества и восточной миссии униатской церкви в первой половине XVII в.: (московский патриарх Игнатий в Вильно) // Наш радавод. Гродно, 1991. Кн. 3, ч. 2; Булычев А.А. История одной политической кампании XVII века: законодательные акты второй половины 1620-х годов о запрете свободного распространения «литовских» печатных и рукописных книг в России. М., 2004.

**Ігнацьеў** Еўдакім, майстар разьбярнай і сталярнай справы 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1683—85 у складзе арцелі бел. разьбяроў і цесляроў удзельнічаў ва ўстаноўцы іканастаса царквы Данскога манастыра ў Маскве, вырабляў сталы, крэслы, куфэркі і інш. для царскіх харомаў.

**Ізабела** (18.1.1519, г. Кракаў — 15.9.1559), каралева венгерская, жонка венгерскага караля Яна Запайя. Дачка караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта І Старога і Боны Сфорца (іх першае дзіця). Атрымала гуманітарную адукацыю, ведала польскую, італьянскую, лацінскую, нямецкую, венгерскую мовы. У 1527—29 і 1533— 36 суправаджала бацькоў у час іх побыту ў ВКЛ. Бона меркавала выдаць І. за французскага прынца або за нейкага італьянскага князя, а Жыгімонт І аддаваў перавагу саюзу з Габсбургамі. Ян Запайя, абраны ў 1526 нац. партыяй у Венгрыі каралём, шукаў падтрымкі Жыгімонта Старога ў барацьбе супраць іншага прэтэндэнта на венгерскую карону — Фердынанда Габсбурга. Бона выступіла за падтрымку Яна, баючыся росту магутнасці Габсбургаў, і за заключэнне шлюбу паміж І. і Янам. Жыгімонт Стары спачатку выступаў супраць мяркуемага шлюбу, які мог выклікаць вайну з Габсбургамі, потым пагадзіўся пры ўмове заключэння мірнага пагаднення паміж абодвума прэтэндэнтамі на венгерскую карону. У 1539 шлюб паміж І. і Янам Запайя быў заключаны. У 1540 нарадзіла сына Яна Жыгімонта і хутка аўдавела. Венгерскія магнаты абвясцілі Яна Жыгімонта каралём, а І. — рэгентам. У 1551 была вымушана адмовіцца ад венгерскай



**Ізабела**. Партрэт работы вучня Лукі Кранаха-малодшага.



кароны за сябе і сына на карысць Фердынанда Габсбурга, атрымаўшы ўладанні ў Сілезіі. У 1556 вярнулася ў Венгрыю зноў у якасці рэгента, тут і памерла.

*Літ.*: Pajewski J. Węgierska polityka Polski w polowie XVI wieku. Kraków, 1932.

**Ізабелінская Міхайлаўская царква.** Пабудавана ў 18 ст. ў стылі барока ў в. Ізабелін Ваўкавыскага пав. (цяпер Ваўкавыскі р-н). Прамавугольная ў плане мураваная царква накрыта 2-схільным дахам з 3-вугольнымі франтонамі на тарцах. Гал. фасад завершаны 4-граннай вежай (былая званіца) з шатровым верхам і цыбулепадобнай галоўкай. Плоскасныя фасады рытмічна раскрапаваны пілястрамі і прафіляваным карнізам, прарэзаны лучковымі вокнамі. Над уваходам хоры, расчыненыя ў залу лучковым праёмам з балюстрадай. Усходы на хоры ў тоўшчы сцяны. *Анатоль Кулагін.*



Ізабелінская Міхайлаўская царква.

**Ізабелінскі Петрапаўлаўскі касцёл.** Пабудаваны ў 1778 у в. Ізабелін Ваўкавыскага пав. (цяпер Ваўкавыскі р-н) у стылі позняга барока. Мураваны прамавугольны ў плане асн. аб'ём з паўцыркульнай алтарнай апсідай накрыты агульным дахам. 3-ярусны гал. фасад завершаны вежай-званіцай з пакатым 4-схільным дахам. Фасады раскрапаваны пілястрамі, прарэзаны



Ізабелінскі Петрапаўлаўскі касцёл.

арачнымі праёмамі, упрыгожаны фігурнымі філёнгамі, гарэльефамі. Над бабінцам хоры. *Анатоль Кулагін.*

**Іздэбскі** Ігнацій (25.1.1702, каля Пінска — 9.4.1766), дзеяч каталіцкай царквы. У 1718 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1730 ксёндз. Вывучаў філасофію ў Полацку (1723—26), тэалогію ў Варшаве (1728—29) і Пінску (1729—32). Праф. рыторыкі ў Слоніме (1733—34), філасофіі ў Слоніме (1736—38) і Вільні (1739—42), суперыёр у Бабруйску (1742—47) і Ілукшце (1749—60), міністр і прэфект будоўлі ў Вільні пры касцёле св. Ігнацыя (1747—49). Захаваліся рукапісныя выклады І. па логіцы.

**Ізмайлаў** (Измайлов) Арцемій Васілевіч [?—28.4(8.5.).1634], расійскі ваенны дзеяч. З 1597 некалькі разоў прызначаўся 2-м ваяводам у палкі, што дзейнічалі на паўд. граніцы супраць крымскіх татараў. У 1605, на вяселлі Лжэдзмітрыя І з Марынай Мнішак, атрымаў чыны думнага двараніна і сакольнічага. У 1607 за паспяховыя дзеянні супраць Івана Балотнікава атрымаў чын акольнічага. У 1611 дзейнічаў супраць войск Рэчы Паспалітай па вызваленні Масквы і Расіі. Удзельнічаў у абароне Масквы ў час паходу каралевіча Уладзіслава (1618). Быў 3-м паслом пры заключэнні *Дэулінскага перамір'я 1618.* У час падрыхтоўкі *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* І. прызначаны 2-м ваяводам у паход на Смаленск. Рас. войскі на чале з Міхаілам Шэіным і І. захапілі шмат гарадоў, аблажылі Смаленск. Пасля падыходу пад Смаленск арміі Рэчы Паспалітай на чале з Уладзіславам IV рас. войскі пацярпелі некалькі паражэнняў і вымушаны былі адступіць. Маскоўскія баяры, якія не любілі Шэіна і І. за ганарыстасць, абвінавацілі іх у здрадзе і асудзілі на смяротнае пакаранне.

*Літ.*: Каргалов В. Московские воеводы XVI—XVII вв. 2 изд. Москва, 2006.

**Ізмайлаў** (Измайлов) Леў Васілевіч [20(31).1.1685—13(24).1.1738], расійскі ваенны дзеяч. У 1706 накіраваны Пятром І з дыпламатычнай місіяй у Данію. З 1707 у адстаўцы, магчыма, вандраваў па Еўропе. У 1707 залічаны ў гвардзейскі Праабражэнскі полк. У 1718 у чыне капітана гвардыі ў ліку іншых падпісаў смяротны прысуд царэвічу Аляксею. У 1719—22 узначальваў пасольства ў Кітай. Пасля служыў у гвардыі. У чыне ген.-маёра ўдзельнічаў у вайне за польскую спадчыну 1733—35. Атрымаў перамогу ў *Віленскай бітве 1734*, пасля якой захапіў Вільню. 13(24).9.1734 разбіў атрад войска ВКЛ — прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага пад Сенцамі, за што атрымаў чын ген.-лейтэнанта і ордэн св. Аляксандра Неўскага. Удзельнічаў у крымскіх паходах 1735 і 1737.

*Літ.*: Slesoriūnas F. Musis prie Vilniaus ir miesto nusiaubimas 1734 metais // Lietuva ir jos kaimynai: Nuo normanų iki Napoleono. Vilnius, 2001.

**Іллініч** Ян (9.6.1685, Беларусь — 17.2.1762), дзеяч каталіцкай царквы. У 1700 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі ў Менску (1714—15), прэфект школы ў Полацку (1716—17), Нясвіжы (1718—19), Пінску (1719—20), праф. філасофіі ў Пултуску і місіянер у Карневе (1720—22), прафесар філасофіі ў Вільні (1722—25), суперыёр у Мсціслаўлі (1725—27), рэктар калегіумаў у Оршы (1727—31, 1735—38), Віцебску (1731—35), Навагародку (1738—41) і Вільні пры касцёле св. Рафала (1741—44), Нясвіжы (1745—48), Віцебску (1750—53), прэфект школы ў Менску (1748—49), інструктар 3-й прабацыі ў Нясвіжы (1749—50). Захаваліся рукапісныя выклады І. па філасофіі.



*Літ.*: P l e č k a i t i s R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Ілукшта** (латыш. Ілукстэ, Ilūkste, цяпер горад у Даўгаўпілскім р-не Латвійскай Рэспубліцы), горад у Курляндскім і Земгальскім герцагстве, на р. Ілукшта. Вядома з 1550. Уласнасць графаў Зібергаў. У канцы 16 ст. існаваў лютэранскі збор, пасля перароблены на касцёл. Значную частку насельніцтва горада складалі каталікі і уніяты. Зібергі фундавалі езуіцкую рэзідэнцыю (1681, 1690, 1702), якая адчынілася ў 1690. У канцы 17—1-й пал. 18 ст. пабудаваны комплекс езуіцкіх будынкаў з драўляным касцёлам (асвячоны ў 1690), у 1748 ён згарэў. У 1754—58 і 1761—69 пабудаваны мураваны касцёл (архітэктар Т.Жаброўскі). З 1691 дзейнічала езуіцкая школа, у 1761—73 — калегіум; існавалі канвікт, тэатр з уласнай залай, музычная бурса, б-ка. Пасля забароны ордэна езуітаў іх касцёл і калегіум у 1787 перайшлі да ордэна місіянераў. У сярэдзіне 18 ст. ваявода інфлянцкі Юзафат Зіберг пачаў будаваць мураваны замак (будоўля не скончана). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772), калі Інфлянцкае княства адышло да Рас. імперыі, І. стала месцам збору сойміка інфлянцкай шляхты-*эгзулянтаў* («цэнтрам» Інфлянцкага княства) і шляхты Курляндскага княства, што ўзаконіў у 1791 Чатырохгадовы сойм 1788—92. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: P a s z e n d a J. Kościół jezuitów w Illukszcie // Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. Kraków, 1999. T. 1.

**інструктар трэцяй прабацыі**, у ордэне *езуітаў* педагог у *доме трэцяй прабацыі*. Кіруе навучаннем маладых капланаў у час праходжання імі гадавога курсу духоўнасці і ордэнскага права. Павінен мець высокі маральны аўтарытэт, вял. досвед у выкладаемых дысцыплінах. Прызначаецца або зацвярджаецца генералам ордэна езуітаў.

**інтэрмедыя** (ад лац. intermedius той, што пасярэдзіне, прамежкавы), у літаратуры, тэатральным і музычным мастацтве — кароткая п'еса або сцэнка (пантаміма, танец, музычальны ці інструментальны твор), найчасцей камічнага зместу, што выконваецца паміж дзеямі драматычнага твора (спектакля). Узнікла ў 15 ст. ў паказах містэрый. Была пашырана ў школьной драме, камедыі дэль артэ, у тэатры Мальера і інш. На Беларусі вядомы з канца 16 ст. як устаўкі ў школьныя драмы, напісаныя на лацінскай, радзей на польск. і царк.-слав. мовах [І. да п'есы віленскага езуіта Каспара *Пянткоўскага* «Цімон Гардзілюд» (каля 1584), дзе шавец гаворыць на ламанай бел.-польск. мове; І. «Чорт Асмалейка», паказаная ў 1-й пал. 17 ст. ў Крожах, у якой селянін гаворыць па-беларуску]. Дыялогі «Размова Івана і царкоўнага слугі», «Схізматык і уніят-католік» да «Камедыі пра Якуба і Іосіфа, патрыярхаў» гарадзенскага езуіта Я.Пылінскага (1651), камедыйныя сцэнкі да польскіх драм з рукапіснага «*Аршанскага кодэкса*» (каля 1693; ставіліся ў Полацку, Оршы, Навагародку, Віцебску) паказвалі селяніна («русіна») пераважна чалавекам цёмным і абмежаваным. Больш звязаны з бел. жыццём І. 18 ст., якія ўключаліся ў смаленскую пастаноўку «Дэкламацыі» М.Базілевіча, у тэкст паказаных у Кіеве п'ес *Мітрафана* Даўгалеўскага «Камічнае дзеянне» (1736) і *Георгія* Каніскага «Уваскрэсенне мёртвых...» (1747). З часоў барока зберaглося больш за 20 бел. І. Змест іх звычайна складалі забаўныя анекдоты, гісторыі, апавяданні. Цікавыя камічныя сцэнкі са школьнага «*Ковенскага зборніка*» 1730-х г. («Селянін і вучань», «Літаратар, селянін, Самахвальскі» і інш.). Гал. герой І. — бел. селянін. З аб'екта кпінаў, якім ён быў раней, селянін у І. 18 ст. стаў увасабленнем нар. досціпу, паказваўся чалавекам разумным, разважлівым. На інтэрмедыйнай аснове ўзнікла «Камедыя» Каятана *Марашэўскага* (пастаўлена ў 1787).

*Літ.*: У с і к а ў Я. Беларуская камедыя. Мінск, 1964; История белорусской дооктябрьской литературы. Минск, 1977. С. 275—278; М а л ь д з і с А.І. На скрыжаваннi славянскіх традыцый. Мінск, 1980. С. 162—174.

**інтэрнет-рэсурсы** п а г і с т о р ы і В К Л.

С а й т ы н а в у к о в ы х у с т а н о ў, д а с л е д ч ы ц к і х, г р а м а д с к і х а р г а н і з а ц ы й. Найб. шырока ў сетцы Інтэрнет прадстаўлены Ін-т гісторыі Літвы (http://www.istorija.lt). На яго сайце змешчаны навіны, каталог і апісанне рукапісных фондаў б-кі ін-та; рэзюме і спісы навук. публікацый супрацоўнікаў вядучых аддзелаў, у т.л. археаграфіі і гісторыі ВКЛ; анатацыі навук. манаграфій, зборнікаў артыкулаў, археагр. публікацый, у т.л. серыі «Літоўская Метрыка» («Lietuvos Metrika»); анатацыі і змест часопісаў і выданняў з працягам «Літоўскія гістарычныя штудыі» («Lithuanian Historical Studies»), «Штогоднік гісторыі Літвы» («Lietuvos istorijos metraštis»), «Этналогія Літвы» («Lietuvos Etnologija»), «Археалогія Літвы» («Lietuvos Archeologija») і інш.; электронная версія часопіса «Навіны Літоўскай Метрыкі» («Новости Литовской Метрики») на літ. і рус. мовах; праграмы навук. даследаванняў і выдання гіст. крыніц.

На сайтах «Акадэмічнай сеткі даследчыкаў Вялікага княства Літоўскага» (http://civiceducationproject.org/legacy/projects/grandduchy/index.html; http://www.vklonline.com) змешчана гісторыя арганізацыі, спіс удзельнікаў, планы і мэты працы па «стварэнні ўмоваў для прафесійнага развіцця, супрацоўніцтва і інфармацыйнага абмену паміж беларускімі, латвійскімі, літоўскімі, польскімі, рускімі, украінскімі і іншымі навукоўцамі, якія даследуюць гісторыю Вялікага княства Літоўскага». Абодва сайты (англамоўны і беларускамоўны) малаінфарматыўныя і не абнаўляюцца з 2003.

Праект «Рэфармацыя ў Беларусі» (http://belreform.org) быў прымеркаваны да 450-годдзя з пачатку шырокага распаўсюджвання ў Беларусі рэфармацыйных ідэй (2003). На сайце змешчаны дакументы нац. грамадскага аргкамітэта па святкаванні гэтай гадавіны, вял. падборка манаграфій, артыкулаў, крыніц па гісторыі пратэстанцкіх абшчын ВКЛ, біяграфіі К.М.Дарагастайскага, С.Рысінскага, Б.Радзівіла і інш. дзеячаў, творы Сымона Буднага, А.Волана, Л.Сапегі, Васіля Цяпінскага, у тым ліку электроннае факсіміле часткі «Катэхізіса» Буднага (Нясвіж, 1562).

Вял. значэнне для папулярызацыі гісторыі ВКЛ сярод моладзі мае дзей-



насць рыцарскіх і ваенна-гіст. клубаў. Варта вылучыць сайты клубаў «Alter Ego» (http://alterego.tut.by), «Княжы гуф» (http://www.bel-knight. com), «Дзікае паляванне» (http://www. wild-hunt.narod.ru). На іх змешчаны абвесткі і рэпартажы з рыцарскіх турніраў, фестываляў, канцэртаў сярэдневяковай музыкі, матэрыялы па ваенна-гіст. рэканструкцыі, артыкулы па гісторыі ВКЛ, працуюць форумы.

Персанальныя сайты. Старэйшы бел. веб-праект па гісторыі ВКЛ — раздзел «Гісторыя Беларусі» у складзе партала «Віртуальны гід па Беларусі» (http://www.belarusguide.com). Праект створаны групай бел. навукоўцаў і студэнтаў, большасць з якіх на той час пражывала ў Германіі, ЗША і Швейцарыі. Раздзелы па гісторыі і бел. гіст. спадчыне распрацаваны студэнтам Заарландскага ун-та (ФРГ) А.Серкам у 1994—98. Беларуска- і англамоўная версіі сайта зmяшчаюць: электронную версію кнігі «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі», артыкул С.Дубаўца і Г.Сагановіча «Старажытная Літва і сучасная Летува», «Сьпевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года» Я.Чачота, нататкі па гісторыі Беларусі Я.Рэшатава, інфармацыю пра Метрыку і Статуты ВКЛ. Папулярызуецца канцэпцыя ўзнікнення ВКЛ, распрацаваная М.Ермаловічам. Рэсурс утрымлівае шэраг гіст. карт, спасылкі на электронныя версіі часопіса «Беларускі гістарычны агляд», кніг Ермаловіча, У.Арлова, Сагановіча і інш.

Першая версія сайта Т.Баранаўскаса «История.нет» (http://istorija.net) пачала працаваць у пач. 2000-х г. Змешчана падборка артыкулаў, матэрыялаў і дакументаў па гісторыі сярэдневяковай Літвы; нямецкамоўны рэсурс па гісторыі прускай правінцыі Малая Літва (Kleinlitauen); гіст. каляндар; аўтарская публіцыстыка на гіст. тэмы; невял. колькасць стараж. тэкстаў на літ. мове; каталог тэматычных веб-сайтаў. Працуе форум на літ., рус. і англійскай мовах, дзе абмяркоўваюцца з літоўскацэнтрычных пазіцый пытанні гісторыі ВКЛ.

У працівагу рэсурсу Баранаўскаса ў 2004—05 стыхійна ўзнік шэраг бел. прыватных сайтаў, на форумах якіх пераважная большасць наведвальнікаў і мадэратараў падтрымлівае беларускацэнтрычную мадэль гісторыі ВКЛ. Сярод іх самым папулярным у 2006—07 быў сайт «Гісторыя Беларусі — Гісторыя Вялікай Літвы» (http://probelarus.ru). Найб. вострыя спрэчкі паміж бел. і літ. наведвальнікамі гэтага і інш. форумаў разгараюцца вакол такіх пытанняў, як роля балтаў у этнагенезе беларусаў, межы гіст. Літвы, характар далучэння зах.-рус. зямель да ВКЛ, статус слав. пісьмовай і гутарковай мовы ў ВКЛ і яе дачыненне да сучаснай бел. мовы, міжэтнічныя адносіны і этнічная прыналежнасць паліт. эліты ВКЛ, праблематыка, звязаная з «беларускай Вільняй». Дыскусіі, не заўсёды карэктныя і навукова абгрунтаваныя, тым не менш даюць цікавы матэрыял для вывучэння ўплываў гістарыяграфіі ВКЛ на паліт., сац., этнаканфесіянальныя і гісторыка-культ. ўяўленні сучаснага грамадства Беларусі і Літвы.

Сайт А.Ліцкевіча «Гісторыя Беларусі IX—XVIII стагоддзяў. Першакрыніцы» (http://starbel.narod.ru) узнік у 2002. Змешчаны: транскрыпцыя Статута ВКЛ 1588 паводле факсімільнага выдання 1989 (2002—03); электронны каталог кніг Метрыкі ВКЛ на аснове каталогаў С.Л.Пташыцкага, П.К.Грымстэд і інш., дапоўнены бібліяграфічнымі звесткамі (2004—06); бібліяграфія і каталог электронных кніг і рукапісаў па гісторыі ВКЛ 13—16 ст. (2006—08, рэгулярна папаўняецца); зводны каталог пісьмовых крыніц па гісторыі Беларусі да 1600 (дэма-версія 2006); падборка наратыўных і дакументальных крыніц, а таксама помнікаў стараж.-рус. і старабел. літаратуры паводле выданняў 18—20 ст. (хронікі Пятра з Дусбурга, Германа з Вартберга, Віганда з Марбурга, вытрымкі з Дубніцкай хронікі, бел.-літ. летапісы, дакументы па гісторыі польска-літ. уніі; «Слова пра паход Ігара», жыціі Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, акафісты Францыска Скарыны, «Аповесць пра трох каралёў», «Аповесць пра Баву», «Аповесць пра Трышчана», «Гісторыя пра Атылу», вершы, дыярыушы Фёдара Еўлашоўскага, Афанасія Філіповіча, казанні Лявонція Карповіча, узоры дзелавога пісьменства і г.д.); каталог спасылак на тэматычныя веб-сайты.

Сайт В.Л.Насевіча (http://vn.belinter.net) адкрыўся ў 2003. Змешчаны электронныя версіі аўтарскіх манаграфій, артыкулаў і лічбавых карт па тэмах: ВКЛ, этнічная гісторыя беларусаў; краязнаўства, гіст. нарысы для кніг серыі «Памяць»; працы па мадэляванні гісторыка-дэмаграфічных працэсаў і мікрагісторыі; лічбавыя дакументы і электронныя архівы.

Сайт А.В.Белага (http://autary.iig.pl/bely/index.htm) створаны ў 2003—04. Змешчана электронная версія манаграфіі «Хроніка Белай Русі: Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы», матэрыялы па картаграфіі, аўтарскія артыкулы па сярэдневяковай іканаграфіі, кулінарыі.

Электронныя бібліятэкі. Актыўнае развіццё веб-бібліятэк, якія ўтрымліваюць электронныя кнігі і артыкулы па гісторыі ВКЛ, пачалося ў 2004—05. Ва Усх. Еўропе буйнейшыя з іх — рас. прыватная б-ка «Восточная литература» (http://vostlit.info), украінскі «Ізборник» (http://litopys.org.ua), беларускі «Камунікат» (http://kamunikat.org). У «Ізборнику» размешчаны творы М.С.Грушэўскага, у т.л. шматтомная «Гісторыя Украіны-Русі», падборка стараж.-рус., бел.-літ., укр. летапісаў і хронік, матэрыялы па гісторыі стараж. укр. мовы і літаратуры. «Камунікат» мае вял. электронную падшыўку бел. часопісаў, сярод якіх «Беларускі гістарычны агляд», «Герольд Litherland», «Białoruskie Zeszyty Historyczne». У Польшчы развіваецца сетка веб-бібліятэк на праграмнай платформе dLibra. З іх ліку найб. значнымі сховішчамі літуанікі 16— 20 ст. з'яўляюцца: «Cyfrowa biblioteka narodowa «Polona» (CBNP; http://www. polona.pl), «e-Biblioteka Uniwersytetu Warszawskiego» (EBUW; http://ebuw.uw.edu.pl), «Kujawsko-pomorska biblioteka cyfrowa» (KPBC; http://kpbc.umk.pl), «Podlaska biblioteka cyfrowa» (PBC; http://pbc.biaman.pl), «Śląska biblioteka cyfrowa» (SBC; http://www.sbc.org.pl), «Wielkopolska biblioteka cyfrowa» (WBC; http://www.wbc.poznan.pl). Яны выкарыстоўваюць графічныя фарматы DJVU, PDF, JPG. З інш.



роту пінскай шляхты на чале з Лукашам Ельскім да Хмяльніцкага і адпаведнага універсала гетмана Запарожскага войска. *Сяргей Чаропка.*

**Казачынскі** Міхаіл [свецкае Мануіл; 1699, г. Ямпаль Падольскага ваяв.—4(15).8.1755], дзеяч праваслаўнай царквы, пісьменнік, гл. *Міхаіл.*

**Казіміраў** (Казімірава Слабада, цяпер у складзе г. Мсціслаў, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв. Упершыню згадваецца ў 1719 як уладанне мсціслаўскага падкаморыя Крыштофа Валовіча. Згодна з памерамі падатка чопавае за 1719 — 150 злотых — гэта было невял. паселішча. У 1757 К. атрымала каралеўскі прывілей на правядзенне штотыднёвых таргоў па пятніцах і нядзелях і 4 трохдзённых кірмашоў у год: на «святы рускія» — Хрышчэнне, св. Ілью, на 12-ю пятніцу пасля Вялікадня, Узвіжання Св. Крыжа. Мястэчка было невял., мела лінейную забудову і размяшчалася ўздоўж дарогі з Мсціслава ў Крычаў. На яго паўн. ускраіне, бліжэй да Мсціслава, стаяў уніяцкі храм, згаданы ў 1724. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. ўвайшло ў склад Мсціслава. *Андрэй Мяцельскі.*

**Казлоўскі** Павел (каля 1593, Падляшша—10.5.1651), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. У 1611 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1624 ксёндз. Вывучаў у Вільні філасофію (1616—18), тэалогію (1621—25). Прэфект школы ў Оршы (1626—28), Полацку (1628—29), Плоцку (1631—33), прыдворны місіянер біскупа Мікалая Шышкоўскага (1636—37), суперыёр у Гародні (1638—39), рэктар Смаленскага калегіума (1641—43). Выдаў папулярныя кніжкі па аскезе і малітоўнікі, у т.л. «Snopek nabożeństwa Kongregacyi N. P. Maryi niepokalanie poczętej y szczęśliwego z tego świata zejścia» (Варшава, 1643).

**Калецкі** Мацей (каля 1498—30.12. 1576), палітычны і рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай. Паходзіў з сялянскага роду з Мазовіі, першапачаткова зваўся Мацей з Манколіна. Магчыма, атрымаў вышэйшую адукацыю. Мяркуецца, што пачаў кар'еру пры двары апошніх мазавецкіх князёў. Яму спрыяў плоцкі біскуп (з 1527) Анджэй *Кшыцкі*, які прыняў К. ў сваё гербавае брацтва і надаў яму герб «Котвіч»; набілітаваны на сойме 1533. Пасля служыў пры двары вял. княгіні літ. і каралевы польскай Боны, памочнік яе лацінскага сакратара Яна Лявіцкага, потым сакратар Боны (лічыўся яе гал. сакратаром). Прыкладна з 1547 сакратар вял. кн. літ. і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста, узначальваў лацінска-польскі аддзел канцылярыі ВКЛ. Атрымаў ад каралевы Боны і Жыгімонта II Аўгуста шмат бенефіцый у Польшчы і ВКЛ, у т.л. алтарыю Св. Тройцы ў Мейшагале (1533), пасады каноніка віленскага, прэпазіта троцкага (да 1548). Да 1533 набыў з братам Паўлам (д-р абодвух правоў, будучы абат плоцкі) маёнтак Калечыцы ў Лідскім пав., дзе фундавалі касцёл. Ад назвы маёнтка ўтварылася прозвішча К. У старасці К. вярнуўся ў Мазовію, жыў у Пултуску.

**Калігін** (Коликгин), легендарны літ. князь. Паводле літ.-бел. летапісаў, быў сынам вял. кн. літ. Скірманта. Пасля яго смерці падзяліў з братам Трабусам бацькавы ўладанні: Трабус стаў княжыць у Жамойцкай зямлі, а К. — у Літоўскай і Рускай. Княжыў шмат гадоў і пакінуў свае ўладанні сыну Раману.

**Калужскі крыж**, праваслаўная рэліквія канца 16—пач. 18 ст. Захоўваецца ў Калужскім абласным краязнаўчым музеі. Уяўляе сабой сярэбраны крыж-рэлікварый з шырокімі кароткімі канцамі, увенчаны агранёным навершам (памеры 15,8 × 11,2 см, таўшчыня 2,4 см). На правым баку выгравіравана Укрыжаванне, паабапал якога ў 4 ярусы размешчаны паўфігуры Багародзіцы з немаўляткам і 12 святых. На адваротным баку змешчаны доўгі надпіс — пералік святых, мошчы якіх укладзены ў крыж. Моўныя асаблівасці надпісу сведчаць, што крыж мог быць выраблены майстрам-беларусам, якіх у 2-й пал. 17—пач. 18 ст. шмат жыло ў Маскве.

*Літ.:* П у ц к о В.Г. Калужскі рэлікварый // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мінск, 1994; Я г о ж. Серебряный крест-мощевик из Никитской церкви в Калуге // Калуга в шести веках. Калуга, 1997.

**Кальварыя** (літ. Калварыя, Kalvarija, цяпер горад у Марыямпальскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Троцкім пав., на р. Шэшупэ. Узнік у сярэдзіне 17 ст. як в. Трабы. У 1660 жыло каля 30 чал. У 1704 пабудаваны драўляны касцёл. У 1708 адчынена школа. 3 пач. 18 ст. мястэчка, атрымала назву К. У ёй пасялілася шмат яўрэяў (адсюль неафіцыйная назва мястэчка — Кальварыя Жыдоўская), якія 30.8.1713 атрымалі каралеўскі прывілей на рамёствы і гандаль. 25.9.1713 прывілей на гандаль атрымалі інш. жыхары. З 1752 вядома сінагога. У 1759 мястэчка пацярпела ад рас. войск у час Сямігадовай вайны 1756—63. Была цэнтрам нягродавага старства, з 1766 яго трымаў віленскі ваявода Міхал Агінскі. У 2-й пал. 18 ст. было 157 дымоў, каля 2 тыс. жыхароў (больш за палову яўрэі). Мяркуецца, што ў 1782 пабудавана лютэранская кірха, пры якой дзейнічала школа. 27.12.1791 К. атрымала гарадскія правы і герб. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прускага каралеўства.

*Літ.:* M i š k i n i s A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybes. T. 1. Vilnius, 1999.

**Кальварыя Віленская**, цэнтр каталіцкага культу ў Верках каля Вільні. Заснаваў у 1662 віленскі біскуп Ежы Белазор як вотум за вызваленне Вільні ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Тут у маляўнічай пагоркавай лясной мясцовасці быў пабудаваны драўляны касцёл Адшукання Св. Крыжа з 35 драўлянымі стацыямі ўздоўж мемарыяльнага «пакутнага шляху Хрыста» даўжынёй прыкладна ў 1 мілю, які імітаваў яго мучэнні ў Ерусаліме. Комплекс быў аддадзены пад апеку манахаў-дамініканцаў, для якіх па ініцыятыве біскупа А.Сапегі ў 1675—1701 пабудаваны кляштар. К.В. хутка стала важным асяродкам каталіцкага культу, які прыцягваў шматлікіх пілігрымаў. У 1755 па фундацыі М. і К. Пятроўскіх пачалося будаўніцтва мураванага касцёла, асвячонага віленскім біскупам Тамашом Зянковічам у 1772. Таксама былі пабудаваны 19 барочных мураваных капліц, 7 драўляных і 1 му-



**Кальварыя Віленская**. Касцёл Адшукання Святога Крыжа.

раваная брама, мост цераз р. Балтупіс, якая атрымала біблейскую назву Цэдрон. Касцёл моцна пацярпеў ад французскага войска ў 1812 (тут зроблены казармы і шпіталь, адбыўся пажар), пасля адбудаваны. Пасля паўстання 1830—31 комплекс перададзены свецкаму духавенству. У 1960-я г. ўсе капліцы, акрамя 4, знішчаны (цяпер аднаўляюцца). Касцёл у стылі позняга барока — 3-нефавая базіліка з трансептам, з 2 вежамі на гал. фасадзе. Цэнтр. неф упрыгожаны фрэскамі, а сакрысція — барэльефам у тэхніцы стука. Захаваліся амвон у стылі ракако і хрысцільня. Побач з касцёлам жылы корпус дамініканскага кляштара.

*Літ.*: Jeleńska E. Kalwarya pod Wilnem. Wilno, 1903; Lietuvos architektūros istorija. T. 2. Vilnius, 1994. P. 116—118; Friedelówna T. Tradycje Kalwarii Wileńskiej // Wilno i kresy polnocnowschodnie: materiały II Międzynarodowej Konferencji w Białymstoku 14—17 IX 1994 r. Białystok, 1996. T. 2.

**Кальварыя Жамойцкая** (літ. Žemaičių Kalvarija, цяпер мястэчка ў Плунгескім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойці, на р. Вардува. Да сярэдзіны 17 ст. было в. Горды. Вядома з 1253. У канцы 16 ст. пабудаваны касцёл. У 1637 жамойцкі біскуп Ежы Тышкевіч збудаваў тут касцёл св. Іаана, перадаў яго дамініканцам. У 1639—42 пабудаваў новы касцёл і крыжовы шлях даўжынёй 7 км з 19 стацыямі, які ідзе праз вакольных 7 гор: Бярозавую, Жвіравую, св. Іаана, Шатрыйскую, Піўнічную, Крыжовую і св. Алены. У 1642 Тышкевіч заснаваў мястэчка пад назвай К.Ж., якое стала адным з гал. культавых цэнтраў Жамойці. У 1644 заснавана дамініканская школа. Каля 1750 пабудаваны новы касцёл. У 1785—1822 паводле праекта Аўгустына Касакоўскага збудаваны мураваны касцёл Візітацыі Найсвяцейшай Панны Марыі. Касцёл — 3-нефавая базіліка з 3-граннай апсідай у стылі позняга барока і класіцызму, упрыгожаная на гал. фасадзе 2 вежамі. Мае 9 алтароў, у гал. алтары знаходзіцца цудатворны абраз Маці Божай з дзіцем. Мяркуецца, што абраз мог быць напісаны ў 1-й пал. 17 ст. ў Італіі, пазней перапісаны на месцы. У 1789 у К.Ж. было 74 дымы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Žemaičių Kalvarija: vienuolynas, bažnyčia ir Kryžiaus kelio stotys. Vilnius, 2003.

**кальчуга**, даспех, сплецены з невялікіх металічных кольцаў. Быў адной з найб. папулярных форм аховы цела на абшарах усёй Еўропы ў часы сярэднявякоўя. Да 14 ст. ў выніку распаўсюджвання кольчатай аховы ног К. ў шэрагу выпадкаў выступала ў выглядзе поўнага даспеха. З пашырэннем у канцы 14 ст. зброі бляхавай поўны кольчаты даспех страціў сваё значэнне, аднак кальчужныя кашулі і асобныя ўзмацняльныя элементы, выраблены з кальчужнага пляцення, выкарыстоўваліся і пазней. Сплеценая такім чынам, што кожнае кольца злучалася з 4 суседнімі, К. валодала ідэальнай эластычнасцю і ў спалучэнні з дастатковай трываласцю была найбольш прыстасаваная для патрэб лёгкаўзброеных воінаў, якім патрабавалася максімальная свабода рухаў. У адрозненне ад пласціністага даспеха яна не пакідала шчылін і лакун, куды магло б патрапіць наступальнае ўзбраенне праціўніка, і таму служыла выдатным дапаўненнем зброі бляхавай. На землях ВКЛ кольчаты даспех фігуруе пад назвай «панцыр» (ням. panzer), радзей — пад лац. тэрмінам «lorica». Выраб панцыраў у ВКЛ меў даўнія традыцыі, хаця



**Кальварыя Жамойцкая**. Касцёл Візітацыі Найсвяцейшай Панны Марыі.



**Кальварыя Жамойцкая**. Малюнак 19 ст.





**Кальчугі** з калекцыі Нацыянальнага музея Літвы.

не было выключэннем і выкарыстанне ўзораў замежнага паходжання. Так, у 1393 «lorica» была набытая за кошт польскага каралеўскага скарбу паслом Вітаўта Ваўчком, а ў наступным годзе — кн. (напэўна, кобрынскім) Раманам і нейкім Іванам з Віцебска. Перасылку 2 панцыраў кн. Свідрыгайлу фіксуе пад 1403 кніга выдаткаў падскарбія Тэў- тонскага ордэна. Крыніцы канца 14— 15 ст. не дазваляюць скласці дакладнага ўяўлення аб тыпах ужываных у ВКЛ панцыраў. Можна меркаваць, што тут існавалі 3 віды кальчатага даспеха: даўжынёй да пояса і з кароткімі рукавамі, да сярэдзіны сцягна і з доўгімі рукавамі, а таксама поўная ахова цела з кальчужнымі нагавіцамі. Верагодна, поўны панцырны даспех з нагавіцамі, апрануты пад платы, паказаны на пячатцы Кейстута, якая датуецца прыблізна 1353. Панцыр дапаўняецца кольчатым каптуром альбо барміцай «сакрэтнага» шлема, апранутага пад вял. гаршковы шлем. Поўная кальчужная ахова цела прадстаўлена на пячатцы Кейстута 1379, прычым найбольшую ўвагу тут прыцягвае панцырная кашуля з выбраленымі як працяг доўгіх рукавоў кольчатымі рукавіцамі, якія паказаны ў адкінутым (закасаным) выглядзе. Кальчужнае пляценне пакрывае і галаву ваяра, аднак не зразумела, што гэта — каптур ці капюшон т.зв. хаўберта. Цалкам верагодна, што поўны кальчужны касцюм мае Жыгімонт Кейстутавіч на сваіх «маястатных» пячатках, аб чым сведчаць апранутыя ў кольчатыя нагавіцы ногі, якія выглядаюць з-пад доўгіх шатаў. Панцырныя кашулі з доўгімі рукавамі ў спалучэнні з пласцiністай аховай ног паказаны на пячатках Карыбута 1386 і Свідрыгайлы 1420, аднак калі на першай рукавы К. вузкія, уціснутыя ў манжэты рукавіц, то на другой яны шырокія, з фестончатым краем. Панцыр як даволі пашыраную ахову тулава фіксуюць дакументы 2-й пал. 15 ст. З 1520-х г. панцыр выступае ў якасці асноўнага віду даспехаў. «Панцер, прылбица, меч або корд ... павеза» вызначаліся каралеўскай і соймавай уставай 1528, а таксама земскай ухвалай і Статутам ВКЛ 1529 як статутны мінімум ва ўзбраенні ўсіх апалчэнцаў паспалітага рушэння ВКЛ. І хоць на практыцы многія ваяры, асабліва заможныя, аддавалі перавагу касцюму з металічных пласцін, папулярнасць кольчатага даспеха на працягу ўсяго 16 ст. заставалася вельмі высокай, у т.л. і ў асяроддзі буйных феадалаў, аб чым сведчаць рэестры тагачасных арсеналаў. Каштоўную інфармацыю аб пашыранасці панцыраў у ВКЛ даюць рэестры літ.-бел.-ўкр. атрадаў у складзе польскіх наёмных рот 1-й пал. 16 ст. і попіс 1567. Апошні сведчыць, што на момант складання попісу панцыр з'яўляўся дамінуючай формай металічнай аховы цела прынамсі ў павятовых харугвах, куды ўваходзілі менш заможныя феадалы, для якіх зброя бляхавая, асабліва капійнічая, у сярэднім у 2 разы даражэйшая за К., была не заўсёды па кішэні. У параўнанні з кірасай панцыр меў як мінусы, так і плюсы. Ён не мог забяспечыць такой адпорнасці паражаючым сродкам праціўніка, якую гарантавала зброя бляхавая. Разам з тым панцыр забяспечваў ваяру большую рухомасць і пакрываў большую, чым кіраса, паверхню цела, у чым набліжаўся да стрэльчага даспеха. З кальчужнай пляцёнкі маглі выраблялцца разнастайныя элементы, якія пакрывалі асобныя часткі цела і ўжываліся як у спалучэнні з уласна панцырам, так і ў складзе пласцiністага даспеха альбо як дапаўненне да яго. Найстаражытнейшыя з такіх элементаў — барміца некаторых відаў шлемаў, кольчатыя каптуры і нагавіцы. Апошнія ў 16 ст. ўжо не ўжываліся, тады як каптуры яшчэ фіксуюцца ў дакументах сярэдзіны гэтага стагоддзя. 6 каптуроў былі высланы разам са старымі К. ў 1555 з Вільні ў Кракаў для перапрацоўкі ў панцырныя рукавы і падолы. Мадыфікацыяй кольчатага каптура з'яўлялася прылбіца маскоўская, альбо місюрка, якая была часткай кальчужнага камплекту. Верагодна, такія прылбіцы фігуруюць у «рэестры паспалітых рэчаў скарбных» за 1510, дзе згадваюцца кольчатыя засцерагальныя элементы: «панцыров 18 а прилбиц 18 новых до панцыров а обойчиков панцырных 17 а зарукаве 4 шорць один», прычым, як можна меркаваць, панцыры, прылбіцы і абойчыкі ўваходзілі ў склад поўных панцырных камплектаў. У 17 ст. К. выйшла з ужытку.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008. С. 119—128.

***Юрась Бохан.***

**Камароўскі** Самуэль Аляксандр (?—20.10.1659), ваенны дзеяч ВКЛ, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, *антыфеадальнай вайны 1648—51* (на баку ВКЛ), *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Паходзіў са шляхецкай сям'і, продкі якой перасяліліся ў ВКЛ з Добжынскай зямлі. З 1632 ротмістр гусарскай харугвы. У чэрв. 1633 харугва К. амаль уварвалася ў лагер рас. войска пад камандаваннем М.Шэіна, знішчыла і ўзяла ў палон значную колькасць воінаў, захапіла жывёлу, харч і коней. У студз. 1634 К. дзейнічаў пад Белай, даходзіў да Ржэва, Таропца. Пасля заканчэння вайны з 1635 падчашы, з 1649 харунжы вількамірскі. Пасля паўстання Багдана



Хмяльніцкага, верагодна, удзельнічаў у Корсунскай бітве 1648 у складзе кароннага войска ў якасці ротмістра казацкай харугвы. Восенню 1648 на чале драгунскай харугвы змагаўся супраць казакоў на Валыні, у складзе войска ВКЛ удзельнічаў у авалоданні Пінскам. Разам з А.Паўлоўскім вызначыўся ў *Лоеўскай бітве 1649*, удала ацаніўшы абстаноўку і ўдарыўшы на казакоў Міхаіла *Крычэўскага* з тылу. Напярэдадні вайны з Расіяй, у крас. 1654 прызначаны абозным ВКЛ. У 1654 беспаспяхова спрабаваў вызваліць Віцебск. Пасля падпісання *Кейданскай дэкларацыі 1655* падтрымаў вял. гетмана ВКЛ Януша *Радзівіла*, у вер. 1655 арыштаваў апазіцыйных да гетмана афіцэраў, у т.л. польнага гетмана Вінцэнта Гасеўскага. Пасля смерці Радзівіла адышоў ад шведаў і пачаў супраць іх баявыя дзеянні сумесна з рас. войскамі. У 1658—59 ваяваў супраць шведаў у Жамойці. Пасля паланення Гасеўскага рас. войскамі К. з кастр. 1658 выконваў абавязкі рэгіментара войска ВКЛ у Жамойці. Заслугі К. высока ацэніваліся соймам, у 1634 ён атрымаў ва ўладанне вёскі ў Навагародскім ваяв., сойм 1649 узнагародзіў К. як «заслужанага здаўна ў інфлянцкай, маскоўскай экспедыцыях жаўнера» вёскамі ў Мазырскім пав. Заслугі К. адзначаліся пасля яго смерці ў канстытуцыях соймаў 1662 і 1677.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Pamietniki Albrychta Stanislawa X. Radziwilla kanclerza W. Litewskiego. T. 2. Poznań, 1889; Przyboś A. Komorowski // Polski słownik biograficzny. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1967—68. T. 13. *Сяргей Чаропка.*

**Камеданус** (Рамеданус) Мікалай (?—1434), дзеяч каталіцкай царквы. Паходзіў з Польшчы. Месца атрымання адукацыі невядома, не меў навуковай ступені, але ведаў жамойцкую мову. Пробашч троцкі, відаць, быў сакратаром вял. кн. літ. Вітаўта. У 1422 прызначаны Ягайлам і Вітаўтам на пасаду біскупа жамойцкага, зацверджаны рымскім папам у 1423 і паўторна ў 1425, кансекраваны ў 2-й пал. 1427—1-й пал. 1428. Некаторыя гісторыкі атаясамлівалі К. з віленскім біскупам Мікалаем Дзержкавічам.

*Літ.*: Błaszczyk G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój. Poznań, 1993.

**«Камедыя пра Якуба і Іосіфа патрыярхаў»** («Comoedia de Iacob et Ioseph Patriarchis»), школьная драма, «эўхарыстычны дыялог». Напісана на лацінскай мове езуітам Яўстафіем Пылінскім, пастаўлена ў Гарадзенскім езуіцкім калегіуме ў 1651. Уваходзіла ў рукапісны зборнік (загінуў у 1944), апісаны А.Брукнерам і У.Ператцам. Змест драмы невядомы. Уключала напісаныя лацінкай бел.-польскія інтэрмедыі — пралог і эпілог. У іх выкарыстаны апакрыфічныя сюжэты. Гал. герой інтэрмедый селянін Іван, а ў эпілогу і царк. паслугач гавораць па-беларуску. Інтэрмедыі апублікаваны Брукнерам (1891) і Я.Карскім (1921).

*Літ.:* Карский Е.Ф. Белорусы. Петроград, 1921. Т. 3, ч. 2. С. 214—238; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мінск, 1980. С. 171—173.

**Камендоне** (Commendone) Джавані Франчэска (17.3.1523, г. Венецыя, Італія—26.12.1584), дзеяч каталіцкай царквы, кардынал, дыпламат, актыўны дзеяч контррэфармацыі. Вучыўся ў Падуанскім ун-це. З 1550 у Рыме, дзякуючы пратэкцыі пасла Венецыі прызначаны сакратаром рымскага папы Юлія III. У 1553 удзельнічаў у пасольстве да англійскай каралевы Марыі Цюдар для рэстаўрацыі ў Англіі каталіцтва. У 1555 атрымаў тытул біскупа зантыйскага. У 1556 удзельнічаў у пасольстве ў Іспанскія Нідэрланды, да імператара Карла V і караля Філіпа II. У 1556 папскі нунцый у рэспубліках Урбіна, Ферара, Парма і Венецыя. У 1560 як папскі легат прыбыў у Свяшчэнную Рымскую імперыю для запрашэння прадстаўнікоў каталіцкіх і пратэстанцкіх дзяржаў на Трыдэнцкі сабор. У 1563—65 папскі легат і апостальскі нунцый у Польшчы. Стаў фактычным галавой польскага касцёла, абмежаваўшы амбіцыі польскіх біскупаў. Пераканаў караля польскага і вял. кн. літ. Жыгімонта II Аўгуста не склікаць нац. царк. сабор, на якім магла быць створана незалежная ад Рыма царква. Разам з вармінскім біскупам Станіславам Гозіем дамогся прыняцця польскім епіскапатам пастаноў Трыдэнцкага сабора. Садзейнічаў прыбыццю ў Польшчу ордэна езуітаў. Дзейнасць К. дала пачатак палітыкі контррэфармацыі ў Польшчы і ВКЛ. У 1564 атрымаў ранг кардынала. У 1566 папскі легат на імперскім рэйхстагу ў Аўгсбургу. У 1568 легат да імператара Максіміляна II. У 1571—73 папскі легат і апостальскі нунцый у Рэчы Паспалітай, якую намагаўся далучыць да ствараемай антытурэцкай лігі. Пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572) садзейнічаў абранню ў 1573 на трон Рэчы Паспалітай Генрыка Валезы.

*Тв.*: Pamiętniki o dawnéj Polsce z czasów Zygmunta Augusta, obejmujące listy Jana Franciszka Commendoni do Karola Boromeusza z Biblioteki Berberiańskiej. T. 1—2. Wilno, 1851.

*Літ.*: Любович Н. Папский нунций Коммендоне в Польше: (Из эпохи начала католической реакции) // Журнал мин-ва нар. просвещения. 1887. № 1—2.

**кампраметацыя шляхецтва**, нагана шляхецтва, старапольскі працэс аб доказе шляхецкага паходжання пэўнай асобы, які шырока ўжываўся ў Рэчы Паспалітай. У Польшчы з сярэдзіны 14 ст. гал. фактам прыналежнасці да вышэйшага стану стала не валоданне зямлёй на рыцарскім праве, а паходжанне ад шляхецкіх продкаў. Гэта было санкцыянавана каралём Казімірам III Вялікім [1333—70]. У «Поўным зборы статутаў Казіміра Вялікага» (складзены ў 1-й чвэрці 15 ст.) пазначана: «Шляхецкія роды заўсёды вядуць радавод ад сваіх продкаў і сваё паходжанне па нараджэнні ў дадзеным родзе пэўным доказам па звычаі пацвярджаюць». У выпадку сумнення ў прыналежнасці да шляхецкага стану асобе «скампраметыраванай» неабходна было знайсці сведак, у Вял. Польшчы — двух ад роду бацькі і чацвярых з двух чужых родаў, у Малой Польшчы — шасці з роду бацькі. З прычыны немагчымасці доказу пэўнай асобай свайго шляхецкага паходжання яго маёмасць пераходзіла да абвінаваўцы. Такім чынам адчынялася дарога для злоўжыванняў. Гэты прававы сродак закліканы быў ахоўваць шляхецкі стан ад нешляхетных людзей, але на практыцы, з прычыны подкупу сведак, зрабіўся ледзь не галоўным спосабам пераходу ў яго ася-



роддзе заможных людзей. З 1578 працэсы аб нагане шляхецтва разглядаліся Каронным Трыбуналам. Аддаленыя аналогіі К.ш. можна ўгледзець у разборы шляхты, распачатым пасля далучэння часткі земляў Рэчы Паспалітай да Рас. імперыі ў канцы 18 ст.

*Сцяпан Цемушаў.*

**камяга**, рачное грузавое судна, якое выкарыстоўвалася ў басейне Дняпра і Прыпяці. Першапачаткова выдзеўбаны са ствала дрэва човен. Меў даўжыню да 2,5 м, закруглены нос, прымацаваныя па баках на ўзроўні ватэрлініі драўляныя крылы-паплаўкі для павышэння ўстойлівасці. Этнограф Е.Р.Раманаў у пач. 20 ст. называў К. «самай першабытнай лодкай». У 15—18 ст. К. выкарыстоўвалася для перавозкі солі, рыбы, збожжа, прадукцыі лясных промыслаў. Разам з возам была адзінкай абкладання тавараў мытнымі зборамі. Так, у 1511 адзначалася: «Мыто беруть в имении своемъ Черторыску звечистое от комяги по осмии грошей». У гэты час была буйным суднам, аднак асаблівасці яго канструкцыі невядомы. П.М.Сас мяркуе, што К. была вял. суднам грузапад'ёмнасцю 30—70 т, мела прамавугольны драўляны корпус даўжынёй да 24 м, шырынёй да 10 м, абслугоўвалася камандаю з 7—12 весляроў.

*Літ.*: С а с П.М. Феодальные города Украины в конце XV — 60-х годах XVI в. Киев, 1989; Беларусы. Мінск, 1995. Т. 1. С. 218—219.

**Камянец** (цяпер К а м я н е ц - П а д о л ь с к і, укр. К а м ' я н е ц ь - П о д і л ь с ь к и й, цяпер горад, цэнтр Камянец-Падольскага р-на Хмяльніцкай вобл., Украіна), горад у Падоллі, на р. Смотрыч. Паводле археал. дадзеных, узнік у канцы 12—пач. 13 ст. Упамінаецца з 1196. Уваходзіў у Галіцка-Валынскае княства, пасля пад кантролем мангола-татараў. Пасля перамогі вял. кн. літ. Альгерда ў *бітве каля Сініх Вод 1362* тэр. Падолля з К. увайшла ў склад ВКЛ. З 1370-х г. К. стаў гал. горадам Падолля, сталіцай князёў *Карыятавічаў*. У 1374 Юрый і Аляксандр Карыятавічы надалі К. прывілей на самакіраванне. Карыятавічы значна ўмацавалі горад (гл. *Камянец-Падольскі замак*). У 1378 заснаваны кляштар дамініканцаў, потым — кляштар францысканцаў. Каля 1379—80 рымскі папа Урбан VI заснаваў *Камянецкую рымска-каталіцкую епархію*. У 1393 К. захоплены вял. кн. літ. Вітаўтам, бо мясцовы кн. Фёдар Карыятавіч адмовіўся прызнаць яго верхавенства. У 1395 польскі кароль Ягайла перадаў Падолле з К. кракаўскаму ваяводу Спытку з Мельштына, які трымаў горад да 1399. У 1399—1402 К. валодаў вял. кн. Свідрыгайла, пасля горад пад кантролем польскіх улад. У 1411 Падолле з К. атрымаў ад Ягайлы Вітаўт. Пасля яго смерці ў 1430 палякі захапілі К. У 1432 вял. кн. літ. Жыгімонт Кейстутавіч канчаткова адмовіўся ад Падолля з К. на карысць Польшчы. У 1432 Ягайла пацвердзіў К. магдэбургскае права. У горадзе дзейнічалі 3 магістраты — рускі, армянскі і польскі, шматлікія цэхі (утвараліся паводле прафесійнай і нац. прыкмет). Штогод адбываліся 3 кірмашы. З 1434 К. — цэнтр ваяводства і павета. У 15—17 ст. К. быў адным з найвял. укр. гарадоў. У 1580-х г. у горадзе жыло больш за 6 тыс. чал., у сярэдзіне 17 ст. — 10 500 чал. У 1583 у К. дзейнічалі 18 цэхаў, што аб'ядноўвалі 591 рамесніка. У 1398 заснавана армянская царква св. Мікалая, у пач. 16 ст. пабудаваны мураваны кафедральны касцёл апосталаў Пятра і Паўла. У 1608 у горадзе з'явіліся езуіты, якія ў 1614—73 трымалі тут калегіум. У 1615 заснаваны кляштар дамініканак, у 1623 — босых кармелітаў, у 1712 — трынітарыяў. У 1672 К. захоплены Турцыяй і заставаўся пад яе ўладай да 1699. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: С е ц и н с к и й Е.И. Город Каменец-Подольский: ист. описание. Киев, 1895; П л а м е н і ц ь к а О.А. Хрістіянські святині Кам'янця на Поділлі. Київ, 2001; Яе ж. Сакральна архітектура Кам'янця на Поділлі. Кам'янець-Подільський, 2005; П е т р о в М.Б. Історична топографія Кам'янця-Подільского кінця XVII—XVIII ст.: (Історіографія. Джерела). Кам'янець-Подільський, 2002; Kamieniec Podolski: studia z dziejów miasta i regionu. T. 1—2. Kraków, 2000—05; K i r y k F. Miasto trzech nacji: ze studiów nad dziejami późnośredniowiecznego Kamieńca Podolskiego // Roczniki Humanistyczne. Historia 2000. Z 2; B a n i a Z., W i r a s z k a M. Kamieniec Podolski, miasto-legenda: zarys dziejów urbanistyki i architektury od czasów najdawniejszych do współczesności. Warszawa, 2001.

**Камянецкая рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Цэнтр — г. *Камянец* (цяпер Камянец-Падольскі, Украіна). Заснавана па прапанове падольскіх князёў Канстанціна і Васіля Карыятавічаў рымскім папам Урбанам VI, які апостальскім лістом (каля 1379—80) даручыў кардыналу Дзмітрыю з Эстэргома і Валянціну «біскупу пяці касцёлаў» у Венгрыі правесці неабходныя мерапрыемствы па арганізацыі епархіі. Гэта адбылося да смерці Дзмітрыя з Эстэргома (1386). 1-ы біскуп Аляксандр упамінаецца ў лісце 1406 галіцкага мітрапаліта Якуба Стрэмя. Да 1430 атрымала ад вял. кн. літ. Вітаўта 27 населеных пунктаў на зах.-укр. землях. Ахоплівала тэр. Падольскага княства (потым Падольскага ваяводства). Нягледзячы на тое, што была арганізавана венгерскімі біскупамі, відаць, з самага пачатку ўваходзіла ў склад *Галіцкай рымска-каталіцкай мітраполіі*.

**канвікт** (ад лац. convictus), інтэрнат у вучэбных установах езуітаў і піяраў. Першапачаткова ў езуітаў не было прадугледжана існаванне інтэрнатаў з-за непажаданага пранікнення ў асяроддзе моладзі элементаў манаскага жыцця і знікнення дыстанцыі паміж выхавацелямі і выхаванцамі. Аднак патрэбы жыцця вымусілі езуітаў пайсці на ўвядзенне К., дзе маламаёмасная моладзь магла знайсці прытулак у час навучання. Былі таксама ўведзены спец. інтэрнаты: шляхецкія К. для моладзі шляхетнага паходжання і *бурсы музычныя*; інтэрнаты існавалі таксама пры езуіцкіх *семінарыях дыяцэзіяльных* і *алюмнатах*.

**канвісарства**, рамяство па вытворчасці рэчаў з волава. Апрацоўка волава вядома на Русі і Літве са стараж. часоў. У пісьмовых крыніцах ВКЛ слова «канвісар» («конвисаръ», рамеснік, які займаецца К.) упершыню згадваецца ў 1545, паходзіць ад нямецкага Kanngiesser («той, хто адлівае конаўкі») праз польскае пасрэдніцтва (konwi-



sarz). У Вільні майстры-канвісары вядомы з 1545, у 1595 складзены 1-ы статут віленскага канвісарскага цэха, у 1611 кароль польскі і вял. кн. літ. Жыгімонт III зацвердзіў статут гэтага цэха, які аб'ядноўваў майстроў нямецкага паходжання. Канвісары ўпамінаюцца ў Магілёве з 1-й пал. 17 ст., у 1635 яны разам з інш. металістамі далучаны да рамеснага цэха злотнікаў, у 1650 утварыўся асобны канвісарскі цэх. У Менску ў 1800 зафіксаваны 42 канвісары. Асн. прадукцыяй канвісараў быў алавяны посуд (талеркі, міскі, збаны, куфлі, кубкі), выраблялі таксама лыжкі, шаты, скрынкі, таблічкі, падсвечнікі, труны і інш. Рэчы звычайна спачатку адліваліся, пасля апрацоўваліся (гравіраваліся, паліраваліся, лакіраваліся, пакрываліся высакароднымі металамі і інш.), некаторыя рэчы выкоўваліся з алавянай бляхі, складаныя рэчы рабіліся шляхам алавянай пайкі дэталяў. Каб волава было больш цякучым і запаўняла дробныя дэталі формы, да яго дадавалі свінец. Звычайна доля свінцу складала 1/10, у больш якасных рэчаў была 1/15, у нехарчовым начынні дасягала 1/6. Пад уздзеяннем маразоў волава губляла свае якасці і ператваралася ў шэры парашок. Звычайна алавяны посуд служыў 30 гадоў. Адносная нетрывалась волава тлумачыць невял. колькасць захаваных вырабаў канвісараў ВКЛ. Волава ў ВКЛ прывозілася з Германіі (Рудныя горы), Чэхіі, Польшчы. Звычайна алавяныя вырабы кляйміліся, пашыраным еўрапейскім кляймом былі выявы багіні Юстыцыі з шалямі ў руках. У ВКЛ клеймы вядомы ў віленскіх канвісараў з 17 ст., у 18 ст. яны мелі выяву герба «Пагоня», Юстыцыі.

*Літ.*: D o u b e k F.A. Beiträge zur Geschichte des Deutschtums in Wilna. I. Das Zunftbuch der Wilnaer Zinngiesser // Deutsche Wissenschaftliche Zeitschrift für Polen. Posen, 1929. H. 17; Я г о ж. W sprawie składu narodowościowego i wyznaniowego cechu konwisarskiego w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1930. R. 7, z. 1—2; V o l k a i t ė - K u l i k a u s k i e n ė R., J a n k a u s k a s K. Iš senosios lietuvių amatininkystės istorijos: (alavas senuosiuose lietuvių papuošaluose) // Lietuvos archeologija. Vilnius, 1992. Kn. 8; I n d r i u l a i t y t ė R. Vilniaus alavo liejikų cechas XVI—XIX a.: istorija ir veikla // Menotyra. 1996. № 2.

**Канічы** (цяпер вёска ў Касцюковіцкім р-не Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв. Упершыню згадваецца ў 1511 як в. Конічы. У 1708 невял. паселішча. Як мястэчка ўпершыню ўпамінаецца ў 1765. Размяшчалася ў паўд. частцы сучаснай аднайменнай вёскі, мела вулічную забудову, у якой дамы стаялі па абодвух баках вуліцы. Мястэчка было амаль у 2 разы меншае за вёску. У К. у 1783—85 налічвалася 16 дамоў і пражывала 86 чалавек. У мястэчку стаяла драўляная уніяцкая царква, аднак з-за яе старасці службы ў ёй не вяліся. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Канстанцыя** Г а б с б у р г (24.12. 1588, г. Грац, Аўстрыя — 10.7.1631), каралева польская і шведская, вялікая княгіня літоўская, жонка Жыгімонта III Вазы. Дачка эрцгерцага Карла Штырыйскага (брат імператара Максіміляна II), унучка імператара Фердынанда I і *Ганны* Ягелонкі. Была сястрой імператара Фердынанда II, эрцгерцага Леапольда V, Ганны Габсбург — 1-й жонкі Жыгімонта III. Шлюб паміж К. і Жыгімонтам III адбыўся 11.12.1605 (праз 8 гадоў пасля смерці Ганны Габсбург; чакалі, пакуль К. стане паўналетняй). К. набыла вял. ўплыў на палітыку караля, выступала за ўмацаванне каралеўскай улады ў дзяржаве. Пільнавала інтарэсы Габсбургаў у Рэчы Паспалітай. Імкнулася да ўмацаванняў пазіцый каталіцтва, вяла барацьбу супраць пратэстантаў (прычынілася да смяротнага пакарання ў Вільні італьянца Пятра Франка). Аказвала ўплыў на раздачу дзярж. і царк. пасад, імкнулася выдаваць замуж за магнатаў сваіх прыдворных дам. У час Маскоўскага паходу Жыгімонта III 1609—10 жыла ў Вільні, удзельнічала ў адбудове горада пасля пажару 1610. Была заўзятай каталічкай, прычынілася да пакарання смерцю ў 1611 у Вільні Франкуса дэ Франка, які адкрыта выступіў супраць каталіцкіх догматаў. Займалася мецэнацтвам. У шлюбе з Жыгімонтам III мела сына Яна Казіміра (у 1648—68 кароль польскі і вял. кн. літ. Ян II Казімір), яшчэ 4 сыноў (іншы Ян Казімір, Ян Ольбрахт, Кароль Фердынанд, Аляксандр Кароль), дачок Ганну Канстанцыю і Ганну Кацярыну Канстанцыю. Смерць К. прыспешыла смерць Жыгімонта III, яны былі пахаваны адначасова ў сутарэннях Жыгімонтаўскай капліцы Вавеля ў Кракаве.



**Канстанцыя** Габсбург.
Мастак І.Гайнц. Каля 1605.

**капалін**, від шлема ў ВКЛ у 14—16 ст. Былі пераважна адкрытымі і ў гэтым набліжаліся да шаломаў, аднак мелі больш ці менш шырокія палі, часам апушчаныя ўніз. У шэрагу выпадкаў палі апускаліся так нізка, што засланялі верхнюю частку твару, у такіх выпадках яны праразаліся зрокавай шчылінай-«візурай», што ператварала К. у паўзакрыты шлем, а пры даданні накладнога падбародніка-«барта» — у цалкам закрыты. К. зафіксаваны на 2 пячатках ВКЛ 1379. На пячатцы Кейстута К. — конусападобным шлеме з «яблыкам» на вастрыі і нешырокімі палямі, шлем надзеты наверх кальчужнага каптура. Блізкае па форме нагалоўе паказана на пячатцы Вітаўта. Аналагаў, падобных К., у тагачаснай Еўропе не выяўлена. Стылістычна найб. блізкі да іх візантыйскі шлем 12—13 ст. з Ару-



жэйнай палаты Маскоўскага Крамля. Больш тыповую форму маюць К., прадстаўленыя на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу. Тут фіксуюцца К. 2 варыянтаў — з «цыбулістым» звонам з «яблыкам» на невысокім шпілі і са звонам сферычнай формы, іх даволі шырокія палі крыху апушчаны, што робіць шлемы глыбейшымі. Такія нагалоўі шырока ўжываліся ў 14—16 ст. ва ўсёй Еўропе, некаторыя іх формы бытавалі таксама на Усходзе. К. як адзін з пашыраных тыпаў аховы галавы фіксуюць пісьмовыя крыніцы ВКЛ 16 ст. Менавіта такія шлемы (38 штук) складалі большасць нагалоўяў, занатаваных у «рэестры паспалітых рэчаў скарбных» за 1510. 24 К. было ў 1536 у збраёўні замка Магільна. «Зброя дощатая з наручи и з наколенками и з капалином» фігуруе сярод рэчаў, што адсуджваў у сваёй жонкі Аўдоцці ў 1540 гарадзенскі мешчанін Багдан Хвядкевіч. Яшчэ ў 1571 два К. знаходзіліся сярод узбраення Глускага замка, але іх папулярнасць у 2-й пал. 16 ст. знізілася, што ілюструюць попісы войска ВКЛ 1565 і 1567, дзе падобныя шлемы не адзначаны.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008.

***Юрась Бохан.***

**Капінскі** Ісая [?, в. Копін Падляскага ваяв.—5(15).10.1640], дзеяч праваслаўнай царквы, гл. *Ісая*.

**Каралюк** (Королюк) Уладзімір Дарафеевіч (28.2.1921, г. Кутаісі, Грузія—26.12.1981), расійскі гісторык. Д-р гіст. навук (1965). Скончыў Маскоўскі ун-т (1943). З 1943 працаваў у Ін-це гісторыі АН СССР, з 1947 — у Ін-це славяназнаўства і балканістыкі АН СССР (з 1970 заг. сектара стараж. гісторыі і гісторыі сярэдніх вякоў), намеснік гал. рэдактара часопіса «Советское славяноведение» (1965—81). Працы па гісторыі фарміравання слав. і ўсх.-раманскіх народнасцей, развіцця феад. адносін і дзяржаў ва ўсх. і зах. славян, гісторыі міжнародных адносін перыяду феадалізму ў Цэнтр. і Усх. Еўропе, гісторыі адносін Расіі і Рэчы Паспалітай у 16—18 ст., гісторыі славістыкі. У кандыдацкай дысертацыі «Абранне Аўгуста II на польскі прастол і ўступленне Рэчы Паспалітай у Паўночную вайну» (1948, шэраг артыкулаў па гэтай тэме ў перапрацаваным выглядзе перавыдадзены як манаграфія ў Польшчы) прааналізаваў узаемаадносіны Расіі і Рэчы Паспалітай напярэдадні і ў пач. Паўн. вайны 1700—21. Адзін з аўтараў «Гісторыі Польшчы» («История Польши», т. 1, Масква, 1954), «Гісторыі Чэхаславакіі» («История Чехословакии», т. 1, Масква, 1956), «Нарысаў па гісторыі СССР» («Очерки по истории СССР: Период феодализма: Конец XV в.—начало XVII в.», Масква, 1955), «Гісторыі сялянства ў Еўропе» («История крестьянства в Европе», т. 1, Масква, 1985).

*Тв.*: Свидание в Биржах и первые переговоры о польско-русском союзе // Вопр. истории. 1948. № 4; Избрание Августа II на польский престол и русская дипломатия // Уч. зап. Ин-та славяноведения. М., 1951. Т. 3; Речь Посполитая и подготовка Северной войны // Там жа. Т. 4; Речь Посполитая и начало Северной войны // Там жа. Т. 5; Начало шведской агрессии против Речи Посполитой в ходе Северной войны (1701—1702 гг.) // Там жа. М., 1952. Т. 6; Русская дипломатия и подготовка вступления Речи Посполитой в Северную войну: (восстановление русско-саксонского союза, 1702—1703 гг.) // Там жа. М., 1953. Т. 7; Вступление Речи Посполитой в Северную войну // Там жа. М., 1954. Т. 10; Ливонская война: к истории внешней политики Русского централизованного государства во 2-й половине XVI в. М., 1954; Древнепольское государство. М., 1957; Историческое значение Грюнвальдской битвы // Краткие сообщения Ин-та славяноведения. М., 1961. Вып. 32; Западные славяне и Кивская Русь в X—XI вв. М., 1964; Славяне и восточные германцы в эпоху раннего средневековья: политическая и этническая история. М., 1985 [змешчана бібліяграфія прац К.]; Polska i Rosja a ojna północna. Warszawa, 1954.

*Літ.*: Владимир Дорофеевич Королюк // Сов. славяноведение. 1982. № 4; Флоря Б.Н. Научная деятельность В.Д.Королюка // Там жа. 1984. № 4; Славяне и их соседи. Вып. 7. М., 1999.

**Караў** Дзмітрый Уладзіміравіч (н. 25.12.1949, г. Уфа, Расія), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1996), праф. (2006). Скончыў Маскоўскі дзярж. гісторыка-архіўны інстытут (1973), юрыд. факультэт Гродзенскага дзярж. ун-та (1995). У 1973—74 працаваў у Ін-це гісторыі, археалогіі і этнаграфіі народаў Далёкага Усходу Далёкаўсх. навук. цэнтра АН СССР, у 1975—79 — у Далёкаўсх. дзярж. ун-це. З 1979 у Гродзенскім дзярж. ун-це (з 2001 заг. кафедры эканам. тэорыі). Адначасова выкладае ў Гродзенскім філіяле Бел. ін-та правазнаўства (у 1997—99 заг. кафедры тэорыі і гісторыі права), з 1996 дырэктар Гуманітарнага цэнтра даследаванняў Усх. Еўропы. Даследуе гістарыяграфію і крыніцазнаўства гісторыі Беларусі, гісторыю культуры Беларусі 16—20 ст. Рэдактар-складальнік гісторыка-культ. серыі «Наш радавод» (кн. 1—8, 1990—2001).

*Тв.*: Великое княжество Литовское (XIV — нач. XVI в.) в российской либеральной историографии конца XIX — нач. XX вв.: (М.К.Любавский и его труды по истории ВКЛ) // Наш радавод. Гродно, 1990. Кн. 2; У истоков белорусской национальной историографии: конец XVIII — 50-е гг. XIX в.: (историческая наука Белоруссии и Литвы времен Т.Нарбута) // Там жа; Белорусская историография в эпоху капитализма (1861—1917 гг.) // Там жа. Гродно, 1991. Кн. 3, ч. 1; Белорусская историография конца XVIII—нач. XX веков: (политика царизма и формирование исторической науки Беларуси) // Там жа. Гродна, 1993. Кн. 5, ч. 2; Архіўная спадчына Вялікага Княства Літоўскага і беларускія архівы ў канцы XVIII—пачатку XX ст. // Спадчына. 1996. № 1; Проблемы истории Великого княжества Литовского и Беларуси нового времени в современной белорусской историографии // Центральна і Східна Європа в XV—XVIII століттях. Львів, 1998; Белорусская и украинская историография конца XVIII— начала 20-х гг. XX в. В процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев. Вильнюс, 2007.

**Карбоўскі** Васіль, майстар разьбярнай і сталярнай спраў 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Маскоўскай дзяржаве. У 1684 разам з інш. майстрамі-беларусамі рабіў шафу, ківот і інш. рэчы для царскага дому, у 1686— 87 разны іканастас для царквы Пятра і Паўла ў Маскоўскім Крамлі.

**Карвацкі** Мацей (30.3.1686, Унешава каля Ольштына, Прусія—10.4. 1756), дзеяч каталіцкай царквы, лінгвіст. У 1706 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў філасофію ў Рэшалі і Браневе. Прафесар рыторыкі ў Браневе (1716—17), Рэшалі (1717—18), Ломжы (1718—19), прафесар матэматыкі, яўрэйскай і грэчаскай моў, прэ-

фект друкарні ў Вільні (1720—32), прэфект школы ў Слоніме (1736—38), суперыёр у Мітаве (1739—41), праф. матэматыкі і грэчаскай мовы ў Навагародку (1743—56). Выдаў граматыку грэчаскай мовы (Вільня, 1725).

**Кардзехін** Андрэй, разьбяр па дрэве 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1682—83 разам з інш. майстрамі-беларусамі рабіў для царскага дому ківоты, крэслы і інш.

**Карл фон Трыр** (Karl von Trier; каля 1265, г. Трыр, Германія—10 або 12, або 14.2.1324), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1311—24. Паходзіў з патрыцыяту г. Трыр. Атрымаў добрую адукацыю, акрамя нямецкай, валодаў лацінскай і французскай мовамі. Каля 1288 уступіў у Тэўтонскі ордэн. Прынамсі з 1291 комтур у Бёвуа ў Шампані. У 1303 удзельнічаў у генеральным капітуле ордэна ў Эльблёнгу, на якім вял. магістарм абраны Зігфрыд фон Фохтванген. Апошні ўвёў К.ф.Т. ў сваё акружэнне. У 1305—11 комтур Латарынгіі. У 1311 у выніку закулiснай барацьбы абраны вял. магістрам ордэна капітулам у Мальбарку, што стала нечаканасцю для рыцараў, бо К.ф.Т. раней не меў дачыненняў да Прусіі. Зрабіў спробу рэфармаваць ордэн як духоўную арганізацыю, а не проста свецкае брацтва рыцараў. З пераменным поспехам ваяваў з язычніцкай Літвой, супраць якой арганізаваў некалькі паходаў. У 1317 узнікла змова прускіх комтураў супраць К.ф.Т., у выніку ён абвясціў пра адстаўку з пасады вял. магістра і з'ехаў у Трыр. Здабыў падтрымку рымскага папы Іаана XXII, і ў 1318 капітул ордэна ў Германіі аднавіў К.ф.Т. на пасадзе. Аднак у Прусію К.ф.Т. не вярнуўся, хоць быў прызнаны там вял. магістрам ордэна. З прускім рыцарствам К.ф.Т. заключыў кампраміс, прызначаючы на мясцовыя ордэнскія пасады сваіх апанентаў. Дзякуючы яго ўплыву рымскі папа ў 1323 прызнаў спрэчнае паміж Польшчай і Тэўтонскім ордэнам Гданьскае Памор'е ордэнскім уладаннем.

**Кармелава** (Karmėlava), мястэчка ў Каўнаскім р-не Літоўскай Рэспубліцы, гл. *Кармялаў*.



Карл фон Трыр.

**Кармялаў** (літ. Кармелава, Karmėlava, цяпер мястэчка ў Каўнаскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Ковенскім павеце, на р. Нярыс (Вілія). Вядома з канца 14 ст. ў апісанні шляхоў крыжацкіх наездаў (Kremilow). Была велікакняжацкай уласнасцю. У 1529 вял. кн. літ. і кароль польскі Жыгімонт I Стары фундаваў у К. касцёл (у 1763 перабудаваны віцебскім кашталянам Шыманам Сіруцем). У 1549 вял. кн. літ. і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст падараваў двор К. сваёй жонцы Барбары Радзівіл. К. адзначана як мястэчка на Радзівілаўскай карце ВКЛ 1613. У 1663 упамінаецца парафіяльная школа (адноўлена ў 1777). Быў цэнтрам нягродавага стараства, якое трымалі Агінскія, потым Сіруці; на сойме 1773—75 старасва перададзена ковенскаму скарбніку Юзафу Кончу. 17.3.1792 кароль польскі і вял. кн. літ. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі надаў К. магдэбургскае права і герб. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Карніцкая** (па мужу Дырэнталь, з 1790 выступала на сцэне пад гэтым прозвішчам) Магдалена (каля 1764, г. Паставы—?), танцоўшчыца. Прыгонная падскарбія надворнага ВКЛ Антонія *Тызенгаўза*. Вучылася ў яго балетнай школе ў Паставах. У 1785—94 (з перапынкам у 1787—90) у складзе трупы «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці» ў Варшаве. Выступала на каралеўскіх сцэнах і ў Нац. тэатры як другая салістка (сярод партый — Пастушка ў балеце «Лукас і Калінета»). Пасля паражэння паўстання 1794, відаць, працавала ў Варшаве ў трупе «Нацыянальныя танцоры» і антрэпрызе С.Гальніцкага і К.Аўсінскага, у 1795 выступала ў Гародні і Львове, з 1797 у Варшаве ў антрэпрызе Т.Трускаляскага.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992.

**Карпаў** (Карпов) Генадзь Фёдаравіч [2(14).2.1839, г. Барысаглебск Варонежскай вобл., Расія — 24.4(6.5).1890], расійскі гісторык. Скончыў Маскоўскі ун-т (1861), вучань С.М.Салаўёва. Быў пакінуты пры ун-це для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. У 1867 абараніў дысертацыю на ступень магістра рус. гісторыі «Гісторыя барацьбы Маскоўскай дзяржавы з Польска-Літоўскай (1462—1508)», у якой прасачыў войны паміж Расіяй і ВКЛ. Прызначаны дацэнтам у Харкаўскі ун-т. У 1870 абараніў доктарскую дысертацыю «Крытычны агляд распрацоўкі галоўных рускіх крыніц, што адносяцца да гісторыі Маларасіі». У 1871 пакінуў службу і перасяліўся ў Маскву. Чл. Таварыства гісторыі і старaж. расійскіх (1866), Археагр. камісіі (1873), Рус. гіст. таварыства (1880). Працы па гісторыі станаўлення Маскоўскай дзяржавы, далучэння да яе ўкраінскіх зямель, гістарыяграфіі Украіны. Працы К. напісаны з велікадзярж. рас. пазіцый, вылучаюцца грунтоўнай перапрацоўкай гіст. крыніц. Рэдагаваў тамы 10, 11, 14 і 15 «Актаў Паўднёвай і Заходняй Расіі», тамы 35, 41, 53 і 54 «Зборнікаў Рускага Гістарычнага таварыства».

*Тв.*: Очерки из истории российской церковной иерархии // Чтения в Обществе



истории и древностей российских. 1864. Кн. 3—4; Брак Александра Казимировича с Еленой Ивановной // Московские университет. изв. 1866. № 8; История борьбы Московского государства с Польско-Литовским, 1462—1508. Ч. 1— 2. М., 1867; Критический обзор разработки главных русских источников до истории Малороссии относящихся, 8-е генваря 1654—30-е мая 1672 года. М., 1870; Киевская митрополия и московское правительство во время объединения Малороссии с Великой Россией // Православное обозрение. 1871. № 8—9; Начало исторической деятельности Богдана Хмельницкого. М., 1873; Дионисий Балабан митрополит киевский: из истории отношений киевской церковной иерархии к московскому правительству 1654—1661 гг. // Православное обозрение. 1874. № 1; Мефодий Филимонович епископ мстиславский и оршанский, блюститель Киевской митрополии (1661—1668 года) // Там жа. 1875. № 1, 2, 4, 6, 11, 12; Г. Костомаров как историк Малороссии. М., 1871; Малороссийские города в эпоху соединения Малороссии с Великою Россией // Летопись занятий Археографической комиссии. 1877. Вып. 6; В защиту Богдана Хмельницкого. М., 1890.

*Літ.*: Барсов Е.В. Геннадий Федорович Карпов: (некролог) // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1890. № 6; Чтение Вас. Осип. Ключевского // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1892. Кн. 1.

**Карыгер** (Kariger) Ян (28.8.1664, Прусія—13.5.1729), дзеяч каталіцкай царквы, лінгвіст. У 1679 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1693 ксёндз. Праф. паэтыкі і рыторыкі ў Браневе (1693—94), Крожах (1696—97), прэфект школы ў Дынабургу (1699—1700), праф. філасофіі ў Гародні (1700—02), прэфект школы ў Плоцку (1702—03), Коўне (1703—04). У час Паўночнай вайны 1700—21 вайсковы місіянер (1704—05). Прэфект школы ў Ілукшце (1705—06), Гародні (1709—11), місіянер у Прэлях (1706—09), Шомбергу (1711—12). З 1712 латышскі місіянер у Прэлях і Варклянах. Склаў каштоўны слоўнік латышскай мовы «Lexicon Lothavicum» (не надрукаваны).

*Літ.*: Kołbuszewski S.F. Cechy górnolotewskie w Słowniku Jana Karigera // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1976. T. 10; Яго ж. Jana Karigera Słownik polsko-łotewski na tle leksykografii b. Inflant Polskich. Poznań, 1977.

**Карызна** Мікалай Аляксандр (26.7.1691, Жамойць—24.2.1740), дзеяч каталіцкай царквы, дарматург. У 1707 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1721 ксёндз. Прэфект школы ў Ілукшце (1722—23), Полацку (1724—25), Коўне (1725—26, 1727—28), Ломжы (1730—32), Крожах (1733—34), праф. маральнай тэалогіі і прэфект бурсы ў Вільні (1726—27), прафесар філасофіі ў Рэшалі (1628—30), Крожах (1732—34), маральнай тэалогіі ў Вільні (1735—36), місіянер у Шадаве (1739—40). Быў прапаведнікам і бібліятэкарам. Выдаў драму «Чырвонае мора» («Mare Rubrum», Варшава, 1718).

**Карытынскі** Ануфрый Тамаш (14.12.1719, Мазовія — студз. 1770), дзеяч каталіцкай царквы, паэт, перакладчык. У 1735 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў філасофію, выкладаў паэтыку ў Гародні (1744—45). У 1745 выйшаў з ордэна. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. У 1751—52 жыў у Крыстынаполі ў Францішка Салезія Патоцкага, потым у Боцьках у Караля Юзафа Сапегі. З 1754 сакратар Гераніма Фларыяна *Радзівіла* ў Белай і Слуцку. Пасля яго смерці ў 1760 жыў у Марціна *Матушэвіча* ў Ратне. З 1761 пры двары кракаўскага біскупа Каэтана Солтыка. З 1764 сакратар белзскага ваяводы Цэтнера. Аўтар паэмы «Алькеніцкая бітва» (напісана ў 1760, часткова выдадзена ў 1841, цалкам — у 1843), вершаў у гонар сваіх апекуноў Аляксандра Аўгуста, Адама і Ізабелы Чартарыйскіх, Андрэя Замойскага. Магчыма, з'яўляецца аўтарам «Трэнаў над смерцю князя Гераніма Фларыяна Радзівіла» («Treny nad śmiercią Xcia Hieronima Floriana Radziwiłła», Вільня, 1766). Набыў вядомасць як перакладчык Гарацыя.

**Карытынскі** Фелікс (18.5.1718, Мазовія—30.8.1769), дзеяч каталіцкай царквы, драматург. У 1733 уступіў у Вільні ў ордэн *езуітаў*, з 1746 ксёндз. Вывучаў у Вільні філасофію (1736—39) і тэалогію (1743—17). Праф. рыторыкі ў Крожах (1748—49), Вільні (1749—50, 1753—54), Пултуску (1751—52), Дарагічыне (1752—53), філасофію ў «Калегіум Нобіліум» у Варшаве (1754—56) і Вільні (1756—59), тэалогію ў Варшаве (1759—62), пракуратар Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў (1762—63), рэктар Дарагічынскага калегіума (1767—69). Выдаў трагедыю «Чэснасць служыць справядлівасці» («Innocentia pietate servata», Вільня, 1750). Захаваліся рукапісныя лекцыі К. па тэалогіі.

**Карэла** Аляксей, майстар разьбярнай і сталярнай справы 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. У 1684—85 у складзе арцелі бел. разьбяроў і цесляроў рабіў крэслы, куфэркі, шафу, ківот і інш. для царскіх харомаў.

**Касакоўскі** Браніслаў (20.9.1687, Менскае ваяв.—3.1.1722), дзеяч каталіцкай царквы, драматург. У 1705 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Прафесар рыторыкі ў Дарагічыне (1719—20) і Вільні (1720—21), Выдаў драму «Arcanum cordis» (Вільня, 1721).

**Касінскі** Станіслаў (каля 1587, Мазовія—22.4.1657), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. У 1603 уступіў у Полацку ў ордэн езуітаў, ксёндз. Прэфект школы ў Полацку (1619—20), рэктар калегіумаў у Дорпаце (1620—23) і Полацку (1625—29, 1642—47), прыдворны місіянер смаленскага ваяводы Аляксандра Гасеўскага (1634—37). Выдаў кнігу «Жыцце і мучаніцтва блажэннага Іасафата, біскупа і мучаніка» («Żywot i męczeństwo bł. Jozaphata biskupa i męczennika», Вільня, 1665). У рукапісах засталіся каштоўныя працы К. па гісторыі царквы на Русі.

**Касмоўскі** Ян (27.5.1629, Падляшша — 22.9.1694), дзеяч каталіцкай царквы, драматург. У 1653 уступіў у Вільні ў ордэн *езуітаў*, ксёндз. Вывучаў тэалогію ў Аўстрыі (1656—64). Прафесар рыторыкі ў Нясвіжы (1672—73) і Вільні (1673—74), прэфект школы ў Нясвіжы (1674—76), прафесар маральнай тэалогіі і прэфект школы ў Варшаве (1676—78), прафесар матэматыкі ў Полацку (1678—80), прэфект школы ў Віцебску (1680—81), рэктар Плоцкага калегіума (1681—84), супер'ёр у Дарагічыне (1691—92). Аўтар 2 драм, пастаўленых у Вільні ў 1674.

*Літ.*: Okoń J. Dramat i teatr szkolny: Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.



**Каспяровіч** Мікалай Іванавіч [9(22). 5.1900, в. Ізабалёва Ігуменскага пав., цяпер у Пухавіцкім р-не—26.12.1937], беларускі краязнавец, лексікограф, мастацтвазнавец і літаратуразнавец. У 1915—17 знаходзіўся ў бежанстве ў Кастрамской губ., вучыўся ў Кастрамской мужчынскай гімназіі. У 1917—21 настаўнічаў у Ігуменскім пав., у 1919—20 інструктар Часовага бел. нац. камітэта і Цэнтр. бел. школьнай рады, арганізаваў і быў 1-м старшынёй Ігуменскіх павятовых бел. нац. камітэта і школьнай рады, удзельнічаў у антыпольскім падполлі. У 1918—20 вучыўся ў Мінскім бел. педагагічным ін-це, у 1921—22 — у БДУ, быў выключаны. Чл. арганізацыі «Маладая Беларусь», Мінскага таварыства гісторыі і старажытнасцей, партыі бел. эсэраў у 1918—24. З 1921 інструктар Наркамасветы БССР, з 1922 інспектар Слуцкага, з 1924 — Віцебскага аддзелаў нар. асветы. З 1926 навук. сакратар Цэнтр. бюро краязнаўства пры Інбелкульце, сакратар краязнаўчага часопіса «Наш край». Выдаў «Беларуска-расійскі слоўнічак» (1925), «Віцебскі краёвы слоўнік» і «Слоўнічак уласных найменняў» (1927). Пісаў пра гісторыю краязнаўчай працы на Беларусі, яе задачы і методыку, даследаваў гісторыю бел. выяўленчага мастацтва, архітэктуру, л-ру, цікавіўся гісторыяй тэатра, навукі. Укладальнік першага бел. дапаможніка па тэорыі л-ры «Узоры для літаратурных гуртвоў пры «Маладняку» і гуртвоў селькораў» (1927). У 1930 арыштаваны, асуджаны на 5 гадоў зняволення. Пасля адбыцця пакарання выкладаў рус. мову і л-ру ў Новасібірску. У 1937 паўторна арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны ў 1958 і 1960.

*Тв.*: Беларуская архітэктура. Віцебск, 1925; Віцебсая архітэктура ў гістарычнай перспектыве // Віцебшчына. Віцебск, 1925. Т. 1; Аб слуцкіх паясах // Маладняк. 1927. № 5; Асноўныя моманты ў гісторыі беларускага дойлідства // Полымя. 1927. № 5; Беларуская навука да Кастрычніка і пасля яго // Маладняк. 1927. № 10; Беларуская культура // Там жа. 1928. № 12; Матэрыялы да вывучэння віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва. Мінск, 1927; Арганізаванае вывучэньне Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецьця // Полымя. 1928. № 1; З гісторыі краязнаўства // Наш край. 1928. № 2; Віленскі беларускі музей // Там жа. 1929. № 2; Краязнаўства. Мінск. 1929.

*Літ.*: Беларускія пісьменнікі: біябібліягр. слоўн. Мінск, 1994. Т. 3. С. 208—211; Г е р м а н о в і ч І.К. Беларускія мовазнаўцы. Мінск, 2006. Т. 1. С. 190—212.

***Арсень Ліс.***

**Касткоўскі** Каспер (1624, Мазовія—24.7.1684), дзеяч каталіцкай царквы, драматург, паэт. У 1644 уступіў у Кракаве ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вывучаў тэалогію ў Чэхіі (1655—58). Праф. рыторыкі ў Берасці (1659—60), Сандаміры (1660—61), Луцку (1663—64), Кросне (1664—65, 1666—67), Берасці (1665—66), прэфект школы ў Валчы (1675—76, 1683—84), праф. маральнай тэалогіі ў Торуні (1676—77), Сандаміры (1678—80) праф. маральнай тэалогіі і прэфект школы ў Берасці (1684). Прыдворны місіянер надворнага падскарбія ВКЛ Леана Базыля Сапегі. Лічыўся адным з найздольнейшых езуіцкіх паэтаў. Аўтар драм для школьнага тэатра.

*Літ.*: O k o ń J. Dramat i teatr szkolny: Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.

**Кастырэнка**, кіраўнік аднаго з найбольш актыўных паўстанцкіх атрадаў беларускіх сялян і мяшчан у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Атрад К. сфарміраваўся ў 1648 падчас панавання казакоў у Падняпроўі. Пасля разгрому казакоў у *Лоеўскай бітве 1649* атрад К., які ў бітве не ўдзельнічаў, таксама пацярпеў значныя страты ад харугваў войска ВКЛ, якія займаліся пошукам паўстанцаў. К. дзейнічаў партызанскімі метадамі ў Рэчыцкім і Мазырскім паветах, нападаў на шляхецкія раз'езды, «на вёскі, рабавалі і кружачы вакол літоўскага лагеру стараліся перашкодзіць падвозу жыўнасці» ў гарнізоны. Вясной 1651 К. разбіты пад Горвалем атрадам бел. сялян і мяшчан пад кіраўніцтвам А.Шанчэнкі. Далейшы лёс К. невядомы.

*Літ.*: А б е ц е д а р с к и й Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978; K o t ł u b a j E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859. ***Сяргей Чаропка.***

**Каўроўскае Евангелле,** помнік пісьменнасці 14 ст. Рукапіс — Евангелле апракас поўны. Пісаны 2 пісцамі уставам у 2 слупкі на 148 аркушах пергаменту. Упрыгожаны мініяцюрай з выявамі Іаана Багаслова, што дыктуе св. Прохару, архангела Міхаіла і Ісуса Хрыста, малюнкам з выявамі 6 сядзячых апосталаў, 2 прамавугольнымі застаўкамі паўд.-слав. стылю, 306 ініцыяламі. Моўныя асаблівасці сведчаць, што Евангелле мае галіцка-валынскае паходжанне. Прыпіскі па палях рукапісу сведчаць, што ў 14—16 ст. кніга знаходзілася ў ВКЛ. Упамінанне ў адной з прыпісак канца 14 ст. царквы св. Спаса на Востраве, на думку М.Нікалаева, указвае на адзін з раёнаў Полацка. У інш. прыпісцы ўпамінаецца падараванне дзесяціны царкве Багародзіцы ў Лушневе, зробленае невядомай асобай (слуцкім кн. Сямёнам Міхайлавічам Алелькавічам або кіеўскім кн. Алелькам Уладзіміравічам) са сваёй жонкай — княгіняй Настассяй. На думку А.А.Турылава, Лушнева знаходзілася недалёка ад Слоніма. У 1966 рукапіс набыты ў Каўрове (Уладзімірская вобл., Расія) Ін-там рус. л-ры (Пушкінскім домам), дзе ён цяпер і захоўваецца.

*Літ.*: П у ц к о В.Г. Ковровское евангелие // Рождественские чтения. Ковров, 1994. Вып. 1; Я г о ж. Галицко-волынское Евангелие из Коврова: (болгарско-украинские параллели в книжном искусстве XIV в.) // Годишник на Софийския киниверситет «Св. Климент Охридски»: Център за славяно-византийски проучвания «Ив. Дуйчев». София, 1995—96. Т. 88 (7); З а п а с к о Я.П. Пам'ятки книжкового цистецтва: українська рукописна книга. Львів, 1995. С. 56, 267—268; Сводный каталог славяно-русских рукописных книг, хранящихся в России, странах СНГ и Балтии: XIV век. М., 2002. Вып. 1. С. 279—282; Н и к о л а е в Н.В. Начала книжной культуры Великого княжества Литовского: (эпоха Гедимина и Ольгерда) // Федоровские чтения, 2005. М., 2005.

**кафля** (ад ням. Kachel), керамічныя вырабы для пабудовы, аблямоўкі і дэкаратыўнага аздаблення печаў. На тэр. ВКЛ К. пачала выкарыстоўвацца ў пач. 14 ст. (Полацк). Мяркуецца, што прыём выкарыстання К. пры пабудове печаў запазычаны майстрамі ВКЛ у нямецкага насельніцтва Прыбалтыкі. Вял. тэр. дзяржавы, працяглы час ужывання К. спрыялі засваенню на розных землях ВКЛ разнастайных культ. уплы-



Геральдычная **кафля** з выявай сумеснага герба Яна Глябовіча і яго жонкі Кацярыны з Кратоўскіх. Заслаўскі замак. 1586—90. Раскопкі Ю.Зайца.



Гаршкападобная **кафля** з трыфалійным вусцем. Феадальная сядзіба Лучна. Канец 15—пач. 16 ст. Раскопкі М.Клімава.

ваў у вытворчасці К.: нямецкіх, польскіх, венгерскіх і інш. У сваю чаргу, ВКЛ перадало свой вопыт у вытворчасці К. Маскоўскай дзяржаве (16—17 ст.). Кафляныя печы спачатку ставілі ў дзярж. замках, рэзідэнцыях феадалаў, манастырах і кляштарах, у дамах шляхты і заможных гараджан. З канца 16—пач. 17 ст. яны зрабіліся неад'емнай часткай інтэр'ера жылых і грамадскіх пабудоў гарадоў і мястэчак, а ў 17 ст. з'явіліся і ў вясковых паселішчах, перш за ўсё ў корчмах, заезных дамах і ў шляхецкіх засценках. Асаблівасцямі К. з'яўляецца масавасць вытворчасці, трансфармацыя яе форм з развіццём канструкцыі печы, а арнаменту — у адпаведнасці са зменай мастацкіх стыляў (готыка, рэнесанс, барока, ракако). Па сваім прызначэнні, месцы, якое яна займае ў складанай архітэктоніцы печы, К. падзяляецца на сценную, карнізную, пяясковую, навершы, медальёны, перамычкі, пакрыццё скляпення, а таксама базавую і калонкі. Большую частку печы складала сценная К., з якой выкладаўся асн. аб'ём (сцены, ці «люстра») печы. Па канструкцыйных асаблівасцях вылучаюцца 4 віды сценнай К.: посудападобная, паўцыліндрычная, праразная і каробчатая (з вонкавай пласцінай і румпай). Посудападобная К., якая атрымала назву па форме, што нагадвае керамічны посуд, з'яўляецца найб. старажытнай. Па прапорцыях яна падзяляецца на гаршкападобную (вышыня тулава больш за папярочнік вусця) і міскападобную (папярочнік вусця большы за вышыню тулава).

Гаршкападобная К. (яе называюць таксама гаршковай і сотавай) падзяляецца на варыянты па форме вусця, якое рабілася круглым, квадратным, прамавугольным, трохвугольным, квадрыфалійным і трыфалійным (у выглядзе 4- ці 3-пялёсткавай разеткі), 6- і 8-пялёсткавым. Найб. ранняя гаршкападобная К. мела круглае вусце. У Полацку яна знойдзена ў печы драўлянай пабудовы з дэндрадатай 1304, у камплектах печаў, пабудаваных у 14 і пач. 15 ст. У Лідскім замку К. з круглым вусцем выкарыстоўвалася з 1330-х г. да 16 ст. ўключна, у Гародне — у 15—16 ст., у Крэўскім замку — да сярэдзіны 16 ст., у Гарадку на Падляшшы — у 15—16 ст., у Тыкоціне — у 1-й пал. 16 ст. У Мсціславе найб. познія экзэмпляры датуюцца 16 і нават 17 ст., але мсціслаўская посудападобная К. не класіфікуецца на гаршкападобную і міскападобную. Ніжняя мяжа перыяду бытавання К. з квадрыфалійным вусцем — 2-я пал. 14 ст. У Віцебску, Азярышчанскім, Лідскім і Крэўскім замках такая К. выкарыстоўвалася да канца 15 ст., а ў Мсціславе — і ў пач. 16 ст. У Гарадку на Падляшшы ўжывалася ў 15—16 ст., у Тыкоціне — у 1-й пал. 16 ст. У Заслаўскім замку і ў Міры найб. познія знаходкі К. з квадрыфалійным вусцем паходзяць адпаведна з пластоў 16 ст., але прадстаўлены яны адзінкавымі экзэмплярамі. Такая К. знойдзена ў Вільні, Коўне, Свержані, Клецку, Азярышчанскім замку, Луцку, Астрозе, Кіеве. Можна меркаваць, што вытворчасць такой К. спынілася ў канцы 15 — пач. 16 ст., хоць у камплектах некато-



Гербавая **кафля**. Селішча Росцевічы (Зэльвенскі р-н). 17 ст. Раскопкі В.Шаблюка.



Гаршкападобная **кафля** з квадратным вусцем. Феадальная сядзіба Лучна. Пач. 16 ст. Раскопкі М.Клімава.



**Кафля**. Клецк. 16 ст. Раскопкі Т.Бубенькі і В.Пазднякова.



**Кафля** з выявай конніка. Дуброўна. 17 ст. Раскопкі В.Ляўко.

рых печаў яна магла захоўвацца на працягу яшчэ некалькіх дзесяцігоддзяў. У Смалянах такая К. ўжывалася нават у 17 ст. Рэдкая для Беларусі К. з трыфалійным вусцем знойдзена ў в. Здзітава Бярозаўскага р-на, дзе лакалізуецца летапісны горад Здзітаў (мяркуецца, што яна адносіцца да 2-й пал. 14—15 ст.), і падчас раскопак феад. сядзібы Лучна ў Полацкім р-не (канец 15—пач. 16 ст.). Гаршкападобная К. з 6-пялёсткавым вусцем знойдзена ў Тыкоціне на Падляшшы, дзе яна датуецца 1-й пал. 16 ст. На Падляшшы знойдзена і К. з 8-пялёсткавым вусцем. Знаходкі ранняй К. з квадратным вусцем датуюцца пач. 15 ст. ці канцом 14—пач. 15 ст. (Полацк, Лідскі, Крэўскі, Луцкі замкі, Астрог, Кіеў). У Вільні яна выкарыстоўвалася пры пабудове печаў у 15—16 ст., у Коўне — у канцы 15— пач. 16 ст., у Бельску на Падляшшы — 15—16 ст. Познія знаходкі К. гэтага варыянта датуюцца ў Міры пач.— 1-й пал. 16 ст., у Мсціславе — 1-й пал.— сярэдзінай 16 ст., у Мазыры і Крычаве — 16 ст., у Дубровенскім замку — 1-й пал. 16 ст. У Крэўскім замку К. з квадратным вусцем выкарыстоўваліся да канца 16 ст. У Заслаўскім замку печ з такой К. была складзена ў 1-й пал. 16 ст. і існавала яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі 2-й пал. 16 ст. Блізкай да гэтага варыянта з'яўляецца гаршкападобная К. з прамавугольным вусцем, знойдзеная ў Мазыры ў пласце 16 ст. К. з вусцем у форме трохвугольніка з Вільні, Навагародка і Койданава датуецца 2-й пал. 14—15 ст., а з Гарадка на Падляшшы — 15—16 ст. У Гародні, на тэр. езуіцкага калегіума, такая К. знойдзена з матэрыяламі 17 ст. З'яўленне К. з новым варыянтам афармлення

вусця не спыняла вырабу больш ранніх мадыфікацый. Гаршкападобная К. адрозніваецца паміж сабой таксама і формай тулава, якое рабілася ў выглядзе перакуленага ўсечанага конуса, блізкім да цыліндра або бочкападобным. Усе экзэмпляры маюць круглае дно. У некаторых пераход ад цыліндрычнага тулава да фігурнага вусця афармляўся ў верхняй частцы ў выглядзе раструба. Працяглы перыяд вытворчасці гаршкападобнай К. абумовіў пэўныя змены як яе параметраў, так і тэхналогіі вырабу. Спачатку яна выраблялася на ручным ганчарным крузе ў тэхніцы налепу. Пра гэта сведчаць характэрныя борцікі па краі донцаў і наяўнасць клеймаў на донцах некаторых экзэмпляраў. У 15 ст. пачаўся пераход да вырабу К. на нажным ганчарным крузе ў тэхніцы выцягвання формы з аднаго кавалка глінянай масы. Сценкі ў такой К. звычайна больш тонкія і нярэдка маюць рыфленне. Гліняная маса для гэтай К. больш якасная, як правіла, без жарствы.

Міскападобная К., як мяркуюць даследчыкі, утварылася шляхам памяншэння вышыні тулава і павелічэння памераў вусця гаршкападобнай К. Яна падзяляецца на варыянты па форме вусця, якое рабілі круглым, квадратным, прамавугольным, 4- і 6-пялёсткавым. Міскападобная К. знойдзена ў асн. у пластах, якія датуюцца 15 ст. (звычайна 2-й пал. 15 ст.) ці 15—16 ст. Але большасць знаходак падобнай К. прыпадае на пласты 16 ст. Працягвала вырабляцца міскападобная К. і ў 17 ст. Міскападобная К. з круглым і з квадратным вусцем пачала вырабляцца адначасова ці амаль адначасова. Супадае і верхняя мяжа іх бытавання. К. з прамавугольным вусцем знойдзена ў Мазыры (16 ст.), на тэр. феад. сядзібы каля в. Мачуліна (Ваўкавыскі р-н) і можа датавацца 16—17 ст., з 4-пялёсткавым вусцем — у Віцебску і Лідскім замку (15 ст.), Гарадку на Падляшшы (15—16 ст.), з 6-пялёскавым і квадратным — у Луцку (15—1-я пал. 16 ст.). Уся міскападобная К. кругладонная. Тулава яе магло пашырацца ў накірунку да вусця ў выглядзе варонкі ці паступова, так, што ў вертыкальным разрэзе К. нагадвала трапецыю. Некаторыя раннія экзэмпляры К. з круглым вусцем маюць бочкападобнае тулава. Часам міскападобная К. рабіліся з венцам, аформленым у выглядзе карнізіка. Выраблялася міскападобная К. пераважна на нажным ганчарным крузе, таму на сценках тулава нярэдка можна бачыць лёгкае баразнаватае рыфленне. Унутры міскападобная К. магла пакрывацца палівай, а яе донца аздабляцца рэльефнымі канцэнтрычнымі кругамі і разеткамі.



Гербавая **кафля**. Шклоў. 16–18 ст. Раскопкі В.Ляўко.



**Кафля** з выявай конніка. Дуброўна. 17 ст. Раскопкі В.Ляўко.

У асобных экзэмплярах гаршкападобнай К. Полацка 15 ст. ўнутраная паверхня донца арнаментавалася шматпялёсткавай разеткай. У адным экзэмпляры гаршкападобнай К. з круглым вусцем з Крэўскага замка ўнутраная паверхня сценак арнаментавана косымі паласамі. У некаторых экзэмплярах міскападобнай К. донца знутры таксама арнаментавалася разеткамі, выявамі кветкі, круга ці некалькіх кругоў, якія размешчаны па акружнасці. Адзін экзэмпляр міскападобнай К. 16 ст. з Заслаўскага замка звонку па верхнім краі тулава ўпрыгожаны фігурным налепам. З сярэдзіны 16 ст. ўнутраная паверхня часткі міскападобнай К. пакрывалася палівай пераважна зялёнага колеру.

Паўцыліндрычная К. мае гал. чынам сюжэтныя выявы, выкананыя высокім рэльефам (гарэльефам) унутры прамавугольных паўцыліндрычных форм. Верхняя частка такой К. звычайна закрыта масверкам. Яна адрозніваецца масіўнасцю, часам аздоблена паліваю. З паўцыліндрычнай К. складалася верхняя, круглая ў плане частка печы, а ніжняя частка набіралася з каробчатай К. У вял. колькасці паўцыліндрычная К. знойдзена падчас раскопак Ніжняга замка і Старога места Вільні. Вядома яна таксама з раскопак Коўна, Біржанскага замка, двара Агінскіх у Кронях і Білевічаў у Жамойці. Датуецца ў асн. 1-й пал. 16 ст.

Праразная (ажурная, кратавая) К. мае гаршкападобнае тулава з круглым донцам і квадратным вусцем, якое перакрыта керамічнай пласцінай, арнаментаванай скразнымі прарэзамі. Яны рабіліся нажом і, магчыма, спецыяльнымі штампамі-формачкамі па сырой гліне. Гэта быў пераходны від ад посудападобнай К. да каробчатай. Праразная К. вядома ў ВКЛ у адносна невял. колькасці, але на шырокай тэр., сумарна датуецца 15—16 ст. На бел. тэр. яна знойдзена ў Полацку, Клецку, Койданаве і Слуцку, ва Украіне — у Кіеве і Астрожскім замку, на Падляшшы (Тыкоцін, 1-я пал. 16 ст.). У Полацку фраг-



Да арт. **Кафля**. Каронка. Віцебск. 17 ст. Раскопкі В.Ляўко.



Да арт. **Кафля**. Паліваная каронка. Дуброўна. 17 ст. Раскопкі В.Ляўко.



Паліхромная паясковая **кафля**. Нясвіжскі замак. Раскопкі А.Мяцельскага.



**Кафля** з Мінскага базыльянскага кляштара.



Зялёнапаліваная **кафля** з выявай фантастычнай істоты. Дуброўна. 17 ст. Раскопкі В.Ляўко.

мент пласціны праразной К. знойдзены на Верхнім замку ў комплексе 1-й пал. 15 ст. Цэлы аналагічны экзэмпляр знойдзена ў развале печы 15 ст., раскапанай на тэр. двара Віленскага ун-та. Пласціны клецкай ажурнай К. ўпрыгожаны арнаментам, які выкананы ў тэхніцы трохграннай разьбы і спалучае геаметрычныя і раслінныя матывы, а таксама маюць выявы людзей з паднятымі рукамі. Клецкая К. датуецца апошнімі дзесяцігоддзямі 15—пач. 16 ст. Некаторыя экзэмпляры праразной К. з Ніжняга замка Вільні пакрыты зялёнай палівай.

Каробчатая К. складаецца з пласціны і румпы, з дапамогай якой яна мацавалася ў печы. З тыльнага боку такая К. нагадвае каробку, адсюль і яе назва. Па свайму прызначэнні каробчатая К. падзяляецца на сценную (з якой выкладвалася «люстра» печы), карнізную, пасковую. Каробчатая К. вельмі разнастайная. Яна можа быць мала-, сярэдне- ці вялікапамернай, мець квадратную ці прамавугольную пласціну, якая, у сваю чаргу, можа быць плоскай, увагнутай ці паглыбленай, мець па краях рамку. Пласціна можа быць арнаментаванай або неарнаментаванай. Арнамент выконваўся рэльефам (плоскім, нізкім, высокім) або роспісам. Па адсутнасці ці наяўнасці пакрыцця палівамі (эмалямі) К. падзяляецца на тэракотавую і паліваную (манахромную або, пры выкарыстоўванні паліў розных колераў, паліхромную). Манахромнай і паліхромнай была таксама распісная кафля. Рамка, якая абрамляла пласціну, магла быць простай, падвоенай, складанапрафіляванай, вузкай ці шырокай. Румпа рабілася круглай ці прамавугольнай (квадратнай) са скругленымі вугламі, мела розную вышыню, просты ці прафіляваны край.

Спачатку выраблялася толькі сценная каробчатая кафля. Вядома некалькі яе тыпаў: тэракотавая бязрамачная К. з прамавугольнай пласцінай, арнаментаванай у тэхніцы барэльефа, радзей — гарэльефа (у Беларусі знойдзена пры раскопках Верхняга замка ў Полацку і ў Копысі, датуецца адпаведна сярэдзінай—2-й пал. 15 ст. і 15—пач. 16 ст., вял. калекцыя паходзіць з Віленскага Ніжняга замка), вялікапамерная прамавугольная К., вонкавая пласціна якой дугападобна ўвагнута (знойдзена ў Гарадку Маладзечанскага р-на, Друі, Мядзельскім замку, Клецку, датуецца 1-й пал. 16 ст.), К. з моцна паглыбленай квадратнай ці прамавугольнай пласцінай, аточанай рамкай шырынёй 0,6—1 см, ад якой пласціна рэзка паглыбляецца на 1,2—2,5 см, утвараючы па краях своеасаблівыя «адхоны» шырынёй 1,5—2 см (такая К. з разнастайнымі выявамі знойдзена ў Луцку, дзе датуецца 15 ст., у Клецку, сядзібе Лошыца Сухая, Заслаўскім, Гарадоцкім, Мядзельскім, Мірскім і Лідскім замках, Гародні, Менску, Мазыры, Крычаве, датуецца 16—пач. 17 ст.), К. з плоскай пласцінай, арнаментаванай пераважна плоскім рэльефам (шырока распаўсюджана ў Беларусі і Літве ў 16—18 ст.). Матывы і сюжэты арнаменту, якімі ўпрыгожвалася К. апошняга тыпу, вельмі разнастайныя. Сярод іх геаметрычныя і раслінныя матывы, выявы кветак, букета ў вазе, жывёл, рэліг. выявы, гербы. З 17 ст. распаўсюджваецца новы тып арнаменту — дывановы, у якім дэкор асобнага экзэмпляра К. быў не завершанай кампазіцыяй, а толькі часткай малюнка, якая зліваласяў непадзельнае цэлае з суседнімі. У арнаментыцы дывановай К. выкарыстоўваюцца раслінныя і геаметрычныя



Зялёнапаліваная паясковая **кафля**. Дуброўна. 17 ст. Раскопкі В.Ляўко.

матывы. Яна выраблялася і ў 18 ст. Да асобнага тыпу адносіцца неарнаментаваная тэракотавая і зялёнапаліваная каробчатая К. 18 ст., бязрамачная або акаймаваная вузкай і нізкай, часам падвоенай рамкай. У 18 ст. распаўсюджваецца К. з распісным (маляваным) арнаментам. Яе вонкавая пласціна квадратная або прамавугольная, малюнак выконваўся вогнетрывалымі фарбамі па белай паліве (эмалі). Прысутнічаюць выявы антычных ваз або урн, галандскіх домікаў, бытавыя сцэны, міфалагічныя істоты, пейзажы, некаторыя пласціны цалкам пакрываліся выявамі кветак. У сярэдзіне—2-й пал. 18 ст. выраблялася паліхромная К. з дывановым арнаментам.

Карнізная К. ў печах простай канструкцыі разам з каронкамі аздабляла верх, у печах са складанай архітэктонікай служыла таксама для сувязі паміж ярусамі, магла размяшчацца ў аснаванні печы як базавая. Канструкцыйна яна складалася з прафіляванай пласціны і румпы. Рамка абмяжоўвала толькі верх і ніз пласціны, але на асобных вырабах яна ёсць і па баках. Найб. ранняя карнізная К. з Ніжняга замка Вільні датуецца 2-й пал. 15 ст., а з тэр. Беларусі — 1-й пал.—сярэдзінай 16 ст. (Гарадоцкі і Заслаўскі замкі). У 2-й пал.—канцы 16 ст. з'явіліся новыя варыянты прафілёўкі пласціны: з выгнутай ніжняй і плоскай верхняй часткамі, з увагнутай дугападобнай пласцінай, якая магла падзяляцца рэльефным паяском на 2 часткі. У 17 ст. колькасць варыянтаў прафілёўкі значна павялічылася. З'явілася К. з мяккапрафіляванай пласцінай, у якой адна частка (верхняя або ніжняя) увагнутая, другая выгнутая; ёсць пласціны 3-частковыя: з плоскай сярэдняй і прафіляванымі вузкімі верхняй і ніжняй часткамі; у некаторых 2-частковых пласцін плоская або прафіляваная частка таксама робіцца вузкай; у сярэдзіне—2-й пал. 17 ст. пачынаюць выраб ляць К. з выпуклай валікападобнай пласцінай. Вельмі рознымі былі таксама памеры і прапорцыі карнізнай кафлі, ёсць пласціны амаль квадратныя, прамавугольныя шырокія і вузкія. На К. з 2-частковай пласцінай арнамент мог быць суцэльным — геральдычным,



міфалагічным (пры гэтым мяжа паміж часткамі не акцэнтавалася рэльефным пояском), але часцей кожная частка пласціны мела асобны дэкор. Арнаментальныя матывы абедзвюх частак маглі быць аднатыпнымі (геаметрычны, раслінны) ці рознымі (геральдычны, геаметрычны, рэліг. ў спалучэнні з раслінным ці лускападобным і г.д.). На некаторых вырабах у арнаменце кожнай часткі маглі спалучацца 2 матывы. З канца 17 ст. частка К. выраблялася без арнаменту і без рамкі. У 18 ст. распаўсюдзілася распісная К., але адначасова для печаў з гладкай паверхняй сцен выраблялі карнізная К. з барэльефным і гарэльефным дэкорам.

Паясковая К. служыць для падзелу яруса печы на асобныя гарызантальныя часткі або для акцэнтавання карніза. У апошнім выпадку яна размяшчаецца непасрэдна пад карнізнай К. Пласціна ў паясковай К. вузкая падоўжаная. Найбольш раннія экзэмпляры паясковай К. датуюцца сярэдзінай 16 ст. (Мядзельскі замак) і канцом 16 ст. (палац Стафана Баторыя ў Старым замку ў Гародні). Найбольшае распаўсюджанне яна мела ў канцы 16—пач. 18 ст. Памеры і прапорцыі пласціны ўплывалі на характар дэкору. Дамінавалі розныя варыянты расліннага арнаменту: вінаградныя гронка і лаза, розныя кветкі, парасткі, лісце; радзей сустракаецца К. з матывамі «кованага металу», нескладаным геаметрычным, рэліг. (выявы херувімаў) ці зааморфным (марскія конікі, львы і фантастычныя жывёлы) арнаментам, выявамі гербаў. Паясковая К. з сюжэтным арнаментам сустракаецца вельмі рэдка і толькі ў замках. Паясковай К. былі ўласцівы тыя ж эвалюцыйныя змены, што і карнізнай: з сярэдзіны 17 ст. на некаторых экзэмплярах раслінны арнамент будаваўся па прынцыпе гірлянды; з канца 17 ст. выраблялася бязрамачная і неарнаментаваная К.; з 18 ст. распаўсюджваліся распісныя вырабы.

Медальёны, ці пано, аздаблялі цэнтр. частку паверхні печы. На тэр. Беларусі знойдзены яны толькі ў Заслаўскім і Мірскім замках. Магчыма, у якасці пано выкарыстоўвалася і магілёўская вялікапамерная К. 2-й пал. 17 ст. з сюжэтнымі і геральдычнымі выявамі.

Перамычкі служылі, верагодна, для прыкрывання шырокіх швоў паміж гарызантальнымі радамі К. ў печы. Складаліся яны з вузкай выпуклай або прафіляванай прамавугольнай пласціны і плоскага мацавання трохвугольнай, пяцівугольнай або паўавальнай формы. Пласціны арнаментаваны раслінным і геаметрычным дэкорам. Знойдзены яны ў невял. колькасці, датуюцца 17 ст.



Да арт. **Кафля**. Паліхромныя каронкі. 17—пач. 18 ст. Шклоў. Раскопкі В.Ляўко.

Вуглавая К. забяспечвала бясшоўную стыкоўку паміж гранямі прамавугольных або квадратных у плане печаў. Выраблялася розная вуглавыя К. — сценныя, карнізныя, перамычкі. Яна пачала выкарыстоўвацца ў печах на тэр. Беларусі ў сярэдзіне 16 ст. Шырыня бакавой пласціны вуглавой К. рабілася ўдвая вужэйшай за фасадную. Яна магла мець асобны дэкор, але ў шматлікіх печах у якасці бакавой выкарыстоўвалася палова фасаднай пласціны. Спец. вуглавая карнізная К. з'явілася ў Беларусі толькі ў 1-й пал. 17 ст. (Куцеінскі Богаяўленскі манастыр). Верагодна, з гэтага ж часу вырабляліся і вуглавыя перамычкі.

Калонкі, ці балясіны, якія выкарыстоўваліся ў печах з «люстэркам» (паглыбленай часткай паверхні), былі апорай фрыза або ўпрыгожвалі верхні ярус печы ніжэй карніза, у Беларусі не знойдзены. Аднак у калекцыях з Заслаўскага і Лоскага замкаў ёсць фрагменты К. з рэльефнай імітацыяй калонкі, а на экзэмплярах з вузкай паглыбленай пласцінай з Глускага замка і Гальшан — рэльефная выява балясіны.

Каронкі і навершы аздаблялі верх печы і размяшчаліся над карнізам. Мацаваліся яны пры дапамозе плоскай пласціны. Каронкі ўваходзілі ўжо ў кампазіцыю печаў з праразной кафлі. Па абрысах яны нагадвалі зубчасты верх вежы або абарончай сцяны, адсюль і другая іх назва — «гарадкі». Каронкі з Ніжняга замка Вільні канца 15—пач. 16 ст. маюць выяву жаночай фігуры ў стральчатай арцы. У 1-й пал.—сярэдзіне 16 ст. пачалі выраблядца каронкі з выявамі размешчаных у рад лісткоў ці крынаў (лілеяў), апошнія выкарыстоўваліся ў канцы 16—17 ст. ў печах з геральдычнай К. Арнамент каронак перадаваўся рэльефам і прарэзамі, дамінуюць раслінныя і геаметрычныя матывы, сюжэтныя выявы ёсць на каронцы з Гародні. У 17—18 ст. частка каронак аздаблялася выключна рэльефам. Навершы размяшчаліся паміж каронкамі на вуглах печы і па цэнтры яе гал. фасада. Тыя, што ўстанаўліваліся па цэнтры фасада, вызначаліся большай (адносна каронак) вышынёй. Вырабы канца 16—17 ст. сваёй складанай канфігурацыяй нагадвалі франтоны барочных пабудоў. Арнаментаваліся яны раслінным дэкорам, выявай вазы з букетам, радзей — маскаронам. Для вуглоў прызначаліся невял. навершы з барэльефнымі маскаронамі і цыбулепадобныя купалкі. У 16 ст. частка каронак і навершаў вырабляліся непасрэдна з пласцін сценнай К. Вырэзваліся яны па сырой пласціне, прычым пры вырабе каронак на цэласнасць арнаменту пласціны не звярталі ўвагі. Каронкі і навершы ўваходзілі ў камплекты далёка не ўсіх печаў; часта яны аздабляліся ўверсе толькі карнізнай К.

Пакрыццё купала, ці скляпення, печы ажыццяўлялася спецыяльнай К. з выгнутай пласцінай. Вырабы сярэдзіны 16 ст. з Лідскага замка ўпрыгожаны нескладаным геаметрычным арнаментам, больш позднія арнаментаваліся рэльефнай луской (Крычаў, Заслаўскі, Лідскі, Мірскі замкі і інш.). У Гарадоцкім замку знойдзены фрагменты пакрыцця купала таўшчынёй да 2,2 см, упрыгожаныя сетчатым арнаментам з буйных ромбаў белага і зялёнага колеру (16 ст.). Такое ж пакрыццё (але неарнаментаванае) з тэракоты знойдзена ў развале печы канца 17 ст. ў фальварку Заслаў.



Абрамленні вусця печы ў невял. колькасці знойдзены ў Віцебску, Дзісне, Дуброўне, Менску, Магілёве, Полацку. Абрамленне рабілася суцэльным аркападобным ці складвалася з асобных тэракотавых «цаглінак» Г- ці П-падобнага профілю. Упрыгожвалася яно хвалістым, зігзагападобным, сетчатым арнаментам і адбіткамі круглых ці квадратных штампаў з выявамі кветак, салярных знакаў, геаметрычных фігур. Раннія вырабы датуюцца 15 ст., познія знойдзены разам з К. 17 ст. Тэракотавыя пячныя засланкі знойдзены ў Дзісне і Полацку, датуюцца адпаведна канцом 16—17 і сярэдзінай—2-й пал. 18 ст.

*Літ.*: Р о з е н ф е л ь д Р.Л. Белорусские изразцы // Материалы и исследования по археологии СССР. М., 1969. № 169; Л е в к о О.Н. Витебские изразцы XIV—XVIII вв. Минск, 1981; П а н и ч е в а Л.Г. Хронология белорусских изразцов XIV—XVII вв. // Краткие сообщения Ин-та археологии. М., 1984. [Вып.] 179; К а т а л и н а с К. Вильнюсские пластинчатые изразцы с «кованым» орнаментом // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Я г о ж. Новые находки готических изразцов в Вильнюсе // Памятники культуры: новые открытия: Письменность. Искусство. Археология: ежегодник. 1992. М., 1993; Беларуская кафля. Мінск, 1989; З а я ц Ю.А. Заслаўская кафля. Мінск, 1990; Я г о ж. Кафля і кафляныя печы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4; Т р у с а ў А.А. Беларускае кафлярства. Мінск, 1993; Т р о н е в и ч П.О. Типологічний розвиток луцьких кахлів в XIV—XVIII стст. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 1996. № 8; К л і м а ў М.В. Матэрыялы да рэканструкцыі печаў з посудападобнай кафляй // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мінск, 2003. № 7; З д а н о в і ч Н.І. Кафлярства ў Беларусі: (на матэрыяле калекцыі полацкай кафлі). Мінск, 2005; К у ш н е р е в и ч А.Н. Готические изразцы Великого Княжества Литовского // Памятники культуры: новые открытия: Письменность. Искусство. Археология: ежегодник. 2004. М., 2006; T a u t a v i č i u s A. Vilniaus pilies kokliai. Vilnius, 1969; Vilniaus Žemutinės pilies rūmai. T. 1—5. Vilnius, 1989—2003; Średniowieczne i nowożytne kafle: Regionalizm — podobieństwa — różnice. Białystok, 2007.

***Юрый Заяц, Валерый Паздνякоў.***

**кафлярства**, рамяство па вырабе пячной *кафлі*. Кафля ў канструкцыях печаў пачала выкарыстоўваецца на тэр. Беларусі ў пач. 14 ст. Аднак уласная вытворчасць яе была наладжана крыху пазней. Хоць ранняя гаршкападобная кафля мала чым адрознівалася ад звычайнага посуду, выраб яе мясцовыя майстры асвоілі не адразу. Так, у Полацку каля сярэдзіны 14 ст. ў печы пабудовы, што знаходзілася побач з княжацкім церамам, недахоп кафлі быў дапоўнены імітацыйнымі керамічнымі «балванкамі». Але часцей запрашалі майстра для вырабу кафлі на месцы. Аб замежным паходжанні кафляра, які працаваў для Лідскага замка ў сярэдзіне 14 ст., сведчыць кляймо ў выглядзе літары Z. Распаўсюджванне кафляных печаў і, як вынік, павелічэнне попыту на кафлю прывялі да зараджэння і пашырэння мясцовай вытворчасці. Уключаліся ў яе і ганчары, аб чым сведчыць падабенства некаторых



Да арт. **Кафлярства**. Гліняныя штампы для вырабу кафлі. Клецк. 16 ст.

вырабаў са звычайнымі гаршкамі, аж да наяўнасці рабрыстага плечука, характэрнага для посуду 14—16 ст. Мясцовае К. развівалася пад моцным уплывам традыцый Цэнтр. і Зах. Еўропы. З узнікненнем цэхаў бел. рамеснікі перад экзаменам на званне майстра рабілі «вандроўку» ў суседнія краіны, дзе ўдасканальвалі сваё ўмельства. Замежныя майстры высокай кваліфікацыі запрашаліся для будаўніцтва печаў у парадных пакоях магнацкіх палацаў і замкаў. Пра гэта сведчыць характар арнаменту (выявы людзей у зах. строях, ландскнехтаў, якіх не было ў войску ВКЛ, вобразы «перакуленага свету», колеравая гама паліў на кафлі з Друі, Гарадоцкага і Мядзельскага замкаў, лацінскія літары на румпе кафлі 16 ст. з Клецка). Сувязь з замежжам, асабліва з германскімі і, магчыма, ордэнскімі землямі, прасочваецца і па тэрміналогіі кафляроў: нямецкае паходжанне маюць словы кафля (Kachel), цанінная кафля (ад Zinn волава, што ўваходзіла ў склад палівы), кунштоўная кафля (ад Kunst мастацтва), гзымсавая кафля (варыянт назвы карнізнай кафлі, ад Gesimse). Большасць навацый, якія прыўносілі замежныя майстры, хутка засвойваліся мясцовымі рамеснікамі, якія творча развівалі арнаментальныя сюжэты з улікам уплываў высокай готыкі, рэнесансу, барока і г.д. Напрыклад, ужо ў 1-й палове 16 ст. ў Клецку выраблялася каробчатая кафля, аздаблялася яна нескладаным геаметрычным арнаментам, які нагадвае дэкор керамічнага посуду. Больш складаным па змесце, але даволі прымітыўным па ўзроўні выканання з'яўляецца арнамент тэракотавай кафлі з Мядзельскага замка (сцэна нападу мядзведзя на вершніка). Хутка мастацкая вартасць арнаменту мясцовай К. палепшылася, што было абумоўлена поспехамі бел. разбяроў па дрэве (матрыцы для кафляных форм часта выразаліся з дрэва). Нездарма ў аздабленні царскіх палацаў і манастыроў у Рас. дзяржаве бралі ўдзел кафляры і разьбяры па дрэве з Беларусі. Запазычаныя тыя ці інш. арнаментальныя малюнкі (ваза з букетам, матывы «каванага металу» і г.д.) бел. майстры творча развівалі і ўзбагачалі. Развіццё кафлянай вытворчасці стымулявалася павелічэннем попыту на кафлю з боку сярэдняй і дробнай шляхты, мяшчан. Сляды мясцовай кафлянай вытворчасці ў выглядзе бракаванай прадукцыі знойдзены у многіх гарадах і некаторых мястэчках; у Друі, Клецку, Менску знойдзены фрагменты форм для вонкавых пласцін каробчатай кафлі, а горны для абпальвання кафлі — у Друі і Менску. Паводле пісьмовых крыніц, вытворчасцю кафлі звычайна займаліся ганчары. Так, у 1792 клецкі ганчар Юзаф Крыніцкі вырабіў для адміністрацыі гэтага радзівілаўскага горада 297 гліняных пасудзін, 180 вазонаў і 3 наборы кафляных печаў (ён жа і сабраў печы).

***Юрый Заяц, Валерый Паздνякоў.***

**Каханскі** Адамандус Адам (5.8.1631, Добжынская зямля—17.5.1700), матэматык, механік. У 1652 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1664 ксёндз. Вывучаў

філасофію ў Вільні (1654—55) і Мольсгайме (1656—58), тэалогію ў Майнцы. Праф. матэматыкі ў Майнцы (1657—64), Бамбергу (1665—66), Фларэнцыі (1666—70), Празе (1670—72), Оламаўцы (1672—76), Вроцлаве (1676—80), Варшаве (1680—86), прыдворны місіянер Яна III Сабескага (1686—91), з 1691 каралеўскі матэматык і бібліятэкар. Удзельнічаў ва ўпрыгожванні Вілянаўскага палаца. Працы па матэматыцы, механіцы, статыцы, гадзіннікавай справе (публікаваўся ў лейпцыгскім часопісе «Acta Eruditorum»). Канструяваў механізмы, гадзіннікі. Вёў перапіску з Г.Лейбніцам.

*Літ.*: E l t e r E. Adam Kochański TJ najwybitniejszy przedstawiciel Polski na europejskim terenie naukowym u schyłku XVII w. // Sacrum Poloniae Millenium. Rzym, 1954. T. 1; G r z e b i e ń L. Kochański and the Jesuits // Organon. 1978. T. 14.

**Кацярына** (паміж 1369 і 1374—не раней за 1422), княгіня мекленбургская, жонка кн. Іагана II. Дачка вял. кн. літ. Альгерда і Ульяны Аляксандраўны Цвярской. Выдадзена замуж Ягайлам у 1388. Мяркуецца, што мэтай заключэння шлюбу было забеспячэнне прыхільнасці паморскіх нямецкіх князёў польска-літ. уніі. К. мела некалькіх дзяцей, у т.л. сына кн. Іагана III, дачок Ядвігу (настаяцельніца кляштара ў Рыбеніцы) і Агнешку, выдадзеную замуж за шчэцінскага кн. Атона II. Аўдавела ў 1416.

*Літ.*: W d o w i c z e w s k i Z. Genealogia Jagiełłonów. Warszawa, 1968; T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczow. Poznań; Wrocław, 1999.

**Кацярына** (каля 1410—паміж 1468 і 1475), княгіня літоўская і мазавецкая, жонка літ. кн. Міхала Жыгімонтавіча. Малодшая дачка мазавецкага кн. Земавіта IV і Аляксандры Альгердаўны. Шлюб К. заключаны паміж 1436 і 1439, ён быў бяздзетным. Мяркуецца, што жыла ў асн. у Мазовіі. Аўдавела ў 1451 або 1452. Пасля смерці без прамых нашчадкаў сваіх пляменнікаў (апошняга ў 1462) прыняла іх тытулы, была княгіняй плоцкай, візнаўскай, заўкшэнскай, раўскай, сахачаўскай, гастынскай, белзкай. Хутка адмовілася ад стану пануючага манарха на карысць Конрада III.

*Літ.*: K u c z y ń s k i S.K. Pieczęcie książąt mazowieckich. Wroclaw etc., 1978; T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999; B a l z e r O. Genealogia Piastów. Kraków, 2005.

**Кацярына** Я г е л о н к а (1.11. 1526, г. Кракаў—16.9.1583), княгіня фінляндская, каралева шведская, жонка Яна Вазы. Малодшая дачка караля польскага і вял. кн. літ. Жыгімонта I Старога і Боны Сфорца. У 1528—29 разам з сям'ёй жыла ў ВКЛ. У 1548 прускі



**Кацярына** Ягелонка.

герцаг Альбрэхт прапаноўваў у якасці мужа для К. гальшцінскага герцага Адольфа, пасля прасіў даць К. яму ў жонкі, аднак Ягелоны не пайшлі на заключэнне саюзу з лютэранінам. У 1555—56 шлюбу з К. беспаспяхова дамагаўся Ферантэ Ганзага, граф Гуастала. У 1557 Жыгімонт II Аўгуст забраў К. ў Вільню, дзе яна правяла пры двары 5 гадоў. Восенню 1560 рукі К. прасіў цар Іван IV, аднак Жыгімонт II Аўгуст, апасаючыся прэтэнзій цара на польскі трон, адмовіў яму. З 1550-х г. разглядалася магчымасць выдання К. замуж за шведскага прынца, што павінна было ўмацаваць саюз абедзвюх дзяржаў і садзейнічаць вырашэнню інфлянцкага пытання. У 1561 шведскі кароль Эрык XIV прапанаваў заключыць шлюб паміж сваім братам, кн. фінляндскім Янам і якой-небудзь польскай каралеўнай. Сам Ян зрабіў выбар на карысць К. Тым часам Эрык XIV вырашыў прэтэндаваць на Інфлянты, якія ўжо ўвайшлі ў склад дзяржавы Жыгімонта Аўгуста, таму страціў цікавасць да шлюбу Яна з К. Жыгімонт Аўгуст, аднак, спадзяваўся на саюз з Янам як супрацьвагу Эрыку XIV, а Ян разлічваў на падтрымку Жыгімонта Аўгуста ў барацьбе за незалежнасць свайго княства. У 1562 Ян прыбыў у Вільню, 4 кастр. шлюб быў заключаны. Пасаг К. складаў 32 тыс. талераў (ніколі не былі выплачаны), яна атрымала ад мужа ў якасці забеспячэння замак Гелм, Аландскія астравы, г. Рома. Праз Рыгу князь с жонкай прыбылі ў Фінляндыю, дзе ўладкавалі рэзідэнцыю ў Аба (Турку). У 1563 Ян быў абвінавачаны Эрыкам XIV у дзярж. здрадзе, Аба быў захоплены пасля цяжкай аблогі, Ян і К. арыштаваны і правялі 4 гады ў зняволенні ў замку Грыпсголм, дзе ў іх нарадзіўся сын Жыгімонт (будучы кароль польскі і вял. кн. літ. *Жыгімонт III*). У 1567 Ян і К. былі вызвалены, але Эрык XIV абяцаў выдаць К. ў рукі Івана IV, які не адмовіўся ад плану заключыць з ёй шлюб. У 1568 Ян узначаліў дзярж. пераварот, у выніку якога Эрык XIV быў скінуты, у 1569 каранаваўся як шведскі кароль. Была каранавана таксама К., але не змяніла свайго веравызнання і засталася каталічкай. Пасля смерці Жыгімонта Аўгуста (1572), відаць, па ініцыятыве К., Ян выстаўляў сваю кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай у 1572 і 1573. К. мела спаведнікаў-місіянераў езуітаў Яна Гербста (1572), Станіслава *Варшэвіцкага* (1574), прымала афіцыйнага прадстаўніка Рыма Антонія *Пасевіна* (1578—79, 1579—90), аднак планы Рыма павярнуць Швецыю ў каталіцтва не спраўдзіліся. К. выхавала каталікам свайго сына Жыгімонта, які, як меркавалася, мог стаць каралём не толькі шведскім, але і польскім. Дзякуючы К. ў Швецыі пашыралася рэ-

несансная культура. Пахавана ва Упсале.

*Літ.*: Törne P.O. von. Katarzyna Jagiełłonka // Przegląd Wspołczesny. 1938. T. 65; Wdowiczewski Z. Genealogia Jagiełłonów. Warszawa, 1968.

**Кацярына** Габсбург (15 або 25.9.1533, г. Вена або Інсбрук—28 або 29.2.1572), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, 3-я жонка Жыгімонта II Аўгуста. Дачка імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда I і Ганны Ягелонкі (дачкі чэшскага і венгерскага караля Уладзіслава II), сястра 1-й жонкі Жыгімонта Аўгуста Эльжбеты. У 1549 выдадзена замуж за мантуанскага герцага, манферацкага маркграфа Францыска III Ганзага, у наступным годзе аўдавела. У 1552 Габсбургі прапаноўвалі план шлюбу К. і Жыгімонта Аўгуста, што падтрымаў віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны, каб далучыць Габсбургаў да барацьбы з Маскоўскай дзяржавай. У 1553 Жыгімонт Аўгуст паслаў Радзівіла з місіяй да Фердынанда I і запрасіў думку сената наконт магчымага шлюбу. Той выказаўся станоўча. Рымскі папа Юлій III дазволіў гэты шлюб. Ён быў заключаны ў Вене (асобу караля прадстаўляў Радзівіл), потым у Кракаве 30.7.1553, каранацыя К. адбылася 31.7.1553. У 1554—63 (з перапынкамі) К. жыла з мужам у Вільні. Перапісвалася з прускім герцагам Альбрэхтам, інтарэсы якога бараніла на двары Габсбургаў, імкнулася ўплываць на мужа такім чынам, каб забяспечыць пераход Венгрыі пад панаванне Габсбургаў. К. не мела дзяцей, што садзейнічала пагаршэнню яе адносін з Жыгімонтам Аўгустам. З 1563 жыла асобна ў Радаме, у 1566 з'ехала на радзіму, аднак намаганні Жыгімонта Аўгуста атрымаць афіцыйны развод не далі плёну. Памерла ў Лінцы.



**Кацярына** Габсбург.

**Кацярына** Апалінская (5.11. 1680, г. Познань—19.3.1747), каралева польская, вялікая княгіня літоўская, жонка Станіслава Ляшчынскага. Дачка магната Яна Караля Апалінскага, кашталяна пазнанскага. Выйшла замуж за Ляшчынскага (на той час падчашага кароннага) у 1698, прынесла яму ў пасаг каля 60 гарадоў і 150 вёсак. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у 1704 у Варшаве, калі пры падтрымцы шведскіх войск Станіслаў Ляшчынскі быў выбраны на трон Рэчы Паспалітай, К. стала каралевай і вял. княгіняй. У 1704 пад пагрозай наступлення саксонскіх войск Аўгуста II разам з мужам К. выехала ў Прускае герцагства. 4.10. 1705 каранавана з мужам у Варшаве. З-за ваенных дзеянняў часта пераязджала разам з мужам, гал. чынам па Вял. Польшчы і Памор'і. Пасля адрачэння Аўгуста II ад кароны Рэчы Паспалітай (1706) Ляшчынскі і К. прызнаны еўрапейскімі дварамі паўнапраўнымі манархамі, аднак унутраны супраціў Ляшчынскаму працягваўся, таму ў 1708 К. выехала ў шведскі Шчэцін. Пасля Палтаўскай бітвы 1709 і вяртання на трон Рэчы Паспалітай Аўгуста II Станіслаў Ляшчынскі быў вымушаны эмігрыраваць, але не адрокся ад трона. Атрымаў у падарунак ад шведскага караля Карла XII княства Цвайбрукен над Рэйнам, пасля з сям'ёй пераехаў у Францыю. Тут каралеўская пара выдала дачку Марыю (нарадзілася ў 1703) замуж за французскага караля Людовіка XV. У час бескаралеўя 1733, калі Станіслаў Ляшчынскі зноў абраны каралём польскім і вял. кн. літ., К. засталася ў Францыі. У 1736 Ляшчынскі афіцыйна адрокся ад трона Рэчы Паспалітай, ад зяця атрымаў Латарынгскае княства, дзе жыла і К.



**Кацярына** Апалінская. Да 1709.

**Квітніцкая** (Квитницкая) Алена Дзмітрыеўна (8.10.1919, Масква—5.7. 1981), расійскі гісторык архітэктуры. Канд. тэхнічных навук (1947). Скончыла Маскоўскі архітэктурны ін-т (1941). Працавала ў Цэнтр. НДІ прамысловых збудаванняў (1941—47), Цэнтр. НДІ тэорыі і гісторыі архітэктуры (1948—81). Аўтар прац па гісторыі архітэктуры Беларусі, у якіх разглядала пытанні планіроўкі і забудовы населеных месцаў, крэпасцей. Упершыню даследавала шмат помнікаў жылой, грамадскай, культавай архітэктуры. Чл. рэдкалегіі навук. зборнікаў «Архітэктурная спадчына» («Архитектурное наследство») і «Праблемы гісторыі архітэктуры народаў СССР» («Проблемы истории архитектуры народов СССР»), адзін з аўтараў энцыклапедыі «Мастацтва краін і народаў свету» («Искусство стран и народов мира», т. 1, М., 1962), «Усеагульнай гісторыі архітэктуры» («Всеобщая история архитектуры», т. 6, М., 1968).

*Тв.*: Строительство Тызенгауза в Гродно // Архитектурное наследство. М., 1958. Вып. 11; Строительство Тызенгауза в Поставах // Там жа. М., 1961. Вып. 13; Планировка



Гродно в XVI—XVIII вв. // Там жа. 1964. Вып. 17; Коллегиумы Белоруссии XVII в. // Там жа. 1969. Вып. 18; Белорусские коллегиумы XVIII в. // Там жа. 1972. Вып. 19; Стары Слонім // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 4; Кляштар у Картузскай Бярозе // Там жа. 1973. № 4; Приемы формирования торгово-административного центра Витебска в XVIII в. // Архитектурное наследство. М., 1974. Вып. 22; Могилевский Спасский монастырь // Там жа. 1976. Вып. 24; Приходский костел в Гродно // Проблемы истории архитектуры народов СССР. М., 1977. № 4; Монастыри Бреста XVII—XVIII вв. // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27; Каплицы Белоруссии // Там жа. 1980. Вып. 28; Брамы Белоруссии // Там жа. 1981. Вып. 29; Центры городов Белоруссии в XVI—первой половине XIX в. // Там жа. 1983. Вып. 31; Монастыри XVIII в. с безбашенными храмами в Белоруссии // Там жа. 1985. Вып. 33.

**КВІТЫ** падскарбіеўскія, справаздачы падскарбіяў ВКЛ па выніках іх дзейнасці ад часу ўхвалы на сойме падаткаў і да наступнага сойма. Разрахункі падскарбіяў капіраваліся ў кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ. Арыгіналы некаторых справаздач (мелі назву «лічба») захоўваліся ў прыватных архівах і былі апублікаваны ў 19 ст. Структура К. стандартная: у пачатковым пратаколе пасля інскрыпцыі ідзе пазначэнне дня, калі прадскарбі рабіў справаздачу, далей пералічваюцца ўсе паступленні і асобна выдаткі. К. былі 2 відаў: па выніках працы дзярж. скарбу і велікакняжацкага. Спецыфіка квітоў «з лічбы сталовай» у тым, што ў іх пералічваюцца імёны дэпутатаў, якіх кароль сам прызначаў для «слухання» справаздачы. Абавязковай часткай К. з'яўляецца дыспазіцыя, у якой кароль вызваляў падскарбія, скарбнага і інш. асоб, а таксама іх сем'і ад прэтэнзій з боку дзяржавы. Упісанне ў метрыку К. меў на мэце захаваць вынікі дзейнасці падскарбія і быў гарантыяй ад магчымых прэтэнзій да яго ў будучым. Вывучэннем К. займаліся літ. гісторык А.Ціла і польская даследчыца Г.Філіпчак-Коцур.

*Літ.*: Rachunki podskarbstwa litewskiego 1648—1652. Wilno, 1855; Tyla A. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes iždas 1600—1632 m.// Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. 1986. T. 1(94); Галубовіч В. Матэрыялы па гісторыі скарба ВКЛ у кнігах запісаў за перыяд праўлення Уладзіслава IV Вазы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2002. № 17; Filipczak-Kocur A. Skarbowość Rzeczypospolitej 1587—1648. Projekty—ustawy—realizacja. Warszawa, 2006. ***Віталь Галубовіч.***

**КЕЛПШ** Міхал (22.9.1718, Беларусь — 5.6.1765), дзеяч каталіцкай царквы, прапаведнік, паэт, перакладчык. У 1737 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1748 ксёндз. Выкладаў у Вільні (1740—44), Крожах (1744—45). Вывучаў тэалогію ў Вільні (1745—47) і «Калегіум Раманум» у Рыме (1747—49). У Рыме прайшоў 3-ю прабацыю (1749—50). Праф. рыторыкі і гісторыі ў Варшаве (1750—52), прапаведнік у езуіцкім касцёле на Старым Месце (1752—53), праф. казуістычнай тэалогіі ў семінарыі ордэна і прапаведнік у калегіяцкім касцёле св. Іаана (1753—55), пракуратар Мазавецкай правінцыі ордэна езуітаў (1756—60, 1763—65), рэктар Варшаўскага калегіума (1760—63). Лічыўся адным з найлепшых прапаведнікаў свайго часу. Аўтар паэтычных твораў і прамоў: «Odgłos sławy przy weselnym akcie ... Jerzego Augusta Wandalina Mniszcha i ... Amelii ... Brühlówny Ocieskiej ... o nieba się odbijający, poetyckim aplauzem od Kolegium Warszawskiego Societatis Jesu opisany, roku 1750» (Варшава, 1750), «Radość obojga narodów Korony Polskiej przy zawołaniu do Polski Ksawiera i Karola królewiczów, książąt saskich, wierszem ofiarowana» (Варшава, 1752), «Serenissimi Poloniae, Magni Lithuaniac, Augusti Saxoniae principes Xaverius, Carolus, ut summa totius reipublicae gratulatione hospites excepti, sic a Collegio Varsaviensi Soc. Jesu Salutati» (Варшава, 1752), «Kazanie na Niepokalane Poczęcie Najświętszej Panny Marii, miane dnia 8 grudnia 1756, w kościele WW. Kanoniczek warszawskich» (Варшава, 1756), «Mowa ... przy oddawaniu pouinszowania Xstwa Kurlandzkiego i Semigalskiego Najjaśn. Królewiczowi Jmci Karolowi od całego zakonu S. J. Prowincji Litewskiej, dnia 11 stycznia 1759 w Warszawie miana» (выдадзена ў зборніку «Mowy wyborne», Люблін, 1759). Пераклаў з лацінскай на польск. мову вершаваную трагедыю К.Малаперці «Седецый» («Sedecjasz», Варшава, 1752).

**КЕЛЬМАЎСКІ ПАЛАЦ**, сядзіба Гружэўскіх у *Кельмах*. Пабудаваны ў канцы 16—пач. 17 ст. Перабудаваны ў 1780, пасля чаго набыў выгляд познабарочнага, блізкага да квадрата будынка. Таўшчыня сцен каля 0,75 м, узведзены з цэглы і каменю. Быў 2-павярховым, на высокіх сутарэннях. Гал. фасад 11-восевы, у цэнтры 3-восевы рызаліт, завершаны высокім барочным франтонам. Да гал. дзвярэй вялі мураваныя прыступкі. Пакояў было адносна мала, але яны вызначаліся велічынёй. У цэнтры знаходзіліся сенцы, з якіх направа вёў уваход у невял. пакой, а пасля — у кабінет і вуглавы скарбчык. Сярэдзіну правага боку займала вял. спальня. У левы бок з сенцаў можна было трапіць на лесвічную клетку, потым — у вял. сталовую. З сенцаў прама вёў праход у самы вял. пакой — квадратны салон. З правага боку да яго далучалася спальня, з левага — б-ка (пры спальні быў невял. алькеж, а пры б-цы — буфет). На 2-м паверсе знаходзіліся 5 пакояў для гасцей. З дваровага фасада была ўладкавана тэраса. Будынак быў накрыты вельмі высокім ламаным, трохі выгнутым дахам. Знешне будынак быў амаль



Кельмаўскі палац.



не дэкарыраваны, упрыгожанні інтэр'-ераў да 20 ст. не захаваліся. У палацы зберагаліся багатыя нумізматычныя і кніжныя зборы, родавыя партрэты Гружэўскіх. Каля палаца быў пабудаваны невял. квадратны ў плане будынак, які ў 1-м паверху меў праезд-браму, на 2-м — бібліятэчную залу; накрыты 4-схільным дахам. Будынак аздоблены гзымсамі, складанымі абрамленнямі вокнаў. Каля будынкаў быў разбіты вял. парк. Палац у 1892 перабудаваны і пашыраны, у пач. 21 ст. рэстаўраваны, у ім размешчаны краязнаўчы музей.

*Літ.*: A f t a n a z y R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1992. T. 3. S. 234—237; Lietuvos architekturos istorija. Vilnius, 1994. T. 2. P. 176—177.

**Кельме** (Kelmė), горад у Літоўскай Рэспубліцы, гл. *Кельмы.*

**Кельмы** (літ. К е л ь м е, Kelmė, цяпер горад, цэнтр Кельмаўскага р-на, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойці, на р. Кражантэ. У старой навук. л-ры сцвярджалася, што К. ўпершыню ўпамінаюцца ў хроніцы Пятра з Дусбурга (у форме Kimmel), аднак той замак стаяў на р. Нёман і цяпер не атаясамліваецца з К. У 15 ст. ў К. заснаваны касцёл (называюцца даты 1416 або 1484). У канцы 15 ст. вял. кн. літ. Аляксандр падараваў К. Яну Кантоўтавічу, ад якога яны перайшлі да яго ўдавы Ядвігі. Яна выйшла замуж за Станіслава Барташэвіча, потым К. перайшлі іх дачцэ Ганне, якая выйшла замуж за віленскага ваяводу Яна Глябовіча і прынесла яму ў пасаг К. Ганна Глябовіч, дачка Яна Глябовіча і жонка Івана Саламярэцкага, перадала К. ў спадчыну свайму сыну Багдану Саламярэцкаму, а той у 1591 прадаў іх Яну Паўлавічу Гружэўскаму, выхадцу з Мазовіі, службоўцу Мікалая Радзівіла Чорнага. Пасля да 1939 К. належалі Гружэўскім. Я.П.Гружэўскі перарабіў у К. драўляны каталіцкі касцёл пад кальвінскі збор (1596). У 1606 жамойцкі капітул пачаў суд. працэс, дамагаючыся вяртання касцёла (атрымалі яго ў 1609). Пасля смерці Я.П.Гружэцкага (1609) яго ўдава Соф'я ў 1610 збудавала новы збор, але ў 1614 іх сын Ежы быў вымушаны разабраць яго. У 1615 Соф'я і Ежы Гружэцкія заснавалі новы збор са школай пры ім. Удава Ежы, Марыяна Гружэўская, у 1660-х г. узвяла мураваны будынак збора (гл. *Кельмаўскі кальвінскі збор*). Гружэўскія пабудавалі *Кельмаўскі палац*, разбілі вял. парк. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: G r u ż e w s k i B. Kościół Ewangelicko-Reformowany w Kielmach: Rys historyczny na dokumentach urzędowych. Warszawa, 1912.

**Кена** (каля 1351—27.4.1367), княгіня слупская, жонка князя Казіміра Слупскага. Дачка вял. кн. літ. Альгерда (але польскі гісторык 14 ст. Ян з Чарнкава паведамляў, што была дачкой вял. кн. літ. Кейстута). У дакуменце 1360 названа Іаанай, таму некаторыя гісторыкі лічаць, што К. — яе літ. імя (аднак гэта скарочаны варыянт германскага імя Кунегунда). Мяркуецца, што дамова пра шлюб была заключана ў 1358 падчас спаткання польскага караля Казіміра III Вялікага (дзед Казіміра Слупскага) з літ. князямі Альгердам і Кейстутам, фактычна шлюб адбыўся прыкладна ў 1366. К. з мужам жыла пры двары Казіміра III, дзе хутка і памерла.

*Літ.*: T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Кернер** Ян (23.6.1728, Прусія — пасля 1773), скульптар. У 1749 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Працаваў у Вільні ў касцёле св. Казіміра пры пабудове гал. алтара (1751—53), кіраўнік майстэрні ў Коўне (1754—64), дзе выканаў некалькі алтароў, амбонаў, музычныя хоры. Загадваў езуіцкім фальваркам Лукішкі (1767—69), гаспадаркай у Коўне (1769—73). Далейшы лёс невядомы.

**Кернус**, міфічны літоўскі князь. У легендзе бел.-літ. летапісаў пра першых літ. князёў названы сынам жамойцкага ўладара Кунаса. З павелічэннем насельніцтва ў Жамойці Кунас перайшоў р. Святая і збудаваў горад, які ў гонар сына назваў Кернаў. Пасля смерці Кунаса К. атрымаў у спадчыну Завілейскую зямлю да латгальскай граніцы і Браслаў з ваколіцамі да р. Дзвіна. Выкладаецца легенда, што падданыя К. за Віліяй ігралі на дубовых трубах, таму па-лацінску К. празваў тых людзей Літустуба, па-простаму Літва (ад лацінскіх слоў litus бераг і tuba труба). Княжыў да старасці, не меў сыноў, адзіную дачку Паяту выдаў замуж за Гіруса з роду Кітаўрасаў, які пасля стаў княжыць у Літве.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Керсніцкі** Атаназы Людвік (15.7.1678, мяст. Гальшаны Ашмянскага ваяв.—13.1.1733), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. У 1694 уступіў у Вільні ў ордэн *езуітаў*, з 1705 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Вільні (1706—07), Варшаве (1707—08), каралеўскі прапаведнік і бібліятэкар Варшаўскага калегіума (1709—21), рэктар Слуцкага калегіума (1722—25), для б-кі каторага пабудаваў спец. мураваны будынак, праф. школы ў Гародні (1727—28), суперыёр у Дарагічыне (1728—32), дзе будаваў новы калегіум. Выдаў пераклад кнігі Т.Арэнта «Firmament prawdy» (Варшава, 1738). Аўтар шматлікіх акалічнасных казанняў, у т.л. на каранацыі абразоў у Чэнстахове і Кодані. Выдаў збор казанняў (т. 1—2, ..., ...). Паводле некаторых звестак, з'яўляецца аўтарам твораў, што прыпісаны Яну Фрыдэрыку Сапезе: «Monumenta Antiquitatum Marianarum» (Варшава, 1721) і «Adnotationes historicae de origine ... Ordinis Equitum Aquilae Albae» (Варшава, 1730). Шмат твораў К. засталося ў рукапісах.

**Керсноўскі** (Kiersnowski) Рышард (4.11.1925, г. Вільня—7.7.2006), польскі нумізмат, гісторык. Д-р габілітаваны (1961), праф. (1961). Чл. Варшаўскага навук. таварыства (1982), Польскай Акадэміі Ведаў (2001). Вучыўся ў Гімназіі Жыгімонта Аўгуста ў Вільні. У час 2-й сусв. вайны ваяваў у складзе Арміі Краёвай. У 1945—48 вучыўся ў Кракаўскім ун-це. У 1949—53 працаваў у Варшаве ў Цэнтры вывучэння пачаткаў Польскай дзяржавы, у 1954—96 у Ін-це гісторыі Польскай АН, дзе з 1961 кіраўнік Лабараторыі гісторыі сярэдневяковай Польшчы. Адзін з заснавальнікаў і рэдактар часопіса «Wiadomości Numizmatyczne» (1958— 82). Старшыня Польскага археал.-нумізматычнага таварыства (1970—81), віцэ-прэзідэнт,

ганаровы чл. Міжнар. нумізматычнай камісіі (1973—79). Даследаваў грашовы абарот у сярэдневяковай Польшчы, ВКЛ, Рэчы Паспалітай.

*Тв.*: Pieniądz kruszcowy w Polsce wczesnośredniowiecznej. Warszawa, 1960; Początki pieniądza polskiego. Warszawa, 1962; Wstęp do numizmatyki polskiej wieków średnich. Warszawa, 1964; Wielka reforma monetarna XIII—XIV w. Cz. 1. Warszawa, 1969; Pradzieje grosza. Warszawa, 1975; Życie codzienne na Śląsku w wiekach średnich. Warszawa, 1977; Moneta — świadek historii. Warszawa, 1980 (2 wyd. 2006); Najdawniejsze monety litewskie // Wiadomości Numizmatyczne. 1984. № 3—4; Moneta w kulturze wieków średnich. Warszawa, 1988; Niedźwiedzie i ludzie w dawnych i nowszych czasach: fakty i mity. Warszawa, 1990; Tam i wtedy: w Podweryszkach, w Wilnie i w puszczy, 1939—1945. Warszawa, 1994.

*Літ.*: Nummus et historia: pieniądz Europy średniowiecznej. Warszawa, 1985 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**Кіева абарона 1482**. Вялася войскамі ВКЛ на чале з кіеўскім ваяводам Іванам Хадкевічам супраць крымскіх татараў на чале з ханам Менглі-Гірэем. Вясной 1482 вял. кн. маскоўскі Іван III, запэўніваючы крымскага хана Менглі-Гірэя, што не адпусціць з Маскоўскай дзяржавы Нур-Даўлета (брат Менглі-Гірэя, які прэтэндаваў на ханскі трон), вымагаў ад Менглі-Гірэя напасці на ВКЛ (на Падолле або Кіеўшчыну). Паход крымцаў пачаўся ў канцы лета 1482 і насіў спусташальны характар. 1 вер. яны падступілі да Кіева і падпалілі пасады. Кіеўскі ваявода Іван Хадкевіч загадзя атрымаў звесткі пра напад і падрыхтаваў Кіеўскі замак да абароны, але не здолеў яго ўтрымаць. Шмат кіеўлян трапіла ў палон, у т.л. Хадкевіч з сям'ёй (сам з дачкой там памёр, яго жонку з сынам выкупілі). Татары абрабавалі кіеўскія аколіцы і горад, цэрквы. З дабычы Менглі-Гірэй паслаў у падарунак Івану III залатую чашу і дыскас з Кіеўскага Сафійскага сабора. Для адбудовы Кіева вял. кн. літ. Казімір IV мабілізаваў будаўнікоў з усёй Беларусі (20 тыс. чал.), сюды было паслана 40-тысячнае войска, аднак урэшце ўрад ВКЛ вырашыў стаць на шлях задобрывання крымскага хана, асцерагаючыся сумеснага нападу Крыма і Масквы.

*Літ.*: К л е п а т с к и й П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Литовский период. Одесса, 1912; Г р у ш е в с ь к и й М. Історія України-Руси. Т. 4. Київ, 1993. С. 326—327; Р у с и н а О.В. Україна під татарами і Литвою. Київ, 1998. С. 144—146.

**Кіева-Пячэрская лаўра**, адзін з галоўных манастыроў праваслаўнай царквы Стараж. Русі, ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Заснаваны ў 1051 пры вял. кіеўскім кн. Яраславе Мудрым манахам Антоніем. З 12 ст. манастыр меў статус лаўры — гал. манастыра. Была цэнтрам летапісання, духоўнага жыцця Кіеўскай Русі. У лаўры былі ўладкаваны Бліжнія і Дальнія пячэры, пабудавана некалькі мураваных цэркваў. У 1240 разрабавана мангольскім войскам. У 14 ст. зноў дзейнічала. Калятарамі лаўры былі вял. князі літоў- скія. Была месцам пахавання прадстаўнікоў значных шляхецкіх і княжацкіх родаў ВКЛ. У 1470 кіеўскі кн. Сімеон Алелькавіч аднавіў і ўпрыгожыў гал. царкву лаўры — Успенскую. 14.6.1481 канстанцінопальскі патрыярх Максім выдаў грамату на наданне лаўры права стаўрапігіі — яе падначаленне напрамую патрыярху, абмінаючы кіеўскага мітрапаліта. У 1482 крымскія татары на чале з ханам Менглі-Гірэем разбурылі і разрабавалі лаўру, аднак дзякуючы ахвяраванням яна хутка аднавілася. Лаўра аказвала дапамогу інш. манастырам ВКЛ. Манахі з К.-П.л. па запрашэнні навагародскага ваяводы і маршалка ВКЛ А.І.Хадкевіча (гл. ў арт. *Хадкевічы*) заснавалі ў 1498 манастыр у Гарадку-на-Супраслі (гл. *Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр*). 4.7.1522 вял. князь літ. і кароль польскі Жыгімонт Стары выдаў лаўры важны прывілей, згодна з якім кіеўскаму ваяводзе і інш. велікакняжацкім ураднікам забаронена ўмешвацца ў справы лаўры, яна зводьнена ад стацыі і падвод паслам, якія праязджалі праз Кіеў, архімандрыты лаўры выбіраліся самімі манахамі, а таксама князямі і шляхтай Кіеўскай зямлі з пазнейшым зацвярджэннем вял. князем. Прывілей пацверджаны 15.5.1550 і 29.5.1570 вял. кн. літ. і каралём польскім Жыгімонтам II Аўгустам, 28.7.1578 — Стэфанам Баторыем. Аднак вял. князі часта прызначалі архімандрытаў уласнай воляй, звычайна пад ціскам свецкіх сенатараў. Так, у 1546 Жыгімонт II Аўгуст прызначыў пячэрскім архімандрытам святара Пакроўскай царквы ў Вільні Івана Мацвеевіча, які прыняў манаскае імя Іларыён (гэта адбылося па прапанове віленскага ваяводы Яна Глябовіча). 15.8.1551 Жыгімонт II Аўгуст надаў лаўры ўстаў для ўрэгулявання яе ўнутранага жыцця. У 1555— 56 Успенская царква лаўры зноў адрамантавана і ўпрыгожана. У 1572 (у час бескаралеўя) манахі лаўры абралі архімандрытам Мялеція Храптовіча-Багурын-



Барэльеф у **Кіева-Пячэрскай лаўры** ў памяць яе абнаўлення князем Сямёнам Алелькавічам.



скага, які быў зацверджаны Генрыкам Валезы. Мясц. шляхта абрала архімандрытам манаха Сільвестра Іерусалімскага, з якім Мялецію прыйшлося весці працяглае змаганне, што завяршылася пацвярджэннем Стэфана Баторыя права Мялеція на архімандрыю. У 1592 Мялецій паўторна дамогся для лаўры ў канстанцінопальскага патрыярха права стаўрапігіі. З 1580 Мялецій быў і епіскапам уладзімірска-берасцейскім, памёр у 1593. Новым архімандрытам манахі абралі аканома лаўры Нікіфара Тура, што было зацверджана каралём Жыгімонтам III. Тур уступіў у востры канфлікт з кіеўскім мітрапалітам Міхаілам Рагозам, які жадаў падпарадкаваць лаўру сабе. У ходзе заключэння царк. уніі 4.3.1596 рымскі папа Клімент VIII злучыў пасаду пячэрскага архімандрыта з годнасцю кіеўскага мітрапаліта. У час правядзення Берасцейскага сабору 1596 Рагоза выдаў грамату аб пазбаўленні Тура годнасці архімандрыта за непрыняцце уніі. Гэта было пацверджана каралём і задворным асэсарскім судом, але Тур, не прыняўшы уніі, фактычна застаўся архімандрытам, абапіраючыся на падтрымку правасл. насельніцтва Кіеўшчыны. Рагоза здолеў толькі захапіць некаторыя вёскі лаўры на тэр. ВКЛ (у канцы 16 ст. К.-П.л. належалі гарады Радамысль і Васількаў, каля 50 вёсак ва Украіне і ў Беларусі з мядовай і грашовай данінай, бабровымі гонямі, рыбнымі ловамі, перавозамі, млынамі). Лаўра стала адным з апірышчаў правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай. У 1599 архімандрытам абраны *Елісей* Плецянецкі (вымушана зацверджаны каралём Жыгімонтам III у 1605), які прыклаў шмат намаганняў для абароны маёмасных інтарэсаў лаўры ад прэтэнзій уніятаў і каталікаў. У 1620 дамогся ад канстанцінопальскага патрыярха Феафана пацвярджэння права лаўры на стаўрапігію, увёў тут агульнажыційны статут, заснаваў у лаўры школу і друкарню (1615), запрасіў у лаўру вядомых інтэлектуалаў (Захарыя Капысценскага, Памву Бярынду, Тарасія Земку, Лаўрэнція Зізанія і інш.). Выданні лаўры атрымалі шырокае распаўсюджанне ў Рэчы Паспалітай. На некаторы час даў у лаўры прытулак збегламу манаху Рыгору Атрэпь'еву (Ілжэдзмітрыю I). Архімандрыт (пасля мітрапаліт) *Пётр* Магіла заснаваў тут вучылішча (1631), якое атрымала назву Кіева-Магілянскі калегіум (пазней акадэмія). У час казацкіх войнаў сярэдзіны 17 ст. лаўра шмат пацярпела. Кіеўскі мітрапаліт Сільвестр Косаў і архімандрыт лаўры *Іосіф* Трызна (1647—55) адмоўна ставіліся да далучэння Украіны да Расіі, але пад ціскам казацтва ў 1654 правялі ва Успенскім саборы лаўры акт прысягі кіяўлян на вернасць цару. Згодна з умовамі Андросаўскага перамір'я 1667, Кіеў застаўся пад уладай Расіі. З 1688 лаўра — стаўрапігія маскоўскага патрыярха, у 1786 манастыр афіцыйна атрымаў статус лаўры, якая падначалена кіеўскаму мітрапаліту (ён быў яе архімандрытам). У 17 ст. казацкі гетман Самайловіч умацаваў лаўру земляным валам, а Іван Мазепа — мураванай сцяной. Пётр I збудаваў вакол лаўры сістэму бастыённых умацаванняў. У 1718 лаўра пацярпела ад пажару, згарэлі друкарня, архіў, б-ка і інш. Нягледзячы на тое, што з 2-й пал. 17 ст. К.-П.л. падпарадкоўвалася маскоўскім свецкім і духоўным уладам, у Рэчы Паспалітай яна захоўвала вял. духоўны аўтарытэт.

*Літ.*: Голубев С.Т. Древний помянник Киево-Печерской лавры (конца XV и начала XVI столетия) // Чтения в историческом обществе Нестора летописца. Киев, 1892. Кн. 6; Степовик Д. Історія Києво-Печерської лаври. Київ, 2001; Каштанов С.М. О взаимоотношениях Киево-Печерского монастыря с правительством Ивана IV в 1583 г. // Исторический архив. 2002. № 4; Яго ж. О взаимоотношениях Киево-Печерского монастыря с правительством царя Федора Ивановича в 1585 г. // Там жа. 2005. № 1; Жиленко І.В. Святиня: історія Києво-Печерської лаври XI—XVII століть. Київ, 2005; Кагамлик С.Р. Києво-Печерська Лавра: світ православної духовності і культури (XVII—XVIII ст.). Кив, 2005; Kempa T. Rywalizacja o Lawrę Peczerską w Kijowie między prawosławnymi a unitami w końcu XVI i na początku XVII wieku // Przegląd Wschodni. 2003. T. 8. Z. 4.

**кіраса**, галоўны элемент пласціннага даспеха, які прыкрывае торс ваяра. Сканструявана ў Еўропе ў сярэдзіне 14 ст. Аснову К. складае цэльнакаваны альбо нерухома знітаваны з некалькіх частак нагруднік, дапоўнены такім самым чынам скроеным наспіннікам. Знізу да К. мацавалася металічная спаднічка, набраная з абручападобных пласцін, якія сваімі краямі находзілі адна на адну і прыкрывалі ніжнюю частку жывата і часткова бёдры ваяра. Першапачаткова ўся канструкцыя нітавалася з унутранага боку да моцнай тканіны ці скуры, што дазваляе называць яе крытай К. У далейшым тэкстыльнае альбо скуранае пакрыццё пачало выходзіць з ужытку (найб. інтэнсіўна пасля 1410) і наступіў век «белага», г.зн. паліраванага даспеха. У складзе поўнага даспеха К. выступала ў камплекце з аховай канечнасцей. Пранікненне поўнага пласціннага даспеха на землі ВКЛ адбывалася з 14 ст., прычым адбывалася гэта, як можна меркаваць, дзякуючы пасрэдніцтву найбліжэйшых зах. суседзяў, у першую чаргу Польшчы. У 1343 поўны даспех набыў Васіль, напэўна, князь чартарыйскі. Ажно 20 нагруднікаў К. коштам 12 грошаў за кожны былі высланы ў 1399 Вітаўту (прызначаліся, верагодна, для шараговага рыцарства). Рыцар у поўным даспеху паказаны на пячатцы вял. князя літ. Ягайлы, якая датуецца 1380. Торс ваяра ахоўвае выпуклая К., абцягнутая, па тагачаснай модзе, шчыльна аблягаючым кафтанам-ленднерам, які даходзіць да сцёгнаў. Выпуклыя К., абцягнутыя ленднерам, прадстаўлены на пячатках Карыбута 1386 і Вітаўта 1384—85. Выпуклая К., відавочна, «белая», пра што сведчыць адкрытая падоўжаная спаднічка з гарызантальных абручападобных пласцін, прадстаўлена па пячатцы Вітаўта 1404. Непакрытыя К. паказаны таксама на пячатках Вітаўта 1413 і 1425. Да сярэдзіны 15 ст. ў Італіі была змадэлявана К., нагруднік і наспіннік якой складаліся з 2 палавін — верхняй і ніжняй, змацаваныя паміж сабой пры дапамозе спражак, прычым спічаста выцягнутыя ў цэнтр. частцы краі ніжніх палавін напускаліся на верхнія палавіны. Да ніжніх палавін нагрудніка і наспінніка мацаваліся пярэдняя і задняя часткі спаднічкі, якая ў гэты час робіцца карацейшай і знізу можа дапаўняцца навяснымі шчыткамі-ташкам. У 2-й пал. 15 ст. састаўная К. была важным элементам гатычнага даспеха, сканструя-



ванага ў паўд.-нямецкіх майстэрнях. Даспехі, стылёва набліжаныя да гатычных, фіксуюцца выяўленчымі крыніцамі ВКЛ канца 15—пач. 16 ст. Поўны даспех, які характарызуецца вуглаватасцю і выцягнутасцю форм, наборнай К. і выкарыстаннем салады ў спалучэнні з падбароднікам, прадстаўлены на манетах часоў Аляксандра (1492—1506), а таксама на яго літ. пячатцы. Падобны даспех, але без падбародніка і рукавіц, даволі ўмоўна паказаны на адной з мініяцюр Радзівілаўскага летапісу. Гэтая ж крыніца фіксуе таксама даспех з падбароднікам, састаўной К., наплечнікамі і спаднічкай, аднак без шлема і аховы канечнасцей. Гатычны даспех з характэрнымі «нямецкімі» налакотнікамі, наплечнікамі і накаленнікамі з зазубранымі краямі пласцін адлюстраваны на выяве св. Георгія на адной з фрэсак Віленскага бернардзінскага касцёла 16 ст. Асн. відам пласціннага даспеха ў 2-й пал. 15—16 ст. была зброя поўная капійнічая, якая прызначалася для цяжкаўзброеных рыцараў-капійнікаў і бараніла ваяра з галавы да ног. Менавіта такія даспехі ў колькасці 3 камплектаў забраў у 1476 з Кракава ў Літву нехта Сынец. Поўны даспех, але без шлема, рукавіц і падбародніка, здаў у 1474 у рамонт кракаўскаму платнеру маршалак літ. Івашка Хаткевіч. Другім варыянтам пласціннага даспеха з'яўлялася зброя стрэльчая. Стральцы маглі карыстацца як «зброямі стрэльчымі поўнымі», так і асобнымі засцерагальнымі элементамі, сярод якіх фігуруюць, апроч баявых нагалоўяў, «бляхі пярэднія і задния», «абойчык», «мышкі», «шынкі» і «ташкі». У пач. 16 ст. шырока выкарыстоўвалася рыфленне паверхні даспехаў, што спрыяла павышэнню іх ударастойлівасці без павелічэння вагі (максімілянаўскі даспех). Максімілянаўскія даспехі маюць цяжкаўзброеныя капійнікі літ.-польскага войска на карціне «Бітва пад Оршай». У максімілянаўскім даспеху паказаны вял. канцлер ВКЛ Альбрэхт Гаштольд на ўласным надмагіллі (выканана пасля 1539) у Віленскім кафедральным касцёле. Зброі ў максімілянаўскім стылі, як капійнічыя, так і ландскнехтаўскія, захоўваліся ў радзівілаўскай збраёўні ў Нясвіжы.

Пасля выхаду з ужытку рыфлёнага максімілянаўскага даспеха зноў сталі пераважаць гладкія паверхні, і далейшая эвалюцыя ахоўнага ўзбраення выяўлялася ў асн. у змяненні формы нагрудніка і чаравікаў. У развіцці нагруднікаў да сярэдзіны 16 ст. пазначылася тэндэнцыя ў выцягванні іх цэнтр. часткі ў своеасаблівае завастранне — тапуль (ад італьян. tappo пагорак), якое спрыяла рыкашэтаванню наступальнай зброі праціўніка. Асабліва вял. ўвага надавалася тапулю ў ландскнехтаўскіх паўдаспехах (узоры падобных зброй меліся ў радзівілаўскай збраёўні ў Нясвіжы), у той час як у зброях капійнічых тапулі менш выяўлены. У 2-й пал. 16 ст. тапуль пачаў апускацца ўніз і ў 1570-я г. набыў форму абвіслай гусінай гузкі. Да нашых дзён захавалася некалькі зброй бляхавых сярэдзіны—2-й пал. 16 ст., якія належалі прадстаўнікам роду Радзівілаў. Найб. раннім сярод іх з'яўляецца чэрнены даспех Мікалая Радзівіла Рудога, выраблены ў Італіі у 1545—51, які захоўваецца ў Венскім музеі ўзбраення. Там жа прадстаўлены элементы цяжкага капійнічага даспеха Мікалая Радзівіла Чорнага, выраблёнага нюрнбергскім майстрам Кунцам Лохнерам у 1550—55, і французскі паўдаспех 1573—74, які належаў Мікалаю Крыштофу Радзівілу Сіротку. Паралельна з даспехам да сярэдзіны 16 ст. даволі шырока ў якасці самастойнай аховы тулава выкарыстоўвалася К. ці нават толькі адзін нагруднік. Значнай папулярнасцю карыстаўся гэты від аховы тулава ў ліцвінаў, якія служылі ў 1-й пал. 16 ст. ў польскіх наёмных ротах. У 2-й пал. 16 ст. К. як самастойная ахова тулава страчвае папулярнасць. Паводле попісу войска ВКЛ 1567, толькі адзін са шляхціцаў Браслаўскага пав. ставіў конніка ў К. На працягу 17 — пач. 19 ст. К. ўжывалася ў цяжкай кавалерыі.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008.

***Юрась Бохан.***

**Кірдзей** Уладзіслаў (канец 16 ст.—24.11.1647), дзяржаўны дзеяч. З роду *Кірдзееў*. Кар'еру пачаў як супрацоўнік скарба ВКЛ, пазней быў каралеўскім сакратаром, «спіжарным і карэнным» (1633), метрыкантам, рэгентам меншай канцылярыі ВКЛ (1638—41). У 1634 люстратар каралеўскіх уладанняў. Гарадзенскі падстараста ў 1626—34, пявтовы падстолі ў 1632—39, земскі пісар у 1639—44, маршалак у 1644—47. Належаў да пракаралеўскай групоўкі шляхты ВКЛ. Быў паслом на 9 з 15 соймаў за час праўлення Уладзіслава IV Вазы (1634, 2-і сойм 1637, 1638, 1639, 1640, 1643, 1645, 1646, 1647). У 1639 абраны соймавым маршалкам у выніку кампрамісу паміж канцлерам Альбрыхтам Станіславам *Радзівілам* і гетманам Крыштофам *Радзівілам*. На сойме не прадставіў уласнай паліт. праграмы, не здолеў прадухіліць яго зрыў.

*Літ.*: Wasilewski T. Kierdej Władysław // Polski słownik biograficzny. Wrocław etc., 1966. T. 12/3, z. 54; Trawicka Z. Sejm z roku 1639 // Stutia Historyczne. 1972. Z. 4; Dzięgielewski J.


1


2


3

**Кірасы**: 1 — са збораў Нацыянальнага музея Літвы (1-я пал. 16 ст.); 2 — Мікалая Радзівіла Рудога (2-я пал. 16 ст.); 3 — гусарская з гербам Радзівілаў (18 ст.).

Izba poselska w systemie władzy Rzeczypospolitej w czasach Władysława IV. Warszawa, 1992; Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku: spisy. Kórnik, 1994; Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. Земскія ўраднікі Гарадзенскага павета (другая палова XVI—першая палова XVII стст.) // Герольд-Litherland. 2006. № 17. *Віталь Галубовіч.*

**Кіркела** Юзаф (14.3.1742, Інфлянты—пасля 1807), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. У 1757 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1771 ксёндз. Вывучаў у Вільні філасофію (1762—65) і тэалогію (1769—73). Праф. паэтыкі і рыторыкі ў Навагародку (1765—66), праф. гісторыі ў Вільні. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) працаваў у астранамічнай абсерваторыі ў Вільні, праводзіў вымярэнні паверхні для стварэння карты Вільні і па прапанове Адама Нарушэвіча — планаў ваколіных вёсак. У 1777 пробашч у Біржах, у 1807 пробашч у Феймане, прэлат, натарыус сінода Магілёўскай дыяцэзіі. Аўтар трагедыі «Святы Людовік» (Вільня, 1766).

**Кірыла** Лукарыс (свецкае Канстанцін; 13.11.1572, в-аў Крыт—28.6.1638), дзеяч праваслаўнай царквы. Выхоўваўся сваім дзядзькам, александрыйскім патрыярхам Мялеціем Пігасам. Вучыўся ў Грэчаскім калегіуме ў Венецыі, Падуанскім ун-це. Па запрашэнні кн. Канстанціна Астрожскага ў 1594 прыбыў у Астрог, дзе выкладаў у мясц. школе грэчаскую мову, быў яе рэктарам. У 1595 пераехаў у Вільню, быў выкладчыкам і рэктарам *Віленскай брацкай школы*. У якасці экзарха александрыйскага патрыярха прысутнічаў на Берасцейскім саборы 1596, дзе вёў барацьбу супраць заключэння царк. уніі. У 1597 зноў выкладаў у Астрожскай школе. В 1597 Мялецій Пігас, які часова кіраваў Канстанцінопальскім патрыярхатам, абвясціў епіскапаў, што прынялі унію, нізложанымі, а да пасвячэння новых епіскапаў прызначыў К. намеснікам патрыярха. Улады Рэчы Паспалітай абвясцілі К. па-за законам, і яму ў 1598 прыйшлося ратавацца ўцёкамі. Наведаў Вітэнберг, Жэневу, Галандыю і Англію, дзе блізка азнаёміўся з пратэстанцкімі веравучэннямі. Калі кароль Жыгімонт III Ваза звярнуўся да Мялеція Пігаса з просьбай пасадзейнічаць у вырашэнні праблем, выкліканых заключэннем уніі, той паслаў у 1600 у Рэч Паспалітую К., місія якога, аднак, не мела вынікаў. У 1602 К. абраны патрыярхам александрыйскім, у 1621 — канстанцінопальскім. Пяць разоў пад ціскам турэцкага ўрада пакідаў сваю пасаду. Задушаны па загаду султана Мурада IV. У 1623 зацвердзіў Луцкае правасл. брацтва і даў яму статут, які стаў узорным для інш. брацкіх школ. У 1629 надрукавана ў Жэневе на лацінскай мове (у 1633 на грэчаскай) «Вызнанне веры святейшага ўладыкі Кірылы Канстанцінопальскага», напісанае ў кальвінісцкім духу, за што Канстанцінопальскі сабор у 1638 абвясціў К. анафему, паўтораную на саборах у Ясах (1640), Канстанцінопалі (1642), Іерусаліме (1672).

*Літ.*: Брянцев А. Патриарх Кирилл Лукарис и его заслуги для православной церкви // Странник. 1870. № 1—4; Овсянников Е. Константинопольский патриарх Кирилл Лукарис. Новочеркасск, 1903; Перепечин. Наука св. Кирилла Лукариса // Минские епархиальные ведомости. 1894. № 1—10; Pantschovski I. Patriarch Kyrill. Berlin, 1971.

**Кірыла** Транквіліён-Стаўравецкі (?—1646), дзеяч праваслаўнай, пасля уніяцкай царквы. Невядома, дзе нарадзіўся, вучыўся, прыняў манаства. Выкладаў у Львоўскай брацкай школе, са студз. 1592 — у Віленскай брацкай школе. Карыстаўся павагай сучаснікаў, якія называлі яго «вучоным у навуцы пісьма і мовы элінскай і славянскай». У 1614—15 іераманах і прапаведнік у Кіева-Пячэрскай лаўры. Удзельнічаў у выданні Псалтыра (Львоў, 1615). У 1615—26 вёў вандроўнае жыццё (Львоў, Малдова, Валынь, Замосце). Выдаў кнігі «Зерцало богословия» (Пачаеў, 1618; 2 выд. Унеў, 1692), «Евангелие учительное» (Рахманаў, 1619; 2 выд. Унеў, 1696). 3-е і 4-е выданні выйшлі ў друкарні Максіма Вашчанкі ў Магілёве ў 1697 (у л-ры сустракаюцца звесткі пра сумненныя магілёўскія выданні 1618 і 1619 і віленскае выданне 1651), некалькі прамоў. Кнігі К. артадаксальныя правасл. дзеячы лічылі не свабоднымі ад ерэтычных і каталіцкіх ухілаў. «Евангелле вучыцельнае» ў 1625 асуджана Кіеўскім царк. саборам, у 1627 маскоўскі патрыярх Філарэт загадаў гэтую кнігу канфіскаваць і не дапушчаць яе ў Расію. Каля 1626 К. прыняў унію, прызначаны архімандрытам Ялецкага Успенскага манастыра ў Чарнігаве. Тут заснаваў друкарню, дзе выдаў зборнік сваіх празаічных павучанняў і вершаў «Перло многоценное» (1646). 2-е выданне гэтай кнігі выйшла ў друкарні Максіма Вашчанкі ў Магілёве ў 1699 (у л-ры ўпамінаюцца сумненныя магілёўскія выданні 1690 і 1694).



Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі «Перло многоценное». Магілёў. 1699. Разварот.

*Тв.*: У кн.: Украинская поэзия. Конец XVI—початок XVII ст. Київ, 1978.

*Літ.*: Ісаєвич Д.Я., Мицько І.З. Життя і видавнича діяльність Кирила-Транквилиона Ставровецького // Бібліотекознавство та бібліографія. Київ, 1983; Маслов С.И. Кирилл Транквиллион-Ставровецкий и его литературная деятельность: опыт историко-литератур. моногр. Киев, 1984; Опарина Т.А. «Прения с Евангелием учительным» Кирилла Транквиллиона-Ставровецкого в русской богословской полемике XVII века // Проблемы истории, русской книжности, культуры и общественного сознания. Новосибирск, 2000; Яе ж. «Книги литовской пе-



чати» в «спецхране» Московского Кремля // Славяноведение. 2002. № 2; Булычев А.А. История одной политической кампании XVII века: законодательные акты второй половины 1620-х годов о запрете свободного распространения «литовских» печатных и рукописных книг в России. М., 2004.

**Кірыла III** (?—7.12.1281), дзеяч праваслаўнай царквы. У 1241 упамінаецца як пячатнік (канцлер) галіцка-валынскага кн. Данілы Раманавіча, выконваў яго адказныя даручэнні, меў дачыненне да летапісання. У 1243 упамінаецца як мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі, відаць, быў стаўленікам Данілы Раманавіча. Каля 1250 рукапакладзены ў Нікеі канстанцінопальскім патрыярхам Мануілам. У 1252 удзельнічаў ва ўзвядзенні Аляксандра Яраславіча Неўскага на велікакняжацкі пасад. Заставаўся пры Аляксандры Неўскім да яго смерці ў 1262, удзельнічаў у складанні (ці нават сам напісаў) яго жыція. Прыняў меры па адраджэнні царквы пасля мангольскай навалы, атрымаў ад хана Менгу-Цімура ярлык, згодна з якім царк. маёнткі і духавенства вызваляліся ад падаткаў. Перанёс сваю рэзідэнцыю з разбуранага Кіева ва Уладзімір, аднак фармальна мітрапаліцкая кафедра засталася ў Кіеве. Часта наведваў розныя епархіі. Заснаваў Сарайскую епархію з цэнтрам у ардынскай сталіцы — г. Сарай. У 1274 склікаў ва Уладзіміры сабор, дзе выдаў «Правіла» («Павучанне»). Звярнуўся да дэспата Балгарыі Іакава-Святаслава з просьбай даслаць яму слав. пераклад кормчай кнігі з тлумачэннямі Зонары. На яе аснове была складзена Рус. рэдакцыя кормчай.

*Літ.*: Голубинский Е. История русской церкви. М., 1900. Т. 2, 2-я пол.; Щапов Я.Н. Византийское и южнославянское правовое наследие на Руси в XI—XIII вв. М., 1978; Лихачев Д.С. Галицкая литературная традиция в житии Александра Невского // Лихачев Д.С. Исследования по древнерусской литературе. Ленинград, 1986.

**«Кірылава кніга»**, зборнік царкоўных палемічных твораў, надрукаваны ў Маскве ў 1644 па загаду цара Міхаіла Фёдаравіча. Утрымлівае каля 40 твораў, накіраваных супраць католікаў і пратэстантаў — кальвіністаў і лютэран. Складальнікі — пратапоп Маскоўскага сабора чарнігаўскіх цудатворцаў Міхаіл Рогаў, ключар Маскоўскага Успенскага сабора Іаан Наседка, спраўшчыкі Друкарскага двара Шастак Марцем'янаў і Захарый Афанасьеў Падасенаў. Выданне «К.к.» было выклікана прыездам у Расію дацкага каралевіча Вальдэмара, які сватаўся да царэўны Ірыны Міхайлаўны. Царскі двор пераконваў Вальдэмара прыняць праваслаўе, для гэтага былі перакладзены палемічныя творы правасл. аўтараў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, якія склалі аснову «К.к.». Да гэтага некаторыя з іх у 1620-х г. былі ўключаны ў склад рас. рукапіснага зборніка «*Асветнік літоўскі*», адзін са спісаў якога, магчыма, быў пакладзены ў аснову «К.к.». Назва кнігі — ад першага твора ў яе складзе, «Книга иже во святых отца нашего Кирилла, архиепископа Иерусалимского, на осьмый век» (царк.-слав. пераклад твора Стафана *Зізанія*, выдадзенага ў Вільні ў 1596). Змешчаны таксама царк.-слав. пераклады твора Захарыі Капысценскага «Книга о вере единой, святой, соборной и апостольской церкви» (выдадзены ў Кіеве ў 1619), твораў «Книга об образех» (Вільня, 1596), «Книга о Троице» (Вільня, 1596), «Книжица о шести отделах» Васіля Суражскага (Астрог, 1588), «Книжица о десяти отделах» (Астрог, 1598), пасланні александрыйскага патрыярха Мялеція, кн. К.К.Астрожскага, афонскіх старцаў да праваслаўных Рэчы Паспалітай 1590—98, артыкулы з Рус. хранографа, творы маскоўскіх аўтараў. Пераклад у Расіі палемічных твораў бел. і ўкр. аўтараў быў выкліканы боязззю распаўсюджвання каталіцтва і пратэстантызму ў выніку Смутнага часу і распачатага збліжэння Расіі з краінамі Захаду.

*Літ.*: Лилов А. О так называемой Кирилловой книге. Казань, 1858; Опарина Т.А. Просветитель Литовский — неизвестный памятник идеологической борьбы XVII века // Литературная и классовая борьба эпохи позднего феодализма в России. Новосибирск, 1987.

**Кісялеўскі** Матэвуш (15.9.1738—да 15.5.1802), архітэктар. У 1761 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў у Вільні архітэктуру пад кіраўніцтвам Габрыеля *Лянкевіча*. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) праф. архітэктуры і малявання ў Віленскай акадэміі (1773—74, 1777—81), у Пінску (1774—77). У 1781 склаў праект адбудовы вежы Віленскай ратушы, але ён не быў рэалізаваны. Пазней асеў у Шлосбергу каля Ілукшты ў Курляндыі ў якасці капелана магнатаў Зібергаў.

**Клакоцкі** Геранім (14.9.1664—8.10.1721), дзяржаўны дзеяч, дзеяч каталіцкай царквы. Атрымаў у Парыжы грунтоўныя веды па геаметрыі, астраноміі і архітэктуры. Стараста рэчыцкі. У 1707 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. У 1706 перадаў слуцкім езуітам свае вёскі Багурын, Багурынак, Бокшыцы, Бранчыцы, Румокі, Уса і Ямінск для ператварэння Слуцкай езуіцкай рэзідэнцыі ў калегіум, фундаваў канвікт (т.зв. Семінарыя Клакоцкага). Рэктар Слуцкага калегіума ў 1718—21.

**Клаўс** Ежы (14.4.1641, Прусія—30.3.1701), дзеяч каталіцкай царквы. У 1660 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1670 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Рэшалі (1671—72), місіянер у Караляўцы (1672—73), праф. філасофіі ў Браневе (1674—76), Вільні (1677—80), пазітыўнай, палемічнай, схаластычнай і маральнай тэалогіі ў Браневе (1682—88), тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве (1688—90), Вільні (1690—92), маральнай тэалогіі ў Пашаўшы (1699—1701), прэфект школы ў Нясвіжы (1680—81), рэктар Нясвіжскага калегіума (1693—96), рэгент дыяцэзіяльнай семінарыі ў Браневе (1674—75), Папскай семінарыі ў Вільні (1696—98). Выдаў кнігу па кананічным праве «Immunitas ecclesiastica» (Варшава, 1689). Пакінуў рукапісны курс тэалогіі.

**Клаўс** Ян Тадэвуш (24.6.1678, Полацкае ваяв.—20.6.1737), архітэктар, мастак. У 1702 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вывучаў тэалогію ў Варшаве (1708—12). Праф. рыторыкі і паэтыкі ў Слуцку (1712—13), Пінску (1713—14), прэфект школы ў Жодзішках (1715—16), рэгент семінарыі ў Слуцку (1716—37). Пабудаваў драўляныя будынкі семінарыі (1720) і касцёла Св. Духа са званіцай (1732) у Слуцку. Арганізоўваў тэатральныя пастаноўкі, школьныя ўрачыстасці, для якіх маляваў дэкарацыі.



**клецъ** у д р а ў л я н ы м д о й л і д с т в е, 1) прамавугольны або квадратны ў плане зруб, пераважна пад 2-схільнай страхой. К. выкарыстоўваліся пры будаўніцтве абарончых збудаванняў (вежы, гародні), жылля, гаспадарчых і інш. пабудоў. Храмы з прамавугольнымі зрубамі і 2-схільнымі дахамі (без вярхоў і шатроў) называліся клецевымі. 2) Традыцыйная бел. драўляная гаспадарчая пабудова для хавання збожжа, прадуктаў, адзення і інш. У старажытнасці К. была пабудовай рознага прызначэння, зрубленай чацверыком і пакрытай 2-схільным дахам. У бел. нар. дойлідстве К. — у плане блізкі да квадрата зруб (каля 5 × 6 м) на камянях або штандарах, накрыты 2-схільнай (радзей вальмавай) страхой з драніцы, саломы, чароту. Пры 2-схільным пакрыцці тарцовыя сцены звычайна рубіліся закотам (в. Пузыры Мядзельскага р-на). Часам бярвёны 2 ніжніх вянкоў, выпушчаныя да 1 м вонкі, утваралі перад уваходам адкрыты або крыты ганак. На Палессі да пач. 20 ст. існавалі парныя К., злучаныя павецямі (в. Пухавічы Жыткавіцкага р-на). Унутры К. насцілалася падлога з тонкіх бярвён або плашак (нярэдка абмазаных глінай), столь адсутнічала або была з бярвён у выглядзе скляпення (в. Жупраны Ашмянскага, в. Чудзін Ганцавіцкага р-наў). У некаторых К. быў невысокі верхні паверх пад страхой, з галерэйкай на гал. фасадзе (в. Баравікі Валожынскага р-на), пад падлогай рабілі мураваныя або рубленыя скляпы (в. Ролічы Вілейскага р-на). К., што стаяла асобна, часта называлі *свірнам*. К. называлася таксама прыбудова да хаты, якая выкарыстоўвалася як летняе жыллё. З хатай злучалася сенцамі або мела самастойны ўваход звонку (в. Цвіклічы Гродзенскага р-на).

*Літ.*: Х а р у з и н А. Славянское жилище в Северо-Западном крае. Вильно, 1907; Беларускае народнае жыллё. Мінск, 1973; Я к і м о в і ч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. Мінск, 1978; Т р а ц е в с к и й В.В. История архитектуры народного жилища Белоруссии. Минск, 1989; Л о к о т к о А.И. Белорусское народное зодчество: середина XIX—XX в. Минск, 1991; Я г о ж. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мінск, 1999; С е р г а ч е в С.А. Белорусское народное зодчество. Минск, 1992.

**Кліменка** (Клименко) Піліп Васілевіч (6.11.1887, с. Яраслаўка Казелецкага пав. Чарнігаўскай губ.—8.7. 1955), украінскі гісторык, архівіст. Вучыўся ў Пецярбургскім політэхнічным ін-це (1907—08) і Кіеўскім ун-це св. Уладзіміра (1908—12). Вучань М.В.Доўнар-Запольскага. У 1912—14 працаваў у Кіеўскім цэнтр. архіве стараж. актаў, у 1918 выкладаў у Кіеўскім археал. ін-це, з 1919 — ва Укр. дзярж. ун-це ў Камянцы-Падольскім, у 1921—24 праф. Камянец-Падольскага ін-та нар. асветы, у 1925—30 чл. Навук.-даследчай кафедры гісторыі Украіны пры Усеўкраінскай АН, адначасова ў 1924—33 працаваў у Археагр. камісіі Усеўкраінскай АН і ў 1931—33 — у Археагр. камісіі Цэнтр. архіўнага ўпраўлення УССР, у 1932—33 заг. аддзела феадалізму Усеўкраінскага гіст. музея. У 1938 арыштаваны, абвінавачаны ў «буржуазным нацыяналізме», у 1939—43 знаходзіўся ў зняволенні, да 1946 — на пасяленні. Пакончыў самагубствам. У 1958 рэабілітаваны. Працы па гісторыі цэхаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, крыніцазнаўстве, архівістыцы.

*Тв.*: Западно-русские цехи XVI—XVIII ст. Киев, 1914; Цехі на Україні. Т. 1, вип. 1. Київ, 1929.

*Літ.*: М а т я ш І. Пилип Клименко — учэнь М.В.Довнар-Запольського: (до питання об навуковой школі) // Трэція міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 14—15 вер. 2001 г. Мінск, 2002; Я е ж. Особа в українській архівістиці: біограф. нариси. Київ, 2001; В о л к о т р у б Г. Останні роки життя українського історика Пилипа Клименка: (маловідомі факти з біографії вченого) // Студії з архівної справи та документознавства. Київ, 2006. Т. 14.

**Клімоўскі** Ян (18.5.1698, Полацкае ваяв.— 17.2.1749), разьбяр, механік. У 1723 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Кіраўнік сталярнай майстэрні ў Вільні (1726—31), працаваў пры аздабленні інтэр'ераў Віленскага касцёла св. Іаана. З 1732 працаваў у калегіума пры касцёле св. Рафала, зрабіў там абсталяванне рэфектара, шафы для сакрысціі і архіва, 2 бакавых разных алтары, амвон. Рабіў гадзіннікі і водаправоды.

**клуня**, гаспадарчая пабудова для складвання снапоў, *гумно, пуня*. У бел. пісьменнасці тэрмін вядомы з пач. 16 ст., уяўляе сабой стараж. запазычанне з балцкіх моў (літ. kluonas ток, навес; латыш. kluons гумно, ток), першапачаткова абазначаў ток унутры гумна. Слова трапіла таксама ў рус., укр., польскую мовы.

*Літ.*: Л а у ч ю т е Ю.А. Словарь балтизмов в славянских языках. Ленинград, 1982.

**Клыкуша** Андрэй, майстар разьбярнай і сталярнай справы 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля, дзе разам з інш. майстрамі-беларусамі рабіў крэслы, куфэркі, падносныя сталы і інш. рэчы для царскага дома.

**Кляноўскі** Станіслаў (8.5.1711—5.8.1788), дзеяч каталіцкай царквы. У 1726 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1738 ксёндз. Прыдворны місіянер Радзівілаў у Слуцку (1745—55), прэфект будоўлі і бурсы ў Навагародку (1756—57), рэктар Ковенскага калегіума (1768—72), пракуратар правінцыі ордэна езуітаў (1772—73). З 1780 ва ўсх. Беларусі, місіянер у Расонах (1785—87) і Альбрыхтаве (1787—88). Аўтар пахавальнага казання.

**Кміта** Станіслаў (8.5.1703, Беларусь — 19.2.1761), дзеяч каталіцкай царквы. У 1720 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі і паэтыкі ў Менску (1734—35), місіянер ва Ужынцы (1736—37), праф. філасофіі і матэматыкі ў Нясвіжы (1739—42), маральнай тэалогіі ў Вільні (1743—45), тэалогіі і кананічнага права ў Браневе (1745—48), адначасова рэгент дыяцэзіяльнай семінарыі (1746—48), праф. тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве (1748—49) і Полацку (1749— 51), прэфект школы і праф. кананічнага права ў Полацку (1751—53), праф. кананічнага права і віцэ-канцлер Віленскай акадэміі (1754—58), адначасова рэгент Папскай семінарыі (1756—58), прэфект школы ў Варшаве (1759— 61). Быў прапаведнікам і бібліятэкарам. Аўтар акалічнасных казанняў, у т.л. «Niebo ziemskie, w godnym nieba życiu na ziemi y szczęśliwey śmierci ... M.Bulharyna, chorążego pow. Mozyrskiego...»

(Вільня, 1742). Пакінуў рукапісныя лекцыі па рыторыцы.

**Кміціч** Мікалай (1601, Віцебскае ваяв.—24.2.1632), паэт-лацініст. З дробнай бел. шляхты, дзядзька Самуіла *Кміціча.* У 1617 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1619—21 вывучаў у вучыцельскай семінарыі ў Полацку паэзію пад кіраўніцтвам паэта-лацініста Мацея *Сарбеўскага* і рыторыку пад кіраўніцтвам Валентыя з Кольна. Вывучаў філасофію ў Пултуску (1621—24), выкладаў паэзію ў Полацку і Вільні, вывучаў тэалогію ў Вільні (1628—32). У Вільні ўваходзіў у гуманістычны гурток пад кіраўніцтвам Сарбеўскага. Большасць яго паэтычных твораў засталася ў рукапісах і цяпер невядомы. Самы значны твор — гераічная паэма гекзаметрам пра пакутніцкую смерць полацкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча «Іасафатыда, або Пра забойства Іасафата Кунцэвіча» («Josaphatidos sive de nece Josaphat Kuncewicz», Вільня, 1627; 2 выд. Пачаеў, 1748), выдадзеная пад імем базыльяніна Іасафата Ісаковіча. Аўтар 2 панегірыкаў: «Dithyrambus ad Mathiam Sarbievium» (у гонар Сарбеўскага), «Dithyrambus seu Panegiricus Georgio Tyszkiewicz» (1638, у гонар інгрэсу ў Вільню біскупа-суфрагана Ежы Тышкевіча). Загінуў у час мора. Пакінуў шмат рукапісных твораў, якія не дайшлі да нашага часу. На думку сучаснікаў (А.Каяловіч), талентам быў роўны Сарбеўскаму.

**«Кніга баторыеўская»** («Księga batoriańska. Zbiór dokumentów ku uczczeniu 350-letniej rocznicy zgonu króla Stefana Batorego»), зборнік дакументаў у памяць 350-гадавіны смерці караля польскага і вял. князя літоўскага. Сабраны Р.*Мяніцкім*, выдадзены Віленскім ун-там у 1939. Для гэтага выдання былі сабраны дакументы з дзярж., грамадскіх і прыватных архіваў Вільні, падпісаных уласнаручна Стэфанам Баторыем. Усяго 22 дакументы (12 на старабел., 9 на лацінскай, 1 на польскай мовах), з іх 3 дакументы былі раней надрукаваны; дакументы на старабел. мове надрукаваны лацініцай. Сярод змешчаных дакументаў прывілей Баторыя пра звальненне троцкіх мяшчан ад падводнай павіннасці 1579, распараджэнне пра вяртанне ўсіх зямельных уладанняў полацкаму архіепіскапу 1579, прывілей нашчадкам д-ра Руперта Фінка на дом у Вільні 1579, перадсоймавы універсал для Гарадзенскага пав. 1579, прывілей Яну Глябовічу на валоданне Радашковіцкай дзяржавай 1580, дазвол Крысціне Хадкевіч на выкуп Свіслачы ад Яна Дульскага 1580, прывілей пра забарону паборцам падаткаў браць з троцкіх мяшчан мыта, вышэйшае за тое, што плацяць віленскія мяшчане 1580, прывілей Габрыелю Бекешу на маёнтак Аванты 1581, прывілей Васілю Няміры 12 службаў у Магілёўскай вол. 1581, пацвярджэнне фундацыі Астафія Валовіча на шпіталь Віленскага кальвінскага збора 1582, пацвярджэння прывілея Жыгімонта I пра звальненне падданых пінскага епіскапа ад падводнай павіннасці 1585, прывілей Багдану Агінскаму на Дарсунішскую дзяржаву 1586, прывілей Віленскаму кафедральнаму касцёлу на парафіяльны касцёл у Посвалі з яго зямельнымі ўладаннямі 1586. Пры кожным дакуменце прыведзены звесткі пра месца яго захавання, матэрыял і памеры, ступень захаванасці, наяўнасць пячаткі, пазнейшыя надпісы, месца ранейшага друкавання. Зборнік забяспечаны прадмовай, дзе Мяніцкі выклаў археагр. прынцыпы выдання, паказальнікам асоб і мясцовасцей. Змешчаны ілюстрацыйны матэрыял: партрэты Баторыя 16—20 ст., карта Рэчы Паспалітай 1576 з партрэтам Баторыя, медалі з выявай Баторыя 1828 і 1929, яго пячатка 1578, выявы некаторых змешчаных у зборніку дакументаў. Зборнік выдадзены на высокім узроўні, захоўвае навук. значэнне.

**«Кодэкс медніцэнсіс»** («Codex Mednicensis seu Samogitiae Dioecesis»), выданне дакументаў па гісторыі *Жамойцкай рымска-каталіцкай дыяцэзіі*. Выдадзена Літ. каталіцкай АН у Рыме ў 2 частках у 1984 у серыі «Крыніцы па гісторыі Літвы» («Fontes Historiae Lituaniae», т. 3—4). Выданне падрыхтаваў Паўлюс Ятуліс пры ўдзеле Віктараса Гіджунаса, Раполаса Красаўскаса, Паўлюса Рабікаўскаса і інш. У частцы 1 змешчаны дакументы з 13.2.1416 па 2.4.1609, у частцы 2 — з 26.6.1609 па 13.5.1926.

У аснове часткі 1 ляжыць рукапісны «Бабінаўскі кодэкс» («Codex Babinowski. Fundationes privilegia ecclesiae cathedralis Mednicensis etc.»), які складзены ў 1619 жамойцкім канонікам Матэвушам Бабіноўскім і захоўваецца ў Б-цы Вільнюскага ун-та. Іншыя дакументы ўзяты з архіўных збораў у Ватыкане, Гёцінгене і з друкаваных выданняў. Змешчаны дакументы на лацінскай, польскай і старабел. мовах. Сярод апублікаванага матэрыялу акты аб заснаванні дыяцэзіі, папскія булы аб зацвярджэнні жамойцкіх біскупаў, фундушы касцёлам, распарадчыя дакументы па кіраванні дыяцэзіяй, яе адм. падзеле. Змешчана візітацыя Жамойцкай дыяцэзіі 1579. Выданне забяспечана картамі, імянным і геаграфічным паказальнікам. Мае вял. значэнне для даследавання царк., грамадскай, гаспадарчай і культ. гісторыі Жамойці і ВКЛ у цэлым.

*Літ.:* Błaszczyk G. Geografia historyczna w «Kodeksie miednickim»: uwagi krytyczne do edycji: «Codex Mednicensis su Samogitiae dioecesis», pars 1 (1416—1609), Collegit Paulus Jatulis, Roma 1984 // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1990. T. 4.

**Конрад** (1187 або 1188—31.8. 1247), князь мазавецкі. З дынастыі Пястаў, сын кн. Казіміра II Справядлівага. Самастойны князь куяўска-мазавецкі з 1200, хэлмінскі ў 1222—28, кракаўскі ў 1229—31, сандамірскі ў 1229—32. У 1210—20-х г. вёў цяжкія абарончыя войны з прусамі. Для барацьбы з іх нападамі на Мазовію пайшоў на супрацоўніцтва з Тэўтонскім ордэнам і ў 1228 падараваў яму Хэлмінскую зямлю, а дабжынскім рыцарам у 1237 аддаў г. Дарагічын. Галіцка-валынскі кн. Даніла Раманавіч у 1237 (або 1238) выбіў рыцараў з Дарагічына і заключыў антыпольскі саюз з літ. кн. Міндоўгам, скіраваны супраць К. У 1238 адбыўся інспіраваны Данілам Раманавічам паход на Мазовію Міндоўга і навагародскага кн. Ізяслава. У выніку гэтага К. быў вымушаны адмовіцца ад прэтэнзій на землі Галіцка-Валынскага княства, у т.л. на Берасцейшчыну. У 1241 К., скарыстаўшы гібель ад манголаў кн. Генрыха II Пабожнага, захапіў

Кракаў, аднак у 1243 пацярпеў паражэнне ад малапольскага кн. Баляслава V Сарамлівага і адмовіўся на яго карысць ад Кракава. У 1246 заклікаў валынскага кн. Васільку Раманавіча далучыцца да паходу на яцвягаў. Быў жанаты з Агаф'яй, дачкой ноўгарад-северскага кн. Святаслава.

*Літ.*: П а ш у т о В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Г о л о в к о А.Б. Древняя Русь и Польша в политических взаимоотношениях X—первой трети XIII вв. Киев, 1988; W ł o d a r s k i B. Polska i Ruś 1194—1340. Warszawa, 1968; Я г о ж. Polityczne plany Konrada I księcia mazowieckiego. Toruń, 1971; J a s i ń s k i K. Rodowód Piastów małopolskich i kujawskich. Poznań; Wrocław, 2001.

**Конрад** (1360-я г.—вер. 1390), князь літоўскі. Сын *Войдата*, унук *Кейстута*. У 1390 удзельнічаў у сумеснай аблозе крыжакамі і Вітаўтам Вільні, у час якой быў паранены стрэлам з бамбарды. Праз некалькі тыдняў памёр ад гэтай раны ў Прусіі. Быў жанаты, але імя яго жонкі невядома, як і тое, ці меў дзяцей. Польскі гісторык 15 ст. Ян Длугаш атаясамліваў К. з сынам Кейстута Таўцівілам (які таксама меў хроснае імя Конрад), што ўсталявалася ў гістарыяграфіі.

*Літ.*: T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999. S. 203—204.



Пячатка **Конрада**, князя мазавецкага. 1218.

**Конрад фон Валенрод** (Konrad von Wallenrode; 1330-я г.—25.7.1393), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1391—93. Паходзіў са стараж. рыцарскага роду з Франконіі. У 1370-я г. ўступіў у Тэўтонскі ордэн. Чатыры гады быў пракуратарам у Ілаве, з 1376 —




**Конрад фон Валенрод**.

комтурам ордэнскага дома ў Дзежгані, стаў блізкім супрацоўнікам Конрада Цёльнера фон Ротэнштайна, у будучым вял. магістра ордэна. З 1377 комтур Члухава. Калі Конрад Цёльнер фон Ротэнштайн стаў вял. магістрам, то прызначыў К.ф.В. на пасаду вял. маршала ордэна (1382). Прадпрыняў вывучэнне і апісанне ўсіх дарог на крыжацка-літ. памежжы, дзе пазначаліся лепшыя месцы для прывалаў. Асабіста ўзначальваў ваенныя напады на ВКЛ. З 1387 вял. комтур Тэўтонскага ордэна. Пасля смерці Конрада Цёльнера фон Ротэнштайна К.ф.В. выконваў функцыі часовага кіраўніка ордэнскай дзяржавы, а на генеральным капітуле ў Мальбарку ў 1391 адзінагалосна абраны вял. магістрам. У гэты час значна пагоршылася знешнепаліт. становішча Ордэна. Падтрымліваючы кн. Вітаўта ў яго барацьбе супраць Ягайлы, К.ф.В. прадпрыняў у 1391 сумесны паход з Вітаўтам на Літву, захапіў Вількамір, але Вільню ўзяць не здолеў. У 1392 Вітаўт разарваў пагадненне з Ордэнам і заключыў саюз з Ягайлам, атрымаўшы ад яго пасаду намесніка ў ВКЛ (гл. *Востраўскае пагадненне 1392*). Пасля гэтага Ягайла і Вітаўт прадпрынялі сумесны паход супраць Ордэна. Вітаўт напаў на Клайпеду і зруйнаваў навакольныя замкі, Ягайла атакаваў Дабжынскую зямлю. К.ф.В. выбіў адтуль польскія войскі і пачаў рыхтаваць напад на ВКЛ, але нечакана памёр у Мальбарку. Братам К.ф.В. быў вял. маршал Тэўтонскага ордэна Фрыдрых фон Валенрод, забіты ў Грунвальдскай бітве 1410.

**Конрад фон Фойхтванген** (Konrad von Feuchtwangen; каля 1230—4.7. 1296), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1291—96. Паходзіў з Франконіі. Дата ўступлення ў Ордэн невядома. У 1259—61 і з 1279 комтур Аўстрыі (як мяркуецца, адначасова з 1279 быў падскарбіем Ордэна). Відаць, удзельнічаў у баявых дзеяннях у Палесціне. На генеральным капітуле Ордэна 1279 у Марбургу К.ф.Ф. па ініцыятыве вял. магістра Гартмана фон Гальдрунгена прызначаны магістрам Прусіі і Лівоніі. Хутка з'ехаў у Прусію, дзе ў Эльблёнге склікаў капітул для выпрацоўкі мераў па ўмацаванні дысцыпліны і пошуку сродкаў падпарадкавання прускіх пля-




**Конрад фон Фойхтванген**.

мёнаў. Правёў рэформу ў сістэме мясц. ордэнскіх пасад. Арганізаваў вял. напад на зямлю земгалаў. Нягледзячы на тое, што паход быў удалы, К.ф.Ф. заявіў пра немагчымасць для яго займаць адначасова пасады магістра Прусіі і Лівоніі і абвясціў пра адстаўку з абодвух. Аднак мясц. капітул пакінуў яго на пасадзе магістра Лівоніі. У 1280—81 жыў у Лівоніі. Арганізаваў напад на земгалам, разбіў літоўцаў, якія прыйшлі на дапамогу земгалам. Планаваў паход на Літву, але з-за неспрыяльнага надвор'я адмовіўся ад яго. У 1282 паўторна абвясціў пра адстаўку з пасады магістра Лівоніі, якая была прынята капітулам у Феліне. Стаў комтурам Франконіі, з 1284 магістр Германіі. Паводле некаторых звестак, удзельнічаў у няўдалай абароне Акі ў Палесціне, якая была захоплена мусульманамі. Генеральны капітул 1291 у Венецыі абраў К.ф.Ф. вял. магістрам Тэўтонскага ордэна. Выконваў важныя дыпламатычныя даручэнні Свяшчэннай Рымскай імперыі, якую разглядаў як апору Ордэна. У 1295 прыбыў у Прусію, якую разглядаў як гал. пляцоўку дзейнасці Ордэна. Памёр раптоўна ў Празе.

**Конрад фон Эрліхсгаўзен** (Konrad von Erlichshausen; ?—7.11.1449), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1441—49. Паходзіў з рыцарскага роду са Швабіі. Каля 1410 уступіў у Тэўтонскі ордэн. З 1415 кампан вял. магістра Міхеля Кюхмайстэра, з 1418 войт замка Грабіны каля Гданьска, з 1425 комтур Рагнеты, з 1432 вял. комтур Мальбарка. У 1433 ваяваў з польска-гусіцкімі атрадамі, якія ўторгліся ў Гданьскае Памор'е. З 1435 вял. маршал Тэўтонскага ордэна. У 1436 уступіў у востры канфлікт з вял. магістрам Паўлем фон Русдарфам і быў пазбаўлены пасады вял. маршала. Быў комтурам у Старагродзе, потым у Торуні. Быў актыўным удзельнікам апазіцыі вял. магістра, у 1440 дамогся пасад вял. маршала і комтура Караляўца. Пасля адстаўкі Паўля фон Русдарфа К.ф.Э. абраны на генеральным капітуле ў Мальбарку вял. магістрам Тэўтонскага ордэна. Імкнуўся рэфармаваць Ордэн для падняцця дысцыпліны, палепшыць яго фінансавае становішча за кошт



Конрад фон Эрліхсгаўзен.



Конрад фон Юнгінген.

прускага мяшчанства. Рэформы К.ф.Э. не былі паспяховыя.

**Конрад фон Юнгінген** (Konrad von Jungingen; каля 1355—30.3.1407), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1393—1407. З рыцарскага роду са Швабіі. Каля 1380 уступіў у Тэўтонскі ордэн. Некалькі гадоў быў комтурам у Аструдзе, з 1391 падскарбі ў Мальбарку. У 1393 на генеральным капітуле ў Мальбарку аднагалосна выбраны вял. магістрам. Праводзіў палітыку заключэння мірных пагадненняў з суседнімі дзяржавамі для ўзмацнення магутнасці Тэўтонскага ордэна. У дачыненні да ВКЛ спярша праводзіў сілавую палітыку. У 1394 крыжакі ваявалі ваколіцы Навагародка, Ліды і Расейнаў, разбілі войска Вітаўта пад Рудамінай, аднак аблога Вільні скончылася няўдачай. У 1395 адбыліся крыжацкія напады на Жамойць і Верхняе Панямонне. Пасля К.ф.Ю. пачаў падтрымліваць вял. кн. літ. Вітаўта ў яго ўзаемаадносінах з польскім каралём Ягайлам, імкнучыся забяспечыць перадачу Ордэну Жамойці і разарваць літ.-польскую унію. У 1398 крыжацкі флот захапіў востраў Готланд, што выклікала супрацьстаянне са скандынаўскімі дзяржавамі. У 1398 Жамойць была перададзена Ордэну, што было пацверджана *Салінскім дагаворам 1398*. К.ф.Ю. за 100 тыс. гульдэнаў купіў Новую Марку. У 1404 падавіў антыордэнскае выступленне жамойтаў з дапамогай Вітаўта, якому абяцаў дапамогу ў выправе на Русь у 1408. К.ф.Ю. заключыў *Рацёнжскі дагавор 1404* з Польшчай і ВКЛ.

**Конрад Цёльнер фон Ротэнштайн** (Konrad Zöllner von Rotenstein; ?—20.8.1390), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1382—90. Паходзіў з рыцарскага роду. Час уступлення ў Тэўтонскі ордэн невядомы. З 1353 пракуратар у Пшэзмарку, пасля кампан комтура, комтур у Дзежгані, з 1368 комтур Гданьска, з 1372 вял. шатны Ордэна і комтур Дзежгані. Нягледзячы на тое, што не меў вял. ваеннага, паліт. і адм. досведчання, пасля смерці Вінрыха фон Кніпродэ абраны вял. магістрам Тэўтонскага ордэна. Гал. ўвагу надаваў гаспадарчаму развіццю Ордэ-

на. Ваенныя аперацыі супраць ВКЛ давяраў вял. маршалку (потым вял. комтуру) Конраду фон Валенроду. У 1382 Ордэн захапіў Жамойць да р. Дубіса і атрымаў ад вял. кн. літ. Ягайлы абяцанне прыняць хрышчэнне ад крыжакоў. Аднак Ягайла ў выніку заключэння




**Конрад Цёльнер фон Ротэнштайн**.

Крэўскай уніі 1385 стаў каралём польскім і ахрысціў язычніцкую Літву з дапамогай Польшчы. Польскае пасольства прасіла Конрада стаць хросным бацькам Ягайлы, што было адвергнута. У выніку заключэння уніі Ордэн страціў ідэалагічныя падставы для свайго існавання ў Прыбалтыцы і атрымаў моцнага ваеннага праціўніка. Ордэн пачаў распускаць па Еўропе чуткі, што хрышчэнне Ягайлы і Літвы ўяўнае, падтрымліваў кн. Вітаўта, які выступаў супраць Ягайлы. Конрад правёў адм.-тэр. размежаванне ордэнскай дзяржавы, садзейнічаў каланізацыі яе слабазаселеных зямель.

**Контаўты**, шляхецкі род, прадстаўнікі якога ў 15 ст. займалі ў Жамойці ўплывовае становішча. М і к а л а й (Контаўт) упамінаецца як стараста жамойцкі ў 1436—41. Меў вял. аўтарытэт сярод жамойцкіх баяр у пачатку праўлення вял. кн. Казіміра [1440—92]. Пасля ўмацавання ўлады апошняга жамойцкім старастам прызначаны Кезгайла Валімунтавіч, але Мікалай (Контаўт) захаваў уплывовае становішча і быў памочнікам пры Кезгайле. Я н, сын Мікалая (Контаўта), пры заключэнні шлюбу з Ядвігай, дачкой віленскага ваяводы Алехны Судзімонтавіча, атрымаў ад вял. кн. Аляксандра Ягелончыка маёнткі Паюр'е, Крожы (Кельмы) і Цітавяны. У канцы 15 ст. Ян памёр бяздзетным, яго ўдава Ядвіга выйшла замуж за Станіслава Барташавіча Мантоўтавіча, перадаўшы яму ў якасці вена (з дазволу вял. князя) маёнткі мужа, пры ўмове, што іх частка пяройдзе да пляменніка Яна Контаўтавіча — Мікалая Шэмета. Маёнткі К. з цягам часу перайшлі ў валоданне інш. родаў.

*Літ.*: G r u ż e w s k i B. Kościół Ewangelicko-Reformowany w Kielmach. Warszawa, 1912. S. 343—348.

**Конча** Міхал (20.8.1741, Беларусь—4.11.1794), дзеяч каталіцкай царквы, паэт, перакладчык. З кальвіністкай сям'і. У 1760 уступіў у Полацку ў ордэн езуітаў. У езуіцкіх навучальных установах вывучаў філасофію, пасля тэалогію ў Пінску (з 1771). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) жыў ва ўсх. Беларусі, дзе ў 1775 выйшаў з ордэна. На сойме 1773—75 уключаны ў склад задворнага асэсарскага суда ВКЛ (быў у складзе камісіі па справах праваслаўных і пратэстантаў). Атрымаў на 50 гадоў дзярж. маёнткі Каўле і Акайне ў Вількамірскім пав., Шлікі ў Ковенскім пав. Збіраў паліт. і інш. навіны, якія дасылаў менскаму кашталяну Адаму Хмары. Загінуў у час узяцця рас. войскамі прадмесця Варшавы — Прагі. Супрацоўнічаў з часопісам «Zabawy Przyjemne i Pożyteczne», дзе змясціў свой верш «Да Музаў», пераклады з Гарацыя і Авідзія.

**Кончус** (К а н ц я в і ч у с; Koncius, Koncevicius) Юозас (16.6.1891, в. Стулгяй Скаўдвілескай вол., Літва—13.1.1975), літоўскі рэлігійны і грамадскі дзеяч, гісторык. Д-р тэалогіі (1930). Скончыў Жамойцкую духоўную семінарыю (1917), стаў ксяндзом. У 1917—18 вывучаў эканоміку ва ун-це Брэслаў (Вроцлава). У 1920—23 капелан і выкладчык у навучальных установах Шаўляй. З 1923 у ЗША, з 1924 вучыўся ў Вашынгтонскім каталіцкім ун-це, дзе ў 1926 атрымаў ступень магістра. У 1927—45 плябан парафіі Св. Крыжа ў Маўнт-Кармель. Адзін з арганізатараў і першы старшыня (1944—64) «Аб'яднанага літоўскага фонду Амерыкі». У 1949—51 праф. апалагетыкі ун-та Фордхам у Нью-Йорку. Аўтар тэалагічных прац, катэхізіса, малітоўнікаў, работ па гісторыі: «Гісторыя царквы» («Bažnyčios istorija», Шаўляй, 1924), «Адносіны Расіі да уніі з Рымам (9—16 стагоддзі)» [«Russia's attitude towards union with Rome (9th-16th centuries», 2 выд., Вашынгтон, 1927], «Падручнік па гісторыі царквы» («Bažnyčios istorijos vadovėlis», Каўнас, 1928), «Сестрынская кангрэгацыя святога Казіміра, 1907—1952» («Švento Kazimiero seserų kongregacija, 1907—1952», Маўнт-Кармель, 1932), «Вітаўт Вялікі, вялікі князь літоўскі» («Vytautas the Great Grand Duke of Lithuania», Маямі, 1964), «Гісторыя Літвы» («History of Lithuania», Чыкага, 1966).

**Корац** (укр. К о р е ц ь, цяпер горад, цэнтр Корацкага р-на Ровенскай вобл., Украіна), горад у Луцкім пав., на р. Корчык. Вядомы з 1150 («Корческ»), уваходзіў у склад Валынскага княства. З 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1386 Ягайла і Вітаўт пацвердзілі кн. Фёдару Данілавічу (Астрожскаму) правы на Астрог, К., Заслаў, Хлапоцін і інш. гарады. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) К. аднесены да кіеўскіх гарадоў. Пасля 1407 ад вял. кн. літ. Вітаўта горад атрымаў кн. Аляксандр Патрыкеевіч (унук Нарымонта), які стаў родапачынальнікам кн. *Карэцкіх*. У 1443 вял. кн. Свідрыгайла загадаў баярам і зямянам у ваколіцах К. служыць кн. Васілю Аляксандравічу, як яны служылі яго бацьку Аляксандру Патрыкеевічу. Частка маёнтка Корац працягвала знаходзіцца ў валоданні Астрожскіх, бо кн. Васіль



Фёдаравіч (Астрожскі) у 1442 па просьбе вял. кн. літ. Казіміра перадаў яму К., атрымаўшы ўзамен інш. маёнткі. У 1495 К. вытрымаў аблогу крымскіх татараў. У 1533 пабудаваны драўляны парафіяльны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, адноўлены ў пач. 17 ст. валынскім кашталянам Каралём Карэцкім, мураваны касцёл узведзены ў 1706. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 К. у Луцкім пав. Валынскага ваяв., з 1569 — у складзе Польскага каралеўства. У горадзе існаваў мураваны замак, умацаваны бастыёнамі. У 1596 захоплены паўстанцамі на чале з Севярынам Налівайкам. У пач. 17 ст. святаром у мясц. царкве служыў Лаўрэнцій *Зізаній*, запрошаны сюды Я.Карэцкім. Да 1620 Самуэль і Кароль Карэцкія заснавалі кляштар францысканцаў з касцёлам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (перабудаваны каля 1740). У 1629 у горадзе 1124 дымы, каля 7 тыс. чал. насельніцтва. У 1648 захоплены казакамі на чале з Максімам Крывоносам, уключаны ў склад Звягільскага палка. Пасля згасання роду князёў Карэцкіх са смерцю Самуэля Караля Карэцкага (1651) К. перайшоў да адзінага яго пляменніка Самуэля Ляшчынскага. У 18 ст. К. валодалі князі Чартарыйскія. У 1754—67 пабудаваны уніяцкі Васкрасенскі манастыр. У канцы 18 ст. Юзаф Клеменс Чартарыйскі заснаваў фарфоравую і суконную мануфактуры, майстэрню па вытворчасці кунтушовых паясоў, перарабіў замак на палац. У 1776—81 у К. працавала яўрэйская друкарня. З 1791 у Гарыньскім пав. Валынскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: D u b - D u b o w s k i I. Książęta Koreccy i zamek ich w Korcu. Korzec, 1906; S o b o l e w s k i T. Z dziejów klasztoru franciszkańskiego w Korcu // Rocznik Wołyński. Równe, 1934. T. 3.

**Корман** Ян (3.11.1634, ВКЛ— 13.9. 1686), дзеяч каталіцкай царквы. У 1655 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вывучаў тэалогію ў Рыме, дзе пасля 3 гады быў пенітэнцыярам у базіліцы св. Пятра. Праф. маральнай тэалогіі ў Вільні (1670—71) і Варшаве (1671—72), філасофіі ў Варшаве (1672—75) і Вільні (1675—78), прэфект школы і праф. маральнай тэалогіі ў Крожах (1678—79), праф. этыкі (1679—80), этыкі і кананічнага права (1680—86) у Вільні. Захаваліся рукапісныя лекцыі К. па этыцы.

**Корсунскі** Даніла, паломнік і пісьменнік канца 16 ст., гл. *Даніла*.

**Коршунаў** Аляксандр Фаміч (4.3. 1924, в. Палішына Горацкага р-на— 12.7.1991), беларускі гісторык літаратуры, тэкстолаг. Канд. філалагічных навук (1956). Скончыў БДУ (1950). Удзельнік Вял. Айч. вайны. З 1954 у Ін-це л-ры імя Я.Купалы АН БССР (з 1956 старшы навук. супрацоўнік). Даследаваў стараж. бел. л-ру. Складальнік «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» (Мінск, 1959). Выдаў «Прадмовы і пасляслоўі» і «Творы» Францішка Скарыны (Мінск, 1969, 1990), «Баркулабаўскую хроніку» і «Лісты» Філона Кміты-Чарнабыльскага («Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці», Мінск, 1975), «Дзённікі» Фёдара Еўлашоўскага і Яна Цадроўскага («Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст.», Мінск, 1983). Пераклаў з польскай мовы і забяспечыў каментарыямі дыярыуш Самуіла Маскевіча (не выдадзены). Даследаваў асаблівасці выданняў Скарыны, уздзеянне тэхнікі і мастацтва яго кнігадрукавання на творчасць Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца. Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (Мінск, т. 1, 1968). Дзярж. прэмія БССР імя Я.Коласа 1980 за ўдзел у 2-томным даследаванні «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «История белорусской советской литературы» (Мінск, 1977).

*Тв.*: Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество. Минск, 1965; Знойдзена «Пасхалія» // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 4; Нататкі з падарожжа па Сібіры ў XVII ст.: («Дыярыуш» Адама Каменскага) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1973. № 1; Новыя даныя аб Фёдары Еўлашоўскім // Там жа. 1983. № 1.

*Літ.*: Б а т в і н н і к М.Б. Даследчык беларускай старажытнай літаратуры // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1992. № 3—4; К а р о т к і У. «З зычливости ку моей отчизне...» // Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. Мінск, 1994; Ч а м я р ы ц к і В. Пачынальнік: да 80-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Коршунава // Роднае слова. 2004. № 3.

**Коцел** Міхал Казімір (?—6.10. 1722), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын Самуэля Гераніма Коцела і Ганны з Ванляраў. Ашмянскі падкаморы з 1683, віцебскі кашталян з 1687, троцкі кашталян з 1700 і ваявода з 1703, вял. падскарбі ВКЛ з 1710; маршалак Трыбунала ВКЛ 1698 і 1702, удзельнік элекцый 1669, 1674 і 1697. Адзін з лідэраў апазіцыйнай Сапегам групоўкі *рэспубліканцаў*. У канцы 1697 склікаў паспалітае рушэнне ўсх. паветаў ВКЛ, ад якога ў сярэдзіне студз. 1698 абраны адным з паслоў да караля польскага і вял. князя літ. Аўгуста II. На з'ездзе паспалітага рушэння шляхты ВКЛ у Вільні 14.4.1698, які адбыўся пад яго дырэкцыяй, абраны генеральным палкоўнікам ваяводстваў і паветаў ВКЛ, атрымаў уладу над паспалітым рушэннем і права займацца выплатай жалавання войску ВКЛ. Склікаў на 14.8. 1698 шляхецкі з'езд у Вільні, які запатрабаваў распусціць войска ВКЛ, што знаходзілася пад камандаваннем Сапегаў. Гэта планавалася здзейсніць з дапамогай паспалітага рушэння, скліканага на 15.11.1698 і ўзначаленага К., які павёў яго пад Гародню. Падпісаў *Пузавіцкую пастанову 1698*. У пач. 1700 узначалены Каралём Янам Сапегам Скарбовы трыбунал ВКЛ выявіў фінансавыя злоўжыванні К., але не змог прыцягнуць яго да адказнасці. К. склікаў паспалітае рушэнне на рэасумпцыю Гал. Трыбунала ВКЛ і 26.4.1700 абраны дырэктарам з'езда рэспубліканскай шляхты. Падпісаў пагадненне з Сапегамі 21.8.1700. У вер.—кастр. 1700 узначаліў паспалітае рушэнне шляхты Мсціслаўскага, Віцебскага, Аршанскага і Ашмянскага паветаў, разбітае 15.10.1700 Бенядзіктам Паўлам Сапегам пад Ашмянамі. Удзельнічаў у *Алькеніцкай бітве 1700*, камандаваў левым крылом рэспубліканцаў. Падпісаў *Алькеніцкую пастанову 1700*, паводле якой разам з Рыгорам Антонам Агінскім атрымаў у арэнду збор мытных паступленняў і прызначаны камісарам пры генеральным палкоўніку



Міхале Серваці Вішнявецкім. Пасля Алькеніцкай бітвы яго ўплыў у лагеры рэспубліканцаў панізіўся. Удзельнік з'ездаў шляхты ВКЛ у Ружанах (1701), Вільні (двойчы ў 1701, 1703), Гародні (1701). У час перагавораў рэспубліканцаў з Сапегамі ў 1701 выступаў супраць замірэння. Быў адным з ініцыятараў уступлення ВКЛ і Рэчы Паспалітай у *Паўночную вайну 1700—21*, падчас якой падтрымліваў Аўгуста II і арыентаваўся на Расію. Удзельнік з'езда шляхты ВКЛ у Навагародку 1707. Падчас шведскага наступлення 1708 выехаў у Расію. Удзельнік Варшаўскай вальнай рады 1710, на якой атрымаў урад вял. падскарбія ВКЛ. У час сваёй дзейнасці на гэтай пасадзе вызначыўся празмернымі злоўжываннямі. Па скарзе аднаго з пацярпелых, троцкага ваяводы Казіміра Дамініка Агінскага, Трыбунал ВКЛ у 1711 прыгаварыў К. да пазбаўлення гонару і пакарання смерцю. Арыштаваны 12.1.1712, але пазбегнуў пакарання, пагадзіўшыся з Агінскім. У 1712 удзельнічаў у падаўленні прашведскага выступлення Яна Казіміра Сапегі. Далучыўся да з'езда шляхты ВКЛ у Вільні 23.3—8.4.1716, на пачатку пасяджэнняў якога была ўтворана антысаксонская канфедэрацыя. Прадпрымаліся спробы пазбаўлення яго пасады падскарбія за злоўжыванні, у т.л. на сойме 1719—20, але яны не мелі поспеху. Памёр у Палонцы, пахаваны ў Беніцы.

*Літ.*: В і ц ь к о Дз. Спроба рэспубліканцаў дамагчыся ўлады над войскам ВКЛ у 1697—1698 гадах // Бел. гіст. агляд. 2008. Сш. 1—2; N a r b u t t J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskigo i Augusta II, królow panujących w Polsce. T. 1—2. Wilno, 1842; J a r o c h o w s k i K. Dzieje panowania Augusta II od śmierci Jana III do chwili ustąpenia Karola XII na ziemię polską. Poznań, 1856; P o w i d a j L. Wojna domowa Sapiehów z szlachtą litewską w ostatnich latach XVII i na początku XVIII wieku // Przegląd Polski. 1872—73. R. 7. T. 2. Z. 4—5; P i w a r s k i K. Opozycja litewska pod koniec XVII wieku // Pamiętnik V powszechnego zjazdu historyków polskich w Warszawie od 28 listopada do 4 grudnia 1930 r. Lwów, 1930. Z. 1; W a s i l e w s k i T. Walka o zrównanie praw szlachty litewskiej z koroną od unii Lubelskiej do początku XVIII wieku // Zapiski Historyczne. 1986. Z. 1; D y b a ś B. W sprawie traktatu puzewickiego z 1698 roku i jego następstw // Zapiski Historyczne. 1988. Z. 3—4; S l i e s o r i ų n a s G. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000; R a c h u b a A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002. ***Змiцер Віцько.***

**Кравіцкі** Марцін (?—вер. 1573), пратэстанцкі рэлігійны дзеяч, пісьменнік. Месца нараджэння і атрымання адукацыі невядомы. Магчыма, К. вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Атрымаў гуманістычную адукацыю, ведаў творчасць Эразма Ратэрдамскага, гіст. творы. Служыў пісарам пры двары старасты перамышльскага, ваяводы кракаўскага, маршалка кароннага Пятра Кміты. Карыстаўся яго багатай б-кай і пазнаёміўся з пісьменнікамі і вучонымі, што бывалі пры двары Кміты, асабліва зблізіўся са Станіславам *Ажахоўскім*. У канцы 1530-х г. К. прыняў святарства. У 1540-я г. схіляўся ў пратэстанцтва і стаў 1-м каталіцкім святаром у Польшчы, які адкрыта ўступіў у шлюб. У 1551 біскупскі суд абвясціў К. ерэтыкам і пазбавіў яго касцельных годнасцей. У адказ К. адкрыта перайшоў у пратэстанцтва і стаў прапаведнікам у Пінчаве, у 1553 шукаў прытулку ў Вітэнбергу, дзе запісаўся ў мясцовы ун-т. Слухаў лекцыі Ф.Меланхтана. Тут напісаў скіраваны да караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта II Аўгуста і шляхты твор «Хрысціянскі і жалобны напамін, абы Пана Езуса прынялі» («Chrześcijańskie a żałobliwe napominanie», Магдэбург, 1554). У 1554 К. вярнуўся ў Пінчаў. Паступова перайшоў ад лютэранства да кальвінізму. У 1555 удзельнічаў у заключэнні уніі паміж кальвіністамі Малой Польшчы і чэшскімі братамі. З 1555 пратэстанцкі міністр пры зборы ў Вадзіславі, з 1557 — у Бжэзінах і Гасліцах, пасля ў Вял. Ксёнжы, з 1561 — у Вайцэхове, адначасова суперінтэндэнт пратэстанцкіх збораў Люблінскага дыстрыкта. У пач. 1560-х г. К. перайшоў у лагер антытрынітарыяў, удзельнічаў у іх сінодах 1567—69. У 1563 пасяліўся ў Венграве, дзе быў суперінтэндэнтам збораў Падляшскага ваяв. ВКЛ, міністрам збору ў радзівілаўскім мяст. Морды (у 1569 удзельнічаў тут у дыспуце з каталікам, каралеўскім сакратаром Янам Дзмітрыем Салікоўскім). Прыкладна ў 1571 перасяліўся ў мяст. Пескі ў Люблінскім ваяв., дзе і памёр. Гал. палемічны твор К. — кніга «Абарона навукі праўдзівай і веры старадаўняй хрысціянскай» («Obrona nauki prawdziwej i wiary starodawnej krześcijańskiej», Пінчаў, 1560), якая перавыдадзена ў Вільні ў 1584 і 1604 пад назвай «Апалогія больш вялікая» («Apologia więtsza»). Цырыяк *Молер* пераклаў яе на нямецкую мову («Apologia das ist Verantwertung», Вільня, 1602). Іншыя палемічныя творы К. — «Вобраз і малюнак уласны Антыхрыстаў з Пісання Святога дастаткова намаляваны» («Obraz a kontrefet własny Antykrystów z pisma Św. dostatecznie wymalowany», Кракаў, 1561), «Слузе вернаму Пана Езуса Хрыстуса ўкрыжаванага Станіславу Ажахоўскаму» («Słudzy wierni Pana Jezu Chrysta ukrzyżowanego Stanisławowi Orzechowskiemu», напісаны ў 1560). К. ўдзельнічаў у перакладзе Біблії на польскую мову (*Берасцейская Біблія* 1563).


APOLOGIA
więtsza/ To iest:
Obroná Náuki prawdźiwey/ y Wiáry stárodawney Krześćiáńskiey/ ktorey vczyli Prorocy/ Kristus Syn Boży/ y Apostołowie święci. Náprzeciwko náuce fałszywey/ y wierze nowey/ ktorey vczy w kośćiełech swoich Papież Rzymski/ á ktorey świegotániem swoim/ bronią nowi Mnisy/ Jezuitowie cżarni / y inszy im podobni.

Nápisána niegdy przez Marciná Krowickiego / sługę kośćiołá Páná Jezu Krystá vkrzyżowánego. A teraz znowu drukowána/ y ná wielu mieysc rozszyrzona / y obiáśniona.

Matth. 10. ✝ 32.
Wszelki ktoryby mie wyznał przed ludźmi / wyznam go ia tei przed Oycem moim ktory iest ná niebie.
A ktoryby sie mnie záprzał przed ludźmi / záprze sie go y ia przed Oycem moim/ ktory iest ná niebie.

М.**Кравіцкі**. Апалогія больш вялікая. Вільня. 1604. Тытульны ліст.

*Тв.*: Chrześcijańskie a żałobliwe napominanie; Adhortatio; Obraz a kontrefet własny antykrystów / Oprac. B.Otwinowska, J.Tazbir. Warszawa, 1969.

*Літ.*: B a r y c z H. Marcin Krowicki: z dziejów reformacji w Polsce // Reformacja w Polsce. Kraków, 1924. T. 3.

**Кражай** (Kražiai), мястэчка ў Кельмескім р-не Літоўскай Рэспублікі, гл. *Крожы*.

**Кракоўскі** Іаасаф [?—1(12).7. 1718], дзеяч праваслаўнай царквы, гл. *Іаасаф*.

**крама**, тып гандлёвага збудавання ў ВКЛ з 16 ст. Была 1—2-павярховым (на 1-м паверсе К., на 2-м — склад) драўляным ці мураваным будынкам, завершаным 2-схільным дахам. Часам К. мела падчэні (галерэі). Найчасцей размяшчалася на гандлёвай пл. або прылеглых да яе вуліцах, магла быць часткай *гандлёвых радоў*, *гасцінных двароў* ці жылля гандляроў.

**Крапівін** Пётр Фёдаравіч (6.2.1903, г. Пултуск, Польшча—19.11.1968), беларускі філолаг, тэкстолаг, даследчык старабеларускай мовы. Канд. філалагічных навук (1959). Скончыў Цюменскі педагагічны ін-т (1941). Удзельнік Вял. Айч. вайны. Працаваў у Гродзенскім і Мінскім педагагічных ін-тах, Ін-це філасофіі і права АН БССР. Удзельнічаў у перакладзе на сучасную рус. мову і падрыхтоўцы да друку тэксту *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529* (Мінск, 1960). Зрабіў грунтоўны агляд л-ры па пытанні аб паходжанні і значэнні «каляровых» назваў Русі; выказаў меркаванне, што іх аснову варта шукаць у слав. дагісторыі, у стараж. тапаніміі. Тэрмін «Белая Русь» выводзіў ад першапачатковай слав. назвы водных крыніц «белая вада».

*Тв.*: Да пытання аб часе з'яўлення «Прамовы Мялешкі» і яе аўтарстве (XVI—XVII ст.) // Весці АН БССР. 1955. № 5; Паходжанне назваў «Русь», «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1956. № 3; Аб кракаўскай копіі «Ліста да Філіпа Абуховіча» — помніка беларускай пісьменнасці XVII стагоддзя // Там жа. 1958. № 2; О рукописях и изданиях первого Литовского Статута // Славянский архив. М., 1959 (разам з Ю.І.Чарнецкай); Дзеясловы «гаварэння» ў беларускай мове XVI ст. // 3 даследаванняў па беларускай і рускай мовах. Мінск, 1961. ***Генадзь Сагановіч.***

**Красавіцкі** Пётр Мацвеевіч [24.11 (6.12).1873, г. Віцебск—6.9.1950], беларускі краязнавец. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю, медыцынскі факультэт Юр'еўскага (Тартускага) ун-та (1902). З 1903 служыў у арміі, удзельнік рас.-японскай вайны 1904—05. У 1906—14 займаўся прыватнай медыцынскай практыкай у Віцебску, адначасова ў 1911—12 выкладаў у настаўніцкім ін-це. У 1909—18 чл. Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1909—18). У 1-ю сусветную вайну працаваў у санітарным упраўленні арміі, жыў у Петраградзе, Свеаборгу, Гельсінгфорсе. У 1920—24 працаваў у Віцебскім губернскім статыстычным бюро, ін-це нар. асветы. Чл. камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва (1919—24), ініцыятар адбудовы Віцебскай Ільінскай царквы. У 1906 набыў хутар Саломінка каля Бешанковічаў, заклаў парк, сад і жыў там у 1924—31. З 1931 у Маскве. Аўтар даследаванняў пра культавыя помнікі Віцебшчыны.

*Тв.:* Памятники церковной старины Полоцко-Витебского края и их охранение // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1911. Кн. 1; Генерал-майор Яков Петрович Кульнев и бой под Клястицами. Витебск, 1912; Сад Саломинка // Віцебшчына. Віцебск, 1925. Т. 1; Віцебская Ільінская царква // Зап. аддз. гуманіт. навук. Мінск, 1928. Кн. 6. ***Аркадзь Падлінскі.***

**Красінскі** (С к а р а б а г а т ы - К р а с і н с к і) Валяр'ян (1795, Беларусь—22.12. 1855), гісторык, публіцыст, палітычны дзеяч. Вызнаваў евангелісцка-рэфармацкую веру. У 1818—22 вучыўся ў Віленскім ун-це. З 1822 у Варшаве, ва Урадавай камісіі рэліг. вызнанняў і грамадскай асветы. Карыстаўся графскім тытулам, з 1824 камер-юнкер імператарскага двара. Прыняў актыўны ўдзел у паўстанні 1830—31, выступаў за пашырэнне яго на ўсю тэр. ВКЛ і Рас. імперыю, устанаўленне агульнаслав. манархіі. У 1831 выехаў у Англію для забеспячэння дыпламатычнай падтрымкі паўстання, там і застаўся. У эміграцыі займаўся паліт. дзейнасцю, літ. справай і гіст. даследаваннямі. Гал. праца — «Гістарычны нарыс узнікнення, развіцця і заняпаду рэфармацыі ў Польшчы і ўплыў, які аказалі ідэйныя дактрыны на літаратуру, мараль і палітычныя адносіны гэтай краіны» («Historical Sketch of the Rise, Progress, and Decline of the Reformation in Poland, and of the Influence which the Scriptural Doctrines Have Exercised on that Country in Literary, Moral, and Political Respects», т. 1—2, Лондан, 1838— 40). Кніга перакладзена на французскую і нямецкую мовы. З 1845 выкладаў у Кембрыджскім ун-це. Пад уплывам славяназнаўчых прац П.І.Шафарыка і Ф.Палацкага ў 1849 выдаў «Лекцыі па рэлігійнай гісторыі славянскіх народаў». У працах «Расія і Еўропа, або Магчымыя вынікі цяперашняй вайны», «Расія, Польшча і Еўропа, або Непазбежныя вынікі цяперашняй вайны» і інш., прысвечаных Крымскай вайне 1853—56, прапаноўваў англійскаму ўраду планы адраджэння Польскай дзяржавы ў якасці бар'ера ад Расіі.

*Тв.*: Panslavism and Germanism. London, 1848; Zarys dziejów powstania i upadku reformacji w Polsce. T. 1—2. Warszawa, 1903—05 (2 wyd. 1986).

**Крачатоўскі** Дамінік (4.8.1669, Беларусь—27.9.1715), дзеяч каталіцкай царквы, драматург. У 1684 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1696 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Вільні (1698— 99), рыторыкі (1699—1700), філасофіі (1700—02), кананічнага права (1702—03), прэфект школы (1702—03) у Варшаве, рэгент дыяцэзіяльнай семінарыі ў Пултуску (1703—04), праф. філасофіі ў Вільні (1705—08), тэалогіі ў Пінску (1708—15). Аўтар школьных драм.

Літ.: O k o ł J. Dramat i teatr szkolny: sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.

**Крашэўскі** (Kraszewski) Юзаф Ігнацы (28.7.1812, г. Варшава—19.3. 1887), пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку. Акадэмік АН у Кракаве (1872). З сям'і пружанскага харужага. Дзяцінства правёў у в. Доўгае каля Пружан. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, Віленскім ун-це. За ўдзел у антыцарскай змове ў 1830—32 зняволены ў турму. З 1834 жыў у Доўгім і на Валыні. Заснавальнік і рэдактар віленскага часопіса «Атэнэум» («Atheneum», 1841—51). З 1859 у Вар-



шаве, рэдактар газеты «Штодзённая газета» («Gazeta Codzienna», з 1861 называлася «Gazeta Polska», «Польская газета»). Пасля падаўлення паўстання 1863—64 да канца жыцця знаходзіўся ў эміграцыі. Як празаік дэбютаваў у 1831. Напісаў паэтычную трылогію з гісторыі Літвы «Апафеляс» (1840—45), якую рэцэнзаваў Я.Чачот. Аўтар 223 раманаў і аповесцей. Паказаў цяжкае жыццё бел. і ўкр. сялянства. Стварыў у польскай л-ры новы тып рэалістычнага гіст. рамана. Мінуламу Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны прысвяціў раманы «Апошняя з слуцкіх князёў» (1841), «Жыгімонтаўскія часы» (1846), «Залаты яблык» (1853), «Графіня Козель» (1873), «Старая казка» (1876), «Кароль у Нясвіжы, 1784» (1885) і інш., камеды «Пане Каханку», «Радзівіл у гасціне». Аўтар навук. прац «Вільня ад яе пачатку да 1750 года» («Wilno od początków jego do roku 1750», т. 1—4, Вільня, 1840—42), «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847—50), «Барысаў» (1848), «Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і добрахрысціянскай Літве» (1860), «Польшча ў час трох падзелаў. Даследаванні па гісторыі духа і звычаяў» («Polska w czasie trzech rozbiorów. Studia do historii ducha i obyczaju», т. 1—3, 1873—75) і інш. Падарожжы па Беларусі апісаў у нарысах «Пінск і Піншчына» (1838), «Успаміны Валыні, Палесся і Літвы» («Wspomnienie Wołynia, Polesia i Litwy», 1840, 2 выд. Варшава, 1985), «Малюнкі з жыцця і падарожжаў» («Obrazy z życia i podróży», т. 1—2, Вільня, 1842) і інш. Выдаў каля 60 тамоў гіст. крыніц, пераважна дзённікаў (Станіслава Аўгуста Панятоўскага і інш.) і перапіскі. Маляваў тыпы бел. сялян, вясковыя пабудовы, пейзажы. Перапісваўся з В.Каратынскім, А.Плугам, А.Ельскім, А.Кіркорам, В.Дуніным-Марцінкевічам.

*Тв.*: Бел. пер. — Хата за вёскай. Мінск, 1989; Рус. пер. — Собр. соч. Кн. 1—52. Петраград, 1915; Графиня Козел; Брюль: романы. Мінск, 1993; Из времен семилетней войны: роман. Минск, 1994.

*Літ.*: Баршчэўскі А. Карціны беларускай рэчаіснасці ў публіцыстыцы Юзафа Ігнацы Крашэўскага // На шляху да праўды: матэрыялы VIII Міжнар. навук. канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці» (Белавежа, 15—17 чэрв. 2000 г.) і «круглага стала» «Ідэя беларускасці і ідэя польскасці на мяжы тысячагоддзяў: да вызначэння паняццяў» (Мінск, 6—7 вер. 2000 г.). Мінск, 2001; Василенко В. Крашевский в Российской империи (1812—1863— 1917). Poznań, 2002; Danek W. Józef Ignacy Kraszewski: zarys biograficzny. Warszawa, 1976. ***Адам Мальдзіс.***

**Крожскі кляштар бенедыкцінак.** Заснаваны ў г. *Крожы* ў 1639 Хрызастомам Валадкевічам, падсудкам земскім жамойцкім. У 1757—63 пабудаваны мураваны касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі па праекце Тамаша *Жаброўскага*, які кіраваў будаўніцтвам да сваёй смерці (1760), пасля чаго будаўнічыя работы ўзначаліў Ян Вільгельм *Фрэзер*. Касцёл — вял. 1-нефавая базіліка. Гал. алтар упрыгожаны скульптурай і лепкай. На гал. фасадзе зроблены 2 вежы, ніжэйшыя за фігурны франтон (яны павінны былі быць высокімі, але іх будаўніцтва не было скончана).

*Літ.*: Zubovas V. Uzupełnienia do biografii Tomasza Żebrowskiego // Biuletyn Historii Sztuki. 1978. № 3; Boberski W. Jan Wilhelm Frezer: architekt wileński trzeciej ćwierci XVIII wieku // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7. Z. 4 (28).



**Крожскі кляштар бенедыкцінак**. Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

**Крожы** (літ. Кражай, Kražiai, цяпер мястэчка ў Кельмескім р-не, Літоўская Рэспубліка), горад у Жамойці, на р. Кражантэ. Упершыню ўпамінаецца (у форме Crase) у лісце Міндоўга 1253 у ліку розных зямельных уладанняў, падараваных ім нямецкім рыцарам, а таксама ў аналагічным акце Міндоўга 1257 (лічыцца фальсіфікатам). З 1410 вядома Крожская валасць. З пач. 15 ст. К. валодалі *Кезгайлы*, таму горад быў гал. адм. цэнтрам Жамойці (мяркуецца, што К. атрымаў ад вял. кн. Вітаўта стараста жамойцкі Кезгайла Валімонтавіч). Пасля смерці Кезгайлы (1449) маёнтак К. перайшоў да яго сына Яна, які падзяліў К. паміж сваімі сынамі Станіславам і Міхалам. Каля 1545 К. сабраў Станіслаў Мікалаевіч Кезгайла, які з 1549 тытулаваўся графам «на Крожах». Пасля згасання роду Кезгайлаў (1554) К. перайшлі да Завішаў і Шэметаў, якія ў 1554 перадалі частку маёнтка Жыгімонту II Аўгусту, а рэшта (у т.л. частка горада К.) перайшла да Станіслава Станіслававіча Шэмета. Сваю частку К. Жыгімонт II Аўгуст у 1559 перадаў у трыманне эмігранту з Англіі герцагу Суфолк за 3676 талераў. Пры вяртанні ў Англію ў 1568 герцаг Суфолк перадаў К. Мікалаю Крыштофу Радзівілу, які атрымаў на іх прывілей ад Жыгімонта II Аўгуста «на вечнасць». З гэтага часу Радзівілы — уладальнікі К. карысталіся тытулам графаў «на Крожах». Хутка пасля заснавання Жамойцкага біскупства ў К. заснаваны касцёл св. Міхала Арханёла (каля 1421, паводле дакументаў вядомы з 1478). У 1607 па запрашэнні жамойцкага біскупа М.Гедройца ў К. асталяваліся езуіты. З 1608 у горадзе працавала езуіцкая місія, у 1615—18 — рэзідэнцыя, з 1618 — калегіум, пад будынак якога быў пераабсталяваны радзівілаўскі замак (гл. *Крожскі езуіцкі калегіум*). Пры калегіуме дзейнічаў тэатр. У 1629 у К. з Варняў пераведзена духоўная семінарыя Жамой-

цкага біскупства (у 1742 зноў пераведзена ў Варні). У 1639 заснаваны *Крожскі кляштар бенедыкцінак*, пры якім у 1763 пабудаваны касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У час *Паўночнай вайны 1655—60* у 1656 К. разбураны шведскімі войскамі. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у 1701—06 К. заняты шведскімі у 1708 — рас. войскамі. У 1758 заснаваны дом марыявітак. У 1780 К. пацярпелі ад пажару. У 1780 кароль польскі і вял. князь літ. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі надаў К. прывілей на 2 таргі ў тыдзень і 3 кірмашы ў год. У 1790 у К. 160 двароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Міндаў, кароль Літовіі, у дакументах і сьведчаньнях / Уклад. А.Жлуткі. Мінск, 2005; B[uczyński] J. Kroże: ich przeszłość i stan obecny. Wilno, 1872; Brensztejn M. Teatr szkolny w Krożach na Żmudzi // Ateneum Wileńskie. 1925. R. 3. Z. 9; Pietkiewicz K. Kieżgajłowie i ich latyfundium do połowy XVI wieku: Ze studiów nad rozwojem własności ziemskiej w Wielkim Księstwie Litewskim w Średniowieczu. Poznań, 1982; Błaszczyk G. Żmudź w XVII i XVIII wieku: zaludnienie i struktura społeczna. Poznań, 1985; Яго ж. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: ustroj. Poznań, 1993; Meilus E. Žemaitijos kunigaikštystės miesteliai XVII amžiaus II pusėje—XVIII amžiuje: (Raida, gyventojai, amatai, prekyba). Vilnius, 1997; Miškinis A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybės. T. 3, kn. 1. Vilnius, 2004.

**Кругер** (Kruger) Андрэй (19.11. 1646, Вартэмборк уВарміі—4.2.1712), дзеяч каталіцкай царквы. Д-р філасофіі, тэалогіі і кананічнага права (1687). У 1666 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1678 ксёндз. Вывучаў філасофію ў Вільні (1671—74), тэалогію ў Браневе (1675—76) і Вільні (1676—79). Праф. рыторыкі ў Браневе (1679—80) і Рэшалі (1680—81), філасофіі ў Нясвіжы (1682—85), Свяшчэннага Пісання і прэфект школы ў Браневе (1685—86), Крожах (1686—87), праф. схаластычнай тэалогіі і Свяшчэннага Пісання ў Вільні (1687—92), схаластычнай тэалогіі і кананічнага права (1692—96), прыдворны місіянер біскупа Яна Станіслава Збомскага (1696—97), праф. кананічнага права ў Вільні (1697—1703), віцэ-канцлер Віленскай акадэміі (1703—12). Падтрымліваў кантакты з навукоўцамі Захаду. Выдаў працу па кананічным праве. «Resolutio canonico-theologica dubiorun quorundam, quae circa suspensionem indulgentiarum» (Вільня, 1700). Захаваліся яго рукапісныя лекцыі па філасофіі і тэалогіі.




А.**Кругер**.

*Літ.*: Piechnik L. Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 3. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**Крупскі** Адам (7.7.1706, ВКЛ—8.3. 1748), дзеяч каталіцкай царквы. У 1723 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Праф. рыторыкі ў Полацку (1736—37), прэфект школы ў Ілукшце (1737—38), праф. філасофіі ў Менску (1739—40) і Крожах (1740—42), пракуратар правінцыі ордэна езуітаў (1742—46), праф. філасофіі ў Навагародку (1746—48). Быў знаўцам права ВКЛ. Аўтар школьнай драмы. Захаваліся яго рукапісныя лекцыі па філасофіі.

*Літ.*: Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Крывіцкі кляштар трынітарыяў.** Пабудаваны ў 1776 у мяст. Крывічы Ашмянскага пав. (цяпер вёска ў Мядзельскім р-не) у стылі позняга барока. Мураваны 1-нефавы храм з невял. прамавугольнай алтарнай апсідай і масіўнай квадратнай у плане 3-яруснай вежай пры ўваходзе. Сцены расчлянёны плоскімі лапаткамі і завершаны развітым прафіляваным карнізам. Чацверыковыя (са зрэзанымі вугламі) ярусы вежы паступова змяншаюцца ўгору. Верхні ярус мае крывалінейны абрыс і накрыты гранёным купалам. Праёмы маюць лучковыя завяршэнні. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем. Інтэр'ер упрыгожаны класіцыстычным архітэктурна-скульптурным алтаром. Да апсіды прымыкае прамавугольны ў плане 2-павярховы мураваны корпус кляштара.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Крыегсейсен** (Kriegseisen) Войцех (н. 8.5.1955, г. Слупск, Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1996), праф. надзвычайны (1998). Скончыў Гіст. ін-т Варшаўскага ун-та (1978), атрымаўшы ступень магістра на аснове працы «Расійскае пасрэдніцтва ў Тарнагродскай канфедэрацыі, 1715—1716». З 1979 вучыўся ў дактарантуры Гіст. ін-та, абараніў доктарскую дысертацыю «Шляхецкае самакіраванне ў Малой Польшчы ў 1669—1717 гадах» (1985). З 1987 працуе ў Ін-це гісторыі Польскай АН (з 2005 кіраўнік Лабараторыі новай гісторыі). На аснове працы «Польскія і літоўскія евангелісты ў саксонскую эпоху (1696—1763): прававая сітуацыя, арганізацыя і міжнародныя сувязі» атрымаў ступень д-ра габілітаванага. З 2000 рэдактар часопіса «Квартальнік гісторычны» («Kwartalnik Historyczny»). Старшыня камісіі гісторыі Адраджэння і рэфармацыі Камітэта гіст. навук Польскай АН, чл. Камісіі параўнальных даследаванняў гісторыі цэркваў, чл. рэдакцыі «Польскага слоўніка біяграфічнага», штогодніка «Адраджэнне і рэфармацыя ў Польшчы», выдавецкай серыі «Старапаль-



Касцёл **Крывіцкага кляштара трынітарыяў**.

скае грамадства». Вывучае новую гісторыю Рэчы Паспалітай, грамадскія, паліт. і рэліг. адносіны ў Польшчы і ВКЛ у 16—18 ст. Даследаваў архіўныя зборы ў Польшчы, Беларусі, Галандыі, Літве, Германіі, Расіі, Швейцарыі. Рэдактар выдання кнігі «Апакаліпсіс» Мікалая Рэя («Apocalypsis», Варшава, 2005).

*Тв.:* Samorząd szlachecki w Małopolsce w latach 1669—1717. Warszawa, 1989; Sejmiki Rzeczypospolitej szlacheckiej w XVII i XVIII wieku. Warszawa, 1991; Zbór ewangelicko-reformowany w Zelowie w latach 1803—1939: zarys dziejów. Warszawa, 1994; Sejm Rzeczypospolitej szlacheckiej (do 1763 roku): geneza i kryzys władzy ustawodawczej. Warszawa, 1995; Ewangelicy polscy i litewscy w epoce saskiej (1696—1763): sytuacja prawna, organizacja i stosunki międzywyznaniowe. Warszawa, 1996.

**крыпта** (лац. crypta ад грэч. kryptē крыты падземны ход, тайнік), у сярэдневяковай заходнеўрапейскай архітэктуры — капліца пад храмам (звычайна пад алтарнай часткай), месца ганаровых пахаванняў. У ВКЛ К. вядомы ў культавых збудаваннях 16—18 ст.: К. пад касцёламі езуітаў і бенедыкцінак у Нясвіжы (фамільныя скляпы князёў Радзівілаў, гл. *Радзівілаўская крыпта*), брыгітак у Гародні, езуітаў у Юравічах, Кейданскім кальвінскім зборы (скляпы Радзівілаў) і інш.

***Тамара Габрусь.***

**Крысціна Эбергардзіна** Гогенцолерн-Байройт (Christiane Eberhardine von Brandenburg-Bayreuth; 29.12.1671, г. Байройт— 5.9.1727), каралева польская і вял. княгіня літ., жонка Аўгуста II. Старэйшая дачка байройцкага маркграфа Хрысціяна Эрнста. У 1693 выдадзена замуж за Фрыдрыха Аўгуста I (з 1694 курфюрст саксонскі, з 1697 кароль польскі і вял. князь літ. пад імем Аўгуст II). У 1696 у пары нарадзілася адзінае агульнае дзіця — будучы кароль польскі і вял. князь літ. Аўгуст III. Перад абраннем Аўгуста II на трон Рэчы Паспалітай Аўгуст II перайшоў з лютэранства ў каталіцтва, чаго К.Э. не пажадала зрабіць, у выніку пара фактычна разлучылася. К.Э. не была каранавана як польская каралева і ніколі ў Рэч Паспалітую не прыязджала, аднак карысталася каралеўскім тытулам.



**Крысціна Эбергардзіна**
Гогенцолерн-Байройт.



**Крыўлянскі замак**.
План.

**Крыўлянскі замак.** Існаваў у 17—пач. 18 ст. каля в. Крыўляны Берасцейскага ваяв. (цяпер у Жабінкаўскім р-не). На правым беразе безымяннай балоцістай ракі захаваліся рэштткі замчышча і земляныя ўмацаванні знешняй лініі абароны — валы, бастыёны, равы. Квадратнае ў плане замчышча займае пл. 10 га. З ПнУ і Пд замак надзейна прыкрывала бастыённая сістэма. Перад магутнымі валамі шырынёй 7—8 м і вышынёй 4 м над пляцоўкай дзяцінца праходзіць абарончы роў. Захаваліся сляды б. ўезду. Замак з З прыкрывалі балоцісты поплаў і рака, пагэтаму штучныя ўмацаванні тут значна слабей. У зах. куце дзяцінца знаходзіцца невял. вадаём, абнесены высокім земляным валам і злучаны спец. равом з ракой. У 1980-я г. замчышча зруйнавана пясчаным кар'ерам. Тут сустракаюцца абломкі цэглы, паліванай кафлі і гліняная посуду.

*Літ.:* Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978. С. 92; Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў: (гісторыя, стан, перспектывы). 2 выд. Мінск, 2005.

**Крычаўскі замак**, цэнтральнае ўмацаванне г. *Крычаў* у 12—18 ст. (традыцыйна для 12—13 ст. называецца дзяцінцам). Знаходзіўся ў цэнтры горада на правым беразе Сажа перад упадзеннем у яго Забялышанскага ручая (сучасная ўзвышанасць Замкавая гара). Меў авальныя абрысы, памеры 100 × 60 м. Быў умацаваны равамі і землянымі валамі, на якіх стаялі драўляныя канструкцыі. Тут знаходзіліся рэзідэнцыі адміністратараў горада і замка, размяшчаўся гарнізон. Пісьмовыя звесткі пра планіроўку і забудову замка Крычава 12 — пач. 17 ст. адсутнічаюць. Археал. раскопкамі ўстаноўлена, што ў 14 ст. вышыня вала дасягала 4,3 м. У 15—16 ст. абарончыя збудаванні К.з. рэканструяваліся двойчы. Спачатку вал з гліны і пяску быў павялічаны да вышыні 5 м, а потым да 6 м. Дакладных звестак пра наземныя абарончыя збудаванні не захавалася, відаць, драўляныя абарончыя сцены былі забіты зямлёй. Магчыма, менавіта



да гэтага часу адносяцца звесткі А.Мера, што калісьці, «да Радзівілаў», сцены замка былі запоўнены дзікім каменем. У 17—18 ст. вал падсыпаўся тройчы, пры гэтым ён дасягнуў у вышыню 7 м і шырыню 15 м. Найб. магутны вал быў насыпаны з напольнага, найб. небяспечнага боку. Па меры набліжэння вала да Сажа яго памеры памяншаліся, а ўздоўж Сажа вал вонкава не прасочваецца. Паводле інвентароў 1673, 1679 і 1682, К.з. быў умацаваны парканам, пакрытым драніцамі. Канструкцыйна паркан уяўляў сабою сцены з гарызантальных бярвенняў, канцы якіх заганяліся ў вертыкальныя стаякі. У бярвеннях праразаліся вокны-байніцы, з якіх вялі агонь па праціўніку. З горада ў замак вёў высокі мост на ізбіцах. Перад уязной вежай-брамай ён меў пад'ёмны пралёт на жалезных ланцугах. Інвентар 1694 паведамляе, што замак меў 5 вежаў, у т.л. адну над брамай. Яна была 2-павярховай, мела падвоеныя дубовыя вароты з навясным замком. Унізе ў браме стаялі «шмыгаўніца», 2 бронзавыя палявыя гарматы. На 2-м паверсе мелася пашкоджаная гармата, 6 мушкетаў і 6 бердышаў. Уваход на 2-і паверх быў зроблены з боку замкавага двара. У сувязі з падзеямі Паўн. вайны 1700—21 інвентар 1709 адзначае, што вежы і ізбіцы напалову разбураны. Але ўжо ў інвентары 1723 у замку адзначаецца «брама новабудаваная, на адным баку якой размешчана кардэгардыя з печчу і комінам, а на другім баку турма». Жылыя памяшканні размяшчаліся на 2-м паверсе. У час Крычаўскага паўстання 1744 паўстанцы не змаглі ўзяць штурмам замак, адкуль вёўся па іх агонь з гармат і інш. агнястрэльнай зброі. Пасля гэтых падзей замкавыя ўмацаванні былі яшчэ больш узмоцнены. Паводле інвентару 1747, усе, хто ехаў у замак з горада, траплялі на новы мост. На яго пачатку стаяла будка фельдвахты, меўся шлагбаум. На сярэдзіне моста быў «узвод» — пад'ёмны мост на 4 жалезных ланцугах і 2 вял. завесах на круках. Далей ішла сістэма з 2 «фортак» — невял. брам, зробленых паміж поручняў. Замкавая брама была з бруса, злева размяшчалася кардэгардыя, справа — турма, верхні паверх займала зала.

Першы захаваны інвентар Крычава, які дае звесткі пра забудову замка, датуецца 1673. Замак у гэты час быў заняты жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. З правага боку ад увахода ў замак стаяў 2-павярховы будынак — дом на «ізбіцах». Яго 1-ы паверх («падізбіцы») быў заняты стайняй для коней. У будынак вёў ганак, крыты драніцамі і абшыты «цясніцамі». Праз двайныя дзверы ўваходзілі ў сені, у правы бок вялі дзверы да «ізбы сталова», з яе былі ўваходы ў 2 каморы, праз адну з іх можна было трапіць у іншы пакой, пасля яшчэ ў адзін, потым у «ізбу вялікую». Побач з гэтым вял. будынкам знаходзіўся склеп-піўнічка. З левага боку ад 2-павярховага будынка стаяла 2-камерная «ізба белая», якая складалася з сяней і ізбы. У адну лінію з гэтым будынкам стаяў другі, які інвентар адзначае як «стары, ападлы». Ён, як і 2-павярховы будынак, меў складаную планіроўку. З ганку, крытага драніцамі, праз дзверы траплялі ў сені, у правым баку месцілася «ізба бела», з левага боку знаходзілася яшчэ адна «ізба бела», з якой быў выхад у 2 каморы. За гэтым будынкам стаяў невял. свіранак з засекамі для збожжа. За ім знаходзіўся вял. свіран, у якім таксама былі засекі для збожжа. Каля свірнаў стаяла невял. стайня, разлічаная на 2 коней. Інвентар 1682 адзначае царкву св. Міколы, размешчаную злева ад увахода ў замак. За ёю называецца зруб на касцёл з круглага дрэва. За ім адзначаецца 2-павярховы будынак, у якім за мінулыя 10 гадоў зроблена невял. перапланіроўка. Каля гэтага будынка, як і раней, была піўніца, а з левага боку ад яе — гаспадарчая пабудова, у якой спалучаліся пякарня, кухня і істопка. Побач з гаспадарчай пабудовай адзначаецца другая «ізба белая». За гэтым будынкам, «пад парканам», як і раней, інвентар адзначае стаенку на 2 коней. Упершыню адзначаны на замкавым двары цэйхгаўза, які быў абмазаны глінаю. Інвентар 1694 з левага боку ад уязной брамы адзначае ізбу «для жаўнераў», у якой ёсць «печ гаспадарская» для прыгатавання ежы. Адзначаецца царква св. Міколы са званіцай, за якой у 2 рады стаялі 7 свірнаў для захоўвання збожжа, і «шопа», дзе стаялі вазы. За свірнамі знаходзіўся цэйхгаўз. Інвентар зафіксаваў наяўнасць на замкавым двары старой, засыпанай зямлёй студні (яе рэшткі зафіксаваны



**Крычаўскі замак**. План.



падчас археал. даследаванняў 1988 у паўд. частцы Замкавай гары). З правага боку ад уязной брамы размяшчалася турма. Недалёка ад яе інвентар адзначае «ўрадніцкі» дом, планіроўка якога ў параўнанні з 1682 не змянілася. Як і раней, за гэтым домам адзначаецца піўніца і старая стаенка для коней, далей — дом «стары з каморай без печы і вакон». За гэтым домам размяшчалася новая 3-камерная кухня, якая складалася з уласна кухні, істопкі «белай», дзе была «печ простых кафлоў», і пякарні, дзе стаяла печ «гаспадарча».

Паўн. вайна 1700—21 нанесла вял. разбурэнні Крычаву і яго замку. Асабліва горад пацярпеў падчас кампаніі 1708—09. Інвентар 1709 адзначае наяўнасць на замку ў больш-менш добрым стане толькі царквы св. Міколы са званіцай і турмы. Астатнія пабудовы — 2 ізбы, спіжаранка, піўніца, кухня — стаялі разбураныя, без вокнаў, дзвярэй і печаў. Інвентар 1720 паказвае, што замак пачаў адраджацца і яго забудова працягвала ранейшыя традыцыі. Адзначаецца наяўнасць у замку царквы, цэйхгаўза, 2 старых будынкаў, якія патрабавалі аднаўлення. Адначасова тут зафіксаваны новыя будынкі. Згадваецца новая кухня, якая складалася з 2 ізб. У адной з іх была пякарня, дзе стаяла печ для выпечкі хлеба, а ў другой была кафляная печ для абагрэву. Каля абарончага вала пабудавана новая істопка з кафлянай печчу. На замкавым двары інвентар адзначае 2 новыя стайні, вазоўню. У той жа час каля вала — старая стаенка і каморка. Нічога не змянілася ў планіроўцы замка праз 3 гады. Перамены фіксуе інвентар 1727. З правага боку ад уязной брамы стаяў стары 3-камерны будынак, які складаўся з сяней і 2 ізб з каморамі, размешчаных з абодвух бакоў сяней. Побач стаяў новы вял. 2-павярховы будынак. На 1-ы паверх вялі «всходы надруйнаваныя», але сам ганак быў у добрым стане. Уваход у памяшканне пачынаўся з сяней, у правым баку ад якіх была «ізба добра дужа». З яе можна было трапіць у другі пакой. З першага пакоя ў левы бок вялі яшчэ адны дзверы ў невял. пакойчык, з яго можна было прайсці ў сені і ў новы пакойчык. У левым баку ад сяней была вял. «ізба сталовая». У гэтай ізбе была невял. камора, «алькоў» — спальня. Справа ад гэтага вял. пакоя размяшчаўся малы «пакоік», з яго можна было трапіць яшчэ ў адзін «пакоік», які пакуль не быў закончаны. На 2-і паверх вяла з замкавага падворка асобная лесвіца — «всходы», але яны былі ў дрэнным стане — «надруйнаваныя». Па лесвіцы траплялі ў невял. сені, адтуль у «залу парадную», у якой стаяла вял. печ з зялёнай кафлі і «ўнутраным камінам». Гэты паверх меў вонкавую галерэю, на якой былі 2 «гардэробы» для «захавання рэчаў». Тут жа, на 2-м паверсе, быў і «ламунк» — лямус, памяшканне для захоўвання рэчаў. Каля гэтага будынка размяшчаліся піўніца і кухня, якія складаліся з 2 «ізб». У першай ізбе з каморай стаяла печ «пякарная» — для пячэння хлеба. У другой — ацяпляльная печ, складзеная са старой кафлі. Каля кухні размяшчаліся 3 спіжарні. Побач з імі стаяў вял. амбар для розных тавараў. Пры ім былі меншыя амбары з засекамі для захоўвання збожжа. Гэтыя амбары былі выведзены на вал. Злева ад амбараў стаялі 2 вял. стайні з каморкамі для сена і розных рэчаў. Пры стайнях былі вазоўні. Інвентар адзначае на замкавым падворку новы лямус — 2-павярховае памяшканне з галерэяй для захоўвання збожжа, адзення і інш. рэчаў. Даволі часта 2-і паверх лямуса выкарыстоўваўся як жылы, але ў крычаўскім, мяркуючы па апісанні, не жылі. Акрамя таго, на замкавым падворку былі 2 свірны і царква св. Мікалая.

Дэталёвую карціну забудовы К.з. дае інвентар 1747. З левага боку ад уязной брамы стаяў будынак, які, як і ўсе жылыя пабудовы, пачынаўся з сяней. Дзверы справа вялі ў ізбу, адкуль можна было трапіць у камору. У сенцах была кухня, з левага боку ад якой была ўладкавана спіжаранка. З правага боку ад гэтага будынка знаходзілася новая «істопка для афіцэраў» — складское памяшканне з печчу з непаліванай кафлі і цагляным комінам. З левага боку ад істопкі стаялі 2 «свіранкі», непадалёк былі 3 невял. стайні, напалову разваліўшыеся. Далей размяшчалася новая вазоўня, побач з ёю размяшчаўся адрамантаваны «шпіхлер» — цэйхгаўз, які замыкаўся на 4 замкі. За цэйхгаўзам знаходзілася кухня, якая мела 3 памяшканні. У першым, у сенцах, была «кухня», зробленая з дрэва і абсыпаная пяском. Ідучы з сяней у левы бок, траплялі ў «ізбу недаканчоную». З правага боку ад сяней размяшчалася «пякарня», у якой стаяла «печ гаспадарча». У 1747 рэзідэнцыя губернатара — дзяржаўцы і лентвойта Крычава — была ўжо 1-павярховай. Як і раней, будынак пачынаўся з ганка, які меў поручні, быў абшыты дошкамі, меў падлогу з дошак. Інвентар адзначае ў ім 4 лаўкі. Праз сені траплялі ў бакавы пакой. Там была камбінаваная печ — ацяпляльная з непаліванай кафлі, да яе прымыкала гаспадарчая печ. Інвентар адзначае на замкавым падворку новыя свіранак, лядоўню, цэйхгаўз, пабудаваны ў выглядзе васьмівугольніка, піўніцу. Забудова К.з. ў сярэдзіне 18 ст. фактычна паўтарала забудову больш ранняга часу. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) і ўваходжанне ўсх. Беларусі ў склад Рас. імперыі К.з. страціў ваеннае значэнне і прыйшоў у заняпад.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў: гіст.-археал. нарыс горада ад старажыт. часоў да канца XVIII ст. Мінск, 2003.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Крычаўскія баі 1651**. Адбыліся ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51* паміж казацкім атрадам палкоўніка І.Шохава і атрадам войска ВКЛ пад камандаваннем Вейса. 16.6.1651 атрад Шохава, прайшоўшы праз тэр. Рас. дзяржавы, захапіў Рослаўль, што садзейнічала актывізацыі паўстанцкага руху ў тыле войска ВКЛ — на Мсціслаўшчыне і Смаленшчыне. Цяжар барацьбы супраць казакоў і паўстанцаў быў ускладзены на апалчэнне мясц. шляхты. Януш *Радзівіл*, войскі якога знаходзіліся каля Рэчыцы, не мог накіраваць значны вайсковы кантынгент на Мсціслаўшчыну, бо ў гэтым выпадку больш небяспечнае войска чарнігаўскага палкоўніка Марціна *Нябабы* магло пераправіцца цераз Дняпро пад Лоевам і рушыць на Беларусь. Казакі ад Рослаўля падышлі да Крычава і ўзялі ў аблогу горад. Гарнізон пад камандаваннем А.Служкі сумесна з мяшча-



намі адбіў каля 7 штурмаў. На дапамогу мсціслаўскай шляхце прыбыў атрад з 300 драгунаў і 600 «пешцаў» пад камандаваннем маёра Вейса. Паводле данясення маскоўскага баярына В.Бутурліна, 4—19.7.1651 паміж шляхецкім войскам і казакамі адбыліся 3 баі. 4 ліп., «на раство Яна Прадцечы», адбылося 1-е сутыкненне пад Крычавам. Яшчэ на маршы драгуны сустрэлі конны атрад колькасцю 500 казакоў. Адбыўся бой, у выніку якога 150 казакоў загінула, астатнія былі рассеяны. Наступным днём атрад Вейса злучыўся «з пагалоўным апалчэннем шляхціцаў Мсціслаўскага ваяводства», харугвамі віцебскай, полацкай, аршанскай, смаленскай і дарагабужскай шляхты агульнай колькасцю каля 500 чал. на чале з мсціслаўскім падсудкам Валовічам. 7—8 ліп., «напярэдадні Пятрова дня», да казакоў падышло падмацаванне з Рослаўля. У выніку боя з 3-тысячным казацка-сял. атрадам шляхецкі бок панёс значныя страты, было забіта ад 200 да 600 чал., загінулі Вейс і камандзір шляхецкага апаўчэння Валовіч, казакі страцілі каля 200 чал. Верагодна, пасля гэтага боя паў- станцы авалодалі Крычавам. 19 ліп., «пасля Пятрова дня на дзесяты дзень», адбыўся яшчэ адзін бой. У лагер Радзівіла пад Рэчыцай былі накіраваны харугвы выбранцаў, якіх казакі перахапілі пад Крычавам. Падчас боя выбранцы перайшлі на бок казакоў, што абумовіла разгром нязначнага шляхецкага атрада. У выніку К.б. войска ВКЛ хаця і панесла значныя страты, аднак здолела стрымаць прасоўванне казакоў у Падняпроўе, тым самым забяспечыўшы магчымасць манеўра асн. сілам Радзівіла пад Лоевам. У 1652 «жыхары Крычава за аказаную імі вернасць» былі вызвалены ад падаткаў на 6 гадоў.

*Літ.*: Л о ч м е л ь И.Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов. М., 1940; Ш у л я к о в с к и й Х.Г. Из истории борьбы белорусского народа с польским панством в XVII веке // Уч. зап. ЛГУ. 1940. Т. 67; А б е ц е д а р с к и й Л.С. Белоруссия и Россия: очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978.

***Сяргей Чаропка.***

**крэдэнс** (ад лац. credo давяраю), вярыцельны ліст, дакумент, які пацвярджае паўнамоцтвы пэўнай службовай асобы. Выдаваўся ў 16—18 ст., у прыватнасці, соймавым паслам і трыбунальскім дэпутатам, абраным на павятовым сойміку, служыў ім дакументам для легітымізацыі на сойме ці трыбунале. Павятовы харужы прызначаў К. павятовых ротмістраў.

*Літ.*: Р а х у б а А. Вялікае Княства Літоўскае ў парламенцкай сістэме Рэчы Паспалітай 1569—1763 гг. Мінск, 2008. С. 142.

**Крэменецкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у сярэдзіне 15—сярэдзіне 16 ст., у Польскім каралеўстве ў 2-й пал. 16—канцы 18 ст. Цэнтр — г. *Крэменец*. У К.п. уваходзілі землі ў верхнім цячэнні рэк Іква, Гарынь, Серэт, Збруч і левабярэжжа верхняга цячэння Случы. Буйнейшымі землеўладальнікамі павета былі князі Збаражскія, якім належалі Збараж, Калодзен, Чарняхоў, Вішнявец, Бакота, Лапушная, вял. зямельныя ўладанні мелі таксама князі Заслаўскія, Астрожскія, Чацвярцінскія, Вішнявецкія. Значнымі населенымі пунктамі К.п. з'яўляліся Сураж, Шумск, Шумбар, Заслаў, Корніца, Пачаеў, Красілаў, Любар. Разам з Уладзімірскім і Луцкім паветамі К.п. у ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 увайшоў у склад *Валынскага ваяводства* ВКЛ. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1791 са складу К.п. вылучаны Надслуцкі пав. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) паўд. частка К.п. ў складзе Аўстрыі. Астатняя тэр. павета далучана да Рас. імперыі ў выніку 2-га (1793, усх. частка) і 3-га (1795) падзелаў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Л ю б а в с к и й М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]. С. 229—235; К р и к у н М. Адміністративно-територіальний устрій Правобережної України в XV—XVIII ст.: кордони воєводств у світлі джерел. Київ, 1993.

**Кудаба** (Kudaba) Чэслаў Францавіч (24.7.1934, мяст. Кабыльнік Віленскага ваяв., цяпер в. Нарач Вілейскага р-на—19.2.1993), географ, гісторык. Д-р геаграфічных навук (1972), праф. (1974). Скончыў Вільнюскі ун-т (1959), дзе пасля выкладаў, у 1964—68 дэкан факультэта прыродазнаўчых навук, 1978—86 заг. кафедры гідралогіі і кліматалогіі, у 1986—90 — кафедры агульнай геаграфіі і картаграфіі. Даследаваў гляцыямарфалогію ледавіковых узвышанасцей Літвы і сумежных краін. Займаўся праблемамі аховы навакольнага асяроддзя, прыродазнаўчым і гіст. краязнаўствам. Адзін з заснавальнікаў і 1-ы старшыня праўлення Літ. фонду культуры (1987—90), старшыня праўлення Адкрытага літ. фонду (1990—93). Дэпутат Літ. найвышэйшай тарыбы (1990—92).

*Тв.*: Па Віліі: падарожныя запісы. Мінск, 1992.

*Літ.*: А н о ш к а Я.І., К а р а б а н а ў А.К., М а ц в е е ў А.В. Праблемы гляцыямарфалогіі Беларуска-Літоўскага памежжа ў навуковых працах Чэслава Кудабы // Літасфера. 2004. № 2; B r o d o w s k i L. Česlovas Kudaba (24 VII 1934— 19 II 1993) // Przegląd Wschodni. 1992/93. T. 2, z. 3(7).

**Кузмін** Фёдар, майстар разьбярнай і сталярнай спраў 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Маскоўскай дзяржаве. Разам з інш. майстрамі — выхадцамі з Беларусі прымаў удзел ва ўстаноўцы іканастаса царквы Данскога манастыра (1683), у вырабе мэблі і хатняга начыння для царскага дома ў Маскве.

**Кулеша** Пётр (каля 1575, г. Вендэн у Інфлянтах—15.4.1641), дзеяч каталіцкай царквы. Вучыўся ў Браневе. У 1593 уступіў у Рызе ў ордэн езуітаў, з 1598 ксёндз. У 1595—98 выкладаў лацінскую мову ў Рызе. Праводзіў актыўную місіянерскую дзейнасць у Інфлянтах, Жамойці, у Беларусі. Місіянер у войску Рэчы Паспалітай у час паходу Карла Зундэрманскага на Інфлянты ў 1601—05. Пасля 1605 жыў у Любліне. У час *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09* інфармаваў караля Жыгімонта III пра падтрымку гетмана Станіслава Жалкеўскага, замагаўся супраць ракашан шляхам казанняў і перагавораў. З 1608 капелан у войску Жалкеўскага, удзельнічаў у аблозе Смаленска ў 1609—11, у розных паліт. місіях, у т.л. ад Жыгімонта III да кіраўнікоў Тушынскага лагера. У 1611—13 жыў у Яраславе. Прыдворны місіянер холм-



скага кашталяна Яна Замойскага. У 1613 выехаў у Інфлянты, дзе арганізаваў езуіцкую рэзідэнцыю ў Вендэне, якой кіраваў да шведскага нападу 1625. Пасля місіянер у войску Аляксандра Гасеўскага, якога намовіў на заснаванне езуіцкай рэзідэнцыі ў Дынабургу (яе суперыёр у 1630—37). Апошнія гады жыцця правёў у Вільні, дзе і памёр.

**Кунас** (Кунос), міфічны князь. У легендзе бел.-літ. летапісаў пра перашых літ. князёў названы сярэднім сынам *Палемона*. Паведамляецца, што ён прыбыў у месца ўпадзення р. Нявяжа ў Нёман і збудаваў там г. Кунасаў. Пасля смерці старэйшага брата *Борка* ён атрымаў у спадчыну яго г. Юрбарк, княжыў ва ўсёй Жамойці. Меў сыноў Кернуса і Гімбута. З павелічэннем насельніцтва ў Жамойці перайшоў р. Святую і збудаваў горад, які ў гонар сына назваў Кернаў. Пасля смерці К. яго сыны падзялілі бацькавы ўладанні: Кернус панаваў у Завілейскай зямлі да латгальскай граніцы і ў Браслаўлі з ваколіцамі да р. Дзвіна, а Гімбут — у Юрбарку, Кунасаве і ва ўсёй Жамойцкай зямлі.

*Літ.*: Улашчык Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Кундзіч** Тадэвуш (25.11.1747, мяст. Крынічын у Жамойці, цяпер Крынчынас Пасвальскага р-на—15.1.1829), дзеяч каталіцкай царквы. Д-р вызваленых навук і філасофіі. Вучыўся ў Гародні, пасля ў Віленскай акадэміі. У 1762 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1773 ксёндз. Праф. граматыкі, геаметрыі і французскай мовы ў шляхецкім канвікце ў Вільні (1768—71), сынтаксіса і французскай мовы ў Віленскай акадэміі (1771—73). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) вывучаў тэалогію ў Вільні, працаваў у астранамічнай абсерваторыі (1773—77), віцэпрафесар, праф. матэматыкі (1777—1802), цывільнай і ваеннай архітэктуры (1786—87), генеральны візітатар школ Адукацыйнай камісіі ў ВКЛ (1794), прэфект вучыцельскай семінарыі ў Вільні (1803—07). У 1803 цэнзар кніг. Візітаваў школы Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. З 1796 канцлер Віленскага біскупства, з 1808 біскуп-суфраган троцкі і канонік віленскага капітула, з 1816 біскуп-суфраган віленскі (тытулярны біскуп анастасіяпалітанскі). У 1810—12 кіраваў Віленскім біскупствам ад імя адсутнага біскупа Гераніма Страйноўскага. Пасля смерці апошняга (1815) адміністратарам біскупства прызначаны мітрапаліт Станіслаў Сестранцэвіч-Богуш, але фактычна ёю кіраваў К. як генеральны вікарый (да 1821). У 1802—28 выйшла некалькі выданняў яго французскай граматыкі.

**кунтушовыя паясы**, агульная назва шырокіх доўгіх шаўковых паясоў усх. паходжання або вытканых на бел., польскай, рас. персіярнях па ўзору ўсх. (найперш персідскіх і турэцкіх), якія насілі паверх *кунтуша*. У 17—18 ст. былі абавязковай часткай мужчынскага арыстакратычнага касцюма Рэчы Паспалітай, а таксама своеасаблівым знакам годнасці, высакароднага старадаўняга паходжання, высокага сац. і маёмаснага становішча. Па кампазіцыйнай структуры складаюцца з 2 роўнавял. канцоў (галоў) і сярэдніка, па перыметры акантаваных шлячком. Дэкор галавы пояса ўтвараецца паўторам (звычайна двукратным, на ўсх. паясах да 8 паўтораў) буйнога расліна-кветкавага матыву, арнаментацыя сярэдніка пераважна геаметрызаваная, у папярочныя палосы, гладкія ці затканыя раслінна-геаметрычным арнаментам, шлячка — у выглядзе кветкавай гірлянды ці расліннага бегунка. Дэкаратыўнае вырашэнне К.п. было абумоўлена манерай іх нашэння: прадольна складзены папалам (радзей на 3 часткі) пояс абвівалі вакол таліі некалькі разоў, канцы перакладвалі праз сярэднік і распраўлялі спераду на некаторай адлегласці адзін ад другога. У залежнасці ад тэхналагічных асаблівасцей ткацтва К.п. бываюць 1- і 2-баковымі, ад ніцянога складу — простымі (вытканымі толькі з шаўковых ніцак), літымі (з шоўку, залатых ці сярэбраных ніцак) і паўлітымі (з шоўку, залатых ці сярэбраных ніцак, уведзеных або ва ўзоры арнаментаў, або ў гладкі




Да арт. **Кунтушовыя паясы**: 1 – слуцкі, 1760–пач. 1770-х г.; 2 – слуцкі, 1760-я г.; 3 – персідскі,18 ст.; 4 – гарадзенскі, 1768–95; 5 – слуцкі, канец 1770-х г.–1807; 6 – сакалоўскі, 1780-я г.



Да арт. **Кунтушовыя паясы**. Кунтуш са слуцкім поясам. 1770—90-я г.

фон), ад каларыстычнага рашэння — 2-вонкавымі (калі прадольныя паловы аднабаковага пояса ці кожны з бакоў 2-баковага пояса адрозніваюцца па колеры) або 4-вонкавымі (кожная з прадольных палоў 2-баковага пояса мае свой колер). К.п. могуць мець махры, прышытыя да канцоў ці ўтвораныя ніцямі асновы пояса.

У 17—1-й пал. 18 ст. К.п. прывозілі з Персіі і Асманскай імперыі, пераважна праз Галіцыю. Буйнейшае прадпрыемства, якое спецыялізавалася на іх імпарце, — гандлёвы дом армян Нікаровічаў у Львове. З 2-й трэці 18 ст. выраб К.п. наладжваецца ў Рэчы Паспалітай ва ўладаннях магнацкіх родаў Патоцкіх, Радзівілаў, Агінскіх, Сапегаў і інш. Першая вядомая персіярня дзейнічала ў Станіславе (цяпер Івана-Франкоўск, Украіна) у 1740—70-я г. пад кіраўніцтвам армяніна Дамініка Місяровіча. Самае славутае прадпрыемства па вытворчасці К.п. — радзівілаўская *Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў*, што дзейнічала з канца 1730-х г. да 1846. Яе росквіт прыпадае на перыяд ад 1760-х г. да 1807, калі прадпрыемства ўзначальвалі армяне бацька і сын Ян і Лявон *Маджарскія*. Іншыя мануфактуры па вырабе К.п.: каралеўская ў Гародне (1768—95, гл. *Гарадзенскія паясы*), Антонія Тызенгаўза ў Паставах (1760-я г.), Аляксандра Сапегі ў Ружанах (з канца 1770-х г. да 1780-х г.), Міхала Казіміра *Агінскага* ў Слоніме (1780-я г.), Міхала Клеафаса *Агінскага* ў Сакалове (1780-я г.), Пасхаліса Якубовіча ў Ліпкаве каля Варшавы (1787—94) і інш. З 1795 вытворчасць К.п. паступова прыйшла ў занялад і да сярэдзіны 19 ст. спынілася. У 19 ст. К.п. нярэдка выкарыстоўвалі для пашыву *арнатаў*. К.п. і іх фрагменты захоўваюцца ў музеях Беларусі (самыя значныя калекцыі ў Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі, Нац. мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь), Польшчы, Украіны, Літвы, Расіі.

*Літ.*: Слуцкія паясы: альбом-кат. выставы 29 вер. 2005—31 студз. 2006 / Уклад. І.Зварыка. Мінск, 2008; Chruszczyńska J. Pasy kontuszowe z polskich manufaktur i pracowni w zbiorach Muzeum Narodowego w Warszawie. Warszawa, 1995; Martinaitienė G.M. Kontušo juostos Lietuvoje. Vilnius, 2007.

***Ірына Скварцова.***



Да арт. **Кунтушовыя паясы**. Кунтуш з ліпкаўскім поясам. 1787—94.

**Купішкі** (літ. Kupiškis, цяпер горад, цэнтр Купішкскага р-на, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Вількамірскім пав., на рэках Левуо і Купа. Паселішча вядома з 1480, з 1529 мястэчка. Было цэнтрам воласці. У 1616 смаленскі ваявода Аляксандр Гасеўскі фундаваў драўляны касцёл св. Мікалая. У 1636 фундуш павялічыў кароль польскі і вял. князь літ. Уладзіслаў IV. Мястэчка было дзярж. уласнасцю, цэнтрам нягродавага старасства, якое аддавалася ў трыманне магнатам. З 1657 мястэчка трымалі Тызенгаўзы, з 1771 — Чартарыйскія. У 1781 упамінаецца парафіяльная школа. Мястэчка пацярпела ад пажару 1791. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

**Купішкіс** (Kupiškis), горад у Літоўскай Рэспубліцы, гл. *Купішкі*.

**курань**, на ўкраінскіх землях просты, прымітыўны будынак, будан; у некаторых раёнах — жылая хата ў сельскай мясцовасці; у Запарожскай Сечы адначасова воінская адзінка і жылое памяшканне, у якім яна размяшчалася. Тэрмін запазычаны з цюркскіх моў, у чагскай азначае «натоўп; племя; загон вавароў», ва уйгурскай — «абоз». Магчыма, ужо з моманту свайго заснавання ў 2-й пал. 16 ст. Запарожская Сеч падзялялася на 38 К. Як жылое памяшканне К. уяўляў сабой сплецены з галля будан з накінутымі зверху конскімі скурамі. Кожны К. сумесна выступаў у вайсковых прадпрыемствах і вёў агульную гаспадарку. Куранныя атаманы карысталіся значнай уладай над казакамі свайго К.; яны кантралявалі яго склад, назіралі за службай казакоў. Менавіта да куранного атамана павінны былі звяртацца ізноў прыбыўшыя ў Сеч. Склад першапачатковай Запарожскай Сечы ў большай частцы быў сфарміраваны выхадцамі з тэр. ВКЛ — з укр. зямель, якія ўваходзілі ў яе склад. Аб гэтым сведчаць і назвы К.: Карсунскі, Канеўскі, Уманскі, Палтаўскі. Але і пазней К. Сечы ў значнай ступені папаўняліся выхадцамі з тэр. ВКЛ (бел. зямель).

***Сцяпан Цемушаў.***

**Курапатніцкі** (Kuropatnicki) Эварыст Анджэй (26.10.1734, в. Абровец



каля Хрубяшова, Польшча — 21.2. 1788), геральдык, географ, бібліяфіл. Паходзіў з зах.-ўкр. сенатарскага роду. Быў звязаны з «Фамілія́й» Чартарыйскіх. У 1764 пасол на канвакацыйны сойм. Кашталян бужскі ў 1764—66, белзскі ў 1766—81. Быў прыхільнікам *Барскай канфедэрацыі*. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) прапанаваў каралю польскаму і вял. князю літ. Станіславу Аўгусту Панятоўскаму план арганізацыі паўстання на захопленых Аўстрыяй землях. Пасля прымірыўся з аўстрыйскай уладай, атрымаў ад імператрыцы Марыі Тэрэзіі графскі тытул (1781). Стварыў у сваёй сядзібе ў Тарноўцы (Галіцыя) мясцовы культ. цэнтр. Сабраў больш за 60 тамоў рукапісных матэрыялаў, дзе было шмат паліт. помнікаў часоў праўлення Панятоўскага і Барскай канфедэрацыі. Меў спісы хронік Дзежвы і Вінцэнта Кадлубака. Выдаў вял. геральдычна-генеалагічны кампендыум «Паведамленне пра клейнод шляхецкі і аб гербах дамоў шляхецкіх у Кароне Польскай і Вялікім княстве Літоўскім, таксама ў прылеглых правінцыях, з кніг Папроцкага, Акольскага, Патоцкага, Рачынскага, Нясецкага, Дунчэўскага, Хмялёўскага, а таксама з акта элекцыі караля... Станіслава Аўгуста, з актаў канфедэрацыі, ... таксама з канстытуцый і іншых соймаў у час цяперашняга панавання праведзеных» («Wiadomość o kleynocie szlacheckim, oraz herbach domów szlacheckich w Koronie Polskiey, i Wielkim Xięstwie Litewskim, tudzież w przyległych Prowincyach z Ksiąg Paprockiego, Okolskiego, Potockiego, Rzączyńskiego, Niesieckiego, Dunczewskiego, Chmielowskiego, oraz z Aktu Elekcyi Króla ... Stanisława Augusta, jako też z Aktów Konfederacyi, ... tudzież z Konstytucyi i innych Seymów za teraźnieyszego panowania odprawionych», ч. 1—4, Варшава, 1789). Выдаў геаграфічны нарыс зямель Рэчы Паспалітай, якія захапіла Аўстрыя: «Геаграфія, альбо Дакладнае апісанне каралеўстваў Галіцыі і Ладамірыі» («Geografia albo dokładne opisanie królestw Galicji i Lodomerii», 1786; 2-е выд. 1858). Быў абраны ганаровым чл. Кракаўскай акадэміі (1782).

*Літ.*: Garbacik J. Ostaini kasztelan biecki i jego siedziba w Tarnowcu // Studia z dziejów Jarosławia i powiatu jarosławskiego. Kraków, 1964.

**Кураш** Станіслаў (1580-я г.—1646), палітычны і гаспадарчы дзеяч ВКЛ. Паходзіў з шляхецкага роду герба «Равіч» з Сандамірскага ваяв. Скончыў Ракаўскую акадэмію. Служыў у кн. Габара Баторыя ў Трансільваніі. З 1620-х г. сакратар Крыштофа *Радзівіла*, выконваў яго адказныя даручэнні на соймах і сойміках Рэчы Паспалітай і за мяжой. Па загаду патрона інтрыгаваў супраць караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта III Вазы, вёў перагаворы з віленскім біскупам Астафіем Валовічам, слуцкім і капыльскім плябанамі. У 1633 разам з Радзівілам удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. У 1621—35 як староста кіраваў радзівілаўскім маёнткам з цэнтрам у Орлі каля Бельска. Дамогся для Орлі ў 1634 магдэбургскага права. Пасля атрымаў ад Радзівіла ў пажыццёвае валоданне фальварак Беласточак як узнагароду за службу. У 1630 ажаніўся ў 2-і раз з Ядвігай Грэкаўнай (на вяселле напісаў верш Станіслаў *Набароўскі*), жыў у маёнтку цесця Дабрынь каля Берасця. Належаў да гарлівых прыхільнікаў арыянства, удзельнічаў у арыянскіх сінодах. Сын К. Грацыян вучыўся ў Ракаўскай акадэміі, напісаў твор пра дысцыпліну ў арыянскіх зборах, у 1640-х г. міністр у арыянскім зборы ў Кейданах.

*Літ.*: T a z b i r J. Arianie w Białymstoku i okolicach // Studia i materiały do dziejów miasta Białegostoku. Białystok, 1968. S. 87—89; A u g u s t y n i a k U. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640): mechanizmy patronatu. Warszawa, 2001; G a j d k a K. Nowe przyczynki do biografii Stanisława Kurosza, siedemnastowiecznego starosty Orli // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2005. Z. 23.

**Курніцкая Бібліятэка Польскай акадэміі навук** (Biblioteka Kórnicka Polskiej Akademii Nauk). Пачала фарміравацца Тытусам *Дзялынскім* (1796—1861) у маёнтку Канажэва ў 1815— 16, а потым пашыралася яго пераемнікамі пераважна той жа фаміліі. У 1924—26 арганізавана Курніцкая б-ка на аснове вылучанага для яе фундуша ў замку Курнік непадалёку ад Познані. З 1953 у складзе Польскай АН. Помнікі духоўнай культуры Беларусі сустракаюцца ў б-цы ў зборах нясвіжскага бібліятэкара Каэтана Кваткоўскага (1770—1852). Інтарэс уяўляюць таксама рукапісы і фрагменты кодэксаў з кніжных калекцый Радзівілаў, пачынаючы з 16 ст., прававыя акты і Статуты ВКЛ (Кодэкс Дзялынскага), соймавыя акты і дыярыушы 1620-х г., дыярыуш вайны са Швецыяй 1621—23, прамовы, трактаты, маніфесты, апісанні падарожжаў, «silva rerum»; зборы Тадэвуша Чацкага (1765—1813), у т.л. Статут ВКЛ; зборы Ігнацыя Палкоўскага (1833—88), у т.л. матэрыялы аб дзейнасці паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі на землях ВКЛ; Мікалая Маліноўскага (1799—1865), у прыватнасці, рэестр Нясвіжскай б-кі 1651; матэрыялы па гісторыі піяраў ВКЛ, інш. манаскіх ордэнаў. У фондах б-кі захоўваюцца сямейныя (родавыя) архівы княжацкіх і шляхецкіх фамілій — Чартарыйскіх, Абуховічаў (навагародскіх), Радзівілаў, разнастайная паліт. і службовая карэспандэнцыя, літ. матэрыялы 16—18 ст. Сярод пісьмовай спадчыны розных асоб ёсць матэрыялы даследчыкаў, якія займаліся гісторыяй Беларусі, Літвы, ВКЛ, выяўлялі і публікавалі стараж. дакументы і наратыўныя помнікі. У зборах вядомага археографа Мацея Догеля (1715—60) захаваліся матэрыялы па гісторыі уній ВКЛ з Польшчай да неапублікаваных тамоў яго серыйнага выдання «Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae». Цікавыя эпісталярныя, актавыя і інш. матэрыялы звязаны з дзейнасцю Тадэвуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча, Мікалая Маліноўскага. Багаты збор унікальных старадрукаў, у т.л. вельмі рэдкае апісанне Аршанскай бітвы ў брашуры Анджэя Кшыцкага «Andreae Cricii nomine Barbarae reginae ad Sigismundum Moscorum in Alba Russia victorem epistola» (Рым, 1515); Берасцейская Біблія 1563 (варыянт А з ксілаграфічнай рамкай на тытульным аркушы і выявамі на біблейскія тэмы); Нясвіжская Біблія 1572; Статут ВКЛ 1588 (Вільня, друкарня Мамонічаў, варыянты А і В паводле вызначэння К.Пякарскага); твор Марціна Барлетыуса, прысвечаны апісанню гераічнай барацьбы Скандэрбега супраць турак — «Historia de

vita et rebus gestis Scandenbergi Kpirotarum principis» (Берасце, Цыпрыян Базылік, 1569); знакаміты паліт. твор Анджэя Фрыча-Маджэўскага «Аб удасканаленні дзяржавы» ў перакладзе Базыліка: «Commentarii de Republica emendanda Liber I—III» (Лоск, Ян Карцан, 1579) і інш.

*Літ.*: Katalog Bibljoteki Kórnickiej. T. 1, [cz. 1]. Polonica XVI-go wieku / Zest. K.Piekarski. [Kórnik], 1929; Inwentarz rękopisów Biblioteki Kórnickiej. Z. 1—6. Kórnik, 1930—2001; Zathey J. Katalog rękopisów średniowiecznych Biblioteki Kórnickiej. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1963; Katalog starych druków Biblioteki Kórnickiej. T. 1, cz 2. Polonika XVI w. / Oprac. P.Buchwald-Pelcowa. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1969; Katalog rękopisów staropolskich Biblioteki Kórnickiej XVI—XVIII w. T. 1—5. Wrocław etc., 1971—92; Katalog korespondencji Działyńskich, Zamoyskich i rodzin spokrewnionych ze zbiorów Biblioteki Kórnickiej XVII—XX w. Wrocław etc., 1972; Puckalanka U., Rzepa Z. Katalog rękopisów geograficznych w zbiorach Poznania i Kórnika. Warszawa, 1972; Kosmanowie B. i M. Tytus Działyński i jego dzieło: 150 lat Biblioteki Kórnickiej. Wrocław, 1978; Kosman M. Z dziejów Biblioteki Kórnickiej. Wrocław etc., 1984; Katalog archiwum bibliotecznego Biblioteki Kórnickiej z czasów Zygmunta Celichowskiego, 1869—1923 / Oprac. S.K.Potocki. Wrocław, 1979; Jabłońska E. Biblioteka Kórnicką skarbnica zbiorów Działyńskich i Zamoyskich: ocena stanu zachowania starodruków i rękopisów z XIX/XX wieku: problemy konserwacji i restauracji. Torun, 2005; Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008.

***Георгій Галенчанка.***

**куршы** (курони; латыш. kurši; літ. kursiai; эст. kuralased; пол. kurowie, kuronowie; ням. kuren), племя, якое належала да заходніх балтаў. Па мове і атрапалагічных рысах былі блізкія да прусаў. Думка наконт фіна-угорскага паходжання К., якой прытрымліваліся некаторыя гісторыкі 2-й пал. 18—19 ст., пасля даследаванняў латышскага мовазнаўцы Я.Эндзеліна, была адкінута. Займалі тэр. на ўсх. узбярэжжы Балтыйскага мора прыблізна да р. Вента і Абава на У, на Пн трохі не дасягалі Рыжскага заліва, на Пд амаль даходзілі да нізоўяў Нёмана. Упершыню ўзгадваюцца ў пісьмовых крыніцах 9 ст. Пад імем «корсь» вядомы ў «Аповесці мінулых гадоў», дзе адзначана, што яны плацяць даніну Русі. У 7—10 ст. упарта змагаліся са скандынавамі, якія рабавалі і накладалі даніну на землі К., а таксама здзяйснялі іх каланізацыю. Аб апошнім сведчыць існаванне ў 9—11 ст. скандынаўскіх гарадзішча і могільніка Гробіня. З 9 ст. К. самі перайшлі да рабаўніцкіх нападаў. «Жыціе святога Ансгарыя» (9 ст.) адзначае, што ў пач. 9 ст. К. вызваліліся ад часовай залежнасці ад шведаў, а ў 854 разбілі датчан. Пазней К. на сваіх караблях рабавалі прыбярэжныя тэр. Швецыі і Даніі. У 12 ст. ў Даніі існавала малітва: «Божа, уратуй нас ад куршаў!». У гэты час адзначаецца разлажэнне родавых адносін, рост маёмаснай няроўнасці і паступовае вылучэнне асоб, якія займаліся вайсковым кіраўніцтвам. Па сведчанні Саксона Граматыка, К. выбіралі «каралёў» — правадыроў ваенных паходаў. Некаторыя з іх вядомы па імёнах, напрыклад, Лакер і Дорна. Лічыцца, што па ўзроўні грамадска-паліт. і эканам. развіцця К. апераджалі інш. балцкія плямёны. Пакальнікам гэтага з'яўляецца не толькі ваенная актыўнасць К., але і прасочваемыя па археал. дадзеных гандлёвыя сувязі са Скандынавіяй, Готландам і інш. рэгіёнамі. Аднак у пач. 13 ст. К. сутыкнуліся з нямецкімі рыцарамі-крыжакамі, якія пасля працяглай барацьбы (1210—67) здолелі іх падпарадкаваць. На тэр. К. нямецкія рыцары будавалі замкі. Найлепш даследаваным з'яўляецца каменны біскупскі замак у г. Пілтэн, пабудаваны на беразе р. Вента на мяжы 13—14 ст. Да 2-й пал. 16 ст. ён з'яўляўся сталіцай Курляндскага біскупства. Частка К. добраахвотна перайшла пад уладу Ордэна мечаносцаў і прыняла хрысціянства. Гэта ілюструе змена пахавальнага абраду (крэмацыя змянілася на трупапалажэнне), што адбывалася з 1-й пал. 13 ст. на частцы хрысціянізаванай тэр. К. Перш за ўсё гэта датычыцца зямлі Урэдакуронія (Vredecuronia). Згодна з дамовамі 1230 і 1231 К. на гэтай тэр. згадзіліся хрысціцца і прыняць святароў з Рыгі. Племянная знаць К. атрымлівала ад кіраўніцтва Ордэна землі ў якасці лена. З гэтым паданнем звязана з'яўленне т.зв. «куршскіх каралёў». Найб. стараж. ленная грамата «куршскіх каралёў» была дадзена Тантэгодзе магістрам Ордэна Герхардам з Ёке 6.5.1320 «Куршскія каралі», як верныя васалы, удзельнічалі ў войнах Ордэна з ВКЛ. Падчас войнаў яны служылі ў лёгкай кавалерыі, у мірны час ахоўвалі гандляроў і вандроўнікаў на лівонскіх дарогах і перавозілі пошту. Свае правы на землі «куршскія каралі» захоўвалі да 20 ст. Пасля 1422 значная частка зямель К. адышла да ВКЛ. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82*, пасля скасавання Лівонскага ордэна на б. землях К. і земгалаў у 1561 створана *Курляндскае і Земгальскае герцагства*. Яго сталіца нядоўга знаходзілася на тэрыторыі К. у Кулдзіге (Голдзінгене), пасля трывала замацавалася ў Елгаве (Мітаве) на тэр. земгалаў. Асн. заняткамі К. былі земляробства і жывёлагадоўля, акрамя таго, яны займаліся паляваннем і рыбалоўствам. Да канца 16 ст. адносяцца апошнія згадкі аб К. у крыніцах. Апошнія носьбіты куршскай мовы памерлі да сярэдзіны 17 ст. Паступова на працягу 10—15 ст. К. асімілявалі частку прыбалтыйскіх фінаў — ліваў. Аднак потым К. цалкам зліліся з латгаламі і земгаламі, часткова з літоўцамі, тым самым, яны прынялі ўдзел у этнагенезе і латышоў, і літоў- цаў. Памяць аб К. захавалася ў геаграфічных назвах Куршскай касы і Куршскага заліва адпаведна ў сучасных Літве і Калінінградскай вобл. Расіі.

*Літ.*: Моора Х.А. Вопросы этногенеза народов советской Прибалтики по данным археологии // Краткие сообщения Ин-та этнографии АН СССР. М., 1950. Вып. 12; Мугуревич Э. Некоторые вопросы этнической истории Курзуме в X—XV вв. // Взаимосвязи балов и прибалтийских финнов. Рига, 1970; Таутавичюс А.З. Балтские племена на территории Литвы в I тысячелетии н.э. // Из древнейшей истории балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980; Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987; Балты, славяне, прибалтийские финны: этногенетич. процессы. Рига, 1990; Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 г. М., 2005.

***Сцяпан Цемушаў.***

**Кухальскі** Андрэй (1767?, Паставы—?), танцоўшчык. Прыгонны надворнага падскарбія ВКЛ Антонія *Тызенгаўза*. Вучыўся ў яго балетных шко-



лах у Гародні і Паставах. У жн. 1778 удзельнічаў як саліст у школьным спектаклі «Вясковы балет» Г.Петынеці на сцэне Гародзенскага тэатра. У 1785—90 у складзе трупы «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці» ў Варшаве. Выступаў на каралеўскіх сцэнах (у т.л. ў замку ў балеце «Лукас і Калінета», 1785) і ў Нац. тэатры.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Куцеінская школа гравюры**, мастацкая школа ў беларускай графіцы 17 ст. (1630—54). Працягвала традыцыі *Віленскай школы гравюры.* Гал. ролю ў яе фарміраванні адыграў Спірыдон *Собаль,* развіццё звязана з дзейнасцю друкароў *Куцеінскай друкарні.* Развівалася кніжная гравюра (дрэварыт), стылістычна блізкая да традыцый бел. нар. мастацтва. Выданні мелі дэкарацыйныя тытульныя лісты, дзе часта змяшчаліся выявы людзей, былі багата ўпрыгожаны застаўкамі, канцоўкамі, ініцыяламі з выявамі птушак, звяроў, чалавечых фігур, а таксама ілюстрацыямі, гербамі, выкарыстоўваўся літы наборны арнамент. У тонка выкананых малюнках прыкметны ўплыў мясц. флоры і фауны. Характэрная асаблівасць школы — свецкі, жанравы характар адлюстраваных сцэн. Найб. яскрава рысы К.ш.г. выявіліся ў выдадзеных Собалем кнігах «Брашна духоўнае» (1630), «Буквар» (1631), «Часлоў» (1632), а таксама кнігах «Дзідаскалія...» Сільвестра Косава, «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» (абедзве 1637), «Брашна духоўнае» (1639), «Трэфалагіё» (1647), «Дыоптра» (1651), «Новы запавет» (1652), «Лексікон славенарускі» Памвы Бярынды (1653) і інш. Выразнасцю кампазіцыі вызначаецца змешчаная ў «Буквары» выява Багародзіцы з целам Хрыста на каленях, ажурным літым арнаментам — тытульны ліст. Адметнай з'явай мастацтва бел. кнігі 17 ст. з'яўляюцца арыгінальныя цыклы ілюстрацый на евангельскія тэмы ў «Брашне духоўным» (1639) і «Трэфалагіёне». Кампазіцыйным майстэрствам вылучаецца тытульны ліст «Брашна...» з паяснымі выявамі евангелістаў, Багародзіцы, Іаана Прадцечы, мініяцюрнай гравюрай «Богаяўленне»; велічны вобраз цара-воіна створаны ў гравюры «Цар Давід». Высокім мастацкім узроўнем вызначаецца цыкл ксілаграфій да «Трэфалагіёна» («Богаяўленне», «Нараджэнне Хрыста», «Праабражэнне», «Вадохрышча», «Унебаўзяцце Багародзіцы» і інш.), дзе паказаны жанравыя шматфігурныя сцэны з востра індывідуалізаваным простанар. тыпажом персанажаў. Арыгінальнасць трактоўкі, майстэрская перадача індывідуальнай непаўторнасці ўласціва гравюрам з выявамі святых («Міхаіл Архангел», «Іаан Златавуст», «Васіль Вялікі», «Рыгор Багаслоў», «Юрый Пераможац» і інш.). Традыцыі К.ш.г. прадаўжала *Магілёўская школа гравюры.*

***Віктар Шматаў.***

**Кучынскі** (Kuczyński) Стафан Марыя (21.9.1904, г. Багуслаў, Украіна—30.3.1985), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1937), праф. звычайны (1954). Скончыў Варшаўскі ун-т (1926). Выкладаў ва ун-тах Варшавы, Кракава, Вроцлава, Лодзі, Катавіц. Даследаваў ваенную і паліт. гісторыю сярэдневякоўя Усх. Еўропы, гал. чынам ВКЛ, яго ўзаемадачыненні з Маскоўскай дзяржавай, Тэўтонскім ордэнам, Грунвальдскую бітву 1410. Аўтар біяграфій Ягайлы, князёў ВКЛ у «Польскім слоўніку біяграфічным». Пісаў гіст. аповесці.

*Тв.*: Sine wody: (Rzecz o wyprawie Olgierdowej 1362 r.) // Księga ku czci O.Haleckiego. Warszawa, 1935; Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Studia z dziejów Europy wschodniej X—XVII w. Warszawa, 1965; Władysław Jagiełło, 1350—1434. Warszawa, 1971; Spór o Grunwald: rozprawy polemiczne. Warszawa, 1972; Król Jagiełło, ok. 1351—1434. Warszawa, 1985 (2 wyd. 1987); Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. 5 wyd. Warszawa, 1987; Bitwa pod Grunwaldem. Katowice, 1987.

*Літ.*: Dubicki T., Kuczyński K.A. Profesor Stefan Maria Kuczyński (1904—1985) // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. Wrocław etc., 1988. T. 30 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**кушнерства**, рамяство па вырабе аўчын і шкурак пушных звяроў для пашыву вопраткі і футравых рэчаў. На бел. землях было шырока распаўсюджана з часоў Кіеўскай Русі. Наяўнасць у ВКЛ шматлікіх пушных звяроў — бабра, лісы, куніцы, тхара, гарнастая, мядзведзя, воўка, вавёркі, зайца, рысі, а таксама гадаванне авечак спрыялі росквіту ў краіне К. У пісьмовых крыніцах ВКЛ слова «кушнер» (раменік, які займаецца К.) упершыню згадваецца ў 1486, паходзіць ад сярэдневерхненямецкага kursenaere праз польскае пасрэдніцтва (kusznierz). Тэхналогія апрацоўкі шкурак была шматступеньчатай і ўключала адмочванне, мяздрэнне, квашэнне, мякчэнне. Спачатку шкуры адмочвалі ў вадзе, пасля мездравалі — ачышчалі ад мяздры на спец. калодзе з дапамогай скоблі (струга). Ачышчаную шкуру прасушвалі і заквашвалі ў кіслым растворы жытняй або аўсянай мукі з соллю, што размякчала скуру і засцерагала яе ад гніення. Паводле этнаграфічных дадзеных, вядомы 2 спосабы квашання: шкуру акуналі ў чан з квасам або намазвалі яе ніжнюю паверхню кіслым цестам. Мякчэнне адбывалася з дапамогай спец. інструмента — «крука», «ключа». У гар. кушнерскім рамястве існавала вял. спецыялізацыя. Частка кушняроў выраблял казіныя скуры і аўчыны (аўчыннікі, мілатары, кажушнікі, *баўтушнікі*). Некаторыя займаліся выдзелкай вавёркавых шкурак (адносна танных), іншыя — дарагіх футраў собаля, лісы, куніцы, гарнастая, норкі, мядзведзя, рысі). Магілёўскія шубнікі ў 2-й пал. 16 ст. падзяляліся паводле відаў футра (вавёркавае, сабалінае, кунічнае, гарнастаевае і інш.), а таксама паводле відаў асобных частак футра. Былі шубнікі, што шылі шубы «хребтовые», «лапчатые», «черевьи», «хвостовые», з «пупков». Такая дробная спецыялізацыя сведчыць пра развітую таварную вытворчасць К. Сваю прадукцыю магілёўскія кушняры ў 16 ст. прадавалі ў Вільні, Любліне. У 18 ст. працавалі раменікі, якія спецыялізаваліся на афарбоўцы футра. У гарадах кушняры аб'ядноўваліся ў рамесныя цэхі, часам з гарбарамі, шаўцамі, шапачнікамі і інш. Кушнерскія цэхі (або аб'яднаныя цэхі, у якія ўваходзілі кушняры) існавалі ў шматлікіх гарадах ВКЛ. У Вільні з 1458 існавала мядовае брацтва кушнераў, якое заснавалі 2 кушняры — Клім і Якуб; у 1538 яно атрымала пацвярджэнне статута ад Жыгімонта I Старога. Рамесны цэх кушня-



роў створаны ў Вільні ў 1669. Такія ж цэхі існавалі ў Магілёве (вядомы з 1577), Берасці (1579), Слуцку (канец 16 ст.), Полацку (1601), Менску (1647), Шклове (1-я пал. 17 ст.), Міры (1693), Нясвіжы (1703), Клецку (1760) і інш.

*Літ.*: Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Минск, 1966; Мелешко В.И. Могилев в XVI—середине XVII в. Минск, 1988; Гарбачык М.Р. Аб адной лексіка-семантычнай групе слоў старабеларускай мовы, звязаных з апрацоўкай скуры і вырабам з яе // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1992. № 1.

**Кшыцкі** (Krzycki) Анджэй (лац. форма прозвішча Cricius; 7.7.1482, г. Кшыцк, Вял. Польшча—10.5.1537), дзеяч каталіцкай царквы, паэт. Вучыўся ў Кракаве, Балонскім ун-це, дзе атрымаў выдатную гуманістычную адукацыю і ступень д-ра абодвух правоў (1500), пасля ў Падуі. З 1512 сакратар каралевы Барбары Запайя, пасля яе смерці ў 1516 стаў сакратаром караля Жыгімонта І Старога, аказваў важныя паслугі каралеве Боне Сфорца. Выконваў дыпламатычныя даручэнні. Біскуп перамышльскі ў 1523—27, плоцкі ў 1527—35, архіепіскап гнезненскі з 1535. Пісаў на лацінскай мове сатырычныя вершы, рэліг. гімны, элегіі, эпіграмы. Падтрымліваў сувязі з Эразмам Ратэрдамскім, інш. гуманістамі. Вёў барацьбу супраць Рэфармацыі. У 1514 суправаджаў Жыгімонта І Старога ў ваенным паходзе на тэр. Беларусі ў час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22*. Ход ваенных дзеянняў апісаў у вершах. Па просьбе каралевы Барбары Запайя склаў верш у гонар каралевіча Казіміра, якога ў Вільні лічылі святым і спадзяваліся на яго заступніцтва ў вайне. Аўтар паэмы ў гонар перамогі ў *Вішнявецкай бітве 1512* з крымскімі татарамі («De victoriae a Tartaris circa Castellum Visnioviec»). Некаторыя з вершаў К. пераклаў на польскую мову У.Сыракомля.

*Тв.*: Poezje. Warszawa, 1962.

*Літ.*: Andrzej Krzycki (1482—1537): bibliografia. Leszno, 1982; Wojtowicz W. Szkice o poezji obscenicznej i satyrycznej Andrzeja Krzyckiego. Szczecin, 2002; Barszcz L. Andrzej Krzycki: poeta, dyplomata, prymas. Gniezno; Włoszakowice, 2005.





**Лабенцкі** Бальтазар (?—1645), дзеяч кальвіністкай царквы ў ВКЛ. Паходзіў з Прускага герцагства. Месца атрымання адукцыі невядома. Быў прыдворным прапаведнікам польнага гетмана ВКЛ Крыштофа Радзівіла, разам з ім удзельнічаў у сінодзе кальвіністкай царквы ВКЛ 1624. Сінод 1634 прызначыў Л. прапаведнікам Віленскага кальвінскага збора, а сінод 1636 — суперінтэндэнтам кальвінскіх збораў Віленскага дыстрыкта. Казанні і прамовы Л. атрымалі шырокую вядомасць, некаторыя з іх надрукаваны Янам Кмітам у Любчанскай друкарні: «Памяць Вінгольдаў» («Memoria Winholdiana», 1635), «Бацькоўскія медытацыі ў выпадку хваробы і пасля смерці дзетак» («Medytacje rodzicielskie w chorobie i po smierci dziatek», 1638), «Надзея справядлівых, у смерці выведзеная» («Nadzieja sprawiedliwych w smierci wywiedziona», 1638). Там жа выдадзены збор 23 казанняў Л. «Анатомія сумлення, гэта значыць Разбор і разгляд сумлення чалавечага» («Anatomia conscientiae to jest rozebranie i roztrzasnienie sumienia czlowieczego» (1638), дзе сістэматычна выкладў пастулаты кальвіністкай царквы. Пераклаў з нямецкай мовы кнігу Людвіга Байлі (Baily) «Praxis Pietatis», якая згодна з рашэннем Віленскага сінода 1632 выдадзена пад назвай «Практыкаванні ў набожнасці» («Cwiczenia sie w pobożnosci»). У 1639 абвінавачаны разам з інш. віленскімі кальвіністамі ў стральбе з лука па выяве св. Міхала на касцёле бернардзінак, што стала падставай для разбурэння Віленскага кальвінскага збора. Соймавы суд 1640 прызнаў Л. вінаватым. Каб пазбегнуць смяротнага пакарання, ён уцёк у Прусію. Намаганні Л. вярнуцца ў ВКЛ былі безвыніковымі. Памёр у Прусії.



POGRZEBNE
KAZANIE
Nad Zacnym Ciałem Wielmożnego Pana/
Je° Mści Pana
PIOTRA WOŁOWI-
CZA CZASZNIKA W. X. L.
Odprawowane
W Sierze Roku 1624.
Dnia 28. Marca
Przez
X. BALTAZARA LABECKIEGO SŁUG.
SŁOWA BOZEGO.
W WILNIE

Б.**Лабенцкі**. Пахавальнае казанне ў гонар Пятра Валовіча, чашніка ВКЛ. Вільня. 1624. Тытульны ліст.

**Лабжынскі** Дыянісій (свецкае Ян; каля 1593, Чырвоная Русь—26.11. 1654), дзеяч каталіцкай царквы. У 1613 паступіў у Кракаўскі ун-т. У 1616 уступіў у Кракаве ў ордэн езуітаў. Прафесар рыторыкі ў Калішы (1629—30), Познані (1630—31), Кракаве (1631—32). У 1633 выйшаў з ордэна езуітаў, быў пробашчам у Сяльцы і Сехневе ў ВКЛ. У 1642 уступіў у ордэн паўлінаў, дзе быў прапаведнікам і гісторыкам.

**Лабза** Іван, майстар разьбярнай і сталярнай справы 17 ст. Паходзіў з Беларусі. Працаваў у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля, дзе разам з інш. майстрамі-беларусамі рабіў кіёты, крэслы і інш. рэчы для царскага дому. У 1683 прыняў удзел ва ўстаноўцы іканастаса ў царкве Данскога манастыра ў Маскве.

**лабірынт** (грэч. labýrinthos) у садова-паркавым мастацтве, квадратны або круглы ў плане ўчастак парку з мудрагелістым размяшчэннем дарожак, аформленых шпалерамі або баскетамі. Звычайна меў у цэнтры пляцоўку з фантанам. Пашыраны ў рэгулярных парках Еўропы стыляў рэнесансу і барока. Магнаты Кішкі мелі Л. ў парках у Іўі (1653), Вігушках (Ашмянскі пав., 1653), Вільні (1623, потым парк належаў Радзівілам). Вядомы Л. ў радзівілаўскіх парках 18 ст. (Альба над Нясвіжам, Карэлічах), а таксама ў Крычаве, Бачэйкаве і інш.

**Лабойка** Іван Мікалаевіч [21.6 (2.7). 1786, г.п. Золачаў Харкаўскай вобл.—15(27).6.1861], гісторык, літаратуразнавец, лінгвіст. Заслужаны праф. рыторыкі. Скончыў Харкаўскі ун-т (1810). Выкладаў у гімназіі ў Ноўгарад-Север-

скім, праводзіў там археалагічныя раскопкі, даследаваў храмы; выкладаў у Харкаве. З 1815 у Польшчы, пад кіраўніцтвам Самуэля Ліндэ займаўся параўнальным вывучэннем слав. моў. Пасля пераехаў у Пецярбург, служыў у дэпартаменце маёмасцей, выкладаў у Ваенна-настаўніцкім ін-це. З 1818 член Вольнага т-ва аматараў расійскай славеснасці ў Пецярбургу, яго бібліятэкар, рэдактар часопіса «Соревнователь просвещения и благотворения». У 1822—32 праф. Віленскага ун-та (выкладаў рус. літаратуру, рус. і страж.-слав. мовы), быў дэканам філалагічнага аддзялення, узначальваў кафедру рус. літаратуры і гісторыі Расіі. У 1832—40 праф. Медыка-хірургічнай акадэміі і Духоўнай рымска-каталіцкай акадэміі (да 1842) у Вільні. Быў знаёмы з З.Даленгам-Хадакоўскім і І.І.*Грыгаровічам*. Зрабіў шэраг прапаноў па комплексным вывучэнні Беларусі і Літвы. Збіраў матэрыялы са старабел. помнікаў пісьменнасці для складання слоўніка. Уваходзіў у склад Румянцаўскага гуртка, якому прапанаваў свой праект слоўніка незразумелых выразаў «Белорусского архива древних грамот» Грыгаровіча. Цікавіўся бел. фальклорам. Разам з інш. спецыялістамі Л. было даручана параўнанне тэксту Статута ВКЛ 1588 з яго страж. выданнямі і спісамі для наступнага выдання. Напісаў працу «Вільня, сталіца Заходняй Расіі і Кіеўскай Мітраполіі» (не выдадзена), рыхтаваў «Гісторыі расійскай славеснасці» (не скончана). У 1839 перадаў Рас. АН 22 тамы рукапісаў сваіх прац. У 1842 пакінуў Вільню, жыў у Пецярбургу, на Украіне, у Латвіі.

*Тв.*: О важнейших изданиях Герберштейна записок о России. Санкт-Петербург, 1818; Взгляд на древнюю словесность скандинавского севера. Санкт-Петербург, 1827.

*Літ.*: Каупуж А. З.Доленга-Ходаковский и И.Н.Лобойко // Сов. славяноведение. 1968. № 5; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Каханоўскі Г.А., Малаш Л.А., Цвірка К.А. Беларуская фалькларыстыка: эпоха феадалізму. Мінск, 1989.

**Лабуньскі** (Жэрбіла-Лабуньскі; Żerbiłło-Łabuński) Юзаф (1852, г. Саратаў—17.2.1922), польскі гісторык. Нарадзіўся ў сям'і паліт. ссыльнага. Скончыў Пецярбургскі ун-т з ступенню канд. юрыд. навук. Працаваў следчым у Янава-Любельскім, адвакатам у Варшаве. У 1914—18 у эвакуацыі ў Расіі. Пасля знаходзіўся на дзярж. службе, якую скончыў на пасадзе заг. канцылярыі Міністэрства чыгунак. Даследаваў гісторыю права сярэдневяковай Польшчы, адносіны Польшчы і ВКЛ у юрыд. аспекце. Выдаў працу «Унія Літвы з Польшчай (1385—1569): Польскі пераклад актаў уніі і супастаўленне іх з прывілеямі саслоўнымі» [«Unia Litwy z Polską (1385—1569): Przekład polski aktów Unii oraz zestawienie tychże i przywilejów stanowych», Варшава, 1913]. Выдаў паліт. брашуру «Гістарычная Польшча, ІІ Карона і Літва» («Polska historyczna, II Korona i Litwa», Варшава, 1915). Аўтар драм на антычныя і гіст. польскія сюжэты. Перакладаў са страж.-грэчаскай.

**Ладзята** Аляксандр Аўгусцін (?—1691), дзеяч уніяцкай царквы. Паходзіў з шляхецкага роду герба «Вадвіч» (часам прадстаўнікі роду карысталіся гербам «Агоньчык») з Полацкага павета. Вучыўся ў Рыме, дзе атрымаў ступень д-ра тэалогіі. Прызначаны архімандрытам жыдзічынскім, з 31.7. 1685 каад'ютар холмскага епіскапа Якуба *Сушы*. Пасля смерці апошняга (1687) епіскап холмскі. Вызначыўся актыўнай дзейнасцю па ўмацаванні уніяцкай царквы. Меркавалася, што быў атручаны.

*Літ.*: Gil A. Chełmska diecezja unicka 1596—1810: dzeje i organizacja. Lublin, 2005.

**Ладоўскі** Мацей Марцін (каля 1640—каля 1715), прававед Рэчы Паспалітай. З шляхецкага роду герба «Лада» з Закрочымскага павета. З 1665 пісар каронный канцылярыі, з 1668 каралеўскі сакратар, з 1678 рэгент каронный канцылярыі, пасля метрыкант, прэфект архіва Кароннага скарбу. Быў знатаком права Рэчы Паспалітай, выдатным архівістам. Склаў рукапісны «Інвентар прывілеяў, лістоў і дакументаў у Каронным Архіве» («Inwentarz przywilejów, listów i dokumentów w Archiwum Kor.»), апублікаваў складзены


INWENTARZ
KONSTYTUCYY
KORONNYCH
Y
W.X. LITEWSKIEGO,
PRZEZ
MACIEIA MARCYANA ŁADOWSKIEGO,
SEKRETARZA J. K. M. METRYKANTA
KANCELARYI KORONNEY.
OD ROKU PANSKIEGO 1550. DO R. 1683. KROTKO ZEBRANY.
A PRZEZ J. W. J. MCI. X.
JOZEFA JĘDRZEIA NA ZAŁUSKACH
ZAŁUSKIEGO
REFERENDARZA KORONNEGO, OPATA PRZEMĘCKIEGO &c.
W ROZNYCH MIETSCACH Y CYTACYACH SKORYGOWANY
PRZYDATKIEM OPUSZCZONYCH
ARTYKUŁOW
POPRAWIONY
Y
SUPLEMENTEM OBSZERNYM
OD ROKU 1683. AZ DO OSTATNIEY KONSTYTUCYI
SEYMU 1726. INCLUSIVE
OPATRZONY.
CUM PRIVIL. S. R. M. ET LICENTIA P. PIAR. SCHOL.
W LIPSKU,
EX OFFICINA WEIDMANNIANA.
R. P. 1733.

М.М.**Ладоўскі**. Канстытуцыі каронныя і Вялікага княства Літоўскага ад года Божага 1550 да года 1683. Лейпцыг. 1733. Тытульны ліст.

ў алфавітным парадку паказальнік да законаў «Канстытуцыі каронныя і Вялікага княства Літоўскага ад года Божага 1550 да года 1683» («Constitucye Koronne y Wielkiego Xięstwa Litewskiego od Roku Pańskiego 1550 do roku 1683», Варшава, 1685), прысвечаны кароннаму канцлеру Яну Веляпольскаму і канцлеру ВКЛ Марцыяну Аляксандру Агінскаму. Выпраўлены і дапоўнены паказальнік перавыдаў Юзаф Андрэй Залускі («Inwentarz konstytucyy koronnych y W.X. Litewskiego przez Macieia Marcyana», Лейпцыг, 1733).

**Ладоўскі** Рэмігіуш (свецкае Станіслаў; 5.4.1738, Валынь — 1798), натураліст, педагог, філосаф Рэчы Паспалітай. У 1757 уступіў у ордэн піяраў, з 1766 святар. Вучыўся ў Падалінцы, Жэшаве і Межырэччы-Карэцкім, Холме. Выкладаў у піярскіх навучальных установах у 1762 у Межырэччы-Карэцкім, у 1763—65 у Холме, Ловічы і Велюні, у 1767 у Пётркаве, у 1768—69 у Радаме, у 1772—76 віцэ-рэгент канвікта Шаняўскіх у Лукаве. Карыстаўся багатай б-кай і кабінетам натуральнай гісторыі мецэнаткі Ганны Ябланоўскай у

Сямяцічах. З 1776 хатні выхавацель у сям'і Сцыпіёнаў, у 1787—92 у Аляксандра Сапегі, сына крайчага ВКЛ Юзафа Сапегі, у Вішніцах каля Уладавы. Мяркуецца, што ў старасці быў капланам у Сапегаў у Вішніцах. Л. быў выдатным дзеячам Асветніцтва. Меў шматлікія інтарэсы ў розных галінах навукі. Выдаў энцыклапедычны даведнік «Натуральная гісторыя Польскага каралеўства, або Кароткі збор па алфавіце выкладзеных жывёл, раслін і мінералаў, што знаходзяцца ў Польшчы, Літве і адлучаных правінцыях» («Historia naturalna Królestwa Polskiego, czyli zbiór krótki przez alfabet ułożony zwierząt, roślin i mineralów, znajdujących się w Polszcze, Litwie i prowincjach odpadłych», Кракаў, 1783; 2-е выд., т. 1—2, 1804; у 1793 выдадзены па-нямецку), які ўтрымлівае каля 1 тыс. артыкулаў. Напісаў кнігу «Пра гадаванне пчол, іх размнажэнне і хваробы» («O chodowaniu pszczół, ich rozmnoženiu i chorobach», Варшава, 1781). Пераклаў з французскай мовы кнігу Шарля Леклерка дэ Мантліно «Слоўнік, які служыць для вывучэння натуральнай гісторыі» («Dykcjonarz służący do poznania historii naturalnej», т. 1—2, Кракаў, 1783). Належаў да фізіякратаў, чые погляды прапагандаваў у кнізе «Права натуры, права палітычнае і права народаў, кароткім і ясным спосабам для ўжытку шляхетнай моладзі напісанае» («Prawo natury, prawo polityczne i prawo narodów krókim i jasnym sposobem dla użytku szlachetnej młodzi spisane», Люблін, 1793). Па педагогіцы выдаў кнігу «Павіннасці для асобаў шляхецкага паходжання» («Powinności dla osób szlachetnie urodzonych», Люблін, 1788), пераклаў з французскай мовы кнігу Ж.Бадора «Працы для шляхетнай моладзі вельмі карысныя, для адкрыцця і ўдасканалення прадметаў ім патрэбных» («Dzieła dla szlachetnej młodzieży wielce użyteczne, do odkrycia i wydoskonalenia przymiotów im potrzebnych», Люблін, 1785), падручнік па геаграфіі «Геаграфічная граматыка» («Gramatyke geograficzna» (т. 1—2, Варшава, 1774—84), апісанні падарожжаў Філіпа Аўрыля «Падарожжа ў розныя краіны Еўропы і Азіі» («Podróżz do różnych krajów Europy i Azji», Варшава, 1791) і Генрыха Вільсана «Апісанне астравоў Пелеў» («Opisanie wysp Pelew», т. 1—2, Варшава, 1792). Для дзіцячага чытання пераклаў 21 камедыю Стэфаніі дэ Жанлі (т. 1—3, Варшава, 1787—88).


HISTORYA
NATURALNA
KROLESTWA POLSKIEGO
czyli
Zbior krotki przez Alfabet ułożony, Zwierząt, Roślin, y Minerałow znayduiących się w Polszcze, Litwie, y Prowincyach odpadłych,
ŻEBRANA.
z Pisarzow godnych wiary, Rękopismow, y świadkow oczywistych
przez
X. ŁADOWSKIEGO S.P.
Za pozwoleniem Zwierzchności.
w Krakowie Roku 1783.
w Drukarni Uprzywilowaney Ignacego Grebla Typografa J.K.Mć

Р.**Ладоўскі**. Натуральная гісторыя Польскага каралеўства, або Кароткі збор па алфавіце выкладзеных жывёл, раслін і мінералаў, што знаходзяцца ў Польшчы, Літве і адлучаных правінцыях. Кракаў. 1783. Тытульны ліст.

**Ладыжанскі** Аляксей Алойзі (10.10. 1693, Расія — каля 1757), дзеяч каталіцкай царквы. З праваслаўнай сям'і. У 1707—10 звязаны з місіяй чэшскіх езуітаў у Маскве, пад уплывам якіх прыняў каталіцтва і пакінуў Расію. У 1712 уступіў у Рыме ў ордэн езуітаў, вывучаў там у «Калегіум Раманум» філасофію (1717—19) і тэалогію (1722—25), з 1724 ксёндз. У 1727 пераехаў у Рэч Паспалітую. Праф. маральнай тэалогіі ў Варшаве (1727—28) і Вільні (1728—29), філасофіі (1729—31) і маральнай тэалогіі (1731— 32) у Менску, місіянер у Высоцку ў Пінскім пав. (1734—35), прэфект касцёла св. Рафала ў Вільні (1735). У час *Вайны за польскую спадчыну 1733—38* зняволены рас. войскамі ў 1736. За здраду праваслаўю асуджаны Сінодам у Санкт-Пецярбургу і высланы ў Табольск, дзе і памёр.

*Літ.*: Флоровский А.В. Первый иезуит из московских дворян // Acta Academiae Velehradensis. Olomucii, 1948. Vol. 19.

**Лаздзея** (літ. Лаздзіяй, Lazdijai, цяпер горад, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Троцкім пав., на р. Райшупіс. Упершыню ўпамінаецца пад 1532 як гаспадарскі двор, цэнтр стараства. Вял. кн. літ. і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст у 1560 заснаваў тут мястэчка. Каля 1570 пабудаваны драўляны касцёл, пры якім у 1571 дзейнічала прыходская школа. 17.5.1597 кароль польскі і вял. кн. літ. Жыгімонт III Ваза надаў Л. магдэбургскае права і герб з выявай лася, пад якім 3 перакрыжаваныя ключы. Была дзярж. уладаннем, якое перадавалася ў трыманне феадалам. У 1776 Л. разам з інш. дробнымі каралеўскімі гарадамі і мястэчкамі пазбаўлена магдэбургскага права, але фактычна захавала самакіраванне. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Літ.*: Gutauskas J. Lazdijų dokumentai // Mūsų senovė. Kaunas, 1921. Kn. 1; Miškinis A. Lazdijų istorinės urbanistinės raidos kai kurie bruožai // Kultūros paminklai. Vilnius, 1995. Kn. 2.

**Лаздзіяй** (Lazdijai), горад у Літоўскай Рэспубліцы, гл. *Лаздзея*.

**лазня**, спецыяльна абсталяванае памяшканне для мыцця цела з аднача-совым уздзеяннем вады і гарачага паветра ці пары. На Русі Л. ўпамінаюцца ў летапісах з 10 ст. На Беларусі Л. вядомы са стараж. часоў. У часы ВКЛ найб. былі распаўсюджаны ў паўн. і ўсх. Беларусі. Размяшчаліся на некаторай адлегласці ад жылля, звычайна каля вадаёма. У сял. гаспадарках пераважалі курныя рубленыя Л. невял. памераў. Былі нізкія квадратныя або прамавугольныя ў плане, без падмуркаў, накрытыя 2-схільнымі дахамі з саломы ці драніцы, мелі прылазнік. Унутры каля ўваходу стаяла курная печ з каменнем наверсе (для атрымання пары), уздоўж сцен — лаўкі, каля печы — палок (высокія нары). Асвятлялася 1—2 невял. вокнамі. Л. выкарыстоўвалі таксама і як сушыльні для лёну, канапель і інш. Больш развіты тып Л.— у



панскіх сядзібах і фальварках. Разам з «чорнымі» (курнымі) існавалі «белыя» Л. (мелі абліцаваныя кафляй печы з умураванымі ў іх чанамі для падаграванне вады, медныя або латунныя ванны). Нярэдка блакіраваліся з бровараамі, варыўнямі, клецямі і інш. гаспадарчымі пабудовамі. Мелі 2-камерную будову — уласна Л. і прылазнік. Часам з Л. праз сенцы злучаліся каморы і святліцы. У буйных сядзібах Л. вырашаліся ў выглядзе рымскіх тэрм. Гэта былі 2-ярусныя цэнтрычныя збудаванні з галерэямі, завяршаліся купаламі і вежамі (радзівілаўская Альба пад Нясвіжам). У гарадах Беларусі Л. адзначаны і ў абласцях, дзе сял. Л. не вядомы (напр., у Клецку ў 1685); тут з супрацьпажарных меркаванняў дазвалялася будаваць Л. па-за жылой забудовай, у спец. вылучаных месцах (Жыгімонт I Аўгуст у 1568 у прывілеі г. Кнышын забараніў мяшчанам мець прыватныя Л., дазволіўшы ім збудаваць адну агульную ў баку ад горада).

*Літ.*: Беларускае народнае жыллё. Мінск, 1973; І н ь к о ў М.І. Сялянскія лазні // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1980. № 4; Т р а ц е в с к и й В.В. История архитектуры народного жилища Белоруссии. Минск, 1989; Л о к о т к о А.И. Белорусское народное зодчество: середина XIX—XX в. Минск, 1991; Я г о ж. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мінск, 1999; С е р г а ч е в С.А. Белорусское народное зодчество. Минск, 1992; J a n i c k a I. Urządzenia sanitarne w Wilnie w XIX wieku // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. 2005. № 3—4.

**Лазовіцкая місія езуітаў.** Існавала ў в. *Лазовіцы* Мсціслаўскага ваяв. (цяпер в. Лазовіца ў Клімавіцкім р-не) у 1752—1820. Заснаваў Ян Кіркор, падчашы мсціслаўскі, які пабудаваў місійны дом і драўляны касцёл Св. Тройцы як філіяльны касцёл парафіі Мсціслаўскага кляштара кармелітаў (з 1776 асобная парафія). Місія залежала ад Мсціслаўскага езуіцкага калегіума. Тут звычайна было 3 місіянеры, адзін з якіх загадваў парафіяй, інш. праводзілі душпастырскую дзейнасць, выкладалі ў школе (працавала ў 1799—1807). Місія зачынена пасля скасавання ордэна езуітаў у Рас. імперыі.

**Лазовіцы** (цяпер в. Лазовіца Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяводстве, на р. Рэкта. Упершыню згадваецца ў 1724 як уладанне палкоўніка Мсціслаўскага ваяв. Яна Кіркора, у якім правасл. храм Пакрова Прасвятой Багародзіцы быў пераведзены ў унію. У 1752 у Л. арганізавана *Лазовіцкая місія езуітаў*. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Л. былі невял. населеным пунктам, які пасля ўваходу ў склад Расіі пераведзены з мястэчак у ранг сельскіх паселішчаў. У 1783—84 у Л. 33 двары, 176 жыхароў. Планіровачную аснову Л. складала вуліца над берагам Рэкты, якая была забудавана жылымі дамамі толькі з аднаго боку, а агароды яе сядзіб спускаліся да ракі.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Лайшчэўскі** (Л а й ш э ў с к і) Себасцьян (каля 1588, Мазовія—2.6. 1635), дзеяч каталіцкай царквы. У 1606 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Праф. філасофіі ў Пултуску (1618—21), прэфект школы ў Пултуску (1621—22), каралеўскі прапаведнік пры двары Уладзіслава IV (1629—35). Выдаў казанне на пахаванні канцлера ВКЛ Льва Сапегі «Два Льва. Клейнод сапегаўскі» («Dwa Lwi. Kleynot sapiezanski», Люблін, 1637).

**Ламата**, заходнябалцкая зямля. Упамінаецца некалькі разоў у дакументах 13—14 ст.: Lammato (1231), Lammethin (1252), Lamenan (1291), Lamothe (1349). У дакуменце «Кніга дацкага цэнза» («Liber censuum Daniae», паміж 1249 і 1269) адзначана, што на Пн ад р. Прэгель знаходзіцца 5 зямель: Самбія, Скальва, Л. (Lammato), Курляндзія, Земгалія. У «Хроніцы зямлі Прускай» Пятра з Дусбурга пры апісанні падзей канца 13 ст. ўпамінаюцца літоўцы, што жылі па берагам Нёмана ад Віліі да зямлі Л. (Lamotina). Знаходзілася на Пн ад нізоўяў Нёмана, каля Куршскага заліва. (Шылуцкі р-н Літоўскай Рэспублікі). Паводле археалагічных дадзеных, насельніцтва гэтага рэгіёна мела асаблівасці з пач. н.э., што ўказвае на існаванне асобнага племені, якое, відаць, таксама называлася Л. У ходзе барацьбы з крыжакамі племя Л. было, відаць, часткова вынішчана, частка яго прыняла ўдзел у этнагенезе літоўцаў.

*Літ.*: Т о п о р о в В.Н. Прусский язык: слов. М., 1990. [Т. 5]. С. 55—61.

**Ланг** Казімір (4.3.1689, г. Лідзбарк у Варміі—2.11.1737), дзеяч каталіцкай царквы, драматург. У 1708 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1720 ксёндз. Праф. рыторыкі (1721—22) і філасофіі (1727—30), прэфект школы (1730—31) у Гародні, праф. тэалогіі ў Браневе (1732—33), тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве (1733—35), рэктар калегіума ў Рэшалі (1735—37), сакратар галавы правінцыі ордэна езуітаў (1737). Выдаў ананімна школьную драму «Ганаровыя трапезы» («Dapes honorum», Супрасль, 1717).

**Ланеўскі** Крыштоф (24.6.1576, в. Кросне каля г. Ясла, Польшча—24.2. 1656), дзеяч каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай. З шляхецкага роду герба «Наленч». У 1598 паступіў у Кракаўскі ун-т, дзе атрымаў ступень бакалаўра вызваленых навук. У 1606 уступіў у кляштар канонікаў рэгулярных латэранскіх у Казімежы пад Кракавам. З 1612 ксёндз. Яму быў даручаны збор матэрыялаў пра блаславёнага Станіслава Казімерчыка для езуіцкага выдання «Жыціі святых» («Acta Sanctorum», Антверпен). Адначасова Л. выдаў уласную кнігу «Жыццё, справы і цудоўныя боскія заступніцтвы набожнага каплана благаслвёнага Станіслава Казімерчыка» («Żywot, sprawy i cudowne Boskie wstawienia pobożnego kapłana Bł. Stanisława Kazimierczyka», Кракаў, 1617; пераробкі кнігі выйшлі ў 1660, 1702, 1763). Выдаў правілы агульнага жыцця манахаў паводле св. Аўгусціна «Regula Beatissimi Patris Aurelii Augustini» (Кракаў, 1618). Візітатар кляштараў канонікаў латэранскіх Марцін Клачынскі даручыў Л. наладзіць манаскае і духоўнае жыццё ў кляштарах ордэна ў ВКЛ. У 1619—31 Л. ўзначальваў кляштар у Быхаве, у 1631—35 — у Крамяніцы (Гарадзенскі пав.), у 1635—37 — у Красніку (Польшча). У 1637 абраны прэпазітам кляштара ў Куразвенках, пасля вярнуўся ў Кракаў, дзе і памёр.



**Ланчыцкі** Павел (1572, г. Ланчыца, Польшча — 1642), дзеяч каталіцкай царквы, перакладчык. Паходзіў з простага роду. У 1588 уступіў у ордэн бернардзінцаў. Накіраваны на вучобу ў Віленскую акадэмію, дзе вучыўся ў 1598—99 і быў наглядчыкам над інш. вучнямі-бернардзінцамі. У 1600 і 1604 наведаў Рым, вывучыў італьянскую мову, пачаў збіраць бібліятэку. Займаўся разбудовай кляштара св. Ганны ў Варшаве. У 1606 у складзе бернардзінскай місіі пры Марыне Мнішак адправіўся ў Маскву. Хутка там выбухнула паўстанне супраць Ілжэдзмітрыя I, і Л. апынуўся ў зняволенні ў Пасольскім двары. Пасля з інш. падданымі Рэчы Паспалітай адпраўлены ў Яраслаўль. Тут заняўся перакладамі лацінскіх і італьянскіх кніг, у прыватнасці, пераклаў з італьянскай мовы геаграфічны трактат Джавані Батэра «Усеагульныя рэляцыі, альбо навіны паспалітыя» («Relatiae powszechne, abo nowiny pospolite», Кракаў, 1609; 2 выд. 1613; 3 выд. 1659). Гэта быў першы асобны геаграфічны твор на польскай мове, у ім ярка адлюстраваны Вял. геаграфічныя адкрыцці, падарожжы мараплаўцаў, у т.л. Калумба. У зняволенні Л. пераклаў з італьянскай мовы кнігу партугальскага манаха Марка з Улісбоны «Хронікі трох законаў, заснаваных айцом св. Францыскам» («Kroniki trzech zakonów postanowionych od ojca S. Franciszka», Кракаў, ч. 1—2, 1610; 2 выд. 1747; ч. 3—4 выдадзены ў 1722). У жн. 1608 Л. вызвалены. Жыў у Кракаве, быў гвардыянам кляштараў у г. Сокаль над Бугам і Новэ над Віслай.

**Лапацінскі** Антоні Станіслаў (каля 1720 — да 24.4.1778), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З роду *Лапацінскіх*, сын Станіслава Лапацінскага, суддзі гродскага ўпіцкага, брат Крыштофа *Лапацінскага*. Меў маёнткі ва Упіцкім пав., трымаў землі ў Шадаўскай вол. У 1740—60-х г. меў пасаду ўпіцкага ротмістра, з 1760 камандзір харугвы ў конным рэгіменце булавы вялікай (шэф Міхал Казімір Радзівіл, вял. гетман ВКЛ), з 1765 суддзя земскі ўпіцкі. У 1743, 1751 і 1761 дэпутат Трыбунала ВКЛ. Быў кліентам Радзівіла, пільнаваў яго інтарэсы на ўпіцкіх сойміках. У 1764 удзельнічаў у абранні караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага. На сойме 1766 прызначаны ў камісію па размежаванні ВКЛ і Курляндскага герцагства. Далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*. Упіцкая шляхта стварыла мясцовую канфедэрацыю ў яе падтрымку 24.9. 1768 і выбрала маршалкам Л. Аднак ён не здолеў сабраць вял. атрад канфедэратаў, пад ціскам рас. войск адышоў у Прусію. Тут разам з інш. павятовымі маршалкамі канфедэратаў удзельнічаў у абранні Ануфрыя Гневаміра Бянклеўскага агульным маршалкам канфедэратаў у ВКЛ і пасылцы яго да кіраўніцтва Барскай канфедэрацыі. З канца 1769 жыў у Вармii, у пач. 1770 прыбыў у Цешын (Сілезія), дзе асталявалася Генеральнасць канфедэрацыі. У пач. 1773 вярнуўся ў ВКЛ. Удзельнічаў у соймавых камісіях па вырашэнні маёнткавых спрэчак, па вызначэнні граніцы з Курляндыяй.

**Лапацінскі** Вацлаў (? — каля 1595), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Лапацінскіх*, сын Тэадора, падсудка мсціслаўскага. Дваранін караля польскага і вял. кн. літ. Стафана Баторыя. У 1579 пасланы Баторыем з Вільні ў Маскву з паведамленнем цару Івану IV аб узнаўленні *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Быў зняволены царом, аднак, дзякуючы намаганням Баторыя, адпушчаны на волю. Прывёз да Баторыя каштоўныя звесткі пра ўнутраны стан Маскоўскай дзяржавы. У 1581—84 інстыгатар ВКЛ. Меў маёнтак Лапацін у Мсціслаўскім ваяв.

**Лапацінскі** Крыштоф (пач. 18 ст. — 2-я пал. 18 ст.), дзеяч каталіцкай царквы, лексікограф. З роду *Лапацінскіх*, сын Станіслава Лапацінскага, суддзі гродскага упіцкага, брат Антонія Станіслава *Лапацінскага*. Рэктар піярскага калегіума ў Расейнах. Набыў вядомасць вял. вучонасцю. Склаў слоўнік літ. мовы, 1-я частка якога была аддадзена для публікацыі ў Віленскую францысканскую друкарню. Друкаваныя экзэмпляры слоўніка не вядомы, рукапіс не захаваўся.

**Лапацінскі** Юзаф Леан Пётр (да 10.3.1751, в. Лявонпаль, Полацкае ваяв. — 22.4.1803), дзеяч каталіцкай царквы. З роду *Лапацінскіх*, сын Мікалая Тадэвуша, вял. пісара ВКЛ. З маладосці быў прызначаны ў духоўны стан. Вучыўся ў Вільні, у 1773—75 у Рыме (падарожжа апісаў у рукапісным дзённіку). У Рыме закупіў шмат карцін, гравюры, скульптуры, мастацкую мэблю. У рымскай майстэрні Францішка Смуглевіча заказаў акварэльны партрэт свайго дзядзькі, жамойцкага біскупа Яна Дамініка Лапацінскага, алейны абраз «Св. Пётр у кайданах», а ў гравёрнай майстэрні — гравюры з выявамі біскупа і Шыдлаўскага абраза Маці Божай. Канонік жамойцкі з 1765, каад'ютар схаластык віленскі з 1769, суфраган жамойцкі ў 1776—86 (тытулярны біскуп трыпалітанскі), пралат кусташ віленскі з 1786. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) не прыняў прапанову рас. улад узначаліць Бел. біскупства, якое было аддадзена ў кіраванне Станіслава Богуша-Сестранцэвіча. Кавалер ордэнаў св. Станіслава (1784) і Белага Арла (1792). Памёр у Сар'і, пахаваны ў Росіцы. Пераклаў з французскай мовы на польскую кнігі Масільёна «Набожнае чытанне на кожны дзень месяца» («Czytania pobożne na kazdy dzién miesiąca», Вільня, 1772), «Прамовы ксяндза Масільёна, біскупа клермонцкага» («Mowy Xiędza M. Massilona Biskupa de Clermont», т. 1—2, Варшава, Вільня, 1772—73).

*Літ.*: Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej. W Poznaniu, 1882. R. 4; Prószyńska Z. Kanonika żmudzkiego, Józefa L. Łopacińskiego expensa na obrazy i sztychy podczas rzymskiej podróży w latach 1773—1775 // Roczniki Humanistyczne. 1999. Z. 4. Zeszyt specjalny.

**Лапіцкі** Мікалай [13(26).1.1907, в. Грэлікі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мінская вобл.—8.8.1976], дзеяч праваслаўнай царквы, гісторык. Скончыў Віленскую правасл. духоўную семінарыю (1930), багаслоўскі факультэт Варшаўскага ун-та (1934). З 1934 святар у Ашмянах, з 1935 у в. Сцяфанпаль Дзісенскага пав. У 1935 абараніў магістарскую дысертацыю «Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім у часы панавання Уладзіслава Ягайлы» (выдадзена ў Нью-Йорку ў 1978). З 1942 у Мінску, працаваў у мітрапаліцкай управе, настаяцель Чыгуначнай царквы. Удзельнік царк. сабора 30.8—2.9.1942, які абвясціў Бел. аўтаке-



фальную правасл. царкву. У 1944 эміграваў у Германію, служыў святаром, выкладаў Закон Божы ў бел. гімназіі імя Я.Купалы. З 1950 у ЗША, жыў у г. Пасэік (штат Нью-Джэрсі), служыў настаяцелем бел. храма св. Ефрасінні Полацкай у г. Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі). Ініцыятар стварэння і кіраўнік Бел. правасл. царквы, якая падпарадкоўваецца канстанцінопальскаму патрыярху. З 1951 выдаваў часопіс «Царкоўны сьветач», супрацоўнічаў з газетай «Беларускае слова» і часопісам «Беларуская думка» (член рэдкалегіі). З 1951 старшыня Бел.-амерыканскага дапамогавага камітэта. Пахаваны на бел. могілках у Саўт-Рыверы.

*Тв.*: Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім падчас панаваньня Ўладыслава Ягайлы // Спадчына. 1995. № 4—5; 1996. № 4; Юрыдычнае палажэньне праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы // Крыніца. 1998. №. 3.

***Ларыса Языковіч.***

**Лапчынскі** Валенты (?—каля 1604), друкар. Першапачатковае прозвішча Лапка, сын солтыса вёскі з-пад Радамска. Працаваў у кракаўскай друкарні Мікалая Шарфенбергера, які дзякуючы кароннаму канцлеру Яну Замойскаму атрымаў прывілей караля польскага і вял. кн. літ. Стафана Баторыя. За гэта Шарфенбергер павінен быў трымаць пры каралеўскай канцылярыі перасоўны друкарскі варштат, падпарадкаваны падканцлеру Яну Замойскаму. Гэтай «лятучай друкарняй» кіраваў Л., які атрымаў права ў месцах каралеўскага прабывання прадаваць кнігі, паперу і пергамент, меў утрыманне і ад Замойскага, які загадваў друкаваць пэўныя выданні ненарматыўнага характару. Л. выдаваў пабаровыя універсалы, соймавыя канстытуцыі, каралеўскія загады, «лятучыя лісткі» з паведамленнямі пра ваенныя дзеянні супраць Гданьска і маскоўскіх войск у час *Інфлянцкай вайны 1558—82*, мастацкія творы. Друкарня Л. дзейнічала пад Гданьскам (1577), у Варшаве і Львове (1578—79), пад Полацкам (1579), зноў у Варшаве (1579—80), у Кнышыне, Вільні (1580), Варшаве (1581). У 1581 пад Псковам Стафан Баторый набілітаваў друкара за ваенныя заслугі з наданнем яму прозвішча Л. У 1581 Л. вярнуў друкарскія матэрыялы Шарфенбергеру і заняўся гаспадараннем на вёсцы. «Лятучай друкарні» прыпісваюцца 23 выданні (А.Кавецка-Грычова), аднак цяпер сярод іх няма такіх, якія маглі быць надрукаваны на тэр. ВКЛ.

*Літ.*: K a w e c k a - G r y c z o w a A. Dzieje «drukarni latającej» // Kawecka-Gryczowa A. Z dziejów polskiej książki w okresie Renesansu. Wrocław, 1975.

**Ласеўскі** (Ласевіч) Крыштоф (23.3. 1649, Мазовія—5.5.1712), дзеяч каталіцкай царквы. Д-р тэалогіі і кананічнага права. У 1667 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прафесар рыторыкі для экстэрнаў у Варшаве (1680—81), Вільні (1681—83), філасофіі ў Вільні (1683—86), рыторыкі для клірыкаўезуітаў у Пінску (1686—88), схаластычнай тэалогіі ў Вільні (1689—92), дагматычнай тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве (1692—96) і Вільні (1696—97), рэктар Віленскай акадэміі (1697—1701, 1706—09), калегіума ў Варшаве (1701—04), галава Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў (1709—12). Аўтар дысертацый па філасофіі і тэалогіі, кніг «Via theologica ad deum ultimum finem per actus humanos consignata» (Варшава, 1694), «Plinius Palaemonicus magnuus e Lithuana societate orator» (Варшава, 1717). У рукапісах засталіся працы Л. па тэалогіі, кананічным праве, рыторыцы.

*Літ.*: P i e c h n i k L. Próby odnowy Akademii Wileńskiej po klęskach Potopu i okres kryzysu 1655—1730. Rzym, 1987.

**Ласеўскі** Станіслаў (8.5.1657, Мазовія—15.4.1706), дзеяч каталіцкай царквы. У 1672 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Вывучаў філасофію ў Крожах (1675—78), тэалогію ў Вільні (1681—85). Праф. рыторыкі ў Вільні (1686—87), філасофіі ў Варшаве (1688—90) і Вільні (1690—93), тэалогію ў Вільні (1693—96, 1700—02) і Варшаве (1696—1700), маральную тэалогію і кананічнае права ў Варшаве (1702—06). Выдаў дысертацыю па філасофіі. У рукапісах засталіся лекцыі Л. па тэалогіі і філасофіі.

**Ласкарыс** Ежы Геранім Марыя Войцех (1706, г. Верона, Італія—1795), дзеяч каталіцкай царквы. З арыстакратычнага грэчаскага роду, што перасяліўся ў Венецыянскую рэспубліку. Вучыўся ў Рыме, уступіў там у ордэн тэатынаў, служыў у папскай канцылярыі. З 1738 прэфект кляштара тэатынаў у Львове. Перайшоў на службу да нясвіжскіх Радзівілаў. У 1741 дзякуючы Міхалу Казіміру Радзівілу Рыбаньку прызначаны пробашчам у Алыцы на Валыні і атрымаў тытул біскупа зенапалітанскага. У 1746 рэфармаваў Замойскую акадэмію, ператварыўшы яе ў вышэйшую навучальную ўстанову. Устанавіў у ёй факультэты тэалогіі, права, медыцыны і філасофіі, а таксама падрыхтоўчыя класы. З 1748 абат у Жоўкве, канонік львоўскі. Выступаў за прыняцце уніяцкай царквой рытуалаў рымска-каталіцкага касцёла. Дамогся ад рымскага папы Бенядыкта XIV выдання ў 1751 энцыклікі, згодна з якой каталіцкім святарам дазвалялася адпраўляць імшу ва уніяцкіх цэрквах, дзе не было асвячоных алтароў. У 1754 атрымаў тытул архіепіскапа феадасійскага, у 1762 — патрыярха александрыйскага, потым — іерусалімскага. Быў дакладчыкам папы і экспертам па справах Рэчы Паспалітай у Рыме. Заклікаў рымскую курыю да асцярожнасці ў падтрымцы *Барскай канфедэрацыі*. Разам з Л. у ВКЛ прыбыў яго пляменнік Тэадор Ласкарыс (?—1785), з 1781 генерал-маёр арміі ВКЛ.

**Ласовіч** Ян (каля 1420—паміж 6.2 і 27.8.1481), дзеяч каталіцкай царквы. Паходзіў з віленскага мяшчанскага роду (пазнейшыя біёграфы прыпісвалі Л. шляхецкае паходжанне). Мяркуецца, што вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Займаў пасады сакратара віленскага біскупа, каноніка віленскай капітулы, атаясамліваецца таксама з Янам — дэканам віленскай капітулы. У 1462 прызначаны вял. кн. літ. і каралём польскім Казімірам IV біскупам луцкім, назначэнне зацверджана рымскім папам у 1463. З-за нападаў на Валынь крымскіх татараў перанёс сядзібу луцкіх біскупаў у мястэчка *Янаў* на Падляшшы, якое заснаваў у 1465 на месцы в. Порхаў і назваў па сваім імю. Пасля смерці віленскага біскупа Мікалая з Дзежкава (1467) Казімір IV прызначыў Л. наступным біскупам віленскім, што зацверджана рымскім папам у 1468. Да часу атрымання папскага зацвярджэн-



ня працягваў тытулавацца луцкім біскупам, маючы рэзідэнцыю ў Вільні, а Віленскай дыяцэзіяй кіраваў праз адміністратара, асабіста — з 1470. Пры Л. вырасла колькасць прыходаў дыяцэзіі, часта выступаў сведкам пры наданні касцёлам фундушаў, некаторыя касцёлы асвяціў асабіста (у т.л. Ішкалдскі Троіцкі касцёл). Павялічыў сталовыя маёнткі Віленскай епархіі, скупляючы шляхецкія землі. Па даручэнні рымскага папы Сікста IV у 1474 быў выканаўцам судовых рашэнняў папы ў спрэчцы Лівонскага ордэна з Рыжскім арцыбіскупствам. Запэў- ніваў крыжакоў, што ВКЛ не выступіць супраць ордэна, нават калі гэта зробіць Польшча. У 1469 уладкаваў у Вільні кляштар бернардзінцаў. Пры Л. адбыўся сабор правасл. іерархаў, князёў і паноў, які прыняў зварот да рымскага папы Сікста IV аб аб'яднанні цэркваў (1476), аднак асабістая роля Л. ў гэтых падзеях не высветлена.

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 1. Petersburg, 1860. S. 57—64; Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych, zawierające dzieje i prace biskupów i duchowienstwa djecezji wileńskiej, oraz wykaz kościołów, klasztorów, szkół i zakładów dobroczynnych i spolecznych. Wilno, 1912; Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w sredniowieczu: ustrój i uposażenie. Poznań, 1972.

**Ластоўскі** (Ластовский) Генадзь Альбертавіч (н. 18.1.1962, пас. Хіславічы Смаленскай вобл., Расійская Федэрацыя), расійскі гісторык. Канд. гіст. навук (1999). Скончыў Смаленскі педагагічны ін-т (1987). У 1987—91 выкладаў у школе, з 1991 працаваў у Смаленскім педагагічным ін-це, з 1993 у Смаленскім абласным ін-це ўдасканалення настаўнікаў (у 1998—2001 прарэктар), з 2001 галоўны спецыяліст, начальнік аддзела Дэпартамента Смаленскай вобл. па адукацыі і культуры). Адначасова выкладае ў Смаленскім дзярж. ун-це, дацэнт (2004). Даследуе паліт. гісторыю ВКЛ 13—пач. 16 ст., служылых князёў ВКЛ, сацыяльна-паліт. гісторыю Смаленскага княства 13—пач. 16 ст. Адказны рэдактар і адзін з аўтараў «Гістарычнага атласа Смаленскай вобласці» («Исторический атлас Смоленской области», Масква, 2003).

*Тв.*: Смоленск и Великое княжество Литовское в XIII—XVI веках // Край Смоленский. 1993. № 7—8; Палітычнае развіццё Смаленшчыны ў першай палове XIV ст. // Спадчына. 1997. № 2; Смаленская зямля ў канцы XIII—першай палове XIV стст. // Бел. гіст. часопіс. 1997. № 2; Беларусь і беларусы ў расійскіх школьных падручніках па гісторыі // Бел. гіст. агляд. 1998. Сш. 1; Политическое развитие Смоленской земли в конце XIII—начале XVI веков. Минск; Смоленск, 2001; История и культура Смоленщины с древнейших времен до конца XVIII века. Смоленск, 1997 (2 выд. 2007).

**Латыгальская Мікалеўская царква**, помнік драўлянага дойлідства 18 ст. Пабудавана ў 1771 у в. Латыголічы Менскага пав. (цяпер в. Латыгаль Вілейскага р-на) як уніяцкая. Складаецца з 2 амаль квадратных у плане зрубаў, накрытых агульным шматсхільным дахам, які ўтварае невял. 3-вугольныя навісі ў месцы прымыкання зрубаў. Гал. фасад завершаны трапецападобным франтонам з дэкаратыўнай шалёўкай і вял. лучковым акном у цэнтры. Франтон увенчаны чацверыковай вежачкай з галоўкай. Такая ж галоўка над алтаром. Па баках алтарнага зруба невысокія сакрысціі, накрытыя аднасхільнымі дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. У інтэр'еры пры ўваходзе — вузкі бабінец. Столь плоская. У архітэктуры збудавання спалучаюцца рысы традыцыйнага нар. дойлідства і стылю барока.

*Тамара Габрусь.*

**Латэрна** Марцін (каля 1552, г. Дарагабыч на Украіне — 30.9.1598), дзеяч каталіцкай царквы. Сын шаўца. У 1566—70 вучыўся ў Калішы. У 1570 уступіў у Браневе ў ордэн езуітаў. У 1571—75 вывучаў у Вільні філасофію і тэалогію. Праф. сінтаксісу, паэтыкі і рыторыкі ў Браневе (1575—78), прэфект гуманістычных прадметаў і праф. рыторыкі ў Вільні (1578—79). З 1579 ксёндз, вайсковы капелан вял. кароннага гетмана Мікалая Мялецкага ў часе *Інфлянцкай вайны 1558—82*, удзельнічаў у Полацкай кампаніі 1579. З 1579 каралеўскі прапаведнік і спавядальнік пры двары Стафана Баторыя. Трымаўся па-за палітыкай, але праводзіў актыўную контррэфармацыйную дзейнасць. Садзейнічаў пераходу ў 1586 падканцлера ВКЛ Льва Сапегі на каталіцтва. Суправаджаў Стафана Баторыя ў час ваенных дзеянняў з Масквой. Пасля заключэння Ям-Запольскага перамір'я 1582 выехаў з каралём у Рыгу, дзе ўдзельнічаў у нарадзе па рэлігійным уладкаванні Інфлянтаў у складзе Рэчы Паспалітай. У 1582—86 займаўся пісьменніцкай і навук. дзейнасцю. Па прапанове караля напісаў кнігу «Еўхарысція» («Eucharystia»), прызначаную для венграў (лёс рукапісу невядомы). Выдаў кнігу для богаслужэння «Духоўная арфа» («Harfa duchowna», Кракаў, 1585; шмат разоў перавыдавалася). У 1586 ездзіў у Рым, дзе прынёс урачыстыя манаскія зарокі, пасля ў Віленскай акадэміі атрымаў ступені магістра філасофіі і д-ра тэалогіі. З 1587 прапаведнік у кракаўскім касцёле св. Барбары, з 1591 суперыёр у Львове, дарадчык і тэолаг львоўскага арцыбіскупа Дзімітрыя Салікоўскага. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і заключэнні *Берасцейскай уніі 1596*. У 1595 пачаў рыхтаваць «Пасцілу», аднак яна не была ўхвалена кіраўніцтвам ордэна езуітаў. У 1598 Л. замяніў Пятра Скаргу на пасадзе каралеўскага прапаведніка ў час паездкі Жыгімонта III у Швецыю. Там цяжка захварэў і адплыў у Польшчу. Карабель, на якім знаходзіўся Л., быў затрыманы прыхільнікамі Карла Зудэрманскага. Пасля катаванняў Л. быў скінуты ў мора. Яго шанавалі як пакутніка, але афіцыйна Л. не кананізаваны.

*Літ.*: Kolula K. Ksendz Marcin Laterna T.J. kapelan obozowy — męczennik za wiarę. Warszawa, 1938; Cieślak S. Marcin Laterna SJ (1552—1598) działacz kontrreformacyjny. Kraków, 2003; Я г о ж. Batory i Marcin Laterna: z problematyki kulturalno-religijnej Wielkiego Księstwa Litewskiego // Kultura i języki Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 2005.

**Лаўцэвіч** (Лаўцінская, Лаўчынская, па мужу Дукштэйн, з 1799 выступала пад гэтым прозвішчам) Разалія (1767?, Пастаўшчына — ?), танцоўшчыца. Прыгонная надворнага падскарбія ВКЛ Антонія *Тызенгаўза*. Вучылася ў яго балетнай школе ў Гародні. У жн. 1778 удзельнічала як салістка ў школьным спектаклі «Вясковы



балет» Г.Петынецi на сцэне Гарадзенскага тэатра. У 1785—94 уваходзiла ў балетную трупу «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялiкасцi» ў Варшаве, выступала на каралеўскiх сцэнах i ў Нац. тэатры. Пасля задушэння паўстання 1794 танцавала ў балетных трупах С.Гальнiцкага i Т.Трускалянскага. У кастр. 1797 па iнiцыятыве i за кошт былога караля Станiслава Аўгуста Панятоўскага выехала ў Пецярбург i паступiла фiгуранткай у балетную трупу iмператарскiх тэатраў.

*Літ.:* Б а р ы ш е в Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мінск, 1992.

**Лаўчыцкі** (Л у ў ч ы ц к і) Ежы (?—памiж 1642 i 1647), ваенны дзеяч Рэчы Паспалiтай. З шляхецкага роду герба «Копач» з Львоўскай зямлi. Мяркуецца, што ўдзельнiчаў у венгерскiм паходзе *лiсоўчыкаў* 1619. У 1625—26, у час *вайны Рэчы Паспалiтай са Швецыяй 1600—29*, ротмiстр казацкай харугвы ў войску польнага гетмана ВКЛ Крыштофа Радзiвiла. У 1625 удзельнiчаў у аблозе г. Мiтава (Курляндыя), занятага шведамi. У 1626 ваяваў пад камандаваннем ваяводы смаленскага Аляксандра Гасеўскага. У час *вайны Расii з Рэччу Паспалiтай 1632—34* харугва Л. ў складзе палка Мiкалая Мачарскага ўдзельнiчала ў 1633 у аблозе г. Пуцiўль, пасля з атрадам Ерамii Вiшнявецкага даходзiла да Сеўска i Рыльска. У канцы 1633 ваяваў пад Смаленскам. 19.10.1633 удзельнiчаў у бiтве на Жаваранкавых гарах. У сак. 1634 харугва Л. брала ўдзел у паходзе Рыгора Мiрскага, пасля суправаджала паслоў Рэчы Паспалiтай, што адправiлiся на заключэнне мiру. З 1637 стражнiк польны каронны. У 1637—38 удзельнiчаў у баявых дзеяннях супраць укр. казакоў.

**Лахвінскія сядзібы**, сядзiбныя комплексы, якiя iснавалi ў 17—19 ст. каля мяст. Лахва Навагародскага пав. (цяпер вёска Лунiнецкага р-на). Комплекс сярэдзiны 17 ст. ўключаў драўляны жылы дом (трое сенцаў, 3 жылыя пакоi, 6 камор) i гаспадарчыя пабудовы. У 1680-я г. комплекс перабудаваны. Цэнтр кампазiцыi — аднапавярховы прамавугольны ў плане сядзiбны дом (сенцы, 4 жылыя пакоi, алькеж, 7 камор), непадалёку ад яго размяшчалiся кухня, лазня, свiрны, адрына. Каля ўязных варот з боку вёскi стаялi бровар, заезны дом. Перыферыйную частку маёнтка займалi гаспадарчыя i вытворчыя пабудовы. У пач. 18 ст. створаны развiты сядзiбна-палацавы комплекс. Цэнтр кампазiцыi — аднапавярховы прамавугольны ў плане драўляны палац з мезанiнам i ганкам на 8 слупах на гал. i 8-слупавой галерэяй на дваровым фасадах. Планiроўка анфiладная. Уключаў трое сенцаў, 3 жылыя пакоi, 4 алькежы, 2 кабiнеты, 3 каморы, залу ў мезанiне. Гал. ўезд быў праз 2-ярусную браму-вежу (мела ў 2-м ярусе залу, абкружаную звонку галерэяй i завершаную купалам). У 1730-я г. пабудаваны новы палацавы комплекс з iтальянскiм садам, старыя будынкi выкарыстоўвалiся як гаспадарчыя. Цэнтрам кампазiцыi стаў аднапавярховы прамавугольны ў плане драўляны з мезанiнам палац анфiладнай планiроўкi (уключаў парадную залу ў цэнтры, каплiцу, шэраг жылых памяшканняў). Сцены памяшканняў былi абабiты размаляванымi палатнянымi шпалерамi. Непадалёку ад уязной брамы знаходзiлiся флiгель, стайня з вазоўняй, дом для прыслугi. У 1760-я г. на месцы драўлянага пабудаваны мураваны палац аналагiчнай планiроўкi i кампазiцыi. Комплекс зруйнаваны ў вайну 1812.

**Лашкоўскі** Якуб (каля 1532 — памiж 1596 i 1599), гаспадарчы дзеяч Рэчы Паспалiтай. З шляхецкага роду герба «Лешчыц» Калiшскага пав. Прыкладна з 1550 на службе ў вял. кн. лiт. i караля польскага Жыгiмонта II Аўгуста. Як каралеўскi дваранiн i сакратар удзельнiчаў у правядзеннi валочнай памеры ў ВКЛ, да чаго, пэўна, прыцягнуў яго дзядзька Пётр Хвальчэўскi (адзiн з iнiцыятараў правядзення памеры). Каля 1560 рэвiзор памеры ў Вiдуклях. У 1562 з iнш. рэвiзорамi праводзiў валочную памеру ў Коршаўскай i Шадаўскай валасцях, у 1563 — у Рэтаўскай i Гандынскай валасцях, у 1566 — у Палангаўскай дзяржаве (заснаваў тут мяст. Святая) i Крэцiнгскай валасцi. У 1566 як узнагароду за правядзенне валочнай памеры ў Жамойцi атрымаў ад Жыгiмонта II Аўгуста маёнтак Вештаваны (130 валок зямлi), якi ў 1568 заменены на 3 вёскi ў Платэльскай вол. У 1569—71 разам з Войцехам Дзевалтоўскiм i Янам Градоўскiм праводзiў рэвiзiю валочнай памеры ў жамойцкiх валасцях. Пра вераваннi i звычаi жмудзiнаў Л. паведамiў Яну *Ласiцкаму*, якi карыстаўся гэтымi звесткамi пры напiсаннi кнiгi «Пра багоў жамойтаў, iншых сарматаў i несапраўдных хрысцiян» («De diis Samogitarum, caeterorumque Sarmatarum...», Базель, 1615).

*Літ.:* П и ч е т а В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958.

**Легер** Казiмiр, слуцкi людвiсар 17 ст. У 1690 адлiў звон для Слуцкай царквы Нараджэння Божага з фундацыйным надпiсам: «Dzwon Dziortki sumptem ulany, od syna Tobiasza przelany do cerkwi słuckiey Narodzenia Bożego dla grzechów proszczenia Anno Domini 1690».

*Літ.:* B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 75.

**Ле Ду** (Le Doux) Франсуа Габрыель (1755?, Парыж—2.2.1823), танцоўшчык, педагог i балетмайстар. Па паходжаннi француз. Вучань Г.Вестрыса. Быў салiстам тэатра «Каралеўская акадэмiя музыкi i танца» («Гранд-апера») у Парыжы. У 1782—85 па запрашэннi надворнага падскарбiя ВКЛ Антонiя *Тызенгаўза* працаваў балетмайстрам у яго прыдворным тэатры ў Гароднi, выкладаў у балетнай школе ў Паставах. Пасля смерцi Тызенгаўза па загаду караля Станiслава Аўгуста Панятоўскага сфармiраваў i ўзначальваў балетную трупу «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялiкасцi» (дэбютавала 24.9.1785 балетам Ле Ду «Хiлас i Сiльвiя», працавала да 1794), аснову якой складалi прыгонныя артысты Гарадзенскага балета, у т.л. вучнi Ле Ду М.Рымiнскi, Г.Валiнскi, Д.Сiтанская, М.Малiнская. У 1785—89 паставiў больш за 30 балетаў, стварыў лiбрэта для польскiх нац. твораў («Ванда, каралева Польская» i iнш.). У 1800 стварыў у Варшаве балетную школу, у 1805—07 узначальваў балетную трупу Нац. тэатра Войцеха *Багуслаўскага*, у



1817 адкрыў прыватную школу салонных танцаў.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**лексікон**, лексіс (ад грэч. lexikón слоўнік, lexis слова), назва слоўніка ва ўсходнеславянскай мовазнаўчай традыцыі ў ВКЛ у 16—17 ст. На Русі слоўнікі вядомы з 13 ст. (гласарый да наўгародскай кормчай кнігі 1282, які змяшчае 174 словы). Бел. слоўнікі складаюцца з пач. 16 ст. Першадрукар Францыск *Скарына* на палях Бібліі, Псалтыра, Апостала і Малой падарожнай кніжкі асвятляў сэнс іншамоўных і ўстарэлых слоў лексічнымі сродкамі нар. бел. мовы («кивота» — «скриня», «тимпант» — «бубен», «холми» — «узгорки»). Скарына растлумачыў каля 200 слоў. Яго традыцыі развівалі Сымон *Будны* ў сваім «Катэхізісе» (1562), Васіль *Цяпінскі* ў Евангеллі (1570). Пасля з'явіліся азбукоўнікі, Л. — невял. тлумачальныя даведнікі да канкрэтных тэкстаў, пры якіх і змяшчаліся, напрыклад, рукапісны «Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто», укладзены ў адзін з экзэмпляраў Астрожскай Бібліі 1581 (908 няпоўных тлумачальных пар). У канцы 16 ст. ў сувязі з развіццём кніжнай справы функцыі такіх даведнікаў расшырыліся і пачалася падрыхтоўка больш поўных па ахопе лексічнага матэрыялу і ўдасканаленых структурна даведнікаў. Яны складаліся незалежна ад канкрэтных тэкстаў, раскрывалі лексічныя значэнні незразумелых слоў у поўным іх аб'ёме. Першы славяна-бел. слоўнік надрукаваў Лаўрэнцій *Зізаній* у 1596 у Вільні пад назвай «Лексис сиречъ реченія вькратьце събранны и из словенскаго языка на простый рускій діялектъ истолкованы» (у рэестравай часцы слоўніка 1061 слова, у тлумачальнай — больш за 2 тыс.). Пры складанні «Лексіса» Зізаній выкарыстаў творы Арыстоцеля, Іаана Златавуста, Марціна *Бельскага*, Біблію. На аснове слоўніка Зізанія ў 1627 выдадзены ў Кіева-Пячэрскай лаўры «Лексіконъ славеноросскій и именъ тлъкованіе» Памвы *Бярынды* (каля 7000 слоўнікавых артыкулаў). У 1653 гэты слоўнік у некалькі змененым выглядзе перавыдаў *Іаіль* Труцэвіч у Куцеінскай друкарні пад Оршай. «Лексіс» Зізанія і «Лексікон» Бярынды паклалі пачатак двухмоўным усх.-слав. слоўнікам (на бел. землях гэта традыцыя атрымала працяг толькі ў 19 ст.).

*Літ.*: Суднік М.Р. Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мінск, 1957. Вып. 4; «Лексіс» Лаврентія Зизанія. Синоніма славеноросская. Київ, 1964; Німчук В.В. Староукраїнська лексикографія в її зв'язках з російською та білоруською. Київ, 1980; Старабеларускія лексіконы: «Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто», «Лексис...» Л.Зізанія, «Синонима славеноросская» / Уклад. А.А.Яскевіч. Мінск, 1992.

**лен**, ленны маёнтак, зямельнае ўладанне, якім феадал валодаў на пэўных умовах. У ВКЛ і Рэчы Паспалітай у 16—18 ст. ленныя маёнткі даваліся каралём за заслугі на ваеннай службе, як правіла, да смерці трымальніка. Трыманне такога маёнтка было звязана з шэрагам абмежаванняў. Здаць ленны маёнтак у арэнду ці пакінуць яго можна было толькі са згоды манарха. Яго продаж забараняўся. Практыкаваўся звычай, што шляхціц, які слушна абвінавачваў уладальніка Л. ў яго неправільным адчужэнні, меў права на атрыманне гэтага маёнтка.

**Ленек** Мацей (каля 1545 — да 19.5.1611), ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З шляхецкага роду герба «Равіч» з Раўскага павета. У маладосці быў каралеўскім дваранінам. У 1577 удзельнічаў у аблозе Гданьска, які адмовіўся прызнаваць Стафана Баторыя каралём. З 1580 ротмістр, удзельнічаў у заключных ваенных дзеяннях *Інфлянцкай вайны 1558—82*: Вялікалуцкай (1580) і Пскоўскай (1581—82) кампаніях. Пасля заключэння *Ям-Запольскага перамір'я 1582* удзельнічаў у прынядцы замкаў Вольмар, Румбарк, Трыкат, Гавія. З 1582 камендант замкаў Оберпален, Навагрудак Інфлянцкі. З 1583 староста Навагрудка Інфлянцкага на маскоўскай граніцы, пільнаваў мяжу. З 1589 староста ікскюльскі і кірхгольмскі, у 1590 паборца падаткаў у Кесі, у 1595 шафар падаткаў у Інфлянтах. Дзякуючы падтрымцы Льва Сапегі (Л. быў жанаты з яго сястрой Фядорай) у 1599 прызначаны кашталянам дорпацкім. У пачатковым перыядзе *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* камандаваў кавалерыяй Рэчы Паспалітай, быў намеснікам гетмана Ежы Фарэнсбаха. За атрыманыя перамогі ў 1601 прызначаны старастам рыжскім. У 1602 з-за праблем са здароўем пакінуў вайсковую службу. Апошнія гады правёў у Раўскім пав., сойм 1607 прызначыў яго люстратарам для Мазовіі і Падляшша. У час *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09* стаў на баку караля польскага і вял. кн. літ. Жыгімонта III Вазы. Памёр пад Смаленскам у час паходу войска Рэчы Паспалітай.

**Лескі** Самуэль (4.8.1611—11.2. 1687), дзеяч каталіцкай царквы. У 1627 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Прапаведнік і місіянер літоўскі. Супер'ёр у Ворнях (1647—50), прыдворны місіянер канцлера ВКЛ Альбрэхта Станіслава Радзівіла (1652—55), рэктар калегіума ў Пашаўшы (каля 1656), супер'ёр у Дынабургу (1661—62) і Коўне (1668—70 і 1678—79), прэфект школы ў Пашаўшы (1671—72), супер'ёр у Ворнях (1679—80), прыдворны місіянер у Пашаўшы (1680—83), ксёндз у Пінску (1683—84), духоўнік езуіцкага дома ў Пашаўшы (1684—87). Пераклаў на польскую мову твор «Праўды каталіцкай веры» («Prawdy wiary kilolickiej», Вільня, 1676).

**Леснавольскі** (Лесьнёвольскі) Станіслаў (?—1565), ваенны дзеяч. З мазавецкага шляхецкага роду герба «Калюмна» («Рох»). У маладосці быў дваранінам Жыгімонта II Аўгуста. Адначасова ў 1540-х г. пачаў вайсковую службу. У 1550-х г. звязаны з каралевай Бонай, ад якой каля 1555 атрымаў Ружанскае і Макаўскае староствы. Удзельнічаў у паходзе на Посваль у Інфлянтах у 1557, за што ў тым жа годзе атрымаў урад кашталяна цеханаўскага. Дзякуючы ўдзелу ў *Інфлянцкай вайне 1558—82* Л. зрабіў хуткую кар'еру. У 1561 у складзе дапаможных польскіх войск пад камандаваннем Фларыяна Зэбжыдоўскага на чале коннай харугвы ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях у Інфлянтах, у 1562 — у паходзе ў напрамку Полацка і Азярышча. Не дачакаўшыся войск вял. гетмана ВКЛ Міка-



лая Радзівіла Чорнага, польскія войскі на чале з Л. рушылі на маскоўскую крэпасць Невель. 19.8.1562 адбылася бітва з маскоўскімі войскамі на чале з кн. Андрэем Курбскім, якія значна пераўзыходзілі сілы Л. (25 тыс. маскоўскіх ратнікаў супраць 1300 кавалерыстаў і 200 пехацінцаў Л.). У выніку бітвы маскоўскія войскі панеслі вял. страты. Пасля гэтага Л. прызначаны камандуючым польскімі войскамі замест Зэбжыдоўскага і выконваў гэтыя функцыі да смерці. У 1564 атрымаў урады кашталяна варшаўскага і чэрскага. У канцы 1564 разам з войскамі ВКЛ атрады Л. (4900 адзінак конніцы і 3700 пяхоты) удзельнічалі ў спробе вызвалення Полацка. У 1565 дзейнічаў на маскоўскай граніцы і ў глыбі маскоўскай тэр. на Пскоўшчыне і Смаленшчыне.

**Лінкаўскі кляштар кармелітаў абутых.** Існаваў у мяст. Лінкава ў Жамойці (цяпер г. Лінкува, Літоўская Рэспубліка). Драўляны Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі Шкаплернай заснаваны Кацярынай Міхайлаўнай з Жэймаў у 1503. У 1593 побач з касцёлам Якуб Белазор пабудаваў мураваны кальвінскі збор. Паміж католікамі і кальвіністамі часта ішлі спрэчкі за права валодання будынкам збора. Згодна з выракам Трыбунала ВКЛ у 1604 збор перададзены католікам, асвячоны як касцёл жамойцкім біскупам Мікалем Пацам у 1611. Кляштар кармелітаў абутых заснаваў пры касцёле жамойцкі біскуп Ежы Тышкевіч 29.11. 1634. Фундуш пацверджаны жамойцкімі біскупамі Пятром Парчэўскім (1652) і Аляксандрам Сапегам (1661), каралём польскім і вял. кн. літ. Янам III Сабескім (1681). Касцёл моцна пацярпеў ад пажару 1690, у якім згарэў і першапачатковы драўляны кляштарны корпус, пабудаваны ў 1689. У 1745 касцёл зноў асвячоны. Да 1754 пабудаваны мураваны ўсх. кляштарны корпус, злучаны з касцёлам. Пазней ён быў падоўжаны і рэканструяваны. У 1755 і 1761 пабудаваны паўд. і паўн. карпусы. Канчаткова будаўніцтва кляштара скончана ў 1773. У 1832 кляштар зачынены рас. ўладамі. Касцёл — крыжовы ў плане храм, пабудаваны ў рэнесансным стылі. Мае 2 вежы, прыбудаваныя да гал. фасада, і 2 капліцы. Прыбудаваная пазней сакрысція парушыла першапачатковую сіметрыю плана. Гал. фасад упрыгожаны ляпнымі дэталямі.

*Літ.*: Didžpetris V. Linkuvos karmelitų bažnyčia ir vienuolynas. Vilnius, 1993; Яго ж. Linkuvos parapijos bažnyčios ir karmelitų venuolyno istorijos bruožai // Žemaičių praeitis. Vilnius, 1994. T. 3.

**Лінтфары** Марцін Ян (? — каля 1514—15), дзеяч каталіцкай царквы ВКЛ, дыпламат. Быў літвінам нямецкага паходжання, відаць, мешчанінам, які пасля атрымання біскупскай годнасці набыў шляхецтва з гербам «Мярава». Паводле звестак Альберта *Каяловіча*, 30 гадоў вучыўся ў Італіі, дзе стаў знатаком права (паводле папскай булы, атрымаў літ. адукацыю). Паводле некаторых дадзеных, з 1463 канонік віленскі, пробашч Віленскага касцёла св. Яна. Прыкладна з 1491 архідыякан віленскага капітула, з 8.10.1492 біскуп жамойцкі. Меў шматлікія бенефіцыі: канонії ў Познані і Бельгіі, плябанію ў Гнезненскай архідыяцэзіі, алтарыю св. Мікалая ў Калішы, заставаўся канонікам віленскім. У Жамойцкай епархіі стварыў 7 новых парафій, уладкаваў канцылярыю і архіў біскупаў. У 1507 фундаваў капліцу і алтарыю ў Варнiскім кафедральным касцёле. Адыгрываў значную ролю ў палітыцы ВКЛ. У 1496 удзельнічаў у працы Віленскага з'езда па выпрацоўцы ўмоў польска-літоўскай уніі. У 1499 пасол ВКЛ у Польшчу, удзельнічаў у перагаворах адносна уніі паміж прадстаўнікамі ВКЛ і Польшчы ў Кракаве. У 1501 пасол у Польшчу ў справе абрання вял. кн. літ. Аляксандра на польскі трон. Прыхільнік *Мельніцкай уніі 1501*. Удзельнічаў у Віленскім сойме 1508—09.

*Літ.*: Błaszczyk G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w. Ustrój. Poznań, 1993.

**Лінь** Алена Апалонія дэ (1763— 30.10.1815), мемуарыстка. Дачка кн. Юзафа Адрыяна Масальскага, надворнага падскарбія ВКЛ, і Антаніны з Радзівілаў. Рана страціла бацькоў і выхоўвалася дзядзькам, віленскім біскупам Ігнаціем *Масальскім*. З-за падтрымкі Барскай канфедэрацыі біскуп у 1771 быў вымушаны выехаць у Францыю, куды звёз і падапечную. Выхоўвалася ў Парыжы ў пансіёне, захаплялася тэатрам і балетам (пасля часта іграла ў аматарскіх спектаклях). У 1779 выйшла замуж за Шарля Жазефа Эмануэля дэ Лінь, сына аўстрыйскага фельдмаршала Шарля Жазефа дэ Лінь. З дапамогай шлюбу біскуп планаваў вярнуць страчаныя пазіцыі ў Рэчы Паспалітай (меркаваў пра перадачу трона Рэчы Паспалітай мужу або зяцю Л.). Пасля заключэння шлюбу Л. жыла ў Фландрыі, Бруселі, Парыжы, у Варшаве, з 1787 у Вільні, гасцявала ў Радзівілаў у Нясвіжы. Пасля смерці мужа ў 1792 выйшла замуж за Вінцэнта Патоцкага. Гаспадарыла ў маёнтках на Украіне, часта вандравала па Еўропе. Памерла ў Парыжы. Дзённікі Л. ахопліваюць 1772—79, калі яна жыла ў парыжскім пансіёне, і некаторыя пазнейшыя гады. Упершыню часткова выдадзены ёю, цалкам у 1887.

**Ліпінскі** (Липинський) Вячаслаў Казіміравіч [Вацлаў Вікенцій; 5(17). 4.1882, с. Затурцы Уладзімірскага пав., Валынь—14.6.1931], украінскі гісторык, паліт. дзеяч. З польскага шляхецкага роду. Пасля навучання ў гімназіях служыў у рас. арміі. Вучыўся ва ун-тах Кракава (1903—06) і Жэневы (1906— 07). Вёў гаспадарку ва ўласным маёнтку на Уманшчыне. Яшчэ ў гімназічныя гады далучыўся да ўкр. незалежніцкага руху. Выступаў за аднаўленне ўкр. дзяржавы, імкнуўся далучыць да гэтага працэсу польскую і спаланізаваную шляхту, што жыла на ўкр. землях (брашура «Шляхта на Украіне: яе ўдзел у жыцці народа на фоне яго гісторыі», «Szlachta na Ukrainie: Udział jej w życiu narodu na tle jego dziejów», Кракаў, 1909). З 1908 супрацоўнічаў з укр. газетай «Рада». Рэдактар калектыўнай кнігі «З гісторыі Украіны» («Z dziejów Ukrainy», Кіеў, 1912), у якую ўвайшлі яго працы «Назва Русь і Украіна і іх значэнне», «Станіслаў Міхаіл Крычэўскі», «Багданавым шляхам», «Дакументы Руіны» і інш. У працы, прысвечанай Крычэўскаму — паплечніку гетмана Багдана Хмяльніцкага, які паходзіў з Беларусі, Л. на шырокім гіст. фоне паказаў укр. вызваленчы рух у сярэдзіне 17 ст., ролю ў ім выхадцаў з ВКЛ, ваен-



ныя дзеянні казакоў на тэр. Беларусі. У 1914—17 Л. служыў у рас. арміі. Урадам гетмана П.Скарападскага ў 1918 прызначаны паслом Украіны ў Аўстра-Венгрыі і заставаўся на гэтай пасадзе да 1919. Пасля жыў у эміграцыі ў Аўстрыі. Выступаў за стварэнне Укр. дзяржавы як спадчыннай манархіі на чале з гетманам, прататып якой бачыў ва Укр. казацкай дзяржаве, што ўзнікла ў выніку нац.-вызваленчай барацьбы ў сярэдзіне 17 ст.

*Тв.*: Данило Братковський — суспільний діяч і письменник кінця XVII століття // Літературно-науковий вістник. Київ; Львів, 1909. Т. 45, кн. 2; Генерал артилерії в. кн. Руського: (з архіву Немиричів) // Записки Наукового товариства імени Шевченка. Львів, 1909. Т. 87; Аріянський соймик в Киселині на Волині в маю 1638 р.: (причинок до історії аріянства на Україні) // Там жа. 1910. Т. 96; Повне зібрання творів, архів, студії: архів, листування. Т. 1. Київ; Філадельфія, 2003.

*Літ.*: Гирич І.Б. Лицар української державності: (нарис життя і діяльності Вячеслава Липинського) // Архіви України. 1992. № 1—3; В'ячеслав Липинський: історико-політологічна спадщина і сучасна Україна. Київ; Філадельфія, 1994; Масненко В. Історичні концепції М.С.Грушевського та В.К.Липинського. Київ; Черкаси, 2000; Бундак О.А. Вячеслав Липинський: погляд крізь віки // Асоба ў гісторыі: матэрыялы Другой міжнар. навук.-практ. канф. студэнтаў, аспірантаў і маладых вучоных, прысвеч. памяці прафесара У.У.Мелішкевіча (Брэст, 12—13 лістап. 2004 г.). Брэст, 2006; Осташко Т.С. В'ячеслав Липинський: постать на тлі доби // Український історичний журнал. 2007. № 2; Gancarz B. My szlachta ukraińska: Zarys życia i działalności Wacława Lipińskiego, 1882—1914, Kraków, 2006.

**Ліпніцкі** Станіслаў Ян (каля 1615—да 17.10.1681), ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З шляхецкага роду герба «Галобак» з Мазырскага пав. У 1632 удзельнічаў у элекцыі караля польскага і вял. кн. літ. Уладзіслава IV. З 1635 служыў у войску. У пач. *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* паручнік казацкай харугвы Зыгмунта Слушкі, надворнага харужага ВКЛ, у час яго адсутнасці камандаваў палком пад час паходу 1654 гетмана Януша Радзівіла супраць рас. войск. У баях пад в. Палонна разбіў 2 атрады рас. войск, пасля вымушаны адступіць да гал. лагера пад Оршай. У 1655 удзельнічаў у абароне Вільні, пасля яе здачы адмовіў у паслушэнстве Радзівілу, які пайшоў на заключэнне саюзу са Швецыяй. Л. са сваімі войскамі адышоў пад Коўна, пасля на мяжу з Прусіяй. Далучыўся да Вярбілаўскай канфедэрацыі 1655 войска ВКЛ, якая абвясціла пра захаванне вернасці каралю польскаму і вял. кн. літ. Яну II Казіміру. Пасля смерці Я.Радзівіла Л. атрымаў 2 былыя радзівілаўскія староствы (Сейвы і Віжаны). У 1656 ваяваў у складзе дывізіі Паўла Яна Сапегі. У 1659 удзельнічаў у пераможнай бітве са шведамі пад Салатамі ў Гарадзенскім ваяв., узяў у палон генерала Адэркаса, пасля ачышчаў ад шведаў Курляндыю. У 1660 удзельнічаў у вызваленні бел. земляў ад войск кн. І.А.Хаванскага, у *Палонкаўскай бітве 1660*, заняў Мірскі замак. У 1661 камандаваў палком. Удзельнічаў у *Хацінскай бітве 1673*, дзе быў цяжка параненых. Маршалак мазырскі з 1658, пасол на соймы 1667 і 1668 (канвакацыйны). За шматгадовую вайсковую службу ў 1676 атрымаў ад сойма 30 тыс. злотых, забяспечаных на маёнтках у Троцкім пав.

*Літ.*: Касажэцкі К. Кампанія 1660 году ў Літве // Arche = Пачатак. 2006. № 6; Бабятынскі К. Ад Смаленску да Вільні: вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.) // Там жа. 2008. № 7—8.

**літвіны Севершчыны,** гістарычная назва беларускамоўнага насельніцтва паўднёва-заходніх паветаў былой Чарнігаўскай губ. — Гараднянскага, Мглінскага, Навазыбкаўскага, Старадубскага і Суражскага. У 9— 12 ст. гэты рэгіён быў сумежжам плямён севяран, радзімічаў і вяцічаў, насіў назву Севершчына і першапачаткова ўваходзіў у склад Чарнігава-Северскага княства. У сярэдзіне 14 ст. Севершчына далучана вял. кн. Альгердам да ВКЛ. У 1503—1618 і з 1667 у складзе Рас. дзяржавы. У навук. ўжытак тэрмін «літвіны» адносна беларускамоўных жыхароў Чарнігаўшчыны ўвёў у канцы 18 ст. Апанас Шафонскі. П.Білецкі-Насенка ў сваім «Слоўніку украінскай мовы» (1843) пісаў: «Литвин. Житель и подданый Вел[икого] Княж[ества] Литвы. Полтавские малороссияне называют литвинами всех жителей задесенских, говорящих белорусским «наречием». У 19 ст. працы, прысвечаныя Л.С., выдалі Г.Есімантоўскі і С.Максімаў, у пач. 20 ст. — А.Рубец. Адным з гал. даследчыкаў Л.С. была Марыя Косіч, якая ў 1901 у часопісе «Живая старина» надрукавала манаграфію «Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни» (у 1902 выйшла асобным выданнем). У савецкі час Л.С. вывучалі П.Растаргуеў, А.Сержпутоўскі. Самі сябе Л.С. называлі «рускімі» і «казакамі». Яны ўсведамлялі сваё адрозненне ад велікарус. насельніцтва («маскалі», «кацапы»). Этнонім «беларусы» Л.С. не ўжываўся, бо на Чарнігаўшчыне ў канцы 19—пач. 20 ст. не было элітарнага бел. нац. руху. Л.С. адрозніваліся ад суседняга велікарус. і ўкр. насельніцтва этнічнымі рысамі адзення (белыя даматканыя світкі, жаночы галаўны ўбор намітка, мужчынскі — магерка), абрадамі і мовай (вельмі блізкая да гаворак Усх. Гомельшчыны). Моўныя асаблівасці ў сельскай мясцовасці з-за замкнёнасці сельскага жыцця ў мінулым і аддаленасці ад вял. адм. і прамысловых цэнтраў у новы час захоўваюцца па сённяшні дзень. Тэр. былой Чарнігаўскай губ. ў савецкі час была падзелена паміж РСФСР і УССР і былыя Л.С. ўсведамляюць сябе цяпер адпаведна рускімі і ўкраінцамі. Толькі невял. частка літвінаў Чарнігаўшчыны (жыхары в. Казацкія Балсуны і Неглюбка былога Суражскага пав., што ўвайшлі ў склад БССР) была далучана да працэсаў кансалідацыі бел. нацыі.

*Літ.*: Казлоў Л., Цітоў А. Беларусь на сямі рубяжах. Мінск, 1993; Катлярчук А. Беларусы бранскага краю // Arche. 2001. № 2; Горленко В. Литвини півночі України — ймовірний уламок нащадків племені літописних сіверян // Пам'ятки України: історія та культура. 2001. № 1—2. ***Уладзімір Васькоў.***

**«Літоўскі летапіс»,** умоўная назва летапіснага твора, які, паводле меркавання У.Ц.Пашуты, напісаны ў сярэдзіне 13 ст. ў адным з праваслаўных манастыроў Навагародка ці яго ваколіц і адлюстроўваў працэс утварэння ВКЛ. Мяркуецца, што «Л.л.» складаўся з серыі жыццяпісаў літ. князёў: пра княжанне і забойства Міндоўга і Траняты, княжанне Войшалка, Шварна і Трайдзеня. На падставе таго,



што ў гэтых звестках важным цэнтрам з'яўляўся Новагародак і адзначана, што Войшалк «хрысціўся тут, у Новагародку», Пашута лічыў верагодным месцам стварэння «Л.л.» Новагародак або манастыр «паміж Літвою і Новагародкам», што заснаваў Войшалк на р. Нёман. Даследчык адзначаў, што «літоўскія» звесткі маюць асаблівую «праваслаўна-рытарычную» форму, і выказаў меркаванне, што «Л.л.» карыстаўся валынскі летапісец, такім чынам звесткі з «Л.л.» трапілі ў *Галіцка-Валынскі летапіс*. Існаванне «Л.л.» аспрэчваў У.Д.*Каралюк*, які адзначыў, што звесткі Галіцка-Валынскага летапісу, што адносяцца да гісторыі Літвы, не складаюць ні па форме, ні па змесце адзінага літ. цэлага, амаль не адлюстроўваюць падзей унутрыпаліт. развіцця Літоўскага княства. Супраць гіпотэзы пра існаванне «Л.л.» выказаўся А.А.Зімін, які лічыў, што «літоўскія» звесткі Галіцка-Валынскага летапісу не маюць асаблівага стылю і моўных асаблівасцей і не адлюстроўваюць разнастайных падзей Літоўскага княства. Пытанне пра верагоднасць «Л.л.» застаецца адкрытым.

*Літ.*: Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950. С. 113—121; Его ж. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 37—42; Вилкул Т. О некоторых источниках литовских известий Галицко-Волынской летописи // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės istorijos šaltiniai: Faktas. Kontekstas. Interpretacija. Vilnius, 2007.

**літоўскія браты**, саманазва рэлігійнага аб'яднання *антытрынітарыяў* у ВКЛ у апошняй трэці 16—пач. 17 ст. Л.б. падтрымлівалі цеснае ідэйнае і арганізацыйнае адзінства з антытрынітарыямі Польскага каралеўства (польскімі братамі). У гэтай сувязі назва «польскія браты» часам мела шырокі сэнс і абазначала ўсе абшчыны антытрынітарыяў Рэчы Паспалітай. Фарміраванне абшчын Л.б., як і польскіх братоў, узыходзіць да расколу ў евангелісцка-рэфармацкай царкве ў 1562— 65, калі з яе вылучылася радыкальна-рэфармацыйная плынь, вучэнне якой было несумяшчальным з пастулатамі традыцыйнага пратэстантызму, і ўтварыла асобную рэлігійную арганізацыю (т.зв. меншы збор). У ВКЛ на канец 16 ст., паводле падлікаў польскага гісторыка Г.Мерчынга, налічвалася 14 абшчын Л.б., з іх па 4 былі ў Віленскім і Новагародскім ваяв., 3 — у Жамойцкім старастве, 2 — у Берасцейскім і 1 — Троцкім ваяводствах. Найб. значныя абшчыны дзейнічалі ва ўладаннях Яна Кішкі, які быў гал. апекуном антытрынітарыяў у ВКЛ. Гал. цэнтрамі Л.б. былі Новагародак, Іўе, Лоск, Любча, Клецк. Пры абшчынах былі заснаваны школа ў Іўі, *Лоская друкарня*. У сац. аспекце ў абшчынах Л.б. была прадстаўлена пераважна дробная шляхта. Арганізацыйная структура аб'яднання Л.б. была пабудавана на ўзор евангелісцка-рэфармацкай царквы. Вышэйшая ўлада належала агульнаму сіноду польскіх братоў і Л.б. (з 105 сінодаў, праведзеных у Рэчы Паспалітай у 1569— 62, 8 адбыліся ў ВКЛ). Часам скліканіся асобныя правінцыйныя сіноды Л.б. Функцыі рэлігійнага навучання выконвалі міністры (прапаведнікі), адм.-распарадчыя і кантрольныя функцыі ажыццяўлялі свецкія сеньёры. У аснову веравучэння Л.б., як і польскіх братоў, было пакладзена абвяшчэнне Святога Пісьма адзінай крыніцай трансцэндэнтнай ісціны. Найбольш паслядоўна, у параўнанні з інш. пратэстанцкімі плынямі, адмаўляўся аўтарытэт царк. традыцыі. Польскія браты і Л.б. імкнуліся да адраджэння першапачатковага хрысціянства, заснаванага на аўтэнтычным разуменні біблейскіх тэкстаў і ачышчанага ад знешніх уплываў. Традыцыйныя хрысціянскія цэрквы, найперш каталіцкая, абвінавачваліся імі ў падмене вучэння Хрыста ідэямі і практыкамі нехрысціянскага паходжання. З еўрапейскіх рэфармацыйных рухаў 16 ст. найбольшы ўплыў на фарміраванне веравучэння польскіх братоў і Л.б. мелі італьянскі антытрынітарызм і паўднёвагерманска-мараў-скі анабаптызм. Тэалагічная дактрына польскіх братоў і Л.б. грунтавалася на прынцыпах паслядоўнага монатэізму. У яго аснове знаходзілася вера ў адзінага Бога. Дагмат традыцыйных хрысціянскіх цэркваў пра Тройцу адмаўляўся. Ісус Хрыстос разглядаўся як чалавек, абраны Богам для здзяйснення асаблівай місіі выратавання чалавецтва, усыноўлены Богам і надзелены ім звышнатуральнымі якасцямі; але пры гэтым адмаўлялася наяўнасць боскай сутнасці ў Хрыста, яго адзінаістотнасць з Богам-Айцом. Святы Дух, які ў традыцыйных цэрквах інтэрпрэтаваўся як трэцяя асоба боскай Тройцы, разумеўся як атрыбут Бога, а не самастойная сутнасць. Адмаўляліся вера ў бессмяротнасць душы, індывідуальны замагільны суд і чысцілішча; у супрацьвагу ім пастуліраваліся вера ва ўсеагульнае ўваскрэсенне мёртвых (уваскрэсенне як духоўнай, так і цялеснай субстанцый) і ўсеагульны суд падчас другога прышэсця Хрыста і якаснага пераўтварэння свету. Адмаўляліся як перажыткі язычніцтва культ абразоў, святых, рэліквій, большасць абрадаў і інш. элементы традыцыйнага рэлігійнага культу. У зборах Л.б. захаваліся нешматлікія абрады (прычасце, хрышчэнне), якім надаваўся не трансцэндэнтны, а сімвалічны сэнс. Эклезіялогія польскіх братоў і Л.б. абапіралася на рэфармацыйны прынцып усеагульнага святарства, які прадугледжваў роўнае права на вывучэнне, тлумачэнне і прапаганду Святога Пісьма для ўсіх вернікаў; царк. іерархія рашуча адмаўлялася. У дактрыне польскіх братоў і Л.б. рабіўся акцэнт на строгае выкананне евангельскіх маральных патрабаванняў. У сац. аспекце гэта выяўлялася ў забароне любога выкарыстання насілля і сектанцкай арыентацыі на мінімізацыю кантактаў з афіцыйнымі грамадскімі структурамі, што прадугледжвала забарону на ўдзел у войнах і нават нашэнне зброі, займанне дзярж. пасад, звароты ў дзярж. ўстановы, гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні каго-небудзь. Частка радыкальных антытрынітарыяў нават прапагандавала адмаўленне шляхты ад сваіх маёнткаў і выкарыстання сродкаў феад. эксплуатацыі. Падкрэслівалася гатоўнасць вернікаў ісці на пакуты дзеля хрысціянскіх прынцыпаў (ідэя «нясення крыжа праз усё жыццё»). На практыцы, аднак, многія забароны не дзейнічалі.

У 2-й пал. 1560—80-я г. сярод антытрынітарыяў выявіліся істотныя рознагалоссі адносна як тэалагічнага, так і сацыяльна-паліт. вучэння. Яны прывялі да фарміравання 2 плыняў. Пера-



вагу мелі прадстаўнікі радыкальнага кірунку, у межах якога панаваў тэалагічны містыцызм і сац. радыкалізм (Гжэгаж Павел, Марцін *Чаховіц*, Ян Немаеўскі і інш.). У тэалогіі асн. сродкам пазнання рэлігійнай ісціны яны лічылі ўнутранае адкрыццё, непасрэдны духоўны кантакт чалавека з Богам; адносіны да рацыяналістычнай тэалогіі і філасофіі мелі негатыўны характар. Сац. вучэнне гэтай плыні грунтуецца на фундаментальным супрацьпастаўленні «свету сапраўдных хрысціян» і «свету граху», якія сутнасна адрозніваюцца адзін ад аднаго. «Свет сапраўдных хрысціян» уяўляе з сябе неінстытуцыяналізаваную духоўную супольнасць абраных Богам вернікаў, што кіруюцца ў сваёй жыццядзейнасці выключна евангельскімі нормамі маралі. У той жа час «свет граху» ўяўляе з сябе сукупнасць індывідаў, якія знаходзяцца па-за межамі абранай Богам супольнасці і кіруюцца эгаістычнымі інтарэсамі; арганічнай яго часткай з'яўляюцца афіцыйныя грамадскія структуры, у першую чаргу дзяржава, якія ў сваёй дзейнасці выкарыстоўваюць інструменты прымусу. Задача «сапраўдных хрысціян» палягае ў тым, каб цвёрда прытрымлівацца норм евангельскай маралі і адмяжоўвацца ад нехрысціянскай па сваёй сутнасці дзейнасці ў сферы дзярж. жыцця, што мела характар пэўнага духоўнага арыстакратызму. Гал. ідэолагам памяркоўнай плыні быў Сымон *Будны*. У тэалагічным вучэнні гэтай плыні дамінаваў рацыяналістычны падыход пры тлумачэнні Святога Пісьма; вера абапіралася на рацыянальныя довады і высновы. У канцэпцыі Буднага найб. паслядоўна падкрэсліваўся монатэізм: адмаўлялася не толькі боская сутнасць, але таксама звышнатуральнае і боскае паходжанне Хрыста, неабходнасць малітваў да яго. У сувязі з гэтым дадзенае вучэнне асуджалася Чаховіцам за ўхіл у бок іудаізму. У сац.-паліт. аспекце Будны і яго прыхільнікі падкрэслівалі адсутнасць прынцыповай супярэчнасці паміж хрысціянскім вучэннем і дзейнасцю дзярж. інстытутаў. Яны апраўдвалі ўдзел «сапраўдных хрысціян» у дзяржаўна-паліт. дзейнасці, займанне дзярж. пасад, удзел у войнах, валоданне шляхтай маёнткамі і феад. эксплуатацыю; асабліва акцэнтаваліся пры гэтым боскае паходжанне дзярж. улады і неабходнасць падпарадкавання ўсім яе распараджэнням.

Суперніцтва паміж 2 плынямі выявілася на сінодзе ў Іўі 1568, дзе адбыўся дыспут паміж радыкальна настроенымі Якубам з Калінаўкі і Паўлам з Візны з аднаго боку і Будным з другога па пытанні аб валоданні шляхтай маёнткамі і выкарыстання ёю працы падданых. На сінодзе сярод Л.б., таксама як і сярод польскіх братоў, пераважалі радыкалы. Пасля таго як у 1569 утварыўся ідэйны цэнтр радыкальнага антытрынітарызму ў мяст. Ракаў (Сандамірскае ваяв., Польшча), у ВКЛназіраецца перавага прыхільнікаў памяркоўнай плыні на чале з Будным. З канца 1570-х г. абвастрылася супрацьстаянне паміж 2 плынямі па праблеме адносін хрысціян да дзярж. інстытутаў улады. Сярод польскіх братоў дамінавалі погляды прыхільнікаў радыкальнай плыні, што выявілася на сінодах 1578—82. У той жа час на асобным сінодзе Л.б. у Любчы 1582 знайшла падтрымку пазіцыя прыхільнікаў Буднага. Супрацьстаянне скончылася выключэннем Буднага са збору на сінодзе ў Венграве ў 1584 і падпарадкаваннем Л.б. агульным рашэнням арганізацыі. У немалой ступені гэтаму паспрыяў Кішка, які, нягледзячы на падтрымку поглядаў Буднага, імкнуўся да захавання арганізацыйнага адзінства.

З 2-й пал. 1580-х г. сярод Л.б. пачало пераважаць *сацыніянства*, якое замацавалася таксама сярод польскіх братоў. Найб. вядомы яго прадстаўнік — Ян Ліцыній *Намыслоўскі*. Тэалогія сацыніянства вызначалася наступнымі асн. рысамі: рацыяналізацыя веры, увасобленая ў прынцыпе «рэлігія не можа супярэчыць розуму»; дыферэнцыяцыя фундаментальных рэлігійных ісцін, «неабходных для выратавання» (найб. агульныя палажэнні хрысціянскай рэлігіі: вера ў існаванне Бога, яго ўсемагутнасць, выключную місію Ісуса Хрыста, аўтарытэт Святога Пісьма, новазапаветныя маральныя імператывы), і дыскусійных ісцін (большасць рэлігійных пастулатаў, якія становяцца прадметам міжканфесійных спрэчак); узмацненне ацэнту на маральна-этычных патрабаваннях хрысціянства; сцвярджэнне свабоднай волі чалавека. У сацыяльна-паліт. аспекце сацыніянства ўяўляла з сябе кампраміснае вучэнне паміж радыкальнай і памяркоўнай плынямі антытрынітарызму: пастуліруецца прынцыповае негатыўнае стаўленне да сац. насілля з пункту гледжання хрысціянскага вучэння; у той жа час істотна аслабляецца дуалістычнае супрацьпастаўленне «свету сапраўдных хрысціян» і афіцыйных грамадскіх структур. Вял. ўвага ў сацыніянстве надавалася абароне прынцыпу верацярпімасці.

У канцы 16—пач. 17 ст. ў дзейнасці Л.б. адбываўся крызіс. Гэта было звязана з развіццём контррэфармацыйнага руху, адыходам шляхты ад антытрынітарызму. Пасля смерці Кішкі (1592) перасталі дзейнічаць абшчыны Л.б. у яго былых уладаннях. У 1617 у выніку «тумульту», арганізаванага каталіцкім духавенствам, быў разагнаны сабраны ў Навагародку правінцыйны сінод Л.б. У 1618 уладамі быў зачынены апошні збор Л.б. у Навагародку. Да сярэдзіны 17 ст. існавалі нешматлікія абшчыны антытрынітарыяў у Навагародку, Кейданах, Любчы, якія падтрымлівалі сувязь з польскімі братамі. Паводле рашэння сойма 1658 пачалася дэпартацыя антытрынітарыяў з тэр. Рэчы Паспалітай, якая канчаткова завяршылася ў 1662. У выніку гэтага рэшткі Л.б. эмігрыравалі ў краіны Зах. Еўропы або прынялі каталіцтва.

*Літ.*: Любович Н.Н. История Реформации в Польше: кальвинисты и антитринитарии: (по неизданным источникам). Варшава, 1883; Саверчанка І.В. Сымон Будны: гуманіст і рэфарматар. Мінск, 1993; Іванова Л.І. З гісторыі рэфармацыйнага кнігадрукавання ў Беларусі // Беларусіка=Albaruthenica. Мінск, 1998. Кн. 9; Бортнік І.А. Ідэя ненасілля ў кантэксце праблемы талеранцыі ў грамадскай думцы радыкальна-рэфармацыйнага руху ВКЛ і Польшчы XVI—XVII стст. // Весн. Брэсцкага дзярж. ун-та імя А.С.Пушкіна. Сер. гуманіт. і грамад. навук. 2007. № 1; Яго ж. Верацярпімасць як сутнаснае вызначэнне талеранцыі ў радыкальна-рэфармацыйным вучэнні «Польскіх і Літоўскіх братоў» // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. 2008. № 7; Порецкий Я.И. Симон Будный — передовой белорусский мыслитель XVI в. Минск, 1961;



П о д о к ш и н С.А. Реформация и общественная мысль Беларуси и Литвы (вторая половина XVI—начало XVII вв.). Минск, 1970; Я г о ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мінск, 1990 M e r c z y n g H. Zbory i senatorowie protestanccy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1904; Я г о ж. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913; M o r a w s k i S. Arianie polscy. Lwów, 1906; G r a b o w s k i T. Literatura ariańska w Polsce 1560—1660. Kraków, 1908; Z a c h o r o w s k i S. Najstarsze synody arjan polskich // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1921. R. 1, N 3; P ł o k a r z J. Jan Niemojewski, studium z dziejow arjan polskich // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1922. R. 2, N 5—6; G ó r s k i K. Grzegorz Paweł z Brzezin: Monografia z dziejów polskiej literatury arjańskiej XVI wieku. Kraków, 1929; Я г о ж. Studia nad dziejami polskiej literatury antytrynitarskiej XVI w. Kraków, 1949; K o t S. Ideologia polityczna i społeczna Braci Polskich zwanych Arjanami. Warszawa, 1932; Я г о ж. Ausbruch und Niedergang des Täufertums in Wilna (1563—1566) // Archiv für Reformationsgeschichte. 1958. T. 58; H a r t l e b K. Zagadnienie reformacji na ziemiach litewskich. Lwów, 1935; J a s n o w s k i J. Piotr z Goniądza. Warszawa, 1935; S z c z o t k a S. Synody arian polskich od założenia Rakowa do wygnania z kraju (1569—1662) // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1935—36. R. 7—8, N 25—32; L e p s z y K., K a m i ń s k a A. Geneza i program społeczny radykalnego nurtu Braci Polskich // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1956. T. 1; T a z b i r J. Ideologia arian polskich. Warszawa, 1956; Я г о ж. Walka z Braćmi Polskimi w dobie kontrreformacji // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1956. T. 1; Я г о ж. Arianie i katolicy. Warszawa, 1971; Я г о ж. Reformacja w Polsce: Szkice o ludziach i doktrynie. Warszawa, 1993; U r b a n W. Losy Braci Polskich od założenia Rakowa do wygnania z Polski // Odrodzenie I Reformacja w Polsce. Warszawa, 1956. T. 1; C h m a j L. Bracia Polscy: ludzie, idee, wpływy. Warszawa, 1957; O g o n o w s k i Z. Z zagadnień tolerancji w Polsce XVII wieku. Warszawa, 1958; Я г о ж. Socynianizm polski. Warszawa, 1960; S z c z u c k i L. Jan Licinius Namysłowski // Studia nad arianizmem. Warszawa, 1959; Я г о ж. Marcin Czechowic (1532—1613): studium z dziejow antytrynitaryzmu polskiego XVI wieku. Warszawa, 1964; Я г о ж. Antytrynitaryzm w Europie Wschodniej // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1979. T. 24; Я г о ж. Szymona Budnego relacja o początkach i rozwoju anabaptyzmu w zborze mniejszym // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1986. T. 31; W i l l i a m s G.H. Anabaptism and Spiritualism in the Grand Duchy Lithuania // Studia nad arianizmem. Warszawa, 1959; K o s m a n M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propogandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; L u k š a i t e I. Radikalioji reformacjos kryptis lietuvoje. Vilnius, 1980; M i s i u r e k J. Chrystologia Braci Polskich: okres przedsocynianski. Lublin, 1983.

*Ігар Бортнік.*

**ліцэнта** (ад лацінскага licentia вольнасць), мясцовы падатак з гандлёвага абароту ў Слуцку ў 17—18 ст. Л. збіралася камендантам Слуцка, сабраныя грошы прызначаліся на ўтрыманне гарнізона і арганізацыю абароны горада. Л. бралася за продаж збожжа, жывёлы, рыбы, масла, мёду, воску, скуры, тытуню, солі, воўны, лёну, лясных матэрыялаў, напіткаў (акрамя гарэлкі), а таксама за ўзважванне на рынку. Дадзеныя пра збор Л. ўносіліся ў спец. кнігі, якія сведчаць пра характар гандлю і асартымент сельскагаспадарчых прадуктаў, што прадаваліся на рынку.

*Літ.*: Г р и ц к е в и ч А.П. Местный рынок сельскохозяйственных продуктов в Слуцком княжестве в Белоруссии в конце XVII—начале XVIII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1961 г. Рига, 1963.

**Лобенвейн** Ян Анджэй (31.1.1758, г. Вена—12.1.1820), медык. Чл.-карэспандэнт Рас. АН (1814). Атрымаў у Вене навук. ступені магістра хірургіі (1778) і акушэрства (1780). З 1781 ад'юнкт у клініцы Св. Тройцы. У 1783—85 выкладаў хірургію ў хірургічнай школе ў Пецярбургу. У 1785 у Іене атрымаў ступень д-ра медыцыны і хірургіі. Пасля ў Рызе губернскі штабс-лекар. У 1787 па запрашэнні Марціна Пачобута-Адляніцкага паступіў на працу ў Віленскі ун-т. У 1787—1820 выкладаў анатомію, хірургію, фізіялогію (па-польску), адначасова ў 1787—1803 прарэктар, з 1804 і да смерці (з невял. перапынкамі) першы дэкан медыцынскага факультэта. У 1799 быў кандыдатам на пасаду рэктара. Лекцыі Л. былі на высокім узроўні. Значна абагаціў анатамічны збор пры ун-це, арганізаваў анатамічны музей і амфітэатр. Адзін з заснавальнікаў Віленскага медыцынскага таварыства (1805), быў яго віцэстаршынёй і старшынёй. У 1812 атрымаў званне заслужанага прафесара і перайшоў на пенсію, але застаўся пры ун-це. З 1815 намеснік рэктара, у 1816—18 рэктар ун-та. Пакінуў шмат рукапісных прац, у т.л. падручнік па суд. медыцыне.

**Лойка** Антон (1746?, г. Слуцк—?), танцоўшчык і балетмайстар. Па паходжанні беларус. З 1756 вучыўся ў Слуцкай балетнай школе Гераніма Фларыяна Радзівіла (у А.Пуціні і Л.М. Дзюпрэ), быў салістам мясцовай трупы. З 1760 працаваў у прыдворным тэатры Радзівілаў у Нясвіжы (з 1779 педагог балетнай школы і балетмайстар). У 1780 пасланы Каралем Станіславам Радзівілам у Італію (Рым, Венецыя) і Аўстрыю (Вена) для азнаямлення з іх балетным мастацтвам. Вярнуўшыся, быў вядучым балетмайстрам (упамінаецца ў дакументах за 1782—87). Разам з Г.Петынецi рыхтаваў пастаноўку балета «Арфей у пекле» на лібрэта Ф.Каселі (1784). Працаваў у Нясвіжы з дачкой-балерынай да роспуску балета ў 1790.

*Літ.*: Б а р ы ш е в Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Лойка** Фелікс Францішак (пач. 1717, в. Грыбава Калішскага ваяв., Польшча—19.5.1779), эканаміст, праваВед, публіцыст, гісторык. Паходзіў з бел. шляхецкага роду герба «Вуж», што ў канцы 17 ст. перасяліўся ў Вял. Польшчу. Сын Караля, лоўчага аршанскага. Вучыўся ў Пазнанскім езуіцкім калегіуме, Рыцарскай акадэміі ў Легніцы, падарожнічаў па Зах. Еўропе. Жыў пры двары кн. Януша Вішнявецкага, пасля быў пажам караля польскага і вял. кн. літ. Аўгуста III, яго камер-юнкерам (1746), шамбялянам (1754). Падчашы аршанскі з 1749, стараста шропскі. Працягваў служыць пры двары Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які ў 1766 паслаў Л. як надзвычайнага пасла ў Парыж. З 1766 працаваў у Кампаніі ваўняных мануфактур, у 1772—78 камісар Скарбовай камісіі. Да 1772 жыў гал. чынам пры двары Вішнявецкіх, пасля ў Варшаве. У 1776—98 удзельнічаў у рэдактарскай працы над Кодэксам Анджэя Замойскага. З 1778 чл. Пастаяннай Рады (камісар Скарбовага



дэпартамента). У 1765—66 супрацоўнічаў з газетай «Monitor». У 1772—73 публікаваў (пераважна ананімна) ноты, мемарыялы і дыпламатычныя маніфесты, скіраваныя супраць 1-га падзелу Рэчы Паспалітай і гістарычна-прававых аргументаў Аўстрыі, Прусіі і Расіі, што яго легалізавалі. Пакінуў больш за 60 тамоў матэрыялаў і рукапісных прац па гісторыі, паліт. эканоміцы, ваенных і юрыд. праблемах. Рукапісамі Л. шмат карыстаўся Тадэвуш *Чацкі* і інш. навукоўцы.

*Літ.*: Madurowicz-Urbańska H. Prace Feliksa Łoyki nad historią gospodarczą i ekonomiczną Polski. Cz. 1. Pieniądz. Wrocław; Krakow, 1976.

**Лонцкі** Тамаш (7.3.1661, Мазовія—3.8.1729), дзеяч каталіцкай царквы. У 1677 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1689 ксёндз. Прапаведнік у Новай Мышы (1690—92), памочнік магістра навіцыята ў Вільні (1693—1702, 1713—29), рэктар дома 3-й прабацыі ў Нясвіжы (1702—05), рэктар калегіума ў Ломжы (1709—13). Аўтар аскетычных і катэхітычных твораў «Іскаркі агня чысцілішча» («Iskierki ognia czyśćowego», Варшава, 1726), «Паходня, выстаўленая перад душнымі вачыма чалавека, які застаецца ў цені смерці» («Pochodnia przed oczy duszne człowieka w cieniu śmierci zostającego wystawiona», Вільня, 1731), «Катэхізіс, альбо Навука пра веру» («Katechizm, albo nauka o wierze», Вільня, 1733), перакладу твора А.Радрыгеса «Пра развіццё ў дасканаласці і цнотах хрысціянскіх» («O postępowaniu w doskonałości i cnotach chrześcijańskich», Вільня, 1727).

**Лопат** (Лопат-Быкоўскі) Міхал (да 1749—пасля 1800), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Станіслава, старасты бабруйскага, польнага стражніка ВКЛ. З 1769 староста бабруйскі, належаў да групоўкі надворнага падскарбія ВКЛ Антонія *Тызенгаўза*. У 1775 заснаваў родавую камандорыю Мальтыйскага ордэна на аснове маёнтка Горваль у Рэчыцкім павеце. У 1776—81 вял. абозны ВКЛ. Пасол на сойм 1776 ад Старадубскага пав., увайшоў у склад соймавага суда. На сойм 1778 абраны ад Ваўкавыскага пав., выбраны ў склад Пастаяннай Рады (да 1780). У 1788—89 маршалак Трыбунала ВКЛ. Кавалер ордэнаў св. Станіслава (1778) і Белага Арла (1787). Прызнаў Канстытуцыю 3 мая 1791. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 ахвяраваў на ваенныя патрэбы 3 гарматкі. Пасля паражэння ў вайне актыўны дзеяч Таргавіцкай канфедэрацыі. Зблізіўся з яе кіраўнікамі Касакоўскімі. Удзельнічаў у Гарадзенскім сойме 1793 як пасол ад Навагародскага ваяв., увайшоў у склад дэпутацыі па падпісанні падзельных трактатаў з Расіяй і Прусіяй. Па загаду рас. пасла Я.Сіверса Л. уключаны ў склад Пастаяннай Рады. У публічнай думцы пра Л. ўсталявалася думка як пра здрадніка радзімы. У пач. 1794 атрымаў урад мечніка ВКЛ. Быў збіты на Навагародскім кантрактным кірмашы і вымушаны шукаць сховішча ў рас. салдат. Перад пачаткам паўстання 1794 Л. уцёк з краю, як мяркуецца, у Санкт-Пецярбург. Далейшы лёс невядомы.

**Лось** Якуб (1632—24.8.1688), ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, аўтар мемуараў. З шляхецкага роду герба «Дамброва». Прынамсі з 1655 запісаўся ў казацкую харугву сандамірскага ваяводы Уладзіслава Мышкоўскага. З 1656 харугва ўваходзіла ў склад дывізіі Стафана Чарнецкага. Удзельнічаў у бітвах са шведамі ў час *Паўночнай вайны 1655—60*. З 1660 у складзе харугвы Вацлава Ляшчынскага ўдзельнічаў у кампаніі ў Беларусі, *Палонкаўскай бітве 1660, бітве на Басе 1660*, бітве пад Талачыном. У 1661—63 удзельнічаў у вайсковай канфедэрацыі «Саюз свяшчэнны». Магчыма, удзельнічаў у задняпроўскім паходзе караля польскага і вял. кн. літ. Яна II Казіміра. Удзельнічаў у *Любамірскага рокашы 1665—66*. У 1667 пакінуў войска, заняўся гаспадараннем у маёнтку. У 1676—82 на аснове сваіх дыярыушаў пісаў успаміны, пасля да 1687 дапаўняючы іх генеалагічнымі звесткамі і выпіскамі з хронік. Мемуары Л. — каштоўная гіст. крыніца пра падзеі вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, ахопліваюць час 1646—67. У пачатку лаканічныя, становяцца падрабязнымі з 1656, асаблівую ўвагу аўтар удзяляў ваеннаму боку свайго жыцця. Упершыню апублікаваны ў 1858 у Кракаве.

*Тв.*: Pamiętnik towarzysza choragwi pancernej / Oprac. R.Śreniawa-Szczypiowski. Warszawa, 2000.

*Літ.*: Касажэцкі К. Кампанія 1660 году ў Літве // Arche = Пачатак. 2006. № 6; Śreniawa-Szypiowski R. Autograf pamiętnika Jakuba Łosia // Studia źrudłoznawcze. Warszawa, 1969. T. 14.

**Лоці** (Locci) Аўгусцін (каля 1600, г. Рым — пасля 21.10.1660), архітэктар, дэкаратар. Прыкладна з 1630 жыў у Рэчы Паспалітай, да 1651 знаходзіўся на службе ў каралёў польскіх і вял. князёў літ. Жыгімонта III, Уладзіслава IV і Яна II Казіміра. У 1637 упрыгожваў замак у Уяздаве з выпадку шлюбу Уладзіслава IV з Цэцыліяй Рэнатай. Праектаваў каралеўскі палац і парк у Казіміраўскім прадмесці ў Кракаве. У 1643 вызначыў размяшчэнне калоны ў гонар Жыгімонта III у Варшаве. Зрабіў шмат праектаў дэкарацый да оперных і балетных пастановак, тэатральных механізмаў. Апрацаваў сцэнаграфію оперы «Выкраданне Алены» (Вільня, 1636, 1-я пастаноўка оперы ў ВКЛ), пра якую сучаснік адзначаў, што яна «ўдалася дасканала, асабліва ўражвала вялікая колькасць механізмаў, зменаў сцэн і дэкарацый» (папскі нунцый М.Філанардзі).

**Лошыцкая царква**, помнік архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Пабудавана як уніяцкая царква ў в. Лошыца Менскага пав. (цяпер у межах Мінска) у стылі барока. Мураванае цэнтрычнае 8-граннае ў плане збудаванне накрыта шатровым дахам, завершаным шлемападобным купалам на глухім барабане. Фасады з франтонамі крывалінейнай канфігурацыі, пілястрамі, прафіляваным карнізам з сухарыкамі. Вокны паўцыркульныя і авальныя. Інтэр'ер зальны, перакрыты купальным скляпеннем. ***Уладзімір Дзянгсаў.***

**Луба** Ян Фаўстын (? — 1648?), палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. Яго бацька, падляскі шляхціц, у пач. 17 ст. ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях у Расіі, куды ўзяў жонку і сына. Пасля смерці бацькі Л. трапіў у палон, адкуль вызвалены ў 1619. Малады Л. выхоўваўся пры двары канцлера ВКЛ Льва Сапегі, яго настаўнікам некаторы час быў правасл. *Афанасій Берасцейскі*. Л. выдавалі за сына Лжэдзміт-



рыя II («цара Дзмітрыя Іванавіча») і Марыны Мнішак (сапраўдных бацькоў Л. таксама звалі Дзмітрый і Марына). У 1640 Л., плануючы заняць маскоўскі трон, звярнуўся за падтрымкай да турэцкага султана. Справа Л. разглядалася на афіцыйных перагаворах паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. Л., які служыў у каралеўскай гвардыі ў Бярэсці, у 1644 у прысутнасці сенатараў і маскоўскіх паслоў адмовіўся ад прэтэнзій на царскае паходжанне. Аднак Масква патрабавала выдаць Л. У 1645 разам з пасольствам Рэчы Паспалітай Л. прыехаў у Маскву даказваць сваю невінаватасць. Патрабаванні маскоўскага ўрада выдаць Л. зноў былі адхілены каралём польскім і вял. кн. літ. Уладзіславам IV. Ад імя караля і сенатараў маскоўскі бок атрымаў дэкларацыю, што Л. ніколі не будзе прэтэндаваць на царскі трон і не пакіне межаў Рэчы Паспалітай і што кожны, хто захоча выкарыстаць імя Л. для антымаскоўскіх акцый, будзе пакараны смерцю. Адпаведную пастанову прыняў пасля вяртання Л. сойм 1645. Мяркуецца, што Л. загінуў у бітве з укр. казакамі пад Піляўцамі.

*Літ.*: Станкевич А. Игумен Афанасий Филиппович и шляхтич Ян Луба // Памятники русской старины в западных губерниях. Санкт-Петербург, 1885. Вып. 8.

**лук,** тып кідальнай зброі, разлічанай на паражэнне праціўніка на значнай адлегласці. У аснове прынцыпу дзеяння Л. ляжыць згінанне пругкага прута шляхам адцягвання прымацаванай да яго канцоў струны-цецівы, якая пры рэзкім выпростванні прута напінаецца і выкідае снарад. Выдзяляюць простыя Л., у якіх прут ці лукавішча выраблялася з аднаго кавалка дрэва пэўных парод, і складаныя, што характарызаваліся спецыфічнай формай лукавішча, сабранага з неаднародных матэрыялаў. У сярэдневяковы на тэр. Усх. Еўропы прыярытэтнае значэнне меў складаны Л. Важным дадаткам да Л. з'яўляліся налучча і калчан для стрэл. Сярод усх.-еўрапейскіх калчаноў найб. пашыранымі былі цыліндрычныя з пашырэннямі ля дна і вусця, бытаваўшыя да 14 ст. Яны выраблялiся з бяросты і мелі прымацаванае цвікамі да корпуса драўлянае дно круглых ці авальных абрысаў; зверху калчаны часам абцягваліся скурай. Даўжыня такіх калчаноў дасягала 60—70 см і стрэлы ў іх насілі апярэннем уверх, прычым пашырэнне ля дна прызначалася для наканечнікаў. Да 14 ст. бытавалі і пляскатыя калчаны на драўляным каркасе, абцягнутым скурай, якія таксама мелі пашырэнне ля дна. Знаходкі рыштунку лучнікаў 14 ст. (асабліва калчаноў) на абшарах, уваходзіўшых пад канец гэтага стагоддзя ў склад ВКЛ, сведчаць аб пераемнасці традыцый ва ўжыванні тут гэтай зброі. Разам з тым, баявое значэнне Л. ў ВКЛ не было такім дамінуючым, як у Старажыт. Русі, дзе складаны Л. дамінаваў на палях бітваў. Паводле звестак Мацея Стрыйкоўскага, не Л., а арбалеты ў руках ваяроў Альгерда адыгралі значную ролю ў перамозе над татарамі ў *бітве каля Сініх Вод 1362*. Не было лучнікаў і ў атрадзе Ягайлы пад час здабывання Дарагічына ў 1383, хаця 2/3 літвінскіх сіл складалі тады стральцы. Вызначыць месца і вагу лучнікаў у войску ВКЛ да пач. 16 ст. складана. Імі былі, несумненна, татарскія каланісты, якія з канца 14 ст. трывала ўваходзілі ў склад узброеных сіл ВКЛ. Ужо ў 1386 Ягайла, едучы ў Кракаў, меў у сваім почаце шмат татараў, а ў часы Вітаўта ніводная з большменш значных ваенных аперацый не абыходзілася без удзелу татарскай конніцы. Татарскія Л. карысталіся ў ВКЛ значным аўтарытэтам і адначасова разглядаліся як мясцовая экзотыка, здатная зацікавіць прадстаўнікоў Захаду. Верагодна, таму падобны Л. увайшоў у склад рэчаў, прэзентаваных у 1421 Вітаўтам паслу англійскага караля і бургундскага герцага Жыльберу дэ Ланаа. Адначасова Л. былі дастаткова дэмакратычным відам зброі, чым тлумачыцца іх з'яўленне ў 1440 у руках паўстаўшых смалян. Значна больш акрэслена выкарыстанне Л. ў 16 ст. У гэты час сфера ўжывання Л. не абмяжоўвалася толькі асобамі татарскай нацыянальнасці. Сігізмунд Герберштэйн, апісваючы рэаліі ВКЛ 1-й пал. 16 ст., адзначаў, што мясцовыя ваяры ўзбройваліся Л., як татары, а таксама коп'ямі і шчытамі, як венгры. На практыцы здараліся выпадкі ўжывання Л. са шчытом і нават з дрэвам (кап'ём), што з'яўлялася сімбіёзам венгерскай і татарскай мадэляў узбраення, як гэта мела месца ў почаце Андрэя Збаражскага, служыўшага ў 1528 у польскай наёмнай роце Яна Мялецкага. Да 2-й пал. 16 ст. татарская мадэль трывала замацавалася за асобнай катэгорыяй ваяроў, узброеных па-казацку. Аснову баявога рыштунку ў іх складаў Л. (складаны). Такія Л. фігуруюць у выяўленчых крыніцах канца 15—16 ст., якія ілюструюць мясцовыя рэаліі. Неаднаразова прадстаўлены складаныя Л. на мініяцюрах *Радзівілаўскага летапісу*. Выключна такімі Л. ўзброены лёгкія конныя стральцы літвінскага боку на карціне «Бітва пад Оршай». Л. паказаны тут у розных палажэннях — у налуччы пры левым баку ваяроў, цецівай уніз і вусцем налучча наперад, у працэсе выцягвання Л. з налучча левай рукой на поўным скаку, у працэсе стральбы. Налучча на карціне кароткае, на палову Л., пляскатае, выраблена па форме самой зброі. Сустракаюцца выявы складаных Л. і на гравюры М.Цюнта, прысвечанай сустрэчы маскоўскага пасла ў Гародні ў 1567. Тут жа паказаны падвешаныя з правага боку калчаны, якія нагадваюць цыліндрычныя калчаны 14 ст. Апісанні канструкцый Л. у ВКЛ у дакументах 16 ст. не характэрны. У большасці выпадкаў сустракаецца толькі тэрмін «сагайдак», які абазначаў поўны камплект, што ўключаў Л. з налуччам і калчан са стрэламі. Адзначаны «сагайдак татарскі стрэламі», які з 2 Л. быў высланы ў 1569 з Нясвіжа ў Чарнаўчыцы. З найбольшай доляй верагоднасці можна гаварыць пра замежнае паходжанне гэтага сагайдака. Крыніцы фіксуюць выкарыстанне Л., імпартаваных з Турцыі. Так, у 1516 адзначаны «сагайдак з луком турский». 2 турэцкія Л. фігуруюць у спісе рэчаў, высланых у 1569 з Нясвіжа ў Чарнаўчыцы. Кошты Л. і сагайдакаў вагаліся ў залежнасці ад іх якасці і наяўнасці аздаблення. У 1577 у Верхавіцкім двары Берасцейскага пав. адзначаны шыкоўны «сагайдак, серебром оправленый позолотистый, на аксамите чирвоном золотом гафтованый, — который дей коштует тридцат коп литовских». У той жа час «сагайдак з луком, з стрелами, с тетивьем мещи-



новым», страчаны ўраднікам таго ж двара Рыгорам Багушэўскім, каштаваў 2,5 капы грошаў. «Сагайдак новый з луком и з стрелами, за который дей дано коп пять и грошей 20» быў скрадзены ў 1559 у гараднічага і ключніка Слонімскага замка Юрыя Андрэевіча, акрамя таго, ён страціў і «лук новый роботы имстиславское, у лучника взял, за который копу грошей дано». Шэсць сагайдакаў для віцебскага ваяводы вырабіў у 1580 на працягу 15 тыдняў магілёвец Івашка Несцяровіч, за што мусіў атрымаць паўтары капы грошаў (па 6 грошаў на тыдзень). У лёгкай конніцы ВКЛ Л. выкарыстоўваліся і ў 17 ст.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008. С. 217—222.

***Юрась Бохан.***

**Лукарыс** Кірыла (13.11.1572, востраў Крыт — 28.6.1638), дзеяч праваслаўнай царквы, гл. *Кірыла*.

**Лукашэвіч** Ян (26.1.1699, ВКЛ — 5.5.1779), дзеяч каталіцкай царквы. У 1716 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1728 ксёндз. Місіянер у Мерачы (1729—30), пасля ў Латгаліі ў місіях у Прэлях (1730—49), Ужвалдзе (1749—50, 1753—55, 1769—79), Дубне і Варкаве (1751—53), Дубне (1757—69). Пераклаў на латгальскую мову Евангелле (чытанні ў нядзелі і святы). Пераклад Л. — адзін з найб. стараж. і каштоўных помнікаў латгальскай мовы. Выдаў на літ. мове катэхізіс і малітоўнік.

**Лукомскі** Самуэль (?—1659), ваенны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Лукомскіх*, сын аршанскага падсудка Мікалая Багданавіча Лукомскага. У пачатку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* пасля заняцця рас. войскамі Полацка і Віцебска сабраў значны атрад шляхты ў паўн. Беларусі (больш 4 тыс. конніцы), атрымаў таксама ад гетмана Януша Радзівіла некалькі атрадаў прафесійных жаўнераў. Каля 30.1.1655 атрад Л. стаў лагерам каля Віцебска, маючы намер у зручны момант знянацку захапіць горад. Аднак вылазка віцебскага гарнізона на чале з М.В.Шарамецевым ледзь не скончылася разгромам войска Л., якое страціла абоз, а сам Л. быў паранены. Нягледзячы на гэта, у ноч на 1.2.1655 войска Л. штурмавала Віцебск, але не дабілася поспеху і адступіла да Бешанковіч. Да яго далучылася некалькі татарскіх харугваў. У сярэдзіне лют. 1655 Л. безвынікова штурмаваў Усвяты (страціў 300 чал. забітымі, 56 чал. трапілі ў палон). У час летняга наступлення 1655 супраць атрадаў Л. дзейнічалі атрады паўн. групы рас. войск пад камандаваннем В.П.Шарамецева. Л. са сваімі харугвамі адышоў на Пд, пасля падзення Вільні злучыўся з войскамі Паўла Сапегі, ад якога атрымаў камандаванне над казацкай харугвай. У снеж. 1655 далучыўся да Тышавецкай канфедэрацыі вайскоўцаў. Па даручэнні Сапегі Л. бараніў Камянец, што засланяў Берасце ад рас. і шведскіх войск і іх саюзнікаў. У сак. 1656 атрад Л. разбіты Багуславам Радзівілам, які заняў Камянец. Летам 1656 Л. камандаваў харугвай у час шведскай аблогі Варшавы.

*Літ.*: М а л ь ц е в А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974; Б а б я т ы н с к і К. Ад Смаленску да Вільні: вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.) // Arche. 2008. № 7—8.

**Лукомскі** Тэадор Феліцыян (?—каля 1715), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Лукомскіх*, сын віцебскага падваяводы Самуэля Яўстафія Лукомскага. Разам з бацькам удзельнічаў у 1654—55 у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У снеж. 1655 далучыўся да Тышавецкай канфедэрацыі вайскоўцаў. У 1656 прыняў падданства рас. цара. У 1658 узнавіў удзел у ваенных дзеяннях супраць рас. войск у шэрагах паспалітага рушэння віцебскай шляхты. У 1661 вызначыўся пры ўзяцці Дзісенскага замка. У 1665 абраны паслом на сойм 1665, дзе выступіў супраць намаганняў Пацаў склікаць асобную канвакацыю ВКЛ. Быў абраны паслом на сойм 1666, які сарваў у інтарэсах Радзівілаў, на сойм 1668, элекцыйны і каранацыйны соймы 1669, соймы 1670, 1672, элекцыйны сойм 1674, дзе галасаваў за абранне на трон Яна III Сабескага, які прызначыў Л. земскім суддзёй Віцебскага пав. Выбіраўся паслом таксама на соймы 1689, 1690, 1693, 1695, 1697. У 1710 удзельнічаў у дыпламатычнай місіі ў Расію. Валодаў маёнткамі Вымна, Пачаевічы, Лукомль, Шухрын у Віцебскім ваяв. Жонка Алена Друцкая-Горская прынесла яму ў пасаг маёнткі Лошыца ў Менскім пав., Дрэчылукі і Лушчыцы ў Віцебскім ваяв. У 1688 заснаваў кляштар кармелітаў у Станькаве. У 1697 атрымаў дазвол полацкага архіепіскапа на заснаванне базыльянскага манастыра ў Віцебску.

**Луконіцкі Міхайлаўскі касцёл**, помнік архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Пабудаваны ў 1782 у мяст. Луконіца Слонімскага пав. (цяпер вёска ў Зэльвенскім р-не) па фундацыі Яна Уладзіслава Гумніцкага ў стылі барока. Мураваны 1-нефавы храм з 5-граннай алтарнай апсідай. Гал. фасад аформлены падвойнымі пілястрамі карынфскага ордэра, прафіляванымі карнізамі, завершаны прамавугольным атыкам з трохвугольным франтонам і бакавымі валютамі. Уваход акцэнтаваны лучковым парталам, над якім арачнае акно з фігурным сандрыкам. Сцены бакавых фасадаў з арачнымі вокнамі. Апсіда дэкарыравана пілястрамі, фігурнымі нішамі, завершана атыкам, які аздоблены нішай з руставанай ліштвай. З Пд да апсіды прыбудавана прамавуголь-



**Луконіцкі Міхайлаўскі касцёл.**



ная ў плане сакрысція. Інтэр'ер быў аздоблены стукавымі гал. і 2 бакавымі алтарамі. На ПдЗ ад касцёла — квадратная ў плане 2-ярусная вежа-званіца, падзеленая складаным карнізам і завершаная купальным дахам. Сцены вежы-званіцы аформлены падвойнымі пілястрамі, карнізамі, нішамі. У 1866 касцёл перароблены на царкву, у 1919 вернуты католікам (асвячоны ў 1935). Да 1990-х г. дайшоў у паўзруйнаваным стане, у 1994 адноўлены.

*Анатоль Кулагін.*

**Лускіна** (Лускіна-Зараноўскі) Вінцэнт (каля 1762—да 1812), паэт. Сын Казіміра Ежы *Лускіны*. Напісаў 2 школьныя байкі на польскай мове «Асёл у студні» і «Перамір'е баранаў з ваўкамі» (пераробкі баек Лафантэна), якія былі надрукаваны ў часопісе «Zabawy przyjemne i pożyteczne» («Прыемныя і карысныя забавы», т. 14—15, 1777—76). Служыў суддзёй 2-га дэпартамента полацкага суда. У 1790 атрымаў ад Станіслава Аўгуста Панятоўскага ордэн св. Станіслава.

**Лускіна** (Лускіна-Зараноўскі) Казімір Ежы (каля 1730—90), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Брат Стафана *Лускіны*. Вучыўся, верагодна, у Віцебскім езуіцкім калегіуме. Падчашы віцебскі, староста васьнікоўскі і арлейскі, у 1750 абраны паслом на сойм ад Віцебскага ваяв. У 1758 падстолі віцебскі, пасол на сойм. У 1764 удзельнічаў у элекцыйным і каранацыйным соймах, галасаваў за абранне каралём польскім і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1764 люстратар каралеўскіх маёнткаў, сурагатар гродскі віцебскі. З 1765 стольнік віцебскі. У 1760-х г. адначасова быў віцебскім войскім і суддзёй гродскім, у 1766 падваявода. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) маёнткі Л. апынуліся ў складзе Рас. імперыі. Двойчы быў абраны маршалкам шляхты Віцебскага павета. У 1790 атрымаў ад Панятоўскага ордэн св. Станіслава.

**Луцкі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у сярэдзіне 15 — сярэдзіне 16 ст., у Польскім каралеўстве ў 2-й пал. 16 — канцы 18 ст. Цэнтр — г. *Луцк.* Утвораны, відаць, пасля смерці ўладальніка Валыні вял. кн. Свідрыгайлы (1452). Кіраўніком павета быў староста луцкі — гал. ўраднік Валынскай зямлі. У Л.п. уваходзілі землі ў верхнім цячэнні рэк Стаход, Стыр, Гарынь і левабярэжжа верхняга цячэння Случы з маёнткамі Мосар, Сернікі, Любча (уладанне князёў Друцкіх-Любецкіх), Бурэмля (маёнтак князёў Бурэмскіх), Пераміл, Клявань, Млынава, Таргавіца, Несвіч, Жыдзічын, Астрожац (родавае гняздо князёў Галаўнёў-Астрожацкіх), Чацвяртня (уладанне князёў Чацвярцінскіх), Сокаль, Чартарыйск (родавае гняздо князёў Чартарыйскіх), Перасопніца, Дубровіца (уладанне князёў Гальшанскіх-Дубровіцкіх), Астрог (родавае гняздо князёў Астрожскіх), Корац (уладанне князёў Карэцкіх), Заслаў (уладанне князёў Заслаўскіх), Палоный, Дзермань, Сцепань і інш. Шмат маёнткаў Л.п. вял. князі літоўскія перадалі ва ўладанне князям Сангушкам, Чартарыйскім, Астрожскім, Карэцкім, Вішнявецкім, панам Храптовічам, Шылавічам, Багавіцінавічам, Воўчкавічам, Барзабагатым і інш. Разам з Уладзімірскім і Крэменецкім паветамі Л.п. у ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 увайшоў у склад *Валынскага ваяводства* ВКЛ. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1791 са складу Л.п. вылучаны Уладзімірскі 1-ы і Гарыньскі паветы. Тэр. Л.п. далучана да Рас. імперыі ў выніку 2-га (1793, усх. частка) і 3-га (1795) падзелаў Рэчы Паспалітай.

*Літ.:* Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]. С. 209—226; Крикун М. Адміністративно-територіальний устрій Правобережної України в XV—XVIII ст.: кордони воєводств у світлі джерел. Київ, 1993.

**Лучайскі касцёл Тадэвуша.** Заснаваны ў 1766 у мястэчку Лучай Ашмянскага пав. (цяпер вёска Пастаўскага р-на) пры езуіцкай місіі на сродкі Эльжбеты Пузыны з Агінскіх, якая перадала яму 160 тыс. злотых, зямлю пад забудову. Асвячоны ў 1777 ужо пасля скасавання ордэна езуітаў (1772). Касцёл — велічная 3-нефавая крыжова-купальная базіліка з 2-вежавым фасадам-нартэксам. Алтарная частка мае лучковае завяршэнне, крылы трансепта не выступаюць за межы прамавугольнага плана. Купал на сяродкрыжжы схаваны ў канструкцыі 2-схільных дахаў і звонку не выяўлены. Сухаватая рацыянальнасць кананічнай кампазіцыі касцёла, выкарыстанне ў яго дэкаратыўнай пластыцы дарычнага ордэра, характэрнага для класіцызму, важкаватасць вянчаючых мас збудавання сведчаць пра пэўны заняпад высокага віленскага барока і пераход да новай плыні т.зв. барочнага класіцызму. У інтэр'еры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на адзіночных падпружных арках. Міжнефавыя аркады падтрымліваюць падвойныя падпружныя аркі. Аналагічныя аркі падзяляюць травеі бакавых нефаў, у выніку чаго апорныя слупы атрымліваюць складаную канфігурацыю са шматлікімі раскрапоўкамі. Уся паверхня сцен і скляпенняў дэкарыравана фрэскавай размалёўкай у тэхніцы грызайль, якая імітуе скульптурную лепку і архітэктурны стафаж. Ніжняя частка купала запоўнена ілюзорна-перспектыўнай архітэктурнай кампазіцыяй, на ветразях прадстаўлены выявы евангелістаў, на консе апсіды і тарцах прэсбітэрыя — святых і анёлаў. Над уваходам размешчана пано-картуш з выявамі 2 воінаў са шчытамі і воінскімі атрыбутамі.

*Літ.:* Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001. С. 168—169.

*Тамара Габрусь.*



**Лучайскі касцёл Тадэвуша.**



**Лыскаўскі замак.** Існаваў у 15—17 ст. каля мястэчка Лыскава Ваўкавыскага пав. (цяпер вёска ў Пружанскім р-не), на беразе р. Шчыба (Муха). Па перыметры квадратнай пляцоўкі (68 × 68 м) насыпныя валы. Зах. вал, які захаваўся параўнальна добра, узвышаецца над пляцоўкай замка на 2,5—3 м, каля падножжа мае шырыню каля 2 м, пасярэдзіне — уезд у замак. Прыблізна такія ж параметры мае паўд. вал. Ад усх. вала захаваліся ўчасткі вышынёй да 2 м. На вуглах замка стаялі круглыя драўляныя вежы дыяметрам каля 8 м. Замак быў абкружаны ровам, які захаваўся з зах. і паўд. бакоў (шырыня 10 м, глыбіня 4,5 м). За ровам знаходзяцца рэшткі інш. вала вышынёй 1— 1,5 м і шырынёй да 4 м (захаваўся з зах. і паўд. бакоў). Яшчэ адзін дугападобны вал (вышыня да 5 м, шырыня ў падножжа да 11 м, у цэнтры — сляды ўезда) і роў (глыбіня да 5 м, шырыня 10—12 м) знаходзіліся на адлегласці каля 90 м ад дзядзінца і абкружалі замак з Пн, З і Пд. З У дуга ўмацаванняў замыкалася балоцістымі берагамі ракі.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии Вильна, 1895; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978.

**Лыскаўскі кляштар місіянераў**, помнік архітэктуры 18 ст. Пабудаваны ў 1763—85 у мястэчку Лыскава Ваўкавыскага пав. (цяпер вёска ў Пружанскім р-не) у стылі позняга барока. Троіцкі касцёл — мураваны 1-нефавы, 1-вежавы крыжападобны ў плане будынак з 2 сакрысціямі абапал алтарнай апсіды. Неф, апсіда (крыху вузейшая ў плане) і квадратны аб'ём трансепта накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі пакатымі дахамі. Дамінанта касцёла — шмат'ярусная вежа. Яе вуглы раскрапаваны слаістымі пілястрамі, бакавыя грані злучаны крывалінейнымі сценкамі з плоскасцю сцяны гал. фасада, насычанага дэкаратыўнымі архітэктурнымі элементамі: раскрапоўкамі, абрамленнямі праёмаў, падвойнымі пілястрамі, нішамі. Развіты гарызантальны пояс падзяляе аб'ёмы (акрамя апсіды) на 2 часткі; больш нізкая трактавана як цокаль. Аконныя праёмы лучковыя. Інтэр'ер касцёла афармлены пілястрамі і калонамі іанічнага і кампазітнага ордэраў, размаляванымі пад мармур. Неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках, крылы трансепта і сакрысціі — крыжовымі. Над уваходам — вузкія хоры.


Лыскаўскі кляштар місіянераў.

Перад касцёлам (на адзінай восі) размешчаны 2-павярховы сіметрычны ў плане П-падобны мураваны будынак кляштара, накрыты вальмавым дахам. Цэнтр гал. фасада кляштара вылучаны рызалітам. Сцены рытмічна расчлянёны пілястрамі: шырокімі руставанымі на 1-м паверсе, падвойнымі на 2-м. Планіроўка калідорная з аднабаковым размяшчэннем пакояў.

*Літ.*: Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001. С. 260—261.

*Тамара Габрусь.*


**Лыскаўскі замак**. План.

**Львоўская нацыянальная навуковая бібліятэка Украіны імя В.Стэфаніка** (Львівська національна наукова бібліотека України імені В.Стефаника). Заснавана ў 1940 на аснове аб'яднаных кніжных збораў 84 сховішчаў, у т.л. Навук. таварыства імя Шаўчэнкі, Нар. дома, «Асалінэума», Бавароўскіх і інш. Уваходзіць у сістэму Нац. АН Украіны. У б-цы захоўваюцца рэдкія спісы з выданняў Францыска Скарыны 16—17 ст.: частка вял. зводу кніг Пражскай Біблії, напісанага Дзмітрам з Зенькава; «Regestr popisowy obywatelow województwa smolenskiego» 1648; тарыфы ВКЛ 1667; акты роду Храптовічаў 1644—1721; кніга Паўлюса Майнпока (Paulus Mainpock) «Applausus Saphycus ad Albertum Radziwil, Archimarschalcum MDL, Legatum Regis Poloniae ad Caesaream Maiestatem» — панегірык у гонар Альбрыхта Радзівіла 1592 з прысвячэннем і копіяй прывілея імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда I 1553 Мікалаю Радзівілу на Шклоўскае графства; архіў Нясвіжскага бернардзінскага кляштара 17 ст.; сумарыуш данін вял. князёў літоўскіх роду князёў Астрожскіх; мемуары Фёдара Еўлашоўскага (спіс канца 17 ст.); сумарыуш гал. кніг Трыбунала ВКЛ 1662; тастамент Цяпінскага 1664; спіс 19 ст. гербоўніка шляхты ВКЛ Альберта Каяловіча «Nomenclator». У якасці бібліятэчнага вопіса актавых, а часткова і наратыўных матэрыялаў у б-цы выкарыстоўваецца даведнік Войцеха Кентшыньскага (Wojciech Kętrzyński) «Katalog rękopisów Biblioteki Zakladu Narodowego im. Ossolińskich» (т. 1—2, Львоў, 1881—86).



Адзінкі захавання, нумары якіх падкрэслены чырвоным чарнілам, засталіся ў б-цы пасля перадачы значнай часткі збораў Польшчы ў 1946—47. Дадаткова для выяўлення некаторых рукапісаў з б-кі «Асалінэум» выкарыстоўваецца машынапісны рэестр «Inwentarz rekopisow Biblioteki Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Lwowie» (Львоў, 1926). Сярод інш. рукапісных бібліятэчных вопісаў, захаваных у б-цы матэрыялаў прыцягвае ўвагу «Archiwum xx. Sapiehów w Krasiczynie» (дакументы, гаспадарчыя паперы, вял. карэспандэнцыя Сапегаў з рознымі паліт., грамадскімі і культ. дзеячамі ВКЛ, Польшчы з 1574). Сярод старадрукаў захоўваюцца «Кніга Царстваў» Скарыны (Прага, 1518), унікальныя рэфармацыйныя выданні 2-й пал. 16 — пач. 17 ст., пахавальныя панегірыкі, інш. кірылічныя і польскамоўныя выданні: «Евангелле вучыцельнае» (Заблудаў, 1569), Біблія ў перакладзе Сымона Буднага, Мацея Кавячынскага і Лаўрэнція Крышкоўскага (Нясвіж, Узда?, 1572), «Евангелле» Пятра Мсціслаўца (Вільня, 1575), кніга Андрэя Фрыча-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» у перакладзе Цыпрыяна Базыліка («O poprawie Rzeczypospolitey», Лоск, 1577), Статут ВКЛ 1588 (друкарня Мамонічаў, Вільня, 1588, 1619), «Евангелле» Лукаша і Кузьмы Мамонічаў (Вільня, 1600; экзэмпляр з вял. укладным запісам «мещанина ратенского» 1635), кніга Мікалая Крыштофа Халецкага «Allegoriae sive Syntematha per quae amor creatus cum amato supematurali syrobolizant» (друкарня Лявона Мамоніча, Вільня, 1608), палемічныя выданні, у т.л. комплекс ананімных твораў Мялеція Сматрыцкага «Antigraphi, albo Odpowiedź na script uszczypliwy przeciwko ludziom starożytney religiey graeckiey od apostatów cerkwie wschodniey» (Вільня, 1608), «Obrona verificaciey» (Вільня, 1621), «Elenchus pism uszczypliwych» (Вільня, 1622), «Гісторыя аб Варлааме і Іаасафе» (Куцейна, 1637), «Лексікон» Памвы Бярынды (Куцейна, 1653), кніга Марка Кароны «Speculum provinciae Russiae et Lituaniae» (Вільня, 1637) і інш.

*Літ.*: Калужняцкий Е.И. Обзор рукописей Народного дома, библиотеки монастыря св. Онуфрия // Тр. III Археологического съезда. Киев, 1878. Т. 3; Свенцицкий И. С. Церковно- и русскославянские рукописи публичной библиотеки Народного дома во Львове. Санкт-Петербург, 1904; Яго ж. Рукописі львівських збірок. Вип. 2. Опис рукописів Народного дому з колекції Ант. Петрушевича // Українсько-руськiй архів. Львів, 1911. Т. 6, вип. 3; Т. 7; Гордінський Я. Рукописи бібліотеки монастиря св. Онуфрія // Записки чина св. Василия Великого. Жовква, 1925. Вип. 2—3; 1927. Вип. 4; 1928. Вип. 1—2; 1930. Вип. 3; Особисті архівні фонди відділу рукописів: анотованій покажчик / Укл. К.М.Гуменюк, П.Г.Баб'як, С.О.Дзьобан. Львів, 1977; Фрис В.Я. О некоторых собраниях русских старопечатных книг во Львове // Федоровские чтения, 1978. М., 1981; Свенцицкая В.И. Заблудовские издания Ивана Федорова в библиотеках и музеях Львова // Федоровские чтения, 1982. М., 1987; Каталог кириличних стародруків Львівської наукової бібліотеки ім. В.Стефаника Національної академії наук України. Вип. 1—3. Львів, 1993—2000; Кириличні рукописні книги у фондах Львівської наукової бібліотеки ім. В.Стефаника НАН України: каталог. Т. 1. XI—XVI ст. Львів, 2007; Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; Dudix B. Archive in Königreiche Galizien // Archiv fur osterreichishe Geschichte. Wien, 1867. Bd. 29. H. 1; Własciciele rękopisów i starodruków zbiorów wielkopolskich Z.Czamieckiego mieszczacych się obecnie w «Baworovianum» we Lwowie / Oprac. R.Kotula. Lwów, 1929; Lwowskie studja biblioteczne. Lwów, 1932.

***Георгій Галенчанка.***

**Льгоцкі** Лукаш (15.10.1690, Палессе — 14.2.1754), дзеяч каталіцкай царквы, драматург. У 1707 уступіў у Кракаве ў ордэн езуітаў, ксёндз. Прэфект школы ў Быдгашчы (1727—29) і Пётркаве (1733—34), місіянер у Пружанах (1739—40), прыдворны місіянер у Луцку (1748—54). Аўтар школьных драм.

**Любавіцкі** Францішак (16.11.1724, Падляшша — 22.12. 1801), дзеяч каталіцкай царквы. У 1744 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1753 ксёндз. Місіянер у Лагішыне (1757—58), прэфект школы ў Слуцку (1760—61) і Менску (1762—64), рэктар калегіума ў Менску (1771—73). Пасля скасавання ордэна езуітаў пераехаў (да 1777) ва ўсх. Беларусь. Асістэнт генеральнага вікарыя (1783— 1801), рэктар калегіума ў Дынабургу (1784—92), галава правінцыі езуітаў (1786—89). Памёр у Полацку. Пакінуў у рукапісах каментарыі да твораў св. Кіпрыяна і св. Іераніма, катэхізіс, твор «Штодзённыя роздумы» («Rozmyslania codzienne».

**Любецкі** (Друцкі-Любецкі) Ян (каля 1620, Беларусь—5.7. 1678), дзеяч каталіцкай царквы, матэматык. У 1639 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Паходзіў з роду князёў *Друцкіх-Любецкіх*, з правасл. сям'і. Прафесар маральнай тэалогіі ў Крожах (1658—59), місіянер у войску (1660—61), прафесар матэматыкі і маральнай тэалогіі ў Пултуску (1664—65), прэфект школы ў Гародні (1674—75), прафесар матэматыкі ў Крожах (1675—76) і Полацку (1676—77). Памёр у Полацку. Сучаснымі даследчыкамі ацэньваецца як выдатны матэматык і касмограф, які меў рукапісныя працы па гэтых прадметах (у т.л. твор «Касмаграфія»), аднак яго дзейнасць не даследавана.

**Любеч** (цяпер пасёлак гарадскога тыпу ў Рэпкінскім р-не Чарнігаўскай вобл., Украіна), горад у Кіеўскім, потым у Смаленскім ваяв., на левым беразе Дняпра. Вядомы з 9 ст., з 11 ст. ў Чарнігаўскім княстве. У сярэдзіне 14 ст. ўвайшоў у склад ВКЛ. У 1387 кароль польскі Ягайла (Уладзіслаў II) надаў Л. з інш. уладаннямі свайму брату Скіргайлу. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) названы сярод кіеўскіх гарадоў. У горадзе быў драўляны замак, які ахоўваў пераправу праз Дняпро. Л. уваходзіў у склад Кіеўскага княства, з 1471 — Кіеўскага ваяв. У 1-й пал. 15 ст. невядомы вял. князь літоўскі перадаў Л. Манівідам. Горад згадваецца ў тэстаменце памерлага ў 1458 Івана Манівідавіча, пасля, відаць, дастаўся яго сыну Войцеху, што памёр у 1475. У 1484 вял. князь літ. і кароль польскі Казімір разам з інш. маёнткамі надаў Л. збегламу з Масковіі кн. Васілю Міхайлавічу Вярэйскаму. У 1500—08 Л. заняты маскоўскімі войскамі, але вял. князь літ. і кароль польскі Аляксандр у 1505 і 1506 пацвердзіў валоданне Л. з замкам і правам збору мыта дачцы В.М.Вярэйскага — Соф'і і яе мужу, канцлеру ВКЛ Альбрэхту Гаштольду (яшчэ раз падараванне пацвер-



джана Жыгімонтам I Старым у 1522). У 1548 Соф'я зрабіла запіс на карысць царкве ў Л. Пасля яе смерці (1549) Л. вярнуўся ва ўласнасць вял. князя. Горад быў цэнтрам воласці па абодвух баках Дняпра. У 1526, калі Л. валодаў Гаштольд, размежаваны Любецкая і Гомельская воласці. Пасля заключэння Люблінскай уніі (1569) ў складзе Польскага каралеўства. У 1571 у Л. 502 дымы, адзначана Любецкае староства, да якога адносіліся 15 сёл. У склад староства ўваходзіла Лоеўская (з 1585 староства) і Брагінская воласці. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* у 1612—13 на Л. нападалі рас. войскі. Паводле рашэння сойма 1646 Любецкае староства ўключана ў Старадубскі пав. Смаленскага ваяв. ВКЛ. У 1648 ўкр. казакі захапілі горад, які стаў цэнтрам казацкай сотні Чарнігаўскага палка. Згодна з Андросаўскім перамір'ем 1667 Л. разам з Левабярэжнай Украінай адышоў у склад Расіі.

*Літ.*: Кондратьєв I. Лоєвське староство у 1585 — середині XVII ст. // Пятыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 22—23 верасня 2005 г. Гомель, 2005; Ochmański J. Moniwid i jego ród: studium z dziejów możnowładztwa litewskiego w XV wieku: pierwsze w Wielkim Księstwie Litewskim latyfundium świeckie // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 2003. T. 9. C.



Інтэр'ер **Люблінскай Троіцкай капліцы**.



**Люблінская Троіцкая капліца**. Ягайла перад Маці Божай. Фрэска.

**Люблінская Троіцкая капліца**. Пабудавана як замкавы касцёл у г. Люблін (Польшча) у стылі малапольскай готыкі. Упершыню ўпамінаецца ў 1325—27. У 14 ст. быў 1-ярусны пабудовай з крыптай (прызначалася для пахаванняў). Меў квадратны неф, да якога далучаны прамавугольны прэсбітэрый з 3-граннай апсідай. У 1407 па загаду польскага караля Ягайлы перабудавана як 2-ярусны касцёл. Цэнтр. слуп у нефе падтрымлівае зорчатыя нервюрныя скляпенні. Звонку касцёл быў умацаваны контфорсамі. Меў стромкі 2-схільны дах, які абапіраўся на прыступкавыя франтоны. У 16 ст. ўваход аформлены новым рэнесансным парталам. У сярэдзіне 17 ст. пабудаваны шчыт франтона ў стылі люблінскага рэнесансу. Па загаду Ягайлы ў 1410-х інтэр'еры касцёла распісаны фрэскамі ў візантыйска-рус. стылі. Працы па размалёўцы скончаны ў 1418, што адзначана ў адмысловым кірылічным надпісе. У ім жа названы кіраўнік мастацкай арцелі — майстар Андрэй. У інш. надпісах упамінаюцца майстры Кірыла і Юшка. Мяркуецца, што мастакі арцелі паходзілі з укр. і бел. земель, што ўваходзілі ў склад Польскага каралеўства і ВКЛ. Роспісы пакрываюць усе сцены і скляпенні капліцы, выкананы ў тэмперай на сырым і сухім тынку. Сярод рэлігійных сюжэтаў змешчаны 2 партрэты Ягайлы, адзін з іх конны. У пач. 19 ст. касцёлператвораны ў турэмную капліцу, пры гэтым звонку і ўнутры ён быў атынкаваны. У 1897 адкрыты фрагменты размалёўкі, у 1950—90-х г. яна раскрыта цалкам. У час рэстаўрацыі падмуркі капліцы ўмацаваны бетонам, а скляпенні — стальнымі канструкцыямі і ўглевалакном. Роспісы Л.Т.к. — унікальны помнік манументальнага мастацтва Польшчы і ВКЛ, у ім адзіны захаваны з некалькіх візантыйска-рус. роспісаў, створаных па загаду Ягайлы ў пач. 15 ст.

*Літ.*: Kaplica Trójcy Świętej na zamku lubelskim: historia, teologia, sztuka, konserwacja. Lublin, 1999; Różycka Bryzek A. Freski bizantynsko-ruskie fundacji Jagiełły w kaplicy zamku lubelskiego. Lublin, 2000.

**Людальф Кёніг фон Ватцаў** (Ludolf Konig von Wattzau; 1280-я г.—1348), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1342—45. Паходзіў з рыцарскага роду з Ніжняй Саксоніі. У гіст. крыніцах упамінаецца з 1331, калі займаў у Тэўтонскім ордэне пасаду вял. шатнага. На мяжы 1336—37 прызначаны на пасаду вял. комтура. Пасля смерці вял. магістра Дзітрыха фон Альтэнбурга (1341) Людальф выконваў абавязкі намесніка галавы ордэна. У 1342 генеральны капітул ордэна ў Мальбарку абраў Л.К.ф.В. вял. магістрам. У 1343 заключыў мірны дагавор з Польшчай у Калішы, атрымаўшы Памор'е, у 1346 — дагавор з Даніяй пра сферы ўплыву ў эстонскіх землях. Заключэнне Калішскага міра дало магчымасць Тэўтонскаму ордэну зрабіць у 1344 напад на ВКЛ. Для заслоны Лівоніі паслаў туды корпус пад камандаваннем Генрыха фон Дзюземера, сам з асн. сіламі планаваў ударыць па Літве. На Захад былі пасланы эмісары з прапановамі рыцарству далучыцца да крыжовага пахода. На гэту прапанову адклікнуліся чэшскі кароль Ян Люксембургскі, яго сын, маркграф Маравіі Карл, венгерскі кароль Людвік, графы Галандыі і Гальшцініі, бургграф Нюрнберга і інш. 10.2.1345 крыжацкае войска выступіла ў паход з Кёнігсберга. Аднак літвіны распусцілі пагалоскі пра свой напад на Самбію, і вял. магістр загадаў крыжакам вяртацца. Тым часам літвіны на чале з Альгер-

дам напалі на Лівонію, пазбаўленую абароны, бо мясцовыя крыжакі адправіліся ў паход на Эзель, і спустошылі лівонскія землі. Расчараваны няўдачай, Л. ф. К. захварэў на псіхічную хваробу. У 1345 вышэйшыя кіраўнікі Тэўтонскага ордэна прынялі рашэнне адхіліць Л. ф. К. ад улады (ён ад сябе папрасіў аб адстаўцы) і абралі яго намесніка. Ім стаў Генрых фон Дзюземер, а Л. ф. К. атрымаў пасаду комтура Пакрыўна.




**Людальф Кёніг фон Ватцаў**.

**Людвіг фон Эрліхсгаўзен** (Ludwig von Erlichshausen; 1410—4.4.1467), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1450—67. Паходзіў з рыцарскага роду са Швабіі. Быў пляменнікам свайго папярэдніка — вял. магістра Конрада фон Эрліхсгаўзена. Каля 1434, хутка пасля ўступлення ў Тэўтонскі ордэн, Л. ф. Э. стаў кампанам комтура замка Пакармін. З 1346 кампан вял. магістра Паўля фон Русдарфа. У 1441 прызначаны войтам у Грабінах каля Гданьска, з 1442 комтур у Кавалёве, з 1447 комтур у Гневе. У 1450 генеральны капітул ордэна абраў Л. ф. Э. вял. магістрам. Намагаўся падпарадкаваць Тэўтонскаму ордэну прускае мяшчанства, аб'яднанае ў Прускі саюз. Спрэчкі паміж ордэнам і саюзам не змог улагодзіць папскі легат, а імператарскі суд у 1454 прыняў рашэнне на карысць ордэна. Гэта выклікала антыордэнскае паўстанне ў гарадах Прусіі. Кіраўніцтва Прускага саюза папрасіла польскага караля Казіміра IV Ягелончыка ўключыць Прусію ў склад Польшчы, што і было абвешчана каралём. Пачалася польска-крыжацкая Трынаццацігадовая вайна. Крыжацкія войскі пад камандаваннем Л. ф. Э. цярпелі паражэнні. Двойчы наёмнікі ордэна, якім ён не мог выплаціць жолд, бралі вял. магістра ў заложнікі. У 1457 вял. магістр назаўсёды пакінуў рэзідэнцыю ў Мальбарку (наёмнікі прадалі замак польскаму каралю) і перанёс сваю сядзібу ў Каралявец (Кёнігсберг). Вайна скончылася заключэннем *Тарунскага міра 1466*, які ўстанавіў ленную залежнасць Тэўтонскага ордэна ад Польскага каралеўства.

**Людвіка Марыя** Ганзага дэ Невер (8.8.1611, г. Парыж— 10.5. 1667), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, жонка Уладзіслава IV, потым Яна II Казіміра. Дачка Карла Ганзага, герцага Мантуі і Монферата. Атрымала добрую адукацыю. Перагаворы з каралём польскім і вял. князем літ. Уладзіславам IV пра шлюб з Марыяй (2-е імя Людвіка набыла пасля шлюбу) пачаліся ў 1634, аднак у той час Уладзіслаў IV ажаніўся з Цэцыліяй Рэнатай Габсбург. Пасля смерці бацькі (1637) яго княства Невер уключана ў склад Францыі, а сама Марыя атрымала ад французскага караля тытул герцагіні дэ Невер і паўнамоцтвы кіраўніка герцагства. Трымала ў Парыжы літ. салон, які наведваў будучы кароль польскі і вял. князь літ. Ян II Казімір (кардынал Рышэльe выношваў планы іх ажаніць). Пасля смерці Рышэльe ва ўмовах польска-французскага збліжэння кардынал Д.Мазарыні арганізаваў шлюб Марыі і Уладзіслава IV (1645). Шлюб адбыўся 10.3.1646 у Варшаве, каранацыя Л.М. — 15.7.1646 у Кракаве. На сойме 1647 устаноўлена забеспячэнне каралевы: вена ў памеры




**Людвіка Марыя** Ганзага дэ Невер. Гравюра.

100 тыс. злотых, яшчэ 100 тыс. злотых прывенка, забяспечаных даходамі з польскіх маёнткаў Бельск, Райгорад, Грудзёндз, Тухоля, Свеце, Ломжа, Любамль, Усце з Пілай, Капінас, Казунь з




**Людвіг фон Эрліхсгаўзен**.



Младзешынам; у ВКЛ — Юрбарк з Новай Воляй, Упіта, Бабруйск, Саколка (большасць маёнткаў знаходзілася ў трыманні інш. асобаў). Пазычыла мужу значныя сродкі на вайну супраць Турцыі. Суправаджала яго ў паездцы па ВКЛ. Аўдавела ў 1648, пасля чаго садзейнічала абранню на трон Яна II Казіміра. Умовай абрання было заключэння паміж імі шлюбу (30.5.1649). Л.М. аказвала значны ўплыў на Яна II Казіміра, праводзіла палітыку ўмацавання каралеўскай улады. Арганізоўвала барацьбу супраць шведаў падчас *Паўночнай вайны 1655—60*. Дзеці Л.М. і Яна II Казіміра — Марыя Ганна і Ян Жыгімонт памерлі ў маленстве, пагэтаму Л.М. выношвала планы перадачы трона Рэчы Паспалітай прафранцузскаму кандыдату — прынцу Кандэ. Супраць каралеўскіх планаў выступіў Ежы Себасцьян Любамірскі, які арганізаваў рокаш (гл. *Любамірскага рокаш 1665—66*). Раптоўна памерла ў Варшаве. Л.М. адыграла значную ролю ў паліт. і культ. збліжэнні Рэчы Паспалітай і Францыі, была мецэнаткай, падтрымлівала дабрачыннасць, каталіцтва, але талерантна ставілася і да інш. веравызнанняў.

*Літ.*: Libiszowska Z. Żona dwóch Wazów. Wrocław, 1963; Я е ж. Królowa Ludwika Maria. Warszawa, [1985]; Я е ж. Królowa Ludwika Maria na Śląsku, 1655—1656. Katowice, 1986; Targosz K. Uczony dwór Ludwiki Marii Gonzagi (1646—1667): Z dziejów polsko-francuskich stosunków naukowych. Wrocław; Gdańsk, 1975; Fabiani B. Warszawski dwór Ludwiki Marii. Warszawa, 1976.

**Людвінава** (літ. Людвінавас, Liudvinavas, цяпер мястэчка ў Марыямпальскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Ковенскім пав., на р. Шэшупач. Да 18 ст. вёска Пунскага староства, называлася Тробаміс. У 1715 пабудаваны драўляны касцёл. Староста Людвік Канстанцін Пацей у 1719 дамогся ад караля польскага і вял. князя літ. Аўгуста II прывілей ад наданні паселішчу магдэбургскага права і статуса мястэчка, якое ад яго імя пачалося звацца Л. Гарадскія правы пацверджаны Аўгустам III у 1746 і 1757, скасаваны ў 1776. 10.11.1791 кароль польскі і вял. кн. літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі надаў Л. гарадскія правы і герб з выявамі «Пагоні» і Генія, што трымае ў адной руцэ меч, а ў другой — шалі. Магдэбургскае права і герб адменены ў 1792. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

**людвісарня**, майстэрня па адліву буйных рэчаў з каляровых металаў, галоўным чынам гармат і званоў. Мела печ для плаўкі металаў (медзі, волава, бронзы, жалеза), формы з зямлі і гліны для адліўкі вырабаў, інструменты для канчатковай апрацоўкі паверхні званоў і гармат, станкі для свідравання адтулін у гарматах (прыводзіліся ў дзеянне з дапамогай млыновых колаў). Адліўка званоў існавала ў Стараж. Русі, і яе традыцыі перайшлі ў ВКЛ. Вядомы званы канца 14 — пач. 15 ст. з рус. надпісамі, зробленыя для цэркваў Вільні, Навагародка і Падляшша. У сярэдзіне 16 ст. адліты царкоўны звон у Мсцібаве. Паводле дакументаў віленскія Л. вядомы з 2-й чвэрці 16 ст. Вял. князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст уладкаваў у Вільні каля Дольнага замка Л. па вырабе гармат (гл. *Віленская пушкарня*). Яна працавала да 1630-х г., адліваючы палявыя і фартыфікацыйныя гарматы. У Нясвіжскім замку Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка заклаў *Нясвіжскую людвісарню*. Людвісар Герман *Мольцфельд* у канцы 16 — пач. 17 ст. адліў у ёй прынамсі 3 ажурныя званы для гадзіннікаў і шмат багата ўпрыгожаных гармат. У канцы 16 ст. трымаў Л. ў Коўне і Вільні майстар Марцін *Гофман*. Відаць, з канца 16 ст. мелі ў Вільні Л. і інш. майстры. У 17 ст. тут адліваў званы і гарматы Іаган *Бротэльт*, у 2-й пал. 17 ст. выраблялі званы Ян *Дэлямарс*, Ганс Ульрых *Бадэр*, Фёдар Фёдаравіч *Пярвец*. Людвісар Габрыель *Дарафеевіч* адліваў званы ў Полацку (1644) і Пінску (1648). У сярэдзіне 17 ст. была Л. па адліўцы званоў у Магілёве. Багуслаў Радзівіл у сярэдзіне 17 ст. меў Л. для адліўкі гармат у Слуцку, у канцы 17 ст. тут працаваў людвісар Казімір *Легер*. У пач. 18 ст. часовыя Л. па адліўцы званоў дзейнічалі ў Крожах і Датнаве ў Ковенскім пав. У 1-й пал. 18 ст. мелі Л. ў Вільні майстры Бенжамін *Фінгерлінг*, Іаган Піль, Крысціян, Кароль Готліб *Шпар*, Тамаш *Гапановіч*, у 2-й пал. 18 ст. — Антоній *Гапановіч*, Густаў *Мёрк*, Ян Самуэль Вагнер. У Нясвіжы ў 1-й пал. 18 ст. працавала радзівілаўская Л. па адліўцы званоў, у 2-й пал. 18 ст. — па вырабе гармат. Каля 1747 Геранім Фларыян Радзівіл заснаваў *Урэцкую людвісарню* па адліўцы гармат і званоў, якая спыніла дзейнасць задоўга да 1774. У час паўстання 1794 Л. па адліўцы гармат была арганізавана ў Вільні (людвісар Ян Самуэль *Вегнер*).

*Літ.*: Саганові ч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мінск, 1994. С. 29—32; Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924; Karkucińska W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa (1676—1746): działalność gospodarcza i mecenat. Warszawa, 2000; Martinaitienė G.M. «IOANNES BREUTELT NOBIS FECIT...» // Menotyra. 2001. № 2.

**Лютамірскі** Ежы (1612—85), дзеяч кальвіністскай царквы ВКЛ. Сын Яна Лютамірскага, суперінтэндэнта жамойцкага. Вучыўся ў гімназіі ў Гданьску, магчыма, ва ун-це г. Франекер. Прыкладна з 1648 выконваў абавязкі міністраў кальвінскіх збораў у ВКЛ (Свядасць, Жупраны, Слуцк), з 1672 кансеньёр Навагародскага дыстрыкта, з 1676 яго суперінтэндэнт, адначасова схалярх Слуцкай кальвіністскай гімназіі. Віднымі дзеячамі кальвіністскай царквы ВКЛ былі яго сыны Ежы *Лютамірскі* і Самуэль *Лютамірскі*.

**Лютамірскі** Ежы (?—15.8.1694), дзеяч кальвіністскай царквы ВКЛ. Сын Ежы *Лютамірскага*, суперінтэндэнта навагародскага, брат Самуэля *Лютамірскага*. У 1667—74 вучыўся ў Слуцкай кальвіністскай гімназіі. У 1675 кальвіністскі сінод у Вільні прыняў рашэнне пасляць яго на вучобу ў Каралявецкі ун-т. Аднак Л. у 1676 паступіў ва ун-т у Франкфурце-над-Одэрам, у 1680 вучыўся ва ун-це ў г. Франекер, дзе выдаў кнігу «De Christo pontifice et apostolo». (1680). Да 1685 у Берліне прыдворны прапаведнік брандэнбургскай маркграфіні Людвікі Каралiны з Радзівілаў. Па яе рэкамендацыі кальвіністскі сінод у Жупранах прызначыў Л. прапаведнікам Слуцкага збора і рэктарам Слуцкай гімназіі. У 1688 прызначаны консеньёрам Навагародскага

дыстрыкта. У 1690 і 1691 у складзе дэлегацый ад кальвінісцкіх сінодаў да Людвікі Караліны. У 1691 абраны суперінтэндэнтам Жамойцкага дыстрыкта. Яму было даручана перанясенне кальвінісцкай друкарні са Слуцка ў Мітаву.

**Лютамірскі** Самуэль (?—29.8. 1711), дзеяч кальвінісцкай царквы ВКЛ. Сын Ежы *Лютамірскага*, суперінтэндэнта новагародскага, брат Ежы *Лютамірскага*. У 1672—77 вучыўся ў Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, у 1678 — у Каралявецкім ун-це, пасля ў Шатландыі (магчыма, у Эдзінбургу). У 1678 і 1681 кальвінісцкія сіноды ВКЛ вызначылі яму стыпендыю для замежнай вучобы. У 1682 вярнуўся, у 1683 прызначаны лектарам у Слуцкі кальвінскі збор і катэхістам у Слуцкую гімназію. З 1684 лектар у Кейданскім зборы. З 1689 міністр, прапаведнік у Кейданскім зборы і рэктар Кейданскай гімназіі. Займаўся перакладамі на польскую мову галандскай Біблії. У 1694 міністр кальвінскага збора ў Беліцы, выкладаў у мясцовай школе. Сінод 1696 абраў Л. новагародскім консеньёрам. У 1697 удзельнічаў у элекцыі караля польскага і вял. князя літоўскага Аўгуста II. З 1708 суперінтэндэнт кальвінскіх збораў у Новагародскім ваяводстве. Актыўна ўдзельнічаў у паліт. жыцці, намагаючыся палепшыць становішча кальвінісцкай царквы ў ВКЛ з дапамогай Берліна.

**Лютніцкі** (Мірскі) Казімір (1720?, мястэчка Мір?—пасля 1778), прыдворны жывапісец князёў Радзівілаў. Вучыўся ў мастака Джавані Фулчы, з якім у 1741—42 працаваў у палацы князёў Радзівілаў у Белай (Падляшскае ваяв.) па выкананні станковых і манументальных работ. У 1745 удзельнічаў у афармленні залаў палаца ў Нясвіжы. Паводле пісьма Францішка Ксаверыя Дамініка Гескага, Л. — аўтар партрэта Францішкі Уршулі Радзівіл, які (ці яго копія) цяпер захоўваецца ў Нац. мастацкім музеі Беларусі і значыцца як работа невядомага аўтара. Верагодна, аўтар шэрагу партрэтаў князёў Вішнявецкіх (зберагаюцца ў Нац. мастацкім музеі Беларусі). У 1747 напісаў гіст. партрэт караля польскага і вял. князя літоўскага Яна III Сабескага. З 1751 пісаў партрэты навучэнцаў Нясвяжскага кадэцкага карпуса, выканаў 166 партрэтных копій для Мірскага замка. У 1759 атрымаў ад Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі 3 пляцы ў Нясвіжы. З 1778 бурмістр Нясвіжа.

*Літ.*: Б а ж е н о в а О. Радзивилловский Несвиж: росписи костела Божьего Тела. Минск, 2007. С.80—82.

***Вольга Бажэнава.***

**Лютніцкі** Леан (?—пасля 1790), архітэктар нясвіжскага ардыната князя Караля Станіслава Пане Каханку. У 1778 зрабіў ілюмінацыю ў Нясвіжы з нагоды вяртання Гераніма і Соф'і Радзівілаў. У 1780 выканаў праект пабудовы ў *Альбе* пад Нясвіжам звярынца, каналаў, альтаны, летняй княжацкай рэзідэнцыі, у 1783 — праект Каралеўскага зала ў Нясвіжскім палацы. У 1786 пабудаваў афіцыну і ажыццявіў рэстаўрацыю Слуцкага палаца. У 1790 рамантаваў касцёл св. Міхала пад Нясвіжам і драўляную уніяцкую царкву ў Нясвіжы.

**Лютэр фон Браўншвайг** (Luther von Braunschweig; каля 1275—18.4. 1335), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1331—35. Паходзіў з пануючага нямецкага роду Вельфаў. Бацькам Лютэра быў браўншвейгскі герцаг Альбрэхт Вялікі, які ўдзельнічаў у крыжовых паходах у Прусію. Каля 1300 Лютэр уступіў у Тэўтонскі ордэн. З 1308 комтур Голубя, з 1309 комтур рыцарскага дома ў Дзежгані. Актыўна займаўся засяленнем пустых зямель сваёй акругі, развіццём гарадоў. У 1331, хутка пасля смерці Вернера фон Орзельна, Лютэр абраны наступным вял. магістрам Тэўтонскага ордэна. Працягваў вайну з Польскім каралеўствам. Хутка пасля абрання арганізаваў 2 напады на Куяўскую зямлю і Вял. Польшчу. У 1332 крыжацкія войскі захапілі Брэст- Куяўскі і Іняўроцлаў, амаль усю Куяўскую зямлю. Лютэр займаўся літаратурнай творчасцю, пісаў вершы. Па яго заказу крыжацкі святар Мікалай фон Ерошын каля 1333 пераклаў на нямецкую мову «Хроніку зямлі Прускай» *Пятра з Дусбурга*. Выдаў «Статуты» для павышэння рэлігійнасці рыцараў ордэна.




**Лютэр фон Браўншвайг.**

**Лябядзіс** (Lebedys) Юргіс (12.1. 1913, в. Дзявіндуоняй Кедайняйскага р-на, Літва—12.6.1970), літоўскі літаратуразнаўца. Д-р філалагічных навук (1966), праф. (1968). Скончыў Каўнаскі ун-т Вітаўта Вялікага (1937). У 1937—40 выкладаў у гімназіі ў г. Уцена, у 1940—41 дырэктар гімназіі ў г. Скудас. У час 2-й сусветнай вайны зняволены ням.-фаш. ўладамі, у 1942—44 выкладаў у гімназіі ў Уцене, у 1944—46 — у настаўніцкай семінарыі ў Паняважысе. У 1946—48 працаваў у Ін-це літ. л-ры АН ЛітССР, адначасова з 1946 выкладаў у Вільнюскім ун-це (у 1953—54 і 1967—70 заг. кафедры літ. л-ры). Даследаваў жыццё і творчасць Сімонаса Станявічуса, Мікалоюса Даўкшы, Сімонаса Даўкантаса, Крысціёнаса Данелайціса, найб. раннія помнікі літ. пісьменнасці 16 ст. Выдаў літ. прыказкі, прымаўкі і загадкі 17—18 ст. («Smulkioji lietuviu tautosaka XVII—XVIII a.: Priežodžiai, patarles, mįslės», Вільнюс, 1956), гімны, выдадзеныя Салямонасам Славачынскім у 1646 («Giesmės tikėjimui katalickam prideran-



čios, 1646», Вільнюс, 1958), літаратуразнаўчыя працы Станявічуса («Raštai», Вільнюс, 1967), яго збор жамойцкіх дайнаў («Dainos žemaičių», Вільнюс, 1954), «Гістарычную хрэстаматыю літоўскай літаратуры: эпоха феадалізму» («Lietuvių literatūros istorijos chrestomatiją: feodalizmo epocha», Вільнюс, 1957, з К.Корсакасам).

*Тв.*: Simonas Stanevičius. Vilnius, 1955; Mikalojus Daukša. Vilnius, 1963; Seniausias lietuviškas rankraštinis tekstas. Vilnius, 1964 (разам з Ю.Палёнісам); Mikalojaus Daukšos bibliografija. Vilnius, 1971; Lituanistikos baruose. T. 1—2. Vilnius, 1972; Lietuvių kalba XVII-XVIII a. viešajame gyvenime. Vilnius, 1976; Senoji lietuvių literatūra. Vilnius, 1977.

*Літ.*: Profesorius Jurgis Lebedys. Vilnius, 1983; Senoji lietuvos literatūra. Kn. 17. Literaturos istorija ir jos kūrejai. Vilnius, 2004.

**Лявонпальская Троіцкая царква**, помнік драўлянага дойлідства 2-й пал. 18 ст. Пабудавана ў 1774 у в. Лявонпаль Полацкага ваяв. (цяпер у Міёрскім р-не), перабудавана ў 1950-я г. Асн. прамавугольны ў плане зруб накрыты 2-схільным дахам, 5-гранны алтарны зруб — больш нізкім шматсхільным дахам. Спачатку царква мела гал. фасад, завершаны 2 чацверыковымі вежамі і 3-вугольным франтонам з паўвальмай паміж імі. Пасля перабудовы тарэц даху закрыты вял. 3-вугольным франтонам. Абапал алтара прыбудаваны нізкія рызніцы. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю, над уваходам хоры. З Пд ад царквы стаіць 2-ярусная зрубна-каркасная чацверыковая званіца, накрытая пакатым шатром. Ярусы падзелены шырокім прычолкам. Ніжні ярус глухі, верхні — скразны. ***Тамара Габрусь.***

**Лявонпальскі палац.** Пабудаваны ваяводам берасцейскім Мікалаем Тадэвушам Лапацінскім у 1768—69 у маёнтку Лявонпаль Полацкага ваяв. (цяпер вёска ў Міёрскім р-не). Архітэктар невядомы. Выказаныя ранейшымі даследчыкамі меркаванні, што ім быў Абрагам Антоні *Гену* неверагодны, бо ён памёр раней; магчыма, палац спраектаваў Ян Хрысціцель Кнакфус або Тамаш *Жаброўскі*. Палац пабудаваны ў стылі позняга барока. Будынак амаль сіметрычны па абедзвюх асях. Цэнтр. частка палаца 2-павярховая, астатнія — аднапавярховыя, на магутным цокальным паверсе, дзе размешчаны сховішчы і гаспадарчыя памяшканні. Рызаліты цэнтр. часткі палаца на гал. і дваровым фасадах афармлены прамавугольнікамі шырокіх пілястраў карнізаў і ўвенчаны барочнымі 3-вугольнымі гладкімі шчытамі са «сцёкамі» па баках. Гал. ўваход афармлены 2 пілястрамі, якія пераходзяць у кранштэйны, што трымаюць балкон на 2-м паверсе. Да ўвахода прымыкае шырокая тэраса, прарэзаная 2-маршавымі сходамі. Падобная тэраса ўладкавана і з тыльнага боку, але лесвіца мае 1 марш. Бакавыя рызаліты, якія нагадваюць даўнейшыя алькежы, маюць па 1 (з боку гал. фасада) або па 2 акны (з боку дваровага фасада), па 5 вокнаў па баках, увенчаны 3-вугольнымі франтонамі, прарэзанымі авальнымі вокнамі для асвятлення падстрэшша. Вуглы бакавых рызалітаў афармлены знізу рустоўкай, якая вышэй пераходзіць у шырокія пілястры. Планіроўка анфіладная. Інтэр'еры мелі размалёўку ў стылі грызайля, фасады пафарбаваны ў ружовы цэнтр. У палацы захоўваліся вял. зборы карцін, б-ка, архіў. Па баках ад палаца распалагаліся аднапавярховыя флігелі. Побач размяшчаўся вял. парк. У 1863 палац спалены салдатамі, у 1905—06 адбудаваны, згарэў у 1919. Пасля ў палацы ўладкаваны касцёл, потым — лячэбная ўстанова.

*Літ.*: A f t a n a z y R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 4. Wrocław etc., 1993.

**Ляговіч** Юзаф (каля 1750—1812), дзеяч каталіцкай царквы, асветнік. З шляхецкага роду герба «Прыяцель» з Віленскага ваяв. (яго бацька Якуб памёр у 1768 і пахаваны ў Маладзечне). Прынамсі з 1765 Л. вучыўся ў Вільні, у 1768 прыняў святарства ў духоўнай семінарыі, вывучаў тэалогію ў Віленскай акадэміі, дзе атрымаў ступень доктара тэалогіі. Відаць, у 1770-х г. прызначаны плябанам у Каркажышках у Віленскім ваяв. У 1776—1808 выдаў у Вільні шмат кніжак асветна-касцельнага, катэхітычнага характару, параднікаў, прызначаных для вясковых святароў і сялян. Некаторыя з іх маюць канты, рэлігійныя вершы. Выступаў супраць надзвычайных феад. падаткаў і павіннасцей, заклікаў шляхту апекавацца сваімі падданымі. Напісаў некалькі невял. аповесцей, аднаактавую камедыю. Вершы Л. нагадваюць паэтычныя творы Юзафа *Бакі*, якога Л. шанаваў і выдаў яго параднік для набажэнства (Вільня, 1808).

*Літ.*: R o k B. Józef Legowicz — oświeceniowy kaznodzieja litewski, próba szerzenia idei oświeceniowych wśród ludu // Oświeceni wobec rozbiorów Polski. Łódź, 1998 [змешчана бібліяграфія прац Л.].

**Лякшыцкі** Францішак (каля 1600, г. Кракаў?—1668), мастак. Уступіў у манаскі ордэн бернардзінцаў. Маляваў карціны вял. памераў на рэлігійныя сюжэты, выкарыстоўваў пры гэтым гравюры розных майстроў, карціны П.П.Рубенса і А. ван Дэйка. Першапачаткова працаваў у Кракаўскім кляштары бернардзінцаў, пасля ў шматлікіх гарадах Рэчы Паспалітай, у т.л. Кальварыі Зэбжыдоўскай, Дружках, Дубне, Пшэворску, Ляжайску, Познані. У 1667 прыбыў у Гародню для аздаблення мясцовага касцёла бернардзінцаў і напісання абразоў для падкаморынай Канстанцыі Бутлер з Вадзіньскіх. Мяркуецца, што пасля выехаў у Вільню. Яму прыпісваецца карціна з выявай св. Францішка з Віленскага касцёла бернардзінцаў (не захавалася, вядома паводле копіі 1852 Антонія Аляшчынскага). Памёр у Гародні.

*Літ.*: D z i k J. Franciszek Lekszycki, malarz religijny baroku. Kraków, 1998.

**«Лямант людзей пабожных, шчо ся стала ў Літоўскай зямлі»** («Лямент людей побожных, що ся стало в Литовской земли, меновите, хто хощеш, прійди и очима своими обач, що ся в мир д єт, снать, з вол Божои; хто хочет, то ся з нас см єт»), украінскі вершаваны твор сярэдзіны 17 ст. Напісаны правасл. духоўнай асобай, якая атрымала добрую школьную адукацыю. Па форме — *лямант*, плач з нагоды ўнутраных міжусобіц, у час якіх палонена, забіта і памерла ад голаду шмат людзей. Канкрэтна падзеі, якія выклікалі з'яў-



ленне «Ляманта», не названы. Адзначана, што з-за міжусобіц смуткуюць Падолле і Валынь, «усе моцныя княжаты» забраны ў палон у «скіфскія краіны» (відаць, у Крым і Турцыю). Апошняе ўказанне дазваляе зрабіць дапушчэнне, што аўтар «Ляманта» пад міжусобіцамі разумее падзеі казацкай вайны на Украіне, што пачалася ў 1648 і мела ярка выражаны антыфеад. характар. Князёў, якія змагаліся з казакамі, асабліва шмат было на Валыні. Відаць, менавіта там «Лямант» і быў напісаны. Указанне на «Літоўскую зямлю» ў назве твора сведчыць пра захаваную традыцыю лічыць валынскія землі гіст. прыналежнасцю ВКЛ. Асуджаючы паланенне «моцных княжатаў», аўтар твора выступае адначасова і з антыкаталіцкіх пазіцый, апялюе да рас. цара Аляксея Міхайлавіча [1645—76]. «Лямант» напісаны на стараўкр. мове. Знойдзены ў сярэдзіне 19 ст., упершыню апублікаваны ў 1856. Цяперашняе месцазнаходжанне не вядома.

*Публ.*: Южно-русские летописи, открытые и изданные Н.Белозерским. Киев, 1856. Т. 1. С. 159—162; Українська література XVII ст. Київ, 1987.

**лямус** (ад ням. Lehmhaus), старадаўні тып гаспадарчай пабудовы для хавання харчовых прадуктаў, збожжа, адзення, каштоўнай маёмасці, прылад працы, а таксама для жылля ўлетку. Быў пашыраны ў Літве, Польшчы, некаторых раёнах Украіны. На Беларусі вядомы у 2-й пал. 16—1-й пал. 20 ст. Будавалі з дрэва, цэглы, каменю або ў тэхніцы «прускага муру». Пад Л. рабілі пограбы. Л. былі 1—3-павярховыя (у ніжнім паверсе гаспадарчыя памяшканні, у верхніх — жылыя), прамавугольныя або квадратныя ў плане, завершаныя 2-схільнымі вальмавымі шатровымі або ламанымі дахамі. Сцены часам звонку атынкоўвалі. Паводле кампазіцыі падзяляліся на цэнтрычныя і франтальныя. Л. цэнтрычнай кампазіцыі мелі квадратны або шматвугольны (звычайна 8-гранны) план. 2-і і 3-і паверхі былі з балюстрадным; галерэямі па перыметры, якія кансольна навісалі над ніжнім паверхам або апіраліся на мураваныя ці драўляныя слупы. Л. франтальнай кампазіцыі былі звычайна 2-павярховыя, мелі ў плане форму выцягнутага прамавугольніка (радзей квадрата), з галерэямі на гал. фасадзе або па перыметры ўсяго будынка. У некаторых замках 18 ст. (Камянец) Л. размяшчалі над брамамі. У канцы 18—19 ст. пад уплывам стыляў класіцызму і ампіру Л. набылі манументальны выгляд: цэнтр гал. фасада вылучаўся прамавугольным парталам з калонамі дарычнага або тасканскага ордэру, ашаляваныя звонку сцены былі ўпрыгожаны фрызамі з трыгліфамі і метопамі, над будынкам узвышаўся бельведэр.

*Літ.*: Беларускае народнае жыллё. Мінск, 1973; Я к і м о в і ч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. Мінск, 1978; Т р а ц е в с к и й В.В. История архитектуры народного жилища Белоруссии. Минск, 1989; Л о к о т к о А.И. Белорусское народное зодчество: середина XIX—XX в. Минск, 1991; Я г о ж. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мінск, 1999; С е р г а ч е в С.А. Белорусское народное зодчество. Минск, 1992.

**Лянкевіч** Адам Апалон (каля 1710—да 6.2.1782), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З шляхецкага роду герба «Котвіч» (паходзіў з армянскага роду Іпагорскіх, якія ў 16 ст. аселі ў Мазырскім пав., пагэтаму род часам зваўся Лянкевічы-Іпагорскія). Быў сынам Тэафіла, пісара земскага мазырскага, соймавага пасла. Меў маёнткі ў Мазырскім і Кіеўскім паветах, на Валыні. У 1741, будучы скарбнікам мазырскім, абраны з Мазырскага пав. дэпутатам Трыбунала ВКЛ, а ў 1746 і 1748 — паслом на соймы. У 1750 з пасады мазырскага чашніка перайшоў на пасаду падстолія. У 1758 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Разам з братам Тамашом быў прыхільнікам групоўкі Радзівілаў і згодна з іх інтарэсамі пільнаваў правядзенне мазырскіх соймікаў. У 1764 прызначаны соймам у камісію па вызначэнні межаў Гомельскага староства. Абраны паслом на каранацыйны сойм 1764. У 1765 удзельнічаў у камісіі па размежаванні Мазырскага і Оўруцкага паветаў. Не ўдзельнічаў у Радамскай і Барскай канфедэрацыях. Гэта садзейнічала наданню яму каралём польскім і вял. кн. літоўскім Станіславам Аўгустам Панятоўскім пасады пісара земскага мазырскага (1769). У 1771 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ, у 1773 — паслом на сойм, дзе вылучаны як паўнамоцны прадстаўнік у камісію для падпісання трактатаў з Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй пра 1-ы падзел Рэчы Паспалітай. Уваходзіў у склад шматлікіх соймавых камісій па розных пытаннях (межавых, па былых езуіцкіх і шляхецкіх маёнтках), абраны членам соймава суда на 1775—76.

**Лянткоўскі** Габрыель (каля 1630, Беларусь—3.8.1659), дзеяч каталіцкай царквы. У 1648 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1653 вывучаў тэалогію ў Рыме. Працаваў у езуіцкіх місіях у Індыі. Памёр у Мадуры на Малабарскім узбярэжжы.

*Літ.*: P e r t e k J. Polacy na szlakach morskich świata. Gdańsk, 1957.

**Ляпкоўскі** Іосіф (Юзаф, свецкае імя Ян; ?—2.9.1778), дзеяч уніяцкай царквы ВКЛ. Паходзіў з шляхецкай каталіцкай сям'і герба «Дамброва» з Візнаўскай зямлі. Быў старастам пелеканскім. У спадчыну ад бацькі Караля атрымаў разам з братам Міхалам, ротмістрам аршанскім, маёнткі ў Аршанскім пав. Сваю частку спадчыны запісаў базыльянскаму манастыру ў Оршы, які заснаваў у 1758. Уступіў у базыльянскі ордэн і стаў ігуменам заснаванага манастыра. Дзякуючы падтрымцы уніяцкага архіепіскапа смаленскага Іраклія Лісанскага ў 1767 атрымаў ад караля польскага і вял. кн. літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага пасаду смаленскага каад'ютара і архімандрыта *Ануфрыеўскага манастыра* ў Мсціслаўскім ваяводстве. Ад імя Лісанскага пачаў у нунцыятуры ў Варшаве судовы працэс з полацкім архіепіскапам Ясонам *Смагаржэўскім*, які захапіў частку Смаленскай уніяцкай архіепархіі (17 дэканатаў у Мсціслаўскім ваяв.). Пасля смерці Лісанскага (1771) Л. прызначаны смаленскім архіепіскапам, застаўшыся ануфрыеўскім архімандрытам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772), не жадаючы стаць падданым Рас. імперыі, пачаў рабіць захады для пераезду ў інш. базыльянскі манастыр, аднак папскі нунцый Я.Гарампі пераканаў яго застацца. Са згоды магілёўскага губернатара Л. былі падпарадкаваны таксама Гомельскі і Рагачоўскі дэканаты, якія раней падпарад-



коўваліся уніяцкай мітрапаліцкай дыяцэзіі і адышлі ў склад Расіі. Пасля гэтыя дэканаты былі падпарадкаваны імператрыцай Кацярынай II Смагаржэўскаму, але Л. здолеў захаваць над імі ўладу як яго вікарый. У 1774 дзякуючы ініцыятыве Смагаржэўскага створана Мсціслаўская суфраганія Смаленскай архіепархіі (на сядзібу епіскапа-суфрагана прызначаны Ануфрыеўскі манастыр). У якасці суфрагана быў прапанаваны пляменнік Л. — Іраклій Лісоўскі (пазнейшы полацкі архіепіскап), які ў 1778 прызначаны адміністратарам Ануфрыеўскай архімандрыі. Хутка пасля Л. памёр як апошні уніяцкі смаленскі архіепіскап. Пахаваны ў Аршанскім базыльянскім манастыры. У 1775 атрымаў ад Панятоўскага ордэн св. Станіслава.

**«лятучыя лісткі»** (ням. Flugblatt), у 15—18 ст. еўрапейскія неперыядычныя друкаваныя выданні з навінамі ў выглядзе асобнага аркуша ці невял. брашуры. Да з'яўлення ў 17 ст. перыядычных выданняў «Л.л.» былі гал. сродкам распаўсюджання навін пераважна паліт. і ваеннага характару. Большасць ліcткоў насіла аказіянальны характар і была прысвечана адной тэме. З'явіліся ў 15 ст. ў Італіі (Балонньня, 1470). Буйнейшыя цэнтры выдання «Л.л.» — Венецыя, Нюрнберг, Аўгсбург. Лісткі выдаваліся на нямецкай, лацінскай, чэшскай, італьянскай, англійскай, галандскай і інш. мовах, сярод «Л.л.» былі і цалкам вершаваныя. У Польшчы і Рэчы Паспалітай у 16—18 ст., паводле ацэначных дадзеных, выдадзена каля 1300 «Л.л.» (захавалася 645). Тыповыя назвы «Л.л.» Рэчы Паспалітай — «Навіны», «Апісанні», «Рэляцыі», «Дыярыушы», «Лісты», «Копіі», з канца 17 ст. — «Авізы», «Паведамленні». Наклад «Л.л.» дасягаў некалькіх соцень экземпляраў. Прадаваліся ў кніжных крамах, на кірмашах, царк. фэстах, на соймах, а таксама вандроўнымі гандлярамі. Падзеі ў ВКЛ асвятляліся ў «Л.л.» пачынаючы з *Аршанскай бітвы 1514*. Па загаду вял. князя літ. і караля польскага і Жыгімонта I Старога ў краінах Зах. Еўропы выдадзена некалькі «Л.л.», прысвечаных бітве (захаваліся 4 лісткі). Даследчыкі ацэньваюць гэтыя выданні як пачатак прэсы Рэчы Паспалітай. У выдадзеным у Нюрнбергу лістку «Бітва караля Польшчы з Маскавітамі» («Die schlacht von dem kunig von Poln mit dem Moscowiter») і аналігічным лістку, выдадзеным у Лейпцыгу, акрамя апісання бітвы змешчаны ўяўныя батальныя сцэны. *Бітва на Альшаніцы 1527*, дзе войска ВКЛ на чале з Канстанцінам Астрожскім перамагло крымскіх татараў, апісана Ёстам Людвікам *Дэцыем* у лістку, выдадзеным у Кракаве (на нямецкай мове). Шмат «Л.л.» прысвечана падзеям *Інфлянцкай вайны 1558—82*, асаблівая ўвага пры гэтым удзялялася захопу замкаў у Інфлянтах войскамі цара Івана IV. Вядомы 10 ліcткоў, якія апавядаюць пра захоп Полацка ў 1563 (на нямецкай, лацінскай, чэшскай і французскай мовах; лісток на бел. мове, быццам выдадзены ў Нясвіжы, з'яўляецца домыслам). Лісток «Праўдзівыя і жахлівыя звесткі пра лютага ворага Маскавіта» («Warrhafftige und erschreckliche Zeitung von dem grausamen Feind dem Moskowiter», Аўгсбург, 1563) змясціў і выяву штурму Полацка. *Бітва на Уле 1654* апісана ў лісце Мікалая Радзівіла Рудога, пасланым да Мікалая Радзівіла Чорнага, у выглядзе «Л.л.» ў перакладзе на нямецкую мову



Да арт. «**Лятучыя лісткі**». Узяцце Полацка войскам Івана IV у 1563. Аўгсбург. 1563.




Да арт. «**Лятучыя лісткі**». «Бітва караля Польшчы з маскавітамі». Нюрнберг. 1514.




Да арт. «**Лятучыя лісткі**». Ліст Мікалая Радзівіла Рудога да Мікалая Радзівіла Чорнага з паведамленнем пра перамогу ва Ульскай бітве. Нюрнберг. 1564.



Да арт. «**Лятучыя лісткі**». Выява зубра ў лістку, прысвечаным з'яўленню ў ВКЛ у 1566 вялізнага зубра. Аўгсбург. 1567–72.

ён выдадзены тройчы ў Нюрнбергу і Аўгсбургу. Паведамленні пра бітвы, заснаваныя на лісце Радзівіла Рудога, змешчана таксама ў 2 інш. нямецкіх «Л.л.». Узяцце Полацка ў 1579 войскам караля польскага і вял. князя літ. Стафана Баторыя, а таксама захоп Вял. Лук у 1580 адзначаны ў «Л.л.» Рэчы Паспалітай, дзе змешчаны адпаведныя рэляцыі Баторыя (гэтыя лісткі неаднаразова перавыдаваліся ў Германіі і Чэхіі). Некаторыя лісткі надрукаваны ў перасоўнай друкарні ў абозе войска караля. У вершаваным лістку «Праўдзівае і пэўнае паведамленне пра тое, якім чынам яго міласць кароль польскі зноў аблажыў і заняў горад і замак Полацк у Літве» («Warhaffe Contrafactur vnd gewise Zeitung, welcher massen die Koeniglische Wirden in Poln die Stat vnnd dass Schloss Polotzko in Littawen gelegen», Нюрнберг, 1579) змешчана дакументальная выява-план аблогі. Шмат «Л.л.» прысвечана падзеям вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29, войнаў Расіі і Рэчы Паспалітай 1609—18, 1632—34 і 1654—67, у іх ліку «Навіны з Інфлянтаў пра шчаслівае паражэнне, якое пацярпеў Карл, князь Судэрманскі ад пана Яна Караля Хадкевіча» (пра *Кірхгольмскую бітву 1606*), «Пакуты жаўнераў абодвух народаў у сталіцы маскоўскай» (пра капітуляцыю войска Рэчы Паспалітай у Крамлі ў 1612), «Выправа цара маскоўскага са сталіцы на вайну супраць Літвы і палякаў» (пра пачатак вайны 1654—67), «Перамога над Масквой ад палякаў і літвы, у 1660 годзе атрыманая» (пра *Палонкаўскую бітву 1660*). Шмат лісткоў прысвечана перамозе над туркамі ў *Венскай бітве 1683*, падзеям Паўн. вайны 1700—21. Шырока асвятлялі «Л.л.» змены манархаў у Рэчы Паспалітай, каралеўскія шлюбы, пасольствы, пажары ў гарадах, мор.



Warhaffte vnd gründliche Zeitung / Welcher massen die Kön: May zu Poln etc. bewogen den Krieg kegen dem Erbfeind dem Moscowiter vorzunemen / Wie sie kegen demselben hiebevor wie auch in diesem jetzlauffenden 1580 Jare im monat Augusto gesieget / und was ferner dabey zu hoffen und zuvermutten.

Gedruckt zu Dantzigk / durch Jacobum Rhodum. M. D. LXXX.

Да арт. «**Лятучыя лісткі**». Лісток з апісаннем ваеннай кампаніі Стафана Баторыя 1580. Гданьск. 1580.

Пра нечуваны голад у ВКЛ у 1571 распавядаў аўгсбургскі «Л.л.». Некаторыя лісткі паведамлялі пра незвычайных для зах.-еўрапейскага чытача звяроў, што вадзіліся ў ВКЛ — тураў і зуброў. Выданне «Л.л.» мела не толькі інфар-




Да арт. «**Лятучыя лісткі**». Аблога Полацка войскамі Стафана Баторыя ў 1579. Нюрнберг. 1579.

NOWINY
ZMoskwy krotko y generaliter zebráne.

Z MOSKWY
NOWINY, IAKO WOYSKO vvszytko Moskievvskie vvedle tráctatow y conditiy w pierwszych nowinách drukowánych, (do ktorych się te ściągaią) z Ostrogow swych vvypuszczone wyszło. Die 1. Mart. A. D. 1634.

Да арт. «**Лятучыя лісткі**». «Навіны з Масквы». 1634.

мацыйны, але і прапагандысцкі характар, садзейнічала пашырэнню ў Зах. Еўропе ведаў пра ВКЛ і Рэч Паспалітую, умацаванню іх знешнепаліт. пазіцый.

*Літ.*: Б е л ы А. Полацк у нямецкіх «лятучых лістках» XVI ст.: Інфлянцкая вайна на старонках першых еўрапейскіх газет // Спадчына. 1997. № 6; Я г о ж. Літоўская кунсткамера // Там жа. 1998. № 2; Я г о ж. «Страшны голад у краіне Русь і Літва...» // Там жа. № 5; Z a w a d z k i K. Gazety ulotne polskie i Polski dotyczące XVI—XVIII wieku: Bibliografia. T. 1—3. Wrocław, 1977—90; Я г о ж. Prasa ulotna za Zygmunta III. Warszawa, 1997; Я г о ж. Początki prasy polskiej: Gazety ulotne i seryjne XVI—XVIII wieku. Warszawa, 2002; K a p p e l e r A. Die deutschen Flugschriften über die Moskowiter und Iwan den Schrecklichen im Rahmen der Russlandliteratur des 16. Jahrhunderts // Russen und Russland aus deutscher Sicht 9.—17. Jahrhundert. München, 1988; P i r o ż y ń s k i J. Z dziejów obiegu informacji w Europie XVI wieku: Nowiny z Polski w kolekcji Jana Jakuba Wicka w Zurychu z lat 1560—1587. Kraków, 1995.

**ляўдум** (ад лац. laudum), дакумент, дзе фіксаваліся рашэнні, прынятыя соймікам, гл. *ўхвала*.

**Ляхавіцкі Узвіжанскі касцёл.** Заснаваны ў мяст. Ляхавічы Навагародскага пав. ў 1602 гетманам ВКЛ Янам Каралём Хадкевічам. Першапачаткова быў драўляны. Пасля пажару ў 1750 адбудаваны ў цэгле на сродкі Міхала Масальскага. Касцёл — 3-нефавы бязвежавы храм ў стылі позняга барока. Сярэдні неф быў вышэй за бакавыя, асвятляўся праз лучковыя вокны. Апсіда паўкруглая. У 1870 касцёл перароблены на царкву, пры гэтым над уваходам узведзена драўляная вежа-званіца, а перад апсідай — барабан, завершаныя цыбулепадобнымі галоўкамі. У час пажару 1874 пацярпелі інтэр'еры, знішчаны іканастас. Храм узарваны ў 1960-я г.

*Літ.*: Г а б р у с ь Т.В. Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока. Мінск, 2001; Ч а р а н о в і ч С. Ляхавіцкі касцёл Узвышэння Св. Крыжа // Наша вера. 2002. № 3.

**Ляхніцкі** Антоні Дызмас (1756—5.11.1819), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын вількамірскага стольніка Юзафа Ляхніцкага, брат Ігнація Рамана *Ляхніцкага*. У маладосці служыў у войску (у пяцігорскай брыгадзе). У 1778 прызначаны люстратарам гарадоў у Троцкім, Ковенскім і Гарадзенскім пав. у сувязі са скасаваннем магдэбургскага права ў малых гарадах ВКЛ. У 1785 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. З 1786 каралеўскі шамбялян, вількамірскі абозны ў 1788—93, стольнік у 1793—94. У 1789 і 1790 абіраўся чл. цывільна-вайсковай камісіі Вількамірскага пав. ў 1791—94 пісар гродскі віленскі, у 1794 віцэ-прэзідэнт Вільні. У пач. 1794 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Віленскім актам паўстання 24.4.1794 прызначаны чл. *Найвышэйшай літоўскай рады*, а пасля яе роспуску — чл. *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага*. У 1797 харужы Віленскага пав., у 1802 — старшыня 1-га дэпартамента галоўнага суда Віленскай губ., у 1805 маршалак шляхты Віленскага пав. У 1808 прызначаны чл. судова-адукацыйнай камісіі па ўпарадкаванні адукацыйных фундушаў у Віленскай навучальнай акрузе (старшыня камісіі — Тамаш Ваўжэцкі). З 1811 гранічны суддзя Віленскай губ. У час вайны 1812 пры адступленні рас. арміі М.Барклай-дэ-Толі прызначыў Л. прэзідэнтам Вільні (хутка быў заменены французскімі ўладамі на мэра М.Ромера). З 1815 чл. Радзівілаўскай камісіі, што разглядала юрыд. прыналежнасць радзівілаўскіх уладанняў.

**Ляхавіцкі Узвіжанскі касцёл**.

**Ляхніцкі** Ігнацы Раман (1755—каля 1830), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын вількамірскага стольніка Юзафа Ляхніцкага, брат Антонія Дызмаса *Ляхніцкага*. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, за дысертацыю «Асноўныя палажэнні ўсеагульнай філасофіі» («Proposiciones ex philosophia universa», Вільня, 1772) атрымаў ступені магістра вольных мастацтваў і д-ра філасофіі. Служыў у войску ВКЛ, палкоўнік (1788). Пасля паступіў на службу да вял. гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага, маршалак яго двара ў Слоніме, быў дарадчыкам у маёнткавых і паліт. справах. Па прапанове гетмана пераклаў на польскую мову для Слонімскага тэатра трагедыю Вальтэра «Альзіра, альбо Амерыканцы» (Варшава, 1780). Пера-



клад празаічны, без асаблівых літ. вартасцей. Паводле меркавання А.Цеханавецкага, Л. мог быць сааўтарам гетмана ў напісанні вершаваных твораў. У 1788 пад чужым прозвішчам Л. ездзіў ад імя Агінскага і Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку ў Берлін да Фрыдрыха-Вільгельма II з паліт. прапановамі, накіраванымі супраць караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і імператрыцы Кацярыны II, але паразумення не знайшоў. Пакінуў ваенную і прыдворную службу, займаўся гаспадаркай ва ўласным маёнтку Ляхнаў каля Гародні. У 1792 купіў у Агінскага маёнткі Грайна, Зарубічы, частку Целяхан. Вількамірскі лоўчы ў 1789—92, стольнік у 1792—93. На Гарадзенскім сойме 1793 уведзены ў склад Скарбовай камісіі ВКЛ. У час паўстання 1794 чл. Гарадзенскай парадкавай камісіі, віцэ-прэзідэнт Гародні. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) выконваў абавязкі ўпаўнаважанага адсутнага ў краі Агінскага, прынёс за яго прысягу рас. уладам. У сваіх маёнтках рэфармаваў сялянскія павіннасці, што прадугледжвала заключэнне «добраахвотных» дагавораў, адчыняў школы. Свае асветніцкія погляды выклаў у брашуры «Біяграфія валашаніна, які жыве на берагах Нёмана вышэй Ласосны» («Biografia włościanina nad brzegami Niemna powyżey Łosośnej mieszkającego», Варшава, 1815). З 1811 старшыня гранічнага суда Гродзенскага пав., чл. Варшаўскага сельскагаспадарчага таварыства. Падтрымліваў палітыку Міхала Клеафаса Агінскага, накіраваную на пошук паразумення з імператарам Аляксандрам I у справе адраджэння ВКЛ у складзе Рас. імперыі. У час вайны 1812 далучыўся да канфедэрацыі ВКЛ, чл. Гродзенскай адм. палаты. У 1813 чл. Цэнтр. камісіі ваенных павіннасцей Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губ. і Беластоцкай вобл. У 1818 быў адным з заснавальнікаў Друкарскага таварыства ў Вільні. Належаў да масонскіх ложаў.

*Літ.*: Żytkowicz L. Rządy Repnina na Litwie w latach 1794—1797. Wilno, 1938; Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме. [2 выд.] Мінск, 2006.

**Ляшчынскія**, шляхецкі род герба «Вянява» ў Рэчы Паспалітай. Вядомы з канца 14 ст. Родавая сядзіба — Лешна (Лешчна) у Вял. Польшчы (адсюль прозвішча). Мелі маёнткі ў Вял. Польшчы, Сілезіі, на Валыні (у т.л. Чартарыйск, Корац), у ВКЛ. У 1473 ад імператара Фрыдрыха III атрымалі графскі тытул. Найб. вядомыя:

Рафал (каля 1526—1592), сын Яна. Ваявода брэсцка-куяўскі ў 1545—50, стараста радзееўскі ў 1550—80, кашталян срэмскі з 1580. Быў адным з найб. актыўных палітыкаў свайго часу. На Пётркаўскім сойме 1548 патрабаваў разводу караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста з Барбарай Радзівіл, на сойме 1550 абараняў Станіслава *Ажахоўскага*, абраны маршалкам соймаў 1552 і 1562—63. Падтрымаў заключэнне і падпісаў акт *Люблінскай уніі 1569*, пасля чаго быў паслом з пасloў у Маскву (узяў з сабой святара Яна Ракіту, які дыскутаваў па рэлігійных пытаннях з царом Іванам Грозным). Належаў да арыян (чэшскіх братоў).

Андрэй (каля 1559—24.7. 1606), сын Рафала. На заключным этапе *Інфлянцкай вайны 1558—82* на чале ўласнага атрада ваяваў пад камандаваннем Стафана Баторыя супраць маскоўскіх войск. Ваявода брэсцка-куяўскі з 1591. У менскага ваяводы Яна Паца набыў маёнтак Далобры ў Берасцейскім ваяв., там жа меў Уладаву. Належаў да чэшскіх братоў. Удзельнічаў у пратэстанцка-правасл. *Віленскім з'ездзе 1599*.

Рафал (кастр. 1579, ВКЛ— 29.3. 1636), сын Андрэя. Кашталян вісліцкі з 1612, калішскі з 1618, ваявода белзскі з 1620. Удзельнічаў у *Хацімскай бітве 1621*. Садзейнічаў легалізацыі правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай на сойме 1632. Валодаў Далобрамі ў Берасцейскім ваяв., вуліцай у Берасці, маёнткамі на Валыні і інш. (усяго 17 гарадамі і 116 вёскамі). Быў мецэнатам, адным з найб. адукаваных людзей свайго часу. Належаў да кальвіністаў. Гал. рэзідэнцыю меў ва Уладаве Берасцейскага ваяв., дзе заснаваў кальвінскі збор са школай.

Рафал (?—1644), сын Рафала. Пасля бацькі валодаў шматлікімі маёнткамі, у т.л. Уладавай і Карпіносай у ВКЛ.

Андрэй (1608 або 1609— 15.4. 1658), сын Вацлава. Канонік кракаўскі прыкладна з 1623, канцлер каралевы польскай і вял. княгіні літ. Цэцыліі з 1640, падканцлер каронны з 1645, біскуп хэлмскі з 1646, канцлер каронны ў 1650—52, арцыбіскуп гнезненскі з 1653.

Уладзіслаў (?—да 1663), сын Рафала, ваяводы белзскага. Падкаморы берасцейскі. У 1648 удзельнічаў у элекцыі караля польскага і вял. князя літоўскага Яна II Казіміра. Удзельнічаў у бітве з укр. казакамі пад Берасцечкам у 1651. Меў маёнткі на Валыні, у Берасцейскім ваяв., вуліцу ў Берасці. Вызнаваў кальвінізм.

Багуслаў (каля 1612—23.9. 1659), сын Рафала, ваяводы белзскага. Генеральны стараста вялікапольскі з 1642, падскарбі каронны з 1650, падканцлер каронны з 1658. Маршалак соймаў 1641, 1648, 1649—50. Удзельнічаў у бітве з укр. казакамі пад Берасцечкам у 1651. З кальвінізму перайшоў у каталіцтва. Валодаў шматлікімі маёнткамі, у т.л. мяст. Орхаў у Берасцейскім ваяв.

Ян (1603—78), сын Андрэя. Кашталян срэмскі ў 1644, гнезненскі з 1644, маршалак каралевы польскай і вял. княгіні літоўскай у 1649—51, ваявода ланчыцкі з 1653, пазнанскі з 1656, падканцлер каронны з 1659, канцлер каронны ў 1666—78, ваявода кракаўскі ў 1678.

Пшэцлаў Павел (15.8. 1605—70), сын Андрэя. Кашталян наклаўскі з 1642, срэмскі з 1644, ваявода дорпацкі з 1658.

Вацлаў (15.8.1605—1.4. 1666), сын Андрэя. Каралеўскі сакратар з 1630, канонік кракаўскі і схаластык ланчыцкі з 1633, пробашч ланчыцкі з 1640, рэферэндар каронны і пробашч плоцкі з 1643, біскуп вармінскі з 1644, арцыбіскуп гнезненскі з 1658.

Вацлаў (паміж 1632 і 1638—88), сын Уладзіслава. Ваявода падляшскі з 1673. Удзельнічаў у Хацінскай бітве 1673, Венскай бітве 1683.

Багуслаў (каля 1645—да 3.10. 1691), сын Багуслава. З 1658 ксёндз, канонік кракаўскі з 1665, канцлер ка-



ралевы польскай і вял. княгіні літ. Элеаноры ў 1671, сакратар караля польскага і вял. князя літ. Яна III Сабескага ў 1682, біскуп луцкі з 1688.

Рафал Вацлаў (1650— 30.1.1703), сын Багуслава. Каронны падстолі з 1676, стольнік з 1677, крайчы з 1678, вял. харужы з 1683, ваявода калішскі з 1685, пазнанскі з 1687, ваявода ланчыцкі і генеральны стараста велікапольскі з 1692, вял. падскарбі каронны з 1702. Маршалак сойма 1683. Удзельнічаў у Венскай бітве 1683. У 1700 пасол у Турцыю. У 1701 пачаў суд. працэс з Каралём Станіславам Радзівілам судовы працэс наконт застаўшайся пасля смерці сваёй сястры Людвікі Ляшчынскай рухомай маёмасці на 5 млн. злотых. Валодаў шматлікімі маёнткамі, у т.л. мяст. Орхаў у Берасцейскім ваяв.

Станіслаў (20.10.1677, г. Львоў—23.2.1766), сын Рафала Вацлава, кароль польскі і вял. князь літ., гл. *Станіслаў* Ляшчынскі.

*Літ.*: Karwowski S. Leszczyńscy herbu Wieniawa. Lwów, 1916.





**«Магілёўская даўніна»** («Могилёвская старина»), зборнік дакументаў і артыкулаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Магілёўшчыны, перадрукаваных з неафіцыйнай часткі газеты «Могилёвские губернские ведомости» за 1898—1903. Выдадзены ў 3 выпусках (1900, 1901, 1903) над рэдакцыяй Е.Р.Раманава. У 1-м выпуску «М.с.» змешчаны *Баркулабаўскі летапіс* (паводле выдання М.В.Доўнар-Запольскага ў кіеўскіх «Университетских известиях», 1898, № 12, з прывядзеннем розначытанняў па выданні П.А.Куліша ў «Матэрыялах для гісторыі ўз'яднання Русі», т. 1, Масква, 1877), артыкулы Дз.І.Даўгялы пра гісторыю Оршы, Веткі, прывілей караля польск. і вял. кн. літ. Стэфана Баторыя 1581 Васілю Няміры на права валодання вёскамі, падарожныя нататкі рас. стольніка П.А. Талстога пра Магілёўшчыну 1697—99, карта Магілёўскага намесніцтва 1786 і інш. У 2-м вып. — «Апісанне Крычаўскага графства або былога стараства» Андрэя Меера 1786, бібліяграфічны паказальнік асн. прац Раманава і інш. У 3-м вып. — дакументы па гісторыі Магілёва 16—20 ст. і інш. У 2-м і 3-м выпусках звесткі пра летапісца ігумена *Арэста*. У «М.д.» змешчана інфармацыя пра археал. раскопкі, нумізматычныя знаходкі, знакамітыя абразы, цэрквы і манастыры, помнікі царк. даўніны, рукапісныя кнігі.

*Літ.*: Савицкая Л.А. Материалы по истории Белоруссии на страницах «Могилевской старины» // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Минск, 1983. Вып. 4.




**Магілёўская Пакроўская царква**.

**Магілёўская Пакроўская царква**. Існавала ў канцы 17—пач. 20 ст. ў Магілёве. Пабудавана з цэглы ў традыцыях *Магілёўскай школы дойлідства*. Прамавугольны ў плане крыжова-купальны храм. Ва ўсх. частцы завяршаўся 3 паўцыліндрычнымі апсідамі, у заходняй — прытворам і 2 рызніцамі па баках асн. аб'ёму. Над сяродкрыжжам узвышаўся 8-гранны светлавы барабан, накрыты сферычным купалам з цыбулепадобнай галоўкай на высокай 8-граннай шыйцы. Тарцы асн. аб'ёму і крылы трансептаў завяршаліся трохвугольнымі франтонамі з паўцыркульнымі нішамі ў цэнтры. Вуглы аб'ёмаў і сцены рызніц былі дэкарыраваны пі- лястрамі, аконныя праёмы мелі паўцыркульную форму. Па перыметры будынак быў апяразаны тонкапрафіляваным карнізам. У інтэр'еры 4 масіўныя слупы пры дапамозе ветразяў падтрымлівалі барабан купала.

*Літ.*: Чарняўская Т.І. Архітэктура Магілёва: з гісторыі планіроўкі і забудовы горада. Мінск, 1973. С. 28—29.

***Тамара Чарняўская.***

**Магілёўская Успенская царква.** Існавала ў 17—сярэдзіне 20 ст. Пабудавана ў 1670 у стылі барока на паўд.-ўсх. ускраіне Магілёва непадалёку ад Дняпра, у комплексе з невял. «цёплай» царквой і званіцай. У храме выявіліся рысы *Магілёўскай школы дойлідства.* Мураваны 3-апсідны крыжова-купальны храм (у плане лацінскі крыж). Асноўныя аб'ёмы былі накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі з трохвугольнымі франто-



**Магілёўская Успенская царква**. Выгляд у пач. 20 ст.



намі на тарцах. На сяродкрыжжы на масіўным шматгранным барабане купал з галоўкай. Невял. паўцыркульныя апсіды, бакавыя ўваходныя тамбуры, якія прылягалі да крылаў трансепта, і гранёны тамбур гал. ўвахода дапаўнялі кампазіцыю і падкрэслівалі яе крыжова-цэнтрычны характар. Сцены былі расчлянёны пілястрамі і прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў арачных нішах. Асн. неф быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта — крыжовымі скляпеннямі.

*Літ.*: Чарняўская Т.І. Архітэктура Магілёва: з гісторыі планіроўкі і забудовы горада. Мінск, 1973. С. 28—29.

***Тамара Чарняўская.***

**Мадалінскі** Якуб Караль (?—да 10.3.1638), ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай. Удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. У 1604 прывёз у войска Рэчы Паспалітай у Інфлянтах жолд для жаўнераў, быў тут затрыманы гетманам Янам Каралём Хадкевічам і вызначыўся ў *Белакаменскай бітве 1604*. У 1608 прывёз жолд членам *Гарадзенскай канфедэрацыі 1606—08*. Удзельнічаў у аблозе Парнава ў 1609, пасля чаго камандаваў мясцовым гарнізонам. Пасля ўдзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*, у Маскоўскім паходзе каралевіча Уладзіслава 1617—18. З-пад Звянігарада ў 1618 адпраўлены паслом да надыходзячага з дапамогай укр. гетмана Пятра Канашэвіча-Сагайдачнага, якому перадаў гетманскую булаву, харугву і літаўры. Магчыма, удзельнічаў у *Хацінскай бітве 1621*. Войскі мсціслаўскі з 1626, пасол на соймы 1625, 1629, 1631 ад Мсціслаўскага ваяв., у 1629 і 1631 абраны на соймах у склад Скарбовага трыбунала ВКЛ. У 1632 падпісаў акт элекцыі караля польскага і вял. князя літ. Уладзіслава IV. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. У 1633 прывёў пад абложаны Смаленск атрад, які даставіў польск.-літ. войску запас пораху і жывёлу. У пач. 1633 гетман Крыштоф Радзівіл, які з-за хваробы пакінуў войска, перадаў М. камандаванне над лагерам каля Краснага (пасля М. перанёс яго пад Мікулін). Пасля прыбыцця пад Смаленск Уладзіслава IV М. знаходзіўся ў яго атачэнні. У пач. 1634 камандаваў палком у час паходу на Белы. У 1635 суправаджаў паслоў Рэчы Паспалітай у Маскву. У 1618 атрымаў ад караля 3 валокі зямлі ў в. Рудомы Мсціслаўскага ваяв., з якіх 2 валокі перадаў касцёлу Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мсціслаўлі. У 1621 набыў у Мсціслаўскім ваяв. маёнтак Беразетня. У 1636 атрымаў Барцянскае староства ў Ковенскім пав., Мсціслаўскаму кляштару кармелітаў перадаў 100 валок з маёнтка Прылепава ў Смаленскім ваяв., што зацвердзіў сойм 1638.

**Мадзялеўскі** Захарыюш (6.9.1648, Мазовія—13.7.1710), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1668 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1682 ксёндз. Вучыўся ў Варшаве, Браневе, Вільні, Гародні, Навагародку. Праф. рыторыкі і паэтыкі ў Полацку (1676—77) і Вільні (1677—78). У 1678—82 вывучаў тэалогію ў Вільні. Праф. рыторыкі ў Плоцку (1682—83), філасофіі ў Пултуску (1683—84), Варшаве (1684—85) і Вільні (1685—88), прапаведнік у Варшаве (1688—89), праф. этыкі ў Вільні (1689—91), прэфект студый у Полацку (1691—94), рэктар калегіума ў Ломжы (1694—99), прэфект школы ў Пінску (1699—1701), Гародні (1701—04), Оршы (1704—06), Нясвіжы (1706—10). У 1685 атрымаў у Віленскай акадэміі ступень магістра вызваленых навук і філасофіі. Пад імем Міхала Мойгіса выйшла кніга М. «Этыка–палітычная дысертацыя пра чалавечае грамадства, хатняе і цывільнае» («Theses ethico-politicae de societate humana tam domestica quam civili...», Вільня, 1690). Апрацаваў біяграфіі езуітаў у кнігах «Вузел святы, або Святое жыццё вялікага Слугі Божага Алаіза Лануца» («Węzeł święty abo świątobliwy żywot wielkiego Sługi Bożego Aloizego Lanuza», Вільня, 1691), «Пахвальныя справы некаторых Слуг Божых» («Chwalebne niektórych Sług Bożych dzieła», Вільня, 1703), «Узор хрысціянскай набожнасці» («Wzór chrześcijańskiej pobożności», Вільня, 1704) і інш. Захаваліся канспекты лекцый М. па філасофіі.

*Літ.*: Plečkaitis R. Lietuvos filosofijos istorija. T. 1. Vilnius, 2004.

**Мадзялеўскі** Павел (27.6.1722, Мазовія—24.1.1767), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1738 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1749 ксёндз. Праф. рыторыкі і гісторыі ў Нясвіжы (1751—52) і Віцебску (1752—53), этыкі ў Менску (1753—55) і Вільні (1756—57), філасофіі ў Менску (1753—55), Навагародку (1757—58) і Полацку (1759—60), тэалогіі ў Полацку (1760—61) і Варшаве (1762—66). Выдаў кнігу «Духоўныя размовы падчас місіі ў Полацкім фарным касцёле езуітаў, адбытай у 1761 годзе» («Rozmowy duchowne podczas missyi w kościele farnym polockim S. I. roku 1761 odprawionej», Варшава, 1762).

**Маен** (Мен) Ян Якуб (каля 1733, г. Кобленц каля Шчэціна—пасля 1794), ваенны дзеяч. Паходзіў з нямецкай сям'і. Скончыў калегіум у Караляўцы (Кёнігсбергу, 1750), вучыўся ў Каралявецкім ун-це. Служыў у прускай арміі. З 1778 у войску ВКЛ. У 1778—83 капітан 2-га рэгімента булавы вял. літоўскай, у 1783—85 генерал-ад'ютант булавы польнай літоўскай, з 1785 падпалкоўнік 4-га рэгімента, з 1790 палкоўнік. Набілітаваны ў 1790 Чатырохгадовым соймам 1788—92. Камандаваў 4-м рэгіментам у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792*, удзельнічаў у баях пад Мірам 11.6.1792 і Крэменем 24.7.1792. Удзельнічаў у падрыхтоўцы *паўстання 1794*. Пасля пачатку паўстання 16.4.1794 у Шаўлях не выконваў загадаў гетмана Шымана Касакоўскага, у Жыжмарах далучыўся з 4-м рэгіментам да паўстаўшых войск генерала Рамуальда Гедройца, што ішлі на Вільню. Удзельнічаў у бітве пад Палянамі каля Вільні 7.5.1794. За мужнасць атрымаў ад Тадэвуша Касцюшкі, 16.5.1794 званне генерал-маёра, аднак працягваў камандаваць толькі 4-м рэгіментам, які ўваходзіў у склад віленскага гарнізона. 19.7.1794 абараняў Вільню з боку Вострай Брамы ад войск рас. генерала Б.Кнорынга, быў вымушаны адысці да Малых Салечнікаў, дзе злучыўся з ген.-лейтэнантам Міхалам Вяльгорскім. Вызначыўся ў час абароны Вільні 11.8.1794. Касцюшка 22.8.1794 прызначыў М. камандзіруючым ген.-маёрам. 2.9.1794 абараняў Коўну. Хутка пасля таго прызначаны каман-

дзірам гал. дывізіі войска ВКЛ. Пасля перафарміравання сабраных пад Гародняй войск М. прызначаны камандзірам 2-й дывізіі войска ВКЛ, прыкрываў адыход войск на Варшаву. Удзельнічаў у бітве пад Кабылкай 26.10.1794, абароне прадмесця Варшавы Прагі 4.11.1794, дзе трапіў у рас. палон. Яму было дазволена вярнуцца на радзіму ў Прусію. Далейшы лёс невядомы.

**Мазавецкі** Міхал (29.9.1618, в. Астравец Пазнанскай дыяцэзіі—23.2. 1684), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1636 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. У 1642—45 вывучаў філасофію ў Вільні, у 1645—49 — тэалогію ў Браневе. Праф. філасофіі ў Браневе (1650—53) і тэалогіі маральнай у Пултуску (1653—55). У час вайны са Швецыяй праф. маральнай тэалогіі ў Люцэрне (1655—58). Пасля спаведнік кіеўскага біскупа Тамаша Уйейскага (1659—61), праф. маральнай тэалогіі ў Пултуску (1661—62), інструктар дома 3-й прабацыі ў Пінску (1663—64), рэктар калегіума ў Рэшэлі (1664—67), праф. палемічнай тэалогіі і Св. Пісьма ў Браневе (1668—70), праф. кананічнага права ў Вільні (1670—72), прэпазіт дамоў прафесаў у Варшаве (1673—76) і Вільні (1676—79), галава Літ. правінцыі ордэна езуітаў (1679—83), рэктар Віленскай акадэміі (1683—84). Дэлегат 12-й Генеральнай кангрэгацыі ордэна езуітаў (1682). Аўтар паэтычных твораў, казанняў, у т.л. «Казання на пахаванні віленскага біскупа Аляксандра» («Kazanie na pogrzebie Aleksandra Biskupa Wilenskiego», Вільня, 1644).

**Майдэль** Тэадор Ян (?—1667), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Паходзіў з інфлянцкай шляхты. У 1636 ляснічы рудніцкі і мендзыжэцкі, у 1640 стараста рудніцкі, у 1648 стараста рыжскі і дзяржаўца кляшчэльскі, у 1650 ляснічы белавежскі і камянецкі. У 1638—48 пры двары караля польскага і вял. князя літ. Уладзіслава IV, яго пакаёвы дваранін, лоўчы надворны кароны. Прысутнічаў пры смерці Уладзіслава IV у Мерачы (1648). Падпісаў элекцыю караля польскага і вял. князя літ. Яна II Казіміра. У 1650—51 удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць укр. казакоў. У 1656 у якасці каралеўскага пасла атрымаў заданне не дапусціць заключэння брандэнбургска-шведскага саюза, скіраванага супраць Рэчы Паспалітай, што яму не ўдалося.

**Макавецкі** Геранім (?—20.9. 1583), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з шляхецкага роду герба «Помян» з Бжэска-Куяўскай зямлі. Вучыўся ў Лейпцыгу, Франкфурце-на-Одэры. Прыкладна з 1551 пры двары Мікалая Радзівіла Чорнага, выконваў яго дыпламатычныя даручэнні ў Германіі (1552), Англіі (1553), Швецыі (1555, прапаноўваў шведскаму каралю Густаву план вял. князя літ. і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста заключыць саюз супраць цара Івана IV Грознага, што было адвергнута). У 1563 суправаджаў у замежнай вандроўцы да Страсбурга сына Радзівіла Чорнага — Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіротку. Пасля смерці Радзівіла Чорнага (1565) адвёз яго сына Юрыя ў Страсбург пад апеку Радзівілу Сіротцы. М. быў адным з гал. службоўцаў апошняга. Радзівілаўскі намеснік у Клецку (1559—77), Карэлічах (1565), Нясвіжы (1571—83), талерантна ставіўся да пратэстанцкай *Нясвіжскай друкарні*. У 1574 атрымаў пасаду каралеўскага сакратара. У 1574 разам з Юзафам Галаўнёй быў рэвізорам Гаязьскага і Кнышынскага старостваў. У 1574 вёў перагаворы з князем Юрыем Алелькавічам, у выніку чаго быў заключаны саюз Алелькавіча з Мікалаем Радзівілам Рудым і Янам Хадкевічам. У 1576 Радзівіл Сіротка паслаў М. да новаабранага караля Стафана Баторыя з запэўніваннем у сваёй лаяльнасці. У 1577 М. вёў перагаворы аб жаніцьбе кароннага канцлера Яна Замойскага з сястрой Радзівіла Сіроткі Крысцінай. З 1579 маршалак гаспадарскі, чл. Рады ВКЛ. Да 1570 атрымаў радзівілаўскі маёнткак Нача ў Лідскім павеце, у 1582 Радзівіл Сіротка падараваў яму маёнтак Высокае. Вызнаваў кальвінізм, у канцы жыцця прыняў каталіцтва.

*Літ.*: Пазднякоў В.С. Клецк X—XVIII стст.: матэрыяльная і духоўная культура беларускага феадальнага горада. Мінск, 2008. Kempa T. Sekretarze królewscy na służbie u Radziwiłłów w drugiej polowie XVI wieku // Patron i dwór: magnateria Rzeczypospolitej w XVI—XVIII wieku. Warszawa, 2006.

**Макарская** (па мужу Легрэ) Соф'я (1769?, мяст. Быцень Слонімскага пав.—пасля 1799), танцоўшчыца. Прыгонная надворнага падскарбія ВКЛ А.*Тызенгаўза*. Вучылася ў яго балетнай школе ў Паставах (педагог Франсуа Габрыель *Ле Ду*). Паводле завяшчання Тызенгаўза стала ўласнасцю караля польск. і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1785—94 (з перапынкамі) у складзе балетнай трупы «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці» ў Варшаве, выступала на каралеўскіх сцэнах і ў Нац. тэатры. У 1794—97 працавала ў трупе С. Галніцкага і антрэпрызе Т.Трускаляскага. У 1797 па ініцыятыве і за кошт Станіслава Аўгуста Панятоўскага паступіла фігуранткай на імператарскую сцэну ў Санкт-Пецярбургу (у дакументах за 1797—99 праходзіць як Максерская).

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Макоўскі** Стафан (13.7.1659, Мазовія—пасля 1705), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1676 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1688 ксёндз. Праф. рыторыкі ў Варшаве (1689—90) і Менску (1691—92), прэфект школы ў Менску (1692—93) і Віцебску (1693—94), прапаведнік і прэфект б-кі ў Вільні пры касцёле св. Яна (1696—99), прэфект школ і б-к у Гародні (1699—1701, 1703—04), Нясвіжы (1702—03), Ілукшце (1704—05). У 1705 выйшаў з ордэна езуітаў. Аўтар школьнай драмы.

*Літ.*: Okoń J. Dramat i teatr szkolny: sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.

**Макраноўскі** Станіслаў (10.1.1761, г. Багуцін каля Влоцлаўка, Польшча—19.10.1821), ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Багорыя». У 1775—77 вучыўся ў Варшаўскім кадэцкім корпусе, пасля да 1780 — у Парыжскай ваеннай школе. З 1780 служыў у кароннай гвардыі Рэчы Паспалітай, у 1782—88 — у французскай арміі. Быў абраны паслом на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*. Віцэ-брыгадзір (1788), брыгадзір (1792). Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* (у т.л. ў бітве пад



С.**Макраноўскі**.

Зелянцамі 18.6.1792), быў узнагароджаны крыжом «Віртуці мілітары». Пасля далучэння караля польск. і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага да Таргавіцкай канфедэрацыі М. выйшаў у адстаўку, нягледзячы на атрыманне рангу генерал-маёра (1792). Далучыўся да *паўстання 1794*. Прытрымліваўся кансерватыўных і раялісцкіх поглядаў, варагаваў з прадстаўнікамі радыкальнага крыла паўстання (якабінцамі). 25.4.1794 кіраўнік паўстання Т.Касцюшка надаў М. ранг генерал-лейтэнанта, прызначыў яго камандуючым узброенымі сіламі горада Варшавы і Мазавецкага княства. З-за супярэчнасцей з Касцюшкам апошні 15.6. 1794 прызначыў М. камандзірам дывізіі, а 10.8.1794 — камандуючым паўстанцкімі войскамі ў ВКЛ замест хворага М.Вяльгорскага. У сярэдзіне жн. 1794 М. прыбыў пад Берасце. Меркаваў сканцэнтраваць войскі ВКЛ у 2 дывізіях: каля Берасця і паміж Берасцем і Гародняй, каб не даць магчымасці рас. войску фарсіраваць Буг. Аднак дрэнны стан арміі ВКЛ прымусіў М. 5.9.1794 падаць рапарт аб адстаўцы. Касцюшка просьбу М. не задаволіў і параіў яму даць бітву, 29.9.1794 прыбыў у Гародню, дзе ўручыў М. залаты пярсцёнак з надпісам «Айчына свайму абаронцы». Пасля паражэння пад Мацяёвіцамі М. не планаваў наступальных дзеянняў і адвёў войска ВКЛ пад Варшаву. У кастр. 1794 падаў у адстаўку. Пасля паражэння паўстання жыў у Італіі, пасля вярнуўся ў Варшаву.

*Літ.*: Listy Kościuszki do jenerała Mokronowskiego i innych osób pisane / Zebrał Ł. Siemieński. Lwów, 1877.

**Максімаў** Ігнацій, майстар-кафляр 17 ст. Жыў і працаваў у г. Копысь. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654 ці 1655 узяты патрыярхам Ніканам у Валдайскі Іверскі манастыр, дзе наладзіў упершыню ў Расіі выраб паліхромнай кафлі. З 1658 працаваў з *Палубесам*. З 1666 майстар Маскоўскай Аружэйнай палаты. Удзельнічаў у аздабленні Васкрасенскага сабора Новаіерусалімскага манастыра на Істры (у 1660—66), Пакроўскага сабора ў Ізмайлаве (да 1674), царквы Грыгорыя Неакесарыйскага (да 1672) у Маскве і інш.

**Максімілян** Габсбург (Maximilianus Habsburg; 12.10.1558, Венер Нойштад, Аўстрыя—2.11.1618), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна з 1590, намінальны кароль польскі і вялікі князь літ. Сын імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна II. З дзяцінства быў прызначаны для духоўнага звання. У 1585 прызначаны кад'ютарам вял. магістра Тэўтонскага ордэна Генрыха фон Бобенгаўзена і адразу распачаў спрэчку за ўжыванне тытула і прэрагатывы ў ордэне. Барацьба з Бобенгаўзенам скончылася заключэннем у 1590 угоды, па якой М. атрымаў фактычную ўладу ў ордэне. Пасля смерці караля польскага і вял. князя літ. Стафана Баторыя (1586) М. выставіў сваю кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай, заручыўся падтрымкай імператара, рымскага папы і іспанскага караля. 18.8. 1587 частка польскіх паслоў абрала каралём Жыгімонта Вазу, на што не пагадзіліся прадстаўнікі ВКЛ. 22.8.1587 літвіны і частка палякаў (групоўка Збароўскіх) абралі каралём і вял. князем М., які тэрмінова выехаў з Вены. 27.9.1587 у Оламаўцы ён прынёс прысягу і прыняў каралеўскі і вялікакняжацкі тытулы. М. меў недастаткова ўзброенай сілы, каб захапіць Кракаў, дзе трымаў абарону яго праціўнік, каронны канцлер Ян Замойскі, таму адышоў да сілезскай граніцы, а ў Кракаве каранаваўся Жыгімонт Ваза. Адчуваючы перавагу, Замойскі з арміяй рушыў на М., які быў вымушаны адступіць на тэр. Свяшчэннай Рымскай імперыі, пад Бычыну. 23—24.1.1588 войскі М. былі разбіты, а ён сам зняволены. У сак. 1589 было заключана пагадненне з імператарам, які абавязаўся не дапамагаць Маскоўскай дзяржаве супраць Рэчы Паспалітай, а М. атрымаў свабоду, адмаўляючыся ад тытула караля польскага і вял. князя літоўскага. У ліп. 1589 М. атрымаў волю, з'ехаў у Прагу, дзе, аднак, працягваў карыстацца каралеўскім тытулам (канчаткова адмовіўся ад яго ў 1598). У 1593 прызначаны імператарскім намеснікам у Шчіры, ваяваў з туркамі ў Харватыі і Венгрыі. З 1595 рэгент Цiроля, у 1602 атрымаў яго ва ўласнасць ад брата — імператара Рудольфа II. Кіраваў выпрацоўкай новага статута Тэўтонскага ордэна, які зацверджаны генеральным капітулам 1606.

*Літ.*: Wimmer J. Odparcie najazdu arcyksięcia Maksymiliana w 1587—1588 roru. Warszawa, 1955; Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy: stosunki polsko-litewskie w latach 1569—1588. Warszawa, 2002.

**Малахоўскі** Якуб (30.4.1678, Вільня—14.8.1710), мастак. У 1700 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Выконваў жывапісныя, скульптурныя, сталярныя і такарныя работы. Працаваў у Вільні





**Максімілян** Габсбург. Выява на талеры. 1615.



пры касцёле св. Ігнацін (1700—04), у Нясвіжы (1704—06), у Вільні пры касцёле св. Казіміра (1706—10). Выканаў шмат абразоў Маці Божай, святых-езуітаў.

**Малая Русь**, гістарычная назва для абазначэння ўкраінскіх і беларускіх зямель. Узнікла ў візантыйскай і лацінскай кніжнасці ў 14 ст. і адлюстроўвае традыцыю антычнай геаграфіі называць пачатковую, зыходную тэрыторыю краіны Малой, а новую, каланізаваную — Вялікай. Так, некаторыя рымскія правінцыі насілі назвы, пабудаваныя паводле гэтага прынцыпа (Малая Германія, Малая Азія, Малая і Вял. Арменія), у геаграфічных трактатах антычнасці і сярэднявечча сустракаюцца Малая Скіфія, Малая Славія, Малая Татарыя, Малая Булгарыя (на Дунаі), Малая Індыя (Эфіопія), Малая Польшча (ПдУ сучаснай Польшчы), *Малая Літва* і інш. Назва «М.Р.» узнікла пасля падзелу раней адзінай Кіеўскай мітраполіі на 2 самастойныя часткі: Галіцкую (затым Літоўскую) і Уладзімірскую (Маскоўскую). Мітраполію з кафедрай у Галічы, а затым у Кіеве (пачатковыя цэнтры хрысціянства сярод усх. славян) называлі М.Р., а мітраполію з кафедрай ва Уладзіміры-на-Клязме, а затым у Маскве — Вял. Руссю. Гэта адлюстроўваецца ў царк. грэчаскіх і лацінскіх актах той эпохі: М.Р. фігуруе ў 1335 у лацінскім тытуле галіцкага князя Юрыя II, у грэчаскіх актах 1347, 1354, 1361, 1370 і 1371, якія зыходзяць з канцылярыі канстанцінопальскага патрыярха. Грэчаскай саборнай граматай 1380, што санкцыянавала падзел адзінай Кіеўскай мітраполіі на 2 мітраполіі, назва «М.Р.» замацавана канчаткова за царк. правінцыяй, у якую ўваходзілі ўкр. і бел. землі. У канцы 16 — 1-й пал. 17 ст. выкарыстанне назвы «М.Р.» (ці «Малая Расія») актывізавалася ў творах (пасланнях, прадмовах, трактатах і інш.) правасл. бел. і ўкр. царкоўнікаў, якія звярталіся ў Маскву за маральнай і матэрыяльнай падтрымкай. Пад час антыфеад. вайны сярэдзіны 17 ст. назва «М.Р.» перайшла з царк. кантэксту ў палітычны, яе выкарыстоўваў Багдан Хмяльніцкі і яго канцылярыя ў зносінах з Расіяй, а пасля Пераяслаўскай рады 1654 назва замацавалася ў тытуле рас. цара для наймення Гетманшчыны. Аднак яшчэ ў сярэдзіне 17 ст. «М.Р.» працягвалі называць не толькі ўкр., але і бел. землі. Прывязка назвы «М.Р.» да тэр. Украіны пачалася з канца 17 ст., калі Левабярэжная Украіна канчаткова перайшла пад маскоўскую ўладу, а ў 18—19 ст. у Рас. імперыі «М.Р.» выкарыстоўвалася як неафіцыйная назва ўсёй Украіны, супраць чаго заўжды рашуча выступалі ўкр. нац. дзеячы.

*Літ.*: Грушевський М.С. Велика, Мала і Біла Русь // Україна. 1917. Кн. 1—2 (перавыд.: Український історичний журнал. 1991. № 2); Соловьев А.В. Великая, Малая и Белая Русь // Вопросы истории. 1947. № 7 (перавыд.: Імя тваё Белая Русь. Мінск, 1991. С. 40—66); Трубачев О.Н. Ранние славянские этнонимы — свидетели миграции славян // Вопр. языкознания. 1974. № 6; Флоря Б.Н. Исторические судьбы Руси и этническое самосознание восточных славян в XII—XV вв.: (к вопросу о зарождении восточнославянских народностей) // Славяноведение. 1993. № 2 (перавыд.: Флоря Б.Н. Этническое самосознание славян в XV столетии. М., 1995. С. 10—38); Его ж. О некоторых особенностях развития этнического самосознания восточных славян в эпоху средневековья — раннего Нового времени // Россия — Украина: история взаимоотношений. М., 1997; Храпчевский Р.П. Русь, Малая Русь и Украина: происхождение и становление этнонима // Российские и славянские исследования. Минск, 2004. Вып. 1; Borščak É. Русь, Мала Росія, Україна // Revue des études slaves. 1948. Fasc. 1—4. ***Ігар Клімаў.***

**Малдрык** Мікалай (1380-я г.—да 1439), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Са збяднелага шляхецкага роду з Радамскага павета. Мяркуецца, што кар'еру пачаў як каморнік польскай каралевы Ядвігі. У пач. 14 ст. пачаў службу ў канцылярыі вял. князя літоўскага Вітаўта. У 1412 уласнаручна склаў прывілей Вітаўта аб наданні Віленскаму капітулу воласці Убарць, пасля чаго да 1430 пастаянна выступае як пісар і сакратар канцылярыі Вітаўта. Займаў першынства сярод інш. сакратароў канцылярыі (фактычна быў канцлерам і названы так у дакуменце 1429). Выконваў дыпламатычныя місіі: праводзіў перагаворы з крыжакамі пра пагранічныя праблемы, у 1429 разам з панамі Румбальтам і Гаштольдам быў паслом да Ягайлы ў справе каранацыі Вітаўта. Часта наведваў Польшчу, дзе меў некалькі вёсак і дзе жыла яго жонка. Атрымліваў ад Вітаўта багатыя падарункі (М. пазычаў грошы нават Ягайлу), што выклікала незадавальненне вял. княгіні Ульяны Гальшанскай. Памёр, заняты гаспадарчымі клопатамі ў сваіх маёнтках у Польшчы.

**Малеўскі** Шыман (1759—12.2. 1832), прававед, эканаміст. Паходзіў з незаможнага роду з Жамойці. Скончыў Ковенскую павятовую школу як лепшы вучань. Пры дапамозе падскарбія Антонія *Тызенгаўза* ў 1781 прыняты ў настаўніцкую семінарыю пры Віленскім ун-це, атрымаў там ступень бакалаўра і на 2 гады пасланы на вучобу ў Кракаўскі ун-т. Пасля вяртання атрымаў у 1785 ступень д-ра філасофіі, выкладаў у Віленскай гімназіі. З 1787 віцэ-прафесар права і паліт. эканоміі Віленскага ун-та. У паліт. жыцці выступаў як прыхільнік караля польскага і вял. князя літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага, атрымаў ад яго залаты медаль. У час праўлення Таргавіцкай канфедэрацыі ў 1793 сакратар біскупа віленскага Юзафа Касакоўскага, праф. звычайны. У 1794 атрымаў ад караля тытул консула двара. У час паўстання 1794 член Цэнтр. дэпутацыі ВКЛ. Пасля задушэння паўстання працягваў выкладаць у Віленскім ун-це, у 1795—1810 сакратар яго рады. У 1800 атрымаў ступень д-ра цывільнага права. У 1810—16 і з 1823 дэкан факультэта маральных і паліт. навук, у 1817—22 рэктар ун-та.

**Малieўскі** Бенядзікт (5.1.1672, Пінскі пав.—16.1.1705), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. Пляменнік уніяцкага архіепіскапа смаленскага Юрыя Малieўскага. У 1688 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Праф. рыторыкі для экстэрнаў у Пултуску (1695—96), прэфект школы ў Полацку (1703—05). Аўтар школьнай драмы, панегірыкаў «Palatium principum honori, virtuti, prosapiae etc.» (Вільня, 1695), «Augustus secundus in Sarmatica adoratus corona» (1697).

*Літ.*: Okoń J. Dramat i teatr szkolny: Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.



**Маліноўскі** Антанін (24.11.1742, Гарадзенскі пав.—пач. 1816), дзеяч каталіцкай царквы, паэт, прапаведнік. Паходзіў з падляшскага шляхецкага роду герба «Побуг». Брат Караля *Маліноўскага*. У 1755 уступіў у Гародні ў ордэн дамініканцаў, манаскія зарокі прыняў у Забелах у 1758, вучыўся ў Забельскім дамініканскім калегіуме 11 гадоў, пасля выкладаў у ім тэалогію. 8 гадоў быў місіянерам, пасля год прапаведнікам у Віленскім кляштары дамініканцаў. У 1775 як прадстаўнік ордэна дамініканцаў пасланы ў Варшаву на судовы працэс супраць спадчыннікаў Міхала Тышкевіча, які фундаваў кляштар у Гошчаве. Блізкі супрацоўнік біскупа Адама *Нарушэвіча*, распаўсюджваў яго «Гісторыю польскага народа». У адказ Нарушэвіч рабіў М. партэкцыю ў караля польскага і вял. князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Быў прыёрам Гарадзенскага кляштара дамініканцаў, у 1781 атрымаў ступень д-ра тэалогіі, месца прыдворнага тэолага караля і пасаду біскупа-суфрагана жамойцкага (тытулярны біскуп цыннэнскі). Адначасова з 1791 пробашч касцёла на Новым Месце ў Варшаве. Дапамагаў брату Каралю выдаваць газету «Korespondent Warszawski i Zagraniczny». У паўстанні 1794 актыўнай ролі не адыгрываў, неахвотна аддаў на яго мэты касцельнае серабро. Зняў біскупскія сакры з прыгавораных да смерці біскупаў Юзафа Касакоўскага і Ігнація Масальскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай застаўся жыць у Варшаве, хоць страціў пасаду пробашча. Аўтар акалічнасных і жартоўных вершаў, выдаў «Казанне пры пачатым Трыбунале ВКЛ» («Kazanie przy rozpoczetym Trybunale W. X. Lit.», Вільня, 1774), «Навука пра юбілей з далучэннем розных малітваў» («Nauka o jubileuszu z przydaniem roznych modlitw», Вільня, 1776).

**Маліноўскі** Караль (19.1.1741, Падляшша—пасля 1796), дзеяч каталіцкай царквы, паэт, педагог, журналіст. Паходзіў з падляшскага шляхецкага роду герба «Побуг». Брат Антаніна *Маліноўскага*. Пачатковую адукацыю набыў у Гарадзенскім езуіцкім калегіуме. У 1755 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вучыўся ў Вільні (1755—57, 1761—66, 1769—70), Слуцку (1757—59), Гародні (1766—69). Прафесар у Навагародку (1759—60), Гародні (1761), выкладаў у Віленскім «Калегіум нобіліум» французскую мову, геаметрыю, рыторыку, паэтыку, геаграфію (1770—72). У 1762 выдаў зборнік вершаў на пашану біскупаў жамойцкага Яна Дамініка Лапацінскага і віленскага Ігнація Масальскага. У 1771 з выпадку замаху на караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, здзейсненага барскімі канфедэратамі, выдаў паэму «Верш да атрыманага паведамлення аб поўным выздараўленні найяснейшага Станіслава Аўгуста...» («Wiersz po odebranej wiadomości o zupelnym ozdrowieniu Najjasniéjszego Stanislawa Augusta...»). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) атрымаў парафію Новы Двор каля Гародні. У 1774 прызначаны біскупам Масальскім візітатарам парафіяльных школ у Адукацыйнай камісіі. Безвынікова намагаўся адчыніць уласную друкарню ў Гародні, з 1775 кіраваў Гарадзенскай друкарняй Антонія Тызенгаўза, супрацоўнічаў з газетай «*Газэта Гродзеньска*». Штогод складаў «Гарадзенскі каляндар». У 1780—87 выкладаў у Гарадзенскай школе Адукацыйнай камісіі. У 1790 атрымаў пенсію, у 1792 — ганаровы тытул каноніка жамойцкага. У 1792—96 разам з інш. асобамі выдаваў у Варшаве газету «Korespondent Warszawski i Zagraniczny» (потым называлася «Korespondent Krajowy i Zagraniczny», «Pismo Periodyczne Korespondent», «Korespondent Narodowy i Zagraniczny»), змяшчаў у ёй уласныя вершы. Вітаў у газеце прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791, варожа сустрэў прыход да ўлады Таргавіцкай канфедэрацыі, што быў судом адхілены ад працы ў газеце (аднак судовы вырак не быў выкананы), рашуча падтрымаў паўстанне 1794. Газета была зачынена прускімі ўладамі. Далейшы лёс М. не вядомы.

*Літ.*: Lossowska-Zaporowska I. Korespondent Warszawski 1792— 1796 // Materiała i Studia do Historii Prasy i Czasopiśmiennictwa Polskiego. Warszawa, 1969. Z. 14.

**Маліноўскі** Юзаф (каля 1570, г. Трокі—пасля 1630), караімскі рэлігійны дзеяч. Быў духоўным лідэрам караімскай суполкі ў Троках. Любімы вучань караімскага тэолага Абрагама з Трок, які даручыў яму дапоўніць і падрыхтаваць да друку сваю працу «Умацаванне веры», у 1605 М. склаў пакальнік і напісаў вял. прадмову з каментарам да гэтай кнігі. У 1590 М. склаў малітву «Тысяча для цябе», надрукаваную ў 1629 у Амстэрдаме. Аўтар рэлігійных гімнаў, каментараў да Бібліі і прац караімскіх тэолагаў. Прыняў удзел ва ўладкаванні спраў караімскай суполкі ў Біржах. З-за неспрыяльных абставін у канцы жыцця пакінуў Трокі і пераехаў у Луцк, дзе і памёр.

**Малінская** (дзявочае Малевіч) Мар'яна (Марыя; 1767?—пасля 1797), танцоўшчыца. Родам з Палесся. Прыгонная надворнага падскарбія ВКЛ Антонія *Тызенгаўза*. Вучылася ў яго балетных школах у Гародні і Паставах. У вер. 1778 удзельнічала як салістка ў школьным спектаклі «Вясковы балет» Г.Петынеці на сцэне Гарадзенскага тэатра. У 1785—94 у складзе балетнай трупы «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці» ў Варшаве, выступала на каралеўскіх сцэнах і ў Нац. тэатры. Была першай танцоўшчыцай, карысталася поспехам у публікі. Выконвала партыі Сіліі («Капітан Сандор на востраве Караліна»), Эляны («Шлюб самнітаў»), выступала таксама ў балетах «Гілас і Сільвія», «Кора і Алонза, або Дзяўчаты Сонца», «Мірза і Ліндор», «Лукас і Калінета». У 1795—97 салістка нямецкага тэатра ў Львове.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Малцужынскі** Вітальд Канстанцін (23.3.1832, г. Свіслач Гродзенскай вобл. — 31.1.1913), гісторык. Вучыўся ў Навагрудку, Свіслачы, скончыў Горы-Горацкі ін-т. Выкладаў у школе ў Саколцы (1857—60), у Свіслацкай гімназіі (1860—64). Пасля зачынення гімназіі пераехаў у Варшаву, дзе з 1865 працаваў у Камісіі прыходу і скарбу, у 1868—95 заг. аддзела казначэйскай палаты. Памёр у Свіслачы. На аснове архіўных матэрыялаў напісаў даследаванні па гісторыі Варшавы, скарба Рэчы Паспалітай. Аўтар мемуараў (выда-

дзены фрагменты). У рукапісе засталася вял. праца М. па гісторыі Свіслачы.

*Тв.*: Rozwój terytorialny miasta Warszawy. Warszawa, 1900; Szkice do dziejów skarbowości polskiej. Warszawa, 1916.

**Манастыршчына** (цяпер пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр Манастыршчанскага р-на Смаленскай вобл., Расійская Федэрацыя), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв., на р. Віхра. Упершыню названа мястэчкам у 1714, калі М. валодаў мсціслаўскі чашнік Ян Якуб Галынскі. Згодна з разлікам падаткаў у 1719 М. разам з воласцю выплачвала чопавае ў памеры 400 злотых. У 1729 мястэчкам валодаў мсціслаўскі войскі Казімір Галынскі. У 1783—85 у мястэчку налічваліся 32 дымы, у якіх пражывалі 182 ж., тут былі уніяцкая Петрапаўлаўская царква, сінагога, 3 крамы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Мантойфель** (Manteuffel) Густаў (18.11.1832, в. Дрыцаны Рэжыцкага пав.—24.4.1916), нямецкі і польскі гісторык, этнолаг. Магістр (1859). З нямецкага баронскага роду з Інфлянтаў. Скончыў Дэрптскі ун-т (1856). Цікавіўся матэрыяльнай і духоўнай культурай латгалаў, а таксама беларусаў Падзвіння. Збіраў латышскія песні. Выдаў на латгальскай мове Біблію (1860), малітвы, рэліг. песні, уласныя брашуры (лічыцца заснавальнікам латгальскай літ. мовы). Аўтар прац па гісторыі Інфлянтаў і іх сувязяў з Рэччу Паспалітай, інфлянцкіх шляхецкіх родаў, гарадоў, замкаў, касцёлаў. Напісаў шмат артыкулаў для «Слоўніка геаграфічнага Каралеўства Польскага», «Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі». Сябраваў з Ю.І.*Крашэўскім*.

*Тв.*: Inflanty Polskie, poprzedzone ogólnym rzutem oka na siedmiowiekową przeszłość całych Inflant. Poznań, 1879; Lucyn w Inflantach. Kraków, 1884; Piltyń i archiwóm piltyńskie. Warszawa, 1884; Krasław. Warszawa, 1901; Z dziejów Kościoła w Inflantach i Kurlandii. Warszawa, 1905; Z dziejów Dorpatu i byłego Uniwersytetu Dorpackiego. Warszawa, 1911; Nieco z dziejów dawnego księstwa inflanckiego i wybitniejszych postaci tego województwa od XVII do XIX stulecia // Z okolic Dźwiny. Wilno, 1912; O starodawnej szlachcie krzyżacko-rycarskiej na kresach inflanckich. Lwów, 1912; Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich, czyli Inflant właściwych (tak szwedzkich jako i polskich), Estonii z Ozylią, Kurlandii i Ziemi Piltyńskiej. Kraków, 2007.

*Літ.*: Л і т в і н о в і ч А.Ф. Густаў Мантойфель як даследчык гістарычнага мінулага і традыцыйнай народнай культуры беларусаў Падзвіння // Беларусь и Европа: взаимодействие культур: (история, уроки, опыт, современность). Витебск, 2000; Materialien zu einem bibliographischen Verzeichniss kleinerer und grösserer von Gustav Baron Manteuffel im Druck erschienener Arbeiten // Nach Handschriftlichen Notizen als Manuscript gedruckt und mit einem kurzen Vorwort versehen von H.Diederichs. Riga, 1906 [змешчана бібліяграфія прац М.]; B a r d a c h J. Gustawa Manteuffla związki z Jozefem Ignacym Kraszewskim // Polska w świecie. Warszawa, 1972.




Я.І.**Манувір**. Сонечны гадзіннік, выкананы для Ігнацыя Фелікса Мараўскага і яго жонкі Тэафілы Канстанцыі з Радзівілаў. 1785.

**Манувір** Ян Ігнацы (?—пасля 1787), майстар сонечных гадзіннікаў, каморнік. Карыстаўся тытулам геаметра Яго Каралеўскай Міласці, фактычна быў каморнікам Менскага ваяв., з 1784 каморнік ВКЛ. У музеях Беларусі (Мінск, Гродна), Літвы і Польшчы захаваліся 7 сонечных гадзіннікаў М., выробленых па заказу Заярскіх (1770), рэчыцкага старасты Альбрыхта Радзівіла (1776), менскага абознага Францішка Аборскага (1777), невядомай асобы (1779), надворнага падкаморыя Францішка Валадковіча (1781), ашмянскага крайчага, бабінавіцкага маршалка Тадэвуша Бучынскага (1781), Ігнацыя Мараўскага і яго жонкі Тэафілы Канстанцыі з Радзівілаў (1785). Не захаваўся гадзіннік 1787, зроблены па заказу ротмістра Бучынскага і яго жонкі Мажынскай. Гадзіннікі выраблялія М. са свінцу, латуні, волава, некаторыя экзэмпляры былі распісаны і вызалачаны. Упрыгожаны гравіроўкай, выявамі знакаў задыяку, гербаў заказчыкаў, нясуць панегірычныя і алегарычныя вершаваныя радкі, аўтарскія подпісы майстра. У 1782 М. паднёс каралю польскаму і вял. кн. літ. Станіславу Аўгусту Панятоўскаму сваю працу па вымярэнні часу па сонцу.

*Літ.*: О н и щ е н к о А.А., К л и м к а Л.А. Оригинальные солнечные часы мастера XVIII в. И.Манувира // Из истории науки и техники Белоруссии. Минск, 1988; K a ł a m a j s k a - S a e e d M. Zegary słoneczne Ignacego Manuvira // Roczniki Humanistyczne. 1999. Z. 4. Zeszyt specjalny.

**Мануцы** Мікалай (?, г. Венецыя, Італія—1809), палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. Паходзіў з простага роду, хоць тытулаваўся графам. У маладосці жыў у Мадрыдзе (пасябраваў там з Казановай, потым варагаваў з ім) і Парыжу. Прыкладна ў 1772—73 з'явіўся ў Варшаве, устанавіў блізкія сувязі з рас. паслом Оскарам Штакельбергам і каралём польскім і вял. кн. літ. Станіславам Аўгустам Панятоўскім. У 1773 ажаніўся з опсаўскай старасцінай Ядвігай Цеханавецкай з роду Струтынскіх. У 1774 атрымаў ад сойма індыгенат (прызнанне свайго шляхецтва), заснаваны на няпэўных доказах, і Опсаўскае староства ў трыманне. Далучыўся да групоўкі Ксаверыя Браніцкага і Ігнація Патоцкага, якія імкнуліся скінуць караля, і разам з імі ездзіў у 1776 у Санкт-Пецярбург. Устанавіў там кантакты з фаварытам Кацярыны II Рыгорам Пацёмкіным і стаў яго тайным інфарматарам і памочнікам у вядзенні спраў у Рэчы Паспалітай. Удзел у антыкаралеўскіх планах М. быў раскрыты, і ён стаў аб'ектам нападак Штакельберга і Антонія *Тызенгаўза*. Шляхам ашуканства зрабіў сваёй уласнасцю мястэчка Богін з вакольнымі вёскамі, што належалі да дзярж. уладанняў. Гэта выклікала моцны рух супраціву мясцовых мяшчан і сялян, для падаўлення якога ў 1791 былі выкарыстаны войскі. У 1792 М. разам сынам Станіславам далучыўся ў Браславе да *Таргавіцкай*

*канфедэрацыі* і ўдзельнічаў у заснаванні мясцовай канфедэрацыі, а пасля — Канфедэрацыі ВКЛ (стаў членам яе Генеральнасці). У 1793 прызначаны канфедэрацыяй членам Пастаяннай Рады, але не быў зацверджаны на гэтай пасадзе Гарадзенскім соймам 1793. *Паўстанне 1794* М. перачакаў за рас. граніцай. У 1795 атрымаў ад рас. імператрыцы Кацярыны II штогадовую выплату ў 1 тыс. дукатаў. Жыў у Санкт-Пецярбургу, быў прыбліжаны да імператара Паўла І, ад якога ў 1796 атрымаў ва ўласнасць Опсаўскае стараства і пацвярджэнне на маёнтак Казяны. Купіў маёнткі Даўблі, Стаўрова і Бяльмонты на Браслаўшчыне, набыў правы трымання Браслаўскага стараства. З 1799 жыў на Браслаўшчыне, займаўся гаспадаркай, пры гэтым значна павялічыў цяжар падаткаў на падданых, якія судзіліся з М. і выйгралі суд. працэс.

**Мануцы** Станіслаў (1773—23.3. 1823), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Мікалая *Мануцы*. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, дзе пераклаў гіст. працы прускага міністра Герцберга «Dysertacyje... z francuskiego na polski język przez Stanisława hrabię Manuzziego starościca opeskiego przetłumaczone» (Вільня, 1788). Разам з бацькам належаў да паліт. праціўнікаў караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1790 абраны ад Браслаўскага пав. паслом на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*. Выступаў супраць *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Разам з бацькам у 1792 далучыўся да *Таргавіцкай канфедэрацыі* (удзельнічаў у заснаванні мясцовай канфедэрацыі Браслаўскага пав., увайшоў у склад Генеральнасці Канфедэрацыі ВКЛ, а пасля — у склад Генеральнасці Канфедэрацыі Абодвух Народаў). Удзельнічаў у дзейнасці канфедэрацкіх судоў. Выступаў за рашучую барацьбу з праціўнікамі Таргавіцкай канфедэрацыі. Удзельнічаў у *Гарадзенскім сойме 1793*, дзе абраны ў склад Вайсковай камісіі ВКЛ. З пачаткам *паўстання 1794* М. выехаў у Расію. У 1796 атрымаў ад імператрыцы Кацярыны II штогадовую выплату ў 600 дукатаў. Пры Паўле І жыў Санкт-Пецярбургу, належаў да бліжэйшага атачэння імператара. Варагаваў з мітрапалітам Станіславам *Богушам-Сестранцэвічам*. Быў шчыльна звязаны з езуітам Габрыелем *Груберам*, у якога ў свой час вучыўся. Пасля смерці Паўла І М. страціў паліт. уплыў і вярнуўся на Браслаўшчыну. У 1812 прызначаны французскімі ўладамі падпрэфектам браслаўскім. Быў схоплены рас. ваенным атрадам і адпраўлены ў Маскву, аднак у 1813 амніціраваны Аляксандрам І. У 1814 абраны маршалкам шляхты Браслаўскага пав. і быў ім да смерці. Меў шматлікія маёнткі на Браслаўшчыне (Бяльмонты, Опса, Богіна і інш.), займаўся льнаводствам, пашырэннем школ і б-к для мясцовага насельніцтва.

**Манчынскі** Ян (каля 1515, в. Здзебендова Лодзінскага ваяв., Польшча—да 1584), палітычны і рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай, лінгвіст. З шляхецкага роду герба «Свінка». Пачатковую адукацыю набыў у Познані або Сілезіі. З 1537 натарыус у Познані, потым пры двары пазнанскага біскупа Себасцьяна Браніцкага, за кошт якога накіраваны на вучобу за мяжу. У 1543—44 вучыўся ў пратэстанцкім Вітэнбергскім ун-це, дзе пра яго высока адзываўся Філіп Меланхтан, потым у Страсбургу, адкуль праз Парыж і Базель (1545) прыбыў у Цюрых. Тут у 1545—46 вучыўся ў знакамітых лінгвістаў Себасцьяна Пелікана і Тэадора Бібліяндра (Бухмана), пачаў працу над лацінска-польскім слоўнікам, а таксама напісаў трактат пра польскую мову (пра яго Бібліяндр пісаў: «Выданне гэтай кнігі... пойдзе на карысць і аздобу... таксама іншых народаў, бо рэч гаворыць сама за сябе, што мову славянскую трэба даследаваць у такіх жа адносінах, памерах, як лацінскую мову або грэчаскую»). У 1547—48 М. вучыўся ў Падуі, пасля наведаў Вітэнберг (1550) і Балонню (1552). З 1552 працаваў у лацінскай канцылярыі ВКЛ, адна-


DICTIONARIVM
LATINOPOLONICVN
IN VSVM ET GRATIAM
Polonicæ Iuuentutis summa diligentia concinnatum.

Я. **Манчынскі**. Lexicon Latino-Polonicum. Каралявец. 1564. Пачатак слоўніка.



часова сакратар канцлера ВКЛ Мікалая *Радзівіла* Чорнага. У 1553 у атачэнні Радзівіла, які накіраваўся за жонкай для Жыгімонта II Аўгуста, наведаў Вену. У 1560-х г. ангажыраваны Радзівілам у справу далучэння Інфлянтаў да ВКЛ. На скліканым у 1562 у Рызе з'ездзе саслоўяў М. ад імя Радзівіла вёў з імі перагаворы, якія працягваліся і ў наступны час. За гэту дзейнасць атрымаў ад караля в. Розен у Дынабургскім пав. У вясну 1564 выехаў у Каралявец для друкавання свайго слоўніка «Lexicon Latino-Polonicum», вярнуўся ў 1565. Пасля смерці Радзівіла (1565) пасяліўся ў родным маёнтку Здзебендова. Быў абраны паслом на сойм 1566. З падарожжа ў Германію і Швейцарыю вярнуўся як перакананы прыхільнік Рэфармацыі, хоць пасля займаў шэраг касцельных пасад — каноніка калішскага (1553), серадзьскага (1554—59) і інш. Мяркуецца, што М. напісаў у 1556 вядомы ліст Радзівіла да папскага нунцыя Ліпамана, у якім абгрунтаваў пратэстанцкае веравучэнне (Ліпамана намагаўся схіліць Радзівіла да змагання з Рэфармацыяй). У 1564 ад імя Радзівіла і свайго ўласнага накіраваў да біскупа Станіслава Гозія 2 вял. лісты-трактаты, у якіх бараніў кальвінісцкае веравучэнне і яго правы на існаванне ў Рэчы Паспалітай. У канцы 1560-х г. М. перайшоў у арыянства. Да канца жыцця прымаў актыўны ўдзел у рэлігійным жыцці, удзельнічаў у сінодах (у т.л. ў 1569 у Бялжыцах), у 1570 разам з Анджэем Фрычам-Маджэўскім прадпрыняў рэлігійна-паліт. акцыю ў падтрымку пратэстантаў на Варашаўскім сойме. Падтрымліваў сувязі з еўрапейскімі дзеячамі Рэфармацыі, дзеячамі культуры Рэчы Паспалітай (у т.л. з паэтам Янам Каханоўскім), прускім герцагам Альбрэхтам.

*Літ.*: Barycz H. Jan Mączyński, językoznawca i leksykograf: Jego koneksje zagraniczne // Barycz H. Z epoki renesansu, reformacji i baroku: prądy, idee, ludzie, książki. Warszawa, 1971.

**Маралёўскі** (Morelowski) Марыян (2.3.1884, г. Вадовіцы, Польшча—24.7.1963), польскі гісторык мастацтва, педагог. Д-р габілітаваны (1931), праф. звычайны (1946). Вучыўся ў Кракаўскім (1902—05) і Венскім (1905—06) ун-тах, у Сарбоне і Калеж дэ Франс (1906—07). У гады 1-й сусв. вайны жыў у Расіі, віцэ-старшыня Т-ва апекі польскіх помнікаў у Расіі. З 1919 у Польшчы. У 1921—26 у складзе камісіі па рэвіндыкацыі польскіх культ. каштоўнасцей. У 1926—29 хавальнік Дзяржаўных мастацкіх збораў на Вавелі. З 1930 намеснік праф. мастацтва Віленскага ун-та, з 1934 праф. надзвычайны, у 1934—39 намеснік дэкана факультэта прыгожых мастацтваў. У час 2-й сусв. вайны ўдзельнічаў у тайным навучанні. У 1931—39 старшыня секцыі гісторыі мастацтва Віленскага таварыства аматараў навук. Быў экспертам Гар. музея Вільні. З 1945 выкладаў у Каталіцкім ун-це ў Любліне, дзе арганізаваў кафедру гісторыі мастацтва (узначальваў яе да 1949). Адначасова з 1947 выкладаў у Вроцлаўскім ун-це, стала з 1949, у 1953—60 кіраўнік кафедры гісторыі мастацтва. Працы па гісторыі мастацтва ў ВКЛ, Польшчы, Сілезіі, іх сувязях з мастацтвам раманскага Захаду. Асобныя даследаванні М. прысвяціў Полацкаму Сафійскаму сабору, мастацкім помнікам Вільні, Нясвіжа, Гародні, габеленам і мастацкім тканінам ВКЛ.

*Тв.*: Artyści polscy na wychodztwie w Rosji w. XVII // Warownia Moskwa. Moskwa, 1917; Katedra unicka w Polocku // Prace Komisji Historji Sztuki PAU. Kraków, 1922. T. 2, z. 2; Korona i hełm znalezione w Sandomierzu a sprawa korony Witolda i grobowców dynastycznych w Wilnie // Ateneum Wileńskie. 1930. R. 7, z. 3—4; Zbiory dereczyńskie Sapiehów // Prace Komisji Historji Sztuki PAU. Kraków, 1930; Wartość historyczna i artystyczna gobelinów katedry wileńskiej // Gobeliny wileńskie, ich pochodzenie, wartość i losy. Wilno, 1933; Geneza stylu kościoła sw. Anny i formy bramy Subocz w Wilnie // Prace i materjały sprawozdawcze sekcji historji sztuki towarzystwa przyjaciól nauk w Wilnie. Wilno, 1935. Z. 4; W sprawie artystów radziwiłłowskich XVIII w. polskiego pochodzenia i ocalalych dzieł ich ęeki // Prace i materjaly sprawozdawcze sekcji historji sztuki towarzystwa przyjaciól nauk w Wilnie. Wilno, 1938/39. T. 3; Materjały do dziejów artystycznych nowego zamku w Grodnie a malarz Mańkowski // Там жа; Zarysy sztuki wileńskiej z przewodnikiem po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1939 (2 wyd. Gdańsk, 1989).

*Літ.*: Bibliografia prac M.Morelowskiego // Biuletyn historii Sztuki. 1962. R. 24. № 3/4; Karpowicz M. Marian Morelowski (1884—1963) // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1965. T. 2 [змешчана бібліяграфія прац М. па мастацтве ВКЛ].

**Мараўскі** Андрэй (30.11.1702, Мазовія—2.12.1773), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1718 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Праф. рыторыкі ў Варшаве (1732—33), прэфект школ і б-к у Нясвіжы (1733—35), Навагародку (1736—37), Слоніме (1737—40), прыдворны місіянер троцкага ваяводы (1740—41), місіянер у Лідзе (1742—46), Касцяневічах (1746—49), Варончы (1750—60), Любчы (1766—67). Аўтар жалобнага казання на смерць караля польскага і вял. кн. літ. Аўгуста II «Шчыры смутак» («Justus dolor», Варшава, 1733).

**Мараўскі** Дамінік (каля 1760—4.6.1801), акцёр, тэатральны дзеяч. Паходзіў з шляхецкага роду герба «Наленч». Мяркуецца, што нарадзіўся ў Вял. Польшчы. У пошуках фартуны прыбыў у Вільню, паступіў у адчынены ў 1785 Войцехам *Багуслаўскім* публічны тэатр. Выконваў абавязкі суфлёра, граў невял. ролі. Ажаніўшыся з актрысай Марцыянай Корвель, разам з ёй сабраў уласную трупу, гастраляваў з ёй у Менску (1787—88), Любліне (1791), Гародні (1791), Вільні (1791—92). У 1792 трымаў тэатр у Вільні супольна з Казімірам Жулкеўскім і Генрыкам Кваснеўскім, у 1793 арганізаваў тэатр у Гародні. З 1794 у Львове, супрацоўнічаў з Багуслаўскім, які перавёз туды частку Нац. тэатра з Варшавы, у 1795 вярнуўся ў Гародню, з 1796 у Вільні. Арандаваў пад тэатр занядбалы флігель Радзівілаўскага палаца на вул. Віленскай, які быў адрэстаўраваны з дапамогай архітэктара Пятра Росі. У тэатр (атрымаў назву Вялікі) была прывезена заслона з Дзярэчынскага тэатра Сапегаў. У тэатры М. ігралі Саламея *Дэшнер*, Мацей *Кажынскі*, Юзаф *Рагоўскі*, Андрэй Руткоўскі. У сезон М. даваў каля 100 прадстаўленняў. Віленскі Вял. тэатр дасягнуў высокага ўзроўню, супастаўляльнага з узроўнем Нац. тэатра ў Варшаве.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992; Miller A. Teatr polski i muzyka na Litwie jako straznice kultury Zachodu. Wilno, 1936.



**Мараўскі** Ігнацы Фелікс (1744—7.3.1790), ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Дамброва», брат М.*Мараўскага*. У маладосці служыў у радзівілаўскім войску. У час бескаралеўя 1763—64 змагаўся на баку Караля Станіслава *Радзівіла* Пане Каханку і ажаніўся з яго сястрой Тэафілай Канстанцыяй. Радзівіл пагадзіўся з мезальянсам і садзейнічаў паліт. кар'еры швагра. М. далучыўся да *Радамскай канфедэрацыі*. Пасол на сойм 1767— 68, генерал-маёр (1768). Інфармаваў Радзівіла, які быў у эміграцыі, пра падзеі часоў *Барскай канфедэрацыі* ў ВКЛ, схіляў яго да вяртання. З 1776 М. на сапраўднай службе ў войску ВКЛ, камандаваў пешым рэгіментам вял. булавы ВКЛ. Пасол на сойм 1780, дэпутат Трыбунала ВКЛ 1783—84 (яго маршалак), генерал-лейтэнант (1783), камандзір 2-й дывізіі войска ВКЛ, пісар вялікі ВКЛ у 1783—87. У сваім маёнтку Завушша сабраў галерэю партрэтаў гіст. асоб.

**Мараўскі** Караль [1767—6(18). 10.1841], ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Дамброва», сын І.Ф.*Мараўскага*. У маладосці жыў у Вене. Служыў у 2-м пешым рэгіменце вял. булавы ВКЛ (з 1789 палкоўнік). На чале палка ўдзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* (у т.л. ў бітвах пад Мірам 11.6.1792 і Берасцем 23.7. 1792), за мужнасць узнагароджаны крыжом «Віртуці мілітары». Пасля далучэння караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага да Таргавіцкай канфедэрацыі М. выйшаў у адстаўку. У пачатку *паўстання 1794* накіраваны Т.Касцюшкам 14 крас. ў ВКЛ для арганізацыі паўстанцкіх узброеных сіл у рангу генерал-маёра, камандуючага літ. войскам. М. было даручана далучыць да паўстання армію ВКЛ, шляхецкае паспалітае рушэнне, а таксама ўзброіць народ. Аднак М. быў перахоплены рас. атрадам, высланы ў Сібір, а яго маёнтак канфіскаваны. Вызвалены ў 1797 Паўлам І, у званні генерал-маёра прыняты ў рас. армію. Атрымаў ад Паўла І чын камергера і ўвайшоў у бліжэйшае атачэнне імператара. Пасля жыў у сваім маёнтку Завушша каля Нясвіжа. У 1812 служыў у арміі Напалеона ў званні генерала брыгады. Уваходзіў у склад некалькіх масонскіх ложаў.

**Мараўскі** Мікалай (каля 1743—10.7.1811), дзяржаўны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Дамброва», брат І.Ф.*Мараўскага*. З маладосці служыў Каралю Станіславу *Радзівілу* Пане Каханку, у 1767 яго сакратар, у 1769 генерал-ад'ютант. Відаць, удзельнічаў у *Барскай канфедэрацыі*, з 1771 у эміграцыі. У 1772—76 апекаваў у Мангейме Геранімa Радзівіла, брата Пане Каханку, якому сістэматычна дасылаў рапарты аб паліт. становішчы і эмігрантах з Рэчы Паспалітай. З 1777 упаўнаважаны Пане Каханку ў маёнткавых справах у Жоўкве. У 1781—82 жыў у Вене, пасля ў Варшаве як прадстаўнік Пане Каханку пры каралі польскім і вял. кн. літ. Станіславе Аўгусце Панятоўскім. З 1783 ротмістр нац. кавалерыі. Пры падтрымцы караля ў 1786 абраны паслом на соймы 1786 і 1788. Захавалася вял. колькасць рапартаў М., якія ён дасылаў Пане Каханку і дзе падрабязна апісваў паліт. сітуацыю пры каралеўскім двары, у сталіцы і на соймах. У 1791 прыняты ў «Таварыства сяброў канстытуцыі». У 1793 увайшоў у склад Камісіі паліцыі ВКЛ. Далучыўся да *паўстання 1794*, член *Найвышэйшай літоўскай рады*. З 1797 карыстаўся тытулам генерал-маёра, які атрымаў, магчыма, у час паўстання.

**Мардэхай бен Нісан** (?—пасля 1709), караімскі рэлігійны дзеяч, гісторык. Паходзіў з г. Трокі. З 1688 жыў у г. Кукізаў (Красны Востраў) на Львоўшчыне, дзе быў духоўным галавой мясцовай караімскай грамады. У 1698 луцкі вучоны караім Давід бен Шалом азнаёміў Мардэхая з лістом ад лейдэнскага праф. Якуба Трыгланда з пытаннямі наконт гісторыі і рэлігіі караімаў. У адказ Мардэхай напісаў трактат пра караімскую рэлігію «Дод Мардэхай» («Прыяцель Мардэхая», 1699). Лац. пераклад працы выдадзены ў 1721 у Гамбургу («Notitia Karaeorum»), арыгінальны тэкст — у 1830 у Вене. Па заказу шведскага караля Карла XII напісаў кнігу пра гісторыю і веру караімаў «Левуш Малхут» («Каралеўская шата», выдадзена ў Лейпцыгу ў 1866), вял. твор «Сефер Маамар Мардэхай» («Выказванне Мардэхая»), рэліг. творы і вершы (некаторыя яго гімны ўвайшлі у малітоўнік, выдадзены ў Вільні ў 1892). Пасля 1709 выехаў у Крым, каб азнаёміцца з мясцовымі караімамі, але загінуў па дарозе.

**Маркварт** Юзаф (21.4.1739, Берасцейскае ваяв.—9.7.1797), дзеяч каталіцкай царквы, педагог. Паходзіў з шляхецкага роду. У 1754 уступіў у ордэн піяраў. Скончыў піярскі навіцыят у Новым Дольску (Любяшове), дзе ў 1756 прыняў 3-гадовыя манаскія зарокі. Пасля сканчэння настаўніцкага навучання быў праф. матэматыкі ў піярскіх калегіумах ВКЛ. У 1760 слухач метафізікі і філасофіі Віленскага піярскага калегіума. Прыкладна з 1762 ксёндз. Выдаў прысвечаную Андрэю Агінскаму кнігу «Матэматычныя пачаткі алгебры» («Propositions mathematicas ex algebra», Вільня, 1760), падручнік «Матэматычныя навукі ў частках арыфметыкі і геаметрыі для карысці школьнай моладзі, якая вучыцца ў школах ксяндзоў піяраў» («Nauki matematyczne w częściach arytmetyki i geometrii dla pożytku szkolnej młodzi, uczącej się w szkołach Księży Sholarum Piarum zebraną», т. 1—2, Вільня, 1772), выпрацаваў уласную матэматычную тэрміналогію на польскай мове. Памёр у Дубровіцы.

**Маркевіч** (М а з у й с к і - М а р к е в і ч) Юзаф (?—3.2.1791), каморнік, картограф. З шляхецкай сям'і. Быў каморнікам Віленскага ваяв., лічыўся адным з лепшых спецыялістаў у сваёй галіне. Падскарбі надворны ВКЛ Антоній *Тызенгаўз*, калі ў 1765 прыняў у загадванне каралеўскія эканоміі ў ВКЛ, далучыў М. да працы ў Гарадзенскай эканоміі. У Гародні была заснавана школа мернікаў, на чале якой быў пастаўлены М. Ён працаваў таксама над праектамі і складаннем планаў будынкаў у эканоміі, фальваркаў, мануфактур, вёсак, мястэчак, паштовых гасцінцаў, каналаў. Займаўся перамерваннем зямлі ў эканоміі, упарадкаваннем вёсак, вызначэннем межаў эканоміі, меліярацыяй. З картаграфічных прац М. захаваліся карты ўладанняў Віграўскага кляштара камедулаў (1768, зроблена па загаду соймавай камісіі),



Ю.**Маркевіч**. Частка карты Гарадзенскай эканоміі з выявай землямерных работ. 1781.

гарадзенскага прадмесця Гарадніцы (1769), Гародні (1780), Гарадзенскай і Аліцкай эканомій (абедзве 1781). Удзельнічаў у працы Гарадзенскага сойміка. Хутка пасля адстаўкі Тызенгаўза (1780) М. пакінуў працу ў Гарадзенскай эканоміі (1782). У 1782—87 працаваў у гетмана Міхала Казіміра *Агінскага* ў Слонімскім старастве, дзе ўдзельнічаў у памеры зямлі, будаўніцтве мануфактур, Агінскага канала.

*Літ.*: Moroz M. Józef Markiewicz — komornik województwa wileńskiego (2 połowa XVIII wieku) // Europa Orientalis: Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza do współczesności. Toruń, 1996; Я е ж. Działalnosc Józefa Markiewicza w Ekonomii Grodzieńskiej za rządów Antoniego Tyzenhauza // Białostocczyzna. 1998. № 1.

**Марковіч** Якуб (Маркунас Якубас; каля 1550—пасля 1607), друкар. Паходжанне невядома. Літовец, кальвініст паводле веравызнання. У дакуменце Віленскага гродскага суда 1597 названы інтралігатарам (пераплётчыкам), відаць, гэта была яго першапачатковая і афіцыйная спецыяльнасць. Кнігавыдавецкую дзейнасць пачаў у Вільні ў 1592, калі стаў уладальнікам друкарні Віленскага кальвінскага збора. Выдаў каля 20 кніг, сярод якіх афіцыйныя выданні кальвінскага збора (катэхізіс, канцыянал, «Агенда»), рэлігійна-палемічныя творы (А.Жжонстоўскага «Псіхатопія, або Чысцец ксяндза Станіслава Градзіцка», 1592; Паўла Гілеўскага «Адказ на ядавітыя паклёпы Марціна Чаховіца», 1605), акалічнасныя творы. Друкаваў кнігі на польскай, лацінскай, літ., нямецкай мовах. На літ. мове М. выдаў «Пасцілу» Мікалая Рэя (1600; тытульны ліст аформлены рамкай з маскоўскага «Апостала» 1564). 2 выданні М. пазначаны як выдадзеныя ва Упіце (кніга Сымона Тэафіла Турноўскага «Люстра хрысціянскага богаслужэння ў Польшчы і ў Літве», каля 1603—04) і Жэймах (кніга Гілеўскага «Катэхізіс хрысціянскай царквы», 1605). На думку некаторых вучоных, М. сапраўды выдаў гэтыя кнігі ва Упіце і Жэймах на перасоўным варштаце, іншыя мяркуюць, што яны выйшлі ў Вільні, а ўказанні на Упіту і Жэймы М. даў па заказу сваіх мецэнатаў. Выданні М. адметныя старанным афармленнем, якасным друкам, дрэварытамі. Атрымліваў для распаўсюджвання кнігі ад пазнанскага кніжнага гандляра Стафана Вінклера.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959; Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 122—127.

**Маркунас** Якубас (каля 1550—пасля 1607), друкар, гл. Я.*Марковіч*.

**Мароз** Стафан (?—1706), дзяржаўны дзеяч. Бурмістр Вільні ў 1688, 1689, 1690, 1696, 1700. У 1688 быў адным з 4 паслоў ад Вільні на Гарадзенскі сойм. У 1701 віленскі войт. Карыстаўся тытулам каралеўскага сакратара.

**Мартэль** (Martel) Антуан (2.2.1899, Бом-ле-Дам, Францыя—12.10.1931), французскі славіст, даследчык старабеларускай мовы і літаратуры. Скончыў Сарбону, Нац. ін-т жывых усх. моў (1923). Вучань вядомых славістаў А.Мее і А.Мазона. Працаваў на кафедры філалогіі Лільскага ун-та. Зрабіў навуковыя падарожжы ў Польшчу (1922—23, 1925), СССР (1926—27). Гіст. сувязям польскай, бел. і укр. моў прысвечана яго манаграфія «Польская мова ў рускіх краінах: Украіна і Беларусь, 1569—1667» («La langue polonaise dans les pays ruthènes: Ukraine et Russie blanche, 1569—1667», Ліль, 1938), дзе прааналізавана мова твораў Ф.Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Ф.Еўлашоўскага, Ф.Кміты-Чарнабыльскага і інш. Значную ўвагу удзяліў характарыстыцы агульнага гіст. лёсу беларусаў і украінцаў у складзе ВКЛ. Разгледзеў мову канцылярый і судоў у Галіцыі, Валыні і на Падоллі, якія былі далучаны да Польскага каралеўства ў 1569, мову канцылярыі ВКЛ перад Люблінскай уніяй 1569 і пасля яе. Вял. ўвагу аддаў законам у абарону бел.-укр. літ. мовы, выпадкам парушэння гэтых законаў знаццю, заклікам на карысць латыні і паступоваму пранікненню польскай мовы. Падрабязна разгледзеў становішча царк.-слав. мовы ў ВКЛ у 2-й пал. 16— пач. 17 ст. Прааналізаваў культ. і гіст. фактары, якія садзейнічалі пранікненню польскай мовы на Беларусь і Украіну, адзначыў ролю ў гэтым працэсе пратэстанцкіх канфесій, каталіцкіх навучальных устаноў і манаскіх ордэнаў. Паказаў, што паланізацыя была вынікам культ.-ідэалагічнага клімату, які склаўся ў 17 ст. ва ўмовах вострай рэліг. і нац.

барацьбы. Заняпад бел.-ўкр. літ. мовы тлумачыў яе ўнутраным крызісам, узмоцненым абыякавасцю і непрыхільнасцю правасл. артадоксіі да жывой нар. мовы. Адзначыў адмоўныя вынікі паланізацыі для нац. і культ. лёсу беларусаў і ўкраінцаў.

**Мархоцкі** (Marchocki) Мікалай Сцібар (каля 1570—каля 1636), ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, мемуарыст. Удзельнічаў у падзеях Смутнага часу ў Расіі ў пач. 17 ст. З 1607 ротмістр у атрадзе кн. Рамана Ружынскага, што падтрымліваў Ілжэдзмітрыя II. На мяжы 1607—08 пасланы сваімі таварышамі з Кромаў да Лжэдзмітрыя II у Арол з патрабаваннем грошай. У 1609 М. пасланы на сойм у Варшаву з тлумачэннямі сваіх дзеянняў у Масковіі. Непрыхільна сустрэў уваход у Рас. дзяржаву войска караля польскага і вял. кн. літ. Жыгімонта III, які пачаў аблогу Смаленска. У ліст. 1609 быў паслом да Жыгімонта III ад сваіх паплечнікаў і заключыў з ім пагадненне ад імя прыхільнікаў Ілжэдзмітрыя II. Пасля смерці Ружынскага (1610) М. на службе ў Аляксандра Збароўскага, у складзе яго палка перайшоў да кароннага гетмана Станіслава Жулкеўскага. Удзельнічаў у Клушынскай бітве 1610, дзе было разбіта рас. войска пад камандаваннем кн. Дзмітрыя Шуйскага. У якасці пасла да Жыгімонта III пад Смаленск паведаміў яму пра перамогу. Удзельнічаў у захопе Смаленска і Масквы. У 1611 накіраваны войскам паслом на Варшаўскі сойм, дзе патрабаваў аплаты. На зваротным шляху ў Маскву ў студз. 1612 сустрэў пад Оршай жаўнераў, якія ўтварылі канфедэрацыю з-за нявыплаты грошай, і прымкнуў да іх. У далейшых ваенных дзеяннях у Расіі ўдзелу не прымаў. Гаспадарыў у сваім маёнтку ў Вісліцкім павеце. Прыкладна з 1633 стараста чхоўскі. У гэты час напісаў успаміны «Праў- дзівая гісторыя Маскоўскай вайны», якія ахопліваюць 1607—12. Мемуары М. вылучаюцца літ. талентам, дакладнасцю ў апісанні падзей. Упершыню апублікаваны Эвардам Рачынскім у 1841 у Познані. М. збіраў таксама лісты, прамовы і інш. матэрыялы, якія датычацца адносін Расіі і Рэчы Паспалітай ў 2-й пал. 16—пач. 17 ст. Пакінуў апісанні бітвы пад Цацорай 1620 і *Хацінскай бітвы 1621*.

*Тв.*: История Московской войны / Подготовка публ., пер., вводная статья, ком. Е.Куксиной. М., 2000.

**Марцыяновіч** Геранім (1639, ВКЛ—16.4.1688), злотнік. У 1666 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Працаваў як сакрысціян у Варшаве (1668—70), у Вільні пры касцёле св. Ігнацыя (1670—74), Нясвіжы (1674—88). У Нясвіжы пакрыў медеай бляхай касцёл Божага Цела, пазалаціў крыжы і манстранцы.

**марыён**, баявое нагалоўе, мадыфікацыя *капаліна*. Былі пашыраны ў Еўропе ў эпоху Рэнесансу (15—16 ст.). Бытавалі т.зв. чаўновыя і грушковыя М. Першыя характарызуюцца акруглым звонам з высокім грэбнем і палямі, завостранымі і задранымі ўгару спераду і ззаду. Грушковыя М. маюць сплошчаныя палі і высокі звон з выразным рабром, які завяршаецца скіраваным назад невял. шыпам. У пісьмовых крыніцах ВКЛ згадкі пра М. не выяўлены, хаця не выключана, што яны маглі быць у распараджэнні асобных феадалаў. М. 16 ст. захоўваліся, напрыклад, у Нясвіжскім замку да 1926—27. Добра захаваны чаўновы М. выпадкова знойдзены у Магілёве. Бліжэйшыя яго аналагі датуюцца 2-й пал. 16 ст.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—канцы XVI ст. Мінск, 2008. С. 67.

***Юрась Бохан.***



**Марыён** з Магілёва. 16 ст.

**Марыконі** Аляксандр (11.1.1686, Вількамірскі пав.—19.11.1751), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. З роду *Марыконі*, сын Сцыпёна, брат Дамініка *Марыконі* і Караля *Марыконі*. У 1703 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Праф. рыторыкі ў Гародні (1716—17) і Плоцку (1717—18), філасофіі і матэматыкі ў Полацку (1719—22), прэфект школы ў Гародні (1722—23), спаведнік у Рыме (1723—29), праф. палемічнай тэалогіі ў Вільні (1730—31), рэктар калегіума ў Нясвіжы (1731—32), сакратар галавы правінцыі ордэна езуітаў (1732—35), рэктар калегіума пры касцёле св. Ігнацыя ў Вільні (1735—40), рэктар калегіумаў у Варшаве (1740—43) і Полацку (1743—46), інструктар дома 3-й прабацыі ў Вільні (1747—49). Аўтар гіст. нарысаў езуіцкіх устаноў, некралогаў.

**Марыконі** Дамінік (1.9.1702, ВКЛ—25.12.1775), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. З роду *Марыконі*, сын Сцыпёна, брат Аляксандра *Марыконі* і Караля *Марыконі*. У 1719 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Праф. рыторыкі ў Крожах (1732—33), прапаведнік і прэфект б-к у Дынабургу (1733—36, 1748—51) і Ілукшце (1751—53). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) застаўся ў Ілукшце, дзе і памёр. Аўтар казання на пахаванні Крысціны Агінскай.

**Марыконі** Караль (1.9.1693, ВКЛ—2.5.1752), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. З роду *Марыконі*, сын Сцыпёна, брат Аляксандра *Марыконі* і Дамініка *Марыконі*. У 1709 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, з 1720 ксёндз. Праф. рыторыкі (1721—23) і філасофіі (1723—25) у Варшаве, прэфект школы ў Нясвіжы (1725—26), праф. філасофіі (1728—31), маральнай тэалогіі (1731—34), схаластычнай тэалогіі (1734—35) у Вільні, прэфект школы, праф. схаластычнай тэалогіі і кананічнага права ў Варшаве (1735—40), сакратар галавы правінцыі ордэна езуітаў (1740—45), рэктар калегіумаў у Пултуску (1746—49) і Варшаве (1749—52). Аўтар панегірыка «Cantus olorum» (Варшава, 1722). Захаваліся рукапісы яго лекцый па філасофіі.

**Марыні** (Morini) Фелічэ, балетмайстар і кампазітар 2-й пал. 18 ст. Родам з Венецыі. Да 1781 дзейнічаў у *Слонімскім тэатры Агінскага*, заставаўся пры двары Агінскага да крас. 1788. Стварыў шэраг балетных партытур.Аднача-



сова выкладаў у *Слонімскай балетнай школе*. Балет у Слоніме дасягнуў пад кіраўніцтвам М. высокага ўзроўню, 4 вучні мясцовай школы выступалі ў Варшаве ў балеце «Рыбакі» (14.2. 1788).

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992; Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме. [2 выд.] Мінск, 2006.

**Марыя** (паводле інш. звестак Агрыпіна; каля 1340—пасля 1392), вялікая княгіня ніжагародская, жонка вялікага князя Барыса Канстанцінавіча; гл. *Агрыпіна*.

**Марыя Казіміра** дэ ля Гранж д'Арк (28.6.1641, г. Невер—30.1. 1716), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, жонка *Яна III* Сабескага. Дачка маркграфа Генрыха, капітана швейцарскай гвардыі арлеанскага герцага, і Францішкі, ахмістрыні герцагіні *Людвікі Марыі* Ганзага дэ Невер, будучай каралевы польскай і вял. княгіні літоўскай. У 1645—46 разам з дваром Людвікі Марыі ездзіла ў Польшчу, паўторна тут з 1652 або 1653. У 1658 дзякуючы пратэкцыі караля і каралевы выйшла замуж за ваяводу кіеўскага Яна Замойскага. У пач. 1660-х г. была ўцягнута ў вял. палітыку, падтрымлівала планы караля па арганізацыі выбараў наступнага манарха пры жыцці дзеючага. Адначасова ўстанавіла шчыльныя кантакты з Янам Сабескім (у 1661 яны прысягнулі адзін аднаму ва ўзаемным каханні). Пасля смерці Замойскага (1665) М.К. хутка выйшла замуж за Сабескага, які пачаў падтрымліваць палітыку каралеўскага двара. Пэўны час М.К. выношвала планы перасялення разам з мужам у Францыю. Перамога Сабескага над татарамі пад Падгайцамі ў 1667 змяніла планы Сабескіх. У сувязі з адрачэннем Яна II Казіміра ад трона Рэчы Паспалітай (1668) М.К. праводзіла палітыку ў падтрымку прафранцузскага кандыдата на трон, якая пацярпела паражэнне — каралём быў абраны Міхал Вішнявецкі. Супраць яго М.К. амаль увесь час інтрыгавала, імкнучыся скінуць яго з трона. Перамога войск Рэчы Паспалітай на чале з Сабескім у *Хацінскай бітве 1673* і смерць Вішнявецкага адкрылі дарогу Сабескаму да трона Рэчы Паспалітай (1674). У 1676 каранавана як каралева польская і вял. княгіня літоўская. Францыя не падтрымлівала Яна III Сабескага, таму М.К. пачала праводзіць антыфранцузскую палітыку і заключыла саюз з Габсбургамі. Выступала за ўмацаванне каралеўскай улады ў Рэчы Паспалітай іператварэнне яе ў спадчынную. Каралевіча Якуба планавала ажаніць з адной з аўстрыйскіх эрцгерцагінь. Вынікам саюза з Імперыяй быў удзел войск Рэчы Паспалітай у вызваленні аўстрыйскіх зямель ад турэцкіх войск, перамога ў *Венскай бітве 1683*. Нязгода Габсбургаў на дынастычны шлюб з польскім каралевічам падштурхнула М.К. да плану ажаніць Якуба з дачкой Багуслава Радзівіла Людвікай Каралінай, што не было рэалізавана. Дзякуючы намаганням М.К., у 1691 заключаны шлюб Якуба з Ядвігай Элеанорай, герцагіняй нойбургскай, сястрой імператрыцы. У 1692 М.К. са згоды Яна III Сабескага падпісала дагавор з Францыяй, жадаючы атрымаць падтрымку дынастычных планаў адносна свайго сына Аляксандра. Дачку Тэрэзу Кунегунду М.К. выдала замуж за баварскага курфюрста Максіміляна Эмануэля. Пасля смерці мужа (1696) М.К. спрабавала выставіць як кандыдата на трон Рэчы Паспалітай свайго зяця Максіміляна Эмануэля, а пасля сына Якуба. Урэшце падтрымала абранне Аўгуста II. У 1698 выехала ў Рым, з 1714 жыла ў Францыі, намагалася забяспечыць сваім сынам трон Рэчы Паспалітай. Захавалася шмат лістоў Яна III Сабескага да М.К. («Марысенькі»), якія лічацца высокім узорам любоўнай эпісталярнай літаратуры.



**Марыя Казіміра** дэ ля Гранж д'Арк. Мастак Ежы Элеутр-Семігіноўскі.



*Літ.*: Żeleński T. Marysieńka Sobieska. 9 wyd. Lublin, 1983; Komaszyński M. Maria Kazimiera d'Arquien Sobieska królowa Polski, 1641—1716. 2 wyd. Kraków; Wrocław, 1984.

**Марыя Людвіка** Ганзага дэ Невер (8.8.1611, г. Парыж—10.5.1667), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, гл. *Людвіка Марыя*.

**Марыя Юзефа** Габсбург (8.12.1699, г. Вена—17.11.1757), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, курфюрсціна саксонская, жонка караля польскага і вялікага князя літоўскага Аўгуста III. Старэйшая дачка імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Іосіфа I Габсбурга і Амаліі Гановерскай. Пасля смерці бацькі (1711) М.Ю. разглядалася як магчымая спадкаемніца трона пасля дзядзькі, Карла VI Габсбурга. У 1703 кароль польскі і вял. кн. літ. Аўгуст II прыбыў у Вену з прапановай шлюбу паміж М.Ю. і яго сынам Фрыдрыхам Аўгустам (будучы Аўгуст III на той час меў 7 гадоў). Перашкодай шлюбу былі розныя веравызнанні М.Ю. (каталічка) і Аўгуста (лютэранін), аднак у 1712 апошні перайшоў у каталіцтва. Шлюб заключаны 20.8. 1719 у Вене. Мэтай Аўгуста II пры заключэнні шлюбу было ўмацаваць свае пазіцыі ў Рэчы Паспалітай з апорай на Імперыю ў супрацьвагу Расіі, забяспечыць спадчыннасць трона Рэчы Паспалітай. М.Ю. падтрымала кандыдатуру мужа на трон Рэчы Паспалітай пасля смерці Аўгуста II (1733). Каранавана як каралева польская і вял. княгіня літ. адначасова з мужам 20.1. 1734. Актыўна займалася палітыкай, асабіста ўдзельнічала ў соймах. Пасля смерці імператара Карла VI (1740) намагалася забяспечыць мужу карону Свяшчэннай Рымскай імперыі, дзеля гэтага выступала за стварэнне саюзу супраць Прусіі. У час Сямігадовай вайны 1756—63 засталася ў акупіраваным прусакамі Дрэздэне, дзе і памерла. Вызначалася вял. набожнасцю, багата адорвала касцёлы, апекавала езуітаў (падтрымлівала віленскіх езуітаў у 1737—41, калі яны адстойвалі перад піярамі свае манапольнае права на трыманне школ). Нарадзіла 14 дзяцей.



**Марыя Юзефа** Габсбург. Мастак Луі дэ Сільвест.

**Марыян з Язёркі** (каля 1430, в. Язёрка, Польшча—5.8.1491), дзеяч каталіцкай царквы. Паходзіў з шляхецкага роду. У 1450 паступіў у Кракаўскі ун-т, дзе атрымаў ступень бакалаўра. У 1459 уступіў у Кракаве ў ордэн бернардзінцаў. У 1467—69 першы кіраўнік Польскай правінцыі ордэна бернардзінцаў (да гэтага часу польскія землі ўваходзілі ў склад Аўстрыйска-Чэшска-Польскай правінцыі), пасля займаў гэтую ж пасаду ў 1479—82 і 1484—87. Шмат зрабіў для развіцця бернардзінскага ордэна ў Польшчы і ВКЛ. Пры ім былі заснаваны кляштары бернардзінцаў у Вільні і Коўне. Задумай М. з Я. была т.зв. Усх. місія, якая прадугледжвала негвалтоўнае далучэнне да каталіцкага касцёла праваслаўных славян, волахаў і татараў ВКЛ, нехрышчаных яшчэ літоўцаў; пры гэтым ад праваслаўных не патрабавалася паўторнага хрышчэння. У Рыме М. з Я. дамогся прывілеяў для місіі ад папаў Сікста IV (1481) і Інакенція VIII. З 1487 жыў у Вільні і займаўся справамі місіі, якая працягвалася і пасля яго смерці. Дзякуючы яго намаганням у 1490 заснаваны бернардзінскі кляштар у Полацку, дзе, як мяркуецца, быў хрышчаны і вучыўся Францыск *Скарына*. М. з Я. напісаў вершаванае тлумачэнне бернардзінскіх правілаў, інш. вершы, сабраныя ў 1529 бернардзінцам Паў- лам з Вангроўца (рукапіс загінуў у Варшаве ў 1944). Дзейнасць М. з Я. заклала падмурак росквіту ордэна бернардзінцаў у ВКЛ.

*Літ.*: Флоря Б.Н. Попытка осуществления церковной унии в Великом княжестве Литовском в последней четверти XV—начале XVI века // Славяне и их соседи. М., 1999. Вып. 7; Kantak K. Bernardyni polscy. T. 1. Lwów, 1933.

**Марэвіч** Вінцэнт Ігнат (1755, Троцкі пав.—5.3.1822), пісьменнік. Невял. час вучыўся ў віленскіх езуітаў. З 1776 падарожнічаў па краіне. Заляцаўся да пінскай старасцянкі Барбары Ельскай,

якой у будучым прысвячаў вершы (називаў яе Лаурай). Атрымаў урад троцкага ротмістра. Літ. дзейнасць пачаў камедыяй «Каханне для цноты» («Miłość dla cnoty»), пастаўленай у Вільні ў 1783 сабранай М. аматарскай трупай (выдадзена ў 1787). 1-я публікацыя М. ў друку — фрагмент верша «Усеагульны каляндар» («Kalendarz powszechny»), надрукаваны ў 1784 у варшаўскім часопісе «Magazyn Warszawski». З 1786 жыў у Варшаве, дзе выдаў зборнікі вершаў «Самотныя забаўкі» («Samotne zabawki», 1786), «Розныя вершы» («Różne wiersze», 1788), «Пастаралі» («Sielanki», 1788), «Апошні зварот да Лауры» («Ostalnia do Laury odezwa», 1788), «Урыўкавыя забаўкі» («Dorywcze zabawki», 1788), «Досвед, або Думка ў хваробе» («Doświadczenie, czyli Myśl w chorobie», 1788), «Галубок» («Gołąbek», 1788), «Варыяцыя» («Wariacja», 1788), патрыятычныя вершы «Соймавым станам» («Do stanów sejmowych», 1788), паліт. праекты «Пра дабравольныя падаткі» («O dobrowolnych podatkach», 1786), «Няздзейснены праект» («Projekt nieuskuteczniony», 1788), зборнікі мяшанага зместу, напісаныя прозай і вершам «Здарэнне, або Сны» («Zdarzenie, czyli Sny», т. 1—2, 1786—87), маралізатарскія камедыі «Каханне ўсіхураўноўвае» («Miłość wszystkich porownywa», пасля 1788), сентэнцыі («Przysłowia i maksymy», 1788), алегарычна-паліт. оперу «Палюся, дачка калесніка, або Вызваленая свабода» («Polusia córka kołodzieja, czyli Wolność oswobodzona» (выдадзена ананімна без указання на месца выдання ў 1789 і ў Львове ў 1791; рус. пераклад зрабіў В.Анастасевіч у 1794). У час працы *Чатырохгадовага сойма 1788—92* у публіцыстычных творах падтрымліваў палітыку рэформ. З 1789 жыў у Гародні, Вільні, Дзярэчыне, Кракаве. Апублікаваў у Вільні некалькі вершаў, прысвечаных розным урачыстасцям. У 1791 атрымаў ад Мацея Радзівіла невял. дом на Лукішках каля Вільні. У 1792 арганізаваў у Вільні ілюмінацыю ў гонар караля і Канстытуцыі 3 мая 1791, якую апісаў у брашуры. Ахвяраваў свае сродкі на абарончую вайну з Расіяй 1792 і на


SATYRA
ZAMIAST WDZIĘCZNOŚCI
A JASNIE OSWIECONEGO XIĘCIA JMCI
MACIEJA
RADZIWIŁŁĘ
KASZTELANA WILENSKIEGO
KAWALERA
ORDEROW POLSKICH

PRZEZ
WINCENTEGO IGNACEGO MAREWICZA
Rotmistrza Województwa Trockiego
Msca Września Roku 1792.

В.І.**Марэвіч**. Сатыра замест удзячнасці на ... Мацея Радзівіла, кашталяна віленскага. Вільня. 1792. Тытульны ліст.

паўстанне 1794, у якім удзельнічаў разам з жонкай. Пасля яго падаўлення жыў у Вільні, напісаў некалькі вершаў (у т.л. парадыйную пахвалу рас. галоўнакамандуючаму М.В.Рапніну), драмы «Шчасце ў няшчасці» («Szczęście w nieszczęściu», Вільня, 1797), Пакінутая жонка на бязлюдным востраве» («Żona opuszczona na bezludnej wyspie», 1798). У канцы 18 ст. жыў у Львове, у пач. 19 ст. — у Варшаве, знаходзіўся на цывільнай службе, твораў больш не друкаваў, бо меў рэпутацыю графамана. Living Рознабаковая творчасць М. не вылучаецца высокімі мастацкімі якасцямі, але ўяўляе цікавасць як помнік эпохі, нораваў, паліт. жыцця Рэчы Паспалітай.

**Масальскі** Рыгор Афанасьевіч (?—да 9.6.1597), дзяржаўны і гаспадарчы дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Масальскіх*. Каралеўскі дваранін, гарадзенскі падсудак земскі ў 1574—77, суддзя земскі ў 1578—89, падкаморы ў 1589—97. Выбіраўся паслом ад Гарадзенскага пав. на соймы 1576, 1590. У 1563 як падстараста кобрынскі і блудзенскі ўдзельнічаў у валочнай памеры Кобрыншчыны. Ад вял. кн. літ. і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста ў 1563 атрымаў ва ўласнасць маёнтак Урдомін у Мерацкай пушчы, у 1567 — у трыманне Абельскую воласць у Вількамірскім пав., у 1569 — Пярстунскую і Бяржніцкую воласці (пацверджана ў 1577, 1582, 1586, 1589), права лоўлі рыбы ў Пярстунскай і Пераломскай пушчах. Кіраваў Неманойскім лясніцтвам, якое ў 1576 атрымаў у дзяржаву (пацверджана ў 1579, 1589). Адыграў значную ролю ў гаспадарчым развіцці Аўгустоўска-Сувалкаўскага паазер'я, засноўваў вёскі, прадпрыемствы па вырабе лясных тавараў, будаваў млыны, праводзіў валочную памеру. У 1592 фундаваў касцёл ва Урдоміне. Валодаў таксама маёнткамі Кірсна і Рачкі ў Гарадзенскім пав., Дабучын у Берасцейскім, Сапежышкі і Дзевягола ў Ковенскім (купіў у 1584 у Андрэя Сапегі), мястэчкам Дзедзіголдышкі (у 1584—86), трымаў у заставе сапегаўскі маёнтак Вяйсеі ў Гарадзенскім павеце.

**Масальскі** Станіслаў (?—7.11. 1670), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Масальскіх*, сын Андрэя Фёдаравіча Масальскага. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1655 абараняў Гародню ў шэрагах паспалітага рушэння, удзельнічаў у мірных перагаворах з рас. ваяводам С.А.Урусавым, што скончыліся пераходам М. на рас. бок; ад імя цара М. атрымаў пасаду камандзіра павятовай харугвы Гарадзенскага пав. У пач. 1656 па загаду рас. камандавання блакіраваў з Пн Тыкоцін, заняты радзівілаўскімі і шведскімі войскамі, каб яны не ўвайшлі ў Гарадзенскі пав. Удзельнічаў у дзеяннях супраць урадавых войск Рэчы Паспалітай. Вясной 1657 у якасці пасла ад гарадзенскай шляхты ездзіў у Маскву, ад цара Аляксея Міхайлавіча атрымаў пацвярджэнне правоў гарадзенскай шляхты, а для сябе асабіста — кіраванне Гарадзенскай эканоміяй і Сярэйскую дзяржаву. Пасля ўстанавіў кантакты з гетманам



Паўлам Янам Сапегам, адкрыта перайшоў на бок Рэчы Паспалітай у 1658, атрымаўшы ад караля Яна II Казіміра ліст з дараваннем здрады. Узімку 1658—59 удзельнічаў у аблозе Гародні, якая капітулявала ў сакавіку 1659. Пасля камандаваў атрадам драгунаў у 500 чал. З 1659 падкаморы гарадзенскі. Пасол ад Гарадзенскага пав. на соймы 1661, 1662, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1661, 1667. Валодаў маёнткамі Вяйсеі і Алекшыцы ў Гарадзенскім пав., Болькаў у Берасцейскім ваяв. Заснаваў капліцу пры дамініканскім касцёле ў Сейнах, дзе быў пахаваны.

**Масальскі** Юзаф Адрыян (каля 1726—6.6.1765), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Масальскіх*, сын Міхала Юзафа *Масальскага*. Староста гарадзенскі (з 1748), бержніцкі, лаздзейскі (з 1756), прапойскі, вісліцкі; падскарбі надворны ВКЛ з 1754; падпалкоўнік пяцігорскі, генерал-маёр (1754), 1756, 1758, 1760. Пасол на соймы 1744, 1750, 1752 (яго маршалак), дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1748 (яго маршалак). Кавалер ордэна Белага Арла (1761). Належаў да групоўкі Чартарыйскіх. Лічыўся здольным палітыкам, які імкнуўся да рэфармавання дзярж. ладу Рэчы Паспалітай, але заўчасная смерць перарвала яго кар'еру.

**Масальскі** Ян Мікалай (1728—27.1 або 6.2.1763), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Масальскіх*, сын Міхала Юзафа *Масальскага*. Староста ваўкавыскі, радашковіцкі, палкоўнік артылерыі ВКЛ (1748), падчашы ВКЛ з 1756, пасол на соймы 1744, 1746, 1750. Належаў да групоўкі Чартарыйскіх, праціўнікаў караля польскага і вял. кн. літ. Аўгуста III. Быў абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ у 1761 і прэтэндаваў на пасаду маршалка. У выніку процідзеяння паліт. праціўнікаў яе не атрымаў, але яму было абяцана, што стане маршалкам наступнага Трыбунала. Абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ у 1762 і яго маршалкам, але раптоўна памёр. Кавалер ордэна Белага Арла (1762).

**Масевіч** Аляксандр Ян (?—каля 1696), дзяржаўны дзеяч. З незаможнага шляхецкага роду герба «Топач» (зменены). У маладосці на ваеннай службе ў Сапегаў. Ваяваў супраць укр. казакоў, супраць шведаў пад Варшавай (1656). У 1658 у якасці камісара гетмана Паўла Яна Сапегі ўдзельнічаў у складанні інвентара Ляхавіцкага замка. У 1659—61 падстароста Рэтаўскага цівунства, што належала Сапегу. Лідскі пісар гродскі ў 1660-х г., пісар земскі з 1671, харужы з 1680, маршалак з 1684, віленскі падваявода з 1682, мсціслаўскі ваявода з 1690; цівун шадаўскі з 1674, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1667, пасол на соймы 1668, 1677, 1683, 1685 (на 3 апошніх абіраўся ў склад Скарбовага трыбунала ВКЛ), 1688, 1689, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1691. У 1669 удзельнічаў у выбарах караля польскага і вял. кн. літ. Міхала Вішнявецкага, у 1674 — Яна III Сабескага. У пач. 1670-х г. маршалак двара Казіміра Яна Сапегі. Удзельнічаў у *Хацінскай бітве 1673*. На сойме 1683 абраны ў склад камісіі па перагаворах з Расіяй (пасяджэнні праходзілі ў Кадзіне). З пераходам у 1680-х г. Сапегаў у апазіцыю да каралеўскага двара М. стаў адным з лідэраў сапегаўскага лагера на соймах Рэчы Паспалітай. Меў маёнткі ў Лідскім павеце.

**Маскажоўскі** Ян Тэафіл (?—пасля 1662), ваенны дзеяч, мемуарыст. З шляхецкага роду герба «Пілава». Вызнаваў арыянства. Мяркуецца, што скончыў арыянскую школу ў Ракаве. Удзельнічаў у вайне з Расіяй 1632—34 як афіцэр і сакратар гетмана Крыштофа Радзівіла. М. вёў дзённік баявых дзеянняў у форме лістоў да брата Андрэя, які на гэтай аснове стварыў дыярыуш «Сумарыуш кароткі падзей у экспедыцыі маскоўскай, у 1633 студзеня 1 дня пачатай». Пасля М. аформіў поўны тэкст дыярыуша (выдаў у 1895 Аляксандр Рэмбоўскі). Дзённік М. ўтрымлівае шмат падрабязнасцей і з'яўляецца найб. каштоўнай наратыўнай крыніцай пра падзеі вайны. Прымаў актыўны ўдзел у рэліг. жыцці арыян. У час шведскай акупацыі, у 1655—57, дамагаўся ад шведскага караля Карла X Густава рэліг. свабод для пратэстантаў, але той, не жадаючы абвастрэння адносін з каталіцкай шляхтай, адмовіў М.

*Літ.:* L i p i ń s k i W. Autorstwo diariusza wojny moskiewskiej 1632—1634, zwanego «diariuszem Krzysztofa Radziwiłła» // Kwartalnik Historyczny. 1934. № 3.

**Мастоўская** Ганна Барбара Алімпія (дзявочае Р а д з і в і л, у 1-м шлюбе П ш а з д з е ц к а я; каля 1762, ВКЛ—да 1833), пісьменніца. Дачка падкаморыя ВКЛ, генерал-лейтэнанта Станіслава Радзівіла. У 1778 выйшла замуж за менскага старасту Аўгуста Дамініка Пшаздзецкага і пасялілася ў яго маёнтку Заслаўе. Пасля яго смерці выйшла замуж (каля 1787) за палітычнага дзеча-рэфарматара Тадэвуша Мастоўскага. Была блізкая да групоўкі Чартарыйскіх. Пасля прыходу да ўлады *Таргавіцкай канфедэрацыі* (1792) разам з мужам выехала ў Парыж, вярнулася ў 1793. Муж М. быў арыштаваны рас. ўладамі, і яна праз караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага дамаглася яго вызвалення. Пасля паўстання 1794 яе муж зноў арыштаваны, М. ў 1795—97 у Санкт-Пецярбургу клапацілася пра яго вызваленне. У 1799 разам з ім выехала ў Францыю, у 1802 вярнулася, жыла ў Вільні, потым у Заслаўі, дзе і памерла. Пісала кароткія аповесці гіст. і дыдактычна-маральнага характару на аснове вядомых твораў зах.-еўрапейскіх аўтараў: «Страх у замачку», «Не заўсёды так рабі, як гаворыш», «Замак Канецпольскіх», «Мацільда і Даніла», «Сапфір, або Талісман», «Статуя і саламандра» і інш. Аповесць М. «Астольда, князёўна крові Палемона», прысвечаная гіст. мінуламу Літвы, была 1-й часткай нерэалізаванага гіст. цыклу.

*Тв.:* Moje rozrywki. T. 1—3. Wilno, 1806; Zabawki w spoczynku. Wilno, 1809.

**Матушэвіч** Тадэвуш Віктарын (каля 1765, в. Расна, Берасцейскае ваяв.—30.10.1819), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, Варшаўскага княства і Каралеўства Польскага. Сын Марціна *Матушэвіча*. Скончыў Варшаўскі піярскі калегіум. Рана пачаў паліт. дзейнасць як прыхільнік групоўкі Чартарыйскіх. Пасол ад Берасцейскага ваяв. на сойм 1784, Чатырохгадовы сойм 1788—92, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1786. На Чатырохгадовым сойме выбраны ў склад Дэпутацыі замежных спраў. Працаваў над праектам Канстытуцыі 3 мая 1791. Належаў да Таварыства прыяцеляў Канстытуцыі 3 мая, абараняў яе ў друку

як адзін з рэдактараў «Газэты народовай і общэй» («Gazeta Narodowa i Obca»). У час паўстання 1794 намеснік радцы ў складзе *Найвышэйшай нацыянальнай рады*, кіраўнік Аддзела вайсковых патрэб. Прымаў энергічныя захады па абароне Варшавы. Пасля паўстання жыў у сваім маёнтку на Берасцейшчыне, затым у Польшчы. Падтрымліваў кантакты з Адамам Ежы Чартарыйскім, міністрам замежных спраў Расіі. У Санкт-Пецярбургу клапаціўся пра маёмасныя справы Дамініка Ра-




Т.В.**Матушэвіч**.

дзівіла. Адзін з арганізатараў Таварыства прыяцеляў навук у Варшаве. У 1809 прызначаны кн. Юзафам Панятоўскім у склад Цэнтр. рады, пасля Цэнтр. часовага ўрада Галіцыі, узначальваў Ваенны аддзел. З 1811 міністр скарбу Варшаўскага княства. У 1812 з дазволу Напалеона падрыхтаваў склі- канне надзвычайнага сейма і абвяшчэнне Генеральнай канфедэрацыі. У 1815 удзельнічаў у камісіі па выпрацоўцы канстытуцыі Каралеўства Польскага, працаваў у міністэрстве скарба, з 1817 сенатар-кашталян. Аўтар перакладаў з замежных моў на польскую, тэатральных рэцэнзій.

**Матушэвіч** Юзаф (11.3.1718, в. Расна, Берасцейскае ваяв. — 21.8. 1770), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Ежы Юзафа Матушэвіча, чашніка менскага, старасты стаклішскага, брат Марціна *Матушэвіча*. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Берасці, Дарагічыне, Варшаве, Плоцку, у варшаўскіх піяраў. Належаў да групоўкі Сапегаў, у 1746—53 — Чартарыйскіх, пасля прыдворнай. Намагаўся стаць дэпутатам Трыбунала ВКЛ у 1742 і 1743 у Коўне, але быў абраны толькі ў 1744. З 1744 харужы пяцігорскі, з пач. 1750-х г. — палкоўнік пяцігорскі. У 1745 абраны дэпутатам Кароннага трыбунала. Пасол на соймы 1748 і 1752. У 1764 пад ціскам групоўкі Чартарыйскіх далучыўся да Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ, скіраванай супраць Радзівілаў, пасля адышоў ад паліт. жыцця. З 1760-х г. стольнік берасцейскі. Меў маёнткі ў Берасцейскім (у т.л. з 1754 Матыкалы) і Плоцкім ваяводствах.

**Матушэвіч** Ян (?, Жамойць— 10.2. 1737), дзеяч каталіцкай царквы. Сын Крыштофа, падчашага менскага. У 1696 уступіў у ордэн канонікаў рэгулярных латэранскіх у кляштары ў Казімежы пад Кракавам, вывучаў там філасофію і тэалогію. З 1703 ксёндз, пасланы на вучобу ў езуіцкі ун-т у Оламаўцы (Чэхія), дзе набыў ступень д-ра тэалогіі. З 1706 прапаведнік у касцёле Божага Цела ў Казімежы, праф. тэалогіі ў кляштарных школах у Казімежы і Сухей. З 1709 прэпазіт кляштара ў Красніку, з 1710 генеральны прэпазіт усіх кляштараў канонікаў рэгулярных латэранскіх у Польшчы і ВКЛ. Клапаціўся пра павышэнне ўзроўню вывучэння і выкладання тэалогіі ў ордэне, пра развіццё кляштарных б-к. Працаваў над гісторыяй ордэна канонікаў рэгулярных латэранскіх у Рэчы Паспалітай. Выдаў кнігу «Упарадкаваны канонік рэгулярны ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім» («Canonicus regularis in Poloniae et in M. D. Lithuaniae... explicatus», Кракаў, 1720; 2 выд. 1726), зборнік правілаў ордэна «Канстытуцыі канонікаў рэгулярных латэранскіх» («Constitutiones Canonicorum Regularium Lateranensium», Кракаў, 1732).

**матэматыка** (грэч. mathēmatikē ад mathēma веды, навука), навука пра колькасныя адносіны і прасторавыя формы сапраўднага свету. М. як асобны прадмет уваходзіла ў праграму навучання ўстаноў розных тыпаў, створаных у 16—17 ст. асн. канфесіямі ВКЛ. Змест выкладання быў максімальна арыентаваны на практычнае прымяненне матэматычных ведаў, аб чым сведчаць вучэбныя дапаможнікі, складзеныя Освальдам *Кругерам*, Юзафам *Нарановічам-Наронскім*, Ільёй *Капіевічам*. У Віленскай езуіцкай акадэміі на працягу 17 ст. курс матэматычных дысцыплін ахопліваў арыфметыку, тэарэтычную геаметрыю з пачаткамі трыганаметрыі, практычную геаметрыю (каморніцтва, пытанні вайсковай справы), асобныя пытанні астраноміі. Раздзелы, звязаныя з вырашэннем практычных задач, імкліва пашыраліся, пачаў выкарыстоўвацца прапарцыянальны цыркуль, простыя намаграмы, вывучалася вызначэнне геаграфічных каардынат, стварэнне сонечных гадзіннікаў і г.д. Выкладчыкі акадэміі падтрымлівалі сувязь з вядучымі каталіцкімі вучонымі, якія працавалі ў галіне матэматычных навук, Якуб *Босгрэйв* (Базгравіус) — з Хрыстафорам Клавіусам, Кругер і Войцех *Тылькоўскі* — з Атанасам Кірхерам. Распаўсюджанне ідэй Галілео Галілея, звязаных з паняццямі актуальнай бясконцасці і непадзельных, не абмінула і Віленскую акадэмію, дзе яны, аднак, не былі ў цэлым прыняты.

Новы стан М. адлюстраваны ў працы Казіміра *Семяновіча* «Вялікае мастацтва артылерыі» (Амстэрдам, 1650). Ён катэгарычна адмаўляў традыцыйныя для схаластычнай навукі бар'еры паміж М., фізікай і механікай. Семяновіч вырашаў праблемы артылерыйскага рамяства з дапамогай арыфметычных і геаметрычных разлікаў, дакладнага разумення шэрагу фізічных заканамернасцей. У цяжкі перыяд сярэдзіны 17—1-й трэці 18 ст. акадэмічны курс матэматыкі павялічваўся, уводзіліся новыя звесткі з алгебры, прыклады з камбінаторыкі, дзесятковыя дробы і лагарыфмы. У 2-й трэці 18 ст. адбываўся працэс рэфармавання сістэмы навучання ў калегіумах розных каталіцкіх ордэнаў. Выкладчыкі праходзілі стажыроўку ва ун-тах Цэнтр. і Зах.



Еўропы, арганізоўваліся курсы навучання матэматычным навукам для настаўнікаў. Дзякуючы Тамашу *Жаброўскаму* ў Віленскай акадэміі з 1750-х г. у праграму былі ўведзены дыферэнцыяльнае і інтэгральнае злічэнні. Яго справу працягнулі Якуб *Накцыяновіч* і Францішак Мілiконт *Нарвойш*. У канцы 18 ст. ў Гал. школе ВКЛ (б. Віленскай акадэміі) выкладалася 3 тэматычныя курсы: элементарнай М., прыкладной М., вышэйшай М. Такім чынам студэнты праходзілі фундаментальную падрыхтоўку па дакладных навуках, знаёміліся з магчымасцямі прымянення атрыманых ведаў як у гаспадарча-эканамічным жыцці, так і ў правядзенні фізічных, астранамічных і інш. даследаванняў. Адукацыйная камісія адвяла матэматычным прадметам значнае месца і ў школьнай праграме. Дзейнасць матэматыкаў ВКЛ 2-й пал. 18 ст. была ў асн. звязана з рашэннем утылітарных задач: складаннем навучальных дапаможнікаў, ажыццяўленнем інжынерна-будаўнічых і геадэзічных прац, праектаваннем розных тэхнічных прыстасаванняў.

*Літ.*: Беспамятных Н. Математическое образование в Белоруссии. Минск, 1975; Гячяускас Э. Математика в Вильнюсском университете до 1832 г. // Литовский математический сборник. Вильнюс, 1979. Т. 19, № 2; Очерки истории науки и культуры Беларуси IX — начала XX в. Минск, 1996; Dianni J., Wachulka A. Tysiąc lat polskiej myśli matematycznej. Warszawa, 1963; Plečkaitis R. Feodalizmo laikotarpio filosofija Lietuvoje. Vilnius, 1975; Vilniaus universiteto istorija (1579—1803). Vilnius, 1976; Wkład jezuitów do nauki i kultury w Rzeczypospolitej Obojga Narodów i pod zaborami. Kraków; Warszawa, 2004.

***Павел Космач.***

**Мацарскі** (Мачарскі) Мікалай (каля 1590—1638), ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Лада». З 1607 служыў у лёгкай кавалерыі пад камандаваннем Аляксандра *Лісоўскага*. З ім у 1616 рушыў у раён Гомеля і Старадуба для падтрымкі рас. паходу каралевіча Уладзіслава Жыгімонтавіча. Пасля смерці Лісоўскага (1616) М. служыў пад камандаваннем Станіслава Чаплінскага, удзельнічаў у паходзе Яна Караля Хадкевіча на Маскву (1617—18), Каломну, Разань. Калугу. У 1619 удзельнічаў на баку Габсбургаў у баявых дзеяннях у Венгрыі, у 1620 — у Сілезіі і Маравіі, у бітве пад Белай Гарой 8.11.1620. На чале харугвы прыняў удзел у *Хацінскай бітве 1621*. У 1622 і 1623—24 зноў на службе ў Габсбургаў. У 1626—29 на чале казацкай харугвы, пасля ваяваў супраць шведскіх войскаў у Памор'і. У 1630 ваяваў супраць казакоў Тараса Бульбы на Украіне. На чале палка, потым харугвы ўдзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* (аблога Пуціўля, баі пад Смаленскам, аблога Белай). У 1636—37 служыў на Украіне, ваяваў супраць паўстаўшых казакоў на чале з Паўлюком.

**Мацей з Вільні** (?, Вільня—9.5. 1453), дзеяч каталіцкай царквы. Сын купца-немца з Інфлянтаў. Карыстаўся гербам «Жнін». Некаторыя навукоўцы атаясамліваюць яго з канонікам Марцінам з Трокаў (1397—98). М. з В. вучыўся ў гусіцкім на той час Пражскім ун-це, дзе атрымаў ступені бакалаўра філасофіі (1404) і магістра вызваленых навук (1408). Паводле меркаванняў розных даследчыкаў, вучыўся таксама ў Балонні або Сіене, дзе ў 1408 абралі рэктарам ун-та нейкага Мацея з Польшчы. Думка аб тым, што М. з В. быў д-рам тэалогіі, не абапіраецца на факты. Стаў святаром у Віленскім біскупстве. У 1417 прэпазіт віленскі. 23.10. 1417 прызначаны вял. кн. літ. Вітаўтам першым епіскапам жамойцкім, 24.10. 1417 пасвячоны ў Троках. У пач. 1422 прызначаны біскупам віленскім, што пацвердзіў рымскі папа 4.5.1422. Трымаўся па-за вял. палітыкай, але як чл. Рады ВКЛ прымаў удзел у паліт. акцыях. У пач. 1418 у Вільні засведчыў паўнамоцтвы паслоў Ягайлы на Канстанцкі сабор. 15.7.1419 выступаў сведкам перамір'я Ягайлы і Вітаўта з дацкім каралём Эрыкам. У 1422 у Навагародку вянчаў Ягайлу і Соф'ю Гальшанскую. У 1430 пасрэднік у перагаворах Вітаўта і Ягайлы па справе каранацыі Вітаўта. Выступаў сведкам саюза вял. кн. літ. Свідрыгайлы з Лівоніяй 19.11.1431, накіраванага супраць Польшчы, але пасля падтрымаў і засведчыў *Гарадзенска-Троцкую унію 1432—33*, заключаную вял. кн. літ. Жыгімонтам Кейстутавічам з каралём польскім Ягайлам. М. з В. быў лаяльным і да наступнага вял. князя — Казіміра IV Ягелончыка. Быў буйнейшым землеўладальнікам у ВКЛ. У 1435 заснаваў у Вільні кансісторыю (суд) і пасаду архідыякана. Выступаў за тое, каб святарамі прызначалі толькі тых кандыдатаў, якія ведалі літ. мову. Змагаўся з гусіцкімі ўплывамі ў ВКЛ. Выступаў за заключэнне уніі правасл. царквы з Рымам і схіляў да яе мітрапаліта *Герасіма*. У спрэчцы паміж рымскім папам Яўгенам IV і *Базельскім саборам 1431—49* заняў бок апошняга. Не прызнаў мітрапаліта *Ісідора* і не падтрымаў яго намаганні заключыць царк. унію. Аднак перамога Яўгена IV прывяла да ўмацаванняў пазіцый Ісідора ў Рыме, дзе ён распачаў працэс супраць М. з В. як праціўніка царк. уніі (быццам той падбухторваў рус. князёў не падпарадкоўвацца Ісідору, што прывяло да зняволення Ісідора ў Маскве). Дзейнасць М. з В. прывяла да ўмацавання пазіцый каталіцкай царквы ў ВКЛ, росту колькасці касцёлаў.

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 1. Petersburg, 1860; Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia az do dni obecnych, zawierające dzieje i prace biskupów i duchowieństwa djecezji wileńskiej, oraz wykaz kościołów, klasztorów, szkół i zakładów dobroczynnych i społecznych. Wilno, 1912; Błaszczyk G. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: ustrój. Poznań, 1993.

**Мацей з Карэліч**, Матэвуш, скрыпач сярэдзіны 18 ст. Нарадзіўся ў Карэлічах. Прыгонны Міхала Казіміра *Радзівіла* Рыбанькі, першая скрыпка яго прыдворнай капэлы ў 1750-я г. Адукацыю атрымаў у італьянскіх музыкантаў (паводле слоў магната, «яго навука дорага каштавала»).

**Мацкевіч** Міхал Станіслаў (1755—1824), палітычны дзеяч, паэт, драматург. Сын Яцка Мацкевіча, суддзі земскага ашмянскага. З 15 гадоў на службе ў Радзівілаў, пры двары Караля Станіслава *Радзівіла* Пане Каханку, потым Гераніма Вінцэнта *Радзівіла*. У 1778 у Белай капітан драгунаў, камандзір гвардыі Гераніма Радзівіла, адначасова кіраваў рамонтам пакояў у палацы, выконваў кур'ерскія функцыі, ставіў



тэатральныя пастаноўкі ( у т.л. ў 1785 паставіў уласную камедыю «Пан падстолі»). Напісаў вершаваную эпітафію на смерць бацькі. Пасля смерці Гераніма Радзівіла (1786) пераехаў у Нясвіж, камандзір радзівілаўскай міліцыі ў рангу падпалкоўніка, генерал-ад'ютант. Выконваў абавязкі каменданта Нясвіжа (1788). У 1789 па пастанове сойма арыштаваў слуцкага архімандрыта, епіскапа пераяслаўскага і барыспальскага *Віктара* Садкоўскага. Увайшоў у склад соймавай камісіі па разглядзе сял. «бунтаў» і наглядзе над выбарамі новай правасл. кансісторыі (1791). Стольнік мсціслаўскі з 1785, харужы віцебскі з 1789. У 1790—91



DZIEN 3. MAIA 1791.

*Stet Capitolium*
*fulgens; Triumphatiſque poſſit*
*Roma ferox dare jura Medis.*
Horat:

Swięta wolnoſci! drogi przyrodzenia darze!
Tobie dziś Narod prawe zbudował Ołtarze.
Tłoczona dotąd grubych uprzedzeniow mnoſtwem
Z nich wolna, świetnym w Kraiu roziaśniałaś Boſtwem.
A gdy Gmin powierzchowny ſpadłych ſkorup płacze,
Naród Cię czci, Swiętnoſci Twey wielbiąc Działacze.
Precz odtąd uroione poſtrachy i bole
Co Wolnością mniemały, bezład i ſwawole.
Dziś ſię Wolność prawdziwa dla Polaka rodzi,
Wolność czynić to wſzyſtko, co ſię z Prawa godzi.
A

М.С.**Мацкевіч**. Дзень Трэцяга мая 1791. Варшава. 1791.

чл. Ашмянскай цывільна-вайсковай камісіі. У час працы Чатырохгадовага сойма 1788—92 пісаў некалькі патрыятычных вершаў, вершаваны ліст «Да пана Яна Марыянскага, каваля. З аказіі падараваных ім двух вазоў для войска Рэчы Паспалітай» («Do p. Jana Mariańskiego, kowala. Z okazji darowanych przez niego dwóch wozów dla wojska Rzeczypospolitej», Варшава, 1789 або 1790), оду «Дзень Трэцяга мая 1791» («Dzień Trzeci Maja 1791», Варшава, 1791). Выдаў таксама вершаванае віншаванне Аляксандру Пацею, абознаму ВКЛ, у дзень імянін. Відаць, удзельнічаў у паўстанні 1794, пасля ў эміграцыі. З 1805 зноў на службе ў Радзівілаў у Нясвіжы, пры двары Дамініка Радзівіла загадваў лясамі Нясвіжскай, Клецкай і Аляцкай ардынацый. Меў фальварак Горбаў на Палессі і фальварак Нягрымава каля Навагародка, дзе жыў у канцы жыцця і набыў славу «жартаўлівага паэта». У 1820-х г. віцэмаршалак, потым маршалак навагародскай шляхты. Належаў да масонскіх ложаў.

**Мацкевіч** (Цат-Мацкевіч, Cat-Mackiewicz) Станіслаў (18.12.1896, Санкт-Пецярбург—18.2.1966), польскі палітычны дзеяч, публіцыст, гісторык. Вучыўся ў Кракаўскім (1914—15, 1917—18) і Варшаўскім (1916) ун-тах. У 1924 у Віленскім ун-це атрымаў ступень магістра. У 1922—39 выдаваў у Вільні газету «Слова» («Słowo»), якая выражала інтарэсы буйных землеўладальнікаў. Займаў правыя, кансерватыўныя пазіцыі. Выступаў за заключэнне саюза з Германіяй, накіраванага супраць СССР. У 1939—56 у эміграцыі ў Францыі і Англіі, у 1946—50 рэдагаваў штотыднёвік «Львоў і Вільня» («Lwów i Wilno»). Аўтар шматлікіх публіцыстычных і паліт. твораў. У галіне гісторыі ВКЛ выдаў кнігі «Станіслаў Аўгуст» («Stanisław August», Лондан, 1953; 2 выд. Варшава, 1956), «Ерасі і праўды» («Herezje i prawdy», Варшава, 1962). Па заказу мюнхенскага выдаўца Пітэра напісаў кнігу «Дом Радзівілаў» («Dom Radziwiłłów»), якая доўгі час лічылася страчанай, надрукавана ў 1990 у Варшаве. Творы М., якія карысталіся вял. папулярнасцю, адметныя лёгкасцю стылю, пастаноўкай неабгрунтаваных гіпотэз, вольнасцю ў абарачэнні з фактамі.

*Тв.*: Дом Радзівілаў // Спадчына. 1999. № 2.

*Літ.*: J a r u z e l s k i J. Mackiewicz i konserwatyści: szkice do biografii. Warszawa, 1976; Я г о ж. Stanisław Cat-Mackiewicz, 1896—1966: Wilno—Londyn—Warszawa. 2 wyd. Warszawa, 1994; G ó r s k i A. Władza polityczna w myśli Stanisława Cata-Mackiewicza. Krakow, 1999.

**Мацкевіч** Яраш Ян (13.12.1672—да 1.2.1733), дзеяч кальвінісцкай царквы ВКЛ. З шляхецкага роду герба «Побуг». У 1697 удзельнічаў у элекцыі караля польскага і вял. кн. літ. Аўгуста III. З 1698 паручнік харугвы паспалітага рушэння Менскага ваяв., удзельнічаў у баявых дзеяннях шляхты ВКЛ супраць Сапегаў. Менскі стражнік з 1700, падчашы з 1712; дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1700, 1708 і 1717. Кіраваў часткай *«Нойбургскіх маёнткаў»*, з 1713 адміністратар маёнтка Невель. У час *Паўночнай вайны 1700—21* М. заставаўся праціўнікам Сапегаў, у рангу ротмістра камандаваў харугвай паспалітага рушэння Менскага ваяв. у барацьбе супраць прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага. У 1710 абраны паслом на Варшаўскую вальную раду Сандамірскай канфедэрацыі, што мела значэнне сойма. З 1717 генеральны актар кальвінскіх збораў ВКЛ, рабіў энергічныя крокі супраць наступлення каталіцтва на пазіцыі пратэстанства. Адзін з арганізатараў генеральнага сінода 1719 у Гданьску, які аднавіў згоду паміж кальвіністамі і лютэранамі Рэчы Паспалітай, 19.6.1719 падпісаў у Кейданах акт аб злучэнні абодвух пратэстанцкіх канфесій. Удзельнічаў у генеральным з'ездзе дысідэнтаў у Гданьску. Валодаў маёнткам Душчыцы каля Радашковіч у Менскім ваяв.

**Мачарскі** Мікалай (каля 1590—1638), ваенны дзеяч, гл. М.*Мацарскі*.

**Мглін** (цяпер горад, цэнтр Мглінскага р-на Бранскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад у Мсціслаўскім княстве, Віленскім, Смаленскім ваяводствах, на р. Судынка. Археал. даследаваныя сведчаць, што гар. цэнтр пачаў тут фарміравацца ў 11 ст. Гарадзішча старараж. М. складаецца з 2 пляцовак. Малая паўд. пляцоўка акруглай формы (50 × 55 м) займае кут мыса. Культ. пласт тут дасягае магутнасці 3 м, з якіх верхнія 0,75 м адносяцца да позняга сярэдневякоўя, а ніжні стратыграфічны пласт адносіцца да старажытнасцяў юхнаўскай культуры жалезнага веку. Большая паўн. пляцоўка гарадзішча мае трапецападобную форму (50—100 × 90 м). З напольнага боку прасочваюцца рэшткі вала і рова з перамычкай у сярэдняй частцы. Культ. пласт пашкоджаны познімі могілкамі, дасягае магутнасці 2 м. У ім пад час шурфовак і збору пад'ёмнага матэрыялу сустрэты матэрыялы юхнаўскай культуры,



культуры Стараж. Русі (сланцавыя праслiцы, фрагменты шкляных бранзалетаў, нажніцы і інш.) і позняга сярэднявякоўя. Упершыню М. згадваецца сярод кіеўскіх гарадоў у «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» канца 14 ст. Уваходзіў у склад *Мсціслаўскага княства* 12—канца 15 ст. Пасля ліквідавання апошняга быў цэнтрам самастойнай валасці *Віленскага ваяводства*. У 1499 зноў увашоў у склад Мсціслаўскага княства ВКЛ. Пад час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* быў захоплены Масквой. У памежным разграніченні 1523 паведамляецца, што «Мглин город Мстиславского повету за Московским, а всим тому есть 20 и 3 лета зо всимъ, а подымей были тогды во Мглине пятсот, а дани хаживало 50 кадей мёду, а поголовщины 50 коп грошей широкое личбы». Згодна з *Дэулінскім перамір'ем 1618* М. увайшоў у склад Смаленскага ваяв. Рэчы Паспалітай. У 1626 атрымаў магдэбургскае права. У пач. *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* заняты рас. войскам, пасля чаго зноў у складзе Расіі.

***Андрэй Мяцельскі.***

**медніцтва**, тэхніка вырабу гаспадарчых і мастацкіх рэчаў з медзі. Вядома на тэр. Беларусі і Літвы з часоў бронзавага веку. У Стараж. Русі М. дасягнула ўзроўню рамяства. У ВКЛ атрымала росквіт у 16—18 ст. У многіх гарадах і мястэчках ВКЛ (Вільня, Віцебск, Гародня, Капыль, Пінск, Дзісна, Мір і інш.) працавалі майстры-меднікі і катляры, якія з прывазной ліставой медзі выраблялі разнастайны літургічны і гаспадарчы посуд: тазы, падносы, чайнікі, кварты, чашы, каўшы, блюды, кубкі і інш. Пры вырабе медных рэчаў выкарыстоўваліся разнастайныя прыёмы: выкалатка, паліроўка, паянне, чаканка, гравіраванне і інш. Вял. памераў тазы, падносы, жароўні выцягваліся з аднаго кавалка медзі. Пасудзіны больш складаных форм выраблялі з дапамогай спец. прыстасаванняў. Рамеснікі, якія займаліся вырабам меднага посуду, у крыніцах называліся катляры, кацельнікі. Рахунак кацельніка 1791 з г. Клецк адзначае наступную працу: луджэнне і папраўка каструлі, сагана, французскіх саганкоў, тартоўні, ваннačак, лыжак, падставак, блях, пякарскіх форм, кафейніка, кацялкоў для вады, пастаўка медных латак на кацёл, выраб з вял. бляхі некалькіх малых, папраўка друшляка, выраб меднай накрыўкі для кацялка. Адзін з першых віленскіх рамесных цэхаў — кавалёў, катляроў і слесараў, узнік у 1516. У Гародні ў 1570 кароль Стэфан Баторый заснаваў супольны цэх металістаў, у які ўваходзілі і катляры (вядомы тут з 1561). Пасля яны ўтварылі асобны цэх, у 1659 упамінаецца катлярскі цэхмістр Мальхер Пятровіч. З канца 17 ст. ў горадзе зноў існаваў аб'яднаны цэх металістаў. Аб'яднаны цэх металістаў Менска, у які ўвайшлі катляры (меднікі), зарэгістраваў свой статут у 1591. Магілёўскі цэх металістаў, што ўзнік у 1614, аб'яднаваў мечнікаў, кавалёў, слесараў і катляроў. У гэтым горадзе названы і майстры-меднікі, якія ў 1635 разам з канвісарамі і бляхарамі далучаны да цэха злотнікаў і сярэбранікаў, а ў 1650 выйшлі з яго, утварыўшы з канвісарамі і бляхарамі асобны цэх. У сярэдзіне 17 ст. бел. майстры (Ф.Мікулаеў, М.Сямёнаў і інш.) працавалі ў Расіі, дзе выраблялі для маскоўскіх храмаў і царскага двара царк. і гаспадарчае начынне.

**Медыяланскі** (Мадаленскі, Мядускі) Пётр (?—сярэдзіна 15 ст.), дзяржаўны дзеяч Польшчы. Належаў да найб. вядомых рыцараў караля польскага Ягайлы. У час *Грунвальдскай бітвы 1410* уваходзіў у склад каралеўскай стражы. У 1412—20 падскарбі кароны, суправаджаў Ягайлу ў час яго паездак па ВКЛ. У 1431 удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць вял. кн. літ. Свідрыгайлы пад Луцкам.

**Медэм** Генрык (21.4.1671, мяст. Люцын, Інфлянты—2.2.1739), дзеяч каталіцкай царквы, лінгвіст. Паходзіў з лютэранскай сям'і. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Пашаўшы (Жамойць), дзе прыняў каталіцтва. Уступіў у ордэн езуітаў. Вучыўся ў Вільні (1690—92), Пінску (1692—96). У 1696—99 выкладаў у Ілукшце, Дынабургу, Варшаве. У 1699—1703 вывучаў у Браневе тэалогію, у 1704—05 у Нясвіжы — права ордэна езуітаў. З 1703 ксёндз. У 1704 праф. паэзіі і рыторыкі ў Дынабургу, з 1705 латышскі прапаведнік у Ілукшце і Мітаве, у 1706—11 — у Шонбергу каля Баўска. У 1707 выйшаў з ордэна езуітаў. У 1711—21 прапаведнік, місіянер і спавядальнік у Ілукшце, суперыёр (1717); у 1721—26 — у Шонбергу, у 1727—32 латышскі прапаведнік у Мітаве, у 1732—39 місіянер у Ілукшце і Бебрэне. Склаў і ананімна выдаў граматыку латышскай мовы «Lotavica Grammatica» (Вільня, 1737). Перакладаў на латышскую мову Евангелле (рукапіс знік у 1-ю сусветную вайну).

**Меен** Ян Якуб (каля 1733—пасля 1794), ваенны дзеяч, гл. Я.Я.*Маен*.

**Меер** (Маер) Юзаф (свецкае Францішак; 8.10.1743—пасля 1812), педагог, публіцыст, удзельнік паўстання 1794. З шляхецкага роду інфлянцкага паходжання, які жыў у Троцкім ваяв . У 1759 уступіў у ордэн піяраў, вучыўся ў Жэшаве і Міжрэччы Карэцкім, выкладаў у піярскіх навучальных установах у Польшчы. У сярэдзіне 1760-х г. пакінуў ордэн. Жыў у Германіі і Францыі. З 1785 пробашч у мястэчку Доўгі ў Троцкім пав. (у 1787—88 і 1793—94 жыў у Варшаве). З 1771 публікаваў у варшаўскім друку працы па паліт. і эканам. пытаннях. Знаходзіўся пад уплывам французскіх фізіякратаў. Выдаваў часопіс «Бібліятэка фізіка-эканамічная, што навучае і забаўляе» («Biblioteka Fizyko-Ekonomiczna Nauczająca i Bawiąca», 1788, пераклад з французскай), напісаў брашуру «Думкі пра стварэнне Нацыянальнага банка» («Myśl do utworzenia Banku Narodowego», Варшава, 1788). Падтрымаў прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791. У Варшаве ў 1792—94 трымаў з дазволу Адукацыйнай камісіі пансіён для шляхецкіх дзяцей. Пераклаў для Нац. тэатра 2 п'есы Аўгуста Фрыдрыха Кацэбу. У пач. 1794 у арандаванай друкарні выдаваў часопіс «Дзеннік універсальны» («Dziennik Uniwersalny»), прысвечаны маральным, паліт., эканам. праблемам, быў адным з рэдактараў газеты «Карэспандэнт варшаўскі» («Korespondent Warszawski»). Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794, у час якога выдаваў радыкальную газету «Газета варшаўская» [(«Gazeta Warszawska»), пазней — «Газета грамадзянская» («Gaze-



ta Obywatelska»), «Газэета грамадзянская і патрыятычная варшаўская» («Gazeta Obywatelska i Patriotyczna Warszawska»)], часопіс «Дзённік паўстання народу» («Dziennik Powstania Narodu»), універсалы Тадэвуша Касцюшкі, паўстанцкія песні і вершы. Пасля задушэння паўстання ў эміграцыі ў Парыжы. Прыкладна з 1806 жыў у Варшаўскім княстве.

**Меер** Юзаф (19.3.1755, Упіцкі пав.—пасля 1794), педагог, удзельнік паўстання 1794. У 1771 уступіў у Расейнах у ордэн піяраў. Пасля сканчэння навіцыята ў Любяшове ў 1773 выйшаў з ордэна. Застаўся духоўнай асобай, атрымаў адпаведную адукацыю, стаў ксяндзом. У 1781— 82 выкладаў граматыку і геаметрыю ў піярскім калегіуме ў Лідзе. Пасля адмовіўся ад святарства. У час паўстання 1794 дзейнічаў у Вільні. Увайшоў у склад *Найвышэйшай літоўскай рады* (чл. Дэпутацыі публічнай бяспекі). Належаў да радыкальнага крыла паўстання, *віленскіх якабінцаў*. Лёс пасля паўстання невядомы.

**Межаеўскі** Юзаф Войцех (?—пасля 1799), дзяржаўны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Шаліга». З маладосці належаў да кліентаў Браніцкіх, пасля — пародненых з імі Сапегаў. Выконваў ролю бацькі для асірацелага Казіміра Нестара Сапегі. Належаў да бліжэйшага атачэння кароннага гетмана Францішка Ксаверыя Браніцкага і меў на яго моцны ўплыў. Дзякуючы падтрымцы магнатаў у першая гады панавання караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага М. зрабіў паліт. кар'еру. Суддзя кароннага маршалкоўскага суда ў 1766—74, падольскі войскі з 1769, чашнік з 1772, стражнік польны каронны з 1774. З сярэдзіны 1770-х г. у апазіцыі да караля. З 1775 чл. Вайсковай камісіі. У 1778—82 уваходзіў у Пастаянную Раду (член Ваеннага дэпартамента). Пасол на соймы 1778, 1784, Чатырохгадовы сойм 1788—92 (бараніў на ім інтарэсы Браніцкага, «шляхецкія вольнасці», выступіў супраць Канстытуцыі 3.5. 1791). Адыграў важную ролю ў стварэнні *Таргавіцкай кафедэрацыі*, але ў сувязі з разыходжаннем Браніцкага і Сапегі адышоў ад паліт. дзейнасці, застаўшыся прыхільнікам Сапегі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) жыў у Галіцыі і Вене. З 1778 трымаў маёнтак Славацкі у Берасцейскім ваяв. (уласнасць Радзівілаў), у 1782 купіў у Сапегі маёнтак Мутвічы на Палессі. Вёў вял. гаспадарку, гандляваў збожжам на Балтыцы, выступаў за развіццё чарнаморскага гандлю (на сойме 1784 унёс праект закона «Усходні гандаль»).

**Мейшагола**, М а й ш а г а л а (літ. Maišiagala, цяпер мястэчка ў Вільнюскім р-не, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Віленскім пав. на р. Муса. Упершыню ўпамінаецца ў час крыжацкага нападу на Літву 1365 (Meisegale), была імі разбурана і ў 1390. Ужо ў гэты час была адм. цэнтрам. Польскі гісторык Ян Длугаш пад 1387 паведамляе, што ў лесе каля замка і вёскі М. спальвалі астанкі літ. князёў. У 1387 у М. збудаваны Ягайлам адзін з першых у Літве драўляных касцёлаў. З 15 ст. існаваў Мейшагольскі пав. (воласць). Вядомы мейшагольскія старасты (намеснікі) Таўтыгер (Таўтгерд?, 1434), Барташ Мантоўтавіч (1477), Юрый Мацкевіч (1486), кн. Глеб Юр'евіч Пронскі (1493—94), Барташ Табаравіч (1494—1505), Ян Мікалаевіч Радзівіл (1505—07), Іван Андрэевіч Солтан (1507—08) і інш. Пасля адм.-тэр. рэфомы 1564—65 М. належала да Віленскага пав., цэнтр нягродавага староства. У 1760 у М. пабудаваны новы драўляны касцёл, у 1782 упамінаецца парафіяльная школа. Сойм 1773—75 пастанавіў перадаць Мейшагольскае і інш. старасты I.Масальскаму ўзамен Ляхавіцкага графства з замкам. У 1789 у М. 35 дымоў (каля 245 жыхароў). 23.2.1792 М. атрымала права на самакіраванне і герб з выявай св. Антонія з немаўлём Ісусам на руках. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: M i š k i n i s A. Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybės. T. 2, kn. 2. Vilnius, 2005; W o j t k o w i a k Z. Lithuania transwilniensis saec. XIV—XVI: podziały Litwy północnej w późnym średniowieczu. Poznań, 2005.

**Мельнік** (Mielnik, цяпер вёска ў Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Падляшскім ваяв., на р. Буг. Упершыню ўпамінаецца каля 1245 як горад Галіцка-Валынскага княства. Знаходзіўся ў яго паўн.-зах. частцы, на мяжы з яцвягамі. Пад 1258 у М. ўпамінаецца царква Багародзіцы, дзе маліўся перад паходам на яцвягаў кн. Васілька Раманавіч. З пач. 14 ст. М. у складзе ВКЛ. У 1378 спробу захапіць М. зрабілі тэўтонскія рыцары пад камандаваннем комтура Балгі — Тэадора Эльнера, якія вярталіся з паходу на Камянец. У 1382—83 мазавецкі кн. Януш І, карыстаючыся міжусобіцай у ВКЛ, на кароткі час захапіў М. і інш. падляшскія землі, аднак Ягайла вярнуў кантроль над М. 2.9.1391 Ягайла перадаў яму Дарагічынскую зямлю з гарадамі М., Дарагічын, Сараж і Бельск. У пач. 15 ст. вял. кн. літ. Вітаўт далучыў Дарагічынскую зямлю з М. да сваіх уладанняў. З 1413 М. ў складзе новастворанага Троцкага ваяв. У 1420 Вітаўт фундаваў у М. касцёл св. Мікалая, Божага Цела, Унебаўзяцця Панны Марыі і ўсіх святых. У 1440 Дарагічынская зямля, у т.л. М., апынулася пад уладай мазавецкага кн. Баляслава IV (відаць, яго прызнаў як сюзерэна дарагічынскі ваявода Насута), які 22.9. 1440 выдаў М. прывілей на хэлмскае права. У 1444 на падставе дагавора з вял. кн. літ. Казімірам Баляслаў IV адмовіўся ад правоў на Падляшша, у т.л. на М. У складзе Дарагічынскай зямлі М. быў цэнтрам Мельніцкага пав., які з 1513 у складзе Падляшскага ваяв. Быў велікакняжацкім горадам, з 16 ст. — цэнтрам гродавага староства. У М. паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам заключана *Мельніцкая унія 1501*, вял. кн. літ. і кароль польскі Аляксандр выдаў *Мельніцкі прывілей 1501*, а 26.10.1501 надаў М. магдэбургскае права. Карыстаўся гербам з выявай Божага ягняці. У 1506 у М. вял. кн. літ. Жыгімонт I Стары прыняў прапанову ад польскіх паслоў стаць каралём польскім. У снеж. 1506—студз. 1507 у М. адбыўся вальны сойм ВКЛ. У 1513 пабудаваны касцёл св. Роха, у 1540-х г. — новы замак. З 1551 упамінаюцца правасл. Вазнясенская і Раждждаства (Прачысценская) драўляныя цэрквы. У час заключэння Люблінскай уніі 1569 М. разам з усім Падляшскім ваяв. перайшоў у



склад Польскага каралеўства. У 1580 у горадзе 254 дамы, 1524 жыхары, у т.л. 62 рамеснікі. У 1614 згарэла царква Раджджаства, у 1648 — Васкрасенская; пасля былі адбудаваны. Паміж 1644 і 1646 з праваслаўных яны сталі уніяцкімі. У час *Паўночнай вайны* 1655—60 у 1655 М. спалены шведскімі войскамі. Пасля вайны страціў былое гандлёва-прамысловае значэнне. У 1777 пабудавана могілкавая уніяцкая капліца Маці Божай Апякунскай. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Літ.*: Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 33. Вильна, 1908; M i r o n o w i c z A. Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku. Białystok, 1991; M i c h a l u k D. Rezydencja hospodarska w Mielniku w XIV—XVI wieku // Białostocczyzna. 1991. № 3; Я е ж. Rozwój układu przestrzennego Mielnika w XIII—XVIII w. // Studia Podlaskie. Białystok, 1993. T. 4; Я е ж. Mielnik stolica ziemi mielnickiej na Podlasiu (do końca XVIII wieku). Mielnik, 1999; C e l e d a R. Mielnik: dzieje miasta i okolic. Warszawa, 2007.

**«Мемарыял Вітаўта»**, наратыўная крыніца па гісторыі ВКЛ 1341—89, у якой аповед вядзецца ад імя кн. Вітаўта Кейстутавіча. Твор быў запісаны на нямецкай мове, верагодна, у 1390 са слоў Вітаўта падчас яго другіх уцёкаў у Прусію. Рэдакцыя са зборніка А.228 Кенігсбергскага таемнага архіва пад арыгінальным загалоўкам «Dis ist Witoldes sache wedir Jagaln vnd Skargaln» надрукавана Т.Гіршам у 1863. Першая частка «Мемарыяла» ахоплівае падзеі ад смерці Гедзіміна, змовы Альгерда і Кейстута супраць вял. кн. літ. Яўнута да забойства Кейстута і Біруты, захопленых Ягайлам, і першых уцёкаў Вітаўта ў Прусію ў 1382. Тэматычна гэты фрагмент вельмі блізкі да першай часткі *«Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»* і, па сутнасці, з'яўляецца яе скарочанай рэдакцыяй. Другая частка «Мемарыяла» ўтрымлівае унікальны матэрыял за 1384— 89. Яна пачынаецца з аповеду, як Ягайла абяцаннямі выманіў Вітаўта з Прусіі і далей пачаў чыніць яму «вялікія несправядлівасці»: не вярнуў яму вотчыну Кейстута (Троцкую зямлю), якую потым перадаў Скіргайле, вымусіў перахрысціцца з каталіцтва ў «рускую веру», не даў прывілея на трыманне Валыні, катаваў баяр Вітаўта, а яго самога трымаў як нявольніка, адбіраў вотчыны ў бліжэйшых сваякоў і прыхільнікаў Вітаўта, у т.л. ў Таўцівіла Кейстутавіча і гальшанскага кн. Івана Альгімантавіча. Згадваецца, як Ягайла крывадушна абяцаў Івану Альгімантавічу ніколі не забіраць у яго вотчыну, за што той перадаў Ягайле залаты пояс. Магчыма, гэта самая ранняя згадка пра адзін з 2 сярэбраных пазалочаных паясоў, знойдзеных у пач. 1990-х г. каля в. Літва Маладзечанскага р-на і вядомых цяпер пад умоўнай назвай «паясы Вітаўта».

*Літ.*: Л і ц к е в і ч А. «Мемарыял Вітаўта» — першая хроніка Вялікага княства Літоўскага // Бел. думка. 2009. № 2; Ein Bericht Herzog Witowds von Littauen // Scriptores rerum Prussicarum. Leipzig, 1863. Bd. 2. ***Алег Ліцкевіч.***

**Менскае Евангелле**, помнік пісьмова-кніжнай культуры Беларусі эпохі сярэдневякоўя. Даследаваны і ўпершыню апублікаваны ў 1931 укр. вучоным М.Драй-Хмарам. Паводле яго сцвярджэння, даволі вял. фрагмент М.Е. (35 аркушаў пергаменту) знойдзены ў 1860-я г. ў руінах старой пабудовы, магчыма царквы, у фальварку Масюкоўшчына каля Мінска. У 1920-я належаў жыхарцы г. Камянец-Падольскі Л.Кузьмінскай. Сучаснае месцазнаходжанне рукапісу невядома. Тэкст М.Е. быў напісаны на аркушах пергаменту буйнога фармату (in folio) уставам у 2 слупкі. Сустракаліся ініцыялы (загалоўныя літары), намаляваныя ў т.зв. звярыным стылі. Паводле Драй-Хмары, рукапіс па сваіх моўных асаблівасцях уяўляў «копію з царкоўна-славянскага апракаса, у якой захаваліся паўднёваславянскія і агульныя ўсходнеславянскія рысы і ў якую перапісчыкі-беларусы... ўнеслі асаблівасці жывой беларускай мовы». На яго думку, помнік узнік на мяжы паўд.-зах. і паўн.-ўсх. дыялектаў бел. мовы, быў перапісаны ў 14 ст. «дзесьці паміж Дняпром і Бярозаю». Тэкст М.Е. апублікаваны ў дадатку да даследавання Драй-Хмары, дзе змешчаны таксама фотакопіі першай і апошняй старонак той часткі рукапісу, што захавалася. Паводле агульнага характару М.Е. блізкае да Друцкага, Лаўрышаўскага, Мсціжскага і інш. Евангелляў богаслужэбнага тыпу, што шырока бытавалі і перапісваліся на бел. землях у часы сярэдневякоўя.

*Літ.*: Д р а й - Х м а р а М. Фрагменти Меньского пергаменового апракоса XIV в. // Збірник Комісії для дослідження історії української мови. Київ, 1931. Т. 1. ***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Мехавецкі** Мікалай (?—1608), ваенны дзеяч, гл. М.*Мехавіцкі*.

**Мехавіцкі** (М е х а в е ц к і, М я х о ў с к і) Мікалай (?—7.10.1608), ваенны дзеяч. У пач. 17 ст. камандаваў ротай у надворных вайсках вял. кароннага маршалка Зыгмунта Мышкоўскага, які выкарыстоўваў М. пры перагаворах з Янушам і Крыштофам Радзівіламі. Пры невядомых абставінах М. шчыльна звязаўся з *Ілжэдзмітрыем І*. Пасля смерці самазванца захаваў сувязі з Мнішкамі, намагаўся дзейнічаць у інтарэсах былой царыцы Марыны Мнішак. Паводле розных звестак, у Шклове або Старадубе стаў галоўным ініцыятарам з'яўлення новага самазванца — *Ілжэдзмітрыя II*, арганізаваў яго паход у Расію, вербаваў яму прыхільнікаў у Расіі і Рэчы Паспалітай. Камандаваў войскамі самазванца, у некалькіх бітвах разбіў атрады цара Васіля Шуйскага. Імкнуўся трымаць самазванца ў поўнай залежнасці ад сябе. Вясной 1608 уступіў у канфлікт з кн. Раманам Ружынскім, які наладзіў кантакты з Ілжэдзмітрыем II. Пазіцыі М. аслаблі ва ўласным войску, і ён быў выгнаны з абозу. Увосень 1608 выкліканы назад, але забіты Ружынскім у «царскім» намёце.

**Мёлер** Цырыяк (?—пасля 1605), дзеяч кальвінісцкай царквы, педагог, паэт, гл. Ц.*Молер*.

**Мёрк** (Mork, Merk) Густаў (?—да 1765), віленскі людвісар. Захаваліся звесткі пра 18 званоў, выробленых М. у 1749—59. З іх 11 званоў у пач. 20 ст. знаходзіліся ў Вільні (у дамініканскім касцёле Св. Духа, езуіцкім касцёле св. Казіміра, кафедральным касцёле, кляштары місіянераў, царкве св. Мікалая), 4 у Гародні (зроблены для бернардзінскага касцёла), астатнія — у інш. населеных пунктах (Відзы, Лагойск, Задзвея). Адзін са званоў кафедральнага касцёла прызначаўся першапачаткова для езуіцкага касцёла ў Навагародку.



Самы вял. звон М., зроблены для касцёла св. Казіміра ў 1750, важыў 13 600 фунтаў, меў выяву Казіміра на кані і доўгі лацінскі верш, прысвечаны святому. Інш. званы таксама былі ўпрыгожаны выявамі святых, барочнымі арнаментамі, надпісамі.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 84—88.

**Мікалаеўскі** Станіслаў (?, г. Белая, Падляшскае ваяв.—пасля 1792), прыдворны мастак князёў Радзівілаў. У 1730-я г., верагодна, вучыўся ў г. Белая ў «акадэміі» ў вядомых мастакоў. З 1745 мастак *Свержанскай фаянсавай мануфактуры*, спецыялізаваўся на выявах гербаў. У 1745 удзельнічаў у афармленні залы Вішнявецкіх у Нясвіжскім замку. У 1752 накіраваны ў Гародню на будаўніцтва Казіміраўскага палаца, дзе, верагодна, працаваў як манументаліст-дэкаратар. Займаўся таксама планіроўкай парку, быў садоўнікам.

*Літ.*: Баженова О. Радзивилловский Несвиж: росписи костела Божьего Тела. Минск, 2007. С. 83—84.

***Вольга Бажэнава.***

**Мікалай Дзержкавіч** (1453, мяст. Салечнікі, Літва—29.9.1467), дзеяч каталіцкай царквы. З польскага шляхецкага роду герба «Вянява». Як бацька Мікалая, Дзержка (Дзерслаў, Дзержыслаў) апынуўся ў Салечніках, невядома. Узімку 1442—43 Мікалай паступіў у Кракаўскі ун-т, дзе атрымаў ступені бакалаўра (1444) і магістра вызваленых навук (1447). Дзякуючы значнай пратэкцыі (Яна Длугаша?) набыў касцельныя годнасці ў Кракаве і Вільні. У 1451 ужо быў пробашчам віленскім і кусташам кракаўскім. У 1453 памёр віленскі біскуп Мацей, прыхільнік разрыву уніі ВКЛ з Польшчай. Рымскі папа Мікалай V прызначыў новым біскупам М.Д., які, хоць і быў палякам, але нарадзіўся ў ВКЛ. Прызначэнне М.Д. садзейнічала перадольванню канфлікту паміж ВКЛ і Польшчай. У час праўлення М.Д. у ВКЛ засняваны касцёлы ў Войстаме, Мядзеле, Лынтупах, Раготнай і інш. Гісторык 17 ст. А.Каяловіч лічыў М.Д. літвінам, а некаторыя пазнейшыя гісторыкі атаясамлівалі М.Д. з Мікалаем Камеданусам — другім біскупам жамойцкім.

*Літ.*: Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. 1. Petersburg, 1860. S. 50—57; Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia az do dni obecnych, zawierające dzieje i prace biskupów i duchowieństwa djecezji wileńskiej, oraz wykaz kościołów, klasztorów, szkół i zakładów dobroczynnych i społecznych. Wilno, 1912; Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972.

**Мікітава Евангелле**, помнік пісьменнасці сярэдзіны 14 ст. Рукапіс — Евангелле апракас поўны. Пісана ўставам у 2 слупкі на 251 аркушы пергаменту. Упрыгожана 2 мініяцюрамі з выявамі евангелістаў Іаана і Мацвея (мініяцюра з Іаанам уклеена), застаўкамі, ініцыяламі тэраталагічнага стылю і пераходнага ад старавізантыйскага да тэраталагічнага. На адной з мініяцюр подпіс: «псалъ Микита рукою грשною». Над рукапісам працавала некалькі вопытных пісцоў і прынамсі 2 дэкаратары. М.Нікалаеў мяркуе, што М.Е. магло быць створана ў скрыпторыі правасл. мітрапалітаў ВКЛ. У 19 ст. рукапіс знаходзіўся ў зборы графа М.П.Румянцава, цяпер — у Рас. дзярж. б-цы ў Маскве.

*Літ.*: Сводный каталог славяно-русских рукописных книг, хранящихся в России, странах СНГ и Балтии: XIV век. Вып. 1. М., 2002. С. 256—258; Николаев Н.В. Начала книжной культуры Великого княжества Литовского: (Эпоха Гедимина и Ольгерда) // Федоровские чтения, 2005. М., 2005. С. 454—455.

**Мікулаеў** Фёдар, гравёр і ювелір 2-й пал. 17 ст. «Чаканнай і чэрневай справы жалаваны майстар». Выходзец з Беларусі. З 1663 працаваў у Сярэбранай палаце Маскоўскага Крамля. У 1669 зрабіў чаканныя абклады абразоў, посуд і інш. начынне для маскоўскіх храмаў. Сярод інш. работ: чаканныя арлы да панцыраў і посуд для царскага двара, гравіраваныя дзярж. пячаткі.

**Мікульскі** Дамінік (каля 1630, ВКЛ—12.6.1686), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1646 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. У 1657—60 вывучаў тэалогію ў Тырнаве. Праф. рыторыкі ў Кашыцах (1661), Нясвіжы (1664—66), Крожах (1666—67), прэфект школ у Оршы (1668—70) і Пінску (1671—72), праф. маральнай тэалогіі ў Крожах (1672—74), філасофіі ў Крожах (1674—77), маральнай тэалогіі і кананічнага права ў Вільні (1678—79), прэфект школы ў Полацку (1679—80, 1682—83), праф. пазітыўнай і маральнай тэалогіі ў Вільні (1680—81), праф. кананічнага права ў Вільні (1681—82). Аўтар трагедыі «Велізарый» («Belisarius», пастаўлена ў Крожах каля 1667).

*Літ.*: Okoń J. Dramat i teatr szkolny: Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław etc., 1970.

**Мікуцкі** Антоній (6.3.1748, Жамойць—2.3.1811), дзеяч каталіцкай царквы, педагог. З шляхецкага роду герба «Слепаўрон». У 1761 уступіў у ордэн піяраў, у 1764 прыняў у Любяшове (Пінскі пав.) манаства. Вывучаў філасофію і тэалогію. З 1771 ксёндз. Выкладаў у Лідскім калегіуме рыторыку, у Віленскім калегіуме рыторыку (1773—75), філасофію і матэматыку. У 1777—84 выкладаў у піярскім навіцыяце тэалогію і царк. гісторыю, быў цэнзарам, у 1784—86 кансультар Літ. правінцыі ордэна піяраў, у 1786—89 прарэктар Любяшоўскага калегіума, у 1789—96 рэктар Віленскага калегіума. Імкнучыся заняць пасаду віленскага біскупа, растраціў сродкі Віленскага і Лідскага калегіумаў і пад ціскам членаў ордэна быў вымушаны адмовіцца ад пасады рэктара. Набыў вядомасць як прапаведнік. Прытрымліваўся ідэй Асветніцтва. Аўтар школьнай драмы «Няшчасце клапатлівых» («Nieszczęśliwość troskliwych», Вільня, 1771), кнігі «Прамовы пра форму і асаблівасці праўлення краін» («Mowy o kształcie i własnościach krajowych rządów», Вільня, 1774), дзе апісаў вартасці і хібы дэмакратыі, арыстакратыі, манархіі і дэспатыі, падручніка «Кароткі збор геаграфіі натуральнай, палітычнай і гістарычнай» («Krótkie zebranie geografii naturalnej, politycznej i historycznej», Вільня, 1776).

**Мілавідаў** (Миловидов) Аляксандр Іванавіч (1864—пасля 1933), расійскі гісторык, археограф, бібліёграф. Скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію.



Працаваў нар. настаўнікам. Выкладаў у Літ. духоўнай семінарыі ў Вільні. Працаваў загадчыкам Рукапіснага аддзялення Віленскай публічнай б-кі. З 1900 чл. Віленскага аддзела Таварыства прыхільнікаў рус. гіст. асветы ў памяць імператара Аляксандра III, у 1903—15 сакратар таварыства. У 1913—15 узначальваў музей М.М.Мураўёва ў Вільні. З 1910 член Паўн.-Зах. аддзела Рус. геаграфічнага таварыства. Аўтар прац па гісторыі праваслаўя, рукапіснай і старадрукаванай кнігі ВКЛ, архіўнай справы, археаграфіі, паўстання 1863—64. Адзін з ініцыятараў выдання і складальнікаў зборніка «Архіўныя матэрыялы Мураўёўскага музея, якія датычацца польскага паўстання 1863—1864 гг. у межах Паўночна-Заходняга краю» («Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863—1864 гг. в пределах Северо-Западного края», т. 1—2, Вільня, 1913—15; рукапіс 3-га тома ў Гіст. архіве Літвы ў Вільнюсе). Стаяў на вялікадзярж. пазіцыях. З 1918 на архіўнай рабоце ў Петраградзе. Асабісты архіўны фонд А. знаходзіцца ў аддзеле рукапісаў Б-кі Вільнюскага ун-та (фонд 36).

*Тв.*: О положении православия и русской народности в Пинском удельном княжестве и городе Пинске до 1793 года. М., 1894; Церковно-археологические памятники города Пинска // Минские епархиальные ведомости. 1898. № 17; Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1900. Кн. 2; Виленский центральный архив (1852—1902) // Журн. М-ва нар. просвещения. 1902. № 4; Виленский первопечатник и первые издания виленских типографий // Литовские епархиальные ведомости. 1903. № 5—6; Виленский первопечатник Франциск Скорина // Там жа. 1903. № 3; Краткий исторический очерк Виленской публичной библиотеки // Отчет Виленской публичной библиотеки и музея за 1902 год. Вильна, 1903; Судьба русской книги в Северо-Западном крае в связи с его культурной историей // Христианское чтение. 1903. Т. 216, ч. 1; Прошлое и современное положение археографии в Северо-Западном крае // Там жа. 1904. № 9; Историческая легенда пинчуков «о начале веры католической в Пинском крае» // Живая старина. 1908. Вып. 4; Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491—1800 гг.). Вильна, 1908; Старопечатные славяно-русские издания, вышедшие из западно-русских типографий XVI—XVII вв. // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1908. Кн. 1; Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки: его история и состав. Вильна, 1910; Из истории Виленской публичной библиотеки // Отчет Виленской публичной библиотеки и музея за 1910 год. Вильна, 1911; К историографии Северо-Западного края. Вильна, 1913; Памяти Сергея Александровича Рачинского: (из воспоминаний и переписки). Петроград, 1916; Новые документы, относящиеся к биографии Франциска Скорины // Изв. Отд-ния рус. яз. и словестности Рос. Академии наук. 1918. Т. 22, кн. 2; Архіў злівідаванага Пінскага Лешчанскага манастыра // Праваслаўе. 2001. № 10.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Немировский Е. По следам Франциска Скорины. Минск, 1990; Ilgiewicz H. Wileńskie towarzystwa i instytucje naukowe w XIX wieku. Toruń, 2005.

**Мілашэўскі** Станіслаў (каля 1537—да 18.11.1589), дзяржаўны і гаспадарчы дзеяч. З шляхецкага роду герба «Касцеша» з Цеханаўскай зямлі. З 1551 вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Служыў пры двары Габрыеля Тарлы, які з 1553 быў ахмістрам каралевы польскай і вял. княгіні літ. Кацярыны Габсбург. У 1555 ад імя Тарлы, якому кароль польскі і вял. князь літ. Жыгімонт II Аўгуст даручыў нагляд над Віленскім манетным дваром, М. кіраваў працай двара, выпусціў тут свой лічыльны жэтон. Дзякуючы пратэкцыі Тарлы, у 1561 у Вільні М. прыняты на каралеўскую службу як пісар каморны. У 1563 пісар Віленскага манетнага двара. З 1565 лоўчы белзскі. У 1569 каралеўскі сакратар. У 1571 атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста ў трыманне староства Ясвойні ў Жамойці. Дэпутат Каронпага трыбунала ў 1582, пасол на сойм 1585. Дзякуючы шлюбу ў 1569 з Ганнай, адзінай дачкой гаспадарчага дзеяча ВКЛ Станіслава Хвальчэўскага, М. значна павялічыў сваі маёнткі, увайшоў у сваяцтва з Сапегамі. Ажыццяўляў значныя фінансавыя аперацыі, пазычаючы грошы ўплывовым асобам ВКЛ, вывозіў за мяжу лясныя тавары.

**Міліус** Якуб (1594—1651), дзеяч кальвініцкай царквы, пісьменнік. Паходзіў з Пфальца (Германія). Відаць, вучыўся ва ун-це Вітэнберга, атрымаў гуманістычную адукацыю. У пач. 17 ст. рэктар школы ў Краснабродзе ў Холмскай зямлі. У 1629 як міністр (прапаведнік) у складзе дэлегацыі Рус. дыстрыкта ўдзельнічаў ў сінодзе ў Вільні. У 1630 міністр у Гочве на Падоллі, канцэньёр рускі. У 2-й пал. 1630-х г. рэктар гімназіі і міністр збора ў Белжыцах у Малой Польшчы. У 1640-х г. падвяргаўся ганенням з боку люблінскіх езуітаў і быў вымушаны пераехаць у ВКЛ. Па прапанове абаронцы кальвіністаў ВКЛ Януша Радзівіла Віленскі правінцыйны сінод у 1645 выклікаў М. з Польшчы і прапанаваў яму пасаду міністра збора ў Любчы. У ВКЛ М. карыстаўся аўтарытэтам, удзельнічаў у суд. вырашэнні спрэчных пытанняў. Памёр у Любчы. Аўтар вершаў. Яго сын Пётр таксама быў кальвініcцкім міністрам.

**Мілунскі** Мацей (22.2.1646, Мазовія—16.8.1719), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. Д-р тэалогіі і кананічнага права. У 1665 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. У 1669—72 вывучаў у Вільні філасофію, у 1673—77 — тэалогію. Праф. рыторыкі ў Вільні (1677—78), філасофіі ў Полацку (1681—84), прэфект школы і бурсы ў Пінску (1684—85), праф. схаластычнай і палемічнай тэалогіі ў Варшаве (1685—89), тэалогіі і кананічнага права ў Вільні (1689—90), рэктар калегіума ў Крожах (1690—93), рэгент Папскай семінарыі і праф. маральнай тэалогіі і кананічнага права ў Вільні (1694—96), рэктар калегіума ў Пінску (1696—99), сакратар галавы правінцыі ордэна езуітаў (1702), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1702—06), інструктар дома 3-й прабацыі ў Нясвіжы (1707—09), рэктар дома 3-й прабацыі ў Нясвіжы (1709—12). Аўтар прац па тэалогіі «Тлумачэнні царкоўных кананічна-маральных законаў у чацвёртай кнізе дэкрэталій пра заручыны і шлюб» («Explanationes iuris ecclesiastici canonico-morales in librum IV Decretalium de sponsalibus et matrimoniis», Вільня, 1705), «Аскетычная размова пра крыжовы шлях святога Ігнацыя, заснавальніка Таварыства Ісуса» («Discursus ascetici de regia via S. Ignatii Fundatoris Societatis Jesu», Вільня, 1713).



**Мінвіды**, дзеячы кальвініцкай царквы. Паходзілі з Жамойці з шляхецкага роду герба «Касцеша» (зменепая).

Станіслаў (?—1618), кальвініцкі міністр у радзівілаўскім мястэчку Новае Места ў Жамойці. У 1595 як кальвініцкі міністр упіцкі ўдзельнічаў у генеральным сінодзе ў Торуні. Пасля суперінтэндэнт Завілейскага дыстрыкту кальвініцкай царквы.

Ян (каля 1582, мяст. Новае Места—1638), сын Станіслава. У 1595 паступіў у Каралявецкі ун-т. Прыкладна з 1611 міністр кальвінскага збора ў Віжунах, пры якім трымаў школу. У 1612, 1613 і 1614 пісар на правінцыяльных сінодах кальвініцкай царквы ВКЛ. Сінод 1617 даручыў Яну верыфікацыю польскага перакладу «Асноў хрысціянскай веры» Кальвіна, зробленага Янам Чыжом. У 1618 удзельнічаў у камісіі па праверцы катэхізіса Яна Зыгровіуша. Ян знаходзіўся у блізкіх адносінах з гетманам Крыштофам Радзівілам, выконваў яго гаспадарчыя і адм. даручэнні. З 1623 міністр збора ў Святых Азёрах, з 1624 суперінтэндэнт кальвінскіх збораў Падляшша. На сінодзе 1625 Ян прызначаны суперінтэндэнтам Жамойцкага дыстрыкта кальвініцкай царквы, адначасова быў міністрам у Новым Месце. З 1626 суперінтэндэнт Завілейскага дыстрыкта.

Самуэль (1602—пасля 1654), сын Яна. З 1625 катэхіст у Кейданах, з 1628 кальвініцкі міністр на двары гетмана Крыштофа Радзівіла, з 1632 міністр у Сярэях. У 1630, 1632, 1634 і 1636 пісар на правінцыяльных сінодах кальвініцкай царквы ВКЛ. Як дэлегат ад ВКЛ удзельнічаў у генеральнай канвакацыі кальвіністаў ва Уладаве. У 1636 візітатар Новагародскага і Завілейскага дыстрыктаў. У 1637 яму даручана апека над кальвінскімі зборамі Жамойцкага дыстрыкта. З 1638 суперінтэндэнт завілейскі. Прамовіў казанне пры пахаванні Радзівіла, якое пасля было надрукавана над назвай «Дарога агульная, гэта значыць Казанне на выправаджэнне найвысакароднага цела...» («Droga powszechna, to jest Kazanie na wyprowadzenie przezacnego ciała...», Любча, 1641). Удзельнічаў у генеральных канвакацыях у Орлі ў 1639 і 1644. У 1651—53 апякун і візітатар Жамойцкага дыстрыкта. Дапамагаў Яну Бажымоўскаму ў складанні «Кнігі набажэнства хрысціянскага ў гонар адзінай Святой Тройцы» («Kniga Nabożnistes Krigscioniszkos Ant Garbos Diewny Traycey Szwentoy Wienatijam», Кейданы, 1653). У 1653 візітатар Кейданскай гімназіі.

Мікалай (?—1688), сын Самуэля. У 1661 выкладаў у Кейданскай кальвініцкай школе. У 1663 пасланы на вучобу ў Лондан, дзе павінен быў пільнаваць друкаванне літ. перакладу Новага Запавету, ухваленага літ. тэолагамі замест перакладу Багуслава Самуэля *Хілінскага*. У 1664—67 міністр кальвінскага збору ў Расейнах, пасля — збораў у Кейданах і Новым Месце, з 1671 консеньёр жамойцкі, з 1673 суперінтэндэнт жамойцкі, з 1679 суперінтэндэнт завілейскі. У 1680 правінцыйны сінод даручыў Мікалаю ўдзел у камісіі па праверцы літ. перакладу Бібліі. Па яго ініцыятыве сінод прыняў рашэнне перавыдаць літ. «Канцыянал» і «Агенду» ў Караляўцы. У 1681 зноў пасланы ў Лондан для друкавання новага выдання літ. Бібліі. Яму былі даны паўнамоцтвы на пераклад, карэктуру і друкаванне Бібліі, аднак з-за фінансавых цяжкасцей выданне не было ажыццёўлена. Ад брандэнбургскага курфюрста Фрыдрыха Вільгельма Мікалай дамогся 6 месцаў у Берлінскай гімназіі і Франкфурцкім ун-це для выхадцаў з ВКЛ, а таксама 3 месцаў у Марбургу і Гейдэльбергу. Падтрымліваў шчыльныя кантакты з Людвікай Каралінай *Радзівіл*, якая актыўна дапамагала кальвіністам ВКЛ.

**Мінгайла**, легендарны вялікі князь новагародскі і полацкі. Паводле бел.-літ. летапісаў, быў сынам новагародскага кн. Скірманта (або Эрдзівіла), княжыў пасля смерці бацькі ў Новагародку і «на многых руских городех». Арганізаваў ваенны паход на Полацк, у час якога бітва з полацкім войскам адбылася каля г. Гарадзец (лакалізацыя невядома, паводле адной з версій, знаходзіўся каля сучаснай в. Гарадок Маладзечанскага р-на). У «вял. бітве» перамог М., які спаліў Гарадзец, захапіў Полацк і зрабіўся вял. князем полацкім. Княжыў шмат гадоў і пакінуў сыноў Шварна (Скірманта) і Гінвіла. У Альшэўскім летапісе М. дано хрысціянскае імя Міхаіл. У легендзе пра М. адлюстравана ўстанаўленне ўлады літ. князёў у Полацку. Існаванне М. не пацвярджаецца інш. гіст. крыніцамі, аднак некаторыя некрытычныя гісторыкі 19 ст. (Т.Нарбут) і 20 ст. прызнавалі яго сапраўднасць. Магчыма, імя М. ўтворана ад імя літ. баярына канца 14—пач. 15 ст. *Мінігайлы* (Міхала).

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

**Мінейка** Тамаш (?—пасля студз. 1795), дзяржаўны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Газдава». Па пратэкцыі біскупа інфлянцкага Юзафа Касакоўскага заняў урад пісара земскага ковенскага (1785—93). Стараста стаклішскі, судзіўся з стаклішскімі мяшчанамі па справах аб іх павіннасцях у каралеўскім задворным асесарскім судзе. З 1790 пасол на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*, падтрымаў *Канстытуцыю 3 мая 1791*. Палучыўся да *паўстання 1794*, увайшоў у склад *Найвышэйшай літоўскай рады* як прадстаўнік Прэнскага павета, пасля член Ваеннай дэпутацыі рады, намеснік члена *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага* (чл. аддзела інструкцыі). Пасля заняцця краю рас. войскамі ў пач. 1795 на сойміку Ковенскага пав. абраны пісарам земскага суда, што выклікала пратэсты кансерватыўнай шляхты. Далейшы лёс М. невядомы.

**Мінігайла** (у каталіцтве Міхал; ?—пасля 1413), дзяржаўны дзеяч. Сын літ. баярына Гедыгольда, які, як мяркуецца, адыграў важную ролю пры заключэнні Крэўскай уніі 1385. У 1387 М. быў сведкам фундацыйнага прывілея Ягайлы Віленскаму біскупству. У 1388 у Маладзечне выконваў місію па прымірэнні Ягайлы з кн. Дзмітрыем Альгердавічам, які вярнуўся з Масковіі. Стараста (намеснік) ашмянскі ў 1387—98, віленскі ў 1393, вяленскі ў 1412. Удзельнічаў у заключэнні *Салінскага дагавору 1398* паміж Вітаўтам і крыжакамі, у заключэнні *Віленска-Радамскай уніі 1401*. Пры падпісанні *Гарадзельскай уніі 1413* атрымаў герб «Рава»



(«Равіч»), стаў першым віленскім кашталянам. Валодаў маёнткам Дзевянішкі на Ашмяншчыне.

*Літ.*: Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3; Petrauskas R. Lietuvos diduomenė XIV a. pabaigoje—XV a.: Sudėtis—struktūra—valdžia. Vilnius, 2003.

**Мінігайла Альгердавіч** (паміж 1365 і 1368—да 1382), князь. Сын вял. князя літ. Альгерда і Ульяны Аляксандраўны. Памёр у маладым узросце, відаць, да заключэння літ.-крыжацкага дагавора 1382, пад якім адсутнічае яго подпіс.

*Літ.*: Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Мінкевіч** Адам (11.8.1684, Ашмянскі пав.—18.3.1740), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1699 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Праф. рыторыкі ў Гародні (1711—12) і Вільні (1712—14), прэфект школы і праф. этыкі ў Вільні (1714—15), праф. філасофіі ў Вільні (1715—18), тэолаг віленскага біскупа Канстанціна Казіміра Бжастоўскага (1718—22), рэктар калегіума ў Нясвіжы (1723—27), сакратар галавы правінцыі ордэна езуітаў (1728—31), рэктар калегіма ў Пінску (1732—35), прэфект школы ў Навагародку (1735—36), інструктар дома 3-й прабацыі ў Нясвіжы (1736—37), тэолаг жамойцкага біскупа Юзафа Міхала Карпа (1737—38), віцэ-рэктар калегіума ў Жодзішках (1739—40). Аўтар «Дысертацыі па універсальнай філасофіі» («Ex universa philosophia theses», Вільня, 1718), акалічнасных казанняў, панегірыкаў. Захаваліся рукапісы яго лекцый па філасофіі.

**«Мінская даўніна»** («Минская старина»), шматтомнае выданне па гісторыі Міншчыны. Выдадзена ў 1909—13 Мінскім царк. гісторыка-археал. камітэтам у 4 выпусках. Вып. 1—2 (Мінск, 1909—11) — зборнікі артыкулаў па гісторыі Мінска, правасл. цэркваў, манастыроў, жыцці дзеячаў правасл. царквы, публікацыі бел. фальклору, хроніка дзейнасці Мінскага царк. гісторыка-археал. камітэта, звесткі пра археал. раскопкі і інш.; у вып. 2 апублікавана апісанне рукапісаў і стадрукаў Мінскага царк. гісторыка-археал. музея. Вып. 3 — манаграфія А.У.Жыркевіча «З-за рускай мовы: (біяграфія каноніка Ф.Сенчыкоўскага)» (ч. 1—2, Вільня, 1911). У вып. 4 (Мінск, 1913) змешчана апісанне архіва Слуцкага Трайчанскага манастыра, складзенае Дз.І.Даўгялам.

**Мінскі царкоўна-археалагічны музей**, навукова-асветная ўстанова. Існаваў у 1908—15 пры *Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэце*. Экспазіцыя мела 1363 экспанаты (1910), сярод іх рэчы царк. даўніны, рэліг. культу, тэксты нар. песень, паданняў, матэрыялы этнаграфічных экспедыцый, выявы гербаў і пячатак, каля 500 манет, археал. знаходкі з раскопак у Пінску, Радашковічах, Слуцку, Тураве. У кніжным зборы каля 1900 тамоў (1910), у т.л. рукапісныя кнігі: Слуцкае евангелле 16 ст., «Тыпікон» 16 ст., «Апостал» 16 ст., «Мінея агульная» канца 17 ст., «Сінопсіс» 18 ст., а таксама архіў Слуцкага Троіцкага (Трайчанскага) манастыра. У музей паступіла частка калекцыі археолага Г.Х.Татура. У пач. 1-й сусветнай вайны экспанаты вывезены ў Разань (Расія). У 1922 вернутая частка фондаў і 250 кніг трапілі ў Бел. дзярж. музей, астатнія выданні кніжнага фонду перададзены Дзярж. б-цы, некаторыя архіўныя матэрыялы — Цэнтр. архіву. Некаторыя рэчы, у т.л. рукапісы, знаходзяцца ў Бел. нац. музеі гісторыі і культуры.

*Літ.*: Гужалоўскі А.А. Нараджэнне беларускага музея. Мінск, 2001.

**Мінскі царкоўны гісторыка-археалагічны камітэт**, гістарычнае таварыства. Дзейнічаў з лют. 1908 да пач. 1-й сусветнай вайны (1914). Створаны ў Мінску Сінодам пры Мінскай епархіі па ініцыятыве інтэлігенцыі для збірання і вывучэння старажытнасцей на тэр. Мінскай губ. Старшыні М.М.Былоў, А.К.Снітка (з 1909). Праводзіў даследаванне і апісанне помнікаў даўніны, збіраў фальклор, вывучаў царк. і манастырскія архівы. Выдаў зборнік «Мінская даўніна» («Минская старина», вып. 1—4, Мінск, 1909—13), даведнік «Апісанне рукапіснага аддзелу і стерадрукаваных кніг бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта» («Описание рукописного отдела и старопечатных книг библиотеки Минского церковного историко-археологического комитета», вып. 1, Минск, 1909). Пры камітэце існавала б-ка і *Мінскі царкоўна-археалагічны музей*.

**Мір** (цяпер гар. пасёлак у Карэліцкім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Навагародскім пав., на р. Міранка. Упершыню ўпамінаецца у час крыжацкага нападу 1395 на землі Верхняга Панямоння. У 1434 вял. князь літ. Жыгімонт Кейстутавіч падараваў М. Сеньку Гедыгольдавічу (гл. ў арт. *Гедыгольд*). З-за адсутнасці ў апошняга нашчадкаў мужскога полу М. па жаночай лініі перайшоў да Івана Ільініча (ён быў жанаты з сястрой Мілохны — жонкі Сенькі Гедыгольдавіча). Юрый Іванавіч Ільініч у пач. 16 ст. пабудаваў *Мірскі замак*. М. быў цэнтрам буйнога маёнтка Ільнічаў — Мірскага графства (графскі тытул Ільінічы атрымалі ў 1553 ад імператара Фердынанда I). Апошні прадстаўнік роду Ільінічаў Юрый (памёр у 1569) завяшчаў М. свайму стрыечнаму брату Мікалаю Крыштофу Радзівілу Сіротцы. Апошні 27.12.1579 прадставіў М. права на самакіраванне, у 1585 заснаваў *Мірскі Мікалаеўскі касцёл*, а ў 1595 — *Мірскую Троіцкую царкву*. З пач. 16 ст. ў М. вядома правасл. царква. Мірскае графства належала Радзівілам — нясвіжскім ардынатам. Відаць, у канцы 16 ст. М. абведзены земляным валам, у горад вялі праходы праз 4 мураваныя брамы: Віленскую, Слонімскую, Менскую, Нясвіжскую. У 1-й пал. 17 ст. ў М. значнае развіццё атрымалі рамёствы (у дакументах 1600—26 названы рамеснікі 18 прафесій). Мястэчка разбурана ў 1655 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Пасля ў 1655 М. і Мірскі замак захоплены шведамі, якім садзейнічаў Багуслаў Радзівіл. У пач. 1656 М. і замак захапіла ўрадавае войскі ВКЛ пад камандаваннем Самуэля Аскеркі. У канцы 17 ст. ў М. 478 двароў, рамеснікі 49 спецыяльнасцей, 4 рамесныя цэхі. Мястэчка пацярпела ад шведаў у 1706 у час *Паўночнай вайны 1700—21*. У 1705 пры Троіцкай царкве Кароль Ста-



ніслаў Радзівіл заснаваў базыльянскі кляштар. У 1-й пал. 18 ст. Радзівілы заснавалі ў М. палатняныя, суконныя і ткацкія (па вырабе дываноў і габеленаў) майстэрні. З 16 ст. ў М. жылі татары і яўрэі, з 2-й пал. 17 ст. — цыганы. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай* пад М. 10—11.6.1792 адбыліся няўдалыя баі войска ВКЛ на чале з Юзафам Юдзіцкім з рас. войскамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (социально-эконом. исслед. истории городов). Минск, 1975; Гурин М.Ф. Мир: историко-эконом. очерк. Минск, 1985; Бубноўскі Д.С. Гісторыя горадабудаўнічага развіцця г.п. Мір // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мінск, 1989; Краўцэвіч А.К., Якшук Г.М. Стары Мір. Мінск, 1993; Здановіч Н.І., Краўцэвіч А.К., Трусаў А.А. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка. Мінск, 1994; Мірскі замак і замкі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Мінск, 2006; Modelski T.E. Przywilej na starszeństwo cygańskie z r. 1703 // Ateneum Wileńskie. 1929. R. 6, z. 3—4; Tyszkiewicz J. Tatarzy na Litwie i w Polsce: studia z dziejów XIII—XVIII w. Warszawa, 1989; Bernatowicz T Miles christianus et peregrinus: fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji nieświeskiej. Warszawa, 1998.

**Мірбах** Генрык (Эрнст Ян Генрык Кароль; 1763—27.2.1819), ваенны дзеяч. Паходзіў з курляндскага баронскага роду. Сын Караля Густава Мірбаха (1741—1800), старасты палангаўскага, уладальніка маёнткаў у Жамойці. У маладосці М. служыў у прускім войску, быў ад'ютантам фельдмаршала В.Мёлендорфа. Пасля жыў у ВКЛ. Прыняў удзел у *паўстанні 1794*, паступіў у атрад генерал-маёра Цельшаўскага пав. Антонія Вайткевіча, які падначальваўся Тамашу *Ваўжэцкаму*. Двойчы паўстанцкія войскі пад камандаваннем М. займалі Лібаву (23.5.1794, 25.6.1794), 27.6.1794 М. прыняў тут прысягу далучэння да паўстання шляхты і мяшчан Курляндыі (адначасова была абвешчана вольнасць сялянам). М. быў прызначаны генерал-маёрам Курляндыі. Кіраўнік паўстання Т.Касцюшка канфірмаваў далучэнне Курляндыі да паўстання, а М. надаў ранг генерал-лейтэнанта. 11.7.1794 Лібава без бою была занята рас. войскамі, але ў жн. 1794 у 3-і раз узята войскам М. Пасля з войскамі Ваўжэцкага М. адышоў у Варшаву. Арыштаваны ў Гародні па загаду генерал-губернатара Літвы М.Рапніна па абвінавачванні ў падбухторванні курляндскіх сялян супраць паноў, адасланы ў Рыгу. Па загаду Кацярыны II М. аддадзены пад курляндскі суд, пасля памілаваны імператрыцай і знаходзіўся пад апекай. У час вайны 1812 сабраў у Цельшаўскім пав. атрад шляхецкай моладзі ў 2 тыс. чал., які, аднак, быў распушчаны па загаду Напалеона.

**Мірская Троіцкая царква**. Фундавана ў мяст. Мір Навагародскага ваяв. ў 1595 уладальнікам мястэчка Мікалаем Крыштофам Радзівілам Сіроткай. Першапачаткова была драўлянай, на мяжы 16—17 ст. пастаўлены мураваны будынак у стылі ранняга барока. У плане мае форму літары Т, пры гэтым да сярэдзіны трансепта прымыкае глыбокая паўкруглая апсіда. Даўжыня трансепта роўная даўжыні нефа. Першапачаткова ўваход у царкву вёў праз невял. бабінец, на месцы якога ў 1870-х г. пабудавана чацверыковая вежа, увенчаная шатровым завяршэннем. У гэты ж час над цэнтр. часткай храма ўзведзены 5 вежачак з галоўкамі-цыбулінамі. Першапачаткова царква асвятлялася лучковымі вокнамі (па 2 па баках нефа, на 3 на тарцах трансепта), якія ў 19 ст. перароблены. У месцы злучэння нефа і трансепта ўладкавана круглая лесвічная клетка. Верагодны аўтар праекта царквы — Джавані Марыя *Бернардоні*. У 1705 Кароль Станіслаў Радзівіл перадаў царкву базыльянам. У 1824 манастыр скасаваны. З 1839 праваслаўная. У 1848 адрамантавана, побач з царквой пастаўлена званіца. Пасля пажару 1865 перабудавана ў візантыйска-рус. стылі.

*Літ.*: Bernatowicz T. Początki latynizacji architektury grekokatolickiej na Białorusi: cerkwie w Mirze i Nowym Świerżniu // Roczniki Humanistyczne. 1999. Z. 4. Zeszyt specjalny.

**Мірскі Мікалаеўскі касцёл**. Пабудаваны ў 1599—1605 у мяст. Мір Навагародскага ваяв. (цяпер г.п. Мір Карэліцкага р-на) па загаду Мікалая Крыштофа *Радзівіла* Сіроткі, адноўлены ў 1710, у 1865 прыстасаваны пад царкву, у 1919—45 і з 1990 зноў касцёл. Верагодны аўтар праекта касцёла — Дж.М.*Бернардоні*. Мураваная 3-нефавая 3-вежавая базіліка з трансептам. Цэнтр. неф з паўкруглым прэсбітэрыем завяршаўся на гал. фасадзе вял. квадратнай у плане 4-ярускай вежай абарончага характару з шатровым дахам. Ярусы вежы падзяляліся прафіляванымі карнізамі і былі аздоблены глыбокімі нішамі. Бакавыя нефы на гал. фасадзе завершаны круглымі ў плане вежачкамі з вітымі ўсходамі, а з боку алтарнай часткі больш высокімі гранёнымі крыламі трансепта і закругленымі ў плане сакрысціямі. Бакавыя фасады, пазбаўленыя аздобы, прарэзаны высокімі аконнымі праёмамі з паўцыркульным завяршэннем. Дзверы аздоблены мастацкай акоўкай. Унутры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі.

*Літ.*: Bernatowicz T. Miles christianus et peregrinus: fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji nieświeskiej. Warszawa, 1998.

***Тамара Габрусь.***

**мірскія шпалеры**, вырабы ткацкай майстэрні ў мяст. Мір Навагародскага ваяв. (цяпер г.п. Мір Карэліцкага р-на) 1-й пал. 18 ст. Паводле меркавання Т.Манькоўскага, майстэрня адчынена Ганнай Радзівіл. М.ш. вызначаліся невял. памерамі (выраблялiся пераважна для асабістых патрэб уладароў, радзей на продаж), раслінным арнаментам, дзе спалучаліся характэрныя для зах.-еўрапейскага ткацтва матывы (выявы кошыка і вазы з кветкамі, букета і інш.) з мясц. ўзорамі нар. ткацтва (матывы зубчастага лістка і інш.). Узоры М.ш. зберагаюцца ў зборах Польшчы. У 1752 Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька перанёс ткацкія варштаты з Міра і інш. радзівілаўскіх уладанняў у Карэлічы.

*Літ.*: Mańkowski T. Materjały do dziejów manufaktur tkackich Michała Kazimierza Radziwiłła «Rybeńki» // Prace i materjały sprawozdawcze sekcji historji sztuki towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie. Wilno, 1938/39. T. 3; Karkucińska W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa (1676—1746): działalność gospodarcza i mecenat. Warszawa, 2000. S. 156.



**Міско** Сцяпан Міхайлавіч (н. 18.12.1930, в. Чамяры Слонімскага р-на), беларускі тэатразнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1962). У 1941—44 удзельнічаў у партызанскім руху. Скончыў Мінскі ін-т замежных моў (1952). Працаваў настаўнікам, у 1962—74 — у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, пасля ў Дзярж. музеі БССР, Кніжнай палаце, з 1987 — у выдавецтве «Універсітэцкае». Даследуе стараж. тэатральную культуру Беларусі. Зрабіў транслітэрацыю некаторых бел. драматычных твораў і забяспечыў іх каментарыямі для выдання «Dramaty staropolskie» (т. 6, Варшава, 1963).

*Тв.*: Невядомыя беларускія творы першай паловы XVIII стагоддзя // Полымя. 1965. № 9; Школьны тэатр Беларусі XVI—XVIII стст. Мінск, 2000.

**Мітава** (цяпер Елгава, Jelgava, горад у Латвійскай Рэспубліцы), горад, сталіца *Курляндскага і Земгальскага герцагства*, на р. Ліелупе (Аа). У 10 ст. на месцы М. ўзнікла земгальскае паселішча. Упершыню ўпамінаецца ў лівонскай «Старэйшай рыфмаванай хронікі», якая апавядае пра пабудову ў 1265 замка М. па загаду магістра Лівонскага ордэна Конрада фон Мандэрна. Замак стаў апорным пунктам нямецкіх рыцараў у падпарадкаванні вакольнага земгальскага насельніцтва. У 1345 літоўскі кн. Альгерд захапіў перадзамкавыя ўмацаванні М. Пасля скасавання Лівонскага ордэна і ўтварэння ў 1561 Курляндскага і Земгальскага герцагства (васальнай дзяржавы з 1562 у адносінах да вял. князя літ. Жыгімонта II Аўгуста, пасля ў адносінах да каралёў польскіх і вял. князёў літоўскіх) М. стала сталіцай герцагства. Каля 1573 М. атрымала гар. правы. У 1605 герцаг Фрыдрых Кетлер дараваў М. збор законаў, які рэгуляваў гар. кіраванне, гандаль і рамяство. Нягледзячы на войны Рэчы Паспалітай са Швецыяй (захоплівалася шведскімі войскамі ў 1621, 1622, 1625, 1658, 1701, рас. войскамі ў 1705, 1709), М. эканамічна развівалася. У 1615 пабудаваны лютэранскі збор Св. Тройцы. У 1621—90 існавала езуіцкая місія, у 1690—1773 — езуіцкая рэзідэнцыя, каля 1693 адчынена школа, існавалі музычная бурса, б-ка, школьны тэатр. У 1634 пабудаваны парафіяльны мураваны касцёл св. Георгія, у 1726 — правасл. царква Сімяона і Ганны. У 1758—67 езуіты пабудавалі ўласны невял. касцёл. Стары замак быў разбураны герцагам Эрнстам Ёганам Біранам, які загадаў пабудаваць раскошны барокавы палац (1738—72, архітэктар Б.Растрэлі). У 1775 апошні герцаг Пётр



Медаль на ўзяцце **Мітавы** расійскімі войскамі. Медальер І.Канстанцінаў. 1705. Золата.

Біран заснаваў ун-т (Акадэмія Петрына). Паводле праекта Растрэлі ў 1780 пабудавана новая правасл. царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) М. ў складзе Рас. імперыі, цэнтр Курляндскай губерні.

*Літ.*: S c h l a u K.-O. Zur Gründungs- und Verfassungsgeschihte der Stadt Mitau (Jelgava) in Kurland (1265—1795) // Zeitschrift für Ostforschung. 1993. H. 4.




**Мітава**. Гравюра Габрыэля Бодэнера. 1712.

**Міхаіл** К а з а ч ы н с к і [свецкае М а н у і л; 1699, г. Ямпаль Падольскага ваяв.—4(15).8.1755], дзеяч праваслаўнай царквы, педагог, пісьменнік. З шляхецкай сям'і. Скончыў Кіева-Магілянскі калегіум (1733). Па запрашэнні бялградскага мітрапаліта Вікенція ў 1733 выехаў у Сербію, выкладчык і прэфект у школе г. Карловец недалёка ад Бялграда. У 1734 тут была пастаўлена напісаная М. драма пра сербскага цара Ураша V, якая паклала пачатак сербскаму тэатру. Пасля скасавання школы (1737) М. вярнуўся ў Кіеў, паслушнік Выдубіцкага манастыра, з 1740 манах. У 1739—46 выкладчык і прэфект у Кіева-Магілянскім калегіуме. З 1746 у Выдубіцкім манастыры, пасля ігумен Чырванагорскага манастыра ў Гадзячы. У 1748 прызначаны архімандрытам Слуцкага Троіцкага манастыра. Арганізаваў перанос мошчаў хлопчыка Гаўрыіла з Заблудава ў Слуцк (май 1755). Аўтар панегірыка імператрыцы Лізавеце Пятроўне (Кіеў, 1744), вершаў «На триумфальных Киево-Печерских воротах до ангела... стихи» (Кіеў, 1744, аркуш), на перанос мошчаў Гаўрыіла ў Слуцк (1755, аркуш), драм «Благоутробие Марка Антония, кесаря римского» (Кіеў, 1745), «Трагедиа, сиречь Печална повесть о смерти последнего царя сербского Уроша Пятого и о падении Сербского царства» (Будапешт, 1798), падручніка «Фило-

софиа Аристотелева» (Львоў, 1745). Памёр і пахаваны ў Слуцку.

*Літ.*: Соболевский А. Неизвестная драма М.Козачинского // Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1901. Кн. 15, вып. 2—3; Маслов С.І. Мануїл (Михаїл) Козачинський і його *Трагедія о смерті последнего царя сербського Уроша V-го и о пленении сербського царства* // Радянське літаратурознавство. 1958. № 4.

**Міхаіл Андрэевіч** (?—1385), князь. Сын полацкага і пскоўскага кн. *Андрэя Альгердавіча.* Служыў маскоўскаму вял. кн. Дзмітрыю Іванавічу Данскому. М.А. у 1385 камандаваў маскоўскім войскам у бітве з войскам разанскага кн. Алега пад Разанню, дзе і загінуў. На думку Я.Тэнгоўскага, М.А. меў сына Рамана, кн. бранскага, які мог быць родапачынальнікам князёў Крошынскіх.

*Літ.*: Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Міхаіл Канстанцінавіч**, віцебскі князь у 13 ст. Верагодна, сын полацкага і віцебскага кн. Канстанціна. Яму адрасаваны ліст рыжскіх ратманаў і «ўсіх гараджанаў» Рыгі з абвінавачваннямі ў несправядлівым судзе над рыжскімі купцамі і ў прымусовых дзеяннях. Мяркуецца, што дакумент напісаны паміж 1271—89.

*Літ.*: Русско-ливонские акты. Санкт-Петербург, 1868. ***Лявон Калядзінскі.***

**Міхаіл Фёдаравіч** [Михаил Фёдорович; 12(22).7.1596, г. Масква—13(23).7.1645], першы расійскі цар з дынастыі Раманавых (з 1613). Сын баярына Фёдара Мікітавіча Раманава (будучага патрыярха маскоўскага Філарэта), дваюрадны пляменнік апошняга цара з дынастыі Рурыкавічаў, Фёдара Іванавіча. М.Ф. абраны на трон Земскім саборам 11(21).2.1613. Першапачаткова вял. ролю ў кіраванні краінай належала родным М.Ф. — яго маці (старыцы Марфе) і, пасля вяртання з польскага палону ў 1619, яго бацьку — патрыярху Філарэту, які таксама карыстаўся тытулам «вялікі гасудар». Абраны у час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*, М.Ф. быў вымушаны адстойваць свой царскі тытул, на які прэтэндаваў таксама абраны царом у 1610 каралевіч Уладзіслаў Жыгімонтавіч (будучы кароль польскі і вял. князь літ. Уладзіслаў IV). У 1617—18 каралевіч Уладзіслаў узначаліў паход на Маскву, які для яго скончыўся беспаспяхова, і М.Ф. застаўся на троне. Згодна з *Дэулінскім перамір'ем 1618* паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй М.Ф. захаваў сваю ўладу, а Уладзіслаў — тытул цара. Са Швецыяй урад М.Ф. заключыў Сталбоўскі мір 1617. Карыстаючыся смерцю караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта III (1632) рас. М.Ф. пачаў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, якая для яго скончылася паражэннем. Але, нягледзячы на гэта, быў заключаны параўнальна выгадны для Расіі *Палянаўскі мір 1634*, які ўстанавіў новую граніцу паміж дзвюма краінамі (да Расіі далучаны шэраг гарадоў, у т.л. Сярпейск), пры гэтым Уладзіслаў IV адмовіўся ад царскага тытула. У час праўлення М.Ф. Расія пераадольвала наступствы «Смутнага часу», была ўмацавана цэнтр. ўлада, рэарганізаваны ўзброеныя сілы, развіваліся прамысловасць і гандаль.

*Лит.*: Бантыш-Каменский Н.Н. Переписка между Россиею и Польшею по 1700 год, составленная по дипломатическим бумагам. Ч. 3. 1613—1645. Переписка между Россиею и Польшею в государствование царя Михаила Феодоровича // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1862. Кн. 4; Морозова Л.Е. Михаил Федорович // Вопросы истории. 1992. № 1; Козляков В. Михаил Федорович. М., 2004.

**Міхал** Трэстка (Міхал з Кракава; ? — каля 1429), дзеяч каталіцкай царквы. Да 1399 жыў у Рыме, быў папскім пенітэнцыарыем. Па прапанове польскага караля Ягайлы і каралевы Ядвігі вярнуўся ў Польшчу, каб узначаліць каталіцкую місію ў Памор'і, Літве і на Русі. З пач. 15 ст. належаў да ордэна дамініканцаў. Знаходзіўся пры Ягайлу ў час *Грунвальдскай бітвы 1410*. Па прапанове Ягайлы рымскі папа Іаан XXIII 19.11.1410 прызначыў М. кіеўскім біскупам. У 1411 М. прымаў у Кіеве Ягайлу. Прыклаў шмат намаганняў, каб пераўтварыць Кіеўскае біскупства з місійнага, якім яно было раней, у фактычна існуючае, у 1414 яно ўключана ў склад Львоўскай мітраполіі. Удзельнічаў у заключэнні *Гарадзельскай уніі 1413*. Адбудаваў Кіеўскі кафедральны касцёл, разбураны ў час татарскага нападу 1416. У 1419 засведчыў акт перамір'я Ягайлы і Вітаўта з дацкім каралём Эрыкам. Быў хросным бацькам сына Ягайлы Уладзіслава.

**Міхал з Львова** (?—9.9.1494), дзеяч каталіцкай царквы. Чл. ордэна дамініканцаў, у якім дасягнуў высокіх годнасцей. У 1480-х г. быў прэорам Львоўскага кляштара дамініканцаў, вікарыем Рус. кантракты, якая ахоплівала некалькі кляштараў (у т.л. ў Львове і Кіеве). Меў тытул генеральнага прапаведніка. 22.6.1487 прызначаны папам рымскім Інакенціем VIII на пасаду кіеўскага біскупа. Падрабязныя звесткі пра біскупскую дзейнасць М. з Л. не захаваліся.

**Міхалаў** (цяпер в. Забычанне Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв. Заснавана паводле універсала канцлера ВКЛ Караля Станіслава Радзівіла ад 14.3.1714 на левым беразе р. Жадунька, насупраць в. Забычанне ў Алучыцкім войтаўстве Крычаўскага староства. Назву мястэчка атрымала ў гонар бацькі Караля Станіслава Радзівіла — Міхала Казіміра, першага дзяржаўцы Крычаўскага староства. Тэрмін слабады новастворанаму мястэчку быў вызначаны ў 15 гадоў. Згодна з інвентаром 1727, М., акрамя рынку, меў 2 вуліцы — Крычаўскую і Касцюкоўскую, на якіх разам было 37 дымоў. Адзначана наяўнасць агульнага з в. Забычанне млына. Такую ж колькасць дымоў фіксуе інвентар мястэчка 1747, акрамя таго, у мястэчку былі царква, сінагога, 2 бровары; жылі каваль, шавец, 3 краўцы, пекар, 2 бондары, віннік, шынкар, 3 купцы, 2 пастухі і нават 2 пушкары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) М. у складзе Рас. імперыі, перайменаваны ў Забычанне па назве размешчанай побач вёскі.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Фарміраванне мястэчак Крычаўскага староства // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Яго ж. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мінск, 2008. № 23. ***Андрэй Мяцельскі.***

**Міхалішкі** (цяпер вёска ў Астравецкім р-не Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Вілен-



скім ваяв., на р. Вілія. У 1518 маёнтак М. — уласнасць троцкага ваяводы Рыгора Станкавіча Осціка, які ён завяшчаў пасля смерці свайму малодшаму сыну Рыгору. М. былі ўласнасцю Р.Р. Осціка да 1526, калі ён аддаў маёнтак у заставу за 200 коп грошаў віленскаму кашталяну, жамойцкаму старасце Станіславу Янавічу Кезгайлу. У 1526 са згоды ўладальніка вял. князь літ. і кароль польскі Жыгімонт I Стары дазволіў троцкаму кашталяну, гарадзенскаму старасце Юрыю Мікалаевічу Радзівілу выкупіць маёнтак з заставы ў Кезгайлы. У 1528 Міхалішкаўскі двор — уласнасць віленскага кашталяна Ю.М.Радзівіла; паводле інвентару ў маёнтку 47 службаў цяглых сялян, 10 службаў баяр, 24 чал. нявольнай чэлядзі, 22 службы людзей-даннікаў. У 1543 уласнасць Мікалая Юр'евіча Радзівіла, дзе яму Жыгімонт I Стары сваім прывілеем дазволіў заснаваць горад, а ў ім арганізаваць штогадовыя кірмашы і перавоз на р. Вілія. У 1546 М.Ю.Радзівіл прадаў М. кіеўскаму ваяводзе кн. Фрыдрыху Глебавічу Пронскаму. У 1553 у маёнтку праводзілася валочная памера. У 1557 уласнасць Фядоры Богушаўны Багавіцінаўны, удавы Пронскага, якая прыкупіла да маёнтка зямлю Рудзішкі ў гаспадарскага баярына Яна Лобуця. У 1559 уласнасць Багавіцінаўны і яе 2-га мужа гнезненскага кашталяна, кароннага падкаморыя Мікалая Трэбухоўскага, якім вял. князь літ. і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст пацвердзіў валоданне маёнткам у сувязі са стратай дакументаў на яго. У 1582 маёнтак і двор М. — уласнасць стольніка ВКЛ, луцкага старасты кн. Аляксандра Фрыдрыхавіча Пронскага, які ён аддаў у заставу гаспадарскаму двараніну Пятру Сластоўскаму на 3 гады. У 1590 А.Ф.Пронскі прадаў М. віленскаму бурмістру Якубу Станкавічу Кенішку. У 1604 уласнасць Бжастоўскіх. У 1622 рэферэндар ВКЛ Ян Цыпрыян Бжастоўскі заснаваў *Міхалішкаўскі кляштар аўгусцінцаў* (канонікаў рэгулярных ад пакуты). Пры ім працаваў шпіталь. М. пацярпелі ў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1669 паводле каралеўскага прывілея новыя пасяленцы М. на 10 гадоў вызваляліся ад падаткаў, мелі свой суд, 4 кірмашы ў год. У час *Паўночнай вайны 1700—21*, у маі 1705, за 7 км ад М. рас. войскі разбілі шведскі атрад. У 1782 інфлянцкі біскуп Юзаф Казімір Касакоўскі дамогся ад рымскага папы закрыцця кляштара. У гэты час М. належалі графу Міхалу Бжастоўскаму, які даў касцёлу і плябаніі 20 тыс. злотых і валоку зямлі, пазней сам захапіў уладанні кляштара. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Герман Брэгер.***

**Міхалкаўская царква.** Існавала ў 18—пач. 20 ст. ў в. Міхалкі (Мазырскі р-н). Драўляная царква была пабудавана пад уплывам стылю барока. Глыбінна-прасторавую кампазіцыю ўтваралі 3 размешчаныя па падоўжнай восі зрубы: квадратныя ў плане асноўны, бабінец і 5-гранная алтарная апсіда (з 2 прыбудовамі абапал). Зрубы завяршаліся 3-яруснымі вярхамі (2 васьмерыкі на чацверыку над асн. аб'ёмам і бабінцам і васьмерыкі над апсідай). Звонку царква была ашалявана, сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Для збудавання характэрна своеасаблівая сістэма прапорцый: дыяганаль асн. аб'ёму ў плане раўнялася суме дыяганалей бабінца і апсіды, вышыня цэнтр. верха вызначалася агульнай даўжынёй плана царквы, вышыні бакавых вярхоў складалі дыяганаль прамавугольніка, у які ўпісваліся асн. і алтарны зрубы. Агульная вышыня каля 19 м. У пач. 20 ст. перад гал. уваходам прыбудаваны тамбур каркаснай канструкцыі, накрыты 2-схільным дахам.

*Літ.:* Я к і м о в і ч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. XVII—XIX стст. Мінск, 1978. С. 120, 125.



**Міхалкаўская царква**.
Бакавы фасад і план.

**Міхалкевіч** Ежы Уладзіслаў (?—да 22.9.1666), ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Касцеша». На ваеннай службе ў ВКЛ з 1648. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у кампаніі 1655 камандаваў у рангу паручніка казацкай харугвай у палку Зыгмунта Адама Слушкі, надворнага харужага ВКЛ. У канцы 1655 далучыўся да Вярбілаўскай канфедэрацыі войска ВКЛ, якое патрабавала аплаты жолду за кошт уладанняў Януша Радзівіла, што перайшоў на бок шведаў. Атрымаў некалькі радзівілаўскіх вёсак. З 1567 падчашы рэчыцкі. Ад свайго палкоўніка Слушкі, які ў 1658 прызначаны старастам рэчыцкім, М. атрымаў пасаду рэчыцкага падстарасты. У 1659 удзельнічаў у заснаванні ў Курляндыі новай канфедэрацыі вайскоўцаў, якім не выплочвалі жолд, быў пасланы ад іх да караля польскага і вял. князя літ. Яна II Казіміра ў Гданьск. У час выканання місіі трапіў у шведскі палон, з якога выменены гетманам Ежы Любамірскім. У канцы 1663 пасланы гетманам Паўлам Янам Сапегам на чале палка (разам з Самуэлем Кміцічам) пад Смаленск. У час паходу была захоплена Ельна, ледзь не ўзяты Дарагабуж, захоплена вял. здабыча. Пасля М. вёў ад імя войска перагаворы з Багуславам Радзівілам пра лёс радзівілаўскіх маёнткаў, на якія прэтэндавалі вайскоўцы.

**Міхалкевіч** Філіп (1759, г. Анджэеў, Польшча—пасля 1798), мастак. Вучыўся ў А.*Грушэцкага* ў Кракаве ў 1768—70 і ў Гарадніцы пад Гародняй у 1775—92. Дапамагаў Грушэцкаму ў аздабленні гал. алтара касцёла бернардзінцаў у Гародні. У самым канцы 18 ст. М. працаваў самастойна. Займаў пасаду гарадзенскага лаўніка.

*Літ.:* R y s z k i e w i c z A. Malarz Antoni Gruszecki vel Dombrowski bazylianin w Supraślu // Rocznik Białostocki. Białystok, 1967. T. 7.

**Міхаэль Кюхмайстэр** (Michael Küchmeister; 1370, Сілезія—15.12.1423), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1414—22. Паходзіў з рыцарскага роду, які пазней, у 15 ст., асеў у Прусіі і набыў прозвішча Кюхмайстэр фон Штэрнберг (Küchmeister von Sternberg). Час уступлення ў ордэн невядомы. Прыкладна з 1396 да 1402 (з перапынкамі) пракуратар замка ў Кентшыне (Растэнбургу), у 1397 комтур у Рыне (Райне), у 1401 кампан комтура Балгі і фогта Натангіі, Ульрыха фон Юнгінгена. У 1402—04 вял. шафар Караляўца (Кёнігсберга). Пасля заключэння *Рацёнжскага дагавора 1404*, што перадаваў Жамойць пад уладу Тэўтонскага ордэна, М.К. прызначаны фогтам Жамойці. Да 1409 вял. князь літ. Вітаўт дапамагаў крыжакам трымаць у падпарадкаванні Жамойць, за што тыя дапамагалі Вітаўту ў час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08* (у паходзе 1408, у якім удзельнічаў і М.К.). У 1409 Вітаўт інспіраваў антыкрыжацкае паўстанне ў Жамойці. Імкнучыся займець саюзнікаў у будучай вайне з Польшчай і ВКЛ, вял. магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгінген адправіў пасольства да венгерскага караля Жыгімонта, у склад якога ўвайшоў М.К. У пач. 1410 М.К. прызначаны фогтам Новай Маркі. Яму было даручана забяспечваць сувязі ордэна з краінамі Свяшчэннай Рымскай імперыі. У Грунвальдскай бітве 1410 М.К. не ўдзельнічаў. У вер. 1410 на чале рыцараў з Новай Маркі ўвайшоў у Гданьскае Памор'е, аблажыў заняты польскімі войскамі Тухаль, але пацярпеў паражэнне пад Карановам і трапіў у палон. Вызвалены ў 1411 і прызначаны вял. маршалам ордэна. Быў у апазіцыі вял. магістру ордэна Генрыху Ройзу фон Плаўэну, які выношваў наступальныя планы ў адносінах да Польшчы і ВКЛ. У 1413 М.К. прызначаны камандуючым ордэнскімі войскамі, што павінны былі ўдарыць па Польшчы, аднак адмовіўся выконваць загад аб нападзе. Арганізаваў дзярж. пераварот, у выніку якога захапіў уладу ў Тэўтонскім ордэне. Генеральны капітул ордэна ў Мальбарку ў 1414 абраў М.К. вял. магістрам. Мірныя перагаворы М.К. з Польшчай і ВКЛ скончыліся няўдачай, і ў 1414 польска-літвінскія войскі ўтрогліся ў Прусію і разарылі вял. тэрытарыі. Паход скончыўся перамір'ем, а пытанне заключэння трывалага міру было пакінута на разгляд Канстанцкага сабору 1414— 18. Аднак мір не быў заключаны ў час усяго панавання М.К. У ордэне адбываўся гаспадарчы застой, расла інфляцыя. Пад ціскам апазіцыі 10.3.1422 М.К. пакінуў пасаду вял. магістра, і хутка пачалася новая вайна з Польшчай. М.К. памёр у Гданьску як просты рыцар Тэўтонскага ордэна.



**Міхаэль Кюхмайстэр**.

**Міхневіч** Кася (1746?, г. Слуцк—пасля 1760), танцоўшчыца. З 1756 вучылася ў Слуцкай балетнай школе Гераніма Фларыяна Радзівіла (у А.*Пуціні* і Л.М.*Дзюпрэ*), з 1758 танцавала ў яго прыдворным тэатры (дэбютавала ў «Балеце на тры пары» ў пастаноўцы Пуціні), выступала таксама на гастролях у Белай на Падляшшы і Нясвіжы. Была найб. таленавітай у трупе, удасканаленню яе майстэрства аддаваў асаблівую ўвагу Пуціні. З 1760 салістка балета Нясвіжскага тэатра Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі.

*Літ.*: Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Минск, 1992.

**Мішкінене** (Miškinienė) Галіна (н. 29.4.1966, г. Ігналіна, Літва), літоўскі мовавед. Д-р гуманітарных навук (1998). Скончыла Вільнюскі ун-т (1988), аспірантуру пры ім (1995). З 1989 працавала на кафедры славістыкі Вільнюскага ун-та, з 2007 старшы навук. супрацоўнік Ін-та літ. мовы. Даследуе страж. пісьмовасць, мову і культуру татар Літвы і Беларусі. Выдала «Турэцка-беларускі размоўнік 1836 году з збораў Нацыянальнага Музэю Літоўскай Рэспублікі ў Вільні» (з С.Шупам, Нью-Йорк, 1995).

*Тв.*: Мусульманские гадания в культуре ВКЛ // Другая Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі». Менск, 1996. Т. 1; Идеологические споры между мусульманами и иудеями: (на материале арабскоалфавит. рукописей литовских татар середины XVII в.) // Krakowsko-wileńskie studia slawistyczne: seria poświęcona starożytnościom słowiańskim. Kraków, 1997. Т. 2; «Темные места» в переводе арабских и старотурецких рукописей на белорусский и польские языки в XVII в. // Kalbotyra. Vilnius, 1998. [Т.] 46 (2); Древнейшие рукописи литовских татар: (Графика. Транслитерация. Перевод. Структура и содержание текстов). Vilnius, 2001; Исламское вероучение в рукописях литовских татар // Acta Orientalia Vilnensia. Vilnius, 2002. Т. 3; Сотворение мира в легендах литовских татар // Живая старина. 2002. № 3; Очерк истории и культуры литовских татар // Диаспоры. М., 2005. Т. 2; Каталог арабскоалфавитных рукописей литовских татар. Вильнюс, 2005 (разам з С.Намавічутэ, К.Пакроўскай).

**Мішкініс** (Miškinis) Альгімантас (н. 25.6.1929, г. Каўнас, Літва), літоўскі архітэктар, гісторык. Чл.-кар. АН Літвы (1996), д-р габілітаваны (1994), праф. (1996). Скончыў Каўнаскі політэхнічны ін-т (1954). У 1950—66 працаваў у Сельскагаспадарчым будаўніча-праектным ін-це (з 1962 старшы архітэктар), у 1966— 2000 — у Літ. НДІ будаўніцтва і архітэктуры (з 1991 Ін-т архітэктуры і будаўніцтва Каўнаскага тэхналагічнага ун-та; узначальваў аддзяленне урбаністыкі з 1973). У 1959—60 выкладаў у Літ. с.-г. акадэ-



мii, у 1962—68 — у Каўнаскім політэхнічным ін-це, у 1996—2000 — ва Ун-це Вітаўта Вялікага, Каўнаскім ін-це Вільнюскай акадэміі мастацтваў і Вільнюскім тэхнічным ун-це імя Вітаўта. З 1987 старшыня Каўнаскай рады Літ. фонду культуры, у 1999—2007 старшыня рады урбаністыкі і архітэктуры Дэпартамента культ. спадчыны. Працы па гісторыі літ. гарадоў і мястэчак, развіццю архітэктуры і урбаністыкі ВКЛ. Аўтар збору «Спадчына літоўскай урбаністыкі і яе каштоўнасці» («Lietuvos urbanistikos paveldas ir jo vertybės», т. 1—3, 5 кніг, Вільнюс, 1999—2007).

**Мішталыт** Антоній Алойзій (28.5. 1685, Навагародскае ваяв.—25.11. 1740), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, гісторык. З шляхецкага роду герба «Любіч», сын Крыштофа Мішталыта, падчашага вендэнскага. Вучыўся ў Навагародскім езуіцкім калегіуме. У 1700


HISTORIA
Illustrissimae Domûs
SAPIEHANAE
*Ab Origine & Antiquitate sua*
Genealogico syllabo
*Per gloriosos Heroum ejusdem*
ac. connexarum Familiarum
Progressus
in praesens saeculum
deducta.
Authore R. P. ANTONIO ALOYSIO MISZTOŁT Societatis JESU AA. LL. & Philosophiae Doctore, in Alma Academia & Universitate Vilnensi Soc: JESU Ordinario Metaphysices & Ethices Professore, nec non Philosophicae Facultatis Seniore.
VILNAE Typis Universitatis Societatis JESU, Anno Domini 1724.

А.А.**Мішталыт**. Гісторыя святлейшага дому Сапегаў. Вільня. 1724. Тытульны ліст.

уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Вывучаў рыторыку ў Нясвіжы, філасофію ў Вільні (1703—06), граматыку, паэтыку, рыторыку ў Нясвіжы, Ломжы, Гародні (1706—09), філасофію ў Вільні (1710—14). З 1713 ксёндз. У 1715—21 праф. паэтыкі і рыторыкі ў Гародні і Слуцку, логікі ў Пінску, філасофіі ў Гародні. У Віленскай акадэміі атрымаў ступені магістра вызваленых мастацтваў і філасофіі (да 1723), д-ра філасофіі (1724), д-ра тэалогіі (1730). У 1721—25 праф. логікі, фізікі, матэматыкі, этыкі, схаластычнай тэалогіі ў Віленскай акадэміі. У 1726—31 рэктар Навагародскага калегіума, у 1731— 35 — Полацкай гімназіі, у 1735—38 — Нясвіжскага дома 3-й прабацыі, з 1738 — Віцебскага калегіума. У 1733 заклаў у Полацку новы каменны езуіцкі касцёл. Выдаў на лацінскай мове кнігу «Гісторыя святлейшага дому Сапегаў» («Historia Illustrissimae Domus Sapiehanae», Вільня, 1724), прысвечаную Антонію Казіміру Сапегу і заснаваную на працах Война Каяловіча, Марціна Бельскага, Марціна Кромера, Мацея Стрыйкоўскага, Барташа Папроцкага, Пятра Пясецкага, Шымана Акольскага, Шымана Старавольскага і інш. гісторыкаў. Выводзіў род Сапегаў ад вял. князя літ. Гедзіміна, пералічыў рэліг. фундушы Сапегаў. Твор М. цалкам перадрукаваны Янам Астроўскім-Данейкавічам у 2-і том зборніка «Пераканальная лаціна» («Svada Latina», Люблін, 1747).

**Младзяноўскі** Андрэй (30.11.1627, Ковенскі пав.—10.1.1686), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік-лацініст. З шляхецкага роду герба «Дамброва», сын Войцеха Младзяноўскага, уладальніка маёнтка Лінкава каля Коўна. Вучыўся ў Ковенскім езуіцкім калегіуме. У 1642 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. У 1644—46 вучыўся ў Віленскай акадэміі, у 1646—49 — у Пінскім калегіуме. У 1649—51 выкладаў у Коўне і Оршы. З 1651 вывучаў тэалогію ў Вільні. У сувязі з *вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1655 з'ехаў у Чэхію, у 1655—56 вучыўся ў Оламаўцы, з 1656 ксёндз. Спаведнік палякаў і праф. сінтаксіса ў Вроцлаве (1656—57), праф. паэтыкі ў Опаве (1657—58), праф. рыторыкі ў Свідніцы (1659—60), праф. рыторыкі і прэфект школы ў Коўне (1660—61) і Крожах (1661—62), прэфект школы ў Крожах (1668—71), праф. рыторыкі для клірыкаў-езуітаў у Полацку (1672—74) і Нясвіжы (1674—75), праф. тэалогіі ў Нясвіжы (1675—76), суперыёр у Коўне (1676—78, 1680—83), прэфект школы ў Крожах (1678—79), намеснік магістра навіцыята ў Вільні. Здольны лацінамоўны паэт, М. выконваў ролю афіцыйнага панегірыста ордэна езуітаў. Сярод яго твораў: панегірыкі ў гонар заняцця Казімірам Пацам жамойцкага біскупства «Айчынная Жамойцкага княства ўпрыгожанні, у ганар Казіміра Паца» («Domestica Samogitiae Ducatus ornamenta, in venerationem decorum... Casimiri Pac», Мітава, 1668), у гонар Міхала Паца «Ваенная дапамога ад польскіх і літоўскіх родаў абаронччых» («Suppetiae militares ex Divis Polonae Lituanaeque gentis Tutelaribus», Вільня, 1671), у гонар заняцця Казімірам Янам Сапегам пасады ваяводы «Прадказанні грамадскіх надзей пана Казіміра Яна Сапегі» («Auguria spei publicae D. Casimiro Joanni Sapieha», Вільня, 1673); «Сімвалічныя выявы жыцця і смерці блажэнага пакутніка Іасафата, архіепіскапа полацкага» («Icones Symbolicae vitae et mortis B. Josaphat martyris archiepiscopi Polocensis», Вільня, 1675). Аўтар школьных драм, у 1669 у Крожскім калегіуме пастаўлена яго драма «Пра Трэбелія, сына балгарскага караля» («De Trebelii Bulgariae regis filio»). Аўтар рукапіснага твора «Трактат маральнай тэалогіі. Пра таінствы» («Tractatus theologiae moralis. De sacramentis»).

*Літ.*: O k o ń J. Dramat i teatr szkolny: sceny jezuickie XVII wieku. Wroclaw etc., 1970.

**Младоўскі** (С т р у с ь - М л а д о ў с к і) Антанін (свецкае А д а м; 15.8.1724, Валынь—12.7.1778), дзеяч уніяцкай царквы. З шляхецкага роду герба «Мурдэлія». Нарадзіўся ў каталіцкай сям'і. Падлеткам уступіў у ордэн базыльян (Літ. правінцыі). У 1740—43(45?) вывучаў тэалогію і філасофію ў Грэчаскім калегіуме ў Рыме. Магчыма, атрымаў ступень д-ра тэалогіі. З 1747(?) святар, праф. і прапаведнік у базыльянскіх кляштарах (у 1749 праф. філасофіі і прэфект школы ў Жыровічах). У 1751 прызначаны мітрапалітам Фларыянам Грабніцкім на пасаду вікарыя і генеральнага афіцыяла мітрапаліцкай архіепархіі (займаў яе да 1762), адначасова з 1751 архімандрыт полацкі (загадваў Полацкім Барысаглебскім манастыром, які трымаў да 1766—68). Па даручэнні мітрапаліта бараніў інтарэсы уніяцкай царквы на соймах Рэчы Паспалітай. У 1761 пера-



даў каралю польскаму і вял. князю літ. Аўгусту III 60 тыс. злотых за згоду на абнародванне папскага дэкрэта, што забараняў уніятам пераходзіць на лацінскі абрад. У 1758 епіскап пінскі і тураўскі Юрый Булгак прызначыў М. сваім каад'ютарам (памочнікам), саступіўшы яму пасаду архімандрыта Супрасльскага манастыра (М. займаў яе да смерці). У 1761 Грабніцкі пасвяціў М. як епіскапа-каад'ютара пінскага з правам наступства і тытулам епіскапа тураўскага. М. ўдзельнічаў у кангрэгацыі уніяцкіх іерархаў у Навагародку ў 1761, узначальваў камісію, якая ў 1765 выпрацавала праект пастановы сабору уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай, што прадугледжваў шэраг рэформ, аднак сабор скліканы не быў. У 1764 мітрапаліт ФеліцыянВаладковіч прызначыў М. сваім каад'ютарам з правам наступства на пасаду епіскапа уладзімірскага і берасцейскага. У выніку гэтага ў 1765 М. афіцыйна адмовіўся ад тытула епіскапа-каад'ютара пінскага і епіскапа тураўскага і атрымаў тытул епіскапа берасцейскага. М. падтрымліваў кантакты з правасл. архіепіскапам Георгіем Каніскім, якому быццам паведамляў пра гатоўнасць уніятаў прыняць праваслаўе. У 1767 мітрапаліт Валадковіч прызначыў М. генеральным адміністратарам Уладзімірска-Берасцейскай епархіі, а папа Клімент XIII — яе апостальскім адміністратарам. З боку Валадковіча гэта быў вымушаны крок, і ў наступныя гады мітрапаліт вёў змаганне з М. (часам з выкарыстаннем узброенай сілы) за права карыстацца даходамі з гэтай епархіі. У 1772 паміж Валадковічам і М. заключана пагадненне, паводле якога М. атрымаў поўную юрысдыкцыю над Уладзіміра-Берасцейскай епархіяй, а пасля смерці Валадковіча (13.2.1778) стаў і фармальна ўладзіміра-берасцейскім епіскапам. У сувязі з сял. і казацкімі хваляваннямі ва Украіне М. разам з уніяцкімі епіскапамі Львом Шаптыцкім і Сільвестрам Любянецкім выступіў з пратэстам супраць абвінавачванняў уніяцкага духавенства ў падбухторванні насельніцтва да бунтаў. М. ініцыіраваў стварэнне ў 1775 капітула пры Берасцейскім кафедральным саборы.

**Млечкі**, шляхецкі род герба «Даліва» змененая («Ружы»). Паходзілі з Жамойці. Найб. вядомыя:

Ян Войцехавіч (?—1588), пісар земскі упіцкі ў 1566—80, суддзя земскі віленскі з 1580.

Андрэй (?—да 3.12.1622), сын Яна Войцехавіча, суддзі земскага Віленскага ваяв., падстарасты жамойцкага. Вызнаваў кальвінізм. Дваранін каралеўскі ў 1597, упіцкі войскі ў 1600—08, суддзя земскі з 1608. У 1612 упіцкі соймік абраў Андрэя на працу ў Вільні па карэктуры законаў і зверку кніг Метрыкі ВКЛ. Сойм 1613 уключыў яго ў склад камісіі па разглядзе памежных спрэчак Упіцкага пав. і Курляндыі. У 1616 прызначаны ў склад камісіі па разглядзе спрэчак паміж курляндскімі герцагамі і іх падданымі, праца камісіі скончылася выданнем у 1617 дакументаў, якія рэгулявалі лад праўлення ў Курляндыі. Валодаў маёнткамі Сурвілішкі, Памушы, Параві, Мілейкішкі, Вадоклі ва Упіцкім пав., Таўтыкунцы ў Жамойці, Кумпінкі (Суботнікі) у Вількамірскім пав. і інш. Яго жонка Ганна Сямёнаўна Шыш-Ставецкая пабудавала мураваную правасл. царкву Сашэсця Св. Духа і манастыр у сваім маёнтку Сурдэгі ў Вількамірскім пав.

Ян (?—пач. 1631), сын Яна Войцехавіча. Вызнаваў кальвінізм. Стольнік упіцкі ў 1592—13, жамойцкі пісар земскі з 1604, суддзя земскі з 1614. Паводле пастаноў соймаў 1613 і 1616 уваходзіў у склад камісіі па разглядзе памежных спрэчак Упіцкага пав. і Курляндыі. Абраны паслом на 1-ы сойм 1626, на якім прызначаны ў Скарбовы трыбунал ВКЛ.

Мікалай (?—крас. 1644), сын Яна Войцехавіча. Аршанскі харужы ў 1610—27, падкаморы з 1627. Служыў канцлеру Льву Сапегу, які, стаўшы ў 1623 віленскім ваяводам, узяў Мікалая да сябе на пасаду падваяводы (1623—28). Валодаў маёнткам Сурдэгі ў Вількамірскім пав., з 1620 — маёнткам Халопенічы ў Аршанскім пав. Да пач. 1640-х г. заснаваў у Халопенічах касцёл і кляштар кармелітаў.

Віктар Канстанцін (Віктарын Канстанцін; ?—да 23.6.1679), сын Яна. Спачатку вызнаваў кальвінізм, пасля перайшоў у каталіцтва. Служыў пры двары Уладзіслава IV, струкчашы каралеўскі ў 1643, жамойцкі падстараста з 1643, падсудак земскі з 1645, суддзя з 1652, староста з 1670. Пасол на соймы 1648, 1649. Падпісаў акт *Кейданскай уніі 1655* са Швецыяй. У 1656 далучыўся да антышведскага паўстання ў Жамойці, пад Біржамі абраны генеральным палкоўнікам жамойцкага паспалітага рушэння, асабіста камандаваў гусарскай харугвай. Абраны паслом на соймы 1658, 1661 (на іх прызначаны ў Скарбовы трыбунал ВКЛ), 1667, 1668, 1669, 1670. Падтрымліваў групоўку Пацаў. Валодаў маёнткамі ў Жамойці, Халопенічамі ў Аршанскім павеце.

*Літ.*: Брэгер Г. Хацюхова: гісторыя невялікага паселішча. Мінск, 2001; Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej. R. 1—2. W Poznaniu, 1879—80; Mleczko S. Mleczko, Raczko, Saczko i Łyczko // Miesięcznik Heraldyczny. 1912. № 7—12.

**Млоцкі** Андрэй (каля 1570—пасля 1636), дзяржаўны і ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Праўдзіц», сын Мацея, дзядзька Яна Караля *Млоцкага*. У 1580-х г. удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—83*. Пасля ваяваў у Інфлянтах у час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, удзельнічаў у пераможнай *Кірхгольмскай бітве 1605* як паручнік гусарскай роты. У 1606 далучыўся да вайсковай канфедэрацыі, якая патрабавала ад караля выплаты жолду (жалавання). У 1608—10 ваяваў у Расіі на баку Лжэдзмітрыя II на чале гусарскай і казацкай рот (300 чал.). 25.6.1609 войска М. разбіла пад Каломнай атрады Пракопа Ляпунова. У пач. 1610 перайшоў на бок караля Жыгімонта III, які вёў аблогу Смаленска, у чэрв. 1610 перайшоў пад камандаванне гетмана Станіслава Жулкеўскага. Удзельнічаў у пераможнай Клушынскай бітве 1610, пасля заняцця Масквы ўстанавіў кантроль над Белым Горадам. У Маскве вёў шматлікія баі. Знаходзіўся там да жн. 1612, пасля адышоў з войскамі Яна Караля Хадкевіча. У ліст. 1612 удзельнічаў у паходзе на Маскву Жыгімонта III. У пач. 1613 М., відаць, удзельнічаў у стварэнні канфедэрацыі ў войску Хадкевіча, якая патрабавала выплаты жолду. З 1607 атрымліваў штогод 8 тыс. злотых з Хельмецкага староства



ў Інфлянтах, пасля яго заняцця шведамі атрымаў Аршанскае староства, дзе актыўна займаўся гаспадаркай. Абраны паслом ад Аршанскага пав. на сойм 1629. У 1636 заснаваў *Аршанскі кляштар бернардзінцаў*.

**Млоцкі** Сімяон (свецкае С т а ф а н; ?—пасля 1804), дзеяч уніяцкай царквы. З шляхецкага роду герба «Праўдзіц». Уступіў у базыльянскі ордэн. З 1779 епіскап уладзімірскі і берасцейскі. Пры кіраванні епархіяй абапіраўся на базыльян, прызначаў іх на важнейшыя епархіяльныя пасады, што выклікала канфлікты з епархіяльным капітулам і свецкім духавенствам. У 1790 удзельнічаў у Варшаве ў нарадах епіскапаў, прысвечаных рэформе уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай, прапанаванай *Чатырохгадовым соймам 1788— 92*. 20.3.1792 падпісаў у Берасці разам з інш. уніяцкімі епіскапамі петыцыю да караля польскага і вял. князя літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага з просьбай не ўстанаўліваць у Рэчы Паспалітай новую правасл. іерархію. У лют. 1794 старшынстваваў на апошнім з'ездзе уніяцкіх епіскапаў і архімандрытаў Рэчы Паспалітай ва Уладзіміры. Пасля скасавання Кацярынай II у 1795 уніяцкіх епархій М. атрымаў штогадовую пенсію ў 3 тыс. руб., жыў на Валыні. Па ініцыятыве папскага нунцыя Л.Літы ў 1797 напісаў «Рэляцыю пра праследаванне» уніятаў сваёй епархіі, якіх гвалтам пераводзілі ў праваслаўе. Пасля ўстанаўлення Паўлам I у 1797 Луцкай уніяцкай епархіі дапамагаў яе кіраўніку Стафану Лявінскаму ў епіскапскіх абавязках.

**Млоцкі** Ян Кароль (?—пасля 1675), дзяржаўны і ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Праўдзіц», сын Войцеха, пляменнік Андрэя *Млоцкага.* У маладосці паступіў на службу да канцлера ВКЛ Альбрыхта Станіслава Радзівіла і заставаўся яго кліентам надалей. Карыстаўся пасля дзядзькі тытулам старасты хельмецкага. Дзякуючы пратэкцыі Радзівіла прызначаны каралём польскім і вял. князем літ. Уладзіславам IV сакратаром Метрыкі ВКЛ вялікай, вёў кнігу запісаў 1651—55. У 1648 удзельнічаў у абранні Яна II Казіміра. У 1649 і 1653 у якасці ганца наведаў з дыпламатычнымі даручэннямі Маскву. Падстолі цеханоўскі з 1649. Пасол на соймы 1654, 1658 (абраны ў склад Скарбовага трыбунала ВКЛ), 1661, 1669 (удзельнічаў у абранні караля польскага і вял. князя літ. Міхала Вішнявецкага), 1673, 1674 (удзельнічаў у абранні караля польскага і вял. князя літ. Яна III Сабескага). Удзельнічаў у антышведскім паўстанні ў Жамойці ў 1656. Пасля смерці Радзівіла (1656) прызначаны замест яго старастам пінскім. Сабраў вял. б-ку, дзе былі рэліг. і гіст. творы, гаспадарчыя працы, творы лацінскіх і польскіх паэтаў.

**млын**, вытворчая пабудова для памолу зерня. Прыводзіўся ў рух энергіяй вады (вадзяны М.), ветру (вятрак), цяглавай сілай жывёл (валовы М.) і інш. Асн. рабочы орган — пастаў з 2 камянёў з вертыкальнай воссю вярчэння (ніжні камень нерухомы). З часоў Кіеўскай Русі на тэр. Беларусі бытавалі вадзяныя М., якія значна пашырыліся ў 16—18 ст.; будаваліся на рэках, праточных азёрах. Падзяляліся на М. з верхнім боем (кола прыводзілася ў рух сілай падаючай вады) і з ніжнім боем (кола прыводзілася ў рух хуткай плынню вады). Апошнія маглі быць наплаўныя (стаялі на рэчцы на палях або пароме, маглі перамяшчацца). Традыц. збудаванне М. — зрубная, радзей каркасная прамавугольная ў плане пабудова на некалькі паверхаў, накрытая двух- або шматсхільным дахам з драніцы, гонты, саломы. Некаторыя М. будавалі ў тэхніцы «прускага муру» (фахверк). У 16—18 ст. у буйных гарадах М. часам выкарыстоўвалі для падачы вады ў замак (Берасце), абсталёўвалі абарончымі прыстасаваннямі (Віцебск). У 18 ст. буйныя М., акрамя вытворчых, мелі жылыя памяшканні, каморы, крамы. Ветракі ў ВКЛ вядомы з 16 ст. Складаліся з 2 асн. частак: нерухомай асновы і паваротнай часткі з крыламі, якую можна было развярнуць на вецер. У 1777 у Берасцейскім старастве існавалі 34 ветракі. Валовы М. вядомы з 18 ст. Гэта быў прамавугольны або квадратны ў плане будынак, накрыты 2-схільным ці вальмавым дахам. Пад вагой вала паступальны рух кола (было насаджана на тоўсты нахілены да вертыкалі дубовы вал) пераўтвараўся з дапамогай шасцерневых перадач у вярчальны рух верхняга каменю пастава (в. Соша пад Драгічынам, Радзівілімонты пад Клецкам). Вадзяныя колы, як на М., выкарыстоўваліся для вытворчасці круп, апрацоўкі сыравіны для прыгатавання паперы (паперні), сукна (гл. *Фолюш*), распілоўкі лесаматэрыялаў (тартакі).

*Літ.*: М і н ь к о Л.І. Млыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 2; Я к і м о в і ч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся. Мінск, 1978; Т р а ц е в с к и й В.В. История архитектуры народного жилища Белоруссии. Минск, 1989; Л о к о т к о А.И. Белорусское народное зодчество: середина XIX— XX в. Минск, 1991; Я г о ж. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мінск, 1999; С е р г а ч е в С.А. Белорусское народное зодчество. Минск, 1992; B a r a n o w s k i B. Polskie młynarstwo. Wrocław etc., 1977.



**Млын** у Беларусі. Малюнак І.Г.Мюнца. 1781.

**Мовіус** Каспер (?, г. Пархім каля Мекленбурга—крас. 1639), дзеяч лютэранскай царквы, педагог, пісьмен-

нік. З 1607 вучыўся ва ун-це Ростака, атрымаў там ступень магістра філасофіі (1615). У 1617—18 конрэктар кафедральнай школы ў Караляўцы. У 1618—32 пастар лютэранскага збора ў Коўне. З 1624 удзельнічаў у вострай тэалагічнай спрэчцы наконт таінства хрышчэння, выдаў кнігу «Пра сакрамент хрышчэння» («De sacramento baptismi», Каралявец, 1624). У 1632 пазбаўлены парафіі ў Коўне з прычыны дрэнных адносін з парафіянамі. Прыбыў у Каралявец, дзе арыштаваны па абвінавачванні ў незаконным карыстанні ступенню ліцэнцыята тэалогіі і абразе праф. Каралявецкага ун-та Цэлестына Мысленты. Хутка быў вызвалены, але ў 1634 апублікаваў у Торуні кнігу «Апалогія», дзе зноў востра раскрытыкаваў каралявецкіх тэолагаў. Справа дайшла да каралеўскага суда, які засядаў у 1639 у Вільні. У час яго правядзення М. памёр.

**Молер** (Мёлер) Цырыяк (?, г. Левача, Славакія — пасля 1605), дзеяч кальвіністкай царквы, педагог, паэт. Месца вучобы невядома, меў ступень магістра вызваленых навук. Прынамсі з 1589 жыў у ВКЛ. Прыкладна з 1590 выкладчык (рыторыкі і паэтыкі?) у Віленскай кальвіністкай гімназіі, у 1599 яе рэктар. Аўтар акалічнасных лацінскіх вершаў, у т.л. ў гонар Яна Ліцынія *Намыслоўскага* (надрукаваны ў зборніку Намыслоўскага «Сентэнцыі», Лоск, 1589), з выпадку смерці смаленскага ваяводы Яна Абрамовіча (надрукаваны ў зборніку «Iusta funebria», 1602), «Пахавальная песня» Крыштофу Радзівілу Перуну («Epicedion in obitum», 1604). Выдаў нямецкі пераклад твора Марціна *Кравіцкага* «Апалогія больш вялікая» («Apologia das ist Verantwertung», Вільня, 1602).

**Мольцфельд** (Moltzfeldt) Герман, ліцейшчык *Нясвіжскай людвісарні*. У 1597—1603 адліў там гарматы «Хімера», «Мелузіна» (на іх стаіць імя майстра), «Гідра», «Цэрбер», «Папугай», «Вінаград» («Келіхі»), «Цырцэя», «Сыч», «Святы Мікалай», «Святы Хрыстафор» і інш., а таксама званы. У апрацоўцы выяў і надпісаў на гарматах яму дапамагаў злотнік Стафан. Формы для адліўкі гармат апрацоўваў рэзчык Філіп. М. атрымліваў ад уладальніка людвісарні Мікалая Крыштофа *Радзівіла* Сіроткі 20 злотых штогод і 12 злотых на сукно. Адносна невысокая аплата М. сведчыць пра малаверагоднасць таго, што ён быў аўтарам мастацкага аздаблення гармат.



Г.**Мольцфельд**.
Гарматы «Цырцэя» і «Хімера».

*Літ.*: B e r s o h n M. Dawna zbrojownia Książąt Radziwiłłów w Nieświeżu. Warszawa, 1904; B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924; B e r n a t o w i c z T. Monumenta variis Radivillorum: Wyposażenie zamku nieświeskiego w świetle źródeł archiwalnych. Cz. 1. Poznań, 1998.

**Монвід** (каля 1314—2.2.1348), літоўскі князь. Сын вял. князя літ. *Гедзіміна*. Бел.-літ. летапісы змяшчалі яго на 1-м месцы пры пералічэнні сыноў Гедзіміна, з чаго генеалогі рабілі выснову, што М. быў яго старэйшым сынам. Т.Васілеўскі лічыў, што М. быў малодшым сынам Гедзіміна і тоесным гарадзенскаму кн. Патрыцыю Нарымунтавічу, што не падтрымалі інш. навукоўцы. Паводле адных летапісаў, М. атрымаў ад Гедзіміна ва ўдзел Карачаў і Слонім, паводле інш. — Кернаў і Слонім, что больш верагодна. На думку Я.Тэнгоўскага, М. пакончыў з сабой у *бітве на Стрэве 1348* з крыжакамі.

*Літ.*: T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

**Мора** Антоній (?—пасля 1562), ваенны інжынер. Паходзіў з Іспаніі. З 1548 на службе ў вял. князя літ. і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста. Атрымаў заданне аганізаваць флатылію на Дняпры, якая б перашкаджала крымскім татарам перапраўляцца цераз раку. У 1551 кіраваў будаўніцтвам замка ў Чаркасах. У 1552—56 камандаваў пяхотнай ротай у Камянцы-Падольскім. У 1559 каралеўскі рэвізор замкаў, якія лівонскі герцаг Готард Келер і рыжскі арцыбіскуп Вільгельм Гогенцолерн перадавалі Жыгімонту II Аўгусту. У 1560—62 камандаваў гарнізонам Парнавы — ключавога замка ў Эстоніі, якой пагражала Швецыя. Не здолеўшы яго ўтрымаць, М. з'ехаў у Германію. Далейшы яго лёс невядомы.

*Літ.*: J a s n o w s k i J. Antoni Mora, Hiszpan w służbie Zygmunta Augusta // Przegląd Historyczno-Wojskowy. Warszawa, 1936. R. 9.

**Морцфельд** Фрыдрых (23.8.1643, в. Дрвенцк каля Аструды, Мазуры—28.7.1691), дзеяч лютэранскай царквы, пісьменнік. У 1655—59 вучыўся ў кафедральнай школе на Кніпаве ў Караляўцы, пасля да 1662 працаваў пры ёй, потым быў хатнім настаўнікам. У 1659, 1663 і 1666 запісваўся ў Каралявецкі ун-т, але з-за матэрыяльных цяжкасцей хутка пакідаў яго. У 1666 перасяліўся ў Вільню, у 1668—72 рэктар школы пры мясц. лютэранскім зборы. Ян *Гербініус* далучыў яго да працы над кнігай «Катэхізны гадзіннік» («Zygar katechizmowy», 1675). Пасля ў Каралаўцы займаўся выкладаннем польскай мовы. У 1675—76 пастар збора ў Мілках каля Гіжыцка (Польшча). З 1676 дыякан польскага збора св. Мікалая на Штайндаме ў Каралаўцы. Рыхтаваў да друку «Нававыдадзены канцыянал» («Nowowydany kancyonał», Каралявец, 1684), працу над якім распачаў Ежы Скродскі, але не здолеў яе скончыць з-за смерці. Тут змешчаны песні Яна Казіміра *Маліны*, Гербініуса, Андрэя *Шонфлісіуша*, Скродскага; М. пераклаў на польскую мову 88 песень.

**Морштын** Ш ч э н с н ы (Фелікс, першапачатковае імя Фаўст; каля



1631—27.4.1687), дзяржаўны і пратэстанцкі дзеяч, дыпламат. З шляхецкага роду герба «Ляліва», стрыечны брат З.*Морштына*. Арыянскі сінод у 1646 уключыў М. ў склад стыпендыянтаў, а ў 1650 накіраваў яго ў Гданьск як памочніка прапаведніка. У 1652 яму вылучана 100 талераў на навуку, і М. паступіў у гімназію ў Эльблёнгу, а ў 1654 — ва ун-т у Лейдэне. Вярнуўся ў 1660, паступіў на службу да кн. Багуслава Радзівіла, у якога ўжо служыў Збігнеў Морштын. Працаваў у радзівілаўскай канцылярыі ў Караляўцы. У 1661 перайшоў з арыянства ў кальвінізм, атрымаў пасаду падканюшага ВКЛ. У 1662 і 1663 выязджаў у Львоў на каралеўскі двор па маёнткавых і вайсковых справах Радзівіла, а ў 1666 — у Гданьск. У 1663 атрымаў у арэнду ад Радзівіла фальварак Беласточак каля Заблудава. З 1670 войт г. Бранск на Падляшшы. У 1670 і 1673 пасол ад караля польскага і вял. князя літ. Міхала Вішнявецкага да брандэнбургскага курфюрста. У 1676 пасол да курфюрста ад Радзівілаў па справе Людвікі Караліны Радзівіл (курфюрст быў яе апекуном). Удзельнічаў у абранні на трон Рэчы Паспалітай у 1674 Яна III Сабескага. У 1677 дамогся ад яго прывілея на вольнае вызнанне пратэстантызму ў ВКЛ. У 1679 пасланы Янам III Сабескім у Англію, Галандыю і Швецыю з даручэннем заключыць антытурэцкі саюз, чаго, аднак, не здолеў дамагчыся. Дзейнасць М., накіраваная на абарону пратэстанцкіх цэркваў у Рэчы Паспалітай, у значнай ступені садзейнічала падтрыманню ў краіне рэліг. талерантнасці.

**Мсціслаўскае паўстанне 1651**. Адбылося падчас *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Напрыканцы мая і ў пачатку чэрв. 1651 полк укр. казакоў колькасцю 3—4 тыс. чал. пад кіраўніцтвам І.Шохава праз тэр. Рас. дзяржавы падышоў да Смаленскага ваяв. ВКЛ. 16 чэрв. казакі атакавалі гарнізон Рослаўля і авалодалі горадам. Адсюль Шохаў накіроўваў казацкія атрады пад Смаленск, Крычаў і Мсціслаў, што падштурхнула мясц. насельніцтва да паўстання. Да казакоў актыўна далучаліся сяляне, у т. л. ў Рослаўлі — 1,5 тыс. чал. За кошт мясц . паўстанцаў на Мсціслаўшчыне сфарміраваўся атрад у 6—7 тыс. чал. Пры дапамозе сялян казацкія атрады нападалі і рабавалі шляхецкія маёнткі, «а тых загонных чаркаскіх людзей па шляхецкіх маёнтках водзяць нашы ж шляхецкія слугі і мужыкі, якія да чаркасаў далучаюцца». У чэрв.—ліп. паўстанцы захапілі і разрабавалі Крычаў, Шклоў, паспрабавалі авалодаць Мсціславам, пагражалі Смаленску і Магілёву. Высланы супраць паўстанцаў атрад войска ВКЛ разам з мясц. шляхтай быў разбіты ў ходзе *Крычаўскіх баёў 1651*. Спробы ўрадавых сіл палепшыць абараназдольнасць шляхецкага апалчэння за кошт выбранцаў не апраўдаліся, падчас аднаго з баёў выбранцы перайшлі на бок паўстанцаў. Пасля замацавання на Мсціслаўшчыне казакі мелі намер напасць на Рэчыцкі лагер Януша Радзівіла і пакінуць у рэгіёне толькі атрады мясц. паўстанцаў. З падпісаннем Белацаркоўскага дагавора і вываду ўкр. казацкіх загонаў з ВКЛ паўстанне было задушана.

*Літ.*: Шчарбакоў В.К. Сялянскі рух і казацтва на Беларусі ў эпоху феадалізма. Менск, 1935; Лочмель И.Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов. М., 1940; Шуляковский Х.Г. Из истории борьбы белорусского народа с польским панством в XVII веке // Ученые записки ЛГУ. Ленинград, 1940. Т. 67; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978. ***Сяргей Чаропка.***

**Мсціслаўская бітва 1501**. Адбылася 4 ліст. ў ходзе *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. У 2-й пал. 1501 вял. князь маскоўскі Іван III прадпрыняў наступленне на ўсх. Беларусь, карыстаючыся адсутнасцю ў ВКЛ вял. кн. Аляксандра, які быў абраны каралём польскім і выехаў у Польшчу. Рас. групоўка была сканцэнтравана ў Старадубе, дзе, акрамя войск мясц. князёў Сямёна Старадубскага і Васіля Шамячыча, былі сабраны войскі на чале з велікакняжацкімі ваяводамі князямі Аляксандрам Уладзіміравічам Растоўскім, Сямёнам Іванавічам Варанцовым і інш. Яны былі накіраваны на Мсціслаў, куды падышлі 4.11.1501. Насустрач ім з горада выйшлі войскі ВКЛ над камандаваннем кн. Міхаіла Іванавіча Заслаўскага і ваяводы Астафія Дашкевіча. У бітве перамаглі маскоўскія войскі (згодна з маскоўскімі крыніцамі, было забіта 7 тыс. чалавек літ. войска, што з'яўляецца відавочным перабольшваннем). Аднак з-за ўпартага супраціўлення абаронцаў узяць Мсціслаў маскоўскія войскі не здолелі і пасля спалення пасадаў і спусташэння ваколіц горада адышлі назад.

*Літ.*: Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий: (очерки социально-полит. истории). М., 1982. С. 190; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995. С. 181—182.

**Мужылоўскі** Сілуян Андрэевіч (пач. 17 ст., г. Слуцк—1655?), украінскі казацкі вайсковы дзеяч, дыпламат, адзін з набліжаных дарадцаў Б.Хмяльніцкага. Сын бел. правасл. пісьменніка-палеміста, слуцкага пратапопа Андрэя *Мужылоўскага*. Актыўны ўдзельнік вызваленчай вайны ўкр. народа 17 ст. На пач. 1649 удзельнічаў у дыпламатычнай місіі ўкр. казакоў да цара Аляксея Міхайлавіча. Неаднаразова ўзначальваў казацкія пасольствы ў Крымскае ханства, Малдаўскае княства, Рас. дзяржаву. Пасля заключэння *Збораўскага дагавора 1649* узначаліў казацкае пасольства ў ВКЛ. У выніку сустрэчы М. з Янушам Радзівілам, якая адбылася ў Лоеве ў жн. 1649, казацкія загоны былі выведзены з тэр. ВКЛ. У 1654—55 удзельнічаў у паходзе ўкр. казакоў пад кіраўніцтвам Івана *Залатарэнкі* ў ВКЛ. Лёс М. пасля 1655 дакладна невядомы. Паводле адных звестак, быў забіты Залатарэнкам падчас аднаго з канфліктаў, паводле інш. — у 1657 знаходзіўся на службе ў гетмана Івана *Выгоўскага*.

*Літ.*: Мицик Ю.А. Силуян Мужиловський // Полководці війська Запорозького: історичні портрети. Кн. 1. Київ, 1998. ***Сяргей Чаропка.***

**Мужыноўскі** Войцех ( каля 1620, Мазовія—пасля 1657), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, пісьменнік. У 1635 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў, ксёндз. Праф. яўрэйскай і грэчаскай моў у Браневе, прэфект школы ў Віцебску (1653—54). У 1654 выведзены маскоўскімі войскамі з Віцебска ў няволю, з якой не вярнуўся. Аўтар пане-



гірыка ў гонар Юрыя Глябовіча «Optimum Severiae et Patriae augurium» (Вільня, 1643), твора «Versio Slavonica operum SS. Patrum Graecorum», пахавальнага казання «Eques immotalitaten assecutus» (Вільня, 1652).

**Мундзіус** Лукаш (?—пасля 1578), дзеяч гарадскога самакіравання і пратэстанцкай царквы. Сын віленскага мешчаніна Марціна. Прыкладна з 1551 М. быў членам гар. рады Вільні. Ад авантурыста Якуба Гераклідэса Базылікаса, «дэспата» астравоў Самас і Паксі ў Эгейскім моры, атрымаў ступень д-ра права. У пач. 1560-х г. М., займаючы пасаду бурмістра, знаходзіўся ў вострым канфлікце з віленскім войтам Аўгусцінам *Ратундусам* і некаторымі членамі Віленскай рады. Ратундуса М. абвінавачваў у выданні суд. выракаў без уліку думкі гар. рады. М. апеліраваў да караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта II Аўгуста, аднак той прыняў бок Ратундуса, і М. быў выведзены са складу рады, пасля зняволены, а на яго маёмасць накладзены секвестр. М. быў вызвалены дзякуючы ўмяшальніцтву Мікалая Радзівіла Чорнага. М. безвынікова дамагаўся пачаць суд. працэс супраць сваіх ворагаў у велікакняжацкай канцылярыі, а пасля звярнуўся за дапамогай да прускага герцага Альбрэхта. У 1563 атрымаў падтрымку ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда I і чэшскага караля Максіміляна. Іх лісты, аднак, не дапамаглі М., як і наступны ліст Альбрэхта ў 1565. М. вызнаваў лютэранства, пасля перайшоў у лагер антытрынітарыяў, удзельнічаў у арыянскім сінодзе ў Ракаве ў 1569. У 1578 М. разам з жонкай арыштаваны ў Вільні, а яго маёмасць перададзена крэдыторам. М. безвынікова прасіў пра заступніцтва караля польскага і вял. князя літ. Стэфана Баторыя. Далейшы яго лёс невядомы.

**Мцэнскае і Любуцкае намесніцтва**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у пач. 15—пач. 16 ст. Складалася з 2 частак, якія не мелі агульных межаў; размяшчалася ў вярхоўях р. Ака ў атачэнні *Вярхоўскіх княстваў*, на Пн па р. Ака межавала з Вял. княствам Маскоўскім. Цэнтр намесніцтва быў у Мцэнску, Любуцк меў асобнага намесніка (у 1488 ім быў Васіль Іванавіч Пратасьеў), які падпарадкоў-ваўся мцэнскаму. М. і Л.н. створана пасля *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406— 08*. Магчыма, першапачаткова ў склад намесніцтва ўваходзіў толькі Мцэнск з ваколіцамі, і толькі ў сярэдзіне 15 ст. да яго быў далучаны Любуцк з акругай. Першы намеснік (ваявода) Мцэнска — Рыгор Пратасьеў (Пратасьевіч) — упамінаецца з 1422. Яго гал. справай была барацьба супраць татарскай небяспекі, але ў час Бялёўскай бітвы 1437 паміж татарамі і маскоўцамі ён стаў на бок хана Улу-Мухамеда, ад чаго маскоўскае войска пацярпела паражэнне. Такім чынам, другім кірункам дзейнасці мцэнскага намесніка было аслабленне ўлады Масквы ў рэгіёне Верхняй Акі. Іншымі мцэнскімі і любуцкімі намеснікамі былі: Іван Юр'евіч Трубяцкі (1486—90), Барыс Сямёнавіч Аляксандраў (да жн. 1492), Немір Якубавіч (1494), Багдан Сямёнавіч Сапега (1494— 96). У час вайны паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ 1486—94 М. і Л.н. было гал. асяродкам улады ВКЛ у рэгіёне Верхняй Акі. Наваколле Любуцка, дзе цераз р. Ака праходзілі зручныя броды, актыўна выкарыстоўвалася для нападзенняў на памежныя землі Вял. княства Маскоўскага. З боку Мцэнска для аслаблення маскоўскай граніцы са стэпам у канцы 15 ст. ажыццяўляліся пагромы старожаў на рэках Шаць і Данец і каля г. Алексін. Ад абараназдольнасці М. і Л.н. залежала вернасць мясц. князёў, таму асн. маскоўскія паходы былі накіраваны непасрэдна на яго цэнтры. У 1486 Мцэнск спалены людзьмі вял. князя разанскага. У жн. 1492 Мцэнск і Любуцк захоплены і спалены маскоўскім ваяводай Фёдарам Целяпнёй-Абаленскім, іх насельніцтва ўведзена ў палон, і ў выніку найб. уплывовыя вярхоўскія князі (Варатынскія) перайшлі на маскоўскую службу. Да пач. 1494 М. і Л.н. падначалена Маскве, але паводле дагавора 5.2.1494 вернута ў склад ВКЛ. Тэр. М. і Л.н. аказалася фарпостам ВКЛ, прасунутым на правы бок р. Ака, пры гэтым Любуцк быў анклавам. У 1500 Мцэнск двойчы заняты бялёўскімі князямі, якія служылі вял. князю маскоўскаму Івану III, у 2-і раз мцэнскія баяры палічылі за лепшае прысягнуць маскоўскаму гасудару. Любуцк у 1500 захоплены маскоўскім ваяводай Якавам Захар'іным. У 1503 паводле 6-гадовага перамір'я тэрыторыя М. і Л.н. ўвайшла ў склад Вял. княства Маскоўскага.

*Літ.*: Л ю б а в с к и й М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. [М., 1892]; Ш е к о в А.В. Верховские княжества: (крат. очерк полит. истории. XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993.

***Віктар Цемушаў.***

**Мыльнікаў** (Мыльников) Аляксандр Сяргеевіч (24.8.1929, г. Ленінград—3.2.2003), расійскі гісторык. Д-р гіст. навук (1972), праф. (1976). Заслужаны дзеяч навукі Рас. Федэрацыі. Скончыў Ленінградскі ун-т (1952). З 1952 працаваў у Дзярж. публічнай б-цы імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына (з 1992 Рас. нац. б-ка; у 1962—73 заг. аддзела рукапісаў і рэдкіх кніг), з 1973 у Ленінградскай частцы Ін-та этнаграфіі імя М.М.Міклуха-Маклая АН СССР (з 1985 заг. аддзела), з 1992 у Музеі антрапалогіі і этнаграфіі імя Пятра Вялікага (Кунсткамеры; у 1992—97 дырэктар). Выкладаў у Ленінградскім ун-це, Ленінградскім ін-це культуры, Вышэйшай прафсаюзнай школе культуры і інш. З 1991 узначальваў Санкт-Пецярбургскую асацыяцыю беларусістаў. Працы па гісторыі і культуры слав. народаў, грамадскай думкі, гісторыі кнігі, агульных праблем кнігазнаўства. Даследаваў жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны, гісторыю назвы «Белая Русь».

*Тв.*: Павел Шафарик — выдающийся ученый-славист. М.; Ленинград, 1963; Публичная библиотека: 150 лет. Ленинград, 1964 (разам з Ю.С.Афанасьевым); Ф.Скарына і чэшскае кнігадрукаванне // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск, 1968; Рукописные фонды ленинградских хранилищ: крат. справ. по фондам библиотек, музеев, научно-исслед. учреждений. Ленинград, 1970; Чешская книга: очерки истории: (Книга. Культура. Общество). М., 1971; Йозеф Юнгман и его время. М., 1973; Эпоха Просвещения в Чешских землях: идеология, национальное самосознание, культура. М., 1977; Франциск Скорина и Прага // Белорусский просветитель



Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Культура чешского Возрождения. Ленинград, 1982; Легенда о русском принце: (русско-славян. связи XVIII в. в мире нар. культуры). Ленинград, 1987; Аб прычынах паездкі Францыска Скарыны ў Прагу // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 4; Искушение чудом: «русский принц», его прототипы и двойники-самозванцы. Ленинград, 1991; Земля—государство—этнос: Франциск Скорина в контексте этногр. представлений раннего нового времени // Полацк: карані нашага радавода. Полацк, 1996; Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы: этногенетич. легенды, догадки, протогипотезы XVI—начала XVIII века. Санкт-Петербург, 1996 (2 выд. 2000); Народы Центральной Европы: формирование нац. самосознания, XVIII—XIX вв. Санкт-Петербург, 1997; Белорусы: этнос и этноним в пол., нем. и шведской ист. мысли XVI—XVII вв. // Белорусский сборник. Санкт-Петербург, 1998. Вып. 1; Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы: представления об этнич. номинации и этничности XVI—начала XVIII в. Санкт-Петербург, 1999; Петр III: повествование в док. и версиях. М., 2002.

*Літ.*: Александр Сергеевич Мыльников: библиогр. указ. 2 изд. Санкт-Петербург, 2001; Катлярчук А., Нікалаеў М. Gloriosae Memoriae // Arche = Пачатак. 2003. № 2; Горизонтов Л.Е., Стыкалин А.С. Памяти Александра Сергеевича Мыльникова (1929—2003) // Славяноведение. 2003. № 5; Александр Сергеевич Мыльников [некролог] // Новая и новейшая история. 2003. № 4.

**Мышка** (Мышка-Варкоўскі) Міхаіл Фёдаравіч (?—1605), дзяржаўны дзеяч. З сярэднезаможнага шляхецкага роду герба «Корчак» з Валыні. Рана паступіў на службу да караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта II Аўгуста, быў яго дваранінам прынамсі з 1553, адначасова пісар польны гаспадарскі, у 1561—63 падстараста мазырскі, у 1664—66 каралеўскі ротмістр, у 1565— 66 староста рэчыцкі, у 1569 староста гомельскі. Вёў шматлікія памежныя спрэчкі з князямі-суседзямі (Збаражскімі, Сангушкамі, Астрожскімі). У 1561 пачалася сапраўдная вайна паміж М. і кн. Канстанцінам Астрожскім, у якую ўцягнулася шмат шляхты і якая стала ўвасабленнем барацьбы за ўладу паміж валынскай шляхтай і князямі. Жыгімонт II Аўгуст лавіраваў паміж бакамі, умацоўваючы пазіцыі М. і валынскай шляхты, на якую абапіраўся пры заключэнні Люблінскай уніі 1569 і пры далучэнні Валыні да Польшчы. У 1570—71 М. быў спраўцам (выконваючым абавязкі) ваяводы кіеўскага, удзельнічаў у правядзенні люстрацыі ваяводства. У 1572—78 староста оўруцкі, у 1572—1605 кашталян валынскі. Удзельнічаў у абранні каралёў польскіх і вял. князёў літ. Генрыка Валезы і Стэфана Баторыя. Пры іх страціў уплывовае становішча пры двары, але працягваў карыстацца вял. аўтарытэтам у валынскай шляхты. У 1591 абраны дэпутатам Люблінскага трыбунала. У 1598 быў сярод валынскай шляхты, якая пагаджалася на унію з каталіцкай царквой.

**Мышэцкі** (Мышецкий) Даніла Яфімавіч (1608—10.12.1661), расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. З чарнігаўскай лініі Рурыкавічаў. Служыў пры царскім двары. У 1633—40 страпчы, у 1641—43, 1658—60 стольнік. У 1641—43 удзельнічаў у пасольстве ў Грузію, у 1646 — у пасольстве Васіля Іванавіча Стрэшнева ў ВКЛ, у 1652 — у пасольстве ў Персію. У 1656—57 наведаў Курляндыю, Брандэнбург і двойчы Данію для стварэння саюзу супраць шведскага караля Карла V. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1659 прызначаны ваяводам у акупіраваную Вільню. Праводзіў на землях ВКЛ жорсткую палітыку з пазіцыі сілы. У 1660 падрыхтаваў Вільню для аблогі, спаліўшы яе ваколіцы, дзе маглі б укрыцца войскі Рэчы Паспалітай. У пач. 1660 войска М. ўкрылася ў Віленскім замку, дзе вытрымала некалькі штурмаў. 3.12.1661 воіны М., змучаныя працяглай аблогай, звязалі ваяводу і выдалі праціўніку. 8.12.1661 па загаду караля польскага і вял. князя літ. Яна II Казіміра адбыўся суд над М., на якім ён быў прыгавораны да смяротнага пакарання за шматлікія забойствы віленцаў. Быў абезгалоўлены ў Вільні, дзе пахаваны ў Святадухаўскім манастыры.

*Літ.*: Памятники русской старины в западных губерниях. Вып. 6. Вильна, 1874; Касажэцкі К. Кампанія 1660 году ў Літве // Arche = Пачатак. 2006. № 6.

**Мюленхайм** (Рэхберг-Мюленхайм) Гебхард (1599—12.12.1673), гаспадарчы дзеяч. Паходзіў з Эльзаса. Вучыўся ў Страсбургу. З 16 гадоў быў лоўчым пры двары саксонскага курфюрста, з 1622 пры імператарскім двары. З 1625 лоўчы і сакальнічы польскага каралевіча Уладзіслава. У 1635 атрымаў ад яго, як караля польскага і вял. князя літ. Уладзіслава IV, прывілей на пацвярджэнне шляхецкага паходжання, што пацвердзіў сойм 1641. З 1640 загадваў каралеўскімі пушчамі ў Літве. У 1641—68 надворны лоўчы ВКЛ, з 1642 староста бірштанскі, з 1643 пакаёвы дваранін караля. Атрымаў у дзяржаву маёнткі Стрыеўка і Васілішкі, некалькі маёнткаў у Інфлянтах і Літве набыў ва ўласнасць. Прыдворныя званні былі пацверджаны М. новым каралём польскім і вял. князем літ. Янам II Казімірам. Пасля яго адрачэння ад трона (1668) М. перадаў пасаду лоўчага свайму сыну Уладзіславу.

**Мядзельскі кляштар кармелітаў босых.** Заснаваны Антоніем Кошчыцам у мяст. Мядзел (Стары Мядзел) у 1754. Касцёл Св. Крыжа (Найсвяцейшай Дзевы Марыі Шкаплернай) пабудаваны ў стылі позняга барока. Мураваны храм мае цэнтрычную кампазіцыю. Ніжні кубічны аб'ём завершаны масіўным 8-гранным барабанам, накрытым пластычным гранёным купалам з 4 люкарнамі і ажурным ліхтаром у цэнтры. У аздобе фасадаў выкарыстаны прафіляваныя карнізы, раскрапоўкі, разарваныя франтоны, калоны, валюты, каваныя агароджы балкончыкаў. Вокны з паўцыркульнымі і лучковымі арачнымі завяршэннямі. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера мае элементы ракако. Па ўсім перыметры сцен здвоеныя пілястры з капітэлямі, аб'ядналаныя прафіляваным карнізам. Нішы для скульптур завершаны конхамі, упрыгожанымі ракавінамі. Сцены размаляваны фрэскамі (зберагліся фрагменты). Побач з касцёлам мураваная 2-павярховая плябанія і званіца.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Мяжэнскі** Аляксандр (1627—вер. 1671), ваенны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Ляліва», брат Самуэля *Мяжэнскага* і Яна *Мяжэнскага*. Прыкладна з 1648 служыў у войску ВКЛ. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, у бітве пад Шапя-



левічамі 24.8.1654 у рангу паручніка камандаваў панцырнай харугвай гетмана Януша Радзівіла. Удзельнічаў у заключэнні *Кейданскай уніі 1655* са Швецыяй. У канцы 1655 атрымаў ад Магнуса Дэлягардзі ва ўласнасць лясніцтва Неманойты. Пасля смерці Януша Радзівіла знаходзіўся на службе ў Багуслава Радзівіла. Увосень 1657 сабраў у Авантах харугву, якая ўвайшла ў склад дывізіі левага крыла войска ВКЛ. Удзельнічаў у бітве пад Веркамі 21.10.1658 і разам з гетманам Вінцэнтам Гасеўскім трапіў у рас. палон. Увесну 1662 адпушчаны з няволі, якую адбываў у Маскве. Першапачаткова вызнаваў арыянства, у 1662 быў вымушаны перайсці на каталіцтва. Некалькі вершаў адрасаваў М. яго падначалены ў войску паэт Збігнеў Морштын.

**Мяжэнскі** Самуэль (?—1678), ваенны і рэлігійны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Ляліва», брат Аляксандра *Мяжэнскага* і Яна *Мяжэнскага*. Служыў у гусарскай харугві Януша Радзівіла. У 1647 атрымаў ад Крыштофа *Арцішэўскага* радзівілаўскі маёнтак Дойлідь пад Беластокам, пасля трымаў у заставе Беласток Радзівілаўскі. На аснове дазволу сойма ў 1661 перайшоў з арыянства ў кальвінізм.

*Літ.*: Tazbir J. Arianie w Białymstoku i okolicach // Studia i materiały do dziejów miasta Białegostoku. Białystok, 1968. T. 1.

**Мяжэнскі** Ян (?—1.8.1665), ваенны, дзяржаўны і рэлігійны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Ляліва», брат Аляксандра *Мяжэнскага* і Самуэля *Мяжэнскага*. З маладосці служыў біржанскім Радзівілам, што вызнавалі кальвінізм. У 1641 у Вільні абараняў інтарэсы Януша Радзівіла на сойміках. Хутка стаў яго гал. дарадцам па замежных пытаннях. У 1644 ездзіў у Малдову заключаць дамову аб заручынах Радзівіла з дачкой малдоўскага гаспадара Марыяй Лупу. Дзякуючы падтрымцы Радзівіла ў 1647 атрымаў урад падстолія ваўкавыскага, да 1650 — Васількаўскае староства ў Гарадзенскім пав. У 1648 удзельнічаў у абранні караля польскага і вял. князя літ. Яна II Казіміра. Пасол на каранацыйны сойм 1649. Суправаджаў Януша Радзівіла ў паходзе 1649 супраць укр. казакоў. Пасол на соймы 1650, 1652, 1653, 1654, 1655, 1661. З 1653 маршалак вількамірскі. У складзе войск Багуслава Радзівіла ўдзельнічаў у бітве пад Жванцом 1653. У пач. 1655 наладжваў кантакты са шведамі, удзельнічаў у заключэнні *Кейданскай уніі 1655* са Швецыяй. У канцы 1655 атрымаў ад Магнуса Дэлягардзі ва ўласнасць староства Прэны з лясніцтвам Ваўкавішкі. Пасля смерці Януша Радзівіла перайшоў на службу да Багуслава Радзівіла, быў яго прадстаўніком пры шведскіх войсках у Мальбарку і Эльблёнгу. Удзельнічаў у правядзенні перагавораў з трансільванскім кн. Дзьёрдзем II Ракацы і шведскімі прадстаўнікамі, што скончыліся заключэннем *Радноцкага дагавора 1656*. У канцы 1657 атрымаў амністыю ад караля Яна II Казіміра. Працягваў пільнаваць справы Багуслава Радзівіла, у т.л. ў Варшаве, доўга жыў пры ім у Караляўцы. Вызнаваў арыянства. Па даручэнні Януша Радзівіла з 1652 апякаў Кейданскі арыянскі збор. На аснове дазволу сойма ў 1661 перайшоў з арыянства ў кальвінізм.

*Літ.*: Гл. да арт. *Мяжэнскі* С.

**Мялецкі** Мікалай (каля 1540—11.5.1585), ваенны і дзяржаўны дзеяч. З польскага шляхецкага роду герба «Грыф», сын Яна Мялецкага, ваяводы падольскага і маршалка вял. кароннага. У маладосці вандраваў па Англіі, Шатландыі, Швейцарыі, Італіі. Служыў пры двары Фердынанда I Габсбурга, здабыў ваенны вопыт у імператарскім войску. Вярнуўся ў Польшчу ў 1557. Дзякуючы пратэкцыі бацькі прызначаны старастам хмяльніцкім і каралеўскім сакратаром, з 1562 каралеўскі дваранін. Пасол на сойм 1558. З 1564 прымаў удзел у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, спачатку як ротмістр у войску гетмана польнага кароннага Станіслава Леснавольскага. За ваенныя заслугі ў 1567 прызначаны кашталянам войніцкім. На Люблінскім сойме 1569 падтрымаў каралеўскі план утварэння Рэчы Паспалітай. Ваявода падольскі з 1569. У 1571 каралеўскі пасол у Венгрыю і Трансільванію, удзельнічаў у пахаванні кн. Яна Жыгімонта Запайі і абрання на трон кн. Стэфана Баторыя. У 1572 узначаліў польскі паход у Малдову, мэтай якога было вярнуць на трон ваяводу Багдана IV, што зрабіць не ўдалося. Пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста М. падтрымліваў кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай шведскага караля Яна III Вазы, пасля пагадзіўся з абраннем Генрыка Валезы. Пасля выезду апошняга з Польшчы выступаў за кандыдатуру Максіміляна II Габсбурга. У 1575 бараніў Падолле ад татарскага нападу. Абранне Стэфана Баторыя на трон Рэчы Паспалітай спачатку сустрэў варожа, пагадзіўся з ім толькі ў 1577. На сойме 1578 рашуча выказаўся за вайну з Маскоўскай дзяржавай, што адпавядала і планам караля. У 1579 М. прызначаны гетманам вял. каронным, адразу пачаў прыгатаванні да ваенных дзеянняў. У Вільні войскі М. спалучыліся з каралеўскімі і рушылі пад Полацк. У час маршу М. камандаваў правай калонай гал. арміі. Пры аблозе Полацка камандаваў польскімі войскамі. Пасля ўзяцця горада (30.8.1579) накіраваны на замак Сокал, 11.9.1579 яго ўзяў і захапіў у палон камандуючага рас. войскамі кн. Фёдара Шарамецева. У кастр. 1579 войскі М. захапілі замак Суша. У гэты час уступіў у канфлікт з вял. гетманам ВКЛ Мікалаем Радзівілам Рудым, вял. каронным канцлерам Янам Замойскім і каралём Стэфанам Баторыем, у выніку ў 1580 адмовіўся ад пасады вял. кароннага гетмана, якая была перададзена Замойскаму. Удзел у Інфлянцкай вайне прынёс М. вял. папулярнасць сярод шляхты. На сойме 1581 ён выказаўся за працяг вайны з Маскоўскай дзяржавай, што не падтрымалі магнаты; сойм афіцыйна пазбавіў М. пасады вял. гетмана. Да 1580-х г. вызнаваў кальвінізм, пасля пад уплывам езуітаў перайшоў у каталіцтва. Меў шматлікія ўладанні ў Малой Польшчы і ва Украіне, быў старастам сандамірскім, наваКорчынскім, градзецкім, хмяльніцкім і далінскім. У 1566 ажаніўся з Эльжбетай Радзівіл, дачкой Мікалая Радзівіла Чорнага. Дачка М. Зоф'я была жонкай спачатку кн. Яна Сямёна Алелькавіча, потым Яна Караля Хадкевіча.

*Літ.*: Przybyliński R. Hetman wielki koronny Mikołaj Mielecki (ok. 1540—1585). Toruń, 2002; Купіш Д. Полацак 1579 // Arche = Пачатак. 2009. № 4.



**Мяфодзій** Філімонавіч (свецкае М а к с і м; ?—пасля 1669), дзеяч праваслаўнай царквы. Відаць, нарадзіўся ў г. Нежын, дзе прыняў святарства, стаў нежынскім пратапопам. У час паўстання Багдана Хмяльніцкага далучыўся да прыхільнікаў збліжэння з Расіяй. Выступаў за прызначэнне ва ўкр. гарады рас. ваяводаў і размяшчэнне тут рас. гарнізонаў. Паведаміў у Маскву пра змену арыентацыі гетмана Івана *Выгоўскага* на карысць Рэчы Паспалітай. Падтрымліваў наступнага гетмана Юрыя Хмяльніцкага, пасля пераходу яго на бок Рэчы Паспалітай (1660) прыхільнік Васіля *Залатарэнкі*. М. атрымаў поўны давер рас. ўрада і ў 1661 круціцкім мітрапалітам Піцірымам пасвячоны як епіскап мсціслаўскі і аршанскі, прызначаны месцаахоўнікам кіеўскага мітрапаліта. Пад духоўнай уладай М. знаходзілася ўсх. Украіна, а таксама вобласці Беларусі, кантралюемыя рас. урадам у ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Канкурэнтам М. выступаў епіскап *Іосіф* Нелюбовіч-Тукальскі, прызнаны ўладамі Рэчы Паспалітай. М. садзейнічаў прыходу да ўлады гетмана Івана Брухавецкага. У 1664 М. уступіў у канфлікт з гетманам з-за права кантролю над кіеўскімі манахамі і манастырскімі маёнткамі. М. прапанаваў Брухавецкаму склікаць царк. сабор для абрання кіеўскага мітрапаліта (на якую пасаду сам і разлічваў), аднак Брухавецкі адмовіўся, не маючы санкцыі Масквы. М. удзельнічаў у Маскоўскім саборы 1666, што судзіў патрыярха Нікана. Там прасіў даць яму ў кіраванне Белгарадскую епіскапію (Слабадскую Украіну), але маскоўскі ўрад пакінуў яго на ранейшай пасадзе, загадаўшы прымірыцца з Брухавецкім. М. падбіваў гетмана на паўстанне супраць рас. ўрада, якое пачалося ў 1667. Прамаскоўскімі дзеячамі М. быў зняволены і ў 1668 адпраўлены ў Расію. Узімку 1668—69 у Маскве над ім адбыўся суд (суддзямі выступалі патрыярхі александрыйскі Паісій і маскоўскі Іаасаф, епіскапы, архімандрыты і інш.). Аднак пасля падаўлення бунта Брухавецкага была абвешчана амністыя, пад якую трапіў і М. Ён застаўся ў епіскапскім сане, жыў пад вартай у Маскве ў Наваспаскім манастыры, дзе і памёр.

*Літ.*: К а р п о в Г. Мефодий Филимонович епископ мстиславский и оршанский, блюститель Киевской митрополии (1661—1668 года) // Православное обозрение. 1875. № 1, 2, 6, 11, 12.

**Мяхоўскі** Мікалай (?—1608), ваенны дзеяч, гл. М.*Мехавіцкі*.

**Мяшчэрын** Іван Юр'евіч (каля 1588—1.5.1653), ваенны дзеяч. Сын рас. двараніна. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* на чале атрада добраахвотнікаў дзейнічаў ад імя каралевіча Уладзіслава, абвешчанага маскоўскім царом, у 1610—12 заняў Таропец, Невель, Себеж, Красны, намагаўся захапіць Белы. У 1613 атрымаў ад караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта III у кіраванне Невель (трымаў яго да 1623). Пасля заканчэння ваенных дзеянняў атрымаў ад Жыгімонта III вёскі Стралкі і Міцянава на Смаленшчыне. У Расіі М. разглядалі як здрадніка, царскі ўрад пратэставаў супраць яго валодання Невелем. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* М. намагаўся перацягнуць на бок Рэчы Паспалітай царскага ваяводу Арцёмія Ізмайлава. Як узнагароду за ўдзел у вайне М. атрымаў у 1634 маёнтак Лапаткіна на Смаленшчыне. У 1646, у час падрыхтоўкі да вайны з Турцыяй, М. атрымаў каралеўскі прывілей на вярбоўку 400 данскіх казакоў. Быў пакаёвым каралеўскім дваранінам, з 1639 чашнік смаленскі (пасля смерці М. пасада дасталася яго сыну — Я.*Мяшчэрыну*).

**Мяшчэрын** Ян (Іосіф; ? — пасля 7.8.1670), ваенны і дзяржаўны дзеяч. Сын І.Ю.*Мяшчэрына*. Вучыўся ў Смаленскім калегіуме езуітаў. Пад уплывам езуітаў насуперак меркаванню правасл. бацькоў прыняў каталіцтва. Служыў пакаёвым дваранінам Уладзіслава IV. У 1644 разам з дваром каралеўны Ганны Кацярыны Канстанцыі Вазы выехаў ва ўладанні яе мужа — Нойбургскае княства. У 1644 у шэрагах баварскіх войск вызначыўся ў ваенных дзеяннях супраць французаў. Чашнік смаленскі пасля бацькі (1653—57, 1659—70). У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* удзельнічаў у абароне Смаленска ў 1654. У 1657 служыў у рэгіменце Ежы Любамірскага, які ваяваў пад Кракавам, удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць венгерскіх войск Дзёрдзя Ракацы. У 1657 прыбыў у Кіеў з місіяй забяспечыць абранне прыхільнага для Рэчы Паспалітай мітрапаліта. Пастрыгся ў манахі Кіева-Пячэрскага манастыра пад імем Іосіф, хутка атрымаў пасаду архімандрыта чарнігаўскага. Быў адным з кандыдатаў на пасаду мітрапаліта, аднак ім быў абраны *Дыянісій* Балабан, які зычліва ставіўся да Рэчы Паспалітай. Пасля заключэння з казакамі *Гадзяцкага дагавора 1658* М. прыбыў у 1659 у Варшаву для пацвярджэння дагавора. Вярнуўся да свецкага ладу жыцця. У лют. 1659 прымаў удзел у казацкай радзе ў Пераяслаўлі. У канцы 1659—пач. 1660 удзельнічаў пад камандаваннем Любамірскага ў ваенных дзеяннях супраць шведаў, у 1660—61 — супраць рас. войск у Беларусі.





**Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі ўмельства і Польскай акадэміі навук у Кракаве** (Biblioteka Naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie). Заснавана ў 1856 пры Кракаўскім навук. таварыстве. У 1872, пасля ліквідацыі таварыства, кніжныя зборы дасталіся Акадэміі ўмельства (Akademija Umiejętności), а ў 1953 перайшлі да Польскай АН. Фонды б-кі разрасталіся гал. чынам дзякуючы куплі кніг і падараванням прыватных асоб, грамадскіх і дзярж. устаноў. У 1939 у б-цы налічвалася больш за 2 тыс. зарэгістраваных рукапісаў і рукапісных зборнікаў. Цяпер у б-цы каля 10 тыс. рукапісаў, у т.л. каля 600 пергаментаў, каля 160 сярэдневяковых кодэксаў. Сярод вял. комплексаў рукапісы Гіст. камісіі Польскай акадэміі мастацтваў (копіі крыніц з розных замежных, пераважна зах.-еўрапейскіх б-к, музеяў, архіваў), матэрыялы са збораў Пуслоўскіх (гал. чынам з архіваў Сапегаў і Хадкевічаў, паступілі ў 1879), гісторыка права Б.Уланоўскага (спісы рэдкіх прававвых актаў і заканадаўчых помнікаў, у т.л. Статуты ВКЛ, дыярыуш службовага шляхціца Радзівілаў Яна Цадроўскага (паступілі ў 1919), вядомага даследчыка сярэдневяковых крыніц Яна Фіялка (па гісторыі Віленскага біскупства, паступілі ў 1937). Сярод родавых архіваў зборы Хадкевічаў 16—19 ст., гаспадарчыя, публічныя і інш. акты, фамільныя паперы, карэспандэнцыя Сапегаў 16—18 ст., Агінскіх, Войнаў, Галоўчынскіх, Гараінаў, Гасеўскіх, Глябовічаў, Горскіх, Друцкіх-Горскіх, Завішаў, Кішкаў, Корсакаў, Масальскіх, Нарушэвічаў, Пацаў, Радзівілаў, Саламярэцкіх, Свірскіх, Слушкаў, Тышкевічаў, Тызенгаўзаў пераважна 17—18 ст. Захоўваюцца матэрыялы дзеячаў культуры, навукоўцаў, палітыкаў, грамадскіх дзеячаў — канцлера Яна Замойскага (1542—1605), Ежы Самуэля Бантке, Ігнація Дамейкі, Тадэвуша Касцюшкі, Самуэля Багуміла Ліндэ і інш. Сярод асобных рукапісаў найб. ранні спіс з 3 вядомых копій «Кройники литовской и жомойтской» 17 ст. (аддзел рукапісаў, № 28), капіярыуш папскіх бул, прывілеяў, актаў па Віленскім біскупстве 16 ст., лісты каралевіча Уладзіслава 1617—19 да Льва Сапегі, карэспандэнцыя Сапегаў 1580-х г.— сярэдзіны 17 ст., дыярыуш пасольства Рэчы Паспалітай да цара Барыса Гадунова, апісанне рокашу Зэбжыдоўскага 1606, мемуары пісьменніка ВКЛ Станіслава Францішка Мядэкшы 1654—90, «Геаметрыя» і «Касмаграфія» Юзафа Нарановіча-Наронскага сярэдзіны 17 ст. з каментарыямі, чарцяжамі і каляровымі картамі некаторых мясцін ВКЛ і Польшчы, «miscellanea» 1524—94, выпіскі з гродскіх гарадзенскіх кніг, вял. «Хроніка» бернардзінскага кляштара ў Гародні 17—18 ст., матэрыялы соймавага гарадзенскага пасольства ў Маскву па справах антытурэцкай лігі 1679, разнастайныя дакументальныя і наратыўныя крыніцы па гісторыі і асобных вальных соймах Рэчы Паспалітай 16—18 ст. і інш. Захоўваюцца інкунабулы, палеатыпы, значная калекцыя зах.-еўрапейскіх і слав. выданняў, у т.л. надрукаваных у Беларусі і Літве ў 16—17 ст. або цікавых для навук. даследаванняў па гісторыі і культуры ВКЛ. Сярод іх «Гісторыя аб Іосіфе, якога прадалі ў Егіпет», пераклад С.Доўгірда (Любча, 1625), панегірык «жалосны» Мікалая Быкоўскага па жонцы Еве Трызнянцы (Любча, 1632), «Explikacja miar i wag Wielkiego Księstwa Litewskiego» (17 ст.).

*Літ.*: Щ а п о в Я.Н. Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики. Ч. 1. Рукописи собраний Варшавы и Кракова. М., 1976; С и н и ц ы н а В. Пергаменные кириллические акты XIV—XVII вв. в собраниях Польской Народной Респубики и задачи их изучения // Восточная Европа в древности и средневековье. М., 1978; Г а л е н ч а н к а Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; D z i w i k K. Katalog dokumentów pergaminowych Biblioteki Polskiej Akademii Nauk w Krakowie. Cz. 1—3. Wrocław, 1961—70; Katalog rękopisów. [T. 1—14]. Wrocław; Kraków, 1962—2007; Katalog rycin Biblioteki Polskiej Akademii Nauk w Krakowie: szkoła niemiecka XV i XVI w. Wroclaw etc., 1987; Katalog rycin Biblioteki Polskiej Akademii Nauk w Krakowie: szkoła niderlandzka XVI, XVII i XVIII w. Cz. 1. Wrocław etc., 1991; Arcydzieła grafiki XV i XVI stulecia: ze zbiorów graficznych Biblioteki Polskiej Akademii Nauk w Krakowie.

Kraków, 1997; Wydawnictwa Biblioteki: 1856—2006: bibliografia / Oprac. M.Kremer, A.Sroka. Kraków, 2006.

*Георгій Галенчанка.*

**Наквашанская бітва 1709**, Л і д ы х о ў с к а я б і т в а, адна з буйнейшых бітваў *Паўночнай вайны 1700—21* з удзелам войска ВКЛ. Адбылася 24 мая каля в. Накваша на Пн ад Падкаменя (Рускае ваяв. Польскага каралеўства) паміж рас. корпусам генерала-фельдмаршала-лейтэнанта Генрыха фон дэр Гольца і саюзным Швецыі войскам ВКЛ пад камандаваннем вял. гетмана Яна Казіміра Сапегі. У пач. 1709 прыхільнік Швецыі польскі кароль *Станіслаў* Ляшчынскі са шведскім корпусам генерала Э. фон Красау (Красава) і каронным войскам вял. гетмана Ю.Патоцкага распачаў спробу разблакіраваць армію Карла XII ва Украіне. У лют. 1709 Патоцкі заняў зах. Валынь, але да сярэдзіны сакавіка быў выбіты адтуль у выніку наступлення рас. корпуса генерал-маёра Мікалая Інфлянта і саюзнага Расіі войска ВКЛ пад камандаваннем Рыгора Антонія Агінскага. Сапега, які знаходзіўся ў канфлікце са Станіславам Ляшчынскім, не падтрымаў Патоцкага і толькі ў 2-й палове сак. 1709 перакінуў на ПнЗ Валыні 4 тыс. чал. (каля паловы войска ВКЛ). 12.4.1709 ён разбіў войска Агінскага пад Ляхаўцамі. Гэта дазволіла Станіславу Ляшчынскаму і Красаву заняць Львоў. Сапега спыніўся ў Берасцечку, дзе заклаў умацаваны абоз, і бяздзейнічаў больш за месяц. За гэты час Агінскі і вял. каронны гетман А.М.Сяняўскі аб'ядналі свае сілы з рас. корпусам Гольца, які прыбыў з Кіева. 19.5.1709 у Базаліі адбылася вайсковая рада, на якой вырашана пачаць наступленне 3 калонамі на дастаткова вузкім фронце: Гольц на Пн рухаўся праз Вішнявец на Броды, Агінскі ў цэнтры — праз Вышгарадак на Алеска, Сяняўскі на Пд — праз Збараж на Львоў. 20.5.1709 Сапега атрымаў вестку пра з'яўленне пад Вішняўцом перадавой стражы Гольца. 23 мая войска ВКЛ рушыла насустрач расійскаму ў напрамку Пачаева. Больш за 10 харугваў з абозам было накіравана ў тыл, пасля чаго ў Сапегі засталіся 43 харугвы (3 тыс. чал.): перадавая стража Міровіча, палкі С.Русецкага, А.К.Навасельскага і К.Ф.Крышпіна-Кіршэнштэйна. Корпус Гольца налічваў 5 конных і 6 пяхотных палкоў (да 11 тыс. чал.). Сапега вырашыў атакаваць рас. конніцу (4 драгунскія і 1 валошскі полк; 4,5—5 тыс. чал.), якая рухалася наперадзе і выйшла да Падкаменя. Сам гетман узначаліў перадавую стражу, даручыўшы камандаванне менскаму старасце Крыштофу Завішы. Каля в. Накваша яго татары напалі на рас. кватэрмайстраў. Гольц, атрымаўшы пра гэта вестку, накіраваў туды валошскі (казацкі кампанейскі) полк А.М.Танскага, які ўступіў у бой з валошскімі харугвамі Сапегі. За ім на полі бітвы з'явіўся сам фельдмаршал з 2 драгунскімі палкамі, за якімі наступалі яшчэ два. Большая частка поля была ўжо занята войскам ВКЛ, якое падрыхтавалася да атакі, таму Гольц не змог задзейнічаць усе сілы. Адзін драгунскі полк спыніўся на лясной дарозе, якая вяла да месца бітвы, другі застаўся ў якасці прыкрыцця з тылу. Распачалі атаку гусарскія і панцырныя харугвы, якія павёў Сапега, за імі рушылі рэйтары і драгуны. Выстаўлены наперад з драгунскім палком брыгадзір Гештаўт адступіў да лесу, але здолеў адбіць націск панцырных і гусараў. Сапега тройчы вадзіў жаўнераў у атаку і тройчы быў адкінуты. Рас. драгуны, строй якіх быў парушаны, адступалі ў лес, дзе спешваліся і працягвалі аказваць супраціўленне, у той час як цяжкая конніца ВКЛ там іх дастаць не магла. Гольц у адказ спрабаваў атакаваць правы фланг войска ВКЛ, але безвынікова. Падчас 3-й атакі сапегаўцаў Гештаўт падманным манеўрам стварыў уражанне з'яўлення на полі бітвы рас. пяхоты. Пасля гэтага Гольцу ўдалося перайсці ў контратаку і прымусіць войска ВКЛ да адступлення і ўцёкаў. Бітва пачалася а 2-й гадзіне дня і працягвалася 3 гадзіны. Страты войска ВКЛ склалі 250 чал. забітымі і 47 палоннымі. Рас. страты перавышалі літоўскія, але дакладна невядома. Сапега, адбіўшыся ад пагоні, а 11-й гадзіны ночы прыбыў да Берасцечка, дзе яго войска спынілася, 25.5.1709 рушыў да Крылова, а потым перамясціўся да Дубінкі, куды загадаў вяртацца абозу. Перамога дазволіла Гольцу, Сяняўскаму і Агінскаму заняць Львоў і перашкодзіла саюзным Швецыі войскам у Рэчы Паспалітай аказаць дапамогу арміі Карла XII ва Украіне.

*Літ.*: W i m m e r J. Wojsko Rzeczypospolitej w dobie wielkiej wojny polnocnej 1700—1717. Warszawa, 1956.

*Зміцер Віцько.*

**Нацыянальны музей імя Андрэя Шапціцкага** ў Л ь в о в е (Національний музей імені Андрея Шептицького). Заснаваны ў 1905 грэка-каталіцкім мітрапалітам Андрэем Шапціцкім як Царк. музей. З 1909 называўся Нацыянальны музей, пасля 2-й сусветнай вайны — Дзярж. музей укр. мастацтва, з 1991 — «Нацыянальны музей у Львове. Навукова-мастацкі фонд мітрапаліта Андрэя Шапціцкага», з 2005 сучасная назва. Фонды музея пашыраліся дзякуючы ахвяраванням розных асоб, набыццю рэдкіх старадрукаў, рукапісных кодэксаў, помнікаў нар. матэрыяльнай культуры, унікальных рамесных вырабаў. У музеі зберагаюцца рукапісы і зборнікі актаў (арыгіналы і копіі) па гісторыі шляхты, землеўладання, асветы, пісьменнасці ВКЛ, у т.л. зборнік дакументальных матэрыялаў Полацкай архіепіскапіі 1613—1836, дакументы Трыбунала ВКЛ па манастырскіх і інш. суд. справах 1584—1727, рукапісны Апостал 1571 з тлумачэннямі паводле Ф.Скарыны. У зборах укр. даследчыка Іосіфа Гронскага шмат матэрыялаў па гісторыі бел. і ўкр. кнігадрукавання, царк. і канфесійных адносін. Сярод найб. цікавых рукапісаў — Статут ВКЛ 1566 з дадатковым спісам прывілеяў, падараваных Кіеўскаму ваяв. і перапісаных у Кіеве Аляксандрам Залескім у 1640. Захаваўся аўтограф уладальніка гэтага рукапісу сярэдзіны 17 ст.: «То есть Статут власнии шляхетного Лукаша Кгашковского, на которыи власною рукою подписую». У б-цы захоўваюцца 2 экзэмпляры кнігі «Царствы», адзін — кнігі «Іоў», 3 канвалюты з інш. пражскімі выданнямі Скарыны: «Пяцікніжжа», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песняў», «Прамудрасць Божая», «Ісус Сірахаў», «Ісус Навін» і «Суддзі», віленскі Апостал Скарыны 1525. Некаторыя экзэмпляры «дапоўнены» каляровымі малюнкамі 16—17 ст. Шырока прадстаўлены старадрукі бел. прыватных, брацкіх і інш. друкарняў, у т.л. «Евангелле вучыцельнае» Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца (Заблудаў, 1569), Статуты ВКЛ (друкарня Мамонічаў, Вільня, 1588, фактычна — канец

16—пач. 17 ст.), «Трыёдзь кветная» Іаана Дамаскіна, Казьмы Маюмскага, Феафана Нікейскага, Іосіфа Салунскага (друкарня Лявона Мамоніча, Вільня, 1609), «Новы Запавет з Псалтыром» (Еўе, 1611), «Граматыка» Мялеція Смятрыцкага (Еўе, 1619), «Трэнас» Смятрыцкага (Вільня, 1610), надзвычай рэдкі «Буквар, сиреч Начало учения детем начинающим чтению навыкати» (друкарня Спірыдона Собаля, Куцейна, 1631). З польскамоўных выданняў варта вылучыць творы малавядомага бел. пісьменніка, грамадскага і царк. дзеяча Яна Дубовіча «Hierarchia, abo O zwierchnosci w cerkwi bozey» (Львоў, 1644), адна з першых разгорнутых біяграфій уніяцкага полацкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча, складзена Якубам Сушам, «Cursus vitae» (Рым, 1665).

*Літ.*: Каталог книг церковно-славенской печати / Зладив И.Свенцицкий. Жовква, 1908; Свєнціцький І. Опис рукописів. 1. Кириличні пергаміни XII—XV вв. Львів, 1933; Максименко Ф.П. Кириличні стародруки українських друкарень, що зберігаються у львівських збірках (1574—1800). Львів, 1975; Біганський Р.М. Сторінка з історії співдружності культур білоруського та українського народів: (збірка білоруських книг І.С.Свєнціцького у фондах библиотеки) // Книга і знання. Львів, 1974; Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008. ***Георгій Галенчанка.***

**Негін** (цяпер вёска Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв., на р. Жадунька. Упершыню згадваецца ў 1765 як уласнасць Свадкоўскіх. Узнікла на падставе аднайменнай вёскі на разгалінаванні дарог з Касцюковічаў на Крычаў і Чэрыкаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 жыло 49 чал., было 11 двароў, адна вуліца над р. Жадунька, адсутнічала цэнтр. плошча. Быў пераведзены ў разрад сельскіх паселішчаў.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI— XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мінск, 2008. № 23. ***Андрэй Мяцельскі.***

**Нікіфар** Парасхес Кантакузін (1540-я г., г. Канстанцінопаль—1599), дзеяч праваслаўнай царквы. Паходзіў з заможнай сям'і. Вучыўся ў Падуанскім ун-це, дзе пасля выкладаў філасофію і грэчаскую мову. У сярэдзіне 1570-х г. атрымаў сан дыякана, стаў прапаведнікам у царквы св. Марка ў Венецыі. У пач. 1580-х г. вярнуўся ў Грэцыю, атрымаў ганаровую пасаду протасінкела ад канстанцінопальскага патрыярха Іераміі. Выконваў яго адказныя дыпламатычныя даручэнні. У 1583 наведаў г. Астрог, дзе выкладаў у акадэміі. У сярэдзіне 1580-х г. удзельнічаў у барацьбе за пасаду патрыярха на баку свайго апекуна Іераміі. Неаднаразова быў патрыяршым месцаахоўнікам. Меў намер удзельнічаць у Берасцейскім саборы 1596 і выказвацца супраць заключэння царк. уніі, але напярэдадні сабора быў абвінавачаны ўладамі ў шпіянажы на карысць Турцыі і арыштаваны Е.Замойскім. Уцёк са зняволення, у кастр. 1596 прыбыў у Берасце, каб супрадзейнічаць заключэнню уніі. Быў старшынёй правасл. сабору, які засядаў адначасова з уніяцкім, і пазбавіў сана іерархаў-уніятаў. Пасля выкладаў у Астрожскай акадэміі. Быў схоплены ўладамі, асуджаны як турэцкі шпіён і зняволены ў Мальбарскім замку, дзе памёр ад голаду.

*Літ.*: Куракин Ю.Н. Политический процесс над константинопольским экзархом Никифором (Парасхесом-Кантакузиным) в истории Брестской унии 1596 г. // Славяне и их соседи. М., 1992. Вып. 4; Салтыков А., Куракин Ю.Н. Экзарх Никифор: духовно-нравственный облик // Мир Божий. 1998. № 1; Теплова В.А. Экзарх Никифор Кантакузин и Брестский церковный Собор 1596 г. // Мельнікаў А. З неапублікаванай спадчыны: манаграфіі, артыкулы, вершы, матэрыялы навуковай канферэнцыі, успаміны сучаснікаў. Мінск, 2005.

**нясвіжская людвісарня**, майстэрня па вырабе званоў і гармат. Заснаваў у канцы 16 ст. ў Нясвіжскім замку Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Дзейнічала прыкладна з 1597. У людвісарні працаваў майстар Герман *Мольцфельд*. Вядомы 8 гармат, адлітых ім у Н.л. З іх 7 выраблены на працягу 1599—1602: «Гідра», «Цэрбер», «Папугай», «Вінаград» («Келіхі»), «Цырцэя», «Сыч» (даўжыня 163—188 см, калібр 5—6 см). Гарматы багата ўпрыгожаны ляпнінай, нясуць выявы герба Радзівіла Сіроткі з яго ўпамінаннем, сімвалічныя выразы, пазначаны год вырабу. Самыя вял. гарматы «Мелузіна» і «Хімера», выробленая ў 1602—03, маюць даўжыню 360 і 267 см адпаведна, калібр 9 см; яны нясуць імя майстра і месца вырабу: «MET GOTES HVLF GOSS MICH HERMAN MOLTZFELDT ZV NISWISCH» («Мелузіна»). Паводле пісьмовых крыніц, вядомы гарматы «Святы Мацей», «Святы Лука», «Святы Марк», «Святы Ян», «Святы Мікалай», «Святы Хрыстафор», «Святы Аляксандр», «Святы Георгій», «Святы Міхал», «Святы Рафал», «Кракадзіл», «Вінаград», «Сава», «Саламандра», «Паветра», «Агонь», «Вада», «Зямля», «Цмок», «Маладзік».



Гадзіннікавы звон з **нясвіжскай людвісарні**. Канец 16 ст.

Выявы на гарматах апрацоўваў злотнік Стафан. Формы для адліўкі гармат апрацоўваў рэзчык Філіп (яны зберагаліся ў Нясвіжскім замку яшчэ ў 1658). У 1598 адліты 2 ажурныя званы для гадзінніка Нясвіжскага замка. Яшчэ адзін невял. звон быў адліты для Міра. Пасля выгнання шведаў з Нясвіжа ў час *Паўночнай вайны 1700— 21* каля 1713 у Н.л. зроблена новая печ па адліўцы званоў. У 1719—21 з Н.л. пасланы 3 званы ў Белую на Падляшшы (адзін з іх важыў каля 350 кг, другі — каля 620 кг). У 1721 уладальніца Белай Ганна Радзівіл запрашала туды для працы нясвіжскага людвісара Патона, аднак той адмовіўся з-за хваробы. У 1785 з нагоды наведвання Нясвіжа каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім у яго прысутнасці была адліта гармата. Гарматы Н.л., зробленыя Мольцфельдам, да 20 ст. захоўваліся ў Нясвіжскім замку, пасля перавезены ў Варшаву. Цяпер у Музеі Войска Польскага ў Варшаве зберагаюцца 4 гарматы з Н.л. («Хімера», «Цырцэя», «Гідра»,



Гарматы «Мелузіна» і «Гідра», вырабленыя **нясвіжскай людвісарняй**.

«Сыч»), яшчэ адна — у Ваенным музеі ў Стакгольме («Мелузіна»).

*Літ.*: B e r s o h n M. Dawna zbrojownia Książąt Radziwiłłów w Nieświeżu. Warszawa, 1904; B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 30—39, 89—91; B e r n a t o w i c z T. Monumenta variis Radivillorum: wyposażenie zamku nieświeskiego w świetle śródeł archiwalnych. Poznań, 1998. Cz. 1. S. 23—27; K a r k u c i ń s k a W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa (1676—1746): działalnosc gospodarcza i mecenat. Warszawa, 2000. S. 162—163.

**нясвіжскія габелены**, габелены з Нясвіжскага замка. Прысвечаны гісторыі роду князёў Радзівілаў. Створаны ў 1750-я г. на аснове кардонаў, выкананых прыдворнымі нясвіжскімі жывапісцамі Францішкам Ксаверыем Дамінікам Гескім, Міхалам Скшыцкім, Анджэем Зашкантам, Канстанцінам Петрановічам у традыцыях тагачаснага еўрапейскага гіст. мастацтва. 7.12. 1752 Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька загадаў маляваць «кардоны пад алей» для далейшага іх ператварэння ў тканыя габелены, што заняло некалькі гадоў. Паводле дакументаў радзівілаўскага архіва над стварэннем Н.г. працавалі 5 майстрых з памочніцамі. Роля гэтых ткачых у гісторыі бел. мастацтва не менш значная, чым жывапісцаў. Сярод іх: Лютніцкая (жонка прыдворнага мастака Казіміра Лютніцкага); жонка садоўніка з Альбы Анастасія Марковіч (так запісана ў архіўным дакуменце, але польскія даследчыкі Ю.Пагачэўскі і Т.Манькоўскі прачыталі прозвішча, вытканае на габелене «Парад войск пад Заблудавам» як Маркевіч); Марыя Кулакоўская (жонка скульптара Аляксандра Кулакоўскага з Жоўквы(?), верагодна, яе манаграма «М.К.» выткана на габелене «Бітва пад Славечнам»), Мацкевіч і Бакановіч (або Бахановіч). Кулакоўская і Маркевіч працавалі ў гэтай галіне з 1737. Аплата працы ткачых была каля 2,5 злотых у тыдзень (прыдворныя мастакі атрымлівалі ад 7 да 10 злотых). З серыі 1750-х г. захавалася 5 габеленаў у музеях Кракава, Варшавы і Львова, але дакументы 1784 (апісанне візіта караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Нясвіж) і 1792 («Гандлёвы дзённік») дазваляюць меркаваць аб наяўнасці ў Нясвіжы большай колькасці габеленаў гіст. тэматыкі, як тагачаснага вырабу, так і з ранейшых калекцый.

Габелен «Парад войск пад Заблудавам» (320 × 590 см) мае выяву Радзівіла Рыбанькі на фоне батальнага краявіда. Захоўваецца ў Нац. музеі ў Кракаве (фонд Чартарыйскіх). Габелен мае рамнае абрамленне, высокі мастацкі ўзровень якога адзначаюць усе даследчыкі. Арнамент абрамлення складаецца са стужак, кветак, гарматных ствалоў і ўключае ракайльны картуш з тлумачальным надпісам. Ад габелена «Зацвярджэнне княжацкага тытула Радзівілаў імператарам Карлам V у 1547 годзе» (320 × 590 см) захаваўся толькі фрагмент левай часткі. Захоўваецца ў Нац. музеі ў Варшаве. Іканаграфія заснавана на малюнку мастака Далабелы, які служыў пры княжацкім двары ў 17 ст. Габелен «Зацвярджэнне княжацкага тытула Радзівілаў на сойме Рэчы Паспалітай у Пётркаве ў 1549 годзе» (прыблізна 100 × 150 см) захоўваецца ў музеі сядзібы Небарова (філіял Нац. музея ў Варшаве). Гэта самы недасканалы з Н.г., магчыма, быў выкананы ў 1770-я г. Іканаграфія габелена «Узяцце ў палон Станіслава Міхаіла Крычэўскага пад Лоевам у 1649 годзе» ўзыходзіць да малюнкаў Абрахама ван *Вестэрфельда*, які быў прыдворным мастаком Януша Радзівіла. Месцазнаходжанне габелена невядома. Габелен «Бітва пад Славечнам у 1756 годзе» захоўваецца ў Нац. музеі імя Андрэя Шапціцкага ў Львове. Яго іканаграфія звязана з батальнымі сцэнамі фламандца Ван дэр Мулена. Стыль выканання Н.г. указвае на арыентацыю мастацкага двара князёў Радзівілаў сярэдзіны 18 ст. на стыль еўрапейскага ракако, узоры французска-нямецкага мастацтва. Н.г. маюць важнае значэнне для гісторыі мастацтва 18 ст., уяўляюць сабою асаблівае перапляценне гісторыі жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

*Літ.*: Б а ж е н о в а О. Радзивилловский Несвиж: росписи костела Божьего Тела. Минск, 2007. С. 118—134.

***Вольга Бажэнава.***



Да арт. **Нясвіжскія габелены**. Габелен «Парад войск пад Заблудавам» (фрагмент). 1744.



**Обст** Фрыдэрык Юзаф (26.1.1716, Чэхія—2.10.1778), мастак-манументаліст і станкавіст. У 1739 уступіў у Вільні ў ордэн езуітаў. Узначальваў работу па размалёўцы і аднаўленні езуіцкіх касцёлаў і кляштараў ВКЛ. Працаваў у Вільні ў касцёлах св. Казіміра (1741—48; 1753—63) і св. Яна (1763—67; 1770—72), касцёлах у Глукшце (1748—49), Гародні (1749—53), Крожах (1768—70). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) заставаўся ў Вільні, дзе і памёр.

*Вольга Бажэнава.*



**падлазнікі**, іншая назва *бортнікаў*. Тэмін «П.» ў асн. выкарыстоўваўся на У і Пд Беларусі, быў характэрны для прыватных маёнткаў да канца 16 ст.

*Літ.*: Д о ў н а р А.В. Сяляне-слугі другой паловы XVI—сярэдзіны XVIII ст. Мінск, 2007. С. 56—57.

**палкоўнік генеральны**, адна з цэнтральных дзяржаўных пасад ВКЛ. Існавала ў 1698—1708 (фармальна да 1717), нягледзячы на адсутнасць афіцыйнага зацвярджэння соймам Рэчы Паспалітай. Створаны 14.4.1698 на з'ездзе паспалітага рушэння шляхты ВКЛ у Вільні, скліканым па ініцыятыве *рэспубліканцаў* на дзень рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ. На пасаду «П.г. ваяводстваў і паветаў ВКЛ» быў абраны віцебскі кашталян і маршалак Трыбунала Міхал Казімір Коцел. У яго паўнамоцтвы ўваходзіла арганізацыя выплаты жалавання войску ВКЛ (права выдачы асігнацый харугвам), а таксама прызначэнне тэрміну склікання выправаў або паспалітага рушэння, што было зафіксавана ў прынятай на з'ездзе пастанове. Скліканне паспалітага рушэння прадугледжвалася ў выпадку парушэння Сапегамі пастановы элекцыйнага сойма 1697 аб *ураўнаванні правоў*. Абвастрэнне ўзброенага супрацьстаяння паміж групоўкамі ў сярэдзіне 1698 прывяло да таго, што Коцел як П.г. склікаў на 14.8.1698 у Вільні шляхецкі з'езд і соймікі перад ім для абрання паслоў. На з'ездзе вырашана

распусціць войска ВКЛ як асн. апору групоўкі Сапегаў, што планавалася ажыццявіць пад ціскам паспалітага рушэння, скліканага на 15.10.1698 пад Гародняй. Узначаліў яго Коцел. У выніку перагавораў 20.12.1698 заключана пагадненне, якое прадугледжвала скарачэнне войска ВКЛ. 21 снеж. на з'ездзе паспалітага рушэння прынята *Пузавіцкая пастанова 1698*, якая пацвердзіла права П.г. склікаць паспалітае рушэнне «для падтрымання правоў, свабод і публічнай бяспекі», а на бліжэйшым сойме вырашана было дамагацца ўвядзенння па ўзоры Кароны Польскай урада генерала ВКЛ з міністэрскім статусам. Пузавіцкую пастанову не прызналі Сапегі і не зацвердзіў сойм 1699, аднак, нягледзячы на гэта, Коцел працягваў выконваць абавязкі П.г. У пач. 1700 Скарбовы трыбунал ВКЛ выявіў фінансавыя злоўжыванні Коцела, дапушчаныя падчас яго дзейнасці як П.г. ў ходзе выплаты жалавання войску ВКЛ, але безвынікова спрабаваў прыцягнуць яго да адказнасці. У адказ Коцел склікаў паспалітае рушэнне на рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ і 26.4.1700 абраны дырэктарам з'езда рэспубліканскай шляхты. У кастр. 1700 ён узначаліў паспалітае рушэнне, падставай для збораў якога паслужыў універсал Аўгуста II ад 1.7.1700, склікаючы шляхту на вайну са Швецыяй. На чале часткі ашмянскай, віцебскай, аршанскай і мсціслаўскай шляхты Коцел спрабаваў 15.10.1700 захапіць Ашмяны, але пацярпеў паражэнне ад павятовага палкоўніка Б.П.Сапегі. 2.11.1700 на з'ездзе паспалітага рушэння пад Ліпнішкамі новым П.г. абраны Міхал Сервацый Вішнявецкі. Пад яго камандаваннем у *Алькеніцкай бітве 1700* паспалітае рушэнне разбіла войска Сапегаў. У адпаведнасці з *Алькеніцкай пастановай 1700* арганізавана новае войска ВКЛ, перададзенае на 2 гады пад камандаванне Вішнявецкаму, які пачынае тытулавацца «П.г. ваяводстваў, паветаў і войск ВКЛ». Улада вял. і польнага гетманаў (К.Я.Сапегі і Я.Б.Слушкі) скасоўвалася. Пры П.г. стварaўся дарадчы орган з камісараў (прадстаўнікі паветаў, асобныя сенатары і цэнтр. ўраднікі ВКЛ). Вішнявецкі атрымаў у пасесію канфіскаваныя на карысць дзяржавы маёнткі Сапегаў; прызначаў там сваіх адміністратараў, якія павінны былі складаць справаздачы перад камісарамі, а таксама раздаваў сваім намеснікам сапегаўскія старасты. Вішнявецкі як П.г. кіраваў пасяджэннямі шляхецкіх з'ездаў ВКЛ 10—14.3.1701 у Ружанах, 2—14.5. 1701 і 23.6—12.7.1701 у Вільні, 26.9—26.10.1701 у Гародні, 1—7.12. 1702 у Ружанах, 5—15.3. 1703 у Вільні, дзе абмяркоўваліся ўмовы прымірэння з Сапегамі, прымаліся рашэнні і дэкларацыі па розных пытаннях унутры- і знешнепаліт. жыцця ВКЛ і Рэчы Паспалітай, прызначаліся пасольствы, у т.л. за мяжу. Вішнявецкі санкцыяніраваў падпісанне рэспубліканцамі саюзнага дагавора з Расіяй 3.3.1702, які аформіў уступленне ВКЛ у *Паўночную вайну 1700—21*. 23.3.1702 ён склікаў паспалітае рушэнне на вайну са Швецыяй, не чакаючы універсала Аўгуста II. Устаноўленая Алькеніцкай пастановай сістэма ўлады мела часовы характар (да моманту раздачы каралём пасад, адабраных у Сапегаў), таму перыяд паўнамоцтваў П.г. пачаткова быў акрэслены тэрмінам у 2 гады. Паколькі спадзяванні рэспубліканцаў на легітымацыю сваіх рашэнняў за гэты час не апраўдаліся, то скліканы 1—7.12.1702 з'езд у Ружанах працягнуў паўнамоцтвы П.г. на неабмежаваны час («пакуль тая грамадзянская і знешняя не суцішыцца вайна»). На сойміках 6.2.1703 па ініцыятыве Вішнявецкага створаны павятовыя канфедэрацыі ў падтрымку Аўгуста II і абраны камісары на з'езд у Вільні, дзе 7.3.1703 утворана генеральная канфедэрацыя ВКЛ і прынята рашэнне накіраваць пасольства ў Расію. 15.3. 1703 Вішнявецкі падпісаў даверчыя граматы 5 паслам на чале з віленскім канонікам М.Белазорам, якія 9.7.1703 пад Шлюсельбургам падпісалі новы дагавор з Расіяй, згодна з умовамі якога ВКЛ абавязвалася працягваць вайну са Швецыяй незалежна ад пазіцыі Польск. каралеўства. 13.12.1703 у Яворавe Вішнявецкі, Р.А.Агінскі, М.Д.Валовіч і Л.К.Пацей падпісалі 3-і дагавор з Расіяй, які прадугледжваў павелічэнне ў ВКЛ колькасці рас. войска; пазней яны ж падтрымалі падпісанне дагавора Рэчы Паспалітай з Расіяй 30.8.1704. Пасля пераходу ў 1707 Вішнявецкага на бок Станіслава Ляшчынскага ўрад П.г. атрымаў Дамінік Міхал Слушка, што было пацверджана на Люблінскім з'ездзе сандамірскіх канфедэратаў (11.8—26.9.1707), нягледзячы на супраціўленне каронных паслоў. Пазбаўлення яго гэтай пасады дамагаўся Пётр I. У сак. 1708 Д.М.Слушка перайшоў на бок Сапегаў і прызнаў уладу Станіслава Ляшчынскага. Пасада П.г. спыніла існаванне. Фармальна скасаваны соймам 1717.

*Літ.*: К о р о л ю к В.Д. Вступление Речи Посполитой в Северную войну // Ученые зап. Ин-та славяноведения. Москва, 1954. Т. 10; D y b a ś B. W sprawie traktatu puzewickiego z 1698 roku i jego następstw // Zapiski Historyczne. 1988. Z. 3—4; R a c h u b a A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002.

***Зміцер Віцько.***

**палюддзе**, форма атрымання прыбавачнага прадукту, якая характэрна для ўсходнеслав. рэгіёна; таксама сама даніна або павіннасць. Назва зафіксавана ў скандынаўскіх крыніцах (сага аб Харальдзе) у форме polutasvarf (другая частка слова — svarf — азначае «паварот, абарачэнне, кругавы рух»), а таксама ў трактаце візантыйскага імператара Канстанціна VII «Аб кіраванні імперыяй» (сярэдзіна 10 ст.) у форме πολύδια. Тут жа ўдакладняецца, што П., якое ажыццяўляюць архонты росаў, называецца «кружэннем» (γύρα). П. адлюстравана ў арабскіх крыніцах (Ібн Руста, Гардзізі). Тая акалічнасць, што П. ў арабскіх крыніцах ажыццяўляецца русамі ў дачыненні да падпарадкаваных ім славян, даказвае паходжанне П. з права заваявання. Паводле іншага пункта гледжання, П. паходзіць з добраахвотных прынашэнняў насельніцтва вярхоўнаму кіраўніку за выкананне ім грамадска карысных функцый. У перыяд ранняга сярэдневякоўя ў Кіеўскай Русі П. мела агульнадзярж. характар і ўяўляла сабой пасладоўны аб'езд вярхоўным правіцелем (або членамі кіруючай дынастыі, у Канстанціна VII — «архонтамі росаў») падуладных Кіеву ўсх.-слав. саюзаў плямён. П. ў гэты час кампенсавала неразвітасць дзярж. апарата кіравання. Акрамя асн. задачы — збору даніны і



забеспячэння пражыткам дружыны — кіеўскі князь падчас П. выконваў суд., адм. і, у некаторай ступені, сакральную функцыі. Найб. важная асаблівасць П., якая захоўвалася і пасля, заключалася ў абавязковай асабістай прысутнасці вярхоўнага правіцеля. Мерапрыемствы княгіні Вольгі сярэдзіны 10 ст. прывялі да страты П. агульнадзярж. характару. У пазнейшых крыніцах П. паўстае як фіксаваная грашовая павіннасць. У грамаце смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча 1136 адзначана: «на Копысе полюдья четыре гривны», «в Лучине полюдья... гривны». Найб. позняе летапіснае згадванне П. адносіцца да 1190. На ўсх.-слав. землях ВКЛ П. як абавязак насельніцтва перад намеснікам-дзяржаўцай захавалася да 16 ст. Нараўне з «уездом» і «въездом», «полюдованье» выступае ў якасці паднашэнняў, дароў князю або яго намесніку пры аб'ездзе воласці. У 15—16 ст. у Палессі «полюдованье» складалася з даніны мёдам, воскам, мяхамі і грашыма, а таксама з абавязку сельскіх абшчын даваць усё неабходнае для знаходжання, руху і перавозкі сабранага зборшчыку даніны. Даніна збіралася па асобных валасцях мядовымі і грашовымі старцамі. Як рэлікт стараж.-рус. эпохі П. на тэр. ВКЛ было выцеснена *стацыяй*.

*Літ.*: Свердлов М.Б. Генезис и структура феодального общества в Древней Руси. Ленинград, 1983; Новосельцев А.П. Арабские источники об общественном строе восточных славян IX в. — первой половины X в.: (полюдье) // Социально-экономическое развитие России. М., 1986; Рыбаков Б.А. Киевская Русь и русские княжества XII— XIII вв. М., 1993; Данилова Л.В. Сельская община в средневековой Руси. М., 1994; Кобищанов Ю.М. Полюдье: явление отечественной и всемирной истории цивилизаций. М., 1995; Фроянов И.Я. Рабство и данничество у восточных славян. Санкт-Петербург, 1996; Темушев С.Н. Княжеская власть и полюдье // Весн. Бел. дзярж. ун-та. Сер. 3. 2001. № 1; Любавский М.К. Очерк истории литовско-русского государства до Люблинской унии включительно. Санкт-Петербург, 2004; Полюдье: всемирно-историческое явление. М., 2009.

***Сцяпан Цемушаў.***

**Папова Гара** (цяпер Красная Гара, горад у Бранскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад у ВКЛ, на р. Беседзь. Упершыню згадваецца сярод кіеўскіх гарадоў у «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.). Археал. помнікі старажытнай П.Г. 14—18 ст. не даследаваны. У пач. 20 ст. ў цэнтры горада было гарадзішча, на якім сустракалася кераміка ранняга жалезнага веку. Але да нашых дзён помнік не захаваўся. У наваколлях П.Г. ў канцы 19 ст. праводзіў даследаванні курганных могільнікаў П.М.Яроменка. У 15 ст. П.Г. ўваходзіла ў склад Мсціслаўскага княства, пасля 1483 — Віленскага ваяв. У 1499 зноў у складзе Мсціслаўскага княства. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* П.Г. захоплена маскоўскім войскам. У памежным разгранічэнні 1523 паведамляецца, што «велики князь московский город Попову Гору взял повета Мстиславского з данми грошовыми и медовыми и со всим, а подымей было пят сот у Поповой Горе, а дани хаживало 60 кадей, а сто рублев грошей широкой личбы». У 1501 вял. кн. літ. Аляксандр надаў П.Г. сваёй жонцы Алене Іванаўне, аднак ва ўладанне горадам яна не змагла ўступіць. Згодна з *Дэулінскім перамір'ем 1618* П.Г. вернута ВКЛ і ўключана ў склад Смаленскага ваяв. Заставалася ў ВКЛ да пачатку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, паводле ўмоў *Андросаўскага перамір'я 1667* перададзена Расіі.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Паўловіч-Лукянскі** Адам Гілярый (?—26.5.1650), ваенны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з бел. шляхты, валодаў маёнткам Лукяны ў Трокскім ваяв. Удзельнік *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* і *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Ваенную службу пачаў у 1617—18 у Інфлянтах, дзе трапіў у палон да шведаў. Пасля вызвалення з палону ўдзельнічаў у 1620 у баях з туркамі пад Цацорай. З 1621 харужы казацкай харугвы войска ВКЛ, удзельнічаў у *Хацінскай бітве 1621*, дзе гетман Ян Кароль Хадкевіч прызначыў яго ротмістрам казацкай харугвы. Пасля смерці Хадкевіча перайшоў на службу да Крыштофа *Радзівіла*. У кастр. 1625 казацкая харугва П.-Л. колькасцю 150 шабель накіравана да Біржаў для блакады шведскага гарнізона. У жн. 1626 на чале атрада ў 500 шабель ваяваў пад Рыгай. Пасля неатрымання грошай, як і большасць ротмістраў, у кастр. 1626 П.-Л. распусціў сваю харугву. У снеж. 1627 на чале 2 харугваў ваяваў у Земгаліі, быў разбіты шведамі. Падчас вайны з Расіяй у студз. 1633 на чале харугвы ў 150 шабель прыбыў у лагер войска ВКЛ пад Оршай. У крас. 1633 разбіў буйны рас. атрад. Магчыма, удзельнічаў у баях пад Смаленскам. У 1635 зноў ваяваў супраць шведаў пад Дынабургам у Інфлянтах. З уварваннем казацкіх загонаў у ВКЛ летам 1648 П.-Л. з атрадам быў накіраваны пад Мазыр для збірання звестак. Восенню 1648 атрад П.-Л. адкліканы да Берасця, дзе збіралася войска ВКЛ пад камандаваннем Януша *Радзівіла*, у ліст. 1648 удзельнічаў у падаўленні *Пінскага паўстання 1648*. У пач. лютага 1649 разам з асн. сіламі войска Я.Радзівіла П.-Л. ўступіў у Тураў, адкуль 6 лютага на чале атрада з 3 казацкіх і 2 драгунскіх харугваў накіраваны да паўстаўшага Мазыра. У ноч на 10 лютага атрад П.-Л. разграміў атрад казакоў колькасцю каля 600 чал. ля в. Наружновічы. 10 лютага П.-Л. удзельнічаў у штурме Мазыра з боку оўруцкага шляху. З 2-й пал. лютага па май 1649 на чале казацкай харугвы знаходзіўся каля Рэчыцы. У ліп. 1649 разам з асн. сіламі войска ВКЛ П.-Л. накіраваўся да Лоева. 26.7.1649 П.-Л. на чале атрада з 1 рэйтарскай, 2 драгунскіх і 3—4 казацкіх харугваў агульнай колькасцю каля 800 чал. накіраваны з-пад Лоева да Рэчыцы з мэтай абароны горада ад казацкага войска Міхаіла *Крычэўскага*. 27.7.1649 П.-Л. атрымаў загад Я.Радзівіла аб'яднацца з атрадам Самуэля *Камароўскага* і вярнуцца да Лоева. Падчас *Лоеўскай бітвы 1649* атрад П.-Л. адыграў рашаючую ролю ў ходзе бітвы. У пач. мая 1650 П.-Л. накіраваны да Вільні для высвятлення пытання па аплаце войска, дзе памёр ад траўм, атрыманых у час сваркі з невядомым кавалём. П.-Л. быў адным з найб. выдатных камандзіраў войска ВКЛ сярэдняга звяна.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. Киев, 1965; Polski

słownik biograficzny. T. 25, z. 106. Wrocław etc., 1980. *Сяргей Чаропка.*

**Паўль фон Русдарф** (Paul von Rusdorf; каля 1385—9.1.1441), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1422—41. Паходзіў з рыцарскага роду з-пад Кёльна. З 1413 комтур у Тухалі, фогт у Ліпенку і Папове, з 1414 падскарбі, з 1415 вял. шатны ордэна і комтур у Гневе, з 1416 вял. комтур ордэна і комтур сталічнага канвента ў Мальбарку, з 1418 зноў вял. шатны і комтур у Дзежгані. 10.3.1422 генеральны капітул ордэна абраў яго вял. магістрам замест Міхаэля Кюхмайстэра. У правядзенні




Паўль фон Русдарф.

ўнутранай і знешняй палітыкі быў вымушаны лавіраваць паміж мяшчанствам Прусіі і вярхушкай ордэна. Кароткая вайна з Польшчай скончылася заключэннем *Мельнскага міру 1422*, паводле якога Жамойць канчаткова перадавалася ВКЛ. У чэрв. 1431 П.ф.Р. заключыў саюз з вял. кн. літ. Свідрыгайлам, падтрымліваючы яго ў намаганнях разарваць унію з Польшчай. У жн. 1431 крыжакі напалі на Добжынскую і Куяўскую землі і Крайну. У адказ у 1433 польска-чэшская армія ўвайшла ў Новую Марку і захапіла землі да Балтыйскага мора. Вайна скончылася падпісаннем *Брэсцкага міру 1435*, паводле ўмоў якога П.ф.Р. адмовіўся падтрымліваць Свідрыгайлу. Паражэнне ў вайне выклікала працяглыя канфлікты ўнутры Тэўтонскага ордэна, якія скончыліся адрачэннем П.ф.Р. ад улады на генеральным капітуле ордэна ў Мальбарку. Хутка пасля гэтага памёр.

**паўстанне 1701—02**, шматсаслоўнае сапегаўскае паўстанне на ўсходзе ВКЛ супраць улады *рэспубліканцаў*. Было апошнім этапам *феадальнай вайны 1696—1702*. Асн. масу яго ўдзельнікаў складалі сяляне; бралі ўдзел таксама мяшчане, баяры, казакі, татары, дробная шляхта і жаўнеры быхаўскага гарнізона. Выклікана спробамі рэспубліканцаў канфіскаваць уладанні Сапегаў у адпаведнасці з *Алькеніцкай пастановай 1700* і размясціць там арганізаванае імі войска ВКЛ, а таксама рабаваннем гэтых уладанняў з боку шляхты. Колькасць паўстанцаў складала да 10 тыс. чал. Выступленні адбываліся ў Быхаўскім і Дубровенскім графствах (уласнасць К.Я.Сапегі), лоеўскіх і баркалабаўскіх уладаннях (уласнасць Ю.С.Сапегі). П. ўзначаліла сапегаўская адміністрацыя Старога Быхава на чале з парнаўскім падкаморыем Мікалаем Тамашом Більдзюкевічам, а таксама полацкі мечнік Ян Станіслаў Юрэвіч (слуга Ю.С.Сапегі) і слонімскі падчашы Лявон Зянковіч (адміністратар Баркалабава), якія згадваюцца як рэгіментары. З іншых кіраўнікоў вядомы Браніслаў Карша, Мікалай Хмара, Станіслаў Баратынскі, Базыль Кіркор, Аляксандр Рушчыцкі, Ян Дулевіч, Пётр Чачот, Ян Міхал Салагуб, Даніэль Выгоўскі, Аляксандр і Андрэй Мірскія, Ежы Кавалеўскі і інш. У распараджэнні обер-лейтэнанта Якуба Дэро, каменданта быхаўскага гарнізона, меліся валашская, драгунская, казацкая конная і пешая харугвы, нямецкая і венгерская пяхота.

У Падняпроўі рэспубліканцамі была размешчана Бел. дывізія войска ВКЛ пад камандаваннем віцебскага кашталяна К.А.Пацея. У канцы крас. 1701 на харугвы, размешчаныя пад Новым Быхавам і Гайшынам, адбыліся напады сапегаўцаў са Старога Быхава. У Гайшыне паўстанцы Я.С.Юрэвіча разбілі 5 валашскіх харугваў, 3 з якіх былі знішчаны цалкам; 200 чал. загінула, некалькі дзесяткаў з паручнікам Янушэвічам на чале трапіла ў палон. Чарнігаўскі харужы Лукаш Гарадзенскі, часова прызначаны рэгіментарам войск, «размешчаных на Белай Русі», адступіў да Мсціслава. У сярэдзіне мая 1701 аддзел Юрэвіча пры падтрымцы мясц. сялян заняў Дуброўна і з'явіўся ў Горках. У канцы чэрв. і пачатку ліп. 1701 быхаўскія сапегаўцы двойчы абрабавалі Раманаў (уваходзіў у склад «*Нойбургскіх маёнткаў*»). 18.7.1701 дубровенскія сяляне і баяры напалі на кадзінскія ўладанні Пацеяў у Мсціслаўскім ваяв., дзе разбілі драгунскую харугву (паручнік Кабярніцкі трапіў у палон). Баявыя дзеянні вяліся і на ПдУ ВКЛ, дзе казакі і інш. на чале з Такажэўскім напалі з Лоева на Холмеч (уладанне М.Д.Валовіча), абрабавалі яго, але былі разбіты. У чэрв. 1701 на дапамогу Быхаву 1,5 тыс. казакоў-паўстанцаў даслаў Сямён Палій, правадыр вызваленчага руху на Правабярэжнай Украіне, што было вынікам яго кантактаў з Сапегамі і Любамірскімі. Вербаваліся таксама казакі ўкр. войска, якое вярталася дадому з Інфлянтаў. Нападам падвяргаліся маёнткі шляхты, духавенства, пасэсараў сапегаўскіх уладанняў; кляштары і касцёлы. Пераходамі і наездамі была спустошана Магілёўская эканомія.

У пачатку ліп. 1701 у Жаберы (рэзідэнцыя М.С.Вішнявецкага) адбылася нарада кіраўніцтва рэспубліканцаў, на якой быў распрацаваны план падаўлення П. У адпаведнасці з ім, на У ВКЛ накіравана войска, якое павінна было сканцэнтравацца каля Барысава і каля Мазыра. У выніку ўзгодненага наступлення планавалася ўзяць паўстанцаў у ціскі. У раёне Барысава было сканцэнтравана 26 харугваў пад камандаваннем К.А.Пацея. У сярэдзіне ліп. 1701 гэта войска перамясцілася пад Копысь, дзе пакінула абоз і паволі рушыла да Дуброўна. У *Дубровенскай бітве 1701* сял. войска пад каманда-



ваннем Б.Каршы было разбіта. Пасля яе ў Дубровенскім графстве жаўнеры Пацея ўчынілі разню, у ходзе якой загінула 3—4 тыс. чал. Пацярпеў і Куцеінскі манастыр пад Оршай, які быў разрабаваны; ігумена жаўнеры збілі, а манахі разбегліся. З-пад Дуброўна Пацей разаслаў «пад'езды» да Горак, Магілёва, Копыся, Быхава, Галоўчына і Чарэі. У ліст. 1701 з-пад Дуброўна 14 харугваў рэспубліканцаў рушылі да Магілёва. 30.11.1701 паміж імі і быхаўскімі сапегаўцамі Більдзюкевіча і Юрэвіча на Буйніцкім полі пад Магілёвам адбылася бітва. Перамаглі рэспубліканцы, аднак вял. страты прымусілі іх адступіць з Магілёва пад Галоўчын. 23.12.1701 у Галоўчыне казакі і сяляне пад камандаваннем Більдзюкевіча, Юрэвіча і Хмары акружылі 18 харугваў рэспубліканцаў, частку якіх знішчылі, частка выратавалася ўцёкамі. Падчас гэтых падзей быў закатаваны казакамі вікарый Галоўчынскага дамініканскага кляштара Казімір Орда. У канцы 1701 з пераменным поспехам адбываліся сутыкненні пад Лоевам, але ў выніку лоеўскія сяляне і казакі былі разбітыя.

У 1702 асн. барацьба разгарнулася вакол Магілёва і Быхава. Большая частка казакоў пакінула Стары Быхаў і вярнулася на Украіну. Аднак мазырскі староста Міхал Халецкі, новы рэгіментар Бел. дывізіі войска ВКЛ, не меў дастаткова сіл для аблогі горада. Па яго загаду ў Быхаўскім графстве былі спалены ўсе вёскі. 3.4.1702 у Маскве рэспубліканцы ад імя ВКЛ падпісалі саюзны дагавор з Расіяй, які аформіў уступленне ВКЛ у *Паўночную вайну 1700—21*. Паколькі Сапегі перайшлі на бок шведскага караля Карла XII, то Быхаў разглядаўся рас. бокам як шведская апора на Падняпроўі. Яшчэ да падпісання дагавора, у лютым—сак. 1702, па загаду Пятра I пад Быхаў пачалі прыбываць атрады ўкр. казакоў (1 тыс. чал. са Старадубскага палка і 1,5 тыс. запарожцаў Ц.Радзіча). У канцы жн.—пачатку вер. 1702 пад Быхаў прыбылі 12 тыс. казакоў (Нежынскі, Старадубскі, Прылуцкі, Лубенскі і Гадзяцкі палкі) пад камандаваннем Міхайлы Міклашэўскага, старадубскага палкоўніка і наказнога гетмана. Пачалася аблога Быхава, якая скончылася 10.10.1702 яго капітуляцыяй. Паводле дагавора, сапегаўцы, казакі і сяляне атрымалі амністыю. Быхаўскі гарнізон павінен быў адысці да Магілёва і пераходзіў у распараджэнне харужага ноўгарад-северскага Казіміра Сяніцкага, які абяцаў паклапаціцца пра ўключэнне яго ў склад войска ВКЛ. Новы гарнізон павінен быў складацца з 400 пехацінцаў каралеўскай гвардыі. Капітуляцыю падпісалі з боку рэспубліканцаў М.Халецкі; з боку сапегаўцаў М.Більдзюкевіч, Л.Зянковіч і М.Хмара; пасрэднікамі выступілі казацкія палкоўнікі М.Міклашэўскі, Д.Гарленка і Д.Зяленскі; каралеўскія камісары — К.Сяніцкі і палкоўнік Ф.Таўбэ. Халецкі перадаў камандаванне быхаўскім гарнізонам Сяніцкаму, які стаў губернатарам Быхаўскага графства. Більдзюкевіч выехаў на Украіну, дзе быў арыштаваны па просьбе Аўгуста II, Халецкага і Р.А.Агінскага і адпраўлены ў ссылку.

*Літ.*: Каралюк В.Д. Вступление Речи Посполитой в Северную войну // Ученые зап. Ин-та славяноведения. М., 1954. Т. 10; Віцько Д. Паўстанне на ўсходзе Беларусі ў 1701—1702 гг. // Бел. гіст. часоп. 2007. № 4; Perdenia J. Stanowisko Rzeczypospolitej szlacheckiej wobec sprawy Ukrainy na przełomie XVII—XVIII w. Wrocław, 1963.

***Зміцер Віцько.***

**паўустаў**, графічны від пісьма, які выкарыстоўваўся ў рукапісах (кнігах, а на ранніх этапах і ў актах) ВКЛ у апошняй трэці 14—18 ст. Для П. характэрны: у асн., марудны тэмп пісьма; «лёгкая», «сярэдняя», «цяжкая» вага (пад «вагой» разумеецца таўшчыня ліній); як правіла, сярэдні памер пісьма; адносная сіметрычнасць і суразмернасць літар; у больш чым 2 лінейкі выконваецца большая колькасць літар, параўнальна з *уставам*; прамое і нахіленае ўправа пісьмо; чаргаванне прамалінейных і крывалінейных форм рухаў пяра; нязвязаныя рухі; спрошчаны дукт (паслядоўнасць, з якой пісец узнаўляў складовыя элементы літар, і кірунак, у якім ён іх пісаў); у шэрагу выпадкаў крывалінейная форма рухаў пяра пры напісанні і злучэнні элементаў літар; прымыкаючы (калі кожны элемент літары і кожная літара напісана самастойным нязвязным рухам пяра), а ў некаторых выпадках прамежкавы тып (калі літара складаецца больш чым з 2 элементаў, то адны элементы напісаны безадрыўна, іншыя — з прамежкамі) злучэння рухаў пры напісанні элементаў літар і саміх літар; у некаторых выпадках невял. колькасць рухаў (прыёмаў) пры напісанні элементаў літар і саміх літар; трохножкавы варыянт «т»; «т» з вял. загінам, які спускаецца з левага краю перакладзіны; «ъ» з вял. перакладзінай і вял. загінам, які спускаецца з яе левага краю; «ѣ» з вял. загінам, які спускаецца з левага краю каромысла (такія загіны маглі спускацца да ніжняй лінейкі радка); аднабаковае «ч»; «з» у выглядзе «З»; «м» з завостранай перамычкай; пэўная варыянтнасць літар; значная колькасць скарачэнняў; параўнальна развітая сістэма памежных сігналаў (служаць для размежавання адзінак тэксту — слоў). Упершыню прыкметы П. найб. выразна праявіліся ў актах, якія выйшлі з канцылярый польскага караля і вял. (найвышэйшага) кн. літ. Ягайлы, асяроддзя яго службовых асоб, а таксама канцылярыі Вітаўта. У развіцці П. вылучаюцца 2 перыяды: апошняя трэць 14— 15 ст. і 16—18 ст. У 1-ы перыяд канчаткова склаліся прыкметы П., якія ў далейшым істотна не змяніліся. П. апошняй трэці 14 ст. характарызуецца амаль усімі пералічанымі прыкметамі. У больш дробным (параўнальна з уставам) П. у літарах «д», «ъ», «т» і «ѣ» сцёрліся дыферэнцыруючыя элементы. Па гэтай прычыне «д» пачало выконвацца з вынаснымі падоўжанымі ножкамі; «т» — з вял. загінам, які спускаўся з левага краю перакладзіны; «ъ» — з вынаснай мачтай і вял. перакладзінай; «ы» — з вынаснай мачтай і вял. перакладзінай «ъ»; «ѣ» з павялічанай мачтай і высокім каромыслам. У «в» лінія, якая ўтварала верхнюю пятлю, магла спускацца да самага нізу спінкі літары. Гэта прамая часам размяшчалася паралельна спінцы літары. Ножка «ч» па памерах менш за чарку, часта была вельмі маленькай. Часам сустракаецца «ч» без ножкі. У 1-й пал. 15 ст. літара «а» выконвалася з вынаснай перакладзінай. З'явілася «т» з ножкай, якая выходзіла за верхнюю лінейку радка. Двухлінейны варыянт «т» узнаўляўся з доўгім за-



гінам, які спускаўся з левага краю перакладзіны. У шэрагу выпадкаў сустракаецца трохножкавы варыянт «т». Выкарыстоўваўся «ъ» з вынасной мачтай і вял. перакладзінай і «ѣ» з высокім каромыслам. Суіснавалі 2 варыянты «ы»: з кароткай мачтай «ь» і «ъ», якая мела вынасную мачту і вял. перакладзіну. Злучальная перакладзіна паміж «ъ» ці «ь» і «і» ў шэрагу выпадкаў была ліквідавана. Устанавілася прамое распалажэнне на радку «е». У некаторых выпадках можна сустрэць «е» з невял. нахілам управа. Літара «в» магла пісацца акруглай. Быў аднаўлены архаічны, зоркападобны, варыянт «ж», які складаўся з мачты і 2 нахіленых перакладзін. Літара «ч» у выглядзе расшчэпа змянілася на аднабаковую. Укараніўся новы, змееападобны, варыянт «з». Літара «з» узнаўлялася як «З». У П. «ъ» магла выконвацца як з павялічанымі, так і з кароткімі мачтай і перакладзінай; «ѣ» як з высокім, так і з нізкім каромыслам. У 2-й пал. 15 ст. выкарыстоўвалася трохножкавая «т»; змеепадобная «з», якая магла мець не толькі ніжні, але і верхні вынасныя элементы; «т» з вынасной мачтай; аднабаковая «ч»; «ы» з кароткай мачтай «ь», але без злучальнай перакладзіны; «в» у выглядзе чатырохвугольніка з дыяганаллю, якая ішла з верхняга правага вугла ў ніжні левы. Літара «д» пісалася з ножкамі сярэдняга памеру; «ъ» і «ѣ» — з загінамі, якія ішлі з левых краёў перакладзін «ъ» і каромысла «ѣ». Варыянты «ъ» з вынасной мачтай і з высокім каромыслам выкарыстоўваліся радзей. Функцыю памежных сігналаў у П. апошняй трэці 14 ст. выконвалі кропкі, якія адасаблялі асобныя словы і іх групы. Кропкі звычайна размяшчаліся пасярэдзіне радка. Паступова фарміраваліся прабелы паміж словамі. У якасці памежных сігналаў выкарыстоўвалася таксама павялічанае ў даўжыню і шырыню т.зв. якарнае «е», корпус якой быў нахілены ўлева і паўляжаў, а ў некаторых выпадках ляжаў ці амаль ляжаў на радку, а язычок літары быў накіраваны ўверх. У апошняй трэці 14 ст. — 1-й пал. 15 ст. П. быў падвержаны т.зв. 2-му паўд.-слав. ўплыву, які быў звязаны з інтэнсіфікацыяй сувязей усх. славян з Візантыяй, сумеснай дзейнасцю ўсх.-слав. пісцоў з балгарскімі і сербскімі на Афоне і ў Канстанцінопалі. У выніку ўплыву «е» стала пісацца ў выглядзе «Є». Варыянт «Ѡ» з нізкай сярэдзінай быў заменены на варыянт з высокай сярэдзінай. Замест «и», «н» і «ю» з нахіленымі перакладзінамі ў верхняй частцы з'явіліся варыянты з нахіленымі перакладзінамі пасярэдзіне і г.д. З гэтым уплывам даследчыкі звязваюць з'яўленне нахілу пісьма ў правы бок, чатырохвугольнага і акруглага «в»; негеаметрычнага «з», у т.л. ў выглядзе «З»; трохножкавага варыянта «т»; аднабаковага «ч» і г.д. Аднак гэтыя напісанні маглі ўзнікнуць самастойным, эвалюцыйным шляхам. З 16 ст. П. канчаткова разышоўся са скорапісам і фактычна застыў у сваім развіцці. У 1-й пал. 16 ст. ў П. крышталізаваліся тыя прыкметы, якія замацаваліся ў ім у 2-й пал. 15 ст. Для каліграфічнага П. характэрна выкарыстанне «в» «калачыкам», «д» з падоўжанымі ножкамі, «ч» з вуглаватай чаркай і маленькай ножкай і аднабаковы варыянт «ч». Для рэгулязаванага і беглага П. (мяжу паміж якімі нярэдка цяжка ўстанавіць) уласцівы таксама скарапісныя «ж» і «ꙋ»; «е» у выглядзе «Є»; «ъ» з вынасной мачтай і «ѣ» з вял. мачтай і высокім каромыслам; змеепадобная «з», якая выходзіла за межы 2 лінеек. У якасці памежных сігналаў выступалі кропкі паміж словамі ці групамі слоў, якія размяшчаліся, як правіла, на ніжняй лінейцы радка. Ва ўсіх разнавіднасцях П. паралельна з кропкамі ставіліся коскі. Функцыю памежных сігналаў выконвала таксама «в» «калачыкам», якая пісалася ў пачатку слова. Спосабы вынасу літар над радком, кола вынасных літар былі тыя ж самыя, што і ў скорапісе. Аднак П. у параўнанні са скорапісам характарызаваўся меншай колькасцю вынасных літар. Ва ўсіх разнавіднасцях П. кола тытлападобных літар было амаль аналагічным колу тытлападобных у скорапісе. П. 2-й пал. 16 ст. і асабліва 17 ст. вывучаны недастаткова. Агульныя назіранні даюць магчымасць канстатаваць, што пісьмо П. гэтага часу па сваіх гал. прыкметах мала чым адрознівалася ад П. 1-й пал. 16 ст. Сярод новых прыкмет П. вылучаецца выкарыстанне ў пачатку слоў вял. літар, якія выконвалі функцыю памежных сігналаў. У якасці вял. літар маглі выкарыстоўвацца грэчаскія і лацінскія аналагі, напрыклад, «Е», «Σ», W (для «Ѡ»). Пісьмо стала больш манерным, дэкаратыўным, стылізаваным пад друкаванае пісьмо.

*Літ.*: Соболевский А.И. Славяно-русская палеография. 2 изд. Санкт-Петербург, 1908; Черепнин Л.В. Русская палеография. М., 1956; Костюхина Л.М. Книжное письмо в России XVII в. М., 1974; Я е ж. Палеография русских рукописных книг XV—XVII вв.: русский полуустав. М., 1999; Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. М., 1978; Я г о ж. Белорусы. Т. 2. Язык белорусского народа. Кн. 1—2. Минск, 2006; Тихомиров М.Н., Муравьев А.В. Русская палеография. 2 изд. М., 1982; Амосов А. Развитие кириллического письма в России до XV в. // Славянска палеография и дипломатика. София, 1985. Ч. 2; Пронштейн А.П., Овчинникова В.С. Развитие графики кирилловского письма. 2 изд. [Ростов-на-Дону], 1987; Куль-Сяльверстава С.Я. Беларуская палеаграфія. Гродна, 1996; Щепкин В.Н. Русская палеография. 3 изд. М., 1999; Левочкин И.В. Основы русской палеографии. М., 2003; Груша А.І. Беларуская кірылічная палеаграфія. Мінск, 2006.

***Аляксандр Груша.***

**Паўша** Сямён Ян (?—10.1655), ваенны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з бел. правасл. шляхты, меў невял. маёнткі ў Мазырскім павеце. Магчыма, у маладосці служыў у кварцяным войску. Актыўны ўдзельнік *антыфеадальнай вайны 1648—51, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Летам 1649 узначаліў казацкую харугву войска ВКЛ колькасцю 150 шабель. Прымаў удзел у *Лоеўскай бітве 1649*. Пасля заключэння *Збораўскага дагавора 1649* П. быў накіраваны для адабрання ў казакоў Любеча і Лоева. З восені 1649 да вясны 1651 П. на чале палка знаходзіўся каля Мазыра, пільнуючы межы ВКЛ ад укр. казакоў. За вайсковыя заслугі ў лютым 1651 атрымаў чын ротмістра. У крас. 1651 узначаліў буйны атрад з 3 драгунскіх і 5 казацкіх харугваў і перамясціўся да пераправы цераз Прыпяць каля Бабічаў. У чэрв. 1651 атрад П. ўступіў на тэр. Украіны і пры падтрымцы мясц. шляхты разбіў у Оўруцкім пав. некалькі казацкіх і татарскіх атрадаў. У



ліп.—жн. 1651 атрад П. аб'яднаўся з войскам стольніка ВКЛ Вінцэнта Гасеўскага і ўдзельнічаў у авалоданні Кіевам. У 1653 П. ўзначальваў казацкую харугву, знаходзіўся каля Мазыра, ахоўваў межы ВКЛ з казацкай Украінай. Летам 1654 харугва П. стойка абараняла Мазыр ад рас. войска, але была разбіта, страціўшы палову асабістага складу. Пасля падпісання *Кейданскай дэкларацыі 1655* полк пад камандаваннем П. выйшаў з падпарадкавання Багуславу *Радзівілу* і накіраваўся да Берасця, дзе збіраліся сілы, верныя каралю Яну II Казіміру. Верагодна, загінуў у 2-й пал. кастр. 1655, абараняючы Берасцейскае ваяв. ад казакоў Івана *Выгоўскага*.

*Літ.*: Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. Киев, 1965; Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Radziwiłł B. Autobiografia. Warszawa, 1979; Polski słownik biograficzny. T. 25, z. 106. Wrocław etc., 1980. ***Сяргей Чаропка.***

**Пацей** Аляксандр (? — сак. 1770), дзяржаўны дзеяч. З роду *Пацеяў*, сын Казіміра Аляксандра Пацея і Ганны Тэрэзы з Летаў-Форбекаў, брат Антонія *Пацея*. Падчашы ВКЛ з 1724, ковенскі гродскі староста з 1736, віцебскі кашталян з 1739, трокскі кашталян з 1740, трокскі ваявода з 1742. Пасол на соймы 1718 і 1722. Пад час бескаралеўя 1733—36 падтрымаў кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага на трон Рэчы Паспалітай і ваяваў у шэрагах яго прыхільнікаў у ВКЛ. Пасля таго як у ліп. 1734 яго брат, генеральны рэгіментар Антоні Пацей, на чале кавалерыі рушыў да прускай мяжы, узначаліў войскі канфедэратаў Ляшчынскага. Перад набліжэннем рас. войск і атрадаў прыхільнікаў Аўгуста III адступіў да Сяльца і перадаў камандаванне над войскамі чашніку ВКЛ Юзафу Шчыту. У выніку *Сялецкай бітвы 1734* войска прыхільнікаў Ляшчынскага было цалкам разгромлена. П. прызнаў Аўгуста III каралём у 1735. У барацьбе кааліцыі Сапегаў, Чартарыйскіх, Масальскіх і Салагубаў супраць Радзівілаў у 1741—43 падтрымаў апошніх. Клапаціўся аб выбарах прыхільных Радзівілам дэпутатаў на трокскіх грамнічных сойміках (праводзіліся ў час свята Грамніц — Стрэчання Гасподняга) 1742 і 1743. У 1742 пры яго падтрымцы дэпутатам Трыбунала ВКЛ у Троках быў абраны радзівілаўскі канд. на ўрад маршалка Трыбунала полацкі кашталян Валяр'ян Жаба. У 1745, пасля настойлівых просьб Аўгуста III, пагадзіўся быць абраным трокскім дэпутатам Трыбунала ВКЛ і стаць трыбунальскім маршалкам за каралеўскае абяцанне ўрадаў для яго сыноў. У 1746 у інтарэсах кааліцыі Радзівілаў, Сапегаў і Чартарыйскіх пільнаваў Трокскі соймік ад дзеянняў Агінскіх і Салагубаў. У 1755 разглядаўся лідэрам прыдворнай партыі, надворным каронным маршалкам Ежы Мнішакам як адзін з магчымых лідэраў прыдворнай партыі ў ВКЛ, незалежнай ад Радзівілаў і Чартарыйскіх. Падчас барацьбы паміж Чартарыйскімі і Радзівіламі ў 1755—57 дапамагаў апошнім. У 1757 разам са сваім сынам Людвікам разглядаўся як магчымы канд. каралеўскага двара на ўрад маршалка Трыбунала ВКЛ, што павінна было сцішыць барацьбу Радзівілаў і Чартарыйскіх. У 1760 зноў разглядаўся як магчымы канд. на ўрад трыбунальскага маршалка. У 1762 быў адным з кандыдатаў на ўрад віленскага ваяводы. Меў вял. шанцы атрымаць яго як нейтральная асоба ў барацьбе Радзівілаў і Чартарыйскіх, але сам мала клапаціўся аб яго. У бескаралеўе 1763—64 і першыя гады панавання Станіслава Аўгуста Панятоўскага быў малаактыўны ў палітыцы.

*Літ.*: Мацук А. Роль М.Чорторийського під час розподілу повітових урядів у ВКЛ в 40-х рр. XVIII ст. // Український історичний збірник. Київ, 2007. Вип. 10; Яго ж. Войска як інструмент усталявання ўлады Аўгуста III у ВКЛ у 1733—1735 гг. // Бел. гіст. агляд. 2008. Т. 15, сш. 1—2; Яго ж. Барацьба магнацкіх груповак вакол Трыбунала ВКЛ 1743 г. // Український історичний огляд. Київ, 2009. Вип. 12; Яго ж. Размеркаванне трыбунальскіх урадаў у межах магнацкай кааліцыі ў 1745 г. // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2009. № 3; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983.

***Андрэй Мацук.***

**Пацей** Антоній (?—16.2.1749), дзяржаўны дзеяч. З роду *Пацеяў*, сын Казіміра Аляксандра Пацея і Ганны Тэрэзы з Летаў-Форбекаў, брат Аляксандра *Пацея*. Абозны ВКЛ з 1715, стражнік ВКЛ з 1729. Адукацыю атрымаў пад апекай дзядзькі Людвіка Канстанцыя Пацея. Пасол на соймы 1720, 1724 і 1726. Падчас бескаралеўя з 1733 праводзіў актыўныя перагаворы адначасова з французскім і саксонскім пасламі. Намагаўся атрымаць урад польнага гетмана ВКЛ. Быў абраны палкоўнікам адной з частак падзяліўшайся шляхты Берасцейскага ваяв. Канчаткова падтрымаў кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага за фінансавую дапамогу і абяцанне ўраду польнага гетмана ВКЛ. Станіслаў Ляшчынскі прызначыў Антонія Пацея генеральным рэгіментарам ВКЛ замест Міхала Сервацыя Вішнявецкага. Большасць гусарскіх і пяцігорскіх харугваў, некаторыя рэгіменты пяхоты і драгун, а таксама артылерыя, полк пярэдняй каралеўскай стражы і маршалкаўская харугва прызнала ўладу Станіслава Ляшчынскага і перайшла пад камандаванне Антонія Пацея. У кастр. 1733 атакаваў камунікацыі рас. войск і прыхільнікаў Аўгуста III. Сабраў каля Сімна каля 8 тыс. войска. З ім рушыў у Навагародскае ваяв. для забеспячэння войск з уладанняў саксонскіх прыхільнікаў Радзівілаў. У студз. 1734 з усімі сваімі войскамі рушыў пад Вільню, але не прыняў удзелу ў *Віленскай бітве 1734*, назіраючы за ёй з боку. Праявіў слабыя ваенныя здольнасці. Пасля капітуляцыі Гданьска ў жн. 1734 П. схіляўся да прызнання каралём Аўгуста III і звярнуўся з такой прапановай да Мікалая Фаўстына Радзівіла. Перагаворы былі перарваны, калі П. на чале сваёй кавалерыі рушыў да прускай мяжы на падставе памылковых звестак, што Станіслаў Ляшчынскі мяркуе з Караляўца прыбыць у Рэч Паспалітую і таму патрабуюцца войскі для яго абароны. Пасля вяртання са сваімі войскамі доўгі час знаходзіўся каля Берасця. У студз. 1735 з Берасця праз Навагародак накіраваўся да Радашковіч, а адтуль да Вільні, якую абышоў з Пд і рушыў да Пунь. Быў вымушаны адступіць перад пераўзыходзячымі сіламі рас. генерала Л.В.Ізмайлава і Радзівіла да Кальварыі, а потым да Сідры і Ліпска, дзе аб'яднаўся з атрадамі Міхала Патоцкага, якія прыбылі з Валыні. Адтуль аб'яднаныя сілы П. і Патоцкага праз Аўгус-



тоўскую пушчу пайшлі пад Сейны. Тут былі нагнаны рас. атрадам маёра Азямблоўскага. 10.10.1735 пад Бортнікамі адбылася бітва войск П. з атрадам Азямблоўскага. Войскам П. ўдалося адбіць 1-ю атаку, і рас. войскі былі вымушаны адступіць. Абкружаны з усіх бакоў атрад П. праз Прусію адступіў у Вармію. У маі 1735 П. выехаў у Каралявец. У 1736 прызнаў каралём Аўгуста III. У 1736 сярод удзельнікаў новаўтворанай рас. партыі. У 1737 актыўна ўключыўся ў барацьбу супраць Радзівілаў за *«Нойбургскія маёнткі»*. Пасля паражэння ў Трыбунале ВКЛ выплочваў грошы, якія яму перадалі Сапегі за «Нойбургскія маёнткі». У 1740-х г. фактычна перастаў удзельнічаць у грамадска-паліт. жыцці.

*Літ.*: Бутурлин Д. Военная история походов россиян в XVIII столетии. Санкт-Петербург, 1823. Ч. 3; Дыярыюш Князя Міхала Казімера Радзівіла Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага В. К. Літ. // Спадчына. 1995. № 2; Truchim S. Konfederacja dzikowska. Poznań, 1921; Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1. Warszawa, 1996; Slesoriūnas F. The General Confederation of the Grand Duchy of Lithuania (1734—1736) // Lithuanian Historical Studies. 2003. Vol. 8.

***Андрэй Мацук.***

**Пацей** Людвік (1726 — пач. 1771), дзяржаўны дзеяч. З роду *Пацеяў*, сын Аляксандра Пацея і Тэрэзы з Войнаў. Абозны ВКЛ з 1744, стражнік ВКЛ з 1748. Вучыўся ў Віленскім піярскім калегіуме і «Калегіум Нобіліум». У 1742 бацька П. атрымаў урад трокскага ваяводы і мусіў адмовіцца ад урада ковенскага гродскага старасты, які імкнуўся перадаць Людвіку. Адначасова прывілей на Ковенскае староства атрымаў Шыман Сіруць, які апярэдзіў П. і заняў урад. Спробы П. ў 1743 аспрэчыць заняцце ўрада ковенскага старасты Сіруцем плёну не далі. Пасол на соймы 1744, 1748, 1750, 1752, 1754, 1756, 1761, 1762. Займаў нейтральную пазіцыю ў барацьбе Чартарыйскіх з Радзівіламі, але потым схіліўся на бок апошніх. У 1753 Міхал Казімір Радзівіл і каралеўскі двор намагаліся, каб П. ці яго бацька стаў маршалкам Трыбунала ВКЛ, але тыя адмовіліся. П. быў кандыдатам Радзівілаў на ўрад маршалка Трыбунала ВКЛ 1756, але адмовіўся на карысць Антонія Паца. У інтарэсах магнацкай групоўкі Радзівілаў дзейнічаў на дэпутацкіх і пасольскіх сойміках у 1756—58. У 1757 разам са сваім бацькам разглядаўся як магчымы канд. каралеўскага двара на ўрад маршалка Трыбунала ВКЛ, што павінна было сцішыць барацьбу Радзівілаў і Чартарыйскіх. У 1758 ад імя Радзівілаў П. праводзіў перагаворы з падканцлерам ВКЛ Міхалам Антоніем Сапегам наконт супольнага плана выбараў на дэпутацкіх сойміках. Падчас Трыбунала ВКЛ 1758 па загаду Радзівіла П. дамогся, каб урадаў пісара рус. кадэнцыі і маршалка Скарбовага трыбунала часова былі пазбаўлены прыхільнікі «фаміліі» Людвік Шэмет і Марцін Алізаровіч. У 1760 зноў разглядаўся як магчымы канд. на ўрад трыбунальскага маршалка. У 1760 у час хваробы Радзівіла П. узначаліў групоўку Радзівілаў на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ, аднак перамогу атрымалі Чартарыйскія. У 1760, пасля смерці Міхала Антонія Сапегі, намагаўся атрымаць урад падканцлера ВКЛ. Дзякуючы падтрымцы Радзівіла большасць пасольскіх соймікаў ВКЛ рэкамендавала П. на ўрад падканцлера ВКЛ. Каралеўскі двор імкнуўся перадаць гэты ўрад мсціслаўскаму ваяводзе Людвіку Плятэру і нікому не надаў падканцлерства ВКЛ. П. парваў з каралеўскім дваром і Радзівіламі і перайшоў на бок Чартарыйскіх. На сойме 1762 падтрымаў атаку «фаміліі» ў справе фальсіфікацыі шляхецтва першага саксонскага міністра Генрыха Бруля. Актыўна супрацоўнічаў са стольнікам ВКЛ Станіславам Панятоўскім і падтрымаў яго кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай. Быў пасломна канвакацыйны і элекцыйны соймы 1764. У 1767 зблізіўся з Каралём Станіславам Радзівілам і быў адным з актыўных удзельнікаў стварэння падтрыманай Расіяй *Радамскай канфедэрацыі*. Быў вызначаны гал. дэлегатам у Расію. Пасля вяртання ў 1768 у Рэч Паспалітую адначасова супрацоўнічаў і з прарас. групоўкай, і з барскімі канфедэратамі.

*Літ.*: Мацук А. Паслы ад Вялікага княства Літоўскага на сойм Рэчы Паспалітай 1761 г. // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV—XVIII ст. Мінск, 2008; Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Czeppe M. Kamaryla Pana z Dukli: kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha 1750—1763. Warszawa, 1998.

***Андрэй Мацук.***

**Пацей** Людвік Канстанцін (1664—3.1.1730), дзяржаўны дзеяч. З роду *Пацеяў*, сын віцебскага ваяводы Леанарда Габрыэля Пацея і Рэгіны Людвікі з Агінскіх. Берасцейскі земскі пісар з 1686, падкаморый з 1689, вял. стражнік з 1698, вял. падскарбі з 1703, польны гетман у 1709, вял. гетман з 1709, адначасова віленскі кашталян з 1709 і ваявода з 1722. Маршалак Трыбунала ВКЛ 1714, пасол на соймы 1688—89 (з Берасцейскага пав.), 1690 (з Мазырскага пав.), 2 соймы 1693, 1695, 1697, 1699 (з Берасцейскага пав.), 1701—02 (з Трокскага пав.), 1703 (з Берасцейскага пав.); удзельнік элекцый 1674 і 1697. У 1680—90-я г. ўдзельнічаў у войнах з туркамі і татарамі. Цесна звязаны з Агінскімі, пазней таксама з Каралём Станіславам Радзівілам. Адзін з лідэраў апазіцыйнай Сапегам групоўкі *рэспубліканцаў*, стаяў на чале яе ў Берасцейскім пав. Прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі канфедэрацыі часткі войска ВКЛ у 1696. Выдадзены ім 2.10.1696 універсал склікаў берасцейскую шляхту пад выглядам барацьбы з казакамі на 12 кастр. пад Пружаны, дзе 14 кастр. ўтворана канфедэрацыя на чале з Рыгорам Антоніем Агінскім. На лімітаваным з канвакацыі Берасцейскім сойміку 10.1.1697 П. выйшаў з пратэстацыяй і прызнаны ворагам айчыны. На грамнічным сойміку 4.2.1697 сапегаўцы і радзівілаўцы збілі П. і яго прыхільнікаў. На элекцыйным сойме 1697 П. выступаў за *ураўнаванне правоў* і абранне саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста на трон Рэчы Паспалітай. Сустракаў апошняга на мяжы 20.7.1697 у складзе дэлегацыі яго прыхільнікаў і суправаджаў да Кракава; удзельнік каранацыйнага сойма. У пач. 1698 П. займаўся арганізацыяй паспалітага рушэння супраць Сапегаў на У ВКЛ. Удзельнік з'езда шляхты ВКЛ у Вільні 14.4.1698. Высланы *рэспубліканцамі* з Лявонам Агінскім пасломна



да Аўгуста II, у дарозе пацярпеў ад нападу сапегаўцаў, але выратаваўся ўцёкамі. Нягледзячы на гэта, пасля перагавораў з Сапегамі пры пасрэдніцтве караля П. і Агінскі падпісалі 22.7.1698 у Варшаве пагадненне з Казімірам Янам і Бенядзіктам Паўлам Сапегамі. Удзельнічаў у паспалітым рушэнні ў канцы 1698, падпісаў *Пузавіцкую пастанову 1698*. На сойме 1699 дамагаўся вываду саксонскіх войск з ВКЛ. Удзельнічаў у працы Скарбовага трыбунала 1700. Удзельнік *Алькеніцкай бітвы 1700*. Падпісаў *Алькеніцкую пастанову 1700*, якой прызначаны камісарам пры генеральным палкоўніку Міхале Сервацыі Вішнявецкім. Абраны рэспубліканцамі паслом да Аўгуста II; прыняты каралём 5.2.1701, забяспечыў рэспубліканцам неафіцыйную падтрымку з яго боку. Падчас сойма 1701—02 звяртаў увагу на шведскую пагрозу. Падпісаў пагадненне з Сапегамі 16.1. 1702. У лютым 1702 вёў у Варшаве разам з К.С.Радзівілам перагаворы з рас. паслом Г.Ф.Даўгарукім, прапануючы далучэнне ВКЛ да вайны са Швецыяй без згоды сойма ўзамен за вайсковую і фінансавую падтрымку. Пасля яго зрыву браў удзел у баявых дзеяннях супраць шведаў і Сапегаў, кіраваў атакай на Вільню 16.4.1702. На Мальбаркскай вальнай радзе 1703 выступіў за збройнае вырашэнне канфлікту са Швецыяй. Пасля рады ваяваў супраць шведаў і сапегаўцаў у Польшчы. На сойме 1703 атрымаў разам з Марцыянам Дамінікам Валовічам на 2 гады ў адміністрацыю збор падаткаў (мыта і тытунёвай манаполіі). Падчас падзелу пасад, адабраных у Сапегаў у 1703, атрымаў урад польнага гетмана, але адмовіўся ад яго на карысць Р.А.Агінскага, узамен чаго атрымаў урад падскарбія. Удзельнік рады ў Яvotrаве ў 1703, падпісаў заключаны там трактат паміж ВКЛ і Расіяй. У пач. 1704 знаходзіўся ў Маскве, дзе займаўся ўзгадненнем асобных артыкулаў дагавора. Прыняў удзел у стварэнні *Сандамірскай канфедэрацыі* 1704. Удзельнічаў у вальных радах сандамірскіх канфедэратаў у Гародні, Львове і Любліне ў 1705—07. Удзельнік з'езда шляхты ВКЛ у Навагародку ў 1707. Падчас шведскага наступлення 1708 пакінуў ВКЛ і дзейнічаў у Польшчы сумесна з дывізіяй Якуба Зыгмунта Рыбінскага. 21.11.1708 пад Канецполем П. з Рыбінскім разбілі каронпае войска вял. гетмана Юзафа Патоцкага, прыхільніка Станіслава Ляшчынскага. У канцы ліп. 1709 дывізія злучылася з войскам кароннага гетмана Адама Мікалая Сяняўскага ў Шчабжэшыне. Пасля вяртання Аўгуста II на трон атрымаў ад яго ў 1709 спачатку ўрад польнага гетмана ВКЛ, а праз 6 дзён, у сувязі са смерцю Р.А.Агінскага, прызначаны 28.10.1709 вял. гетманам ВКЛ. У сувязі з пераходам Яна Казіміра Сапегі на бок Аўгуста II прыняў 18.11.1709 камандаванне над яго войскам. Удзельнік Варшаўскай вальнай рады 1710, дамагаўся вываду рас. войск з Рэчы Паспалітай. На спатканнях з Пятром I у Яvoraве ў 1711 абяцаў вайсковую дапамогу ў вайне з Турцыяй, але паспеў толькі вывесці войскі на Украіну. Падавіў прашведскае выступленне Яна Казіміра Сапегі ў 1712 і прымусіў яго да ўцёкаў у Сілезію. З канца 1711 знаходзіўся ў вострым канфлікце з польным гетманам ВКЛ Станіславам Эрнестам Дэнгафам, які ў 1713 стаў прычынай зрыву сойма прыхільнікамі П. Займаўся падробкай грошай; у 1713 быў выкрыты нелегальны манетны двор у яго маёнтку Уладава. Каб не дапусціць разгляду справы Трыбуналам ВКЛ у 1714, дамогся месца яго маршалка. Канфліктаваў таксама з Аўгустам II, планаваў яго дэтранізацыю. 15.5.1713 у Вільні падпісаны пакт магнатэрыі ВКЛ супраць планаў караля абмежаваць паўнамоцтвы П. як вял. гетмана. У 1714 выслаў Казіміра Дамініка Агінскага да Пятра I з просьбай аказаць яму вайсковую дапамогу. Ініцыіраваў скліканне 29.7.1715 з'езда шляхты ВКЛ у Вільні, дзе 10 вер. падпісаў дагавор аб вайсковым супрацоўніцтве са шляхтай, скіраванай супраць Аўгуста II і саксонскага войска. У выніку змены пазіцыі Пятра I пайшоў на кампраміс з Аўгустам II і адмовіўся ад пагаднення, якое публічна спалена 24.9.1715. Пасля абвяшчэння *Тарнагродскай канфедэрацыі* 1715 імкнуўся стрымаць канфедэрацкі рух у ВКЛ, але пасля ўтварэння 23.3.1716 у Вільні генеральнай канфедэрацыі ВКЛ вымушана да яе далучыўся, аднак ігнараваў патрабаванні канфедэратаў. У канцы ліп. 1716 супраць П. адбыўся бунт у войску ВКЛ, была зроблена спроба арыштаваць П., які знаходзіўся ў лагеры каронных канфедэратаў. П. ўдалося ўцячы ад пагоні і схавацца ў саксонскім лагеры ў Любліне. Спроба арышту паслужыла прычынай зрыву перагавораў Аўгуста II з канфедэратамі і прывяла да абвастрэння іх адносін з Расіяй. Нягледзячы на ціск Расіі, не зацікаўленай у змене гетманаў ці абмежаванні іх улады, 2.1.1717 абодва гетманы ВКЛ прыступілі да трактата з канфедэратамі, які абмяжоўваў іх паўнамоцтвы. Пасля сойма 1717 зноў супрацоўнічаў з Дэнгафам, спрабуючы вярнуць паўнамоцтвы (уладу над войскам замежнага строю), лавіраваў паміж Аўгустам II і Расіяй. На сойме 1718 дамагаўся выслання пасольства да Пятра I з патрабаваннем вываду рас. войск, не дапусціў зрыву сойма, нягледзячы на жаданне рас. пасла Даўгарукага, дамагаўся ад апошняга ў пач. 1720 вяртання Інфлянтаў Рэчы Паспалітай. Прызначаны 4.10.1722 віленскім ваяводам пасля смерці ў 1721 К.Я.Сапегі. З 1725 падтрымліваў захады Маўрыкія Саксонскага па атрыманні ўлады ў Курляндыі, за што на сойме 1726 паслы патрабавалі над ім суда. У канцы панавання Аўгуста II выступаў супраць усталявання ў Рэчы Паспалітай саксонскай дынастыі. У 1729 звяртаўся па дапамогу ў гэтай справе да Расіі, заклікаючы нават да ўзброенай інтэрвенцыі. Выказваўся за кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага, да якога яго прыхільнікі ў ВКЛ накіравалі дэлегацыю на чале з П. з запрашэннем на трон. Адпаведны мемарыял быў уручаны Ляшчынскаму ў студз. 1730. Памёр П. у Ражанцы. Меў Ражанку, Уладаву, Тэрэспаль (Берасцейскі пав.) і інш. Жанаты з 1692 з Анэляй з Загароўскіх (памерла ў 1707), потым з Эмерыцыянай з Варшыцкіх (з 1709). У 1-м шлюбе меў дачку Еву Марыяну (жонка Францішка Бажэнцкага). Маёнткі П. перайшлі яго пляменніку Антонію Аляксандру, стражніку ВКЛ.

*Літ.*: Артамонов В.А. Россия и Речь Посполитая после Полтавской победы (1709—1714 гг.). М., 1990; Gierowski J. Między saskim absolutyzmem a złotą wolnością // Z dziejów wewnętrznych



Rzeczypospolitej w latach 1712—1715. Wrocław, 1953; W i m m e r J. Wojsko Rzeczypospolitej w dobie wielkiej wojny północnej 1700—1717. Warszawa, 1956; K a m i ń s k i A. Konfederacja sandomierska wobec Rosji w okresie poaltransztadzkim, 1706—1709. Wrocław etc., 1969; R o s t w o r o w s k i E. O polską koronę: polityka Francji w latach 1725—1733. Wrocław, 1969; S l e s o r i ū n a s G. Lietuvos Didžioji kunigaikštyste vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000; R a c h u b a A. Sprawa obsady urzędów litewskich po Sapiehach w początkach XVIII wieku // Między wielką polityką a szlacheckim partykularyzmem. Toruń, 1993; Яго ж. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002. ***Зміцер Віцько.***

**Пашкевіч** Міхал (1695, Ашмянскі пав. — крас. 1767), дзеяч каталіцкай царквы. У 21 год уступіў у Віленскі кляштар бернардзінцаў, па адбыцці года навіцыята прыняў манаскія зарокі. Вывучаў філасофію і тэалогію, прыняў святарства. У 1734—37 лектар тэалогіі і магістр навіцыята ў Нясвіжы, адначасова дэфінітар (чл. дэфініторыя Літ. правінцыі бернардзінцаў — рады, якая дзейнічала пры правінцыяле). Пазней 3 гады пражыў у кляштары ў Віцебску як лектар-юбілят і айцец правінцыі, будучы адначасова прыдворным тэолагам віцебскага ваяводы Марцыяна Агінскага. Паводле меркавання гісторыка В.Мураўца, спрыянне Агінскага адкрыла для П. дарогу да найвышэйшых айчынных пасад у ордэне — у 1741—44 ён быў кусташам правінцыі, у 1744—47 — правінцыялам. Пасля гэтага зноў займаў пасаду кусташа і прабываў у Віленскім кляштары, дзе і памёр. Шмат увагі надаваў прапаведніцкай дзейнасці, аўтар казанняў, 6 з якіх апублікаваны: «Kazanie o potopie świata małego ... miane na pogrzebie Michała Tyzenhauza, podkomorzego województwa wileńskiego» (Вільня, 1736), «Księzyc książe planet ... na pogrzebie Antoniego Oskierki kasztelana nowogrodzkiego w kościele słuckim...» (Вільня, 1737), «Ślady bez zawady śp. Krystyny z Abramowiczów Ogińskiej wojewodziny witebskiej ... utorowane», (Вільня, 1739), «Dolina Jozofatowa niedoli na pogrzebie Jozefata Michała Karpia biskupa żmudzkiego...» (Вільня, 1740), «Festum Ecce ... albo na fest Benedykta świętego kazanie miane w kościele XX. Bernardynów nieświeskich pod tytułem S. Krzyża» (Вільня, 1742), «Slawa bolesna ... Crystusa Pana w pięciu Boleslawach królach polskich przez pięć piątków pasyjnych z ambony nieświeskiej ... promulgowana» (Вільня, 1744). Канвалют з 5 казаннямі П. захоўваецца ў зборах Нац. музея гісторыі і культуры Беларусі, на тытульных лістах большасці твораў прысутнічаюць аўтарскія дэдыкацыйныя надпісы аб падараванні гэтых кніг каноніку смаленскаму, дэкану полацкаму і параху ваўкалацкаму Юзафу Клячкоўскаму.

*Літ.*: Л а в р и к Ю.Н. Издания проповедей о. Михала Пашкевича OFM Obs в собрании Национального музея истории и культуры Беларуси // Книга — источник культуры. Проблемы и перспективы изучения. М., 2008; M u r a w i e c W. Paszkiewicz Michał // Słownik polskich pisarzy franciskańskich: (Bernardyni i franciskanie śląscy, franciskanie konwentualni, klaryski oraz zgromadzenia III reguły). Warszawa, 1981. ***Юрась Лаўрык.***

**Петрановіч** Канстанцін (1726, г. Жоўква, Украіна — ?), прыдворны жывапісец князёў Радзівілаў. Сын жоўкаўскага мастака Васіля Петрановіча. Да 1743 атрымаў мастацкую адукацыю (магчыма, у Чэхіі, Маравіі або Аўстрыі). У 1743—48 чл. парубоцкага брацтва ў Жоўкве. У 1750—53 удзельнічаў у размалёўцы Нясвіжскага касцёла Божага Цела. Па асабістым заданні Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі напісаў 2 вял. карціны: «Цуды святога Ксаверыя» і «Цуды святога Ігнація Лаёлы» для прэсбітэрыума (у 20 ст. заменены копіямі, якія захоўваюцца ў касцёле). Вядомы заказ князя П. (разам з іншымі мастакамі) на карціну алеем аб гісторыі дома Радзівілаў. Выконваў чарцёжныя работы. Разам з М.*Струмецкім* і 4 іншымі майстрамі ўваходзіў у групу, якая распісвала палац Жавускіх у Падгорцах.

*Літ.*: Б а ж е н о в а О. Радзивилловский Несвиж: росписи костела Божьего Тела. Минск, 2007. С. 88—92.

***Вольга Бажэнава.***

**Пехнік** (Piechnik) Людвік (9.8. 1920, Кшэславіцы каля Мысленіц, Польшча — 26.6.2006), польскі гісторык. Д-р (1962), праф. звычайны (1990), ганаровы д-р Вільнюскага ун-та (1999). У 1942—49 вучыўся ў семінарыі езуітаў у Старай Весі. З 1938 езуіт, з 1948 святар. У 1950—54 вывучаў педагогіку ў Ягелонскім ун-це ў Кракаве, дзе атрымаў ступень д-ра. Выкладаў педагогіку на Філасофскім аддзяленні Таварыства Ісуса ў Кракаве (з 1999 Вышэйшая філасофска-педагагічная школа «Ігнаціянум»), узначальваў езуіцкае выдавецтва «Wydawnictwo Apostolstwa Modlitwy». З 2001 на пенсіі. Даследаваў педагагічную дзейнасць езуітаў у Рэчы Паспалітай, гісторыю езуіцкіх семінарый і канвіктаў. Аўтар фундаментальнай гісторыі Віленскай акадэміі.

*Тв.*: Początki Akademii Wileńskiej (1569—1600). Kraków, 1973; Rzut oka na powstanie, rozwój i likwidację jezuickiego Collegium Nobilium w Wilnie // Studia z duiejów oświaty i kultury umysłowej w Polsce XVIII—XX w. Wrocław etc., 1977; Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 1—4. Roma, 1984—90; Seminaria diecezjalne w Polsce prowadzone przez Jezuitów od XVI do XVIII wieku. Kraków, 2001; Powstanie i rozwój jezuickiej Ratio studiorum (1548—1599). Kraków, 2003.

*Літ.*: Jezuicka ars educandi: prace ofiarowane księdzu profesorowi Ludwikowi Piechnikowi SJ. Kraków, 1995 [змешчана бібліяграфія прац П.].

**«Поўны збор рускіх летапісаў»** («Полное собрание русских летописей», ПСРЛ), шматтомнае выданне ўсходнеславянскіх летапісаў. Выдаваўся паслядоўна Імператарскай Археагр. камісіяй, Дзярж. Археагр. камісіяй Рас. АН, Пастаяннай гісторыка-археагр. камісіяй АН СССР, Ін-там гісторыі і Ін-там гісторыі СССР АН СССР. Рашэнне аб пачатку выдання прынята ў 1837, 1-ы том выйшаў у 1841. Першапачаткова меркавалася, што збор будзе складацца з 11 частак, у якія ўвойдуць летапісы: Лаўрэнцьеўскі, Троіцкі, Іпацьеўскі з Густынскім, 4 наўгародскія, пскоўскі, Сафійскі, Васкрасенскі, Патрыяршы, некалькі разрадаў маскоўскіх, т.зв. зах.-рус. летапісы, сібірскія і кароткія. Аднак у ходзе выдання гэты план быў істотна скарэкціраваны і дапоўнены. У 1-м выданні збору апублікаваны летапісы: Лаўрэнцьеўскі (т. 1), Іпацьеўскі (т. 2), наўгародскія і пскоўскія (т. 3—5), Сафійскія (т. 5—6), Васкрасенскі (т. 7—8), Патрыяршы, або Ніканаўскі (т. 9—13), «Повесть о



честном житии царя Фёдора Ивановича» і Новы летапісец (т. 14), Цвярскі (т. 15), Сімяонаўскі (т. 18), «Гісторыя аб Казанскім царстве» (т. 19), Львоўскі (т. 20), «Кніга сцепянная царскага радаводу» (т. 21), Рус. хранограф (т. 22), Ярмолінскі (т. 23), Тыпаграфскі (т. 24), Маскоўскі летапісны звод канца 15 ст. (т. 25), Валагодска-Пермскі (т. 26), Нікапораўскі і скарочаныя зводы канца 15 ст. (т. 27), летапісныя зводы 1497 і 1518 (т. 28), «Летапісец пачатку царства», Аляксандра-Неўскі і Лебедзеўскі (т. 29), Уладзімірскі летапісец і Наўгародскі 2-і (т. 30), летапісцы апошняй чвэрці 17 ст. (т. 31), Халмагорскі летапіс і Дзвінскі летапісец (т. 33), Поснікаўскі, Піскароўскі, Маскоўскі і Бельскі летапісцы (т. 34), сібірскія (т. 36), усцюжскія і валагодскія (т. 37), Сафійскі 1-ы паводле спісу Царскага (т. 39), Густынскі (т. 40), Летапісец Пераслаўля Суздальскага (т. 41), Наўгародскі Карамзінскі (т. 42), Наўгародскі паводле спісу Дуброўскага (т. 43). Паралельна з першым з 1908 пачало выходзіць 2-е выданне збору, у межах якога на больш высокім узроўні былі перавыдадзены Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, сафійскія і некаторыя наўгародскія летапісы. 3-е выданне пачата ў 1923 і на сённяшні дзень прадстаўлена адной толькі незавершанай публікацыяй Іпацьеўскага летапісу. З 1962 асобныя тамы перавыдаюцца таксама рэпрынтным спосабам. У падрыхтоўцы і рэдагаванні збору ўдзельнічалі А.А.Шахматаў, Я.Ф.Карскі, М.М.Ціхаміраў і інш. Правілы публікацыі розных тамоў істотна адрозніваюцца ў залежнасці ад часу выдання і публікатараў, аднак помнікі выдаваліся з улікам усіх вядомых і даступных на момант публікацыі спісаў, розначытанні і інш. асаблівасці тэксту адлюстраваны ў археагр. заўвагах. Кожны том мае прадмову і паказальнікі (паказальнікі да васьмі тамоў выдадзены асобнымі кнігамі), у большасці тамоў ёсць таксама дадаткі і ілюстрацыі. Беларуска-літ. і бел. (паводле дарэвалюцыйнай тэрміналогіі, зах.-рускія) летапісы апублікаваны ў 3 тамах. Т. 17 (Санкт-Пецярбург, 1907) падрыхтаваны да друку С.Л.*Пташыцкім* і Шахматавым і ўключае летапісы Супрасльскі, Увараўскі (Слуцкі), Акадэмічны, Красінскага, Віленскі, «Origo Regis», Археал. таварыства, Рачынскага, Еўраінаўскі, Альшэўскі, Хроніку Быхаўца, а таксама іншыя помнікі. Некаторыя з пералічаных летапісаў, у прыватнасці Красінскі спіс, не збераглся да цяперашняга часу. Выданне падрыхтавана на высокім археагр. узроўні, з захаваннем літар царк.-слав. алфавіта і інш. асаблівасцей рукапіснага тэксту. У т. 32 (Масква, 1975, падрыхтаваны да друку М.М.*Улашчыкам*) змешчаны хронікі Літоўская і Жмойцкая, Быхаўца, летапісы Баркулабаўскі, Аверкі і Панцырнага. У т. 35 (Масква, 1980, падрыхтаваны Улашчыкам і В.А.*Чамярыцкім*) змешчаны 13 бел.-літ. летапісаў і Магілёўская хроніка Сурты і Трубніцкага. Апрача надрукаваных у 17-м томе, тут змешчаны Нікіфараўскі, Валынскі кароткі і Румянцаўскі летапісы. У 2-й частцы т. 22 (Петраград, 1914) С.П.Розанавым апублікаваны Рус. хранограф т.зв. зах.-рус. рэдакцыі. З землямі ВКЛ і мясц. летапісаннем звязаны апублікаваныя ў зборы летапісы Аўрамкі (т. 16) і Радзівілаўскі (т. 38). Выданне працягваецца.

***Васіль Варонін.***

**прывілей намінацыйны**, дакумент, якім адбывалася прызначэнне на агульнадзяржаўную, прыдворную, царкоўную або павятовую пасаду ў ВКЛ. Складаўся ў канцылярыі ВКЛ. Арыгінал перадаваўся атрымальніку. Копія ў скарочаным выглядзе захоўвалася, як правіла, у кнігах запісаў Метрыкі ВКЛ. Паралельна з П.н. складаўся адрасаваны да павятовай шляхты універсал з паведамленнем пра прызначэнне ўрадніка. Прывілеі на агульнадзярж., ваяводскія і кашталянскія ўрады выдаваліся на лацінскай мове, на царк. і павятовыя ўрады да 1-й трэці 17 ст. — на старабел., пазней на польскай мовах. З'яўляюцца гал. крыніцай інфармацыі для аднаўлення паслядоўнасці займання ўрадаў у ВКЛ.

*Літ.*: Галубовіч В. Намінацыйныя прывілеі на павятовыя земскія пасады з кніг запісаў Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага першай паловы 17 ст. як крыніца па гісторыі Беларусі // Гістарычны альманах. Гародня, 2001. Т. 5.

***Віталь Галубовіч.***

**Прэтфус** Гіоб (? — да 15.10.1571), гл. Г.*Брэтфус*.

**Пузавіцкая пастанова 1698** («Генеральная пастанова станаў Вялікага княства Літоўскага пры разыходжанні з паспалітага рушэння паміж Лаўнам і Пузавічамі... учыненая»), шляхецкая пастанова заканадаўчага характару, прынятая ў час *феадальнай вайны 1697—1702*. Ухвалена *рэспубліканцамі* на з'ездзе паспалітага рушэння шляхты ВКЛ у абозе каля в. Пузавічы Гарадзенскага пав. Паспалітае рушэнне было склікана на 15.10.1698 у адпаведнасці з пастановай Віленскага з'езда шляхты ВКЛ 14.8.1698, якая прадугледжвала з яго дапамогай дабіцца роспуску войска ВКЛ — асн. апоры групоўкі Сапегаў. Усяго за універсаламі генеральнага палкоўніка М.К.Коцела выступіла 12 паветаў: Віленскі, Ашмянскі, Лідскі, Браслаўскі, Трокскі, Упіцкі, Гарадзенскі, Ковенскі, Навагародскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Менскі. Абмежаваліся выправамі Жамойць, Віцебскі і Берасцейскі пав. З-пад Жупранаў паспалітае рушэнне пад камандаваннем Коцела праз Іўе выйшла да


ACTA
STANOW
Wielkiego X.ięstwa Litewskiego
Ná
POSPOLITE
RVSZENIE
Vigore
LAVDUM
Wileńskiego 14. Augusti 1698.
Postánowionego miedzy Ławnem á Puźewiczámi w Powiecie Grodźieńskim
Zgromádzonych.
Anno Domini 1698. Dnia 21. Decembris.
w WILNIE
w Drukarni Oycow Fránćiszkanow R, 1699. Dnia: 10. Martij

**Пузавіцкая пастанова 1698**. Вільня. 1699. Тытульны ліст.



Каменкі. Насустрач яму з Гародні да Скідаля рушыла войска ВКЛ на чале з вял. гетманам ВКЛ Казімірам Янам Паўлам Сапегам. Падчас працяглага «стаяння» паміж вёскамі Лаўна і Пузавічы абодва бакі былі блізкія да ўступлення ў бітву, але ўмяшальніцтва дасланага Аўгустам II саксонскага войска на чале з Я.Г.Флемінгам, якое заняло бок рэспубліканцаў, прымусіла Сапегаў да саступак. У выніку перагавораў 20.12.1698 заключаны «Трактат Рэчы Паспалітай з войскам ВКЛ», падпісаны вял. гетманам, камісарамі ад войска, пасрэднікамі (віленскі біскуп К.К.Бжастоўскі і Флемінг) і камісарамі ад паветаў ВКЛ. Паводле яго, з кампуту войска ВКЛ 1690 пакідалася 2620 чал. пяхоты і 1140 драгунаў, астатнія распускаліся. Усім жаўнерам гарантавалася выплата 4 «чвэрцяў» жалавання. 21.12.1698, у абозе рэспубліканцаў, якія прэтэндавалі на выражэнне волі ўсёй шляхты ВКЛ, была прынята П.п. Яна была падпісана спачатку лідэрамі рэспубліканцаў, біскупам Бжастоўскім і падканцлерам ВКЛ Каролем Станіславам Радзівілам, пасля чаго былі змешчаны спісы павятовых харугваў, а потым подпіс Аўгуста II. Некаторыя пастулаты П.п. ўдакладняюць пастанову элекцыйнага сойма 1697 «*Ураўнаванне правоў*». У прыватнасці, П.п. працягнула рэфармаванне падатковай сістэмы ВКЛ. Было ўдакладнена, што займацца зборам падаткаў на войска ў кожным павеце павінны зборшчыкі, абраныя шляхтай на грамнічных сойміках. Там жа абіраліся 1—2 камісары, якім зборшчыкі ўносілі сабраныя сумы і якія павінны былі выплочваць іх дэпутатам ад прызначаных дадзенаму павету харугваў. Камісары і зборшчыкі падаткаў абіраліся на год і павінны былі на наступных грамнічных сойміках рабіць перад шляхтай справаздачу аб сваёй дзейнасці. Соймік, які разглядаў справы, звязаныя з падаткамі, нельга было сарваць (нават у выпадку зрыву выбараў дэпутатаў Трыбуналу ВКЛ). Зацвярджалася ўтвораная на Віленскім з'ездзе 14.4.1698 пасада генеральнага палкоўніка ВКЛ, які надзяляўся паўнамоцтвамі склікаць паспалітае рушэнне «для падтрымання правоў, свабодаў і публічнай бяспекі». На бліжэйшым сойме вырашана было дамагацца ўвядзенння на ўзор Кароны Польскай урада генерала ВКЛ з міністэрскім статусам. Таксама на наступным сойме паслы ВКЛ павінны былі адстойваць ідэю ператварэння кожнага 4-га звычайнага сойма ў конны (гл. *Конны сойм*). Вырашана было ўзнавіць *соймік галоўны* ў Слоніме, дзе збіраліся паслы ВКЛ перад выездам на сойм. На рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ у 1699 было вырашана склікаць паспалітае рушэнне. Выбіраючы на яго дэпутатаў, належала пазбягаць абрання тых, якія калі-небудзь выступалі супраць ураўнавання правоў (г.зн. прыхільнікаў Сапегаў). Вызначалася пакаранне шляхце, якая не выйшла на паспалітае рушэнне, і прызначаліся ўзнагароды Коцелу і Р.А.Агінскаму. П.п. ўтрымлівала палажэнні, якія маглі ў будучым парушыць заключанае мірнае пагадненне з Сапегамі. Прадугледжвалася дамагацца на будучым сойме пакарання Сапегаў за абрабаванне рэспубліканскіх паслоў да караля Л.К.Агінскага і Л.К.Пацея, за забойствы Караля Белазора, Багуслава Бокея і інш. Паслы павінны былі ініцыіраваць забарону надання некалькіх цэнтр. урадаў прадстаўнікам аднаго дому. Але ў цэлым П.п. не адрознівалася асаблівай радыкальнасцю. У параўнанні з пастановамі шляхецкіх з'ездаў ВКЛ ад 14.4.1698 і 14.8.1698 шмат якія радыкальныя моманты ў ёй былі зняты (пазбаўленне гетмана ўлады над войскам, патрабаванне розных кампенсацый), а Сапегі ўжо не разглядаліся як ворагі айчыны. Тым не менш, у пач. 1699 П.п. сустрэла рэзкую крытыку з боку К.Я.П.Сапегі на аўдыенцыі ў караля, а таксама ў выдадзеным ім маніфесце. П.п. не была зацверджана соймам 1699, аднак частка яе палажэнняў была рэалізавана на практыцы (змены ў падатковай сістэме, наданне шырокіх паўнамоцтваў генеральнаму палкоўніку).

*Літ.*: Dybaś B. W sprawie traktatu puzewickiego z 1698 roku i jego następstw // Zapiski Historyczne. 1988. Z. 3—4; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002.

***Змiцер Віцько.***

**Пярвец** Фёдар Фёдаравіч, віленскі людвісар 17 ст. Па заказе віленскага бурмістра Яна Агурцэвіча ў 1676 адліў для уніцкай Троіцкай царквы звон, а таксама пераліў разбіты звон «Лебедзь». Большы з іх (вышыня 113 см, дыяметр 151 см) меў фундацыйныя надпісы на лацінскай і царк.-слав. мовах, надпіс пра майстра: «LAŁ FEDOR FEDOROWICZ PERWEC W WILNI ANNO 1676», меншы (вышыня 61 см, дыяметр 72 см) нёс паведамленне толькі пра людвісара: «LAŁ FEDOR FEDOROWICZ PERWEC W WILNI ROKV P. 1676». У 1915 абодва званы эвакуіраваны ў Расію, далейшы іх лёс невядомы.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 73, 79.

**Пяткевіч** (Pietkiewicz) Кшыштаф Пётр (н. 25.7.1950, г. Познань, Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1994). Скончыў Ун-т імя А.Міцкевіча ў Познані (1974). З 1974 у Ін-це гісторыі Ун-та імя А.Міцкевіча (у 1980—97 ад'юнкт, з 1997 праф. надзвычайны). Працы па гісторыі ВКЛ, міжнар. адносін ва Усх. Еўропе, палеаграфіі. Выдаў кнігу запісаў № 9 Метрыкі ВКЛ («Lietuvos metrika. Lithuanian metrica. Литовская метрика. Knyga nr. 9. Užrašytų knyga 9». Вільнюс, 2003), «Хаджэнне» ігумена Данііла («Ihumena Daniela z ziemi ruskiej pielgrzymka do Ziemi świętej». Познань, 2003). Аўтар школьных падручнікаў.

*Тв.*: Kieżgajłowie i ich latyfundium do połowy XVI wieku: ze studiów nad rozwojem własności ziemskiej w Wielkim Księstwie Litewskim w Średniowieczu. Poznań, 1982; Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellonczyka: studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. Poznań, 1995; Cyrylica: skrypt do nauki odczytywania pisma staroruskiego i rosyjskiego dla studentów archiwistyki. Poznań, 1996.

**Пятровічы** (рус. Петровичи, цяпер вёска ў Шумяцкім р-не Смаленскай вобл., Рас. Федэрацыя), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяводстве. Упершыню згадваюцца ў 1450 сярод зямельных данін вял. кн. Казіміра, былі падараваны Расцішку Пракудзіну. Як мястэчка ўпершыню названы ў 1710, калі былі ўладаннем Валоваў. У 1719 з П. выплочвалася чопавае ў памеры 190 зло-



тых. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Пераведзена ў ранг вёскі. У 1783—85 тут 288 ж., 60 двароў. П. мелі квартальную забудову, аснову якой складала рынкавая пл. з Петрапаўлаўскай царквой.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI— XVIII стст. // Гіст.-археал. зборнік. Мінск, 2008. № 23.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Пячэрск** (рус. Печерск, цяпер вёска ў Хіславіцкім р-не Смаленскай вобл., Рас. Федэрацыя), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяводстве. У 1719 з П. выплочвалася чопавага толькі на 30 злотых. У 1724 мястэчкам валодаў мсціслаўскі гродскі суддзя Міхал Чудоўскі. Інвентар 1739 адзначае ў П. 15 хрысціянскіх, 12 яўрэйскіх, 2 царк. і 15 пустых пляцаў. Мястэчка было нязначнае, таму ў іншым дакуменце 1739 названа «вессю Пячэрскам пад дваром Хамініцкім». Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783—85 П. фігуруе сярод вёсак. У ім было 67 дамоў, пражывала 434 чал. Меў лінейную забудову, царкву Раства Прасвятой Багародзіцы.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мінск, 2008. № 23.

***Андрэй Мяцельскі.***





**Радзівіл** Барбара (3.12.1690—15.2.1770), грамадская дзеячка. З роду *Завішаў*, дачка менскага ваяводы Крыштофа Завішы і Тэрэзы з Тышкевічаў. У ліп. 1710 выйшла замуж за Мікалая Фаўстына *Радзівіла*. Падчас бескаралеўя, у 1733, стала адной з ініцыятараў стварэння канфедэрацыі Новагародскага ваяв., скіраванай супраць канд. на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. У гэтай справе падтрымлівала шчыльныя кантакты з рас. прадстаўнікамі ў ВКЛ Францішкам Дарэўскім і Юрыем Лівенам. У 1736 ездзіла ў Санкт-Пецярбург, была вельмі прыхільна прынята пры царскім двары. У пач. 1740-х г. уступіла ў канфлікт з нясвіжскай лініяй роду Радзівілаў у справе спадчынных правоў на маёнтак Беліца (Лідскі пав.). Прымусіла нясвіжскіх Радзівілаў пайсці на саступкі. Была адным з найб. палітычна актыўных прадстаўнікоў групоўкі Радзівілаў. Сачыла за абраннем прыхільных Радзівілам паслоў на Новагародскім, Слонімскім, Ваўкавыскім, Гарадзенскім і Лідскім сойміках.

*Літ.*: М а ц у к А. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» (1730—1740-я гады) // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 3; Я г о ж. Szlachta województwa nowogródzkiego wobec Stanisława Leszczyńskiego i Augusta II w 1733 r. // Przegląd Historyczny. 2005. № 1; Z i e l i ń s k a T. Więź rodowa domu radziwiłłowskiego w świetle diariusza Michała Kazimierza Radziwiłła «Rybeńki» // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa; Łódź, 1989. T. 3; L i s e k A. Litwini na sejmie elekcyjnym w 1733 roku // Z dziejów XVII i XVIII wieku. Katowice, 1997; Я г о ж. Postawa Radziwiłłów w okresie przedostatniego bezkrólewia i w pierwszych miesiącach wojny domowej (1733—1734) // Radziwiłłowie: obrazy literackie. Biografie. Świadectwa historyczne. Lublin, 2003. ***Андрэй Мацук.***

**Радзівілаў** (цяпер левабярэжная частка гар. пасёлка Хоцімск Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв., на р. Беседзь. Заснаваны прывілеем канцлера ВКЛ, старасты крычаўскага Караля Станіслава Радзівіла ад 18.10.1714 на тэр. Бярозкаўскага войтаўства, «на грунтах Баханоўскіх» (в. Баханы, вядома з сярэдзіны 16 ст.). Згодна з інвентаром 1720, Р. меў 60 дымоў, у 1723 было 70, у 1727 — 148 дымоў, млын на 2 колы, 3 вуліцы: «прабойная Крычаўская», Альшоўская, Глухая. Інвентар 1747 адзначае ў мястэчку 156 пляцаў, з якіх 102 былі забудаваны. Аснову планіроўкі складаў чатырохвугольны рынак з 18 крамамі і 2 шпіхлерамі, важніцай, уязной карчмой і клецямі для збожжа. Тут жа стаяла царква Раждаства Багародзіцы са званіцай. З рынка ў розныя бакі адыходзілі вуліцы Крычаўская, Альшоўская, Старэцкая, Бясовіцкая і безыменная вулачка ў бок р. Альшоўка, уздоўж Альшоўкі ішла Лаговая вуліца. Бліжэй да сярэдзіны 18 ст. Р. стаў цэнтрам войтаўства ў складзе Крычаўскага стараства. Пачынаючы з інвентара Крычаўскага стараства 1747, Р. упамінаецца і пад назвай Хоцімск — па назве размешчанай на правым беразе р. Беседзь в. Хоцімск. Р. быў не толькі адм., але і рамесна-гандлёвым цэнтрам войтаўства. Тут жылі 7 купцоў і адзін перакупшчык, 14 шынкароў, 3 пекары, 3 слесары, каваль, 2 шкляры, 2 краўцы, ганчар, шапавал, аўчыннік, кушнер, дзягцяр і пушкар. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, адразу быў перайменаваны ў Хоцімск. Згодна з рэвізскай сказкай 1779, у мястэчку 63 хрысціянскія і 42 яўрэйскія дымы, у якіх пражывалі адпаведна 339 і 239 чал., правасл. Праабражэнская царква, каталіцкая і уніяцкая капліцы, сінагога.

*Літ.*: М я ц е л ь с к і А.А. Хоцімск: да пытання аб часе ўзнікнення // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1999. № 4; Я г о ж. Лучыцкая воласць XV—XVIII стст. // Там жа. 2000. № 4; Я г о ж. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мінск, 2008. № 23. ***Андрэй Мяцельскі.***

**Родня** (цяпер вёска ў Клімавіцкім р-не Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяводстве. Узнікла на развілцы шляхоў з Касцюковічаў на Мсціслаў і з Касцюковічаў на Шумячы. Упершыню згадваецца ў 1709 як прыналежнасць с. Судзівалічы, а ў 1747 названа мястэчкам мсціслаўскага канюшага Казіміра Свадкоўскага, які перавёў існуючы тут правасл. храм ва унію. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783—85 у Р. 322 ж., 76 двароў, мела квартальную забудову,

цэнтрам якой была рынкавая пл. з царквой.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мінск, 2008. № 23.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Рудаміна** Антоні Людвік (?—1756), дзяржаўны дзеяч. З роду *Рудамінаў*, сын Яна Казіміра Рудаміны і Сафіі з Суфчынскіх. Браслаўскі падкаморы з 1724. Пасол на соймы 1720, 1724, 1726, 1729, 1732, 1733 (канвакацыйны), 1735, 1736, 1738, 1740, 1744, 1746. У канцы 1720-х г. у антыкаралеўскай апазіцыі. Удзельнічаў у зрыве соймаў 1729 і 1732. Пасля смерці Аўгуста II падтрымаў кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага на трон Рэчы Паспалітай. У чэрв. 1733 выехаў як пасол у Расію, дзе праводзіў перагаворы ў інтарэсах Ляшчынскага. Рас. ўрад непрыхільна ставіўся да Р. і спецыяльна зацягнуў свой адказ на яго інструкцыю да канца жн. 1733. У 1735 Р. прызнаў Аўгуста III каралём. У 1737—38 узначальваў камісію па павелічэнні войска ВКЛ. Да канца жыцця дзейнічаў у інтарэсах Радзівілаў у Браслаўскім пав. У 1740 быў адным з радзівілаўскіх канд. на пасаду маршалка Трыбунала ВКЛ, але не рабіў намаганняў быць абраным дэпутатам, бо вырашыў стаць паслом на сойм. З 1738 намагаўся атрымаць які-небудзь дыгнітарскі ўрад ВКЛ, у 1750 — пасаду павятовага маршалка.

*Літ.*: Герье В. Борьба за польский престол в 1733 г. М., 1862; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o sukcesje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Palkij H. Praca komisji aukcji wojska w latach 1736—1738 // Kwartalnik Historyczny. 1999. Z. 1; Його ж. Sejmy 1736 i 1738 roku: u początków nowej sytuacji politycznej w Rzeczypospolitej. Kraków, 2000. ***Андрэй Мацук.***

**Рыга** (лат. Rīga, цяпер сталіца Латвійскай Рэспублікі), горад у Інфлянтах, на р. Заходняя Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Рыга (Рынга, Рыдзіня). Заснавана на месцы стараж. паселішча фіна-угорскага племені ліваў, даннікаў Полацкага княства ў 11—12 ст. У 1158 нямецкія купцы збудавалі тут умацаваны двор для гандлю з лівамі, балтамі і рус. землямі. У 1190 манах-аўгусцінец Мейнард заснаваў кляштар і каталіцкую місію. 24.7.1198 лівы каля гандлёвага паселішча на Рыжскім пагорку забілі новапрызначанага іксскульскага біскупа Бяртольда. Арцыбіскуп брэменскі і гамбургскі Хартвіг абвясціў 28.3.1199 свайго пляменніка Альберта Буксгёўдэна біскупам Лівоніі. Пры падтрымцы папы Інакенція III, караля Філіпа Швабскага, готландскіх і любекскіх купцоў у 1201 Альберт прыбыў у вусце Дзвіны на 23 караблях з 1500 узброенымі крыжакамі і стварыў Рыжскае біскупства, якому падначальваўся сфарміраваны ў 1202 *Інфлянцкі ордэн*. Рэзідэнцыя магістра ордэна да 1360 размяшчалася ў Рыжскім замку, рыцары былі васаламі рыжскага біскупа, за ўдзел у паходах рыжане павінны былі атрымліваць палову здабычы. Крыжакі часта захоплівалі тавары і арыштоўвалі купцоў, што прыводзіла да пастаяннай напружанасці ва ўзаемаадносінах Р. і ордэна. У 1201 Альберт перанёс рэзідэнцыю біскупаў з Іксскуля ў Рыгу. У 1225 Р. абвешчана цэнтрам біскупства, незалежнага ад Брэмена, а Альберт атрымаў тытул князя-біскупа Свяшчэннай Рымскай імперыі (з 1253 арцыбіскуп). Для развіцця нямецкай бюргерскай каланізацыі ў 1225 Р. атрымала правы і прывілеі горада з готландскім правам. У 1229 Р. разам з Любекам, Брэменам, Мюнстэрам, Грэнгенам, Дортмундам удзельнічала ў заснаванні «супольнасці германскіх купцоў», а ў 1282 стала чл. Ганзейскай лігі. Унутранае жыццё і структуры гар. адміністрацыі рэгуляваліся любекскім правам. У 1210 упершыню згадваюцца гар. старэйшыны (альтэрманы), у 1226 — рыжскі рат (гар. рада, магістрат), з 1230-х г. ужываюцца гар. герб і сцягі. Фармальным кіраўніком Р. быў рыжскі арцыбіскуп, якога прадстаўляў у горадзе фогт, але рэальная ўлада належала магістрату. На чале яго стаялі спачатку 2, потым 4 бургамістры (праконсулы), рада складалася з 16 асоб, якія замяшчаліся кааптацыяй. Судом 1-й інстанцыі быў фогт, прызначаны гар. ратам, у 2-й інстанцыі судзіў рат, які прымаў і апеляцыі гарадоў з рыжскім правам. Магістрат традыцыйна кантралявалі прадстаўнікі Вял. гільдыі — аб'яднання ўладальнікаў буйнейшых гандлёвых і ліхвярскіх капіталаў. Малая гільдыя прадстаўляла інтарэсы дробных гандляроў і цэхавай вярхушкі, якія складалі большасць у грамадзе. Барацьба грамады з магістратам за ўдзел у размеркаванні ўладных паўнамоцтваў стварала сац. напружанасць у горадзе. Мясц. балцкае і фінскае насельніцтва не лічылася паўнапраўнымі бюргерамі, не магло ўваходзіць у склад нямецкіх цэхаў і павінна было займацца толькі абслугай гандлю і вытворчасці (падвоз, сарціроўка, пагрузка тавараў і г.д.). У сярэдзіне 14 ст. насельніцтва Р. складала 8 тыс. чалавек.

З 1221 магістрат спрабаваў атрымаць незалежнасць ад Інфлянцкага ордэна і арцыбіскупа і шукаў падтрымкі ў ВКЛ і Швецыі. У 1298 і 1323 заключаны саюзы Р. і ВКЛ. У 1297 рыжане разбурылі ордэнскі замак у горадзе, у 1305 яны выкупілі правы на замак, але ордэн набыў маёнтак цыстэрцыянак у Дыяменце (Даўгаўгрыве), разбудаваў мясц. ўмацаванні і пачаў кантраляваць выхад з Дзвіны ў мора. У 1328 рыжане спалілі Дыяменцкі пасад і забілі каля 50 мяшчан. Удзел у войнах 1297—1330 паміж ордэнам і ВКЛ скончыўся пацвярджэннем падпарадкавання Р. ордэну. Пасля ландтагу ў Кірхгольме (1452) сюзерэнітэт над Р. быў падзелены паміж арцыбіскупам і магістрам ордэна, без згоды якіх нельга было прызначаць гар. фогта, выдаваць мясц. законы. Магістрат аднавіў барацьбу з ордэнам і арцыбіскупам пры падтрымцы Швецыі, якая ў 1483 даслала рыжанам 4 тыс. жаўнераў. Барацьба прыпынілася Вольмарскім мірам 1491, паводле якога горад зноў прысягнуў ордэну.

Пасля шэрага войнаў Полацкага княства і ВКЛ супраць Інфлянцкага і Нямецкага ордэнаў былі заключаны пагадненні паміж Полацкам, Віцебскам, Смаленскам, ВКЛ, з аднаго боку, і Р. і ордэнам — з другога (1210, 1212, 1223, 1228). Канчаткова ўмовы гандлю па Дзвіне акрэслены Копыскім мірам 1407: замацавана свабода гандлю па Дзвіне ад Полацка да Р., толькі рыжане маглі гандляваць у Р. з зах.-еўрапейскімі купцамі, русіны не дапускаліся да прамых здзелак з замежнікамі, Полацк атрымаў правы затрымліваць, штрафа-

ваць рыжан і не прапускаць далей па Дзвіне. Згодна з прывілеем Полацку на магдэбургскае права 1498 было канчаткова замацавана права палачан на штапель (склад). Рыжане маглі праехаць у Віцебск і далей толькі ў выпадку пошуку сваіх даўжнікоў. Віцябляне і інш. русіны захавалі права на гандаль у Р. Перакупка і транзіт тавара паміж «гасцямі» з ВКЛ, Пскова і Ноўгарада і з Зах. Еўропы былі асновай эканомікі Р. Для абслугоўвання аптовых здзелак з магнатамі і «гасцямі» ВКЛ з прадстаўнікоў Вял. гільдыі былі сфарміраваны Літ. і Рус. гандлёвыя дамы, а дробныя рыжскія купцы, якія спецыялізаваліся на пошуку тавараў непасрэдна ў шляхты і сялян ВКЛ, атрымалі назву «гандляры з гаспадарамі». Рыжскаму магістрату і біскупу падначальваліся касцёл і нямецкая факторыя ў Полацку. У 13—14 ст. гандлёвыя двары русінаў у Р. размяшчаліся каля касцёла святога Якуба і вежы Рамера «на Рускай вуліцы». У 16—17 ст. у Р. існавала сталая русінская грамада, якой належала правасл. царква святога Мікалая і брацтва пры ёй. Для фіксацыі эканам. дзейнасці з ВКЛ у магістраце былі створаны «Рускія кнігі». Запісы гандлёвых здзелак у іх адлюстроўваюць эканам. сітуацыю ў рэгіёнах ВКЛ. Напрыклад, паводле запісаў 1592, з 376 стругаў, што прыбылі ў Р., большасць была з Віцебска (77), іншыя — з Бешанковіч (39), Дуброўны (36), Чашнікаў (28), Полацка (24), Друі (7).

Афармленне прыярытэту шляхты ў сацыяльна-паліт. і эканам. жыцці ВКЛ і наступствы войнаў ВКЛ з Расіяй 16—17 ст. прывялі да ўзрастання ролі гандлю і ліхвярскіх аперацый буйнога рыжскага гандлёвага капіталу са шляхтай і магнатэрыяй ВКЛ. Аперацыі ў горадзе феадалы звычайна ажыццяўлялі праз сваіх аканомаў і прадстаўнікоў з ліку бюргераў (фактараў). Аформілася практыка «прымусовага гандлю», калі рыжане займаліся ліхвярствам і крэдытавалі феадалаў, сялян і купцоў ВКЛ пад гарантыю паставак ці продаж ім прадукцыі сельскай гаспадаркі і лясных промыслаў або канцэсіі на распрацоўку рэсурсаў. Рэвалюцыя цэн у канцы 16 ст. і замацаванне ўсяго дзвінскага гандлёвага шляху пад кантролем ВКЛ у 1582 прывялі да рэзкага ўзрастання аб'ёму гандлю Р., па якім яна выйшла на 2-е месца (пасля Гданьска) на Балтыйскім моры. Порт Р. меў манаполію на міжнар. марскі гандаль Інфлянтаў і Курляндыі да 1605, калі права адгрузкі тавараў на замежныя караблі атрымалі таксама курляндскія порты Лібава (Лиепая) і Віндава (Вентспілс). Колькасць рэйсаў караблёў з Р. ў Зах. Еўропу ў канцы 16 ст. павялічылася на 35% у параўнанні з перыядам напярэдадні Інфлянцкай вайны. Палову тавараабароту складалі лён, пянька, ільнянoe і канаплянае семя, збожжа, воск, мёд, лясныя тавары, якія вывозілі на продаж з ВКЛ. Гал. спецыялізацыяй Рыгі ў міжнар. гандлі быў экспарт попелу (для вытворчасці шчолаку і паташу), па якім з сярэдзіны 1580-х г. Р. выйшла на 1-е месца ў Еўропе. Феадалы ВКЛ паставілі $^{3}/_{4}$ рыжскага экспартнага попелу і лесу ў 1595. У 1601—30 з усяго аб'ёму гандлю паміж Зах. і Усх. Еўропай, які прайшоў праз Зунд, рыжскае паходжанне мелі 40—80% дзёгцю і попелу, 60—90% ільну і пянькі, 92—98% ільнянога і канаплянага семені. У 1699 з земляў ВКЛ у Р. паступіла 75% пянькі, 61% ільну, 33% экспартнага жыта. Экспарт тавараў з Р. ў канцы 16 — пач. 17 ст. ў 3 разы перавышаў імпарт (асн. яго сегменты: грошы, соль, селядцы, віно) праз яе ў глыб кантынента. Пікі росту рыжскага гандлю супадалі з мірнымі гадамі для ВКЛ: 1582—1600, 1630—54, 1692—99. Сведчаннем значнасці для ВКЛ эканам. сувязей з Р. з'яўляецца спецыялізацыя сельскай гаспадаркі Падзвіння і паўн. Літвы на вытворчасці жыта, развіццё тут ільнаводства, пчалярства, нарыхтоўкі лясных тавараў, неразвітасць адпрацовачных форм эксплуатацыі сялянства на тэр., уцягнутых у рыжскі гандаль у 15—17 ст.; пазыкі Р. на ваенныя патрэбы Стэфану Баторыю (1581), Яну Замойскаму (1601), Яну Каралю Хадкевічу (1604) і выплата штрафаў на карысць Рэчы Паспалітай (1583, 1589). У 1582 Стэфан Баторый увёў падатак на




**Рыга**. Гравюра Брауна і Хогенберга. 1581.



інфлянцкія порты — парторый, у памеры 2% ад кошту ўсіх увазных/вывазных тавараў, $^{2}/_{3}$ ад якога накіроўвалася на карысць дзяржавы, а $^{1}/_{3}$ — у мясц. скарб. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* у сак. 1603 Р. атрымала ўжо $^{2}/_{3}$ даходу ад мытных падаткаў. У канцы 16 ст. Р. абвясціла аб жаданні займацца ачысткай рэчышча Дзвіны і збірала на гэтыя патрэбы ў 1600—07 падатак са стругаў і плытоў (1—4 талеры), аднак сваіх абавязкаў не выканала і таму соймавай канстытуцыяй 1607 была абавязана кампенсаваць пацярпелым ад крушэнняў іх страты ў двукратным памеры.

Ад заснавання Р. была каталіцкім горадам, спавяданне іудаізму і ісламу тут было забаронена. У 1521 у Р. прыбыў першы пратэстанцкі прапаведнік. У 1522 горад выйшаў з падпарадкавання арцыбіскупу і прыняў лютэранства. У час пераходу Лівонскай канфедэрацыі пад пратэктарат ВКЛ Р. не падпісала «Акт аб падначаленні» 1561 і 20 гадоў фактычна была незалежнай. Пасля Люблінскай уніі 1569 магістрат абвясціў аб жаданні падначаліцца не толькі вял. князю літ. і каралю польскаму персанальна, але і Рэчы Паспалітай на дзярж. узроўні. Гарнізон з войска ВКЛ размесціўся ў Дыяменце і ў Рыжскім замку. Разам з тым, у 1576 Р. як вольны імперскі горад атрымала ад імператара Максіміляна II пацвярджэнне зводу сваіх прывілеяў і звычаёвага права («Corpus privileiorum»). Аднак перамога Рэчы Паспалітай у Інфлянцкай вайне прывяла да таго, што пасля пацвярджэння Стэфанам Баторыем правоў і прывілеяў Р., пераафармленых згодна са стандартамі магдэбургскага права ў Рэчы Паспалітай, Р. прысягнула Стэфану Баторыю, ВКЛ і Кароне Польскай (7.3.1581). У Рыжскім замку размясціўся лівонскі адміністратар і рыжскі стараста. Манарх Рэчы Паспалітай пачаў прызначаць аднаго з 4 рыжскіх бургамістраў у бургграфы з абавязкам весці суд. справы. У 1583 улады Рэчы Паспалітай аднавілі каталіцкую іерархію ў Інфлянтах (была скасавана ў 1563) і забяспечылі са сваіх сродкаў дзейнасць езуітаў, а Рыжскі магістрат перадаў езуітам кірху святога Якуба, якая належала латышскай грамадзе.

Сацыяльна-эканам., этнічныя і рэліг. канфлікты ў горадзе і міжнар. абстаноўка ў Прыбалтыцы прывялі да «каляндарных хваляванняў» 14.1. 1585—26.8.1589 і паўстанняў гар. абшчыны супраць злоўжыванняў магістрата ў ліп. 1602 і крас. 1604. У выніку саступак, зробленых канцлерам ВКЛ Львом Сапегам (26.8.1589) і лівонскім адміністратарам Хадкевічам (29.4. 1604), абшчына дамаглася права ўдзелу ў кантролі над гар. фінансамі (сумеснае звядзенне гадавых рахункаў, размяшчэнне агульнай гар. касы ў доме, які належаў абшчыне, і пад наглядам яе прадстаўнікоў), прысягі гар. кнехтаў не толькі магістрату, але і грамадзе, удзел у фарміраванні органаў самакіравання разам з Вял. гільдыяй (з 70 альтэрманаў у радзе 40 абіраліся з Вял., 30 — з Малой гільдыі). Улады Рэчы Паспалітай паслядоўна выступалі супраць спроб перадзелу маёмасці ў горадзе і сепаратызму (1585—89), але выдавалі гарантыі маёмаснай і прававой абароненасці рыжан на тэр. Інфлянтаў і ВКЛ (соймавыя канстытуцыі 1601, 1611). Нягледзячы на дэмаграфічныя страты, панесеныя горадам у выніку баёў, голаду і эпідэмій падчас вайны са Швецыяй 1600—29, Р. разам з войскам ВКЛ адбіла нападзенні шведаў у 1601, 1605, 1609 і 1617. Не маючы сіл абараняцца самастойна, 26.9. 1621 Р. здалася шведам пад гарантыю захавання сваіх правоў і прывілеяў. Езуіты былі выгнаны з горада, лютэранства вярнула пануючыя пазіцыі. Патрабаванні палякаў да ВКЛ у 1621—28 спыніць гандаль са шведскай Р. прыводзілі да пагроз шляхты ВКЛ разарваць унію з Польшчай (1624). Па Балдэнмойжскім перамір'і ВКЛ і Швецыі (19.1.1627) быў адкрыты вольны гандаль праз Р. Згодна з умовамі *Альтмаркскага перамір'я 1629* Р. перайшла пад уладу Швецыі. Афіцыйна кантроль Швецыі над горадам быў прызнаны з боку Рэчы Паспалітай толькі *Аліўскім мірам 1660*, але прызначэнне на ганаровую пасаду рыжскага старасты працягвалася.

У складзе Шведскага каралеўства Р. была буйнейшым горадам, мела шырокае самакіраванне. У 1628 Густаў II Адольф абвясціў Р. другой сталіцай Шведскага каралеўства. Тут была рэзідэнцыя губернатара Лівоніі (з 1672 генерал-губернатар). У сярэдзіне 17 ст. Р. была ўмацавана валамі і 10 бастыёнамі, гарнізон складаў 3 тыс. чал., насельніцтва — 30 тыс. чал. У вайну паміж Швецыяй і Расіяй 1656—58 Р. вытрымала аблогу царскіх войскаў. Цяжкім ударам для Р. стала рэдуктыўная сістэма, уведзеная Карлам XI, калі былі ліквідаваны прывілеі і канфіскаваны маёнткі, атрыманыя ў ордэнскія часы. Горад страціў права мець уласнага суперінтэндэнта і быў падначалены генеральнаму суперінтэндэнту Лівоніі. Рыжскі магістрат быў пазбаўлены аўтаноміі і абавязваўся апеліраваць непасрэдна да гофгерыхта шведскай кароны. У час *Паўночнай вайны 1700—21* з лютага 1700 па 20.7.1701 Аўгуст II з 10-тысячным саксонскім войскам двойчы няўдала спрабаваў адбіць Р. ў шведаў, але быў вымушаны адступіць у выніку пагрозы акружэння, якая ўзнікла пасля фарсіравання Дзвіны Карлам XII. Вясной 1701 Аўгуст II дапамог рыжанам выбраць запазычанасць у Віцебска (64 тыс. талераў, 40 стругаў пянькі, 15 стругаў канопляў), для чаго даслаў туды камісара і 1 тыс. саксонскіх жаўнераў. За лаяльнасць і страты ад выплаты Віцебск быў вызвалены ад падаткаў на 7 гадоў. На 1710 даўгі купцоў і шляхты ВКЛ рыжанам складалі 1 034 649 талераў. У 1710 Р. занята рас. войскамі на чале з Шарамецевым і Пятром I. Паводле Ніштацкага міру 1721, Р. далучана да Рас. імперыі.

*Літ.*: Дорошенко В.В. Протоколы рижского торгового суда как источник для изучения экономических связей Риги с русскими, белорусскими и литовскими землями в XVII в. // Экономические связи Прибалтики с Россией. Рига, 1964; Я г о ж. Очерки аграрной истории Латвии XVI в. Рига, 1960; Я г о ж. Торговля и купечество Риги в XVII в. Рига, 1985; Павулане В. Хозяйственное и политическое значение Даугавского торгового пути в XIII—XVII вв. // Экономические связи Прибалтики с Россией. Рига, 1964; Scriptores Rerum Polonicarum. T. 8. Kraków, 1885; Koczarowski E. Flota Polska w latach 1587—1623. Warszawa, 1973; Inflanty w średniowieczu: władztwa zakonu krzyżackiego i biskupów. Toruń, 2002; Manteuffel G. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich, czyli Inflant właściwych



(tak szwedzkich jako i polskich), Estonii z Ozylią, Kurlandii i Ziemi Piltyńskiej. Kraków, 2007. ***Віктар Якубаў.***

**рэасумпцыя** (ад лац. reasumpcio паўторнае прынясце), пацвярджэнне легітымнасці абрання дэпутатаў і зацвярджэнне складу *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага*. Гал. роля пры Р. належала віленскаму ваяводзе, які дапускаў дэпутата ў лік суддзяў у трыбунальскае кола або прызнаваў слушнымі пратэсты супраць яго нелегітымнага абрання («пускаў пад ляску»). У некаторых выпадках віленскі ваявода мог прымаць канчатковае рашэнне аб легітымнасці абрання на вырашэнне самога Трыбунала. Паліт. значэнне Р. вырасла ў апошнія гады панавання Аўгуста II. Прычынай была справа аб спадчынным праве на «*Нойбургскія маёнткі*». На Трыбунале ВКЛ 1731 гэтую справу на карысць Сапегаў вырашыла пазіцыя віленскага ваяводы Казіміра Агінскага. Таксама вял. паліт. значэнне мелі Трыбуналы ВКЛ 1732, 1741, 1743, 1755 і 1756. На Р. гэтых Трыбуналаў разгортвалася паліт. супрацьстаянне, якое ледзь не перарастала ва ўзброены канфлікт і часта вырашалася толькі пасля ўмяшальніцтва каралеўскага двара. Сумяшчэнне ў час панавання Аўгуста III пасад віленскага ваяводы і вял. гетмана ВКЛ Міхалам Сервацыем Вішнявецкім (памёр у 1744) і Міхалам Казімірам Радзівілам (памёр у 1762) прывяло да ўзмацнення іх пазіцый і на Р. Трыбуналаў ВКЛ. Чартарыйскія дамагаліся, каб пасады віленскага ваяводы і вял. гетмана ВКЛ належылі розным асобам. На такой жа пазіцыі стаяў і каралеўскі двор. Таму пасля смерці Радзівіла пасаду вял. гетмана ВКЛ атрымаў Міхал Юзаф Масальскі, а пасаду віленскага ваяводы — Кароль Станіслаў Радзівіл. Але гэта не перашкодзіла сілавому вырашэнню спраў на Р. Трыбунала ВКЛ 1763, бо К.С.Радзівіл замест рэгулярных войск ВКЛ прывёў свае надворныя харугвы. На Р. справы легітымнасці выбару дэпутатаў вырашалася віленскім ваяводай на падставе ў першую чаргу паліт., а не прававых меркаванняў. ***Андрэй Мацук.***

**рэспубліканцы**, групоўка апазіцыйнай Сапегам магнатэрыі і шляхты ВКЛ у канцы 17—пач. 18 ст. Узнікла на аснове прыдворнай партыі, якая арыентавалася на караля польскага і вял. кн. літ. Яна III Сабескага, а падчас бескаралеўя пасля яго смерці — на каралеву Марыю Казіміру. У гэты час канчаткова аформілася паліт. праграма групоўкі (*ураўнаванне правоў*) і ўзнікла яе назва, якая ўпершыню прагучала падчас элекцыйнага сойма 1697. Назва падкрэслівала адданасць прыхільнікаў групоўкі ідэі шляхецкай рэспублікі, у якасці якой разглядалася ВКЛ («Рэч Паспалітая ВКЛ»), і якая супрацьпастаўлялася ідэі сапегаўскай гегемоніі. На чале групоўкі Р. стаялі вял. харужы ВКЛ Рыгор Антоні Агінскі, віцебскі кашталян Міхал Казімір Коцел, мсціслаўскі харужы Марцыян Дамінік Валовіч, віцебскі ваявода Андрэй Казімір Крышпін-Кіршэнштэйн, жамойцкі біскуп Ян Геранім Крышпін-Кіршэнштэйн і падчашы ВКЛ Марцін Міхал Крышпін-Кіршэнштэйн, трокскі харужы Казімір Аляксандр Пацей і берасцейскі падкаморы Людвік Канстанцін Пацей, да 1698 польны гетман і віленскі кашталян Юзаф Багуслаў Слушка і менскі староста Крыштоф Станіслаў Завіша. Групоўка абапіраліся на падтрымку павятовых шляхецкіх лідэраў: Бяганскіх у Браслаўскім пав., Масальскіх і Катовічаў у Гарадзенскім, Алендскіх у Ваўкавыскім, Вішнявецкіх у Пінскім, Халецкіх у Мазырскім і Рэчыцкім, Пузынаў ва Упіцкім пав. і інш. 14.10.1696 Агінскі арганізаваў пад Пружанамі канфедэрацыю з часткі войска ВКЛ, але ўжо 27.11.1697 капітуляваў, аблажаны ў Берасці вял. гетманам Казімірам Янам Сапегам. Дзякуючы барацьбе са злоўжываннямі Сапегаў Р. заваявалі папулярнасць сярод шляхты. 25.6.1697 на элекцыйным сойме Р. дамагліся прыняцця канстытуцыі «*Ураўнаванне правоў*», якая абмяжоўвала паўнамоцтвы найвышэйшых ураднікаў ВКЛ. Падтрымалі кандыдатуру на трон саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста, утварылі 1.7.1697 у Варшаве канфедэрацыю ў абарону яго элекцыі (Сапегі падтрымалі французскага прынца Франсуа Людовіка дэ Канці) і ўраўнавання правоў. У вер. 1697 удзельнічалі ў каранацыі Аўгуста II (маршалак сойма — К.С.Завіша). Падчас *феадальнай вайны 1696—1702* Р. выкарыстоўвалі ў барацьбе супраць Сапегаў самавольна скліканае паспалітае рушэнне. У канцы 1697 Агінскі, які абвясціў сябе генеральным рэгіментарам войска ВКЛ, і жамойцкі харужы Казімір Заранак арганізавалі выступленне супраць Сапегаў у Жамойці, а ў студз. 1698 паспалітым рушэннем выступіла шляхта ўсх. паветаў ВКЛ. 28.1.1698 у Варшаве падпісана пагадненне паміж Сапегамі, якія прызналі ўраўнаванне правоў, і часткай Р. Нягледзячы на гэта, 22.2. 1698 у Шкудах утворана скіраваная супраць К.Я.Сапегі канфедэрацыя войска і шляхты ВКЛ на чале з Агінскім. 3.3.1698 там жа камісары-Р. падпісалі з войскам Агінскага трактат, які прадугледжваў скасаванне запазычанасці шляхты перад войскам. У 1698 Р. перамаглі на выбарах у Трыбунал ВКЛ; склікалі на яго рэасумпцыю 14.4.1698 з'езд паспалітага рушэння шляхты ВКЛ, на якім М.К.Коцел абраны генеральным палкоўнікам ВКЛ. Паслы-Р. сарвалі пацыфікацыйны сойм 1698. Аднак 30.4.1698 пад Жыжмарамі войска Агінскага перайшло на бок Сапегаў. У *Юрбаркскай бітве 1698* стольнік ВКЛ Ежы Станіслаў Сапега разбіў аднаўленае пры дапамозе павятовых выпраў войска Р. Гэта паслужыла прычынай зрыву падпісанага 22.7.1698 у Варшаве пагаднення паміж Сапегамі і пасламі Р. да караля. М.К.Коцел склікаў на 14.8.1698 шляхецкі з'езд у Вільні, на якім вырашана распусціць войска ВКЛ, для чаго абвешчана паспалітае рушэнне. У выніку перагавораў 20.12.1698 каля в. Пузавічы (Гарадзенскі пав.) пад ціскам паспалітага рушэння і саксонскага войска падпісаны трактат паміж шляхтай (Р.) і войскам ВКЛ, большая частка якога была распушчана, а на з'ездзе паспалітага рушэння прынята *Пузавіцкая пастанова 1698*. Р. перамаглі падчас выбараў на сойм 1699, які прызначыў для верыфікацыі падаткаў Скарбовы Трыбунал ВКЛ. Нягледзячы на пратэсты Р., Скарбовы Трыбунал 1700 на чале з К.Я.Сапегам выявіў фінансавыя злоўжыванні Агінскага і Коцела, але не змог прыцягнуць іх да адказнасці. Р. на чале з Коцелам склікалі паспалітае рушэнне на рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ і правялі 26.4.1700 у Вільні

шляхецкі з'езд. У 1700 Р. адкрыта падтрымаў канцлер ВКЛ Караль Станіслаў Радзівіл, чыя пазіцыя вызначалася прэтэнзіямі на «*Нойбургскія маёнткі*», якія знаходзіліся пад апекай Сапегаў. Нягледзячы на заключанае 21.8.1700 у Вільні пагадненне, Р. выкарысталі універсал Аўгуста II ад 1.7.1700, які склікаў шляхту на вайну са Швецыяй, для арганізацыі паспалітага рушэння супраць Сапегаў. 2.11.1700 на з'ездзе паспалітага рушэння пад Ліпнішкамі ўтворана канфедэрацыя, а Міхал Серваций Вішнявецкі абраны генеральным палкоўнікам ВКЛ. Пад яго камандаваннем Р. разбілі войска Сапегаў у *Алькеніцкай бітве 1700*. У адпаведнасці з *Алькеніцкай пастановай 1700* Сапегі былі асуджаны на выганне, пазбаўлены пасад і ўладанняў; у ВКЛ арганізавана новае войска пад камандаваннем Вішнявецкага і ўстаноўлена на 2 гады часовая ўлада Р. Пад дырэкцыяй Вішнявецкага Р. правялі з'езды шляхты ВКЛ у Ружанах (10—14.3.1701), Вільні (2—14.5.1701, 23.6—12.7.1701), Гародні (26.9—26.10.1701), Ружанах (1— 7.12.1702), Вільні (5—20.3. 1703). Перагаворы з Сапегамі на 2 апошніх з'ездах 1701, а таксама на сойме 1701—02, скончыліся падпісаннем 16.1.1702 пагаднення, якое вяртала ў ВКЛ статус кво. Паколькі яно не было рэалізавана, Сапегі перайшлі пад пратэкцыю шведскага караля Карла XII. Ад імя ВКЛ Р. заключылі 3 саюзныя дагаворы з Расіяй (3.3.1702, 9.7.1703, 13.12.1703) і выступілі на яе баку ў *Паўночнай вайне 1700—21*. Спадзяванні Р. на атрыманне сапегаўскіх пасад на працягу 2 гадоў не апраўдаліся, таму Ружанскі з'езд 1702 працягнуў паўнамоцтвы генеральнага палкоўніка да канца вайны. На Віленскім з'ездзе 7.3.1703 Р. стварылі канфедэрацыю ў падтрымку Аўгуста II. Пасля Люблінскага сойма 1703 Р. атрымалі пасады, адабраныя ў Сапегаў: М.С.Вішнявецкі — вял. гетмана і віленскага ваяводы, Агінскі — польнага гетмана, Л.К.Пацей — вял. падскарбія, Заранак — вял. стражніка, Ежы Геранім Крышпін-Кіршэнштэйн — польнага пісара, Валовіч — вял. маршалка ВКЛ. Р. ўдзельнічалі ў стварэнні *Сандамірскай канфедэрацыі* 1704 і ў яе вальных радах у Гародні, Львове і Любліне. Прызналі бескаралеўе, абвешчанае 26.9.1707 у Любліне ў сувязі з адмовай ад трона Аўгуста II. Пад уплывам перамог шведскай арміі пачаўся распад лагера Р.: у сярэдзіне 1706 на бок Станіслава Ляшчынскага перайшлі К.С.Радзівіл, кодаанскія Сапегі і Чартарыйскія; у пач. 1707 — М.С.Вішнявецкі, Крышпіны-Кіршэнштэйны, Бжастоўскія, Сяніцкія і інш. Новым генеральным палкоўнікам стаў полацкі ваявода Дамінік Міхал Слушка, «гетманам войск ВКЛ» з дазволу Пятра I — Агінскі. Р. правялі 3—19.12.1707 з'езд шляхты ВКЛ у Навагародку, дзе прынеслі прысягу на вернасць саюзу з Расіяй. Падчас шведскага наступлення 1708 лідэры Р. (Агінскі, Л.К.Пацей, М.К.Коцел) пакінулі ВКЛ, Д.М.Слушка і К.А.Пацей перайшлі на бок Станіслава Ляшчынскага. Пасля вяртання Аўгуста II і амністыі Сапегаў, у сувязі з падзеннем іх значэння і новымі падзеламі сярод магнатэрыі ВКЛ, са смерцю Агінскага ў 1709 групоўка Р. фактычна перастала існаваць. Яе намаганнямі была ліквідавана тыповая для 17 ст. гегемонія аднаго магнацкага дома, у выніку чаго ў ВКЛ усталявалася магнацкая алігархія. Цеснае супрацоўніцтва лідэраў групоўкі з Пятром I паклала пачатак існаванню ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай прарас. партыі.

*Літ.*: Королюк В.Д. Избрание Августа II на польский престол и русская дипломатия // Ученые зап. Ин-та славяноведения. М., 1951. Т. 3; Яго ж. Вступление Речи Посполитой в Северную войну // Там жа. М., 1954. Т. 10; Віцько Дз. Спроба рэспубліканцаў дамагчыся ўлады над войскам ВКЛ у 1697—1698 г. // Бел. гіст. агляд. 2008. Т. 15, сш. 1—2; Narbutt J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskigo i Augusta II, królów panujących w Polsce. T. 1—2. Wilno, 1842; Jarochowski K. Dzieje panowania Augusta II od śmierci Jana III do chwili ustąpenia Karola XII na ziemię polską. Poznań, 1856; Яго ж. Dzieje panowania Augusta II od ustąpenia Karola XII na ziemię polską aż do elekcyi Stanisława Leszczyńskiego (1702—1704). Poznań, 1874; Powidaj L. Wojna domowa Sapiehów z szlachtą litewską w ostatnich latach XVII i na początku XVIII wieku // Przegląd Polski. 1872/73. R. 7, t. 2, z. 4—5; Feldman J. Polska w dobie wielkiej wojny północnej, 1704— 1709. Kraków, 1925; Piwarski K. Opozycja litewska pod koniec XVII wieku // Pamiętnik V powszechnego zjazdu historyków polskich w Warszawie od 28 listopada do 4 grudnia 1930 r. Lwów, 1930. Z. 1; Kamiński A. Konfederacja Sandomierska wobec Rosji w okresie poaltransztadzkim, 1706—1709. Wrocław etc., 1969; Malec J. Coaequatio Iurium stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego z Koroną Polską z 1697 roku // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1979. [T.] 12; Wasilewski T. Walka o zrównanie praw szlachty litewskiej z koroną od unii lubelskiej do początku XVIII wieku // Zapiski Historyczne. 1986. Z. 1; Dybaś B. W sprawie traktatu puzewickiego z 1698 roku i jego następstw // Zapiski Historyczne. 1988. Z. 3—4; Rachuba A. Polityka nominacyjna Stanisława Leszczyńskiego na Litwie w latach 1705—1709 // Przegląd Historyczny. 1992. Z. 4; Яго ж. Sprawa obsady urzędów litewskich po Sapiehach w początkach XVIII wieku // Między wielką polityką a szlacheckim partykularyzmem. Toruń, 1993; Яго ж. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002; Urwanowicz J. Drobna szlachta litewska w wojnie z Sapiehami // Drobna szlachta podlaska w XVI—XIX wieku. Białystok, 1991; Slesoriūnas G. Lietuvos Didžioji kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000; Яго ж. Walka stronnictw w przededniu i podczas wojny domowej na Litwie XVII/XVIII wieku // Władza i prestiż: magnateria Rzeczypospolitej w XVI—XVIII wieku. Białystok, 2003; Romaniuk P.P. Pojęcie «Rzeczpospolita Litewska» w ruchu republikańskim na przełomie XVII i XVIII wieku // Barok. 2006. № 1.

***Зміцер Віцько.***





**Савіцкі** Каспер (1552, г. Вільня—19.1.1620), тэолаг, педагог. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Браневе і Вільні, у 1575—79 — у «Калегіум раманум» у Рыме. З 1576 езуіт, з 1580 святар. Пасля вяртання (1580) выкладаў тэалогію ў Яраславе (Польшча; 1578—84), быў віцэ-рэктарам калегіума ў Калішы (1584—86), прапаведнікам у Гданьску і Браневе (1586—88), праф. палемічнай тэалогіі Віленскай акадэміі (1588—89). З 1589 жыў у Кракаве. З 1604 звязаны з *Лжэдзмітрыем I*, перавярнуў яго ў каталіцтва. Відаць, удзельнічаў у напісанні ліста Лжэдзмітрыя да рымскага папы Клімента VIII ад 24.4.1604. З 1605 капелан Марыны Мнішак. Разам з ёю ў 1606 выехаў у Маскву. Пасля забойства Лжэдзмітрыя схаваўся ў купцоў з ВКЛ, пасля быў капеланам паслоў і жаўнераў з Рэчы Паспалітай, палонных у Цвяры. Вярнуўся ў Кракаў у 1608. Аўтар палемічных твораў: «Дыялог, або размова матроса з кормчым» («Dialog abo rozmowa flisa z cursorem», Кракаў, 1611), «Навіны з Торуня» («Nowiny z Torunia», 1614), «Складная згода» («Foremna zgoda», Кракаў, 1616) і інш. Пераклаў творы італьянскага езуіта Р.Беларміна, у якога ў маладосці вучыўся. Вёў дыярыуш, які ахопліваў 1605—09 (не захаваўся, але яго выкарыстаў гісторык-езуіт 17 ст. Я.Велявіцкі).

**Саколка** (польскае Сакулка, Sokółka, горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), мястэчка ў Гарадзенскім павеце, на р. Саколда (Сухолда). Вядома з 1524 (пад назвай «Сухолда»), калі Жыгімонт II Аўгуст надаў сваёй жонцы Боне Гарадзенскую пушчу. У 1-й пал. 16 ст. тут існаваў велікакняжацкі паляўнічы двор. З 16 ст. С. належала да Гарадзенскага пав. У 1565 пабудаваны драўляны касцёл. З канца 16 ст. адносілася да Гарадзенскай эканоміі (у 18 ст. цэнтр губерні гэтай эканоміі). Лясы вакол С. называліся Сакольскай пушчай. Жыгімонт III 10.1.1609 надаў С. гар. правы і ўстанавіў тут па панядзелках таргі. У 1679 у ваколіцах С. пасяліліся вайскоўцы-татары, якім урад не змог аплаціць службу і прапанаваў зямельныя надзелы. Каралеўскім прывілеем 1698 у С. дазволена сяліцца яўрэям. У 2-й пал. 18 ст. надворны падскарбі ВКЛ А.*Тызенгаўз* пасяліў у С. рамеснікаў, разбудаваў мястэчка (1770—78). З 1793 цэнтр *Саколкаўскага павета* Гарадзенскага ваяв. У час паўстання 1794 С. стала месцам збору паўстанцаў Гарадзеншчыны, якія 9.5.1794 падпісалі тут акт далучэння да паўстання. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Літ.*: C z y ż e w s k i P. Funkcje Sokołdki w XIV—XVIII w. // Białostocczyzna. 1997. № 1 (45).

**Сакулка**, мястэчка ў Польшчы; гл. *Саколка*.

**Салагуб** Антоній Юзаф (?—6.9.1759), дзяржаўны дзеяч. З роду *Салагубаў*, сын Яна Міхала Салагуба і Алены з Шамоўскіх, брат Юзафа Антонія *Салагуба*. Генерал артылерыі ВКЛ з 1746. Вучыўся ў калегіуме Навадворскага ў Кракаве, Кракаўскім ун-це. Падарожнічаў па Францыі. У час вайны за польскую спадчыну 1733—38 у шэрагах французскіх войск ваяваў у Галандыі і Італіі, за баявыя заслугі прызначаны палкоўнікам, быў двойчы цяжка паранены. Пасол на соймы 1740, 1744, 1746, 1748, 1750, 1752, 1754. На сойме 1740 падтрымаў пасэсараў *«Нойбургскіх маёнткаў»* у барацьбе супраць Радзівілаў. У час працы Трыбуналаў ВКЛ 1740 і 1741 разам з бацькам падтрымліваў Сапегаў супраць Радзівілаў. Потым перамяніў свае пазіцыі і ў 1744 ажаніўся з дачкой навагародскага ваяводы Мікалая Фаўстына *Радзівіла* Брыгіце Петранелі. У 1747 абраны ковенскім дэпутатам на Трыбунал ВКЛ, стаў трыбунальскім віцэ-маршалкам і фактычна кіраваў пасяджэннямі Трыбунала. Праяўляў малую актыўнасць у 1755—56 у канфлікце сваіх саюзнікаў Радзівілаў з Чартарыйскімі. У ліп. 1756 пагадзіўся на фінансавыя выдаткі на трыбунальскую кампанію 1757. Французскі пасол Дзюран беспаспяхова намагаўся перацягнуць яго ў прафранцузскую групоўку. У 1757 атрымаў ордэн Белага Арла. Памёр па дарозе ў Вільню.

*Літ.*: М а ц у к А.У. Унутрыпалітычная сітуацыя ў Вялікім княстве Літоўскім у 1739 г. // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Мінск, 2007; S k i b i ń s k i M. Euro-



ра a Polska w dobie wojny o suksecje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Czeppe M. Kamaryla Pana z Dukli: kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha 1750—1763. Warszawa, 1998.

***Андрэй Мацук.***

**Салагуб** Юзаф Антоній (26.7.1709—4.5.1781), дзяржаўны дзеяч. З роду *Салагубаў*, сын Яна Міхала Салагуба і Алены з Шамоўскіх, брат Антонія Юзафа *Салагуба*. Кашталян жамойцкі (1742), віцебскі (1748), ваявода віцебскі (1752). У канцы 1720-х г. у замежным падарожжы. Падчас бескаралеўя ў 1733 падтрымаў канд. на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. Разам з ім быў у аблозе ў Гданьску. Пасля капітуляцыі Гданьска прызнаў уладу Аўгуста III. Потым збег у Каралявец да Станіслава Ляшчынскага і канчаткова прызнаў уладу Аўгуста III толькі ў 1736. У 1737 жамойцкі дэпутат Трыбунала ВКЛ, абраны маршалкам Духоўнага трыбунала ВКЛ. Пасол на соймы 1736, 1738, 1740. У 1750 атрымаў ордэн Белага Арла. Віцебскі дэпутат і маршалак Трыбунала ВКЛ 1751. З гэтага часу зблізіўся з Чартарыйскімі. Пры іх падтрымцы 7.10.1751 абраны віцебскім ваяводам. У 1758 насуперак пазіцыі Чартарыйскіх прызнаў выбар курляндскім герцагам каралевіча Караля. Гэта зблізіла яго з Радзівіламі. У 1759—60 актыўна дапамагаў жонцы памерлага брата Антонія Юзафа Брыгіце Петранелі ў справе абароны Азярышчынскага стараства ад прэтэнзій кароннага гетмана Яна Клеменса Браніцкага. Быў малаактыўным саюзнікам Радзівілаў і ў час бескаралеўя 1763—64 адразу перайшоў на бок Чартарыйскіх. Прымаў прысягу на *Пакта канвента* караля польскага і вял. кн. літ. Станіслава Аўгуста Панятоўскага і быў вызначаны ў склад соймавага суда. Адмовіўся прынесці прысягу рас. імператрыцы Кацярыне II пасля падзелу Рэчы Паспалітай 1772 са сваіх уладанняў, якія апынуліся ў Рас. імперыі. Кацярына II за асаблівыя заслугі пакінула С. гэтыя ўладанні. У 1776 абраны ў Скарбовы дэпартамент Найвышэйшай Рады. Пасля не праяўляў актыўнасці ў паліт. жыцці Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Гл. да арт. А.Ю.*Салагуб*.

***Андрэй Мацук.***

**Салагуб** Ян Міхал (?—8.5.1748), дзяржаўны дзеяч. З роду *Салагубаў*, сын Гераніма Салагуба і Кацярыны Ганны з Гротузаў. Чашнік жамойцкі (1713), падкаморы гастынскі (1722), лоўчы ВКЛ (1724), падскарбі ВКЛ (1731), ваявода берасцейскі (1746). Удзельнічаў у *Паўночнай вайне 1700—21*. Спачатку далучыўся да рэспубліканцаў і прыхільнікаў Аўгуста II, але з 1708 у лагеры Станіслава Ляшчынскага. У 1709 вярнуўся ў шэрагі прыхільнікаў Аўгуста II. У час дзейнасці *Тарнагродскай канфедэрацыі* спрабаваў пазбегнуць стварэння канфедэрацыі ў сваім рэгіменце драгун, але пад націскам канфедэратаў быў вымушаны саступіць. З пач. 1720-х г. супрацоўнічаў з каралеўскім фаварытам Станіславам Панятоўскім і зрабіў імклівую кар'еру. Пасол на соймы 1724, 1726, 1729. На сойме 1726 удзельнічаў у працы камісіі па перагаворах з рас. дыпламатамі. У канцы 1720-х г. прыняў удзел у барацьбе магнацкіх родаў за «*Нойбургскія маёнткі*». У 1730 пры падтрымцы Пацеяў абраны дэпутатам і маршалкам Трыбунала ВКЛ. 9.12.1731 купіў у Станіслава Панятоўскага за 400 тыс. злотых урад падскарбія ВКЛ. У 1732 услед за Чартарыйскімі падтрымаў Радзівілаў падчас дэпутацкай кампаніі ў спрэчцы за «Нойбургскія маёнткі». У час бескаралеўя ў 1733 падтрымаў канд. на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. Пасля ўваходу рас. войск у ВКЛ эмігрыраваў ва Усх. Прусію. Адмовіўся прызнаць каралём Аўгуста III нават пасля захопу рас. войскамі Гданьска і публічнага звароту да яго Станіслава Панятоўскага. Уладу Аўгуста III прызнаў толькі ў пач. 1736. У 2-й пал. 1730-х г. супрацоўнічаў з Сапегамі. Разам з імі ў 1737 удала супрацьдзейнічаў пры выбарах віленскага земскага пісара. Разам з Сапегамі супрацьстаяў Радзівілам і ў камісіі па павелічэнні войска ВКЛ у 1737—38. У 1738 заключыў саюз з Сапегамі, Чартарыйскімі і Міхалам Масальскім супраць Радзівілаў. Адначасова С. аказаўся ўцягнутым у канфлікт з Агінскімі, якія не хацелі прызнаваць апеку С. над віленскай ваевадзянкай Тэрэзай, якая абрала апекуном яго насуперак бліжэйшаму родзічу, віцебскаму ваяводзе Марціну Агінскаму. Пры значных высілках С. маршалкам Трыбунала ВКЛ 1739 абраны канд. антырадзівілаўскай кааліцыі інфлянцкі кашталяніч Антоній Пшаздзецкі. С. выступіў ініцыятарам прымірэння Сапегаў з навагародскім ваяводам Мікалаем Фаўстынам Радзівілам. С. хацеў ажаніцца з удавой мсціслаўскага ваяводы Ежы Сапегі Тэадорай і такім чынам стаць прэтэндэнтам на значную частку ўладанняў Сапегаў. Пасля адмовы Тэадоры спрабаваў ажаніцца з удавой трокскага кашталяна Антонія Казіміра Сапегі. Гэта пасварыла яго з Сапегамі, і С. перайшоў на бок Радзівілаў, ажаніўся з віленскай ваевадзянкай Тэрэзай. Гэта ўцягнула С. ў справу аб вяртанні ўладанняў жонкі, што дасталіся ёй у спадчыну, на якія прэтэндавалі яе сёстры Марыяна і Алена і якія ўжо былі заняты шваграмі С. — Станіславам і Ігнацым Агінскімі. Натуральнымі саюзнікамі С. сталі Сапегі. Пры падтрымцы С. трыбунальскім пісарам рус. кадэнцыі стаў сапегаўскі прыхільнік Мікалай Тадэвуш Лапацінскі. С. перашкодзіў Радзівілам правесці выбар навагародскага земскага пісара, які заняў бы ўрад пісара рус. кадэнцыі Трыбунала ВКЛ. Падчас трыбунальскай кампаніі 1741 дапамог сапегаўскаму канд. Міхалу Масальскаму стаць трыбунальскім маршалкам. У кастр. 1741 дапамог Сапегам у іх канфлікце з Радзівіламі падчас рус. кадэнцыі Трыбунала ВКЛ. Потым перайшоў на бок Радзівілаў і дапамагаў ім падчас трыбунальскіх кампаній 1742 і 1743. У 1744 абараніў ад рас. прэтэнзій Дубровенскае графства, якое раней належала А.Д.*Меншыкаву*. У справе спадчыны Вішнявецкіх С. падтрымаў Агінскіх супраць кааліцыі Сапегаў, нясвіжскіх Радзівілаў і Чартарыйскіх. Па яго ініцыятыве ў 1746 сарвана шмат дэпутацкіх соймікаў, але адначасова ён стаў ініцыятарам прымірэння магнацкіх кааліцый у справе спадчыны Вішнявецкіх. У падзяку за пасрэдніцтва магнаты садзейнічалі яго абранню дэпутатам і маршалкам Трыбунала ВКЛ

1747. Пры яго падтрымцы Радзівілы парушылі ранейшыя дамоўленасці з Сапегамі і Чартарыйскімі і правялі выбар пісарам рус. кадэнцыі свайго прыхільніка Станіслава Лопата. З-за хваробы не прымаў удзелу ў паліт. барацьбе падчас трыбунальскай кампаніі 1748.

*Літ.*: Мацук А.У. Унутрыпалітычная сітуацыя ў Вялікім княстве Літоўскім у 1739 г. // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Мінск, 2007; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o sukscecje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Palkij H. Praca komisji aukcji wojska w latach 1736—1738 // Kwartalnik Historyczny. 1999. Z. 1; Яго ж. Sejmy 1736 i 1738 roku: u początków nowej sytuacji politycznej w Rzeczypospolitej. Kraków, 2000;

***Андрэй Мацук.***

**Сапега** Ежы Станіслаў (1668— 12.10. 1732), дзяржаўны дзеяч. З роду *Сапегаў*, сын Казіміра Яна Паўла *Сапегі* і Крысціны Барбары з Глябовічаў. Падстолі ВКЛ у 1686, стольнік ВКЛ у 1686—1703 (таксама пры Станіславе Ляшчынскім у 1705—06) і з 1709, трокскі ваявода ў 1706—09 з намінацыі Станіслава Ляшчынскага, мсціслаўскі ваявода ў 1732. Пасол на соймы 1685 (са Смаленскага пав., не ўдзельнічаў), 1688, 2 соймы 1693 (у працы 2-га не ўдзельнічаў), 1695 (са Слонімскага пав.), 1696 (з Жамойці), 1698 (са Слонімскага пав.). Удзельнік войнаў з туркамі і татарамі ў 1680—90-я г. Пасол ад войска на сойм 1690. На сойме 1695 учыніў бойку з кароннымі пасламі, праігнараваў позву на маршалкоўскі суд і пакінуў Варшаву. У жн. 1695 у Навагародку з атрадам войска спрабаваў расправіцца з лідэрамі мясц. апазіцыі Сапегам. Прысутнічаў на жамойцкім грамнічным сойміку 1696 у Расейнах, дзе адбылося сутыкненне сапегаўцаў з апазіцыяй, падчас якога пацярпеў жамойцкі біскуп Ян Геранім Крышпін-Кіршэнштэйн. Нягледзячы на спробу яго абараніць, адлучаны Крышпін-Кіршэнштэйнам ад касцёла. Падчас бескаралеўя 1696—97 абраны дырэктарам Жамойцкага каптуровага суда і пасло м на канвакацыйны сойм, пазней таксама генеральным палкоўнікам Жамойцкага княства, але не здолеў атрымаць урад жамойцкага старасты. Падчас падвойнай элекцыі на трон 1697 падтрымаў Францыа Людовіка дэ Канці. Удзельнік Гарадзенскага з'езда прыхільнікаў дэ Канці 10.10.1697, на якім выступаў за прызнанне каралём Аўгуста II. Падчас вайсковага кола 22.11.1697 пад Коўнам абвінавацяў Рыгора Антонія Агінскага ў захопе паўнамоцтваў вял. гетмана, пасля чаго прыбыў з вайсковым атрадам у Расейны на скліканы рэспубліканцамі 26.11. 1697 з'езд паспалітага рушэння. Агінскі і жамойцкі харужы Казімір Заранак справакавалі напад шляхты на жаўнераў, у выніку якога С. быў вымушаны ратавацца ўцёкамі, а яго жаўнеры здаліся. Гэта паклала пачатак фарміраванню рэспубліканцамі ўласнага войска. У пач. 1698 як пасол ад войска ВКЛ прасіў Аўгуста II выклікаць Агінскага на суд. У канцы сак. 1698 выпраўлены вял. гетманам з Гародні пад Коўна з часткаю войска, не прапусціў цераз Вілію войска Агінскага, якое ішло ў Вільню на рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ. Разбіў войска рэспубліканцаў у *Юрбаркскай бітве 1698*. Пасля набыцця 24.6.1700 Сапегамі ў герцага Карла Філіпа Рэйнскага *«Нойбургскіх маёнткаў»* дзейнічаў супраць іх ранейшых пасесараў і адміністрацыі, 24.9.1700 штурмам захапіў Копысь. Не ўдзельнічаў у *Алькеніцкай бітве 1700*, пасля яе вымушаны эмігрыраваць, яго маёнткі ў ВКЛ канфіскаваны рэспубліканцамі. Яго жонка Ізабела Алена з Палубінскіх выйграла 7.3.1701 на Трыбунале ВКЛ справу супраць С., адсудзіўшы свае спадчынныя маёнткі, што дазволіла вярнуць канфіскаваныя ўладанні. 16.1.1702 падпісаў мірнае пагадненне з рэспубліканцамі, але ў хуткім часе прыняў пратэкцыю шведскага караля Карла XII, прымаў удзел у *Паўночнай вайне 1700—21* на баку Швецыі. Пазбаўлены соймам 1703 урада стольніка ВКЛ, які ў 1705 вернуты яму Станіславам Ляшчынскім. Дзейнічаў першапачаткова ў Польшчы, Курляндыі і Жамойці, браў удзел у кампаніях 1706 і 1708 на тэр. ВКЛ. Як адзін з камісараў Варшаўскай канфедэрацыі падпісаў саюзны трактат Рэчы Паспалітай са Швецыяй 26.11.1705. Удзельнік бітваў пад Крыжбаркам 5.8.1704, дзе атрымаў раненне, пад Алітай 12.2.1706 і Калішам 28.10.1706. Пасля пераходу ў 1709 на бок Аўгуста II не змог аднавіць эканам. пазіцый у ВКЛ, у т.л. па прычыне сваёй безгаспадарлівасці. У барацьбе за «Нойбургскія маёнткі» выступаў з 1714 у саюзе з Людвікам Канстанцінам Пацеем. У створанай 23.3. 1716 генеральнай канфедэрацыі ВКЛ прадстаўляў Слонімскі пав. Прызначаны дарадцам маршалка канфедэрацыі Крыштофа Сулістроўскага; удзельнічаў як адзін з камісараў у перагаворах канфедэратаў з Аўгустам II у Любліне. У 1717 з братам Аляксандрам Паўлам у Трыбунале ВКЛ аспрэчыў правы на «Нойбургскія маёнткі» Эльжбеты Аўгусты, дачкі Карла Філіпа. Трыбунал ВКЛ 1719 прысудзіў «Нойбургскія маёнткі» Сапегам, якія, аднак, не змаглі вярнуць іх з заставы ў Аўгуста II. У 1719 пратэставаў супраць дзейнняў А.Д.*Меншыкава*, які не вярнуў яму грошы за Дуброўну, пасля чаго захапіў яе. У 1731 аспрэчыў разам з інш. Сапегамі правы на «Нойбургскія маёнткі» Радзівілаў, выйграў справу ў Трыбунале ВКЛ і спрабаваў сілай імі завалодаць, але пацярпеў няўдачу. Быў жанаты з 1685 з Ізабелай Аленай, дачкой Аляксандра Гілярыя Палубінскага, якая памерла ў 1720. У спадчыну ад яе атрымаў Дзярэчын, Шчару, Азярніцу, Беражкі ў Слонімскім пав., Зэльву ў Ваўкавыскім пав., Баркалабава, Дашкаўку, Буйнічы, Горы і Горкі ў Аршанскім пав., Лоеў у Рэчыцкім пав. Атрымаў частку маёнткаў свайго бацькі. Паўторна ажаніўся ў 1724 з Тэадорай, дачкой інфлянцкага харужага Самуэля Солтана. Ад першага шлюбу меў сына Антонія Казіміра *Сапегу* і 5 дачок (Тэрэзу Крысціну, Бенядзікту, Саламею Ганну, Аляксандру і Ганну), але большую частку маёнткаў пакінуў дочкам ад 2-га шлюбу — Крысціне Ружы, якая ў 1745 выйшла замуж за Казіміра Масальскага, і Тэрэзе.

*Літ.*: Мацук А. Радзівілы і справа аб «нойбургскіх уладаннях» (1730—1740-я гады) // Бел. гіст. часопіс. 2005. № 3; Віцько Дз. Спроба рэспубліканцаў дамагчыся ўлады над войскам ВКЛ у 1697—1698 г. // Бел. гіст. агляд. 2008. Т. 15, сш. 1—2; Narbutt J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskigo i Augusta II, królów panujących w Polsce. T. 1—2. Wilno, 1842; Rachuba A. Polityka nominacyjna Stanisława Les-

zczyńskiego na Litwie w latach 1705—1709 // Przegląd Historyczny. 1992. Z. 4; Я г о ж. Sprawa obsady urzędów litewskich po Sapiehach w początkach XVIII wieku // Między wielką polityką a szlacheckim partykularyzmem. Toruń, 1993; Dom Sapieżyński. Warszawa, 1995; S l e s o r i ū n a s G. Lietuvos Didžioji kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000.

*Зміцер Віцько.*

**Сапега** Казімір Ян Павел (каля 1642—14.3.1720), дзяржаўны дзеяч. З роду *Сапегаў*, сын Паўла Яна Сапегі і Ганны Барбары з Копацяў. Чашнік ВКЛ у 1659—61, падстолі ў 1661—63, надворны падскарбі ў 1663—70, берасцейскі староста з 1665, ваявода полацкі ў 1670—81, польны гетман у 1681—83, жамойцкі староста ў 1681—82, вял. гетман у 1683—1703 і 1705—08, віленскі ваявода ў 1682—1703 і з 1705. У 1700 атрымаў ад аўстрыйскага імператара Леапольда I княжацкі тытул. Удзельнік элекцый 1648, 1669, 1674, 1697. Пасол на соймы 1664—65 (з Берасцейскага пав.), 2 соймы 1666 (з Берасцейскага і Ваўкавыскага пав.), канвакацыйны 1668 і элекцыйны 1669 (з Віленскага пав.), каранацыйны 1669 (з Трокскага пав.), 2 соймы 1670 (з Ваўкавыскага пав.). Маршалак Трыбунала ВКЛ 1686, 1689, 1708. Пасол ад Лідскага пав. на канвакацыю ВКЛ 1665 у Гародні. Знаходзіўся ў апазіцыі да караля Яна II Казіміра і Пацаў. З 1667 жанаты з Крысцінай Барбарай, дачкой Ежы Караля Глябовіча (памерла ў 1695). Падчас бескаралеўя 1668—69 падтрымаў кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай нойбургскага кн. Філіпа Вільгельма, але ўрэшце падпісаў элекцыю Міхала Вішнявецкага. У 1669 фактычна ўзначаліў групоўку, якая арыентавалася на караля і знаходзілася ў апазіцыі да Пацаў. У 1671 па ініцыятыве С. сарвана канвакацыя ВКЛ у Вільні. 22.11.1672 падпісаў у Кобрыне акт канфедэрацыі войска ВКЛ, у 1673 далучыўся да Голамбскай канфедэрацыі. Падпісаў акт пацыфікацыі Рэчы Паспалітай 11.3.1673. Удзельнік ваенных кампаній супраць турак і татар 1673—75. Падчас элекцыі 1674 падтрымліваў кандыдатуру Людовіка Кандэ, але ўрэшце падпісаў элекцыю Яна III Сабескага. У 1678 разам з валынскім ваяводам Міхалам Чартарыйскім выехаў з пасольствам у Маскву, падпісаў 17.8. 1678 трактат, які працягваў Андросаўскае перамір'е 1667. Арыентаваўся на караля, але пасля смерці вял. гетмана Міхала Казіміра Паца і напярэдадні атрымання ўрада вял. гетмана ВКЛ перайшоў у апазіцыю. На чале войска ВКЛ браў удзел у кампаніях 1683 (дзейнічаў супраць венгерскіх паўстанцаў у Славакіі), 1684, 1687, 1688, 1689, 1691, 1694, 1698 (супраць турак і татар). Склікаў на 24.1.1685 генеральны соймік ВКЛ у Слоніме, які выказаў пратэст супраць адкрыцця сойма ў Варшаве замест чарговага ў Гародні. Па яго прапанове паслы ВКЛ з'ехаліся ў Горадні. Дырэктар полацкага элекцыйнага сойміка на ўрад ваяводы 14.8.1685, якім быў абраны Дамінік Міхал Слушка, прыхільнік С. У 1688 падпісаў таемнае пагадненне супраць дынастычных планаў Яна III Сабескага. У 1688 заехаў у «*Нойбургскія маёнткі*», каб не дапусціць іх канфіскацыі. Ініцыятар зрыву соймаў 1688—89 і 1693, маніфеста супраць адкрыцця сойма ў адсутнасць караля, прынятага ў снеж. 1693 на нелегальна скліканай правінцыйнай радзе ВКЛ, ініцыіраваў зрыў на самым пачатку сойма 1695. У 1693—96 знаходзіўся ў канфлікце з віленскім біскупам Канстанцінам Казімірам Бжастоўскім па пытанні пастою войска ВКЛ у касцельных маёнтках, 18.4.1694 адлучаны ім ад касцёла. У 1695 адбіў спробу Радзівілаў захапіць «Нойбургскія маёнткі». Пад яго націскам ліквідавана канфедэрацыя часткі войска ВКЛ на чале з Рыгорам Антонам Агінскім, утвораная ў кастр. 1696 пад Пружанамі. Прымусіў Агінскага адступіць ад Берасця і падпісаць капітуляцыю 27.11.1696. Падчас бескаралеўя 1696—97 С. падтрымліваў кандыдатуру Франсуа Людовіка дэ Канці, у той час як рэспубліканцы арыентаваліся на Якуба Сабескага, а пазней на саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста. Пасля падвойнай элекцыі падпісаў 5.7.1697 акт у абарону дэ Канці. 26.8.1697 далучыўся да рокашу ў яго падтрымку, але адмовіўся прыняць камандаванне ўзброенымі сіламі ракашан. Не праявіў рашучасці і ў канцы ліст. 1697 прызнаў уладу Аўгуста II. Пры пасрэдніцтве караля падпісаў 28.1.1698 мірнае пагадненне з рэспубліканцамі, прызнаўшы ўхвалены на элекцыйным сойме акт *ураўнавання правоў*. Аднак не змог прымусіць Агінскага, які аспрэчыў яго ўладу і перацягнуў на свой бок частку войска, спыніць узброеную барацьбу. 22.2. 1698 у Шкудах утворана скіраваная супраць С. канфедэрацыя войска і шляхты ВКЛ на чале з Агінскім, а 3.3.1698 камісары часткі паветаў ВКЛ падпісалі трактат з яго войскам, які прадугледжваў скасаванне запазычанасці па жалаванні. Войска С. яго не прызнала, а вял. гетман накіраваў супраць Агінскага сыноў Ежы Станіслава і Міхала Францішка. Апошні прымусіў 30.4.1698 мяцежныя харугвы капітуляваць пад Жыжмарамі. 22.7.1698 С. падпісаў у Варшаве мірнае пагадненне з пасламі рэспубліканцаў, хутка сарванае, бо ў гэты ж дзень Ежы Станіслаў Сапега разбіў Агінскага ў *Юрбаркскай бітве 1698*. У канцы 1698 С. выступіў супраць паспалітага рушэння шляхты ВКЛ, але пад ціскам дасланага каралём саксонскага войска пагадзіўся на падпісанне трактата 20.12.1698, згодна з якім войска ВКЛ было скарочана (гл. *Пузавіцкая пастанова 1698*). С. быў маршалкам Скарбовага Трыбунала 1700, які выявіў фінансавыя злоўжыванні лідэраў апазіцыі Р.А.Агінскага і Міхала Казіміра Коцела, але не здолеў прыцягнуць іх да адказнасці. 25.4.1700, за дзень да рэасумпцыі Гал. Трыбунала ВКЛ, у Вільні адбылося сутыкненне аховы С. з эскортам Вішнявецкіх, падчас якога апошнія былі паранены, а на жыццё С. ўчынены замах. 24.6.1700 С. купіў у рэйнскага электара Карла Філіпа «Нойбургскія маёнткі», апекуном якіх быў з 1697. Падпісаў 3.7.1700 дагавор з каралём наконт вярбоўкі дапаможнага корпуса для баявых дзеянняў супраць Швецыі ў Інфлянтах (фактычна мелася на ўвазе войска ВКЛ). 21.8.1700 падпісаў у Вільні мірнае пагадненне з рэспубліканцамі. Але апошнія выкарысталі адсутнасць часткі войска для склікання паспалітага рушэння, якое пад камандаваннем Міхала Сервацыя Вішнявецкага разбіла ў *Алькеніцкай бітве 1700* нешматлікія сілы С. У палон трапіў яго сын Міхал Францішак, канюшы ВКЛ, які быў забіты



шляхтай. Паводле *Алькеніцкай пастановы 1700* С. пазбаўлены рэспубліканцамі пасад і маёнткаў. У жн. 1701 наладзіў кантакт са шведскім каралём Карлам XII, а пасля правалу падпісанага 16.1.1702 пагаднення з рэспубліканцамі перайшоў пад яго пратэкцыю і прыняў удзел у *Паўночнай вайне 1700—21* на баку Швецыі. Сумесна з корпусам Карла Густава Мёрнера заняў Вільню, але пасля яго сыходу з ВКЛ разбіты 26.7.1702 Вішнявецкім пад Каменнай. У 1703 ажаніўся з Тэрэзай з Гасеўскіх, удавой Юзафа Багуслава Слушкі (памерла ў 1708). Ад гэтага шлюбу меў дачку Кацярыну Схаластыку і сыноў Ежы Станіслава, Міхала Францішка і Аляксандра Паўла. Трэці раз быў жанаты з Антанінай фон Вальдштайн-Арнаў, удавой Андрэя Гелгуда. Сойм 1703 вызначыў тэрмін у 6 тыдняў для вяртання С. на бок Аўгуста II, пагражаючы пазбаўленнем пасад і маёнткаў. С. праігнараваў патрабаванне і быў пазбаўлены пасад вял. гетмана ВКЛ і віленскага ваяводы, якія атрымаў М.С.Вішнявецкі. Разбіў разам з войскам Адама Людвіка Левенгаўпта 5.8.1704 Вішнявецкага пад Якабштатам у Курляндыі. Прыняў капітуляцыю Біржаў 24.9.1704. Удзельнічаў у каранацыі Станіслава Ляшчынскага, а 5.12. 1705 падпісаў саюзны трактат Рэчы Паспалітай са Швецыяй. Браў удзел у кампаніях 1706 і 1708 у ВКЛ. У 1707 пагадзіўся з Вішнявецкім, які перайшоў на бок Станіслава Ляшчынскага. 8.5.1708 адмовіўся ад пасады вял. гетмана на карысць свайго пляменніка Яна Казіміра. На пераломе 1709—10 перайшоў на бок Аўгуста II, які пакінуў яго на пасадзе віленскага ваяводы. Удзельнік Варшаўскай вальнай рады 1710. Пасля ўтварэння 23.3.1716 генеральнай канфедэрацыі ВКЛ у Вільні далучыўся да яе, але не прынёс прысягі. Меў у ВКЛ Іказнь, Друю, Асвею, Лужкі, Стары і Новы Быхаў, Добасну, Шкуды, Крэцінгу, Карцяны, Лаўкажэмы, Шатэйкі, Алаву, Лейпуны, Стравінікі, Панямонь, Бялавічы, Пескі, Самойлавічы, Палонск, Ружаны, Беліцу і інш., Дырваны ў Інфлянтах; у спадчыну ад Глябовічаў атрымаў Дуброўну, Іўе, Ілью, Заслаўе, ад Гасеўскіх — Рыкарбы (у Прусіі) і Воўчын. Памёр у Гародні, пахаваны ў Бярозе.

*Літ.*: Віцько Дз. Спроба рэспубліканцаў дамагчыся ўлады над войскам ВКЛ у 1697—1698 г. // Бел. гіст. агляд. 2008. Т. 15. Сш. 1—2; Narbutt J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskiego i Augusta II, królów panujących w Polsce. T. 1—2. Wilno, 1842; Jarochowski K. Dzieje panowania Augusta II od śmierci Jana III do chwili ustąpenia Karola XII na ziemię polską. Poznań, 1856; Яго ж. Dzieje panowania Augusta II od ustąpenia Karola XII na ziemię polską aż do elekcyi Stanisława Leszczyńskiego (1702—1704). Poznań, 1874; Powidaj L. Wojna domowa Sapiehów z szlachtą litewską w ostatnich latach XVII i na początku XVIII wieku // Przegląd Polski. 1872/73. R. 7, t. 2, z. 4— 5; Piwarski K. Opozycja litewska pod koniec XVII wieku // Pamiętnik V powszechnego zjazdu historyków polskich w Warszawie od 28 listopada do 4 grudnia 1930 r. Lwów, 1930. Z. 1; Wojtasik J. Walka Augusta II z obozem kontystowsko-prymasowskim w pierwszym roku panowania (1697—98) // Przegląd historyczny. 1969. Z. 1; Rachuba A. Polityka nominacyjna Stanisława Leszczyńskiego na Litwie w latach 1705—1709 // Przegląd Historyczny. 1992. Z. 4; Яго ж. Sprawa obsady urzędów litewskich po Sapiehach w początkach XVIII wieku // Między wielką polityką a szlacheckim partykularyzmem. Toruń, 1993; Яго ж. Sejmiki generalne Wielkiego Księstwa Litewskiego w Wołkowysku i Słonimiu // Między Zachodem a Wschodem: studia z dziejów Rzeczypospolitej w epoce nowożytnej. Toruń, 2002; Яго ж. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002; Dom Sapieżyński. Warszawa, 1995; Slesoriūnas G. Lietuvos Didžioji kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000; Wierzbicki L.A. O zgodę w Rzeczypospolitej: zjazd warszawski i sejm pacyfikacyjny 1673 roku. Lublin, 2005.

*Зміцер Віцько.*

**сарочнік**, ніжэйшая службовая пасада ў шэрагу валасцей ВКЛ з пераважаючым усходнеславянскім насельніцтвам (Навагародскі, Гарадзенскі, Слонімскі і Ваўкавыскі пав.). Гал. абавязак С. — размеркаванне і збор падаткаў на карысць гаспадара на ўзроўні валасці. З соцкімі і дзесяцкімі С. складалі органы кіравання, якія генетычна ўзыходзілі да аналагічных інстытутаў стараж.-рус. перыяду і складалі т.зв. дэцымальную (дзесятковую) сістэму. Яна не была звязана з родаплеменным ладам, а ўяўляла сабой арганізацыю княжацкай гаспадаркі. На дзесяткі і сотні дзяліліся земляробы («чорныя людзі»), якія былі залежнымі ад князя. Толькі з цягам часу гэтая сістэма ахапіла больш шырокую частку насельніцтва. Дзяленне на 40 традыцыйна прысутнічае ў структуры шэрага ўсх.-слав. метралагічных сістэм, але ў дачыненні да насельніцтва сустракаецца рэдка і вядома толькі дзякуючы ўпамінанню С. Пасада С. захавалася ў ВКЛ і пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66.

*Сцяпан Цемушаў.*

**Сасноўскі** Ян (?—27.4.1660), ваенны дзеяч ВКЛ. У 1621—25 С. ў якасці таварыша гусарскай харугвы ўдзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. У 1622 кіраваў абаронай Біржаў ад шведаў. У 1635 пры падтрымцы Крыштофа *Радзівіла* С. прызначаны падстоліем віленскім. Летам 1648 удзельнічаў у Віленскім правінцыяльным сінодзе кальвіністаў. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* камандаваў *Слуцка абаронай 1648* ад казацкага атрада Яна *Сакалоўскага*. У пач. 1651 С. атрымаў загад на збор гусарскай харугвы колькасцю 150 чал., але па загаду Януша *Радзівіла* мусіў набіраць 2 казацкія харугвы (300 чал.). У крас.—чэрв. 1651 на чале казацкай харугвы ваяваў супраць укр. казакоў у Мазырскім пав. Па пратэкцыі Багуслава *Радзівіла* ў 1654 атрымаў пасаду полацкага кашталяна. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У студз.—лютым 1651 харугва С. ваявала супраць рас. войск каля Магілёва і Быхава, але невядома, ці быў пры ёй сам С. Пасля падпісання *Кейданскай дэкларацыі 1655* С. застаўся верным каралю Яну II Казіміру, у вер. 1655 яго харугва пакінула войска Януша Радзівіла. Летам 1656 С. ад імя караля спрабаваў авалодаць Слуцкам, магчыма, у гэтым жа годзе перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва. Летам 1659 быў накіраваны гетманам Паўлам Янам Сапегам пад Быхаў на дапамогу казацкаму палкоўніку Івану *Нячаю*. Злучыўшыся з атрадам Самуэля Аскеркі пад Койданавам, у жн. 1659 войска С. рушыла пад Менск, а потым пад Бабруйск, але з прычыны нявыплаты грошаў жаўнеры далей ісці адмовіліся і размясціліся ў



Глуску. Адзінай сур'ёзнай акцыяй паходу стаў рэйд невял. атрада пад Магілёў, у выніку якога былі спалены гар. прадмесці. С. быў адным з найб. выдатных камандзіраў войска ВКЛ сярэдняга звяна.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Radziwiłł B. Autobiografia. Warszawa, 1979; Polski słownik biograficzny. T. 40, z. 167. Wrocław etc., 2001. ***Сяргей Чаропка.***

**Сіруць** Шыман (1698—20.4.1774), дзяржаўны дзеяч. Сын Юзафа Казіміра Сіруця і Барбары з Забелаў. Ковенскі абозны (1725), гродскі падстараста (1730), гродскі староста (1742), мечнік ВКЛ (1750), кашталян віцебскі (1752). У канцы 1720-х г. быў у шэрагах антыкаралеўскай апазіцыі. Удзельнічаў у зрыве сойма 1729. Падчас бескаралеўя падтрымаў канд. на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. Абраны палкоўнікам Ковенскага пав. Пасля ўцёкаў Станіслава Ляшчынскага з Гданьска С. выехаў услед за ім у Каралявец, дзе займаў пасаду каралеўскага сакратара. Пасля адмовы Станіслава Ляшчынскага ад кароны выехаў з ім у Латарынгію, дзе займаў пасаду радцы двара. Дзякуючы С. значная колькасць маладых шляхціцаў з ВКЛ вучылася ў Рыцарскай акадэміі ў Люневілі. Канфлікт з французскай адміністрацыі з-за планаў рэформы кіравання Латарынгіяй прымусіў С. ў канцы 1738 вярнуцца ў Рэч Паспалітую. У 1740 прэтэндаваў на ўрад ковенскага маршалка, адмовіўся ад яго на карысць Антонія Забелы пасля заключэння дагавора, што па чарзе з ім будзе кіраваць ковенскімі соймікамі. У 1742 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ і стаў пісарам віленскай кадэнцыі. Быў настолькі ўплывовым, што планаваў адхіліць ад улады трыбунальскага маршалка. Разам з мазырскім гродскім старастам Гервазіем Людвікам Аскеркам дапамог Сапегам атрымаць большасць на рус. кадэнцыі Трыбунала ВКЛ у 1742. У чэрв. 1742 падканцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі з кніг меншай канцылярыі выдаў прывілей С. на Ковенскае гродскае староства. С. прыняў урад, хаця ведаў, што адначасова з кніг вял. канцылярыі выдадзены прывілей на Ковенскае гродскае староства Людвіку Пацею. С. апярэдзіў Пацея, 8.6.1742 склаў прысягу на ўрад і ў ліп. 1742 арганізаваў уезд на староства. Нягледзячы на намаганні падтрымаўшых Пацея Радзівілаў, С. захаваў урад старасты пры дапамозе Сапегаў і Чартарыйскіх. Быў пaслом на соймы 1742, 1744, 1746, 1748, 1750, дзе праявіў сябе прыхільнікам праграмы дзярж. рэформ Чартарыйскіх. Абраны дэпутатам і маршалкам Трыбунала ВКЛ у 1752. Далей быў прыхільнікам Чартарыйскіх. Дзякуючы С. ў 1756 у Коўне адзін з лідэраў «фаміліі» Ежы Флемінг быў абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ разам з радзівілаўскім прыхільнікам, пісарам ВКЛ Антоніем Пацам. У канцы вер. 1756 удзельнічаў у з'ездзе лідэраў «фаміліі» ў Слоніме, дзе абмяркоўвалася магчымасць стварэння антыкаралеўскай канфедэрацыі. Дзякуючы Чартарыйскім 10.3.1757 атрымаў рас. ордэн святога Аляксандра Неўскага. Пасля разрыву з Чартарыйскімі ў 1758 Міхала Антонія Сапегі пачалося ахалоджванне адносін С. з «фаміліяй». У выніку ў 1761 С. перайшоў на бок Радзівілаў і дапамог стаць дэпутатам Трыбунала ВКЛ на Ковенскім сойміку радзівілаўскаму канд. на трыбунальскае маршалкоўства Ігнацію Пацу. Пры садзейнічанні Радзівілаў 3.8.1761 С. атрымаў ордэн Белага Арла. Падчас бескаралеўя ў 1764 перайшоў на бок Чартарыйскіх, але не дамогся поўнага прабачэння. У 1767 вярнуўся ў кола прыхільнікаў віленскага ваяводы Караля Станіслава Радзівіла, але той запатрабаваў разліку за трыманне ў заставе Кейданскага графства. З гэтага часу С. фактычна адышоў ад паліт. спраў.

*Літ.*: Мацук А. Пінскі соймік у трыбунальскай кампаніі 1750 г. // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі «Гісторыя і сучаснасць Пінска (да 910-годдзя першай летапіснай узгадкі горада)». Мінск; Пінск, 2007; Яго ж. Роль М.Чорторийського під час розподілу повітових урядів у ВКЛ в 40-х pp. XVIII ст. // Український історичний збірник. Київ, 2007. Вип. 10; Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Czeppe M. Kamaryla Pana z Dukli: kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha 1750—1763. Warszawa, 1998. ***Андрэй Мацук.***

**«Сказанне пра Корсунскі Таропецкі абраз»**, расійскі літаратурны твор 17 ст. Змяшчае расказ пра цудоўнае ўратаванне г. Таропец ад літ. войск у Смутны час, якое адбылося дзякуючы Корсунскаму абразу Багародзіцы (раней знаходзіўся ў Полацку). Як мяркуецца, у апавяданні аб'яднаны 2 падзеі — спроба Аляксандра Гасеўскага (гл. ў арт. *Гасеўскія*) захапіць горад прыступам у ліп. 1609 і знаходжанне каля горада войск Льва *Сапегі* ў 1611. Сказанне выдадзена В.Д.Шчукіным у 1894.

*Літ.*: Щукин В.Д. Корсунско-Богородицкий собор в городе Торопце Псковской епархии. Санкт-Петербург, 1894; Романова А.А. Малоизвестные сказания о чудотворных иконах в собраниях Отдела рукописей Российской национальной библиотеки // Древнерусские и греческие рукописи Российской национальной библиотеки. Санкт-Петербург, 2007.

**«Сказанне пра Мамаева пабоішча»**, «Пра пабоішча Мамая», помнік старажытнарускай літаратуры 1-й чвэрці 15 ст., важнейшы твор Кулікоўскага цыкла (змяшчае найб. падрабязнае апісанне *Кулікоўскай бітвы 1380*). Асн. ідэя — сцвярджэнне вядучай ролі вял. маскоўскага кн. Дзмітрыя Іванавіча Данскога на Русі, у аб'яднанні сіл усх.-слав. зямель для барацьбы са знешнім ворагам, услаўленне герaічнага подзвігу рус. народа. Аўтар адзначыў вял. ролю прадстаўнікоў ВКЛ у перамозе над войскамі Мамая, важнасць ваенна-паліт. саюзу гэтага княства з Маскоўскай дзяржавай. Гал. герой Дзмітрый Данскі апісаны як мужны і мудры палкаводзец, дастойны прадстаўнік свайго часу і свайго народа. Аўтар выкарыстаў анахранізмы (напрыклад, саюзнікам Мамая названы вял. князь літ. Альгерд, а не яго сын Ягайла, як было на самай справе), абстрактны псіхалагізм (Мамай і яго саюзнік, разанскі кн. Алег, паказаны рэзка адмоўна ў процілегласць Дзмітрыю Данскому і яго паплечнікам), мастацкія прыёмы і вобразы, уласцівыя фальклору. Гістарычна дакладнае апісанне рэальных падзей, заснаванае на дакументальных крыніцах і ўспамінах сучаснікаў, спалучаецца ў творы з вусна-паэтычнымі паданнямі і мастацкім



вымыслам. Вобраз кн. Дзмітрыя Данскога пададзены месцамі ў агіяграфічна-рытарычным плане. Сказанне карысталася вял. папулярнасцю, захавалася ў шматлікіх спісах 8 рэдакцый. Адна з рэдакцый, скарочаны пераклад на бел. мову «Пра пабоішча Мамая», створана ў 17 ст. Яна дапоўнена на пачатку кароткай гіст. аповесцю пра татарскіх ханаў (тэкст аповесці падзелены на 12 частак, кожная з якіх мае сваю назву), вызначаецца сцісласцю апісання падзей, больш дынамічным выкладаннем сюжэта. Рукапіс бел. рэдакцыі зберагаецца ў Рас. Нац. б-цы ў Санкт-Пецярбургу. Больш поў-ная рэдакцыя помніка захавалася ў бел.-укр. хранографе *«Вялікая хроніка»*, дзе твор называецца «О поражце великой московской над татарами».

*Літ.*: История белорусской дооктябрьской литературы. Минск, 1977. С. 252—254; Сказания и повести о Куликовской битве. Ленинград, 1982.

**скарапіс**, графічны від кірылічнага пісьма, які выкарыстоўваўся ў рукапісах (кнігах і актах) ВКЛ у апошняй трэці 14—18 ст. Тэрмін «С.» вядомы з 16 ст. З'яўленне і развіццё С. звязана з укараненнем і развіццём пісьма ў дзелавой сферы. С. характарызуецца наступнымі прыкметамі: сярэдні і хуткі тэмпы пісьма; «лёгкая» і «сярэдняя» вага (пад «вагой» разумеецца таўшчыня ліній); як правіла, сярэдні і дробны памеры пісьма; адсутнасць сіметрычнасці і суразмернасці літар; у больш чым 2 лінейкі выконваюцца «а» (на ранніх этапах, у далейшым як адзін з варыянтаў), «г» (адзін з варыянтаў), «д», «ж», «з», «р», «т», «у», «ȣ», «ф», «Ѳ», «х», «ц», «щ», «ъ», «ы» (на ранніх этапах), «ꙗ» на ранніх этапах, у далейшым як адзін з варыянтаў), «ѣ», «Ѯ», «ѱ»; прамое і нахіленае ўправа пісьмо; крывалінейная форма рухаў пяра; безадрыўнае пісьмо; свабодны, просты дукт (дукт — паслядоўнасць, з якой пісец узнаўляў складовыя элементы літар, і кірунак, у якім ён іх пісаў); крывалінейная форма рухаў пяра пры напісанні і злучэнні элементаў літар і саміх літар; безадрыўны тып злучэння рухаў пры напісанні элементаў літар і саміх літар (усе элементы літары пішуцца безадрыўным рухам пяра, літары злучаюцца таксама безадрыўным рухам пяра); невял. колькасць рухаў (прыёмаў) пры напісанні элементаў літар і саміх літар; вял. варыянтнасць літар; вял. колькасць скарачэнняў; развітая сістэма памежных сігналаў (прызначаны для размежавання адзінак тэксту — слоў). У развіцці С. вылучаюцца 3 перыяды: апошняя трэць 14—канец 15 ст., 1-я пал. 16 ст., 2-я пал. 16— 17 ст. 1-ы перыяд можна назваць перыядам «устаўнога С.», паколькі графіка С. яшчэ блізка да графікі ўстава. Для гэтага перыяду характэрна фарміраванне дыферэнцыруючых прыкмет літар. Другі — пераходны — перыяд характарызуецца фарміраваннем тых асаблівасцей, якія рыхтавалі С. да курсівізацыі. Для 3-га перыяду ўласціва актыўнае развіццё і панаванне курсіўнага пісьма. Упершыню прыкметы С. (таксама як і паўстава) найб. выразна праявіліся ў актах, якія выйшлі з канцылярый польскага караля і вял. кн. літ. Ягайлы, асяроддзя яго службовых асоб, а таксама канцылярыі Вітаўта. С. апошняй трэці 14—15 ст. быў яшчэ блізкі да паўустава, паколькі перад абодвума відамі пісьма стаяла агульная мэта: стварэнне дыферэнцыруючых прыкмет літар. У адрозненне ад паўустава ў С. апошняй трэці 14 ст. «а» пісалася з вынаснай перакладзінай, часцей выкарыстоўвалася «ѣ» з вял. мачтай і высокім каромыслам. Літара «ч» амаль заўсёды ўзнаўлялася без ножкі ці з ножкай, якая была ледзь прыкметнай. Літара «и» магла пісацца безадрыўна. Узнаўляўся спрошчаны варыянт «к» у выглядзе вертыкалі і дужкі. Часта набывалі дугавую форму 2 пятлі «в». З дугавымі петлямі пісаліся «б», «ъ», «ы», «ь», «ѣ». Ніжнія вынасныя элементы такіх літар, як «у», «ц», «щ», былі павернуты ўлева. У 1-й пал. 15 ст. рост вынасных «а» і «д» не спыніўся. Выкарыстоўваліся «ъ» амаль выключна з вынаснай мачтай і вял. перакладзінай і «ѣ» пераважна з высокім каромыслам. Бліжэй да сярэдзіны 15 ст. часам сустракаецца акруглы варыянт «и». Калі «и» мела вуглаватую форму, яе корпус нахіляўся ў левы бок, а корпус «н», якая выконвалася таксама прамалінейнымі рухамі, — у правы. Кожная з гэтых літар уяўляла сабой люстэркавы адбітак іншай. Люстэркавы нахіл «и» і «н» служыў сродкам іх дыферэнцыяцыі. Правыя канцы перакладзін «ж» маглі злучацца прамой лініяй, утвараючы вуглаватую пятлю. Мачта літары крыху павялічыліся. Вуглаватая пятля «ж» магла змяняцца на акруглую. У 2-й пал. 15 ст. ножкі «д» яшчэ больш павялічылася. Панавалі «а» і «д» з вынаснымі элементамі, «ъ» з вынаснай мачтай і вял. перакладзінай, «ѣ» з падоўжанай мачтай і высокім каромыслам, трохножкавая «т». Варыянт «т» з вынаснай мачтай быў не вельмі папулярны. У 2-й пал. 15 ст. ў паўд. рэгіёнах ВКЛ — Валыні і, відаць, Кіеўшчыне — сфарміраваўся арыгінальны стылявы варыянт С. Пры выкананні літар максімальна паслядоўна выкарыстоўваўся прыём спалучэння тлустых і валосных ліній. Тлустымі пісаліся лініі, якія ішлі паралельна лініі радка, у кірунку зверху ўніз вертыкальна да лініі радка, зверху ўніз злева направа з нахілам у левы бок; тонкімі — лініі, якія ішлі знізу ўверх злева направа ці зверху ўніз справа налева з нахілам у правы бок. Каб дабіцца спалучэння розных па таўшчыні ліній, выкарыстоўвалася пяро з адмысловай формай завастрэння: з шырокім і касым управа зрэзам (т. зв. «гатычнае пяро»). Вынасны элемент «у», а таксама вынасныя «а», «д», «р», «ц» і «щ» сталі выконвацца не прамалінейнай, а зграбнай звілістай формай руху пяра. Канцы вынасных амаль усіх пералічаных літар загіналіся ў левы бок. Пералічаныя асаблівасці былі перанесены ў пісьмо велікакняжацкай канцылярыі, якое ў сваю чаргу паслужыла ўзорам для пісьма інш. асяродкаў дзелавога пісьменства. Функцыю памежных сігналаў у С. апошняй трэці 14 ст. выконвалі кропкі, якія адасаблялі асобныя словы і іх групы. Кропкі звычайна размяшчаліся пасярэдзіне радка. Паступова фарміраваліся прабелы паміж словамі. Рэгулярнае вылучэнне прабелаў не адразу адмяніла кропкі, якія сустракаюцца да канца 15 ст. С. перазыходзіў паўустаў па колькасці вынасных літар. С. 1-й пал. 16 ст. развіваўся ў кірунку паступовага павелічэння тэмпу пісьма, страты сіметрычнасці



літар і прамалінейнасці рухаў, стварэння такога дукту, які б забяспечваў безадрыўнае напісанне як элементаў літар, так і саміх літар. На мачтах і перакладзінах «а», «г», «и», «к», «л», «м», «н», «п», «т», «ч», «ы», «ꙗ», ножках «т» сфарміраваліся звязкі ў выглядзе адкрэсленняў. Стала крываліпейнай месца злучэння мачты і перакладзіны аднамачтавай «т». Названыя элементы паменшыліся ў памерах. Так адбылося іх прыстасаванне да безадрыўнага напісання як паміж сабой, так і з суседнімі літарамі. Акруглыя формы набыло месца злучэння мачты і перакладзіны «ъ». Памер перакладзіны і мачты «ъ» таксама паменшыўся. Гэта значыць, што «ъ» развівалася ў тым жа кірунку, што і аднамачтавая «т». Спрасціўся дукт «б», «в», «г», «д», «и», «м», «н», аднамачтавай «т», «Ѳ», «ъ», «ы», «ь», «ѣ». Гэтыя літары сталі выконвацца ў меншую параўнальна з 15 ст. колькасць прыёмаў, некаторыя з іх («г», «и», «м», «т», «ъ») у асобных выпадках — непарыўна. У беглым С. ўжо ў 1530-х г. сталі спарадычна ўкараняцца такія варыянты «б», «ы» і «ь», якія пісаліся з ледзь прыкметнымі пяцелькамі ўнізе (у далейшым з такой пяцелькай стала пісацца «д»). Вырасла колькасць варыянтаў напісання адных і тых жа літар.

Гал. асаблівасцю С. 2-й пал. 16—17 ст. з'яўляецца актыўнае развіццё і панаванне курсівізацыі. У 2-й пал. 16 ст. замацоўваюцца новыя формы літар, якія з'явіліся ў 1-й пал. 16 ст. У 1590-х г. малапрыкметныя пяцелькі «б», «д», «ы» і «ь» сталі выразнымі. Аналагічныя пяцелькі з'явіліся ў «ц», «ш» і «щ». Корпус «ц» мог пісацца не толькі як сучасная рукапісная радковая «и», але і як лацінская рукапісная радковая «п». Літара «ц» з такім корпусам у адрозненне ад другога свайго варыянта, а таксама пятлістых «ш» і «щ» магла выконвацца ў адзін прыём. У шэрагу выпадкаў сустракаюцца безадрыўныя «б» і «ь». З апошняй трэці 16 ст. назіраецца актыўны рост звязных напісанняў літар. Найб. вялізную групу гэтых напісанняў уяўлялі спалучэнні з «т» і «ъ». Безадрыўнае пісьмо пранікла ў міжрадковую прастору і паступова зацвердзілася ў напісанні тытлападобных літар, тытлападобных спалучэнняў, радковых і тытлападобных літарах, у далейшым у радковых з тытлай. У 1-м дзесяцігоддзі 17 ст. літары «б», «д», «ц», «ш», «щ», «ы» і «ь» сталі выконвацца з пяцелькамі. Пры гэтым «б», «ц», «ы», «ь» часта выконваліся ў адзін прыём. У гэты час з'явілася тэндэнцыя змяншаць плошчу пяцелек, а ў некаторых выпадках і зусім іх не ўзнаўляць. Звязныя напісанні прадстаўлены спалучэннямі з «ȣ», «б» і інш. У 1610—30-я г. з мэтай дыферэнцыяцыі «к» ад «и» апошняя стала часта набываць формы сучасных друкаваных «х» і «z». Пяцелькі ў «б», «д», «ц», «ш», «ы» паменшыліся ў памерах ці былі ліквідаваны (хоць і не ва ўсіх выпадках). Карпусы «ш» і «щ» маглі ўзнаўляцца ў форме «m». Непарыўна, як лацінская радковая «г» часта пісалася «ч». Больш часта пачынае сустракацца «м» у выглядзе «m». Сярод звязных напісанняў радковых з радковымі выступалі «аб», «би», «еж», «ез», «ем», «пц», «чы» і інш. Пачала актыўна выкарыстоўвацца такая разнавіднасць злучаных напісанняў, якія рабіліся пры дапамозе папярочных элементаў літар. У 1640—50-я г. ўзнік непарыўны і найб. здольны ў плане безадрыўнасці фітападобны варыянт «в», укаранілася безарыўная «д», якая была прыстасавана да звязнага напісання як з наступнымі, так і з папярэднімі літарамі. Зацвердзілася «м» у форме «m». Выкарыстоўвалася безадрыўная «х» у выглядзе ляжачай васьмёркі. Яшчэ больш вырасла колькасць звязных напісанняў. Адначасова маглі звязвацца да 7 літар. У 1660—90-я г. дамінавалі варыянты фітападобнай «в» і «м» у выглядзе «m». Часта выкарыстоўвалася «д» з адной вынасной. Рост колькасці звязных напісанняў радковых літар не спыніўся. У канцы 17 ст. існавала больш за 130 звязных напісанняў радковых з радковымі.

С. 17 ст. характарызуецца найб. ступенню варыянтнасці літар. У якасці памежных сігналаў, як і ў 16 ст., выступалі «а» і «ꙗ» з ніжнімі вынаснымі элементамі, а таксама «а» ў выглядзе «α» (выкарыстоўваліся непаслядоўна). З апошняй чвэрці 16 ст. колькасць першых дзвюх паменшылася ў сувязі з актыўным выкарыстаннем павялічаных варыянтаў літар. З пач. 17 ст. апошнія сталі аднымі з самых актыўных памежных сігналаў. У 1-м дзесяцігоддзі 17 ст. звязныя напісанні радковых літар з тытлападобнымі сталі больш разнастайнымі і частымі. На пач. 2-й трэці 17 ст. прыпала актыўнае выкарыстанне звязных напісанняў радковых літар з тытламі і вынаснымі літарамі. Нарэшце, самымі магутнымі памежнымі сігналамі сталі і звязныя напісанні літар, якія ў далейшым павінны былі ліквідаваць амаль усе астатнія. У апошняй трэці 16 ст. на тэр. ВКЛ адначасова праніклі наступныя стылявыя варыянты лацінскага курсіўнага пісьма: неагатычны; гуманістычны курсіў узору 1-й пал. 16 ст.; гуманістычны курсіў узору 2-й пал. 16 ст. («канцылярэска»). У выніку ўплыву неагатычнага курсіву на кірылічнае пісьмо шэраг ужо акруглых літар набылі вуглаватыя формы. У 1590-х г. — пач. 17 ст. замест патоўшчаных канцоў ніжніх вынасных шэрага літараў з'явіліся эфектныя петлі. Пісьмо магло мець вельмі «лёгкую» вагу, нахіляцца ўправа (уплыў гуманістычнага курсіву). Трэба думаць, што менавіта пад уплывам лацінскага пісьма з'явілася «м» у выглядзе «m». Усе новыя прыкметы, якія прыйшлі з неагатычным і гуманістычным курсівамі, характарызуюць каліграфічныя і рэгулязаваныя разнавіднасці С. У некаторых каліграфічных узорах некаторыя з пералічаных прыкмет могуць адсутнічаць. У беглым С. акруглыя формы літар пераважалі, а петлі на вынасных часта не выконваліся.

*Літ.*: Каманин И. Главные моменты в истории развития южнорусского письма в XV—XVIII вв. // Палеографический изборник: материалы по истории южнорусского письма в XV—XVIII вв., изданные Киевской коммисией для разбора древних актов. Киев, 1899. Вып. 1; Соболевский А.И. Славяно-русская палеография. 2 изд. Санкт-Петербург, 1908; Колесников И.Ф. Палеография документальной (архивной) письменности // Архивное дело. 1939. № 4; Черепнин Л.В. Русская палеография. М., 1956; Панашенко В.В. Палеографія українського скоропису другої половини XVII ст.: (на матеріалах Лівобережної України). Київ, 1974; Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. М., 1978; Я го ж. Белорусы. Т. 2. Язык белорусского народа. Кн. 1—2. Минск, 2006; Тихомиров М.Н., Муравьев



А.В. Русская палеография. 2 изд. М., 1982; Л а з у т к а С., Г у д а в и ч ю с Э. Первый Литовский статут. [Т.] 1, ч. 1. Палеографический и текстологический анализ списков. Вильнюс, 1983; А м о с о в А. Развитие кириллического письма в России до XV в. // Славянска палеография и дипломатика. София, 1985. Ч. 2; П р о н ш т е й н А.П., О в ч и н н и к о в а В.С. Развитие графики кирилловского письма. 2 изд. [Ростов-на-Дону], 1987; К у л ь - С я л ь в е р с т а в а С.Я. Беларуская палеаграфія. Гродна, 1996; Ш у л ь г и н а Э.В. Русская книжная скоропись XV в. Санкт-Петербург, 2000; Щ е п к и н В.Н. Русская палеография. 3 изд. М., 1999; Л е в о ч к и н И.В. Основы русской палеографии. М., 2003; Г р у ш а А.І. Беларуская кірылічная палеаграфія. Мінск, 2006. *Аляксандр Груша.*

**«Скрыпторэс рэрум палянікарум»** («Scriptores rerum polonicarum»), серыйнае выданне наратыўных і эпісталярных крыніц па гісторыі Кароны Польскай і ВКЛ. Ажыццёўлена Гіст. камісіяй Кракаўскага навук. таварыства, заснаванай у 1870 (пазней Гіст. камісія АН у Кракаве). У 1872—1917 выйшлі 22 тамы (у іх ліку 5 першых тамоў серыі «Архіў Гістарычнай камісіі»). Змешчаны дыярыушы вальных соймаў Кароны Польскай (пасля 1569 — Рэчы Паспалітай) 1548, 1553, 1570 (т. 1), 1582, 1585 (т. 18), 1587 (т. 11), 1592 (т. 21), 1597 (т. 20); матэрыялы павятовых соймікаў і з'ездаў шляхты ВКЛ, скліканых перад соймам 1597: Віленскага, Ашмянскага, Лідскага, Слонімскага паветаў, Берасцейскага ваяв. (т. 20); інструкцыя Ковенскага сойміка паслам на сойм 1657 (т. 3). Апублікавана заключная частка хронікі Бярнарда *Вапоўскага* за 1480—1535 (т. 2). З іншых крыніц важнейшыя: твор Вапоўскага «Пра вайну, якую вёў польскі кароль Жыгімонт I супраць маскавітаў у 1508 годзе» (т. 15); 2 дыярыушы Венскага кангрэсу 1515 (т. 4); рэвізія Полацкага ваяв. 1552 (т. 5); матэрыялы замежных перагавораў прадстаўнікоў Жыгімонта II Аўгуста ў 1553, скіраваных супраць магчымай каранацыі вял. князя маскоўскага Івана Васілевіча (т. 1); 7 лістоў Жыгімонта II Аўгуста да старасты Жамойці, генеральнага адміністратара Інфлянтаў Яна Хадкевіча па інфлянцкіх справах (т. 1); некалькі апісанняў Рэчы Паспалітай 16 ст., у т.л. італьянцаў П.Э.Джаваніні, А.М.Грацыяні, Г.Спаночы (т. 15); твор С.Ажэльскага «Бескаралеўе 1572—1576» (т. 22); акты пасольства Рэчы Паспалітай у Швецыю 1596 (т. 20); матэрыялы і нататкі ковенскага земскага суддзі, сакратара караля польскага і вял. князя літ. Яна II Казіміра С.Ф.Мядэкшы аб падзеях у ВКЛ у 1654—68, у т.л. дыярыушы пасольстваў у Маскву ў 1655, 1657 і 1662, матэрыялы перагавораў прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржавы таго ж часу (т. 3). Асобнае месца ў серыі займае т. 8 пад назвай *«Архіў дому Радзівілаў»*. Кніга выпушчана ў 1885 на сродкі ардыната нясвіжскага, клецкага і давыд-гарадоцкага А.Радзівіла. Змяшчае дакументы з Нясвіжскага архіва Радзівілаў: лісты Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі 1571—1615, яго тастаменты 1603 і 1612; лісты каронцага канцлера і вял. гетмана Я.Замойскага 1577—1604; лісты Л.Сапегі 1584—1633; там жа апублікавана біяграфія Радзівіла Сіроткі. Матэрыялы т. 8 падрыхтаваў супрацоўнік Нясвіжскага архіва М.*Богуш-Шышка*, уступ і каментарый напісаў польскі археограф А.Сакалоўскі. У тамах 12 і 13 серыі надрукавана справаздача Б.Дэмбінскага аб знаходках палонікі і літуанікі 16—17 ст. у архівах і бібліятэках Рыма. У т. 6 змешчаны дзённік 1-га з'езда польскіх гісторыкаў 1880. *Алег Ліцкевіч.*

**Скшыцкі** Міхаіл (каля 1720, г. Жоўква, Украіна — пасля 1809), прыдворны жывапісец князёў Радзівілаў. У 1746 удзельнічаў у дэкарыраванні сцен партрэтнай галерэі Нясвіжа. У 1751 накіраваны ў Гародню для аздаблення Казіміраўскага палаца. У 1751—53 прымаў удзел у стварэнні размалёвак касцёла Божага Цела ў Нясвіжы пад кіраўніцтвам Францішка Ксаверыя Дамініка Гескага.

*Літ.*: Б а ж е н о в а О. Радзивилловский Несвиж: росписи костела Божьего Тела. Минск, 2007. С. 94—96.

*Вольга Бажэнава.*

**Слуцка абарона 1648**, абарона Слуцка ад казацкіх загонаў у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. У 2-й пал. жніўня загон у 2 тыс. ўкр. казакоў пад камандаваннем Яна *Сакалоўскага* рушыў з Мазыра на Слуцк. 23 жн. казакі падышлі да Слуцка і паспрабавалі штурмам узяць горад, аднак гарнізон урадавых войск на чале з Янам *Сасноўскім* здолеў адбіць атаку. Сакалоўскі не валодаў дастатковымі сіламі і сродкамі, каб захапіць горад, таму ён вымушаны быў накіраваць пасольства да Сасноўскага з патрабаваннем здаць горад да 28 жн. Казацкія парламенцёры сустрэліся з прадстаўнікамі слуцкага духавенства і мяшчанства, перадалі ім ліст, у якім прапаноўвалася ўпусціць казакоў у горад, аднак разлікі на падтрымку з боку жыхароў Слуцка не спраўдзіліся. Сасноўскі здолеў зацягнуць перагаворы і адначасова папрасіў дапамогі ў Януша *Радзівіла*. Польны гетман накіраваў пад Слуцк 4 харугвы пад камандаваннем Юшкевіча, якія, карыстаючыся няўважлівасцю казакоў, прарваліся ва ўзяты ў аблогу горад. На дапамогу Сакалоўскаму таксама быў накіраваны атрад казакоў, які, аднак, быў разбіты па дарозе. Тым не менш, казацкае войска значна папоўнілася за кошт сялян слуцкага наваколля. Прыбыццё да слуцкага гарнізона падмацавання прымусіла Сакалоўскага адмовіцца ад аблогі горада і актывізаваць баявыя дзеянні. У першыя дні верасня казакі і сяляне былі кінуты на штурм горада, аднак абаронцы здолелі адбіць 3 атакі, прычым вял. дапамогу аказалі слуцкія мяшчане. У час штурму горада казацка-сял. атрад страціў каля 1,5 тыс. чал. Значныя страты з боку паўстанцаў дазволілі абаронцам Слуцка перайсці ў контрнаступленне, што прывяло да хаатычных уцёкаў казакоў. Праследаванне паўстанцаў працягвалася на адлегласці больш за 20 км. 3.9.1648 казакі былі блакіраваны каля в. Пагост і разбіты. У бітве загінула каля 2 тыс. казакоў і паўстаўшых сялян, правадыр казацкага атрада быў цяжка паранены. Праследаванне ўцалелых працягвалася да Тураўшчыны. Разгром казакоў пад Слуцкам сарваў планы Багдана Хмяльніцкага распаўсюдзіць паўстанне ў цэнтр. раёнах ВКЛ, даў магчымасць шляхецкім войскам прыпыніць наступленне казакоў на гэтым участку баявых дзеянняў.

*Літ.*: Г р иц к е в и ч А. Слуцк: историко-экон. очерк. 2 изд. Минск, 1970; Я г о ж. Древний город на Случи. Минск, 1985; А б е ц е д а р с к и й Л.С. Белоруссия и

Россия: очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978; Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859.

*Сяргей Чаропка.*

**Слуцкая пушкарня**, прадпрыемства па вырабе гармат у Слуцку. Трымаў у сярэдзіне 17 ст. кн. Багуслаў Радзівіл. Майстры па адліўцы гармат былі запрошаны з Германіі.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 54.

**Стаброўскія**, шляхецкі род герба «Любіч» зменены (без крыжа над падковай). Паходзілі з Полацкага ваяв. Найб. вядомыя:

Войцех (? — 6.6.1596), удзельнік *Інфлянцкай вайны 1558—82*, пісар польны ў 1568—69 і 1579—96, пісар польны інфлянцкі ў 1569—79, цівун вішвянскі з 1580.

Пётр (каля 1556 — пасля 18.9. 1619), сын Войцеха. Стараста трэйданскі, цівун вішвянскі з 1590, пасол на сойм 1590, дзе прызначаны камісарам для інфлянцкай рэвізіі ў 1590, пісар польны ў 1596—97, парнаўскі кашталян у 1600—19 (прывілей выдадзены 13.9.1601). Быў кальвіністам, кліентам біржанскіх Радзівілаў, дзякуючы якім зрабіў паліт. кар'еру. Дапамагаў Крыштофу Радзівілу Перуну і Канстанціну Астрожскаму ў стварэнні антыуніяцкага альянсу праваслаўных і пратэстантаў у ВКЛ у 1596—1600. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* абараняў за свой кошт Трэйдан (зімой 1600—01). Наняў роту казакоў, кіраваў левым крылом войска ВКЛ у бітве пад Кокенгаўзам 23.6.1601. Восенню 1601 трапіў у палон да шведаў, адкуль уцёк у пач. 1602. 13.2.1602 прысутнічаў на Гал. з'ездзе ВКЛ у Навагародку, дзе асудзіў сваволю польскага войска на землях ВКЛ зімой 1601—02. Адзіны з сенатараў ВКЛ, хто адкрыта далучыўся да *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09*, быў адным з яго лідэраў. На Люблінскім з'ездзе 9.6. 1606 выступіў як пасол ад Полацкага ваяв. з рэзкай крытыкай палітыкі Жыгімонта III Вазы (невыкананне Пакта канвента, неправядзенне рамонту Полацкага замка, ігнараванне прапаноў шляхты). На Сандамірскім рокашавым з'ездзе 19.8.1606 зрабіў прамову аналагічнага зместу. Паставіў подпіс пад Сандамірскім рокашавым універсалам 20.9.1606. У ліп. 1606 быў паслом ад Я.Радзівіла і М.Зэбжыдоўскага да берасцейскіх канфедэратаў, узначаленых Адамам Кендзерскім, якіх няўдала спрабаваў схіліць да падтрымкі рокашу. На час ад'езду Зэбжыдоўскага з абозу пад Варкай 12.6.1607 прызначаны гетманам войск рокашу. Удзельнік Гузаўскай бітвы 6.7.1607. Быў арыштаваны, пасаджаны ў турму, беспадстаўна абвінавачаны ў дзярж. здрадзе на карысць Швецыі, пазбаўлены маёмасці і пасадаў. Не быў рэабілітаваны на сойме 1609 разам з іншымі ракашанамі, і пасля дамагаўся вяртання страчанай маёмасці. Меў сыноў Крыштофа, Адама, Яна, Самуэля, Пятра, нашчадкі якіх жылі ў Полацкім і Віцебскім ваяводствах.

*Літ.*: Scriptores Rerum Polonicarum. T. 8. Archiwum domu Radziwiłłów. Kraków, 1885; Wijuk-Kojałowicz W. Herbarz rycerstwa Wielkiego Xęstwa Litewskiego. Tak zwany Compendium. Kraków, 1897; Maciszewski J. Wojna domowa w Polsce (1606—1609): studium z dziejów walki przeciw kontrreformacji. Cz. 1. Od Stężycy do Janowca. Wrocław, 1960; Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVII w.: spisy. Kórnik, 1994; Herbst S. Wojna inflancka 1600—1602. Zabrze, 2006.

*Віктар Якубаў.*

**Сталяр** Іван, мазырскі мешчанін, адзін з кіраўнікоў *Мазырскага паўстання 1648—49* у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Летам 1648 узначаліў аб'яднаны атрад (полк) мазырскіх мяшчан і сялян навакольных вёсак агульнай колькасцю 300—400 чал. У крыніцах згадваецца як палкоўнік. Пасля ўваходу ў горад шляхецкага войска Януша *Радзівіла* ў лютым 1649 лёс С. невядомы.

*Літ.*: Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. Киев, 1965; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978.

*Сяргей Чаропка.*

**Струмецкі** (Жалкоўскі) Мікалай, жывапісец. Працаваў пры двары кн. Міхала Казіміра *Радзівіла* Рыбанькі. Пастаянна жыў у г. Жоўква (цяпер у Львоўскай вобл., Украіна). Належаў да брацтва царквы Раства Хрыстова. У 1747 удзельнічаў у падрыхтоўцы пахавання каралевіча Якуба Сабескага ў Жоўкве. У 1752 накіраваны ў Нясвіж, дзе распісваў фрэскі касцёла Божага Цела. У 1753 рабіў копіі партрэтаў сям'і Сабескіх у Жоўкве. Верагодна, выконваў работы па ілюзіяністычнай размалёўцы касцёла ў Падгорцах-Жавускіх (Галіцыя).

*Літ.*: Баженова О. Радзивилловский Несвиж: росписи костела Божьего Тела. Минск, 2007. С. 84—87.

*Вольга Бажэнава.*

**Струсь-Младоўскі** Антанін (свецкае Адам; 1724—78), дзеяч уніяцкай царквы; гл. *Младоўскі А.*

**Студзянец** (цяпер вёска Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяводстве, на р. Жадунька. Заснавана ў 1738 на развілцы шляхоў з Мсціслава ў Расію. Знаходзілася ў Алучыцкім войтаўстве Крычаўскага староства. Першапачаткова тэрмін слабады для мястэчка быў вызначаны ў 15 гадоў, але ў 1745 Геранім Фларыян Радзівіл працягнуў тэрмін слабады на 10 гадоў — да 1755. Па сваёй планіроўцы С. адносіўся дааднавулічных мястэчак, выцягнутых уздоўж дарогі. Ядром С. быў рынак пл. каля 1900 $м^2$, з якога выходзілі 2 вуліцы — Касцюковіцкая і Старадубская. Згодна з інвентаром 1747, тут было 48 жылых дамоў, млын на 2 колы, фолюш, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскай сказкі 1779, у С. налічвалася 30 хрысціянскіх і 5 яўрэйскіх дамоў, у якіх пражывала адпаведна 149 і 19 чал., знаходзілася правасл. Петрапаўлаўская царква.

*Літ.*: Мяцельскі А. Мястэчкі Крычаўскага староства // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Яго ж. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мінск, 2008. № 23.

*Андрэй Мяцельскі.*

**Сэрэдыка** (Seredyka) Ян (н. 8.10. 1928, г. Граеў, Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1978), праф. звычайны (1991). Дзяцінства правёў у Пінску, пасля вызвалення Польшчы пераехаў у Аполе. Скончыў Вроцлаўскі ун-т (1958). Вучань вроцлаўскага гіс-

торыка У.Чаплінскага. У 1959—99 у Вышэйшай педагагічнай школе ў Аполі, пасля ў Вышэйшай школе кіравання і банкаўскай справы ў Познані. Даследуе гісторыю Рэчы Паспалітай 16—17 ст. Асн. працы прысвечаны гісторыі парламентарызму часоў Жыгімонта III Вазы. Аўтар манаграфій соймаў 1618, 1626, 1627, 1629—32, прац па гісторыі сям'і вял. маршалка ВКЛ Крыштофа Дарагастайскага. Вывучае дзейнасць і склад удзельнікаў соймаў Рэчы Паспалітай эпохі Вазаў, гаспадарчыя, рэліг., звычаёвыя аспекты гісторыі ВКЛ.

*Тв.*: Sejm w Toruniu z 1626 r. Wrocław, 1966; Rzeczpospolita w ostatnich latach panowania Zygmunta III (1629—1632): zarys wewnętrznych dziejów politycznych. Opole, 1978; Sejm zawiedzionych nadziei (1627). Opole, 1981; Sejm warszawski z 1618 roku. Opole, 1988; Parlamentarzyści drugiej połowy panowania Zygmunta III Wazy. Opole, 1989; Księżniczka i chudopachołek: Zofia z Radziwiłłów Dorohostajska — Stanisław Tymiński. Opole, 1995; Rozprawy z dziejów XVI i XVII wieku. Poznań, 2003.

*Літ.*: Dorobisz J. Bibliografia prac prof. Jana Seredyki // Zeszyty Naukowe WSP w Opolu. Historia. Opole, 1988. Z. 26.

***Віталь Галубовіч.***

**Сядляр** (сапраўднае імя і даты жыцця невядомы), мазырскі рамеснік, адзін з кіраўнікоў *Мазырскага паўстання 1648—49* у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Летам 1648 узначаліў невял. атрад (сотню) мазырскіх мяшчан. Актыўны ўдзельнік абароны Мазыра ад урадавага войска ВКЛ у лютым 1649. Пасля ўваходу ў горад шляхецкага войска Януша *Радзівіла* адышоў разам з укр. казакамі і часткай мазыран ва Украіну, дзе ўвесну 1649 далучыўся да войска ўкр. казацкага палкоўніка Ільі *Галоты*. Пасля разгрому казакоў у *Загальскай бітве 1649* разам з невял. атрадам паўстанцаў адышоў у кірунку Мазыра. Далейшы лёс С. невядомы.

*Літ.*: Гл. да арт. *Сталяр I.*

***Сяргей Чаропка.***

**Сялецкая бітва 1734**. Адбылася 19 жн. каля мяст. Сялец у Берасцейскім пав. (цяпер вёска ў Бярозаўскім р-не) паміж войскамі прыхільнікаў адначасова абраных на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага і Аўгуста III Вазы. Генеральны рэгіментар войск Станіслава Ляшчынскага Антоні Пацей на чале сваёй кавалерыі рушыў да прускай мяжы на аснове памылковых звестак ад падскарбія ВКЛ Яна Салагуба, што Станіслаў Ляшчынскі мяркуе з Караляўца прыбыць у Рэч Паспалітую і таму патрабуюцца войскі для яго абароны. Камандаванне застаўшыміся войскамі (каля 4 тыс. жаўнераў) Антоні Пацей перадаў свайму брату, падчашаму ВКЛ Аляксандру Пацею. Той рушыў са Слоніма ў бок Берасця, дзе аб'яднаўся з атрадамі мясц. прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага. Непадалёка ад Пружан ён даведаўся аб набліжэнні корпуса рас. войск пад камандаваннем генерал-маёра Льва Ізмайлава і войск ВКЛ пад камандаваннем Міхала Вішнявецкага. Паводле падлікаў Міхала Казіміра Радзівіла, аб'яднаны корпус войск Вішнявецкага і Ізмайлава складаў 15 тыс. жаўнераў, а паводле больш рэальных падлікаў польскага даследчыка Т.Цясельскага, каля 4,5—5 тыс. пяхоты і драгун, а таксама літ., татарскай конніцы і 400 казакоў. У любым выпадку войскі Вішнявецкага і Ізмайлава мелі значную перавагу, бо супрацьстаялі ім у сваёй большасці нерэгулярныя атрады павятовых выправаў. У такой складанай сітуацыі войска прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага пакінуў Аляксандр Пацей, які перадаў камандаванне над войскам чашніку ВКЛ Юзафу Шчыту. Прыхільнікі Станіслава Ляшчынскага не мелі шанцаў пазбегнуць бітвы. Прыхільнікі Аўгуста III не хацелі бітвы з прыхільнікамі Ляшчынскага, але апошнія не пагаджаліся капітуляваць. Шчыт выраашыў абараняцца пад Сяльцом ва ўмацаваным абозе, які з 3 бакоў акружалі натуральныя перашкоды: балота і р. Ясельда. У час бітвы рас. войскі з дапамогай артылерыі і атакі пяхоты з фланга, якой удалося пераправіцца цераз Ясельду, уварваліся ва ўмацаваны абоз. Прыхільнікі Станіслава Ляшчынскага кінуліся на ўцёкі. Рас. войскі захапілі шмат палонных, артылерыю і абоз.

*Літ.*: Бутурлин Д. Военная история походов россиян в XVIII столетии. Ч. 3. Санкт-Петербург, 1823; Truchim S. Konfederacja dzikowska. Poznań, 1921; Дыярыюш Князя Міхала Казімера Радзівіла Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага Княства Літоўскага // Спадчына. 1995. № 2; Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1. Warszawa, 1996; Slesoriūnas F. The General Confederation of the Grand Duchy of Lithuania (1734—1736) // Lithuanian Historical Studies. 2003. Vol. 8.

***Андрэй Мацук.***

**Сямён** (?—1289), дзеяч праваслаўнай царквы, пісьменнік. Паводле некаторых звестак, паходзіў з полацкіх князёў. Епіскап полацкі ў 3-й чвэрці 13 ст., сучаснік кн. *Канстанціна* Бязрукага. Прыкладна на мяжы 1260—70-х г. па невядомых прычынах пакінуў Полацк і пераехаў у Цвер, дзе стаў першым епіскапам цвярскім. Магчыма, некаторы час займаў абедзве кафедры адначасова. Удзельнічаў ва Уладзімірскім царк. саборы 1274. У 1285 разам з кн. Міхаілам Яраслававічам і яго маці княгіняй Аксінняй заснаваў у Цверы кафедральны Спаса-Праабражэнскі сабор. У тым жа годзе адбыўся напад літ. дружын на Алешну і інш. цвярскія валасці епіскапа. С. вылучаўся актыўнай грамадскай пазіцыяй, «князя не стыдяся пряся, ни велмож». Асабліва высока ставіў святарскі і манаскі чын, апекаваўся жабракамі, сіротамі і ўдовамі. Летапісы адзначаюць шырокую багаслоўскую адукаванасць і начытанасць С. Аўтар невял. «Наказання», у якім крытыкаваў злоўжыванні грамадскай вярхушкі і настойваў на адказнасці князя і інш. высокапастаўленых асоб за дзеянні падначаленых. Упікаў улады ў спрыянні выключна багатым і заклікаў іх абараняць бедных ад ціску «моцных». «Наказанне» С. ўвайшло ў кормчыя кнігі. Пахаваны ў Спаса-Праабражэнскім саборы ў Цверы. Абвешчаны святым. Памяць 3(16) лютага.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 15, 18. Санкт-Петербург, 1863, 1913; Русская историческая библиотека. Т. 6. 2 изд. Санкт-Петербург, 1908; Кучкин В.А. Особая редакция «Наказания» Симеона Тверского // Изучение русского языка и источниковедение. М., 1969; Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.). Тверь, 1994.

***Васіль Варонін.***





**Тула** (цяпер горад, цэнтр Тульскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад у ВКЛ у 15 ст., на р. Туліца (Тула, правы прыток р. Упа). Цэнтр аднайменнай воласці. Упершыню як «места» вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча (Данскога) упамінаецца ў яго дагаворы з вял. князем разанскім Алегам Іванавічам, складзеным, паводле ўскосных дадзеных, 2.8.1381. Адпаведна з гэтай крыніцай, у часы залатаардынскай царыцы Тайдулы (паміж 1342 і 1361) Т. кіравалі баскакі. Больш ранніх дакладных звестак пра Т. не існуе. Паводле маскоўска-разанскага дагавора 1402, Т. была пад уладай вял. князя разанскага. Хутчэй за ўсё, пераход Т. да Разані адбыўся ў сувязі з маскоўска-разанскім канфліктам 1385. Паводле дагавору паміж вял. князем літ. Вітаўтам і вял. князем разанскім Іванам Фёдаравічам, складзеным, паводле ўскосных дадзеных, летам 1427, Вітаўт разанскую ўладу над Т. не прызнаваў. У лісце вял. магістру Тэўтонскага ордэна ад 1.1.1425 у месцы, дзе ідзе гаворка пра падзеі восені 1424, Вітаўт называў Т. пад сваёй уладай. У спісе гарадоў, якія належалі вял. князю літ. Свідрыгайлу (1430—32), упамінаецца «замак Т.» («Tula, Castrum»). Такім чынам, відавочна, у 1427—32 Т. знаходзілася ў складзе ВКЛ. Літ. прыналежнасць Т. ў гэты час пацвярджаюць дадзеныя нумізматыкі. Т. была адным з самых усх. пунктаў тэр. ВКЛ за ўсю яго гісторыю. У выніку *феадальнай вайны 1432—39* улада ВКЛ над Т. была страчана. Паводле маскоўска-разанскіх дагавораў 1434 і 1447 Т. абвяшчалася пад уладай вял. князя разанскага Івана Фёдаравіча. Да Масквы Т. была далучана, відаць, у складзе купленага ў 1461—62 вял. кн. Васілём II Цёмным масіву зямель на З Разанскага княства.



Да арт. **Тула**. Свінцовая була з выявай герба «Дамброва», знойдзеная каля гарадзішча Новае Сяло.

Аднак ярлыком 1463 крымскі хан Хаджы-Гірэй падараваў Т., сярод іншага, вял. князю літ. і каралю польскаму Казіміру, а ярлыком ад 2.7.1507 крымскі хан Менглі-Гірэй падараваў Т., сярод іншага, вял. князю літ. і каралю польскаму Жыгімонту I Старому. Гэтыя падараванні былі намінальнымі і, магчыма, заснаванымі на ярлыке ардынскага хана Тахтамыша вял. кн. Вітаўту. У 1509 у Т. па загаду маскоўскага вял. кн. Васіля III пабудаваны драўляны «град», а ў 1514—20 — каменная крэпасць з мэтай умацавання маскоўскай улады ў рэгіёне. Каменна-цагляны крэмль, які захаваўся да нашага часу, стаіць на левым беразе р. Упа, прыкладна насупраць упадзення ў яе р. Туліца. Горад 14 — пач. 16 ст., паводле археал. дадзеных, размяшчаўся за 17 км вышэй па цячэнні р. Туліца (каля сучаснага с. Торхава). У завяшчаннях маскоўскіх уладароў Івана III (1503) і Івана IV (1572) Т. не ўпамінаецца. Магчыма, яна па-ранейшаму намінальна лічылася ардынскім уладаннем. У 16—17 ст. Т. была цэнтрам павета Маскоўскай дзяржавы. У пачатку чэрв. 1605 у час знаходжання ў Т. Лжэдзмітрыя I яму, як цару Дзмітрыю, прысягнулі на вернасць мясц. насельніцтва і разанскія служылыя людзі. У чэрв.—кастр. 1607 у Т. ўзяты ў аблогу войскамі Васіля Шуйскага прыхільнікі Лжэдзмітрыя II. Апошні ішоў на іх падтрымку, але прасунуўся толькі да Бялёва. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* да здачы Дуброўны рас. вайскам у кастр. 1654 цар Аляксей Міхайлавіч загадаў частку палоннай шляхты выслаць у Т.

*Літ.*: П е т р у н ь Ф. Східня межа Великого князівства Литовського в 30-х роках XV сторіччя // Ювілейний збірник на пошану академика М.С.Грушевського. Київ, 1928; Ф о м и н Н.К. К вопросу о военно-политическом значении Тулы в первой половине XVI в. // Из истории Тулы и Тульского края. Тула, 1983; Е г о р о в В.Л. Историческая география Золотой Орды в XIII—XIV вв. М., 1985; Я г о ж. О времени



возникновения Тулы // Тула историческая: прошлое и настоящее. Тула, 1997; Кучкин В.А. Договорные грамоты московских князей XIV века: внешнеполитические договоры. М., 2003; Гриценко В.П., Наумов А.Н. Древняя Тула: проблемы локализации и истории // Тульский краеведческий альманах. Тула, 2003. Вып. 1; Шебанин Г.А., Шеков А.В. О политической принадлежности Тулы во второй половине XIV—XV в. // Битва на Воже — предтеча возрождения средневековой Руси. Рязань, 2004.

*Генадзь Шабанін, Аляксандр Шэкаў.*

**Тураўскае паўстанне 1648—49**, узброеная выступленне мяшчан Турава і сялян навакольных вёсак у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Атрад паўстанцаў Тураўскай вол. аформіўся ў жн.—вер. 1648, калі на Тураўшчыне ўжо не было загонаў укр. казакоў. Аднак мясц. паўстанцы падтрымлівалі цесныя сувязі з укр. атрадамі. Колькасць тураўскіх паўстанцаў вагалася. Ядро атрада складалі каля 400 чал., у перыяд найвышэйшага ўздыму антыфеад. барацьбы колькасць паўстанцаў павялічвалася да 2 і больш тысяч чалавек, якія прадстаўлялі у асн. мясц. сялянства, былі і тураўскія мяшчане. Актыўны ўдзел у паўстанні прынялі і мясц. зямяне. Паўстанцы мелі арганізаваную вайсковую структуру, яны выбралі «паміж сабой палкоўнікаў, сотнікаў, пісараў, атаманаў, асавулаў». На чале тураўскага атрада стаяў мешчанін Пракоп Цыўка, які, паводле допыту палонных паўстанцаў, называў сябе палкоўнікам тураўскім. Намеснікам «палкоўніцкім тураўскім» быў яго брат Кандрат. Сотнікамі сталі тураўскія мяшчане Яўхім Жадчэня, Іван Хралевіч і Міхейка, атаманам быў выбраны Санька Кашчыч. Асавул у казацкай структуры выбіраўся з найб. аўтарытэтных людзей і ў кола яго абавязкаў уваходзіла перш за ўсё гаспадарчая дзейнасць, гэтую пасаду, магчыма, заняў тураўскі войт Качка, які таксама далучыўся да паўстанцаў. Пасля падыходу ў лютым 1649 да Турава войска ВКЛ на чале з Янушам *Радзівілам* частка паўстанцаў, верагодна, адышла ва Украіну і там злілася з укр. казацкімі загонамі. Іншыя працягвалі барацьбу партызанскімі метадамі на Тураўшчыне.

*Літ.*: Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мінск, 1994.

*Сяргей Чаропка.*





**Уладзімірскі павет,** адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у сярэдзіне 15 — сярэдзіне 16 ст., у Польскім каралеўстве ў 2-й пал. 16 — канцы 18 ст. Цэнтр — г. Уладзімір. Ва У.п. уваходзілі землі ў верхнім цячэнні рэк Буг, Выжва, Тур'я і Стаход з маёнткамі Несухаіжы, Ковель, Турыйск, Усцілуг, Літовіж, Парыцк, Камень, Смідзін і інш. Буйнымі землеўладальнікамі павета былі князі Сангушкі, Чартарыйскія, Казекі, Парыцкія. Разам з Луцкім і Крэменецкім паветамі У.п. у ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 увайшоў у склад Валынскага ваяв. ВКЛ. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1791 паўн. частка У.п. ўвайшла ў склад Уладзімірскага 1-га павета, а сам ён стаў называцца Уладзімірскім 2-м паветам, атрымаўшым частку Луцкага пав. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) землі былога У.п. ў складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]. С. 225—228; Крикун М. Адміністративно-територіальний устрій Правобережної України в XV—XVIII ст.: Кордони воєводств у світлі джерел. Київ, 1993.

**Ульрых фон Юнгінген** (Ulrich von Jungingen; каля 1460—15.7.1410), вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1407—10. Малодшы брат вял. магістра *Конрада фон Юнгінгена*. Відаць, уступіў у Тэўтонскі ордэн адначасова з ім каля 1380. З 1387 кампан (памочнік) вял. маршала Конрада фон Валенрода; заставаўся пры ім пасля абрання Валенрода вял. магістрам ордэна. Мяркуецца, што далейшае прасоўванне Ульрыха па іерархічнай лесвіцы адбывалася дзякуючы падтрымцы брата. З 1394 ордэнскі фогт Самбіі, з 1396 камтур Балгі і фогт Натангіі, з 1404 вял. маршал Тэўтонскага ордэна. 26.6.1407 на генеральным капітуле ордэна абраны вял. магістрам. Прыхільнік актыўных дзеянняў супраць аб'яднаных Крэўскай уніяй ВКЛ і Польшчы, для гэтага выступаў за мірныя адносіны са скандынаўскімі дзяржавамі. У 1408 заключыў саюз з дацкай каралевай Маргарытай, саступіўшы ёй востраў Готланд. Дапамагаў вял. князю літ. Вітаўту ў *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08,* спадзеючыся разарваць ці аслабіць унію ВКЛ і Польшчы. Аднак Вітаўт разарваў саюз з крыжакамі, дамовіўшыся з польскім каралём Ягайлам адносна супольнай палітыкі ў адносінах да Тэўтонскага ордэна. У 1409 Вітаўт і Ягайла выпрацавалі агульны план вызвалення Жамойці з-пад крыжацкага панавання, садзейнічалі разгортванню там антыкрыжацкага паўстання. Польскае пасольства ў жн. 1409 заявіла крыжакам, што дапаможа ВКЛ у выпадку нападзення на яго. У гэтых умовах кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна вырашыла ўдарыць па Польшчы. Пачалася *Вялікая вайна 1409—11*. У 1409 яна вялася ў асн. у прыгранічных абласцях. Вырашальнай стала *Грунвальдская бітва 1410*, у якой крыжацкім войскам камандаваў У.ф.Ю. На заключным этапе бітвы ён асабіста ўзначаліў атаку 16 крыжацкіх харугваў на польскія пазіцыі, аднак напад быў адбіты польска-ліцвінскімі войскамі, а сам вял. магістр загінуў. Пасля бітвы па загаду Ягайлы цела У.ф.Ю. было адшукана і адаслана ў



Ульрых фон Юнгінген.



Мальбарк, дзе пахавана ў капліцы св. Ганны.

**Універсітэцкая бібліятэка ў Варшаве** (Biblioteka Uniwersytecka w Warszawie). Узнікла адначасова з арганізацыяй Варшаўскага ун-та ў 1817. З 1818 — Публічная б-ка пры Каралеўскім Варшаўскім ун-це, з 1834 Урадавая б-ка, з 1862 Гал. б-ка, з 1871 зноў Б-ка Варшаўскага ун-та. Утрымлівае шмат старадрукаў і рукапісных матэрыялаў па гісторыі ВКЛ. Рукапісныя фонды створаны на аснове некалькіх буйных паступленняў: Б-кі Варшаўскага ліцэя, матэрыялаў Апеляцыйнага суда, кодэксаў, што былі адабраны вядомым славістам Самуэлем Ліндэ ў кляштарах Польшчы. У 1939 у б-цы налічваліся 4132 рукапісныя адзінкі захоўвання, у т.л. 1843 — у т.зв. «variach rękopiśmiennych» (фрагменты, асобныя лісты і інш.). Амаль усе рукапісныя зборы былі спалены ў час падаўлення Варшаўскага паўстання 1944. Новыя фонды камплектаваліся на падставе падараванняў і закупак. Так, з даволі значнай калекцыі рукапісаў коданскіх Сапегаў цяпер засталося толькі некалькі экзэмпляраў 16—18 ст.: «miscellanea» гіст. і літаратурная, карэспандэнцыя. Асобны рукапіс 17 ст. — «Historya o chwalebnym zmartwychwstaniu Mikołaja z Wilkowiec» — мае экслібрыс Яна Фрыдэрыка Сапегі з Коданя. Зборы Стравінскіх з Накрышак (Слонімскі пав.) цяпер захоўваюць гал. чынам «miscellanea», спісы тэатральных твораў, школьных падручнікаў пераважна 18 ст. Матэрыялы са збораў знакамітага фалькларыста, этнографа Міхала Федароўскага (1853—1923), паходзяць гал. чынам з Зах. Беларусі. Сярод інш. рукапісаў: спіс Статута ВКЛ 1566, актавыя дакументы па справах Полацка і Беліцы 17—18 ст., інвентар Маркава 1616, карэспандэнцыя Сапегаў 1624—27 і інш. гадоў, «miscellanea» па гісторыі дысідэнтаў Рэчы Паспалітай у 16—18 ст., копія працы Войцеха Каяловіча «O kleynotach abo herbach Wielkiego Księstwa Litewskiego» (1739) і інш. Аддзел старадрукаў налічвае каля 130 тыс. тамоў 15—18 ст. (146 інкунабул і больш за 12 тыс. выданняў 16 ст.), каля 5 тыс. камплектаў перыёдыкі. Сярод старадрукаў «Евангелле вучыцельнае» (Заблудаў, 1569), Берасцейская Біблія (1563), Нясвіжская Біблія (1572), кніга Анджэя Фрыча-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (Лоск, 1577), пахавальны панегірык на смерць Адама Трызны (1643), унікат — «Ochotna myśl» (панегірык на шлюб расейнскага старасты Крыштофа Шэмета з Соф'яй Вішнявецкай, ваяводзінай менскай; Вільня, друкар Юзаф Карцан, не датаваны). Па звестках І.Лялевеля і К.Эстрэйхера, ва універсітэцкай б-цы захоўвалася «Пяцікніжжа», «Ісус Навін», «Эсфір» і інш. кнігі Ф.Скарыны. Напэўна, яны загінулі пры спаленні кніжных фондаў у 1944.

*Літ.*: Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV—сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; Sokołowska W. Dzieje Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie, 1939—1945. Warszawa, 1959; Kozerska H. Straty w zbiorze rękopisów Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie w czasie I i II wojny światowej. Warszawa, 1960; Katalog rękopisów Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie. T. 1—8. Warszawa, 1963—98; Kozerska H. Warszawska Biblioteka Uniwersytecka w latach 1832—1871: biblioteka Rządowa Okręgu Naukowego: Główna. Warszawa, 1967; Katalog druków muzycznych XVI, XVII, XVIII w. Biblioteki Uniwersytetu Warszawskiego. T. 1. Wiek XVI / Oprac. J.Mendysowa. Warszawa, 1970; Biblioteka Uniwersytecka w Warszawie: przewodnik. Warszawa, 1979; Z badań nad polskimi księgozbiorami historycznymi. Warszawa, 1985; Sipayłło M. Polskie superexlibrisy XVI—XVIII wieku w zbiorach Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie. Warszawa, 1988; Błażejewicz O. Dzieje Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie, 1871—1915. Warszawa, 1990; Katalog druków XV i XVI wieku w zbiorach Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie. T. 1, cz. 1—2. Warszawa, 1994; Biblioteka Uniwersytecka w Warszawie w latach 1945—1980. Warszawa, 1998; Katalog druków XVI wieku w zbiorach Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie. T. 2—3. Warszawa, 1998—2007.

***Георгій Галенчанка.***

**ураўнаванне правоў**, кааэквацыя правоў, праграма шэрага палітычных груповак ВКЛ 2-й пал. 17 ст., скіраваная на абмежаванне прэрагатыў цэнтр. ураднікаў ВКЛ шляхам прывядзення іх паўнамоцтваў у адпаведнасць з польскімі ўзорамі. Першапачаткова насіла выразна шляхецкі характар, але часта выкарыстоўвалася апазіцыйнымі магнацкімі групоўкамі ў барацьбе з дамінуючай. Аформілася на аснове праграмы канфедэрацыі войска ВКЛ 1661—63 («Братэрскі саюз»), якая адкрыта выступіла супраць усіх магнацкіх груповак. Элементы праграмы У.п. (рэпартыцыя) прысутнічаюць у інструкцыі, накіраванай канфедэратамі на соймікі ВКЛ перад соймам 1662, а таксама ў інструкцыі паслам на сойм ад войска. Сфармуляваныя там патрабаванні абмежавання паўнамоцтваў цэнтр. ураднікаў ВКЛ (скасаванне пажыццёвасці ўрадаў гетмана і канцлера) насілі рэфарматарскі характар. З усталяваннем у 2-й пал. 17 ст. ў ВКЛ гегеманісцкай мадэлі паліт. развіцця патрабаванні У.п. скіроўваліся супраць дамінуючага магнацкага роду (Радзівілаў, Пацаў, Сапегаў). У 1670-я г. такія патрабаванні выстаўляла шляхта асобных паветаў. Інструкцыі паслам Берасцейскага пав. на соймы 1670, 1672 і на Варшаўскі з'езд 1673 патрабавалі, каб Трыбунал ВКЛ на ўзор Кароннага трыбунала меў права не толькі выносіць *баніцыі*, але і накіроўваць іх на выкананне (прэрагатыва канцлера), а інструкцыя на сойм 1669 патрабавала, каб Трыбунал ВКЛ судзіў справы аб шкодах, нанесеных жаўнерамі. Інструкцыі 1670 і 1672 патрабавалі падатковай рэформы на аснове рэпартыцыі. Ініцыятыва зыходзіла ад Сапегаў і Радзівілаў, якія знаходзіліся ў апазіцыі да Пацаў і дамінавалі на Берасцейскім сойміку. У.п. літ. шляхты з кароннай запатрабавалі паслы ВКЛ у першы дзень пасяджэнняў Варшаўскага з'езда 1673. У 1680-я г. ініцыятыва была падхоплена прыдворнай групоўкай, якая арыентавалася на караля Яна III Сабескага і выступала супраць гегемоніі Сапегаў. Спробы абмежаваць уладу гетмана над войскам шляхам вызначэння пастаянных кансістэнцый (кватэраў) рэгулярна прадпрымаліся каралеўскім дваром на соймах з 1688 па 1695. Іншыя пастулаты (рэформа Трыбунала ВКЛ, падзел *гіберны* соймавай камісіяй) былі сфармуляваны віленскім біскупам Канстанцінам Казімірам Бжастоўскім у яго звароце да перадсоймавых соймікаў ВКЛ у канцы 1694, але не атрымалі заўважнай падтрымкі. Разгорнутая праграма У.п. бы-



ла распрацавана групоўкай рэспубліканцаў, якая ўзнікла на аснове прыдворнай партыі, у час бескаралеўя 1696—97. Праект не быў прапанаваны публічна і абмяркоўваўся толькі на асобных рэляцыйных з канвакацыі і перадэлекцыйных сойміках. Дачыненне да яго распрацоўкі мелі Агінскія, Крышпіны-Кіршэнштэйны, Крыштоф Завіша і Юзаф Багуслаў Слушка. 17.5. 1697, у першы дзень пасяджэнняў элекцыйнага сойма, з прапановай ажыццявіць «каэквацыю правоў і прэрагатыў» выступіў Марцыян Дамінік Валовіч. Па яго ініцыятыве была створана камісія для выпрацоўкі пастановы, а потым зачытаны складзены ёю праект. Актыўна адстойваў У.п. таксама Рыгор Антоні Агінскі. Супраціўленне аказвалі прыхільнікі Сапегаў, якія апынуліся ў меншасці. Спрэчкі цягнуліся больш за месяц. Вырашальнымі фактарамі, якія абумовілі прыняцце адпаведнай пастановы соймам 25.6.1697 (гл. *«Ураўнаванне правоў»*), былі пагроза прымянення сілы рэспубліканцамі і падтрымка, аказаная ім з боку польскай шляхты. У той жа дзень Сапегі выдалі маніфест, дзе выказалі нязгоду з метадамі, пры дапамозе якіх была ўхвалена пастанова, і наогул паставілі пад сумненне патрэбу ў самім У.п. Каэквацыя была ўнесена ў Пакта канвента Аўгуста II Моцнага, а 1.7.1697 яго прыхільнікі ў ВКЛ утварылі канфедэрыцыю, якая выказала пратэст супраць намінацыі каралём Людовіка дэ Канці (падтрыманы Сапегамі) і абавязаліся абараняць абвешчаную на сойме каэквацыю. У канцы ліст. 1697 Сапегі прызналі ўладу Аўгуста II, але не прызналі У.п., што прывяло да абвастрэння ўзброенага супрацьстаяння ў ВКЛ. 24.1.1698 Казімір Ян Сапега даў каралю пісьмовыя гарантыі міру, дзе прызнаў У.п., а 28.1.1698 на гэтых умовах было падпісана мірнае пагадненне Сапегаў з рэспубліканцамі. Прынятая на сойме 1697 пастанова насіла ў асн. агульны характар. Больш падрабязна многія яе палажэнні былі ўдакладнены *Пузавіцкай пастановай 1698*, у т.л. парадак збору падаткаў, кампетэнцыя адказных за гэта асоб. Вынікам рэформ на аснове У.п. было пашырэнне правоў шляхты ВКЛ. Узрасла роля павятовых соймікаў, да кампетэнцыі якіх (а таксама павятовых гродскіх і скарбовых судоў) пераходзіла вырашэнне шырокага спектра пытанняў падатковага і суд. характару. Вынікам змен была дэцэнтралізацыя падаткова-фінансавай сістэмы краіны. У.п. аб'ектыўна садзейнічала ўмацаванню уніі ВКЛ з Польшчай.

*Літ.*: Л а п п о И.И. Уравнение прав Великого княжества Литовского и Короны Польской в 1697 году // Зап. Русского Научного Института в Белграде. Белград, 1930. Вып. 1; В і ц ь к о Дз. Спроба рэспубліканцаў дамагчыся ўлады над войскам ВКЛ у 1697—1698 г. // Бел. гіст. агляд. 2008. Т. 15, сш. 1—2; W o l i ń s k i J. Koekwacja praw na Litwie 1697 r. // O naprawę Rzeczypospolitej: XVII—XVIII. Warszawa, 1965; M a l e c J. Coaequatio Iurium stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego z Koroną Polską z 1697 roku // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1979. [T.] 12; W a s i l e w s k i T. Walka o zrównanie praw szlachty litewskiej z koroną od unii lubelskiej do początku XVIII wieku // Zapiski Historyczne. 1986. Z. 1; S l e s o r i ū n a s G. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystės ir Lenkijos Karalystės teisių sulyginimo — coaequatio iurium — įstatymo priėmimas 1697 m. // Lietuvos valstybė XII—XVIII a. Vilnius, 1997; Я г о ж. Lietuvos Didžioji kunigaikštystė vidaus karo išvakarėse: didikų grupuočių kova 1690—1697 metais. Vilnius, 2000; Я г о ж. Sejmiki nowogródzkie w okresie bezkrólewia 1696/1697 r. a nadanie językowi polskiemu statusu urzędowego w Wielkim Księstwie Litewskim // Między Zachodem a Wschodem. Toruń, 2002; R a c h u b a A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1567—1763. Warszawa, 2002. ***Змiцер Віцько.***

**«Ураўнаванне правоў»** («Coaequatio jurium una cum ordinatione judiciorum tribunalitiorum, et reparttitione, locationeque exercituum Magni Ducatus Litvaniae»), пастанова элекцыйнага сойма Рэчы Паспалітай 25.6. 1697 па пытаннях справаводства ў Трыбунале ВКЛ, выплаты заробку войску ВКЛ і размяшчэння яго на кватэры. Прынята ў выніку рэалізацыі шляхецкай праграмы *ўраўнавання правоў*. Тэкст пастановы ўмоўна складаецца з 3 частак. У 1-й вызначаны змены ў суд. сістэме, у першую чаргу, у дзейнасці Трыбунала ВКЛ. Рашэнні Трыбунала з гэтага часу з'яўлялася канчатковым. Забаранялася падаваць апеляцыі на іх у задворны асэсарскі або рэляцыйны суды. Адмяняўся звычай, паводле якога выракі з прысуджэннем да *баніцыі* і *інфаміі* (выгнання і пазбаўлення гонару), каб увайсці ў дзеянне, патрабавалі зацвярджэння канцлерам. Трыбунал мог судзіць справы аб злоўжываннях войска. Земскі пісар таго ваяводства, дзе адбываліся пасяджэнні Трыбунала, павінен быў пісаць трыбунальскія дэкрэты па-польску, а не на «рускай» (старабел.) мове. У 2-й частцы пастановы вызначаліся падатковыя рэформы. Падаткі, сабраныя на войска (чопавае, шэлежнае, тытунёвая манаполія, пагалоўнае татарскае і яўрэйскае), выводзіліся з кампетэнцыі скарба ВКЛ, затрымліваліся ў паветах і выплочваліся непасрэдна дэпутатам ад харугваў. Прадугледжваўся падзел (рэпартыцыя) харугваў войска ВКЛ на паветы — кожная харугва замацоўвалася за пэўным паветам, адказным за выплату ёй заробку. Прадугледжвалася стварэнне на польскі ўзор скарбовых судоў па паветах, абавязаных судзіць справы, звязаныя з выплатай падаткаў. На іх жа павінны былі складаць справаздачы аб сваёй дзейнасці зборшчыкі падаткаў і адміністратары. У 3-й частцы пастановы вызначалася ўлада над войскам ВКЛ. Улада вял. гетмана была істотна абмежавана. Для размяшчэння (лакацыі) войска адводзіліся Гарадзенская, Аліцкая і Пінская эканоміі, Сакольскае лясніцтва з Каменнай, а таксама старасты і дзяржавы Берасцейскага ваяв. Размяшчаць там харугвы павінна была прызначаная на сойме камісія. Рэформы, прадугледжаныя пастановай, паклалі пачатак стварэнню на польскі ўзор падатковай сістэмы, звузілася кампетэнцыя скарбу ВКЛ, была абмежавана ўлада вял. гетмана і скасавана залежнасць суд. сістэмы ад канцлера. Аформлены пераход на польскую мову ў суд. галіне, што фактычна азначала змену афіцыйнай дзярж. мовы ВКЛ. У падатковай сферы ўзорам рэфармавання паслужыла сістэма рэпартыцыі, якая ў 17 ст. час ад часу ўжывалася ў Польскім каралеўстве, а з 1681 стала там пастаяннай.

***Змiцер Віцько.***

**Урэцкая людвісарня**, майстэрня па вырабе званоў і гармат у мяст. Урэчча каля Слуцка (цяпер вёска ў Любанскім р-не). Заснаваў да 1747 Геранім



Фларыян Радзівіл. У інвентары Урэцкай шкляной гуты 1774 упамінаюцца старыя людвісарня і гізарня на яе тэрыторыі. У дакуменце 1775 пералічаны інструменты У.л.: жалезныя пруты, абручы і краты, формы з жалезнымі абручамі для адліўкі малых гармат, «штукі» жалеза з адтулінамі для адліўкі званоў, жалезныя таўкачы для ўтрамбоўкі зямлі, абложаныя залезам гліняныя заслоны, свердлы для свідравання адтулін у гарматах і інш. Меркавалася ў 1775 аднавіць дзейнасць людвісарні, але гэтага не адбылося. Вырабы У.л. невядомы.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 91—92; Karkucińska W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa (1676—1746): działalność gospodarcza i mecenat. Warszawa, 2000. S. 162—163.

**устаў**, першы графічны від кірылічнага пісьма ва ўсходніх славян. Выкарыстоўваўся ў царк. пісьме, пісьме чытальных кніг у 11—17 ст., у 12—першыя дзве трэці 14 ст. таксама і ў актах. У. характарызуецца прыкметамі: марудны тэмп пісьма; як правіла, «цяжкая» вага (пад «вагой» разумеецца таўшчыня ліній); як правіла, буйны памер пісьма; адносная сіметрычнасць і суразмернасць літар; у больш чым 2 лінейкі выконваецца параўнальна невял. колькасць літар і іх варыянтаў: «з», «р», «оу», «ꙋ», «ф», «Ѳ» , «х», «ц», «щ», «ѣ», «ѯ», «ѱ»; як правіла, прамое пісьмо; прамалінейная форма рухаў пяра; незвязнае пісьмо; дукт складаны, падпарадкаваны канону літары (дукт — паслядоўнасць, з якой пісец узнаўляў складовыя элементы літар, і кірунак, у якім ён іх пісаў); вуглаватая форма рухаў пяра пры напісанні і злучэнні элементаў літар; прымыкаючы тып злучэння рухаў пры напісанні элементаў літар і саміх літар (кожны элемент літары і кожная літара напісана самастойным незвязным рухам пяра); вял. колькасць рухаў (прыёмаў) пры напісанні элементаў літар і саміх літар; нязначная варыянтнасць літар; невял. колькасць скарачэнняў; неразвітая сістэма памежных сігналаў. У развіцці У. можна вылучыць 3 перыяды, у залежнасці ад якога ён падзяляецца на ранні (11—12 ст.), пераходны (13—14 ст). і позні (15—17 ст.). Ва У. 11 ст. ў залежнасці ад прапорцый і вугла нахілу вылучаюцца 4 варыянты: вузкі, сярэдні, прамы і нахілены. Найб. пашыраным з'яўляецца сярэдні. Вытокі прамога У. звязаны з традыцыяй царскай балгарскай школы праслаўскага перыяду («залатога веку» балгарскай л-ры 10 ст.). Ва ўсх. славян названы варыянт У. прысутнічаў у рукапісах, якія ўяўляюць сабой копіі балгарскіх арыгіналаў. Сярэдні варыянт таксама ўзыходзіў да паўд.-слав. традыцыі. Вузкае пісьмо мае Тураўскае Евангелле 11 ст. Вузкія прапорцыі літар можна растлумачыць імкненнем зэканоміць карысную плошчу матэрыялу для пісьма. Вузкае — эканомнае — пісьмо Тураўскага Евангелля ў пэўнай ступені ўзгадняецца з яго сціплым афармленнем. Асн. элементы корпуса літар звычайна, а ніжнія вынасныя заўсёды выконваліся прамалінейнымі рухамі. Форма пяцель «б», «ъ», «ы» і «ь», верхняй і ніжняй пяцель «в» з'яўляліся дугавымі і вуглаватымі. Гэтыя петлі ўпісваюцца ў трохвугольнік, у якім нахілена правая сценка. Літара «и» мела форму сучаснай друкаванай «н». Літара «н» нагадвала лацінскую «N». Найб. старажытная «ж» («зоркападобная») складалася з мачты і 2 нахіленых перакладзін і пісалася ў 3 прыёмы. Гэты варыянт выкарыстоўваўся ў 11 ст. паралельна з іншым: з мачтай і 2 дуг (адной наверсе, другой унізе). Верагодна, з 12 ст. «ж» сталі пісаць у 5 прыёмаў. Сярэдняя частка «м» уяўляла, як правіла, акруглую перамычку, якая магла заходзіць за лінейку радка. Літара «ч» выконвалася з акруглай, часам вуглаватай, радзей прамавугольнай чаркай. У Тураўскім Евангеллі чарка маленькая, амаль пляскатая, у Полацкім — яна больш выразная. У 11 ст. мачта «ѣ», як правіла, не выходзіла за межы 2 лінеек. У 12 ст. яна мела вынасную, хоць параўнальна і невял. мачту, пры гэтым каромысла ляжала звычайна на верхняй лінейцы. У 11 ст. амаль без выключэння выкарыстоўвалася «ѡ» з высокай сярэдзінай, а ў 12 ст. — звычайна з нізкай сярэдзінай і разведзенымі пятлямі. Калі літара «псі» ў 11 ст. пісалася часцей за ўсё ў выглядзе крыжа, то ў 12 ст. яна набыла пераважна форму трохзубца. На тэр. ВКЛ у 2-й пал. 13—14 ст. дэфіцыт пергаменту адчуваўся асабліва востра. З мэтай эканоміі карыснай плошчы пергаменту пісьмо стала больш шчыльным. Гэта дасягалася не толькі за кошт памяншэння інтэрвалаў паміж радкамі і прабелаў паміж літарамі, але і за кошт змены прапорцый літар, якія сталі пісацца больш вузка. Шэраг літар страціў сіметрычнасць і суразмернасць частак. У 13 ст. ў «и» перакладзіна паднялася і стала ўзнаўляцца або перпендыкулярна адносна мачт, або нахілена. Нахіленая перакладзіна магла спускацца з самага верху правай мачты ці з пункта ніжэй яе верху. Сустракаюцца варыянты «н» з перакладзінай, якая ішла з самага верху левай мачты і даходзіла да сярэдзіны ці да пункта вышэй сярэдзіны правай мачты. Павялічыліся петлі ў «ъ», «ы» і «ь». Усе названыя напісанні найб. паслядоўна выкарыстоўваліся ў 2-й пал. 13 ст. У гэты час у асобных выпадках магла падымацца і некалькі нахіляцца перакладзіна «ѥ». Паднялася ўверх таксама і перакладзіна «ю». У першыя дзве трэці 14 ст. перакладзіна «и» ляжала прама ці пад нахілам у верхняй частцы літары. Літары «ъ», «ы» і «ь» пісаліся з павялічанымі петлямі. У 2-й пал. 13 ст. ў «ч» пераважала трохвугольная чарка, пры гэтым ножка «ч» была даўжэй чаркі ці роўная з ёй. У першыя дзве трэці 14 ст. для «ч» была ўласціва вуглаватая чарка, больш глыбокая ў параўнанні з 13 ст. Можна назіраць паступовае павелічэнне верхняй пятлі «в» за кошт выпрамлення правай лініі, якая ўтварала гэтую пятлю. Гэтая лінія магла злучацца са спінкай літары ніжэй яе сярэдзіны. Функцыі памежных сігналаў выконвалі кропкі, вынасныя літары, надрадковыя знакі. З дапамогай кропкі адасаблялі асобныя словы ці іх групы. Як правіла, кропкі размяшчаліся пасярэдзіне радка, але маглі знаходзіцца на верхняй ці ніжняй яго лінейках. На працягу 13—14 ст. назіраецца рост колькасці вынасных літар. Ва У. апошняй трэці 14 ст. панавалі тыя напісанні, якія сфарміраваліся ў 2-й пал. 13—першыя дзве трэці 14 ст.: «и» і «н» пісаліся з высокімі перакладзінамі: з прамымі і

нахіленымі ў «и» і нахіленай у «н»; «ѥ» з высокай нахіленай перакладзінай; «ю» з высокай прамой перакладзінай; «ъ», «ы» і «ь» з павялічанымі петлямі. Новымі сталі наступныя напісанні: прамыя перакладзіны ў «ю» і «ꙗ» маглі праходзіць вельмі высока ці нават па самым версе. Такім жа чынам магла быць размешчана перакладзіна «ѥ». Высокія перакладзіны «ю» і «ꙗ» нахіліліся. Функцыю памежнага сігнала пачатку і канца слова стала выконваць пашыранае «е», корпус якой крыху нахіляўся ў левы бок, а язычок накіроўваўся ўверх.

З'яўленне і пашырэнне паўустава і скорапісу не выцесніла У. Гэты від пісьма па-ранейшаму функцыянераваў у 15—17 ст. Літары мелі падоўжаныя прапорцыі. У. 15—16 ст. ад У. 13— першых дзвюх трацей 14 ст. апрача прапорцый дасталіся «в», «ж», «к» з невял. вярхамі, вузкія «д» і «р». У той жа час у напісанні «ъ», «ы», «ь» У. 15—16 ст., як правіла, працягваў традыцыі ранняга У. Петлі гэтых літар мелі сярэдні, а ў шэрагу выпадкаў — і маленькі памер. Літара «ч» выконвалася з акруглай ці вуглаватай чаркай. Некаторыя характэрныя рысы позняга каліграфічнага У. зацвердзіліся толькі ў 15 ст.: частае спалучэнне вузкіх і шырокіх «о» і «с»; шырокі «ферт»; «и», «н» і «ю» з нахіленымі перакладзінамі пасярэдзіне. Верхнія лініі трохвугольных петляў «б», «ъ», «ы», «ь» злучаліся з мачтамі такім чынам, што паміж названай лініяй і мачтай заставалася выемка. Варыянты «т», «ъ» і «ѣ» з характэрнымі для паўустава вял. загінамі, аднабаковае «ч» сустракаюцца рэдка. Кропкі паміж словамі і групамі слоў, якія ставіліся ў значных па памерах прабелах, мелі дэкаратыўнае значэнне і часам выконваліся каляровым чарнілам. Месца размяшчэння кропак — ніжняя лінейка радка. Функцыі кропак маглі выконваць коскі. Склад надрадковых літар ва У. быў той жа, што і ў паўуставе. У. 2-й пал. 16 ст. і асабліва 17 ст. вывучаны недастаткова. Агульныя назіранні даюць магчымасць канстатаваць, што У. гэтага перыяду па сваіх гал. прыкметах мала чым адрозніваўся ад У. 1-й пал. 16 ст. Сярод новых прыкмет У. неабходна вылучыць выкарыстанне павялічаных літар. У якасці павялічаных літар маглі выкарыстоўвацца грэчаскія і лацінскія аналагі, напрыклад, «Е», «Σ», «W» (для «Ѡ»). Пісьмо стала больш манерным, дэкаратыўным, стылізаваным пад друкаванае пісьмо.

*Літ.*: Срезневский И.И. Славяно-русская палеография XI—XIV вв.: лекции, читанные в Имп. Санкт-Петербургском университете в 1865—1880 гг. Санкт-Петербург, 1885; Соболевский А.И. Славяно-русская палеография. 2 изд. Санкт-Петербург, 1908; Каринский Н.М. Славянская палеография: лекции, читанные в Имп. Археологическом институте. Петроград, 1915; Яго ж. Образцы письма древнейшего периода истории русской книги. Ленинград, 1925; Лавров П.А. Палеографическое обозрение кирилловского письма // Энциклопедия славянской филологии. Санкт-Петербург, 1915. Вып. 41; Черепнин Л.В. Русская палеография. М., 1956; Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. М., 1978; Яго ж. Белорусы. Т. 2. Язык белорусского народа. Кн. 1—2. Минск, 2006; Тихомиров М.Н., Муравьев А.В. Русская палеография. 2 изд. М., 1982; Левочкин И.В. Русское уставное письмо и его хронологические параметры // Вспомогательные исторические дисциплины. Ленинград, 1983. Вып. 15; Яго ж. Основы русской палеографии. М., 2003; Амосов А. Развитие кириллического письма в России до XV в. // Славянска палеография и дипломатика. София, 1985. Ч. 2; Пронштейн А.П., Овчинникова В.С. Развитие графики кирилловского письма. 2 изд. [Ростов-на-Дону], 1987; Куль-Сяльверстава С.Я. Беларуская палеаграфія. Гродна, 1996; Щепкин В.Н. Русская палеография. 3 изд. М., 1999; Груша А.І. Беларуская кірылічная палеаграфія. Мінск, 2006.

***Аляксандр Груша.***

**Усцяк**, ліцейшчык званоў. У 1420 па заказу пана Шэдзібора Валімонтавіча адліў звон з кірылічным надпісам: «Въ лето Ѕ-ное Ц-сотъ КИ-е (6928) созданъ бысть колоколъ С(вя)теи Троици повелениемъ раба Б(ож)ия пана Шедибора Волимонтовича, а мастеръ Устякъ». Надпіс сведчыць, што звон створаны ў правасл. асяроддзі. Заказчык звона Шэдзібор Валімонтавіч паходзіў з заможных баяр, быў ковенскім і вількамірскім намеснікам, набліжаным да вял. князёў літ. Вітаўта і Свідрыгайлы, напэўна, вызнаваў каталіцтва. Вышыня звона 420 мм, дыяметр 405 мм, маса каля 3 пудоў. Да 1867 звон У. знаходзіўся ў касцёле Св. Троіцы ў в. Невадніца на Падляшшы, пасля перавезены ў Віленскі публічны музей, цяпер знаходзіцца ў Нац. музеі Літвы. Звон У. — найстаражытнейшы звон ВКЛ з тых, што захаваліся да нашых дзён.

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 11—12; Hankus A., Sobolewski G. Najstarszy dzwon na Podlasiu // Białostocczyzna. 1995. № 4; Martinaitienė G.M. XIV—XV a. LDK varnai // Menotyra. 2007. № 3.

**ухвала**, ляўдум, прынятая на *соймiке* пастанова, якая мае дачыненне да ўсёй шляхты павета. Соймікавыя У. былі крыніцай права для шляхты, асновай для дзейнасці зборшчыкаў падаткаў і ротмістраў. Найб. важныя, з пункта гледжання шляхты, У. перазацвярджалі ў выглядзе асобных канстытуцый на соймах Рэчы Паспалітай. Прынятыя на рэляцыйных сойміках У. дэталізавалі рэалізацыю соймавых пастаноў. Працэдура прыняцця У. рэгулявалася правам толькі ў агульных рысах. Форма соймікавай У. была выпрацавана ў 16 ст., але практыка іх прыняцця набыла масавы характар у 17— 18 ст. У. мелі як інфармацыйны (паведамлялі пра выбары дэпутатаў, скарбовых суддзяў, ротмістраў), так і пастанаўляючы характар (вызначалі парадак збору падаткаў, разлікаў з пабroom, вярбоўкі жаўнераў, правядзення попісаў, люстрацый, меры пакарання тых, хто не выканае соймікавых рашэнняў). У ляўдумах вызначаўся парадак функцыянiравання павятовай адміністрацыі ў час бескаралеўя.

*Літ.*: Лаппо И.И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Zakrzewski A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII w.: ustrój i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000.

***Віталь Галубовіч.***





**«фамілія»**, у 18 ст. магнацкая групоўка *Чартарыйскіх,* іх родзічаў (*Панятоўскіх*, Яна Ежы Флемінга, Міхала Антонія Сапегі) і роду *Масальскіх*. Пачала фарміравацца ў пач. 1720-х г., калі пры падтрымцы фельдмаршала Якуба Флемінга на першыя ролі ў прыдворнай партыі пачалі выходзіць Станіслаў Панятоўскі і сям'я Чартарыйскіх (Казімір і яго сын Міхал). Мэтай новай прыдворнай групоўкі было ўзмацненне персанальнай уніі паміж Рэччу Паспалітай і Саксоніяй. У межах рэалізацыі гэтага плана ў 1720 Міхал Чартарыйскі ажаніўся з саксонскай падданай Элеанорай Вальдштайн. 16.12. 1722 Панятоўскі атрымаў пасаду падскарбія ВКЛ. У 1724 Казімір Чартарыйскі саступіў сыну Міхалу месца падканцлера ВКЛ. Другі сын Казіміра Аўгуст у 1731 ажаніўся з адной з найзаможнейшых нявест — Сафіяй Сяняўскай. У 1731 Аўгуст Чартарыйскі атрымаў пасаду рус. ваяводы, а Панятоўскі — мазавецкага ваяводы. У 1728 Панятоўскі атрымаў пасаду генеральнага рэгіментара кароннага войска, што ў сітуацыі адсутнасці абодвух каронных гетманаў рабіла яго фактычным кіраўніком каронных войск. Усе спробы Аўгуста II Моцнага надаць Панятоўскаму пасаду вял. кароннага гетмана скончыліся марна з-за зрыву соймаў антыкаралеўскай апазіцыяй, якая не хацела такога ўмацавання прыдворнай партыі. У 1726 у час хваробы Аўгуста II Панятоўскі і Чартарыйскія пісьмова абяцалі падтрымаць канд. на трон Рэчы Паспалітай каралевіча Фрыдэрыка Аўгуста. Нягледзячы на гэта, падчас бескаралеўя з 1733 «Ф.» падтрымлівала Станіслава Ляшчынскага. Аўгуст Чартарыйскі і Панятоўскі былі разам з Ляшчынскім у аблозе ў Гданьску. Пасля захопу Гданьска рас. войскамі Аўгуст Чартарыйскі, Андрэй Залускі і Панятоўскі захоплены ў палон, але пасля прынясення імі прысягі на вернасць Аўгусту III вызвалены. Фельдмаршал Буркхард Мініх рэкамендаваў іх рас. двару як найб. прыдатных для рэалізацыі рас. інтарэсаў у Рэчы Паспалітай. «Ф.» была зацікаўлена ў Расіі яшчэ больш. Адмова Чартарыйскіх у час бескаралеўя падтрымаць кандыдатуру Аўгуста III і іх пераход на бок Станіслава Ляшчынскага пасварыла іх з саксонскімі міністрамі і прыхільнікамі Вецінаў у Рэчы Паспалітай. Сярод магнатаў, якія дапамаглі Аўгусту III умацавацца на троне Рэчы Паспалітай, была значная колькасць ворагаў Чартарыйскіх (напрыклад, Міхал Вішнявецкі). Пад уплывам гэтага Панятоўскі пачаў шукаць падтрымкі Расіі для «Ф.». Яму ўдалося схіліць на свой бок рас. фельдмаршала Мініха, рас. паслоў Карла Густава Левенвольдэ і Германа Кайзерлінга. Пры іх пасрэдніцтве Панятоўскі атрымаў падтрымку фаварыта імператрыцы Іагана Бірана. З гэтага часу «Ф.» стала прарас. партыяй і заставалася такой да канца свайго існавання. Перад соймам 1740 «Ф.» пры пасрэдніцтве Расіі ўдалося наладзіць супрацоўніцтва з каралеўскім дваром. З гэтага часу пазіцыі «Ф.» на каралеўскім двары ўмацаваліся і яна ператварылася ў прыдворную партыю. З 1743 па 1752 «Ф.» беспаспяхова спрабавала рэалізаваць у Рэчы Паспалітай праграму рэформ. Супраць «Ф.» змагалася антыкаралеўская групоўка Патоцкіх. Падтрымка каралеўскага двара дазволіла «Ф.» ўмацаваць свае пазіцыі і ў ВКЛ, дзе яе кіраўніком быў Міхал Чартарыйскі. У 1741—43 «Ф.» знаходзілася ў кааліцыі з Сапегамі, Масальскімі і Салагубамі, змагалася супраць дамінавання Радзівілаў у ВКЛ. У 1744—49 разам з ранейшымі саюзнікамі Сапегамі і Масальскімі, а таксама Радзівіламі «Ф.» стварыла «вял. кааліцыю», якая кантралявала ўнутрыпаліт. сітуацыю ў ВКЛ згодна з каралеўскім планам. Умацавала пазіцыі «Ф.» атрыманне ў 1744 Міхалам Масальскім пасады польнага гетмана ВКЛ і далучэнне да яе падскарбія ВКЛ Яна Ежы Флемінга, які быў жанаты спачатку з дачкой Міхала Чартарыйскага Элеанорай, а потым з другой яго дачкой Антанінай. Пасля далучэння да «Ф.» ў 1748 Міхала Антонія Сапегі (ажаніўся з дачкой Міхала Чартарыйскага Аляксандрай) «Ф.» пачала дамінаваць у ВКЛ. У 1752 Міхал Чартарыйскі стаў канцлерам ВКЛ і пад пагрозай зрыву сойма 1752 дамогся надання пасады падканцлера ВКЛ свайму зяцю Міхалу Антонію Сапегу, што яшчэ больш умацавала пазіцыі «Ф.» ў

ВКЛ. У пач. 1750-х г. пачалося ахаладжванне адносін «Ф.» з каралеўскім дварам, якое прывяло да разрыву ў 1754 у сувязі з планамі «Ф.» падзяліць Астрожскую ардынацыю. Супраць «Ф.» выступіла як прафранцузская групоўка вял. кароннага гетмана Яна Клеменса Браніцкага, так і новая прыдворная партыя надворнага кароннага маршалка Ежы Мнішка. «Ф.» перайшла ў апазіцыю каралеўскаму двару і ў Кароне Польскай змагалася з групоўкай Мнішка, а ў ВКЛ — з іх саюзнікам групоўкай Радзівілаў. У 1756 і 1762—63 пры падтрымцы Расіі «Ф.» планавала арганізаваць антыкаралеўскія канфедэрацыі, але рас. ўрад у апошні момант адмяняў гэтыя планы. Рас. падтрымка дазволіла «Ф.» пасля смерці Аўгуста III пасадзіць на трон Рэчы Паспалітай у 1764 свайго прадстаўніка Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Яго прыход да ўлады прывёў да канфлікту ўнутры «Ф.» паміж каралём і яго братамі з Аўгустам і Міхалам Чартарыйскімі, што прывяло да распаду групоўкі.

*Літ.*: Мацук А. Роль М.Чорторийського під час розподілу повітових урядів у ВКЛ в 40-х рр. XVIII ст. // Український історичний збірник. Київ, 2007. Вип. 10; Яго ж. Wybór pisarzy Trybunału Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 40-h XVIII w. // Rzeczpospolita państwem wielu narodowości i wyznań, XVI—XVIII wiek. Warszawa; Opole, 2008; Яго ж. Барацьба магнацкіх груповак вакол Трыбунала ВКЛ 1741 г. // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. 2009. № 7; Яго ж. Барацьба магнацкіх груповак вакол Трыбунала ВКЛ 1743 г. // Українські історичні огляд. Київ, 2009. Вип. 12; Яго ж. Узмацненне канфлікту паміж магнацкімі родамі Сапегаў і Радзівілаў і канчатковае афармленне антырадзівілаўскай кааліцыі // Бел. гіст. часопіс. 2009. № 10; Kantecki K. Stanisław Poniatowski kasztelan krakowski, ojciec Stanisława Augusta. T. 1—2. Poznań, 1880; Skibiński M. Europa a Polska w dobie wojny o sukcesje austriacką. T. 1—2. Kraków, 1912; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983.

***Андрэй Мацук.***

**Феадосій** (?—пасля 1415), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Грэк. У 1392 заняў полацкую епіскапскую кафедру. У 1395 ездзіў у Вял. Ноўгарад на сустрэчу з мітрапалітам *Кіпрыянам*, па даручэнні якога прывёз у Пскоў грамату канстанцінопальскага патрыярха. У 1396 прысутнічаў на пастаўленні растоўскага епіскапа Грыгорыя. Пры падтрымцы вял. князя літ. Вітаўта ў 1406—08 спрабаваў заняць пасаду мітрапаліта кіеўскага і ўсёй Русі, дзеля чаго ездзіў у Канстанцінопаль. Спроба не ўдалася, аднак з гэтага часу Ф. стаў карыстацца тытулам архіепіскапа. Стаў першым полацкім архіепіскапам. Восенню 1415 удзельнічаў у саборы правасл. епіскапаў ВКЛ у Навагародку, які насуперак канонам абраў мітрапалітам *Грыгорыя* Цамблака. Захавалася пасланне Ф. ў Рыгу, прысвечанае прызначэнню святара ў Рыжскую царкву св. Мікалая.



Пасланне полацкага архіепіскапа **Феадосія** ў Рыгу наконт прызначэння святара ў царкву святога Мікалая.

*Літ.*: Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1. Санкт-Петербург, 1846; Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. Вып. 1, 3. М., 1977, 1980; Макарий. История русской церкви. Т. 3. М., 1995.

***Васіль Варонін.***

**фізіка** (ад грэч. physis прырода), навука аб уласцівасцях, формах і будове матэрыі (рэчыва і поля), найб. агульных законах яе руху і ператварэнняў. Развіццё Ф. ў ВКЛ звязана са станаўленнем сеткі навучальных устаноў ордэна *езуітаў*. У *Віленскай акадэміі* і некаторых езуіцкіх калегіумах гэты прадмет вывучаўся ў складзе агульнага курса філасофіі. Першапачаткова даследаванні навакольнага свету адбываліся ў межах парадыгмы постсярэднявяковай Ф., якая адлюстроўвала крызіс схаластычнага арыстацелізму, выкліканы пранікненнем у структуру навук. ведаў пад уплывам філасофіі эпохі Рэнесансу элементаў магіка-герметычнай традыцыі. Альтэрнатывай была распрацоўка эксперыментальна- матэматычных падыходаў да вывучэння прыроды. Супярэчлівы і складаны працэс навук. рэвалюцыі адлюстраваны ў дзейнасці выкладчыка Віленскай акадэміі О.*Кругера* і яго вучняў — Я.Рудаміны-Дусяцкага, А.Дыблінскага, К.Бялкоўскага, Я.Младзяноўскага, В.Карвасецкага, Я.Рэйтэра і, верагодна, К.*Семяновіча*. Дзякуючы ім у 2-й чвэрці 17 ст. адбывалася вывучэнне магнітных з'яў, праводзіліся даследаванні ў галіне артылерыйскай справы, разглядаліся пытанні оптыкі і механікі. У выніку была вызначана велічыня магнітнага скланення ў Вільні, Нясвіжы, Оршы, распрацаваны новыя канструкцыі гармат і прыцэлаў. Разам з тым, вучоныя Віленскай акадэміі занялі кансерватыўную пазіцыю ў адносінах да вопытаў з т.зв. тарычэлевай пустатой, праведзеных В.Магні ў Варшаве (1647).

Кульмінацыяй навук. думкі ВКЛ 17 ст. стала праца Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі. Частка першая» (Амстэрдам, 1650), дзе ўпершыню быў акрэслены прынцып пабудовы шматступеньчатай ракеты. Наватарскай была прапанова Семяновіча ўкараніць падыход, які грунтуецца на матэматычных ведах, не толькі ў прыродазнаўчыя навукі, але і ў рамесную вытворчасць. Падтрымліваючы прынцып інерцыі, які з'яўляўся асн. у механіцы Новага часу, Семяновіч блізка падышоў да вызначэння некаторых важнейшых фізічных



законаў і паняццяў, у т.л. паняцця кінетычнай энергіі, закону няпругкага сутыкнення цел, закону захавання моманту імпульсу.

У перыяд разбуральных войнаў, жорсткіх грамадскіх канфліктаў сярэдзіны 17—1-й трэці 18 ст. перад кіраўніцтвам Віленскай акадэміі на першым плане стаяла задача выкладання навучальных дысцыплін на ранейшым узроўні. Але і ў гэты час, як сведчаць рукапісныя матэрыялы, у Вільні ведалі аб дасягненнях зах.-еўрапейскіх вучоных. Буйной падзеяй было выданне ў Вільні працы Ц.Л.*Барацiні* «Усеагульная мера» («Misura universale», 1675). Уласная практыка прывяла яго да думкі заснаваць сістэму вымярэнняў на ўсталяваных Г.Галілеем заканамернасцях руху маятніка. У якасці асн. адзінкі вымярэнняў прапаноўвалася ўзяць даўжыню маятніка, перыяд аднаго калыхання якога роўны адной секундзе. Новая адзінка вымярэння атрымала назву «metro catolico» («усеагульны метр»). Слова «метр» Барацiні выкарыстаў упершыню для ўвядзення назвы базавай адзінкі даўжыні. Адначасова творы вядомага езуіцкага вучонага В.Тылкоўскага 2-й пал. 17 ст. адзначылі тэндэнцыю да далейшай эклектызацыі схаластычнага арыстацелізму ў сувязі з імкненнем да прыкладання атрыманых ведаў на практыцы, немагчымасцю ігнаравання дасягненняў новага прыродазнаўства.

Распрацоўка дыферэнцыяльнага і інтэгральнага вылічэнняў, зацвярджэнне класічнай механікі і геліяцэнтрычнай сістэмы свету вызначылі перамогу навук. рэвалюцыі 16—17 ст. У Рэчы Паспалітай на працягу 1730—40-х г. дзякуючы аднаўленню і рэарганізацыі езуіцкай сістэмы адукацыі былі падрыхтаваны ўмовы для развіцця дакладных навук. У сярэдзіне 18 ст. курс Ф. быў рэфармаваны на аснове ньютанаўскай механікі, дапоўненай тэорыяй дынамічнага атамізму Р.Башковіча. Пры калегіумах ствараліся фізічныя кабінеты, ажыццяўляліся публічныя дэманстрацыі вопытаў. Рэформы *Адукацыйнай камісіі* вызначылі перавагу утылітарнага напрамку ў навук. працы. Тагачаснае развіццё Ф. ў Віленскай акадэміі (з 1781 Гал. школа ВКЛ) звязана з імем Ю.*Міцкевіча*. Ён удзельнічаў у арганізацыі экспедыцый па вывучэнні карысных выкапняў, папулярызаваў маланкаадводы, распрацоўваў новыя тэхнічныя прыстасаванні. Даследаванні Міцкевіча сталі ля вытокаў навук. праграмы па высвятленні ўзаемадзеяння паміж электрычнасцю і магнетызмам, праведзенай у Віленскім ун-це ў пач. 19 ст. Ім ажыццяўляліся метэаралагічныя назіранні. Лекцыі Міцкевіча карысталіся вял. папулярнасцю і адпавядалі тагачаснаму ўзроўню развіцця фізічнай навукі.

*Літ.*: Из истории естествознания и техники Прибалтики. Т. 2 (8). Рига, 1970; Материалы IX Межреспубликанской конференции по истории естествознания и техники в Прибалтике. Вильнюс, 1972; Вопросы истории науки и техники Прибалтики: тезисы докладов XI Прибалтийской конф. по истории науки и техники. Тарту, 1977; Роль Вильнюсского университета в развитии науки: тезисы докладов XII Прибалтийской конф. по истории науки и техники. Вильнюс, 1979; Очерки истории науки и культуры Беларуси IX — начала XX в. Минск, 1996; B i e l i ń s k i J. Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 1—3. Kraków, 1899—1900; B e d n a r s k i S. Upadek i odrodzenie szkół jezuickich w Polsce. Kraków, 1933; P r z y p k o w s k i T. Naukowe pojęcie declinacji magnetycznej w Polsce XVII wieku // Studia i materiały z dziejów nauki polskiej. Seria C. Warszawa, 1963. Z. 6; T a r g o s z K. Polscy korespondenci Atanazego Kirchera i ich wkład w jego dzieło naukowe // Studia i materiały z dziejów nauki polskiej. Seria A. Warszawa, 1968. Z. 12; Я е ж. Polski wątek w życiu i Sprawie Galileusza: «Galileo Galilei e il mondo polacco» Bronisława Bilińskiego (1969) z uzupełnieniami // Zagadnienia filozoficzne w nauce. Kraków, 2003. [T.] 32; Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwe Litewskim. Wrocław etc., 1973; P l e č k a i t i s R. Feodalizmo laikotarpio filosofija Lietuvoje. Vilnius, 1975; Vilniaus universiteto istorija (1579—1803). Vilnius, 1976; S m o l e ń s k i W. Przewrót umysłowy w Polsce wieku XVIII. Warszawa, 1979; P i e c h n i k L. Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 1—4. Rzym, 1984—90. ***Павел Космач.***

**Фінгерлінг** Бенжамін, віленскі людвісар канца 17 — пач. 18 ст. Адліў званы для бернардзінскага касцёла ў Валожыне (1698), для Ашмян (пач. 18 ст.), Віленскага касцёла трынітарыяў на Антокалі (1701), бернардзінскага касцёла ў Цельшах у Жамойці.

*Літ.*: B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 80.

**фолюш,** в а л ю ш н я, в а л ю ш, сукнавальня, вытворчая пабудова ў ВКЛ для валення сукна, лямцу, валёнак і інш. Вядомы з 16 ст. (Нясвіж, Давыд-Гарадок, мяст. Леніна, Цімкавічы і інш.), існавалі пераважна ў буйных фальварках, некаторыя належалі мяшчанам. Звычайна прамавугольныя ў плане 1-павярховыя драўляныя будынкі, накрытыя 2-схільнымі або вальмавымі дахамі з драніцы, саломы. Дзейнічалі па прынцыпе вадзянога млына, у якім замест жорнавых паставаў выкарыстоўваліся ступы з таўкачамі, дзе выраблялі сукно. Асн. рабочы орган — вадзяное кола, якое рухала таўкачы. Звычайна будаваліся на рэках, праточных азёрах, балотах, сажалках. У 2-й пал. 18 ст. на 176 млынах у Копыскім графстве, Крычаўскім, Чачэрскім і Рагачоўскім стараствах налічваліся 54 Ф.

*Літ.*: М е л е ш к о В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии: (вторая половина XVII—XVIII в.). Минск, 1975. С. 117; Промыслы і рамёствы Беларусі. Мінск, 1984. С. 163—167; Беларусы. Т. 1. Прамысловыя і рамесныя заняткі. Мінск, 1995. С. 267—268.





**Халопенічы** (цяпер гар. пасёлак у Крупскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Аршанскім павеце, потым горад, цэнтр Аршанскага пав. У сярэдзіне 15 ст. Х. валодаў кн. Федзька Даўгоўдавіч, пасля смерці якога ў 1451 былі перададзены вял. кн. Казімірам у валоданне канцлеру ВКЛ Міхаілу Кезгайлу (першае ўпамінанне Х. у гіст. крыніцах як «Хлопавічы»). Пасля смерці М.Кейзайлы (1476) Х. перайшлі да яго пляменніка Мікалая Янавіча Кезгайлы (вял. маршалак ВКЛ, памёр у 1512) і яго прамых нашчадкаў. Пасля згасання Кезгайлаў (1554) іх уладанні, у т.л. Х., былі падзелены паміж іх сваякоў — Завішаў, Шэметаў, Дарагастайскіх. Долі ў Х. мелі Вішнявецкія, Захарэўскія, Валадковічы, Кішкі, Давыд Нароўнік, Пётр Нонхард. Да 1620 практычна ўсе часткі Х. набыў аршанскі харужы (потым падкаморы) Мікалай Млечка, які ператварыў Х. ў цэнтр буйнога маёнтка. Каля 1638 ён пабудаваў у Х. касцёл, а пры ім — кляштар кармелітаў (існаваў да канца 17 ст.). Касцёл стаў цэнтрам фарміравання мястэчка Х. (вядома з 2-й пал. 17 ст.). У 1626 у Х. устаноўлена маставое мыта. У 1641 праведзена размежаванне Халопеніцкага маёнтка з каралеўскім Барысаўскім стараствам. Пасля смерці Млечкі (1644) Х. валодала яго ўдава Дарота Пакашаўна, прадстаўнікі роду Млечкаў. З 2-й пал. 1670-х г. уласнікамі Х. былі навасельскі староста Гедэон Аляксандр Халецкі (памёр у 1696) і яго жонка Яўфімія Млечка (памерла ў 1700). Х. адышлі іх сыну навасельскаму старасце Марцыяну Дамініку Халецкаму (памёр у 1725). Паводле няпэўных звестак, ён у 1703 заснаваў у Х. дамініканскі кляштар і драўляны касцёл (згарэў у 1844). Ён пачаў аддаваць маёнтак у шматгадовую заставу, адначасова юрыд. права ўласнасці пераходзіла да яго нашчадкаў. Застаўнымі трымальнікамі Х. у сярэдзіне 18 ст. былі мазырскі харужы Аляксандр Пшаздзецкі, оўруцкі чашнік Марцыян Міхалоўскі, Казімір Баратынскі і інш. Юрыд. ўладальнікамі маёнтка былі дочкі М.Д.Халецкага Яўфімія і Тэкля, пасля іх нашчадкі з родаў Халецкіх, Масальскіх, Ажэшкаў-Астрэйкаў. У 1742 палову Х. купіў вярбілаўскі староста Марцыян Храптовіч (у гэты час Халопеніцкі маёнтак упершыню названы графствам), а ў 1743 узяў у заставу другую палову. У 1766—95 на такіх жа правах валодаў Х. яго сын канцлер ВКЛ І.І.Ю.*Храптовіч*. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Х. сталі цэнтрам Аршанскага пав. (асн. частка павета адышла да Рас. імперыі), што ўзаконена соймавай канстытуцыяй ад 19.5.1774 і каралеўскім прывілеем ад 6.2.1775. У 1775 адкрыта 3-класная школа Адукацыйнай камісіі. Каралеўскі прывілей 17.10.1777 санкцыяніраваў правядзенне ў Х. 4 кірмашоў на год. У 1783 І.І.Ю.Храптовіч надаў гораду значныя эканам. свабоды, што садзейнічала гаспадарчаму ўздыму і наплыву збеглых сялян з іншых маёнткаў, у т.л. з-за рас. мяжы. У 1784 рас. ваенны атрад напаў на Х. для захопу беглых. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: П а ў л о в і ч С.І. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Беларусі як крыніца па канфесійнай гісторыі // Наш радавод. Гродна, 1992. Кн. 4, ч. 1; Н а с е в і ч В.Л. Лукомль і Лукомльская воласць // Гіст.-археал. зб. Мінск, 1994. № 4; Б р э г е р Г. Хацюхова: гісторыя невялікага паселішча. Мінск, 2001; М ы ц ы к Ю. Што часцей запісвалі дзеля памяці яшчэ 400 гадоў назад // Голас Радзімы. 2007. 26 ліп.; P i e t k i e w i c z K. Kieżgajłowie i ich latyfundium do połowy XVI wieku: Ze studiów nad rozwojem własności ziemskiej w Wielkim Księstwie Litewskim w Średniowieczu. Poznań, 1982; D u m i n S., R a c h u b a A., S i k o r s k a - K u l e s z a J. Ciechanowieccy herbu Dąbrowa. Warszawa, 1997.

**Хжанстоўскі** Анджэй (каля 1555—1618), пратэстанцкі рэлігійны дзеяч ВКЛ і Польшчы. Паходзіў з шляхецкай сям'і. Скончыў Кракаўскую акадэмію, бакалаўр свабодных навук (1577). Першапачаткова католік. Будучы студэнтам, быў адным з ініцыятараў і ўдзельнікаў антыпратэстанцкага пагрому ў Кракаве ў 1574. У канцы 1570-х г. перайшоў у кальвінізм. З пач. 1580-х г. у ВКЛ, кліент лоўчага ВКЛ Мікалая Нарушэвіча. Удзельнік аблогі Пскова 1581—82 у час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У 1582—85 прапаведнік пры Віленскім евангелісцка-рэфармацкім зборы. У 1585—87 міністр у



зборы ў Гальшанах, у 1587—92 у Заслаўі. У 1592—94 прыдворны прапаведнік вял. гетмана ВКЛ, ваяводы віленскага Крыштофа *Радзівіла* ў Біржах. У 1594—1613 у Вільні. Суперінтэндант кальвініцкай царквы ВКЛ у 1603—13. У 1613—14 міністр у зборы ў Швабішках, у 1614—18 у Галоўчыне. Адыграў вял. ролю ў арганізацыйным жыцці кальвініцкай царквы ВКЛ. Удзельнік Віленскага калоквіуму пратэстантаў ВКЛ (кальвіністаў і лютэранаў) у 1585. Сінод евангеліцка-рэфармацкай царквы ВКЛ 1590 даручыў Х. разам з Андрэем *Воланам* абавязкі правядзення цэнзуры прац, якія выдаваліся міністрамі царквы. Удзельнік аб'яднанага сінода пратэстантаў Рэчы Паспалітай у Торуні 1595, дзе выступаў як актыўны прыхільнік захавання *Сандамірскай згоды*. Удзельнік аб'яднанага пратэстанцка-правасл. з'езда ў Вільні 1599. Х. быў адным з гал. ідэолагаў кальвінізму ў ВКЛ. Аўтар шматлікіх тэалагічных твораў, якія мелі палемічную скіраванасць. Абараняў веравучэнне кальвінізму ў палеміцы з каталікамі, з аднаго боку, і з антытрынітарыямі — з другога. Набыў папулярнасць таксама як прапаведнік. На палеміку з антытрынітарыямі скіраваны творы: «Жамчужына Абакука» («Perła z Abakuka wyjęta», Вільня, 1583), «Вобраз таямніцы праваслаўнага хрышчэння» («Obraz tajemnicy chrztu prawosławnego», Вільня, 1584). Палеміцы з каталікамі прысвечаны працы Х. «Сем казанняў» («Siedem kazań», Вільня, 1584), «Абарона ўпэўненасці ў выратаванні душы супраць папісцкіх сумненняў» («Obrona pewności dusznego zbawienia przeciwko papieskiej wątpliwości», Вільня, 1585), «Псіхалогія, або Чысцілішча кс. С.Градзіцкага» («Psychologia abo czyściec ks. St.Grodzickiego», Вільня, 1592), «Пералік памылак Беларміна пра чысцілішча» («Contradictionum in libro R.Bellarmini de purgatorio index», Вільня, 1593), «Езуіцкая вайна, або 205 езуіцкіх памылак» («Bellum Iesuiticum sive ducentarumet quinque iesuiticarum contradictionum index», Базель, 1594; паўторна выйшла пад змененай назвай «Езуіцкі трыумф, або Абвяржэнне езуіцкіх памылак, якія абараняе Белармін», «Triumphus iesuiticus hoc est redargutio iesuiticarum contradictionum quasi propugnat Bellarminus», Лейпцыг, 1608, 2-е выд. 1620), «Абарона ісціннага шанавання Панскай Вячэры» («Obrona prawdziwego szafunku Wieczerzy Pańskiej», Вільня, 1594), «Люстэрка хрысціянскага набажэнства ў Польшчы» («Zwierciadło nabożeństwa krześcijańskiego w Polsce», Вільня, 1594). У сваіх творах Х. востра крытыкаваў памылковыя, на яго думку, погляды рэліг. апанентаў. Гал. ўвага Х. сканцэнтравана на палеміцы з езуіцкімі ідэолагамі Рэчы Паспалітай і Зах. Еўропы: Р.Белармінам, Э.Вегам, С.Градзіцкім, М.Лашчам, П.Скаргам. Часам крытыка езуіцкай дактрыны мае радыкальны характар. Каталіцтву і антытрынітарызму проціпастаўляліся веравучэнне і культ аб'яднанага на прынцыпах Сандамірскай згоды пратэстантызму.

*Літ.*: Łukaszewicz J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. T. 1—2. Poznań, 1842—43; Krasiński W. Zarys dziejów reformacji w Polsce. T. 2, cz. 1. Warszawa, 1904; Grabowski T. Z dziejów literatury kalwińskiej w Polsce (1550—1650). Kraków, 1906; Barycz H. Dzieje Uniwersytetu Jagiellońskiego. Kraków, 1935; Brückner A. Różnowiercy polscy. Warszawa, 1962; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973.

***Ігар Бортнік.***

**Хіславічы**, Хаславічы (рус. Хиславичи, цяпер пасёлак гар. тыпу, цэнтр Хіславіцкага р-на Смаленскай вобл., Рас. Федэрацыя), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв., на р. Сож. Археал. дадзеныя фіксуюць наяўнасць тут паселішча ў 12—13 ст. Упершыню згадваюцца як «Хотславичи» ў 1450 сярод пацверджаных вял. князем літ. Казімірам выслуг кн. Андрэя Порхаўскага ў мсціслаўскага кн. Лугвена (Сямёна). Як сяло, цэнтр валасці ВКЛ, размешчанай паміж Крычавам і Мсціславам, Х. згадваюцца ў памежных разгранічэннях з Расіяй 1523 — пач. 17 ст. У 17—18 ст. цэнтр нягродавага староства. Мястэчкам Х. ўпершыню названы ў 1710, калі былі ўладаннем Крыштофа Цеханавецкага. У 1719 з Х. выплочвалася чопавае ў памеры 800 злотых (адно з самых буйных у Мсціслаўскім ваяв.). У 1710 у Х. згадваецца царква ў імя святых Барыса і Глеба. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізскай сказкі Х. 1778, у мястэчку былі 2 планіровачныя цэнтры, стары — Замак і новы — рынкавая пл., забудаваная з усіх бакоў. Ад яе адыходзілі вуліцы Мсціслаўская, Смаленская, Лызкова, Чавуская, Козараўская, Падалянская. У 1783—85 Х. былі значным населеным пунктам, у якім налічвалася 143 дамы, пражывала 770 чал., у т.л. шынкары, ганчары, кавалі, слесары, краўцы, шаўцы, кушняры, кухары, сталяры.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зборнік. Мінск, 2008. № 23.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Храптовіч** Караль (?—1801), дзяржаўны дзеяч. З роду *Храптовічаў*, сын Якуба Храптовіча і Тэадоры з Тымінскіх. Гарадзенскі земскі пісар (1746), польны стражнік ВКЛ (1759), надворны харужы ВКЛ (1781), гарадзенскі гродскі староста (1786). У маладосці ў 1740 служыў у прускім войску. Быў гарадзенскім дэпутатам на Трыбунал ВКЛ 1743. Падтрымліваў Чартарыйскіх і быў сярод кліентаў падскарбія ВКЛ Ежы Флемінга. У 1748—52 гарадзенскі віцэ-аканом. У 1750 абраны гарадзенскім дэпутатам на Трыбунал ВКЛ і пры падтрымцы Флемінга насуперак іншаму лідэру «фаміліі» Міхалу Антонію Сапегу абраны пісарам рус. кадэнцыі. Быў прыхільнікам Чартарыйскіх і пасля іх разрыву з каралеўскім дваром. Прыбыў на чале 700 шляхціцаў з Гарадзенскага пав. на рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ 1756 для падтрымкі абрання на пасаду трыбунальскага маршалка канд. Флемінга. У 1760 вызначаны Гарадзенскім гаспадарскім соймікам паслом да караля ў справе заступніцтва падчашага ВКЛ Яна Масальскага перад судом вял. гетмана ВКЛ Міхаіла Казіміра Радзівіла. Пад час дэпутацкіх соймікаў 1761 перайшоў на бок Радзівілаў. Абраны гарадзенскім паслом на сойм 1761. Пад час бескаралеўя 1763—64 схаваўся ад Чартарыйскіх у Караляўцы. У 1767 абраны маршалкам канфедэрацыі Гарадзенскага пав. Выступаў супраць ураўнавання правоў дысідэнтаў з правамі каталікаў і выдаў

на сойме 1768 маніфест супраць гэтага. Быў вымушаны ўцячы за мяжу. Перадаў скаргі шляхты Рэчы Паспалітай папе рымскаму. Удзельнічаў у *Барскай канфедэрацыі*. У 1772 з Каралем Станіславам Радзівілам зноў уцёк за мяжу. Да 1774 жыў у Баварыі, Венецыі. Падтрымаў *паўстанне 1794*.

*Літ.*: Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Czerpe M. Kamaryla Pana z Dukli: kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha 1750—1763. Warszawa, 1998; Ryżewski G. Ród Chreptowiczów herbu Odrowąż. Kraków, 2006.

***Андрэй Мацук.***

**Храптовіч** Марцін (30.11.1698—17.4.1766), дзяржаўны дзеяч. З роду *Храптовічаў*, сын Міхала Храптовіча і Феліцыяны з Керсноўскіх. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. У 1723 абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Пад час бескаралеўя разам са шляхтай Навагародскага ваяв. выступіў супраць выбару на трон Станіслава Ляшчынскага. Удзельнічаў у стварэнні канфедэрацыі Навагародскага ваяв. на сойміку 14.7.1733. Удзельнічаў у складанні пастановы канфедэрацыі, якая ўключала пункты аб забароне Ляшчынскаму прэтэндаваць на трон Рэчы Паспалітай. Быў сярод выбаршчыкаў Аўгуста III, але праявіў слабую актыўнасць пры абароне яго кандыдатуры. Потым далучыўся да прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага і 9.2.1734 накіраваны навагародскай канфедэрацыяй паслом да рэгіментара Антонія Пацея. У 1740-х г. супрацоўнічаў з Радзівіламі. У 1745 беспаспяхова дамагаўся ад іх падтрымкі, каб заняць пасаду мсціслаўскага кашталяна. У канцы 1740-х г. перайшоў на бок Чартарыйскіх. У 1750 па загаду Міхала Чартарыйскага быў гатовы супрацьстаяць на Навагародскім сойміку абранню дэпутатам Караля Станіслава Радзівіла. Стараста вярбілаўскі. Малаактыўны ва ўнутрыпаліт. жыцці, рабіў намаганні па павелічэнні сваіх уладанняў, якія сталі асновай для імклівай кар'еры яго сына Іахіма Ігната Юзафа *Храптовіча*.

*Літ.*: Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Matuszewicz M. Diariusz życia mego. T. 1. Warszawa, 1996.

***Андрэй Мацук.***

**Храптовіч** Ян (21.2.1703—17.4.1766), дзяржаўны дзеяч. З роду *Храптовічаў*, сын Міхала Храптовіча і Феліцыяны з Керсноўскіх. Стольнік навагародскі (1731), кашталян берасцейскі (1752), навагародскі (1756). Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Быў навагародскім дэпутатам на Трыбунал ВКЛ 1728. Пад час бескаралеўя абраны навагародскім паслом на канвакацыйны сойм 1733, дзе падпісаў акт канфедэрацыі аб выбары на трон толькі «паляка і каталіка», але з засцярогай, што канчатковае рашэнне адкладае на разгляд навагародскай шляхты. Яго выступленне на навагародскім перадэлекцыйным сойміку аб парушэннях права на канвакацыйным сойміку стала адным з прычын адмовы навагародскай шляхты складання прысягі згодна з актам канфедэрацыі. Разам з канфедэрацыяй Навагародскага ваяв. 5.10.1733 каля Варшавы ўдзельнічаў у абранні каралём Аўгуста III. Ужо ў лютым 1734 далучыўся да навагародскай канфедэрацыі прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага і быў вызначаны паслом да Марціна Агінскага і Антонія Пацея. Пад час пасольства дзякаваў ім за стварэнне канфедэрацыі ў абарону Станіслава Ляшчынскага і абяцаў, што мясц. шляхта будзе змагацца за яго да «апошняй кроплі крыві». У 1738 Х. абраны камісарам з Трокскага ваяв. ў Камісію ВКЛ па вызначэнні падаткаў. У 1739 абраны трокскім дэпутатам на Трыбунал ВКЛ 1739. Разглядаўся Радзівіламі як магчымы канд. на пасаду трыбунальскага маршалка, але адмовіўся. Са згоды Радзівілаў і Сапегаў абраны пісарам віленскай кадэнцыі Трыбунала ВКЛ. Імкнуўся атрымаць месца трокскага падваяводы. Быў паслом на соймы 1744, 1748, 1750, 1752. Нягледзячы на просьбы магнатаў, адмовіўся ад намагання атрымаць пасады дэпутата і маршалка Трыбунала ВКЛ 1748. У рэчышчы праграмы Чартарыйскіх у 1754 падтрымаў падзел Астрожскай ардынацыі. Быў канд. Чартарыйскіх на пасаду маршалка Трыбунала ВКЛ 1758, але з-за супраціву Радзівіла не рашыўся клапаціцца аб пасадзе дэпутата. На сойме 1758 вызначаны супольным канд. магнатаў і каралеўскага двара на пасаду маршалка Трыбунала ВКЛ 1759, але з-за хваробы не здолеў стаць дэпутатам. У 1764 пад час бескаралеўя падтрымліваў Чартарыйскіх і стараўся наладзіць іх супрацоўніцтва з Радзівіламі.

*Літ.*: Мацук А.У. Унутрыпалітычная сітуацыя ў Вялікім княстве Літоўскім у 1739 г. // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Мінск, 2007; Konopczyński W. Polska w dobie wojny siedmioletniej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1909—11; Zielińska Z. Walka «Familii» o reformę Rzeczypospolitej, 1743—1752. Warszawa, 1983; Ryżewski G. Ród Chreptowiczów herbu Odrowąż. Kraków, 2006.

***Андрэй Мацук.***





**Цыўкі** (Ц э ў к і) Пракоп і Кандрат, браты, тураўскія мяшчане, кіраўнікі *Тураўскага паўстання 1648—49* пад час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Пракоп Ц. ўвосень 1648 быў кіраўніком буйнога атрада (палка) тураўскіх паўстанцаў, меў статус палкоўніка, Кандрат Ц. быў яго намеснікам. Пасля аваладання Туравам войскам ВКЛ (1649) далейшы лёс Ц. невядомы.

*Літ.*: А б е ц е д а р с к и й Л.С. Белоруссия и Россия: очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978. ***Сяргей Чаропка.***

**Цышэцкі** Фёдар, мсцібаўскі людвісар у сярэдзіне 16 ст. Быў святаром. У 1545 адліў для Мсцібаўскай царквы (Ваўкавыскі пав.) звон з надпісам: «Литый в Мстибове в июне 1545 года працею священника мстибовскаго Федора Цышецкаго коштом и грошми церковными».

*Літ.*: B r e n s z t e j n M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 74.

**Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літвы**, гл. *Гістарычны архіў Літоўскай дзяржавы.*

**Цэцылія Рэната** Габсбург (6.7. 1611, г. Грац, Аўстрыя—24.3.1644), каралева польская, вялікая княгіня літоўская, жонка Уладзіслава IV Вазы. Дачка імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда II Габсбурга і Марыі Ганны Вітэльсбах. Шлюб у адсутнасці жаніха заключаны ў Вене 15.8.1637, другі раз — у Варшаве 12.9. 1637. Каранавана 13.9.1637 у Варшаўскім кафедральным касцёле. У 1639 атрымала ў якасці забеспячэння Бабруйскае староства, у 1643 заснавала тут г. Казімеж. У шлюбе з Уладзіславам IV нарадзіла сына Жыгімонта Казіміра (1640—47), дачку Марыю Ганну Ізабелу (н. і памерла ў 1642). У 1644 нарадзіла трэцяе дзіця (мёртвае) і праз дзень памерла сама ад заражэння крыві (у Вільні). Пахавана ў Кракаўскім кафедральным касцёле.



**Цэцылія Рэната** Габсбург.
Мастак Ф.Лаэкс.





**Чартарыйск** (цяпер с. Стары Чартарыйск, Старий Чорторийськ, у Маневіцкім р-не Валынскай вобл., Украіна), горад у Луцкім павеце, на р. Стыр. Вядомы з 1100, належаў да Кіеўскага, з сярэдзіны 12 ст. — Валынскага, пасля Галіцка-Валынскага, з 13 ст. — Пінскага княстваў. У сярэдзіне 14 ст. Валынь з Ч. падпарадкаваў кн. Любарт. У ходзе барацьбы за Валынь паміж ВКЛ і Польшчай яна неаднаразова пераходзіла з рук у рукі, але засталася ў складзе ВКЛ. З канца 14 ст. вядомы мясц. князі — галіна Альгердавічаў, уладальнікі Ч., якія ад назвы горада ўзялі прозвішча *Чартарыйскія* (першым з іх валодаў горадам Канстанцін Альгердавіч). Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 Ч. у складзе Валынскага ваяв. (уваходзіў у Луцкі пав., з 1791 — ва Уладзімірскі 1-ы пав.). Юрый Міхайлавіч Чартарыйскі прыкладна ў 1601 прадаў Ч. (Стары і Новы) з замкам і ваколічнымі вёскамі Яну Дамінікавічу Пацу, ваяводу менскаму. Пасля яго смерці (1610) Ч. валодаў яго сын Ян Казімір, які адмовіўся ад гэтага маёнтка на карысць магнатаў Ляшчынскіх. Ч. належаў Рафалу Ляшчынскаму (памёр 1636), яго сыну Енджэю (памёр у 1651) і ўнуку Самуэлю (памёр у 1676). У 1639 Енджэй Ляшчынскі збудаваў касцёл дамініканцаў. У 1677 Рафал Вацлаў і Багуслаў Ляшчынскія прадалі Ч. кн. Дзмітрыю Юрыю Вішнявецкаму. Пасля яго смерці ў 1682 Ч. перайшоў да яго брата Канстанціна (памёр у 1686), потым — да сына апошняга Януша Антонія (памёр у 1741). Пасля гэтага Ч. адышоў да яго дачкі Францішкі Уршулі *Радзівіл*, жонцы М.К.*Радзівіла* Рыбанькі (нарадзілася ў Ч.). Наступным уладальнікам Ч. быў іх сын К.С.*Радзівіл* Пане Каханку. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Чарэя** (цяпер вёска ў Чашніцкім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Аршанскім павеце, потым горад, цэнтр Віцебскага ваяв. Першапачаткова была вёскай у Лукомскім княстве. Вядома з сярэдзіны 15 ст. Не пазней за 1453 вял. кн. Казімір IV падараваў баярыну Дашку «Канстанцінаву жонку ў Чэрсех», а маршалку Войтку — 2 сял. сям'і ў «Зарэі» (мяркуецца, што гэта скажоныя назвы Ч.). У сярэдзіне 15 ст. маёнтак Ч. належаў сынам баярына Івана Чарэйскага: *Місаілу* (смаленскі епіскап, потым кіеўскі мітрапаліт), Міхаілу Пструху, Дашку, Сеньку. У 1454 Місаіл разам з братам Міхаілам заснаваў *Чарэйскі Троіцкі манастыр*. У выніку шлюбных сувязяў хутка Ч. перайшла ў род Сапегаў (яго старэйшай, чарэйскай, лініі). У 1475 Багдан Сапега заключыў шлюб з княжной Фядорай Друцкай-Саколінскай, маці якой, княгіня Марыя Друцкая-Саколінская, была пляменніцай Місаіла. Апошні ў 1475 перадаў Б.Сапегу права апекі над Чарэйскім манастыром пасля сваёй смерці. На падставе гэтага запісу Сапега ўзяў пад сваю ўладу Ч. і інш. царк. уладанні. Князі Друцкія-Саколінскія пачалі з Сапегам суд. працэс за права ўладання Ч. і інш., але ў 1496—97 вял. кн. Аляксандр прызнаў правы Сапегі на гэтыя маёнткі. Пасля смерці Б.Сапегі (каля 1512) Ч. валодалі Сапегі: Іван Багданавіч (да 1546), Іван Іванавіч (да 1580), Леў Іванавіч (1591—1633), Казімір Леў (да 1656), Павел Ян (да 1665), Бенядзікт Павел (да 1707), Міхал Юзаф (да 1735?), Казімір Леан Кароль (да 1738), Міхал Ксаверый (1753—66), Аляксандр Міхал (да 1793), Францішак (да 1802). Пры Л.І.Сапегу Ч. стала цэнтрам вял. маёнтка, які ў 18 ст. называўся Чарэйскае графства. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 Ч. знаходзілася ў Аршанскім пав. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Ч. была цэнтрам Віцебскага ваяв. (асн. частка ваяводства адышла да Рас. імперыі). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Насевіч В.Л. Лукомль і Лукомльская воласць // Гіст.-археал. зб. Мінск, 1994. № 4; Dom Sapieżyński. Warszawa, 1995.





**Шанчэнка** Астрошка, войт Якімаўскай Слабады (цяпер в. Якімаўка Рэчыцкага р-на), удзельнік *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Ш., «чалавек верны і адважны», атрымаўшы адпаведны універсал Януша *Радзівіла*, у чэрв. 1649 стварыў атрад з ліку бел. сялян і мяшчан правасл. і уніяцкага веравызнання для барацьбы супраць укр. казакоў і мясц. паўстанцаў. Вясной 1651 атрад Ш. разбіў пад Горвалем буйны атрад паўстанцаў пад камандаваннем Кастырэнкі. Далейшы лёс Ш. невядомы.

*Літ.*: Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Минск, 1978; Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859.

***Сяргей Чаропка.***

**Шпар** (Szpar, Sparr) Кароль Готліб, віленскі людвісар 1-й пал. 18 ст. Захаваліся звесткі пра 6 адлітых ім званоў. Яны знаходзіліся ў Начы ў Лідскім пав. (1730), бернардзінскіх могілках у Вільні (1732), Сурвілішках (1732), Віленскім касцёле Усіх Святых (1733, 2 званы), царкве ў Залессі ў Дзісенскім пав. (1737).

*Літ.*: Brensztejn M. Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924. S. 81.

**Шумячы** (рус. Шумячи, цяпер пасёлак гар. тыпу, цэнтр Шумяцкага р-на Смаленскай вобл., Рас. Федэрацыя), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяводстве. Упершыню згадваецца як «зямля пустовская волости замку Крычевского» ў 1569. У сярэдзіне 17 ст. сяло. Мястэчкам, уладаннем Казіміра Галынскага, Ш. названы ў раскладзе падатку чопавае (600 злотых) 1719. У 1757 Ш. — уладанне мсціслаўскага падстарасты Ежы Галынскага, атрымалі прывілей на 2 таргі ў тыдзень і на 2 кірмашы (на святы святога Юрыя ўвесну і ўвосень). Ш. мелі квартальную планіроўку, аснову якой складала рынкавая пл. з храмам у цэнтры. Ад рынка ў розныя бакі адыходзілі 6 вуліц. У мястэчку ў 1784 згадваецца правасл. капліца, уніяцкі храм Святога Духа і касцёл. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Мястэчкі Мсціслаўскага ваяводства XVI—XVIII стст. // Гіст.-археал. зб. Мінск, 2008. № 23.

***Андрэй Мяцельскі.***

**Шыг-Ахмат** (Шы-Ахмат, Ших-мат, Ших-Ахмет; ?—пасля 1527), апошні хан Заволжскай (Вялікай) Арды. Сын хана *Ахмата*. Ш.-А. дзейнічаў на паліт. сцэне з канца 1480-х г., спачатку як хан-суправіцель (разам з братамі), а з 1500 у якасці адзінага хана Заволжскай Арды. Ініцыятар збліжэння з ВКЛ, якое абазначылася ў сярэдзіне 1490-х г. Саюзнік вял. князя літ. Аляксандра ў *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. У студз. 1501 заключыў саюзны дагавор з Польшчай і ВКЛ. Восенню 1501 разам са сваёй ардой прыкачаваў з паволжскіх стэпаў на Севершчыну і пачаў ваенныя дзеянні, захапіўшы Рыльск і Ноўгарад-Северскі, незадоўга да гэтага заваяваныя Масквой у ВКЛ. Аляксандр у гэты час быў заняты барацьбой за польскі трон і не здолеў аказаць яму дзейснай падтрымкі. У выніку надзвычай цяжкай зімоўкі, якую татары правялі на У ад Кіева, арда Ш.-А. была аслаблена, а частка яго войска перабегла да крымскага хана Менглі-Гірэя — ворага Ш.-А. і саюзніка вял. кн. маскоўскага Івана III. У пачатку чэрв. 1502 арда Ш.-А. разгромлена Менглі-Гірэем. Ш.-А. накіраваўся ў нізоўі Волгі, дзе безвынікова спрабаваў замацавацца ў Астрахані. Восенню 1503 з невял. колькасцю прыхільнікаў вярнуўся ў раён Кіева. Спрабаваў прабіцца да турэцкіх уладанняў на ўзбярэжжы Чорнага мора, аднак, адчуўшы небяспеку, у хуткім часе вярнуўся на Пн. На мяжы 1503 і 1504 зняволены кіеўскім ваяводам кн. Дзмітрыем Пуцяцічам. Утрымліваўся пад вартай у Віленскім, Трокскім, Ковенскім замках. Здзейсніў некалькі няўдалых спроб уцячы. У 1505 на сустрэчы ў Берасці і на каронным сойме ў Радаме спрабаваў дамагчыся ад Аляксандра і радных паноў свайго вызвалення і аднаўлення ваеннага саюза. У час мяцяжу 1508 Міхаіл Глінскі здзейсніў няўдалую спробу вызваліць Ш.-А. з Ковенскага замка. У 1517 у Трокскім замку Ш.-А. сустрэўся з імператарскім паслом С.*Герберштэйнам*. Трымаючы

Ш.-А. ў зняволенні, кіраўнікі знешняй палітыкі ВКЛ і Польшчы разлічвалі такім чынам стрымліваць варожыя дзеянні Менглі-Гірэя і яго пераемнікаў — крымскіх ханаў, якія патрабавалі выдаць Ш.-А. або не выпускаць яго са зняволення. Імя Ш.-А. неаднаразова згадваецца ў дыпламатычнай перапісцы вял. князя літ. і караля польскага Жыгімонта I Старога з Масквой, Крымам, Малдовай, папскім прастолам. У крас. 1527 на просьбу заволжскіх татар быў адпушчаны на свабоду, у суправаджэнні 5-тысячнага коннага войска выехаў з Вільні і праз Слуцк і Кіеў накіраваўся ў стэпы ніжняга цячэння Волгі. У далейшым прытрымліваўся саюзніцкіх адносін з ВКЛ.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 35. М., 1980; Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988; Хорошкевич А.Л. Русь и Крым: от союза к противостоянию: конец XV — начало XVI вв. М., 2001; Черкас Б.В. Україна в політичних відносинах Великого князівства Литовського з Кримським ханатом (1515—1540). Київ, 2006; Bielski M. Kronika. T. 2. Sanok, 1856; Acta Tomiciana. T. 9. Posnaniae, 1876. ***Васіль Варонін.***





**Эгенфельдэр** Ігнацій Эрнест дэ (?—пасля 31.8.1777), мастак. Магчыма, сын мастака Яна Эрнеста Эгенфельдэра з Глогава. Меў саксонскае шляхецтва. Дзейнічаў у 1752—77 у Вільні. У 1752—74 скарбнік (або сакратар) Віленскага брацтва святога Марціна. Астраном Марцін Пачобут-Адляніцкі рэкамендаваў яго Іахіму Храптовічу як «найлепшага ў Вільні мастака, які па-майстэрску распісвае сцены фрэскамі». На ўрачыстасці з выпадку каранацыі караля польскага і вял. князя літоўскага ў 1764 разам з Мацеем Случанскім упрыгожваў трыумфальную браму. У 1765—66 аздабляў скульптурамі, пазалотай і роспісамі дамініканскі касёл святых Якуба і Філіпа, у т.л. выканаў 2 карціны ў бакавых алтарах. Аўтар медзярытаў: выявы зямных паўшарый у кнізе Іларыёна *Карпінскага* «Геаграфічны лексікон для грунтоўнага разумення газет і гісторыі з розных аўтараў сабраны, перакладзены і напісаны» (Вільня, 1766), 3 астранамічныя табліцы ў кнізе Якуба *Накцыяновіча* «Матэматычныя лекцыі» (Вільня, 1759—61). Э. прыпісваецца выкананне алейных партрэтаў Эльжбеты Пузыны з Агінскіх і астранома Тамаша *Жаброўскага*. Мяркуецца, што ў 1772 выканаў роспісы ў Белай зале астранамічнай абсерваторыі Віленскай акадэміі і інш. яе памяшканнях. У 1776 аздабляў інтэр'еры Шчорсаўскага палаца Храптовічаў. Бацька віленскага злотніка Ігнацыя Эргенфельда (упамінаецца ў 1791—96) і мастака Міхала Юзафата Эргенфельда (працаваў у 1795—99 у Жамойці, потым у Вільні).



**Элеанора Марыя Юзефа** Габсбург. Каля 1670.

**Элеанора Марыя Юзефа** Габсбург (31.5.1653, г. Вена—17.12. 1697), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, жонка *Міхала* Вішнявецкага. Дачка імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда III Габсбурга. Шлюб з каралём польскім і вял. князем літ. Міхалам Вішнявецкім быў заключаны 27.2. 1670 у Чэнстахове. Каранавана ў кастр. 1670 у Варшаве. Пасля смерці мужа (1673) каля 2 гадоў заставалася ў Польшчы, пасля вярнулася ў Аўстрыю. 6.2.1678 выйшла замуж за герцага латарынгскага Карла V. Жыла ў Інсбруку. Пахавана ў Вене.

**Эльжбета** Габсбург (Ракушанка; 1436, г. Вена—30.8.1505), вялікая княгіня літоўская, каралева польская, жонка Казіміра IV Ягелончыка. Дачка караля нямецкага і венгерскага Альбрэхта II Габсбурга і Эльжбеты Люксембургскай. Шлюб Э. з Казімірам IV заключаны ў 1454. Памерла і пахавана ў Кракаве. Аказвала значны ўплыў на палітыку мужа. Падтрымлівала планы замацавання за дынастыяй Ягелонаў каралеўскіх тронаў у Чэхіі і Венгрыі. Мела з Казімірам IV 13 дзяцей, з якіх Уладзіслаў II быў каралём



**Эльжбета** Габсбург.



чэшскім і венгерскім, Ян Ольбрахт — каралём польскім, Аляксандр Ягелончык і Жыгімонт I — вял. князямі літ. і каралямі польскімі. У гістарыяграфіі яе называюць «маці Ягелонаў», «маці каралёў».

**Эльжбета** Ягелонка (9.5.1465, г. Кракаў — 9.5.1466), каралеўна польская і княжна літоўская. 7-е дзіця (3-я дачка) караля польскага і вял. князя літ. Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Габсбург. Хрышчана 16.5.1465 у Кракаўскім кафедральным касцёле біскупамі кракаўскім Янам і куяўскім Якубам.

**Эльжбета** Ягелонка (13.5.1472 — пасля 1480), каралеўна польская і княжна літоўская. 10-е дзіця (4-я дачка) караля польскага і вял. князя літ. Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Габсбург. Хрышчана біскупам кракаўскім Янам Грушчынскім. Памерла ў маленстве. Пахавана ў Кракаўскім кафедральным касцёле.

**Эльжбета** Ягелонка (13.11.1482, ВКЛ—16.2.1517), княгіня легніцкая, жонка Фрыдрыха II. Наймалодшая дачка караля польскага і вял. князя літ. Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Габсбург. Падтрымлівала шчыльныя адносіны са сваёй маці, пасля смерці бацькі стала знаходзілася пры ёй. У 1495 разам з маці і сястрой Барбарай Э. наведала свайго брата, вял. князя літ. Аляксандра. У 1496 брандэнбургскі курфюрст Іаган прапаноўваў заключыць шлюб паміж Э. і сваім сынам Іахімам. У 1505—09 шлюбу з Э. дамагаўся малдаўскі гаспадар Багдан II Сляпы, аднак ён не быў заключаны, у т.л. з-за супраціву самой Э. 25.11. 1515 у Вроцлаве выйшла замуж за легніцкага кн. Фрыдрыха II. Пахавана ў касцёле картэзіянцаў у Легніцы, у 1548 перапахавана ў Легніцкім касцёле святога Яна.

**Эльжбета** Габсбург (9.7.1526, г. Лінц—15.6.1545), каралева польская і вялікая княгіня літоўская, жонка Жыгімонта II Аўгуста. Старэйшае дзіцё чэшскага і венгерскага караля Фердынанда I Габсбурга і Ганны Ягелонкі, дачкі Уладзіслава II Ягелончыка. З маленства была прызначана ў жонкі Жыгімонту II Аўгусту. Адпаведныя перагаворы вяліся яе бацькам з 1527. Шлюб адбыўся 6.5.1543 у Кракаве. Маці Жыгімонта II Аўгуста Бона Сфорца была супраць шлюбу з-за непрыхільнага стаўлення да Габсбургаў, аднак Жыгімонт I Стары прызнана ставіўся да яе. Шлюб быў нешчаслівы, у т.л. з-за хваробы Э. — эпілепсіі. Восенню 1544 Э. разам з мужам выехала ў ВКЛ, дзе хутка памерла ў Вільні. Пахавана ў Віленскім кафедральным касцёле побач з вял. князем літ. і каралём польскім Аляксандрам. У 1553—72 жонкай Жыгімонта II Аўгуста была сястра Э. — Кацярына Габсбург.





**Ювелірная справа**, гл. *Злотніцтва.*

**Юрбаркская бітва 1698**, першая буйная бітва ў ходзе *феадальнай вайны 1696—1702*. Адбылася 22 ліп. каля г. Юрбарк у Жамойці. Падчас капітуляцыі 30.4.1698 пад Жыжмарамі войска рэспубліканцаў вял. харужы (генеральны рэгіментар) Рыгор Антоній Агінскі выратаваўся ўцёкамі ў Вільню, дзе знаходзілася шляхецкае паспалітае рушэнне і 10 харугваў падстолія ВКЛ Льва Казіміра Агінскага. З гэтым войскам Р.А.Агінскі рушыў праз Вількамір і Кейданы ў Жамойць, дзе стаў абозам пад Юрбаркам і спрабаваў аднавіць сілы з дапамогай павятовых выправаў, якія прыбывалі з бел. паветаў. Рэспубліканцы арганізавалі ў Расейнах элекцыю на ўрад жамойцкага старасты Р.А.Агінскага і дамагліся ад караля пацвярджэння свайго выбару. З мэтай разбіць яго войска з Гародні рушыў стольнік ВКЛ Ежы Станіслаў Сапега, які меў 2,5 тыс. чал. войска (каля 30 харугваў: 4 панцырныя, 14 татарскіх, больш за 10 рэйтарскіх і драгунскіх) з 4 гарматамі. Р.А.Агінскі, які меў каля 2 тыс. чал. (25 харугваў), выйшаў яму насустрач, але, даведаўшыся пра паражэнне ў Вялене адной з жамойцкіх харугваў, вярнуўся на ранейшае месца на беразе Нёмана. 22.7.1698 войска Сапегі заняло Юрбарк і атакавала праціўніка. Першымі ў бой уступілі татары, але былі вымушаны адступаць. Пасля ўступлення ў бітву асн. сіл Сапегі гал. націск па-ранейшаму прыходзіўся на татараў, якія сутыкнуліся з супраціўленнем часткі павятовых харугваў, асабліва ашмянскіх. Аднак большая частка войска Р.А.Агінскага пакінула поле бою і выратавалася ўцёкамі ў Прусію. У бітве з абодвух бакоў загінула 150 чал., з іх каля сотні — сапегаўскія татары. Паражэнне войска Р.А.Агінскага ў Ю.б. выклікала абвастрэнне паліт. сі- туацыі ў ВКЛ. Рэспубліканцы на чале з Міхалам Казімірам Коцелам склікалі на 14.8.1698 шляхецкі з'езд у Вільні, дзе пастанавілі распусціць войска ВКЛ.

*Літ.*: Narbutt J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego z czasów Jana Sobieskiego i Augusta II, królow panujących w Polsce. T. 1—2. Wilno, 1842. ***Зміцер Віцько.***

**Юркевіч** (Jurkiewicz) Ян (н. 4.12. 1946, г. Астшэшуў Велікапольскага ваяв., Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1992). Замежны чл. АН Літвы (2000). Скончыў Ун-т імя А.Міцкевіча ў Познані (1968). З 1970 у Ін-це гісторыі Ун-та імя А.Міцкевіча (дактарант, у 1972—74 асістэнт, у 1974—99 ад'юнкт, з 1997 праф. надзвычайны). Даследуе гісторыю ВКЛ 15—18 ст., польска-літ. і польска-бел. адносіны ў 19—1-й пал. 20 ст.

*Тв.*: Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922. Poznań, 1983; Powinności włościan w dobrach prywatnych w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI—XVII wieku. Poznań, 1991; Czynsz i pańszczyzna w ekonomiach królewskich w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII — pierwszej połowie XVIII w. // Przemiany w Polsce, Rosji, na Ukrainie, Białorusi i Litwie (druga połowa XVII — pierwsza połowa XVIII w.). Wrocław, 1991; Osadnictwo polskie w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle badań historycznych // Acta Baltico-Slavica. Warszawa, 1994. [T.] 22; Od Palemona do Giedymina: latopis Wielkiego Księstwa Litewskiego i Żmudzkiego a przeszłość Litwy w dziełach Augustyna Rotundusa // Z dziejów kultury prawnej. Warszawa, 2004; Czy tylko plagiat? Uwagi w kwestii autorstwa *Sarmatiae Europeae descriptio* (1578) // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės istorijos šaltiniai: Faktas. Kontekstas. Interpretacija. Vilnius, 2007.





**Ягелонская бібліятэка** ў Кракаве (Biblioteka Jagiellonska), бібліятэка Ягелонскага (Кракаўскага) універсітэта. Пачала фарміравацца з пачаткам дзейнасці закладзенага ў 1364 ун-та. Папаўнялася за кошт ахвяраванняў прафесараў і супрацоўнікаў ун-та, прыватных і грамадскіх фундушаў. Можна меркаваць, што некаторымі прафесарскімі зборамі яшчэ ў 15—16 ст. карысталіся студэнты-літвіны, у т.л. Ф.Скарына ў 1504—06. Пасля скасавання езуіцкага ордэна фонды 4 кракаўскіх езуіцкіх бібліятэк перайшлі да універсітэцкай б-кі. Асабліва павялічыліся фонды б-кі пры дырэктарстве вядомага бібліяфіла і бібліёграфа Караля Эстрэйхера (1868—1904). У 1939 б-ка налічвала каля 7 тыс. рукапісаў. Захоўваецца значная калекцыя пергаментаў. Для вывучэння гісторыі ВКЛ важнае значэнне маюць зборы Рудольфа Гутоўскага 1-й пал. 19 ст. — царк.-слав. рукапісы 15—18 ст., што паступілі ў б-ку ў 1863; матэрыялы Маўрыцыя *Круповіча* (1832—92), сакратара Віленскай археал. камісіі; Аляксандра Ельскага (1834—1916), які сабраў у сваім маёнтку ў Замосці (Ігуменскі пав.) каля 20 тыс. рукапісаў, частка якіх дасталася Ягелонскай б-цы; вялізны збор дзярж. і канцылярскіх дакументаў — «Acta Tomiciana» 16 ст.; рукапісы і матэрыялы з родавых калекцый Сангушкаў; каталогі збораў; пісьмовыя матэрыялы, карэспандэнцыя Віленскай археал. камісіі, Віленскага музея старажытнасцей, якія перайшлі да б-кі ў 1892; зборы Тарноўскіх з Дзікава з вельмі каштоўнымі гіст. і літ. рукапісамі 11—19 ст. (у т.л. Статут ВКЛ 1566); дыярыушы і зборнікі змешанага складу, у т.л. дыярыуш віцебскага ваяводы Антонія Храпавіцкага 1656—64. Вял. цікавасць уяўляюць прыватныя навук. матэрыялы па гісторыі ВКЛ і Польшчы Міхала Балінскага (1794—1863), менскага ваяводы Адама Хмары (1720—1805), магілёўскага архіепіскапа Каспара Цецішэўскага (1755—1831), Уладзіслава Пацехі (1893—1958), Уладзіслава Сямковіча (1878—1949), актавыя і справаводчыя матэрыялы, у т.л. рэвізія Мазырскага пав. 1560 (копія 1825), візітацыі касцёлаў і манастыроў у Беларусі і Літве ў 17—19 ст. Значныя зборы інкунабул, палеатыпаў, зах.-еўрапейскіх і слав. выданняў 16—18 ст. на розных мовах, у т.л. унікальны экзэмпляр віленскага «Акафістніка» Ф.Скарыны з «Малой падарожнай кніжкі», кнігі Цыпрыяна Базіліка «Nadpis na grobie Pawla Secygniowskiego» (Берасце, 1570), Крыштофа Дарагастайскага «Hippica» (Познань, 1620), Яна Гаслера з Берна «Logistica medica» (Augustae, 1578) з прысвячэннем полацкаму ваяводзе Дарагастайскаму, вершы Станіслава Ягадзінскага «Grosz pod zasłoną y ozdobą skrzydel króla ptaków orla ... Ich Mci Radziwiłłow» (пач. 17 ст.), кірылічныя бел. і польскамоўныя выданні, рэдкія панегірыкі.

*Літ.*: Галенчанка Г.Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008; Wisłocki W. Katalog rękopisów Bibljoteki Uniwersytetu Jagiellońskiego. Cz. 1. Kraków, 1877; Kończyńska W. Zarys historji Bibljoteki Jagiellońskiej. Kraków, 1923; Ameisenowa Z. Rękopisy i pierwodruki iluminowane Biblioteki Jagiellońskiej. Wrocław; Kraków, 1958; Lewicka-Kamińska A. Inkunabuły Biblioteki Jagiellońskiej. Kraków, 1962; Я е ж. Inkunabuły Biblioteki Jagiellońskiej = Incunabula Bibliothecae Jagellonicae Cracoviensis: (katalog przybytków za lata 1962—1967). Kraków, 1969; Baumgart J. Biblioteka Jagiellońska: przeszłość i teraźniejszość. Kraków, 1964; Zathey J. Historia Biblioteki Jagiellońskiej. Kraków, 1966; Catalogus codicum manuscriptorum medii aevi Latinorum qui in Bibliotheca Jagellonica Cracoviae asservantur = Katalog łacińskich rękopisów średniowiecznych Biblioteki Jagiellońskiej. Vol. 1—8. Wratislaviae, 1980—2004; Katalog rysunków architektonicznych ze zbiorów Biblioteki Jagiellońskiej w Krakowie. Cz. 1. Warszawa, 1989; Bzinkowska J. Mapy ziem dawnej Polski — od XV do XVIII wieku — w wybranych atlasach Biblioteki Jagiellońskiej. Warszawa, 1992; Katalog poloników XVI wieku Biblioteki Jagiellońskiej. T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1992—94; Zbiory i prace polonijne Biblioteki Jagiellońskiej oraz wybranych bibliotek instytutowych Uniwersytetu Jagiellońskiego: informator. Warszawa, 1997; Koziński Z., Pietrzyk Z. Źródła do dziejów parlamentaryzmu polskiego w XVI—XVIII wieku w zbiorach Biblioteki Jagiellońskiej. Kraków, 2004.

***Георгій Галенчанка.***

**Ядвіга** Ягелонка (21.9.1457, г. Кракаў, Польшча—18.2.1502), гер-



**Ядвіга**, герцагіня баварская.

цагіня баварская, жонка герцага Георга Вітэльсбаха Багатага. Старэйшая дачка вял. князя літ. і караля польскага Казіміра IV Ягелончыка і Эльжбеты Габсбург. У дзяцінстве з бацькамі наведвала ВКЛ. У канцы 1460—70-х г. на руку Я. прэтэндаваў венгерскі кароль Мацей Корвін, спадзеючыся ўцягнуць Польшчу ў вайну супраць гусіцкай Чэхіі і атрымаць тэр. набыткі, аднак яго намаганні не далі плёну. У 1473 пачаліся перагаворы аб шлюбе Я. з Георгам, сынам баварскага герцага Людвіга IX. Шлюб заключаны 14.11.1475 у Ляндсгуце. Я. нарадзіла 5 дзяцей, у т.л. 3 сыноў, якія памерлі ў маленстве.

**Ядвіга** Ягелонка (15.3.1513, г. Познань, Польшча—7.2.1573), маркграфіня брандэнбургская, жонка маркграфа Іахіма II Гогенцолерна. Старэйшая дачка вял. кн. літ. і караля польскага Жыгімонта I Старога і Барбары Запаля. У мужы Я. прапаноўваліся маркграф мантуанскі Фрыдрых, саксонскі курфюрст Іаган Фрыдрых, мазавецкі кн. Станіслаў, французскі каралевіч Генрых, Іаган, сын брандэнбургскага герцага Іахіма, Луіс, брат партугальскага караля Іаана III. У 1534 шлюбныя перагаворы пачалі брандэнбургскі маркграф Іахім I і яго сын Іахім, які незадоўга перад тым аўдавеў. Шлюб заключаны 29.8.1535 у Кракаве. Я. нарадзіла сыноў Сігізмунда і Іахіма, дачок Лізавету Магдаліну, Ядвігу і Соф'ю. Аўдавела ў 1571, памерла ў г. Альт-Рупін.

**Якаўкін** (Яковкин) Інакенцій Іванавіч (12.8.1881, г. Іркуцк, Расія—24.5.1949), расійскі гісторык права, бібліятэказнавец, бібліёграф. Д-р гіст. навук (1936), праф. (1929). У 1899—1901 вучыўся ва ун-тах Брэслаўля (Вроцлава) і Гейдэльберга, скончыў Пецярбургскі ун-т (1912). У 1918 абараніў магістэрскую дысертацыю «Запазычанні ва Улажэнне 1649 г. з Літоўскага Статута». З 1910 працаваў у Публічнай б-цы (цяпер Рас. нац. б-ка ў Санкт-Пецярбургу), у 1922—24 заг. Юрыд. аддзялення, у 1924—29 намеснік дырэктара б-кі. У 1929—49 дырэктар Б-кі АН СССР. Выкладаў у Ленінградскім ун-це (у 1944—49 заг. кафедры гісторыі дзяржавы і права), Політэхнічным ін-це, Ін-це нар. гаспадаркі, 1-м і 2-м юрыд. ін-тах, Маскоўскім гісторыка-архіўным ін-це, Ваенна-юрыд. акадэміі. У 1922—23 удзельнічаў у сав.-польскіх перагаворах. Працы па гісторыі права Стараж. Грэцыі, Рыма, Расіі, гісторыі рас. эканомікі, бібліятэказнаўстве, бібліяграфіі. Выдаў зборнік *«Заканадаўчыя акты Вялікага княства Літоўскага XV—XVI стст.»* (1936).



**Ядвіга**, маркграфіня брандэнбургская.

*Літ.*: Подозерская Г.Ф. Памяти профессора И.И.Яковкина (1881—1949) // Изв. высших учебных заведений. Правоведение. 1959. № 2; История Библиотеки Академии Наук СССР. М.; Ленинград, 1964; Начало «Дела» Академии наук: стенограмма заседания Особой Комиссии Наркомата РКИ СССР, 24 окт. 1929 г. // Исторический архив. 1993. № 1.



## АКТ КРЭЎСКАЙ УНІІ 1385 г.

Nos Jagalo, virtute Dei dux magnus Litwanorum Rusiaeque dominus et haeres naturalis, notum facimus quibus expedit universis, praesentium tenorem inspecturis, nobis memoriale dicendorum a serenissima principe Dei gratia E. regina[1] Ungariae, Poloniae, Dalmaciae etc. per honorabiles et nobiles viros dominos Stephanum praepositum Chanadiensem, Ladislaum filium Kakas de Kaza castellanum de Potok, Wlodconem pincernam Cracoviensem, Nicolaum castellanum Zavichostiensem et Cristinum tutorem Kazimiriensem.

Et primo dixerunt, qualiter magnificus princeps Jagalo dux magnus Litwanorum etc. suos solempnes ambaziatores ad dominos regnicolas Poloniae destinavit, demumque et ad eius reginalem maiestatem. Hii autem, qui ad reginalem maiestatem fuerunt transmissi, assumpserunt secum litteras credentiales a potiori, maiori et excellentiori nuntio, videlicet inclito principe[2] Skirgalone duce, fratre domini Jagalonis ducis magni, qui ex quibusdam certis causis personaliter ad eiusdem reginalem maiestatem transire nequivit. Nuntii vero eiusdem, dux Borisz et Hanco capitaneus Vilnensis, eidem dominae reginae Ungariae taliter exposuerunt et dixerunt:

«Quomodo multi imperatores, reges et principes diversi cum eodem duce magno Litwanorum cupiebant, affectabant et desiderabant parentelam proximitatis contrahere perpetuam, quod factum Deus cunctipotens usque in personam eiusdem reginalis maiestatis reservavit.

Ideo, serenissima princeps, pro tanto saluberrimo misterio suscipiat vestra maiestas eundem dominum Jagallonem magnum ducem in filium et inclitissimam principem Hedvigim filiam vestram carissimam, reginam Poloniae, sibi in legitimam consortem copulantes. Et exinde credimus laudem Deo, salutem animarum, honorem hominibus et augmentum[3] Regni extitisse.

Dum autem ea, ut praeferuntur, fine terminabuntur ordinato, interdum dominus Jagalo magnus dux cum omnibus fratribus suis nondum baptisatis, proximis, nobilibus, terrigenis maioribus et minimis, in suis terris existentibus, fidem katholicam sanctae ecclesiae Romanae nititur, cupit et desiderat amplexari. Et quia super eo multi imperatores et principes diversi laboraverunt, quod ab eo usque nunc minime obtinere valuerunt, verumptamen Deus omnipotens hunc honorem ipsius reginali[4] maiestati conservavit.

In huius rei robur, evidentiam et firmitatem idem Jagalo dux magnus promittit, universos thezauros suos ad recuperationem defectuum regnorum utrorumque, tam Poloniae, quam etiam Litvaniae, ponere et exhibere[5], et hoc, nisi eadem domina Ungariae filiam suam Hedvigim reginam Poloniae praenarratam sibi matrimonialiter copulabit.

Etiam idem Jagalo[6] promittit pactum pecuniae, ratione vadii inter ipsam dominam reginam Ungariae ex una et ducem Austriae parte ex altera constitutum, videlicet ducenta milia florenorum dare et exsolvere effective.

Item idem dux Jagalo magnus promittit et spopondit, universas occupationes et defectus regni Poloniae, per quorumvis manus distractas et occupatas, propriis laboribus et expensis reintegrare.

Item idem Jagal dux magnus promittit cunctos christifideles et praecipue homines utriusque sexus, de terra Poloniae receptos et more exercituantium transductos, pristinae reddere libertati ita, quod quisquis eorum vel earum transibit, quo suae licebit voluntati.

Demum etiam Jagalo dux saepedictus promittit terras suas Litvaniae et Rusiae coronae regni Poloniae perpetuo applicare».

Et nos Jagalo dux magnus Litwanorum praefatus praemissas legationes, ex parte nostri per praedictum Skirgalonem fratrem nostrum carissimum praenominatis dictis baronibus regni Poloniae propositas et modo praehabito declaratas ac demum per nuntios eiusdem fratris nostri serenissimae prin-



cipi dominae Elizabet reginae Ungariae praenotatae similiter et modo praehabito explicatas, in praesentia praedictorum ambaziatorum seu nuntiorum ipsius dominae reginae, tam Ungarorum, quam etiam Polonorum, ad nostram celsitudinem destinatorum, una cum fratribus nostris infrascriptis, videlicet domino Skirgalone, Coributh, Vitoldo, Ligwen, ducibus Litwanorum, et in persona aliorum fratrum nostrorum, praesentium et absentium, processisse et tam praedictae dominae reginae, quam etiam praefatis baronibus regni Poloniae intimasse.

Quasquidem legationes cum nostri ac fratrum nostrorum praescriptorum sigillorum praesentium duximus fore ratificatas et per omnia modis praemissis affirmatas.

Datum in Krew, feria secunda in vigilia Assumptionis beatae Mariae virginis gloriosae, anno Domini MCCCLXXX quinto.

*Заўвагі:* [1] *У рукапісе* regina, regina, *але пазней першае слова перакрэслена і напісана той жа самай рукой* E. [2] *У рукапісе* principi. [3] *У рукапісе* agmentum. [4] *У рукапісе* reginalis. [5] *У рукапісе* exibere. [6] *Слова* Jagalo *запісана той жа рукой над радком.*

## Пераклад

Мы, Ягайла, з Божай ласкі вялікі князь літвінаў і Русі пан і дзедзіч прыроджаны, даводзім да ведама ўсіх, каму належыць і хто будзе бачыць гэтыя лісты, тое, аб чым нам нагадана ад найяснейшай пані Э(льжбеты), з Божай ласкі каралевы Венгрыі, Польшчы, Далмацыі і г.д. праз шаноўных і шляхетных мужоў паноў Стэфана, прэпазіта чанадскага[1]; Ладзіслава, сына Какаса дэ Каза, кашталяна Патака[2]; Улодку, чашніка кракаўскага; Мікалая, кашталяна завіхосцкага; і Крысціна, дзяржаўцу казімірскага.

Найперш яны казалі аб тым, як высокашаноўны князь Ягайла, вялікі князь літвінаў і г.д., направіў сваіх урачыстых паслоў да паноў жыхароў Польшчы, а потым і да яе каралеўскай вялікасці. Тыя ж, якія да каралеўскай вялікасці былі накіраваны, мелі пры сабе даверчыя лісты ад паўнамоцнага, галоўнага і яснавяльможнага пасла, а менавіта ад знакамітага князя Скіргайлы, брата вялікага князя пана Ягайлы, які па некаторых пэўных прычынах персанальна да яе каралеўскай вялікасці прыехаць не змог. Яго ж паслы князь Барыс і Ганка, староста віленскі, той жа пані каралеве Венгрыі так апавядалі і мовілі:

«Як многія імператары, каралі і розныя князі з тым жа вялікім князем літвінаў прагнулі, імкнуліся і жадалі ўстанавіць навечна блізкае сваяцтва, то Бог усемагутны наканаваў гэта зрабіць асабіста яе каралеўскай вялікасці.

Таму, найяснейшая пані, дзеля такой збавіцельнай тайны няхай бы прыняла ваша вялікасць гэтага вялікага князя Ягайлу ў сыны, аддаўшы яму ў законныя жонкі найсвятлейшую панну Ядвігу, дачку вашу ўлюбёнейшую. І ад гэтага, верым, будзе хвала Госпаду, збавенне душам, гонар людзям і прымнажэнне каралеўству.

Між тым, як будзе належным чынам здзяйсняцца тое, аб чым ішла гаворка, вялікі князь Ягайла з усімі братамі сваімі, яшчэ не хрышчонымі, блізкімі, нобілямі, зямянамі вялікімі і малымі, якія жывуць у яго землях, імкнецца, прагне і жадае прыняць веру каталіцкую святой рымскай царквы. І тое, што многія імператары і розныя князі моцна стараліся, але так і не здолелі ў яго здабыць, той гонар Бог усемагутны для яе каралеўскай вялікасці збярог.

Для трываласці, несумненнасці і цвёрдасці гэтай рэчы той жа вялікі князь Ягайла абяцае ўсе скарбы свае ахвяраваць і выдаць для вяртання страт, панесеных абодвума каралеўствамі, як Польшчай, так і Літвой, калі тая ж пані каралева Венгрыі выдасць за яго замуж сваю дачку Ядвігу, каралеву Польшчы вышэйназваную.

Таксама абяцае вялікі князь Ягайла грошы па дагаворы, заключаным пад суму залогу паміж той жа каралевай Венгрыі, з аднаго боку, і герцагам Аўстрыі, з другога боку, а менавіта дзвесці тысяч фларынаў, даць і выплаціць наяўным разлікам.

Таксама вялікі князь Ягайла абяцае і абавязаўся ўласнымі намаганнямі і коштам вярнуць уладанні, страчаныя каралеўствам Польскім, кім бы яны ні былі заняты і адарваны.

Таксама вялікі князь Ягайла абяцае ўсіх хрысціян, а асабліва людзей абодвух полаў, узятых з Польскай зямлі і выведзеных у якасці палонных, вярнуць назад вольнымі такім чынам, каб кожны альбо кожная з іх пайшлі, куды самі пажадаюць.

Нарэшце князь вышэйназваны Ягайла абяцае землі свае Літвы і Русі навечна далучыць да кароны Каралеўства Польскага».

І мы, Ягайла, вялікі князь літвінаў вышэйзгаданы, пасольскія заявы, абвешчаныя і дэклараваныя належным чынам з нашага боку праз упамянутага Скіргайлу, брата нашага ўлюбёнейшага, перад названымі баронамі Каралеўства Польскага, а таксама падобным жа і належным чынам выкладзеныя праз паслоў таго ж брата нашага святлейшага перад пані Елізаветай, каралевай Венгрыі вышэйназванай, у прысутнасці названых прадстаўнікоў альбо паслоў той жа пані каралевы, як венграў, так і палякаў, дасланых да нашай вялікасці, разам з нашымі братамі ніжэйапісанымі, а менавіта панам Скіргайлам, Карыбутам, Вітаўтам, Лугвенам, князямі літвінаў, і ад імя іншых нашых братоў, прысутных і адсутных, пацвярджаем і паведамляем пра гэта як згаданай пані каралеве, так і ўпамянутым баронам Каралеўства Польскага.

Гэтыя ж пасольскія заявы мы загадалі замацаваць і зацвердзіць нашай і нашых братоў вышэйапісаных пячаткамі.

Дадзена ў Крэве, у панядзелак напярэдадні Успення святой Марыі Прыснадзевы, у год Гасподні 1380 пяты.

*Заўвагі:* [1] Маецца на ўвазе Чанадская (Csanad) епархія з цэнтрам у г. Сегед на паўднёвым усходзе сучаснай Венгрыі. [2] Верагодна, гаворка ідзе пра г. Патак, сучасны Шарошпатак на паўночным усходзе Венгрыі.

# ПРЫВІЛЕЙ 1387 г.

In nomine Domini. Amen. AD PERPETUAM REI MEMORIAM.

Nos, Wladislaus, Dei gratia rex Poloniae Lithuaniaeque dux supremus et haeres Russiae etc., ad cunctorum notitiam, quibus expedit, praesentia volumus pervenire, quod sollicita et pia ratione debite perpendentes syncere dilectionis pium atque liberum affectum, quem gens nostra Lithuanica ad baptismi necnon ad ortodoxae ac catholicae fidei susceptionem habere dinoscitur et gestare, hunc ipsius affectum salubrem monumento commemoratorum iurium ac libertatum munificentiis et donationibus volentes piissime promovere, ad augmentum sanctae fidei atque religionis catholicae roboris firmitatem universis et singulis Lithuanis armigeris sive boiaris nostrae ditioni, ac signanter illustris principis domini Skirgaylonis, ducis Lithuaniae et domini Trocensis et Polocensis etc., subditis, baptisatis et baptisari volentibus damus et concedimus libertates et iura, quae sequuntur infra, temporibus perpetuis duraturas.

Ut videlicet quilibet armiger sive boiarin fidem assumens catholicam et ipsius haeredes ac successores legittimi castra, districtus, villas atque domos ac omnia, quae ex successione paterna possidet, habendi, tenendi, possidendi, vendendi, alienandi, permutandi, dandi, donandi et in usus suos beneplacitos proprios et voluntarios libere convertendi habeat et habeant liberam et omnimodam facultatem, ut iuribus similibus utantur et fruantur, quibus et caeteri nobiles in terris aliis Regni nostri Poloniae potiuntur, ne videantur in iuribus dispares, quos eidem Coronae subiectos fecit unum.

Volumus etiam, quod in castellania et districtu quibuslibet aut territorio unus iudex, qui causas querulantium audiat, paenas iudiciarias tollat more et iure conformibus aliorum iudicum terrarum et districtuum iudiciis Regni nostri Poloniae praesidentium, et unus iusticiarius, qui debitum exequatur iustitiae, constituantur et praeficiantur.

Concedimus etiam et donamus eisdem armigeris plenam et omnimodam potestatem, ut natas ipsorum, neptes et quaslibet faemellas in confinitate ipsis iunctas maritis tradant libere et viduas, ritum in talibus catholicum observantes.

Cum autem natam, neptem vel cognatam alicuius eorundem armigerorum post obitum sui mariti relictam seu viduam fieri contingerit, illam in bonis seu possessionibus mariti sui manere volumus, quamdiu videlicet in toro permanserit viduali. Quae si ad secundas nuptias convolare voluerit, ipsa marito, quem elegerit ducendum, tradetur, bonis et possessionibus huiusmodi circa pueros, si fuerint, si vero non, extunc circa proximiores eiusdem sui prioris mariti derelictis, prout et caeterae mulieres viduae in aliis terris Regni nostri maritantur.

Nolumus insuper praefatos armigeros ad aliquos nostros vel nostrorum successorum labores astrictos fore, nisi dum ad castri novi constructionem tota terra Lithuanica vocarentur, extunc quivis ad faciendum laborem pro constructione aut reformatione castri antiqui sit astrictus. Ad expeditionem autem, dum incubuerit, iuxta vetustam consuetudinem transitum teneantur facere damnis propriis et expensis.

Quotiescunque etiam hostes et adversarios nostros et ipsius terrae nostrae Lithuanicae fugitivos insequi opportuerit, ad insequutionem huiusmodi, quod pogonia vulgo dicitur, non solum armigeri, verum etiam omnis masculus, cuiuscunque status aut conditionis extiterit, dummodo arma bellicosa gestare poterit, proficisci teneatur.

Omnis autem, qui sanctam fidem catholicam assumens ab ea damnabiliter recesserit vel ipsam assumere renuerit, nullis paenitus iuribus gaudeat suprascriptis.

Harum, quibus sigillum nostrum appensum est, testimonio literarum.

Actum Vilnae, ipso die Cinerum, anno Domini Mo CCCo LXXXVIIo.

Praesentibus inclitis principibus Skirgalone Trocensi, Vitoldo Hrodnensi, Coributh Nowogrodensi, Cazimiro vel Corigalo Mscislaviensi, Alexandro vel Vigunth Kiernoviensi Lithuanis, Conrado Olesnicensi, Ioanne et Semovito Masoviensibus ducibus ac strenuis veris Barthussio de Vissenburg, palatino Poznaniensi, Cristino, castellano Sandocensi, Volodcone, pincerna Cracoviensi, Nicolao, castellano Visliciensi, marschalco curiae nostrae, Spithkone, succamerario Cracoviensi, Clemente, castellano Radomiensi, Jacusio de Medroydz, vexillifero, et Thomka, [sub]pincerna Cracoviensi, et aliis multis viris, fidelibus fidedignis.

Scriptum per Andream Ioannis. Datum per manus honorabilis viri domini Zaklice, praepositi Sandomiriensis et cancellarii, Clementis de Moscorzow, vicecancellarii aulae nostrae celsitudinis.

### *Пераклад*

У імя Гасподне. Амінь. Для вечнай памяці.

Мы, Уладзіслаў, з ласкі Божай кароль Польшчы і найвышэйшы князь Літвы і наследнік Русі і г.д., жадаем давесці да ведама ўсіх, каму належыць, што, узважыўшы чуткім і добрасумленным роздумам набожную і вольную прыязнасць шчырай любові, якую наш народ літоўскі выяўляе да прыняцця хрышчэння ды артадаксальнай і каталіцкай веры, і жадаючы гэту прыязнасць наданнямі і дараваннямі правоў і вольнасцей набожнейшым чынам пашырыць, для прымнажэння святой веры і ўзмацнення трываласці каталіцкай рэлігіі, усім і кожнаму літвінам, якія носяць зброю, альбо баярам, што знаходзяцца пад нашай уладай, а асабліва светлага князя пана Скіргайлы, князя Літоўскага і пана Троцкага і Полацкага і г.д., падданым, хрышчоным і жадаючым хрысціцца, даём і ўстанаўліваем вольнасці і правы ніжэйапісаныя, якія будуць заставацца ў моцы на вечныя часы.

А менавіта кожны чалавек, хто носіць зброю, альбо баярын, што прымае каталіцтва, і яго законныя наследнікі і пераемнікі маюць права вольна і ўсяляк, як толькі можна, мець, трымаць, валодаць, прадаваць, адчужаць, абменьваць, перадаваць, дарыць і ў сваім уласным нязмушаным дабрачынным карыстанні вольна распараджацца замкамі, рэгіёнамі, маёнткамі, дамамі і ўсім, чым валодаюць па праву



пераемства за бацькам, каб яны карысталіся і цешыліся тымі ж правамі, што іншыя нобілі ў іншых землях нашага Каралеўства Польскага, каб не бачылася няроўнасць у правах паміж тымі, каго аб'яднала падданства адной і той жа Кароне.

Жадаем, каб у любой кашталяніі і рэгіёне альбо тэрыторыі былі б устаноўлены і пастаўлены адзін суддзя, які б слухаў справы скаржнікаў, выносіў бы судовыя выракі паводле вызначанага звычаю і права, як у іншых судовых землях і рэгіёнах, дзе засядаюць суддзі нашага Каралеўства Польскага, і адзін юстыцыярый, які б належным чынам выконваў судовыя рашэнні.

Устанаўліваем і надаём тым жа людзям, хто носіць зброю, поўную і ўсямерную магчымасць вольна выдаваць замуж сваіх дачок, унучак [*варыянт:* пляменніц] і любых дзяўчынак, звязаных з імі сваяцтвам, а таксама ўдоваў, захоўваючы адносна такіх каталіцкі абрад.

Калі ж дачка, унучка альбо якая-небудзь сваячка тых жа людзей, якія носяць зброю, застанецца ўдавой пасля смерці свайго мужа, тую жадаем пакінуць у валоданні маёмасцю альбо ўладаннямі яе мужа на працягу таго часу, пакуль будзе захоўваць удаўства. Калі ж каторая захоча паўторна выйсці замуж, то сама пераходзіць да мужа, якога выбярэ, а маёмасць і ўладанні адыходзяць да дзяцей, калі яны ёсць, а калі няма, то да бліжэйшых сваякоў яе папярэдняга мужа, таксама ж, як і іншыя жанчыны-ўдовы выходзяць замуж у іншых землях нашага каралеўства.

Не жадаем, звыш таго, вышэйзгаданых людзей, хто носіць зброю, абавязваць да выканання нашых альбо нашых пераемнікаў работ, за выключэннем выпадкаў, калі ўся Літоўская зямля заклікаецца да будавання новага замка: тады кожны чалавек будзе абавязаны выконваць работы па будаўніцтве альбо ўзнаўленні старога замка. У паходзе ж, пакуль ён будзе працягвацца, згодна са старажытным звычаем пераход абавязаны рабіць за свой кошт і сродкі.

Калі будзе патрэба праследаваць якіх бы там ні было ворагаў, непрыяцеляў і самой зямлі нашай Літоўскай уцекачоў, то для праследавання такім спосабам, які паводле звычая завецца «пагоняй», абавязаны выступаць не толькі людзі, хто носіць зброю, але і кожны мужчына, у якіх бы абставінах ці становішчы ён ні знаходзіўся, толькі б мог насіць ваенную зброю.

Усялякі ж, хто, прыняўшы святую каталіцкую веру, ад яе праклятым чынам адступіцца альбо адмовіцца яе прыняць, няхай не будзе ў поўнай меры цешыцца вышэйапісанымі правамі.

У пасведчанне гэтага дакумента падвешана наша пячатка.

Прынята ў Вільні, у сам дзень попелаў, у год Гасподні 1387.

У прысутнасці славутых князёў: Скіргайлы троцкага, Вітаўта гарадзенскага, Карыбута новагародскага, Казіміра, альбо Карыгайлы, мсціслаўскага, Аляксандра, альбо Вігунта, кернаўскага — літвінаў; Конрада алясніцкага; Яна і Земавіта, мазавецкіх князёў; і шляхетных мужоў: Барташа з Вісенбурга, ваяводы пазнанскага; Крысціна, кашталяна сандоцкага; Валодкі, чашніка кракаўскага; Мікалая, кашталяна вісліцкага, маршалка нашага двара; Спыткі, падкаморыя кракаўскага; Клемента, кашталяна радамскага; Якуша з Нядзведзя, харужага; і Томкі, падчашага кракаўскага; і іншых многіх мужоў, вартых даверу.

Запісана Андрэем, сынам Яна. Дадзена праз рукі шляхетнага мужа пана Заклікі, прэпазіта сандамірскага і канцлера; Клемента з Маскожува, падканцлера двара нашай вялікасці.

# ПРЫВІЛЕЙ 1447 г.

Во имя Божье, аминь. К вечной речи памяти. Вси речи, которыи бывають, от людской памяти поспол с часом отходят, а ни потом у памяти могуть приведены быти: олиж писмом мають потвержены быти. Про тож мы, Казимир, с Божьей милости выбраный король полский и великий князь литовский, и руский, и жемоитский и иных земель, познавше верность уставичную почтивых, достойных, освеченых, выбраных, мудрых прелатов духовных и светских княжат, рыцеров, шляхтичов, бояр, местичов земль Великого Князьства Литовского и Руского, Жемоитского, которую ж к нам и к нашой парсуне освяченой, как то до правого дедича и пана прироженого, имели и имають, а також и напотом имети уставичне и верне мыслять, якож то черес осмотренье наше есть найдено: достойне умыслили есмы, за такие доброты и ласки, дары и иными ласками им милостиве отдарить; бо тогды потом к нам и к нашим службам найдени будуть рихлейшими, коли себе узрять такими ласками утешоны.

1. Тогож деля, наипервей предреченым прелатам, княжатом, рытерем, шляхтичом, бояром, местичом нареченых земль Великого Князьства Литовского и Руского, Жемоитского неотзывне дали есмо и моцью того то листа щедре даваем, призволяем и вечне даруем посполито, права тые, зволеньства, твердости, якож имають прелаты, княжата, рытери, шляхтичи, бояре, местички Коруны Полское. А же бы потом в том не было никоторое отщепение, а любо недоверство возникло, туто умыслили есмы положити через выклад письма явне.

2. А напервей, вся дарования, привелеи, твердости церквей головных, зборных и кляшторных в землях наших Великого Князьства Литовского и Руского, Жемоитского и иных, поставленых и заложеных, а и потом которыи будуть заложены, хочем без порушениа и без обид ховати, боронити и щитити, подлуг всее нашее моци. Которая ж то церква головная, зборная, кляштырная, иж бы пуста была, а пастыря не держала, которое ж поданье к нам и к нашим наместником пригодило бы ся; тогды им с полного права, не иного, а любо не иных, пастыря, а любо пастырев давати маем, нижли Великого Князьства Литовского, прироженого, аж достойными обычаи найден будеть; аж пак не будеть, тогды иншого рожаю парсуну ужиточную, почестливую, згодную,



которая ж бы могла рядить и вжиточна быти, маем дати, только крат, колько будеть надобе.

3. Также предреченым прелатом, княжатом, рытерам, шляхтичом, бояром, местичом предреченых земль Великого Князьства Литовского, Руского, Жемоитского дали есмо: штож ни на жадного обмовление явное или тайное, тых княжат, рытеров, шляхтичов, бояр, местичов не будем казнити, ни именьи, ани пенязьми, ни нятством, ни кровью, олижь очи-в-вочи, оба посполь явно станууть на суде, вподлуг права христианского: который ж будеть у подлуг переможенья права виноват, вподлуг обычая и права Коруны Полское имають быти казнены и сужены, подлуг их великости проступков.

4. Також за проступку, каково ль коли проступить, нихто иный, только тот виноватец, хто проступить, подлуг права христианского имать быти казнен; штож ни жена за проступку мужа своего, а ни отец за проступку сына, а ни иный прироженый, а ни слуга, только олиж бы был причастник тое проступки, только выймуючы проступки против нашого господарства.

5. Також призволяем, абы княжата, рытеры, шляхтичи, бояре, добровольно имели бы моць выехати з наших земель Князьства Великого для лепшого щастья набытья, а любо учинков рытерских, до каждых земль, сторон, только выменяючи стороны неприятельское; а куды выеждиваючи из своих имений, штобы службы наши не были замешканы, але нам и наместником нашим как бы сами очивисте были, только кроть, колько надобе служили бы.

6. Також предреченыи княжата и рытеры, шляхтичи, бояре, местичи именья свои и отчины, што им даное, а любо дарованое через освяченого князя Александра, нареченного Витовта, достойной памяти дяди нашего, и через освяченого князя Жигимонта даные и дарованые, которыи ж держали, и имаюче и володеюче из их даровання привильями, достаточным светочством, твердостю листов возмогуть досветчити, с правом имають держати, якож то княжата и рытеры, шляхтичи, бояре и местичи у Коруне Польской свои именья держать, и добровольную моць мають продати и заменити и зычити, и дарити, и к своему лепшому обернути; а коли тыи именья продаючи, заменяючи изыначаюче, даруюче, перед нами а любо перед нашими наместниками имають здати.

7. Також по смерти отцове, сынове и дочки от своее отчины не мають отдалены быти, але с их ближними с полным правом мають володети, якож то княжата, рытеры, шляхтичи и местичи Коруны Полские своим володеють и к ужитком добрым промышляють.

8. А також, коли некоторому князю, рытеру, шляхтичю и местичу с того света пригодилося бы изыйти, тогды удову у в именьи мужа ея оставити хочем так долго, как долго будеть на столци вдовьем седети, ажь пак коли которая усхочет к другой свадбе прийти, маеть быти дана, когож выбереть. А дети, аж будут первого мужа, в именьи мають остати, аж пак не будет детей первого мужа, ино ближним менье первого мужа, якож и иныи удовы у Коруне Полской деражать. Аж первый муж у предреченом именьи своем своей жене некоторое вено запишеть, а она можеть того досведчити, тогды подлуг обычая права, кому усхочеть, тому полецить.

9. А також дочки, племенници и удовы могуть замуж давати, нас и наших наместников не докладываючи, нижли только обычай христианской у том заховаюче.

10. А теж вси, а каждый особне, селяни и подданные княжатом, рытерем, шляхтичом, бояром и местичом наших земель Великого Князьства Литовского, от всего данья и заплаты, собранья, вытягненя серебщизны и теж мер, которыи же дякла реченыи суть, от воженя каменя, протесов бревен и дерева на жженя плит, а любо мелу на городы, сенокошеня и иных несправедливых работ выпущены и будуть вольны овшейки и выняты, выменуючи работы на будованье городов наших новых потребных, а старых поправленья, теж княжатом, рытерем, шляхтичем селян данных и подданых и через нас им дарованых також выимаюче. А теж из-стародавна зыченые на нас и на наши будущии уряды поборы, стацыи, мостов новых чиненя, старых поправленя, а городов оправленя непорушне заховаем, а и хочем всегда имети неслободных.

11. А також мы, а любо заказники наши, тых предреченых княжат, рытерев, шляхтичов, бояр, местичов земль наших Литовских, и Руских, и Жемоитских, и иных, людей данных, извечных, селянитых, невольных, которое бы коли плоти были, а любо достойности, не приймем, а ни урядником нашим принять не перепустим; а они теж прелаты, княжата, рытери, шляхтичи, бояре, местичи Великого Князьства Литовского и Руского, Жемоитского, наших и будущих людей, которое бы коли плоти были, а любо достойности, приняти сами, а любо через свои врядники, ни жадным обычаем не смети будуть.

12. А також на подавание предреченых княжат, рытерев, шляхтичов, бояр, местичов децких не дамо; олиж бы первей от пана, которому ж тот поддан, который кривду вчинил, правда пожадана была, ач бы он на рок не хотел к праву поставити, тогды наш децкий, а любо наших заказников имать быти послан; а виноватый, который вину заслужил, пану своему, а не иному будеть обязан заплатити.

13. А також обецуем и слюбуем, иж панства нашего земль, Великого Князьства предреченого, не вменшим, але у границах, как же предки были наши, на имя князь Александр, нареченый Витовт, дядя наш, и иные держали и володели, також и мы тыеж земли здорови, целы, держати будем, и володети, и щитити, а с Божьею помочью и всими силами нашими размножати будем.

14. Також обецуем и слюбуем, иж в землях тых наших Великого Князьства земль, городов, мест а любо которых-колвек дедичцв у володение и в держание, а любо некоторыи вряды, а любо чти не маем дать в честь никоего чюжоземца, але только родичам тых земль наших предреченых Великого Князьства Литовского дамы, и наши после будущии дадуть в держание и володенье.

А на свидетельство сего листа печать наша есть привешена. А деялося и дано через руце велемощного Михаила Кезкгайловича з Давилтовича, Великого Князьства Литовского канцлеря, в Вильни, в день святого Жикгимонта, в лето Божего нароженя 1457.

Писан руками Мартиновыма з Лужка, он жо то имел с приказу.

# СУДЗЕБНІК 1468 г.

Казимир, Божьею милостью король полскыи, великыи князь литовскии и рускыи, княжа пруськое и иных.

Чиним знаменито сим нашим листом, кто на него посмотрить или чтучи его услышить, иже мы с князми и с паны радою нашею Великого Княжства Литовскаго и со всим посполством погадавши и врядили есмо так:

1. Што с лицом приведуть татя, будеть ли мочи чим заплатити, ино заплатити истинну. Пак ли чого у дому не будеть, будеть жона тое ведола з детьми ужо изрослыми, жоною и з детьми платити, а самого на шибеницю. А што будеть малыи дети ниже семи годов, тыи в том невинни.

2. А пак ли злодеи не имаеть будеть чим заплатити, но и лица у двор не имати, воротити истьцю, у кого украдено, а просокы половину вернути; а злодея, на обешенье, а просока по-старому.

3. У кого будет украдено, а што судьи присудят, ино перво заплатить истьцю, а потом господарь татя того вину свою бери.

4. А коли выдадуть жену а любо дети татиныи, у колце судьи скажуть, а потом могут ли выкупитися; а любо господарь их всхочет выкупити, а они могут ся выкупити. А будеть в дому истатков того татя, и он домовыми истаткы платить; а коли ж бы не было чим платити з дому, ино женою и детми платити, как у верху писаны.

5. А коли бы злодеи што у кого украл, а где украдено, а там его ухватять с лицомь, а в домь будеть не принес, жена и дети того не поживали, злодеи трьпи, а жена и дети, и дом их неповинен.

6. А коли злодеи из дому вышел, а што украдеть, а потеряеть што, любо изьесть, окроме жоны и детеи, ино домовыми статкы, што того татя влостное, заплатить, а жена и дети, и статкы женни от того порожни.

7. А коли чии человек во злодеиство упадеть, а будеть господарь его то ведал а любо с ним удел имел, а будеть на то довод, тот так трьпи, как которыи злодеи.

8. А которыи будеть лежни держать таино во своем дому, а суседом акалици не поведить, а в тот час што у кого изьгынеть, а будеть на то довод, ижь лежни держал, дати тому рок, и други, и третии, ижь бы того лежня поставил, а из себе звел. Пак ли на рок на последнии не стануть, заплати жь, а того ищи, а нашод, к праву поставить, не деи исправляется, а то уже заплачено.

9. А коли бы наш человек у вину дал князскому, или паньскому, или боярьскому человеку, а у котором повете, под нашим местничьствомь или тивунством, ино нашему наместнику, а любо тивуну обослати, иж бы нашему человеку сталося право. Пак ли усхочеть на обчии суд, ино им обчии суд пустити и рок дати.

10. А будеть на нашом человеце князкии или панскии или боярьскыи люди искати, и тому суд и право перед нашими наместникы и тивуны, где што держать, а нашимь врядником дати право на обе стороне.

11. А которому человеку князьскому, или панскому, или боярьскому до князскых и до панскых и да боярьскых людеи дело, и хто ищеть на ком ехать ему правом искать перед его осподаремь; не вделаеть ли права, ино на обьчии суд рок положити с обою старон, а вожды справедливость вделати; пак ли которыи будеть отводить, но нам дати децького; а нас не пригодится в Великомь Княжьстве Литовскомь, ино воеводам нашим моцно дати децького.

12. А коли злодея выдадуть ис права, а чим его взвелять казнити по его делом.

А каму татя выдадуть, а тот не всхочеть его казнити, а всхочеть на нем заплату побрать, а его пустить, а любо собе его у неволю взять, а то будеть доводь, тот уже ис права выступил, а нам и с паны радою нашею Великого Князства Литовскаго о том погадав, как его казнити и исказнити его, будеть чого достоин. А над злодеи милости не надобе.

13. А хто украдеть выше полукопья, а любо корову, того узвесить.

14. А которыи перво украдеть, а дотуль будеть не крадывал, ино за первую вину татбу виною казнити; аж будеть ниже полтины домовыи речи крал, домовыми речми платить; а будеть выше полтины крал, хотя бы пак и перво крал, а его обесити.

15. А которыи хотя и перво крал, а конная татба, коня украл, а с лицом приведуть, того узвесити.

16. А коли татя приведуть, а на кого сок узсочить, а домучатся татбы, а будеть перво того крадывал и кому плачивал, а околица будеть ведывала, и без лица повесити.

17. А пак ли сок узсочить на кого, а лица не будеть, а будеть перво украл, а околица будеть перво злодеиства на него не ведала, а будеть никому не плачивал, ино ему татбу платити истьцу и вину, а смертную раною его не казнити.

18. А коли тать дасться на муку, а зелья зная, а знакы будуть добрыи на него сок узсочить, а будет перво того крадывал, а любо мучиван, а сведомо то будеть околици, ино того зелеиника, хотя не домучатся, ано его обесити.

19. А кали чии паробкы украдуть што у кого, как у семь листу писано верху, как за которую татбу казнити: коли перво украдеть, ино его не вешати, заплатити бондою его; а не будеть бонды, господарь его за него заплатить, а паробка пробити и сказнити; а будет часто красти после того, а выше полукопя, ино паробка повесити.

20. А тако ж кому до каго будеть дело какое, будеть земное дело, ино ездокы побрати, а будеть иныи какыи дела, ино судьи побрати. А искати правом, а порубок и наездок не надобе никому ничого чинити.

21. А которыи бы сами собою порубы чинять, а любо наездкы чинять, ино кому сталося кривда, тот имаеть ся жаловати. Пак ли не пригодится нас в Великом Князстве Литовском, и он имаеть паном раде нашеи жаловати. И паном воеводам нашим по того послати, а велети перед собою поставити моцно и досмотрети, будеть ли тот так чинити, усадити его у казнь и держати его до нашего исчаснаго приеханя: тот бо ис права из земского выступил, а над право сягнул, как у верху писано. Мы пак снемся радою нашею Великого



Князства Литовскаго, осмотрим того, какою казнью казнити та кого.

22. А коли бы два имели ся правовати, а возмуть собе ездокы, судьи, ино вчинити им рок а дати им ведомо за 4 недели, штобы ся оба зготовали к тому року перед тыи суди; судямь же, ездоком тым там выехати на реченное местцо. А который бы из тых дву сутяжаев а не выехал, тот без суда виноват, а который выехал, того оправити в том, чого будеть искати. Нижли бы пригодилося наша, а любо земская служба, а любо немоць, его же, Боже, не даи, тым того не истратити.

23. А любо бы хто коня, а любо клячю блудящую нашол, или некоторыи иныи речи нашол, околици оповедить; не изнаидеть ли ся истец до трех днев, ино повести на наш двор по-давному, да в переемь возми свое. Пак ли которыи што утаить а усхочеть собе покорыстовати, а будеть на то довод, тот такии злодеи, как и которыи.

24. А которыи будеть люди выводить, а любо челядь неволную, а ухватять с лицом, того на шибеницю; изнаидеть ли с сок, ино тому право, как у сем листу верху писаныи, по тому его судити.

25. А також и где которыи мосты мощивали за дядю нашего, за великаго князя Витовта, и за великаго князя Жидимонта, тот бы и ныне каждыи свою делницю замостил и заделали, как надобе. А то бы не мешкая заделали сего ж лета. А на чиеи делници щкода ся станеть, конь ся образить, ногу изломить, тому платити. А которыи не заделають своих делниць сего лета, а оплашатся, тот ис права выступил, на том нам вины 10 рублев гроши.

Про тож, как у нашому листу выписано, по тому бы есте рядили, а с того не выступили.

Писан и дан у Вилне, февраля 29 день, индикт 1.

## ПРЫВІЛЕЙ 1492 г.

In nomine sanctae Trinitatis et indiuiduae vnitatis amen. Ad perpetuam rei memoriam. Omnia, quae geruntur in tempore, ab hominum memoria simul cum tempore labuntur, nec ad futurorum possunt venire noticiam, nisi in scriptis reposita conseruentur. Proinde nos Alexander Dei gratia magnus dux Lituaniae, Samogitiae, necnon terrarum Russiae dominus et heres etc. considerata fidelitatis constantia reuerendissimorum et ruerendoruni, illustrium, strenuorum, magnificorum, generosorum, nobilium et circum, spectorum praelatorum spiritalium ac saecularium principum, baronum, boiarorum et ciuium terrarum Magni Ducatus Lituaniae, Russiae, Samogitiae etc. quam ad nos nostramque serenitatem, tanquam ad verum et legitimum heredem ac dominum naturalem habuerunt et de facto habent, habereque intendunt constanter et fideliter in futurum, prout hoc bene res in eis probauit, dignum duximus pro tanto bonorum gratiarum et libertatum muneribus, aliisque nostris fauoribus ipsis condignam et gratiosam facere recompensam. Inprimis igitur praedictis praelatis, principibus, baronibus, nobilibus et ciuibus dictarum terrarum Magni Ducatus Lituaniae, Russiae, Samogitiae dedimus, concessimus et irreuocabiliter donauimus, vigoreque praesentium damus, concedimus, donamus et in perpetuum largimur generaliter et omnia eadem iura, libertates et immunitates, prout habent praelati, principes. barones, nobiles et ciuitates in Regno Poloniae. Sed ne ex hac generalitate aliqua ambiguitas siue dubietas in posterum possit quoquomodo suboriri, ipsas libartates seu quasdam ipsarum hic dicreuimus ponere per expressum.

1. Et primo omnes donationes, priuilegia et immunitates ecclesiarum cathedralium et collegiatarum, conuentualium, parochialiumque in terris nostris Magni Ducatus Lituaniae, Russiae, Samogitiae erectarum et erigendarum, fundatarum et fundandarum, volumus illaesas et inuiolatas conseruare et tueri ac protegere iuxta nostram omnimodam potestatem. Quas quidem ecclesias cathedrales, collegiatas, conuentuales et parochiales tempore medio per mortem vel resignationem si vacare contigerit et pastore carere, quarum ius patronatus ad nos et successores nostros dignoscitur pertinere pleno hire, tunc ipsis de alio vel aliis pastore vel pastoribus prouidendo, non alium vel alios praesentare debemus, nisi Magni Ducatus nostri Lituaniae indigenam, qui idoneus fuerit repertus; sin autem, tunc alterius nationis personam vtilem et honestam, quae possit prodesse et praeesso, debemus praesentare totiens, quotiens opus fuerit et oportunum.

2. Item praedictis praelatis, principibus, baronibus, nobilibus et ciuitatibus praedictarum terrarum Magni Ducatus Lituaniae, Russiae, Samogitiae dedimus, quod ad nullius hominis delationem seu accusationem publicam vel occultam seu quamuis suspicionem sinistram ipsos principes, barones, nobiles et ciues castigare volumus, seu punire quacumque poena, scilicet bonorum ablatione, pecuniaria, carcerum aut sanguinis, nisi prius in iudicio manifesto iuris ordine catholico obseruato, actore et reo personaliter constitutis, roaliter fuerint conuicti. Qui post iudicium et conuictionem huiusmodi iuxta consuetudinem et iura, sicut in Regno Poloniae, debent castigari et sententiari, secundum suorum excessuum qualitatem et quantitatem.

3. Item quod pro crimino cuiuspiam nullus alius, nisi is, qui peccauit et deliquit, semper tamen iuris catholici ordine obseruato, conuictus iudicialiter et sententiatus, puniatur, ita videlicet, quod nec vxor pro crimine sui mariti, nec pater pro crimine filij et e conuerso, nec aliquis cognatus aut seruus, nisi dum quis particeps esset criminis delinquentis, criminibus laesae maiestatis solum exceptis.

4. Item concedimus, ut principes, barones, nobiles et boiari supradicti liberam habeant facultatem exeundi de terris ipsis nostris Magni Ducatus etc. caussa vberioris furtunae adquirendae et actuum militarium exercendorum ad quaslibet terras exteras, partibus inimicorum nostrorum duntaxat exceptis, ita tamen, quod de bonis ipsorum sic exeuntium, seruitia nostra



non negligantur, sed nobis aut successoribus nostris tanquam ipsis praesentibus totiens, quotiens fuerit opportunum, suppleantur, exhibeantur et ministrentur.

5. Item praefati principes, barones, nobiles et ciues bona eorum patrimonialia seu ipsis data siue donata per praeclarum principem dominum Alexandrum alias Vitoudum etc. diuae memoriae ac donationes per illustrem dominum Sigismundum etc. donatas et factas, quas tenentes, habentes et possidentes de earum donationibus, priuilegiis et priuilegio legitimo et sufficienti ac congruo testimonio testium vel munimine litterarum potuerint probare et docere, pari iure obtineant, sicut principes, barones, nobiles et ciues in regno Poloniae sua noscuntur obtinere et liberam habeant facultatem ipsa vendendi, commutandi, alienandi, donandi, et in vsus suos beneplacitos conuertendi, sic tamen, quod ea commutando, vendendo, alienando vel donando, coram nobis aut nostris officialibus resignabunt.

6. Item post mortem patrum liberi masculi et femellae bonis paternis hereditariis priuari non debent, sed ea cum eorum successoribus legitimis pleno iure possidebunt, prout principes, barones et ciues in Regno Poloniae sua possident, et in vsus beneplacitos conuertunt.

7. Item quando aliquem principum, baronum, nobilium et ciuium praedictorum ex hac luce decedere contingat, extunc viduam in bonis seu possessionibus mariti sui volumus relinquere seu remanere, quamdiu in sede permanserit viduali; quae si ad secundas nuptias transire voluerit, ipsa marito, quem ducere elegerit, tradatur; pueris tamen in bonis et possessionibus paternis, si fuerint, sin autem, propinquioribus eiusdem mariti prioris derelictis, prout et ceterae viduae Regni Poloniae maritentur. Si vero prior maritus in praefatis bonis et possessionibus suis aliquod eidem vxori suae dotalitium assignauerit, et de eo sufficienter probare poterit, illo secundum ordinem iuris recepto, cui voluerit, nubat in domino.

8. Item natas et cognatas ac consanguineas ipsarum virgines et viduas libere possunt tradere maritis, nobis et nostris successoribus super hoc minime requisitis, ritum tamen catholicum in talibus obseruantes.

9. Item onines et singuli cmetones et subditi principum, baronum, nobilium, boiarorum et ciuium ipsarum terrarum Magni Ducatus Lituaniae ab omni donationo et solutione collectae siue exactionis *sirepczizna* dictae, atque mensurarum, que *dziakla* nuncupantur, ab omnique onere vectigalium, quae *podwodi* dicuntur, a ductione lapidum, roborum sine lignorum pro exustione laterum siue cementi pro castris, foeni falcastrione et aliis minus iustis laboribus soluti sint, liberi omnino et exempti; laboribus tamen pro aedificatione castrorum denuo oportunorum et antiquorum reformatione exceptis: principum, baronum, nobilium, boiarorum cmetonibus et subditis, per nos eis datis et donatis, similiter exceptis. Antiquas tamen et dudum consuetas pro nobis et successoribus nostris procurationes, collectas, stationes, pontium nouorum erectiones, veterum reparationes et viarum reformationes illaesas reseruamus, et eas volumus esse semper saluas.

10. Item quod nos aut officials nostri praefatorum principum, baronum, nobilium et ciuium nostrarum terrarum Lituaniae, Russiae, Samogitiae etc. homines tributaries, originarios et cmetones mancipiorum obnoxios, cuiuscunque sexus fuerint aut condicionis exstiterint, non suscipiemus, nec officiales nostros suscipere permittemus; quod et ipsi praelati, principes, barones, nobiles, boiari et ciues Magni Ducatus Lituaniae, Russiae, Samogitiae etc. nostros et successorum nostrorum similiter homines, cuiuscunque status, sexus aut condicionis exstiterint, non suscipiant, nec per se vel per alium suum officialem suscipere quoquomodo praesumant.

11. Item super subditos praedictorum principum, baronum, nobilium et boiarorum ministeriales alias *dzietzke* non dabimus, nisi prius a domino, cuius subditus fecerit iniuriam, iustitia fuerit postulata. Qui si in termino certo eandem facere renuerit, extunc noster ministerialis vol nostrorum officialium est dirigendus et reus, qui poenam meruerit, illam domino suo et non alteri soluere sit astrictus.

Et praeterea cupientes praefatos praelatos, principes, barones, nobiles, boiaros et ciues pro ipsorum praerogatiua ac recreatione speciali nouis gratiis et concessionibus ac libertatibus reddere consolatos, et ad recentem fidelitatis praedictae perseuerantiam inuitare, de benignitatis nostrae gratia singulari nonnullos articulos infrascriptos eisdem concessimus concedimusque per praesentes.

12. Ac primo et principaliter promitimus et spondemus, quod dominia seu terras Magni Ducatus Lituaniae non diminuemus, sed in suis limitibus, prout antecessores nostri et signanter dux Alexander alias Vitoudus et Sigismundus tenuerunt et possidebant, sic et nos easdem integras tenebimus et possidebimus ac tuebimur, atque cum Dei auxilio pro cunctis viribus nostris studebimus dilatare et ampliare tempore competenti.

13. Item nuntios seu oratores mittere debemus in negotiis publici boni eiusdem Magni Ducatus nostri necessitate ad hoc imminente, de consilio nostrorum dominorum versus partes exteras, videlicet Moscouiam, ad Zauolska orda et Perekopska orda, Valachiam, Regnum Poloniae, ducatum Masouiae, Prussiam, Liuoniam, Pskow, Magnum Nouogrod, Twierza et Razan, secundum consuetudinem per nostros antecessores obseruatam necnon versus alias quasqunque prouincias, quo necessitas et vtilitas dominiorum Magni Ducatus Lituaniae nostri postulabit. Item cum quibus terris et dominiis inscriptiones, confoederationes, ligas et iuramenta ab antiquo habemus pacis perpetuae, eas nolumus infringere, sed in melius cum Dei auxilio ducere atque adaugere.

14. Item quaecunque consilia et caussas cum dominis consiliariis nostris determinabimus et statuemus atque concludemus, ea cum nemine alio immutare, corrigere aut deordinare debebimus.

15. Item quando aliqua consilia et negotia in consultatione cum dominis nostris tractanda euenerint et ipsis dominis non placebunt, pro isto super eos commoueri non debemus, sed quaecunque nobis consulent pro nostra et communi vtilitate, istud nos efficiemus.

16. Item dignitates tenutas et alia omnia officia aut bona hereditaria nemini extraneo aut aduenae, sed solum indigenis tenebimur conferre. A prouisione autem ac dotatione seu



collatione spiritualium et saecularium dignitatum, tenutarum et officiorum quorumcunquo nihil debemus postulare, neque etiam ipsi domini palatini et capitanei ab officialibus et tenutariis quidquam recipere aut exigere debent, solum quod per aliquem nobis vel ipsis pro honestate sua libere condonatum fuerit.

17. Officia vero omnia et tenutae sine consilio nostrorum consiliariorum per nos non debent cuiquam conferri. Si quis autem officialium tanquam dissipator et damnificator nostrorum bonorum apud nos delatus fuerit, vtraque pars debet personaliter coram nobis constitui, auditaque caussa reus sacundum demerita puniendus erit, sed absque culpa officia auferre non debemus.

18. Item palatini, capitanei, tenutarii villici, officiales et vniuersi vicesgerentes in Magno Ducatu nostro in primeua honestate et prouisionibus ac tenutis eorum, ut a praedocessoribus nostris, ducibus magnis Vitoudo, Sigismundo et genitore nostro teneantur et conseruentur, iudicentque et ordinent, census et prouentus suos in integrum repetant et exigant, velut ab antiquo, nec non ministeriales dirigant, defatigationesque ipsorum alias *proiezdi* solui faciant, iuxta consuetudinem prouinciae.

19. Item mortem obeunte tenutario aut villico quocunque in Vilnensi aut Trocensi districtibus, Vilnensis et Trocensis palatini in suis districtibus tenutas a nobis secundum exigentiam meritorum vel obsequiorum et qui etiam nobis videbuntur idonei, illis petant seu impetrent, et eodem modo fiat in aliis districtibus omnibus.

20. Item dignitates, tenutae et officia in castris et ciuitatibus, in metis remotioribus, si quae vacauerint et aperientur, habita deliberatione cum dominis consiliariis nostris talia officia vel tenutas conferemus secundum promerita, vel qui nobis videbitur magis valere et domini consiliarii nostri debent ita facere.

21. Item viduae, quae remanserunt in bonis hereditariis post mortem maritorum, ad seruitia terrestria et bellicas expeditiones iuxta facultatem possessionum obligabuntur.

22. Item donationes et concessions olim genitoris nostri, quas alicui donauit aut prouidit et cum hoc literis suis confirmauit, perpetue tenebimus; sed cui idem genitor noster dedit ad arbitrium et voluntatem suam, illud et nos pro arbitrio et voluntate nostra et dominorum consilii nostri reseruamus. Nostras etiam donationes faciemus et dabimus ad arbitrium nostrum; et si alicui voluerimus confirmare ad perpetuitatem, istud eliam est in voluntate nostra.

23. Item census teloniorum, tabernarum et alii ex poenis et vndecunque nobis prouenientes, recipiantur et reponantur in thesaurum nostrum, qui quidem census secundum consilia dominorum consiliariorum notsrorum pro communi vtilitate terrestri debent conuerti; nulla vero necessitate imminente dicti census sine voluntate ipsorum dominorum per nos do thesauro tolli et recipi non debent, aut ex prouincia educi.

24. Item jura saecularia non debemus inducere aut intromittere in jura spiritalia et e conuerso jura spiritalia seu caussas pertinentes ad ius spirituale, ad jura saecularia non ducere neque euocare, omniaque tenere ex antiquo, sicut erat viuente patre nostro.

25. Item plebeios super nobiles non debemus extollere, sed totam nobilitatem conseruare in sua honestate.

26. Item super districtus et tributarios debemus mittere binos et binos dominos singulis annis pro exigendis tributis et reliquiis, in vulgari *niedobirkow*, et ipsi domini obuentiones eis concernentes debent recipere et etiam ipsorum seruitores, sicut fuit ex antiquo apud antecessores nostros.

27. Item quicunque in vita genitoris nostri super iuribus suis et iustitia ministranda postulabant, illis volumus et debemus cum dominis de consilio nostro aequitatem facere omnimodam sine dilationibus.

28. A iure etiam nihil debemus accipere simul et domini consiliarii nostri nec stare ad vnam partem ex fauore, sed simpliciter cuilibet iustitiam facere et noscere seu ministrare.

29. Item si quando aliquorum caussae graues super bonis hereditariis vel famae seu honoris derogatione coram nostra serenitate venerint, omnibus iustitiam facere debemus. Et dum contingat nos protunc negotiis arduis occupari, caussis talibus per annum concedimus et statuimus quattuor terminos; et si in primo, secundo vel tertio termino in huiusmodi caussis finis non fuerit factus, vltimo adueniente finalem iustitiam sine dilationibus cum dominis de consilio nostro faciemus.

30. Item a consanguineis et propinquis bona hereditaria alicuius non redimemus, neque ea aliquis redimere debet in praeiudicium ipsorum consanguineorum et propinquorum, sed solummodo iste, qui propinquior exstiterit, repositis pecunijs bona hereditaria obtinebit et possidebit.

31. Item si aliqua virgo aut vidua voluerit nubere ad alienas partes extra Magnum Ducatum Lituamae etc. expeditione ac dote recepta bona hereditaria hic relinquat, ad eaque intromittere se non debebit.

32. Item nou ssime omnes litteras, priuilegia, gratias et immunitates, ecclesiis cathedralibus, collegiatis, conuentualibus et parochialibus, praelatis, principibus, baronibus, nobilibus, boiaris et ciuibus in terris Magni Ducatus Lituaniae, Russiae et Samogitiae etc. nostris, sub quibuscunque condicionibus, statutis, punctis, articulis seu sententijs per serenissimos et illustrissimos olim dominos Vitoudum, Sigismundum, regem Wladislaum nostrum auum, et progenitorem nostrum carrissimum regem Casimirum, magnos duces Lituaniae, antecessores nostros datas et concessas, patrocinio praesentis nostri priuilegii innouantes, confirmamus, roboramus, approbamus, gratificamus et ratificamus, decernentes ipsas perpetuae firmitatis robur obtinere.

33. In omnibus vero caussis et disceptationibus tam pro bonis hereditariis, quam honoris et famae ct aliis grauioribus, in quibus, sicut superius expressum est, si praeuenti negotiis publicis in primo termino finem non fecerimus, positi sunt et assignantur quattuor termini per annum, et si quis in quarto et finali termino non compauerit, caussam amittat sententiaque feratur pro illo, qui se in termino sistet: excepto, quod aliqua partium nostro seruitio vel terrestri occupata et retenta, aut aegritudine impedita, comparere non posset, in isto casu, vt



nemini praeiudicium aut iniuria fiat, ad tempus oportunum omnes tales caussas volumus differendas. Quae omnia cum dominis consilii nostri debemus ordinare atque difinire.

In quorum omnium fidem et testimonium praesentes litteras sigillo nostro appenso iussimus communiri.

Datum in Vilna feria secunda ipso die Transfigurationis Domini, anno a Natiuitate millesimo quadringentesimo nonagesimo secundo.

Praesentibus ducibus, praelatis, baronibus Magni Ducatus nostri Lituaniae et signanter reuerendo in Christo patre, domino Alberto episcopo Vilnensi, magnifico ac generosis Nicolao Radwilowic, palatino Vilnensi et cancellario nostro, Petro palatino Trocensi necnon marsalco terrestri, Ioanne Zabrzezinski castellano Trocensi ac tenutario in Poloczko, Stanislao Ianowic capitaneo terrae Samogitiensis, duce Alexandro de Holssany tenutario Grodnensi et aliis quam pluribus dignitariis, officialibus et curiensibus nostris, testibus circa praemissa. Commissio propria Domini Magni Ducis.

### *Пераклад*

У імя святой Тройцы і непадзельнага адзінства, амінь.

На вечную памяць аб справе.

Усё, што робіцца ў часе, знікае ў памяці людзей разам з часам і да ведама будучых не дойдзе, калі не будзе запісана. Чаму мы, Аляксандр, з Божай ласкі вялікі князь літоўскі, жамойцкі, а таксама зямель Русі гаспадар і наследнік, прыняўшы пад увагу сталую вернасць найпачцівых, пачэсных, яснейшых, святлейшых, вяльможных, дабрародных, шляхетных і выдатных духоўных прэлатаў і свецкіх князёў, паноў, баяр і мяшчан зямель Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і інш., якую яны маюць на справе да нас, да нашай светласці як да праўдзівага і законнага спадчынніка і натуральнага гаспадара і заўсёды імкнуцца ў будучым пэўна трымаць яе, пасля таго, як гэта добра падмацавана іх дзейнасцю, мы палічылі вартым, каб узнагародзіць іх узаемна за гэта дарамі і вольнасцямі і іншымі нашымі міласцямі. Па-першае, названым вышэй прэлатам, князям, баронам, нобілям і мяшчанам названых зямель Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага мы далі, дазволілі і беззваротна даравалі і гэтым лістом даём, дазваляем, даруем і саступаем на вечнасць, цалкам і поўнасцю, тыя правы, вольнасці і палёгкі, якія маюць прэлаты, князі, бароны, нобілі і мяшчане Польскага каралеўства. Але, каб з гэтай агульнасці не магла вынікнуць якая-небудзь двухсэнсоўнасць або сумненне ў будучыні, то самыя вольнасці і кожную з іх мы ўхвалілі падаць тут у наступным.

1. Па-першае, усе даніны, прывілеі і палёгкі цэрквы кафедральныя, саборныя і манастырскія ў землях нашых Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, якія пабудаваны і будуць пабудаваны, фундаваны і будуць фундаваны, мы захоўваем непапсутымі і непарушнымі і падтрымоўваем і абараняем са ўсёй нашай уладай. А калі якія-небудзь цэрквы кафедральныя, саборныя, манастырскія і парафіяльныя з працягам часу з прычыны смерці або паводле рэзігнацыі будуць вакантнымі і пазбавяцца пастыра, між тым права патранату над імі належыць нам або наследнікам нашым цалкам, то мы абавязваемся не іншага або не іншых прэзентаваць да іх, а тубыльца нашага Вялікага Княства Літоўскага, які будзе знойдзены падыходзячым, а калі не, то персону іншай нацыі, карысную і чэсную, якая будзе стаяць на чале і прыносіць карысць. Мы абавязваемся прэзентаваць столькі разоў, колькі будзе патрэбна і выгодна.

2. Мы таксама далі і тое, што не жадаем абмяжоўваць названых прэлатаў, князёў, баронаў, нобіляў і мяшчан вызначаных зямель Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага або спаганяць якое-небудзь пакаранне, як пазбаўленне добраў, грашовыя штрафы, турма, або кара смерцю паводле даносу ніводнага чалавека, або паводле абвінавачвання публічнага ці тайнага, або хаця б і па сур'ёзным падазрэнні саміх гэтых князёў, баронаў, нобіляў і мяшчан, пакуль спачатку на адкрытым судзе з захаваннем каталіцкага прававога парадку будзе ўстаноўлены персанальна ісцец і вінаваты. Пасля суда і гэтага абвінавачвання, згодна са звычаем і правамі як у Польскім каралеўстве, яны павінны будуць панесці пакаранне паводле судовай ухвалы, у залежнасці ад велічыні і якасці сваіх учынкаў.

3. За злачынства не будзе пакараны ніхто іншы, як толькі той, хто саграшыў і правінаваціўся, пасля таго, як ён будзе высведчаны з захаваннем парадку каталіцкага права і абвінавачаны судовай ухвалай. Пры гэтым ні жонка не нясе спагнання за злачынства свайго мужа, ні бацька за злодзейства сына і, наадварот, ніякі крэўны ці слуга, калі толькі ён не быў удзельнікам у злачынстве, аднак за выключэннем абвінавачванняў у злачынстве зневажэння вялікасці.

4. Таксама згаджаемся на тое, каб вышэйвызначаныя князі, бароны, нобілі і баяры карысталіся неабмежаванай вольнасцю выхаду з нашых зямель Вялікага Княства Літоўскага і інш. для шукання лепшай фартуны і практыкавання ў вайсковых занятках у якія-небудзь чужаземныя краіны, толькі за выключэннем краін нашых ворагаў, аднак з тым, каб з добраў гэтых самых выходзячых не занепадалі нашы службы, але каб нам ці наследнікам нашым, як бы ў іх прысутнасці, што належыць было кампенсавана, выканана і адслужана.

5. Вышэйвызначаныя князі, бароны, нобілі і мяшчане бацькоўскія добры або ім самім наданыя ці падараваныя праз святлейшага гаспадара святой памяці Аляксандра, інакш Вітаўта, і іншых, і наданні, атрыманыя і зацверджаныя праз святлейшага гаспадара Жыгімонта і іншых, няхай трымаюць і карыстаюцца і валодаюць імі паводле данін, калі дакладна давялі гэта судовым рашэннем, або адпаведным пасведчаннем сведкаў, або праз падмацаванне лістамі. Няхай трымаюць іх па аднолькавым праве, як звыклі ўладаць князі, бароны, нобілі і мяшчане Польскага каралеўства, і маюць неабмежаваную вольнасць продажу іх, замены, адчужэння, падаравання і распараджэння, паводле сваёй добрай волі, з тым, аднак, каб гэтыя абмены, продажы, адчужэнні або падараванні абвяшчалі перад намі ці перад нашымі ўраднікамі.

6. Таксама пасля смерці бацькоў дзеці мужчынскага і жаночага полу не павінны пазбаўляцца добраў бацькоўскіх, спадчынных, але са сваімі законнымі наследнікамі вало-



даць імі з поўным правам, як валодаюць князі, бароны, нобілі і мяшчане Польскага каралеўства сваімі добрамі і карыстаюцца імі паводле сваёй добрай волі.

7. Ухваляем, што калі якому-небудзь з вызначаных князёў, баронаў, нобіляў і мяшчан здарыцца адысці з гэтага свету, то адгэтуль удава застаецца на добрах або пасесіях свайго мужа, пакуль сядзіць удавой. А калі яна пажадала б узяць шлюб у другі раз, то яна выдаецца замуж; на добрах жа і пасесіях бацькоўскіх застаюцца дзеці, калі яны будуць, а калі іх не будзе, то самыя бліжэйшыя кроўныя першага яе памерлага мужа, падобна таму, як бяруць шлюб удовы ў Польскім каралеўстве. Калі ж першы муж вызначыў на пэўных добрах і сваіх пасесіях некаторае вена гэтай сваёй жонцы і яна здолела дастаткова падмацаваць гэта, то паводле парадку права, узяўшы гэта, няхай аддае, з Богам, каму пажадае.

8. Таксама сваіх дачок, сясцёр і ўнучак, дзяўчын і ўдоў маюць волю выдаваць замуж без усякага запытання на гэта ў нас або ў нашых наследнікаў, захоўваючы пры гэтым каталіцкі рэлігійны абрад.

9. Усе разам і кожны паасобку з кметаў і падданых князёў, баронаў, нобіляў, баяр і мяшчан самых зямель Вялікага Княства Літоўскага павінны быць вольны, поўнасцю вызвалены і выключаны ад усёй даніны, падатку або спагнання, названага *сярэбшчына*, а таксама мер, якія называюцца *дзякла*, ад усякага цяжару падаткаў, якія называюцца *падводы*, ад пастаўкі на замкі камення, дрэва на пабудову або дроў на выпал цэглы ці вапны, ад кашэння сена і ад іншых, яшчэ менш законных работ. Аднак работы па пабудове новых замкаў і направе старадаўніх выключаюцца. Роўным парадкам выключаюцца кметы і падданыя тых князёў, баронаў, нобіляў, баяр, якім яны нададзены намі або падараваны. Старасвецкія і здаўна звычныя грашовыя складчыны, стацы, пабудовы новых мастоў, рамонт старых і рапарацыю шляхоў мы захоўваем як выключэнне і ўхваляем, каб гэта існавала назаўсёды.

10. Што датычыць нас і нашых ураднікаў, то мы не будзем прымаць людзей названых князёў, баронаў, нобіляў і мяшчан зямель нашых Літоўскіх, Рускіх, Жамойцкіх і інш. як трыбутарыяў, арыгінарыяў і кметаў, набытых пакупкай, якога б роду і стану яны ні былі, і забараняем каб іх прымалі нашы ўраднікі. Таксама і прэлаты, князі, бароны, нобілі, баяры і мяшчане Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і інш. не павінны прымаць людзей нашых і нашых наследнікаў, якога б яны ні былі становішча, роду і стану, і няхай і ўперад не прымаюць іх ні самі, ні праз якога-небудзь свайго ўрадніка ніякім спосабам.

11. На слуг названых князёў, баронаў, нобіляў і баяр мы не дамо дворскіх служачых, інакш *дзецкіх*, калі раней не будзе заклікана ўправа з боку гаспадара, слуга якога зрабіў учынак. А калі ў пэўны тэрмін ён адмовіцца ўчыніць гэта, тады будзе накіраваны наш прыдворны служка або асоба з нашых ураднікаў, і вінаваты, які варты спагнання, павінен будзе выплаціць яго свайму гаспадару і нікому іншаму.

Апрача таго, жадаючы спецыяльна адплаціць названым прэлатам, князям, баронам, нобілям, баярам і мяшчанам за наша абранне, каб яны былі ўсцешаны новымі міласцямі, дазволамі і вольнасцямі, і прывабіць да ўзнаўлення ўстойлівасці ў іх вернасці, мы гэтым лістом, па адзінай міласці нашай і дабраце, саступаем ім наступнае, што запісана ў гэтых артыкулах.

12. Перш і пераважна мы абяцаем і ручаемся, што даміній або землі Вялікага Княства Літоўскага мы не паменшым, але іх павялічым у сваіх межах. Як нашы продкі і, у прыватнасці, князь Аляксандр, інакш Вітаўт, і Жыгімонт трымалі і валодалі, так і мы іх у цэласці будзем трымаць, валодаць і захоўваць і, з Божай дапамогай, паклапоцімся ўсімі нашымі сіламі іх пашырыць і павялічыць у адпаведны час.

13. У справах публічнага дабра гэтага Вялікага Княства нашага мы абавязваемся пасылаць веснікаў ці пасланцоў пры неадкладнай у гэтым неабходнасці, паводле рады нашых паноў, да замежных краін, як Масковія, Заволжская Арда і Перакопская Арда, Валахія, Польскае каралеўства, Мазавецкае княства, Прусія, Лівонія, Пскоў, Вялікі Ноўгарад, Твер і Разань, згодна са звычаем, які захоўваўся нашымі папярэднікамі, а таксама і да іншых некаторых правінцый, куды запатрабуе неабходнасць і выгада даміній нашага Вялікага Княства Літоўскага. Таксама, з якімі землямі і дамініямі мы здаўна маем запісы, канфедэрацыі, саюзы і клятвенныя абавязацельствы светлага міру, мы іх не жадаем разрываць, але, з Божай дапамогай, будзем даводзіць іх да лепшага становішча і павелічэння.

14. Усе нарады і суды, якія мы з нашымі панамі радай вырашылі, ухвалілі і заключылі, ні з кім іншым абавязваемся не змяняць, выпраўляць або пераўпарадкаваць.

15. Таксама, калі б якія-небудзь пастановы і справы былі перададзены для абмеркавання ў раду з нашымі панамі і самім панам не спадабаліся, то за гэта мы не павінны на іх гневацца, але будзем мы выконваць тое, што яны радзілі нам, дзеля нашай агульнай карысці.

16. Годнасці, дзяржавы і ўсе іншыя ўрады ці добры спадчынныя мы абавязваемся не раздаваць нікому з чужакоў ці іншаземцаў, але толькі прыродным жыхарам. Ад правізіі ж, датацыі і каляцыі духоўных і свецкіх годнасцей, дзяржаў і ўсякіх урадаў мы абавязваемся нічога не вымагаць, нават і самі паны ваяводы і старасты павінны ад ураднікаў і дзяржаўцаў нічога не браць або вымагаць, хіба што кім-небудзь нам або ім будзе свабодна падаравана ў адзнаку пашаны.

17. Усе ўрады і дзяржавы без парады з нашымі раднымі нікому намі не будуць раздавацца. Калі ж хто з ураднікаў будзе перад намі абвінавачаны як разбурыцель і марнатаўца нашых дабраў, то перад намі павінен быць пастаўлены другі бок і, пасля заслухоўвання справы, вінаваты павінен быць пакараны па заслугах. Але без віны мы не маем права пазбаўляць яго пасады.

18. Ваяводы, старасты, дзяржаўцы, ураднікі і ўсе намеснікі ў нашым Вялікім Княстве застаюцца з поўнай пашанай і правамі на сваіх дзяржавах, як пры нашых продках вялікіх князях Вітаўту і Жыгімонту і пры нашым бацьку, і няхай іх трымаюць і захоўваюць, няхай судзяць і ўпраўляюць, спагаюць падаткі і свае даходы, як здаўна, і няхай іх служкі вы-



***Роздел четвертый. О поглаве женской и о выправу девок.***

<1>. Естли бы хто хотел вено записати жоне своей.

Теж уставуем: естли бы хто хотел вено жоне своей записати, тогды маеть ошацовати вси именья свои и на третей части, чого стоит, маеть совито противко внесеня записати вено жоне своей так, як бы сума не переносила тое третее части, чого стоит. И кгды будет тая жона его на третей части именя вено описано от него мети, а он потом умрет, а дети по собе оставит, а тая жона потом за другого мужа пойдет, а дети усхотят ли ее с тое третее части за живота ее вывеновати, тогды мают ей всю суму пенязей, як будет в листе описано, заплатити; тож тое именье к своим рукам мети. Естли ж бы дети будуть ждати смерти матки тое своее, а того именья за живота ее з ее рук не всхотят выкупати, тогды повинни будуть толко унесене ее, которую суму пенязей внесла в дом их, по смерти ее заплатити тому, кому она отпишет; а привенку, што будет записал отец их напротивку внесеня ее совито, того не повинни платити; а она теж не мает никому привенка отписывати, кром волна будет отписати внесене свое. А естли бы тот муж детей по собе не оставил, тогды близкий в том по тому ж мают справовати. А волно теж будет мужу отписати жоне своей вси свои рухомые речы, злото и сребро, шаты и иншые речы, кром зброи а стада, и челеди неволное, и быдла дворного третюю часть, бо то не ест реч рухомая, але при именьи лежачое. А так подле тое уставы нашое мают заховати вси подданые наши и на потомные часы. Хто бы назвыш тое уставы нашое вчинил а што неслушного жоне своей записал, таковых записов не хочем моцне мети мы сами и потомки наши великие князи. А вшак же, естли бы хто с подданых наших хотел дочку свою дати за кого и за нею мел дати которую суму пенязей, тогды первей мает смотрети, естли бы того зятя его стояла третяя часть именя совитое сумы пенязей, на чом бы мел веновати тую дочку его; пак ли бы третяя часть именья его тое сумы пенязей совито не стояла, тогды он нехай купившы за тые пензи имене и по той дочце своей зятю своему дасть; пак ли бы он предся тую суму пенязей зятю своему дал, а он дочки его веновати не будет на чом мети, таковый пензи свои тратить.

1. О вдове, которая зостанеть на вдовьем столцы, а будеть венована от мужа своего, маючи детей лет дорослых.

Вдова, которая седит на вдовем столцы, а будет ли венована от мужа своего, а сынове маеть дорослые, тогды маеть осести толко на вене своем, а сынове мають припущоны быти ко всим именям и скарбом отцовским, которые мають службу земскую заступати. Пак ли не венована будеть от мужа своего, тогды мает во всем ровную часть от детей дорослых лет своих мети в скарбех и в именях рухомых и лежачих.

2. О пустыи вдовы, которыи детей не мають.

Вбачивши есмо то, иж которые вдовы пустые седять на вдовъемъ столцы, много ся от них шкоды дееть речи посполитой, а то тым, иж не бывають службы служоны так, яко бы мели быти, и тэж ближним много именя утрачають, уставуем так, яко нижей написано: а которая вдова пустая, детей не маеть, а будет ли венована от мужа своего, тогды маеть толко на вене осести, а именя вси мают на ближние спасти; а естли бы не была венована от мужа своего, тогды маеть на третей части седети, поки замуж пойдеть; а естли замуж не пойдеть, тогды маеть таки до живота на третей части седети, а на ближние все имене маеть прийти, а они мают службу нашу господарскую заступати.

3. Естли бы которая жона за мужом была и дети мела, а вена оправеного от мужа своего не мела.

Естли бы которая жона за мужом была, а вена оправеного не мела, а мела бы с ним дети, а муж бы от нее вмер, а она бы по мужу своем вдовою зостала, тогды ровную часть маеть взяти межи детми своими в именях и в скарбех, а на оной части своей, естли бы вдовою хотела седети, маеть до смерти седети, а от детей не маеть з оное части рушона быти; а естли бы она хотела замуж пойти, тогды тую часть свою мает детем зоставити, а дети ей венца не будуть повинни дати.

4. О мачосе, которая будеть мети дети з двема мужи.

Тым же обычаем и мачоха естли дети мела из своим мужом, тогды маеть с первыми из своими детми во всем имени также ровную часть мети и в скарбех. Пак ли бы мачоха не мела детей с тым мужом своим, тогды маеть также с первыми детми в имени часть ровную мети, а в скарбех детиных не маеть мети, кром толко свое принесеное маеть з собою мети або што муж ее особливе з ласки дал рухомых речей. А на той части и мачоха маеть з детми до живота седети, а естли бы замуж не шла. Пак ли бы замуж пошла, тогды тую часть маеть детем зоставити, а дети ей венца не повинни будуть дати той, которая вена от мужа своего записаного не будеть мети.

5. Естли бы жона пустая была, детей не мела, тогды маеть седети на вдовьем столцы на третей части до живота.

Тэж естли бы жона пустая была, не мела детей аки оправы от мужа своего, тогды мает седети на имени толко на третей части, а две части именя мають быти на близких. А она маеть седети на третей части до живота своего; а по животе ее и тая третяя часть именя маеть прийти на близких. А пак ли бы замуж пошла, тогды маеть именье, на чом была, близким заставите.

6. Жона из детми малыми по смерти мужней маеть седети на вдовьем столцы до лет детиных; естли ж ся не будеть добре справовати, близкие мают того ей боронити правом.

Тэж уставуем: естли бы который муж, сходячи с того света або через тастамент, полецал дети свои и именя кому-колвек приятелю своему, хотя бы обчому, хотя бы на кого опека слушным правом прирожоным не прислушала, тогды оный маеть в опеце мети имене и дети его, а жона маеть толко на вене своем седети. Пак ли бы который отмер, детей своих не полецывши никому, тогды жона маеть дети ховати и на всем имени седети на вдовъем столцы до лет детиных. А естли бы дети узросли, тогды маеть детем имене спустити, а сама на вене до живота седети. А естли бы вена не мела, тогды маеть ровную часть взяти межи детей своих. А естли бы одного сына мела, тогды маеть сыну двух частей именя поступите, а сама маеть зостати на третей части. А естли бы жона маючи дети в опеце своей а пошла замуж, тогды ближние



мають опекатися детми и именем. А ближние не мають ее стискати з ыменя веновного, аж олиж дети доростуть лет своих, тогды дети мають ее скупати, естли бы замуж пошла. А естли бы которая жона, седечи на вдовъем столцы з детми своими, хотя бы веновна або не веновна, а замуж не хотела пойти, а, седячи вдовою, именя и скарбы утратила, люди розогнала, серебщизны и вины на себе брала а тые бы именя пустошила, тогды мают стрыеве, а не будет ли их, ино близкие, позвати ее на роки зложоные перед нас, господара, або перед панов рад, и таковые мають утраты на нее доводити. И естли того доведуть, тогды мы, господар, маем або панове дети и именя в нее з рук выняти и подати в опеку стрыем або близким для ее выступу. А она, естли будет венована, маеть зостати толко на вене своем. А естли бы ей вена не было, тогды мають ей ровную часть межи детей выделити; и маеть мешкати на той делницы до живота своего; а по животе ее и тая часть маеть на дети прийти. А пак ли бы стрыев або близких оных детей не было, тогды мы, господар, або панове мають кого обчого доброго чоловека к тым именям в опеку установити, который бы ее и вси именя, и дети в опеце мел и не допускал именя и скарбу тратити, поки дети ее лета свои будуть мети.

7. О выправенье девок замуж и за живота отцовского и по смерти отцовской.

Тэж уставуем, иж который отец або матка умреть, а дочку свою при своем животе замуж выдасть, а иншии по собе оставить, што будеть выправы за первою дочкою дали, толко ж мають дати и другим девкам. А хотя бы и не выдали дочки при своем животе, леч бы толко выправу записали, тогды мают так выданы быти, яко отец або матка записали. А естли бы выправы не дали ани тэж, умираючи, записали, тогды то прето судьи все имене на суму пенязей ошацовати, и за што станеть четвертая часть, хотя много сынов а одна девка, тогды маеть то ей дати выправы, чого четвертая часть стоить. Хотя тэж один сын, а много сестр, тогды тэж на вси сестры маеть четвертая часть шацунку розделити и кождой выправу ровную с тое четвертое части маеть дати.

8. Отец маеть от зятя наперед оправити вено, нижли дочку свою замуж выдати.

Тэж уставуем: естли бы хто дочку свою выдал замуж, тогды ей маеть первей вено оправити. А естли бы хто дочку выдал замуж, а вена ей не оправивши, тогды тая девка не маеть венца мети.

9. О девки, которые будуть выдаваны до чужое земли.

Тэж уставуем: которую бы девку отец або матка дали до чужое земли з Великого Князьства Литовского до Полщи або до Мазовш, або до которое-колве земли, маючи дедизну або отчизну, або материзну свою, и мела бы тая девка в себе братью, а не было бы братьи, толко сестры, тогды тые братья або сестры мають ошацовати тые именя и пенезми ей заплатити, чого тая часть ее стояти будеть, а тую отчизну або дедизну именя властность ее мають тые братья або сестры ее ку своим рукам мети. А естли бы тэж братьи або сестр в нее не было, толко братья стрыечная або иншие которые близкие, тогды тые близкие або братья ее мають также ей за именя заплатити, чого именя ее стояти будуть, и до ее земли, где она пошла, в посаг то дати, яко иншим девкам посаги дають у Великом Князьстве Литовском. А тые именя тое девки, отчизна або дедизна, мають прийти на тых братью або на сестр, або на которых-колве близких ее, которые бы выправу за него вчинили. А тая девка и муж ее к тым именям дедизным або дедизным и отчизным вжо прийти и жадное близкости к тому мети не могуть.

10. О девки, которыи без воли отцовское и матчины засядуть замуж своволне.

Тэж естли бы дочка без воли отцовское або матчины засела замуж, таковая отпадываеть от посагу отчизного и материстого и именя материстого; а естли бы одна у-в отца была, тогды отчизна на близких спадываеть мимо таковую дочку.

11. О девки, которые по смерти отцовской и матчиной, не доросши лет своих, без воли стрыев и братьи замуж пошли.

Естли бы девка зостала без отца и матки и ещо не маючи дорослых лет, а пошла без воли стрыев або братьи своее замуж, тогды таковая отпадаеть от именя своего. А естли бы она мела лета свои, а братья або сестры ее задержали а не хотели бы ее замуж выдати, тогды однако своволне не маеть ни за кого ити, леч мает ся втечи до иншйх кровных своих або до враду, а врад або кревные ее мають дозволити ей замуж пойти. А она з волею враду або близких своих замуж пойдеть, тогды таковая именя не маеть тратити; а без воли враду або близких своих, хотя бы лета мела, замуж пойдеть, тогды именя тратить.

12. О спадок и именья отчизного и материстого.

Тэж уставляем, иж коли бы было неколко братьи и сестр рожоных, делных або неделных, а в том бы который брат умер, тогды его делница именя отчизного толко на братью приходить. А естли бы имене пришло которым-колве спадком материстое, тогды сестра промежу братьи ровную делницу того именя маеть мети, а с отчизного выправа.

13. Хто бы отца або матку вдарил, чим маеть каран быти.

Тэж уставляем: естли бы сын отца вдарил або зсоромотил, або которые втиски або перенагабане ему вчинил, тогды отец может от таковогo сына всю его отчизну отдалити. А естли бы отец сына от отчизны отдалил, а иншйх сынов в себе не мел, тогды именя две части не маеть обчим ни отдалити ани продати, леч толко тые две части мають прийти на ближних, а третюю часть можеть, где хотя, там обернути. А и матка под тым же обычаем, естли бы сын або девка матку зсоромотили, тогды также матка можеть отдалити от своее части от материстого. А веджо тастаментом не маеть отец и матка сына и дочки от очизны отдалити, леч пришодчи перед нами, господарем, або перед врадником поведити и дати на него слушные причины, тож маеть за его выступ злый записом от именя отдалити.

14. Хто бы мел дети з двема або зс трема жонами.

Тэж уставуем: хто бы мел с первою жоною дети, а потом, кгды жона умреть, а он поиметь другую, также дети мети будеть, тогды дети яко первое жоны, так и другое, и третее, и четвертое, и колко их мети будеть, ровную часть во всих именях его, яко в отчизне, у выслузе и в купли мети будуть.



15. Княгинь, паний вдов и девок не мають ни за кого кгвалтом давати, кром их воли.

Тэж обецуем и прирекаем з ласки и щедротливости нашое господарское, иж маем мы сами и потомки наши княгинь, паней вдов, княжон, панян и девок заховати при волностях их, а кгвалтом ни за кого их не маем давати без их воли; нижли кождой з них с порадою приятелей своих, за кого хотя, за того волно пойти.

<16>. Естли бы которая вдова замуж пошла.

Теж уставуем: естли бы которая замуж пошла, а первей, будучи за первым мужом своим, вена оправеного от мужа своего мела, тогды вжо от другого мужа не мает вена записаного мети. Нижли естли бы тот другий муж ее умер, а детей по собе оставил, тогды она маеть межи детми ровную часть узяти и на ней до живота мешкати. И естли ж детей не будет мети, тогды от ближних мает зостати на вдовем столцы на третей части, а по животе ее и тая часть мает на близких прийти.

<17>. Естли которая вдова по смерти мужа своего зостанет без детей, не повинна отказывати в суду до году жадных речей.

Теж уставуем, иж которая вдова по смерти мужа своего зостанет без детей або з детми малыми або дорослыми нелетными, не повинна будет отказывати в суду по смерти мужней до году в жадных речах.

### *Роздел пятый. О опекунех.*

[1]. Опекун, яко прирожоный, так уставленый, што бы за омешканьем детем впустил, дети, доросши лет, мають правом поискивати.

Коли бы опекун, так прирожоный, яко уставленый, омешканем своим за непослушенство што упустил детем в молодых летех, тогды тые дети, дошодчи лет зуполных, могут ся своего правом дойскивати на том, хто бы тое имене держал, нижли бы толко, дошедчи лет зуполных, давности земское не омешкали.

[2] 1. Опекун моцон кривды детиное у права дойскивати, а не моцон потерати.

Коли бы хто сиротам а детем, лет не маючим, кривда ся о што-колве стала, тогды опекун именем моцон ест в права того ся дойскивати, але не моцон ничого детиного стратити, бо естли бы он што стратил, тогды дети, коли доростуть лет своих зуполных, могут ся дойскивати подлуг того, яко у вышшом артыкуле. Тэж волно им будеть, коли доростуть лет зуполных, о всякие кривды, которые бы опекун у права ничого не вчинил, перед врадом своим доходити, толко бы, доросши, давности земское не омешкали.

[3] 2. Хто бы детей до суда позвал, лет не маючих, дети не повинни до лет своих отказывати, а суд маеть то им отложити до лет.

Коли бы хто детей, лет не маючих, до суда позвал о имення как отчизну, материзну, и о кyпленину, и о выслугу, тогды уставляем, иж тые дети ани опекун не будут повинни отказывати в суда, але суд выроком своим маеть тую справу до лет детиных зуполных отложити и завесити. Которые ж дети, коли лет своих зуполных доростут, будуть повинни о тое в суда стороне, которая жалуеть, коли будеть врадне ку тому позвал, жадною давностью для так долгого молчанья не обываючи отказывати, коли бы толко тот жалобных по доиденю лет детиных давности земское не омешкал.

[4] 3. Брат старший, маючи именье брати свое у-в опеце, а они будут ли на службе, части их без бытности их перед правом утратити не можеть.

Тэж уставляем, иж коли бы братья неделные были, маючи лета, а одного бы в имени брата зоставили, а тот брат, которого бы в именьи за болшого поставили, будучи позван на право через которого ж жалобника, которое дело суместное своее и братьи упустил, тогды другая братья его рожоная для небытности своее не будуть моцни того зысканья судового в права потом поправити, але што через брата своего впустили, вечне о то молчати мают. А естли бы брат один лет дорос, а именя его и другое братьи его недорослое пришли з опеки опекуновы в руки его, а хто бы его ку праву в которой-колве речи о имене або о земли припозвал; тогды тот брат, лет дорослый, маеть перед правом отказати, не ждучи лет братьи своее. И што-колве перед правом зыщеть, то маеть з братьею, как лет дойдуть, в ровный дел поделити. Естли ж што на праве впустить, тогды тэж того брати своей сам не повинен оправовати, и тые братья его, лет своих дошодчи, на нем и на том, хто зыщеть, не мають того искати.

[5] 4. Опекун не моцон отчизны детиное продати ани стратити.

Уставляем тэж, иж опекун не моцон ест детиное отчизны продати або яко-колвек стратити, ани тэж того именя их граничити. Бо естли бы инак вчинил, дети, доросшы лет своих, могуть отчизны своее от державцы правом ся дойскивати. А и в том давность земская не можеть им шкодити, коли бы толко, лет зуполных доросши, тое давности, подлуг как который парсуне служить, не омешкали.

[6] 5. Дети, лет не доросши, не мають перед судом отказывати, толко в чотырох речах: о выкупане именя, о паруку отцовскую, о которое дедицство отец за живота право мел и не доконал.

Тэж уставляем, иж дети, лет не маючи, в той молодости их до суда позваны, толко в чотырох речах повинни отказывати: первое, коли бы отец их за доброго здоровья своего которое имене лежачое в пенезех заставным обычаем держал, а ближние тое имене от тых детей выкупити хотели и позвали бы их для того ку бранью пенезей, повинни пенези взяти через опекуна своего а держаня того именя выпускаючому поступите; а другое, коли бы отец их кому ручил о которую-колве реч, а о тую паруку ещо отец их за живота был позван до суда, тогды по смерти отцовой дети, естли бы их тот рукоемца ку вызволеню або до суда позвал, повинни ему отказывати и выбавити его с паруки, лет своих зуполных не ждучи; третее, коли бы отец за живота своего о которое дедицство мел право а не доконал, а умер, тогды дети через опекуна повинни отказывати; а естли бы толко позвы позвал, а в праве не стоял, тогды тая реч маеть отложона быти до лет детиных, а о то не будуть дети повинни отказывати, не маючи лет; четвертое, долги отца своего повинни будуть платити, молодостью лет своих не вымовлячися.



[7] 6. Старший сын, або первородный, который иное имене братьи своее, ему не отделеное, не маеть ничого утратити.

Уставуем тэж, иж старший сын, або первородный, который оным именем суполным братским и своим ся впекаючи, имене братьи своее, ему не отделенных, под которою-колве мерою або хитрстью, або вымыслом каким-колвек, кром части, на него прислухаючое, задолжити, продати, заставити, отдалите и втратити не можеть. Нижли бы долги родичов их, записаные або с права найденые, того потребовали, ку которой потребе старший брат з ведомом, з волею и с порадою старших приятелей дому своего тогды моцон будеть имене братьи своее в пенезех завести а тые долги отцовские або матчины со своих частей мають заплатите с тых же пенезей так, как бы сума пенезей, на имене братское взятая, не переходила сумы долгов родичов их. А естли бы тые долги або некоторый платеж, с права зысканый, малый был, тогды брат старший, осмотревши наперед живность домовую и тутэж иные потребы к домовому господарству слушаючие, с цыншов и з доходов братского именя мает тые малые долги выплатите, а остаток, што бы назвыш было, вернеть братьи свое маеть заховати. Бо естли бы инак то вчинил, мимо тую уставу нашу, тогды таковое кождое имене братское заведене и записы, на то будучие, ни во што оборочаем а не хочем тых записов моцных мети на потом. А тая братья, которым бы имене их таковым иным неслушным обычаем заведено было, коли бы толко, дошедчи лет своих зуполных, давности земское десяти лет не омешкали, могут ся того правом дойскати. А тот, который бы против той уставе нашой неопатрно пенези дал на имене братьи без их всих зуполного дозволенья, на том же старшом брате або на его потомкох маеть их опять правом доходити. А естли бы хто хотя лет дорос, а был на службе в чужой земли або на науце, або в руках неприятелских, а отголь бы приехал, хотя бы и тая десять лет и вышей минула, тым не тратить. Нижли естли бы отголь вышедчи а десять лет минувши, а он не припоминал, тогды тратить.

[8] 7. Которым опекуном дадуть опекунство, яко ся мають в том справовати.

Тэж уставуем: хто бы кому дети або имене свое, або жону свою полецал у-в опеку, тогды тым обычаем опекуны ся мають справовати. Вземши от враду вижа того повету и при нем еще трех шляхтичов, годных веры, с тыми светки мают списати все имене и люди, и доходы, стада, кони, челед неволную и зася скарбы: злото, серебро, клейноты, пенези, перла, шаты, зброи, и вси иные речи рухомые; и от того вижа и от тых бояр-шляхты, годных веры, под печатми их вземши двои рейстра, одны мають в себе заховати, а другие поветови дати, воеводе, старосте, в котором повете. И коли дети лет доростут, тогды мают оные опекунове, подле оных рейстров, все в целости подати и вси поплаты, которые идуть з ыменей, дани медовые и грошовые, што-колве будуть за тые лета собрали, мают детем отдати. А за свою працу, што-колве прийдеть с пашен, з млынов и присудов, то мають собе опекателники на свои пожитки оборочати и службу земскую заступати, и дети живити и одевати. А с которою пашнею, с чим озметь имене, с тым мает предся подати. А серебщизны и вин опекателники и иные пожитки або скарбы потратили або люди розогнали, а то бы на них правом переведено, тогды все подле рейстров з своих имений мают детем наполнити.

[9] 8. В опеце маючи чужое именье, не маеть ничего с него за свою вину платити.

Коли бы хто чужое именье в опеце або в заставе держал, а были бы якие кривды суседские або долги, такеж и о вины господарские або о какие иные права поконан, таковый кождый, будеть муж або невеста, естли б не был на своей властности оселый, в таковых своих речах осужоных на рухомом имени его, а в недостатку на парсуне его маеть быти каран.

[10] 9. Которые екзекуторове и оборонцы, почонши тастаментом справовати и, не доконавши, помрут, могут иншому опекуну тую справу поручити.

Коли бы пригодилося, жебы екзекутарове и оборонцы тастаментов, почавши доводити тастаментов и не доведчи своего тастаменту, а померли, тогды могуть тую справу, водле тастаменту, иному опекуну поручити. Тогды тая моц и справа, которая им была через чиненого тастаменту взычона, на врад приходить; а тот врад, под которым бы ся трафило, мает того тастаменту подле остаточное воли чиненого до конца доводити.

[11] 10. Кому бы за который выступ имене взято, а наперед будеть оправа вчинена жоне его.

Коли бы которому чоловеку земскому о который-колве выступ або за которым правом переведеным имене его дедичное або закупное взято або в долгу подано, або осужоно, а на том бы имени первым записом жона его мела оправу свою веновную слушную записану первей, нижли бы оный виноват зостал с права, тогды тая оправа ее держана маеть быти, окром злодейства, коли бы жона посполу з мужом краденых речей ведома была и з мужом поживала.

[12] 11. Естли бы брат от братьи кому имене записал.

Коли бы который брат одному брату або сестре своей от иншое братьи и сестр своих всю часть именя своего отчизного або материстого в суме пенезей записал, таковый запис не мает быти держан. Нижли пенези тые братья и сестры оному, которому записано, отложивши, имене оное промежку себе мають поделити, коли бы одно давности земское не омешкали десять лет.

[13] 12. Не маеть нихто никому жадного спадку записывати, чого в руках не маючи.

Тэж уставуем: естли бы хто хотел кому записати которым спадком, который бы мел на него прийти, веновное або материстое, або которая-колвек близкость, который бы колвек по ближнем по пустой руце стал, а тот бы ещо был жив, тогды таковогo спадку нихто не можеть записати, олиж бы у своих руках мел. А естли бы хто кому таковый спадок записал або продал, або тэж записал на том которую суму пенезей, таковый запис перед правом не мает держан быти, бо нихто никому не можеть таковогo дати, олиж бы што у своих руках мел. А естли бы оный, хто кому што записал от своих близких, сам наперед умер, однакож тот запис ни во што ма-



ет быти обернен, предся тое прийти мает на прирожоных близких.

<14>. Естли бы хто кому записал имене або землю по своем животе, а тот бы, кому записано, того смерти не дождал и сам наперед умреть.

Теж уставуем: естли бы хто кому записал имене або люди по своем животе, а тот, которому тая реч будеть записана, того смерти не дождал, который то ему будет записал, и сам наперед умер, тогды тот может тую реч может иншому записати, кому воля его будет. Нижли естли бы тот жив был, а он ему записавшы и потом иншому другим записом хотел записати, тогды тот первый запис мает при моцы зостати, а последний ни у-во што мает обернен быти. Так теж хто бы кому имене або люди, або земли продал, а потом тот же иншому продал, тогды, хто первей купил, тот мает то одержати; а тот, который опосле купил, мает пенязей своих на истцех смотрети.

<15>. Хто-колве на которую реч доброволне запис дасть, тот мает при моцы зостати запис.

Теж уставуем: естли бы хто кому записал на которую реч доброволне дал под печатми своею и людми добрыми подле обычая права, кождый таковый мает при таком записе зостати; а тот запис кождый моцон у права мает быти захован.

[14] 13. Хто бы под ким искал близкости, а тот бы держал имене записом слушным.

Коли бы хто именя под ким искал близкости своее, а тот бы, под ким ищеть, держал тое имене записом слушным описано, а поведил, иж не одно ему, але иншим тым же записом именя суть описаны, тое имене держал и рек бы: «Прото я без них о тот запис не хочу отповедати», тогды тот, хто именя ищеть, мает оных всих припозвати, которым запис служит. А до того-таки маеть тое имене держати тот, кому записано, поки ся право промежку всими не преточи, на которых тое имене за тастаментом прислушаеть.

[15] 14. Хто маеть моц и не маеть о речах своих рухомых тастаменту чинити.

Тэж уставляем, иж кождая парсуна не волна и не моцна будеть о речах своих тастамент вчинити, окром тых парсун, нижей писаных, которые парсуны, прото ж, иж подле права не мають ничого своего волного тастаментом никому отдати. Напервей, дети, лет зуполных не маючи; законники, будучи в законе привилеваном, принявши, потвердившися в законе; сынове, з отцом неделным, окром речи набытья своего властного або выслугу; в чужую моц составлены, то ест тот, кого бы кому выдано зь его статки; шалени, кацери, неволники, от розуму отходячи; а веджо тые, коли к собе прийдуть, моцны с тастаменты своими чинити.

[16] 15. О тастаментах на рухомыи речи, яко мають чинены быти.

Коли бы хто на речи свои рухомые або на имене, на куплю, хотел тастамент вчинити, тогды таковый, хотя бы тэж немоцон был, коли бы толко был при доброй памяти, моцон будет речи свои, имене купленое таковое отказывати, куды хочеть, так духовным парсунам, яко и светским, призвавши к тому каплани або иные светки, або люди, веры годные, або тэж явного писара присяжного. А коли сам потом умреть а тую волю свою остаточную смертью потвердитъ, а хто бы и печати не приложил, таковый тастамент маеть при моцы зостати. А пак ли бы хто по вчинени тастаменту и жив зостал, волно будеть кождому кождый тастамент свой, колко кроть хочеть, толко кроть отменить. А остаточным с тых всих тастаментов смертью потвержоный, врадовне вчиненый кождому врадом маеть при моцы зостати. А имене куплю тастаментом, яко и рухомую реч, кождый можеть отдалити и продати, кому хочеть, так. Нижли хто бы хотел куплю на церков записати, тым обычаем: которые-колве духовные тое имене будеть держати, толко маеть с того именя службу земскую конно а збройно служити, водле уставы и вфалы земское. Вжо от того часу уставуем, иж хто бы записал имене на костел, тогды с того именя так же маеть служба быти, яко и первей была. А естли бы хто перед врадом або перед светками, веры годными, отписал третюю часть записом именя або куплю, або которую рухомую реч, а хотя был жив, тогды вжо таковый запис маеть держан вечне быти; а оный вжо другий раз отозвати ани кому иншому оное речи записывати а по вторый раз не можеть.

[17] 16. О светкох, который мають быти при справени тастаментов.

Тэж уставуем: при тастаментах мають быти светки, веры годные а неподозреные; просто тые светки, нижей написаные, светки быти не могуть напервей, тые, которые тастаментов своих чинити не годны; тэж и невесты, екзэкуторове або опекунове того ж тастаменту; также тэж тые, которым в том тастаменте што отписано.

<20>. Отец и матка не повинни детем з мушенья имений записывати при животе своем, нижли по доброй воли.

Теж уставуем, иж отец за живота его детем своим з мушеня не повинен именя жадного поступати, нижли по доброй воли может части его ему поступити або што воля его будет; также и невеста, которая будет именя свои отчизные або материстые мети, также з мушеня не повинна за живота своего детем поступати, але по доброй воли может поступити, што воля ее будеть.

### *Роздел шостый. О судьях.*

[1]. Абы судили правом писаным; а естли бы судил иначей, маеть каран быти.

Тэж уставуем, иж кождый воевода наш и старость, и маршалок земский, и маршалок дворный, и державцы наши кождый у своем повете не мають подданых наших иначей судити и справовати, леч тыми писаными правы, которые всим подданым нашим Великого Князьства дали. Естли бы которой стороне сужоной в том кривда ся видела, жебы не подле того права писаного сужоно, тогды, коли мы сами, господар, со всими паны радами нашими, а без бытности нашое панове рада наша будуть где-колве на первом сойме, оный, которому в том кривда будеть, маеть о том на того пана, врадника нашого, нам або паном радам нашим жаловати. Мы або панове рада наша мають книги того права писаного отворити и того смотрети: естли бы оное право так, яко ест у тых правех выписано, тогды тот суд предся маеть держан быти водле сказаня оного врадника нашого. Пак ли ж бы тот



суд иначей был сужон, не так, яко ест в книгах писаного права выложоно, тогды мы або панове рада наша мають книги отворити водле тых прав писаных, которые есмо всей земли дали, сказане вчинити. А естли бы оного судью узнано, иж не подле права писаного сказал, а оный што будеть в том шкодовал, тогды тот, который не подле права сказал, мает ему шкоды и наклады оправите а тот суд ни во што обернути. А кому будеть присудил судья або на ком будеть што взято, то ему мает вернути без доводу; а што бы шкодовал в накладах, в стравах, на што слушный довод вчинить або присягнет, тот судья маеть ему заплатити. А естли бы судья добре судил и сказал водле тых прав писаных, а он ему пригани л, тогды тот маеть ему заплатити за тую легкость дванадцать рублев грошей. А веджо который бы колве з державец наших в таковой речи был обвинен, таковый кождый мает припозван быти перед воеводу повету своего и будеть повинен суд свой отказати. А естли бы хто с панов рад наших, воевод и старост, которые не суть в повете, также обвинен быти мел, тогды также маеть на першом сойме отказати або на року земском. А естли бы хто не хотел стати, тогды мает от господара або от инших панов припозван быти, однакож будеть повинен стати и отказати. А пак ли бы был хор або на службе господарской, або пак на копе на завитом року, тогды маеть тая реч отложона быти на другий сьем. А естли бы пак был здоров, без жадных причин стати не хотел, тогды панове мають книги отворити и тому и шкоды на нем сказати водлуг того, яко вышей выписано, и рок мають заплате положити земский чотыри недели. И што будеть всказано, а он не усхочеть платити, тогды тые панове мають в оной шкоде вы имене або в люди его увезати казати, што бы за шкоды стояло; а тот маеть держати до тых часов, поки ему тую шкоду заплатить. А которых бы артикулов не было ещо в тых правах выписано, тогды тое право маеть сужоно быти водлуг старого обычая, а на потом на валном сойме тот члонок иный, чого потреба вкажеть, маеть уписано быти.

[2] 1. В суду не мает ся нихто отозвати до господара, але повинен будеть кождый один одному права достояти.

В суду нихто ся не маеть отозвати перед правом ни до нас, господара, ни до сойму, для того, абы в том волокиты не было, але повинен будеть кождый один другому достояти права аж до конца. А естли бы ся видело водле сказаня которой стороне кривда, а бачила бы сторона, иж ей не подле права писаного всказано, тогды маеть листа просити в суде сказаня своего, которым обычаем сказали на нем. А судьи повинни будуть ему дати лист под печатью своею, а он маеть з оными судьями перед нами або на первом сойме говорити и лист тых судей вказати. А естли бы судья выпису дати не хотел, тогды маеть взяти з собою трех шляхтичов и зася в него просити; тогды он конечно будеть повинен дати. А естли бы не дал, а то на него будет переведено, тогды мает вины заплатити на нас, господара, дванадцат рублев грошей а тому шкоду оправити.

[3] 2. Кождый воевода и старосты, и державцы наши мають обрати двух земянинов в повете своем и ку присязе их привести, которые мають судити поспол з урадники их.

Зася тэж уставуем, иж воеводы, старосты и державцы наши мають кождый у своем повете обрати двух земянинов, людей добрых а годных веры, и ку присязе привести, и установити тым обычаем: коли пан воевода, староста и державца наш сами за некоторыми справами нашими або земскими не поспешни будуть которых прав судити, тогды тые два земянины весполок з наместники и маршалки тых панов врадников наших мают того смотрети и то справовати водле тых писаных прав, которые есмо всей земли дали; а писари присяжные тых панов воевод, и старост, и державец наших мають также при них быти и то все пописывати и к тому вин наших и тэж вин иных и доходов панов своих смотрети. А без тых панов земян присяжных, естли бы обеюх не было, тогды не мають наместникове ани маршалкове судити, нижли бы один с тых земян уставичне при них мел быти.

[4] 3. О кривды, как мають позвы господарскими и панов воевод, и старост, и инших врадников ку праву позывати.

Тэж уставуем: естли бы до которого князя або пана, або шляхтича шляхтичом было некоторое дело, тогды маеть быти позван позвы нашими господарскими або воеводиными, або иншых врадников. Пак ли ж бы тот позваный не стал на тые два позвы, тогды маеть децким поставлен быти. Пак ли ж бы он не был так небачный и за децким ку праву не стал або перед децким скрыл, вникаючи права а не хотячи права достояти, тогды мает дано быти увязане в имене, естли ся о имене правует до права; а естли бы о рухомую реч, тогды мает дано быти увязане в люди або в земли, которые будут тое речи, о которую будеть позывати. А кому увязане в имене або в люди, або в земли дано будет, тот маеть то держати до права в целости и ничим не маеть ушкодити. А естли бы чим ушкодил, тогды маеть зася направити и в целости по праве маеть подати с тым, як ему в то увязане дано. А веджо инакшим обычаем не маеть позывати, толко оземши вижа у дворе нашом, который будеть наближей именя того пана або земянина, которого позывати будеть, и к тому ещо сторону, людей добрых, и перед вижом и стороною маеть позывати ку тым роком, которые есмо праву подданым нашим положили. А оные речи подле старого обычая, то ест естли бы чиему чоловеку от чиего чоловека злодейство стало або бой, або грабеж стался, або головщина межи мужики, або иные некоторые речи, которые ся частокроть пригожають в суседстве, тогды мает обослати оного пана, просячи справедливости, раз и два. А естли на то справедливости не вчинит, тогды маеть также его припозывати перед судью, в котором повете мешкаеть.

[5] 4. А для кривд судити паном зьеждчатися у двух неделях вступивши в пост.

Тэж уставуем: для кривд шляхты, которые ся от панов деють або от врадников наших и панских в землях и в грабежох, в розбоех, в кгвалтех, и в головщинах або тэж и межи паны самими и их поддаными, для чого ж уставуем на зъехане таковых дел рок на году, на который панове повинни будуть зъеждчатися на местце положоное, до Вилни, а жаден ся не маеть ничим вымовляти, кром одно хоробы, вступивши в пост две недели, на котором же року, яко на завитом, кождый пан маеть быти один одному прав. И тэж кому дадуть



вину, иж бы был сужон не водлуг прав, маеть кождому отказати и на том же року маеть быти прав. А веджо тые судьи нигде инде не мають сужоны быти, одно на палацу нашом господарском у Вилни.

[6] 5. О кривды, которые бы ся делали паном и земяном от панов и паней вдов и от наместников, и от подданых их, естли бы ся справедливость не стала.

Тэж уставуем: если бы ся которому пану от пана або от панее вдовы або земянину от пана и от наместника, и от подданых его стала которая кривда, тогды оные скривжоные мают того обослати, абы он сам з себе або з наместником, або с поддаными своими справедливость вчинил. Естли ж оный справедливости за обосланьем его вчинити не всхочет, а мы, господар, в тот час в панстве нашом Великом Князьстве Литовском не будем, тогды оный мает обжаловати паном радам нашим трем або двум, которые близко себе будут, и позвы в них у двух або в трех взяти, абы тот пан сам стал и наместника и подданых своих, от кого кривда ему будет, поставил на первом сойму, который будет от нас, господара, або от панов рад наших положон; а он сам маеть стати и подданых своих поставите и повинен будеть за то отказывати, яко на завитом року. Естли ж бы ся на том сойме справедливость не стала, тогды оный позваный маеть стати перед паны радами на тот рок, который есмо паном радам нашим кождого году положили збиратися до Вилни для тых судов, вступивши в пост великий у двух неделях. А панове, на тот рок собравшися до Вилни, повинни будут вси дела тые судити и им досыт чинити не розеждчаючися, которые на тот рок будут позваны. А веджо, будучи на том року, мають тые дела судити тыми правы писаными. Естли ж бы ся пригодили таковые дела судити, которые бы были в тых правех не выписаны, тогды панове рады наши мають тые дела судити подле старого обычая до тых часов, покуль мы, господар, с паны радами нашими тые дела уфалими в тые права вписати кажем. А от жадного права до сказаня не мает нихто ся до нас, господара, отзывати; нижли маеть кождый другому во всих речах права достояти. А кгды вжо увидится ему по сказани с кривдою, тогды, оземши выпис с книг сказаня, можеть до нас то собе взяти. А што будеть на нем осужоно, естли имене, тогды в имене маеть дано быти увязане; естли шкоды, тогды мають оправены быти. А тым ся отзыванем жадной справедливости проволока быти не маеть. А естли бы панове вси к тому року зьехатися не могли, а тот, который будеть к тому року позван а не хотячи права достояти, а праву проволоку чинечи, хотели ся отозвати до всих панов рад, тогды тые панове, которые ся зберуть, мають сами судити, а оный позваный не мает ся отозвати, але мает права достояти перед тыми паны, которые ся к тому року зберуть.

А естли ж бы хто мел листы наши таковые, абы его нихто не судил, кром нас, господара, тогды таковый не мает ся перед правом тыми листы нашими закрывати и до нас отзывати, але маеть перед паны радами нашими права достояти на том земском року, бо мы з рамени нашого господарского уставляем комисарми панов рад наших, абы справедливость подданым нашим чинили.

<9>. О позыване на рок хто не станет.

А естли бы хто, будучи с подданых наших позван к тому року судовому, без жадных слушних причин не стал а о себе перед тым роком ведати не дал, тогды панове жалобнику мают дати увязане у страве и в накладе его: у-вы имене, естли будеть о имене позвал до права; а естли будет позывал о шкоды и о кгвалты, и о головщины, и о иншие рухомые речы, тогды панове мают в него доводу на тые речы выслухати таковогo, яко бы мел при бытности другое стороны на то довод вчинити; и кгды оный таковый довод вчинить, панове мают всказане вчинити и листом того обослати, даючы ему ведати, иж то на нем за нестане всказали, и роки покладаючи заплате. Естли бы оный того платити не хотел, тогды панове подле всказанья своего мают тому, кому што вкажут, дати увязане в люди того винного, то ест за кождую десет коп у службу людей.

[7] 6. О люди князские и панские, иж не мают первей по них децкие сланы быти, олиж первей пана их обослати, абы справедливость вчинил.

Тэж естли бы была кривда которому подданому нашому, земянину або чоловеку, от слуг або от людей князьских або панских, кром кгвалту або наездки домовое, а о иншие вси жалобы, ани мы, ани воеводы наши по люди князьские або панские не маем децких давати, олиж первей обослати того пана, чие люди ест, а жадаючи от него, абы справедливость вчинил перед вижом нашим або перед врадниковым. А естли бы оный на обсылане раз и два справедливости вчинити не хотел, тогды, в чием повете оного пана тот подданый седить, то, оземши децкого от воеводы або от старосты, там же, в том повете, перед правом поставити маеть, а оный маеть там права доводити перед поветовым судьею. Естли ж бы оный подданый панский зостал винен оному, хто на нем ищет, тогды иного ничого не маеть платити, толко тое, в чом зостанеть винен, а тому децкому, который по него ездил, децковане. А што ся дотычет вины, хотя бы впал у вину проиетную або бы вина зысканая была на нем, тогды не маеть нихто его тою виною карати, толко его властный пан. А што ся дотычеть земли, тогды не маеть позывати ни слуги, ани чоловека, толко самого пана. Тым же обычаем маеть быти промежку князей и панов, и земян. Естли бы кому от чиего чоловека была кривда, тогды его пана маеть первей обослати раз и другий, абы вчинил справедливость. А естли бы не хотел справедливости вчинити, тогды тот, кому будеть жаль, мает ся втечи до права; оный маеть поставити людей своих ку праву на тот рок, всей земли праву положоный; и кгды в той речи, о которую реч права в него прошоно, люди винни зостануть, тогды навязку на тую реч мають платити от того часу, в который в него прошоно права на них, а он права будеть не дал.

[8] 7. О бранье пересудов.

Уставуем, иж воевода и староста, и врадники наши не мають пересуду брати от жадных речей, толко от презыскання десятый грош а от именя, яко будеть стояти чого, водлуг его важности, а от земли рубль.

[9] 8. О заступенье в суда речи одному за другого.

Уставуем и приказуем, иж коли бы который чоловек кого другого о которую-колве реч в суда заступил, тот вжо по-



винен будеть сам за него отказывати, а тот позваный будеть волен от року ему заложоного и о тое все дело, о которое был до того суда позван.

А ведже не маеть инакшим обычаем тот приятел мовити, олиж бы мел тот сам очивисто стати и реч свою ему полецыть. А естли бы был немоцон, тогды олиж маеть ему дати лист под печатью своею. А естли бы хто принес лист а поведил, иж то приятеля его лист, а был бы тот лист писан от него а справовал бы его сам, а тот приятель ему не полецыл а листа ему не давал, а он умысльне то вчинил и чужую реч втратил, тогды тот суд ни во што маеть быти обернен, оный приятел не мает тым речи своее втратити а предся о том правовати. А на того естли то будеть переведено, иж то фалшовал, тогды он маеть каран быти, яко фалшер, ни чим иным, одно огнем.

[10] 9. О прокураторы.

О именя, о шкоды, о кгвалты не маеть жаден чужоземец прокуратором быти ани о том мовити перед нами, господаром, ани у земском праве, одно который бы был у Великом Князьстве оселый.

[11] 10. О заказыванье стороны, абы с права не зъеждчали.

Тэж уставуем, иж коли быхмо подданого дворанином нашим обослали, абы з двора нашого не отеждчал, аж бы ся з другою стороною жалуючою перед нами росправил, а он бы втом отехал, приказаня нашого не дбаючи, своволне, таковый для непослушенства, естли будеть о землю, мають тому в тое, о што ся жалуеть, увязане дати. И тым же обычаем, естли будеть от воеводы або от врадников через заповедь отехал, тогды также тратить держане, а предся правом искати можеть.

[12] 11. О роки заплаты пенежное.

Тэж уставляем, иж кождой заплате денежной, с права сказаной, маеть быти сказывай рок чотыри недели, а болшой суме далший рок; а тисячи копам роки розложити на кождую чверть лета по сту коп, поки тую суму тисячу коп заплатить. А естли бы на тые роки не заплатил, в той суме в имене его увезати. А естли бы имене за тую суму не стояло, ино за шию его выдати.

[13] 12. Хто бы кого на право позвал, а сам з доводом своим ку праву не стал.

Коли бы который жалобник, позвавши, на року завитом готов не был и з своими доводы ку которой ся справе брал, тот свою реч тратит, а врадник не маеть ему отволоки допущати.

[14] 13. Хто бы позвавши а сам без слушное причины не стал.

Коли бы тот же жалобник, позвавши кого, на первом року сам не стал без слушное причины, какое правдивое немоцы або службы нашое господарское, а перед судом не дасть о собе знати с тых справедливых причин, тот его у другое не маеть позывати о тую ж реч, олиж ему заплативши первый наклад и страву.

[15] 14. В позвех жалобу маеть выразити.

Естли бы хто мел кого позвы позвати, тогды маеть жалобу свою в позвех выобразити.

[16] 15. Хто бы кого без причины або через суд ку праву позвал.

Тэж уставляем, иж коли бы хто, не маючи жадное справедливости або через суд позвал которого другого о имене, тот же, хто наперед свою реч втратить, а предся упором своим о тую ж реч его позвал, таковый маеть заплатите три рубли судьи а три рубли тому, кого через суд ку праву позвал.

[17] 16. Хто бы за двема позвы ку праву не стал, тогды за третим маеть децкий поставити.

Коли бы хто об отчизну свою або о спадок, або о властность которую дедичную первым и другим позвом был позван, а за третим позвом маеть дан быти децкий, а не стал бы и за децким, тогды жалобнику маеть быти дано увязане в тое имене, о которое жаловал и до права позывал.

[18] 17. Хто бы кого пхнул або вдарил перед правом.

Коли бы хто на другого рукою своею сягнул, пхнул, торгнул албо ударил перед судом, а не зранил, а тым-то сягднем суду кгвалт вчинил, тот, который сягнул, маеть вины заплатити дванадцать рублев грошей, а тому безчестье, какого будеть стану. А хто бы перед судом добыл корда або меча, хотя и не ранит, тот тратить руку; а коли бы хто перед судом ранил кого, тот шию тратить.

[19] 18. Коли бы хто судью або сторону на праве зсоромотил або судья кого на праве вдарил або зсоромотил, чим каран маеть быти.

Коли бы хто в суда кому другому або судьям соромные слова мовил а тым суда и судей не учтил, таковый нятством маеть каран быти, шесть недел седети. А судья тэж, на праве седечи, не мает никого соромотити. А пак ли бы судья на кого рукою сягнул и вдарил, тогды маеть тому безчестье платити водлуг стану. А естли бы кого неучтивыми словы зсоромотил, тогды маеть тот его позвати перед нас, господара, або перед паны, а в том ся маеть ему з судьею справедливость стати водлуг писаных прав. А естли бы похвалку вчинил або отповедал судьи, тогды не толко маеть шесть недел седети, але и по выседеню шести недел маеть рукоемство доброе дати, жебы судьи от него в покои были.

[20] 19. Мещане всих мест за раны и за головщины селяном права мают достояти.

Тэж уставуем, иж мещане мест наших и всих подданых наших, и духовных и светских, за раны и за головщины людем селяном нашим и подданых наших правом земским мають справедливость чинити. А естли бы в чинени справедливости омешкали были, так иж положивши рок ку вделаню тое справедливости не вчинили, а сторону жалобную без потребы волочили, а на року завитом справедливости не вчинили, тогды тая вся винность и заплата на судьях местских зостанеть.

[21] 20. О пересуд судьям, которыи будуть судити без бытности воевод з наместники их.

Судьи, которые мають быти уставлены в поветех, коли судять з урадники воеводиными або старостиными, тогды судьи пересуд мают натрое делити: одна часть воеводе, а другая судьям, а третяя наместнику воеводину. А коли воевода судить, тогды весь пересуд на воеводу. А естли бы дана



вина о суд наместнику, тогды судьи повинни з наместником на року, судом положоным, отказывати перед паны.

[22] 21. Не маеть жаден болшей пересуда брати, кром уставы.

Коли бы который воевода або староста, або державца, або судья болшей взял от кого пересуда против тое уставы нашое, тот повинен стороне вернути з навязкою а вины маеть заплатити нам, господару, дванадцать рублев грошей.

[23] 22. Хто бы после права и присяги того ж искал, што первей перед правом утратил.

Тэж уставляем: естли бы хто чого на ком искал а пустил бы его на присягу, а оный бы присягнул, а потом бы оный, хто пустил на присягу, хотел доводити на него, же несправедливе присягнул, тогды вжо не маеть искати, бо его сам к присязе пустил.

[24] 23. А хто бы светков выдал, а они бы напротивку его посветчили.

Тэж уставляем: естли бы хто чого на ком искал а выдал бы своих светков, а тые светки напротивку его посветчили, а мел бы на тых светкох искати, же сте вы несправедливе светчили, тогды оный, который светки выдал, на свои светки не мает ничого доводити. Нижли естли бы один напротивку другому дал светков, а тые бы светки его посветчили, а тому увидитца ль, иж тые светки его не гаразд посветчили, тогды того часу, не зступуючи с права, может с тыми светки перед правом мовити, иж несправедливе посветчили. И естли тые светки будут шляхта, тогды они мають себе подперети и доводити слушным доводом, иж справедливе светчили. Естли ж бы были люди простые, тогды тот, который их обвинит, в том маеть на них доводити. Естли ж бы тые светки были люди простые а панов розных, а перед правом вси поспол на сведецстве не были, а через децкого были пытаны а несправедливе его в том осветчили, тогды тот, обвиненый и через их сведецство, маеть о том суду обявити; и кгды прийдет перед паны их на довод, тогды оный и з своими светки маеть довод на них чинити, иж они несправедливе светчили. А кгды они в том винни зостанут, за несправедливое сведецство свое мають тому шкоды платити. А кгды тые светки и панские и подданые будут шляхта, тогды тэж они мают ся иншими светки от того отводити.

<28>. Хто бы двох чоловеков дал, а третего не мел а при тых двох светкох присегати хотел, тогды тым можеть реч свою одержати.

Теж естли бы хто напротивку у сведецстве о которую реч, яко о кгвалт и о бой, так и о суму пенязей позычоную и у иншых речах, выдал светков двох, а третего мети не мог, а при оных двох светкох еще сам присягнути хотел, тогды тым мает реч свою одержати и на праве тот довод от него за достаточный приняти мают. И естли ж бы хто выдал светков на который-колве довод або о землю албо подпиранье листов и записов, а хотя бы один светок его выдал, а светчити по нем не хотел або розност у сведецстве вчинил, тот реч свою тратить.

<29>. Хто бы кому именье продал и лист свой дал, а поведил, иж ему не заплатил, а квиты на тот долг от него не будет мети, тот не повинен того платити.

Теж уставуем: естли бы хто кому продал имене або речы рухомые и лист под сведомом людей добрых ему на то дал и тых людей, которые в том листе описаны, просил, абы печати приложили к тому листу, и сознаеть перед тыми светки, иж вжо ему за то досыт стало, и в листе то опишет, тогды бы ни пенязя не взял, а сознал перед светки, в листе описаными, и в листе написал, иж вжо его заплата сполна дошла, а оные светки печати свои приложили, тогды таковый лист маеть держан быти, а тот, который продал, такового запису светки ани присегою дойти и отозвати не может. Нижли, естли бы што хто кому продал и лист свой на то ему дал под печатми и сведомом людей добрых, а пенязей сполна в того не взял, тогды тот, которому продал, не мает тот лист держан быти.

<30>. Естли бы доводу не мели а о присегу спор мели, маеть жеребей метан быти.

Теж уставуем, иж о кождую реч естли бы доводу не мели, а один другому пускал на присегу, а о том спор мели, тогды мают жеребей метати: чий жеребей ся выйметь, тот маеть присягати.

<31>. Естли што на ком суди обчыи присудят, мают грабити, воземшы вижа.

Теж естли бы што кому суди обчыи присудили и рок заплате положили, а оный бы на тые роки того платити не хотел, тогды тые суди мают взяти вижа у дворе нашом, который-колве наближей будеть, и при оном вижи мают того пограбити и тот грабеж дати тому, кому што присудить, и рок виноватому положити под утраченьем того грабежу, ижбы тот грабеж выкупил. А естли бы того грабежу выкупити на тот рок не хотел, тогды, кому тот грабеж дан будеть, волную моц ма мети тот грабеж заставити и продати кому хотя албо собе заставити.

[25] 24. А коли бы хто мел с ним именье неделеное себреное.

Уставляем тэж, иж коли бы колко братьи делное або неделное або которые-колве иные сяброве мели которые люди суместные нерозделные, данники або мелники, тогды кождый с тых братьи або з сябров повинен будеть особливе кождому суседу и иным чоловеком суместным справедливость чинити, не откладаючи до братьи ани до сябров. А естли бы самому от таковаго чоловека здалася што за кривда, тогды моцно будеть право и суд о нем осадити а кождое винности правом на нем искати, хотя бы без братьи своее або без сябров приреченых. А коли бы тая братья або сябры в имени были, он маеть к тому праву их обослати.

[26] 25.

Тэж уставуем: ачколве права писаные дали есмо всей земли, по которому праву мають суд судити, однак же вси права до остатку врыхле не могут ся зложити, якож и тые права не могли до остатка всих артыкулов мети. Нижли естли бы ся што пригодило перед судьями, чого бы в тых правех не было описано, тогды то даем на розознане судей под сумненем их, иж они мають, упомянувши на Бога, и то сказати водле стародавного обычая. А ведже скоро на первом сойме перед нами або перед паны радами нашими мают тые члонки обявити. И естли бы мы або панове рада наша тые



члонки уфалят, тогды мают тэж приписаны быти к тым правам.

[27] 26. Державцы, которые недавно названы державцами, а перед тым тивуны были, не мають шляхты судити, кром воеводы и маршалки, и старосты.

К тому уставуем, иж державцы, которые недавно названы державцами, а первей менованы тивунами, не мають шляхты и бояр наших сами судити и децких своих по них посылати, але мають их воеводове и маршалки наши, земский и дворный, и старосты судити. Нижли естли бы они сами зволили перед ними по доброй воли стати а розправити, то будеть их волно розсудити. А и так, кгды ся им у праве которой стороне увидить с кривдою, тогды он можеть отозвати до воеводы або до старосты, в котором повете хто з них будеть; а державцы им того боронити не мають и их мають пустити до воеводы, в которых хто з них поветех будеть.

[28] 27. О децкованье двораном нашим и панов воевод, и маршалков, и старосто и державец наших и их наместников, по чому маеть плачоно быти.

К тому уставуем: вижу и децкому нашому вижового и децкованя рубль, а воеводину и маршалков, земского и дворного, и старостиным, которые давно старостами, полтину; а державцовым вижом и децким, которые недавно названы державцами, а первей званы тивунами, по двонадцати грошей, а их наместничков помилное на мили по грошу, а воеводиных наместников по двонадцати грошей. А естли бы вижи и децкие наши и воевод, и маршалков, и старост, и державец наших, и тэж и их наместников нигде на децкование ани на вижовое, будучи взяты вижом и децким, з места не ехали, тогды им маеть плачоно быти вижового и децкованого половина. Нижли которого децкого мы або панове воеводы, або маршалки и старосты наши пошлем на отправу пенезей, тым децкованя от кождого рубля десять грошей.

<35>. О вижа, иж его нихто пересветчити не можеть.

Теж уставуем: естли быхмо где послали на справу нашу земскую албо на жалобу подданых наших о которую-колвек реч вижа нашого албо панове рады наши, а тот виж мает при собе сторону мети. А пришло бы в которой речы на опытаня того вижа, тогды вижа жаден пересветчити не может. А вшак же, естли бы ся видело которой стороне, абы виж инак светчил, нижли поведил, тогды виж повинен будеть тою стороною себе подпирати, которую при собе мел, иж так было.

<36>. По суде не мает нихто без вижа еднаня чинити.

Теж уставуем, иж по суде нашом господарском и панов воевод, и старост наших, и судей высажоных, што будет на ком сказано, именье або сума пенезей, по праве и усказанью не мает жадин жадного еднанья чинити, олиж перед децким, и заплаты без вижа, естли будеть выдан, або перед вижом врадовым, воземши вижа з ураду албо тых судей, которые будут ему што на нем сказали. А естли бы хто инак вчинил, а еднанье тое за моцное мети не хочем, и тот, который через тую уставу нашу смел то вчинити, повинен будет заплатити тым судям, которые то судили, три рубли грошей. А предся оный не подле того еднанья, але подле всказу права мает реч свою одержати и децким ее отправити. А тые, которые бы при таком еднани нерадном были а печати свои к едланым листом клали, повинни будуть платити нам, господару, три рубли грошей.

<37>. Теж уставляем: ачколве права писаные дали есмо всей земли, по которому праву мают суди судити, однакже вси права остатку врыхле не могут ся зложити, яко ж и тые права не могли до остатка всих артикулов мети. Нижли естли бы ся што пригодило перед судями, чого в тых правах не было описано, тогды то даем на розознане судей под сумненьем их, иж они мают, упоменувшы Бога, и то сказати водлуг стародавного обычая. А вшак же на первом сойме перед нами або перед панами радами нашими мают тые члонки обявити; и естли бы або панове рада наша тые члонки уфалят, тогды мают теж приписаны быти к тым правам.

### *Роздел семый. О кгвалтех земских и о боех, и о головщанах шляхетских.*

1. Хто бы на чий дом наехал умысльне, хотячи его забити.

Тэж уставляем, иж хто бы на чий дом умысльне наехал, хотячи его забити, або нашол кгвалтом а моцъю, а в том бы дому кого-колве ранил або забил, або хотя и не ранил никого, толко нашол кгвалтом, тот шию тратить; а головщина з ыменя его близким забитого маеть быти плачона, а противня до скарбу нашего господарского, также и ранам навязка. А естли бы тот, на чий дом наехано або найдено, а, боронячися, з дому своего втек а головщина бы ся не стала ани раны, однак тот, который находил на дом, шию тратить, а кгвалт маеть быти плачон господару домовому; а што бы того именя назвыш зостало, то у вине господарской.

2. О довод кгвалту, як маеть его осветчити и жаловати.

Хто бы кому на дом наехал и вбил, а ведже на таковаго кгвалтовника маеть быти таковый довод. Естли бы на дом на чий наехал а ранил або забил, тогды с того дому маеть скоро по кгвалте оповедити и оказатися околичным суседом своим и на то маеть вижа взяти с ураду нашого, который ближший будеть, и оказати кгвалт и раны або убитого. И потом естли бы ся тот к тому не знал, тогды тот близкий вжо будеть околичными суседы и вижом тым того допирати, а сам при ранном мает и з жоною, естли бы детей не мел, а естли бы дети дорослые были, тогды и з детми дорослыми, и з слугами або с челядью, а естли бы слуг не было, сам-третей на том присягнути мает. А тот, хто наехал, вжо маеть горло тратити, яко кгвалтовник.

3. А естли бы кгвалтовник, забивши, втек из земли, як з ыменя его платити мают.

Тэж, естли бы тот кгвалтовник, убивши кого, з земли втек проч, тогды з ыменя его маеть плачоно быти убитого голова и шкода, и вина господарская, вышей писаная. А хотя бы и имене за то не стояло, однак же предся маеть быти подано тое имене и маеть държано быти в той суме, поки дети або близкие то отложат. А оный убийца маеть быти выволан з земли вон; а хотя бы потом зася и приехал до земли, а хто бы его забил, тогды тот не повинен будет за голову его платити ничого ани у вину не впадываеть.

4. Хто бы забил кгвалтовника в дому своем або на кгвалте и помочников его.



Тэж уставуем: хто на чий дом наедеть кгвалтом, а тот, будучи истый в дому своем, боронячи дому своего, и забьеть того то кгвалтовника в дому своем або помочников колко его забил або ранил, тогды не маеть головщины ани ран платити, але при оных ранных ещо маеть своего кгвалту домового доходити. А веджо того маеть отвестися телесною присягою своею и з жоною, и з дорослыми детми самотреть, и к тому светки естли бы были, а при светкох таки и сам повинен вчинити присягу. А по присязе, естли ся того отведеть, тогды предся оному кгвалт дванадцат рублев грошей маеть сказан быти водлуг присяги и светков его.

5. Хто бы наехал на чие имене и подданных, а тот бы, боронячи своего, его забил.

Тэж уставляем: естли бы хто боронил именя своего або подданых своих на кгвалтех, шляхтича забил, тому головщины не маеть платити; однакож на то маеть слушный довод быти, иж его на своей земли забил, а тот маеть довести своею телесною присягою и околичными суседы его.

6. О кгвалтованье невесты и девки.

Тэж уставуем: естли бы хто невесту або девку зкгвалтил, будь каковго-колве стадла, почонши от вышшого иж до нижшого, а оная невеста або девка валала кгвалту своего за оным вчинком, а люди бы некако прибегли на оный кгвалт, а она бы перед ними знаки кгвалту вказала, а потом бы оного ку праву привела, двема або трема светками пересветчала а к тому бы при оных светкох телесною присягою присягнула, тогды таковый горлом маеть каран быти. А естли бы она хотела его собе за мужа мети, тогды то у ее воли. А естли бы оная невеста або девка не могла кгвалту волать, а ведже по оном кгвалте скоро бы была волна выпущона а оповедалася людем, а зася оного притягнула ку праву, а тыми людми осветчила, тогды тым же обычаем маеть каран быти, яко вышей написано.

7. Естли бы ся хто на кого пофалил, а за похвалкою его головщина або пожога двору сталася.

Тэж, естли бы хто на кого пофалился або отповедал перед людми, хотячи ему шкоду вчинити, спалити двор або гумно або забити, а в той похвалце або отповеди ему которая шкода стала от огня або забитье, а он бы на него перевел, же ся похвалил пожогою або забитьем, тогды тая шкода маеть присужона быти на оном похвалце або отповеднику. А естли бы тот того ся прел, иж я того не вчинил, тогды нехай нихто ся ни на кого не фалит, нехай тую шкоду предся оправуеть, а собе винного ищеть. А веджо не маеть иначей тая похвалка переведена быти, леч трема шляхтичи против шляхтича, а на шкодах сам маеть присягнути з жоною и з детми.

8. А естли бы было колко парсун об одного шляхтича забитье в суда было обвинено.

Тэж, коли б было колко парсун об одного шляхтича забитье в суда было обвинено, тогды толко один мужобойца маеть быти о тое забитье осужон, которого жалобник сам-третей з двема шляхтичи, собе ровными, естли бы слушного доводу не мел, маеть поприсягнути, а звлаща коли бы ся сам к тому забитью не знал.

9. Хто бы шляхтича ранил в руку або в ногу а охромил або око выбил.

Коли бы хто шляхтича ранил, а с тое раны его в руку або в ногу охромил або око выбил, або нос втял, або губы врубал, або ухо втял, тогды маеть предся платити пол чоловека; кром того, естли бы ранил у твар, тогды ма платити тридцат коп грошей тот виноватый битому а вины толко ж до скарбу господарского, коли его жалобник сам-третей поприсягнеть в недостатку доводу слушного.

10. Хто бы опосле ран ездил по пиром або по корчмам, а потом умреть.

Коли бы который шляхтич, битый або охромленый, от того битья або охроменя ездивши по пиром або бывал в корчмах або в торг, а потом умер, хотя тэж от того битья и лежал и от ран умер, тогды оный, который его бил або ранил, не маеть головщины платити, толко раны.

11. Которой братьи рожоной будеть отца забито, яко мають головщины искати.

Уставляем тэж, иж коли бы было колко братьи рожоное, лета зуполные маючих або не маючих, делных або неделных, а одного бы з них або отца их забито, а некоторые с тое братьи дома и в земли не будеть, тогды тот, который бы дома был, маеть братью свою обослати, естли бы в земли были, абы с ним посполу вси головщины доходили сами через себе або через приятеля своего. Естли бы они не хотели посполу з братом своим тое головщины искати, тогды оный, который в дому был, зыщеть сам своим накладом тую головщину, тогды он тое головщины не повинен з братьею делити.

12. Близкие, которые всхотять близкостью головщины искати.

Тэж, коли бы колко братьи або которых иных парсун за близкостью прирожоною кого другого об головщину до суда позвали, а доводу бы слушного не мели, тогды толко один с тых жалобников, которого они сами к тому выставять, будеть повинен о тую головщину забитую сторону обвиненую подлуг права присягнути сам-третей в шляхетстве собе ровным.

13. Межи братьи и сестр рожоных хто маеть головщины отцовское або братьнее искати.

Коли бы колко братьи и сестр рожоных было, а один брат з них або отец забит был, тогды оные братья сами, мимо сестр выпосажоных, мают ся головщины дойскивати. А естли бы братья змерли, тогды дочки выпосажоные мають головщины искати. А естли бы сынове и дочки змерли, тогды мают искати ближние.

14. Хто бы забил отца своего або матку.

Уставляем тэж, иж коли бы хто отца своего рожоного або матку забил, тот горло и честь свою тратить.

15. Коли бы хто брата або сестру забил.

А хто бы брата або сестру забил в надею именя, на него приходячого, таковый отходить оного именя, правом прирожоным на себе спадаючого, которое имене по тых забитых, как по отцу и по матце або тэж по брате и по сестре, на иншую братью або на сестры приходити и спасти мает. А естли бы другое братьи ани сестр не было, тогды тое имене на ин-



ших кровных, близкость прирожоную к тому маючих, маеть спасти. А таковый сам мает каран быти горлом.

16. Хто бы на кого дорогу засел, а тот бы был зранен.

Тэж, естли бы который шляхтич кому иному дорогу засел а заступил, хотя не одному самому, хотячи их зранить або злупити, або забити, а в том тот, который доброволную дорогу заседал, через которого оных, на которых ся кинул, забит был; и естли бы ближние того забитого хотели на том присягнути, иж оный его забил за его початком, тогды маеть головщину платити. А естли бы ближние не хотели присягнути, иж есмо при том не были, тогды тот мает ся отприсягнути сам-третей з двема шляхтичи, то ест хотя бы его слуги были шляхтичи, и не будеть повинен таковый головщины платити. А веджо так, иж тую головщину вчинил, боронячи живота своего за початком того забитого, от вины и от головщины прожен.

17. Коли хто кого о кгвалт позоветь ку праву, как маеть перед врадом кгвалту доводити.

Коли бы хто другого о который кгвалт до суда позвал, жалобник, што менил, маеть слушным сведомем доводити. А естли бы сведомя не мел, а знаки того кгвалту были, тогды он сам ближший будеть позваного присягою своею поконати. Нижли естли бы позваному присягати поступил, а оный бы позванный хотел невинность свою очистити, а тот сам, хто о кгвалт позвал, присягати не хотел, тогды тот повинен будеть себе от того кгвалту очистити.

18. Кому бы шкода в чием дому стала або кгвалт на дорозе з ведомостью господара домового.

Коли бы кому шкода в чием дому ся стала або кгвалт на дорозе або где инде з волею або с призволенем, або з ведомостью господара домового, а оный бы господар был до суда позван, а было бы то на него переведено слушным доводом або присягою жалобниковою телесною за лицом або за никакими; знаками, врадовне переведеными, таковый повинен будеть оный розбой або шкоду своими властными пенезьми оправовати; а тых злодеев искати.

19. Хто бы, на чие село наславши або сам наехавши, побил и поранил, и пограбил.

Тэж, естли бы хто на чие имене або на село, або на люди его наехавши або наславши также раны и грабежи або шкоды некоторые кгвалтом починил, таковый стороне обрaжоной, на чом присягнет або слушным доводом переведет, маеть раны и шкоды оправити и поворочати з навязкою и кгвалт платити стороне, а до скарбу господарского противен. А хотя бы не ранил ани бил, а будеть, наехавши, брал, также маеть кгвалт платити, а люди на чом на шкодах присягнут, то мают им платити.

20. За кгвалт посполитый суседский двенадцать рублев грошей.

Тэж уставуем, иж за кождый кгвалт посполитый суседский, судом переведеным, маеть быти сказано стороне обрaжоной двададцать рублев грошей а толко ж вины нам, господару.

21. Естли бы шляхтич шляхтича на дорозе розбил.

Тэж, естли бы шляхтич шляхтича на дорозе розбил, а оный розбитый его в парсуну познал и раны свои людем добрым оказал або злупене враду або сторонним людем оказал, а при том оказе або при ранех предся того в парсуну меновал, хто его розбил, а оного бы ку праву позвал, хто его ранил, а оный бы хотел ся отприсягнути, тогды ближние подле ран своих мают присягнути, нижли оному отприсягнутися. А ведже тот, который розбил, не хотел его переделнати а пустил его на себе ку присязе, тогды, скоро присягнет, тот мает каран быти, яко розбойник.

Естли бы на дорозе звадился, а не лупил, толко бы ему дана вина розбойная, тогды ранный маеть присягнути, а тот раны маеть ему платити, а горла для розбою мененого не маеть тратити.

22. О звадах.

Тэж, коли бы хто с ким звадился, а в оной бы зваде обадва ся ранили, а один бы с тых позвался до права або бы ся обадва позвали до права, а светков бы межи собою не мели, хто бы мел межи ними розознати, а один другому бы не допустил, а обадва ся торгнули ку присязе, тогды судьи мають им казати жеребей кинута; тогды чий ся жеребей напервей вьимет, тот мает присягнути на ранах своих и на початку, иж он его напервей почал бита, а за оным початкомъ тая ся звада стала. А коли оный присягнет, тогды тот тому присяжному маеть навязати раны, какого будеть стану.

23. О вечерней зваде.

Тэж, коли бы при какой вечерней зваде некоторый чоловек свечу загасил а в том некоторые с тых, которые при той зваде были, а ранен был, не ведаючи от кого, а позвал бы до суда того, который свечу загасил, менячи так, жем я в той зваде ранен был, а не ведаю от кого за причиною твоею, а на то бы довод вчинил, а естли бы доводу не мел, а смел бы присягнути, тогды тот, который свечу загасил, повинен ему раны платити. Также тэж о головщину в таковой пригоде хочем быти сужону. А тот, заплативши раны або головщину, маеть собе винного искати.

24. Хто бы кого неумыслне ранил а до суда был позван.

Тэж, коли бы хто о рану другого позвал, а он, позваный, менил, жем тя ранил неумыслне, а брал бы ся тот позваный на довод, мы, бачачи, иж где никому невинна быти образлива, уставляем и сказуем: тые раны жалобнику мают плачоны быти.

25. Слуга который бы, боронячи пана своего, кого ранил або забил.

Тэж уставуем, иж коли бы в какой зваде слуга-шляхтич, пана своего боронячи, кого ранил або забил, таковый от кождого ест вызволен; але тот, кому будеть надобе, на пане его ран своих и головщины маеть пойскивати.

26. Коли чий слуга, учинивши кому кгвалт домовый або головщину, и втечеть.

Коли чий слуга, вчинивши кому домовый кгвалт або головщину, и втечет, а в его пана через сторону был застан а приповежон, а он через тую заповед его упустил, тот пан сам, чий слуга, кгвалт и головщину, и шкоду маеть платити, а собе искати на слузе. А коли бы тот слуга не приповежон, тогды пан не повинен заступати.

27. Хто бы кому кгвалт або злодейство вчинил або чий чоловек за кого зашол, а он будеть молчати до десяти лет.



Тэж, естли бы хто кому кгвалт вчинил або злодейство або чий чоловек за кого зашол, або хто по ком ручил, або кому бой або грабеж вчинил а будеть того молчати десять лет, тот о тые речи маеть тэж молчати вечне. А кому ся от кого кгвалт стал, а до трех год молчал, тот маеть вечне молчати.

28. Устава головщины шляхетское и вины господарское противку головщины.

Тэж уставуем: естли бы шляхтич шляхтича забил у зваде або которою пригодою, а переведено бы то на него правом, тогды маеть платити за головщину кровным сто коп грошей, а нам, господару, другую сто коп грошей до скарбу. А естли бы, боячися вины, втек з земли, тогды головщина маеть быти плачена кровным з ыменя сто коп грошей, а противня нам, господару, з ыменя тэж сто коп; а дети того мают на имени седети; а того истого забойцу мают выволати, хто бы забил, якобы безэцника.

29. Который злочинца на смерть будеть выдан за которое-колве злочинство, а от того караня выйдеть, не маеть местца межи добрыми людми.

Тэж, коли бы хто о злодейство або о которое иное злочинство на каране або на смерть выдан и врадом права посполитого сказан был, а в том карани и шию свою пенезми окупил або зася от того караня або от страченя шии через приятелей своих або гостей, послов, панов знакомитых выпрохан был або выправен, або тэж за свой злый вчинок в ката в руце был, таковый кождый без чсти маеть быти а не маеть местца мети промеж добрых людей рыцарских, и не мает болшей того привиля своего шляхетского поживати; а с тых всих, которые бы такого человека осужоного ведомо выправляли або пенезьми своими окупали, того честь и добрая слава на ласце нашой господарской.

30. Хто бы злочинцов, розбойников, злодеев, людей выволаных в себе в дому ховал.

Тэж уставуем, иж коли бы подданые наши, людей подозреных, злочинцов, розбойников, выволаных з земли в дому або в имени своем ведомо переховывали або им некоторую раду або помоч ку шкоде речи посполитое давал и чинил або тэж речей злодейских ведомо поживал, а на кого бы то переведено, тогды тот не инако маеть быти каран, толко яко кождый с тых злочинцов, вышей писаных; а бо всим справедливым правом чиначи а призволяючи однаковою виною мають быти караны.

## *Роздел осмый. О права земленые, о границах и о межах, о копах.*

1. Напервей ся починают выроком кролевским с подписю властное руки его милости: иж хто кому всхочеть через границы або через межи землю отняти, маеть кождого стану, в том артыкуле мененого, и з светки своими шестма, кому право скажеть, сам присягнути.

Тэж уставуем: естли бы которые бискупове и духовные, закону яко римского, так и греческого, и князи, и панове, и пании вдовы, и земяне мели именя и люди, и земли, ловы, лесы, озера и бобровые гоны в границах або в межах, а хотел бы один в другого землю, перешодчи границу або через межи уступати або люди, земли, ловы, лесы, озера, и сеножати и бобровые гоны отнимати, хотячи его с того именя вытиснути, тогды мают с обу сторон по осминадцати светков перед правом поставити; и кого найдуть судьи ближшого ку доводу, тогды с кождогого стану, вышей мененых, мает з шестма светки а сам семый на всем присягати.

2. За давностью земскою ближний будеть держаня своего доводити.

Тэж уставуем, иж кождый державий за правом своим прирожоным або набытым або тэж за давностью земскою близший будеть держанья своего слушным доводом доводити, то ест людми добрыми, шляхтичи, або листы, або иными людми годнейшими, близкими суседы; чии будуть светки годнейшие, тые мают светчити без присяги их телесное, подле давного звычаю земского, за которых зознает, сторона доводячая реч свою мають одержати; а предся другая сторона, естли будет хотети, маеть правом искати.

3. О рок завитый на землю выехати.

Тэж уставляем, иж рок сторонам ку граниченю судом положоным маеть быти завитый, а прото через жадную причину не маеть далей отложон быти, толко с тых причин, которые особным артыкулом суть описаны: то, первое, мором, соймом валным а службою нашою господарскою, а немоцью. Коли бы которая сторона, кроме тых чотырох причин, не стала, тогды другая сторона за своим доводом врадовым перед ездоки, на то выставлеными, маеть реч свою одержати подле заведеня светков присяглых, на местцу граничном поставленых, и своее телесное присяги, и тым маеть вжо свою реч на вечность одержати. А естли бы хто перед тым роком был немоцон, маеть дати ведомо судьям и сутяжому, тогды маеть то отложоно быти, поки он выздоровеєть; на другом року перед судьями маеть присягнути на том, иж справедливе на оный час был немоцон. А естли бы судья был немоцон а перед роком ся рознемог, на тот суд быти не мог, тогды маеть другого приятеля своего на свое местцо установити через лист свой; а тот маеть также на его местцы судити, и тот его суд маеть так же моцон быти, как и того самого.

4. О вказанье границ, которые лепшие.

Тэж уставляем: коли бы который судья або ездок от права высланый был на розезд, тогды тот судья, ездок оную сторону, которая лепшие и знакомитшие привиля и листы, и знаки або копцы, або тэж грани вкажут, будет повинен ку доводу припустити. А естли бы с обудву сторон знаков не было, тогды, чие светки годнейшие будут, того маеть ку доводу и присязе допустити. А веджо не таковые мают ся розумети светки, штобы была шляхта, але тые светки шляхта и люди добрые, неподозреные, которые будуть суседи близкие и сумежники, тые годнейшие будуть ку сведецству, нижли тые шляхта, которые не граничники и не сумежники.

<5>. О землю обрубную и о сумесные как мают довод чинити.

Теж уставляем: естли бы хто с ким будет право мети о землю обрубную, тогды которой стороне повод усказан с права, светков своих, подле обычая права, осмнадцать повинен будеть перед правом поставити и по три разы водити; а сторона с тых трох одного обирати маеть, аж покуль шесть



мает обрати; и как тот пан або земянин с тыми светки присягу вчинившы заведет, потоле мает граница чинена быти. Нижли естли бы право мели о землю сумежную а не у одном местцу порозну, тогды и на кождой межи мает сам з шестма светками повинен будет присягати. Нижли светки, которыи на первой межи присягнут, на другой межи того ж часу светчити не могуть.

<6>. О повод естли бы ся суди згодитися не могли.

Теж уставуем: коли суди, от нас, господара, взятыи албо от панов рад наших, выехали на коку, тогды мают ся справовати тым обычаем: первей мают сами ся обослати и зложити местцо и где мают выехати и, снемшы посполе, выслухают речей обеюх сторон, яко жалоб, так и отпоров, и объехати землю обеюх сторон, куды поведуть, и смотрети листов и знаков: чии будуть листы албо знаки лепшии, того мають ку доводу припустити подле обычая права. Пак ли бы суди спор мели о повод, а згодитися не могли за спором своим, одна одной стороне фолкгуючы, тогды, выслухавшы жалоб и отпоров, исписати мають и, не выпускаючы сторон з моцы своее от права, запечатавшы реестр тых речей своими печатми, мают послати до воеводы, в которого повете тое право будет, и науку взяти, хто будет близшый ку доводу, а сами оттоле зъеждчати дотол, покол науку от воеводы возмуть, не мают, олиж мают, науку воземшы, наконец справедливость возмуть, не мают, олиж мают, науку воземшы, наконец справедливость вчинити. А вшак же которая сторона судей видячи кого близшого ку доводу а фолкгуючы стороне противней сказати не хотели, тогды поколе будет наука от воеводы. А што обедве стороне на светки и на суди наложать, повинни будут тые суди сами оправовати.

5. У сведецстве жадного иншого закону не мети, кроме хрестьян римского закону и греческого.

Тэж уставуем, иж светки о реч земленую и о довод держаня земли не мають ку сведецству припущоны быти жидове ани татарове, одно хрестьяне латынского або греческого закону. А веджо и межи тыми хрестьяны, которые бы на кождый год в плебанов або в попов своих на их споведи бывали ани у славе межи околицы, ани в злодействе, ани в фалшивстве, тые мають допущоны быти сведецства о земское дело и о держане земли. А хотя бы хрестьяне, будь латынского або греческого закону, которые Божего тела не приймуют и на исповед не ходять, тые в жадном сведецстве перед правом не мають допущоны быти о земную реч.

6. А хто маеть з державцою копу вести.

А естли бы который земянин мел право з державцою або с паном, а тот пан або державца мел бы у своем повете имене сугран, а мели бы копу вести, тогды того пана держаня, который держить, не маеть быти простый чоловек поличон за светки, кром шляхты або инших поветов людей, годных веры, близких в суседстве.

7. Роки как мають положены быти о земское право.

Хочем тэж и уставляем, иж кождый очивисто рок ку граниченю толко кроть, колко кроть бы надобе было, маеть быти на недели правом положон. А которое стороны судья выедеть, того сказаня на обе стороне будут повинни приняти, небытностью других судей не вымовляючи, кром службы земское або хоробы, або тэж естли бы хто в речи нашой земской в руках неприятелских был або в поселстве от нас был послан. А естли бы хто через лист, а не очивисто судей або ездоков на землю взял от нас, господара, або от панов рад, а тот бы о том з ним очивисто не мовил и в тот часъ не был, тогды маеть взяти до того лист от судей за дванадцат недель перед роком того права и ему ведати маеть дати, абы он к тому року чим налепей зготовал и зася того не вымовлял, абы ку тому року ся зготовал, и будет повинен отповедати, яко на завитом року.

8. Хто бы кому границу або межу сказил.

Естли бы шляхтич шляхтичу границу сказил або огнем выжог, вырубал кгвалтовне и яко-колвек инак, а было бы то на него переведено, тогды таковый маеть заплатити ображеному двенадцать рублев грошей, а естли бы межу переорал, тогды три рубли, а вины толко ж. А естли бы мужик мужику то вчинил, тогды мужику рубль грошей а вины толко ж. А надто границу або межу, через него скажоную, будет повинен з урадом направити по-старому. А естли бы тая граница або межа здалася ему в кривде, мает ее правом спирати, а не кгвалтом.

9. О лес суместный и о пробоки.

Тэж уставуем: естли бы хто мел лес суместный, тогды мает кождый з своего поля против себе пробоки чинити, а от леса ни один одного не маеть заходити, а як сотнутся топоры, тут будеть граница. А веджо естли бы один дуж был и болшей пробил, нижли другий, а оному бы ся видела кривда, а он бы его потягнул до права, тогды маеть сослано быти и осмотрено; тогды оный маеть лесу дати против пробоков, што болшей пробил, хотя не так доброго, поки тот пробить. А коли оный тот лес пробить, который мало мел, а ровно столко ж пробить, колко и оный, тогды мают в лыко и лихое и доброе поделити на полы. А естли бы оный не мел лесу ему отвести, што болшей пробил, тогды ему мусить пробоков своих на пол поделити.

10. Кому бы межи имени река граница была.

Коли бы межи которыми дединами река вместо границы была а под часом сама на чию ся дедину повернула за старое речищо, тогды однак межа або граница по старое речищо маеть быти держана своего берега стародавного; а оные реки половину маеть поживати в ловени рыб и у-в ынших пожитках. А естли бы хто реку перекопал умыслньe ку школе суседа своего, а тот бы его о то ку праву позвал а довел бы, тогды маеть оному право сказити, абы зася реку по-старому загамовал и школы и гоны бобровые и иные ему оправовал.

11. Естли бы хто своим ставом инший став або сеножати затопил.

Коли бы хто у своей дедизне суполную реку мел, то ест обадва береги его, а на ней ставы и млыны поставил а суседнии вышшии млыны своими млыны затопил, тогды маеть вижа з ураду взяти и з вижом маеть спустити воду и школу затопленому оправити маеть водлуг слушного доводу. А естли бы сеножать затопил без воли того, чия сеножать ест, тогды, будет ли его воля отмену взяти, он маеть ему отмену дати; а пак ли бы на то его воли не было, и он нехай по тому держить



воду, как бы его сеножати шкоды не было; а и воду тэж так маеть держати, как бы верхнего млына не затопил. А естли бы половину реки мел або хотя и суполную реку мел, а присыпал греблю к чужому берегу або сеножать затопил без его дозволеня, тот тую греблю роскопаеть, тогды не повинен будеть кгвалту платити, бо нихто не маеть без дозволеня к чужому берегу гребли засыпати ани ставу заняти.

12. Хто бы хотел к чужому берегу став заняти.

Тэж хто бы хотел к чужому берегу заняти став або чужие сеножати потопити або покосити, або лес порубати, або поля поорати, тогды маеть також того вижом обослати и заповедати под закладом; и сужона маеть быти тая каждая реч тым же обычаем, яко стоит в том артыкуле вышей писано.

13. Хто на чией земли посееть збоже, как маеть заповедати вижом, абы не звозил до права под закладом.

Тэж хто коли на чией земли жито посеет, тогды, хто поведаеть свою землю, маеть взяти вижа во врадника, в чием повете седит, и маеть заповедати ему под закладом на нас, господара, и на врадника, штобы он того жита долов не вез, а, пожонши, поставил на той же земли до права; и, рок положивши, мають с обу сторон ездоки вывести. А естли бы тот, хто заповедал, правом перевел, што ж он тое жито будеть сеял на его властной земли, тогды маеть быти ему как земля, так и оное жито. А естли бы он через тот вышей писаный заклад, права не дождавши, оное жито пожонши, звез долов, тогды мает тот заклад и жито платити з навязкою. А естли хто будеть на своей земли властной сеяти, а он ему то заповедаеть, а того правом не переведеть, ижбы земля его была, таковый тот заклад маеть сам платити до скарбу нашого господарского и шкоды тому оправити. А то ест шкоды: естли бы чие жито за заповедью погнило, або тэж оный, хто ездока вывел и на него наложил, а того, на кого жаловал, не довел, тогды тое жито мает тому платити и тую шкоду всю маеть тому оправити. А то ест заклад хто бы кому хотел через границу шкоду вчинити в тых речах, нижей писаных, тогды мает заклад таковый быти: на нас, господара, сто рублев, на державцу дванадцат рублев. А естли бы о межах была заповедь, тогды мает заклад быти на нас, господара, дванадцат рублев, на державцу три рубли. А тая заповед житу и сеножатем мает быти до Божего нароженя.

14. Хто бы земли в держаньи был три годы, а другий бы, правом не переперши, жито пожал або жатое побрал, або бой вчинил и сохи порубал.

Тэж уставуем, иж коли бы хто которую землю держал во-в покои три годы а с покоем сеял або орал, а хто бы, пришодчи на тое поле, пожал або жатое взял а вдарил самого або чоловека его, або которого-колве, або вола, або соху зрубал, таковый маеть платити кгвалт дванадцать рублев грошей, а нам, господару, толко ж. А естли озметь без бою, тот маеть шкоду платити з навязкою, а потом, коли хочеть, држачого о тую землю правом вродовным спирати. А естли бы хто в кого отнимал, а другий того боронил а в держане не дал, тому маеть право быти; и хто в земли винен будеть, тот мает шкоды и кгвалт оправити.

15. Хто бы светки ганил.

Коли бы хто своволне стороне доводячой светки ганил, то ест естли бы он подлуг права поставил осмнадцать светков, а тот бы межи тыми осмнадцатма светки не обобрал шести, годных веры, и их отставлял, хотячи ему тым права кончане переказити, а тот, доводячий, другими ся светки не осмотрел, а мел бы тым на оном року завитом реч свою впустити, тогды таковый моцон будет о тое светков своих нагагенене там же перед судьями их очищати. А коли тые судьи взнають, иж ему тых светков своволне зганил и отставил, а они ся выведуть, тогды таковый оставуючий кождого с тых светков зганеных, водле стану кождого з них, будеть повинен навязывати водлуг роду их: шляхтича яко шляхтича, а хлопа яко хлопа так, яко бы его ранил.

16. Коли бы хто светков наганеных перед судьями не очистил.

Коли бы хто тых же светков своих перед тыми судьями зганеных всих не очистил, тогды хто светков заганить, а оные светки заганеные не очистилися, тогды тые светки, которые не приганены, мают присягати. А естли бы с обу сторон светки межи собою заганили, тогды тые светки на обе стороне мают отставити и знову инших светков с обу сторон мают поставити неподозреных, и межи тыми, которые будут годнейшие, тые мают сами з светками присягати.

17. О увязыванье вы именье за долг або за которую иншую причину.

Коли быхмо которого дворанина нашого послали або з ураду которого воеводы в чие имене увязывати сторону або которого врадника нашого за долг або за которою-колвек иншою причиною, тогды тот увяжчий, кого будеть увязывати, маеть то чинити з людми добрыми, сторонними, з двема або с трема шляхтичи; вси статки домовые, которые-колве речи в оном имени або у дворех будуть, мает верне пописати под сведомом тых людей добрых. А естли бы тот увяжчий иначей вчинил, тогды маеть оную шкоду платити, што-колве у-в оном дворе в тот час згинет, на што слушный довод вчинит або на чом шкодный присягнет. А естли бы увяжчому нечим платити, ино его за шию выдати. А пак ли бы тот увяжчий слушне то перевел, иж тое имене со всими статки и речми, на имя пописаными, кому иному подлуг воли и науки нашое господарское подал, тогды вжо тот, который в увяжчого тые статки и речи побрал, винен сторонам, на которые прислушает, перед правом за то отказывати и оправити.

<20>. О люди, которые приходят на волю и, заседевши волю, проч идуть, што мают платити.

Теж уставуем, иж коли бы чоловек волный пришол за которого князя албо за пана и сел на воли и, выседевшы волю, хотел зася проч пройти, тогды олиж толко ж заслуживши тому ж пану своему, колко на воли седел. Естли ж бы не хотел толко ж заслужите, тогды мает пенязми заплатити за кождую неделю по шести грошей. Естли ж бы он заседевшы волю и втек за другого пана, тогды тот, за кого втек, мает ему его выдати не мней, але яко отчича. Пак ли бы на обсылане его того чоловека выдати не хотел, а то бы на него перед правом доведено, тогды мает сам за него платити за кождую неделю, колко на воли а не робил, по шести грошей. Естли ж бы тот чоловек ему приручон был, а он его выдати не хотел,



и он зася от него втек, тогды он сам повинен будет тому, от кого первей до него втек, платити яко за отчича десят коп грошей и за сынов его, колко с ним втекло будет, по десяти коп грошей и засе, колко не робил, седечы на воли, за неделю по шести грошей.

<21>. Чужого чоловека земли не мает закупати без воли пана его.

К тому теж уставуем, иж не мает жаден боярин ани чоловек в чужого чоловека земли закупати без воли пана его. Естли ж бы в чужого чоловека землю без воли пана закупил и што на ней посеял, тогды тое сеяное и пенязи тратит, а тот пан, чия земля, мает без откладанья пенязей землю ку своим рукам узяти; а он и по том чоловеце его, в которого будеть землю закупил, и на паручнику, через чии руки пенязи дал, искати не мает, для того иж то он учинил на тую уставу нашу. Также и чужого чоловека не мает нихто закупати без воли пана его.

<22>. Естли ж бы хто с ким положил право межи людми своими под страченем права, а сам не станет, тот реч свою тратить.

Теж уставуем: естли бы хто положил рок под страченем сами межи собою и людми своими справедливость чинити, а которая сторона на тот рок не станеть и судей и людей своих не поставит, и перед роком за часу знати той стороне не дасть, для которое причины к тому року готов не был, тогды тую речь свою тратить, а той стороне, которая не станет, мают суди его всказ вчинити и шкоды всказати, на што довод слушный учинить. А естли на которую речь доводу не будет, тогды мает присега вчинена быти: естли в речы самого о кгвалт и о шкоды, тогды сам пан, а в речы людей его люди.

18. Коли бы зе зволеньем обеюх сторон дано имене в руки господарские, а господар дал то держати до россудку кому, а тот бы тое имене сказил.

Тэж уставляем, иж коли бы обе стороне зволили и дали имене в руки наши господарские до росправы, а мы быхмо которому враднику нашому через листы наши або через увяжчого оное имене до воли нашое або до навченя нашого господарского в держане дали, тогды врадник волен будет в том имени слушную живность мети на себе, а з двора не маеть инде ничого возити ани з жоною з детми не маеть в нем лежати; а оное имене со всими речми рухомыми также и з доходы, часу держаня собраными, оной стороне, которой прислушаеть, верне а зуполне вернути мает за листом нашим господарским; а осмотрети того, жебы в оном имени за держаня его жадная ся шкода и спостошене не стало. А естли бы тот врадник иначей вчинил, повинен будеть оной стороне зашкожоной всю шкоду и згубу; а мы и потомки наши винни будем с ним той стороне справедливость вчинити на первом року, яко и на завитом, а в небытности нашой панове рады наши.

19. Которыи братья або близкие маючи имене нерозделеное а перед правом зровнали и росписали, тот дел мают держати вечно.

Уставляем тэж, иж коли бы которая братья рожоная або и далшие в роду, нижли братя, лета зуполные маючи, мели которое имене уместное, нерозделеное, а потом перед правом собе зровнали и росписали, тот вжо дел промежи себе мають вечне держати. А коли бы тот дел не перед врадом, але перед сполными приятелми своими также в имени собе сознали и росписали учинили, а тот дел промежи себе через земскую давность через десять год держали, таковый дел вжо за тою давностью земскою мают тэж промежи себе вечно держати.

20. Естли бы положон был рок праву не под страченем, одна сторона станет, а другая не станет, мает дано быти увязане той стороне в то, о што ся правують.

Тэж уставуем: естли быхмо мы або панове рады наши положили кому рок право мети о землю не под страченем права, а одна сторона бы на тот рок сама стала и судей своих вывела, а другая сторона сама стати и судей своих вывести не хотела, тогды тые судьи, которые выедуть, за непоставлене другое стороны мають тому, который на тот рок станет, в тую землю або в люди, о што ся правують, у держане дати в шкодах и в накладех его, што наложит на тое право, на чом врадник его присягнеть, то ему платити маеть. А заплативши тот наклад и шкоду его, маеть предся судей с обу сторон выводити и право о то мети. А естли бы тот впором своим в тую землю або в люди вступал через увязане тых судей, маеть позван быти ку праву, а право маеть на нем за то усказати кгвалт и наклады, и шкоды, а предся в том кгвалту и в шкодах, и накладех его мают ему увязане дати в тую землю албо в люди, во што первей будуть судьи ему увязанье дали; а оный первей заплативши кгвалт и шкоды, и наклады его, тож маеть з ним знову о то право мети.

***Роздел девятый. О ловы, о пущи, о бортное дерево, о озера, о бобровые гоны, о хмелища, о сокольи гнезда.***

1. Хто бы чии ловы кгвалтом половил.

Тэж уставляем: хто бы чие ловы кгвалтом половил, тогды тому, в чией пущи будеть половил, маеть кгвалт заплатити дванадцат рублев грошей, а на нас, господара, противен маеть заплатити под ценою, который звер будеть половил, яко нижей написано. А естли бы хто стрелцов послал в чужую землю, в пущи або сам украдом звер побил, тогды, естли буде на него доводом слушным переведено, колко зверу убито, таковый маеть звер платити под ценою, нижей описаною. А естли бы стрелца поймано над звером, убитым у пущи, тогды мает веден быти до враду, а с ураду маеть быти на смерть сказан, яко иншие злодеи. А хто бы тэж у своей земли звер погонил, а тот бы звер бег до чужое земли, тогды тот за своим зверем маеть гонити и через чужую землю и можеть свой звер убити в чужой земли. А естли бы хто застрелил звер у своей земли, а тот звер вшол бы в чужую землю, тогды за застрелом своим маеть ити в чужую землю.

2. Цена зверем.

Тэж уставуем цену зверем диким: за зубра дванадцать рублев грошей, за лося шесть рублев грошей, за оленя або за ланю по три рубли грошей, а за медведя три рубли грошей, за коня або за кобылу три рубли грошей, за вепра або за свиню рубль грошей, за серну полкопы грошей, а за рысь рубль грошей.



3. О борти, озера и о сеножати, хто маеть в чией пущи, яко ся мают в том справовати.

Тэж уставуем: которые мають борти свои у пущи нашой господарской або тэж в князской и панской, и в земянской, которым обычаем мают бортей своих вживати. А то тым обычаем: хто маеть борти свои або озера, або сеножати, а при сеножатех лазни в чией пущи, к озеру ему ехати з неводом, а собаки ему не брати ани рогатины, ани жадное стрелбы, чим бы мел зверу шкоду вчинити. А хто мает сеножати в чужой пущи, тот мает сеножатей своих старых вживати, а новых не мает прибавляти; а естли бы старые сеножати его заросли, то может их car ся собе ростеребити. А хто маеть борти в чией пущи, бортники, которые мають ходити к их бортем, не мають з собою псов брати ани рогатин, ани иное жадное стрелбы, чим бы мел зверу шкоду вчинити; але бортники толко мают мети сокеру а пешню, чим борти робити. А к сеножатем не мает ни с чим ити, толко з сокирою, чим заросли ростеребити, а с косою, чим ее маеть косити. А веджо тым, которые озера мають в чией пущи, кгды прийдуть зиме озер своих волочити, волно им дров с тое пущи к лазням своим взяти а корыта на рыбу вделати. А тым которые сеножати мають волность на стирту або на стог або одрину вчинити або огородити. А бортником волно лык на лезиво або лубя на лазбен и на иншие потребы, што бортником на потребы их бортницкие прислушають, иле им потреба будеть; а што может на собе, а не возом вывезти, можеть с пущи чией-колве, в которой борти их будут, взяти. А кгды дерево, в которой борти их будуть, обалит або со пчолами, або без пчол, або хотя дерево не обалить, волно им улей з бортью выпустити, а верхове и коренье того дерева оставите в пущи тому пану, чия будеть пуща. А дерева на будоване и дров за тыми входы нихто с чужое пущи на потребы свои брати не-маеть. А веджо хто мает здавна озера, сеножати або борти в чией пущи, озеры, сеножатми, бортми чужое пущи взяти не можеть; а тот, в чией пущи озера, сеножати и борти будуть, также тых чужих уходов у свою пущу отняты не можеть.

А тот, который пущу свою мает, а чужие борти в его пущи будуть, а кгды пущу свою розробливати всхочеть, не маеть бортем и дереву бортному жадное шкоды вчинити. А естли бы хто, ниву розробливаючи, чие дерево бортное або не бортное деланое, кременное або со пчолами, або без пчол очер або пожаром опалил а шкоду которую тому дереву вчинил, с чого бы мело тое дерево усохнути, тот тому, чиему дереву шкоду вчинит, за то повинен будеть платити подле тое уставы нашое, нижей написаное. А кгды на чием поли дерево бортное чужое будеть, оручи тое свое поле, не маеть чужое борти близко подоривати так, как з борозны осном дерева досягнути можеть. А кгды близко тое дерево подореть, а тое дерево для того всохнеть, тогды тот повинен будеть тое дерево платити тому, чие дерево будет.

4. Хто чужие озера у своей пущи половить и сеножати покосить, што маеть платити.

А хто чужое озеро у своей пущи поволочить, тогды маеть тому, чие озеро будеть, кгвалт платити, а нам, господару, противня, и за рыбу, на чом тот сметь иметь присягнути, што ему шкоды в рыбе станеть. Также естли чужие сеножати у своей пущи хто кгвалтом покосить и, вытискаючи того от его сеножатей, бой вчинить, тогды повинен будет кгвалт платити, а нам, господару, противня; естли ж бою не будеть, а хто сеножати чужие покосить, тогды повинен будеть сено з навязкою вернути.

5. Хто бы в пущи своей застал чиего человека и поймал.

А хто бы у пущи своей застал чиего чоловека и пограбил, тогды за тот грабеж не повинен будеть навязывати; нижли маеть того чоловека и тот грабеж пану на рукоемство дати и до пущи ко пню вести, где пограбил, и шкоды своее на нем доводити. И естли шкоды своее на нем доведеть, тот маеть ему оправити. А естли шкоды ему в пущи не стало, а он безвинне его пограбил, тот грабеж маеть ему навязати.

6. Хто бы мел спор о борти або о входы в пущи а хотел хто кого от бортей и от входов спирати, як мають межи ними право вчинити.

А хто бы мел спор о борть або входы у пущи а хотел хто кого от бортей и от входов спирати а яко-колве чии борти або входы хто завел в чужие руки, яко то много ся здае межи мужиков, иж бчолы для недостатку дани продаеть або по дочце даеть дерево со пчолами зятю в чужое село, а тот на тые пчолы знамена свои наложить и за оным знаменем новым вход в тую пущу мети будеть, а зася того первшого, хто первей был тых уходов в держаньи, вытискал, а спор о том был, тогды мают знамен в дереве заколоти и осмотрети: чие старшое уросшое змамя будет, тому борти и входы сказати мають, а тому, чие новшое знамя будет, сказати мают, абы ся в то не вступал.

7. Хто бы кому озеро або сажовку, або став зволочил.

Тэж уставуем: хто бы кому озеро або сажовку, або став зволочил або ез порубал, таковый мает платити кгвалт и шкоду предся оправити; або тэж млын сказил або греблю перекопал, або млын зжог, а коли бы оный шкодовал, иж млын стоял, а ему плату не было; або бы став выпустил, на што слушный довод вчинить або присягою телесного потвердить, таковый маеть заплатити кгвалт дванадцать рублев грошей а королю дванадцат рублев грошей, и шкоду оправити и млын збудовати.

8. Хто бы кому соколье гнездо сказил або подрубал.

Тэж уставуем: хто бы кому соколе гнездо сказил або подрубал або умысльне сокола под гнездом помкнул, або з гнезда соколы молодые покрал, тогды маеть тому заплатити, чие гнездо, дванадцать рублев грошей, естли бы на него переведено. И тэж, естли бы хто лебединое гнездо сказил або покрал, тогды также дванадцат рублев грошей. И такеж, естли бы хто перевес чужий порубал або сеть с перевеся скрал, дванадцать рублев грошей.

9. О бобровые гоны.

Тэж уставуем: естли бы князьскии або панские, або земянские были гоны бобровые у-в ыншого суседа дедизне, а оный бы пан, в чией дедизне будуть гоны, не маеть сам ани людем своим допустити от старого поля доорати так далеко, как бы мог от зеремяни кием докинути; так же далеко сеножати подкошивати не маеть и лозы теребити. А пак ли бы бобр с того зеремени вышол а подшол у вышшое зеремя, в поле або в сеножати, тогды так жо далеко не маеть поля по-



дорывати и сеножати подкошивати, и лозы теребити, как бы мог от зеремяни кием докинути. А естли бы поля под зеремя подорал або сеножать подкосил, або лозу подрубал а тым бобра выгонил, таковый маеть платити дванадцат рублев грошей, а тому зеремяни предся по тому маеть впокой дати так далеко, яко бы мог кием докинути. А пак ли бы хто кгвалтом бобры побил або злодейским обычаем выкрал, таковый маеть кгвалт платити, а колко будеть бобров убил, тогды маеть платити за карого копа грошей, а за чорного две копе грошей.

10. О хмелища.

Пак ли бы хто хмелища кгвалтом подрал або порубал, хотя у своей дедизне, чужие, а в том на него слушный довод вчинить, таковый маеть кгвалт заплатити, чие хмелища, а противня на нас, господара, дванаддат рублев грошей. А естли бы толко хмель подрал, а не посек, тот маеть платити шкоду з навязкою.

11. О принады пташъи.

Тэж хто бы кому принады порубал, а то бы на него правом переведено, тот маеть тому заплатити, чие принады, дванадцат рублев грошей, а нам, господару, противен.

12. Хто бы принады злодейским обычаем показил.

Хто бы чие принады злодейским обычаем дегтем подмазал або чесноком, а переведено бы то на него правом, тогды мает заплатити, чии принады, три рубли грошей. И тэж тым обычаем, хто бы в кого шатер вкрал, тот маеть заплатити три рубли грошей.

13. Устава, за дерево бортное и небортное што маеть плачоно быти.

Хто бы дерево бортное чужое со пчолами сосну очер або пожаром ожог, або яко-колве сказил, тот за тое дерево и за пчолы повинен будеть платити тому, чие будет, копу грошей, а за дуб по тому ж. А хто бы сосну-пчелницу порубал або сказил, в которой бчолы были, хотя в тот час их не будеть, повинен будеть за нее платити полкопы грошей, а за дуб бчолный, в котором пчолы бывали, по тому ж.

14. Цена бчолам и дереву бортному и небортному.

Хто бы порубал або показил сосну або дуб бортный, в котором ещо бчолы не бывали, або сосну кременную, тот за таковое дерево, иле их сказить, повинен будеть платити по пятнадцати грошей.

Хто кому выдереть бчолы нелажоные, чинячи шкоду, а дерева не казить, тогды повинен будеть за кождые пчолы нелажоные, тыле их кому выдереть, платити по полукопю грошей, а за лажоные по пятнадцати грошей.

<18>. Хто бы кому в гаи зарощоном шкоду вчинил.

Хто бы кому у гаи зарощоном которую шкоду кгвалтом умыслне вчинил або рубал, естли шляхтич шляхтичу, тогды мает ему кгвалту заплатити дванадцат рублев грошей, а шкоду оправити за воз дерева по осми грошей. А естли бы мужик мужику гай кгвалтом порубал а шкоду вчинил, тогды мает заплатити три рубли грошей так, яко бы ему межу переорал, а шкоду оправити. А естли бы хто злодейским обычаем а кому порубал, боярину або мужику, а его бы з лицом з деревом было поймано а лицо бы вынято, тогды мает окупати горло свое. А естли бы самого не поймано, а лицо было вынято, тогды за кождое дерево, которое бы годилося на бервенье яко на клеть, так на избу, по дванадцати грошей; а которое будет ся годити яко на оглобли, так и на дрова, по шести грошей.

<19>. Хто кому сад покрадеть.

Хто бы шляхтичу сад покрал, а на него было бы переведено або з лицом поймано, тот маеть заплатити дванадцат рублев грошей, а мужику три рубли грошей.

<20>. О шацоване земли.

Теж уставуем: коли быхмо мы сами або панове рада наши выслали шацовати именя в которой-колвек речы, тогды мают шацовати под тым способом: служба людей десет коп грошей, земля пустовская пят коп грошей, а пашни дворное бочка земли навозное полкопы грошей, а не навозу полтретядцат грошей, а сеножати на воз сена по пятнадцати грошей; а боры и лесы, которые бы ся годили на пашню и на сеножати, мают по тому ж шацовати; а пущы мают шацованы быти подлуг важности и пожитков земли, каковая земля и пуща пожиточна будеть.

## *Роздел десятый. О именях, которые ов долзех, и о застави.*

1. Хто бы купил именье должное, а тот, хто долг мел, десять лет молчал.

Тэж уставляем, иж коли бы хто купил какое дедицство и держал с покоем, заплативши або не доплативши, а на том же имени хто инший долг мел, первей записаный, поки ещо было не продано, а молчал бы о тот долг десять лет через давность земскую а правом его не искал, тот не маеть того долгу на том имени смотрети, але маеть истца у своих пенезех искати. А естли бы тот не мел чим платити, тогды в том долгу мает его за шию приняти. А естли бы о тот долг до права припозван тот, который имене тое держить, давности земское не омешкавши, тому, подлуг запису его першого, маеть держане оного дедицства в том же долгу быти присужоно, абы тот, который в держани того дедицства, тот долг маеть заплатити; а тот державца на том, в кого купил, мает ся тых пенезей и кождого иншого накладу дойскивати, а наболей, естли бы того долгу и инших которых-колве накладов на себе не принял в тот час, коли тое дедицство записал.

2. Хто бы именье чужое должное за свои долги взял.

Коли бы хто на вечност именя чиего закупного в недостатку другого о какие долги свои правом перевел, а оное бы имене за обой долг оный стояти могло, тогды тот, который мает болшую суму, так държачий, яко зыскуючий, будет повинен другому меншую суму отложити, а сам оное имене в обеюх сумах держати мает иж до выкупеня через отчича, который с права останет тому именю отчичом. А естли бы тот, который болшую суму маеть, будет ли мети волю, может другому за его пенези спустити або оба иншому могуть заставити в той же суме и тые пенези розделити.

3. О долг на чом хто присягнути маеть.

Тэж уставуем, иж кождый жалобник на шкоды свои, яко-колве ему вделаные, так и на долг властный, на который бы долг листы мел, а стратил, а уставил бы на то годных светков, хто бы тые листы видел, тогды, чим будеть винен ему,



маеть тыми светки осветчити, а сам мает на том присягнути, а оный маеть ему то платити, на чом он присягнеть, маеть держано быти. А который бы листы мел на долг, тому без присяги тот долг на лист маеть плачон быти. Уставуем, абы жадин шляхтич и мещанин не позычил вышей десяти коп без листу; а хто бы з шляхты або з мещан один одному позычил вышей десяти коп грошей без листу, а оный ему заприть, тогды право оному не мает допустити, одно на десять коп присягнути, а што будеть вышей десяти коп позычоно без листу, маеть тратити.

4. Коли хто реч заставную в болшой суме заставить иншому.

И тэж коли бы хто реч заставную в болшой суме иншому заставил, а тот, чия реч ест, у кого бы свое застал ку браню их пенезей, которые пенези он або предок его будут на тую реч взяли, маеть его позвати ку праву; а перед правом позвавши а положивши суму пенезей, на записе мененую, свою реч маеть взяти; а тот, который на чужую реч болшую суму дасть, на истцы нехай собе того смотрит, што будеть назвыш первое сумы дал.

5. Кождая застава давности мети не можеть.

Хочем тэж и уставляем, ижбы каждая застава давности земское не мела ани тратить, иж волно будеть всякому дедичу, отложивши перед правом пенязи, а заставленых держаней дедицства своего допустити так за правом своим природжоным, так тэж яко-колве инак набытым. А коли бы хто имене свое або иншую реч которую-колве свою кому в пенезех заставил на рок мененый и хотел бы пенязи его ему вернути, а заклад свой к собе взяти, а он бы пенезей своих в него не хотел брати ани закладу его ему поступити, а позван бы был ку праву, абы пенязи свои взял, а он бы на року завитом не хотел стати, тогды жалобник положивши перед врадом пенязи, врад маеть ему дати увязане в имене, и каждый заклад свой з ураду держати маеть. А естли бы оный, который имене або которые иные речи заставным обычаем закупил а на року позваном стал, тогды, взявши пенязи свои и тое заставы тое именя лежачого або рухомых речей, маеть жалобнику поступите подлуг записов и вмовы, жадною давностью не отбываючи. А естли бы кому заставил на рок, тогды естли бы тот жив, а рок пришол, а он не выкупил на рок, тогды оный тую заставу маеть держати аж до другого року, а не маеть окупати аж от року до року. Нижли естли бы тот, хто заставить, умреть, своее заставы не выкупивши, а сын зостанет або ближний, тогды того року не маеть смотрети, але, припозвавши, маеть тот пенязи взяти, а заставы поступити.

6. Рок праву о заставную реч маеть быти положон завитый.

Хочем тэж мети и вставляем то, иж первый рок, с права заложоный, о каждую реч заставленую маеть быти рок завитый под страченем права. А от которого часу позвом будет позван тот, который заставу держить, от того часу не маеть болший именя казити ани вживаня доходов которых-колвек ся уступати; што бы колве после положеня позву из оного именя взял, то все маеть, выкупаючи, ему вернути. Естли бы не мог сам врадник на котором жо року о выкупене заставы быти для которое иное потребы, тогды врадник будет моцон место себе чоловека доброго на суде посадити, который будеть мети зуполна моц о выкупени заставы все судити и сказывати, што право которой стороне принесеть.

7. Коли бы позвал тот, кого застава, того, хто ему заставил.

Коли бы справа была кому о которую реч не дедичную, то ест яко о долг позычоный або о реч рухомую заставленую, тот, который позван ку выправленю тых речей его заставных, на первом, на другом и на третем року не стал, тот свою реч тратить; а тот, которому бы тые речи заставленые, будеть моцон обернута, куды хочеть.

[8] 7. Хто бы што запродал на рок.

Тэж естли бы хто заставил кому рухомую реч на рок под страченьем, а коли бы рок пришол, а тот, хто заставил, не выкупил, тогды тот, хто закупил, может тые речи обернути ку своей потребе на вечность.

[9] 8. Естли бы хто заставил на рок именя, а не выкупил.

Также и имене естли бы хто кому заставил на рок под страченем, тогды естли бы рок пришол, а тот, хто заставил имене и на тот рок не мог выкупити, тогды тот, хто закупил, маеть обослати ближних, а ближние то имене окупили; пак ли ж бы ближние не могли по том обослани и доходу того именя окупити, тогды тот, хто закупил, вечне тое имене одержить.

[10] 9. Естли хто заставил кому имене на рок и в листе своем опишет без року не окупати.

Естли бы тэж хто кому заставил имене и написал бы в листе своем, иж мают на тот рок окупити, а коли на тот рок не окуплю, тогды до того ж року маеть держати, ино таковые заставы мают быти держаны подлуг запису.

<11>. О именя заставные на рок.

Теж уставуем: естли бы хто заставил кому именье або люди в которой суме пенязей на рок, а зася пенязей не заплативши, тое именье або люди, што будеть заставил, в него которого отнял до року, тогды мает заплатите кгвалту тому двanaдцать рублев грошей, а нам, господару, противень только ж. А колко будеть до року тые люди, колко их заставил, не робили, тогды за кождый тый день мает платити навязки шесть грошей за того, который будеть мети волю а клячу; а за того, который пеш будеть, мает платити три гроши. Пак ли бы тот, который заставил, хотел тые люди на рок окупити, а тот, который закупил, не хотел пенязей своих взяти, а их поступити, тогды тот мает вижа з ураду, в котором повете будеть, взяти и до него ехати, абы пенязи свои взял; естли ж бы он пенезей взяти не хотел, тогды тот виж тые пенязи воземшы мает до скарбу нашого дати, а его в тые люди увезати.

<12>. Естли бы в люди заставные хто иншый увезался.

Естли ж бы хто иншый в люди заставные або в земли заставленые за иншею причиною увязал, тогды тот истец, который ему заставил, маеть ему очищати; и не очистит ли, сам ему шкоду оправити будет.

## *Роздел первыйнадцат. О головщины людей путных и мужицкие и паробоцкие.*

[1]. Напервей о головщинах путного чоловека и бортника.



Тэж уставуем: хто бы путного человека або бортника забил, головщины за путного человека дванадцать рублев грошей, а за бортника осм рублев грошей; а хто бы бил путного человека або бортника, тогды путному человеку навязки три рубли грошей, а бортнику рубль; а жонам их совито.

[2] 1. О головщины, о навязки ремесных людей.

Золотару, органисте, пушкару, пекарцу, кухару, дойлиде, гахвтару, ковалю, столяру, скляру, соколнику, псарцу, возницы, машталеру, муралю, кравцу, шевцу, гахвтарце, коверницы, бральи — маеть тым всим головщина быти, яко путному слузе, дванадцат рублев грошей. Хотя бы тяглый або неволный был с тых ремесников, тогды ему тая головщина, а навязка рубль.

[3] 2. О бои и о головщины тивунов и приставов, и инших врадников.

Тивуну, приставу, ключнику головщины, хто бы его во враде забил, дванадцать рублев грошей, а навязки их во враде три рубли грошей. А естли бы который тивун або пристав з ураду были выставлены, тогды им головщина и навязка, яко и тяглому человеку. А естли бы паробок был во враде в тивунстве або в приставницстве, головщина ему десять коп а навязка рубль до того часу, поки во враде; а естли з ураду вызволены будут, тогды им головщина и навязка, яко паробком.

[4] 3. О головщины и о бои простых людей и паробков.

А коли бы хто мужика тяглого забил, тот мает платити за него головщины десять коп грошей; а за паробка неволного головщины пят коп грошей, а жонце неволной по тому ж головщины.

[5] 4. О бои и раны мужицкие и паробоцкие.

Коли бы хто мужика тяглого ранил або бил, маеть его навязати полтину грошей, а жонце рубль грошей, а паробку полкопы грошей, а жоне его копа грошей.

[6] 5. Жид, татарин хрестьян в неволи мети не мают.

Тэж уставуем: естли бы который жид або татарин которого-колве стану хрестьянина купил або закупил, от того часу приказуем воеводам, старостам, державцам, абы того ся доведывали, кождого хрестьянина от жида або от татарина з неволи вызволяем, а то тым обычаем: естли бы купил на вечность або в купленое жонки его родил, тогды, доросши лет своих, маеть в него выробитца за сем лет, а по семи летех маеть на волю пущон быти. А естли бы жид або татарин закупил в пенезях, тогды уставуем таковым выпуску на кождый год як мужчизне, так невесте полкопы грошей; и до тых часов маеть ему тот закуп служити, поки с тое сумы выробитца. А челедь, которая дана татаром за отца нашого и продков наших, и за нас з дворы нашими, тую челедь они мають держати вечно.

[7] 6. Чоловек волный за жадный выступ в неволю не маеть взят быти.

Тэж уставуем, иж чоловек волный за жадный выступ в неволю не маеть взят быти у вечную в неволю. А естли бы за который выступ выдан был в которой суме, тогды маеть робити а на кождый год выпуску мужику дванадцат грошей, а жонце пятнадцать грошей, естли бы им дано присевок на пожиток их. А естли бы им присевку не давал, тогды мужику на год выпуску пол копы грошей, а жонце двадцать грошей. А естли бы ся сам не мог выробитца, жебы так у великой суме выдан был, тогды дети его мают ся выробити, а выпуску им по тому ж маеть быти.

[8] 7. О выпусканье пенезей закупным людем.

Тэж уставуем: естли бы хто в закупы закупил мужика або жонку, а с ним бы не умовил, што маеть ему присевати або пенезей выпустити, тогды маеть также с пенезей оттручоно быти пятнадцать грошей на лето, а жонце десять грошей.

[9] 8. Естли бы чий человек волный або неволный або челядин зашол за другого, а он бы не хотел права дати и его выдати.

Тэж естли бы чий человек непохожий або челядин неволный за кого зашол за иного а поведался волным, а оный пан, чий чоловек або челядин, просил в него права раз або два, а оный пан не хотел ему на него права дати, тогды таковый земянин маеть притягнен быти ку праву земскому. И естли тот, чий чоловек непохожий або челядин, зыщеть правом, иж его неволный, а на оного пана, в кого был будеть чоловек, переведеть, иж в него просил права раз и два, а он права не дал, тогды тот маеть навязывати оного человека або челядина от того часу, как, от него втекши, в него мешкал, подле уставы тых то прав.

[10] 9. Естли бы у кого челядин втек, а другий, ведаючи заказ, пропустил его доброволне.

Тэж уставуем: естли бы от кого челядин втек, мужик або жонка неволная, а который бы, ведаючи через заказ або заповедь, иж то чужая челядь бежить, и вказал им дорогу або хлеба дал, або их в себе переховал, а то бы на него было переведено, тогды таковый маеть тую челядь отыйскивати; а естли бы не отыйскал, тогды маеть тому, чия челядь, платити.

[11] 10. Естли бы хто сына своего або волного человека в неволю продал.

Тэж уставуем: естли бы волного человека або сына своего хто продал з голоду в неволю або сам ся для голоду продал в неволю, таковый лист не маеть держан быти, и как голод оминеть, тот человек пенезей добывши и ему отдасть, а сам зася волен зостанет. И естли пак хто бы неволного своего продал для голоду або с хлеба дал кому, тогды такий вечне тому маеть быти.

[12] 11. Естли бы хто в голод челядь свою выбил.

Тэж уставуем: естли бы хто в голод челядь свою неволную выбил з двора проч, не хотячи их переховати, а они бы сами в голод перекормилися, таковые вжо не мают быти неволными, але волные. А веджо тым обычаем: иж коли тую челядь выбьеть, тогды ся она маеть оповедити врадником у повете або враднику местскому бурмистру, або их мещаном, иж их выбил; а тые, которым оповедают, мають обослати того пана, чия челядь есть; естли бы их выбил вон, не хотячи их кормити, тогды оная челядь вжо вечне маеть быти волна.

[13] 12. Неволницы мають быти четвераких причин.

Тэж уставляем, иж неволницы мають быти четвераких причин: первые, которые здавна в неволи суть або з неволных ся родили; другие, которые полоном заведены суть з земли неприятелское; третее, коли бы на смерть сказаны



кому, окроме злодейства, а оные бы просили того, кому сказаны, жебы их не губил, а давали бы ся в неволю, а он бы их не губил, таковые в неволи мають быти и дети их, которые потом будуть родити; четвертое, коли бы сами ся в неволю подали, а хто бы, ведаючи жонку неволную, хотя человек волный, ее понял, тогды и сам в неволю маеть быти и дети их, будуть мужского або женского стану; тым же обычаем и жонка маеть быти, естли бы за неволного пошла ведаючи, тогды и сама в неволю подается и дети их.

<14>. К навезкам о приказ слуги.

Естли бы хто кому приказал слугу, а тот слуга, шкоду вчинившы тому пану своему, от него проч втек, тогды тот, который ему приказал, повинен будет его ку праву поставити, а суди мают ему рок зложити, на который маеть его доискавшися и ку праву поставити. Естли ж бы он на тот рок, который суди положат, того не поставил, тогды он сам повинен будет тую шкоду оправовати, на чом он слушный довод учинить. А естли бы ся потом тому пану, в кого слуга втечет, пригодило видети на торгу або поткати на дорозе, тогды вже он сам не мает его имати, нижли маеть смотрети того приказцы своего.

<15>. О слугу неприказного, естли бы пану своему зашкодил.

Естли бы мел слугу неприказного, а он, ему шкоду вчинившы, проч втек, тогды он, где-колве его увидит або споткает, его мает поймати и вести до права и перед правом мает шкоды своее доводити.

## *Роздел вторыйнадцат. О грабежи и о навязки.*

1. Естли бы хто занял або пограбил стадо господарское або князьское, панское и земянское и што ж з него вморил.

Тэж уставляем: естли бы хто занял або пограбил стадо нашо або князьское и панское, або земянское а уморил кобылу або жеребца, тогды за жеребца доброго нашого десять коп грошей, а за кобылу пять коп грошей. А естли бы панского або земянского стада хто жеребца або кобылу пограбил, тогды за жеребца пять коп грошей, а за кобылу три копы грошей. А веджо, естли бы нихто жеребца нашого або земянского не торговал, тогды тая цена; а хто будеть торговал, што будет давано, то маеть быти плачоно. А свирепа естли бы которая у бороне не бывала або дров не возила, тогды мает то быти плачоно; а коли которая будеть у дворе робливала, тогды полтина грошей. А што ся дотычеть мужиковы клячи або жеребца доморосленого, полтина грошей; нижли естли бы кляча была купленая што будеть дал, то мает быти плачоно; або жеребца, хотя и доморосленого, хто будет торговал, што будеть давал, то маеть быти плачоно за доводом.

2. Хто бы побрал кому стадо свирепе на своей земли або на его, або на испаши.

Естли бы хто кому пограбил стадо свирепе на его або на своей земли, або на чией-колве в грабежи або на испаши, тот маеть платити кгвалт и шкоду, што бы ся стало тому стаду, подлуг уфалы, нижей писаное, бо не маеть за испаш стада брати, бы и застал на испаши, але маеть тое стадо отогнати до того пана, чие стадо, а испаш маеть обвести сторонними людми; тогды тот повинен испаш заплатити, чие стадо шкоду вчинило.

3. Хто бы под шляхтичом або под шляхтянкою грабеж вчинил.

Тэж уставуем: хто бы под шляхтичом або под шляхтянкою грабеж вчинил: кони побрал або в костела, або на торгу, або на поли, або в пиру, а хотя бы бою жадного не вчинил, абы одна персуна не была при кони або слуги, або перед слугою коня взял, або з воза выпрег, хотя бы и оная парсуна при том не была, а было бы переведено слушным доводом, тогды оный, который грабил, маеть то оправити ему, яко бы шляхтичу або шляхтянце рану, дванадцать рублев грошей.

4. О грабеж коня панского и дворанского и шляхетского.

Панского, дворанского и шляхетского коня от кождого грабежу безврадного вызволяем. А естли бы хто без враду в князя або в пана пограбил, таковый маеть коня конем навязати.

5. Хто чиего человека пограбить.

Тэж естли бы шляхтич чиих мужиков пограбил на торгу або при церкви, або на поли, або где-колве кони або животину на поли побрал в грабеж, а оный, кому ся грабеж стал, втек ся до права а на то довод вчинил, иж его пограбил, тогды первей с права маеть сказати три рубли навязати а грабеж вернути, то ж тепер маеть на оном, чого ему потреба, искати. А естли бы оный, кого пограбил, тогды тот, хто грабеж за грабеж грабить, свою навязку тратить, а тому, кого грабил, маеть грабеж вернути и навязати.

6. Навязка мужику и жонце.

Тэж уставуем навязки на кождую реч, што мает быти. Навязки, напервей, мужику. Навязка, хто чужого мужика поймаеть а в себе держить, полтина грошей; а жонце рубль грошей, а паробку полкопы грошей, а неволной жонце копа грошей.

7. Навязка на челяд неволную.

Тэж естли бы чия челядь втекла, а заповедал бы, колко о той челяди перейму, и пошол за нею в погоню, а в кого бы ее нашол, тогды мает тому, в кого челядь знашол, перейм дата, с чого будеть первей заповедал. А естли бы без заповеди и перейму в кого оную челядь знашол, а то бы ему не хотел тое челяди его без позему выдати, а взял на нем позем кгвалтом, а потом бы о то до права позван был, тогды тот за тот позем повинен платити, як за кгвалт, дванадцать рублев грошей. А естли бы пак хто чию челядь в себе ховал а по колку кроть закликал, оповедаючи ее, а потом бы тот, чия челядь, в колку неделях тую челяд свою в него нашол, тогды маеть ему за страву толко от кождого челядина дати на неделю по грошу.

<8>. А хто бы чию челяд выкрал або вывел.

Теж уставуем: естли бы хто вывел або выкрал чиего человека албо челядина, а погонен был на дорозе и пойман с тым человеком або с челядю, тогды маеть с тым лицом веден быти до враду нашого, где наближей будет, а врад мает ему справедливость вчинити. И естли ся оный знати к тому не будет, абы тую челед выкрадал, тогды оный, хто его поймает с тою челедю, маеть на него довод або присягу вчинити, иж он его вывел, а он мает каран быти, яко злодей, а челяд мает тому вернена быти, чия была. Пак ли ж бы на дорозе погони-



ти не мог, а в дому чием застал, тогды мает тот пан, у чиего человека тую челед застал, справедливост вчинити, и тая челядь мает выдана быти ему з навезкою, а тот предся, хто ее вывел, мает каран быти, яко злодей.

8. Навязка на волы, на коровы и на иншое быдло.

А хто бы кому вола вкрал або корову, або свиню, або вепра, або овцу, або козу, ино тому цена за вола пятьдесят грошей, а за корову полкопы грошей, за вепра полкопы грошей, за свиню пятнадцать грошей, за овцу дванадцат грошей, за барана дванадцат грошей, за козу шесть грошей, за порося три гроши, за ягня три гроши, за подсвинок шесть грошей, за кнороза полкопы грошей. А хто бы кого пограбил тых скота, а то бы умерло, тогды маеть з навязкою кождую реч платити.

<10>. Цена збожю уставлена.

Теж уставляем цену збожю, хто бы побрал або зостал винен, яко мает платити: пшеницы копа — дванадцат грошей, жита копа — десет грошей, ячменю копа — шесть грошей, овса копа — чотыри грошы, гречихи копа — чотыри гроши, ярыцы копа — осм грошей.

9. О мещан, иж не мають на торгу земян грабити.

Тэж уставуем, иж мещане и подданые наши о долги свои какие-колве не мают селян наших ани тэж чиих иных, духовных и светских, в местех на торзех заповедати ани тым собе на них справедливости доводити, але о тые долги с тыми виноватыми в панов их и з нашими поддаными з наших врадников будуть повинни справедливости доходити; а наши врадники и панские мают им справедливость чинити. А естли бы хто пограбил, не доводячи права, тогды маеть дати нам, господару, три рубли грошей а стороне три рубли грошей.

10. Цена птахам.

Тэж уставляем: хто бы кому вкрал сокола, кречета, болобана, ястреба великого, чеглия або ястребчика малого, або дремлюга, тым цена нижей написана: за кречота красного дванадцать рублев грошей, а за белого кречета десять рублев грошей, за серого кречота шесть рублев грошей, за сокола дванадцать рублев грошей, за ястреба шесть рублев грошей, за болобана три рубли грошей, за рарога три рубли грошей, за чеглия три рубли грошей, за ястребца рубль грошей, за дремлюга рубль грошей.

11. Цена птахам домовым.

За гусь три гроши, за каплуна шесть грошей, за курицу шесть грошей, за утку два гроши, за селезеня грош, за голуба грош. А естли бы хто круговую утку украл, што на крузе седить, дванадцать коп грошей; а за паву, хто вкрадеть, при копы грошей; а жорава домового хто украдеть або убьеть, три копы грошей; а лебедя домового хто бы также убил або вкрал, десять коп грошей.

12. Цена о собаках.

Тэж уставуем цену собакам. Хто бы кому следника або набрешника украл або забил, дванадцать коп грошей, а за бобрового пса двенадцать коп грошей, а за хорта пять коп грошей, а за курча десять коп грошей, а за хорта подсоколего десять коп грошей, за кобеля домового пять коп грошей, за узлайника три копы грошей, за огара три копы грошей, за выжля заечого або звериного три копы грошей, за меделянского пса дванадцать рублев грошей, за ласявого дванадцать рублев грошей, а за обточного пса дванадцать рублев грошей, а за щайку три копы грошей, а за подстрелего пса десять коп грошей.

13. Естли бы кого пес непривязаный зьел.

Тэж уставуем: коли бы кого пес уел с чиего пощеваня, а был бы о то до суда позван, а не знал бы ся ку пощеваню таковому, хочем и сказуем, иж таковый присягою своею телесною невинность свою маеть очищати. А естли бы сам не хотел присягнути, тогды жалобнику маеть присяги допустити, тогды будеть повинен шляхтичу безчестье платити, а простому чоловеку за рану. А естли бы хто кому пса забил з руки боронячися, таковый не маеть ничого платити за него, але коли бы, кинувши, вбил, повинен ему заплатити.

14. Естли бы хто мел пса або быдля, которое бы мело шкоды людем чинити.

Тэж уставуем, иж коли бы чий пес коня, вола або иншого какого другого уел або ему тым которую шкоду вчинил, за таковое быдло господар будет повинен отказывати и шкоду заступати або винного выдати.

### *Роздел третийнадцат, остаточный. О злодействе.*

1. О паробки, где крадуть.

Естли где паробки крадут в околицы а з лицом их поймають, которое лицо будет стояти полтины грошей, тогды мает каран быти, яко злодей. А естли ж полтины лицо стояти не будеть, тогды мает з бонды его шкода плачона быти або лицо вернути, а за навязку пугами бити. А повторе естли вкрадеть, хотя што десяти грошей стояти не будеть, а з лицом поймают, тогды вжо его на шибеницу выдати мает.

2. Которым обычаем заставати маеть лицо або след в чием дому.

Тэж уставуем: естли бы кому сок вел або за лицом следом пришол в чий дом, а не мог мети вижа от того пана, чий человек, або от повету, тогды мает при той стороне трести дом. А естли бы знашол лицо, тогды маеть вести того чоловека з лицом до того враду, чий ест человек. А естли бы его отбили от лица або от свежого следу, а он то переведеть тыми ж сторонними людми, тогды таковый мает шкоду платити, на чом присягнет, и вину злодейскую три рубли грошей, естли шляхтич отобьет, а собе злодея искати.

3. Естли бы хто не дал трести речей краденых або от лица бил.

Пак ли бы хто не дал трести а искати речей краденых або от лица отбил, а оный бы на то сторонними людми перевел, с которыми трести пришол дому его, тогды, будь на шляхтича або на простого чоловека, на чом шкодный на своих шкодах присягнет, тот маеть платити и бой оправити водлуг стану их, кого будеть бито.

4. Естли бы хто чиего человека поймал з лицом, тогды маеть вести до его пана.

Тэж естли бы в имени князьском, панском и земянском человека его з лицом поймано, тогды тот человек маеть веден быти до его пана. Нижли бы чий человек был пойман на



обчом торгу з лицом або на чием чужом имени, тот чоловек маеть веден быти до того пана, чий торг, або до его врадника. А тот пан маеть оное лицо взяти у свой двор а того чоловека у свою казнь осадити и маеть обослати оного пана, чий то чоловек, раз и три; тот пан маеть прислати за тым человеком своим вижа, перед которым мает оный пан, в кого чоловек, справедливость вчинити. Естли ж бы оный пан, чий то чоловек его пойман, вижа своего не прислал, тогды тот пан маеть, подле себе сторону, людей добрых, посадивши, тому справедливость наконец вчинити.

5. Хто бы в кого лицо застал, мает вести до его пана а просити з ним справедливости.

Коли бы хто лицо свое и речи краденые в чиего слуги або подданого застал так на дедизне его, яко инде где-колве, тогды таковогo чоловека лицованого маеть вести до пана его а просити з ним справедливости. А естли бы ему справедливости не вчинено, тогды тот, при чием чоловеце лицо застато, будет повинен о то перед врадником нашим отказывати и того злодея своего перед судом нашим поставити. А естли бы оный злодей втек з рук его або оное лицо стратил, а перед судом не поставил, а лица не положил, тогды повинен будет оному шкоду заплатити, на чом оный присягнеть або слушный довод вчинит, што ему при оном лицы будеть згинуло. И тэж коли бы што в кого вкрадено, а видится ему шкода от которого села, а шкодника своего не ведаеть, тогды мает выпросити право в том селе. А дал бы о то всему селу вину, тогды три мужи з оного села, которых он обереть, мают присягнути, как в том селе шкодника его не ведаюць. И пак ли бы о тое не присягнули, тогды оное село все оную шкоду всю тому шкоднику мают платити, а собе злодея искати.

6. Хто бы злодея лицованого в себе в дому ховал або ведал о нем, або от шибеницы откупил.

Тэж сказуем, иж коли бы хто злодея лицованого у своем имени ведомо ховал або мешкати допустил, або злодея явного от шибеницы своими пенязьми откупил, тогды таковый кождый, естли бы то на него слушным доводом переведено, всю шкоду, которая бы через того злодея кому з ыменя его стала, всим, которым надобе, будеть повинен оправовати.

7. Хто бы шляхтича без лица первый раз перед правом обвинил.

Тэж уставуем, иж коли бы который шляхтич о злодейство без лица первый раз перед врадом был обвинен, тогды таковый, естли лицо при нем не застанут, маеть присягою своею телесною невинность свою очистити.

8. Таж другий раз того ж шляхтича без лица было обвинено.

Естли бы тот же шляхтич другий раз о злодейство также без лица был обвинен, тогды вжо сам-третей собе ровными шляхтичи доброе славы присягою своею телесною мает ся очистити.

9. Коли бы тот же шляхтич без лица о злодейство обвинен был.

Коли бы третий раз шляхтич тот же без лица о злодейство обвинен был, тогды сам-сем, то ест с шестью шляхтичов, собе ровных, во чсти захованых, присягою своею и их телесною мают ся выправити с того. А за четвертым делом обвиненем таковый кождый маеть быти обешон злодейским обычаем.

10. Коли бы мужик мужику клеть покрал, чим маеть каран быти.

Тэж уставуем, иж коли бы мужик мужику клеть выкрал а найдено бы лицо, тогды при лицы мужик, на чом присягнет, маеть з дому заплатити, а за везку маеть висяти. А естли бы шляхтичу свирен покраден спижными речми, тогды маеть плачоно быти дванадцат рублев грошей а вины до скарбу нашого толко ж. А естли бы покрадена клеть з скарбными речми, тогды при лицы на чом шляхтич присягнеть, то маеть плачоно быти а вины нам, господару, противня, а за навязку злодей на шибеницу.

11. Коли бы лице в чией хоромине за замком знайдено было.

Коли бы лицо в чией хоромине за замком было знайдено, а в той хоромине окно будеть, которым бы оное лицо могло быти укинено, а тое лицо не будеть прихоронено, то не есть злодейство. А коли в чием дворе, за плотом або в гумне найдено было, таковое лицо маеть быти сужоно за злодейство.

12. Коли бы злодея на злочинстве поймано было.

Который бы злодей на его злочинстве пойман был, окром дому его, а реч краденая в дому его не была застата, такого жона и дети, и челядь от таковых злочинств прожны, а сам злодей маеть висети.

13. Коли на кого знаки слушные пописаны будуть.

Коли бы на которого человека подозреного знаки злодейские пописаны, а тые знаки были бы слушны, а торпоста будеть чоловек добрый, таковый чоловек маеть быти на мучене выдан.

34. Три кроть злодея приличного одного дня маеть мучити.

Злодея приличного маеть мучити три разы одного дня, а ничим не охромити; а не домучит ли ся на нем злодейства, тогды тот, который дал его мучити, маеть его навязывати: колко кроть будеть мучити, за кождую муку полтина грошей. А естли бы уморил, мучачи, а не домучится ничого, маеть за него головщину платити, какий будеть чоловек. А естли бы оный чоловек в оной муце, чары маючи, муки не чул, а в том яко бы спал, тогды, на чом тот истец на шкодах своих присягнеть, маеть тому платити.

15. Естли бы розбойникы або злодеи чии люди были пойманы а повалали на кого, абы ся делил з ними.

А естли бы розбойники або злодеи чии люди были пойманы к перед право приведены а повалали на наместника своего, иж он с ними розбивал або их переховывал а оным ся лупежом делил, и на потом бы померли, а того перед смертью не отволали; а так бы ся придало, ижбы других злодеев поймано, а тые на того ж бы повалали и тэж на потом бы померли, не отвалаючи; и по третий раз были вжо пойманы и на того ж повалали и, на смерть идучи, также не отвалали, тогды таковый чоловек без лица мает быти каран, яко злодей.



16. Естли бы шляхтич поволал на чиего человека о злодейство.

Тэж уставуем, иж который врожоный шляхтич в чием имени на которого человека злодейство помовил, рекучи тым обычаем: «Ведаю добре, иж тот человек твой злодей а от него маю тую шкоду», там же менити будеть, тогды с таковым человеком обвиненым маеть быти дано право, а тот, который его винил, естли бы не мел на него слушного доводу, тогды мает его присягою телесною сам-третей присягнути; а в том мають судьи ему сказати водле выступу его.

17. В кого бы лицо застато.

Коли бы тот, в кого лицо застато, шляхтич або не шляхтич будучи, менил заводцу, от которого тое речи краденое достал, або менил баришникы, которые тому зведомы а были в той земли, в которой ся то пригодило, маеть стати перед врадом нашим а тым невинность свою очищати; тогды невинность свою очистит а пенязи свои тратит. А пак ли бы не ставил, тогды оному шкодному всю шкоду платити мает з навязкою. А тое лицо до врадника нашого приведено бы або принесено, то маеть у дворе нашом зостати, нижли бы тот виноватый тое лицо во врадника нашого ценою выкупил.

18. Хто бы о реч краденую перед врадом обвинен был.

Коли бы хто с подданых наших которого-колве враду о каковую реч краденую перед врадом обвинен был, а тот, хто бы купил, а заводцы ани барышников не было, але ся добрыми людми, веры годными, высветчил, иж тую реч на волном торгу або на войне, або на ярморку явно купил, таковый оное лицо, которое в него зостато, оному, чие было, маеть вернути, а пенязи свои тратить.

19. Хто бы ся доискивал а поведал при том лицы много покрадено.

Естли бы хто ся доискивал а поведал, што ему при том лици крадено, тогды тот, в которое лицо не купил ничого ани с того пожитку маю.

20. Хто бы злодея при злочинстве забил.

Тэж уставуем: естли бы злодей вшол в чий дом красти, а оного бы злодея зостали и хотели поймати, а он бы ся поймати не дал а боронился, а оные бы тут его при злодействе забили, тогды назавтрее ж тот, хто забил, вземши сторону и околичных суседов, маеть то обвести и послати тую ж сторону до того пана, чий ест человек, естли бы близко был, и оповедати ему, иж человека твоего забито при злодействе; а не будеть его самого, ино его наместничку, жебы того человека послал або сам, ехавши, огледел. А пак ли бы не было того пана, чий человек забит, близко именя, тогды мает с тыми людми сторонними того человека повезти до двора нашого и враду то оповедати. И естли он оповедить, а оный пан, чий человек, хотел искати головщины, таковый головщины не платит. А естли бы забил, а никому не оповедил, таковый головщину платить.

21. Хто бы злодея ранил при злодействе у своем дому.

Естли бы злодея ранил при злодействе у своем дому, тогды мает того повести з лицом, што вкрал будеть, до того пана, чий ест человек. А.естли бы оный пан был далеко, тогды маеть повести до двора нашого з лицом, который будеть близший, и то враду оповедити. А естли бы оного ранного не вел до его пана, чий ест человек, ани до двора господарского, а держал в себе три дни, а он бы в его дому умер, таковый головщину платить.

22. На которого человека знаки будуть granted, а он не дасть ся мучити.

Коли бы на которого человека подозреного знаки злодейские granted, а он бы ся ку тому не знал ани ся о том дал мучити, а хотел то заплатити, чого на нем ищеть, таковому мает дано быти на заплату, а он нехай собе ищеть, на ком хочеть. А мает ся откупити и не даст себе на знаки мучити до дву раз, а за третим разом мають его вжо за таковыми знаки обесити.

23. Хто бы што украл на дворе господарском.

Хто бы на дворе господарском што вкрал, што бы стояло меншей полукопя, которая бы реч не о шию шла, а то бы на него переведено або вынято, таковому мают уши обрезати.

24. О блудяги.

Княжата, панове, которые не седят в поветех, о блудное мают ся заховати подлуг давного обычая, нижли мають брати налезного от клячи по шести грошей, а быдло маюць links дармо отдавати. А шляхта, которые седять в поветех, блудные клячи и быдло мають уводити и давати до дворов наших, а через три дни не мают в себе ховати. А хто бы через три дни в себе блудягу ховал, а ку двору нашому не дал, а то будет на него переведено, тогды мает в том быти винен, яко злодей. А хто зженеть от коней злодея, тогды згонного маеть дати врднику нашому шесть грошей, а тому, хто зженет, шесть грошей.

<25>. На которого бы человека знаки были granted.

Теж уставуем: естли бы на которого человека подозреного знаки злодейские granted были, а он бы перед тым у злодействе от околицы поволан был або за то платеж чинил, або в книгах чорных написан был, а торпостой будет ли человек добрый, таковый человек мает на муку выдан быти. Естли ж бы на которого человека неподозреного знаки злодейские granted были, а он не был в жадном подозреньи и в поволани от околичных суседов и платежу жадного за злодейство не чинил, таковый человек, бы и добре знаки слушные на него были granted, не мает на муку выдан быти. Нижли тот, в кого што украдено будеть, мает просоку на лицо давати и в кого лицо застанет, а он доводу слушного не вчинит, таковый всю шкоду оправовати будет повинен. А естли ж бы тот, в кого лицо застато, поведил, иж тую реч краденую купил, и борышников на то дал, а тые борышники сознают, иж он перед нами то купил, тогды он толко пенязи свои тратит, а тое лицо тому мает вернути, в кого згинуло. А естли бы борышники, которые он меновати будеть, того по нем не сознали, абы он тую реч краденую перед ними купил, а он иншого доводу на тых борышииков не будет мети, чим ся вывести, тогды он мает быти каран, яко злодей. А хотя бы потом на тых борышников, будучы в муце албо идучи на шибеницу, волал, абы они тую реч весполок с ним крали, тогды то им не мает шкодити, иж он в том первей крыл. И теж естли бы кому было злодея выдано, а оный бы его на платеж пустил, а подле выступу его скарати не дал, а оный злодей выпущоный потом кому-колве шкоды чинил, тогды тот, кото-



рый его выпустил, повинен кождому будеть шкоду платити, иж злодея скарати не дал.

<26>. Хто мает трести чый дом которым обычаем.

Теж уставуем: естли хто мает трести чый дом, будучи сведом або теж через соков доведавшися лица, абы было в дому чием, в коморе або в погребе найдено, тогды не сам истец, кому шкода, але стороннего чоловека осмотревшы, абы ничого в него не было, мает послано быти, абы лица осмотрел. И естли найдеть албо на серед избы, албо под окном, тогды мает обявити, а подле того сознаня маеть сказано быти.

<27>. Естли в дому лицо застато будеть, а жона будет вживала тых речей краденых.

Естли бы в дому лицо застато, дети и жона при том были, а тых речей краденых вживали, тогды они повинни будуть тую шкоду платити и сами головами своими выданы быти, нижли не у вечную неволю, але поколя ся выробять; и мает им выпуск быти, яко и тым, которые бы закуплены были; а горлом тот сам мает каран быти, яко злодей, который крал.

<28>. Естли бы лицо важное понесено до двора чиего, а не будет чим з дому злодеева заплатити, маеть вернено быти.

К тому уставуем: естли бы лицо было принесено до двора нашого або князского и панского, а было бы тое лицо — реч важная: албо шаты, або сребро, або кони добрые, а того злодея маетность не змогла бы чым з дому его шкодному заплатити, тогды таковое лицо важное з двора нашого, также и князского и панского маеть даром вернено быти тому, чые будет, а тот злодей на шибеницу, в кого тое лицо застато будет.

# СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА 1566 г.

Реестр.

Привилеи.

Привилей року 63.

Привилей Бельской, принятье унеи рок 64.

Привелей Виленский, рок 65.

Лета Божьего нарожения 1566 месяца июля 1 дня, артикулы Поправы статутовая.

Статут Великого Князства Литовского.

Реестр розделу 1-го. О персоне господарской.

Артыкул 1.

Вси обыватели Великого Князства Литовского одным правом писаным, от нас даным, сужоны быти мають.

Артыкул 2.

Мы господар обецуем никого не карати на заочное поведанье, хот бы се дотыкало ко ображеню маестату нашого господарского, и хто теж што на кого вел, а не довел, тым сам каран быти маеть.

Артыкул 3.

О ображенье маестату нашого господарского.

Артыкул 4.

Ображенье маестату нашого господарского.

Артыкул 5.

О ображенье маестату нашого господарского такий довод а не инакший маеть быти.

Артыкул 6.

Хто бы кольвек с панства нашого до земли неприятельское утек.

Артыкул 7.

Хто бы с пригоды до земли сусед наших втек.

Артыкул 8.

О зкгвалченье и зламанье кглейту.

Артыкул 9.

О мандатех, в которих речах мають быти мандаты с канслерии нашое даваны.

Артыкул 10.

Хто бы кому именье заставил або продал первей нижли з земли утек.

Артыкул 11.

Если бы отец от детей утек до земли неприятельское так теж котрий близший.

Артыкул 12.

Хто бы листы або печати наши фалшовал, чим маеть быти каран.

Артыкул 13.

О фалшованью монеты и о мындзех и золотарех.

Артыкул 14.

Не маеть нихто за чий колвек выступок учинок терпети, одно каждый сам за себе.

Артыкул 15.

Хто много за мало упросил, а без данины побрал.

Артыкул 16.

О реч земленую межи именьями нашими князскими панскими шляхецкими, мы господар тым правом судитисе маем.

Артыкул 17.

Вси в том панстве нашом Великом Князстве Литовском одным тым правом сужоны быти мають.

Артыкул 18.

О листех заповедных, иж не мають быти с канцлерии нашое выдаваны.

Артыкул 19.

Листы отвороные мають кождому ворочаны быти.

Артыкул 20.

О збитью посланца нашого господарского, и теж посланцов от панов рад наших при листех наших господарских и панов рад и старост наших судовых и суду земского.

Артыкул 21.

О листех заручных.

Артыкул 22.

О одноведникох неоселых.

Артыкул 23.

О листех железных, кому мають быти даваны.

Артыкул 24.

Кому бы шло о честь, як рыхло справедливость учынена быти маеть.



колай Павлович Нарушевич, мечник наш Великаго Князства Литовскаго; пан Матей Петчевич, державца скерстомонский и росенский; и иные панове врадники, державцы, тивунове земли Жомоитское, хоружие, послове зо всих земль и поветов того панства Великаго Князства и множества шляхты, рыцерства нашого и обывателей здешних, яко на сойм великий вальный от нас листы нашими позваными и обраных, а иных панов рад наших, князей, панов, панять, врадников, старост и иного рицерства, ач на тот час для собранья у войско против неприятеля нашого, великаго князя московскаго, пры нас их не было, ведже на то все, што вышей в том привилью нашомь описано, через послов своих позволили. И на то есьмо дали всем станом обывателем Великаго Князства Литовскаго сесь наш привилей. Писан у Бельску лета Божъего нароженья тисеча пятьсот шестьдесят четвертого месяца июля перваго дня.

Привилей Виленский, рок 65.

Чиним явно сим листом нашим нинешним и напотом будучим, кому будеть потреба того ведати, альбо чтучи его слышети. Иж будечи нам, господарю, на великом сойме вальном в месте нашем столечном Виленском с паны рады нашими духовными и свецкими, князи, паны, врадниками земскими и дворными, и зо всим рыцерством земль всего панства Великаго Князства Литовскаго, где, прикладаючи потребы речи посполитое того панства нашого, донесли просбы свое межи иными речми покорным чоломбитьем ку нам, господарю, вси станы сполне и одностайне, иж быхмо для способу лепшого и отправы поспешнейшое в справедливости людской, статут новый, от нас, господаря, на сейме валном у Бельску року прошлого выданный и привильем нашим утвержоный, в скутечное уживанье привели, а с тым статутом судовым [*павінна быць:* суды] отправ[ова]ити казали. А приводечи ку болшому порадку речы посполитое, што быхмо на выбранье послов соймом вальным и иным потребам земским належачих, дозволили и допустили в поветех, то ест, где кольвек вряды судовые засажоны, и где потом через нас, господара, засаженье врядов судовых з их прозбы и зволенья дойдет, сойм малы ку бранью всех обывателей в каждом повете мевати и на тые соймы поветовые всим паном радам нашим, князем, паном врядником земским и дворным, и всим станом народу шляхецкаго и стану рыцерского, где в котором повете оселость мает, на часы через листы наши назначоные [*прапушчаны словы:* зъеждчатися, прикладом и порядкомъ, яко на такихъ соймехъ] поветовых справ[а], поступок и обычай заховыван ест в панстве нашом Коруны Польское. Ино мы, господар, дознавши не одно черeз весь час панованья нашого, але ку памети и вспоминанью годному приводечи, же з давных веков, за щастливого панованья славное памяти продков наших, королей их милости и великих князей литовских, [*дададзена лішняе слова:* собрали] яко продков велебных в Бозе, вельможных панов рад их милости духовных и свецких, князей, панов, врядников земских и дворных, и всего рыцерства, родичовв и обывателей земль всих Великого Князства Литовского, цнотливых и верных, а пожиточных послуг в речи посполитой, так жо на тот час и всех будучих ку нам, господарю, пану своему прырожоному, и ку каждым потребам земских, которыми не только за страченьем маетности, але в немстованьем [*так у тэксце, павінна быць:* з нелитованьемъ] здоровья и горл своих, мужне стале заставуючись, так радами мудрими, яко и кождою ростропностью, [*прапушчаны словы:* а праве мужною], а моцною учинностью [*так у тэксце, павінна быць:* усилностью] противко кождому неприятелю нашому нам, господарю, и речи посполитой добре заслугуючи подобали и подобатися не переставают. А для таковых верных, цнотливых к нам миле вдячных заслуг, умыслили есьмо не толко таковых потреб речи посполитое належачих не отмовляти, але еще завжды щодробливе, яко есьмо звыкли, причиняти и примножати хочем и обецуем, абы вжо тымь Статутом новым судили и справовалися вси станы, однаким порадком в поветех и на местцах [*прапушчаны словы:* судомъ розложоныхъ перед врядники, на суды от насъ высажоными, водлуг привилья и наданья нашого на сойме Белскомъ на то от нас обдарованого. А в тыхъ же такихъ поветехъ на местцохъ] головнейших, поветом и судом поветовым розложоных, зъеждчатися и збирати князем, паном радам нашим, врадником земским и дворным, и всему рыцерству, хто в котором повете оселость маеть, дозволяем за обосланьем и листы нашими господарскими зъехавшисе, в потребах речи посполитое радити, обмовляти и обмышляти, о чом им от нас, господаря, ознаймено будет. И с того ж таковего зобранья [и] намов сполных послов обирати и на сейм великий вальный звыклый в том панстве нашом, кгды листы нашими господарскими местце таковому сойму ознаймено и зложоно будет, выправляти, и через листы [*так у тэксце, павінна быць:* тых] послов потребы речи посполитое и кождого зособна повету до нас, господаря, приносити, во всем справуючись по тому, яко в панстве нашом Коруне Польской обычай около таковых зъездов, соймов поветовых, отправленье послов и отношенья потреб речи посполитое на сейм вальный перед нас, господаря, заховывается. А то все, так справы судовые у повете, яко теж и соймы в тых же поветех, яко вышей описано, маеть оть нас, господаря, заховываться, и потомков наших, великих князей литовских, вечне и непорушне держано быти. А с того права и порадку не маем никого вызволити и ничим отменяти. Якож на утверженье и моцность того привилья нашого, подписавши его власною рукою нашою господарскою, печать нашу к нему привесити есьмо казали. Дано и деялосе на валном сойме у Вильни, пры бытности панов рад наших духовных и свецких, и теж князей, панов, врадников земских и дворных, лета Божъего нароженья тисеча пятьсот шестд[е]сят пятого, месяца декабря тридцатого дня.

Лета Божъего нароженья тисеча пятьсот шестдесят шестого, месяца Іюля, первого дня.

Артыкулы поправы статутовое, которые за волею ведомостью короля его милости Великого Князства Литовского Жикгимонта Августа, с потребы прав земских панства его королевское милости Великого Князства Литовского, за зволеньем панов рад их милости того панства духовных и



свецких, также князей и панов врядников его королевское милости, панов послов земских и всех станов сейму належачих, на сойме валном Берестейском поправленые. Которые их милость панове рада и вси станы на сойме в Берестью поправивши, через старосту Жомоитского, маршалка земского Великого Князство Литовского, державцы Плотельского и Тельшовского, пана Яна Ходкевича ку его королевское милости до Люблина прислати были рачили. Где господар его милость тых артыкулов огледавши и их уфаливши, моцъю сойму Берестейского до статуту прав новых вписати росказать рачил, умоцняючи то, аж хотя бы в статуте што были тым артыкулом нижей описаным было противнего, тогды вжо тые артыкулы первей в статуте о таких справах выписаные, ни которое моцы вжадного права мети и держаны быти не мають, але тыми артыкулами на сойме Берестейском уставленными вси станы Великого Князства Литовского, и вси земли тому панству належачие, радити и справоватися мають.

Статут Великого Князства Литовскаго.

Жикгимонт Авгу́ст Божъею милостью король польский, великий князь литовский, руский, пруский, жомоитский, мазовецкий, ифлянтский и иных. Чиним явно всим вобец и каждому зособна нинешним и напотом будучим, иж тот статут Великому Князеству Литовскому, панству нашому и всим землям к нему прислухаючим, упривильеваный в Белску через нас господара на сойме звыклом великом валном, который з стародавных часов звыклый бывати в том панстве нашом Великом Князстве Литовском, зложоный и справленый и постановленый через обранье певное парсуны з роду и народу шляхецкого станов соймом належачим родичом и обывателем того Великого Князства, леч иж ку ужываныо не пришол аж и до сих часов не выдан. Тогды то с тых прычин сталосе, иж через нас и през панов рад наших также и всих тых станов Великого Князства Литовского сойму належачых не был еще проглядан и ревидовань про войну уставичную, которую есьмо вели по вси тые часы з московским, а так на теперешнем валном сойме Виленском важными справами затруднени. Ведже яко в час мел знести, видечи быть потребную справедливость всим про то с паны рады нашими и зо всими станы сойму належачыми на поправованье и прегляданье того статуту заседшы и скорикговавшы вже на тот час на вси потомные часы ку ужываныо, водлуг привильев господарских Бельского и Виленьского в тоть статут вышей вложоных и описаных, прыложывшы к ним третий прывилей, в тот же статут казавшы вписати на поровнанье и объвенье всих станов, иж ровно ку достоенствам так литовский яко и руский народ приходити мает, выдали есмо и выдаем, пры бытности и з уфалою и позволеньем рад наших и всих станов сойму належачых, всим в посполитость, водле которого вжо вси обыватели того панства нашого Великого Князства Литовского и вси земли ку нему належачие будуть се радити и судити, поправуючы и прибавляючы водле часу потребы артыкулов в том статуте на соймех валных Великого Князства Литовского, так яко около того поправованья артыкуловь шырей доложоно и в привильи Бельском. А выдань есть сесь статут на сойме Виленском великом валном, року Божъего нароженья тисеча пятьсот шестдесят шостого, месяца марта, первого дня.

### *Роздел первый. О персоне господарской.*

Артыкул 1.

Вси обыватели Великого Князства Литовского одным правом писаным и от нас даным сужоны быти мают.

Напеpед мы господар обецуем и шлюбуем под тою ж присегою, которую учинили есьмо всим обывателем всих земль того панства нашого Великого Князства Литовского, иж всих княжат, панов рад духовных и свецких, панов хоруговных, шляхту, места и всих подданых наших и всих станов в том панстве нашом Великом Князстве Литовском, также и земль Руских Киевское, Жомоитское, Волынское, Подляшское и иных земль прислухаючых к тому панству нашому, почоншы от вышнего стану аж и до нижнего, тыми одными правы писаными от нас даными судити исправовати.

Артыкул 2.

Мы господар обецуем и шлюбуем никого не карати на заочное поведанье, хотя бы се дотыкало и о ображенье маестату нашого господарского, и хто теж што на кого вел, а не довел, тым сам мает каран быти.

Теж предъречоным прелатом княжатом, понятом, паном, радам духовным и свецким, паном хоруговным шляхтам и местам земли Великого Князства Литовского, Руское, Киевское, Жомоитское, Волынское, Подляшское, Смоленьское, Полоцкое, Витебское, Мстиславское и иных земль Великого Князства Литовского, обецуем словом нашим господарским, иж над жадного человека выданье албо осоченье явное таемное и подозренье тых станов вышейменених карати не хочем ани винити которою кольвек виною пенежною, кривавою, везеньем, або достоенств врядов або именья отнятьем, нижли аж бы первей у суду явным рядом и поступом права, коли жалобник то есть повод и отпор обжалованый очивисте станут, и достаточне на конец будут поконаны, которые по суде и таковом поконаныо винни, мають быти караны виною у артыкулех нижей описаных меновите назначоною. А хто бы теж кого колвек, обмовляючи вчинил к соромоте и зелживости, а шло бы о честь або о горло або о которое кольвек скаранье, тогды тоть, хто на кого мовит и ведет, а не доведет, тым караньем сам мает быти каран.

Артыкул 3.

О ображенье маестату господарского.

О ображенье маестату господарского так се разумеет, колибы хто змову албо спикненье албо бунт учинил на здоровье наше господарское, хотя бы пан Бог уховал, иж бы оная змова не была учынком пополнена, таковый за слушным доводом, як о том нижой описано, честь и горло и именье стратит. Теж кгды маестат наш ображон бывает с тое причыны, кгды бы хто бунтовал покой посполитый врушаючы против нас господара ку шкоде и речы посполитое, и мынцу без воли нашое бил явне, а чого Боже уховай на нас смерти, так теж и на потомки наши Великие Князи Литовские, по зешстях их хотечы хто осести и опоновати тое панство Великое Князство и господарем быти на нем, войско



люд служебный сбирал и выводил, хто бы теж з неприятелми порозуменье мел, листы до них або послы против нам господарю и речы посполитое або остерегаючы слал, тым неприятелем якуюж кольвек помоч давал, хотя бы теж замок наш неприятелеви подал, хто бы теж люди непрыятельские в панство наше Великое Князство Литовское зрадливе привел, а то бы на него слушне и справедливе было переведено таким же доводом, яко нижей описано: таковый с права з розсудку нашого с паны радами нашими Великого Князства Литовского честь горло тратить, и таковаго зрадцы дети сынове за таковый выступок отца своего безецными будут, а именья того зрадцы отчызные выслужоные которым кольвек обычаем набытые мимо дъти и близкие на нас господаря приходять. Ведьжо жоны таковых здрайц которие не будуть ли ведали тое здрады мужов своих, а с того се выведут пресегами своими, таковые имений своих отчызных и матерыстых и вена пред учынком тое зрады им от мужей их описаного не тратят. [А дочки тых ачь колвек почтивости своее нетратятъ] але до имений отчызных не прийдут, хиба по смерти маток своих только до четвертое части имений матерыстых приходити будуть.

Артыкул 4.

О ображенье маестату господарского.

Теж коли бы хто якого кольвек стану был найден явно подойзреный, иж маестат наш господарский образил, таковому жаден привилей ани зацность ани достоенство не маеть помагати ани се им щытити можеть, абы се не мел справовати, и где будеть правом поконан, абы не мел каран быти. А хто бы в час милуючы пана Бога и пана своего и реч посполитую справедливе перестерег або объявил, повышенья годен будеть. А за обмовенье славною о парсуне нашой господарской за доводом слушным справа и суду маем карати ведле важности выступу и слов, ведже ласкою нашою господарскою, а честью и горлом ани именья отнятьем за то карати не будем, ведже в том выступе коло ображеня маестату нашого господарского, где кому идеть о честь и о горло, таковых шляхту подданных наших нигде индей, одно у здешнем панстве нашом Великом Князстве Литовском на соймех валных тутошнего панства, мы господар с паны рады нашими судити водле выступку их тым каранем, яко вышей описано, карати маем.

Артыкул 5.

О ображенье маестату господарского такий довод, а не инакший маеть быти.

Яко в кождом учынку, за который гордом карають, потреба доводов явных и ясных, так во ображенью маестату нашого неледа за осоченем або вымовеньем маем се на подданных наших сквапляти, але хто на кого ображене маестату ведеть, мает довести сведецтвом веры годными и неподойзреными людми шляхтою и их своею присегою. А если бы хто кого обмовил в том учынку, а звлаща иж бы на него менил, же пам господару на здоровье стоял або реч посполитую зрадити и ку прудкому упадку привести хотел, и на тое се важил и готовал, такий поведач, если бы таким же ясным сведецтвом не довел, сам отсуженем почтивости и горлом маеть быти каран.

Артыкул 6.

Хто бы колвек с панства нашого до земли неприятельское утек.

Теж уставуем, хто бы кольвек с подданных наших с панства нашого утек до земли неприятельское умыслом злым на зраду ку шкоде нам господарю и речы посполитой, такий честь тратит, а если бы поиман был, тогды и горлом маеть быти каран. А дети ач колвек для того выступку отца своего почтивости свое не тратят, але именья вси отцовские тратят, ниж бы што мели власного набытья своего, або перед тым учынком отца своего отделены были, тогды при том застати мають. Таким же обычаем и жоны если будуть не ведали здрады мужов своих, таковые в том будуть захованы, яко в третем артыкуле сего розделу о таких есть описано.

Артыкул 7.

Хто бы с пригоды до земли сусед наших втек.

Уставуем теж, если бы хто з якое пригоды припалое кром ображенья маестату нашого и речы посполитое зъехал до земли якого суседа нашого, выймуючы земли Московские, таковый почтивости, горла и именья не тратить, одно маеть справоватися тому от кого будеть обвинен и ласки нашое господарское перенайдовати за кглейтом нашим, а тот кглейт наш на врадех, и ввезде где ся оборочати будеть, а особливе по местом торгом и при костелех, маеть давати обволывати и прибиваньем цедул ознаймованьем и рок выйстя кгдейту оповедати, а то для того абы собе лепшую безпечность мети мог. А если бы в том часе не переправил собе ласки нашое господарское и тому кому завинил не справилсе, тогды мають таковогo за се из границ панства нашаго за кглейтом нашим пропустити, леч не до земли неприятельское, и то мають чынити перед выйстем кглейту, а нам господарю волно будеть кглейтом далшим водле воли и зданья нашого господарского.

Артыкул 8.

О зкгвалцене и зламане кглейту.

Теж уставуем, если бы мы господар кглейтом своим кого убезпечили, а тот бы кглейт ясне и значне был обволан, за которым бы он обвиненный на справу до нас приехал, и хто бы таковогo под тым часом ранил або забил без его початку и причины, таковый сам маеть быти горлом каран, яко тот которий кглейт наш господарский зкгвалтил. Тым жо обычаем хто бы з кглейтом приехавшы, а сам неспокойне и нескромне се заховал, и кого ранил або забил и який кольвек кгвалт учинил, тот сам собе кглейт зламал и горло тратит.

Артыкул 9.

О мондатех, в которых мають быти мандаты с канцеляреи нашое даваны.

Напервей мандаты мають быти даваны о ображенье маестату нашого господарского, теж хто бы при дворе нашом господарском кого забившы або кгвалт який учынившы утек, хто бы теж покой посполитый взрушил, яко ест вышей о ображенье маестату нашого господарского вышей и шырей описано, хто бы на именью своем новое мыто вымышлял, або теж мытник наш господарский и теж хто с подданных наших маючи стародавные або от нас даное мыто на именью своем або в державе своей над уставу так теж и от



подданных шляхецких што брал, так теж листы и мандаты мають быти даваны в речах и в пожитках столу и скарбу нашого господарского належачих и о иншые некоторые речи. Кром вышей мененых артыкулов мандаты никому с канцеляреи нашое не мають быть даваны, а если бы были даваны, тогды сторона оную реч, кром тых мандатов наших, будучы позвана и ставши очевисто неповинна будеть отказовати, а за мандатом нашим маеть зложон рок завитый.

Артыкул 10.

Хто бы кому именье заставил а продал первей, нижли з земли утек.

Теж если бы хто который человек, перед тым нижли утечь до земли неприятельское, будучы еще в панстве нашом, продал або запродал именье якое або люди або землю кому, а будет ли он тое рады его не ведал, и на то право поднесеть и окажет на то листы и держанья своего доведет, тогда маеть он тое купленое або закупленное именье спокойне держать, а пак ли бы не хотел присегати, тогды тое купленое або закупленное именье тратит.

Артыкул 11.

Если бы отец от детеи втек до земли неприятельское, так теж который ближшый.

Теж уставуем, если бы отец от детей утек до земли неприятеля нашего московского и до иншых земль неприятель наших, а дети бы на именьи зоставил по себе, тогды именья его на нас господаря спадывають, бо за выступ отца их власного вже сут отдалены от имеией. Ведьже которий бы сын был делный от отца своего и первей тое части своее в держанью был, нижли утек отец его, и мешкал бы на том кром отца своего не у в одном местцу з ним, а не за одным плотом, а тое рады и учынку отца своего не ведал, а не был подойзреный и вывелся того присегою своею, таковые тогды сыны и дочки от почтивости своее от части именья своего не одпадывают. А если бы который прирожоный брат або девка або который будь з роду утек до земли того неприятеля нашого московского и до земль неприятельских поганских, тогды делница, то есть часть невыделена не будеть выделена была, будь не выделена, спадывает на нас господаря, и ближний жаден не будет ку тому и не маеть мети ничого, а ведьже то братьи и близким яко в почтивости так и частем именьям их шкодити не маеть. А хто бы таковоого здрайцу утекаючого забил, або живого до нас и до вряду нашого привел, и то на его слушным доводом перевел, таковоого почтивости то шкодити не маеть, але еще за то будет годен ласки нашого господарское, а если бы не довел, тогды сам маеть быть каран, яко вышей описано.

Артыкул 12.

Хто бы листы або печати наши фалшовал, чым маеть быти каран.

Коли бы хто листы або печати наши фалшовал, або на кшталт руки нашое также с канцлярейных писаров наших того панства подписовал, або хто бы теж печати наши соберыв и в себе ховал и их ужывал, таковый за оказаньем слушным явностью певною и доводом слушным ничим иным толко огнем каран быти маеть. Ку тому если бы теж хто печати и выписы врадовые переправовал, тестаменты на заставу фалшовал, або одбираючи печати от листов к другим прикладал ку помочы и ку пожытку собе а ку шкоде стороны своее противное, а то бы се на праве нашло и оказало, тот тую реч, о што тые листы идуть и о што за ними право ведет, тратит и горлом каран предсе маеть быти. А хто бы листы фалшывые на якую реч набытую показал, которие бы по чией смерти з именьем або с чим кольвек до рук его пришли, за кими листы чого вжывал тот ближшый, на том присегнути, иж такие листы по смерти тых, от которих се ему достали з именьем або которою кольвек речъю, и за тым тое стороны почтивости и горлу шкодити не будет, а о тую реч, о што право идет, предся мовити можеть и правом поступовати и ку листом мовити, если против праву але недотливе.

Артыкул 13.

О фалшованью монеты о мындзех и о золоторех.

Теж хто бы монету нашу фальшовал и без воли нашое переправовал и обрезовал, так теж мындзаре наши, которие золото, и серебро, и иншую реч, матереи належачую и прислухаючую мындзе, фалшовали бы, зливали и мешали ку пожитку своему, а ку шкоде речи посполитое, а то бы на них досведчано, тые мають огнем караны без милосердья. По тому ж золотари, которие золото, серебро фалшують и межи того мешають медь, цын або олово и в том бы были дознани, тогды сами мають огнем быти караны, а их маетность тому, кому шкоду учинили, маеть быть плачоно. Ведь же работа тая и матерея, без которое бы тое ремесло их справовано быти не могло подле звыклости ее, то фалшем розумено быти не маеть.

Артыкул 14.

Не маеть никто ни за чий кольвек учинок терпети, только кождый сам за себе.

Теж уставуем, иж нихто ни за чий кольвек учинок не маеть каран и сказан быти, толко которим винен, кгдыж того право божое и справедливость хрестиянская учыть, якож так хочем мети: абы ани отец за сына ани сын за отца, кром ображенья маестату нашого, яко вышеи около того ест описано, ани жона за мужа, ани муж за жону, так теж брат за брата, и жадный прирожоный, и слуга за пана, пан за слугу, нихто ни за чий выступ учынок, толко кождый сам за свой выступ мает терпети и каран быти.

Артыкул 15.

Хто бы много за мало упросил а без данины побрал.

Теж хто много за мало упросил, а то бы на него устне и с права было переведено, вышей нижли просил, таковый тую выслугу свою от нас даную тратит. А хотя бы и добре упросил, а без данины нашое што и к той выслуге своей взял и к тому привернул, предъся тую выслугу и забранье тратит и спадывает то за се на нас господаря. А хто ку отчызному своему именью взял чоловека, або и десети, або колко кольвек и с землями, або земли пустое, тогды маеть кождого чоловека, колко будет взял, своими отзычнами навезати з земли, або кождую землю землею, а ведже не не на голую повесть и обмову, але за огледаньем и выведаньем слушным и справедливым правным поступком и доводом через людей цнотливых и веры годных комисаров тубулцов. Ровностью



права однакими доводами вдаючы се в ровное право и з шляхтою, яко о том нижей написано.

Артыкул 16.

О реч земленую, межы именьями нашими князскими панскими шляхецкими, мы господар одным тым правом судитисе маем.

Теж мы господар обецуем и хочем, абы тое через нас и потомков наших споры розница межи кгрунтами нашими шляхецкими вечно было держано, гдеж бы се трафило в именьях наших споры розница межи кгрунтами нашими шляхецкими и межы тыми именьями, которые вышли з данины нашое, иж в той речы земляной маем мы и потомкн наши Великие Киязи Литовские тым же одным правом яко и подданные наши Великого Князьства судитися а не иначей, чий довод будеть слушнейший водле права, тот ку доводу маеть быти припущон.

Артыкул 17.

Вси в том панстве нашом великом Князстве Литовском одным тым правом сужоны быти мають.

Уставуем теж и вечие а неотменне мети хочем, абы все подданные наши всех станов, так богатого яко и вбогого, почоншы от княжат панов рад духовных и свецких панов хоруговных и шляхты, аж до нижшого стану, одным тым правом от нас даным были сужоны, и всякие речы, почоншы оть почтивости горла достоенств маетности именей всяких справ земленых лежачых рухомых, аж до наименшое речы, а не инакшым правом але тым статутом от нас даным мають быть сужоны. Также и чужоземцы и заграничники Великого Князства приеждчые и яким кольвек обычаем прибылые люди тым же правом же мають быть сужоны и на таких врядех, где выступить.

Артыкул 18.

О листеях заповедных, иж не мають быти с канцляреи нашое выдаваны.

Теж уставуем, иж листов наших заповедных на продлуженье справедливости людское, яко кольвек повстегаючы або задержываючы, от сих часов напотом до всяких судов мы сами и потомки наши Великие Князи Литовские давати не будем, окром трох члонков: первое если бы хто о реч посполитую в неприятелей наших у везеныо был, другое коли бы хто на службе нашой и речи посполитое в посельстве до земль чужых або заграничье панств наших, где ся будет дотыкало речы посполитое, и в иншых речах господарских властных послан, и к тому особливе в потребах яких кольвек водле часу припалых потребы отправуючы ими ся забавил, в таковых речах и справах не толко листы наши господарские, але и панов рад наших ити могуть и местце у праве мети будуть, третее коли бы хто правдиве немоцон был, тогды толко которий не стал, маеть на другом року присегнути, иж правдиве немоцон был. А у в иншых речах кроме тых члонков хотя бы и выданы кому были, тогды врадники наши то есть суд замковый земский и меский, таковых листов заповедных ку кривде одное стороны одержаных неповиины приймовати ани их послушни быти.

Артыкул 19.

Листы отвороные мають быти кождому ворочаны.

Теж хто бы листы наши отвороные в жалобе своей до кого принес, будь до князя, або до пана, або до державец, або земенин до земенина, а хто бы колвек з них оный лист отворенный прочетши у себе держал и копею з него знявшы под печатью вознаго оному не хотел вернути до трех дней, тогды таковый за противность свою нам господару у вину упадывает у дванадцать рублей грошей, а стороне також маеть заплатити. А ведьже листы отвороные мають обычаем слушным даваны быти через возного и пред людми сторонными шляхтою.

Артыкул 20.

О битью посланца нашого господарского, и теж посланцов от панов рад наших при листех наших господарских и панов рад и старост наших судовых и суду земского.

Уставуем, хто бы посланца нашого господарского, и теж посланцов панов рад наших, за листы нашими и за листы панов рад наших и старост судовых и суду земского, збил и листов не учтил, або листы подрал ку зелжывости нашой и рад наших, тот маеть за слушным доводом, если на него очевисто переведут дванадцать недель на замку нашом седети, а дворанина совито, навезать водлуг стану его. А дворанин кгды листы подавать маеть, мает меть при собе сторону, то есть двох шляхтичов для доводу. Так теж и сторону, которых будет мети при собе дворанин, если бы хто забил або якую легкость учынил, маеть совито водлуг стану их навезати. За листы и в справах урядовне посланые ездячы мають скромне и учтиве се захововать, и жадное прычыны ку именью и зелженью своему не давать и ничого неслушнаго не почынать, одно то справовати, што вряду его наледыть и с чым приехал.

Артыкул 21.

О листех заручных.

Теж абецуем и маем давати о безпечность здоровья подданых наших шляхту, за похвалками и звазненьем чиим кольвек противко их кождого, з великих кровных аж до нижных станов, с канцляреи нашое листы заручные, и заклады на них казати описовати пятьсот коп грошей наименшей, а болшей две тысечы коп грошей, а над то вышейописаные заклады никому так с болших яко и з менших станов шляхецкого народу даваны быти не мають. А того канцлярейные писары наши господарские земские Великаго Князства Литовскаго догледати и вважати [*sic*] мають, кому пятьсот коп грошей а кому две тысечи коп грошей в листех заклады описованы и даваны быти мають. А хто бы за похвалкою або звазньем своим обнесен будучы урядовне листом нашим заручным, а через тот заклад кого забил, тогды справа за слушным доводом горлом маеть быть каран, а заклад на нас господаря до скарбу нашого земского Великаго Князства Литовскаго на иіенью его маеть быти с правлено. А еслибы не забил, толко ранил або збил, тогды с права также за слушным доводом заруку нам господарю маеть платити, а тому битому маеть быть справлено навезка совита водле стану его. А хто бы заруку вынewшы, сторону противную, на которую заруку взял, самого его забил або бил або ранил, тот сам таковою ж виною маеть быть каран. А мы господар не маем таковых закладов никому отпущати, але кажем бра-



ти до скарбу нашого земского Великого Князства Литовского, а в небытности нашой в здешнем панстве воеводове старосты державцы судовые, где книги лежать, будуть мочы листы заручные под печатми своими шляхте давати, уважаючы кому який с тых двух сум заклад маеть быти даван.

Артыкул 22.

О отповедниках неоселых.

Теж уставуем, если бы хто кольвек неоселый, будь тубулец панства нашого Великаго Князства яко и чужоземец, кому теж колвек иншому отповедь обличне або через листы або теж заочне учынил, таковый отповедник маеть быть поставлен от нас господаря або от вряду замкового або и земского перед правом, где бы колвек при котором вряде то се деяло, и если бы он тое отповеди пред врядом довел, тогды таковый отповедник неоселый маеть быти на замку нашом посажон, а седети маеть дванадцать недель, не маеть быть с того везенья пущон, аж первей себе рукоемством увыйстит, абы тот, против кого отповедь учинил, в покою был.

Артыкул 23.

О листех железных, кому мають быти даваны.

Теж уставуем, иж листы железные с канцляреи нашое не мають быть даваны тем, которые маетности своей на збыткох марне тратили и за таковыми збыточными тратами в долги попали, але тым маеть давати таковые листы, которые бы в долги пришли и в убозство попали з Божъего допущенья: то есть, если бы огнем погорели або маетности их стонули, албо бы от разбою от неприятеля нашого забрани были, або хто бы теж для речы посполитое ку утрате у в убозство пришол. А веджо далшого часу и волности не маеть тым узычати и давати толко в наибольшой суме и речы три годы, а в том часе маеть се в наибольшой речы и суме тот о заплату старати. И людем простым купцом и жыдом против шляхты таковых листов не маем держати, а веджо кому будь хотели такового листу железного узычити, и то предсе не напротив шляхты, тогды с канцляреи нашое тот маеть быть отослан до вряду его належачого, отколь есть. Перед которим врядом хто таковаго листу железнаго потребуеть, маеть рукоемство слушное поставити людей добрих оселых и куститися ими и их маетностями, иж не згинет в тых же летех, яко на листех ему назначоно, а на остатный день выйстя року будуть повинны рукоимы оного на том же вряде поставить, а должники долгов своих и оного истца в того вряду упоминати и найдовати и доходити будуть, еслибы рукоимы не поставили и в том се оным не вправедливили, тогды сами за листы або за доводом правным тые долги повинны будут платити.

Артыкул 24.

Кому бы шло о честь, як рыхло справедливость учынена быти маеть.

Теж обецуем и будем повинни каждому с подданых наших, кому бы шло о честь прудкую а неодволочную справедливость учынити, а если бы на нас господаря зашли якие трудности, тогды таковой справе в годы чотыри роки складаем. А где на першом втором або на третем року пред ся за недоспехом нашим не могли быхмо конца в той речы учынить, и до того четвертого або розсудку нашого того оного обвиненаго почтивости шкодити не маеть. А хотя бы умер або забит был, не дождавшы оного розсудку нашого, тогды ему ани потомком его почтивости шкодити не маеть. А приганенный службы нашое земское не мает се вымовляти, ведже четвертого остатнего року и войною се вымовляти не будеть мочы.

Артыкул 25.

О мытех новых.

Теж уставуем и приказуем, абы жаден человек в том панстве нашом Великом Князстве Литовском не смел новых мыт вымышляти ани встановляти ни на дорогах, ни на местех, ани на греблях, ани на реках, ани в торгах, ани в местечках ни в стодолах, або в корчмах на гостинцах в именьях своих, кроме которые бы были з стародавна установлены, або мели бы на то листы продков наших або наши. А хто бы кольвек смел мыто кром звычайнаго торгового установляти, тогды тое именье, в котором мыто кром торгового установил, тратить и спадывает на нас господаря. А которие здавна и за привильями и листы нашими мыто и мостовое на именьях своих на дорогах гати мосты гребли и ровы направовати мають, а хто бы где мостов гатей гребели направленых не мел, а для того бы переезд был трудный, а кому бы се на тых местцах шкода стала, тому тот же пан, хто мыто берет, винен будеть шкоду оправити и з накладом, што ищути шкоды наложить. А старостове державцы або мытники наши, еслибы такеж беручы мыто дорог не поправовали на именьях наших, тогды шкоду и наклад тому, што ищучи хто наложить, винны будуть платити. А которие теж князи панове и земяне шляхта старие дороги ставы своими затопят, або заорут, привлащаючи собе пожытки, таковые новые дороги мають быти погачоны и положоны не ку кривде людем перееждим, але што могут быть напростей и так, або были напрованы, жебы з возы тяжкими у везде безпечный переезд был. А к тому иншые стародавные дороги на именьях и на кгрунтех своих в местцах потребных поправовати, мост мостити, гати гатити, тые которие з стародавна людьми то робливали и вперед будуть повины. А кгды бы на чыем именьи або на кгрунте злый переезд был, а шляхтич хотел бы его поправовати, а с того себе за наклад свой пожиток мети, тогды тот маеть до нас господаря утечы, а мы, доведавшыся того через посланцов або старост наших ку тому прилеглых, маем ему дати и встановити от купцов и иншых переежджых людей мыто або плат, водле важности и наклады его и ласки нашое господарское. Так теж и мытники наши в местечках и селах князских, панских, боярских, где первей мыто не бирано, часу праздников и сходов жадных мыт и торгового вымышляти и брати не мають, [а если бы важили то учинити, то мають] кгвалт и шкоду совито платити. А на реках портовых, и на которых порт может быти, а где кольвек в панстве нашом Великом Князстве, жаден ставов новых становити и гребли сыпати ку переказе порту и спусту не маеть мети. Так теж и езы на реках портовых, где з стародавна бывали, хто бы ставил, тогды предсе маеть местца заставляти так слушне, абы езом, або тамованьем никому се шкода не стала. А таковых речей воеводове, старостове, державцы наши кождый в державе своей мають досмотрети, а новых мыт абы на



реках портовых и на ставех и на греблях не было, также на езох абы проходы были слушные без завады заставованы.

Артыкул 26.

О неданье мыта шляхте.

Теж з ласки и доброти нашое господарское князем, паном радам духовным и свецским, шляхте в том панстве нашом тую вольность на водах на дорогах, то ест сухим путем и водным, на торгох, на мостех, так по именьях наших [яко и по их властных] спущати и продавати з их власных гумен, кождому его роботы правдивое збожье, а не купленое, от того мыто не маеть быти давано; так теж и од подвод шляхецских, которие з их речми властным збожьем а стацыями ходять от того всего мыто и мостовое брано быти не маеть. А если бы што купленого збожья и иншых речей пры том мел, от того мыто маеть платити. А ведже сами особами своими, або где бы их самих при том не было, тогды слуги их або справцы от них притом посланые веры годные на мытех наших головных мають присегнути, што ест правдивое роботы его домовое а што теж прикупленое, а подводы мають без присеги быти пропущаны толко за листы и печатми их, тым же обычаем и лесные товары и от всякого господарства домовое роботы маеть ся разумети и безмытне пропущоны быти. А на мостех старожитных, где перед тым што будеть давано только от подвод таких, которие збожье на продажу везуть, ведже водле стародавного обычаю мають давати.

Артыкул 27.

Хто напротивко выроку нашого господарскаго мовил.

Теж уставуем, кгды быхмо мы господар с паны радами нашими з выроку нашого сказанье учынили, а хто бы против тому выроку нашому по сказанью што против его мовити мел, тогды таковые, якогож кольвек стану так высокаго яко и низкаго, мають седети на замку нашом шесть недель, а то никому не маеть быти отпущоно.

Артыкул 28.

Хто бы под ким што упросил, а тому напрод дано и в привильи нашом господарском напрод описано.

Уставуем теж, хто бы под ким именье люди земли в нас господара упросил и в привильи бы то собе описал, а у того бы, под ким то он собе упросил, первей было на дате его або на привильи нашом описано и тому потвержоно, и того он колко лет вжывал и в держанью был, тогды таковый первый привилей або листы при моцы мають зостати, и за иншых господарей потомков наших тот, кому дано, тую реч держати и поживати маеть водлуг листов и потверженья нашого, а последние листы ни во што мають обернены быти.

Артыкул 29.

Хто бы на што листы упросил, а того в держанью не был.

Теж уставуем, если бы хто собе в нас господаря именье люди або землю впросил и в листе данины нашое ему то было описано, а того в держанью и в поживанью не был до десети лет, тогды и листы наши и дата таковая потом жадное моцы мети не маеть. Так теж, и справуючись водле прав хрестиянских и теж остерегаючы, абы межы поддаными нашими небезпечность и ростырки не множылисе, уставуем, абы от сего часу жадные листы, которые по латине експектативами зовут, жадное моцы не мели, а хотя бы от нас кому даны, предсе держаны быти не мають, нижли если бы хто сам по своей доброй воли перед нами господарем з волею нашою господарскою на то прызволил.

Артыкул 30.

Абы се у дворех наших господарских нихто не становил.

Теж уставуем, иж жаден пан, а нихто с подданных наших, Великом Князстве Литовском ездечы дорогами, не мають ся становити и стацый на себе и на кони свое з дворов наших брати, ставов и сажавок и озер наших волочыти. А если бы хто против тое уставы нашое учынил, а в дворех наших становилсе, стацыю собе и конем своим з дворов наших брал, ставы и сажавки и озера нашы волочыл, тогды за слушным доводом и с права в том поконаный маеть на замку нашом дванадцать недель седети, а шкоду оправити.

## *Роздел вторый. О обороне земской.*

Артыкул 1.

О повинности яко вси обыватели Великого Князства Литовского чынить мають.

Уставуем теж с призволеньем рад наших зуполных и всех станов подданных панства нашого Великаго Князства, иж кождый князь и пан духовный и теж дворянин боярин и вдовы кождые и иные станы, и татарове наши, так мещане мест наших, маючи земское именье и лета зуполные маючы, часу потребы з нами и потомками нашими або при гетманох наших винни будуть сами особами своими войну служыти и выправовати на службу военную, коли бы кольвек была потреба водле уфалы земское соймов наших Великаго Князства, якая на он час будеть потреба оказовати, то ест и похожых з имений з людей, яко будет потреба, отчызных выслужоных и купленных. А вдовы и сироты и дети лет зуполных не маючи мають выправовати водле важности имений своих, а тым обычаем, маеть быти выправа пахолка зо всим на добром кони, што бы кон стоял наименшей осм коп грошей литовских, а на нем сукня цветная, панцер, прилбица, меч, павеза, древо с прапорцем цветным. А который бы боярин або мещенин не мел в своем именью людей так много, яко устава будеть, тот сам предсе маеть ехати и служити, так теж которий не маеть пешо ити з ручницою або з рогатиною, а на местцу наименованом через листы наши або гетмана нашого великого маеть ся очевисто каждый становити и датися написати и ошафовати гетману нашому великому на тот день, которий через нас або через гетмана нашого к тому попису будеть положон и выволан. А коли бы было колко братьи неделеное, тогды братья мають межы себе годнейшаго лет дорослых выбравшы послати, который з именья неделеного маеть войну служыти тым же обычаем, яко вышей описано. А хто бы от нас господаря держал якое именье нашо в заставе, тогды тот не повинен будеть выправовати на войну. Хочем теж мети и уставуем, абы подданые нашы вси мещане ку валной потребе з иншыми людьми нашими войну служили, або з дозволеньем нашим водле постановеня нашого на войну выправовали. А хто бы кольвек с тых подданых наших шляхты и рыцерства всякаго стану, также маючы именье земское, войны не служыл, або приехавшы на рок постановеный не пописал, а хотя бы и пописался, а шыфу не



ждал, або и шыховавшы се без воли нашое або от гетмана нашого великого проч поехал, тот именье свое все тратит под тым обычаем, яко бы войны не служыл. И для того ж кождого гетмана великого мы господар обецуем тот уряд (т.е. гетманство) годным и досведчоным людем народу шляхецкого родичом стародавным тутошнего панстдем Великого Князства Литовскаго давати, и тое местце засажывати.

Артыкул 2.

О постановеню обороны земское только на сойме.

Обецуем и уставуем вечными часы быти держано, иж кгды будеть потреба противко которого неприятеля нашого обороны земское сему панству нашому Великому Князству Литовскому, албо валка вести, тогды мы сами господар або и с паны радами нашими не маем ани будем мочы того учынити, ани серебщызны и поплату никоторую установляти, аж первей сойм великий вальный зложывшы в том панстве нашом Великом Князстве Литовском, на котором за росказаньем и листы нашими будуть повинни вси княжата и панове рады духовные и свецские, маршалки и иные врядники земские и дворные, панове хоруговные, послы земские поветовые зъехатися, теж на он час на сойме великом валном зо всими радами нашими и зо всими княжаты и паняты и зо всим рыцерством порядою, а позволеньем их маем таковые речы становити, а не иначей. А ведьже где бы от котораго неприятеля нашого якое прудкое уторгненье было в се панство наше Великое Князство, тогды и без сойму толко за листы нашими, а в небытности нашой за листы панов рад наших гетмана нашого великого мають вси князи и панове подданые нашы, войны павинны, на час и местце назначоное ехати, яко на кгвалт, и то з милости речы посполитое боронечы собе жоны и детей маетности отчызны своее.

Артыкул 3.

О невызволенье листы нашими, и теж кого волно вызволити.

Теж уставуем, иж мы не маем жаднаго з войны от службы земское так словным росказаньем яко и през листы наши вызволити из войска отпущати, так теж и гетманове наши не будут мочы вызволити и з войска отпущати, кром тых врядников наших и слуг, которих мы Госпoдар на он час для послуг наших и справ земских зоставим, а ведже и тые почты свои водле можности имений их винны слати и выправовати. А што се дотычеть старост и державец украиных, тые часу вальки также повинни з имений своих у войско, яко иншые шляхта, почты свои ку службе земской выправовати и становити. А сами они, звлаща тые, которие быхмо у войско листы нашими и панове рады або гетман наш не казали ити, таковые почты свои, што з урядов своих новинни, становити мають.

Артыкул 4.

О именья заставныя, хто з них службу земскую служити мает.

Теж уставуем, если бы который шляхтич або пан хто закупит и в держанью будеть, службу земскую с того заступовати маеть. Нижли если бы тот собе на записе заставном обваровал, а тот, хто заставит, тым описом своим в то бы се подал, иж сам с того именья службу земскую служыти маеть, а он хто закупил в том волен будеть. А ведже хто за таким обычаем, естли бы тот, хто закупует, мел оселости и может службу земскую сам служыти, а кгды бы оселости яковое и можности не мог мети, тогды предсе тот, хто закупует и вжывает, сам с тое закупли маеть службу земскую служыти.

Артыкул 5.

О хоружых.

Хоружества всих землях и поветех Великого Князства тым радом и способом мають быти захованы, иж мы господар хоружых нашых не маем уставляти толко людей зацных добрых ростропных можных и оселых о повете том. А хоружый, и где будеть хоругов держати, маеть на собе мети зброю добрую и гелм албо прильбицу и бронь, а конь абы был под ним добрий, а хоругов сам хоружый в гуфе своем на шыху и ку потребе маеть держати, и статечне се в том вряде на потребах наших земских маеть заховывати водлуг цноты и повинности на хоружих належачое, а хорогвы мають им даваны быти за скарбу нашого подлуг давного обычаю, а хоружые земские и дворные мають быти подлуг стародавного обычаю захованы.

Артыкул 6.

О збиранью и тягненью шляхте на войну.

Теж мы господар для порядней шага тяготенья на войну, абы в том шкода не была людем, так уставуем, иж где за потребою земскою будет от нас и панов рад албо гетмана всей земли росказано на войну ехати, и тогды хоружый, давшы ведомость о том шляхте, каждый у своем повете, маеть выехати сам у поле и казати до себе всим поветиком своим за тры дни перед тегненьем с повету зъехатися, а они будуть повинни и до войска к нему не вымовляючыся ехати в том часе и на тое местце, яко им от нас дано и назначоно будеть, с почты своими яко на войну служыти повинни зъехатися. И там же хоружому собравшыся з ними и маючы о кождом з них добрую ведомость и печу посполу маеть тягнути з ними до каштеляна, давшы о собе первей знати, где бы се мели ку нему стегнути, и там с каштеляном зъехавши се хоружый оный повет шляхту отдати и оповедати каштеляну и ознаймити маеть, если все сполна албо и хто есть. А где в котором повете каштеляна нет ино до маршалка, которий в том таковую ж моц мети будеть яко каштелянове. И кгды вжо и к каштеляном стягнутца хоружыя и з шляхтою, тогды вси сполом под каштеляновою або маршалковою справою тягнути мають до воеводы того воеводства, и тягнувшыся з ним кашталян або маршалок с хоружым мають здати и оповедати шляхту воеводе, кого нет, а за чим где. Вже вси тые як панове воеводове и кашталянове и маршалкове и с хоружими мають тягнути на местце от нас и панов рад наших назначоное, або гетману где росказано будеть, и у в одном местцу завжды при воеводе становитися а не порозну, будучы в послушенстве и справе панов воевод своих. А в том тягненью воевода маеть того с пильностью стеречи и боронити повинен, абы поветники его никому никоторое шкоды в дорозе и на стане стоечы ни в чом не чынили, але собе и конем своим за пенези торгом, а не уставою живность куповали, а который бы над заказ смел кому которую шкоду учинити, тогды



воевода або кашталян, поки до пана гетмана не дотягнуть, мають им с таковыми справедливость учинити и отправу на винном и на маетности его сам заразом не проволокаючы делати, а поветники шляхта будеть у его повинни во всем том яко вышей описано послушни быти, а против непослушным и противным также повинни захоˮватися и карати их мають, осадившы о нем право, и што с права заслужыт, то втерпит.

Артыкул 7.

Уси шляхта поветовые повинни становитися под хороговью поветовою.

Хочем теж мети и приказуем грозно, абы вси подданые наши будучы на войне нигде се индей не шыховали ани становили особами своими и с почты, одно под хороговью своею поветовою, в котором суть повете оселыми, кром особного росказанья гетманского. А если бы который з них служыл в которого панов рад, наших, або до врядников або, теж всякого иного, ино и тот будеть повинен под хороговью на местцу установити брата або кревнаго своего або так добраго шляхту як сам, абы с тым местца неопустил, ани се омешкал, под страченьем именья своего. А княжата, понята, хоруговные маршалки, врядники наши земские и дворные, тые мают се становити на местцах своих подлуг стародавного обычаю.

Артыкул 8.

О шляхте, которые у разных поветех именья мають.

Уставуем, которые шляхта подданые наши мають в розных поветех именья свои, таковый маеть в том повете, в котором будеть наиголовнейшее имене мети зо всих имeней своих отчызных выслужоных купленых и жониных, сам стати и почт своей ставити.

Артыкул 9.

О духовных, як мают службу земскую служыти.

Уставуем теж и духовные з имeней своих свецких и костелных наданых, с которых служба земская военная бывала до сих часов, также з имeней своих отчызных купленых и закупленых шляхецских, войне повинных, службу земскую служыти мають тым же обычаем, выправуючы с тых имeней своих почет повинни при нем слать за свою особу человека доброго шляхтича водле уфалы земское сеймовое.

Артыкул 10.

Абы се по шыхованю не розъеджали до домов своих.

Теж уставуем, иж кождый подданый иаш пописавшысе, и по шыху обычаем вышей описаным с тыми ж конми и зброями, с которыми се шыховал, при нас або при гетмане нашом повинен будеть войну служыти а на тых же конях и с тыми зброями, аж до зуполнаго роспусченя з войска нашого. А который бы кольвек подданый наш, хотя и пописавшыся, а без воли и ведомости гетманское з войска проч отъехал або, што почту своего повинного отпустил до дому, таковый именье тратит, яко бы войны не служыл. А если бы тот што пенези бравшы, а был бы человек неоселый, а то теж учынил, таковый кождый честь свою тратит так, якобы з войны утек. А на пописе маеть кождого коня гетман наш в шерсть написати и петно, которое будеть на кони, в рестр намалевати. А стан свой паветники на войне при хоружом у в одном местцу мають мети а не розно.

Артыкул 11.

Которие для немоцы своее на войну ехати не могуть.

Уставуем теж, если бы который шляхтич з Божъего допущенья был немоцью обложоною хор, за которую на службу земскую ехати не мог, а не мел бы сына дорослаго, тогды маеть ся оповедать хоружому своему, в котораго есть повете, а опричей трема шляхтычами, которые немоцы его очыма своими огледавшы и то мают нам або гетману нашому оповедати под сумненем своим, а выздоровевшы тот немоцный предсе будеть повинен без отступу напотом перед тым хоружым присягнути, иж для правдивое и обложное немоцы не мог на тую послугу земскую ехати, а почот свой з имeней на войну предсе послати повинен. А панове рады княжаты и панове иные вси врядники наши, которые под хороговью поветовою не стояли, таковые у форобе своей предсе тым обычаем водле уфалы земское и важности именья своего почот выправовати на войну, и по зъеханью з войны без отпуску на том перед гетманом присегнути повинни, яко были правдивыми. А ведже под часом войны таковый, хто обложною хоробою немоцон, маеть оповедатися нам господару, а в небытности нашой и гетману нашому, а хто бы кольвек из станов больших яко и меньших в таковой речи присегнути не хотел, тот имeне свое тратит на нас господаря.

Артыкул 12.

О сынех заступованъю войны один за другого.

Теж уставуем, хто бы с подданых наших из шляхт будучы сам здоров, а мел сына дорослого лет осмнадцати а не нижей, а тот сын не был бы з ним деленый, або и поделеный, а был бы годен ку службе военной, тогды таковый сын можеть за отца войну служыти с почтом отца своего. А ведже то ест и таковый отец сына своего весполок з суседы своими трема шляхтичами маеть привести до хоружаго своего, в котором повете есть, и ему оповедати, а хоружый, узнавшы его годного ку службе военной, при кашталяне маеть его гетману нашому оповедати, а гетман наш будеть повинен таковаго ку попису и ку службе нашой прияти.

Артыкул 13.

Хто бы замешкал, на рок положоный до войска не приехал.

Уставуем теж, если бы хто замешкал року от нас, або от панов рад наших положоного, а до войска се не поспешал, або на року се гетмана нашого не постановил без слушное причыны, тогды таковых огурных и непоспешных гетман великий у в особливый реестр маеть казати писати, и доложывшы того як который долго мешкал, а тые вси таким способом караны быти мають, иж пан гетман маеть их послати на границу, або там где того потреба речы посполитое розумети будеть, а они там совитым почтом, а ве двое так много яко змешкали, тамь заслуговати будуть повинни.

Артыкул 14.

О таквом, хто бы з битвы утек.

Уставуем теж, хто бы первей раз з битвы утек, таковый именье тратит, пакли теж и другий раз з битвы утек, таковый



за слушным доводом от гетмана через вырок наш господарский почтивость свою тратит.

Артыкул 15.

О тых, которые на войне коней зброй и броней кому иному позычають.

Теж уставуем, хто бы кому на войне будучы у войску позычыл коня зброй торчы древа и всякое броны, а то бы на него переведено, от того таковый статок увесь через гетмана нашого до рук наших забран быти маеть. А кгды бы се тот же у другий раз тогды пустил; таковый яко омылный слуга Речы Посполитое горло тратит.

Артыкул 16.

По чому от попису брати.

Уставуем, абы гетианове наши не казали болше брати от попису войска писаром своим, только по полгрошу от коня, то за працу их в тот час коли войско наше зъежджается, а коли войско нашо маеть быти роспущоно, тогды не маеть гетман ани писар от попису ничого брати под ласкою нашою господарскою. А пан гетман з реестру войско роспустити мает.

Артыкул 17.

О старшых, которые над людом войска нашого послани бывають.

Теж уставуем, которые бы были послани от нас господара або от гетманов наших старшым над частью людей войска нашого в розные стороны водле потребы, абы тых всих старших вси кождого стану, которие под чиею справою послани будуть, были послушни. А старшие оные справцы, роспущаючи людей, и так же ся яко пан гетман заховывати мають.

Артыкул 18.

О хоружых, абы земян дома не осажывали, а ни отпущали.

Уставуем теж и приказуем, абы хоружые наши не мели жаден з них земенина дома осажывати и отпущати, а естли бы который земенин дома зостал, а хоружый бы того перед гетманом не поведил и втаил, а то бы на него было переведено, иж то умыслне оставил, тогды таковый хоружый вряд свой тратить.

Артыкул 19.

О сторожы военной.

Теж уставуем, иж кгды бы жолнеров не было у войску нашом, тогды сторожу вси повинни держати войско Великого Князства Литовского, кгдыж то не чыя иншая потреба и безпечность, одно их властная.

Артыкул 20.

О наезд на дом и гумна на войне шляхецкие.

Уставуем, хто бы на войне будучы один другому на дом або на гумно наежджал, або ставы и сажовки волочыл, тогды тот, который на дом и на гумно будет поеждчати, маеть кгвалт и шкоду платити зособна на кождое наеханье. Так теж и по дорозе едучы, хто бы кому на дом и на гумно наехал, а брал, або ставы и сажовки выловил, або якие шкоды починил, тогды мает кгвалт и шкоды платити за слушным доводом.

Артыкул 21.

О стацыи, на войне кому бы не доставало.

Уставуем, кому бы с подданных наших будучы на войне и лежечы войском на одном местцу стацыи на самого або на кони его не доставало, таковый маеть з вижом гетманским ехати и взяти с потребу жывности на себе и на кони, и заплатити водлуг уставы от нас або гетмана нашого на тот час положоное водлуг урожаю, нижли дрова мають брати волно, где стояти будуть, але домов розбирати, плотов жечы, станов и сажовок волочыти ани спущати, жыт ярин умыслне не травити ани топтати не мають. А хто бы таковый шкоду учынил, тот шкоду совито маеть платити, а хто бы на збожьях и на яринах обозом умыслне положыл и шкоду вчынил, такового маеть пан гетман карати водле шкоды и выступу его, а хто бы теж маючы стацыю у себе у в обозе досыть, а предсе не вжываючы, иншое собе найдовал и за вижом брал, таковый то што озмет, тому, у кого взял, совито ворочати або платити маеть.

Артыкул 22.

О бранью вижа на стацыю от гетманов.

Теж уставуем, хотечы мети на войне, кому бы для недостатку стацый вижа была потреба, тогды гетман наш винен будеть вижа придавати на скупованье стацый. А вижом его вижованое не маеть быти давано на милю по грошу, одно ж на кгвалты бои и тому, хто бы на шкоду свою брал вижа, таковым вижованое маеть быти давано по грошу на милю, и если на местцу не едучы нигде мили, также по грошу мають давати.

Артыкул 23.

О кгвалт або о наход военный у в обозе.

Теж уставуем, если бы хто будучы на службе нашой один другого умыслне або оборочаючы або обычаем звады наехал або на стан кгвалтом, кого забил або ранил, а было бы на него переведено, тот горло тратит. А если бы не ранил, але умыслие своволие нашедшы ударил, а хотя и не ударил, такового пан гетман карати маеть водле баченья своего.

Артыкул 24.

О людех пенежных, як мают с имений своих службу земскую служыти.

Теж уставуем, хто бы колвек с подданных наших пенези наши брал, таковые за пенези наши особами мают в гуфе пенежном становитисе, а з особы своее людей годных шляхецских с почты под хоруговью поветовою, або там, здавна где местце свое мають, становити, абы за тые пенези, которые в ротмитсров, служба земская з имений их не гинула.

Артыкул 25.

О чужоземские прибылые люди, як се мають заховать в тегненью.

Уставуем теж, иж людей прибылых так обычых яко и суседных заграничников приймовати и вести до панства нашого Великого Князства Литовского и через тое панство маем, иж за ведомостью и радами рад наших Великого Князства. Ведже тые люди прибылые яко теж и тутошние жолнере не мають иншыми дорогами и до иншого местца стягнути и на лежах се роскладати, одно там где мы господар або гетьман великий тогож Великого Князства ознаймит, а лежу роспишет, а дорог из леж их от нас и от гетмана литовского даных и ознайменых они ездити в пицованье нигде не ма-



ють, але там в дорозе на ночлегох и на лежах и з сторон жывность звезеную они торгом або уставою, яко мы з радами нашими уфалим або гетман в небытности нашой установит, мают куповати. А порядок до данья тое живности и цену також мы з радами нашими сегож панства в он час уфалимы водле потребы.

Артыкул 26.

О шкоды в тяненью о жолнеров так тубылцов яко чужоземцов.

Теж уставуем, иж где бы люди пенежные жолнерские драби прыбылые из иншых панств и тубылцы ку потребе нашой земской того панства нашого тягнули, которые спорные на местца им зложоные и назначоные, або на земли нашой украйнной, тогды шкоды ни которие никому не мають чинити ани на дом ани на гуина и оборы шляхецские наежджати и собе з них брати не мають, але жывность собе и всякие потребы за пенязи купити мають ценою, або водлуг уставы, кгды быхмо уставу нашу таковым людем пенежным учинили, а кгвалтом ничого ни в кого не мають брати. Ведже в таковом тягненью за вижы нашими або гетманскими або за врядовым, где бы ити, и з сел подданных своих духовные и свецские стацый на дороге завозити и провадити не хотел, тогды уставою нашою платечы мають брати. А хто бы з них на дом або на обору и на гумна шляхецские так духовных яко и свецских для стоянья и для бранья стацый наехал, або нашол кгвалтом, таковые горло тратять, а шкода маеть быти плачона ис статку его. И так о тот кгвалть яко и оные шкоды, которие бы ся комуж кольвек от жолнеров и от драбов в тягненью без гетмана стали, рохмистрове и з старостами або державцами нашими, под которого поветом або врядом то ся станеть, мають справедливость и отправу каранье зараз не откладаючи чинити, водле сего права и статуту тогож Великого Князства Литовского. Кгды бы ротмистр таковых збытных и шкодников за обсыланьем старость и державец не ставил и справедливости каранья и нагороженья вделати не хотел, тогды тые врядники наши нам господарю або гетману нашому мають оповедати або дати знати, а мы або в небытности нашой гетман наш ротмистров таковых, противных статутови и уфале земской, везеньем, а выступников шкодников таковых водле выступу их карати маем, яко вышей есть о том написано. Ведже сесь артыкул и постановенье наше статутовое за границах або на местцах при даванью пенезей маем казати служебным, оповедати для того, абы се не ведомастью не вымовляли.

Артыкул 27.

О блудяги на войне.

Уставуем о блудяги, абы кождый у войску нашом в тегненью не смел коня блудяги держати в себе только через ночь а местцу до третего дня, але тогож часу маеть его вести до гетмана нашого. А хто бы держал далей нижли через ночь таковый конь за злодейство маеть быти поличон, так теж и кождую реч знашодшы нести маеть до гетмана. А гетман наш не маеть казати от блудяги брати болшей толко от коня по грошу, а о иншые речы, в обозе закликати, а то, што нашол маеть, до пана гетмана отдавати.

Артыкул 28.

О указанью а пописованью шляхты поветовое у воеводствах або у старостах головных.

Уставуем теж мы господар и приказуем, всих рад наших Великого Князства Литовского, ведаючи того потребу часу покою, роскажем и рок листы нашими ознаймим всим обывателем Великого Князства всякого стану, яко хто водлуг уфалы земское служыти войну повинен, абы оказывали и пописовалисе в поветех судовых оного дня. А мають ся оказовати и пописовати перед воеводами, а в земли Жомоитской ино перед старостою Жомоитским, а индей перед головными старостами, а хто в розных поветех именья маеть, тот при головнейшом именью иншых имений своих почот показовати и пописовати мають, а тые воеводове и старостове головные в тот час свое почты показовати и пописовати мають, як которые се там для попису и оказованья изъедуть, тые жывность собе не уставою але торгом куповати мають, а от того попису у тых, которые се там зберуть и укажугь, не мають ничого брати.

Артыкул 29.

Яко на войне повинные у войску от гетмана далеко становитисе не мають.

Уставуем теж, абы нихто не смел далей мили от гетмана нашого у войску становитися, але так яко им водле потребы часу пан гетман раскажет.

## *Роздел третий. О вольностях шляхецких и о розмноженью Великого Князства Литовского.*

[Артыкул 1]. О розмноженью Великого Князства Литовского.

Мы господар обецуем теж и шлюбуем за себе и за потомки наши Великие Князи Литовские под тою ж присегою нашою, которую есьмо учинили всим обывателем всих земль Великого Князства Литовского и всих земль ку нему здавна и тепер належачых у славе, титуле, столицы, зацность, и владзы, и можность росказованью, и в иншых всих належностях и прислухиванью и в границах ни в чом не вменшати и овшем примножати. И хотя бы пан Бог з ласки свое светое нам господару узычити рачыл панства [иного, або и королевства, тогды се сего панства нашого Великого Князства] Литовского князей и панов рад духовных и свецских и всих врядников земских и дворных шляхту рыцерства и всих иных станов ни в чом том не понижати, але от всякое легкости и пониженья, яко славное памяти продки наши, великие князи литовские, за щастливого panованья своего чынити стеречы и боронити будем, с помочъю Божьею стараючисе о примноженье и вывышенья того панства и всих станов достойности оздоб и пожытков з наиболшою пилностью и вилованьем нашим.

Артыкул 2.

О вольностях шляхецских.

Теж мы господар обецуем словом нашим за нас и за потомки наши Великие Князи Литовские под таким же обовязком нашим, яко вышей у первом артыкуле ест описано, иж всих князеи и панов рад, як духовных, так и свецских, и всех врядников земских и дворных, панов хоруговных, шляхту,



рыцарство, мещане и всих людей посполитых у Великом Князстве Литовском и во всих землях того панства нам заховати при свободах и вольностях хрестиянских, в которых они, яко люде вольные, вольно обираючы из стародавна из вечных своих продков собе панов и господарей Великих Князей Литовских, жыли и справовали прикладом и способом волных панств хрестиянских, ровнаючы однако маючы и тых вольностей ужываючы и з суседы братьею своею рыцерством и иные станы народу Коруны Польское, и особливе на то при свободах и вольностях и листех Великих Князей Литовских, продков наших, и от нас всем вобец яко и кождому зособна на учтивости достоенства вряды на именья на люде на кгрунты и на што кольвек даных, и што еще будуть даваны вперед, непорушне неотменне (вечными часы ховати). А хтобы теж што хотя без привильев за отчызным правом яким кольвек обычаем набытых людей кгрунтов своих в держанью был, так за славного панованья продков наших короля его милости Казимера и Александра, яко теж за светое памяти и отца нашого и за нашого щастливого панованья, тые сами с потомки их близкими своими и тепер то вечне держати мають и будуть.

Артыкул 3.

Мы господар обецуем розмножати Великое Князство Литовское, а штобы розобрано и одышло зась ку нему привернути.

Теж добра Князства Литовского не уменшым и то, што будеть через неприятелей того панства нашого отдалено розобрано и ку иншому панству от того нашого коли кольвек упрошоно, ку Короне ку Мазовшу ку Прусом ку Ифлянтом, то за се ку власности того Великого Князства привести привлащати и границы оправити обецуем. А хотя бых теж кому заграничником при границах тых верху мененых земли именья села и люди дали, тогды таковые мають с того служыти Великому Князству Литовскому, а хто бы не хотел служыти, таковых прывильев не маем мы и потомки наши держати.

Артыкул 4.

О неданье шляхты и их имений кгрунтов и всяких вольностей и теж неданье листов и привильев против сему статуту.

Уставуем и вечными часы ховати и держати обецуем, иж яко продки наши, великие князи литовские, так и мы незвыклые никому ни которым способом бояр шляхецских имений кгрунтов и земль давати, так и тепер на все потомные часы обецуем и прирекаем под тою ж присегою нашою, которую есьмо учнили обывателем сего панства нашого Великого Князства Литовского, бояр шляхты и их имений кгрунтов и всякое маетности и иных свобод и вольностей и прав в них отбирати и отводити, и ни яким особам, которым кольве в том панстве обывателем яко и заграничником и посторонним и жадному иному, давати записовати и ни которым способом отдаляти не маем. А где бы што одержано и вышло яким же кольвек обычаем против сего статуту, то с права и суду справедливость через нас и потомки наши за радою рад наших Великого Князства на сторону отложоно и ни во што обернено быти маеть. А про то привильев так в посполитом яко и кождому зособна не маем ани будем мочы давати против сего статуту и артыкулов в нем описаных, а которые бы перед тум вышли и про то с канцляреи нашое по выданью сего статуту от нас через кого кольвек одержаны были, таковых мы и потомки наши держати не хочем, але справа и суду сказовати и ни во што оборочати будем. Ведже кому быхмо з ласки нашое дали и давати хотели родичом Великого Князства именья наши спадковые, и в них бояре хотя бы шляхта была, а именьша свои здавна и ново теж через данину оных панов, по ком на нас господаря тые спадки пришли, (мели) и им служыли, а листы потверженьем нашим не вызволили, в том моцы рук и щодробливости нашое и потомков наших не замыкаем.

Артыкул 5.

О соймикох поветововых и о выправованъю и посланъю з них послов земских на вальный сойм.

Уставуем для лепшого порадку во всех речах и в способу ку справедливости и обороне, абы за волею всех на соймиках потребы се земские становили и отправованы были, абы вечными часы перед сеймом великим вальным, которым маем мы и потомки нашы завжды, коли того потреба окажеть речы посполитое Великого Князства, порядою рад наших тогож панства складати листы нашими соймики поветовые, а меновите на тых местцах и воеводствах нижей суть написаных и постановленных, которые соймики также листы нашыми даны будуть не на близшей час и рок, толко за чотыры недели перед соймом великим. На которые соймики мають зъеждчатися и бывати тые воеводове и каштелянове, врядники земские, по тому ж князове, панове, шляхта того ж повету и воеводства, а намовляти о тых речах и потребах земских, которые им на местцах наших ознайменены будуть, на мней теж о своих и о всех потребах земских и долеглостях оного повету и воеводства, и зволившыся вси одностайным зданьем мають обирати послов своих, то ест от кождого суду земского, колко их у том воеводстве будеть, по две особы, послати их на сойм ознаймившы и вручившы то все им, о чом водле листов наших господарских, и теж во всех потребах, радити намовляти и становити мають, даючы им моц на том таковом вальном сойме поступовати и кончыти тые и иные припалые речы водле часу и потребы. Ведже князей, панов, маршалков и иных всих урядников земских и дворных подле старого обычаю маем листы нашими на таковый вальный сойм взывати, и тые вси в раде посполитой местца и воты свои будуть мети способом звычаю стародавного, а послове земские местца и воты свое мають мети водле порадку нижей написаного.

Артыкул 6.

О сойму вальном.

При том теж уставуем, с призволеньем рад наших духовных и свецких и зо всими станы сойму належачыми, на теперешнем сойму великом Виленьском, хотечы то все мети вечными часы, иж маем мы и потомки наши Великие Князи Литовские с потребы речы посполитое за радою рад наших того ж панства, або за прозбою рыцерства, складати сеймы вальные в том же панстве Великом Князстве Литовском завжды, коли колко того будеть потреба.

Артыкул 7.

Абы шляхтич безправне не был иман ани сажон.

Теж обецуем и вечными часы мети хочем мы, господар, и потомки наши, иж все рыцерство, шляхту Великого Князства при вольностях звыклых, которые от нас, господаря, и от продков наших им суть наданы, будем повинни мети, заховати и держати. Теж кождый шляхтич оселый подле права позваный, непоконаный правом, от нас, господара, и от кождого вряду иман и в везенье сажон быти не маеть.

Артыкул 8.

Абы панове шляхту о почтивость их сами не судили.

Теж уставуем, иж княжата и панове рада наша шляхту и кождого бы з рицерства нашого, которые теж шляхту нашу служебниками в себе ховают, не мають сами о почтивость судити кроме нас, бо тот суд никому иному не належит одно господару. А што се дотычеть злодейства и иншых речей выступков — то волни будуть панове их з ними, осадившы при собе предсе шляхту людей добрых, справедливость чынити, а в чом бы был хто с права поконан, тогды тот за выступок свой терпети и каран маеть быти бы и горлом.

Артыкул 9.

Иж достоенств врядов в дедицтво чужоземцом давано быти не маеть.

Так теж мы господар обецуем и шлюбуем под присегою нашою, которую учынили есьмо Великому Князству Литовскому и всим станом и обывателем его, беручы то из статуту старого пана отца нашого короля его милости тому панству Великому Князству Литовскому даного, а в сесь выкладаючы и на то позволяючы, штож в том панстве Великом Князстве Литовском и во всих землях ему прислухаючых достойностей духовных и свецких городов дворов и кгрунтов старостств в держаньи и пожываньи и вечностей жадных чужоземцом и заграничником ани суседом таго панства давати не маем, але то все мы и потомки наши великие князи литовские давати будуть повинни только Литве а Руси, родичом старожитным и врожонцам Великаго Князства Литовского и иных земль тому Великому Князству належачых. А хто бы с чужоземцов заграничников и сусед таго панства и всих земль ему прислухаючих важыл се што с того упросить взяти и в держане прийти, а вломненый будучы того заразом не пустил, тогды маетность его вся маеть быти взята до столу и скарбу нашого Великого Князства Литовского. А хотя бы хто обчого народу за свое заслуги в той Речы Посполитой пришол ку оселости з ласки и данины нашое, албо которым иншим правом, тогды таковые толко оселости оное ужывати мають будучы обывателем обецным Великаго Князства и служачы службу земскую тому ж панству. Але на достоенства и всякий вряд духовный и свецкий не маеть быти обиран, ани от нас господаря ставлен, толко здавна продков своих уроженец Великого Князства Литовского литвин и русин. А гды бы одержал обчого народу человек которий кольвек вряд духовный и свецкий против сему статуту, напомненый того пустити не хотел, тогды таковый маетность свою на нас Великага Князя Литовского тратит, кгдыж около того и в статуте судейском польском ест описано.

Артыкул 10.

Достойности и вряды давные не мають быти нарушоны.

Теж обецуем и хочем вечными часы мети, абы панове рада наша, так духовные яко и свецкие, и вси иные врядника нашы земские и дворные, в том панстве нашом Великом Князстве Литовском были во всяких достоенствах и у почтивостях захованы водле давного обычаю и кождый подле зацности и местца своего. А што се дотычеть владности и справ их судовых, в том се они мають заховати и справовати, яко нижей в сем статуте ест описано.

Артыкул 11.

Достоенств и врядов на заочное обмовенье не маем одыймовати.

Теж обецуем, иж достойностей всяких врядов старостств держав тивунств на справу чию кольвек и на обмовы заочные мы и потомки наши не мають отнимати, але коли бы который из врядников наших был роспрошытель або шкодник наш и дворов наших, и до нас бы в том обмовен и обвинен был, тогды обоя сторона, як тая хто ведет, так на кого менит, мають перед нами очевисто стати, а мы с паны радами нашими Великого Князства Литовского, выслухавшы их и розознавшы тую реч, винного водле выступку его карати маем, а безвинне и без права на заочное поведанье не будем ни в кого врядов брати, ани их з них рушати.

Артыкул 12.

О держанью старых устав, а новых без сейму вальнаго не встановляти.

Теж прирекаем вси привелея земские стародавные и ново от нас наданые волности и звычай добрый стародавный тым статутом нашим ховати и ни в чом ни нарушати, а нового ничого не встановляти. А вед же была ль бы того потреба што нового прибавити ку доброму речы посполитой, тогды того не маем чынити ани встав жадных делати, аж на вальном сойме того панства нашого и в здешнем панстве нашом Великом Князстве Литовском, з ведомостью порадою рад наших и призволеньем всих земль того панства нашого.

Артыкул 13.

О волности выеханья нашого из земли кром земль неприятельских.

Теж узычаем и уфаляем вечными часы, абы княжата и панове хоруговные, шляхты и кождый человек рыцерский и всякого стану того панства нашого Великого Князства Литовского мели вольность и моц выехати и выйти с тых земль наших Великого Князства Литовского для наук у письме, цвиченя учынков рыцерских и лепшаго счастья своего, и теж будучы неспособного здоровья своего для лекарств до всяких сторон и земль, кроме земль неприятелей наших московского, бесурманских и иншых, с ким тое панство наше на он час вальчыло, а ведьже так, абы из имений их под тым часом в небытности их самих службы земское не были омешканы, але нам и потомком нашым яко при них были завжды, только иле кроть бы потребы вказовали подле уфалы и уставы земское были заслугованы. А если бы сын поехал по рыцерству, а отца собе зоставил, а в небытности его отец бы вмер, а не оставил бы по собе другого сына дорослого або опекуна або близкага кревнага прирожоного в именях, тогды мы господар маем опекуна установити на тые именья, хто бы з них службу земскую заступовал и именья от кривды



и шкод боронил, а кгды тот с чужых земль приедет, маеть именья и маетность свою до рук взяти яко властность свою.

Артыкул 14.

По смерти отцов и маток и иных кровных и близких их детей и потомков от кождого дедицтва спадком выслуги и всякого набытья не отдаляти.

Теж уставуем, иж по смерти отцов и маток их дети сынове и дочки отчизны и материзны не мають быти отдалены, але они сами и щадки их властные кровные и близкие правом прирожоным и слушне набытым звычаем стародавным и теж статутом першым и тепершним мають посягнути и одержати, и тые добра на пожыток свой оборочати вечными часы. А то се теж будет розумети о близкостях спадкох выслугах и всяком набытью водлуг права тым же обычаем, естли бы было колко братьи и сестр рожоных выданых албо и не выданых замуж, а тые бы братья межы собою отчызною поделилися, албо еще не поделили, а который бы з них потом умер не зоставививши по собе плоду, тогды его часть отчызны только на братью приходить и на ихь потомство, а на сестри толко выправа с четвертое части всякого именья, естли бы перед тым которая з них замуж идучы от отуа своего або теж от тое ж братьи не была дана, поколь бы се были межы собою не поделили; а если бы была матерызна, тогды мають братья з сестрами ровно поделити межы собою. Паклиж бы Богь так допустил, же бы оная братья померли вси, а у жадного потомства по них не зостало, а хотя ж бы и было, а потом се звело; тогды оная вся отчызна и всяким обычаем набытые именья засе на сестры и на их потомство спадывать. Нижли если бы еще также пан Бог допустил, же бы оных братьи и их сестры ани их потомства и щадков не зостало, тогды оная отчызна их вся также всяким обычаем слушное набытье именья и маетности на близких спадывати маеть, который ест наиблизший до отчызны по мечу, водле того ж поступку также теж и материстые мають спасти на тых, которые будуть до материстого именья и маетности наближшии по матце оных змерлых, если бы через них кому слушным записом не было заведено. Кроме теж того которые без потомства близшых щадков и наследников своих зомруть, а ни на кого права своего прирожоного выслужного и набытого не влившы а ни записавшы; бо по тых тым обычаем именья спадком на нас господаря Великаго Князства Литовского и потомков наших Великих Князей Литовских приходять и приходити будуть. А где потомства близких и щадков из слядков и надальшаго вже бы в поколенью кровных близких не достало, и никому от них записано и заведено не было, тогды по тых и по таковых обычаем именья спадков на нас, господаря Великаго Князя Литовского, и потомков Великаго Князства Литовского приходити будеть.

Артыкул 15.

Людей простых над шляхту не повышати.

Теж простых людей над шляхту не повышати, на достойности их прекладати и врядов наших простым людем давати не маем, а шляхте кождому рыцерскому человеку тутошнего панства нашого Великого Князства Литовского родичу мы господар, з ласки нашое господарское за службами за годностями их нам господару, обецуем их водле годностей достойностями и вряды опатровати и в службах наших заховати, яко верных подданых.

Артыкул 16.

О звод шляхецтва.

Уставуем теж, естли бы хто кому рек, жебы не был шляхтич, тогды тот, хто ся выводит, маеть поставити з отца и матки двох шляхтичов прирожоных, и на то им поприсегнути, иж их ест прирожоный а правдивый шлихтич. А пак бы се будет род звел, а он бы тутошнего панства нашого тубылец, тогды бояр шляхту околичных маеть поставити двох шляхтичов, которые мають при нем присегнути, же он есть з роду шляхтич. Пакли бы теж который шляхтич нешляхтянку жону свою мел, тогды жону и дети свои з нею спложоные собою и шляхецтвом своим ошляхтит, и таковые жоны и дети их за правдивых шляхтичов быти мають. А ведже естли бы такова невеста бывши за шляхтичом, а завсе бы потом пошла за простаго человека а не за шляхтича, тогды тая засе учтивость свою шляхецкую тратить, и в таковом стане быти маеть яко муж ее, за ким в тот час будеть, а детем тым, которые с первым мужом своим шляхтичом прыбыла, то предсе шкодити не будеть, толко бы ремеслом, а ни шынком се не жывили и локтями не мерили, а ведже и таковый, если бы шынк и ремесло местское хлопское покинул и опустил, а поступков шляхецских и рыцерских наследовал, тогды предся за шляхтича почытан быти маеть.

Артыкул 17.

О чужоземцу наганеном о шляхецтво.

Теж если бы хто чужоземец был наганен о шляхецство, тогды маеть ехать до земли своее, отколь ест, и там перед врядом вывести шляхецство свое, а з уряду под их печатьми листы принести, с которими шляхецства своего маеть довести. А еслибы валка с тое стороны была, отколь он ест, тогды маеть поставити двох особ правдивых шляхтячов с тоеж стороны своее, або тутошних бывалых в той земли, которые бы были сведомы шляхецства его, а тые мають также при нем присегнути, иж он ест шляхтич, таковым обычаем чужоземцу вывод шляхецства его будеть. А кгды вже тот, который ему приганил, яким кольвек обычаем слушным набыл собе именье шляхецское, а хотел вольностей шляхецских ужывати, тогды перве мает оказати перед врядом тым, где купил именье, если ест шляхтич правдивый, а где бы не показал, тогды хотя именье купит, предсе з вольностеи шляхецских веселитися и их ужывати не маеть, ни под хоруговью заровно з шляхтою стояти не будеть, але близкие его мають с того именья скупити и службу земскую з него стужыти, а предсе достоенств и врядовь одержати не маеть, хотя бы и шляхтичом был.

Артыкул 18.

Если бы хто кому приганил, а сам не был шляхтич.

Уставуем теж, иж кгды бы хто сам не будучы шляхтич приганил человеку доброму шляхтичу, а тот шляхтич в том стане своем шляхецском был, и довод на шляхецство учынил, а то показал, иж не шляхтич тот, хто ему приганил, тогды тот шляхтич тому нешляхтичу таковое приомве не будеть повинен справоватися, и таковая примовы ничога ему шко-



дити не маеть, але того который важылся тую примовку учинити, маеть вряд наш урезаньем языка карати.

Артыкул 19.

О наганене шляхтича забитого.

Теж если бы кому дана была вина о головщызну шляхецскую, а он бы подведил, иж тот забитый не был шляхтич, тогды кгды того доведут кровные, же был шляхтичь, маеть быти каран, яко о том нижей написано, а зособна и навезка з именья его маеть быти плачона, яко бы жывому шляхтичу наганиль.

Артыкул 20.

О шляхте, которые бы в месте оселость прынели.

Теж уставуем, иж кгды бы шляхтич занехавшы именья шляхецскаго, а ищучы пожывенья, шол бы собе до места и мешкаючы там, торг меский ведучы або шынк в дому маючы або ремесло робечы, понехавшы на тот час шляхецтва своего подле уставы нижей у артыкуле описаное, тогды сынове таковοго, кгды бы потом шынком и ремеслом местским обходитися не хотели и локтем не мерили, а наследовали поступков рыцерских продков своих, таковые мають быти за правую шляхту почытаны.

Артыкул 21.

О простых людех, кгдыж повышеня чести и станов за годностями заслугами могут мети.

[Кгды ж повышенья чьсти и стану за годностями и за слугами] кождого властне рукам и шафунку зверхности нашое господарское належыть, и теж постерегаючы всякого обелженя стану шляхецкого от людей [простых, уставуем, иж нихто из людей] простого стану, окром особливое ласки и надареня от зверхности нашое господарское, вольности прывильев стану шляхецского сам собе прывлащати и их никоторым обычаем ужывати не можеть.

Артыкул 22.

Кгды бы шляхтич шляхтичу примовку якую учинил, так о шляхецство яко и о иные речы, заочне и у в очы.

Теж уставуем, иж кгды бы княз пан котораго кольвек стану и достойности, будучы толко бы одно роду шляхецского человек, заровно всих в том почытаючы от вельможного и до навбожшого шляхтича, однако розумеючы, один другому так о шляхецство яко и о иншые речы шкодливые доброй славе очевисто и заочне примовку учынил, а о то бы обе стороны ку праву приточили, а тот хто примовил перед правом того се запрел, тогды оному примовеному шокдити не маеть, и того он не будеть повинен справоватися, а теж тая примовка далей на того, хто се запрел, не маеть быти довожона.

Артыкул 23.

О примовку, иж бы хто не был чистого ложа сын.

Теж уставуем, иж коли бы хто кому рек, же ты нетыстого ложа сын, а того бы на него не довел, тогды сказуем, иж таковый маеть тую примовку перед судом так очистити и тыми словы отмовити: што есмо менил на тебе, же бы ты не быль чыстого ложа сын, в том на тебе брехал як пес. А где бы так упорный был, а тыми словы у того суда отмовити не хотел, тогды маеть седети у везенью на замку нашом так долго, аж тыми словы яко в том артыкуле написано отмовит, а врад наш в том упорном никоторое фолкги чинити на маеть. А ведьже довод на бенкарты не инакшый одно таковый быти маеть, хто бы дети не з венчалною, нешлюбною жоною мель, и таковым детем отеу от правых детей и от кровных ничого записати не можеть. А таковые дети над дар над бенкарты розумети (розумены) быти мають, которых бы отец при властной жоне с чужолозницою мел, а хотя бы по смерти правое малжонки тую подложницу свою понял, а детей з нею прибыл, тогды яко тые першые блудные, так и тые хотя по венчанью а в шлюбе с таковою жоною мети будут, предсе за бенкарты мають быти розумены. Которого бы се отец за жывота вырек и не своим сыном быти его сознал, одно же бы того не чинил з вазни и з гневу против сыну або жоны своей и матце его почтивой, або бы теж жебы его час не малый за дитя мел, и по его пороженью и с собою маткою его а жоною своею терпел, бо яко вже его раз за дитя свое признавши маючы его при собе в дому своем терпеливостью своею за дитя свое признал, так вже его потом чинити злым не маеть и не можеть, кгды ж доброму ничого злого и непочтивого в дому своем терпети не годитца. А особливе отец сына бенкартом учинити не можеть за другое жоны своее маючы его, а звлаща естли будет того сына своего с першою жоною своею маткою его мешкаючы за сына мели, тогды вже при мачосе от именья отчизного отдаляти не можеть по тому ж. А матка яко за першого мужа своего так теж и за другого пошедши [против] детей своих тым правом и обычаем яко о отцы написано и сужона быти маеть.

Артыкул 24.

О вызволене отплатов новых и подвод, кромей стародавного обычаю, як теж по дорогам.

Теж уставуем и хочем мети, абы вси посполитые люди тяглые и вси поданые княжат панов хоруговных шляхт бояр и мещан тых земль Великого Князства Литовского от кождое дани плаченья и податку серебщизного, и теж дела и ото всяких беремен каменья дерева або дров ку паленью плиты и вапна на замки наши, кром стародавного обычаю, так и подводы хто бы перед тым давал и подыймованье станцыи на станех и на местцах звычаныйх нам господарю послом гонцем нашим, так теж и мосты поправовати и новые на старих звычайных местцах будовати замки старие поправовати, так и на тых старих местцах деленицы свое знову будовати и послов подыймовати, то водлуг стародавного обычаю в целости заховуем. А княжата, панове рады, воеводове, старостове украинные и нихто з шляхты, ездечы по дорогам от именья до именья своего и в войско на замки украинные едучы, именей шляхецских и их подданых не мають шкодити, стации и подвод брати, але собе и слугам и конем своим за пенези водлуг торгу ценою куповати будуть повинни, а хто бы над сюю уставу нашу што учинил, тот стороне жалобливой кгвалту дванадцать рублей грошей платити маеть, а шкоду совито опраивти за слушным доводом.

Артыкул 25.

Естли бы которыи с подданых наших на князей панох або на ком ином выслужыл именье лежачое.

Коли бы который с подданых наших выслужыл на князех або на панох або на ком ином именье лежачое, и будучы то-



го именья в держанью он сам або и потомки его отъити проч где хочеты зо всими статки и зо всим набытьем своим и накладом або будованьем, што будет на тое именье наложыл, нижли еслибы листы ему даными и то выражоно ему было, же бы мог тым именьем служыти ему хотечи. А ведьже хто бы таковый лист слузе своему дати хотел, тот маеть дати оному лист под печатью своею и под печатми и сведомом людей добрих шляхты, а предсе то княжа або паня маеть обличне пришедшы нам господарю, а в небытности нашой господарской, тогды по вряду земскому оповедати, тогды таковый лист маеть быти держан. А который бы выслужыл именье на ком кольвек, а по смерти того пана, на ком бы тое именье выслужыл, дети хотели ся делити, а тот слуга в тот час на делу ся не припоминал, а лист свой на тое именье выслужоное в дел пустил поступил, тогды таковые листы и вольности его вжо никоторое моцы мети не будеть, бо сам того замовчал, и спадывает тое именье на сына отчича. Который слуга естли будет тому служыти, и ему се в делу останет, а естли бы служыти ему не хотел, волен именье зоставити тому пану с тым всим с чим ему дано, сам взявши статки свои, которые в тое именье внес, або што властным грошом своим прибавил, пойти прочь. А который бы боярин шляхтич князский панский выслужывшы на пане своем именье и на нем мешкаючи, а тому пану своему с того именья служечи, потом без воли и ведомости оного пана своего с тым именьем пана своего поддался под кого иного, тогды о то позваный до суду, кгды на него то переведено будеть, маеть быти каран, у везеньи седети чверть лета.

Артыкул 26.

О позыванье свецских в духовное право.

Теж уставуем, иж бискупове и вси прелаты стану духовного и их справцы княжат панов и всее шляхты рыуерства, мещан и всих подданных наших яко и шляхецских не мають никого ку собе до духовного права о свецкие речы вызывати, так и сами шляхта мещане и вси подданые наши и теж подданые шляхецские якого кольвек стану не мають се до духовного права утекати и повызывати о речи свецкие, под закладом стороне позваной дватцатма рублями грошей и под нагороженьем утрат всих з совитостью, нижли што духовному праву належыть и прислухать будеть, то в духовном праве справовано и сужоно быти маеть.

Артыкул 27.

О мещанех места нашого Виленского, яким правом шляхту з мещаны судити мають.

Теж уставуем, иж кгды бы се трафило жаловати которому шляхтичу на подданых наших мещан Виленьских о раны о головщизны, тогды о то судить вряд меский маеть своим судом, майдеборским правом, водлуг привильев и наданья им от нас господаря и от продков наших. Где бы се теж трафило якій кгвалт мещанину от шляхтича, хотя бы в том месте нашом Виленьском, тогды таковые речы вряд замковый земский справедливость чинить будуть правом земским и статутом прав посполитых сего панства великого Князьства Литовского, и карати ведлуг права и статуту земского. А мещане иных мест шляхту судити мають о раны о головщизны их шляхецские земским правом, водлуг стародавного статуту короля его милости Жикгимонта пана отца нашого.

Артыкул 28.

О мещанех, иж селян не мають на торгу грабити.

Теж уставуем, иж мещане подданые наши о долги свои якие кольвек не мають селян ани теж духовных и свецских ани чиих на торгу заповедати и грабити, ани тым собе справедливости на них доводити, але о тые долги с тыми виноватыми у панов их, а з нашими поддаными у врядников наших, будуть повинни справедливости доходити, а нашы врядники и панские мають им справедливости чинити. А естли бы хто пограбил не доводечи права, тогды маеть дати вины нам господарю три рубли грошей, а стороне три рубли грошей, а грабеж совито навезати и шкоду также совито оправити.

Артыкул 29.

О слуги и о люди шляхецские челяд неволную, которие до мест входят.

Уставуем, которие бы слуги и люде отчизные або челядь невольная втекли от княжат панов або от которого шляхтича, и пришли до столечного места нашого Виленского, або до иных мест наших князских панских и духовных, в землях панства нашого Великого Князства Литовского, иж тых людей слуг мають войтове бурмистрове радцы наши з мест наших выслухавшы слушного доводу от панов их [чии будут, або за их властным признаньем выдавати], судечи земским правом, кромей которое бы слуги шляхецские до мест наших, а принемши право в котором з мест наших [и оселость маючи, а за десеть лет, таковых слуг з мест наших] войтове и врядники наши выдати не мають. А што се дотысечь челяди неволное, которые бы пришли до мест наших, тым ани права майдеборского принятье, ани оселость ани теж заседене десети лет ку помочы быти не маеть, и повинны будуть войтове и державцы и врядники наши им выдати. Так теж старостам и державцам и врядником нашим, где права майдеборского нет, на врядех наших тым же обычаем противко таковым збегом заховатися мають.

Артыкул 30.

О мерах, абы были ровны.

Уставуем, абы в месте нашом столечном Виленском и в кождым месте нашом панства нашого Великого Князства Литовского, так теж в местех князских, панских, духовных и свецских, в торгох збожье всякое продавати мера была однакова ровна: то ест, абы была бочка, в которой бочце маеть быти чотыри корцы меры нашое дворное ровных без верху и тресенья, але под стрых, которая мера маеть быти чотыри корцы вымерена у Вильни от вряду пана воеводы Виленского, а при собе мають мети уряд местский, где в которых местех право майдеборское есть. А по иншых, воеводствах и староствах и державствах и тивунствах наших, также воеводове старостове и державцы и тивунове наши тые ж меры постановити мають, абы не тресены и без верхов были и кглейта на тых мерах положыти. Абы бочка была в чотыри корцы, а чверть бочки один корец, в той мере всякое збожье мерено быти маеть под стрых, таяж мера збожъя маеть быти по местом и торгом князским панским и земянским, а по стодолах и в корчмах в дорозех. А хто бы кольвек смел ся того важыти, а иншие меры уставлял и их уживал, таковый маеть



заплатити нам господарю вины три рубли грошей. Тым же обычаем панове воеводове, старостове на врядех своих с таковыми уряды месткими, около мери и цены шынкованья питья привозного, мушкетлы, малмазеи и меду, пива, также около ваги и локтя, через врядников своих постановенье чинити мають.

Артыкул 31.

Кнегинь, паней, девок, вдов не маем ни за кого кгвалтом давати.

Теж обецуем и приказуем кнегин, паней вдов, княжон, панен девок шляхтянок и всякого иного стану рожаю земского, яко людей вольных под вольным пановаваньем нашим господарским, заховати их при вольностех их, а кгвалтом ни за кого их давати не маем без воли их, за кого хотя, за того волно пойти.

Артыкул 32.

Отец за жывота своего змушенья не повинен именья детем поступовати, леч по доброй воли части его.

Уставуем теж, иж отец детем за жывота своего змушенья не повинен именья жадного поступовати, нижли по доброй воли своей, што воля его будеть. Также невеста, которая будеть именья свои отчызные або материстые мети, змушенья не повинна за живота своего детем поступовати, але што будеть добрая воля ее, то может поступити. А што се до тычеть материстых имений, не будуть ли мети на то слушного права и описов, повинен то сыну дорослому и девце замуж ее выдавши поступити, а сын и дочка на отцу жадных шкод и личбы с тых имений поискивати не мають.

Артыкул 33.

Всим станом народу шляхецского, як хотя, волно именьями шафовати.

Теж уставуем, иж всим станом шляхецского народу яко и людем вольным вольно ест и будет именьями своими отчизными материстыми и яким ж кольвек обычаем набытыми шафавати, подле потребы воли и подобанья своего отдати, продати, доровати, записати, заставити в долгу и в сумах завести, заменяти, ведже водле того, яко о том шырей у розделе о записех ест описано.

Артыкул 34.

О вольности шафовати выслугою своею.

Теж хто кому дати хотел доровати записывати або продати именье выслугу свою на нас господарю, тот не може того никому перед жадным урядом записати, только пришедшы и постановившы се перед нами господарем и з ведомом нашим, а мы того боронити не будем. Ведже которые бы мели привилья наши, а в них то доложоно, иж волно ему отдати доровати и записати, таковые могут оное именье записовати перед кождым врядом, яко отчызну свою або куплю. А звлаща тые которые бы собе и потомком своим на вечность описаную мели, а тые привилья мають на врядех оказываны быти, а которые бы ленным правом або дожывотьем або до воли и ласки нашое господарское мели, тых маем заховати водле привильев их и ласки нашое господарское.

Артыкул 35.

О вольности шляхте именья лежачые и иные маетности свои нам господарю записовати.

Теж хто бы хотел што нам господарю записати так имений лежачых яко и иных маетностей, тогды вольно будеть кождому так перед судом земским яко и замковым, и теж сознаньем своим очевистым до книг наших канцлярейских и за листы нашими водле права записовати, а форие (хорые) могуть то нам господарю описовати тестаменты своими.

Артыкул 36.

Хто чого за короля Казимера и за Александра и за отца нашого короля его милости Жикгимонта был в держаню, тот вечне маеть держати.

Хочем теж мети и уставуем, абы вси подданые наши, так духовные так и свецкие, княжата и панове и вси шляхта, которые именья свои отчызные выслужоные и купленые и якие кольвек набытые, за продков наших славное памяти короля Казимера або дядка нашого короля Александра, так теж и за отца нашого короля его милости Жикгимонта и за нашого щастливого пакованья, спокойне держали, тые мають таковые именья вечне с покоем держати, от сих часов и на потомные часы вжывати они сами и потомки их, бы добре и листов ни которых на то не мели.

Артыкул 37.

Хто бы именье от нас в кого отыймовал.

Теж уставуем, кому быхмо мы господар именье або люди и земли дали, а хто иншый по той данине нашой тое именье отнял, тогды тот, у кого отнято, можеть того доходити и правом поискивати, нижли большей искати не можеть одно, яко ему дано и як на нас господаря то держано, толко бы давности земское от того часу, яко ему дали, не омешкал.

Артыкул 38.

Што бы кому через лист дано або упрошоно, а он бы того не ужывал и в молчанъи был через давность земскую, и теж о лета детиные, которые бы в чужой земли были.

Теж уставуем, естли бы што кому дано або продано за записом слушным, будь теж и перед нами господарем, або и перед судом земским было объявлено, а оный бы што ему дано продано або записано в держанью и в пожываныо десеть леть не был, и о то се врядовне не упоминал, таковый по выйстю лет десети того доходить не можеть, але державый то вечне маеть мети. А ведже тот, хто се впоминаеть маеть его впоминати через листы наши господарские и земские позвы, припозываючы его ку праву и становечыся за позвы, а хто бы позвы взявшы у себе держал, а сторону ку праву не припозвал, таковое упоминанье за упоминанье у права не маеть быти приимовано. Леч естли бы было написано детем лет дорослых не маючым, тогды им в молодости лет их давность земская не шкодить, хотя бы того в держанью и в поминанью не были и не припоминалисе, то есть лета дорослые мужчызне осмнадцать леть а девце петнадцать лет. Хто бы теж в чужой земли был, тогды тому ж также давность земская не шкодить, нижли толко дети лет своих доросшы, так теж и тот, хто в чужой земли был, с чужое земли приехавшы давности земское десети лет не омешкал.

Артыкул 39.

Мы господар шлюбуем однакую справедливость всим чинить, а [пересуду] мы и панове рады наши брати не маем.

Обецуем теж з ласки и добрости и милости нашой господарской ку подданным нашим, всему рыцерству Великого Князства Литовского, под сумненьем нашим, иж мы, госпо-



дар, и панове рада наши маем кождому стану всим заровно однакую справедливость чинить без отволоки, а от права не маем ничого брати, по тому ж и панове рада наша, а не маем теж стати и зычностью быти одной стороне, але просто кождому справедливость делати будем повинни, так теж и панове рада наши под присегою, которую до рады вчинили, справедливость чинити будуть повинни. А што се дотычеть почтивостей шляхецских, о то жаден с панов рад ани суд замковый ани теж суд земский поветовый не маеть судити, только мы сами господар с порадою панов рад наших Великого Князства Литовского судити маем обычаем вышейписаным. Ведже што здавна и тепер в сем статуте суду замковому належыть, то суд замковый судити и отправовати маеть.

Артыкул 40.

О тых, которые едучи в дорогу на полях се становять, а збожью шкоду чинять.

Уставуем, хто бы едучи дорогою брал албо жал жито и иное жито збожъе, або выпаствил и вытоптал конми, и за ишпаш грабити се не дал, таковый будеть повинен стороне жалобливой три рубли грошей платити, а шкоду, што люди сторонние на испаши ошацують, также платити и оправовати маеть.

Артыкул 41.

О невывоженью приправ военных до земли неприятельское.

Уставуем и вечными то часы мети хочем, постерегаючи того, абы зо всих земль панства нашого Великого Князства Литовского яко жидове татарове купцы и вси подданые наши, которого кольвек стану, явне и таемне всяких броней железа ручниц нажов стрел и всякого иншого наряду военного не выпущали и не вывозили, послом не продавали, с чого бы неприятель силитися мог. А хто бы се того смел важыти над тое росказанье и уставу нашу, тот ничим иным одно горлом каран быти маеть, а товари и вся маетность его маеть быти до скарбу нашого взята, а того с пильностью на всех замкох украинных сторожове и вси врядники наши постерегати мають, а то се розумети будеть в покою и под не впокоем.

## *Роздел 4-й. [О судьях и о судех]*.

Артыкул 1.

О выбиранью судей в повете.

Уставуем, иж в тых поветех, которые суть нижей росписаны, и в кождом таковом повете, где еще до сих часов не обраны, зособна мають быти судья подсудок и писар, которые так и тым обычаем мають быть выбираны и на таковые уряды установлены. На первей маем мы господар час певный зложити и то листы нашими по всих таковых поветех ознаймити, где в кождом повете княжата, панове рада наша, также рицерство и шляхта вси, хто кольвек якого стану будет там именья свои мети, зъехатися мають до двора, котоpий на посродку того повету будет, и тые которые ся зъедут не ждучи никого, хто бы в повете именье маючи приехати не хотел, ку тому року мають выбрати зо всее шляхты того повету братьи своее на кождый вряд таковый, на судейство чотырох людей добрих, на подсудство других чотырох, на писарство третих чотырох людей добрых, цнотливых, ростропных в праве уместных, роду шляхецского, в том повете добре оселых, не иное веры только хрестиянское, и выбравшы их, тых выбраных через листы свои нам господарю ознаймити мають, а мы с тых всих дванадцати особ выберем трех до того повету на вряд земский, на суд судью и подсудка и писара. Которие от нас выбраные и потверженые на першых рокох судовых перед поветовым воеводою, або в небытности воеводиной перед кашталяны, а в земли Жомоитской перед старостою Жомоитским, при зобранью шляхты, што их там в том часе будеть, маеть судья подсудок и писар присегнути тыми словы:

«Я присегаю Пану Богу во Троицы единому, иж в том повете водле Бога справедливе подле права и статуту сего писаного Великого Князства Литовского, водлуг жалобы и отпору, ничого не прикладаючи ани уймуючи, буду сознавати и записы приимовати, не фолкгуючи высоким и подлым станом на достойностях и на врядех седячим, на богатого ани на вбогого, на приятеля кровного заховалого, ани на неприятеля, на тутошнего, не на гостя не смотречи, не с призни не з вазни не з боязни не за посулы и дары, ани сподеваючися напотом дарованья и якого нагороженья, и не радечи стороне, ани боячися казни, помсты и погрозок, але самого Бога и его светую справедливость и право посполитое и сумненье свое перед очима маючи, теж роков николи не омешкиваючи, кром великое правдивое и зложное хоробы, а як то справедливе присегаю Богу, так ми Боже помози, а естли несправедливе, — Боже ми не поможы».

А писар земский маеть по-руску литерами и словы рускими вси листы и позвы писати, а не иншым языком и словы. И так мает писар присегати:

«Я, N, присегаю Пану Богу в Троицы единому на том, иж справедливе водле Бога и того права писаного и подлуг мовенья и споров сторон, ничего не прикладаючы ани уймуючы, у суду записовати и радити судьи и подсудку верне и справедливе, подле сознанья сторон и споров на судех и осведченья и оповеданья судового и сказанья судового, и в книги судовые вписовати буду а пилновати и догледовати, абы подле сее присеги моее справедливе были вписованы, не маючы баченья на высокие, ани подлые станы на достойностях седячых, на богатого, ани на вбогого на приятеля кровного заховалого, ани на неприятеля, на тутошнего, ани на гостя, не с призни не з вазни не за посулы и дары, а не боечыся вазни и помсты и погрозок, не ждучы нагороженья, але самого Бога и его светую справедливость и право посполитое перед очима маючы, и сумненье свое добре а побожне справуючы, так ми Боже поможы».

А потом, кгды бы который с тых на початку и знову от нас тепер выбраные умер, судья, подсудок, або писар, а трафило се бы то в небытности нашой, тогды тые, которые на тых урядех зостануть, мають о том дати знати воеводе своему, а в земли Жомоитской старосте Жомоитскому, а воевода маеть через листы свои старостам врадникам и шляхте того повету, а староста Жомоитский тивуном шляхте и всякого стану оное Жимоитское земли обывателем час зложити, на который зъехавшися вси станы оного повету и до таковоrо двору



нашого, яко вышей описано, мають на местце того умерлого чотырох особ таковых же, яко и первым выменено, обрати и нам через листы свои отворотные за печатью воеводиною ознаймить, а мы потом с тых чотырох одного, который се нам видети будеть, выбравшы на местце того умерлого судьи подсудка або писара, которого с тых в тот час потребовати будуть, не отволочне установити. А где бы на судство обрали подсудка або писара земского; тогды на тое местце там же за разом на тот вряд обобравшы к нам послати мають, а тот, кому тот вряд дамо, потом на першых рокох судовых будеть повинен первей на местцу там перед тым воеводою або кашталяном и перед старостою оного суду так, яко вышей описано, присегнути, тож потом врядом своим владнути и справавовати. И так мають вжо вечными часы в поветех около выбранья тых врядников справоватися и заховати.

Артыкул 2.

О моцы и владности судей, иж кождый и кождого стану повинен перед нами становитися, и о том, хто бы перед нас не стал.

Теж уставуем и даем моц вечными часы, звирхностью владности нашое господарское с прозволеньем панов рад наших и всих станов всих земль того панства нашого Великого Князства Литовского, тым врядом поветовым в кождым повете судьи и подсудку на роки зложоные позывати перед себе, судити и справовати всих панов рад духовных и свецских, княжат, панов хоруговных, шляхту и бояр о земские речы з именей однако одностайно, хто одно кольве в том повете именья свои мети будеть, жадного не выймуючы ани з суду имене их не выпущаючы, кром нас господара и врядников з именей наших, а не их именей, тых они судити не могуть, толко мы господар, або тот кому то под часом воли нашое злецым. А хто бы кольвек маючи именье свое в том повете перед ними се становити не хотел на часы певные, яко то нижей на своем местцу постановлено, за позвы не хотел, або и ставшы с почтку а до конца розсудку и сказанья их не слухаючы прочь от суду отышол, не хотечы быти права послушным; на таковые хто кольвек будеть, так высокого яко и низшого стану, даем моц зуполную оному вряду земскому судьи и подсудку, иж мають подле сего права и артыкулов нижей о том постановеных и написаных поступок и сказанье и отправу чинити против кождому, яко хто у во што упадет, аж до остатнего стопня права. Нижли тот суд земский толко тых артыкулов судити не маеть и моцы мети не будеть, которие нижей у артыкуле двадцатом суть описаны и замковому суду злецоны обычаем и способом о поступках описаным. А выписы и листы судовые маеть писар рукою своею подписывати а не выдавати стороне, аж перед судьею и подсудком вычтет первей нижли до книг уписавши.

Артыкул 3.

О пересудах судьи, подсудку або писару.

Теж уставуем, иж кгды бы суд земский и которий же кольвек вряд наших кому што на ком присудил; тогды от презыску того, хто зыщет, судья и подсудок мають брати от копы одному грошу, и с того пересуду судьи два грошы а подсудку третий грош. Нижли што се дотчыеть, долгу хто бы платити не хотел, аж за позвы с права; тогды не тот пересуд платити маеть, хто зыщет свою суму, але тот, хто позычил а без права заплатити не хотел, таковый сам долги и пересуд платити повинен будет, окром долков по умерлой руце. А што се дотычеть того, хто се от кого оттяжет; тогды памятного яко от великое так и от малое речы не повинен дати большей только чотыри грошы. А писару земскому и кгродскому такий доход: от кождых позвов по грошу, за вписованье в книги грош, от выпису с книг грош, и оповеданья крывды писару грош, а от судовых листов и выписов за кождый позов, кгды отсужон будеть, по два грошы; а через то яко вышей описано, бы теж наиболшей письма и працы было и реч наиважнейшая, писари не мають больше брати от листу паркгаминового, естли сторона потребуеть с привесистыми печатьми, за працу писару дванадцать грошей, а паркгамен шнуры и воск сторона будеть повинна дати.

Артыкул 4.

О возных присезе и вряде их.

Уставуем, хотечи мети, абы в праве земском завжды порядок и справа обычайне шла, даем моц, абы воеводове в кождом повете судовом, где книги лежать, а староста Жемоитский там в той земли Жомоитской возных выбирали, пострыгали, уставляли теж шляхту людей добрих, веры годных, цнотливых, оселых в том же повете, так много, яко бы их потреба указовала водле повету и шырокости его а потребы людской, а принявшы от его присегу в рейстра свои вписовати и листы свои таковым возным давати мають, и присега им маеть быти выдана тыми словы:

«Я, N, присегаю Пану Богу в Троицы единому на том, иж будучи мне возным маю верне и цнотливе и побожне на том вряде заховатися, позвы справедливе относити и отдавати теж правдиве зозновати то, на што буду послан, кгвалты бо и огледавши и раны правдиве до книг врядовых сознавати, и все иншое справовати, што належыт врадови моему, не за посулами ани приязнью ани за неприязнью ани за боязнью, одно водле Бога и светое справедливости, так ми Боже поможы».

А завжды возный посланый з уряду што кольвек справовати будеть, при кождой таковой справе мають мети при собе сторону двох шляхтичов, о которие не возный але сторона старатися и их собе набывати маеть.

Артыкул 5.

Справа и врад возного.

А то вряд возного: позвы носити и ими позывати, хотя без ведомости врядовое, и рок складати водлуг старого обычаю, а заповедити иж бы от права не уежджали, сведком водле сказанья у суду присегу выдавати, при осведченью всяком быти, увязывати з выроку и с прданья судьи и подсудка за листы их, а кгвалты розбои раны головщызны оглядывати и до книг врядовых, от которого вряду будеть послан, сознавати, и завжды маеть мети при собе при кождой таковой справе двух шляхтичов для подпору вызнанья и сведецства своего, а ведже бои грабежы и крывды раны и иншые шкоды тым подобные меншые а не крывавые, которые сам один и без стороны шляхты огледати и без посланья врядового на то ехати можеть, однакож без жадного омешканья то все до книг врядовых маеть сознати, а сознане воз-



ного в книгах так будеть моцно, яко бы сам возный очевисто стал. А где бы возный до книг не доехавшы и сознанья не вчынившы умер, а не было бы то в книгах; тогды оная шляхта сторона и по смерти оного возного маеть стати и подперети сознанья его. А где бы возный што кольвек таковогo непристойнаго справовал, албо иж бы неправдиве сознавал, альбо врядом своим ку шкоде которое стороны фальшовал, шафовал за якою ж кольвек причиною; тогды за доводом ничым только горлом маеть быти каран. А што се дотычеть доходу возному, от кого што маеть брати, то ест коли где на которую справу поедеть, тогды от мили по грошу у в одну сторону, а што назад поедеть, за то ничого брати не маеть; а если мили не поедеть, только на местцы позвы даст огледывати кгвалту ран або прислухиватисе чого будеть предсе, ему от того грош, а от сведченья грош; а где на увязованье поедеть з тых же людей, в которые се увязывати будеть, з службы по грошу брати маеть, а с пустовщызны таковое, которую пашуть, по полгрошу, а от полслужбы а от сумы пенезей отправуючы се от копы по два пенези брати будеть.

Артыкул 6.

Хто бы возного за посланьем и за листы вряду замкового и земского на справе сбил, або листы в него отнемшы содрал.

Уставуем теж, хто бы возного на справе за листы воевод вряду замкового або поветового збил, або листы от него отнемшы содрал, и тым вряд не учтил; тогды тот за доводом слушным маеть возного навезати совито водле стану его, а не замку албо у дворе поветовом шесть недель седети, а сторону которую бы при возном сбито маеть также за слушньш доводом навезати водле стану, якого будеть.

Артыкул 7.

Абы особы врядовые сами судили, а нихто иншый на их местцу.

Уставуем, абы судья и подсудок сами через себе ани через свои наместники суды и роки отправовали, окроме того еслибы который з них сам захорал, альбо бы теж свои власные потребы мел; тогды маеть человеком добрим, цнотливым, веры годным, и в праве уместных шляхтою так же в том повете оселом, местце свое засадити. А ведьже тот судья або подсудок, который се форым менил быть, на других рокох под тою ж присегою, которую на вряд свой присегал, маеть поведити, иж правдиве немоцон был, а не ку зволоце права, ани ку чыей шкоде тою се форобою вымовлял. А где бы судья або подсудок без правдивое и обложное немоцы роков судовых омешкивал, а то бы се колко кроть показывало, таковый вряд свой тратить. А писар можеть подписка, або одного або и двох або колко ему будеть потреба, при собе мети, а пилне сам завжды догледати, абы верне а правдиве не проволокаючы але за разом до книг записывано было, а где бы се што таковогo в праве от них мылило, неповинна будеть шляхта подписков смотрети, але на самом писару за оною помылкою шкоды своее доходити мають. А где быхмо з тых врядника земского судью подсудка або писара на справы земские або в посельстве послали; тогды до зверненья того маем злетити и засадити месце его человеком добрим, шляхтичом в том же повете оселым; а тот мает первей в том же повете на рокох перших перед урядом замковым на том присегнути, иж до зверненья оного врядника справедливость людскую правдиве отправовати будеть.

Артыкул 8.

О судьях, якие мають быти обираны.

Уставуем, иж на тые вряды, яко на судейство, на подсудковство и писарство не мають быти выбираны духовные особы, ани старостове, державцы, ани тивунове того повету, ани хоружые и нихто таковый, хто бы в том повете нашом врядником был, але таковые и так мають быти выбираны, яко вышей описано.

Артыкул 9.

Яко и при ком позвы позыватися мають, и як и где то осведчыти, и што возному за проезд давати.

Теж хто бы на кого позвы взял и тыми позвы позывати его хотел, тогды позвы колько их будеть, маеть очевисто давати и позывати можеть очевисто при костеле у суду и на кождом местцу, где бы кольве его зостати и найти мог, через возного, а где бы их очевисто дати не мог, тогды на именью того, с которого се крывда дееть, маеть положыти в дворе том, або у ворота уткнути, а естьли в том именью, с которого кривда деeть, двора оного пана не было и ку жадному двору того пана оное именье не прислухало, яко то бывает села данники на Руси и инде в том панстве нашом, тогды тые позвы предсе што до наиблизшаго двора тое волости оного пана несены и в оном дворе, яко о том вышей описано, врядовне покладаны быти мають, и рок, который за тыми позвы зложыть, маеть на обоих позвех написати, абы и позваная и поводовая сторона року ведоми певны и пилны были. А кгды бы возный писати не вмел, тогды будеть повинен оного позванья сознанье на письме под печатью своею дати и на рокох судовых перед врядом земским сознати, которое сознане за слушное у права принято быти маеть.

Артыкул 10.

О печати нашой господарской земской и теж о печатех врядовых, которими што печатано маеть быти.

Теж мы господар даем под гербом того панства нашего Великого Князства Литовского, погонею, печать до кождого повету, тую печать писар земский присяжный в себе сам а не хто иншый ховати маеть, которою печатью и под тытулом нашим позвы мають быти печатованы а выдаваны, а иншые никоторые листы выписы и сознанья кроме только самих позвов тою печатью не маеть быти печатовано, але будуть печатованы всякие листы того вряду земского судовые выписы и сказанья печатьми судьиною подсудковою, а подписованы рукою того ж писара земского.

Артыкул 11.

О книгах земских, в кождом повете, где будуть хованы.

Уставуем теж, хотечы то мети, и приказуем, абы в кождом таковом повете, где суд земский будеть, в замку альбо у дворе нашом, судья подсудок и писар земский поспол з шляхтою выбрали збудовали и патрыли таковое место, где бы завжды книги земские безпечне от всякое пригоды были захованы. А кгды роки их сужоны будуть, по выволанью роков мають книги еще не мней тры дни лежати, при которых быти мають не отъеждаючы судья подъсудок и писар для со-



знанья и выписов бранья и для иншых потреб шляхецских, а разъежджаючися мають тые книги вложыти и заховати в скриню моцную за трема замками, от которых один ключ будеть у судьи другой у подсудка а третий у писара, а печатьми своими запечатовати мають. А перед роками тот уряд яко судья так подсудок и писар за три дни мають приехати и списати в реестр позвы для того, хто кого первей позвал, абы теж тот а не иный был первей сужон. А кгды з реистру тры разы вызовуть, а не отзоветца тот кого волають, таковый маеть быти сказан, яко бы не стал. Тым же обычаем и поводовая сторона маеть розумено быти, иж волавшы сторон одного дня и другого, а третего дня волавшы, сторона не уставаючая року маеть быти сказана за нестанье свое.

Артыкул 12.

Хто бы за позваньем позвы на першые, другие и третие роки не стал без причыны слушное.

Уставуем теж, хто бы будучы позван на першых рокох не стал, и причины слушное нестанья своего у суду не оповедал, таковый маеть стороне на других рокох, первей нижли у суд уступит, заплатити нестаного копу грошей, а суду дванадцать грошей, то ест судьи осм грошей а подсудку чотыри грошы. А где бы о тое ж на другие роки также будучи позван у права не стал, тогды стороне маеть заплатити три рубли грошей, а суду двадцать и чотыри гроши. А естли бы также на третих рокох судовых о тоеж будучы позван у права не стал, таковый вжо в речи своей упадываеть и тую реч, о которой был позван на тые три роки судовые, вечие тратит, а суд на таковом упорном тое о што позван будеть шкоды и наклады правные сказати маеть. А где бы сторона позваная ставшы на рокох третих упором своим тых вин за нестанье свое платити не хотела, тогды о што позвана будеть в речи своей упадываеть так, яко бы и на вси роки не стала, а суд маеть на таковом упорном тое, о што был позван, сказати.

Артыкул 13.

Хто бы за хоробою або за послугою нашою земскую за позвы стати не хотел.

Теж уставуем, хто бы был позван на роки судовые першие другие и третие, а зашла бы его хороба, або послуга наша земская и припалые потребы земские, або сейм вальный, або теж поветрее моровое, для которых бы на тых трех роках судовых стати не мог, тогды за таковым нестаньем яко нестаного платити так и речы тратити не мает, нижли особ суду и стороне маеть дати знати: если ж бы послуга наша земская або потреба теж припала земская, тогды через листы наши и панов рад наших, если бы хороба, тогды листом своим отвороным через у моцованого приятеля або слугу своего, а сейм и поветрее моровое то само собою кром обсыланя вымовляеть. А ведже тот, который се форобою закрываеть, потом на першых рокох за припозванем стороны поводовое маеть се отприсегнути, яко правдиве был немоцон, а если бы присегнути не хотел, тогды в речы своей опадываеть. А если бы на третих рокох за форобою не стал, тогды на тых третих рокох маеть суд земский послати до него вознаго и при нем двох шляхтичов, перед которыми тот форый на том маеть присегнути, иж по вси тые роки фор был и за тою форбою стати не могл, а кгды присягнеть, на он час от всих вин вышей описаных будеть волен, а кгды бы присегнути не хотел, таковый оный выны маеть платити. И хотя бы предсе фор был, вжо будеть повинен сам через себе або через умоцованого своего на четвертых рокох на конец усправедливитися не вымовлячисе форобою. Пакли ж бы и в четвертых рокох через умоцованого успраедливитися не хотел, тот вжо в речы той, о которую позван, упадывает и вечне то сказано быти маеть.

Артыкул 14.

Хто бы кого позвавшы на роки судовые, сам без слушное причины не стал.

Уставуем теж, хто бы кого позвавшы ку праву, а будучы стороною поводовою, без слушных причин, яко вышей о позваном описано, и не даючы о собе причины слушное суду и стороне знати не дал, и сам с доводом своим не стал, тогды оному позваному, где бы хотел его о то другий раз позвати, маеть первей за нестанье свое справу и наклад его заплатити, тож потом о свое мовити. А пакли бы и другий раз позвал о тую ж реч, и сам же и повторе не стал, тогды тую реч, о што позвал, тратит, а позваный тот, хто року и права за позвы пилнуеть, вжо от того часу о што позван на вси пришлые часы будеть волен. А если бы сторона поводовая ставшы и у право уступившы, маючы спор з стороною обжалованою на праве з яких припалых причын, о которых перед правом не ведала, а брала се еще на який иный довод, которого на тот час ку праву на суде з собою мети не могла, або о нем не ведала, а просила бы на отложене на другие роки судовые, тогды суд маеть того допустити, а тым речы своей не тратить, а на других рокох судовых естли бы сам не стал, або доводу не ставил, тогды реч свою тратит. Так теж и сторона позваная если бы на тых рокох и за так коротким часом ему за позвы зложоным не могла правдиве за якою слушною причиною пристойною и ведомою листов або заводцы мети, и брала бы се в таковых рокох и артыкулех на другие роки, тогды суд маеть ей того допустити, а ведьже на тых других рокох будеть повинна зо всим готова быти, и то перед судом ясне показати, иж тот рок собе одержала и впросила не на проволоку якую стороне поводовой, але иж без того быти не могло. А где бы се то у суда показало, иж неслушне ку кривде и проволоце стороне противной таковый рок хто собе одержал, маючы то мети на першых рокох, таковый повинен стороне шкоды, которые за отволокою его принела, на чом присягнеть, платити будеть.

Артыкул 15.

Хто бы кого через суд або еднане ку праву позвал.

Уставуем, хто бы с ким мевшы право и утратившы которую реч на праве або едананьи, а по суде зъеднавшы о то за се его до права позвал, и по праве тое ж речы за се знову искал и того доходил, таковый будеть повинен заплатити стороне семь коп грошей, судьи две копе грошей, а подсудку копу грошей, а тот суд и единанье предсе при моцы зостати маеть.

Артыкул 16.

Иж в позвех нихто не маеть ни на кого речей неучтивых писати и образливых доброй славе.

Уставуем теж, иж в позвех наших земских тые, которые их беруть, не мають писати речей дотккливых ку почтивости, а где бы позвал так, тогды на такие позвы сторона позваная



ставшы не повинна отповедати, аж се он на других рокох на позвех своих поправить, нижли што се дотычеть наездов домовых, кгвалтов белым головам, выжоги, разбоев и иных злочынств, которые артыкулы на вряд наш замковый суд а не земский належать, о то каждый подле учынку таковото можеть в позвех меновите написати.

Артыкул 17.

Хто именья свои в розных поветех маеть, а доколка судов розных з имений розных на одны роки за разом будет позван.

Уставуем, естли бы хто с подданых наших в розных поветех именья свои мел и до розных судов был позван, а роки бы на один час в тых поветех, до которых ест до суду позван, притрафили, тогда маеть в том повете стати, до которого ест о большую реч припозван. А ведже сутяжым своим маеть через лист свой и через возного и шляхту людей добрих сторонних и суду поветовому, у которого се не становит, о собе дати ведати, иж для лепшое и большое речы, о которую ест позван до иншого повету, там не становится, а однакож с тых книг, у которого се суду становил, взявшы выпис на других рокох маеть показати перед судом, у которого се не становил, иже се правдиве болшою справою вымовлял, тогды нестанного неповинен будеть платити. А ведже на третих рокох не маеть се болшою справою вымовляти, але се повинен становити и в отказе быти яко на завитом року, естли не сам через себе, тогды через умоцованого своего под утратою тое речи, о которую позван, а предсе оного суду, где первей и повторе се становил, маеть выпис перед урядом показати.

Артыкул 18.

Што бы се стало пры бытности нашой и при дворе нашом, которим обычаем то маеть сужоно, а хто бы через [заказ] уехал, о гостях чюжоземцах.

Уставуем теж, где бы при бытности нашой господарской в том панстве нашом Великом Князстве Литовском, где кольвек будучи нам двором нашим, учинил хто кому кгвалт, бой, раны або якую шкоду, тогды тот обвиненый учинившы то при дворе нашом не маеть се поветом вымовляти, ани позвы брати и ими се закрывати. Але заразом через дворенина нашого будеть повинен перед нами або перед тым урядом нашим дворным Великого Князства Литовского родичом, кому то от нас злецоно будеть, заповедаиый, ставшы усправедливитися перед урядом нашим кождому тут же и тутошним правом без року, только за заказом, не вымовляючи ани закриваючисе правом своим. А пакли бы которому чужоземцу при нас господары, або хотя и в небытности нашой, в котором месте або под которым урядом у котораго тубылца сталсе кгвалт бой разбой зраненье отнятье кгвалтовное маетности его, што кольвек с тых поменных речей, тогды обвиненый в тых речах без позву, а мещанин и простый человек без року, не проволокаючы ничым повинен усправедливити за заказом перед нами и перед воеводами врядники нашими замковыми и дворными, а мещанин мешкаючы под правом майдеборским перед меским урядом. А естли бы хто с подданых нашых на жалобу гостиную был заповедан, а проч уехал, тогды на именье его з листом нашим дворенин наш маеть быть послан, або вряд замковый маеть послати з листом своим, хотя бы его на именью не было, предсе тот лист на именью его маеть быти положон и рок зложон, ку праву за две недели стати, а он наконец не вымовляючисе будеть повинен на тот час стати и усправедливити, а где бы предсе на тот день ему зложоный не стал, тогды маеть быти то на нем, о што жалоба ест, водле доводу сказано и отправа дана.

Артыкул 19.

О тых, которые не маючы в том повете або вряде нашом оселости и там, приехавшы з стороны або з иного повету, збыток учинил.

Теж уставуем, иж хто кольвек з иное земли чужоземец або хтож кольвек неоселый в том панстве нашом Великом Князстве Литовском, приехавшы в который кольвек повет, где оселости не маеть, або под вряд и до местечка нашого, учынил там кому кгвалт бой раны шкоду и який же кольвек збыток, тогды там же а негде индей на вряде нашом замковом, або где бы замку не было, в дворе нашом сужон и сказован быти маеть и оправа на нем чынена. А ведже естли бы в другом повете по недалеку оселость свою мел або пана, кому служыть, поведил, таковото з оселости его або перед его паном, кому служыть, правом ужывати маеть, а однакож слуга панский неоселый, вчынившы кгвалт и зраненье, маеть задержан быти на замку або на вряде двора нашого, а оный о собе маеть дати знати пану своему, а где бы пан справедливости не вчынил, о то сам до вряду позваный отповедати повинен, а позывати о то до вряду замкового.

Артыкул 20.

Што мають судити воеводове, старостове, державцы и о их позвех.

Уставуем теж, хотечы мети и даючы моц, абы воеводове, старостове и державцы нашы, кождый в повете и вряде своем, судили и справовали и позвы свои давали о тые артыкулы меновите тут описаные: то ест о наезд кгвалтовный на домы шляхецские, кгалт в местех наших, о пожогу и разбои по дорогах, о квалтоване панен и невест, о злодейство, о фалш, о голову шляхецкую, яко вышей написано о них. А в не бытности их намесники их з судьею замковым присяглым оселым мають судити и моц мети будуть справовати и кончыти подле права и сего статуту всему панству нашому Великому Князству Литовскому от нас даного. А где бы хто на горячом учынку тых выш мененых артыкул которого ж кольвек стану был пойман, тогды тот без позву маеть быть сужон, а пакли бы заразом на горячом таковом учынку не был пойман, тогды вжо позвы ку праву маеть быти припозван, а позву таковому не маеть быти рок дальшый от поданя только за две недели. А если бы за тыми позвы на рок стати не хотел, тогды вряд тот о том нам маеть дати знати через лист свой, а мы тому не фолькгуючы, без всякое проволоки, и откладанья на иншый час, але заразом взявшы о том от того вряду нашого ведомость, таковото обвиненного и вряду нашого непослушного маем з земли панств наших Великого Князства Литовского казати выволати, и не маем ему на тое announce выволане поднесенья чынити и давати, аж бы се первей з стороною жалобливою росправил.

Артыкул 21.

О судьи замковом.



Уставуем, иж воеводове, старостове и вси державцы замковые и дворов наших поветовых мають зособна кождый з них на вряде своем выбрати человека доброго шляхтича в том же повете оселого прысяглого, который уставичне повинен будеть посполу з урядом замковым судити и справовати вси речы судовые, которые замку або вряду нашому приналежати будуть. А если бы што недойзреньем их на том уряде в справе их поблудило, тогды за отозваньем стороны на таковых врядников, яко наместника своего и судью замкового и писара, воеводове старостове и державцы поветовые с тым вышейописаными врядниками своими замковыми справедливости учынити не хотел, або сами суду своего справедливости его на праве уближенье чынили, тогды таковый вряд наш маеть перед нас листом нашим позван быти, на который рок тот вряд наш маеть перед нами за листом нашим сам албо через умоцованого своего стати, а мы на том року таковому укривжоному без отволочную справедливость учынити маем. А рок таковому позваныю, естли будем в здешнем панстве нашом Великом Князстве Литовском, чотыри недели, а если в Коруне Польской, тогды осмь недел складан быти маеть.

Артыкул 22.

Роки завитые, в которых речах мають быти складаны.

На первей хто кого позоветь о заставу ку браныю пенезей, хотя сторона позваная не станеть, предсе суд не маеть откладати на дальшые другие роки, але на першом року яко на завитом, первей выслухавшы доводы стороны поводовое, маеть сказанье и ввязане стороне поводовой дати, а взявшы от него пензи при вряде и при книгах судовых мають быти положоны до того часу, аж сторона позваная их возметь. Другое о отнятье имений и выбитье спокойного мешканья. Третее о слугу якогож кольвек стану, або человека невольника, который бы, пану своему шкоду учынившы, втек проч до кого и найден был в него и припоручен ему або враднику его, а он бы з ним справедливости не чынил, а если он на том року не станеть, тогды суд за доводом слушным стороны поводовое маеть сказанье вчынити, и того зъбега ему присудити, не откладаючы на другие роки и дальшый час. Четвертое о мыто мостовое и гробелное и перевозы шляхецские всяких станов, кгды хто на ком або подданом чием неслушне возметь, маеть позваный на першом року яко на завитом стати, а естли же не нестанеть, тогды стороне жалобливой нестаньем у вину впадываеть, яко около мыт мостовых и гребленых неслушных вышей описано ест, а если бы то врядники або мытники наши вчынили, тогды з мытников подскарбий земский з урядников наших мы господар справедливость чынити маем. Пятое хто бы езами або млынами, гатьми, мостами реки портовые гамовал, проходу або дороги слушные не вчынившы, а то тым бы се кому шкода стала, таковый будучы позван на першом же року яко на завитом маеть се становити, а пакли бы не стал, тогды суд земский маеть сказанье вчынити и с заплаченьем шкод, а средсе суду в таковых млынах або езох и мостах з уряду дороги и пропусты направены и волно вчынены будуть. Шостое если бы хто добровольне записал и рок в листе своем ознаймил, а не вчынил бы тому досыть, тогды за позвы на першом року яко на завитом естьли не станеть, во все упадываеть водле листу або запису своего, асуд вжо (маеть) отправу вчынити подлуг листу жадных роков не складаючы. Семое о раздел имений и маетности всякое межы братьею и сестрами и близкими, также через позвы маеть быть рок завитый тым обычаем и на поручники, а поручнику з истцом, по ком ручыли, маеть быти завитый рок.

Артыкул 23.

О сбиванью позвов.

Уставуем теж, хто кого позвы позовет, а сторона бы позваная ку тому се року не знала, тогды сторона поводовая позву и року маеть доводити выписом с книг сознанья возного, а естли бы не довела, тогды позваная сторона не повинна отповедати. К тому теж и на таковые не повинна отповедати, если бы хто значне и меновите чого у позве не написал и не доложыл, а еще теж неповинна отповедати на таковый позов, который бы был скробан, и не мають таковые позвы местца мети, которые бы были скробаны, а звлаща естли бы се один с другим не згожал в дате або в чом кольвек, албо иж в нем не было даты написано. Над то постерегаючы того, абы хитростью якою для збитья позву, проволокаючы кому право сам позваный, маючы позвы в руках своих, скробал и даты направовал, уставуем, иж кгды бы таковый позов от обжалованого на праве был положон, тогды сторона поводовая маеть возным на него довести, иж ему дал позов цылый и не скробаный в дате и во всем згодливый, а по таковом доводе позваный повинен ему отповедати. А иными никоторыми прычинами позвы не могуть быть сбиты, а вины заплатити поводовой стороне копу грошей а судови дванадцать грошей. Ведже в позве, где бы один артыкул был збить причинами вышей описаными, тогды предсе на другие артыкулы правные сторона повинна отповедати.

Артыкул 24.

О позвех, як долго трывати мають.

Уставуем теж, иж кождые позвы вряду земского трывати далей и в моцы своей быти не мають, только на одны роки судовые, перед которыми их взято, и для того тые речи, на которые се тыми позвы позывати будеть, у в оных позвех меновите мають быти описаны.

Артыкул 25.

Хто бы кого от суду земского с повету своего до иного права вызвал.

Уставуем хотечы мети, абы нихто никого о реч суду земскому належачую до иного права замкового и ни до которого иншого от своего поветового земского суду не смел вызывати, а хто бы кого до суду замкового або комисарского и до которого кольвек иного вряду и суду, кром артыкулов вышей мененых суду замковому або дворному належачых, вызвал, тогды позваный не повинен ни перед ким се становити и таковых позвов послушным быти, але еще тот, хто позвы взял и ими позывал, за то иж мимо суд свой смел то учынити, маеть заплатити судьи копу грошей, подсудку полкопы грошей, а стороне тры рубли грошей, окром того хто бы записом своим отступуючы повету своего в який иншый суд доброволне подал.

Артыкул 26.

О таковых, которые не маючы в повете оселости, кого бы там оселого позвал.



Теж уставуем, кгды бы хто не маючы в котором повете оселости, другого кого там оселого позвал, а шло бы им обудвум об одну реч, тоть позваный оселый може заразом не отповедати и в право се не вдавати, аж бы се оный противник его неоселый там поддалсе и обовязалсе, теж ему в той речы, кгды ж об одну речь идет, там жо в его повете отповедати и всправедливити не беручы се до своего повету, а кгды се под то поддаст и на то обовяжет, тогды предсе оный позваный за тыми ж позвы на он же час наперед будегь повинен ему се усправедливитися.

Артыкул 27.

О рокох, на которых судья, подсудок и писар зъежджатися мають и позваные перед ними повинни се становити.

Теж уставуем, иж суд земский маеть быти три кроть до году, то ест три роки судовые, на котором се будуть повинни судья подсудок и писар на одно местце до замку або двора нашого, которые местца вышей суть описаны, зъежджатися, а там мешкати две недели, если много справ, а если менш справ, тогды поки росправять и розсудять, а позваные и поводовые будуть повинни перед ними се становити, а обычаем и способом нижей в особливых листцах и артыкулехописаным. Роки мають быти сужоны: первые от святое Троицы рымского свята, и на завтрей се в понеделок почнуть, другие в осень на день Светого Михайла рымского ж свята, и также на завтрее почнуть, третие зиме по Божъем Нароженью, о Трех Кролех святе рымском, которые на завтрее теж судитисе на завтрее зачнуть, червертые в другом году также на день Святое Троицы рымского свята и на завтрее се почнуть. А судья подсудок писар маеть суды справовати и на судех седети кождого дня от поранку до не испорное годины, а позвы судити порядне з реестру не гледечы на особу и нефолкгуючы в том никому, але который первей позвал, тот на первей сужон быти маеть, а которые се на тые роки позвали, тых всих на початку роков писар повинен в реестр вписати и з реестру до права волати будеть. А ведже под тым часом роки сужоны быти не мають, наиперве естли бы сойм вальный Великого Князства Литовского был зложон, тогды перед соймом за чотыри недели роки судом устати мають, другое естлибы теж листы военные зашли, ино для готованья на войну за шесть недель не мають быти роки сужоны, а ведже естли бы в том часе на войну не выехали, тогды напотом предсе мають роки за тыми ж позвы и под таковою ж моцъю сужоны быти, третее естли бы, чого Боже уховай, в том повете поветрее моровое было, а то бы значне показовало, под таким часом также роки не мають быти сужоны, а по том часе, яко поветрее моровое оминеть, маеть вряд в том повете, где суд есть, роки выволати, а тые, которым бы была потреба, мають се справовати за тыми ж позвы своими на других рокох, которие по том поветрею выволаные близко припадати будуть.

Артыкул 28.

О позвех и о року, який за позвы будеть складан, а кождый жалобу свою меновите маеть на позве описати, и о збиванью позвов.

Теж уставуем, иж хто бы до кого мел якое дело о крывду албо о якую кольвек реч, тот маеть от писара земского того повету позвы взяти под печатью нашою, от нас тому повету даною, и в тых же позвех жалобу свою достаточне и меновите выписати, а чого в позве не доложыть, на то сторона позваная отказывати неповинна. Ведже где бы сторона сама хотела собе позвы написати, тогды кгды принесеть готовые написаные водле права, писар, от него взявшы доход свой грош, записовати их будеть повинен, и тыми позвы перед кождыми роками судовыми мають се позывати, даючы их очевисто и кладучы на именьях их, с которых се кривда дееть. А кого очевисто позовуть, рок чотыри недели, а кому на именью положать, шесть недель маеть быти складан, не от даты позву в нем описаное, але от того часу и дня яко на именью положоны будуть, а меншые и близкие роки не мають быти за позвы складаны. А пакли бы хто на першых рокох судовых не стал, тогды на других и на третих рокох позвов и артыкулов в нем описаных ничым сбивати не можеть, ани будеть мочи, але повинен будеть отказовати, естли бы теж хто кому грабеж могуть вчынил, ино о грабеж позывати перед роки за две недели.

Артыкул 29.

Которые бы се деели якие кривды от врядников, слуг и подданных чыих кольвек.

Уставуем, естли бы теж княжатом панятом радом духовным и свецким, шляхте и кому кольве с подданых нашых, им самым бояром слугам людем от врядников, слугь бояр и подданых также князских, панов рад, панов хоруговных, шляхты кривды якие кольвек в чом деели, тогды маеть сторона жалобливая (взявшы) лист наш господарский або от суду земского поветового, в котором оный и именья их будеть, ехати з возным до того пана, от чыего врядника и бояр слугь и людей кривды кому се деяти будеть, справедливости просечы и жалобы своее реестр маеть дати. А где бы самых панов в тых именьях их не было, ино врядников их, абы они на слугь бояр люДей пана своего справедливость чынили. А рок праву не маеть быти далшый от них покладан одно две недели. Если бы панове сами так и врядники их права дати и справедливость вчынити не хотели, тогды сторона жалобливая маеть позвы от суду земского взяти по того пана, с чыего будуть именья кривды деяти, и позвы на роки судовые его позвати, абы сам стал и тых, от кого се кому кривда будеть деяти, поставил. А ведже в небытности того пана в том меньи не маеть его сторона жалобливая нигде индей шукати, але на том ж именью позвы положыти маеть, а суд земский поветовый будеть повинен межы ними того досмотрети и справедливость вчынити. А где бы позваный сам або через умоцованого своего стати и тых врядников бояр и слуг людей своих, кому вина дана, поставити не хотел, тогды суд повинен ку таковым непослушным заховатисе водлугь сего статуту, яко о том в том же судейном розделе у артыкуле двадцатом ест описано. А если бы тот пан и хтож кольвек сам або врядники их комуж кольвек у кривдах их рок справедливости зложыл, а на року зложоном справедливости вчынити не хотел без слушное правное причыны, тогды такового пана и слугь суд земский в том судити маеть, а он тому, кому обецавшы справедливость учынити, а не вчынил, за разом у суда стороне рубль грошей заплатити маеть. А вед-



причыну не маеть далей отложон быти, толко с тых причын, которые особливыми артыкулами суть описаны: мором, соймом вальным, службою нашою господарскою, то есть посельством або войною, и немоцъю правдивою. И коли бы которая сторона кром тых причын не стала, тогды сторона за своим слушным врядовым доводом перед судом земским маеть речь свою одержати подле заведенья сведков присяглых, на местцу граничном постановеных, и присяги своей, и тым же реч свою маеть не вечность одержати. А естли бы перед тым роком был немоцон, маеть дати ведомост судьям и сутяжому, а суд маеть отложыти, поки он выздоровееть, а коли выздоровеетъ, мають его судьи листом обослати и рок зложыти, а он на другом року перед судом первей маеть присегнути на на том, иж справедливе был немоцон и для тое форобы на том року стати не мог. Также судья перед тым роком естли бы ся рознемог, тогды мають подсудок и писар на тот рок предся выехати и то судити и отправовати, а тот суд их маеть моцон быти яко бы и всих трех. Так теж кгды бы ся трафило о граничене о реч важную вышей двадцати бочок земли, тогды судья або подсудок с писарем у повете, маючы при собе людей добрых, а тую землю объехавшы, справовати кончыти и ограничити мають.

Артыкул 3.

В сведецстве жадного закону не маеть быти кром хрестиянского рымского, греческого закону.

Теж уставуем, иж сведки о реч земскую и довод державя земли, а так теж и о кождую реч, не мають у сведецтва припущоны быти жыдове, ани татарове, одно хрестиянского рымского або гречоского закону. И вшак же може с тыми хрестияны, которые бы патер умели и верою во единого Бога, на кождый год у плебанов або у попов своих на споведи бывали, тело Божое приймовали, а в жадном подойзреню не бывали, ани в поволаню у воколицы, ани фальшерстве, тые мають допущоны быти сведецства, а хотя бы и хрестияне будь рымского або греческого закону, которые божего тела не приймують, сведецства перед не мають допущоны быти.

Артыкул 4.

Хто бы кому сведки ганил.

Коли бы хто своволне стороне поводовой сведки ганил, а он если бы подлуг права поставил осмнадцать сведков, а тот бы межы тыми осмнадцатма сведками не обрал шести веры годных, а оставлял хотечы им тым право конченя переказити, а тот яко поводовая сторона другими ся сведками не опатрил, мел бы тым на одном року завитом реч свою упустити, тогды таковый моцен маеть быти о тое нагаменье сведков своих там же перед судьями первей очыщати. А коли судьи вызнають, иж ему тых сведков свовольне ганил и оставил, а они се выведут, тогды таковый оставуючы тых сведков, кождого зганеного водле стану повинен будеть навезати водле роду их, шляхтича яко шляхтича, холопа яко холопа, так яко бы его ранил.

Артыкул 5.

Коли бы хто сведков нагаменых перед судом не очыстил.

Коли бы хто тых же сведков перед тым судом своим зганеных всих не очыстил, тогды хто сведков наганить, а оные сведки зганеные не очыстилися, ино тые сведки которые не приганеные мають присегнути. А если бы з обудву сторон межы собою сведки одны другим наганили, тогды сведки тые на обедве стороны мають оставлены быти, а знову иншых сведков з обох сторон поставити мають неподойзреных, и межы тыми которые будуть годнейшие, тые мають быти приймованы, и сами з сведками присегати.

Артыкул 6.

О землю обрубную.

Теж уставуем, естли которой стороне о землю обрубную довод права был сказан, тот сведков своих маеть подле обычаю права осмнадцати перед правом постановити, и як тот пан або земянин поколе с тыми сведками заведшы присягу вчынить, по толь маеть граница вделана быти. Нижли естли бы право мели о землю сумесную, а не в одном местце порознy, одна земля от другое в полмили або и далей, тогды на кождой таковой далекой межы маеть сведков особных мети, и на кождой межи сам и з шестма сведки повонин будеть присегнути, а тые сведки, которые на первой межи присегнуть, на другой межи того ж часу сведчыти и присегати не могут, окром тых земль которые туж понедалеку от себе, на таковые межи тых же сведков поставити и довод подле права чынити можеть.

Артыкул 7.

О рок завитый шесть недел.

Уставуем, абы на кождый кгрунт земляный от суду земского заочне рок не быд зложон, леч первей сторона жалобливая маеть перед суд земский припозвати, а суд з очевистого мовенья маеть им обоим сторонам рок зложыти завитый за шесть недель, на который судья с подсудком и писарем мають выехавши, яко на року завитом мають справедливость чынити, а стороны обе две будуть повинни перед ими права достояти и сказанье приймовати. А по сказаню будеть ли ся которой стороне видети з уближенем, тогды по сказаню мають выпис от суду земского вземшы до панов рад наших апелевать.

Артыкул 8.

Хто бы будучи урядником господарским, маючы именье в том повете, мел з штяхтичом право о землю.

Тым теж обычаем если бы который урядник наш, маючы именье в том же повете державы своей, мел з которым шляхтичом копу вести, теды маеть справоватьсе о кгрунт земный, яко вышей описано, и маеть ставить осмнадцать сведков шляхту и иншых людей добрых веры годных, а не того уряду присуду своего, але иншых посторонних, и так теж судьи мають гледеть листов границ знаков, а чыи будуть листы лепшые и границы, тая сторона маеть быти припущона ку доводу.

Артыкул 9.

Хто бы кому границу або межу сказил.

Коли бы шляхтич шляхтичу границу сказил, або огнем выжог, або вырубал кгвалтовне, або яко кольвек инак выказил, або копцы роскопал, або межу сказил, а было бы то на него переведено правом; тогды таковый маеть заплатити



ображоному дванадцать рублев грошей, а суду земскому копу грошей, а за кождый копец скажоный три копе грошей. А естли бы шлихтич шляхтичу межу переорал; тогды за переоранье межи три рубли грошей и на суд земский пол-копы грошей, а границу або межу через него скажоную маеть за се перед урядом направити по старому. А если бы холоп простый холопу то учинил; тогды за скаженье холопское межы рубль грошей. А пакли бы граница або межа здаласе ему ку кривде, ино маеть правом спирати а не кгвалтом.

Артыкул 10.

О лес сумесный и о проробки.

Уставуем, если бы хто лес сумесный мел, тогды маеть кождый поля своего гледети и против себе проробки чинити, а от леса один другого не маеть заходити, и як зоткнутьсе топоры, тут маеть быти граница. А ведже естли бы один дуб был и большей пробил нижли другий, а оному се видела бы кривда, и потегнул его о то до права, тогды маеть быти выслано и осмотрено, и естьли будеть большей проробил, таковый маеть на тое местце лесу дати против проробков, хто больш пробил, хотя не так доброго як тот выробленый. А кгды оный сяберен его лесу только прирробить яко оный, тогды маеть у меру лихое и доброе поделити на полы, если бы оны с того лесу ему отвести, который большей приробил, ино маеть тые проробки свое, што будеть больш выробил, на полы або на ровные части, иле их будеть, розделити.

Артыкул 11.

О реки, где граничать.

Теж где бы река граничыла, тогды кождый с берега своего маеть до половицы вжывати. А кгды бы река которая граничная на чый берег песок незначне сыплючы прибавок чынила, тот прибавок маеть быть того пана, чый берег ест, а естли бы река кгвалтом идучи инуды пошла, тогды старое речыще маеть быти предсе границою, а того речыща будеть ли в ней пожыток, так кождый с берега своего на половицы уживати маеть. А тая река граничная, которая инуды се обернеть, оба два береги того мають, чым кгрунтом пойдеть. А естли хто реку прокопал умыслне ку шкоде суседу своему, и о то бы его ку праву позвал, и то бы на него перевел ведле права, тогды маеть оному право сказати, абы зась реку по старому загаиовал, и за то будеть повинен жалобливой стороне кгвалт дванадцать рублей платити, яко бы границу сказил, и вси шкоды, што в пожытков тое речы шкодовал, з розсудку оправити маеть.

Артыкул 12.

Коли бы хто своим ставом иншый став або сеножати затопил.

Теж уставуем, коли бы хто в дедизне сполную реку мел, то есть оба два бы береги мел и его были, а на ней став и млыны поставил, а суседний выше млын затопил своим ставом, хотя бы опосле збудовал был, а он поднемшы греблю затопил, тогды маеть возного з уряду взяти, а возным и сторонами маеть спустити воду, и што будеть шкоду учинил, тую шкоду затопленому оправити водлуг слушного доводу маеть. А естли бы сеножати затопил без воли того пана, чыя сеножать ест, тогды будеть ли его воля отмену взяти, а он маеть ему отмену дати, а пакли бы на то воли его не было, тогды он нехай воду по тому держить, яко бы его сеножати шкоды не было и верхнего млына не затопил. Естли бы теж половицу реки мел, а присыпал греблю к чужому берегу або сеножать затопил без его дозволенья, тот тую греблю роскопати маеть и за то не повинен будеть кгвалту платити, бы нихто не маеть без дозволенья к чужому берегу греблю засыпати, ани ставу займовати.

Артыкул 13.

Хто бы на чыей земли посеял збожье, теж коли бы хотел сено косити альбо бы и покосил, як маеть заповедати возным, абы не звозил до права.

Уставуем, хто на чыей земли жыто посеет, тогды тот, хто свою землю менует, маеть взяти возного з уряду, в чыем повете се дееть, маеть запозвати под закладом на нас господаря и на суд земский, штобы он жыта не звозил и пожавшы поставил на той же земли до права, и рок положившы, маеть з обу сторон суд земский вывести. А естли бы тот, хто заповедал, правом перевел, штож он тое жыто будеть сеял на его власной земли, тогды маеть быти ему так земли яко и оное жыто, а где бы тот через заповедь або заклад пожавшы оное жыто и звез проч, тогды маеть заклад заплатити и жыто з навезкою отдати. А если бы хто будеть на своей власной земли сеял, а он ему то заповедал, а тот правом не переведет, иж бы то земля его была, таковый заклад тот сам платит до скарбу нашого господарского и шкоды оному оправити маеть, то ест, если бы чые жыто за заповедью погнило. Або теж хто суд земкий вывел и на него наложыл, а то што жаловал не довел, тогды тое жыто маеть тому платити и тую шкоду оправити. А хто бы хотел через границу кому шкоду вчынити, тогды в таковых речах заклад маеть быти на нас господара сто рублев грошей, а на державцу двадцать рублев грошей, а если бы о межах была заповедь, тогды заклад маеть быти на нас господара дванадцать рублев грошей, а на державцу три рубли грошей, нижли заповедь жыту и сеножатем маеть трывати до Божьего нароженья.

Артыкул 14.

Хто бы земли в держанью был три годы, а другий правом не переконавшы жыто пожал, або жатое побрал, або бой учынил, або соху зрубал, барону и колеса.

Теж уставуем, иж коли бы хто которую землю держал в упокою три годы, а с покоем ее сеял або орал, а другий пришедшы на тое поле жыто пожал, або жатое побрал и вдарил самого або человека его, або которого кольвек стану, або соху колеса борону зрубал и сошники взял, таковый маеть платити кгвалт дванадцать рублей грошей, а если возмет без бою, то маеть шкоду платити з навезкою, коня конем вола волом навезати, а за соху десеть грошей, а за нароги дванадцать грошей, за колеса дванадцать грошей, за борону шесть грошей заплатити, а потом, кгды похочеть, держачого о тую землю маеть правом урядовне спирати. А если бы хто в кого отнимал, а другий того боронил, и в держанье не дал, тому маеть быть право, и хто в земли будеть винен, тот маеть шкоды и кгвалт оправити.

Артыкул 15.

О увезанье в именье за долги або за иншую причыну, як се мають справовати.



Уставуем, если бы от нас господара был послан дворенин наш увезатисе в чые именье за суму пенезей, которая бы прислушала до скарбу нашого господарского, тогды тот посланец маеть приехати до того именья, и вземшы з уряду земского або замкового возного и людей добрых шляхту, и оного именья людей всих маетности списати, один реестр дати до скарбу нашого, а другий до замку або до суду земского, а третий у себе маеть зоставити, для того абы в час помовки мел ся чим выправовати. Нижли естли бы што на ком было присужоно з выроку нашого або панов рад наших, тогды в таковой речи зи листы нашими маеть суд земский увязанье дати, а где бы ся спротивлено суду земскому, ино замок ино повет маеть моцно увезати, пестерегаючи и заховываючися ведле того, яко о том вышей в розделе о судъях ест написано.

Артыкул 16.

О именье, которое зволившыся дадут до рук наших господарских.

Теж уставуем, иж коли бы обе две стороне зволившися и дали именье до рук наших господарских до росправы, а мы быхмо которому врянику нашому господарскому або через листы наши або через увяжчого оное именье до води и науки нашое в держанье дали, тогды врядник волен будеть в том именью слушную жывность собе мети, а з двора индей ничого не маеть возити, але будеть повинен оное именье со всими речами рухомыми, так теж и з росходы часу держанья собраными, оной стороне, которой прислушаеть, верне а зуполне за листом нашим господарским отдати, и дозрети того, же в оном именью за держанья его жадная шкода и спустошенье не сталося. А естли бы тот врядник иначей чинил, повинен будеть оной стороне шкодной всю шкоду и згубу платити, а мы и потомки наши винни будем з ним той стороне справедливост учинити на первом року яко на завитом, а в небытности нашой ино панове рада наши.

Артыкул 17.

О именье нероздельное межи братьею.

Теж уставуем, иж коли бы братья рожоная, альбо и и дальшая в роду нижли братья рожоная, лета зуполные маючи, мели которое именье суместное нероздельное, а потом перед правом собе зровнали и роспишавши поделили, або и поделившы и перед вряд пришедши сознали, або листы и реестры межи себе дали, тогды тот вжо дел промежку себе вечне держати мають, а хотя бы и не перед правом але перед сполными приятельми своими также во именью собе дел учинили, а тот дел промежку себе давность земскую десеть год держали, таковый дел вжо за таковою давностью земскою мають промежку себе деражати. А если бы братья або кровные який дел промежку себе хотя и мели, а перед врядом того делу своего сполечне не сознали, а листов або реестров делчих межи себе так и листов прислучаючих на то не розобрали, таковый дел за вечный держан быти не маеть, и никоторая давность шкодити не можеть, а то для того, же бы один на другого большей собе не привлащал части.

Артыкул 18.

У чужого человека не маеть нихто земли закуповати без воли пана его.

Теж уставуем, иж не маеть жаден боярин, ани человек в чужого человека земли закуповати без воли пана своего, а естли бы хто в чужого человека без воли пана его закупив и што на ней посеял, тогды тое сеенье и пенези тратит. А тот человек, чия земля маеть без откладанья пенезей всю землю к своим рукам взяти, а он на том его, в которого будет землю закупил, и на поручнику, через чии руки давал будеть, пенезей искати не маеть, для того иж он то учинил над тую уставу нашу. Также и чужого человека не маеть нихто закуповати без воли пана.

Артыкул 19.

Которые люди приходять на волю и заседевши волю втекають проч.

Уставуем, коли бы человек вольный пришол за которого князя або пана и земенина, а сел на воли, а выседевши волю хотел проч засе пойти, тогды первей маеть заслужити тому пану своему только, колько на воли седел, тож пойти проч. А естли бы не хотел заслужити толькож, тогды маеть пенези заплатити на кождую неделю по шести грошей. А естли ж бы он, заседевши волю, втек за кого кольвек иного, тот за кого втечеть, маеть его ему выдати не мней яко отчича, пакли ж бы на обсыланье его того человека выдати не хотел, а тот человек потом от него втек проч, а то бы на него правом переведено, тогды за него маеть платити за кождую неделю, колко на воли седел а не робил, по шести грошей.

Артыкул 20.

О найденью скарбу захованого в земли або у яком поклаженю.

Уставуем, коли бы ся трафило кому налезти в земли який скарб, гроши, золото, серебро, або иншое яко се трафляеть находити, тогды естьли найдеть на своем кгрунте, маеть тому быти чий кгрунт, а естли бы на чием иншом нашол, тогды половицу маеть тому дати, на чией земли нашол, а половицу собе взяти, так теж и на заставной земли на полы розделити мають. Нижли хто бы умыслне на чужой земли кладу искал и нашол, тогды маеть што будеть найдено все тое отдати, чий кгрунт ест. А ведьже таковому найденью хто бы се знати не хотел, тогды ку праву притягивати ани ку присязе его примушати не маеть.

Артыкул 21.

О портех водных и о товарех стонулых на водах.

Кгды бы ся трафило, водным путем везучи якие товары с прыгоды судно се розбило, або стонуло при чием кольвек берегу, тогды оный товар стонулый купец або хто кольвек маеть добровольне з воды выбирати и на берег выносити, а врядники наши князи и панове и их врядники земяне и люди простые, и чий кольвек берег есть, не мають от того ничого брати. А хто бы хотел в том оным стонулым трудность задавати, тогды тот будеть повинен всю шкоду, што будеть на том шкодовати, совито оправити.

Артыкул 22.

О дорогах старовечных.

Уставуем, иж дороги звечные мають быти водле стародавного обычаю так широки, абы два воз форманских розминулися, а воз порожний маеть уступити возу наложоному, пеший ездному, возовому ездный, естли бы тесна дорога



была яко у местех, або естьли бы хто перед неприятелем утекал, тогды воз застановеный маеть быти, аж обминуеть. А часу зимнего кгды снег бывает велкиий, мають поткавшися дорогою половицы делити, а один другого спихати не маеть с дороги.

А ведьже на том сойме з росправы господарское его милость придати рачил уряд подкоморого ку тым справам судов земляных, а то для большое и поспешнейшое отправы в справедливости людской, про то што суд земский мел отправовати ведле артыкулов урядовных вышей описаных в том статуте.

## *Роздел десятый. О ловы, о пущу и о дерево бортное.*

Артыкул 1.

О ловы, о пущу, хто бы их половил.

Уставуем, хто бы чие ловы кгвалтом половил, тогды тому, у чией пущи будеть половил, мает кгвалт заплатити дванадцать рублев грошей, а зверу, колко будеть половил, ценою яко нижей описано маеть платити. А естли бы хто стрельцов послал в чужую пущу, або сам украдом зверь побил, тогды, если будеть то на него слушным доводом переведено, колко зверу убито, таковый маеть за кождого звера платити по тому ж, яко нижей написано. А естли бы стрельца поймано над зверем убитым, таковый маеть быти веден до вряду нашого до замку альбо двора того повету, и перед врядом за доводом слушныш або присегою пана оного стрельца або его врядника, обославши и рок слушный ознаймивши, маеть сказан быти на смерть яко инший злодей. А естли бы хто застрелил або ранил звера у своей земли, а тот звер ушол бы в чужую землю, а там его дошедши вольно будеть взяти. А ведь же кгды бы зверь пришол вь лес панский землянский, где перед тым ловы не бывали, тогды кождому вольно на своей земли зверь ловити.

Артыкул 2.

Цена зверем диким.

Уставуем цену зверем диким: за зубра дванадцать рублев грошей, за лося шесть рублев грошей, за оленя або за ланю шесть рублев грошей, за медведя три рубли грошей, за вепря або за свинью рубль грошей, за сарну копу грошей, за рись три рубли грошей.

Артыкул 3.

О борти и озера и сеножати, хто маеть в чией пущи.

Теж уставуем, которые мають борти свои в пущи нашой господарской, або теж князской, панской земянской, которим обычаем мають бортей своих уживати, а то тым же обычаем: хто маеть борти свои або озера сеножати альбо при сеножатех лазни в чией пущи, тогды к озеру з неводом ехати вольно, а собаки ему не брати ани рогатины ани жадное стрельбы, чим бы мел зверу шкоду чинити, а хто маеть сеножати в чией пущи, тот маеть сеножатей своих старих уживати, а новых не маеть прирobливати, а естли бы старые сеножати заросли, то можеть их собе засе ростеребити, а хто теж маеть борти в чией пущи, бортники, которые мають уходити к их бортям, не мають з собою псов брати ани рогатин ани жадное стрельбы, чим бы мел зверу шкоду вчинити, але бортники только мають мети секиру а пешню, чим борти робити, а к сеножатем ити только мають мети секиру, чим ростеребливати заросли, а косу чим косити ее. А ведьже тым которые озера мають в чией пущи, кгды приедут зиме озера волочити, вольно им дров с тое пущи к лазням своим взяти и корита на рибу выделати, а тым, которые сеножати мають, вольно на стырту або на стог або одрину вчинити альбо огородити, а бортником вольно на лезиво лык або лубъя на лазамен и на иншие потребы бортницкие, што бортником на потребы бортницкие прислушаеть, иле им потреба будеть взяти, што можеть на собе знести а не возом вывести. А кгды дерево, в котором борть их будеть, обвалится, со пчолами або без пчол, вольно им з бортью улей выпустити и вывезти, а верховье и корень оставити в пущи тому пану, чия пуща будеть, а дерево на будонанье и дров за тыми их входы нихто з чужое пущи брати не маеть. Нижли хто маеть здавна озера сеножати и борти в чией пущи, тогды озер сеножатьми в чужой пущи взяти не может, а тот, в чией пущи озера сеножати и борти будуть, также тых чужих входов у своей пущи отняти не может, а кгды пущу свою ростеребливати всхочеть, не маеть бортям и жадному дереву бортному жадное шкоды чинити. А естли хто ниву розробливаючы, чие дерево бортное на борть уделаное скримленое або со псолами або и без пчол очер або пожаром попалил, шкоду которую тому дереву учинил, с чого бы мело тое дерево уснухути, тот тому, чиему дереву шкоду вчинил, за то повинен будеть платити подле уставы нашое нижей описаное. Кгды на чием поли чужое дерево бортное будеть, тот оручи свое тое поле не маеть чужого дерева бортного близко подъорювати так, як от сохи остием дерева досегнути не можеть, а естли близко тое дерево подъорет, а тое дерево для того усхнеть, тогды тот повинен будеть платити за тое дерево водле уставы нижей описаное.

Артыкул 4.

Хто бы чужое озеро в своей пущи поволочил.

Уставуем, кгды бы озера чужие у своей пущи хто поволочил, тогды маеть тому, чие озеро будет, кгвалт платити и за рибу, на чом тот пан мети будет присегнути, што ему в рыбе будет шкоды стало, досыть маеть делати. Также естли хто чии сеножати у своей пущи кгвалтом покосит, и вытискаючи его от его сеножатей бой учинить, тогды повинен будеть кгвалт платити дванадцать рублей грошей, а битых навезати, а естли бою не будеть, а хотечи сеножати чужие покосити або кошоное погребет, тогды повинен будеть сено з навезкою платити.

Артыкул 5.

Хто бы застал чиего человека у своей пущи и пограбил.

Коли бы хто у своей пущи застал человека, рубаючы альбо везучы дерево, и пограбил, тогды за тот грабеж не повинен навезати, нижли маеть того человека пану и грабеж на рукоимство выдати и до пущи и до пана вести, где пограбил, а на нем шкоды своее доводить. А естли шкоды своее на нем доведуть, тот маеть шкоду ему оправити, а естли бы в пущи ему от него шкоды не стало, а он безвинно его пограбил, тот маеть человеку пограбленаго самого и грабеж навезати.



Артыкул 6.

Хто бы мел спор о борти або о входы в пущы.

Теж уставуем, хто бы мел спор о борти и о входы в пущы, а хотел хто кого от бортей и от входов спирати, яко бы хто чие кольвек борти або уходы завел в чужие руки, яко того много се дееть межи мужиков, и пчолы для недостатку дани продает, альбо дочце даеть зятю дерево со пчолами в чужие села, а тым забираньем свар и невпокой межи сеседи деется, и оные на тые пчолы на дерева знаменья свои наложивши за тым знаменьем новым вход в тую пущу мети будуть, а зася того першого, хто бы первей был тых входов в держанью, витискал, а спор о том был, тогды маеть суд знамен у дереве казати заколоти, и чие старшое и врослешое знаме будеть, тому борти и входы сказати мають, а тые, хто будет ново знаменя свои в чужий остров внесли, не мають се у тое уступовати. И вжо от того часу хто бы с подданых наших князских панских и земянских дерево бортное за границу панов своих отдавал даровал и яким кольвек обычаем в чужие руки заводил, таковый маеть горлом каран быти, а тое дерево засе тому пану маеть быти превернено, чие первей было.

Артыкул 7.

Хто бы кому озеро або став або сажовку зволочил або млын изжог.

Теж уставем, естли бы хто кому озеро або сажовку або став зволочил, або млын зжогь, ез порубал, таковый оному маеть платити кгвалт дванадцать рублев, а шкоду предсе оправити. А пакли бы млын сказил або греблю перекопал або млын изжогь, а в том бы оный шкодовал, иж млын стоял, а плату ему не было, або теж став спустил, на што слулшный довод учинит або присегою телесною потвердит, таковый маеть платити кгвалт дванадцать рублей грошей, а шкоды або замешканье млива за слушным доводом оправити, а млын будеть скаженый, знову будовати.

Артыкул 8.

О гнездо соколье и лебединое и о перевес.

Уставуем, хто бы кому гнездо соколье сказил, або подрубал, або умыслне сокола под гнездом помкнул, або з гнезда соколы молодые покрал, а то будеть на него ведле права слушне переведено, тогды тому, в чией пущы тое гнездо скаженое, маеть заплатити шесть рублев грошей. А тым же обычаем хто бы лебединое гнездо яица побрал, або гнездо розметал, тогды за лебединое гнездо, хто бы его сказил, маеть заплатити три рубли грошей, а хто бы перевес кому другому подрубал, а сеть перевесную украл, маеть заплатити шесть рублев грошей.

Артыкул 9.

О бобровые гоны.

Теж уставуем, естли бы князские панские або земянские были гоны бобровые у в иншого соседа дедизне, а оный пан, в чией дедизне будуть гоны, не маеть сам ани людем своем допустити от старого поля так далеко доорывати, яко бы от зеремени мог кием докинути, также далеко сеножати подкашивати не маеть лозы теребити, яко бы мог от зеремени кием докинути. А естли бы под зеременем подъорал, або сеножать подкосил, або лозу подрубал, а тым бобра выгонил, таковый маеть платити дванадцать рублей грошей, а тому зеремени предсе маеть дати покой так далеко, яко бы мог кием докинути. А пак ли бы хто кгвалтом бобры побил, або злодейским обычаем выкрал, таковый маеть кгвалт платити, а колко будеть бобров убил, тогды маеть платити за чорного бобра две копе грошей, за карого копу грошей.

Артыкул 10.

О хмелища.

Хто бы кому хмелища поорал або порубал у чией дедизне а то на него слушным доводом переведено будеть, таковый маеть кгвалт платити дванадцать рублей грошей, а если бы дерева не посек, толко хмель побрал, то маеть три рубли грошей заплатати.

Артыкул 11.

О принадах пташиих.

Хто бы кому принады порубал, а то бы на него правом переведено, тот маеть тому заплатити, чии принады, шесть рублей грошей.

Артыкул 12.

Хто бы кому принады злодейским обычаем показил.

Теж хто бы чии принады злодейским обычаем показил, а переведено бы то на него правом, тогды маеть заплатити тому, чии принады, три рубли грошей. Тым же обычаем хто бы кому шатер на принадах украл, тот маеть заплатити три рубли грошей.

Артыкул 13.

Устава дереву бортному.

Хто бы чужое дерево бортное со пчолами сосну або дуб обчер, або корень у земли обрубал, або пожаром обжог, або яко кольвек сказил, тот за тое дерево со пчелами повинен будеть кгвалт платити две копе грошей. А хто бы злодейским обычаем, або умыслне кого вытискаючи, сосну со пчолами зжог, або в которой пчолы бывали, знамена вырубал, або огнем выжог, а то бы на него переведено, тогды маеть тому пану чие дерево со пчолами за сосну и за дуб, в котором пчолы бывали, две копе грошей, а за сосну бортную и за дуб, где еще пчолы не бывали, копу грошей, и за крем без борти, иле их сказил, по полкопы грошей.

Артыкул 14.

Цена пчолам.

Хто бы кому пчолы выдрал не подлаживаючи, а дерева не сказил, тогды повинен будеть за кождые таковы пчолы заплатити две копе грошей. Хто бы в дому або и в пасеце пчолы выдрал, а дошли бы его купою або присегою, тогды маеть заплатити три [рубли] грошей, окром естьли бы кого з лицом поймано, таковового мають сказати яко злодея.

Артыкул 15.

О порубанью гаю.

Теж хто бы кому в гаи зарощоном которую шкоду кгвалтом учинил або порубал, а естьли шляхтичу, тогды маеть заплатити тому кгвалт дванадцать рублей грошей, а шкоду оправити, а естьли бы мужик мужику кгвалтом порубал гай, тогды маеть заплатити три рубли грошей, а шкоду оправити. Пакли ж бы хто кому злодейским обычаем гай порубал, а его з лицом и с деревом поймано, тогды маеть откупити горло свое, естьли ж бы самого не поймано, а лице бы выпето, тог-



ды за кождое дерево, которое бы се згодило на бервено яко селидбу так и на избу, по дванадцать грошей, а которое се будеть годити як на оглоблю, так и на дрова, по шести грошей.

Артыкул 16.

О покраденье саду.

Теж хто бы шляхтичу сад скрал, а на него бы слушне переведено было и з лицом поймано, тот маеть заплатити дванадцать рублей грошей, а естли бы хто в саду дерево щепное порубал, або щеп выкопавши из саду взял, тот маеть заплатити три рубли грошей.

Артыкул 17.

О пожарах в пущи.

Теж обачивши есмо в том шкоду земскую, иж которие близко села одны с другими в суседстве, маючи вазнь межи собою, так теж люди переежчие в пущах на станах своих и пастухи, пасучи кони и быдло в пущах на станах своих, пожар от станов своих пущают, а тым дереву бортному пчолам зверу и птахом шкоду великую чинят, уставуем на таковых, хто бы смыслне недбалством своим у пущи и в острове в дубровах огнем пожар пустил, будь суседи або пастухи межи собою, так теж и купцы люди переեждчие, а стоявши на пущи станом огню на стане своем не загасили, таковый, на кого слушне правом будеть переведено, маеть горлом каран быти, а шкоду з маетности его платити.

### *Роздел одинадцатый. О кгвалтех и о головщызнах шляхецских.*

Артыкул 1.

Хто бы на чии дом або на господу умысльне наехал, хотечи его забити.

Хто бы на чий дом а господу умыслне наехал, хотечи его забити, а умыслне наехавши або нашедши, в том дому кого кольвек ранил або забил, а то бы на него переведено было слушным доводом, таковый горло тратит, а головщизна близким з именья плачона быти маеть. А естьли бы кгвалтом наехал або на дом нашол, а никого не ранил, ани забил, а знаки предсе кгвалту або шкоду якую учинил, тогды только за кгвалт будеть повинен платити дванадцать рублей грошей и шкоду оправити за слушным доводом, а горла для нахоженья кгвалту не тратить. Тым же теж обычаем естьли хто кому в месте на господу нашол кгвалтовне, а кого забил або ранил и тым покой посполитый взрушил, маеть быти сужон и сказан на горло.

Артыкул 2.

О довод кгвалту, як мают осведчати и обжаловати.

Уставуем, кгды бы хто на кого наехал кгвалтом и забил, а ведь же на такового кгвалтовника такий довод маеть быти: естьли бы на чый дом або на господу чью наехал и забил кого, тогды скоро по оном кгвалте того ж часу кгвалт и того забитого маеть оповедати и оказати околичным суседом своим, а в небытности их ино врядникам их шляхте людем добрым, а в недостатку шляхты ино также околичным суседом своим, хотя и не шляхте только людем добрым веры годным маеть оказати, а потом обжаловати вряду замковому або двору нашому, который близший будеть, и возного взяти и так же оказати кгвалт и забитого, и тот кгвалт и жалобу в книги записати. И в праве естлибы се ку оному кгвалту и забитому не знал, тогды вжо тот жалобник близший будеть того суседи околичными и возным або выписом врядовьш на него доводити, и при том доводе самотреть и з шляхтичами собе ровными присегнути, а естли бы на тот час не могли мети шляхтичов ку доводу, тогды и з жоною своею и с детьми дорослыми, а не будеть ли мети детей дорослых, ино и з жоною и з слугами домовыми маеть того кгвалтовника поприсегнути, а кгды присягнеть, тогды тогь горло тратить, а головщина его близким того забитого маеть быти плачона, а шкоду за слушным доводом. А естли бы кгвалтом на дом наехал и не забил, только ранил, тогды также маеть тот кгвалт оповедати и раны оказати околичными суседьми, яко вышей описано, и при таковом доводе оного вгвалтовника кгвалту и ранного маеть сам сем з людьми добрыми шляхтою попрнсегнути, а кгды присягнеть, таковый кгвалтовник маеть быти горлом каран, нижли естьли бы сполна шести сведков не мел, тогды и с трема сведки самочварт присегнути маеть, а кгвалтовник за таковым незуполным доводом горла не тратит, одно кгвалту дванадцать рублей грошей, а навезку водле стану и шкоду за доводом маеть платити, а за вину дванадцать недель в везенью седети. Пакли бы на том доводе своем устал, тогды только сам ранный на ранах своих присегнути маеть, которому по присязе его навезка будеть сказана, а кгвалт и шкоды не мають быти сказаны. А где бы на оном кгвалте в дому никого не забито ани ранено, только одно шкода учинена, таковый кгвалт также маеть быти осведчон, яко вышей описано, а при том доводе у праве на кгвалтовника маеть тым же обычаем на кгвалте и на шкодах самотрет присегнути, а кгды присягнеть, маеть быти кгвалт плачон дванадцать рублев грошей, и шкоды оправити за доводом его, а горла не тратит, а не будеть ли мети чим платити, а именье его тое бы шкоды и маетность не стояла, тогды у в остатку заплаты сам маеть быти выдан. А где бы тот, на чий дом наехал, чинил собе быти ровную шкоду о сорок або о петдесят коп грошей, то и з жоною и з детьми лет дорослыми на той шкоде присегнути маеть. А жоне детем забитого, а в недостатку их, ино кровным таким же обычаем маеть право ити, яко вышей описано.

Артыкул 3.

О кгвалт костела закону хрестиянского.

Теж естьли бы хто пришедши кгвалтовне на костел або на цвинтару в школе, або в капланском поповском дому кого забил або ранил, а тые бы раны значны были, тогды под таковым же способом и доводом маеть быти каран, яко вышей о кгвалтовниках описано. А естьли бы только вдарил, а раны не было, тогды совито кгвалт маеть платити, то ест двадцать и чотыри рубли грошей, а оного вдаренаго навезати, и то все заплативши еще двадцать недель у везенью маеть седети в том повете, где ся то станет.

Артыкул 4.

О кгвалтовнику, который забивши з земли втечеть.

Теж естьли бы таковый кгвалтовник забивши кого в дому в в господе на улицы на дорозе и где ж кольвек, будучи первей запозван хотя бы теж и заочне, втек из земли проч,



тогды маеть первей быти выволан с того панства нашого, а потом головщызна и шкода маеть быти плачона з именей его. А где бы тое именье за головщизну и шкоду не стояло, однакож тое именье маеть быти в той головщизне и в шкодах подано детем того забитого або кревным, и мають держати потоль, поки аж того выволаного дети або кревные тую суму за оные именья отложать, нижли таковые дети або кревные тую суму мають откладати, которые того мужобойства не помогали. А естлибы по выволаню оного кгвалтовника або забойца нalезен был в том панстве нашом, тогды и на том вряде, где будеть постижон, маеть быти каран яко кгвалтовник, а не будеть ли хто стояти або фалдровати, тогды вряд наш, маючы певную ведомость о том мужобойцы або кгвалтовнику, маеть также на том вряде своем поймавшы скарати, яко о том вышей описано. А в том часе ниж постижон и на вряде скаран будеть, трафить ли ся кому ж кольвек его забити, за таковото выволанца забитье нихто головщизны платити не будеть повинен.

Артыкул 5.

Хто бы злочынцов, разбойников, злодеев явных, а людей выволаных, в себе в дому переховывал.

Теж уставуем, хто бы с подданых наших господарских людей подойзреных злоцынцов разбойников явных выволанцов в дому або именю своем переховывал, маючы ведомост, ким которую раду помоч ку шкоде речы посполитой давал и чынил, або теж и речей злодейских ведомо пожывал, а то бы на него было переведено слушным правом, тогды таковый маеть быти горлом каран таковый и он злочынца, которого он в дому переховывал. А ведже жалобливая сторона за оным злочынцою або выволанцем, где бы о нем ведал хотя бы и в иншом повете того панства нашого, взявшы выпис з ураду маеть ехати и на оном вряде, так теж и в местех по торгох у костелех ознаймити, и цедулу написавшы, о его выволаню маеть поприбивати и о нем ознаймити. А чрез таковое оповеданье оного злочынцы або выволанца, а хто бы ведаючы и знаючи его ховал, также маеть каран быти яко вышей описано и шкода з именья его плачона за слушным доводом, а довод на таковото не инакший маеть быти, одно таковый як на самого злочинцу, а естлибы поведал, иж бы его не ведал и не знал, тогды тое неведомости маеть отприсягнути.

Артыкул 6.

Хто бы забил кгвалтовника в дому своем и помочников его.

Теж уставуем, хто бы на чий дом або на господу кгвалтом наехал або нашол, а тоть господарь домовый также и гость, который в дому его том або господе стоить, оного кгвалтовника самого або помочников его боронечи дому своего забил, тогды скоро по оном кгвалте маеть суседом своим околичным обволати и оповедати, и того ж часу до вряду нашого, который будеть наблизший, ехати або слати, из уряду взявшы возного и сторону людей добрых шляхту а иншых суседов веры годных, оный кгвалт и забитого кгвалтовника в дому своем сказати. А потом кгды будет о тые забитые обвинен, тогды за оказаньем слушным знаков кгвалту маеть з жоною и с детьми дорослыми и с тремя шляхтичи собе ровными, а не будеть ли мети жоны або детей, ино с тыми трема шляхтичома собе ровными предсе маеть присегнути и тым ся отвести на том, иж тот забитый кгвалтом наехал або нашол, а сталося за почaтком того забитого. А естли бы только ранил, а не забил, тогды сам один пан домовый маеть присегнути, иж яко кгвалтовника вх дому своем ранил, таковый головщизны ран и ни шкод никоторых платити не будеть повинен.

Артыкул 7.

Хто бы наехал або нашол на чужое именье або на село кгвалтом, а в том боронечи кгрунту своего кого забил.

Теж уставуем, которому бы шляхтичу шляхтич або хтож кольвек умыслне на чие именье кгвалтом наехал або нашол, кгвалт або якую значную шкоду учинил, а тот шляхтич боронечи именья своего оного кгвалтовника забил, тогды маеть тым же способом, яко вышей о кгвалтовниках написано, присегою своею отвестися, и кгды присегою ся отведет, иж его яко кгвалтовника на своей земли забил, таковото головщизны ани шкод платити не будеть повинен.

Артыкул 8.

О кгвалт девки и невесты.

Теж уставуем, хто бы девку або учтивую невесту якого кольвек стану сильством зкгвалтил, а оная девка або невеста за оным учинком волала кгвалту, за которым воланьем люде бы прибегли, знак кгвалту оказала а потом бы оного ку праву притегнула, а двема або трема сведки кгвалт пересведчила, а ку тому при оных сведкох на том кгвалте своем на того присегнула, тогды таковый маеть быти каран горлом, а навезка маеть быти з именья его водле стану, якого будеть, плачона. Пакли бы оная девка або невеста кгвалту волала, а люди оные слышели, нижли на кгвалт не прибегли, а ведже по оном кгвалте скоро бы пущона была, а оповедалася тым людем, и зась оного ку праву притегиула, а тыми людми осведчила, тым же обычаем каран маеть быти, яко вышей описано, а естли бы похотела его собе за мужа мети, то будеть на ее воли.

Артыкул 9.

О кгвалтовное взятье в малженство девки, вдовы и каждое невесты.

Уставуем, хто бы без воли отца и матки стрыев або близких на яком кольвек местцу взял кого с тых вышейменених кгвалтом, менуючы иж бы ему в малженство его шлюбила, а то бы пришло до нас господара або перед панов рад наших и перед кождый вряд, таковая персуна маеть первей быти взята до секвестру. И кгды то покажет с права, же яко приятель кревных так теж и ее самое на то позволенья не было, тогды тот хто се того важыл, маеть горлом каран быти, а за навезку третяя часть всего именья его маеть спасти на тую парсуну кгвалтом взятую, а шкоды, которые се будуть при том кгвалте стали, за доводомть на двох частех того ж именья его маеть быти сказано. Нижли естли бы девка, укрившы то перед родичами своими, на тое малженство и на взятье позволила и на праве се того знала, тогды таковая девка отпадываеть оть выправы и от всих именей своих отчизных и материстых, яко о том вышей написано в розделе пятом.



Артыкул 10.

О мужу и жоне, о замордованье до смерти.

Теж кгды бы з ненависти и з немилости на обедве стороне, так муж яко и жона, будучи в ростырку з яких кольвек причин, один другого приправил о горло, замордовал, або струл, такое окрутенство и замордованье сынове або кревные то мают до вряду оповедати и обжаловати або фалдровати на кождого таковового мордера. А хотя бы сынове або кровные не хотели фалдровати, тогды вряд наш з местца своего маеть того особливе перестерагать и с пильностию около того выведати, и у в околичных суседов близких о того замордованого опыт чинити, и обобравши семи шляхтичов ку присезе припустити, которые о том под присегою справедливе мають того перед врядом поведити. И кгды тая сем шляхтичов о того замордованого, на кого присягнут, таковый мордер без маеть быти каран горлом тым способом, яко бы отца имилости матку забил.

Артыкул 11.

О похвалку за которою бы ся стала якая шкода и отповедь на горло.

Теж если бы хто на кого похвалился, в похвалце сталася шкода, спалено дом, двор, гумно, або збожъе зложоное, або теж што кольвек огнем ускажоно, нижли бы ся тая шкода стала, маеть первей жалобливая сторона тую похвалку его того ж часу на вряде нашом оповедати и записати, а потом без мешканья его припозвати маеть. А естли бы ся перед врядом признал, иж тую похвалку учинил, або и не знал, а было бы то на него слушне переведено, тогды маеть быти дан за поруку. А естли бы потом оной стороне жалобливой шкода стала, а тот бы, на него хто ся похвалил, позвавши ку праву сам и с жоною и с детьми дорослыми на шкоде своей, иж от него маеть, поприсегнул с с таким доводом, яко вышей о кгвалтех домовых описано, таковый будеть повинен стороне жалобливой оную шкоду оправити и платити, а собе винного искати, хто тую шкоду учинил. Тым же обычаем и не шляхтичи против шляхты у права захована быти мають. А хто бы теж на кого учинил похвалку, отповедаючи на горло, ино сторона жалобливая тым же способом мають тую похвалку перед врядом оповедати и дати записати, и притягнувши ку праву тую похвалку людьми добрыми веры годными шляхтою трема сведками то на него перевел, тогды так оселый яко и не оселый для лепшое безпечности покою посполитого маеть быти дан за доброе рукоемство людем оселым. Кгды бы за таковою похвалкою забито, того на кого ся похвалил, таковогo поручники перед врядом мають поставити, а сторона жалобливая самотреть з шляхтою естли присягнет, иж от него то забойство сталося, тот горлом маеть быти каран, а головщизна близким з именья его маеть быти плачона. А где бы рукоемства о тую похвалку дати не хотел, ино вряд таковогo маеть дати до везенья замкового, и до того часу маеть седети, аж рукоемство даст. А пакли бы поручник того, по ком ручил, перед врадом не постановил, тогды маеть головщизну сам кровным платити, а у везенью так долго седети, аж тот, по ком ручил, приехавши ис таковогo обвиненья выправится, або, естли будеть винен, заплату свою озмет.

Артыкул 12.

Естли бы колко парсун шляхецских о забитье одного шляхтича обвинено было.

Уставуем, естьли колко парсун об одного шляхтича забитье было обвинено, а сторона жалобливая не вызволяючи ни от кого з них, але их колко присегнуло, тогды один з них, которого на смерт оберуть и поприсягнет, маеть горлом каран быти, а тые помочники его, на которих теж ровно сторона поприсегнула, ач кольвек бы ведле прав хрестиянских винни бы тые вси горло дати, нижли мы занехавшы так срокгого права на таковых уставуем, иж тые вси помочники его, иле их будеть, мають сто коп грошей платити и в везенью [рок] и шесть недель седети на замку Виленьском або Троцком в земли шесть сажон, а трафит ли ся тое забийство в котором воеводстве або у старостве далеко, тогды на том замку того выоеводства тот мужобойца маеть седети также у земли шесть сажон. А панове воеводе старостове на замкох наших мають тые турмы доброе оправены и вкопаны мети глубоко шесть сажон у земли, за певною сторожою, и не мають таковым вязнем фолкги никоторое допущати чинити, и с того везенья до сороку а шести недель выпущати под ласкою нашою господарскою. И будеть ли двох або трех забитого и колко их особ шляхецских, тогды за кождого шляхтича особа шляхецская горлом карана быти маеть. А естли бы простый хлоп шляхтича, тогды, колько их будеть поймано и перед врядом обвинено и поприсягнено, мають вси горлом карани быти, а вежде хлопов простых вышей семи человеков об одну голову шляхецскую карано быти не маеть. Также и о шляхтянках розумено быти маеть.

Артыкул 13.

О звадах шляхецских.

Хто бы кому руку або ногу втял, або око, губу, зубы, ухо вытял, за кождый таковый члонок по петдесят коп грошей платити, а двадцать и чотыри недели на замку седети. Або хто бы обе две руки и обе две ноги и обе две ухи оттял и обе две очи, тогды головщизну яко за человека маеть плачоно сто коп грошей, а год и шесть недель седети. А рана, которая бы у человека была, с которое бы кости выбирано, тридцать коп грошей. А естли бы с тое раны реч замкнул, хотя бы се и выгоил, тогды маеть сто коп грошей яко головщизны платить, рок и шесть недель седети. А естли бы рана была на твари, сорок коп грошей платити, а хотя бы поличок кому дал, бороду рвал, тогды за все тое по дванадцати рублев грошей платити, а хотя бы был киием шляхтича, сорок коп грошей платити. А белым головам шляхецским як головщизна так и навезка маеть быти плачона совито, тым же обычаем потом и их жонам и детем, которие венчалные жоны мають, маеть быти навезка шляхецская.

Артыкул 14.

О вказанье шляхецства за всказаньем навезки.

А естли бы по всказанью навезки шляхецское сторона противная поведила, иж водлуг сказанья судового навезку ему платити готов, нижли не есть есми сведом, естли он ест шляхтич, або и рад бым о том ведал, тогды тот, хто ся шлихтичом менит быти, маеть ехати до оное земли або повету, отколь родом ест, и там же маеть, зобравши братью и стрыев



або кревных своих, перед врядом тамошним маеть высведчитися, иж ест шляхтич, а вряд з оное земли або с повету маеть писати лист з уряду до суду, где ся тое право точило, даючи о нем сведецство, иж есть щляхтич. И кгды таковую о собе ведомость принесет, вряд маеть оную сторону противную листом своим обослати, складаючи ему рок короткий, на котором яко на завитом ставши маеть прислухати, и навезку шляхецскую ему заплативши, будеть еще повинен страву шкоду, што на то ездечи наложил, за присегою его платити ведле важности и далекости дороги. А ведь же естли бы не оселый человек доведовался оного шляхецства; маеть до того часу, поки он зъездит, за поруку дан быти.

Артыкул 15.

О мещанине, который бы шляхтича ранил.

Если бы который мещанин у бурмистровстве шляхтича забил або ранил, тогды маеть навезати так, яко вышей описано. Нижли естли бы бурмистром на тот час не был, кгды шляхтича, ранил, маеть руку тратить. Также теж и хлоп простый, естли бы забил або ранил шляхтича, маеть руку тратить, а естли руку або ногу шляхтичу утнет, або на котором члонку охромит, маеть горлом каран быти.

Артыкул 16.

О забойцах отца и матки.

Уставуем, естьли бы хто отца або матку свою из якое замети забил, яким кольвек обычаем родича своего о горло приправил, тогды таковый сын або девка, которая причиною своею родича своего о горло приправила, не только горлом маеть быти каран, але и почтивость и вси именья тратит, и таковою смертью и потварностью ганебною маеть каран быти: по рынку возечи и клещами тело его торгати, а потом у мех скураный усадивши, до него пса кура ужа котку, и тое все посполу в мех завезавши, где наглубей до воды утопити, тым же теж обычаем и помочников его, котрих поволает або на них правом будеть переведено, маеть быти караны. А естли бы ся трафило отцу сына своего дорослого або матце девку дочку свою властную забити, тогды таковый оцец и матка мають караны быти за тое: год и шесть недель на замку нашом у вежи седети, а выседевши год и шесть недель, мають еще до году чотыри кроть при церкви и при костеле головном покутовати и вызнавати явне найвышний грех свой перед всими людьми збору хрестиянского.

Артыкул 17.

Если бы хто брата або сестру забил.

Уставуем, естли бы хто брата або сестру забил, в неданью именья або якую кольвек на правою о горло приправил, а то бы на него доводом слушным переведено, тогды таковый маеть быть каран горлом, а тое именье, которое бы на него и на дети его припасти мело, спадываеть на иншую братью або сестры або теж на стрыев и близких в том дому. Тым же обычаем естли бы зять забил шурина своего, тогды жона его сестра того забитого и дети ее до именья по брате своем не маеть ничого мети, а тот хто забил, маеть горлом каран быти. Тоеж право и на тых, хто бы кровного своего забил и далекого в роду.

Артыкул 18.

Который бы слуга забил або ранил пана своего.

Теж уставуем, естли бы который слуга взял перед себе злый умысл, пана своего забил або ранил, таковый маеть срокго горлом каран быти здрайца, а естли бы не забил ани ранил, одно брони против пана своего добыл, таковый руку тратить.

Артыкул 19.

Хто бы на кого на дорозе засел, а в том сам забит был.

Уставуем, где бы шляхтич другому шляхтичу добровольне дорогу засел, хотечи того забить або ранить, а тот боронечи горла своего не маючи з ним никоторого зайстья, а того, хто засел, забил, тогды тот скоро по оном забитью маеть ехати оповедати вряду и высведчитися людьми добрыми веры годными, иж тот забитый засел и початком того забитья самт, был, а кгды на том и с тым доводом присягу вчинит, волен будеть от головщизны и от седенья.

Артыкул 20.

Если бы шкода або кгвалт кому стался, так в чием дому яко и на дорозе, за ведомостью домового господаря.

Уставуем, кгды бы се кому в чием кольвек дому або на дорозе за ведомостью домового господаря якая шкода або кгвалт се стал, а оный господарь был бы до суду позван, а было бы то на него слушным доводом або якими знаки врядовне переведено, таковый повинен будеть оный кгвалт и шкоду своими властными пенезьми платити и оправити, а тых кгвалтовников шкодников собе искати, нижли естли бы того господаря лице налезено або помочников его.

Артыкул 21.

Хто бы на чие именье, на село и на люди наслал, або сам наехавши кгвалтом побил, поранил.

Уставуем, хто бы на чие именье на село на люди сам кгвалтом наехал, або наслав побил и поранил, таковый стороне ображоной, на чом слушный довод учинить маеть кгвалт и раны платити, а грабеж з навезкою ворочати маеть, и всю школу добре оправити. А хотя бы не ранил ани бил, только наехал а грабил, по тому ж кгвалт маеть заплатити, и грабеж з навезкою поворочати.

Артыкул 22.

За кгвалт посполитый суседский.

Уставуем за кождый кгвалт посполитый суседский, врядовне переведеный, маеть быти сказан стороне обжалованой дванадцать рублей грошей.

Артыкул 23.

Если бы шляхтич шляхтича розбил на дорозе.

Уставуем, если бы шляхтич шляхтича розбил на дорозе, а оный розбитый у парсуну его познал, и перед врядом того ж часу раны свои оказавши того у парсуну меновал, а потом притягнувши ку праву, подле оказанья ран своих близший будеть сам из шестма шляхтичами на него присегнути, а кгды присягнет, тот горлом каран быти маеть яко розбойник. А естли бы сторона поводовая и з шестма сведки поприсегнути не хотела, тогды тот обжалованый также сам и з шестма шляхтичы маеч отприсегнутися, а не будеть ли мети с ким отприсегнутися, ино поводовая сторона самотрет на рана и шкодах маеть его поприсегнути. А будеть ли на дорозе звада стала, а лупу никоторого не было, а сторона жалобливая вину дала разбойную; тогды только раны за доводом



будеть повинен платити, а горла для розбою менованого не тратит.

Артыкул 24.

Который братьи рожоной будеть отца забито або з них самых которого кольвек.

Уставуем иж кгды бы колько братьи рожоной, лета зузопольные маючы або и недорослые, дельные або и недельные, а одного бы з них або отца их забито, а иншые бы братья были бы по службах або в чужой земли, ино который брат будеть дома, тот братью маеть обослати, абы з ним тое головщизны искали. Естли бы братья его будучи в здешнем панстве нашом з ним весполок головщизны искати не хотели, тогды тот, который дома мешкает, маеть сам тое головщизны доходити, а дошедши с тою ж братьею своею не будеть делити. Одно кром хто бы был в чужой земли, а приехавши отголь и той головщизны припытовался, таковый, кгды наклад его што доходечи тое головщизны будеть наложил, ему часть свою, которая бы межи братьею на него припасти мела, отложити, тогды маеть межи братьею своею ку части ровной тое головщизны припущон быти.

Артыкул 25.

Хто близкий головщизны искати маеть.

Коли бы колько братьи было и сестр рожоных выпосажоных и не выпосажоных, а один брать от их забит был, тогды они сами братья мимо сестр выпосажоных маюць головщизны доходити, и естьли бы братья змерли, тогды и дочки выпосажоные мають головщизны искати, а естли бы сынове и дочки змерли, тогды близкие доходити мають.

Артыкул 26.

О звадах.

Если бы хто с ким звадил, а в оной зваде оба два се ранили, а один бы с тых позван до права, а сведков бы межи собою не мели, хто бы мел межи ими розознати, а оба два се торгали ку присязе, а один бы другому не допустил, тогды суд мають жеребей искати и кинути, чий се жеребей наипервей выймет, тот маеть присегнути на ранах своих и на початку, иж он первей почал его бити и за оным початком тая ся звада стала. А коли оный присягнет, тогды оныи тому присяглому маеть за раны платити, якого ж стану будеть. А где бы ся в оиой зваде оба два се зъбили, а не было бы сведков на обе стороне, ино потомкое або близкие забитых вжо головщизн собе искати не мають. А естли у в одное стороны раны будуть, а з другое стороны забитый, тогды при оном забитом, близший будеть довод чинити нижли при ранном, и кгды будеть правом поконан, маеть головщизну платити сто коп грошей, и естли за шляхтича будеть платити головщизну, тогды тот маеть рок и шесть недель седети, а за хлопа простого везенья не повинен терпети, только головщизну платити.

Артыкул 27.

О зваде вечерней.

Теж коли бы при якой вечерней зваде хто кольвек свечу загасил, в том кого с тых, которие при той зваде были, ранено было не ведаючы от кого, и позвано бы до суду того, хто свечу загасил, менуючы также мене в той зваде ранено, а не ведаю от кого за причиною твоею, и на то бы довод учинил, а естли бы и доводу не чинил, смел бы присегнути, тогды тот, хто свечу загасил, повинен ему раны платити так теж и головщизну. В такой пригоде хочем мети, абы сужоны яко вышей описано, а тот, заплативши вси раны або головщизну и заседевши головщизну и заседевши год и шесть недель, маеть собе винного искати. Тым же обычаем, хто бы кого с пригоды забил, а поведил, жем то неумыслне учинил, тогды тот маеть вывестися людьми добрыми, веры годными, которые при том были и то видели, иж с пригоды се тое стало, а не з умыслу, кгды то они сознають, предся будеть повинен на том присегнути, иж с пригоды, а не з умыслу, ани з вазни тое забийство учинил, а по присязе предсе головщизны повинен платити, естьли шляхтича забил, рок и шесть недель седети.

Артыкул 28.

Хто бы кого неумыслне ранил, а до суду был позван.

Коли бы теж хто кого ранил, и его о рану позвал, а оный позваный брал бы се на одвод, мы бачечи, иж нихто в невинности своей терпети ран не маеть, сказуем иж тые раны жалобнику мають быти справованы по тому, яко вышей описано о звадах.

Артыкул 29.

Слуга, который боронечи пана своего, коли бы кого забил або ранил.

Теж уставуем, иж коли бы у якой зваде слуга боронечы пана своего, кого забил або ранил, таковый от кождого права маеть быти волен, але сторона жалобливая будеть тых ран и головщизну на пану его дохотити. Нижли естли бы чий слуга своволне без расказанья пана своего перед очима кого забил або ранил, хотя бы не был припоручон, маеть пан его поймати и до везенья посадити, а кровным забитого дати ведомость. И естли бы фолькгуючи служебникови своему поимати его не хотел, а он потом забивши втек, тогды тот пан повинен будет сам головщизну платити, естли шляхтича забил, то рок и шесть недель седети маеть, а ранному, якого стану будеть, раны оправити, и по заплате головщизны, первей нижли на седенье року и шести недель пойдет, маеть на том присегнути, иж без росказанья его и порады тая головщизна стала, а естли бы отприсегнутися не хотел, а пустил сторону жалобливую на себе присегнути, тогды маеть горлом каран быти.

Артыкул 30.

Естьли бы чий слуга, учинивши кому кгвалт домовый або головщизну, проч втек.

Где бы чий слуга учинил кому кгвалт домовый або головщизну втек, а в его пана чере сторону был застат, а приповедан, а он через туюж заповедь его упустил, тогды тот пан, чий то слуга вчинил, сам кгвалт головщизну и шкоду платити маеть, а собе на слузе искати, и заплативши маеть на том присегнути, иж тот слуга кром ведомости и позволенья его то учинил, а не ест то через его умышленье [с прирукы] выпущон, а где бы присегнути не хотел, тогды тот певне сам пан маеть быти каран горлом, яко кгвалтовник и мужобойца. А естли бы тот слуга небыл приповедан, тогды пан не повинен за его платити, одно се маеть отприсегнути, иж тот кгвалт без его позволенья и ведомости стался.

Артыкул 31.

О забитье человека перееждчого и безплеменнага.



Уставуем теж, естьли бы ся потрафило где ж кольвек забитого человека перехождчаго або безплеменнаго, которого головщизны искати не будет кому, тогды скоро таковото человека труп будеть знайден, того ж часу вряд того замку або двора нашого врядник маеть обослати всих мещан людей сельских, так и подданых наших яко и шляхецских, и опыт вчинити раз або и два, а где бы се на таких двох копах о том забитью выведатися не могли, тогды третюю копу присяжную маеть вряд собрати, на которой повинни будуть вси тые, которые на той копе повинни се становити, присегнути на том, иж сами не суть причиною того забитья и о таковом мужобойцы не ведают. А естли бы которыя с тых копников на присяжной копе нестали, або хотя и ставши, присегою отвестися не хотели, тогды таковые будуть повинни головщизну сами платити, а собе винного искати, а тая головщизна маеть зостати при том вряде, в котором тот труп налезен, а потом, кгды бы кровные оного забитого вылезлися, маеть тая головщизна оным кровным отдана быти.

Артыкул 32.

О промолчанье кгвалту або злодейства.

Уставуем, кгды бы хто кому кгвалт учинил або злодейство шкоду або який грабеж, а тот бы молчал от того часу, яко се то стало три годы, вжо о то будеть вечне молчати.

Артыкул 33.

Который злочинца будеть на смерть сказан, а от того бы се откупил або отпрошон был.

Теж уставуем, естли бы хто о злодейство або о которое иное злочинство на каранье або на смерть врядом права посполитого всказан был, а в том караньи горло свое пенязьми откупил, або от того каранья або от страченья горла через приятелей своих або гостей послов панов знакомитых выпрохон был або выправен, або теж за злый свой учинок в ката в руках был, таковый кождый безчести маеть быти, и промежку добрыми людьми рыцерскими не маеть большей привильев шляхецских уживати.

Артыкул 34.

Хто бы после ран по пиром и по корчмом ходечи пил.

Уставуем, кгды бы который шляхтич битый або ранный после ран ездил або ходил по калациям, по торгох и по корчмах пил, на беседех седел, а потом от тых ран умер, тогды тот, от кого тые раны або бой ему се стал, головщизны платити не повинен будеть, повинен только за раны досыть чинити его кровным подле статуту.

Артыкул 35.

Так званого гостя яко и незваного.

Хто бы теж в дом свой позвал до себе гостя на учту, и был так небачный а того гостя своего званого в дому своем зелжил збил або зранил, а тот бы гость позвавши его до права то на него слушным доводом перевел, таковый ображоную сторону с права маеть навезати водле стану его и шкоду платити, на чом присягнет, а за таковый выступ маеть седети в замку нашом в повете тамошнем, где оселость маеть, дванадцать недель. А естьли бы тот гость званый доводу слушного не мел, тогды маеть того ж часу скоро по зраненью оказати раны и шкоды свои людем сторонным околичным суседом и обжаловати вряду, так теж раны оповедати и в книги записати, а при том оповеданью сам маеть на ранах и на шкодах своих поприсегнути, а тот повинен будеть его навезати, седенье приняти, и шкоду платити водле того, яко вышей в том артыкуле описано. Нижли естли бы гость званый въехавши в чий дом, был так вшетечный, господара домового так теж господыню або сына збил або зранил, тогды на такового гостя также слушным доводом у права маеть довести, а где бы доводу не мел, тогды также оповедати людем сторонним и ожаловати, а при оном оповеданью так сторонним людем, яко и вряду маеть кождый з них з особы своее, кого в дому ранит, поприсегнути так на ранах яко и на шкодах. И кгды присягнеть таковый гость домовому господару або жоне и сыну, хто з них ранен будеть, ображоной стороне маеть за раны навезати и шкоды, на чом присягнеть, платити, а на замку также седети дванадцать недель. А где бы се у зваде обадва ранили так господарь яко и гость, а доводу бы на то з обудву сторон не мели, а торгнули бы се обадва ку присязе, тогды жеребей кинути, и чий се жеребей напервей выймет, тот мает на ранах и на шкодах своих присегнути. А где бы гость в дом чий приехавши незваный, а тот бы домовой господарь принял его в дом свой за гостя, и што бы се под тым же обычаем потрафило на обе стороне, так гостю яко и домовому пану тое ж право на обедве стороне, яко вышей в том артыкуле описано.

## *Роздел дванадцатый. О головщызнах и навезках людей посполитых.*

Артыкул 1.

О головщинах и навезках людей простого стану.

Головщызна панцерному слузе пятдесят коп грошей, путному слузе тридцать коп грошей, бортнику двадцать пять коп грошей, тяглому двадцать коп грошей, паробку десеть коп грошей, а жонам их совито. А навезка панцерному слузе шесть рублей грошей, бортнику два рубли грошей, тяглому рубль грошей, паробку полтина грошей, а жонам их совито, а жонца, которая мужа не маеть и не мела, полтина грошей.

Артыкул 2.

Головщызны и навезки тивуном, ключником, войтом, старцом, лавником сельским.

Тивуну, ключнику, войту, старцу головщизна сорок коп грошей, естьли бы невольник в котором с тых врядов был, тогды ему во вряде головщизны двадцать коп грошей, а навезки рубль грошей. А пакли бы в ключох або у войтовстве котрий шляхтич был, таковому предсе головщизна маеть быти водле стану шляхецского. А навезка тивуну, ключнику, войту, старцу по три рубли грошей, а лавнику два рубли грошей.

Артыкул 3.

Головщизна ремесным людем.

Золотару, органисте, пушкару, гафтару, малерови, сокольнику, машталору, кравцу, гафтарце, коверникутым всим головщизна по тридцати коп грошей, а навезки по три рубли грошей, а жонам их совито. Дойлиде, ковалю, столяру, псарцу, возницы, мулеру, шевцу, гончару тым всим головщизны по двадцати коп грошей, а навезки три рубли грошей, а жо-



нам их совито. По тому ж и иншых ремесником, которых тут не написано, маеть быти плачоно яко дойлиде и жонам их совито.

Артыкул 4.

О ношенью жидовском.

Жидове в коштовных шатах з ланцуги золотыми сами и жоны их в золоте и в серебре, так теж и сребра на пасах и на кордах носити не мають, але убор их маеть быти значный: шапки або бирет жолтый, так теж и завиванья белых голов полотно жолтое, або тому подобное, иж бы знак и певное розознанье было християнина от жида.

Артыкул 5.

Жид, татарин и кождыи бесурмянин на вряд преложон и хрестиян в неволи мети не маеть.

Уставуем, иж от того часу мети хочем, абы жид, татарин и кождый бесурмянин на достоенство, ани на который вряд от нас господаря, ани от панов рад наших преложон не был и хрестиян в неволи не мел. А естьли бы который з них християнина купил у вечную неволю, таковый пенези тратит, а тот хрестиянин маеть быти волен. А естьлибы хлопа або жонку закупил, тогды маеть прийти перед вряд и в чом закупил, або теж и з суда в заплате яко будеть выдан, до книг записати, и будеть ли сума невеликая, тогды тот закуп и закупня за сем лет с тых пензей маеть выробитися, а кгды бы сума великая была, ино с тых пензей на кождый год выпуску маеть быти хлопу полтину грошей а жонце полкопы грошей. Нижли маючи таковых закупов и детей их в жидовство, ани в бесурмянство намовляти, ани обрезовати не мають, а который бы смел то вчинити, а было бы то на него переведено перед врядом, тогды без кождого милосердья таковый огнем маеть быти каран, чого вряд наш с пильностью стеречи и о том выведоватися достаточне маеть. А мамками християнки у детей жидовских и теж кождых детей бесурмянских быти не мають, а хто бы хрестиянок ку тому приневолял, а то бы слушне ведле права на него было переведено, таковый горлом маеть быти каран. Тым же обычаем хотя бысмы которому татарину або жиду або которому бесурмянину двор наш або именье з людьми дали, таковые мають се жидове и бесурменин на выслугах своих против християнских людей як выступных так и тяглых заховати, абы их ку подачком и службам незвыклым не приневоляли. А пакли бы тые люди наши за таковым зневоленьем проч отошли и засели на землях наших або князких панских и шляхецских, таковых за вольных мети хочем, нижли земли их мають зостати при таковых, кому дано водле данины нашое.

Артыкул 6.

Навезка татаром.

Уставуем, которые князи и мурзы татарове закону бесурмянского мають оселости именья земские з наданья продков наших и нас самых, и естли тые бывають на службах наших господарских и земских и в ротах, або при гетманех наших, и в реестрах военных суть написаны, таковым навезка маеть быти яко шляхтичу, а жонам их совито, а головщизны сто коп грошей кром седенья. А которые татарове форминoм ся жывять, и огородные речы справують, быдлом торгують, кожы дубять, и якими кольвек речами жывность собе зарабляють, таковым навезки рубль грошей, а жонам их совито, а головщизна дванадцать коп грошей.

Артыкул 7.

Человек вольный за жаден выступок в неволю выдан быти не маеть.

Теж уставуем, иж человек волный за жадный выступок в неволю вечную выдан быти не маеть, а естли бы в суме великой выдан был, маеть с тое сумы выроблятися, и выпуску на каждый год мужику полтина, а жонце полкопы грошей. А естьлибы с тое сумы до смерти выслужитися не мог, а будет ли мети дети, тогды дети не мають се с тое сумы выробляти. А выпуску дорослым детем по тому ж маеть быти, яко вышей описано. А закупным людем тым же обычаем из сумы пенежное выпусть быти маеть.

Артыкул 8.

О человеку отчизном.

Кгды бы который человек отчизный, отшедши от пана своего и заложившися за кого иншого, не далеко в пети або в десети милях мешкал, тогды вже о таковоrо человека вечне молчати маеть. Пакли бы тот человек отчизный отшедшы от пана своего и мешкал далеко в колькодесяти милях, а пан его о нем не ведал, а по том бы засе пришол и перемешкивал поблизу, тогды хотябы в оном часе и давность земская зашла, вольно будеть ему того человека за отчича правом доходити, только бы давности не омешкал от того часу, як ближей прийдет.

Артыкул 9.

Хто бы на человека вольного и невольного права доходити не хотел.

Теж если бы который человек не похажалый або челядин невольный за кого зашол, а поведился быти вольным, а он пан, чий человек або челядин, просил у в оного пана права, а тот пан ему на него права дати не хотел, тогды таковый маеть притягнен быти ку праву земскому. А естьли тот пан, чий человек непохожий або челядин, зыщет правом иж его отчич або невольник, а на оного пана, в кого тот человек, переведет правом, иж в него просил справедливости раз и два, а он не дал, тогды тот пан маеть навезати оного человека або челядина от того часу, як в него права просил, за кождую неделю по шести грошей, а естли бы втек, тогды маеть платити по тому, яко вышей о головщизнах написано.

Артыкул 10.

О челядь невольную, которая втечеть от пана своего.

Уставуем, кгды бы хто чию челядь невольную вывел, або ведаючи заказ в себе переховывал, а то бы на него правом было переведено, тогды таковый повинен будеть ту челядь отъискати, а одыскавши тому пану отдати. А где бы не мог одыскати, або не хотел, будеть повинен тую челяд сам ценою платити, яко выше написано, и шкоду оправити от того часу, от которого ему тая челядь не робила, мужику и жонце за кождую неделю по шести грошей.

Артыкул 11.

О вольных людех, которые в голод продають.

Хто бы в голод сам себе або сына або теж которого человека вольного в неволю продал, и лист на то дал, таковый лист не маеть быти держан, але яко голод минеть, а он пене-



зей добудеть, маеть ему пенези отдати. Нижли естли бы хто челядь свою неволную продал; тая ведле продажи маеть вечне держана быти.

Артыкул 12.

Хто бы в голод челядь свою выгнал.

Теж уставуем, естьли бы хто в голод челядь свою неволную выгнал або выбил з дому своего проч, не хотечи ее кормити и переховывати, таковые вжо не мають быти невольными, але вольными. А ведьже тым обычаем, иж коли тую челядь выбьеть, тогды се они оповедати мають врядником в повете або вряду местскому бурмистром або мещаном, иж их выбил а кормити не хотел, а тые, которим се оповедають, мають обослати того пана, чия челядь, естьли зознаеть, же для голоду выгнал их из дому не хотечи кормити, тогды оная челядь вечне маеть быти вольна.

Артыкул 13.

Невольницы мають быти трояких причин.

Теж уставуем, иж неволницы мають быти трояких причин: первые которые суть здавна в неволи, або з невольных се родят, другие которые полоном заведены суть из земли неприятельское, третие коли бы се сами в неволю поддали, а хто бы, ведаючы жонку неволную, в малженство понял, хотя человек вольный, тогды таковый сам и дети их в неволи быти мають. А естьли бы се неведоме поняли, а один з них будучи вольным не хотел в в том быти, тогды того ж часу мають се втечи до права духовного, ведле которого их мають розвести, а по розводе таковый вольный маеть зостати вольным, а невольный, неволным.

Артыкул 14.

Если бы хто до кого слугу приказал, а тот слуга зашкодивши втек от него проч.

Хто бы кому приказал слугу, а тот слуга шкоду вчинивши тому пану своему втек от него проч, тогды тот, хто его приказал, маеть ку праву стати, а суд маеть ему рок зложити, на которий маеть его доискавшися ку праву поставити. А естьли ж бы тот на оный рок, которий судьи положат, того не постановил, тогды он сам повинен будеть тую шкоду оправити, на чом слушный довод учинен будеть. А естлибы се потом оному пану, за кого слуга втечеть, пригодить ли его видети на торгу або поткаеть в дорозе, тогды вжо он сам не маеть имати, нижли того приказцы своего смотрети маеть. А где бы хто мел слугу не приказного, а он ему шкоду учинивши проч втечеть, тогды он, где кольвек его увидит або поткаеть, маеть его поймати и вести до оного права где поймаеть, а перед правом маеть на нем шкод своих до доходити.

## *Роздел третийнадъцать. О грабежох и навезках.*

Артыкул 1.

О грабенье стада свирепъего.

Уставуем, естлибы хто пограбил на яком колвек кгрунте стадо свирепъе князское, панское, земянское, а держачи стадо жеребца або свирепу и колко их уморил або охромил, таковый за жеребца князского панского земянского повинен будеть заплатити осм коп грошей, а за свирепу чотыри копы грошей, нижли за кождого с тых жеребцов будеть ли торгуючы што давано, тогды тую уену будеть повинен платити за слушным доводом.

Артыкул 2.

Яким обычаем мають се заховати о испаш и о грабеж на испашах.

Теж уставуем, иж нихто стада свирепьего на дедизне чужой на испашах так теж и на своей власной займовати не мають, ани в грабеж брати, а хто бы на чией дедизне стадо занял або грабеж учинил, таковый маеть тому кгвалт заплатити дванадцать рублей грошей и шкоду оправити, а што бы се тому стаду стало, подле уфалы вышей описаное. Бо не маеть за испаш стада брати, бы и застал на испаши, але маеть осветчивши суседови отогнать, до того пана, чие стадо есть, и испаш маеть обвести людьми добрыми сторонними, тогды тот повинен испаш заплатити, чие стадо шкоду вчинило. А ведьже вызволяем одно стадо свирепье, абы на испаши не было займовано, а быдло кони волы и коровы свинье и гуси на испаши мають быти займованы подле обычаю, и скоро занявши маеть обослати того пана, чие быдло свое на поруку взял, а о испаш на купу шол, и што купа на испаши шкоды присудит, тот пан чие быдло занято, маеть платити. А где бы на обосланье того, кому се испаш стала, быдла своего на поруку взяти и на купу ити не хотел, тогды тот, хто займет, маеть быти з людьми добрими сторонними, и што тая мсторона шкоды окупують, он маеть в той шкоде своей оставити того быдла только, што бы за его шкоду стояло, а досталь отослати до того пана чие быдло. Нижли стадо свирепье кони и кождое быдло только до светого Юрья без пастуха маеть вольно ходити, а по светом Юрьи в тыж день каждый маеть около добытку своего сторожу або пастуха мети, через все лето аж до первого дня месяца Октебра. А давность отправе за испашь не маеть дальшая быти только подле стародавного звычаю до Божъего нароженья. И хто бы о испаш присужоною, не хотечи платити подле права, дал се позвати, тогды с права, достанет ли винен, маеть совито заплатити.

Артыкул 3.

Хто бы под шляхтичом або под шляхтянкою грабеж учинил.

Теж уставуем, хто бы под шляхтичом або под шляхтянкою грабеж вчинил, кони побрал при костеле на торгу або на поли, где ж кольвек бы, теж бою не вчинил, або под слугою коня взял, або з воза выпряг, хотя бы оная особа при том не была, а был бы на то перед врядом слушный довод, таковый оный, который грабеж учинил, маеть такового навезати и шкоды, если будут при том грабежи вчинено, за доводом оправити.

Артыкул 4.

О грабеж коня князского, панского и шляхецского.

Теж князского панского, шляхецского коня из кождого грабежу безправного вызволяем. А естли бы хто без права князя або пана и шляхтича, хотя в небытности его, коня пограбил, таковый маеть коня конем навезати.

Артыкул 5.

Яко челядь невольная втеклая маеть быти заповедана.

Если бы чия челядь невольная втекла, а заповедана бы з якого перейму, и женучи за нею в погоню в кого ее нашол,



тогды маеть тому, в кого челядь зостанет, перееем дати, с чого будеть первей заповедал. А естьли бы заповеди и перейму, в кого оную челядь нашол, недал, а тот бы ему не хотел тое челяди без перейму выдати, и взял позем кгвалтом, а до права о то был позван, тогды тот за тым позвом повинен будеть стороне жалобливой платити яко за кгвалт дванадцать рублей грошей. А естли бы хто чию челядь в себе ховал, а тот по колко кроть заповеди и по торгу закликал, оповедаючы ее, и потом бы тот, чия челядь, в колко неделях тую челядь свою в него нашол, тогды только маеть, за страву ему от кождого челядника на неделю по два гроши давши, челядь свою добровольне взяти.

Артыкул 6.

О грабеж человека князского, панского и земянского.

Уставуем, естли бы шляхтич чиих людей пограбил на торгу при церкви на добровольной дорозе, таковый маеть стороне обжалованой вины заплатити шесть рублей грошей, а грабеж з навезкою отдати, то ест коня конем вола волом навезати. А пакли бы шляхтич або хтож кольвек пограбил у чиих людей на поли або где индей, а бою не вчинил, тогды маеть заплатити три рубли грошей, а грабеж также навезати. А мужик мужика естли бы при костеле або на торгу на дорозе пограбил, маеть заплатити три рубли грошей, а грабеж всякий также з навезкою платити маеть, коня конем, вола волом, а корову коровою, и кождое быдло, якое пограбил, таковым навезавши маеть отдати, або ценою заплатити, яко нижей описано.

Артыкул 7.

Цена конем рабочим.

За коня або за свирепу робочую копа грошей, а за третека жеребка от робочих свиреп копа грошей, а за третячку свирепу полтина грошей, за лонское жеребя полкопы грошей, за летошнее двадцать грошей.

Артыкул 8.

Цена быдлу малому и великому.

За вола осмдесят грошей, за вола стадника осмдесят грошей, за корову петдесят грошей, зо яловицу сорок грошей, и за быка неука сорок грошей, за телицу полкопы грошей, за теля лонское двадцать грошей, а за теля сеголетнее дванадцать грошей, за вепра кормного пятдесят грошей, за вепра некормного полкопы грошей, за кнороза сорок грошей, за свинью двадцать грошей, за подсвинка десеть грошей, за порося пять грошей, за овцу петнадцать грошей, за барана дванадцать грошей, за скопца барана двадцать грошей, за ягня пять грошей, за козла полкопы грошей, за козу двадцать грошей, за козеня пять грошей.

Артыкул 9.

Цена птахом домовым.

Гусь три гроши, каплун шесть грошей, курица полтора грошей, утка два гроши, селезень грош, голуб грош, утка круговая шость рублей грошей, пава або пав три копе грошей, лебедь домовый три копы грошей.

Артыкул 10.

Цена птахом на мысливство хованым.

Кречот красный дванадцать рублей грошей, за белого кречота десеть рублей грошей, серый кречот шесть рублей грошей, сокол шесть рублей грошей, а ястреб великий три рубли грошей, болобан два рубли грошей, за рабца або за кгрокгулца рубль грошей, за дремлюга пятдесят грошей.

Артыкул 11.

Цена збожъю.

Пшеница копа петнадцать грошей, жита копа дванадцать грошей, ярицы копа десеть грошей, ечменю копа осм грошей, овса копа шесть грошей, гречки копа пять грошей, гороху копа шесть грошей, проса копа чотыри гроши, илну копа дванадцать грошей, репы бочка пять грошей.

Артыкул 12.

Цена собаком.

За пса домового брехуна три рубли грошей, за наследника и за набрехника зверинного шесть рублей грошей, за окгара три копы грошей, за узлайника три копы грошей, за выжла три копы грошей, за щайку под ястреба три копы грошей, за по дстрелного три рубли грошей, за пса обсочного шесть рублей грошей, за меделянского пса шесть рублей грошей, за хорта подсокольего шесть рублей грошей.

Артыкул 13.

Если бы кого пес непривязаный укусил.

Уставуем, кгды бы кого пес непривязаный уел с чиего прищванья, а он бы ставши за позваньем перед урядом к тому прищванью се не знал, таковому маеть суд сказати отприсегнутися, иж того не вчинил, а где бы присегнути не хотел, тогды, жалобливая сторона кгды его в том поприсягнет, повинен его будеть навезати ведле стану его, якобы его сам ранил рукою своею. Пакли ж бы хто кому пса умыслне а не от руки забил або застрелил, таковый будеть оного пса повинен платити водле цены вышей описаное, естли бы его забил от руки кием або якою бронею не пометом, ани стрелбою, таковый не повинен будеть ничого платити.

Артыкул 14.

Которое бы быдля або пес в суседстве шкоду чинил.

Уставуем, естли бы в кого пес домовый або быдля якую шкоду в околицы чинил, а тот домовый господарь о том ведаючы оного быдляти стеречи а пса на привези мети не хотел, тогды таковый будеть повинен всю шкоду в суседстве платити и оправовати, на што слушный довод уделан быти маеть.

### *Роздел чотырнадцатой. О злодействе всякого стану.*

Артыкул 1.

Хто бы в кого лице зостал.

Коли бы хто лице свое и речы краденые в чыего слуги або подданного застал, так на дедизне его яко и инде где кольвек, тогды таковаго человека лицованого маеть вести до пана его, просити з ним справедливость. А естьли бы ему справедливости не вчинено, тогды тот, при чием человеце лицо зостато будеть, повинен о то перед врядом нашим отказывати и того злодея своего перед судом нашим поставити. А естли бы оный злодей втек з рук его або оное лицо стратил, а перед судом не постановил, а лица не положил, тогды будеть повинен оную шкоду заплатити, на чом он при-



сягнет, або слушный довод учинит, што ему при оном лицы будеть згинуло. И теж коли бы што в кого вкрадено, а видитсе ему шкода от которого села, а шкодника своего не ведает, тогды маеть выпросити право в том селе. А естли бы дал о то всему селу вину, тогды три мужи з оного села, которых он оберет, мають присегнути, як в том селе шкодника его не ведають, а пакли бы о то не присегнули, тогды оное село все оную дають, а пакли бы о то не присегнеули, тогды оное село все оную шкоду всю тому шкоднику маеть платити, а собе злодея искати.

Артыкул 2.

Звод на злодея.

Теж уставуем, который человек пойман будеть на злодействе, а приведен с чим до замку або до вряду нашого, а тот бы поведал заводцу и от кого тое лице маеть, тогды маеть на том же вряде нашом того заводцу поставити, або сознаньем врядовым себе очистити, где будеть то купил, а на котором вряде оповедал и в книги записал. А естли бы тот заводца того обвиненого в злодействе перед правом заступил, а тот бы заступца брал се на инший звод, хотечи вести от суда вряду нашого на иншого заступцу до иншого вряду, то ему не маеть быти допущоно, але кождый заступца до остатнего зводу маеть быти ставен перед тым врядом нашим, где ся початок стал зводу, а лице во вряду будеть повинен тот ку зводу выкупити, хто се зводит. А ведьже за выкупенье большей вряд не маеть только по дванадцати грошей за кождым зводом, и кождому таковому, хто се выводит з маетности оного, на ком лицо зостанет, навезка подле стану всказована быти маеть. А пакли бы у того злодея маетности свое не было, чим лицо во вряду выкупити, тот маеть вряд лицо жалобливой стороне даром вернути, а злодей яко за злодейство и за вси навезки маеть горлом приплатити. А естли бы заводцы перед врядом нашим достаточнего зводу не поставил, а зознаньем врядовым себе в том злодействе не очистил, тогды тот маеть быти каран горлом яко злодей, а шкоды, на чом сторона жалобливая присягнет, маеть быти плачона з дому оного злодея. А естли бы остатний себе заводца очистил выписом врядовым, а где бы рек купил, або, иж то его конь або вол доморослый, сведецством слушным се выправил, таковый яко навезок так и шкод никому платити не будеть повинен, нижли естли бы тую реч купил, пенези свои татит. А пакли бы сторона поводовая, которая позвала, и менила коня або вола своего доморослым або реч дома уробленую, як сукно и якую кольвек иншую реч, сторона обжалованая, которая будеть з лицом приведена, будучи теж не подойзреная, менила быти своим доморослым або дома вробленым, а подобенство к тому стегало, хотя бы обедве стороне выдали сведков годных, тогды за подобенством и за сведецством сторона обжалованная при своих сведках близшая будет ку доводу, иж то ест доморослое, або дома вробленое, бо тому бы вжо шло о горло, а ведже суд подобенства всякие на доброй бачности мають мети, и в речах вонтпливых склоннейший маеть быти ку вызволеню нижли ку каранью. А простого стану человек, который первый або другий раз около таковых речей будеть обвинен, тот ку таковому отводу немаеть быти припущон.

Артыкул 3.

Для покою посполитого застановенье от злодейства.

От того часу уставуем и хочем мети, абы кождый с подданых наших и подданых князских панских и духовных и свецских и боярских, так можного стану яко и меншого, хто бы кольвек што в кого на торгу в дому або где кольвек коня, вола, корову и иншые всякие речы купил, то маеть на то мети баришников людей добрых веры годных, и с тым истцем, в кого што купит, и с баришники прийти до вряду замку або двору нашого або до войта местского в книги врядовые записати, а тыми, естьли будеть потреба, у права себе очистити. Нижли естли бы хто потом тую реч познал, и того перед врядом довел, же его властная реч, тогды тот, хто купил, перед врядом маеть оному, хто познал и довел, вернути, и будеть ли мети, же при том лицы много погибло, тогды тот, хто купил, маеть отприсегнутися, иж болшей тых речей не купил, ани сведом.

Артыкул 4.

О важности лица, за што злодей каран быти маеть.

Уставуем, иж кождый злодей з лицом приведеный и правом поканaный при лицы, которое бы стояло вышей полтины грошей, маеть горлом каран быти. А што бы за полтину грошей не стояло, маеть у столпа дубцы бит быти, а лицо маеть вернути тому, чие есть, а навезка на тое лицо з маетности его маеть быти плачона, а не будеть ли чим мети навезки платити, тогды ухо тому злодею маеть урезано быти. А которое бы лицо вышей полу-копка або за полкопы стояло, при таковом лицу маеть быти также у столпа бит и з места высведчити. А которое лице будеть стояти за дванадцать грошей, за то также маеть бит быти, а потом того ж естли бы се трафило поймати з лицом, хотя бы тое лице и десети грошей не стояло, тогды вжо маеть быти каран яко злодей.

Артыкул 5.

Як маеть в дому чием [лицо] зостати.

Уставуем, хто бы хотел у чием дому речи краденые застати, тогды от вряду беручи возного маеть перед врядом ознаймити, што ему згинуло, и чого перед возным в дому его искати маеть, а в месте местскаго вижа и к тому людей посторонних веры годных маючи при собе, и при них в оном дому тых речей искати краденых маеть. А скоро бы там што речей краденых нашол и того при том лицы зостал, маеть при том же возном людех сторонных того, кого при лицы зостанет, вести до вряду нашого, а естли никого не зостанеть, одно лице знайдеть, однакож с тым лицом маеть вести або ехати до вряду нашого и там далей поступовати ведле права. Пакли ж хто у своем дому крадежу искати не допустил, клетей и иных домов и схованей отомкнути не хотел, тогды тот, хто не допустил, будеть повинен тую всю шкоду стороне жалобливой платити ведле доводу або присеги. Тым же способом, хто бы хотел в чиего человека крадеж зостати, маеть се заховати яко вышей описано, нижли только, з возным и з стороною оступивши дом подданого чиего, маеть того пана або врядника, а не будеть ли врядника, ани тивуна, ино старшого, хто в том селе будеть, обослати, оповедаючи тое, абы не розумел кгвалтовного наеханья. Естли ж бы пан або врядник его при том обыску быти не хотел, тог-



ды сторона жалобливая предсе с тыми, кого маеть при собе, обыск чинити и вси схованья трести, и нашодши с тым до вряду вести маеть.

Артыкул 6.

О гоненье следом в якой кольвек шкоде покраденой.

Кому бы покрадены кони волы быдло и иные речи в дому, а тот шкодный поднял бы след тое шкоды своее, и собравшы людей добрых околичных суседов водле давного обычаю гонил следом, а тот след где бы ку которому селу або в чий дом привел, тогды маеть послати до того села або до дому, где след вшол, людей добрих сторонних веры годных, абы з села своего и з дому, где бы след вшол, або з кгрунту земли села своего след вывели. Таковое село або в чий дом след будеть вшол, мають тот след в тое копы взяти и з села або з дому и з земли своее того села след вывести аж до иншое границы, куды тот след пойдеть. А естли бы тое село, до которого след приведен, от себе следу не вывели або оть следу отбили або выгнавши быдлом затоптали, на таковом зостановившисе копа тая, где следу не отведено або отбито, мають послати по возного до вряду нашого замкового, и с тым возным и люди сторонные копа вся мають оную шкоду осумовати, на чом оный шкодный самотреть присягнет, и приложить до того села, абы они шкоду заплативши собе винного искали. А по сказанью мають через возного и сторону, которие при том были объявити вряду и половину пересуда дати, а вряд маеть рок заплате зложити, и яко рок выйдет, тогды вряд оного пана листом своим напоменути маеть, абы водле права оного суду копного заплату чинил, а не будеть ли хто хотети, тогды тая шкода з уряду отправена маеть быти.

Артыкул 7.

Хто бы шляхтича перший раз о злодейство без лица перед врядом обвинил.

Уставуем, хто бы шляхтича обвинил о злодейство без лица и без кождое слушное причины, тогды таковое обвиненье оному шляхтичу шкодити не маеть, и за таковое обвиненье повинен будеть его навезати, яко бы его ранил. Пакли ж бы оного обвиненья, якое записованье до книг, або где индей поволанье, або якие слушные причины, або знаки показал, а тот шляхтич еще от того се не отводил, ани отприсегал, тогды таковый обвиненый будеть повинен перший раз того сам особою своею отприсегнутисе, и кгды присягнеть, навезки ему дати не повинен. Пакliж бы того шляхтича о злодейство перед врядом другий раз тым же обычаем обвинено и поволано было, тогды маеть самотреть з шляхтою веры годными отприсегнутисе, также без навезки. Того ж шляхтича поволаного кгды бы третий раз о злодейство у права было обвинено, маеть сам сем з шляхтою веры годными отприсегнутисе, а в недостатку сведка або двох маеть шкоду платити, а собе винного искати. А четвертый кроть того ж шляхтича естли бы у права о злодейство было обвинено, а знаки слушные были бы показаны, бы теж и лица при нем не зостали, а сторона поводовая сам третей его поприсегнула, тогды маеть горлом каран быти яко злодей.

Артыкул 8.

О шляхтичу леть зуполных не маючому.

Естли бы се трафило, иж бы шляхтич в летех чотырнадцати и не больш обвинен о злодейство, або приведен был о злодейство з лицом перед вряд, тогды таковому про молодость лет его не маеть быти поличоно за злодейство, и не маеть быти до ката в руки и на муку даван, нижли тую шкоду отец его або матка або кровные з именья части его повинни з навезкою платити, и заплативши то почтивости его шкодити не маеть, а не будеть ли мети чим платити, ино дати его на выслугу, поки бы то заслужил, што зашкодил. Тым же теж обычаем можеть се розумети и о детех людей простых лет недорослых. А ведьже и таковый хлопец недорослый естьли бы в колку злодействах и при лицы был дознан, таковых вряд маеть карати водле зданья своего.

Артыкул 9.

О поволаньях.

Уставуем, абы поволанья злодейские перед врядом оповеданы и явне высведчоны и до книг кождого вряду записованы были, которые книги яко перед тым и тепер зовуть чорными книгами, таковое оповеданье и поволанье врядовне записаное маеть у права везде местцо мети и приймовано быти.

Артыкул 10.

Хто бы злодея приличного в себе в дому ховал або ведомость о нем мел.

Уставуем и сказуем, иж коли бы хто злодея приличного ведоме в дому своем ховал, або мешкати допустил, або злодея явного от шебеницы своими пенезми откупил, тогды таковый кождый, естьли бы то на него слушным правом было переведено, всю шкоду, которая бы се кому через того злодея з именья его стала, будеть повинен платити и оправовати. Тым же обычаем естли бы кому злодея правом поконаного на смерть выданого, а он бы его не скарал, а потом кому кольвек от того злодея шкода будеть се деети, тогды тот, хто злодея пустил, будеть повинен тую всю шкоду платити и оправовати.

Артыкул 11.

О покраденье свирна або клети панское шляхецское и теж клети мужицкое.

Теж уставуем, кгды бы покрадено которому пану або земенину свирен скарбный або спижарный, а то бы на кого правом было переведено, тогды за таковый свирен будеть повинен заплатити дванадцать рублей грошей, и шкоду покраденую за присегою оправити. Тым же теж обычаем естьли бы мужик мужику клеть выкрал, тогды за покраденье клети мужику три рубли грошей, и шкоду всю з дому злодейского маеть за присегою плачоно быти. А за навезку об его злочынство, або колько их будеть, мають горлом караны быти.

Артыкул 12.

О лицо, которое найдет се в дому человека неподойзреного.

Уставуем, кгды бы у человека неподойзреного за замком было лицо знайдено, а до тое хоромины было вкинено и не прихована, тогды таковый человек, естьли будеть неподойзреный, маеть з жоною и з детьми дорослыми, будеть ли их мети, отприсегнутисе. Тым же обычаем, кгды бы лицо застал в чием дому в гумне або за плотом, по тому ж маеть тот чело-



век неподойзреный отприсегнутисе, иж того не ведом. А естьли бы в хоромине замкнено было найдено, а тое лицо было бы прихоронено, хотя бы и окно было, куды вкинути; тогды таковое лицо маеть быти полично за злодейство, с которим, кого при том лицы зостануть, маеть быти веден до вряду и там з ним яко с приличным далей поступовати.

Артыкул 13.

О злодею, которого на злодействе поймають.

Естли бы злодей был пойман на злочинстве а не в дому своем, а тые речи краденые в дому еще не были, таковый злодей сам один маеть за тое злочинство каран быти, а жона, дети и домовая челядь от того прожна.

Артыкул 14.

О знаки злодейские на человека неподойзреного.

Уставуем, кгды бы на которого человека простого неподойзреного, который еще при лицы не был, знаки злодейские были описаны, а тые знаки были бы слушные, а тот неподойзреный был бы человек добрый веры годный, при котором сторона жалобливая его поприсегнути за своего шкодника хотела, за таковыми знаки и присегою стороны жалобливое тот человек маеть быти выдан на муку, и естли бы се не домучил, тогды маеть его навезати водле стану его, ведьже большей не маеть быти мучон одно раз.

Артыкул 15.

Три кроть злодея приличного одного дня можеть мучити.

Уставуем, кгды бы поймано злодея приличного, а на тот час без лица будеть пойман, тогды такового злодея три кроть одного дня можеть мучити, только бы на котором человеку не образил. А естли бы не домучилсе, тогды за каждым разом муки оное маеть его навезати водле стану его. Пакли ж бы у в оной муце злодейства на нем домучитисе не мог, а оною мукою уморил, або на члонку образил, таковый будеть повинен за умерлого головщизну а за хромоту полчеловека платити водлугь стану его. Нижли естьли бы тот злодей в оной муце для чаров спал, а муки не чул, а тые чары были бы при нем найдены у в устех, або на голове у волосех, под пахою, або где индей, тогды навезки ему дати не повинен, и еще таковый приличный злодей будеть для таковых чаров повинен стороне жалобливой шкоду платити, на чом присягнет.

Артыкул 16.

О злодеях и разбойникох, которые бы врядника своего поволали.

Уставуем, кгды бы чиих колвек подданых злодеев або розбойников и яких колвек злочинцов поймано, а они бы идучи на смерть поволали врядника своего, иж того злодейства их сведом, и тым лупом з ним се делили, а тот врядник был бы шляхтич, таковый маеть перший кроть отприсегнутисе сам один. А потом естли бы таковых других и третих злочинцов поймано, а тые также идучи на смерть того поволали и на шыбеницы не отволали, тогды тот от тых поволаней маеть отприсегнутисе так, яко о шляхтичу ест вышей описано. А за четвертым разом естли бы тым способом был поволан, тогды вжо без каждого отводу и присеги и без лица маеть быти сказан на смерть яко злодей. А где бы тот врядник не был шляхтич, тогды за першим поволаньем злодейским, которие бы то смертью запечатовали, маеть стороне шкоду платити, на чом присягнет. Пакли ж бы того врядника нешляхтича повторе таковые ж злодеи и тым же способом поволали, и также смертью запечатовали, таковый нешляхтич вжо без кождого лица маеть сказан быти на смерть яко злодей, и по таковогo за тым знаки слушными и поволаньи правными покананого маеть вряд повету кождого зослали, и на вряде нашом господарском поставившы казати на него фолдровати.

Артыкул 17.

О человека неподойзреного.

Уставуем, кгды бы шляхтич которого нешляхтича неподойзреного помовил, менуючи иж бы его злодеем был, и от него в злодействе ему се шкода становила, и не маючи никоторых слушных знаков хотел его о злодейство по присегнути, тогды тот человек, яко будучи неподойзреный, близший будеть самотреть з суседы собе ровными, также людми добрыми и неподойзреными, отприсегнутисе, а суд ему того маеть допустити. А другий раз кгды бы того ж о злодейство было обвинено, тогды за другим разом обвиненьем от шляхтича маеть быти поконан водле права и присеги яко злодей.

Артыкул 18.

О неповоланом шляхтичу.

Теж уставуем, естли бы которому шляхтичу не згола але за причиною слушною дана злодейская вина, тогды тот позваный от того маеть се отвести присегою своею телесною. Теж повторе кгды бы тому шляхтичу о тое ж и таковым обычаем вина злодейская дана, тогды позваный самотреть з шляхтичами собе ровными маеть се присегою отвести. Третий раз кгды бы тому ж шляхтичу тым же способом вина будеть дана, тогды позваный самъ-сем з шляхтами маеть отприсегнутисе и прав будеть. А ведьже кгды четвертый раз тому ж шляхтичу в том же вина будеть дана, тогды позваному до права вжо не ему маеть быти отвод, але на него довод присегнути з шляхтою собе ровною самотрему, и с права за слушным доводом маеть быти каран ведле вины и учинку своего.

Артыкул 19.

О забитье злодея при лицы.

Уставуем теж, хто бы злодея при лицы своем забил, таковогo злодея забитого того ж часу по оном забитью маеть оказати суседом околичным и потом што нарихлей з ураду нашого, который наближей будеть, возным и стороною обведши до вряду привести и оказати маеть. А потом будеть ли о то позван до права, тогды вряд ему маеть допустити отприсегнутися, иж его на злочинстве при лицу в дому своем забил. Так теж естли бы се потрафило кому на дорозе злодея погонити, а он бы се поймати не дал, а в том при лицы был забит, тогды тот, хто гонить в дорозе за злодеем, маеть мети при собе суседов або сторонних людей, и с тыми привезши труп перед врядом маеть высведчитисе, иж его при лицы забил. А будеть ли о то ку праву позван, также маеть с тыми людьми, с ким за злодеем гонил, на том присегнути, иж на злодействе при лицы, яко злодея своего, забил, а раннего злодея з лицом маеть вести до вряду нашого, так яко вышей

